Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ»

М.І. КАНЮШКЕВІЧ

# БЕЛАРУСКІЯ ПРЫНАЗОЎНІКІ І ІХ АНАЛАГІ. ГРАМАТЫКА РЭАЛЬНАГА ЎЖЫВАННЯ. МАТЭРЫЯЛЫ ДА СЛОЎНІКА.

У 3 частках
Частка 2. Дыяпазон М – П

Гродна
ГрДУ імя Я. Купалы
2010

УДК 808.26-3
ББК 83.3
К19

Рэцэнзенты:
*Усеваладава М.У.,* доктар філалагічных навук, прафесар;
*Паўлоўская Н.Ю.,* доктар філалагічных навук, прафесар;
*Загнітка А.А.,* доктар філалагічных навук, прафесар.

Рэкамендавана Саветам філалагічнага факультэта ГрДУ імя Я. Купалы.

**Канюшкевіч, М.І.**

К19 Беларускія прыназоўнікі і іх аналагі. Граматыка рэальнага ўжывання. Матэрыялы да слоўніка. У 3 ч. Ч. 2. Дыяпазон М – П / М.І. Канюшкевіч. – Гродна : ГрДУ, 2010. – 619 с.
ISBN 978-985-515-255-3 (2 ч.)
ISBN 978-985-515-022-1

Манаграфія прапануе прынцыпова новую трактоўку прыназоўніка як морфасінтаксічнай катэгорыі. У ёй фіксуюцца, акрамя занатаваных у вядомым слоўніку П.П.Шубы 507 прыназоўнікаў, і іх аналагі – моўныя адзінкі, якія, не пакідаючы межаў сваёй часціны мовы, здольныя выканаць функцыю прыназоўніка. Яны не атрымалі такой кваліфікацыі ў існуючых граматычных і лексікаграфічных крыніцах і ў такой якасці характарызуюцца ўпершыню. Кніга па сваіх зместавых і фармальных характарыстыках адначасова ўтрымлівае ў сабе 1) слоўнік прыназоўнікаў беларускай нацыянальнай мовы; 2) беларуска-рускі перакладны слоўнік прыназоўнікаў; 3) сінанімічны слоўнік беларускіх прыназоўнікаў; 4) антанімічны слоўнік беларускіх прыназоўнікаў; 5) слоўнік беларускіх злучнікаў і іх аналагаў; е) слоўнік прыназоўнікавага кіравання ў беларускай мове; 6) рэпертуар прыназоўнікава-назоўнікавых сінтаксем беларускай мовы (своеасаблівы беларускі аналаг «Синтаксического словаря» Г.А.Золатавай); 7) манаграфічнае асвятленне тэорыі прыназоўніка, 8) палігон для функцыянальна-семантычных і функцыянальна-сінтаксічных даследаванняў беларускай мовы. Другая частка змяшчае 3 735 адзінак. Адрасуецца навукоўцам, студэнтам, настаўнікам беларускай і рускай моў, а таксама тым, хто вывучае беларускую мову як замежную.

**УДК 808.26-3**
**ББК 83.3**



**ISBN 978-985-515-255-3 (2 ч.)**
**ISBN 978-985-515-022-1**

# ПРАДМОВА ДА ДРУГОЙ ЧАСТКІ[1]

У другую частку ўвайшлі а) манаграфічны раздзел – уводзіны; б) Рэестр – матэрыялы атрыбуцыі беларускіх прыназоўнікаў і іх аналагаў па больш чым дваццаці параметрах (дыяпазон М – П); в) пранумараваны спіс неатрыбутаваных адзінак гэтага дыяпазону; г) дадатковы рэестр атрыбутаваных адзінак, якія па розных прычынах не ўвайшлі ў свой час у першую частку (дыяпазон А –Л); д) пранумараваны спіс адзінак гэтага дадатку да першай часткі; е) дапоўнены тэрміналагічны слоўнік; ж) умоўныя скарачэнні.

Паколькі ўсе тры часткі кнігі выходзяць у розныя гады, то, для таго каб чытач другой часткі, які не меў магчымасці пазнаёміцца са зместам першай часткі, змог зразумець аўтарскую канцэпцыю, ва ўводзінах другой часткі мы палічылі неабходным часткова (без падрабязнай аргументацыі, якая засталася ў першай частцы) пераказаць асноўныя палажэнні тэорыі прыназоўніка і разам з тым дапоўніць яе новымі палажэннямі, атрыманымі ў працэсе працы над другой часткай кнігі. Дадаткова ў зносках падаюцца спасылкі на некаторыя працы аўтара і іншых удзельнікаў праекта, тым больш што большасць іх апублікавана за мяжой.

У другой частцы кнігі былі ўлічаны заўвагі і парады, выказаныя пры абмеркаванні яе першай часткі ўдзельнікамі праекта на міжнародным навукова-практычным семінары, які адбыўся ў Маскоўскім дзяржаўным універсітэце імя М.В.Ламаносава ў верасні 2008 г. пад кіраўніцтвам праф. М.У.Усеваладавай.

---

[1] Першая частка: *Канюшкевіч, М.І.* Беларускія прыназоўнікі і іх аналагі. Граматыка рэальнага ўжывання. Матэрыялы да слоўніка. У 3 ч. Ч.1. Дыяпазон А – Л / М.І.Канюшкевіч. – Гродна: ГрДУ, 2008.– 492 с.

*Светлай памяці прафесара П.П.Шубы –*
*Настаўніка, Вучонага, Чалавека.*

# УВОДЗІНЫ

Матэрыялы, што складаюць гэты Рэестр, – вынік працы аўтара ў адкрытым міжнародным навуковым праекце па вывучэнні граматыкі славянскага прыназоўніка. Праект ініцыяваны прафесарам Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта імя М.В.Ламаносава М.У.Усеваладавай. Ён аб'яднаў лінгвістаў Расіі, Беларусі, Украіны, Польшчы, Балгарыі, Сербіі і іншых краін. Састаўной часткай праекта з'яўляецца навуковая тэма «Структура і функцыянаванне рускай і беларускай прыназоўнікавых сістэм: супастаўляльны аспект», якая мела ў 2004 – 2006 гг. сумесны расійска-беларускі грант. З беларускага боку гэта была фінансавая падтрымка Беларускага фонда фундаментальных даследаванняў (тэма № Г04Р-032). Сумесная з расійскімі лінгвістамі праца над праблематыкай славянскага прыназоўніка працягваецца ў межах Пагаднення паміж філалагічнымі факультэтамі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы і Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта імя М.В.Ламаносава[2].

Беларускія распрацоўшчыкі праекта яшчэ задоўга да яго пачатку мелі важкі падмурак – «Тлумачальны слоўнік беларускіх прыназоўнікаў» П.П.Шубы[3], які і па сёння з'яўляецца самым поўным апісаннем гэтага граматычнага класа слоў у беларускай мове. Больш таго, Слоўнік П.П.Шубы быў і застаецца наватарскім лексікаграфічным творам[4], у якім сістэма беларускіх прыназоўнікаў прадстаўлена, па-першае, у функцыянальным аспекце, па-другое, – з пазіцый полевай арганізацыі яе структуры.

---

[2] У знак навуковага суладдзя ў сумеснай працы нават назва нашай манаграфіі часткова супадае з той, якую нашы маскоўскія калегі ўзялі для сваёй кнігі, падрыхтаванай раней, чым наша, на матэрыяле рускай мовы, але чамусьці запозненай з выхадам з друку: Материалы к словарю русских предложных единиц (предлоги и их эквиваленты). Функциональная грамматика реального употребления. Вып.1. Атрибутированный список в диапазоне букв А-И. Неатрибутированный список в диапазоне букв К-Ю. / М.В. Всеволодова [ и др.] (В печати).

[3] Шуба, П.П. Тлумачальны слоўнік беларускіх прыназоўнікаў / П.П.Шуба. – Мн.: Народная асвета, 1993.

[4] Падрабязней гл. у: Конюшкевич, М.И. Функциональная грамматика в лексикографии: новаторство П.П.Шубы-лексикографа (на материале предлогов сравнительной семантики) / М.И. Конюшкевич // Чтения, посвященные памяти П.П.Шубы (к 75-летию со дня рождения): сб. науч. ст. – Минск, 2001. – С. 33 – 41.

П.П.Шуба бачыў, што тое, «што мы лічым адной часцінай мовы, на самой справе – не заўсёды адна часціна мовы, а іншы раз спалучэнне іх, якое выконвае тую ж сінтаксічную функцыю, што і просты прыназоўнік»[5]. Ён адчуваў, што прапанаваць новы тэрмін для называння такога сінтаксічнага сродка – знамянальнага слова ці спалучэння слоў, пры дапамозе якіх ў падпарадкавальным словазлучэнні галоўнае слова кіруе залежным, – рызыкоўна[6].

П.П.Шуба не рызыкнуў падаць у сваім Слоўніку ўвесь прыназоўнікавы патэнцыял беларускай мовы – і таму, што час не прыспеў (вельмі ж ужо рэвалюцыйным было само дапушчэнне таго, што такая велізарная маса знамянальных слоў можа выступаць у ролі прыназоўніка, і таму, што і сама лінгвістычная навука не дайшла да ўсведамлення аб'ёму рэляцыйнага патэнцыялу знамянальнай лексікі, яе магчымасцяў выступаць у ролі страявых, службовых адзінак. Ды і на сёння ні рускае, ні беларускае мовазнаўства яшчэ не мае грунтоўнага і поўнага апісання гэтага патэнцыялу, бо катэгорыя прыназоўніка з'яўляецца толькі невялікай часткай службовых сродкаў мовы: рэляцыйныя функцыі выконваюцца і іншымі службовымі часцінамі мовы – злучнікамі, звязкамі, часціцамі, мадальнымі словамі, але, як ніжняя палова айсбергу, «пад вадой» застаецца нябачным і маладаследаваным рэляцыйны патэнцыял назоўнікаў, прыметнікаў, дзеясловаў у ролі рэлятараў адносін паміж намінатыўнымі адзінкамі ці іх спалучэннямі.

Сучасная лінгвістыка падышла да такога этапу вывучэння мовы, калі патрабуецца сінтэз усіх бакоў моўнай адзінкі – ад яе ўнутранай структуры да яе функцый у выказванні, тэксце і дыскурсе. Як адзначае М.У.Усеваладава, функцыянальна-камунікатыўны падыход паказаў, што рэзкія межы паміж моўнымі ўзроўнямі – гэта наш тэарэтычны канструкт, а ў мове рэальна існуе іх глыбокае ўзаемапранікненне, выкліканае палявой структурай Мовы, як і ўсяго існага ў свеце[7].

Не спыняючыся на гісторыі пытання аб прыназоўніку (гэта падрабязна зрабіў П.П.Шуба ў сваёй кнізе, да таго ж існуе шмат літаратуры з такімі аглядамі), разгледзім некаторыя тэарэтычныя пытанні, звязаныя з сучасным разуменнем катэгорыі прыназоўніка, і логіку складу нашага Рэестра.

---

[5] Шуба, П.П. Прыназоўнік у беларускай мове / П.П.Шуба. – Мн.: БДУ, 1971. – С..8.

[6] Указ. праца, с. 9.

[7] Всеволодова, М.В. Предлог как грамматическая категория: проблемы дефиниции, типология, морфологические и синтаксические характеристики / М.В. Всеволодова // Вопросы функциональной грамматики: сб. науч. тр. Вып. 4 / под ред. М.И. Конюшкевич. – Гродно, 2002. – С. 14 – 25.

Прыназоўнік, на першы погляд, здаецца самым вывучаным службовым словам, а яго адмежаванне ад іншых рэляцыйных адзінак як быццам і не выклікае асаблівых цяжкасцей хоць бы на той падставе, што ён – «слуга» субстантыва. Аднак дынаміка папаўнення прыназоўнікаў за кошт знамянальнай лексікі, і перш за ўсё за кошт спалучэнняў знамянальных слоў з невытворнымі прыназоўнікамі і іншымі часцінамі мовы, сведчыць, што межы гэтай катэгорыі куды больш шырэйшыя і што традыцыйныя дэфініцыі і лексікаграфічныя інтэрпрэтацыі прыназоўніка ўжо мала адпавядаюць яго сапраўднаму існаванню ў мове.

Традыцыйную трактоўку прыназоўніка ў айчынным мовазнаўстве, не цытуючы дэфініцый дзеля сцісласці тэкставай прасторы прадмовы[8], можна звесці да сукупнасці некалькіх дыферэнцыяльных прыкмет: прыназоўнік 1) звязвае назоўнік з іншымі словамі ў словазлучэнні, 2) выражае адносіны паміж галоўным і залежным словамі ў словазлучэнні, 3) заўсёды ўжываецца з ускоснымі формамі назоўніка і 4) стаіць перад імі.

Аднак, як адзначаюць даследчыкі, у тым ліку і ў традыцыі, кожная з названых вышэй прыкмет прыназоўніка мае пэўныя супярэчнасці і адхіленні, якія прымушаюць шукаць дадатковых дыферэнцыяльных прызнакаў атрыбуцыі гэтай часціны мовы[9].

Сучаснае разуменне катэгорыі прыназоўніка і, адпаведна, наша атрыбуцыя гэтых адзінак грунтуецца на наступных палажэннях.

1. Прыназоўнікава-склонавая сінтаксема сваімі сінтаксічнымі сувязямі ахоплівае ўсю структуру сказа і нават пазасказавыя пазіцыі: яна можа ўваходзіць у склад сказа на правах канструктыўна неабходнага члена: *Кветкі – **на балконе**;* быць дэтэрмінантам: ***На палях і над лясамі*** *зззяе пагодлівы сонечны дзень* (П.Пестрак); з'яўляцца адасобленым паўпрэдыкатыўным зваротам: *У вёсцы, **нягледзячы на позні час**, чуваць былі песні дзяўчат* (У.Краўчанка); выступаць у ролі самастойнай адзінкі (загалоўка): ***На ростанях.***

2. Прыназоўнік – «слуга» не толькі назоўніка, ён можа ўжывацца і з іншымі часцінамі мовы, прычым не толькі субстантываванымі: *перанесці заняткі **на потым**; **да дваццаці** дадаць пятнаццаць; зайсці **з мэтай пабачыцца*** і г.д.

[8] Падрабязней гл. у: Конюшкевич, М.И. Наше знание и незнание о предлоге / М.И.Конюшкевич // Русский язык и литература. – 2003. – № 11. – С. 58 – 64.

[9] К основаниям функциональной грамматики русского предлога / М.В.Всеволодова [и др.] // Вестник Московского университета. Сер. 9. Филология. – 2003. – № 2. – С. 17 – 59.

3. Паводле сваёй пазіцыі прыназоўнік можа быць не толькі, сугучна зместу тэрміна, прэпазіцыйным, але і постпазіцыйным да субстантыва: *Мераў вокам адлегласць да тых, што беглі* ***яму*** ***напе-рарэз*** (К.Крапіва); абрамляць яго: *Высокі,* ***у*** ***два метры*** ***росту****, ён махаў рукою* (І.Пташнікаў); ў фразеалагізаваных спалучэннях – інтэрпазіцыйным: *дзень* ***пры*** *дні, адзін* ***на*** *адзін, волас* ***у*** *волас*; кантактным ці дыстантным адносна назоўніка, прычым не толькі за кошт ад'ектываў (што зусім натуральна), але і ў больш рэдкіх выпадках – калі паміж імі стаіць кіруючае слова: ***На*** *шырокі выйшаўшы* ***гасцінец****, зніме шапку пыльны пехацінец* (П.Броўка).

4. Па сваіх функцыях прыназоўнік вельмі блізкі да іншых рэляцыйных адзінак – злучніка (параўн.: *Прыйшлі ўсе,* ***уключаючы*** ***Івана*** *– Прыйшлі ўсе,* ***у тым ліку і*** ***Іван***), сказавай звязкі (параўн.: *Злачынец заходзіў у кватэры* ***як*** ***страхавы агент*** *– Злачынец заходзіў у кватэры* ***у якасці*** ***страхавога агента***).

Ізафункцыянальнасць прыназоўніка і іншых часцін мовы дазваляе аб'ядноўваць іх у нейкі іншы клас рэляцыйных адзінак, які не стасуецца з часцінамоўнымі межамі, і такія выпадкі не павінны заставацца па-за ўвагай даследчыкаў.

5. Прыназоўнік кіруе не толькі ўскоснай склонавай формай назоўніка: ён «абслугоўвае» і формы назоўнага склону: *сабака* ***па клічцы*** ***Шарык,*** *хлопчык* ***па імені*** ***Сцёпка,*** *грамадзянін* ***па прозвішчу*** ***Сцяпанаў***[10]. А гэта ўжо вядзе да перагляду такіх кардынальных пытанняў, як статус назоўнага склону і характар кіравання (аб чым ніжэй).

6. Прапанаваная М.У.Усеваладавай шматузроўневая структурная класіфікацыя прыназоўнікаў улічвае вытворнасць адзінак і іх складнікаў, колькасць складнікаў у адзінцы, спосаб іх арганізацыі ў прыназоўніку і інш. параметры. Пры атрыбуцыі ўлічвалася структура адзінкі – двухчасткавыя (і больш) спалучэнні: *з...на* (***з*** *дня* ***на*** *дзень;* ***з*** *боку* ***на*** *бок*); *ад ... да* (***ад*** *пачатку* ***да*** *канца*); *за ... ад* (***за*** *4 км* ***ад*** *Гродна*); *за ... да* (***за*** *тры дні* ***да*** *вяселля*); *праз... пасля* (***праз*** *тры дні* ***пасля*** *сесіі*).

7. Як моўная з'ява фіксуецца ўжыванне прыназоўнікаў з рэдукцыяй назоўніка: *Балтыйска-Чарнаморскі саюз:* ***за і супраць*** (газ.); *Адзін жулік хацеў прадаць золата, другі купіць. А я –* ***паміж*** (газ.). Некаторыя прыслоўі накшталт *міма, насустрач, воддаль, наперарэз* маюць амбівалентны характар, а таму, нават калі пры іх і няма

[10] Клобуков Е.В. Переходные процессы в образовании служебных частей речи (предлоги как продуктивный класс лексем) / Е.В. Клобуков // Вопросы функциональной грамматики: сб. науч. тр. Вып.4 / под ред. М.И.Конюшкевич. – Гродно, 2002. – С. 3 – 13.

назоўніка, яны застаюцца ўсё ж прыназоўнікамі, а не прыслоўямі, як гэта прынята лічыць пры размежаванні аманімічных прыслоўяў і прыназоўнікаў. Асабліва гэта датычыць тых адзінак, якія выражаюць прасторавыя і часавыя адносіны. Кагезія тэкста дазваляе лёгка вызначыць часавы ці прасторавы арыенцір (локум), адносна якога ўстанаўліваюцца тыя ці іншыя адносіны. Такім антэцэдэнтам, да якога аднесена анафара прыназоўніка, можа або выступаць канкрэтнае слова ў выказванні, або падразумявацца сам апавядальнік (моўца). Напрыклад: *Абуўшыся,* ***Васіль*** *заклапочана пашаргаў у хату, па-ранейшаму нібы не заўважаючы брата, што, як прывязаны, патупаў* ***услед*** **[**= за Васілём] (І.Мележ); *Мужыкі, што трапляюцца* ***насустрач*** [= апавядальніку], *зацкавана глядзяць у зямлю* (У.Караткевіч). Рэдукцыя назоўніка ці яго рэалізацыя залежаць ад камунікатыўных задач моўцы.

8. Для нас пакуль што не стаіць пытанне аб вырашэнні дыхатаміі «прыназоўнік / не-прыназоўнік». Мы зыходзім з прызнання палевай структуры мовы ў цэлым і прыназоўніка як морфасінтаксічнай катэгорыі ў прыватнасці. Таму ў Рэестр мы ўключалі не толькі ўласна прыназоўнікі, але і тыя знамянальныя словы, якія здольныя ўжывацца ў функцыі прыназоўніка, у тым ліку нават аказіянальна. Пачатак такога палевага падыходу, толькі без акрэсленых канцэнтраў, быў пакладзены ўжо ў згаданым раней Слоўніку П.П.Шубы.

9. Адзінкі Рэестра вызначаліся на падставе комплекса функцый, якія можа выконваць прыназоўнікавая адзінка, прычым далёка не ўсе такія адзінкі выконваюць увесь комплекс гэтых функцый. Традыцыйна вызначаліся наступныя функцыі прыназоўніка: а) страявая (афармленне сінтаксічных сувязяў кампанентаў словазлучэння); б) рэгулятыўная (выражэнне падпарадкавальных адносін паміж кіруючым і залежным кампанентамі словазлучэння); в) кваліфікуючая (перадача пэўнага тыпу сінтаксічных падпарадкавальных адносін паміж кампанентамі сінтагмы); г) дыферэнцыяльная (удакладненне сэнсавых адносін ў межах аднаго тыпу кваліфікацыі); д) кіруючая (патрабаванне ад назоўніка формы пэўнага склону); е) фармальная – афармленне словаформы назоўніка ў тым ці іншым склонавым значэнні (параўн.: *да бацькі – перад бацькам*)[11].

10. Разам з тым названы комплекс дапаўняецца яшчэ некалькімі функцыямі, якія па прычыне навізны іх канстатацыі патрабуюць

---

[11] Падрабязней гл. у: Конюшкевич, М.И. Функции предлога / М.И.Конюшкевич // Функціонально-коммуникативни аспекты граматики і тексту: зб. наук. праць, прісвяч. ювілею проф. А.П.Загнітка. – Донецьк: ДонНУ, 2005. – С. 196 – 202.

больш падрабязнага разгляду разам з іншымі пытаннямі праблематыкі прыназоўніка.

10.1. Канцэпцыя распрацоўшчыкаў праекта ўлічвае дваістае прызначэнне прыназоўніка як **морфасінтаксічнай катэгорыі**: на марфалагічным узроўні ён разам з флексіяй афармляе словаформу, на сінтаксічным – сінтаксему, мінімальную сінтаксічную адзінку, якая, паводле Г.А.Золатавай[12], уяўляе сабой адзінства катэгарыяльнага значэння, марфалагічнай формы і сінтаксічнай функцыі. У залежнасці ад гэтых трох параметраў вызначаецца рэпертуар сінтаксем і іх тыпалогія. Падобна да таго, як пры словаўтварэнні выкарыстоўваюцца розныя фарманты (прэфікс, суфікс, конфікс), так і пры ўтварэнні сінтаксем могуць таксама быць выкарыстаны розныя фарманты: 1) «суфікс», г.зн. толькі флексія (*ісці сцежка**ю**, спяваць пес**ню***); 2) «конфікс», г.зн. прыназоўнік і флексія (*марыць **аб** шчасц**і**, прабірацца **скрозь** гушчар-**0***); 3) «прэфікс», г.зн. толькі прыназоўнік (пры нескланяльных словах); *зайсці **з мэтай** купіць*, *устаў **з намерам** **выступіць**, адкласці **на** **потым***. Такім чынам, прыназоўнік – гэта не толькі фармант словаформы, але і фармант сінтаксемы, г.зн. ён выконвае **сінтаксемаўтваральную функцыю**[13].

Такая трактоўка сінтаксемаўтваральнай функцыі прыназоўніка здымае некаторыя пытанні – напрыклад, пытанне аб ужыванні прыназоўніка з формамі назоўнага склону або з інфінітывам ці прыслоўем. Прыназоўнік разам з флексіяй ці без яе ўтварае розныя сінтаксемы – іменныя, прыслоўныя, інфінітыўныя, а сярод іменных – сінтаксемы розных склонаў, у тым ліку і назоўнага склону.

У поле прыназоўніка ў якасці элемента фарманта сінтаксемы ўцягваюцца іншыя рэляцыйныя адзінкі – злучнікі, часціцы, а таксама прыслоўі, кампаратывы, якія ў розных кампаноўках з назоўнікавымі і прыслоўнымі формамі, а таксама з невытворнымі прыназоўнікамі ўтвараюць цэлыя прыназоўнікавыя спалучэнні. М.У.Усеваладава на матэрыяле рускай мовы вылучае ў такіх прыназоўнікавых спалучэннях канкрэтызатары – скаляры, вектары, мадыфікатары.

У нашым Рэестры таксама падаюцца такія адзінкі (праўда, толькі з частковай іх кваліфікацыяй і сістэматызацыяй іх кампанентаў, бо гэта яшчэ прадмет не аднаго даследавання): ***далей ад** поля; **высока над** лесам; **далёка на** захадзе; **на поўдзень ад** Мінска; **нізка***

[12] Золотова, Г.Н. Синтаксический словарь: репертуар элементарных единиц русского синтаксиса / Г.А.Золотова. – М.: Наука, 1988.

[13] Падрабязней гл. у: Конюшкевич, М.И. Синтаксемообразующая функция предлога и механизмы опредложивания знаменательной лексики / М.И.Конюшкевич // Вопросы функциональной грамматики. – Гродно, 2005. – С. 3 – 19.

***над** лугам; **роўна а** трэцяй гадзіне; доўг **амаль у** дзесяць мільёнаў рублёў.* І такіх спалучэнняў маўленчая практыка дае шмат.

Асабліва вялікую колькасць фармантных варыянтаў маюць сінтаксемы з колькасна-параметрычнай семантыкай (***на вышыні больш за / больш чым / не больш за / не больш чым / не менш як** 10 км*), у якіх мяжа паміж фармантам і лексічным кампанентам вельмі размытая, бо апраксіматар (паказчык колькаснай прыблізнасці) можа быць выражаны рознымі часцінамі мовы (параўн.: ***каля** 10 м* і ***амаль** 10 м*), а таму ў спалучэннях ён прымыкае то да прыназоўніка, то да лексічнага кампанента (***па** больш чым 10 чалавек* – ***больш чым па** 10 чалавек*). Паколькі вывучэнне структуры і семантыкі такіх параметрычных спалучэнняў толькі пачынаецца, то мы палічылі магчымым увесці ў Рэестр усе варыянты іх рэальнага ўжывання ў складзе сінтаксем, незалежна ад канкрэтнай дапаможнай функцыі іх элементаў.

Мы далёкія ад думкі называць канкрэтызатары і апраксіматары прыназоўнікамі, але мы павінны прызнаць іх сінтаксемаўтваральную функцыю нароўні з прыназоўнікамі і, як правіла, ў непадзельным спалучэнні з апошнімі, таму лічым, што такія адзінкі павінны разглядацца разам з прыназоўнікамі як ізафункцыянальныя ім. Напрыклад, у сказе *Казаў, што жыццё чалавечае надта несувымернае з вечнасцю і што ці пятнаццаць гадоў, ці шэсцьдзесят – усё* ***не болей чымсьці імгненне*** *ў вечнасці часу* (В.Быкаў) сінтаксема *не болей чымсьці імгненне* наогул не мае ў сваім фарманце *не болей чымсьці* ўласна прыназоўніка, але гэты фармант ізафункцыянальны іншым прыназоўнікавым фармантам (параўн.: ***не болей за** імгненне*) і таму павінен стаць прадметам нашай увагі. Мяркуем, што вывучэнне спалучальнасці элементаў у такіх адзінках, іх колькаснага складу, мадэляў утварэння, семантычнага і граматычнага складу лексікі, уцягнутай у гэтыя спалучэнні, можа адкрыць новыя гарызонты ў даследаванні граматычнага ладу мовы.

10.2. Па аналогіі са словаўтварэннем вызначаецца і структура сінтаксемы як вытворнай адзінкі: сінтаксема складаецца з лексічнага кампанента і фарманта. Лексічны кампанент сінтаксемы з'яўляецца носьбітам яе намінатыўнага значэння, фармант – граматычнага. Кожная сінтаксема, незалежна ад распаўсюджанасці і складанасці яе кампанентаў, займае **адну сінтаксічную пазіцыю** ў сказе, а ў дэнататыўнай структуры тыпавой сітуацыі яна з’яўляецца паказчыкам адной дэнататыўнай ролі. Адна сінтаксема можа прадстаўляць і гіперролю – спалучэнне дзвюх і больш роляў, але не дзве сінтаксічныя пазіцыі і не дзве ролі паасобку. Такім чынам, прыназоўнік выконвае **функцыю маркёра сінтаксічнай пазіцыі** сінтаксемы.

10.3. Сінтаксічная пазіцыя сінтаксемы з'яўляецца вызначальнай і для самога паняцця сінтаксемы. У адрозненне ад трактоўкі Г.А.Золатавай і ў той жа час у яе развіццё, мы разглядаем сінтаксему перш за ўсё як «эмічную» адзінку, якая ляжыць у адной плоскасці з іншымі «эмічнымі» (абстрактнымі) адзінакамі – фанемай, марфемай, лексемай, грамемай, якія рэалізуюцца (кожная на сваім узроўні) канкрэтнымі моўнымі адзінкамі, адпаведна – гукам, морфам, словам, формай.

Канкрэтным моўным рэалізатарам сінтаксемы як мінімальнай абстрактнай сінтаксічнай адзінкі з'яўляецца словаформа, але словаформа не адзіны магчымы спосаб рэалізацыі сінтаксемы, бо апошняя належыць вышэйшаму ўзроўню мовы – сінтаксісу, дзе намінатыўнае значэнне можа перадавацца сродкамі, большымі за слова, – словазлучэннямі ці нават сказамі[14].

Так, у якасці лексічнага кампанента можа выступаць і прыметнік і прыслоўе, прычым яны звычайна прыстасоўваюцца да фарманта-прыназоўніка ў сваім афармленні, імкнучыся набыць (калі гэта структурна магчыма) яшчэ і субстантыўную флексію: *Але чорт з ім –* ***з заўтрам, –*** *я не люблю загадзя чакаць кепскага* (В.Быкаў); *У цяньку пад разгалістымі ліпамі стаяў невялічкі, пафарбаваны* ***на жоўта*** *домік з чарапічным дахам* (В.Адамчык). Да гэтых выпадкаў можна аднесці і сінтаксемы ў выглядзе наміналізаванай даданай часткі: *Салдаты ж стралялі* ***ў каго хочаш****, абы не ў лясных братоў* (У.Караткевіч).

Акрамя прыведзеных вышэй даволі экзатычных прыкладаў (хоць, па трапных словах А.А.Земскай, адхіленні ад нормы – гэта першы або апошні званок у сістэме), разгледзім іншыя, больш пашыраныя. Так, ніхто не стане аспрэчваць, што ў сказе (1) *АЦ вымяраюць з дапамогай ртутнага сфігмаманометра ці танометра ў міліметрах ртутнага слупка* ***па метадзе Караткова*** *з рэгістрацый гукавых фенаменаў, эквівалентных максімальнаму і мінімальнаму ціску* (з падручніка «Асновы медыцынскіх ведаў») спалучэнне *па метадзе* выступае ў ролі прыназоўніка – часткі фарманта сінтаксемы (разам з флексіяй *–а*), а ролю лексічнага яе кампанента выконвае лексема *Каратков-*. То тады ў сказе (2) *Для штучнай экспіра-*

[14] Падрабязней гл. у: Конюшкевич, М.И. Способы выражения лексического компонента синтаксемы (синтаксической позиции), маркированной предлогом (на материале белорусского языка) / М.И.Конюшкевич // Е.Ф.Карский и современное языкознание Е.Ф.Карский и современное языкознание: материалы X междунар. Карских чтений, 16 – 17 мая 2005 г., Гродно. В 2 ч. Ч.1. / отв. ред. М.И.Конюшкевич. – Гродно: ГрГУ, 2005. – С. 104 – 116.

*торнай вентыляцыі лёгкіх* ***<u>па метадзе</u>*** ***з рота ў рот*** ... (Асновы мед. ведаў) лексічны кампанент сінтаксемы ускладняецца: ён выступае як семантычна і сінтаксічна злітнае словазлучэнне, а яго фармантам з'яўляецца толькі прыназоўнік без флексіі, якая не можа быць у іншай, чым слова, адзінцы.

Пашырэнне лексічнага кампанента ў сказе (3), узятым з той жа крыніцы, – *Для штучнай экспіраторнай вентыляцыі лёгкіх* ***<u>па метадзе</u>*** ***з рота ў рот або з рота ў нос*** *пацярпелага укладваюць на спіну на цвёрдую паверхню* – ажыццяўляецца за кошт аднароднага раду дзвюх семантычна непадзельных ускладненых сінтаксем. У сказе (4) *АЦ вымяраюць з дапамогай ртутнага сфігмаманометра ці танометра ў міліметрах ртутнага слупка* ***<u>па метадзе,</u>*** ***адкрытым Каратковым,*** лексічны кампанент выражаецца ўжо разгорнутай дзеепрыметнікавай канструкцыяй.

Нарэшце, можам падаць лексічны кампанент сінтаксемы і ў выглядзе атрыбутыўнай даданай часткі складаназалежнага сказа (5): *АЦ вымяраюць з дапамогай ртутнага сфігмаманометра ці танометра ў міліметрах ртутнага слупка* ***<u>па метадзе,</u>*** ***які быў адкрыты Каратковым.***

У сувязі з гэтымі трансфармацыямі паўстаюць няпростыя пытанні аб статусе адзінкі *па метадзе* ва ўсіх прыведзеных прыкладах і аб межах сінтаксемы наогул.

Нагадаем, што ў трактоўцы Г.А.Золатавай сінтаксема – гэта адзінства катэгарыяльнага значэння, марфалагічнай формы і сінтаксічнай функцыі (г.зн. пазіцыі у сказе). Калі ў прыкладзе (1) мы бачым марфалагічную форму сінтаксемы, якая з'яўляецца адзінкай будовы, то ў сказах (2) і (3), а тым больш у (4) і (5) мы маем справу з іншай сінтаксічнай адзінкай – адзінкай пабудовы, а значыць, быццам бы і не сінтаксемай.

Але калі пад сінтаксемай разумець «эмічны», адцягнены характар, г.зн. адну сінтаксічную пазіцыю ў сказе, аб якой сігналізуе фармант сінтаксемы, то моўнае выражэнне носьбіта намінатыўнага значэння, якой бы ні былі яго велічынія ці колькасць складнікаў, ніяк не павінна ўплываць на межы і месца гэтай сінтаксемы ў структуры сказа. Напрыклад, пад рознай моўнай рэалізацыяй *пасля заняткаў* і *пасля таго, як скончацца заняткі* хаваецца адна і тая ж тэмпаратыўная сінтаксема. Гэтаксама і ў нашых сказах: ва ўсіх іх мы бачым адну і тую ж характарызацыйную сінтаксему са значэннем спосабу дзеяння (*вымяраюць як*?), якая займае толькі адну сінтаксічную пазіцыю, незалежна ад аб'ёму сродка выражэння гэтага спосабу дзеяння.

Таму і адзінка *па метадзе* ва ўсіх сказах застаецца рэляцыйнай і выконвае функцыю прыназоўніка (як ні дзіўна гэта гучыць у дачыненні да дзеепрыметнікавай кантрукцыі і даданай часткі) на той падставе, што з усіх трох прыкмет сінтаксемы (катэгарыяльнага значэння, марфалагічнай формы і сінтаксічнай пазіцыі) гэты фармант сігналізуе аб першай і апошняй. Іншая справа, што ў прыкладах (4) і (5) гэтая рэляцыйная функцыя фарманта *па метадзе* накладваецца на іншыя функцыі, якія павінен выконваць назоўнік *метад* у дадзенай склонавай форме з невытворным прыназоўнікам *па* ў сілу сваёй дапасуючай сінтаксічнай сувязі з дзеепрыметнікам або злучальным словам.

Дарэчы, гэта не такая ўжо і крамольная думка – прызнанне фарманта для прэдыкатыўнай адзінкі ў складаным сказе. Даследчыкі сінтаксіса складанага сказа даўно лічаць ўказальнае слова (карэлят) у галоўнай частцы нерасчлянёнага («вмещающего», па вызначэнні В.А.Белашапкавай) сказа «канчаткам» даданай часткі гэтага сказа; параўн. *Трэба дбаць* ***пра тое, каб не прапаў ураджай*** *– Трэба дбаць* ***пра ўраджай;*** *Раніца пачалася* ***з таго, што прыгарэла каша. –*** *Раніца пачалася* ***з прыгарання кашы***). Не выпадкова і тое, што да тыпу так званых атрыбутыўна-вылучальных складаназалежных сказаў адносяць тыя, у якіх у якасці апорных слоў выступаюць у першую чаргу сінсемантычныя словы тыпу *выгляд, прынцып, тон, шлях, манера, ўзор, прыклад* і г.д., роўна як невыпадкова ў свой час М.С.Паспелаў вылучыў такія сказы ў групу нерасчлянёных. Дададзім, што ў французскай і іншых еўрапейскіх мовах даданыя часткі ў такіх сказах у знак непадзельнасці такіх сінтагм не выдзяляюцца коскамі.

Вучаніца В.А.Белашапкавай Т.В.Шмялёва на канферэнцыі ў гонар Веры Арсен'еўны (Масква, МДУ, 2008) і ў працяг ідэй свайго настаўніка выказала меркаванне, што ўказальныя карэляты ў спалучэнні з адцягненымі назоўнікамі тыпу *факт, дело* і інш. у галоўнай частцы складанага «вмещающего» сказа (*Дело в том, что...; Тот факт, что...*) максімальна набліжаюцца да фразеасхем, г.зн. да аналітычных злучальных сродкаў, элементы якіх знаходзяцца і ў галоўнай, і ў даданай частках, складаюць адзіны злучальны комплекс і выконваюць злучальную функцыю, не выходзячы за межы сваёй часціны мовы.

Аналагічныя факты назіраюцца і ў нашым матэрыяле, калі фармант прыназоўнікава-склонавай сінтаксемы карэлюе з такімі аналітычнымі злучальнымі спалучэннямі на ўзроўні складанага сказа. Напрыклад: *за выключэннем чаго – за выключэннем таго, што...; за вылікам чаго – за вылікам таго, што...; з аглядкай на што – з*

*аглядкай на тое, што...; задоўга да чаго – задоўга да таго, як...; з адчуваннем чаго – з адчуваннем таго, што...; за знак чаго – за знак таго, што...; з арыентацыяй на што – з арыентацыяй на тое, што...; з гледзішча чаго – з гледзішча таго, што* і г.д.

Карэляцыя фарманта сінтаксемы і злучальнага сродка складанага сказа (з адпаведным, калі ён ёсць, кантэкстам) з'яўляецца адным з важнейшых параметраў атрыбуцыі прыназоўніка. Тым самым паказваецца, па-першае, сістэмнасць утварэння і ізамарфізм рэляцыйных адзінак у мове незалежна ад ўзроўню мовы, па другое, – маніфестуецца значна большы спіс злучальных сродкаў у беларускай мове, чым ён адлюстраваны ў існуючых граматыках.

10.4. Трэба адзначыць яшчэ адну функцыю прыназоўніка –**прэдыкатную.**

Назіранні паказваюць, што вытворныя прыназоўнікі ўтварыліся якраз ад тых знамянальных слоў, што спецыялізуюцца ў першую чаргу ў прэдыкатнай функцыі, такая лексіка і паслужыла ўтваральнай базай для прыназоўніка[15].

Прыназоўнік, утвораны ад знамянальнага прэдыкатнага слова, гаворачы словамі В.С.Юрчанкі[16], – гэта «экалагічная ніша» для таго прэдыката, які пры кандэнсацыі выказвання павінен саступіць месца, што справа ад суб'екта, новаму прэдыкату. Канечне, гэтая «экалагічная ніша», што злева ад суб'екта, можа быць занята і не толькі прыназоўнікам (калі, напрыклад, прэдыкатам быў прыметнік, то ён стане азначэннем пры дзейніку, іменна гэтыя выпадкі разглядае В.С.Юрчанка). Але і прыназоўніку наканавана заняць гэтую нішу, калі для кандэнсацыі выказвання ад рэлятыўнага слова, ужытага ў якасці выказніка, патрабуецца саступіць месца для новага прэдыката. Пры гэтым увесь прэдыкат (дэсемантызаваны дзеяслоў і назоўнік пры ім) пераўтвараецца ў сінтаксему, у якой былы дзеяслоў, прайшоўшы працэс дэрывацыі, становіцца фармантам сінтаксемы, а назоўнік застаецца лексічным кампанентам, якім ён быў і ў выказніку: *каб **прадухіліць** памылку* – (***прадухіленне** памылкі*) – ***дзеля прадухілення** памылкі.*

---

[15] Падрабязней гл. у: Конюшкевич, М.И. О механизме опредложивания знаменательной лексики / М.И.Конюшкевич // Лингвістичні студії. Вип. 13. – Донецьк: ДонНУ, 2005. – С.65 – 70; Конюшкевич, М.И. Имя: от номинации к реляции / М.И. Конюшкевич // Имя и слово (проблемы семантико-прагматического взаимодействия в славянских языках: материалы междунар. науч. конф., Брест, 19 – 20 апр. 2007 г. В 2 ч. / под общ. ред. д-ра филол. наук В.И.Сенкевича. – Брест: Изд-во БрГУ, 2007. Ч.1. – С.28 – 32.

[16] Юрченко, В.С. Космический синтаксис: Бог. Человек. Слово: лингво-философский очерк / В.С.Юрченко. – Саратов, 1992.

Дэрыват ад семантызаванага дзеяслова пры кандэнсацыі выказвання становіцца не проста прэтэндэнтам на «экалагічную нішу», але і **фармантам** ўтворанай ім сінтаксемы, прычым, як правіла, не самастойна, а ў спалучэнні з невытворнымі прыназоўнікамі, якія і дыферэнцыруюць тыя ці іншыя адносіны паміж скандэнсаванай сінтаксемай і іншымі словамі ў сказе ў залежнасці ад тых роляў, якія прадыктуе ўтворанай сінтаксеме новы прэдыкат. Напрыклад, ад дзеяслова *ажыццявіць* у прэдыкаце *ажыццявіць паездку* пры неабходнасці магчымы і фармант *дзеля ажыццяўлення* (***Дзеля ажыццяўлення*** *паездкі трэба заказаць пуцёўку*) і фармант *пры ажыццяўленні* (***Пры ажыццяўленні*** *паездкі прытрымліваюцца правіл бяспекі*), а выбар невытворнага прыназоўніка ў склад састаўнога фарманта быў прадыктаваны новымі прэдыкатамі ў сказах.

Моўны матэрыял сведчыць, што ў поле прыназоўніка перш за ўсё ўцягваюцца тыя знамянальныя словы, якія па лексічным значэнні ці па сінтаксічнай ролі ўжо схільныя да рэляцыйнай функцыі.

1) Гэта ў першую чаргу **эксплікатары** (па тэрміналогіі М.У.Усеваладавай[17]) ў апісальных прэдыкатах – дэсемантызаваныя дзеясловы тыпу *ажыццявіць, прадухіліць, стварыць, прымяніць, правесці* і інш. Гл. у кантэкстах (тут і далей фармант у выдзеленай сінтаксеме падкрэслены): *Неабходнасць поўнай санітарнай апрацоўкі вызначаецца тым, што прадукты абяскоджвання іпрыту, якія засталіся на скуры* ***пры правядзенні*** *частковай санітарнай* ***апрацоўкі****, захоўваюць сваю раздражняльную дзейнасць яшчэ на працягу 1-3 сутак* (Асновы мед.ведаў). *У такіх умовах надзвычай складана скрачаць выдаткі* ***на аказанне*** ***сацыяльна значных паслуг*** («Звязда», 4.02.05).

2) **Рэлятары**[18]**,** ці двухмясцовыя рэляцыйныя прэдыкаты, што выражаюць адносіны паміж удзельнікамі сітуацыі (*змагацца, уздзейнічаць, уплываць, абыходзіцца, прызнаваць, кантактавацца* і г.д.), таксама служаць утваральнай базай для прыназоўнікаў: *Далікацтва* ***пры абыходжанні з*** ***людзьмі*** *– мастацтва* (А.Міцкевіч. Пер. Я.Семяжона); *У Еўропе* ***для барацьбы з*** ***эпідэміямі*** *пачалі прымяняць каранцін у XIV ст., у Расіі ізалявалі хворых ад здаровых у XVI* (Асновы мед. ведаў); *Галоўныя псіхічныя рысы сфармавілся* ***пад уздзеяннем*** ***грамадскіх праблем*** (навук.); ***Пад уплывам*** ***рускай мовы*** *ў беларускім маўленні ўзнікаюць калькі і паўкалькі* (навук.); *Чалавек можа заразіцца* ***пры кантакце з*** ***хворымі*** (Асновы мед. ведаў).

---

[17] Всеволодова, М.В. Теория функционально-коммуникативного синтаксиса: фрагмент прикладной (педагогической) модели языка / М.В.Всеволодова. – М., 2000, с. 42 і інш.

[18] Всеволодова, М.В. Указ. праца, с.41 – 42.

3) Да іх далучаюцца і словы, якія выражаюць значэнне адносін сваім лексічным значэннем: *кантраст, супрацьлегласць, раўнавага, суладдзе, адпаведнасць, залежнасць, сувязь, звязак, лучнасць, паралельнасць* і г.д., аб чым падрабязна падаецца ў працах Р.М.Гайсінай[19]. Напрыклад: *Тэўтонскі ордэн канчаткова заняпаў і трапіў* ***у залежнасць ад Польшчы*** (К.Тарасаў). *Ступень кары –* ***у залежнасці ад ступені*** *грубасці* (Я.Брыль). *Пры гэтым вельмі часта творчая постаць Якуба Коласа бачыцца поруч ці* ***ў цеснай звязцы з постацю*** *Янкі Купалы* (А.Бельскі). *У параўнанні з царкоўнаславянскай,* ***у кантраст да яе*** *руская мова ўспрымалася як мова прафанічная, не проста нейтральная, а «паганая»* (навук.). *Вочы здаюцца чорнымі* ***ў кантрасце з блакітным адлівам*** *сівых валасоў* (Ю.Нагібін. Пер. у «Полымя», №10, 1967). *Форму трэба ацэньваць і трактаваць толькі* ***ў лучнасці са зместам*** *– канкрэтнай эпохі, канкрэтнай творчай асобы* (В.Зуёнак). ***У процівагу*** *аб'яднаўчай* ***палітыцы*** *маскоўскага князя Дзмітрыя Данскога Альгерд падтрымліваў сепаратысцкую барацьбу цвярскіх князёў* (К.Тарасаў). ***Паралельна з увядзеннем*** *салявых раствораў праводзіцца антыбактэрыяльная тэрапія тэтрацыклінамі* (Асновы мед. ведаў).

Сюды можна дадаць і іншыя спалучэнні накшталт *на пару з, у нагу з, на паях з, наперамену з, нараўне з, на роўнай з* і г.д. У кантэкстах: *Афармляючы кнігу, мастак стараецца ісці* ***ў нагу з міжнароднымі працэсамі****, маўляў: а што робіцца ў свеце на ніве маёй прафесіі?* («ЛіМ»). *Да апошняга часу фактычным уладальнікам мінскага клуба была прыватная асоба, што* ***на паях з мінскім аўтазаводам*** *арганізавала сумеснае прадпрыемства «ФК «Тарпеда-МАЗ»* («Народная воля», 22.02.05). *Ксёндз, падняўшыся на алтар, паставіў свой залацісты келіх... сышоў да сходцаў алтара і* ***наперамену з міністрантам*** *загаварыў па-латыні нешта таямнічае да людзей* (В.Адамчык). *Жаночы алкагалізм ужо практычна стаў* ***нараўне з мужчынскім*** («Рэгіянальная газета»). *Мы разумелі з Пятром, што Валодзя яшчэ не настолькі ўздужэў, каб* ***на роўнай з намі*** *выконваць усялякую работу ў падарожжы* (В.Ждановіч).

4) Не меншы прыназоўнікавы патэнцыял маюць **фазісныя прэдыкаты** (*пачынаць, працягваць, канчаць, завяршаць; пачатак, канец, сярэдзіна*), а ў тэкстах, дзе падача храналогіі падзей мае прынцыповы для прадмета навукі характар (напрыклад, па гісторыі), падзел на фазы яшчэ больш дробны*: у пачатку / на пачатку / у першай*

[19] Гайсина, Р.М.Язык: философия, семантика, синтаксис: сб. избр. работ / Р.М.Гайсина. – Уфа: РИЦ БашГУ, 2008. (Раздзел «Категория отношения в языке»)

*палове / у першай чвэрці / у апошняй трэці XX стагоддзя; у апошняй* [чвэрці] *– першай чвэрці XX стагоддзя*. Прыклады ў кантэкстах: *Калі нічога не зменіцца, **да канца** **нашага стагоддзя** ЗША страцяць яшчэ 20 мільёнаў гектараў раллі* («Полымя», 1988, № 2); ***Да канца першага** ці **пачатку другога** **тыдня** на месцы сыпу з'яўляецца пласціністае лушчэнне...* (Асновы мед.ведаў); *Ізаляцыя працягваецца **да** **30-га дня** **ад пачатку** **хваробы*** (Асновы мед. ведаў). ***З сярэдзіны** **16 ст**. з узмацненнем агнястрэльнай зброі на Беларусі ўзнікла бастэйная фартыфікацыя* (Энцыкл. гіст. Беларусі, т. 1); *Падаецца, што **на момант пачатку** **нямецка-савецкай вайны** Станкевіч быў не надта задаволены вынікамі сваей місіі* (Ю.Туронак. Пер. В.Кавалёвай); ***Па заканчэнні** **вучобы** яны* [выпускнікі] *аказваліся зусім няздольнымі хоць штосьці карыснае зрабіць* (Л.Лыч); *Нават **па прашэсці** **часу** цікавасць навуоўцаў да праблемы не слабее* («Рэспубліка», 24.08.99); ***Па сканчэнні** **разгляду** справы будзе ўручана судовая павестка з патрабаваннем выплаты штрафу* («Наша слова», №35); *Медыцынскі персанал, які працуе ў халерных аддзяленнях, **пасля заканчэння** **працы** праходзіць поўную санітарную апрацоўку* (Асновы мед. ведаў); *Гэта было яшчэ **пры канцы** **XIII стагоддзя*** («Звязда», 2000).

5) Базай для ўтварэння прыназоўнікаў служаць **звязкі і мадальныя** дзеясловы, якія ў састаўным выказніку выконваюць службовую функцыю: выражаюць граматычнае значэнне сказа – прэдыкатыўнасць, г.зн. значэнне часу і стану. Некаторыя склонавыя формы іх дэрыватаў-назоўнікаў ў спалучэнні з невытворнымі прыназоўнікамі ўтвараюць аналагі прыназоўнікаў (*у бытнасць, будучы, з намерам, з жаданнем, у жаданні, з рашэннем, з надзеяй, у надзеі, у спадзяванні на*): ***У бытнасць** Пракопа Касянка **старшынёй калгаса** гаспадарка ішла ў гору: добра абсявалася поле, былі пастаўлены неблагія грамадскія будынкі, пасаджана дваццаць пяць гектараў саду* (Р.Сабаленка). *Такім чынам, Астроўскі заняў важны пост **у надзеі** **стварыць** з цягам часу, на базе ўправы сталічнай акругі, цэнтральную беларускую адміністрацыйную інстанцыю* («Arche»).

6) Сярод дзеяслоўных намінацый лягчэй падлягаюць уцягненню ў поле прыназоўніка **экзістэнцыяльныя прэдыкаты** (*з'явіцца, існаваць, быць у наяўнасці, знікаць, узнікаць* і інш.): «*Народы славяцца, – казаў Суддзя, – парадкам І гінуць **з** даўняе **традыцыі** **ўпадкам»*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля); *Старэйшы з сыноў Clementi адкрыў у сабе музычны талент і заснаваў у Генуі школу піянізму, якой і кіраваў **да адыходу ў** **іншы свет,** пасля чаго ёй стаў кіраваць яго старэйшы сын* (Jan Kakupala); ***Пры адсутнасці** **бактэрыялагічна-***

***га кантролю*** *тэрмін ізаляцыі працягваецца да 3 тыдняў* (Асновы мед. ведаў); *Развіваецца эклампсія ў хворых* ***<u>пры наяўнасці</u> ацёкаў і гіпертэнзіі*** (Асновы мед. ведаў); ***<u>Пры ўзнікненні</u> язвава-некратычных ускладненняў*** *у страўнікава-кішэчным тракце хворых пераводзяць на стол №1* (Асновы мед. ведаў).

7) Ізамарфізм прыназоўніка і дзеяслова паводле здольнасці кіраваць склонавай формай робіць **моцнакіруючыя** (пераважна пераходныя) **дзеясловы** шырокай утваральнай базай для наватвораў у якасці сінтаксемных фармантаў (праз адвербіяльныя назоўнікі): *наглядаць – пад наглядам, кіраваць – пад кіраўніцтвам, ахоўваць – пад ахоvай* і г.д.): *Гавораць, калі побач з настаўнікам падрастае самародак, ён знаходзіцца нібыта* ***<u>пад аховай</u> мудрасці*** (А.Слука); *Для Злучаных Штатаў ужо не існуе стратэгічнай пагрозы, што магла б прывесці да канфрантацыі Амерыкі з Еўразійскім кантынентам, які цалкам знаходзіцца* ***<u>пад кантролем</u> варожай імперыі*** (Зб.Бжэзінскі. Пер. С.Петрыкевіча); *Тут* ***<u>пад кіраўніцтвам</u> Кліма*** *была збудавана драўляная крэпасць Клімцы* (Jan Kakupala); *Лячэнне ўтвораных пролежняў праводзяць* ***<u>пад наглядам</u> урача*** (Асновы мед. ведаў); *Неаднойчы быў арыштаваны, апошні раз у красавіку-чэрвені (сядзеў у Валадарцы), вызвалены* ***<u>пад націскам</u> грамадскасці*** *й сасланы ў Віцебск* (П.Севярынец); *Трэба адзначыць, што ў нашы дні помста не ў модзе і часта хаваецца* ***<u>пад патрабаванне</u> правасудздзя*** (Цв.Тодараў. Пер. А.Дынько); *Царскі гнеў быў непрадказальны. Прыкладам, баярын Рэпнін стаўся зарэзаным* ***<u>па загаду</u> Грознага*** *ў царкве, пад час малітвы* («ЛіМ»). *Прагу вызваляў* ***фронт пад камандаваннем маршала Конева*** («ЛіМ», 02.07.04).

Мадэль такога ўтварэння настолькі трывалая, што па закону семантычнага дапасавання (агульныя семы ‘дамінаванне’, ‘прыкрыццё’, ’адказнасць’, ‘надзейнасць’ і інш., што ўваходзяць у інварыянт канфірматыўнасці) спіс прыназоўнікаў пашыраецца і без апоры на дзеяслоўны прэдыкат: *пад крылом, пад увагай; пад пратэктаратам; пад патранатам; пад эгідай* і інш.: *Шмат якіх перашкод даводзіцца пераадольваць тым, хто сее разумнае, вечнае* ***<u>пад эгідай</u> «Ведаў»*** («Звязда», 06.01.05). *Гродзеншчына на працягу трох гадоў знаходзілася* ***<u>пад ярмом</u> фашысцкай акупацыі*** (У.А.Нядзелька). *Камерны аркестр і ансамблі ("Сірынкс», «Інтрада», Актэт салістаў на драўляных духавых інструментах), што працуюць* ***<u>пад крылом</u> Дзяржаўнага канцэртнага аркестра*** *Беларусі ...* (С.Берасцень). *Акцыя «Дзеці – дзецям» праводзіцца другі год* ***<u>пад патранатам</u> Мінскага міжнароднага клуба жонак паслоў****, які ўзначальвае Ніна Аруцюнян, жонка пасла Арменіі ў нашай краіне* (С.Берас-

цень). *Ні пра якую незалежную і шчаслівую* ***<u>пад пратэктаратам</u> фашыстоўскай Нямеччыны*** *Беларусь не магло быць гаворкі* (Інт.). *Такія даныя былі прыведзены 26 красавіка на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў, якое прайшло* ***<u>пад старшынствам</u> прэм'ер-міністра Сяргея Сідорскага*** («Звязда», 27.04.05).

8) Але асабліва пашыраны патэнцыял для ўтварэння прыназоўнікаў маюць назоўнікі-класіфікатары, якія абазначаюць уласцівасці фізічных аб'ектаў і з'яў акаляючай рэчаіснасці (*вышыня, маса, вага, таўшчыня, хуткасць, дыяганаль, магутнасць, частата, напружанне і напружанасць, энергія, магнітуда, кіслотнасць, мінералізацыя* і г.д.). Гэта так званая **параметрычная лексіка**.

Развіццё прыродазнаўчых навук і змены ў навуковай карціне свету пашыраюць і паглыбляюць нашы веды аб уласцівасцях рэчываў, аб'ектаў, прыродных з'яў, магнітных і электрычных палёў і г.д. У прыродазнаўчых навуках усталёўваецца свая навуковая фразеалогія, шмат якія вербальныя адрэзкі ў выказваннях тэрміналагічна клішыруцца, фарміруючы такім чынам непадзельныя спалучэнні, якія ў структуры выказвання запаўняюць адну сінтаксемную пазіцыю. У такіх спалучэннях-сінтаксемах лексічны кампанент звычайна прадстаўлены колькасна-іменным спалучэннем, а фармант – шматслоўным прыназоўнікавым спалучэннем, ускладненым канкрэтызатарамі і апраксіматарамі, нават прыметнікамі тэрміналагічнага характару (*<u>у дыяметры больш за</u> 15 м; апраменьванне <u>з аптымальнай дозай у</u> 100 Гр; <u>пры сісталічным ціску каля</u> 150 udараў; <u>у першай палове</u> XX стагоддзя*; *насельніцтва <u>з агульнай колькасцю каля</u> 120000 душ.* Напрыклад, у кантэкстах: *Стэрылізацыя цякучай парай ажыццяўляецца на працягу 45 – 60 хвілін пры тэмпературы 100 °С у паравым стэрылізатары або аўтаклаве* ***<u>пад ціскам (пары) ў</u> 1 атм.*** (Асновы мед. ведаў). *У склад Сонечнай сістэмы ўваходзіць таксама велізарная колькасць малых планет – астэроідаў, мноства камет, безліч малых цел* ***<u>памерам ад</u> 100 м <u>да</u> мізэрна малых пылінак*** (падручн.). *Камлыгі (па-руску – глыбы) гэта буйныя валуны* ***<u>памерам больш за</u> 3 метры <u>даўжынёй</u>****, а валуны – <u>ад</u> 10 см <u>да</u> 3 метраў* («Сумежжа»). *Зараз у Жыровіцы наведваецца да ста тысяч паломнікаў і турыстаў з усяго свету, каб прайсціся па старажытных дворыках, папіць гаючай вады і аддаць пашану маленькай,* ***<u>памерам усяго</u> 43 <u>на</u> 56 міліметраў****, цудадзейнай іконе маці Божай Жыровіцкай* («Звязда», 25.06.05). *Такая сістэма дазваляла называць вельмі вялікія лікі – ва ўсякім выпадку большыя, чым колькасць пясчынак у шары, «****<u>радыусам, роўным адлегласці ад</u> Зямлі <u>да</u> сферы нерухомых зорак****», – так пісаў сам Архімед* (падручн.).

*Кожная ваўчыная сям'я мае свой уласны паляўнічы ўчастак,* ***радыусам у пятнаццаць і больш кіламетраў ад логава*** (В.Вольскі). *Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца асобы жаночага полу* ***ва ўзросце ад 16 да 24 гадоў****,* ***ростам не ніжэй за 168 см****, якія маюць добрыя знешнія дадзеныя* («Новая газета Смаргоні»).

Структуру і функцыянаванне такіх адзінак у рускай мове у люстэрку японскай мовы паказала ў кандыдацкай дысертацыі Р.Судзукі[20], а колькасныя, дэрывацыйныя, структурныя, функцыянальныя характарыстыкі такіх адзінак у беларускай мове ў параўнанні з рускай выяўляюцца ў працах А.В.Сянцябавай[21].

Калі мы маем справу з такімі амбівалентнымі наватворамі, якія ў залежнасці ад кантэкста могуць быць і прыназоўнікам, і знамянальнай намінацыяй, і нават адным і другім адначасова (як, напрыклад, у сказе *І ў тым агульным шуме-гуку Зачаўся торг, пайшлі бажыцца* ***Ў жаданні шчырым падружыцца*** *–* Я.Колас), то апора на сінтаксічную пазіцыю сінтаксемы пры вызначэнні межаў адзінкі, што выступае ў функцыі прыназоўніка, асабліва патрэбная.

Паколькі вызначэнне межаў лексічнага кампанента сінтаксемы не выклікае вялікіх цяжкасцей, то дыягнастычную сілу для вызначэння межаў фарманта сінтаксемы мае наступны крытэрый: **усё, што не ўваходзіць у лексічны кампанент сінтаксемы, ёсць яе фармант.** Такім фармантам можа быць або прыназоўнік, або прыназоўнік разам з флексіяй, або толькі флексія. Вядома, ў нашым Рэестры ў цэнтр увагі ставіцца частка фарманта – прыназоўнік ці яго аналаг.

10.5. Удакладнення патрабуе таксама і паняцце **кіруючай функцыі** прыназоўніка. Традыцыйна кіраваннем лічыцца такая словазлучальная сінтаксічная сувязь, пры якой галоўнае слова патрабуе ад залежнага пэўнай склонавай формы *(клапаціцца пра бацькоў, паслаць ліст, пераскочыць праз ручай*). Сувязь у словазлучэннях тыпу *ключ ад шуфляды, дом пры дарозе* не падпадае пад прыведзеную дэфініцыю, таму невыпадкова яе называюць то слабым кіраваннем,

[20] Судзуки, Р. Русские атрибутивные конструкции со значением «параметрическая характеристика предмета» и функционирование в них компонентов предложного типа (В зеркале японского языка): дис. … канд. филол. наук / Р.Судзуки. – М.: МГУ, 2008.

[21] Гл., напрыклад, у: Сентябова, А.В. Предложно-падежные синтаксемы с нумеративно-именным лексическим компонентом в русском и белорусском языках: сходства и различия / А.В.Сентябова // Лінгвістічні студії: зб. наук. праць. Віп. 15. / укл. А.А.Загнітко (наук. ред.) та ін. – Донецьк: ДонНУ, 2007. – С. 191 – 195; Сентябова, А.В. Предложный потенциал знаменательной лексики в русском и белорусском языках (на примере параметрической лексики) / А.В.Сентябова // Веснік ГрДУ. Сер.3. – 2008. – №1(65). – С.47 – 51.

то іменным прымыканнем. Акрамя таго, назіраюцца выпадкі ўключэння прыназоўнікава-склонавай сінтаксемы адразу ў сказ, без словазлучальнай сувязі: *Адам Русак, **падобна да Коласаўскага Сымона-музыкі**, прыйшоў у горад спазнаць нотную навуку* (А.Бельскі).

Распрацоўшчыкі праекта прынялі дэфініцыю кіравання, прапанаваную А.С.Скоблікавай яшчэ ў 1971 годзе: кіраванне – гэта фармальны спосаб уключэння назоўнікаў у сінтаксічныя канструкцыі[22]. Матывацыя М.У.Усеваладавай наступная: пры такой дэфініцыі паняцце падпарадкавальнай сувязі не разбураецца, а наадварот, пашыраецца, паколькі катэгорыю «кіраванне» рэалізуе любая склонавая форма назоўніка, нават форма назоўнага склону[23]. Што да выражэння «патрабаванне кіруючага слова», то яно, на думку М.У.Усеваладавай, у першую чаргу адлюстроўвае не сінтаксічную сувязь, а розныя віды валентнасці слова – лексічнай ці граматычнай.

Пры такім разуменні кіруючую функцыю прыназоўніка мы фармулюем наступным чынам: прыназоўнік як фармант словаформы і сінтаксемы з'яўляецца **сродкам** (дарэчы, не адзіным у мове) **увядзення сінтаксемы** ў сінтаксічную структуру выказвання, а для свабодных сінтаксем – у маўленчую сітуацыю наогул (*Над Нёманам; У Янкі; Над ракой Арэсай*). Тады здымаюцца шмат якія пытанні: аб кіраванні назоўным склонам з дапамогай прыназоўніка (*дзяўчынка **па імені Таня***), аб незмяняльнасці колькасных азначэнняў (***пад вуглом у** 35 градусаў*), аб размежаванні значэнняў сінтаксем.

Не выпадкова пры некаторых параметрычных прыназоўніках-наватворах склонавыя формы маюць варыянтнасць назоўнага і вінавальнага склонаў, асабліва пры немагчымасці праверкі на форму він. склону назоўнікаў жаночага роду; параўн.: *даўжынёй **адну мілю*** (він.), *памерам **тысяча/тысячу знакаў*** (наз./він.), *пад вуглом **90 градусаў*** (які склон?). Тое ж можна сказаць і пра некаторыя фарманты-часціцы; напрыклад, фармант *ад сілы* сэнсава ўказвае на пазіцыю пры сабе колькасна-іменнага кампанента і ні ў якім разе не на пазіцыю таго ці іншага склону; параўн.: *зрабіць **<u>ад сілы</u> пяць крокаў**, абмежавацца **<u>ад сілы</u> пяццю крокамі**.* Але гэта таксама можна лічыць за кіраванне, толькі ў логіка-сэнсавым плане.

Такім чынам, да традыцыйна вылучаемых шасці функцый прыназоўніка далучаюцца яшчэ чатыры: а) сінтаксемаўтваральная,

---

[22] Скобликова, Е.С. Согласование и управление в русском языке / Е.С.Скобликова. – М.: Наука, 1971. – С.379.

[23] Всеволодова, М.В. Теория функционально-коммуникативного синтаксиса…, С. 379.

б) функцыя маркёра сінтаксічнай пазіцыі сінтаксемы, в) прэдыкатная, г) функцыя ўвядзення сінтаксемы ў структуру выказвання.

Тыя адзінкі, якія выконваюць увесь комплекс з 10 функцый, складаюць ядро поля прыназоўніка, перыферыю ж займаюць сродкі з меншай колькасцю функцый. Напрыклад, крайнюю перыферыю займуць апраксіматары кшталтам *не больш як, менш як, меней як, не болей як,* якія фарміруюць сінтаксему, нароўні з уласна прыназоўнікамі уплываюць на яе семантыку, на пазіцыю і нават спрыяюць яе ўвядзенню ў структуру выказвання, але без прыназоўнікаў яны не могуць кіраваць склонам, афармляць сінтаксічныя сувязі сінтаксемы з іншымі словамі. Напрыклад: *Пры парушэнні функцыі нырак за 4 гадзіны выдзяляецца* ***менш як 1,5 л*** *мачы* (Асновы мед. ведаў). *Калі ў сярэдзіне 60-х гадоў пры паступленні ў Мінскі радыётэхнічны інстытут было на адно месца болей за 7* ***прэтэндэнтаў,*** *то ў мінулым годзе* ***іх*** *стала* ***меней чым 1, 5*** («Полымя», 1986, № 7). *Факультэт можа стварацца пры наяўнасці* ***не меней чым 200 студэнтаў*** *на дзённай форме навучання,* ***не меней чым 400 студэнтаў*** *– на вячэрняй форме навучання,* ***не меней чым 500*** *– на завочнай форме навучання* (афіц.). *Пасля працэдуры хворы мусіць ляжаць у пасцелі* ***не меней як 30 хвілін*** (Асновы мед. ведаў).

Прамежкавыя зоны поля займаюць аналітычныя адзінкі, у якія ўваходзяць і часціцы, і невытворныя прыназоўнікі, з пэўным размеркаваннем функцый: семантычныя нюансіроўкі замацаваныя за часціцамі, няпэўнымі займеннікамі і прыслоўямі, а кіраванне склонам і іншыя ролі – за невытворнымі прыназоўнікамі, як у *недзе там на, недзе адразу пасля, ледзь не ў год, нешта крышачку больш чым... таму назад* і інш. Гл. у кантэкстах: *Жанчына таксама працуе* ***недзе там на ферме ці заводзе*** (Arche). ***Недзе адразу пасля выбуху*** *на Чарнобыльскай АЭС я сустрэўся з Міхаілам Саўчыкам* (І.Капыловіч). *Здаецца, і першы вальны сейм у Польшчы быў не так даўно – у 1493 годзе,* ***ледзь не ў год нараджэння*** *Францыска, і канстытуцыю «Nihil novi»* ***нешта крышачку больш чым дзесяць гадоў таму назад*** *прынялі, а вось як ужыўся ўжо ў сваe вольнасці, у сваю сваволънасць пан шляхціц Твардоўскі...* (А.Лойка).

11. Даследчыкі заўважылі тэндэнцыю ў апошнія дзесяцігоддзі да інтэлектуалізацыі мовы – да ўскладненасці дыскурсу, да ўзнікнення і прымянення элементаў мовы, звязаных з дасягненнямі навукова-тэхнічнага прагрэсу. Адзначаецца, што навукова-тэхнічны стыль пераўтвараецца ў сукупнасць так званых моваў для спецыяльных мэтаў – абслугоўваць сотні, у тым ліку новых, навук, сферы вытворчасці (уключаючы высокія тэхналогіі), эканоміку, абарону, сродкі

масавай інфармацыі, палітыку; гэтыя інтэлектуальныя сферы не могуць існаваць без мільёнаў спецыяльных тэрмінаў, без наменклатуры, выкарыстоўваемай у галіне вытворчасці і спажывання[24].

Такая тэндэнцыя падтрымліваецца і самой мовай: мовы для спецыяльных мэтаў ствараюць ўласныя словаўтваральныя сродкі, складаныя сінтаксічныя канструкцыі, якія могуць быць даволі спецыфічнымі для кожнай асобнай галіны ведаў; гнуткасць моўнай сістэмы, поліфункцыянальнасць і ізамарфізм моўных адзінак, мадэльнасць дэрывацыі адкрываюць бязмежную прастору для двух супрацьлеглых, але ўзаемазвязаных працэсаў у мове – кандэнсацыі і аналітызму моўных адзінак

У той жа час назіраецца і другая тэндэнцыя – да дэмакратызацыі мовы, зліцця стыхіі размоўных элементаў з літаратурнымі, пранікнення жаргонаў (з утварэннем і інтэлектуальных жаргонаў) ў літаратурную мову. Адсюль вынікае кантамінацыя і змяшэнне стыляў, што не вельмі ўхваляюць, але вымушаны канстатаваць і вывучаць мовазнаўцы.

Не абышлі гэтыя тэндэнцыі і беларускую мову, у тым ліку і катэгорыю прыназоўніка.

У беларускай мове прыназоўнік як часціна мовы актыўна папаўняецца за кошт дэрыватаў з іншых часцін мовы, што выклікана ў першую чаргу развіццём шэрагу функцыянальных стыляў і падстыляў маўлення – навуковага (з улікам спецыфікі кожнай канкрэтнай прадметнай галіны ведаў), афіцыйна-дзелавога (з улікам спецыфікі новага характару зносін паміж суб’ектамі камунікацыі, у тым ліку і ў сферы бізнесу, спорту і інш.), а таксама функцыянаваннем беларускай мовы як дзяржаўнай у розных сферах жыцця беларускага грамадства.

Нашы супастаўляльныя даследаванні асобных фрагментаў прыназоўнікавых сістэм рускай і беларускай моў[25] паказалі, што ў беларускай мове рэляцыйны патэнцыял знамянальных слоў такі ж значны, як і ў рускай мове, што ён фарміруецца па тых самых прынцыпах сістэмнасці[26] і палевай арганізацыі і выкліканы тымі ж кагні-

---

[24] Лейчик, В.М. Противоположные тенденции как импульс развития языка в современную эпоху / В.М.Лейчик // Вестник МАПРЯЛ. – М. – 2007. – Вып.52. – С.23 – 29.

[25] Напрыклад: Конюшкевич, М.И. Сходное и различное в русской и белорусской предложных системах (обзор Реестра в диапазоне буквы Н) / М.И.Конюшкевич // Язык – Культура – Человек: сб. науч. статей к юбилею заслуженного проф. МГУ имени М.В.Ломоносова М.В.Всеволодовой / редкол.: Ремнева М.Л. [и др.]. – М.: МАКС Пресс, 2008. – С. 161 – 176.

[26] Конюшкевич, М.И. Системные отношения в морфосинтаксическом поле белорусского предлога / М.И.Конюшкевич // Славянские предлоги. – Велико Търново: ищд-во «Ивис», 2007. – С. 138 – 149.

тыўнымі фактарамі, як і ў іншых мовах. Уплыў рускай мовы на беларускую ва ўмовах ўзаемадзеяння гэтых дзвюх дзяржаўных у РБ моў праяўляецца не столькі ў запазычаннях, колькі ў генералізацыі ўласных рэсурсаў сістэмы беларускай мовы[27], у павышанай варыятыўнасці моўных адзінак, у тым ліку і тых, якія здольныя выступіць у ролі рэлятара адносін.

12. Паколькі адна і тая ж знамянальная лексема здольная функцыянаваць у рэляцыйнай ролі ў некалькіх сваіх словаформах (што абумоўлена яе сінтаксемнай функцыяй і сінтаксічнай пазіцыяй), то ўтвараецца пэўная **парадыгма** такіх наватвораў. Інакш кажучы, адначасова з мадэллю ўтварэння прыназоўнікавых адзінак спрацоўвае і граматычная спадчына тых (знамянальных і незнамянальных) слоў, на аснове якіх з’яўляюцца наватворы. Асабліва актыўна ўцягваюцца ў прэпазіцыяналізацыю склонавыя (у першую чаргу формы меснага, роднага і вінавальнага склонаў) і лікавыя формы назоўнікаў. Так, калі ў мове з’явіўся прыназоўнік *у галіне,* то павінен быць і *ў галіну,* на падставе апазіцыі «лакатыў – дырэктыў». Гл. таксама: *пад кіраўніцтвам / пад кіраўніцтва, пад ярмом / пад ярмо, пад правадырствам / пад правадырства, пад знакам / пад знак* і г.д.; *па прынцыпу/е / па прынцыпах, у асобе / у асобах, пад імем / пад імёнамі, з адзнакай / з адзнакамі, за права / за правы, за спіной / за спінамі, за час / за часы, з вуглом / з вугламі* і г.д.

Больш таго, магчыма выяўленне некалькіх узроўняў парадыгматычных адносін у сферы прыназоўніка, г.зн. некалькіх парадыгм.

1) Так, на лексіка-функцыянальным узроўні парадыгматычныя адносіны паміж членамі групы ўтвараюць **лексічную парадыгму**. Напрыклад, у групе з інварыянтам ‘адверсатыўнасць’ (адносіны супрацьпастаўлення) лексічная парадыгма складаецца з такіх адзінак, як ***супраць*** *каго/чаго,* ***процi*** *каго/чаго,* ***у апазіцыі да*** *каго/чаго,* ***у кантраст з*** *чым,* ***у супрацьлегласць*** *каму/чаму,* ***наперакор*** *чаму,* ***насуперак*** *каму,* ***у разрэз з*** *чым* і інш. Колькі такіх лексіка-функцыянальных груп існуе ў мове, пакуль што невядома, як невядома і іерархізаваная семантычная структура ўсяго поля прыназоўніка. М.У.Усеваладава ў рускім матэрыяле вылучыла каля двух дзесяткаў «семантычных зон» (як яна іх назвала) прыназоўнікаў.

---

[27] Канюшкевіч, М.І. Наватворы ў галіне беларускага прыназоўніка / Канюшкевіч М.І. // Граматычны лад беларускай мовы. Шляхі гістарычнага развіцця і сучасныя тэндэнцыі: матэрыялы Міжнароднай навук. канф., Мінск, 29 – 30 кастрычніка 2007.; Інстытут мовазнаўства імя Я.Коласа НАН Беларусі. – Мінск: Права і эканоміка, 2007. – С. 17 – 22.

Назіранні паказваюць, што такіх «зон», дакладней – палёў і мікрапалёў, значна больш, і іх функцыянальна-семантычнае даследаванне яшчэ наперадзе. У полі зроку беларускіх распрацоўшчыкаў праекта аказаліся прычынныя прыназоўнікі і іх аналагі (гл. працы С.А.Важніка[28], І.А.Усачэнкі[29]), прасторавыя прыназоўнікавыя спалучэнні (працы А.Г.Нікалаенкі[30]), колькасныя (праца Л.В.Пляшковай[31]), адверсатыўныя, спосабу дзеяння, уключэння/выключэння (адпаведна нашы сумесныя працы з М.Рама624ўскай[32], з Ю.Вішняк[33]), спосабу дзеяння (дыпломная праца В.Копач). Матэрыялы Рэестра даюць шырокую прастору для даследаванняў іншых груп як у межах беларускай мовы, так і ў супастаўленні з рускай і іншымі мовамі.

2) Яшчэ адна парадыгма прыназоўніка – **дэрывацыйная –** фарміруецца ў межах словаўтваральнага гнязда за кошт аднакаранёвых лексем, здольных выступіць у рэлятыўнай функцыі. Напрыклад, у словаўтваральным слоўніку рускай мовы А.М.Ціханава дэрывацыйная парадыгма словаўтваральнага гнязда *против* налічвае 5 прыназоўнікаў: *против, напротив, сопротив, супротив, насупротив*, а ў Рэестры М.У.Усеваладавай іх ужо 21 (магчыма, на сёння і больш), уключаючы такія, як *в противность, в противостоянии с, в противоход, в противоречие с, в противоположность к, в противовес к, в противопоставление* і інш. Тое ж назіраецца і ў беларускай мове:

---

[28] Важнік, С.А. Беларускія прычынныя прыназоўнікі і сінтаксіс / С.А.Важнік // Вопросы функциональной грамматики: сб. науч. тр. Вып. 5. – Гродно, 2005. – С. 28 – 41.

[29] Усаченко, И.А. Межъязыковая эквивалентность русских и белорусских каузальных предлогов / И.А.Усаченко // Вопросы функциональной грамматики: сб. науч. тр. Вып. 4. – Гродно, 2002. – С. 52 – 57; Усаченко, И.А. Выражение ситуации внешней предметной причины в русском и белорусском языках: автореф. дис. … канд. филол. наук / И.А.Усаченко. – Минск, 2009.

[30] Николаенко, О.Г. Пространственные отношения в диапазоне ‘близко–далеко’, выраженные предложными сочетаниями в белорусском языке / О.Г.Николаенко // Лінгвістичні студії: зб. наук. праць. Віп. 15 / укл. А.А.Загнітко (наук. ред.) [та ін.]. – Донецьк: ДонНУ, 2007. – С. 170 – 174.

[31] Плешкова, Л.В. Предлоги с количественным значением в русском и белорусском языках / Л.В.Плешкова // Лінгвістічні студії: зб. наук. праць. Віп. 16. / укл. А.А.Загнітко (наук. ред.) [та ін.]. – Донецьк: ДонНУ, 2008. – С. 83 – 93.

[32] Конюшкевич, М., Романовская, М. Лексико-функциональное поле предлогов с инвариантом ‘включение’ / ‘исключение’ в русском языке / М. Конюшкевич, М. Романовская // Лінгвістични студіі : зб. наук. праць / Донецькій нац. ун-т; наук. ред. Анатолій Загнітко. – Донецьк: Дон НУ, 2009. – Вып. 19. – С. 32 – 37.

[33] Конюшкевич, М., Вишняк,Ю. Предлоги и их аналоги с семанотикой ‘противопоставление’ в русском и белорусском языках / М. Конюшкевич, Ю. Вишняк // Лінгвістични студіі : зб. наук. праць / Донецькій нац. ун-т; наук. ред. Анатолій Загнітко. – Донецьк: Дон НУ, 2009. – Вып. 19. – С. 27 – 31.

*процi, напроцi, супраць, супроць, насупроць, супрацьлегла, у супрацьлегласць, працiлегла, у працiвагу* i г.д[34].

3) **Марфалагічную** парадыгму прыназоўніка ўтвараюць формы знамянальнай лексікі, здольныя выконваць прэпазіцыянальную функцыю, прычым гэта не толькі склонавыя формы субстантыва, але і ад'ектыўна-адвербіяльныя наватворы (з невытворнымі прыназоўнікамі ці без іх). Так, у марфалагічную парадыгму дэрыватаў з лексемай *процi-* уваходзяць адзінкі ***у працiлегласць*** *чаму,* ***у працiлегласць да*** *чаго,* ***працiлегла*** *чаму,* ***працiлегла да*** *чаго,* ***у супрацьстаяннi з*** *чым,* ***у супрацьстаянне з*** *чым,* ***у працiвагу*** *чаму,* ***у працiвагу да*** *чаго,* якія ў сучаснай маўленчай практыцы ўжо здольныя выконваць функцыю прыназоўніка.

Эксперыментальна можна ў гэтую парадыгму (па аналогіі з рускімі адпаведнікамі) уключыць і патэнцыяльныя аналагі: ***у супярэчнасць з*** *чым,* ***у супярэчнасцi з*** *чым,* ***супярэчна*** *чаму,* ***супярэчна да*** *чаго,* ***у працiлегласцi да*** *чаго,* ***у працiлегласцi з*** *чым,* ***у працiлегласць з*** *чым,* ***у супрацьстаянне да*** *чаго,* ***у супрацьстаяннi да*** *чаго,* ***у працiвазе да*** *чаго,* ***у працiвазе*** *чаму.* Магчыма ўтварыць яшчэ 14 адзінак тыпу ****у працiўнасць*** *чаму,* ****у працiўнасцi да*** *чаго,* ****супярэчна з*** *чым* і пад., але гэта ўжо вельмі штучныя наватворы, якія наўрад ці будуць запатрабаваныя носьбітамі беларускай мовы. Галоўнае, што працэс прэпазіцыяналізацыі мае **сістэмны характар**, а гнуткасць сістэмы беларускай мовы і мадэльнасць дазваляюць такое ўтварэнне[35].

4) Прыцягненне да працэсу прэпазіцыяналізацыі невытворных прыназоўнікаў, якія займаюць як прэпазіцыю, так і постпазіцыю да былога знамянальнага слова, надае марфалагічнай парадыгме прыназоўніка сінтагматычны характар, таму такую парадыгму можна лічыць **морфасінтагматычнай**. З улікам жа лексічных і дэрывацыйных адносін можна гаварыць аб **комплекснай** парадыгме прыназоўніка. Даследаванне і апісанне такіх парадыгм таксама задача будучага.

Эксперыментальнае фарміраванне прыназоўнікавых парадыгм з улікам патэнцыяльных адзінак дазваляе не проста сабраць максімальна поўны спіс такіх адзінак, а зрабіць гэта больш мэтанакіравана.

---

[34] Падрабязней у: Конюшкевич, М.И. К вопросу о парадигме предлога / М.И.Конюшкевич // Русский язык: система и функционирование: материалы Междунар. науч. конф. 18 – 19 мая 2004 г., Минск. – Минск, 2004. – С. 23 – 25.

[35] Конюшкевич, М.И. О механизме опредложивания знаменательной лексики / М.И. Конюшкевич // Лингвістичні студії. Вип. 13. – Донецьк: ДонНУ, 2005. – С.65 – 70.

Стварэнне максімальна поўнага спісу прыназоўнікаў і іх аналагаў у беларускай мове, – адна з важнейшых і актуальных задач беларускага мовазнаўства, тым больш што большасць такіх адзінак не толькі не мае навуковага апісання, але і не зафіксавана ў граматычных апісаннях і лексікаграфічных крыніцах. Пададзены ніжэй Рэестр у некаторай ступені вырашае гэтую задачу.

13. Фарміраванне і напаўненне Рэестра складвалася ў выніку шматбаковай комплекснай атрыбуцыі, якая ўключае больш дваццаці параметраў, у тым ліку фанетычную, графічную, марфалагічную варыянтнасць, склонавае кіраванне, характар аформленай прыназоўнікам сінтаксемы, яго лексікаграфічную маніфестацыю, моўны статус, сістэмныя (палісемічныя, сінанімічныя, антанімічныя) сувязі з іншымі адзінкамі, семантычныя і граматычныя асаблівасці кіруючага слова і лексемы, ужытай з прыназоўнікам, здольнасць спалучацца з анафарычнымі словамі, кантэкстныя ілюстрацыі, ідыяматыку, полевы характар (карэляцыі з аманімічнымі часцінамі мовы – назоўнікамі, прыслоўямі), карэляцыю са злучальнымі словамі, міжмоўную (беларуска-рускую) эквівалентнасць.

Нарадзіўшыся на падмурку Слоўніка і манаграфіі П.П.Шубы і пашыранага (больш 2 з паловай тысяч) Рэестра рускіх прыназоўнікаў і іх адзінак (электронны варыянт якога даслалі нам маскоўскія калегі па праекту), наш Рэестр дапаўняўся з самых розных крыніц. Звяртаючыся да перакладных слоўнікаў і метадам інтраспекцыі мы падбіралі да рускіх адзінак беларускія эквіваленты. Значная частка адзінак была падвергнута калькаванню з наступнай верыфікацыяй калек у беларускай маўленчай практыцы. Крыніцамі кантэкстаў з'явіліся мастацкія тэксты беларускай літаратуры розных гадоў, тэксты сучасных СМІ, навуковыя тэксты (артыкулы, падручнікі, дапаможнікі) з розных прадметных галін ведаў, Інтэрнет-рэсурсы.

Папаўненне Рэестра ажыццяўлялася і па аналогіі з выяўленымі мадэлямі. Так, у якасці дамінуючай прыназоўнікавай формы ў параметрычнай зоне выявілася форма творнага склону: *масай, вагой, таўшчынёй, дыяметрам, магутнасцю, напружаннем* і г.д. Гэта дазваляе ўтварыць патэнцыяльны прыназоўнік ад творнага склону любога назоўніка, які намінуе ўласцівасць фізічнага аб’екта, што вымяраецца ў канкрэтных колькасных адзінках: *землятрус* ***магнітудай 6 балаў*** *па шкале Рыхтэра;* ***ростам вышэй*** *2 метраў;* ***пад вуглом 90°; пасажыразмяшчальнасцю*** *101 чалавек* і інш. Мадэлі, як паказвае маўленчая практыка, працуюць сістэмна і бездакорна.

# ПАРАМЕТРЫ АТРЫБУЦЫІ ПРЫНАЗОЎНІКАЎ І ІХ АНАЛАГАЎ У РЭЕСТРЫ

Рэестр будуецца па алфавітнаму прынцыпу. Параметры атрыбуцыі прыназоўнікаў і іх аналагаў у Рэестры наступныя.

**1. Загаловачная адзінка**. Загаловачныя адзінкі вылучаюцца на падставе значэння і ролі сінтаксемы, фармантам якой з’яўляецца дадзеная адзінка. Такі падыход дазваляе не размяжоўваць амонімы і мнагазначныя словы, прыназоўнікі і непрыназоўнікі (аналагі прыназоўніка). Рэестр тым самым прадстаўляе сабой не толькі пэўны спіс службовых прыназоўнікавых слоў, але і рэпертуар сінтаксем, утвораных гэтымі адзінкамі.

Загаловачныя словы, ці прыназоўнікі (такім рабочым тэрмінам дзеля сцісласці мы называем усе ўключаныя ў Рэестр адзінкі) падаюцца ў дваякім выглядзе: 1) невытворныя прыназоўнікі спачатку падаюцца як інварыянт без абзацнага водступу вялікімі літарамі тлустым курсівам (напрыклад, ***ПРЫ***), затым кожны семантычны варыянт у межах інварыянта – з чырвонага радка вялікімі літарамі тлустым прамым шрыфтам, а праз рыску пазначаецца парадкавы нумар яго значэння (**ПРЫ-1; ПРЫ-2; ПРЫ-3**). Такім чынам паказваецца, колькі значэнняў (адценняў значэння, ўжыванняў) можа мець сінтаксема з тым ці іншым прыназоўнікавым фармантам. Адценне значэння і ўжыванне фіксуюцца як значэнне, паколькі а) на сёння мы не маем такога інструмента, з дапамогай якога можна дакладна адрозніць значэнне ад ужывання, значэнне ад адцення, значэнне ад сэнсу, хоць такія спробы і маюць месца, б) асобнае ўжыванне фарманта сінтаксемы можа мець пэўную значымасць на фоне іншых параметраў атрыбуцыі – сінаніміі, антаніміі, левай і правай валентнасці прыназоўніка, яго суаднесенасці з рускім адпаведнікам і г.д.

**2. Варыянты** (графічныя, фанетычныя, стылістычныя) прыназоўнікаў падаюцца ў Рэестры таксама па алфавіту з адсылкай на літаратурны варыянт і з адпаведнай паметай: *дыял., прастам., русізм* і г.д.

Марфалагічныя варыянты (склонавыя канчаткі) падаюцца праз касую рысу без прабелу ў загаловачным слове:

**ПА СТАНЕ/У НА** *што/якую адзнаку часу* (год, чысло): *Роўмінгавыя тарыфы* ***па стане на 01.01.2006*** *... выходзяць* ***на адлегласць ад 201 да 600 км*** *2075* (Інт.). ***Па стану на 9 студзеня*** *інтэнсіўнасць уздыму ўзроўню вады дасягала 20-50 сантыметраў за суткі* («Звязда», 11.01.05).

Праз касую рысу без прабелу падаюцца таксама варыянты **У/Ў, З/СА**.

Гэтак жа праз касую рысу, але з прабелам, падаюцца злітныя і раздзельныя, поўныя і скарочаныя напісанні загаловачнага слова:

**НАПРЫКАНЦЫ / НА ПРЫКАНЦЫ / НА ПРЫ КАНЦЫ** *чаго* ***Напрыканцы дня** ў забытых богам і людзьмі вёсачках трывожыў* [я] *сэрца роздумам пра наш заблытаны свет* (Я.Пархута). *Тытанічная праца* ***на прыканцы сезона*** («Звязда»). *Дух...які выяўлены рэчаісна ў руйнавальным вэрхале грамадзянскае вайны... у савецкім патрыятызме ў часе Вялікае Айчыннае вайны, у паваенным будаўніцтве жыцця... у загніванні грамадства **на пры канцы стагоддзя**, у кананні сацыяльнага ды дзяржаўнага ладу ў дзевяностых ...дух гэты выяўлены ў нейкіх фантастычных карцінах, якія перамяшаліся да кашы...* (Л.Вашко).

**ПАД ТЫТУЛАМ** «*што*» / **П.Т.** «*што*» Наз. *Надзвычай важным і своеасаблівым праявам, як ілюстрацыя таго, аб чым мы гаворым, можа быць артыкул, змешчаны ў «Беларусе» (№263, сакавік, 1979)* ***пад тытулам «Аляксандр Баршчэўскі ў Ангельшчыне»*** (Я.Пятроўскі). *У павязанні з нашаю тэмаю, у беластоцкай «Ніве» (№24-1216) знаходзім артыкул* ***п.т. «Чаму моладзь уцякае з вёскі?»*** (Я.Пятроўскі).

**3. Кіраванне склонам і іншыя граматычныя характарыстыкі.** Прыназоўнікі, якія кіруюць некалькімі склонамі, індэксуюцца лічбамі ў парадку следавання склонаў – ад назоўнага да меснага (**ПА$^{1}$-1** *што*; **ПА$^{2}$-1** *чым*). Адразу пасля загаловачнага слова курсівам малымі літарамі падаецца пытальнае слова – займеннікі *хто/што* ў адпаведнай склонавай форме, што адразу ўказвае і на адушаўлёнасць/неадушаўлёнасць прыназоўніка, ужытага з дадзенай адзінкай. Пры неабходнасці (для больш акрэсленай семантызацыі сінтаксемы) праз касую рысу без прабелу падаюцца і іншыя пытальныя словы і словазлучэнні: *як, колькі адзінак, у якую адзінку вымярэння* і інш.: **ПА СТАНЕ/У НА** *што/якую адзінку часу*.

Пасля пытальнага слова скарочана ўказваецца і канкрэтны склон з вялікай літары: Наз., Род., Дав., Він., Тв., Месн. Варыянтнасць склонавага кіравання пазначаецца касой рысай без прабелу: Наз./Він. У неабходных выпадках указваецца і лік склонавай формы, напрыклад: **ПАМІЖ$^{1}$-1** *чаго* Род. мн.л. *Хоць песня як і з даўніх б'е часоў, – звініць, як вецер* ***паміж верасоў*** (Я.Купала).

Пры наяўнасці склонавых ці лікавых формаў самой прыназоўнікавай адзінкі іх граматычныя прызнакі падаюцца тлустым шрыфтам ў дужках адразу пасля загаловачнага слова перад пытальным словам: Напрыклад:

**У СФЕРУ (Він. адз.л.)** *чаго* Род. *Чалавек уключаў прыроду* ***ў сферу сваёй культуры і духоўнасці*** (С.А.Габрусевіч).

**У СФЕРЫ-1(Род. адз.л.)** *чаго* Род. *Рэвалюцыя **ў сферы мовы** прыроўніваецца да рэвалюцыі ў жыцці* (Р.Барт).

**У СФЕРЫ-2 (Він. мн.л.)** *чаго* Род. *Узняцца **ў сферы нябёсаў.***

**4. Палевы характар катэгорыі прыназоўніка**. Паколькі пераходны характар большасці адзінак вымагае больш падрабязнай дыферэнцыяцыі яе граматычных характарыстык, то ў Рэестры прадугледжваецца падача адзінкі ва ўсіх яе функцыянальна-граматычных іпастасях, якія сустракаюцца ў маўленчай практыцы. Таму ў загаловачнай частцы рэестравага артыкула іпастасі загаловачнага слова падаюцца праз касую рысу з прабеламі ў выглядзе кантынуумнага раду – ад прыназоўніка да знамянальнай часціны мовы. Пры гэтым улічваецца яшчэ адзін параметр атрыбуцыі прыназоўніка – празрыстасць/непразрыстасць прыназоўнікавага спалучэння для ўключэння прыметніка паміж невытворным прыназоўнікам і прэпазіцыяналізаваным назоўнікам, аб чым сведчаць пытальныя словы.

Кантынуумны рад пераходных выпадкаў, такім чынам, можа складаць у загаловачнай частцы да шасці варыянтаў (хоць усе шэсць у адным артыкуле не сустракаюцца). Пералічым і пакажам іх больш падрабязна.

1) Спалучэнне, якое не дапускае ўключэння прыметніка:

**НА АСНОВЕ-3** *чаго* Род. *Распрацаваць закон **на аснове Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.***

2) Спалучэнне, якое дапускае абмежаваную колькасць прыметнікаў-канкрэтызатараў (амаль усе яны падаюцца ў загаловачнай частцы малымі літарамі тлустым шрыфтам; кантэксты з такімі адзінкамі аддзяляюцца значком ■):

**НА БАКУ-1** *чаго* / **НА правым/левым/тым/гэтым/процілеглым БАКУ** *чаго* / **НА БАКУ** Род. *Сітуацыя была яшчэ тая: амаль усю пяхоту павыбівала, а **на баку немцаў** бурчэлі «тыгры»* («Звязда», 28.04.05). ■ ***На правым баку Дона** гулка грымнулі выбухі, вышэй узбярэжных таполяў узляцелі ў неба чорныя слупы дыму* (М.Шолахаў. Пер. М.Лужаніна).

3) Спалучэнне, якое дапускае ўключэнне прыметніка – свабоднага азначэння і разам з тым выконвае ролю прыназоўніка – кіруе склонам назоўніка (такія выпадкі ў загаловачнай частцы сігналізуюцца пытальным словам *які,* а ў кантэкстуальнай частцы памячаюцца таксама значком ■):

**НА ДАРОЗЕ ДА** *каго/чаго* / **НА** *якой* **ДАРОЗЕ ДА** *каго/чаго* Род. ***На дарозе да Пана Бога** стаяць знакі: «не крадзі», «не забівай» ...*(«Газета Слонімская»). ■ *Цяпер, бадай, не заставалася ня-*

*кага сумлеву, што ўсе трое – **на пэўнай дарозе да смерці*** («Arche»).

4) Спалучэнне прыназоўніка з назоўнікам і ўключаным паміж імі прыметнікам або анафарычным ад'ектывам, які рэгулярна карэлюе са склонавай формай назоўніка (параўн.: *выступіць **у якасці старшыні** – выступіць **у гэтай якасці***); у кантэкстуальнай частцы пазначаецца ▲:

**НА КАПЫЛ** *чаго* / **НА** *які* **КАПЫЛ** *чаго* / **НА** *які/чый* **КАПЫЛ** Род. *Навука ад пачатку знаходзіцца ў канфлікце з апавяданнямі, якія на паверку аказваюцца, **на капыл сваіх уласных крытэрыяў**, казкамі* (Жан-Франсуа Ліётар. Пер. А.Д.). ▲*Узор бярэцца **на сусветны капыл*** (У.Караткевіч).

5) Іншая часціна мовы – назоўнік з прыназоўнікам ці прыслоўе, якія таксама ў загаловачнай частцы дыферэнцыруюцца пытальнымі словамі, а ў кантэкстуальнай аддзяляюцца значком || з указаннем часцінамоўнай прыналежнасці адзінкі:

**НА КАНВЕ** *чаго* / **НА** *чым* **КАНВЕ** Род. ***На канве рэўнасных парываў** набожнасці Лютэр нават ставіць знак роўнасці між зямным і вышэйшым* (Інт.). || Назоўнік з прыназоўнікам: *... дзень кірмашны, **на канве** рабінай вышыты* (Л.Геніюш).

**НА ПРЫСМЕРКУ** *чаго* / **НА** *якім* **ПРЫСМЕРКУ** *чаго* / **НА ПРЫСМЕРКУ** Род. ■ *Л.Геніюш, якой наканавана было пайсці з жыцця **на вечаровым прысмерку застойнага часу**, не лекатала перад ўладатрымцамі і чынавенствам, якога б калібру яны ні былі, годна бараніла свае ідэі і перакананні* (М.Мікуліч). || Прыслоўе: *Дахаты прыехалі **на прысмерку**, калі ў вокнах ужо дзе-нідзе гарэла святло* (Інт.).

Магчымасць ужывання рэестравых адзінак у розных функцыях падаецца ў загаловачнай частцы таксама і ў тых выпадках, калі пацвярджальныя кантэксты адсутнічаюць: з аднаго боку, мы палічылі неабходным прадставіць увесь, у тым ліку яшчэ і не рэалізаваны маўленчай практыкай, граматычны патэнцыял такіх адзінак у беларускай мове, з другога, – каб прадэманстраваць, якія тонкія граматычныя нюансы ўсталёўваюць моўцы ў сваёй маўленчай дзейнасці і якой гнуткай з'яўляецца сістэма беларускай мовы, каб адпавядаць гэтым нюансіроўкам.

**5. Структура прыназоўнікаў і іх аналагаў** вельмі неаднародная, таму яе маніфестацыя ў Рэестры таксама не аднолькавая. Навуковая фразеалогія кожнай асобнай прадметнай галіны ведаў мае сваю клішаваную структуру сінтаксем, часта вельмі ўскладненых. У Рэестры адзначаны наступныя выпадкі шматслоўных фармантаў сінтаксем.

1) Прыназоўнік складаецца з дзвюх і больш частак і фарміруе ўскладненую сінтаксему з некалькімі лексічнымі кампанентамі. Кожная частка фарманта падаецца вялікімі літарамі тлустым шрыфтам са сваім пытальным словам, а склоны кожнага лексічнага кампанента ўказваюцца праз злучок:

**НА АДЛЕГЛАСЦІ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* **АД** *чаго* Род.-Род.-Род. *Арлан-белахвост гняздуецца* ***на адлегласці ад 300 м да 3 км ад*** *асноўных кармавых* ***вадаёмаў*** (падручн.).

2) Слова ці некалькі слоў, пастаянна ўжывальныя толькі ў пэўнай сінтаксеме з пэўным значэннем. Гэта могуць быць канкрэтызатары, якія маюць як вербальнае, так і графічнае выражэнне: параўн.: *пры тэмпературы +23* ***°С*** */ пры тэмпературы* ***плюс*** *23* ***°С*** */ пры тэмпературы* ***плюс*** *23* ***градусы па Цэльсію*** */ пры* ***плюсавой*** *тэмпературы 23* ***градусы*** */ пры тэмпературы 23* ***градусы вышэй нуля.*** У выказваннях з колькаснымі характарыстыкамі параметраў аб'ектаў дыменсіўную сінтаксему можа разрываць імя аб'екта, параметр якога называецца: *пры тэмпературы* ***цела*** *38°; на вышыні* ***палёту*** *да 12 км* і інш. Такім чынам утвараецца сінтаксемны комплекс, звязаны ў адно тэрміналагічнае цэлае. Часта ўжыванне імені аб'екта звязана з аманімічнымі назвамі характарыстык розных аб'ектаў і рознымі адзінкамі іх вымярэння. Такія неабходныя і пастаянныя ў пэўных сінтаксемах кампаненты падаюцца ў сінтаксемах таксама тлустым шрыфтам, а іх факультатыўная варыянтнасць бярэцца ў дужкі пры падачы загаловачнага слова. Напрыклад: **ПРЫ ТАЎШЧЫНІ (чаго)** *колькі адзінак Затое і якасць дарожнага пакрыцця выдае адпаведную, і прадукцыйнасць – 600 тон асфальтабетону ў гадзіну* ***пры таўшчыні слоя 10 сантыметраў*** («Звязда», 28.01.05). *У Хірасіме захворвальнасць лейкозамі падвоілася* ***пры дозах ад 10 да 50 бэр апраменьвання****, у Нагасакі – пры дозах звыш 100 бэр* (Асновы мед. ведаў).

3) У склад загаловачнай адзінкі ўводзяцца кампаненты, якія пад уплывам пастаяннага ўжывання фактычна ўтвараюць новыя рэляцыйныя адзінкі, ад чаго змяняецца і характар саміх сінтаксем. Структурныя варыянты, што розняцца па апошняму кампаненту, падаюцца ў межах артыкула да агульнага загаловачнага слова малымі літарамі тлустым шрыфтам, а кожны падзагаловачны артыкул маркіруецца з абзаца кружком:

**ПАД ЧАС** *чаго* / **ПАД той/гэты ЧАС** Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Мужыкі з ахвотай (пакуль не пачалася гужавая павіннасць* ***пад час вайны****) наймаліся на розныя работы* (І.Чыгрынаў).

· **Пад час адсутнасці** *каго* Род. *Зрабіць вобыск* ***пад час адсутнасці гаспадара*** *кватэры.*

· **Пад час знаходжання на** *чым*

· **Пад час знаходжання ў** *чым* Месн. Тэмпаратыў – таксіс адначасовасці: ***Пад час знаходжання ў Беларусі*** *патрыярх Алексій II наведаў Жыровічы* (Інт.).

· **Пад час праверкі** *чаго* Род. Тэмпаратыў – таксіс адначасовасці: *І* ***пад час праверкі дакументаў*** *ужо пералічваюць: прайшло з пачатку году 36 тыдняў, значыць, у тваіх паперах мусіць быць 36 подпісаў* (У. Ісаенка).

4) У Рэестр уключаны адзінкі, у склад якіх ўваходзіць некалькі слоў, эквівалентных рускаму кампаратыву з семантыкай стараны свету, які (кампаратыў) кіруе ў рускай мове родным склонам; параўн.: рус. *Граница проходит в 40 км* ***западнее*** *Гродно. – Мяжа праходзіць у 40 км* ***на захад ад*** *Гродна.*

5) У склад прыназоўнікавых адзінак уваходзяць і злучнікі, калі гэтага патрабуе склонавая форма і значэнне сінтаксемы; напрыклад:

**МІЖ-4** *чаго* **І** *чаго* Род-Род. адз. і мн.л. Прастор.: лакатыў: *Спасцярожліва ідуць Нупрэй і дзед Талаш праз лес, прабіраюцца праз зараснікі балот, праходзяць бязлюдныя паляны* ***між лесу і балот*** (Я.Колас: ТСБПШ).

**6. Пазіцыя прыназоўніка** адносна лексічнага кампанента сінтаксемы ўказваецца (калі яна факультатыўная) магчымымі варыянтамі загаловачнага слова (праз касую рысу разам з пытальнымі словамі) або, калі яна фіксаваная, дадаткова вербалізуецца пасля ўказання склону. Напрыклад:

**ПАД БОКАМ У** *каго* / **У** *каго* **ПАД БОКАМ / ПАД** *чыім* **БОКАМ** Род. Суб'ектны лакатыў: ***У вас пад бокам*** *тоіцца атрад ... А вы спакойна седзіце ў палацах* (П.Глебка).

*няма/не мае* **ПА²** *што* Він./Месн. Інтэрпаз. У аналітычных адмоўных спалучэннях: *няма* ***па*** *што, няма* ***па*** *чым.*

**7. Характар (значэнне, дэнататыўная роля) сінтаксемы** падаецца пасля ўказання на кіраванне і іншыя (калі трэба) граматычныя прызнакі назоўніка. Звычайна ўказваецца значэнне свабоднай сінтаксемы (паводле прынятай у камунікатыўным сінтаксісе тэрміналогіі, якая прыводзіцца ў Дадатку 2), але маўленчая практыка і пошук рускага эквівалента патрабуюць большай семантычнай дыферэнцыяцыі сінтаксемы з улікам яе сінтаксічнай пазіцыі ў выказванні. Таму ў рэестравым артыкуле двукроп’ем пазначаюцца больш канкрэтызаваныя значэнні, а пры далейшай канкрэтызацыі семантыкі паказчык новай ступені падаецца праз дэфіс ці каментуецца апісальна:

**НА КРАЙ** *чаго* / **НА самы КРАЙ** *чаго* / **НА** *які* **КРАЙ** *чаго* / **НА** *які* **КРАЙ** Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Добра ўтаптаная сцяжынка вывела іх **на край бульбянага поля*** (В.Быкаў).

**ПЛОШЧАЙ НЕ МЕНШ ЧЫМ** *колькі адзінак* Він./Наз. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Каб выканаць гэту задачу, архітэктарам трэба дадаткова асвоіць тэрыторыю **плошчай не менш чым 42 тысячы гектараў*** («Звязда», 12.02.05).

Гіперроля сінтаксемы, г.зн. калі ў ёй сінкрэтызаваныя некалькі значэнняў, указваецца знакам +; напрыклад:

**НА МЕСЦЫ-2** *каго/чаго* Род. Рэлят замены + лакатыў: ***На месцы ўзмежка** саду з крапівой кусліваей Цяпер гародчык быў маленькі і стракаты* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля).

**ПАСЛЯ АПУБЛІКАВАННЯ** *чаго* Род. Ускладн. Час.: тэмпаратыў + прэдыкат экзістэнцыі: *Ужо цяпер, **пасля апублікавання** ў перыёдыцы першых **кніг** гэтых раманаў, я не знаходжу пакуль што падстаў лічыць іх значнымі літаратурнымі з'явамі* (Я.Брыль).

**8. Левая валентнасць прыназоўніка.** Паводле спалучэння з левай валентнасцю прыназоўніка (прэдыкатам, кіруючым словам) улічваюцца два фактары. Па-першае, канкрэтна называюцца слова ці група слоў, значэнне якіх патрабуе пэўнага слова ці формы, прычым маюцца на ўвазе толькі тыя выпадкі, калі яны носяць спецыфічны (у межах беларускай мовы ці ў параўнанні з рускай мовай) характар; напрыклад:

**НА[1]-2** *каго/што* Він. Намінат; пасля дзеяслова *казаць* у значэнні ‘называць’: ***На малькоў ды малёчкаў** у нашым Загоры казалі аўсючкі* (Я.Брыль). ***На рыбу** кажуць, што яна не здохла, а заснула* (Я.Брыль). // *– Ах ты, стары пёс, калі ж я **на цябе** казаў сабака?* Рус. ***о** ком/чем говорить, что ...;* Він. *кого/что называть кем/чем.*

Па-другое, значэнне тога ці іншага кіруючага слова ўказваецца і пры семантызацыі сінтаксемы, калі гэты фактар абумоўлівае семантыку сінтаксемы:

**НА[1]-1** *каго/што* Він. Адрасат негатыўнай інтэнцыі: *Пакрыкваць **на каня**. Маці яшчэ з-за парога накрычыць **на Алёшу,** што ён аблыхаў з раніцы, як сабака, усю вёску* (І.Пташнікаў). ***На пахілых** і сабакі брэшуць зласней і гарэй* (Я.Колас).

**9. Правая валентнасць прыназоўніка** таксама ўключае ў сябе некалькі падпараметраў.

1) Даецца ўказанне на тое, з якімі часцінамі мовы можа ўжывацца той ці іншы прыназоўнік. Калі такой адзінай часцінай мовы з’яўляецца назоўнік, то ўскосна на гэта паказвае пытальнае слова (займеннік). Іншыя часціны мовы (лічэбнік, прыметнік, другія разрады

займенніка, інфінітыў, прыслоўе) ўказваюцца па-markdown рознаму ў залежнасці ад асаблівасцей такога ўжывання: а) часціна мовы называецца адразу пасля пытальнага слова (інфінітыў, прыслоўе); б) даецца пералік усіх магчымых для спалучальнасці з дадзеным прыназоўнікам часцін мовы (звычайна для спецыфічных выпадкаў); в) прыводзіцца максімальна поўны корпус кантэкстаў з рознай правай валентнасцю прыназоўніка; г) асобна ўказваецца немагчымасць ужывання прыназоўніка з анафарай (асабовым займеннікам (тыпу *Прыйсці ў чацвер*, але не *Прыйсці *у яго*). Прывядзем некалькі прыкладаў:

**НА[1]-65** *калі* З прыслоўем. Час.: тэрмінатыў: *У лінгвістыцы тэксту* ***на сёння*** *наглядна вылучаюць два асноўныя напрамкі* (В.І.Іўчанкаў). *Пан Войскі, адкладзіце вашы нагаворы* ***На потым*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *А мы разумеем паглядам і думаем дотыкам і адкладаем* ***на потым*** *сябе, каб зноў бясконцае мноства разоў вяртацца* (А.Разанаў). *І як многа дзе не паспяваеш, адкладваеш* ***на потым****, а то і прабягаеш, праходзіш міма ...* (М.Пазнякоў). ***На калі*** *прызначаны збор атрада Зорына ў лесе?* (І.Гурскі). ***На пазаўтра,*** *як я ўстаў, увесь горад аблятаў* (К.Крапіва: ППШ). // *А ацьмакі трэба* ***на зараз.*** || Прыстаўка ў прыслоўі: *Робіць як* ***назаўтра****.* Рус. ***на*** *когда.*

**НА[1]-70** *што/які тэрмін/як доўга* Він./З прыслоўем. Час.: дымесіў-патэнсіў; з назоўнікамі і колькасна-іменнымі спалучэннямі: *Гарчычнікі акунаюць* ***на 5-7 секунд*** *у цёплую ваду і* ***на 5-15 хвілін*** *гарчычным бокам прыкладваюць да скуры* (Асновы мед. ведаў). *Пасля таго было нам* ***на ўвесь вечар*** *смеху* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Гаворка – вецер, ёй канца* ***на век*** *не будзе* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Мы з таго пакалення, з кагорты байцоў, ні* ***на хвілю*** *не можам мы вешаць галоў* (А.Куляшоў). *У Вепрах Саўка запыніўся* ***на некаторы час*** (Я.Колас). *На млын трэба завезці не дзесяць пудоў, а дзве-тры тоны. Каб хапіла атраду* ***на зіму*** (І.Шамякін). *І* ***на вячніны вячнін*** (Р.Барадулін). ***На крыху*** *ўстанавілася цішыня* (Я.Скрыган: ППШ). // *Дала баба зарок* ***на рок.*** *Згода* ***на тры года.*** ◊ ***На векі*** *вякоў!* ***На векі вечныя! На ўсе вякі. На век вякоў****.* ━ *На камені руін тваіх адбіты* ***на вечныя вякі*** *смерці і пакуты, Хірасіма* (С.Дзяргай). Рус. ***на*** *что/какой срок.*

2) Улічваецца, а пры неабходнасці і больш канкрэтызуецца, семантыка лексічнага кампанента сінтаксемы, г.зн. кіруемага слова, паколькі гэты фактар уплывае на значэнне сінтаксемы ў цэлым:

**НА[1]-12** *што* Він. Аб'ектн.: нерухомы інструментыў: *Натыкацца* ***на мэблю****.Накалоцца* ***на*** *іржавы* ***цвік.*** ━ *І дзе ён ні павернецца, то ўсюды так ці іначай натыкаецца* ***на праклятае палена*** (Я.Колас).

**НА²-3** *чым* Месн. Прастор.: лакатыў паводле свету, дзяржавы, краю: ***На Беларусі*** *свет-заранiцы Нясуць у неба званы журбы.* ***На Беларусі*** *мае бажнiцы, Аб Беларусі мае мальбы* (Л.Паўлікава). ***На Беларусі*** *ўсе Марусі* (нар.).

**НА¹-20** *што* Він. Рубрыкатыў: пасля дзеяслова *хварэць,* яго дэрыватаў і сінонімаў; з намінацыямі хваробы або хворага органа: *Ужо значна ачуняў, ужо не мучыўся* ***на жывот,*** *не млеў* (М.Гарэцкі). *Меншы ўнук захварэў* ***на лёгкія*** (М.Сердзюкоў).

3) Выпадкі рэдукцыі назоўніка – лексічнага кампанента сінтаксемы падаюцца ў Рэестры пасля знака ▶ з падкрэсліваннем, антэцэдэнтнай лексемы, калі яна ёсць. Прыназоўнікавая функцыя амбівалентных прыслоўяў таксама пазначаецца як рэдукцыя склонавай формы пры іх:

**НАПРОЦІЎ** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Вінцусь Шавель прысеў* ***напроціў Платовіча*** *і неадхільна на яго глядзеў* (Ц.Гартны). ▶***Назву*** *ён* [Сямён Парфёнавіч] *злосна падкрэсліў тоўстым карычневым алоўкам і паставіў* ***напроціў*** *на полі тоўсты клічнік* (І.Шамякін).

**НА РАГУ** *чаго* / **НА** *якім* **РАГУ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў; звычайна пры назоўніку *вуліца*: *Міця сустрэў Чэсю ... дзе стаялі не дакончаныя дамкі і дзе* ***на рагу вуліц,*** *займаючы шырокі пляц, пакупецку ганарыста рассеўся прыгожы выштукаваны будынак* (В.Адамчык). *Гродзенскі жаночы кляштар св. Брыгіты, што* ***на рагу вуліц*** *К.Маркса (былая Брыгіцкая) і Маладзёжнай (былая Навікоўская) быў заснаваны маршалкам вялікага княства Літоўскага Кшыштафам Весялоўскім і яго жонкай Аляксандрай* (В.Швед). *Тэлефон-аўтамат* ***на рагу дзвюх*** *аціхлых* ***вуліц:*** *перадумвае, што чуў за дзень* (А.Разанаў). ▶ ***На рагу*** *пад каштанамі нейкая жанчына гандлявала марожаным* (В.Быкаў).

**10. Асаблівасці семантыка-сінтаксічнай структуры выказвання** з некаторымі прыназоўнікава-склонавымі сінтаксемамі таксама паказваюцца тлустым курсівам ў тых выпадках, калі яны абумоўліваюць характар сінтаксем. Гэта мае месца,

а) калі дэнататыўная роля і значэнне сінтаксемы патрабуюць абавязковага ўвядзення паміж прыназоўнікам і назоўнікам азначэння:

**НА¹-32** *што* Він. Характарызатар; у спалучэннях з прыметнікам: *Яда* ***на скорую руку.*** *Думаць* ***на свежую галаву.*** *Абуцца* ***на босую нагу.*** *Настроіць думкі* ***на філасофскі лад*** (ППШ). *І цягам доўгія часіны, дзявочыя забыўшы сны, свае шырокія тканіны* ***на лад пярсідскі*** *ткуць яны* (М.Багдановіч).

**НА¹-36** *што* Він. Характарызатар: ступень, мера суперлятыўнасці; у спалучэннях з квантарамі ўсеахопнасці *увесь, цэлы, поўны*

пры назоўніках з часавым і прасторавым значэннямі: *Закрычаць* ***на ўвесь голас***. *Загаласіць* ***на ўсю хату.*** *Адзіны* ***на цэлы свет***. *Ён найдасканалейшым парадкам ведаў тутэйшую мясцовасць* ***на самую шырокую акругу*** (К.Чорны). *У хаце сядзіць чарнявая Сонечка,* ***на поўны рот*** *запіваючы хлеб сырадоем* (Я.Брыль);

б) у выказваннях, сінтаксічная структура якіх мае ідыяматыку паводле камунікатыўнай задачы:

**НА[1]-38** *што* Він. Фінітыўны кампанент у маўленчаэтыкетных і антыэтыкетных формулах: ***На доўгі век, на добрае здароўе****!*

**11. Ілюстрацыі**. Іх, за выключэннем адзінкавых выпадкаў ужывання экзатычнага або пазанарматыўнага характару, даецца некалькі – для доказу нарматыўна-узуснага ўжывання ў маўленчай практыцы. Ілюстрацыйны матэрыял падзелены на тры часткі: для шырока ўжывальных спачатку падаюцца выразы (па-руску – «речения»), потым пасля знаку **━** кантэксты з тэкстаў розных функцыянальных стыляў, узятыя з самых розных крыніц, у тым ліку і з Інтэрнет-рэсурсаў. Паколькі век апошніх у віртуальнай прасторы кароткі, а адрасы доўгія і часта мяняюцца, то для факта фіксацыі маўленчага ўжывання мы палічылі дастатковай проста спасылкі на Інтэрнет. Прыклады, запазычаныя ў П.П.Шубы, пазначаюцца траякім спосабам:

а) П.П.Шуба – калі П.П.Шуба сам з'яўляецца аўтарам кантэкста;

б) ППШ (праз двукроп'е пасля спасылкі на аўтара) – калі прыклад узяты з манаграфіі П.П.Шубы «Прыназоўнік у беларускай мове»: *Стары пакут усіх не знёс, уцёк у лес* ***з сякерай*** *вострай* (М.Чарот: ППШ);

в) ТСБППШ (праз двукроп'е пасля спасылкі на аўтара) – калі прыклад узяты са Слоўніка П.П.Шубы: *Яська – майстар на ўсе рукі як* ***да сярпа****, так і* ***да кнігі*** (Я.Колас: ТСБППШ).

Перакладныя кантэксты суправаджаюцца спасылкамі на аўтара і перакладчыка. Адсутнасць указання на перакладчыка сведчыць, што пераклад наш.

Мы дыстанцыруемся ад зместу кантэкстаў і ад палітычнай ці іншай экстралінгвістычнай арыентацыі крыніц і аўтараў кантэкстаў. Мы можам так не думаць і так не гаварыць, але зафіксаваць моўны факт, ад каго б ён не зыходзіў, – мы павінны, бо святы абавязак лінгвіста – выявіць, зафіксаваць і апісаць маўленчую і моўную з'яву. Мы дазволілі сабе толькі кантэкст, пададзены ў крыніцы арфаграфічна так званай «тарашкевіцай», адаптаваць да прынятых заканадаўствам і існуючых сучасных правіл беларускага правапісу.

Паколькі картатэка кантэкстаў збіралася не адзін год, а першапачаткова і не ставілася мэта складання Рэестра, то спасылкі на крыніцы ў перыядычных выданнях даюцца не аднолькава: у адных вы-

падках указваецца толькі назва перыядычнага выдання, у другіх – і час выдання. Будзем спадзявацца, што чытач не будзе лічыць гэта вялікай заганай: усё ж мы падаём не слоўнік, а толькі матэрыялы да яго, тым больш што ўсе кантэксты, акрамя выразаў, узятыя з сапраўдных крыніц, а значыць носяць аб’ектыўны характар. Навуковыя тэксты ў большасці выпадкаў падаюцца са спасылкай толькі на стыль – навуковы (нав.), вучэбныя тэксты – на падручнік (падручн.).

Паколькі наш Рэестр не з'яўляецца нарматыўным слоўнікам, то мы палічылі таксама магчымым зафіксаваць і выпадкі адыходу ад нормаў ўжывання прыназоўнікаў – русізмы, паланізмы, прастамоўныя і дыялектныя адзінкі, факты маўлення прадстаўнікоў беларускай дыяспары, аказіяналізмы, аўтарскія наватворы і інш., каб прадставіць усю жывую стыхію нацыянальнай беларускай мовы, прыназоўнікавая сістэма якой пульсуе, узаемадзейнічае з суседнімі моўнымі сістэмамі, перапрацоўвае запазычаныя ў іх сродкі і застаецца разам з тым у межах сваёй нацыянальнай плыні.

Трэцюю частку ілюстрацыйнага матэрыялу, аддзеленую ад папярэдніх кантэкстаў знакам // (дзвюма касымі рысамі), складаюць народныя (фальклорныя і парэмійныя) кантэксты – выслоўі, прыказкі, прымаўкі, жарты і іншыя выказванні з беларускага народнага маўлення.

Натуральна, далёка не ўсе артыкулы Рэестра ўтрымліваюць усе тры часткі; найбольш поўныя ілюстрацыі маюць невытворныя прыназоўнікі. Усе ілюстрацыі падаюцца курсівам, сінтаксемы выдзелены тлустым курсівам, прычым у межы сінтаксемы ўключаюцца нярэдка і прыметнікі, калі без уліку апошніх страчваецца інфармацыйна-сэнсавая паўната ці мастацкая вобразнасць сінтаксемы. Напрыклад:

**З АДДАЛЕНАСЦІ** *чаго* Род. Час.: дырэктыў-старт: *Плыве ён* (касцёльны звон) *прыглушанымі гукамі, нібы* ***з аддаленасці сівых вякоў*** (З.Бядуля).

Наватворы не знайшлі адлюстравання ў парэміях, а выразы не сустракаюцца ў ілюстрацыях да аказіянальных адзінак і тэрмінаў.

Знакам ромба ◊ пазначаюцца фразеалагізмы, пасля якіх пры магчымасці пасля знаку ▬ даецца і кантэкст:

**НА¹-24** *што* Він. Рубрыкатар характарызацыі: *Прыгожы* ***на твар****.* ***На выгляд*** *непрыгожы, але душа добрая. Кіслы* ***на смак****.* ▬ *Ён паказаў рукамі на поўныя шклянкі, а тады перанёс адну асцярожна цераз увесь стол, каб не скрануць кволы нават* ***на вока*** *каптарок, і паставіў перад Рахімам* (І.Чыгрынаў). // *Вылечыўся* ***на адзін бок. ****Мусіць ты глухі* ***на адно вуха****.* ***На адно вока*** *глухаваты,* ***на адно вуха*** *слепаваты.* ***На першы погляд; на выгляд; на смак*** і інш. ▬ ***На першы погляд****, нічога не здарылася.*

Такім чынам, з улікам граматычных і функцыянальных асаблівасцей загаловачных адзінак, а таксама крыніц кантэкстаў у ілюстратыўнай частцы рэестравага артыкула падаюцца пад адпаведнымі знакамі наступныя кантэксты:

1) Выразы – адразу пасля ўказання на значэнне сінтаксемы.

2) Кантэксты з канкрэтных крыніц – адразу пасля ўказання значэння сінтаксемы ці за выразам пасля знака ▬ .

3) Парэміі – пасля знака //.

4) Кантэкст з рэдукцыяй назоўніка – пад знакам ▶.

5) Кантэкст з іншай, чым прыназоўнікавая, функцыяй загаловачнага слова – пасля знака ||.

6) Кантэкст з прыназоўнікавым спалучэннем пераходнага тыпу, якое дапускае ўключэнне прыметніка, – пасля знака ■.

7) Кантэкст з уключэннем прыметніка, але з утратай прыкмет прыназоўніка – пасля знака ▲.

8) Фразеалагізм з дадзенай адзінкай – пасля ◊.

Паўтор аднаго і таго ж кантэкста сустракаецца, калі ён служыць ілюстрацыяй да рэдкага ўжывання больш чым адной адзінкі.

Адчувальны крэн спасылак на прыклады некаторых аўтараў (Я.Коласа, У.Караткевіча, перакладаў А.Міцкевіча і інш.) тлумачыцца тым, што аўтар мае спецыялізаваную электронную базу даных па гэтых тэкстах для іншых даследчыцкіх мэтаў у галіне прыназоўніка.

**12. Карэляцыя са злучнікамі і злучальнымі словамі,** абумоўленая ізамарфізмам моўных адзінак у сістэме мовы, пазначаецца рознанакіраванымі стрэлкамі ↔, далей прамым тлустым шрыфтам падаецца злучнік, злучальнае слова ці злучальнае спалучэнне, якое па семантыцы выражаемых адносін у складаным сказе эквівалентнае прыназоўнікавай адзінцы ў простым. Пры наяўнасці кантэкста ўжыванне злучальнага сродка складанага сказа ілюструецца кантэкстам, які падаецца праз двукроп'е пасля злучальнага слова. Напрыклад:

**НА ЧАС-2** *чаго* / **НА той/гэты ЧАС** Род. Час.: тэмпаратыў: *Оскар Мацэрат,* ***на час знаёмства*** *з ім пацыент псіхіятрычнай лякарні* (Е.А.Лявонава). *Гасця заўважыў ён у той жа час, вядома, Але не мог яму ў кужэльным паказацца, Дык хуценька тайком пайшоў перапранацца У вопратку, нарыхтаваную ўжо зрання* ***На час вячэры*** *між чужых паноў і паняў* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ▲ *Ён* [Іван Грамовіч] *быў* ***на той час*** *сакратаром рэдакцыі* (С.Кухараў). ↔ **На той час калі***: ... Варшава болей для адводу І асаблівa* ***на той час, Калі*** *выпоўзвае ў абходы, Як злодзей, панскі лабатрас* (Я.Колас). Сін. *у час*. Рус. ***на время***.

Знакі прыпынку, як яны могуць ужывацца ў структуры складанага сказа, у састаўных злучальных сродках, з якімі карэлюе загаловачная адзінка, не падаюцца.

**13. Патэнцыяльныя прыназоўнікі і іх аналагі.** Адзінкі, на ўжыванне якіх у нас няма кантэкста, але сістэма мовы дазваляе іх ўтварыць у адпаведнасці з пэўнай мадэллю, падаюцца ў загаловачнай частцы вялікімі літарамі без тлустага выдзялення з пытальным словам, якое паказвае на склон кіруемага склона (у неатрыбутаваным спісе пытальныя словы апускаюцца). Гэта ў першую чаргу датычыць так званых параметрычных прыназоўнікаў. Найбольш пашыраны спіс гэтых адзінак мы паказалі ў Рэестры на прыкладзе лексемы *аб'ём* у першай частцы, ў астатніх выпадках пададзены далёка не ўсе патэнцыяльныя прыназоўнікі. Стрымлівала гэтую працу і тая акалічнасць, што прыродазнаўчых навуковых тэкстаў на беларускай мове нашмат менш, чым рускамоўных, таму мы спынілі ўвагу толькі на магчымасцях і сістэмнасці ўтварэння параметрычных прыназоўнікаў у беларускай мове.

У некаторых выпадках патэнцыяльныя адзінкі пададзены як калькі з рускіх адпаведнікаў; напрыклад, АГУЛЬНА З *кім/чым*, АГУЛАМ З *кім/чым*.

**14. Лексікаграфічная інтэрпрэтацыя статуса адзінкі,** калі яна ёсць, падаецца адразу пасля кантэкстаў ці ўказання на карэляцыю са злучнікамі і іх аналагамі. Адсутнасць спасылкі адзначае, што ў прыназоўнікавай функцыі гэтая адзінка ў слоўніках не пазначана. Спасылкі ў першую чаргу даюцца на Слоўнік П.П.Шубы (абрэвіятурай ТСБПШ), прычым дваякім спосабам:

а) адразу пасля падачы інварыянтнага загаловачнага слова (для невытворных шматзначных прыназоўнікаў):

З ***ТСБПШ – прыназоўнік;***

б) пасля ілюстратыўнай часткі (для транспанаваных адзінак):

**ДАЛЕЙ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Жыта палавее **далей ад лесу*** – ППШ. *Яна скоранька рушыла далей за фурманкамі, што крута завярнулі ўбок, каб быць **далей ад бяды*** (В.Адамчык). *Вогнішча ён раскладваў **далей ад таго месца, дзе** правёў ноч, каб нельга было заўважыць з узлесся* (І.Чыгрынаў). *Ён думаў, што **далей ад узлеску** хвойнік стане радзейшы* (В.Быкаў). *Кастусь Каліноўскі камандаваў усяго парай дзесяткаў атрадаў, з якіх літаральна некалькі дзейнічалі **далей ад Вільні**, між Менскам і Дняпром* (Інт.). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ.

Даюцца спасылкі і на 5-томны «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» пад абрэвіятурай ТСБМ:

**НАЎКОЛ** *каго/чаго* Род. Прастор.: прамы лакатыў адносна прадмета-локума: ***Наўкол моста*** *чысты, як далонь, луг: не падбярэшся, каб не заўважылі* (Г.Шуцько). *Толькі адно што ён бачыць **наўкол сябе** не сферы, якія **наўкол зямлі**, а паясы кніг, залатыя кнігі з усіх чатырох бакоў вакол яго...* (А.Лойка). Перан. лакатыў адносна абстрактнага локума: *Сашчэплена кола **наўкол маіх лепшых маіх надзей*** (П.Панчанка: ППШ). ТСБМ – прыназ.; ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; размоўн.

Спасылкі на ТСБПШ даюцца толькі па тых значэннях, якія так ці інакш пададзены П.П.Шубам. Яны адсутнічаюць, калі такія значэнні ў згаданым слоўніку не зафіксаваныя. Параўн.:

**ПОБАЧ З-3** *кім/чым* Тв. Рэлят параўнання: *Ён не мог не адчуваць, што **побач з ім** ён, Мусатаў, заўсёды будзе выглядаць, як п'яны капрал* (У.Караткевіч). Сін. *у параўнанні з.* Рус. ***рядом с*** *кем/чем.*

**ПОБАЧ З-4** *чым* Тв. Час.: рэлят адначасовасці: ***Побач з працай над дыялекталагічным атласам*** *праводзілася манаграфічнае апісанне і вывучэнне беларускіх дыялектаў* (М.Суднік). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Сін. *адначасова з.* Рус. ***вместе с*** *чем.*

Наша трактоўка лінгвістычнага статусу адзінкі не даецца, бо гэта не ўваходзіла пакуль што ў задачы Рэестра, які ў першую чаргу з'яўляецца фактам фіксацыі маўлення і матэрыяламі для даследаванняў, а не нарматыўным слоўнікам.

**15. Паметы**, узятыя са Слоўніка П.П.Шубы, указваюцца ў адным сказе са спасылкай на згаданы слоўнік:

**НАВОДДАЛЕК** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Вецер як бы пачаў сціхаць, і з-за чорных абрысаў, **наводдалек – ці то нізкага лесу, ці то высокіх будынкаў**, – чулася часамі флейта, скрыпка* (К.Чорны). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; размоўн.

Спіс нашых памет пашыраецца за кошт ўжытых аказіянальна, за кошт клішаваных паводле той ці іншай прадметнай галіны (Ваен. клішэ; Афіц. клішэ), а таксама за кошт тэрмінаў (Фіз.; Матэм.). Нашы паметы падаюцца з новага сказа пасля кантэкстаў або, калі яны ёсць, пасля лексікаграфічных звестак:

**НА КРЫЛЕ** *каго/чаго* Род. Прастора: лакатыў: *Інакш началася бітва **на крыле татараў*** (К.Тарасаў). Аказіян.

**НА ЛІНІЮ-1** *што – што – што...* Наз. Анамасіятыў: *Савецкія войскі ў перыяд з 23 чэрвеня па 4 ліпеня разбілі сілы фашысцкае групы армій «Цэнтр» у раёнах Віцебска, Оршы,Магілёва, Бабруйска, акружылі на ўсход ад Мінска больш чым стотысячную групоўку ворага і выйшлі **на лінію возера Нарач, Маладзечна, Стаўбцы, Нясвіж*** (У.А.Нядзелька). Ваен. клішэ.

Дыялектызмы даюцца асобнай загаловачнай адзінкай, паколькі ў іх можа назірацца аманімія; у якасці сіноніма прыводзіцца літаратурны варыянт:

**НЫ** Фанетычны варыянт **НА**. *Ужо вербіч* ***ны дваре****, чіряз тыдзень будзіць вербныя нядзеля* (дыял.; Клім.).

Памета «Ускладн.» сведчыць, што сінтаксема мае ўскладнены характар; напрыклад, у састаўных прыназоўніках выразна праяўляюцца розныя функцыі іх складнікаў, ці адзін са складнікаў мае выразнае намінатыўнае значэнне, ці прыназоўнікавае спалучэнне складаецца з некалькіх дыстантна расстаўленых, але семантычна і сінтаксічна звязаных частак.

**16.** Пасля памет у Рэестры падаюцца, дзе гэта магчыма, **антонімы,** якія выконваюць дыягнастычную функцыю і дапамагаюць выяўленню сістэмнасці катэгорыі прыназоўніка:

**НАПЕРАД У** *што* Він. Ускладн. Аб'ектны дырэктыў-фініш: *Але сапраўдны чалавек – гэта суцэльнае адхіленне ад нормы, ад «галоўна-стрыжнявога працэсу», а паталогія – магутны рухавік праграэсу, няспыннага руху* ***наперад у невядомасць****, ролю якой звычайна выконвае будучыня* (В. Аўраменка). Ант. *назад з*.

Кантэксты з антонімамі ў Рэестры не падаюцца, паколькі апошнія атрымалі атрыбуцыю ў тых артыкулах Рэестра, дзе яны выступаюць загаловачнымі адзінкамі.

**17. Сінонімы** выконваюць у працы над прыназоўнікамі некалькі функцый:

а) іх падбор папаўняе спіс адзінак Рэестра;

б) яны, асабліва невытворныя прыназоўнікі, ўскосна сведчаць аб рэляцыйнай функцыі вытворнай адзінкі, з якой яны ўступаюць у сінанімічныя адносіны, і таму, як паказваюць прыведзеныя вышэй і ніжэй прыклады, праяўляюць дыягнастычны характар пры семантызацыі сінтаксемы:

**НА БАКУ-1** *чаго /* **НА** *якім/***правым/левым/тым/гэтым/процілеглым БАКУ** *чаго* / **НА БАКУ** Род. Прасторав.: лакатыў: *Сітуацыя была яшчэ тая: амаль усю пяхоту павыбівала, а* ***на баку немцаў*** *бурчэлі «тыгры»* («Звязда», 28.04.05). Сін. *у*.

**НА БАКУ-2** *каго/чаго* Род. Рэлятыў: камітататыў: *І яшчэ Сяргей Віктаравіч пацікавіўся, чаму я не* ***на баку мясцовай улады*** («Чырвоная змена», 15.04.05). *Беларусы былі праваслаўнымі, іхняе спачуванне рускім як аднаверцам вылілася ў рашучае нежаданне секчыся* ***на баку Мамая*** (К.Тарасаў). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Сін. *разам з*.

Кантэксты з сінанімічнымі адзінкамі не падаюцца па той жа прычыне, што і антонімы.

**18. Рускія адпаведнікі.** Увядзенне гэтага параметра патрабавалі задачы нашага даследавання ў межах двухбаковага праекта – супаставіць аб'ёмы і структуру прыназоўнікавых сістэм абедзвюх моў. Разам з тым ужо сам факт падбору рускага эквівалента значна павялічваў і колькасць беларускіх адзінак, а інтраспектыўны метад узаемаперакладу беларускіх і рускіх кантэкстаў дазволіў правільна вызначыць і характар сінтаксемы.

Рускі эквівалент падаецца тлустым курсівам у самым канцы рэестравага артыкула. Паколькі паміж рускай і беларускай мовамі існуюць значныя разыходжанні ў склонавым кіраванні, то дзеля зручнасці карыстання Рэестрам з боку носьбітаў рускай мовы склон пры рускім эквіваленце паказвае пытальнае слова, пададзенае нятлустым курсівам; дзеля большай яснасці пры неабходнасці даецца кароткі прыклад:

**НАЎКРУГ** *каго/чаго* Род. Характарызатар: дырэктыў/лакатыў: *Дарога абвіваецца* ***наўкруг курганоў*** (ППШ). *Калі Варанецкі скончыў, Парамонаў устаў і захадзіў па пакоі* ***наўкруг стала*** (І.Дуброўскі). *Дрэвы ўтваралі зялёную агароджу* ***наўкруг усяго парку*** (А.Чарнышэвіч). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; размоўн. Сін. *вакол; кругом*. Рус. ***вокруг*** *чего*.

**У рэестр, дадатковы да першай часткі кнігі,** уключаліся:

а) адзінкі, якія у рэестры першай часткі ў дыяпазоне А-Л адсутнічаюць:

**БОЛЕЙ ЧЫМ ПА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў-дыстрыбутыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Украіна і Расія паведамілі, што ў іх загінулі ад абмаражэння* ***болей чым па 50 чалавек*** (Інт.). Сін. *больш чым па.* Рус. ***более чем по*** *сколько единиц;*

б) рэдкія прыназоўнікі ці іх аналагі, да якіх у першай частцы не давалася кантэкстаў зусім або яны меліся ў адзінкавым ужыванні. Трэба магчыма поўная калекцыя такіх канстэктаў для вызначэння сінтаксічных пазіцый сінтаксем, для далейшага больш дэтальнага выяўлення семантычных магчымасцей такіх сродкаў, для прагнозу іх будучага жыцця ў камунікацыі на гэтай мове:

**БЛІЗ** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *На Кобрыншчыне два шматвяковыя волаты –* ***бліз Дзівіна*** *і каля Крупчыцкага поля бою (цяпер Жабінкаўскі раён) – называюцца «Сувораўскімі дубамі»* («Родны край», 2009);

в) патэнцыяльныя адзінкі, якія суадносяцца з рускімі ўжывальнымі, накшталт АНТАГАНІСТЫЧНА *чаму* (рус. ***антагонистично***

***к*** *чему*), паколькі сістэмнасць і словаўтваральныя магчымасці беларускай мовы дазваляюць гэта;

г) варыянты (графічныя, фанетычныя), якія адсутнічалі ў першай частцы**: ВАЧЫМА / ВАЧМІ** *каго*...;

д) значэнні адзінак, не пададзеныя ў першай частцы:

**А$^{2}$-3** *чым* Тв. Час.: тэмпаратыў: ***А шарай гадзінай*** *ён запрог каня, скінуў на воз мех жытняе мукі, торбу ячнае шатраванкі і паехаў з ёю у мястэчка – павёз на станцыю* (В.Адамчык). Сін. – Тв. без прыназоўніка: *шараю гадзінай.* Рус. ***в*** *сумерки;*

**ВА ЎЗРОСЦЕ-2** *каго* Род. Рэлят прыраўнівання: *Архірэй быў* ***ва ўзросце Францішкавага бацькі*** (А.Лойка). Сін. *веку.* Рус. ***в возрасте*** *кого;*

е) варыянты кантэкстаў (назоўнікаў – лексічных кампанентаў сінтаксемы):

**ЗА$^{3}$-11** *кім/чым* Тв. Тэмпаратыў па вызначальных для гэтага часу падзеям, асобе: *Маўляў, яшчэ* ***за далёкім прыгонам****, калі Расеяй правіла Кацярына-царыца, здаралася ехаць тут царскаму поезду з Пецярбурга ў Таўрыду* (І.Чыгрынаў);

ж) той ці іншы параметр, адсутны ў адпаведным артыкуле Рэестра першай часткі – сінонімы, антонімы, фразеалагізмы з прыназоўнікамі, злучнікі і злучальныя словы, з якімі карэлююць фарманты сінтаксем, і прыклады з карэлятыўным злкучнікам, аманімічныя часціны мовы і г.д.:

**ЗА КОШТ-2** *чаго* Род. Характарызатар-спосаб: ↔ **За кошт чаго; за кошт якога/ой/іх...:** *Вызначыць,* ***за кошт якіх механізмаў*** *ці* ***хімічных рэчываў*** *адбываецца працэс тэлепатыі, пакуль не атрымалася* («Звязда», 17.01.08). Рус. ***за счет*** *чего/какого/ой/их...*

**ЗАМІЖ** ↔ **Заміж таго каб.** *Навошта я абзавёўся такім спадарожнікам, які,* ***заміж таго каб*** *даваць палёгку, абцяжарвае мяне ?* (Інт.);

**ЗА МЯЖОЙ** *чаго* Род. Рэлят выключэння: *Быць за мяжой магчымага.* ▬ ◊ ***За мяжой*** – у замежных дзяржавах. Рус. ***за пределами*** *чего.* ◊ ***За границей; за рубежом;***

з) кантэксты да тых адзінак, якія ў першай частцы былі пазначаны як патэнцыяльныя:

**ЗЗАДУ Ў$^{1}$** *што* Він. Дырэктыўны аб'ектыў: *Яўхім пачакаў, калі бацька загадае ехаць, – упёршыся* ***ззаду ў снапы****, памог каню крануць воз, пасля таго як воз крактануў, хітнуўся, рушыў, яшчэ некалькі крокаў прайшоў услед, усё памагаючы плячом* (І.Мележ). Рус. ***сзади во*** *что;*

і) больш дакладныя семантычныя характарыстыкі сінтаксем, іншыя папраўкі і дапаўненні:

**З-ПАД ПЯРА** *каго* / **З-ПАД** *якога* **ПЯРА** *каго* / **З-ПАД** *чыйго* **ПЯРА** Род. Суб'ектн.: агенс + інструментыў + пасесіў: *Таксама **з-пад пяра А.Луцкевіча** выйшлі рэцэнзіі і артыкулы пра творчасць В.Дуніна-Марцінкевіча* («Родны край», 2009). ▶ *Пад той час **з-пад пяра** выходзілі не толькі, як кажуць, сур'ёзныя апавяданні, але і гумарэскі і фельетоны* (С.Кухараў). Сін. *аўтарства.* Рус. ***из-под пера** кого.*

**ЗА КОШТ-2** *чаго* Род. Характарызатар-спосаб: ↔ **За кошт чаго; за кошт якога/ой/іх...:** *Вызначыць, **за кошт якіх механізмаў** ці **хімічных рэчываў** адбываецца працэс тэлепатыі, пакуль не атрымалася* («Звязда», 17.01.08). Рус. ***за счет** чего/какого/ой/их...*

Ва ўсіх выпадках у дадатку захоўваўся той жа знешні выгляд (роўна як і нумарацыя і індэксацыя) адзінкі, як і ў першай частцы.

Аўтар выказвае шчырую падзяку доктару філалагічных навук, прафесару Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта імя М.В.Ламаносава (Масква, Расія) Маі Уладзіміраўне Ўсеваладавай за тэарэтычнае і метадалагічнае кіраўніцтва ў працы над катэгорыяй прыназоўніка як моўнага феномена, за яе слушныя заўвагі і парады як рэцэнзента ўсіх трох частак нашай кнігі, а яшчэ больш – за сяброўскую падтрымку і тое натхненне, з якім працавалася ўсім распрацоўшчыкам праекта пад яе мудрым кіраўніцтвам.

Такія ж сардэчныя словы падзякі ўсяму калектыву маскоўскіх вучоных – распрацоўшчыкаў праекта – дактарам філалагічных навук, прафесарам Анатолю Анатольевічу Палікарпаву, Вользе Уладзіміраўне Кукушкінай, Яўгену Васільевічу Клабукову за шчасце інтэлектуальных ўзаемін і супольнага пошуку навуковай ісціны.

Мая вялікая ўдзячнасць кандыдату філалагічных навук дацэнту Беларускага дзяржаўнага універсітэта Сяргею Аляксандравічу Важніку, разам з якім аўтар пачынаў гэтую працу, які прадэманстраваў на канкрэтным фрагменце сваю інтэрпрэтацыю атрыбуцыі беларускага прыназоўніка і з якім у аўтара працягваюцца плённыя навуковыя і сяброўскія сувязі.

Выказваю сваю сардэчную ўдзячнасць доктару філалагічных навук, прафесару, загадчыку кафедры ўкраінскай мовы Данецкага нацыянальнага універсітэта (Данецк, Украіна) Анатолю Апанасавічу Загнітку, кіраўніку ўкраінскай групы праекта, за высокі плён нашых навуковых стасункаў у даследаванні славянскага прыназоўніка і за тую высокую ацэнку гэтай працы, якую ён даў у сваёй рэцэнзіі на яе. Вялікі дзякуй А.А.Загнітку і яго вучням за салідарнасць

у навуковых поглядах аўтара і яго вучняў на прыназоўнік і за тую шырокую інфармацыйную прастору, якую адкрылі ўкраінскія калегі для гродзенскіх даследчыкаў.

Выказваю словы падзякі рэцэнзенту доктару філалагічных навук, прафесару Мінскага лінгвістычнага універсітэта Наталлі Юр'еўне Паўлоўскай за высокую ацэнку кнігі і за тыя карысныя парады і заўвагі, якія дапамаглі ўдасканаліць яе змест.

Шчырая ўдзячнасць прафесару Чэславу Ляхуру (Аполе, Польшча) – за навуковую салідарнасць, падтрымку і кнігі (яго і яго польскіх калег) у галіне прыназоўніка, дзякуючы якім мы ўмацаваліся ў сваіх навуковых высновах. Шчыры дзякуй адрасую прафесару Г.Н.Гочаву (Балгарыя, Вяліка Търнава), што арганізаваў асобнай кнігай публікацыю апошніх вынікаў міжнароднага праекта і тым самым пазнаёміў нас з распрацоўкамі балгарскіх вучоных, забяспечыў абмен нашымі навуковымі дасягненнямі і пашырыў інфармацыйнае поле нашага праекта.

Вынікі працы над Рэестрам не былі б такімі паспяховымі, каб аўтар не адчуваў канкрэтную дапамогу і падтрымку членаў гродзенскай групы выканаўцаў праекта – і ў камп'ютарным забеспячэнні даследавання (А.Ю. Станкевіч), і ў пошуках патрэбных кантэкстаў (І.А. Усачэнка, А.А. Ткачэнка, Ю.П. Вішняк, В.С. Копач), і ў далейшым развіцці і распрацоўцы ідэй аўтара ў сваіх дысертацыйных даследаваннях – магістарскіх (А.Г. Мікалаенка, Л.В. Пляшкова/Аліхвер), кандыдацкіх (А.У. Сянцябава).

# Р Э Е С Т Р

## М

МАГНІТУДАЙ *колькі адзінак*

**МАГНІТУДАЙ АД** *кольких адзінак* **ДА** *кольких адзінак* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *21 верасня 2004 года ў Калінінградзе адбыўся землятрус* ***магнітудай ад 4.5 да 5,5 балаў*** *па шкале Рыхтара* (газ.). Рус. ***магнитудой от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**МАГНІТУДЫ** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: ■*Йелаўстон з'яўляецца г. зв. «звыш-вулканам», вулканічнай сістэмай, здольнай на вывяржэнні* ***найбольшай магчымай*** *на Зямлі* ***магнітуды VEI 8*** (Інт.). Рус. ***магнитуды*** *сколько единиц.*

**МАГУТНАСЦЮ** *колькі адзінак* / **агульнай МАГУТНАСЦЮ** *колькі адзінак* / *якой* **МАГУТНАСЦЮ** Наз./Він. Дыменсіў: *Разам з гэтым на ММЗ выконваюць і заданне Прэзідэнта распрацаваць новыя рухавікі* ***магутнасцю 300 і 350 конскіх сіл*** («Народная газета», 9.02.05). *Колькі трэба дыёдаў Д243Б* ***з параметрамі ...*** *і як скласці схему двухпаўперыяднага выпрамніка з сярэднім пунктам, каб сілкаваць прыёмнік* ***магутнасцю Р0 = 300 Вт*** *пры напружанні?* (падручн.). *Даліва-Дабравольскі з трыумфам прадэманстраваў перадачу трохфазнага пераменнага току напружаннем 15 кВ і* ***магутнасцю 220,8 кВт*** *ад Лауфенскага вадападу на адлегласць 175 км з каэфіцыентам карыснага дзеяння 77,4 %* (падручн.). *Грузавік аснашчаны яраслаўскім рухавіком* ***магутнасцю 600 конскіх сіл*** («Звязда»). *Наступная ў прадстаўленай сёлета лінейцы мадэляў машына маркі «Беларус-2022.3»* ***магутнасцю 210 к.с.*** («Звязда»,9.06.05). Рус. ***мощностью*** *сколько единиц.*

МАГУТНАСЦЮ АД *кольких адзінак*

**МАГУТНАСЦЮ АД** *кольких адзінак* **ДА** *кольких адзінак* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Па ДАСТ 2239-70 лямпы напальвання вырабляюцца на напружанне 220 і 127 В* ***магутнасцю ад 15 да 1500 Вт****, а для мясцовага асвятлення рабочых месц – на напружанне 12 і 36 В магутнасцю да 100 Вт з люстраным або дыфузным адлюстравальным слоем унутры колбы* (падручн.). Рус. ***мощностью от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

МАГУТНАСЦЮ АМАЛЬ *колькі адзінак*

МАГУТНАСЦЮ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

МАГУТНАСЦЮ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

МАГУТНАСЦЮ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

**МАГУТНАСЦЮ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *У трансфарматарах магутнасцю да 100 В-А дапускаецца шчыльнасць току ..., а ў трансфарматарах* ***магутнасцю больш за 100 В-А*** *... = 3,5 – 2,5 А/мм* (падручн.). Рус. ***мощностью более*** *скольких единиц*.

МАГУТНАСЦЮ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

**МАГУТНАСЦЮ БОЛЬШ ЯК** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Рухавікі* ***магутнасцю больш як 1 кВт*** *пускаюцца ў ход з дапамогай пускавога рэастата* (падручн.). Рус. ***мощностью более чем*** *сколько единиц.*

**МАГУТНАСЦЮ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Пад пяском прасочаны культурны пласт* ***магутнасцю да 0,6 см*** *са знаходкамі канца X – XI ст*. (Інт.). *Прэзідэнт Беларусі паставіў задачу перад Мінскім маторным заводам выйсці на вытворчасць рухавікоў* ***магутнасцю да 400 конскіх сіл*** («Звязда», 4.02.05). *У трансфарматарах* ***магутнасцю да 100 В-А*** *дапускаецца шчыльнасць току ...*(падручн.). Рус. ***мощностью до*** *скольких единиц*.

МАГУТНАСЦЮ ЗВЫШ *колькі адзінак*
МАГУТНАСЦЮ КАЛЯ *колькі адзінак*
МАГУТНАСЦЮ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
МАГУТНАСЦЮ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
МАГУТНАСЦЮ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
МАГУТНАСЦЮ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
МАГУТНАСЦЮ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
МАГУТНАСЦЮ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
МАГУТНАСЦЮ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
МАГУТНАСЦЮ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
МАГУТНАСЦЮ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
МАГУТНАСЦЮ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
МАГУТНАСЦЮ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
МАГУТНАСЦЮ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
МАГУТНАСЦЮ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
МАГУТНАСЦЮ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
МАГУТНАСЦЮ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
МАГУТНАСЦЮ НЕ МЕНЕШ ЗА *колькі адзінак*
МАГУТНАСЦЮ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
МАГУТНАСЦЮ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
МАГУТНАСЦЮ ПАРАДКУ *колькі адзінак*
МАГУТНАСЦЮ ПРЫБЛІЗНА *колькі адзінак*
МАГУТНАСЦЮ ПРЫКЛАДНА *колькі адзінак*

**МАГУТНАСЦЮ Ў** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Стратыграфічныя дадзеныя: ... перадмацерыковы слой* ***магутнасцю ў 0,2 – 0,4 м светла-шэрага колеру*** (Інт.). *У ліку першых будзе пабудавана Асіповіцкая гідраэлектрастанцыя* ***магутнасцю ў адну тысячу кілават*** (Інт.). *За тысячы, мільёны гадоў пясчаныя і глiністыя наносы рэк могуць утварыць слаі* ***магутнасцю ў некалькі кіламетраў*** (падручн.). Рус. ***мощностью в*** *сколько единиц.*

**МАГУТНАСЦЮ** *колькі адзінак* **У** *якую адзінку вымярэння* Наз./Він.-Він. Дыменсіў-дыстрыбутыў: *Для вырабу новай прадукцыі на прадпрыемстве ўстаноўлена лінія швейцарска-германскай вытворчасці* ***магутнасцю 40 тыс. бляшанак у гадзіну*** *і коштам каля 800 тыс. еўра* («Звязда», 4.02.05). Рус. ***мощностью*** *сколько единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**МАКСІМУМ-1** Не кіруе склонам. Рэлят градацыйнага прыраўнівання з указаннем верхняй мяжы: *На волі я б гэтых жанчын спаткала максімум як кельнерку, калі б у той кавярні абедала, як сястрычку, калі б у тым шпіталі лячылася, як прадаўшчыцу, калі б у той краме нешта купляла, ці ўвогуле нічога істотнага пра іх бы не ведала, і іхні выпадак, як што ён да мяне б данёсся, я б ведала хіба ў падачы суду або* ***максімум адваката*** (Э.Джонг. Пер. А.Дынько). Рус. ***максимум.***

**МАКСІМУМ-2** *колькі адзінак* Не кіруе склонам. Апраксіматар + квантытатыў: *Апошнім часам усё больш наведвальнікаў, якія прыходзяць на прыём да яго падначаленых: 170 – 180 чалавек штодзень, а раней станавіліся на ўлік* ***максімум 40 чалавек*** *штомесяц* («Звязда», 10.02.05). *Адразу ж з планёркі, якая доўжыцца* ***максімум гадзіну****, камандзіры калгаснай вытворчасці «разлятаюцца» па сваіх аб'ектах* («Звязда», 26.06.05). Сін. *да; сама больш.* || Назоўнік: *Атрымліваюць гэтыя пелеты шляхам моцнага прасавання тых жа адходаў, канцэнтруючы ў іх* ***максімум*** *сухога рэчыва* («Звязда», 25.06.05). Рус. ***максимум.***

**МАКСІМУМ НА ПРАЦЯГУ** *колькіх адзінак часу* Род. Ускладн. Час.: апраксіматар + дыменсіў-патэнсіў: *Пры пераездзе ў Беларусь пенсіі расіянам перааформляюцца* ***максімум на працягу шасці месяцаў*** («Звязда». 09.04.05). Сін. *максімум да.* Рус. ***максимум на протяжении*** *скольких единиц времени.*

**МАКСІМУМ** *колькі адзінак* **НА** *што* Наз.-Він. Двухч. Ускладн. Апраксіматар + квантытатыў + дыстрыбутыў: *Пры гэтым, як было падлічана, з 40 (сярэдняя колькасць) тэставых пытанняў на выкананне аднаго задання адкрытага ці закрытага тыпу павінна адводзіцца 10-15 секунд і* ***максімум 30 хвілін на адказ*** *у цэлым)* («ЛіМ»,4.06.04). Сін. *да ... на*. Рус. ***максимум*** *сколько единиц* ***на***.

**МАКСІМУМ ЯК** Не кіруе склонам. Рэлят дапушчальнай тоеснасці: *На волі я б гэтых жанчын спаткала **максімум як кельнерку,** калі б у той кавярні абедала, як сястрычку, калі б у тым шпіталі лячылася, як прадаўшчыцу, калі б у той краме нешта купляла, ці ўвогуле нічога істотнага пра іх бы не ведала, і іхні выпадак, як што ён да мяне б данёсся, я б ведала хіба ў падачы суду або максімум адваката* (Э.Джонг. Пер. А.Дынько). Рус. ***максимум как***.

**МАЛАДЗЕЙ** *колькіх гадоў* Род. Характарызатар: прыблізны дымeнсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Проціпаказана назначэнне рвотных сродкаў і стымуляцыя рвоты механічным спосабам у дзяцей **маладзей пяці гадоў*** (Асновы мед. ведаў). *Увесці ў дзеянне Спіс работ, на якіх забараняецца прымяненне працы асоб **маладзей 18 гадоў,** з 1 студзеня 1996 г.* (З загаду). Ант. *пасля.* Сін. *да; узростам да*. Рус. ***моложе** скольких лет*.

**МАЛА НЕ** *колькі адзінак* Він. Апраксіматар + квантытатыў: *Пажыўшы **мала не чвэрць стагоддзя** на чужыне, Напалеон Орда вярнуўся, калі тое стала магчымым, на радзіму* («Родны край-2007»). Рус. ***чуть ли не** сколько единиц/что.*

**МАНЕРАЙ** *каго* Род. Рэлят прыраўнівання: *За дрэвам Граф стаяў. Задзіўлены той сцэнай, Дастаў з кішэні алавік, лісток паперы, Што пры сабе насіў, і, **мастакоў манерай** апёршыся на ствол, заняўся пільна маляваннем* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ↔ **З манерай, быццам**. Рус. ***с видом** кого.*

**МАСАЙ** *колькі адзінак /* **атамнай/агульнай/поўнай МАСАЙ** *колькі адзінак /якой* **МАСАЙ** Наз. Дымeнсіў: *За адзінку дозы выпраменьвання ў сістэме СІ прыняты грэй (Гр) – доза выпраменьвання, пры якой апрамененаму рэчыву **масай 1 кг** перадаецца энергія іанізуючага выпраменьвання, роўная 1 Дж (Дж/кг)* (Асновы мед. ведаў). *Разгледзім спачатку рух аднаго матэрыяльнага пункта **масай m** па акружнасці радыусам r пад дзеяннем сілы P* (падручн.) *Нацыянальны банк Беларусі 12 красавіка выпускае ў абарачэнне памятныя манеты «Вялікдзень» серыі «Святы і абрады беларусаў»: срэбную – наміналам 20 рублёў, пробай сплаву 925, **масай 33,62 г,** дыяметрам 38,61 мм; медна-нікелевую – наміналам 1 рубель, **масай 16,00 г,** дыяметрам 33,00 мм* (Інт.). *Вылічыце кінетычную энергію першага штучнага спадарожніка Зямлі **масай 84 кг,** які рухаўся па кругавой арбіце на вышыні 160 км над паверхняй Зямлі* (падручн.). Рус. ***массой** сколько единиц.*

МАСАЙ АД *колькіх адзінак*

**МАСАЙ АД** *колькіх* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны дымeнсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі:

*Пілюлі – гэта дазіраваная лекавая форма ў выглядзе шарыкаў **масай ад 0,1 да 0,5 г**, прызначаная для прыёму ўнутр* (Асновы мед. ведаў). *Бываюць метэарыты **масай ад некалькіх грамаў да дзесяткаў тысяч кілаграмаў*** (падручн.). Рус. ***массой от*** *скольких единиц **до** скольких единиц.*

МАСАЙ АМАЛЬ *колькі адзінак*

**МАСАЙ БОЛЕЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Парашкі **масай** меней як 0,2 і **болей за 1,5 г** нязручна прымаць унутр* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***массой более*** *скольких единиц.*

МАСАЙ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

МАСАЙ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

**МАСАЙ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Андатра – найбуйнейшая (**масай больш за 1 кг**) палёўка, ураджэнец Паўночнай Амерыкі* («Родны край», 2009). *Парашкі **масай** меней як 0,2 і **больш за 1,5 г** нязручна прымаць унутр*(-Асновы мед. ведаў). Рус. ***массой более*** *скольких единиц.*

МАСАЙ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

МАСАЙ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

МАСАЙ ДА *колькіх адзінак*

МАСАЙ ЗВЫШ *колькіх адзінак*

**МАСАЙ КАЛЯ** *колькіх адзінак* / **агульнай МАСАЙ КАЛЯ** *колькіх адзінак* / *якой* **МАСАЙ** Род. Прыблізны дыменсіў: *Усяго ў гліняным гаршку знаходзілася 836 манет **агульнай масай каля паўтара кілаграма*** (Інт.). *Яшчаратазавыя дыназаўры спачатку развіваліся як драпежнікі, але потым сярод іх з'явіліся расліннаедныя гіганцкія формы: брантазаўр з даўжынёй цела каля 20 м і масай 30 т, дыпладок – 26 м, брахіязаўр – 24 м і **масай каля 50 т** і г.д.* (навук.) *Так, жаба **масай каля** 3 – 6 г з'ядае такую колькасць корму, якая складае 23 – 24 % масы цела, а буйныя жабы масай 16 – 18 г – толькі 14 – 15 %* (Інт.). Рус. ***массой около*** *скольких единиц.*

МАСАЙ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

МАСАЙ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

**МАСАЙ МЕНЕЙ ЯК** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Парашкі **масай меней як 0,2** і болей за 1,5 г нязручна прымаць унутр* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***массой менее чем*** *сколько единиц.*

МАСАЙ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*

МАСАЙ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*

МАСАЙ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

МАСАЙ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

МАСАЙ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
МАСАЙ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
МАСАЙ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
МАСАЙ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
МАСАЙ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
МАСАЙ ПАРАДКУ *колькі адзінак*
МАСАЙ ПРЫБЛІЗНА *колькі адзінак*

**МАСАЙ ПА** *колькі адзінак* Наз. Дыменсіў-дыстрыбутыў: *Абсталяванне: штатыў, дынамометр са шкалой, закрытай міліметровай паперай, набор грузаў* ***масай па 102 г*** (падручн.). Рус. ***массой по*** *сколько единиц.*

МАСАЙ ПРЫКЛАДНА *колькі адзінак*

**МАСАЙ У** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Які фізічны працэс, графік якога дадзены на малюнку, адбываецца з рэчывам* ***масай у 1 кг?*** (падручн.). Рус. ***массой в*** *сколько единиц.*

**МАСАМІ** *(Мн.л.) колькі адзінак* **І** *колькі адзінак* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Дыменсіў: *Разгледзім сістэму, што складаецца з N матэрыяльных пунктаў* ***масамі m і n****, на якія дзейнічаюць як унутраныя, так і знешнія сілы* (падручн.). *Згодна з законам сусветнага прыцягнення, два матэрыяльныя пункты* ***масамі*** $m_1$ ***і*** $m_2$ *прыцягваюцца адзін да другога з сіламі, прама прапарцыянальнымі здабытку іх мас* (падручн.). *Вылічыце становішча цэнтра мас сістэмы, якая складаецца з пяці шароў* ***масамі m, 2 m, 3 m, 4 m, 5 m*** (падручн.). Рус. ***массами*** *сколько единиц.*

**МАЦНЕЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Характарызатар: прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Дарога праходзіла спакойна, без ужывання напояў* ***мацней за 7 градусаў****, і перад Барысавам усе былі гатовымі да дзеянняў* (Інт.). Сін. *больш за.* Рус. ***крепче*** *скольких единиц.*

**МАЦУНКАМ** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *Гэта мусіць быць не выпадковая імітацыя, не проста моцнае цёмнае піва, а менавіта «стары добры эль»* ***мацункам 7 – 7,5 %*** (Інт.). Рус. ***крепостью*** *сколько единиц.*

МАЦУНКАМ АД *колькіх адзінак*
МАЦУНКАМ АД *колькіх адзінак* ДА *колькіх адзінак*
МАЦУНКАМ АМАЛЬ *колькі адзінак*
МАЦУНКАМ БОЛЕЙ *колькі адзінак*
МАЦУНКАМ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
МАЦУНКАМ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
МАЦУНКАМ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
МАЦУНКАМ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
МАЦУНКАМ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

**МАЦУНКАМ БОЛЬШ ЯК** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *З учарашняга дня у краіне ўстаноўлены новыя адпускныя цэны ... на алкагольную прадукцыю **мацункам больш як 28 працэнтаў*** (С.Расолька). Рус. ***крепостью более*** *скольких единиц.*

МАЦУНКАМ ЗВЫШ *колькіх адзінак*

**МАЦУНКАМ КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў: *Баварскае Weissbier, са шчыльнасцю 11 – 14 % і **мацункам каля** 5,5 %, варыцца пераважна з пшанічнага (не менш за 50 %), а таксама ячменнага соладу* (Інт.). Рус. ***крепостью около*** *скольких единиц.*

МАЦУНКАМ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

МАЦУНКАМ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

МАЦУНКАМ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

МАЦУНКАМ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

МАЦУНКАМ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

МАЦУНКАМ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

МАЦУНКАМ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

МАЦУНКАМ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

МАЦУНКАМ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

МАЦУНКАМ ПА *колькі адзінак*

МАЦУНКАМ ПАРАДКУ *колькі адзінак*

МАЦУНКАМ ПРЫБЛІЗНА *колькі адзінак*

МАЦУНКАМ ПРЫКЛАДНА *колькі адзінак*

МАЦУНКАМ У *колькі адзінак*

**МАШТАБАМ** *колькі адзінак: колькі адзінак* Наз.: Наз. дыменсіў: *У гэтых мясцінах магутнасць торфу адзначана на карце мясцовасці **маштабам** 1:25000* (Інт.). Рус. ***масштабом*** *сколько единиц: сколько единиц.*

**МЕДЖДУ** *чым* Тв. Фанетычны варыянт рус. **МЕЖДУ** у спалучэнні ◊ *между прочим*. (Мікіта): *Але і мамзэль Наста, **медждy прочым**, сягоння падфуфырылася, як на баль-маскараду ў Белую залю* (Я.Купала). Стыліст. русізм. Рус. ***между чем***.

**МЕЖ**[1] *чаго* **І** *чаго* Род.-Род. Прастор.: лакатыў: *Хоць усім братам не вельмі салодка жылося, але Меншаму Брату выпала самая горшая доля. Прысудзіла яна яму самы горшы куток, кінула **меж мхоў і балот*** (Я.Колас). Разм. Сін. *між*. Рус. ***между*** *чего* ***и*** *чего*.

**МЕЖ**[2] *чым* **І** *чым* Тв.-Тв. Час.: тэмпаратыў: ***Меж Іллёю і Спасам*** *пачынаюцца чуць не кожны год дажджлівыя дні* (Я.Колас). Сін. *між*. Рус. ***между между*** *чем* ***и*** *чем.*

**МЕЖДУ** *чым* Тое, што і **МІЖ**. Дыял. (Віцебск.). Русізм (ППШ). Рус. ***между*** *чем.*

МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

**МЕНЕЙ ЧЫМ** *колькі адзінак* Любы склон. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Калі ў сярэдзіне 60-х гадоў пры паступленні ў Мінскі радыётэхнічны інстытут было на адно месца болей за 7* ***прэтэндэнтаў****, то ў мінулым годзе* ***іх*** *стала* ***меней чым 1,5*** («Полымя», 1986, № 7). Рус. ***менее чем*** *сколько единиц.*

**МЕНЕЙ ЧЫМ ЗА** *колькі адзінак часу* Він. Час.: прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: ***Меней чым за стагоддзе****, за жыццё трох-чатырох пакаленняў колькасць беларускага народа не толькі не павялічылася, але скарацілася болей чым удвая* (К.Тарасаў). Сін. *менш чым за.* Рус. ***менее чем за*** *сколько единиц.*

**МЕНЕЙ ЧЫМ НА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *ААТ «Орша» у ліпені выканала план выпуску прадукцыі* ***меней чым на 10 адсоткаў*** (Інт.). Рус. ***менее чем на*** *сколько единиц.*

**МЕНЕЙ ЧЫМ ПРАЗ** *колькі адзінак часу* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: ***Меней чым праз 2 тыдні*** *у Алматы да тройкі далучыліся яшчэ восем кіраўнікоў былых савецкіх рэспублік* (Інт.).Рус. ***менее чем через*** *сколько единиц.*

МЕНЕЙ ЧЫМ У *колькі адзінак*

МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

МЕНЕЙ ЯК НА *колькі адзінак*

МЕНЕЙ ЯК У *колькі адзінак*

**МЕНШАЯ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Каб краіны маглі ўвесці еўра, інфляцыя на момант падачы заяўкі павінна быць* ***меншая за 2 працэнты*** (Інт.). Рус. ***менее*** *скольких единиц.*

**МЕНШ** *чаго* Род. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Ці не будзе позна, ці не знікнуць з зямлі Крынкі і Прошкі, у якіх засталося* ***менш дзесятка сямей?*** (Рэспубліка, 12.11.93). Сін. *менш за*. Рус. ***меньше*** *скольких единиц.*

**МЕНШ ЗА-1** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Калі маса лекавых рэчываў, якія ўваходзяць у састаў пасты, складае* ***менш за 25 %,*** *яе дапаўняюць індыферэнтнымі парашкамі* (Асновы мед. ведаў). Сін. *меней за*. Рус. ***меньше*** *скольких единиц.*

**МЕНШ ЗА-2** *што* (колькасны эквівалент) Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *У мінулым годзе доля сем'яў з даходамі* ***менш за бюджэт пражытковага мінімуму*** *зноў зменшылася і спынілася на адзнацы 22,9 працэнта* (Інт.). Сін. *меней за.* Рус. ***меньше*** *скольких единиц.*

**МЕНШ ЗА-3** *каго* Він. Ускладн. Характарызатар: элемент параўнальнай ці вышэйшай ступені параўнання прыслоўя: рэлят колькаснага параўнання: *І калі **менш за іншых** змог я навучыцца І вось, вярнуўшыся дамоў, ару зямліцу, У час, калі другія з ласкі Ваяводы Дабіліся чыноў, пашаны, ўзнагародаў...* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ◊ ***Менш за ўсё*** – тое, што і з у с і м н е (ТСБМ). *Ён быў чалавек удумлівы і разумеў, што гэта пакутна і марудна нараджаўся ў ім той, на каго ён **менш за ўсё** рыхтаваў сябе – нараджаўся баец* (В.Быкаў). Рус. ***меньше** кого.*

**МЕНШ ЧЫМ** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Аддаленне Фобаса ад планеты меншае за 10 000 км, у выніку чаго перыяд яго абарачэння вакол Марса (**менш чым 8 зямных гадзін**) карацейшы за перыяд сутачнага вярчэння самога Марса (24,6 зямной гадзіны)* (падручн.). Рус. ***менее чем** сколько единиц.*

**МЕНШ ЧЫМ ЗА** *колькі адзінак часу* Він. Час.: прыблізны квантытатыў-дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Вірус адчувальны да мыла, шчолачаў, спірту, якія інактывуюць яго **менш чым за 10 хвілін*** (Асновы мед. ведаў). ***Менш чым за стагоддзе** жуйка стала адным з самых распаўсюджаных у свеце тавараў* («Звязда», 29.01.05). Рус. ***меньше чем за** сколько единиц.*

**МЕНШ ЧЫМ** *колькі адзінак* **ЗА** *якую адзінку адлічэння* Він. – Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + дыстрыбутыў: *Небяспека павялічваецца на трэць у параўнанні з тымі, хто спажывае **менш чым адну порцыю** мяса **за тыдзень*** («Звязда», 22.06.05). Рус. ***меньше чем** сколько единиц **за.***

**МЕНШ ЧЫМ НА**[1] *колькі адзінак/што* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *З 8 танкавых дывізій акругі 2 былі ўкамплектаваны танкамі прыкладна на 50 %, 4 – **менш чым на 50 %,** 2 не мелі танкаў* (Энцыклапедыя гісторыі Беларусі, т.1). *Аўтамабільны парк у выніку выкарыстоўвае **менш чым на палавіну магутнасцяў*** (газ.). *Цэны на жыллё выраслі **менш чым на 25 %*** (Інт.). Рус. ***меньше чем на** сколько единиц.*

**МЕНШ ЧЫМ НА**[2] *кольких адзінках/чым* Месн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Windows Vista устаноўлена **менш чым на 1 % камп'ютараў** у свеце* (Інт.). Рус. ***меньше чем на** скольких единицах.*

**МЕНШ ЧЫМ** *колькі адзінак часу* **НАЗАД** Він. Час.: няпэўны тэмпаратыў з дакладнай верхняй мяжой: *Стары, Вітаўтаў яшчэ, Гродзенскі замак быў страшны. Пабудаваны **менш чым паўтара века назад**, ён, нягледзячы на гэта, заняпаў ...*(У.Караткевіч). Рус. ***менее чем** сколько единиц **назад.***

**МЕНШ ЧЫМ ПА** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + дыстрыбутыў: *У Веткаўскім раёне ў 27 вёсках налічваецца* ***менш чым па 20 жыхароў****, у 9 –* ***менш чым па 10*** («Звязда», 14.04.05). Рус. ***меньше чем по*** *сколько единиц.*

**МЕНШ ЧЫМ ПРАЗ** *колькі адзінак часу* Він. Час.: прыблізны тэмпаратыў з дакладнай верхняй мяжой: *На які рай* ***менш чым праз сто год*** *разлічвалі ягоныя прыхільнікі?* (С.Петрыкевіч). ***Менш чым праз год****, у лістападзе 1940 г., да Літвы, падчас яе ўваходжання ў склад СССР, былі дадаткова далучаны з ліку беларускіх зямель 2600 км$^2$ тэрыторыі з 65 тыс. чалавек* (Інт.). Рус. ***меньше чем через*** *сколько единиц.*

**МЕНШ ЧЫМ ПРАЗ** *колькі адзінак часу* **ПАСЛЯ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны тэмпаратыў з дакладнай верхняй мяжой + другі тэмпаратыў-арыенцір: ***Менш чым праз год пасля падзення*** *нямецка-нямецкае мяжы ГДР абвясціла свой уваход у ФРГ* (Інт.). Рус. ***меньше чем через*** *сколько единиц* ***после*** *чего.*

МЕНШ ЧЫМ У *колькі адзінак*

**МЕНШЫ/АЯ/АЕ/ЫЯ ЗА (Муж./жан./ніяк. род. адз. л., мн.л.)** *колькі адзінак* Він. Характарызатар: прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Вызначаюць ... алігурыю – выдзяленне малой колькасці мачы. Алігурыяй лічаць у дарослых дыурэз* ***меншы за 500 мл*** (Асновы мед.ведаў). *Найбольшы бок выявы не павінны перавышаць 4500 піксэляў. І меншы бок не можа быць* ***меншы за 1024 піксэляў*** (Інт.). *Гэты тэрмін не можа быць* ***меншы за 2 месяцы*** *з моманту публікацыі аб ліквідацыі* (афіц.). *Каб краіны маглі ўвесці еўра, інфляцыя на момант падачы заяўкі павінна быць* ***меншая за 2 працэнты*** («Звязда», 04.11.05). Сін. *менш за*. Рус. ***меньше*** *скольких единиц.*

**МЕНШ ЯК** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Пры парушэнні функцыі нырак за 4 гадзіны выдзяляецца* ***менш як 1,5 л*** *мачы* (Асновы мед. ведаў). *Пры вострай прамянёвай хваробе першай ступені колькасць лейкацытаў у 1 мкл крыві ў гэты час бывае на ўзроўні 4х10$^3$ ... чацвёртай ступені –* ***менш як 1х10$^3$*** (Асновы мед. ведаў). Сін. *менш чым*. Рус. ***меньше чем*** *сколько единиц.*

**МЕНШ ЯК** *колькі адзінак* **НА** *якую адзінку вымярэння* Наз.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + дыстрыбутыў: *Па-за конкурсам абітурыентаў будуць залічваць толькі на тыя спецыяльнасці, дзе ў 2004 годзе конкурс быў* ***менш як пяць чалавек на месца*** («Звязда»). Рус. ***менее*** *скольких единиц* ***на*** *какую единицу исчисления.*

**МЕНШ ЯК ПРАЗ** *колькі адзінак часу* **ПАСЛЯ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны тэмпаратыў з дакладнай верхняй мяжой + другі тэмпаратыў-арыенцір: *Няма куды дзявацца ад энергічных удоў. Адна ўжо нават манаграфію – «сем аркушаў!» – заказвае па тэлефоне аднаму з сяброў,* ***менш як праз месяц пасля пахавання*** (Я.Брыль). ***Менш як праз 3 тыдні пасля прыходу*** *новая ўлада абвясціла выбары ў Народны сход Заходняй Беларусі* (Інт.). Рус. ***менее чем через*** *какое время* ***после*** *чего.*

**МЕНШ ЯК** *колькі адзінак часу* **ТАМУ** Він. Двухч. Час.: тэмпаратыў: *Адбылося гэта м**енш як** сто гадоў* ***таму.*** Рус. ***меньше*** *скольких единиц* ***тому****.*

**МЕСТ** *чаго* Род. Фанетычны варыянт **ЗАМЕСТ.** Рэлят замяшчэння: *І цяпер хто зводна над табой смяецца, – Гэта або вецер, што ў платах трасецца, Або той смяецца, хто не знаў ніколі Чалавечых думак, чалавечай долі, – Хто ў грудзях гадуе злосна, непрытворна Замест сэрца – камень****, мест душы*** *– дым чорны* (Я.Купала). Разм. – стыліст. Сін. *замест.* Рус. ***вместо*** *чего.*

**МЕТАДАМ (Адз.л.)** *чаго* / *якім* **МЕТАДАМ** Род. Спосаб дзеяння: *Па даных археалогіі, у ІІІ тыс. да н.э. ужо выкарыстоўваліся прадметы і аздабленні, якія былі зроблены з бронзы і каштоўных металаў* ***метадам адліўкі*** *ў формы* (падручн.). *Гэтая велічыня вызначаецца* ***метадам дзялення*** *агульнай колькасці цеплаэнергіі на колькасць спажытых «кубоў»* («Звязда»). *Незвычайнасць гэтага твора ў тым, што гіганцкае палатно вышынёй у шасціпавярховы дом выраблена* ***метадам ручнога ткацтва*** (Інт.). ▲ *Пасеў рашылі правесці* ***гнездавым метадам*** (ТСБМ). Сін. *спосабам*. Рус. ***методом*** *чего.*

**МЕТАДАМІ (Мн.л.)** *чаго* Род. Спосаб дзеяння: *У параўнанні з ручнымі спосабамі больш паспяховай з'яўляецца штучная вентыляцыя лёгкіх* ***метадамі прымусовага ўдзімання*** *паветра ў лёгкія* (Асновы мед. ведаў). Сін. *метадам*. Рус. ***методом*** *чего.*

**МІЗ** *чаго* Род. Тое ж, што і **МІЖ**. Дыялектн. (ППШ).

***МІЖ*** ТСБПШ; ТСБМ – прыназоўнік.

**МІЖ¹-1** *чаго* Род., мн. л. Прастор.: лакатыў-прамежак адносна бакавых арыенціраў: *Налева,* ***між гор крутабокіх****, У берагах сваіх высокіх, Па камянях, бы тая змейка, Вілася шумная Вілейка І, закруціўшыся дугою, Знікала зараз за гарою* (Я.Колас). *Вілы прасвісталі ў паветры і, дрыжучы, упіліся ў зямлю* ***між расстаўленых аканомавых ног*** (У.Караткевіч). *Дняпро цячэ* ***між высокіх берагоў*** *спакойна і ўпэўнена* (У.Караткевіч). Сін. *у; паміж.* Рус. ***меж / промеж*** *чего.*

**МІЖ[1]-2** *чаго* Род. мн.л. Прастор.: лакатыў адносна мноства арыенціраў: *І людзі сноўдаліся **між крыжоў**, як цьмы* (Я.Купала). *У ягонай байдзе, **між мокрых сецяў**, сядзелі тры сыны* (У.Караткевіч). *Ён стаў **між** пустых **бляшанак і торб** з мукою і гарохам і чакаў* (В.Быкаў). Сін. *сярод*. Рус. ***среди*** *кого/чего.*

**МІЖ[1]-3** *каго/чаго* Род. мн.л. Прастор.: транзітыў-лакатыў: *Вясна пазнілася, і толькі зрэдку **між хмар** праглядаў гарачы, малады, сіні шматок неба* (У.Караткевіч). *Але, хай ёй прабачаць усе, яна не хацела губляць юнака, які ляцеў **між зарніц*** (У.Караткевіч). *Пад зоркамі **між снежных бяроз** плыло, агінаючы царкву, шэсце* (У.Караткевіч). *За вокнамі гасцінай халодная зорка гарыць **між дрэў*** (У.Караткевіч). *Толькі адзін прамень падаў **між іхніх галоў** на нябачную ваду* (У.Караткевіч). *Месяц чоўнам плыве **між хмар*** (К.Буйло). ***Між расстаўленых пальцаў** блішчала хітрае вока* (У.Караткевіч). Сін. *скрозь*. Рус. ***меж*** *чего;* ***сквозь*** *что.* ***из-за*** *чего.*

**МІЖ[1]-4** *чаго* Род. адз. і мн.л., зборн. Прастор.: транзітыў-асяроддзе: *Рыбак зморана падняўся на ногі і пайшоў, ступаючы **між** пераметенага снегам **куп'я** магіл* (В.Быкаў). Сін. *па*. Рус. ***меж*** *чего;* ***по*** *чему.*

**МІЖ[1]-5** *чаго* Род. адз. і мн., зборн. Прастор.: лакатыў-асяроддзе: *Вёска спіць **між бароў**. Рэдкія бярозкі **між ягадніку**.* **—** *На дарозе **між зялёнага жыта** стаяць двое* (К.Чорны). *Сын графа Хаданскага, даражэнькага суседа, едзе дарогаю **між ільноў*** (У.Караткевіч). *... правінцыйную інтэлектуальную эліту, якая на месца пільна патрэбнай нацыянальна-дзяржаўнай ідэалогіі не змагла, у канцы XX стагоддзя, запрапанаваць нічога, акрамя ... фразеалогіі традыцыйнага ўкраінскага рамантычнага нацыяналізму, заблуканага **між трох хваінаў** гісторыі, філалогіі ды этнаграфіі, толькі трохі падлатанага лексікай «інтэгральнага» дзяржаўніцтва кшталту 1943 году* (А.Забужко). Сін. *у; пасярод.* Рус. ***посреди*** *чего;* ***в*** *чем.*

**МІЖ[1]-6** *чаго* Род. Прастор.: транзітыў: *Імчым **між пнёў, між купін*** (А.Куляшоў: ТСБПШ). *Жыты там родзяцца надзіва: Як едзеш **між хлябоў** вясною, там конь хаваецца з дугою!* (Я.Колас.). Сін. *сярод.* Рус. ***среди*** *чего.*

**МІЖ[1]-7** *каго/чаго* Род. мн.л. Камплетыў: рэлят уключэння: *Сучку замкнулі, а ваўчаня паклалі **між смактуноў*** (У.Караткевіч). Сін. *да*. Рус. ***к*** *кому/чему;* ***вместе с*** *кем/чем.*

**МІЖ[1]-8** *каго/чаго* Род., адз. і мн. л., зборн. Сітуант: камітатыў: *Сяджу **між кніг, чарніл, паперы*** (Я.Колас). Сін. *з; сярод*. Рус. ***среди.***

**МІЖ[1]-9** *каго/чаго* Род. Мн.л. Рэлянты ўзаемін: *Не будзе, не будзе тады вайны, калатні **між людзей*** (Я.Купала). Сін. *паміж.* Рус. ***между*** *кем/чем.*

**МІЖ[1]-10** *чаго* ◊ ***Між волі***. *Цімохавы мыслі* ***між волі*** *снуюцца вакол Жыгуна* (Я.Колас). Сін. *паміма*. Рус. ***невольно.***

**МІЖ[1]-11** *каго/чаго* Род. Аб'ектн.: дыстрыбутыў: *Размеркаваць* ***між дзяцей*** (ППШ). *У верхавінах лесу журботна шумеў вецер, расцярушваючы* ***між галін*** *і на галінах дрэў бялюсенькую снежную сецьь* (Я.Колас). Сін. *паміж кім/чым.* Рус. ***между*** *кем/чем.*

**МІЖ[1]-12** *каго/чаго* Род. Камплетыў пры суперлятыве: *Прыгажэйшая між усіх.* ▬ Сін. *ад; з.* Рус. ***из*** *всех.*

**МІЖ[2]** *што* Він. Прастор.: транзітыў: *Іх праводзілі вачыма чуць не з кожнае хаты,* ***між якую*** *яны праходзілі* (Ц.Гартны: ТСБПШ). *А кудою пойдзем:* ***між граніцу*** *ці лесам?* (Ц.Гартны: ТСБПШ). *Праязджаў між іх палосу, але нікога не прыкмеціў* (Ц.Гартны: ТСБПШ). ТСБПШ – абл. Сін. *міма; побач з*. Рус. ***мимо*** *чего.*

**МІЖ[3]-1** *кім/чым* Тв. мн.л. Аб'ектн.: рэлянты параўнання: *Ды знае паляванне лепш, чым хто* ***між намі*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *І я,* ***між усімі*** *баец радавы, таксама да помніка шчыра іду* (К.Кірэенка). ↔ **Між тым; між тым як**. *Унізе, у кустах, ужо быў паўзмрок,* ***між тым як*** *на вершалінах трымаліся прамені сонца* (ППШ). *Пасьля гэтага ўсе ўсталі, правы служка папраставаў да далматы,* ***між тым як*** *левы пайшоў да сярэдзіны, а правы пайшоў наўскась налева з далматай* (Інт.). Сін. *з*. Рус. ***из всех*** *кого/чего.*

**МІЖ[2]-2** *кім/чым* Тв. Суб'ектн.: рэлянты узаемін: *Сварка* ***між братамі***. *Дружба* ***між народамі.*** ▬*Пачыналіся* ***між намі*** *спрэчкі* (А.Куляшоў). *Князі тым часам* ***між сабою*** *Праз пасланцоў перагаворы Вядуць, каб справу скончыць згодай* (П.Бітэль: ТСБМ). *Шум* ***між каласамі****, ды яны не чуюць, неўзабаве, днямі сход склікаць мяркуюць* (П.Броўка). ◊ ***Між сабою.*** ▬ *Што корні дуба, нашы лёсы перапляліся* ***між сабой*** (А.Александровіч). ***Між намі кажучы.*** ▬ *Дык нашы хлопцы,* ***між намі кажучы****, узялі і падпалілі маёнтак* (К.Чорны). Сін. *паміж*. Рус. ***между*** *кем/чем.*

**МІЖ[2]-3** *кім* Тв. Аб'ектн.: дыстрыбутыў: *Раздзяліць яблыкі* ***між дзяцьмі***. *Раздзяліць падручнікі* ***між вучнямі*** (ППШ). ТСБПШ – прыназоўнік. Рус. ***между*** *кем*.

**МІЖ[2]-4** *чым* Тв. мн.л. Час.: тэмпаратыў: *Два дні* ***між святамі*** (ППШ). *Перапынкі* ***між заняткамі*** (ППШ). *Колькі год* ***між баямі*** *ён марыў пра гэта!* (П.Броўка). Сін. *у прамежку паміж*. Рус. ***между*** *чем.*

**МІЖ[2]-5** *чым* Тв. адзін.л. Час.: тэмпаратыў: ***Між работаю*** *парабчук падбег да мяне* (К.Чорны). Сін. *сярод; падчас.* Рус. **во время** *чего.*

**МІЖ[2]-6** *чым* Тв. мн.л., адз.л. Прастор.: лакатыў: *Прагал* ***між галінамі*** *дрэва.* ▬ *Адлегласць* ***між слядамі*** (ППШ). Сін. *паміж; прамеж.* Рус. ***между*** *чем.*

**МІЖ²-7** *чым* Тв. Рэлят дадатковай аргументацыі: ◊ ***Між іншым***. ━ ***Між іншым****, ён мой зямляк. Алтайцы мы* (Я.Васілёнак). ◊ ***Між тым.*** ━ *Фармальнасці суправаджальнікаў грузу перад бязладздзем няшчасця даюць* ***між тым*** *чалавеку час, каб прыйсці ў сябе* (Інт.). ↔ **Між тым**. ***Між тым*** *неяк выпадае з-пад увагі, што інтэлігенцыя класічнага, расейскага ці, няхай, расейска-беларускага ўзору вынішчана, а інтэлектуал заходняга ўзору за апошнія дзесяць гадоў проста не паспеў распладзіцца* (Інт.). Рус. ***между прочим; между тем.***

**МІЖ²-8** *чым* Тв. Суб'ект-намінатар: «*І ёсць, – сказаў хтось,- тут з Літвы другія родам, Адзін з іх Брытваю празваны* ***між народам*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *у.* Рус. ***в*** *чем* / Тв. без предлога (*кем*).

**МІЖ¹-1** *чаго* **І** *чаго* Род-Род. Аб'ектн.: рэлят двухбаковых адносін: *Папаў* ***між молата і кавадла*** (нар.). Сін. *паміж ...і.* Рус. ***между*** *чем* ***и*** *чем.*

**МІЖ¹-2** *чаго* **І** *чаго* Род.-Род. Прастор.: лакатыў: *Спасцярожліва ідуць Нупрэй і дзед Талаш праз лес, прабіраюцца праз зараснікі балот, праходзяць бязлюдныя паляны* ***між лесу і балот*** (Я.Колас: ТСБПШ). Рус. ***между*** *чем* ***и*** *чем.*

**МІЖ¹-3** *чаго* **І** *чаго* Род.-Род. Час.: тэмпаратыў: *Быў час* ***між лета і вясны*** (А.Куляшоў: ТСБПШ). Рус. ***между*** *чем* ***и*** *чем.*

**МІЖ²-1** *чым* **І** *чым* Тв.-Тв. Рэляты дыпласіі: *Сачу вясну. Жыву ў Міжбор'і. І два бары, як спарышы,* ***між дыялектыкай надвор'я і дыялектыкай душы*** (А.Разанаў). *Жыву я* ***між тлом і святлом*** *У хаце каля небакраю* (Р.Барадулін). *Нашто, скажы,* ***між Захадам і Ўсходам*** *Вачыма сінімі ты прарасла?* (Н.Арсеннева). Сін. *на раздарожжы; на мяжы; паміж.* Рус. ***между*** *чем* ***и*** *чем.*

**МІЖ²-2** *чым* **І** *чым* Тв.-Тв. Прастор.: аб'ектны лакатыў: ***Між дзвярыма і другою сцяною*** *прытулілася шафа са шклянымі ўверсе дзверцамі, за якімі стаялі кнігі роўненькімі радочкамі* (Я.Колас). *Алесь ... убачыў гарадок, што ўтульна прымасціўся* ***між Дняпром і невялікай рачулкай*** (У.Караткевіч). *Дзе рэчкай, дзе борам, дзе лугам Ты вабіш сабою здаля, Зямля* ***між Дняпром і між Бугам****, Спрадвечная наша зямля* (П.Панчанка). *Жаўрук, як на гумцы, торгаўся* ***між небам і зямлёй*** (У.Караткевіч). *Спяшаліся хутчэй пакінуць* ***між сабою і карным атрадам*** *як найбольш вёрстаў* (У.Караткевіч). Сін. *паміж.* Рус. ***между*** *чем* ***и*** *чем.*

**МІЖ²-3** *чым* ***І*** *чым* Тв.-Тв. Рэляты параўнання*: Расія добра пастаралася, каб, як любілі пісаць у сваіх партыйных праграмах бальшавікі, «сцерці адрозненні» (****між багатымі і беднымі, горадам і сялом, між народамі, мовамі, гарамі й далінамі****...), з-за чаго,*

*урэшце, і прайграла глабальна, цывілізацыйна, бо ўсякая жыццятвор-часць магчымая адно як памнажэнне адрозненняў, а іх згладжванне ёсць працэсам інвалюцыйным* (газ.). Сін. *паміж... і.* Рус. ***между ...*** *и.*

**МІЖ²-4** *кім* **І** *кім* Тв.-Тв. Рэлянты ўзаемаадносін, ўзаемасувязяў: *Сувязь* ***між маці й сынам*** *замінае сыну «адарваццa», зажыць не сваім жыццём* (А.Глобус). Сін. *з.* Рус. ***между*** *кем* ***и*** *кем.*

**МІЖЫ** *каго/чаго* Род. Фанетычны варыянт **МІЖ**. ***Міжы*** *новых* ***клетачак*** *сцежачкі памяцёны* (запіс Шыдлоўскага ў в. Гайна Мінскай вобл., пачатак XX ст.: – ППШ). Сін. *між.* Рус. ***меж*** *чего.*

**МІМА¹-1** *каго/чаго* Род. Прастор.: несупрасторавы транзітыў: *Хрысця рванулася* ***міма фурманкі*** (В.Адамчык). *Луг гэты цягнуўся* ***міма Дубровы, міма палёў*** *да вялікіх лясных абшараў* (Шчарбатаў: ТСБМ). ▶ ***Міця*** *падняў галаву, але маладзіца, здаецца, з абыякавым прыгожа-скамянелым тварам наважылася прайсці* ***міма*** (В.Адамчык). ТСБПШ – прысл. ў знач. прыназ. Сін. *паўз*. Рус. ***мимо*** *кого/чего.*

**МІМА¹-2** *чаго* Род. Рэлят выключэння: *Усё гэта* [уздым культурнага жыцця] *не магло прайсці* ***міма ўвагі*** *дапытлівага юнака* (І.Навуменка). *Абодва пачалі страляць па машыне, якая праскочыла* ***міма іх****, абдаўшы пылам* (У.Паўлаў). ◊ ***Міма вушэй.*** ▬ *Дзеці часта прапускаюць* ***міма вушэй*** *парады дарослых.* ◊ ***Міма рук.*** ▬ *Усё ішло* ***міма рук*** (Э.Самуйлёнак).). ТСБПШ – прысл. ў знач. прыназ. Сін. *па-за*. Рус. ***мимо*** *чего;* ***за пределами*** *чего.*

**МІМА¹-3** *каго/чаго* Род. Прастор.: несупрасторавы дырэктыў-фініш*: Страляць* ***міма цэлі***. ▬ *Загурскі глядзеў у парог,* ***міма маці*** (А.Асіпенка). ТСБПШ – прысл. ў знач. прыназ. Рус. ***мимо*** *кого/чего.*

**МІМА²** *што* Він. Прастор.: несупрасторавы транзітыў: *А ў сад пашло дзве дарожкі,* ***міма сад*** *– адна* (нар.: ППШ). Сін. *міма чаго.* Рус. ***мимо*** *чего.*

**МІМА** *чаго* **НА** *што* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Прастор.: транзітыў-дырэктыў: *Машына праехала* ***міма мянтоўкі на*** *Лоўэр Клэптан Роўд, пасля мінула пастарунак у Долстане* (Ірвін Уэлш. Пер. А. Знаткевіча). Рус. ***мимо*** *чего* ***на*** *что.*

**МІМА ПА** *чым* Тв. Прастор.: дырэктыў-транзітыў: *Некаторыя валакуцца і ідуць* ***міма па дарозе****; некаторыя яго сардэчна вітаюць, у той час як ён сядзіць там пад памостам, іншыя старанна не заўважаюць...*(П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Рус. ***мимо по*** *чему.*

**МІНІМУМ** *колькі адзінак* Любы склон. Рэлят градацыйнага прыраўнівання з указаннем ніжняй мяжы: *На карціну патрэбна было* ***мінімум 15 месяцаў*** *– мы яе зрабілі за 10* («Звязда», 26.04.05). Ант. *максімум.* Сін. *сама меней/ сама менш*. Рус. ***минимум*** *сколько единиц.*

**МІНІМУМ НА** *колькі адзінак* Він. Рэлят градацыйнага прыраўнівання з указаннем верхняй мяжы: *Гэтыя лічбы зараз узгадняюцца, але ўжо відавочна, што максімальны план па будаўніцтву жылля перавыкананы **мінімум на 150 тысяч квадратных метраў*** («Звязда», 11.01.05). Рус. ***минимум на** сколько единиц.*

**МІНУС-1** *колькі адзінак* Він. Рэлят вылічэння: *За нармальную масу цела ў кілаграмах для людзей нармастэнічнай канстытуцыі прынята велічыня росту ў сантыметрах **мінус 100*** (Асновы мед. ведаў). Сін. *без*. Рус. ***минус** сколько единиц.*

**МІНУС-2** *што* Він. Рэлят выключэння: *А з «каманды інвалідаў» лагеру, пэўна ж, невялікая карысць, дык таму, можа, і не прадставілі на «падвышэнне», а як тэрмін зыйшоў – пусцілі з Богам на «мінус» (права выбраць сабе месца пражывання **за выняткам, «мінус», пэўных пунктаў і раенаў**)* (С.Юстапчык (Антон Адамовіч)). Ант. *плюс*. Сін. *за выключэннем; за выняткам*. Рус. ***минус** что.*

**МІНУС-3** *колькі адзінак* Наз. Назва знака адмоўнага ліку: –5 (*Мінус пяць*). Рус. ***минус** сколько.*

**МОЦНАСЦЮ** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Восенню 1949 года запушчана ў працу паратурбінная электрастанцыя **моцнасцю 900 кВт*** (Інт.). Сін. *магутнасцю*. Рус. ***мощностью** сколько единиц.*

**МОЦНАСЦЮ ЗВЫШ** *колькіх адзінак* Він. Дыменсіў: *Дарэчы, таксама на 1,5 працэнта павялічыліся мінімальныя адпускныя цэны на алкагольную прадукцыю **моцнасцю звыш 28 працэнтаў*** (Інт.). Сін. *мацункам; крэпасцю*. Рус. ***крепостью** сколько единиц.*

**МОЦНАСЦЮ** *колькі адзінак* **У** *якую адзінку вылічэння* Він.-Він. Дыменсіў + дыстрыбутыў: *Чыгуналіцейны цэх **моцнасцю 10 тысяч тон ліцця ў год*** (Інт.). Сін. *магутнасцю ... ў*. Рус. ***мощностью** сколько единиц **в** какую единицу исчисления.*

**МЫСЛЕННЕМ** *каго* Род. Інструмент: спосаб дзеяння суб'екта: *Аб'ектам, уведзеным у быццё **мысленнем і высілкамі мастака**, мы адхіляем прасторава-часавы дыскурс на карысць іншага* («Arche»). Аказіян. Рус. ***мышлением** кого.*

**МЯРКУЮЧЫ ПА** *чым* Месн. Прычын.: падстава: ***Меркуючы па агульным змесце** манаграфіі, пачынаючы з другога раздзела ўзмацняецца дыяхранічнасць даследавання* (Ж.Некрашэвіч-Кароткая). ***Мяркуючы па этнаграфічным матэрыяле**, гэта магла быць варыўня, якая абагравалася печкай-каменкай ці жарам* («Гарадзенскія запісы», 1993 вып.1). (Цётка, Купала і Колас) ... ***мяркуючы па ўсім**, някепска ведалі сваю справу і зусім нядрэнна правялі яе ў жыццё. Яшчэ на зары нашага стагоддзя* (У.Караткевіч). *Ён вёў за руку маленькага хлопчыка, якому было, **мяркуючы па росту,** гадоў*

*пяць-шэсць, не болей* (М.Шолахаў. Пер. Я.Шарахоўскага). *Партрэты. Не кажу пра майстэрства. Але, **мяркуючы па «Рою Чаўндхуры»**, падабенства незвычайнае, нягледзячы на бегласць* (У.Караткевіч). Сін. *паводле.* Рус. ***судя по** чему.*

**МЯРКУЮЧЫ ПАВОДЛЕ** *чаго* Род. Прычын.: падстава: *Майчына маці, **мяркуючы паводле доўгага ліста**, які напісала дачцэ па яе арышце, а таксама паводле Майчыных захопленых расповедаў, мусіла быць жанчынай з трывалым пачуццём абавязку, яна не пакінула няўдзячнай дачкі ані ў турме і нават на адлегласці выконвала сваю крыху сухую і без фантазіі, але абсалютна шчырую ролю выхавальніцы* (Э.Кантуркава. Пер. С.Сматрычэнкі). Сін. *мяркуючы па*. Рус. ***судя по чему***.

## Н

**НА** ***ТСБПШ; ТСБМ – прыназоўнік.***

**НА[1]-1** *што* Він. Рэлят ганаратыўнасці: характар танальнасці пры зносінах з суразмоўцам: *Мы тут усе **на «ты»*** (І.Шамякін). *Ён ужо да яе звяртаўся **на «ты»*** (С.Грахоўскі: ППШ). *З Чырвоным касцёлам **на «ты»** Вятры, Што лятуць з Бэтлеему* (Р.Барадулін). Рус. ***на** что.*

**НА[1]-2** *каго/што* Він. Намінат; пасля дзеяслова *казаць* у значэнні ‘называць’: ***На малькоў ды малёчкаў** у нашым Загоры казалі аўсючкі* (Я.Брыль). ***На рыбу** кажуць, што яна не здохла, а заснула* (Я.Брыль). // *– Ах ты, стары пёс, калі ж я **на цябе** казаў сабака?* Рус. ***о** ком/чем говорить, что ...;* Він. *кого/что называть кем/чем.*

**НА[1]-3** *каго* Він. Адрасат негатыўнай інтэнцыі: *Пакрыкваць **на каня**. ▬ Маці яшчэ з-за парога накрычыць **на Алёшу,** што ён аблыхаў з раніцы, як сабака, усю вёску* (І.Пташнікаў). ***На пахілых** і сабакі брэшуць зласней і гарэй* (Я.Колас). *Алеся, прытупнуўшы **на сучачку**, каб ішла дахаты, спалохана азірнулася, ці не відно дзе таго Раковага сабакі* (В.Адамчык). *Памятаў, напрыклад, як той у следчай камісіі тупатаў **на яго** нагамі* (У.Караткевіч). // ***На пень** брахаць, **на калоду** тукаць. Каб ты, дай божачка, **на месяц** брахаў!* Рус. ***на** кого.*

**НА[1]-4** *каго* Він. Адрасат праклёну – асоба ці які-небудзь орган чалавека: ◊ ***Каб на ...; няхай на ...; бадай на ...*** ▬ *А бадай **на іх** упадкі і паморак бог наслаў* (Я.Колас). // *Каб **на яго** агні/халера/трасца...; няхай **на іх** паморак / хвароба / ліха ...; бадай **на яе** ўпадкі. Неўмірушчая **на яго!**. А каб **на цябе/ на вас** здыхач /згуба / трасца / халера ...! А каб **на цябе** качкі! Здыхаты **на цябе** няма! А няхай **на іх** немач / попадзь / чэмер / ліха ...! А ліха **на тваю галаву**! Каб **на твае вочы** людзі зямлю сыпалі! Каб яму прышч / кароста / скула **на язык**! **На ката** пацягушкі, а **на дзеці** растушкі*. Рус. ***на** кого*.

**НА[1]-5** *каго* Він. Адрасат: дэстынатыў: *Працаваць **на сябе**. Купіць прадукты **на сям'ю**. **На ўсіх** не дагодзіш. Сцёпка некалі **на пана** працаваў, як чорны вол* (К.Крапіва). ◊ ***На сваю галаву***. Рус. ***на** кого.*

**НА[1]-6** *каго* Він. Сітуант: суагенс нечаканай сустрэчы: *Нарвацца **на патруль**. На рагу вуліцы наткнуцца **на знаёмага*** (= сустрэцца са знаёмым). Максімальна збліжаецца з інструментнай семантыкай: *Хтосьці ў цёмным кутку наляцеў **на мяне** нечакана, ледзь не збіў мяне з ног* (А.Куляшоў: ТСБПШ). Рус. ***на** кого.*

**НА[1]-7** *што* Він. Аб'ектн.: дэлібератыў: *Масавая літаратура як беларуская праява ... то сакральныя выбухі Беларускага Духу, не апрацаваныя мастакоўскім майстэрствам, або недапрацаваныя, выбухі, якія кажуць **на агульную тэндэнцыю** беларусабудаўніцтва* (Л.Вашко). *Ледзь быў час выпаліць з марціры **на трывогу*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Загукаў **на працу** гонг* (А.Куляшоў: ППШ). ↔ **На тое, каб; на тое, што:** *Дагаварыліся **на тое, каб** дагаварыцца* (К.Чорны). *Традыцыйна гістарычны позірк на беларускую літаратуру пачатку ХХ стагоддзя кажа нам **на тое, што** ўжо на самым раннім этапе ейнага станаўлення (нашаніўскі перыяд) яна прыходзіць у сусветную гісторыю праз адметныя, не падобныя да іншых, уласнабеларускія прыступкі* (Л.Вашко). Сін. *аб*. Рус. ***о** чем.*

**НА[1]-8** *каго/што* Він. Аб'ектн.; пасля прэдыкатаў тыпу *спадзявацца, мець надзею* і інш.: *Спадзявацца **на ўдачу**. Мець надзею **на падтрымку**.* ━*Спадзяванні хіба што **на «а раптам»*** (Н.Капа). *І толькі **на сына** надзея адна* (П.Глебка: ППШ). *Ніякай надзеі **на ўдачу** цяпер не было* (І.Мележ). *Наступнага дня мы выбраліся вяртацца ў Павурную, і з намі Вацлаў, пакідаючы дом **на ласку божую*** (В.Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). *Зрабіць скідку **на старасць*** (ППШ). ◊ ***Браць на веру*** – давяраць. ***Браць на арапа*** – падманваць. ***Браць на змор*** – адольваць, давёўшы да поўнай страты сіл. ***Здацца на літасць** каго* – не супраціўляцца. ↔ **На тое што; на тое каб:** *Год назад ён таксама спадзяваўся **на тое, што** ўсё як-небудзь абыдзецца, як абыходзілася ўжо трыццаць два дні* (В.Быкаў). *Увесь наш лад жыцця накіраваны **на тое, каб** заўсёды перамагала, брала верх чыстае, светлае, справядлівае* (Інт.). Рус. ***на** кого/что.*

**НА[1]-9** *каго/што* Він. Аб’ектн.: дэлібератыў пасля дзеясловаў са значэннем ментальнай дзейнасці, у тым ліку і дзеяслова *забыцца*: *Мы часта **забываемся на тое**, літаратура ёсць мастацтва* (К.Чорны). *Няўжо тыя, хто не разумее, так **забыліся на сваю маладосць?*** (І.Шамякін). *Адзіны бог ведае, што я для сябе яшчэ адкрываў, забываючы і **на пакуты** і **на нудоту** бальнічнага існавання* (А.Фомчанка). *Месца **забывалася на сына** ў безлічы падзей, тур-*

*бот і спраў. А ён раптам гонарам Айчыны, гонарам народа свайго стаў* (Н.Гальпяровіч. Скарына). ↔ **На тое што** (злучнік); **на тое, што** (злучальн. сл.), **які...:** *Напружанне ў душы крыху зменшылася, і Іван, нібы зводдаль, са здзіўленнем азірнуўся ў думках* ***на тое, што*** *сталася ў гэты шалёны дзень* (В.Быкаў). *Ці, можа, забыўся Мацей* ***на тое,*** *якога меў сына?* (М.Вайцяшонак); з рэдукцыяй указальнага слова: *Адбылося: сякера* ***забылася на голле****, Сады –* ***што*** *трэба цвісці, А я –* ***што*** *ты чакаеш мяне* (В.Санко). Сін. *аб*. Рус. ***о*** *ком/чем.*

**НА[1]-10** *каго/што* Він. Аб'ект чакання: *Чакаць* ***на маршрутку***. **—** *Ды не, чую, як гавораць некалькі чалавек адзін цераз аднаго, я прыткнуў яго да слупа прыпынку ля кінатэатру; потым я стаяў побач і* ***чакаў на аўтобус*** (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Рус. – Род. без предлога: *ждать* ***чего.***

**НА[1]-11** *каго/што* Аб'ект перажывання за каго/што-н.: *Тася радавалася* ***на дачку*** *і трывожылася за яе* (І.Шамякін). Сін. *за*. Рус. ***за*** *кого/что.*

**НА[1]-12** *каго/што* Аб'ектн.: дэлібератыў наракання: *Наракаць* ***на лёс***. **—** *А Даніла плакаў* ***на сваю злую долю*** (В.Дунін-Марцінкевіч). *Грэх, чалавеча****, на жыццё*** *крыўдаваць* (ППШ). ↔ **На тое, што**. Рус. ***о*** *чем* (*плакал* ***о доле***); ***на*** *что* (*сетовал* ***на долю***).

**НА[1]-13** *што* Він. Аб'ектн.: перцэптыў пры дзеясловах *дзівіцца, здзіўляцца*: *Людзі дзівіліся* ***на незвычайнае відовішча.*** **—** *Чыжык найбольш дзівіўся* ***на схуднелыя твары*** *новых сяброў,* ***на*** *абтрапанае, бруднае* ***адзенне, на абутак****, з-пад падэшваў якога відаць былі босыя ногі* (М.Лупсякоў). Сін. *з; з повада*. Рус. *по поводу;* Дат. без предлога: *удивляться* ***чему***.

**НА[1]-14** *што* Він. Аб'ектн.: інструментыў-прылада, за якую чапляюць што-н.: *Дзверы былі зачыненыя* ***на замок.*** *Лавіць рыбу* ***на блёсны***. **—** *Яхімаў воз ужо прыбралі, Каня* ***на лейцы*** *навязалі Ў кустах альховых каля дуба, Дзе пагуляць было так люба* (Я.Колас). *Кажухі зашпільвалі* ***на брызгулі*** *– такія прадаўгаватыя гузікі,* ***на якія*** *накідвалася пятля* (в.Погіры Дзятлаўск. р-н). *І рыба не хацела брацца ні* ***на блёсны****, ні* ***на нажыўку*** (Я.Брыль). // ***На хвост*** *сарокі начапі. Начапі* ***на сваю шыю****, а я к табе прышыю.* ◊ ***Матаць на вус.*** – запамінаць. **—** *Янка ўсё* ***на вус*** *матае, адказвае гладка* (Я.Колас). ◊ *Браць* ***на буксір*** – памагаць адстаючаму. ***Браць на заметку/ на карандаш*** – запамінаць. ***Браць на мушку/на прыцэл*** – сканцэнтраваць увагу на кім-н. ◊ ***На жывую нітку*** **–** нетрывала (зрабіць што-небудзь). **—** *Двор зарос травой, паркан пастаўлен* ***на жывую нітку****, на хляве – прагніўшая страха* (І.Навуменка). Сін. *з дапамогай*. Рус. ***на*** *что.*

**НА¹-15** *што* Він. Аб'ектн.: інструментыў-прылада: *Муку прасеяць* ***на сіта*** *Белым пылам даль закрыта, ходзяць віхры вірам, прасяваюць снег* ***на сіта*** *у бясконцай шыры* (Я.Колас). Сін. *праз*. Рус. ***через*** *что*.

**НА¹-16** *што* Він. Аб'ектн.: нерухомы інструментыў, на які натыкаюцца: *Натыкацца* ***на мэблю****. Накалоцца* ***на*** *іржавы* ***цвік.*** *Наляцець* ***на плот.*** **—** *І дзе ён ні павернецца, то ўсюды так ці іначай натыкаецца* ***на праклятае палена*** (Я.Колас). Рус. ***на*** *что*.

**НА¹-17** *што* Він. Аб'ектн.: інструментыў-дырэктыў: *Матросы селі* ***на вёслы****. Хлапца адразу пасля вучылішча паставілі* ***на*** *складаны* ***станок****.* **—** *Пасадзяць* ***на новую машыну*** *– адразу два планы будзе* (з размовы таксістаў). Рус. ***на*** *что*.

**НА¹-18** *што* Він. Аб'ектн.: інструментыў успрымання пасля дзеясловаў *чуць, бачыць*: ◊ ***Чуць на ўласныя вушы. Бачыць на свае вочы****.* **—** *Быць у Парыжы і не пабачыць* ***на свае вочы*** *Эйфелеву вежу – недаравальная рэч* («Звязда», 18.05.05). *Помніцца выступленне Максіма Танка на вялікім літаратурным вечары ў БДУ, дзе мы, студэнты-навабранцы, увачавідкі бачылі,* ***на свае вушы*** *ўпершыню чулі тых, з кім сустракаліся дагэтуль толькі на старонках чытанак і хрэстаматый, газет ды часопісаў* (М.Мікуліч). ◊ ***Трапіцца на вочы. Папасціся на зубы. Упасці на вока.*** Рус. ***своими глазами; своими ушами****.*

**НА¹-19** *што* Він. Аб’ектн.: дэстынатыў: *Сродкі* ***на добраўпарадкаванне*** *горада. Аўчыны* ***на кажух****. Грошы* ***на вяселле.*** **—** *Бярвенне* ***на новую хату*** *склалі пад тэнтам. Пакуль што нам вялікага завода не трэба, мы зрабілі невялікі, каб мець сваю* ***цэглу на будаўніцтва*** (К.Чорны). *Гарод* ***на агуркі*** *займае ўвесь палетак* (А.Міцкевіч. Пер. П. Бітэля). *Найшлі час* ***на размовы*** (М.Лынькоў). *Я ўжо і адзежу* ***на пахаванне*** *прыгатавала* (з размовы). *– Адпусці. Усё, што ёсць у маім абозе, пакінем табе* ***на абжытак*** (А.Бажко). *Куды,* ***на што*** *ўжываць вашую грубую сілу – гэтаму вы так і не навучыліся* (У.Караткевіч). *Скура і футра паўночнага аленя ідзе на розныя прамысловыя вырабы* (В.Вольскі). // *Козлік, козлік, выстаў рогі, дам тры грошы* ***на пірогі****. Скурка* ***на боты****, язык* ***на падэшвы****, зубы* ***на падковы****. Каб табе сарочку* ***на смерць*** *купілі! Каб ты* ***на лякарства*** *прасіў! Давай бог ахвоту* ***на гэту работу. На вячэру*** *зловіш цяцеру.* ***На вячэру*** *яглы, што так спаць ляглі*. ◊ ***На падрост*** (пашыць, купіць) – з запасам на рост (ТСБМ). Тое ж – ***на вырост.*** **—** *Купіць абутак* ***на вырост****.* ↔ **На тое каб**. Сін. *пад*. Рус. ***на*** *что;* ***под*** *что;* ***для*** *чего;* ***к*** *чему.*

**НА¹-20** *што* Він. Аб'ектн.: інструментыў вымярэння: *Мераць даўжыню* ***на пядзі****. Мераць жыта* ***на асьміны****, а агуркі лічыць* ***на***

***копы***. ▬ ***На шклянкі*** *вада вымяраецца, яна даражэй за віно* (А.Астрэйка: ППШ). ◊ ***Мераць на свой аршын*** – меркаваць са свайго асабістага погляду. ◊ ***Мераць на адзін аршын*** – падыходзіць да ўсіх і да ўсяго аднолькава. Сін. – Тв. без прыназоўніка: *мераць асьмінамі, лічыць копамі*. Рус.– Тв. без предлога: *мерять рожь* ***осьминами.***

**НА¹-21** *каго/што* Він. Аб'ектн.: рэлят адпаведнасці: ***На няма*** *няма й суда людскога* (Р.Барадулін). ***На смашны кусочак*** *найдзецца куточак / раточак. Шые як* ***на мярца.*** *Папала брага* ***на ўрага.*** Рус. ***на*** *кого/что*.

**НА¹-22** *што* Він. Аб'ектн.: дэстынатыў прысвячэння: *Верш Янкі Купалы* ***«На смерць Сцяпана Булата»***. Рус. ***на*** *что*.

**НА¹-23** *каго* Він. Аб'ектн.: пацыентыў: *Напасці* ***на канвой***. *Паляваць* ***на ваўкоў.*** ▬ // *«****На тваю цешчу*** *мядзведзь напаў, чуеш?» – «Калі напаў, то няхай сам бароніцца». Адсохні тая рука, што* ***на бацьку*** *падымаецца! Напаў як воўк* ***на авечку.*** ◊***Налажыць на сябе рукі*** – самагубства. ▬ *У мяне не заржавела б і рукі* ***на сябе*** *налажыць, але дзетак куды?* (В.Распуцін). Рус. ***на*** *кого*.

**НА¹-24** *што* Він. Аб'ектн.: аб'ектыў: *А за сталом* ***на верашчаку*** *падгатаўлялі ўжо атаку, – на гэта хлопцы былі хваты* (Я.Колас). *Накінуўся як галодны* ***на хлеб*** */ сабака* ***на костку.*** Рус. ***на*** *что*.

**НА¹-25** *каго/што* Аб'ектн.: рэлят ўзаемазамены: *Памяняць быка* ***на індыка***. Сін. – Тв. без прыназ.: *замяніць што* **чым**. Рус. ***на*** *кого/что*.

**НА¹-26** *каго/што* Він. Крытэрый праўдзівасці пры клятвах, замовах, прыкметах: *Клянецца* ***на жонку***, *клянецца* ***на дзетак***, *што ён не гультай* (Я.Купала). *Што быў у тэатры, што бачыў паноў,* ***на што*** *ўсягды прысягнуць я гатоў* (ананімная гутарка XIX ст.: ППШ). *Заварожым мы* ***на росы і на шолах*** *ціхіх траў, ці сапраўды, мой прыгожы, ці надоўга пакахаў?* (М.Машара). ↔ **На тое каб:** *Не* ***на тое*** *сучка вые,* ***каб*** *ты да мяне хадзіў* (нар.). Рус. – Тв. без прыназоўніка: *Клянусь* ***честью.***

**НА¹-27** *каго/што* Він. Рэлят-эталон падобнасці: *Сын падобны* ***на бацьку***. ▬ *Гаворка, не падобная* ***на рускую*** (ППШ). *І ў палясоўшчыцкім ён* [бацька] *чыне дапраўды змахвае* ***на пана****!* (Я.Колас). Сін. *да*. Рус. ***на*** *кого/что*.

**НА¹-28** *што* Він. Рубрыкатыў характарызацыі па знешняй прыкмеце: *Прыгожы* ***на твар***. *Бедны* ***на грошы. На выгляд*** *непрыгожы, але душа добрая. Кіслы* ***на смак***. ▬ *Яшчэ раз прыходзіў да вываду: які багаты наш край* ***на гісторыю, падзеі, цікавых людзей*** (Я.Пархута). *Крэмній прадухіляе выпадзенне валасоў.* ***На яго*** *багатыя клубніцы, крапіва, проса* («Родны край», 2009). // *Мусіць, ты глухі* ***на адно вуха***. ***На адно вока*** *глухаваты,* ***на адно вуха*** *слепава-*

*ты.* Сін. – Тв. без прыназоўніка: *бедны грашыма; прыгожы тварам.* Рус. ***на*** *что;* Тв. без предлога: *красив* ***душой.***

**НА¹-29** *што* Він. Рубрыкатыў у складзе прэдыката: з дзеясловам *хварэць*, яго дэрыватамі і сінонімамі; намінацыі хваробы або хворага органа: *Хварэць* ***на сухоты***. — *Ад* ***хворых на сухоты*** *(у мястэчку быў тады шпіталь для інвалідаў вайны) Марцін дачуўся, што «грыбок», настоены на гарэлцы, – найлепшае лякарства ад сухотаў* (В.Адамчык). *Ужо значна ачуняў, ужо* ***не мучыўся на жывот****, не млеў* (М.Гарэцкі). *Меншы ўнук захварэў* ***на лёгкія*** (М.Сердзюкоў). ***На язву хварэў****, быў худы, як трэска* (В.Адамчык). *Баба Стася хварэла* ***на галаву*** (М.Вайцяшонак). *Яшчэ ў дзяцінстве князёўна Францішка захварэла* ***на тэатр*** («Звязда», 16.02.05). Пры дзеяслове *хварэць* у знач. ‘перажываць за каго/што’ ужываецца *за*: *Хварэць* ***за мінскі «Дынама».*** *Я хварэю* ***за гродзенскі «Нёман».*** ◊ ***Хварэ на кішанковыя сухоты*** – крадзе. ◊ ***На пана захварэў*** – лянівы. ◊ ***Лёгкі на язык*** – гаваркі. ◊ ***Лёгкі на слова*** – шмат абяцае. ◊ ***Лёгкі на ногі*** – многа і хутка ходзіць. ◊ ***Лёгкі на ўспамін*** – з'яўляецца ў той момант, калі пра яго гавораць. ◊ ***Лёгкі на пад'ём*** – той, хто хутка згаджаецца на просьбу паехаць, пайсці, штосьці зрабіць. Рус. – Тв. без предлога: *Заболеть* ***гриппом***; у пераносн. ***за***: *Болеть* ***за «Динамо»***.

**НА¹-30** *каго* Він.: Квалітатыў у складзе прэдыката са значэннем станаўлення прызнака: *Іван тым часам вырас* ***на дзецюка*** (Я.Брыль). *Міша ўжо* ***браўся на кавалера****, добра танцаваў, захапляўся дзяўчатамі* (Я.Брыль). *А я хачу, каб наступнай зімою, калі датэрмінова здасі экзамены за універсітэцкі курс, – гэта стала тваёй дысертацыяй* ***на кандыдата*** (У.Караткевіч). // *Выставіў яго* ***на дурня***. Рус. Тв.: *становиться* ***кем/чем*** (*становиться* ***кавалером****; выставить* ***дураком***).

**НА¹-31** *каго* Він. Кваліфікатыў: *Вывучыцца* ***на шафёра / настаўніка / урача***. — *Федзьку Капусціна мы вывучылі* ***на баяніста*** (Я.Брыль). *Салдаты пакінулі князя і абгуртавалі яго Абдзіраловіча, быццам абіралі так* ***на свайго глаўнага*** (М.Гарэцкі). *Ён быў чалавек удумлівы і разумеў, што гэта пакутна і марудна нараджаўся ў ім той,* ***на каго*** *ён менш за ўсё рыхтаваў сябе – нараджаўся баец* (В.Быкаў). *Варта нагадаць яшчэ і кс. Фр. Будзьку (памёр у 1920 г.), беларускасць якога настолькі была вялікай, што з гэтай прычыны польскія каталіцкія ўлады не хацелі свянціць яго* ***на ксяндза*** («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). Сін. *за* (з дзеясловам *выбіраць*). Рус. ***на*** *кого;* ***за*** *кого;* чаще – Тв. без предлога: *избирать* ***главным.***

**НА¹-32** *што* Він. У складзе прэдыката: крытэрый характарызацыі па магчымасцях, здольнасцях: *Майстар* ***на ўсе рукі****. Спец* ***на***

***выдумкі***. *Шанцуе* ***на грыбы.*** *Дасціпны* ***на жарты.*** ▬ *Сухое узбекскае неба, скупое* ***на дождж і гром*** (Я.Колас). *Харошы ён чалавек, сапраўдны мужчына,* ***цярплівы на боль,*** *шляхотны, а гэта куды важней за тое, што ён дырэктар!* (Л.Геніюш аб тав. Матузаве ў пісьме да М.Танка). // *Харош* ***на прыказкі****, а паглядзім, какоў будзеш* ***на прывязкі***. *Ласы* ***на дзяўчат / на мартаплясы***. *Ахвочы* ***на каўбасу***. *Спрытны* ***на гульні***. ***На яду*** *мастак, а* ***на работу*** *сяк-так. Ласун* ***на клёцкі.*** *Ліжа лапкі* ***на чужое дабро.*** Сін. *да*. Рус. ***на*** *что;* ***к*** *чему.*

**НА[1]-33** *што* Він. Лексічны кампанент у складзе прэдыката пасля мадалізатара са значэннем унутранай мадальнай інтэнцыі; пры назоўніках працэсуальнай семантыкі і іх субстытутах: *Адважыцца* ***на прызнанне.*** *Рашыцца* ***на ўцёкі.*** ▬ *Тым самым запярэчыўшы ўсёй сістэме папярэдніх савецкіх стэрэатыпаў: беларус у любым узросце і ўва ўсе часы – лясны мсцівец, гатовы* ***на любыя ахвяры*** («Arche»). *У юнацтве я сніў мора. Як мне хацелася на яго хвалях, паказаць, што* ***на ўсё*** *я, на ўсё здатны!* (К.Кірэенка). Рус. ***на*** *что;* ***к*** *чему.*

**НА[1]-34** *што* Він. Лексічны кампанент у складзе прэдыката: спосаб-цэнтр ўспрымання: ***Браць на ўвагу.*** *Не ідзе* ***на думку***. *Прыйшло* ***на памяць***. ▬*Тут адна думка ўзбегла мне* ***на яў*** (Я.Купала: ППШ). *Вярнулася стома* ***на вочы****, мякка, ўладна асела* ***на душу*** (Я.Брыль). Сін. *у*. Рус. ***на*** *что;* ***во*** *что.*

**НА[1]-35** *што* Він. Лексічны кампанент у апісальных прэдыкатах пасля эксплікатара: *Прыйсці* ***на дапамогу*** (дапамагчы). *Падняцца* ***на барацьбу*** (змагацца). Рус. ***на*** *что.*

**НА[1]-36** *каго/што* Він. Аб'ект-фінітыў у апісальным прэдыкаце пры дзеяслове *ўзбіцца* 'дасягнуць чагосьці, прыдбаць вялікімі намаганнямі': *Узбіцца на каня* 'назапасіць грошай, каб купіць каня'.▬ *У семнаццаць гадоў ён ужо* ***ўзбіўся на невялікі капітал*** («ЛіМ», 25.01.85). *Дарэчы, тэатр оперы і балету ніяк не можа* ***ўзбіцца на арыгінальны рэпертуар*** (Я.Колас). *Калі я цяпер* ***узбіўся на добрую гаспадарку****, дык ужо мяне багатыром лічаць* (К.Чорны). ***На грошы*** *неяк* ***узбіліся****, менш пазыкі засталося – хацелася ўсё давесці да ладу* (Н.Кучкоўская). ◊ ***Стаць на свае ногі***. Рус. – нет эквивалента; описательн.: *достичь оригинального репертуара; скопить капитал*.

**НА[1]-37** *што* Він. Фінітыўны кампанент у маўленчаэтыкетных формулах-зычэннях: // ***На доўгі век, на добрае здароўе***! ***На дабро!***; ***На здароўе*** *спажыць! Гадуйся* ***на радасць****, дзіцятка!* ***На ўраджай, на ўпакой****, каб мы выпівалі яшчэ па такой! Багат* ***на ўчын****!* (= зычэнне, калі расчыняюць хлеб). *Багата* ***на ўток****!* (= зычэнне, калі ткуць). ◊ ***На здароўе!*** ▬ *– Дзякуй за абед. –* ***На здароўечка****!* ▬ *А калі не пашанцуе – крышы* ***на здароўе*** *капусту, ласуйся яблыкамі і*

*грушамі – латарэя без пройгрышу!* («Arche»). У антыэтыкетных формулах-лаянках: ◊ ***На ліха!*** ━ ***На ліха*** *нам ваш рай!* (Я.Колас). ◊ ***На халеру!*** ━***На халеру*** *тая работа* (В.Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). ◊ ***На чорта!*** ◊ ***Як на тое ліха*** – не ў пару. ━*Рыбакі боўталіся ў Нёмане. Але,* ***як на тое ліха****, рыба не лавілася* (С.Александровіч). У этыкетных і антыэтыкетных формулах утвараюцца ўскладненыя сінтаксемы з Дав.: *на што каму:* ***Людзям на завісць****, а* ***нам на карысць****!* ***На здароўе нам, на злосць вам****!* ***Ізбе на стаяннійка, хазяіну на добрае здароўе****, штоб хлебушак радзіўся і статачак пладзіўся!* ***На пагібель таму****, хто вораг каму! Добрым* ***на здароўе****, ліхім* ***на безгалоўе****!* ***На здароўе*** *нам,* ***на злосць*** *варагам,* ***на безгалоўе*** *вялікім панам, што зайздросцяць нам!* Рус. ***на*** *что.*

**НА¹-38** *што* Він. У апісальных прэдыкатах пераходу стану асяроддзя, прыроды, змены пары сутак; ужываецца ў безасабовым сказе: *Збіраецца* ***на дождж.*** *Бярэцца* ***на мароз.*** *Ідзе* ***на шарую.*** *Яшчэ й* ***на дзень*** *не займала.* ━ *Дзесьці непадалёк спрасонку кукарэкнуў певень, і Валодзя здагадаўся, што бярэцца* ***на раніцу*** (В.Гардзей). *Сонца ішло* ***на спад****, а смаліла – не давядзі як* (Я.Пархута). ◊ ***Чэрці на кулачкі не браліся.*** ━ *Было яшчэ рана – чэрці* ***на кулачкі*** *не выходзілі! – як прачнуўся Паўлюк* (Я.Колас). Рус. эквивалента нет; сравн.: *Вот-вот пойдет дождь. Подмораживает. Смеркается. Светает.*

**НА¹-39** *што* Він. У апісальных прэдыкатах пераходу да іншага спосабу дзеяння: *Перайсці* ***на спакойны крок****. Перайсці* ***на шэпт.*** *Перавесці каня* ***на рысь.*** ━ *Коні, узмакрэлыя ад далёкай дарогі і хуткай язды, як толькі ім дазволілі перайсці* ***на ступу****, пачалі задаволена фыркаць, рупліва тупаючы па глыбокім пяску* (Я.Брыль). Рус. ***на*** *что.*

**НА¹-40** *што* Він. Характарызатар-кансеквентыў: кампарат суперлятыва: *Высах* ***на шчэпку.*** ━ ***На капусту*** *людзей зрэзалі і* ***на кашу*** *з зямлёй змяшалі* (Я.Купала). *Тады загарэлася ненавісць мас,* ***на тло*** *спапяліла варожую кроў* (П.Глебка: ППШ). З прыслоўем: *Ваенна-палітычныя цяжкасці ды гаспадарчы разлад прычыніліся да таго, што ледзь не ўсе высілкі ягоных* [караля] *захадаў сышлі* ***на дарма*** (Г.Сагановіч). *Высах* ***на костку / на гарохаву лапатку.*** *Змалолі яго* ***на табаку.*** ◊ *Збіць* ***на горкі яблык.*** Рус. ***во*** *что;* ***до*** *чего: высох* ***в щепку;*** *сгореть* ***дотла.***

**НА¹-41** *што* Він. Характарызатар-кансеквентыў адносна асобы-эксперыенцэра: ◊ ***На дзіва / надзіва; на радасць; на здзіўленне; не на жарт; на рэдкасць.*** ━ *Бацька* ***не на жарт*** *устрывожыўся. Птушка была* ***на здзіўленне*** *вельмі рахманая. Парсюк* ***на дзіва*** *хутка рос і набіраў вагу.* ━ *Кожны сеў з боку «свайго» гаспадара, у канцы стала і,* ***на маё здзіўленне****, надта мірна прывітаўся з закон-*

*ным ворагам* (У.Караткевіч). || Прыстаўка ў прыслоўі: *Яна* [рэчка] *была* ***на****дзіва празрыстая для Прымор'я* (У.Караткевіч). Сін. *да*. Рус. ***к*** *чему;* ***на*** *что*.

**НА¹-42** *што* Він. Характарызатар; у спалучэннях з прыметнікам: *Жыць* ***на шырокую нагу.*** *Песня* ***на веснавы лад.*** *Яда* ***на скорую руку.*** *Сшыць* ***на жывую нітку.*** *Думаць* ***на свежую галаву.*** *Працаваць* ***на галодны жывот.*** *Абуцца* ***на босую нагу.*** *Скласці хату* ***на нямецкі вугал.*** **—** *Настроіць думкі* ***на філасофскі лад*** (ППШ). *І цягам доўгія часіны, дзявочыя забыўшы сны, свае шырокія тканіны* ***на лад пярсідскі*** *ткуць яны* (М.Багдановіч). ◊ ***На свой капыл***. **—** *Рыгор і дагэтуль гне* ***на свой капыл*** *усё ў хаце, але, апроч неладоў, нічога з гэтага няма* (К.Чорны). ◊ ***На адзін твар/капыл/манер/лад*** – аднолькава. ◊ ***Спяваць на новы лад*** – памяняць сваю думку. ◊ ***На добры лад*** – пасапраўднаму. **—** ***На добры лад*** *трэ было запрасіць мужчын у хату, але гаспадары бачылі, што тыя вельмі спяшаліся* (Інт.). Рус. ***на*** *что*.

**НА¹-43** *што* Він. Характарызатар-інтэнсіў; у спалучэннях з квантарамі ўсеахопнасці *увесь, цэлы, поўны* пры назоўніках з часавым і прасторавым значэннямі: *Закрычаць* ***на ўвесь голас***. *Загаласіць* ***на ўсю хату.*** *Адзіны* ***на цэлы свет***. **—** *Ён найдасканалейшым парадкам ведаў тутэйшую мясцовасць* ***на самую шырокую акругу*** (К.Чорны). *У хаце сядзіць чарнявая Сонечка,* ***на поўны рот*** *запіваючы хлеб сырадоем* (Я.Брыль). *Ты глядзела –* ***на ўсю шыр*** *павекі* (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). *Кладуцца дрэвы старчмака* ***на ўвесь сасновы рост*** (П.Броўка). // *Банкет* ***на ўвесь свет***. *Блуканне* ***на цэлае ранне***. *А яна плача проста* ***на ўсё горла***. *Бяры* ***на ўсе засаўкі***. *Будзь здаровы* ***на ўвесь год,*** *як калядны лёд.* ◊ ***На поўніцу***. ◊ ***На ўсе / розныя лады*** – па-рознаму. **—** ***На ўсе лады*** *заліваліся жаваранкі, свісталі шпакі* (Дайліда: ТСБМ). Рус. ***на*** *что*.

**НА¹-44** *што* Він. Характарызатар: партытыў: *Падзяліць страву* ***на порцыі***. *Распілаваць бервяно* ***на дошкі.*** **—** *Фурманкі... раскідаліся па дарозе* ***на дробныя рыштункі*** (К.Чорны). // *Разарві цябе* ***на дванаццаць радзімцаў*** *і з прыпадкамі*. Рус. ***на*** *что*.

**НА¹-45** *што* Він. Характарызатар дзеяння ў спалучэннях, блізкіх да прыслоўяў: ◊ ***На ўзгад; на пераменку; на выскач; на адрэз*** і інш. *Прыкідваць* ***на вока***. **—** *Раннем* ***на выскач*** *імчалі шляхамі, коней празваўшы сваіх гарбункамі* (П.Броўка: ППШ). *Дзецюкі чытаюць «Дзеянія святых апосталаў»* ***на пераменку*** (Я.Колас). *Сёння паспрабаваў прыняць* [тэлеграфную перадачу] ***на слых*** (Хв.Шынклер). *Ён паказаў рукамі на поўныя шклянкі, а тады перанёс адну асцярожна цераз увесь стол, каб не скрануць кволы нават* ***на вока*** *каптарок, і паставіў перад Рахімам* (І.Чыгрынаў). Рус. ***на*** *что*.

**НА[1]-46** *што/які колер* Він. Характарызатар па колеры; з субстантываваным прыметнікам: *У цяньку пад разгалістымі ліпамі стаяў невялічкі, пафарбаваны* ***на жоўта*** *домік з чарапічным дахам* (В.Адамчык). Сін. *у.* Рус. ***во*** *что.*

**НА[1]-47** *што/колькі балаў* Він. Характарызатар: ацэначны інтэнсіў: *Выканаць працу* ***на выдатна.*** *Здаць экзамен* ***на пяць***. *Напісаць тэст* ***на дзевяноста балаў.*** — *І ты, Юрка, гэты экзамен вытрымаў* ***на выдатна*** (П.Пестрак). ◊ ***На свой лад*** – па-свойму. Рус. ***на*** *что/сколько баллов.*

**НА[1]-48** *колькі адзінак* (павялічыць/паменшыць) Він. Квантытатыў: колькасная розніца пры параўнанні: крытэрый дамінавання; пасля кампаратыва: *Купанне трэба закончваць апалосканнем дзіцяці вадой, тэмпература якой* ***на 1-2*С*** *ніжэйшая, чым у ванне* (Асновы мед. ведаў). *Насця была старэйшая за брата* ***на чатыры гады*** (Т.Хадкевіч). Рус. ***на*** *сколько единиц;* Тв. без предлога: ***годом*** *старше;* ***двумя градусами*** *ниже.*

**НА[1]-49** *колькі адзінак* (розніца, несупадзенне). Він. Квантытатыў: крытэрый адрознення: *Розніца ва ўзросце* ***на два гады.*** *Памылка* ***на пяць тысяч*** *рублёў.* —▶***На колькі*** *звычайна ўвесну падымаецца вада ў возеры? – пацікавіўся Беразінец* (П.Броўка). *Да 10 ліпеня нямецка-фашысцкія войскі прасунуліся* ***на 450 – 600 км,*** *захапілі значную частку Беларусі* (Энцыкл. гіст. Беларусі, т.1). // *Не перапусціць* ***на макавае зярнятка*** (нар.). Рус. ***в*** *сколько единиц; разница* ***в два года***.

**НА[1]-50** *колькі адзінак/што/як/які* Він. Характарызатар-кваліатыў па колькасным прызнаку; ужываецца з колькаснымі словамі, колькасна-іменнымі спалучэннямі: *Дом* ***на два канцы***. *Абоз расцягнуўся* ***на вярсту***. — *Зазыбава Марфа расчыніла* ***на два бакі*** *вароты, адкінула на загавальню дошку, каб можна было праехаць на запрэжаным кані* (І.Чыгрынаў). *Гумно* ***на двое варот*** *– не гумно, а гмах* (А.Чарнышэвіч). //*Вылечыўся* ***на адзін бок***. *Даў* ***на сем званоў / на тры школы*** (= невялікую ахвяру на царкву – праваслаўную ці яўрэйскую). *І* ***на грош*** *яму не веру. І* ***наногаць*** *яму нічога не даў. Кату* ***на адзін зуб***. ***На баранкі*** *зарабіў. Не ўзяў* ***на макуліначку***. ***На тры дні*** *паеў. Просім* ***на капеечак восем***. *Нос* ***на семярых*** *рос.* ***На сем сажон*** *пад зямлёю бачыць.* Рус. ***на*** *что/сколько единиц.*

**НА[1]-51** *колькі адзінак* Він. Прэдыкат: квантытатыў-дыстрыбутыў да суб'екта-генітыва: *Запасаў –* ***на год***. *Яды –* ***на цэлы атрад.*** — *Вы ж бачыце, сіл у мяне –* ***на дваіх*** (М.Гамолка). *Ды і наогул лягчэй было мне насукаць дратвы* ***на сто пар ботаў****, чым напісаць адзін ліст* (М.Гарэцкі). ◊ ***На адзін зуб***. — *Гэтага будзе* ***на адзін зуб*** (нар.).

// *Дзіва,* ***на тры капейкі*** *піва, а ўсё сяло п'яно. І* ***на панюх*** *не будзе.* Рус. ***на*** *скольких/о единиц/что.*

**НА¹-52** *што* Він. Аб'ектна-прастор.: кантактны дырэктыў – частка цела як апора для цяжару зверху ці збоку: *Вы толькі падумайце: маленькая жменька дваран і багатыроў села вам* ***на карак,*** *захапіла лепшыя землі, жыве з вашае працы і вас жа катуе* (Я.Колас). // *Чорт яму* ***на карак*** *сеў.* ◊ ***Легчы на плечы.*** ━ *Як мачыха стала, уся хатняя праца лягла* ***на плечы*** *Ніны* (П.Галавач). ◊ ***Сесці бацьку на шыю*** – жыць за бацькаў кошт. ◊ ***Браць на сябе*** – быць адказным. ◊ ***Браць ногі на плечы*** – уцякаць. ◊ ***Браць на пуп*** – перанапружвацца фізічна. Метаф. Рус. ***на*** *что.*

**НА¹- 53** *што* Він. Аб'ектна-прастор.: дырэктыў – паверхня для якога-небудзь сродка, рэчыва: *Хвалі набягаюць* ***на бераг. На лугі*** *сцелецца туман.* ***На зямлю*** *лёг першы снег.* ━ *Кабета ражком хусткі выцірае слязінкі, што набеглі* ***на вочы*** (С.Грахоўскі). // *Насып солі* ***на хвост****, то й зловіш.* Рус. *что* ***на*** *что.*

**НА¹-54** *што* Аб'ектна-прастор.: дырэктыў-фініш руху аднаго прадмета адносна паверхні другога прадмета: *Пакласці рукі* ***на стол****. – Рукі* ***на капот****! – загадаў амапавец.* ━ *Ён палажыў свой чамадан* ***на паліцу*** (Я.Брыль). // ***На печку*** *лёг і, як добры, уздыхае.* ◊ ***Аж вочы на лоб лезуць / павылазілі*** – моцнае, часта вельмі непрыемнае, перажыванне страху, болю, здзіўлення і іншых пачуццяў.━ *Гітлеравец любіў, каб пры яго паяўленні ў людзей ад жаху лезлі* ***на лоб*** *вочы* (А.Карпюк).Рус. ***на*** *что.*

**НА¹-55** *што* Він. Аб'ектна-прастор.: дырэктыў – вертыкальная ці гарызантальная паверхня прадмета для выяўлення, малюнку: *Нанесці малюнак* ***на тканіну****.* ━*Няхай бы кожны ведаў, як цяжка трапіць* ***на Дошку гонару, на газетную старонку,*** *як нялёгка заслужыць працоўную справу* (С.Грахоўскі). Рус. ***на*** *что.*

**НА¹-56** *што* Він. Аб'ектна-прастор.: дырэктыў – прадмет, на які надзяваецца іншы прадмет: *Надзець капялюш* ***на галаву****. Нацягнуць шапку* ***на вушы.***━*Паважная постаць у дзеда Рыгора: уздзеў акуляры* ***на нос*** (Я.Колас). // ***На цэбар*** *шапкі няма* (магазіншчыца таму, у каго вельмі вялікая галава). *Чаравічак-невялічак* ***на ножачку*** *цесен.* Рус. ***на*** *что.*

**НА¹-57** *каго/што* Він. Аб'ектна-прастор.: дырэктыў – рухомы сродак перамяшчэння: *Сесці* ***на каня****. Пасадзіць* ***на аўтобус.***━ *Увечары ўсе селі* ***на цягнік*** (К.Чорны: ТСБПШ). *Пасаджу свайго сына я* ***На жывога, На баявога Каня*** (А.Куляшоў). Ант. *з.* Рус. ***на*** *кого/что.*

**НА¹-58** *што* Він. Аб'ектна-прастор.: дырэктыў – месца, унутр якога накіраваны рух; з назвамі устаноў, прадпрыемстваў: *Ісці* ***на***

***пошту***. *Паехаць* ***на завод***. — *Пайшоў* ***на льнозавод*** *сушыльшчыкам* (С.Грахоўскі). Рус. ***на*** *что/куда.*

**НА[1]-59** *што* Він. Аб'ектна-прастор.: дырэктыў – кірунак адносна зрокавага арыенціра: *Ісці* ***на аганёк***. — *Сонцу не стаіцца, пайшло* ***на бор*** *хіліцца* (П.Броўка: ППШ). *Ён накінуў паліто і выйшаў на перон. Захацелася глянуць* ***на горад*** *свайго юнацтва* (І.Шамякін). // *Глядзіць* ***на Мінск****, а бачыць Дзвінск. Скасавурыўся як чорт* ***на папа***. *Глядзіць як мыш* ***на крупу***. Сін. *у бок*. Рус. ***на*** *что;* ***в сторону*** *кого/чего.*

**НА[1]-60** *што* Він. Прастор.: дырэктыў-фініш адносна мясцовасці: ***На лугі*** *густыя,* ***на мурогі*** *пусціць коннік друга варанога* (П.Броўка). Пры замовах-пасылах, антыэтыкетных пасылах: *Ідзі ты, бес,* ***на сухі лес****! Ідзіце вы ад мяне* ***на ростані****! Ідзі* ***на ўсе голавы****!* Рус. ***на*** *что*.

**НА[1]-61** *што* Він. Прастор.: дырэктыў-фініш адносна свету, дзяржавы, краю: *Са згоды магнатаў* ***на Беларусь і Літву*** *ўвайшлі саксонскія войскі, увесь цяжар на іх утрыманне, зразумела, лёг на народ* (К.Тарасаў). ◊ ***На свет; на белы свет; на той свет***. — *Выйду я* ***на свет*** *з мuроў* (Я.Колас). *Нябожчыка праводзіць* ***на той свет*** (К.Чорны). Рус. ***на*** *что.*

**НА[1]-62** *што* Він. Дырэктыў-аб'ект: кірунак адносна слыхавога арыенціра: ***На крыкі*** *збегліся суседзі*. — ***На лаянку*** *прыйшоў Лявон* (П.Галавач). Сін. *у кірунку*. Рус. ***в направлении*** *кого/чего;* ***на*** *что.*

**НА[1]-63** *што* Він. Дырэктыў-кірунак: *Глядзець* ***на ўсход***. *Сонца хілілася* ***на захад.*** *Дом вокнамі* ***на поўдзень***. // ***На бок****, свіны лабок, бо баравік едзе!* Рус. ***на*** *что.*

**НА[1]-64** *што/на які час* Час.: тэрмінатыў: *Сход пераносіцца* ***на вечар***. *Уся акруга знала Графава дзівацтва, Што ён не мог нікуды* ***на пару*** *сабрацца* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). // *Спарня ў дзяжу, сын* ***на вясну.*** Рус. ***к*** *какому времени.*

**НА[1]-65** *калі* З прыслоўем. Час.: тэрмінатыў: *У лінгвістыцы тэксту* ***на сёння*** *наглядна вылучаюць два асноўныя напрамкі* (В.І.Іўчанкаў). *Пан Войскі, адкладзіце вашы нагаворы* ***На потым*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *А мы разумеем паглядам і думаем дотыкам і адкладаем* ***на потым*** *сябе, каб зноў бясконцае мноства разоў вяртацца* (А.Разанаў). *І як многа дзе не паспяваеш, адкладваеш* ***на потым****, а то і прабягаеш, праходзіш міма* ... (М.Пазнякоў). ***На калі*** *прызначаны збор атрада Зорына ў лесе?* (І.Гурскі). ***На пазаўтра,*** *як я ўстаў, увесь горад аблятаў* (К.Крапіва: ППШ). // *А асьмакі трэба* ***на зараз.*** || Прыстаўка ў прыслоўі: *Робіць як* ***назаўтра***. Рус. ***на*** *когда.*

**НА[1]-66** *што/чаго/калі* Час.: тэмпаратыў: *Прыехаць **на каляды**. Зрабіць вяселле **на вялікдзень.** Вечарынкі спраўлялі толькі ў суботу і **на святдні*** (Ф.Янкоўскі). ***На вясну** Аня выйшла замуж за футбаліста* (А. Кулакоўскі). Як пашырэнне катэгорыі адушаўлёнасці у размоўным стылі магчыма супадзенне канчаткаў Він. з канчаткамі Род. (гл. у А.Карпюка: *бачыць трактара*, у В.Быкава: *шукаць другога аўтамата*): *У мяне ажно слінкі пацяклі – калі я еў тыя булкі, **на вялікадня** хіба?* (І.Шамякін). // *Каб ты **на вялікдзень** з каробак краў! Крэкча як жаба **на вясну.** Мароз як **на коляды.** Кажын знаець, што **на вялікадня** свята/празнік* ◊ ***На вялікадне / на раштво** памянута!* (= калі ў пост казалі пра скаромную яду). ***На Юр'я**, як рак свіснець. **На Хрыстоў дзень** не рассмяецца*. Рус. ***на** что/когда.*

**НА[1]-67** *што* Він. Час.: тэмпаратыў даты: ***На першае верасня** штат фірмы складаў 10 штатных адзінак* (са справаздачы). Канц. клішэ. Сін. *па стану на*. Рус. ***на** что; **по состоянию на** что.*

**НА[1]-68** *што/які раз/калі* Він. Час.: тэмпаратыў паўтаральнага дзеяння; пры спалучэннях са словам *раз*: ***На першы раз** злодзею даравалі. **На гэты раз** перамога была наша.* ◊ ***Выканаць на біс***. Рус. ***на** что/когда/который раз.*

**НА[1]-69** *што* Він. Час.: тэмпаратыў; звычайна ў спалучэнні з указальнымі словамі *наступны, той, другі, гэты*, пры назоўніках *дзень, вечар, тыдзень* і пад.: *Наведацца **на наступны дзень**. **На другі год** дачнікі прыехалі зноў. **На наступную раніцу** бусел тут як тут. Падзялі вось сёння ўсё пораўні, дык **на той год** зноў перадзельваць давядзецца* (К.Крапіва). // ***На гэта лета** добра і гэта. **На тое лета,** пасля абеда, гэтакай парой. **На той час** і мову адняло.* Рус. ***на** что/какое время.*

**НА[1]-70** *што/які тэрмін/як доўга* Він./З прыслоўем. Час.: дыменсіўпатэнсіў; з назоўнікамі і колькасна-іменнымі спалучэннямі: *Гарчычнікі акунаюць **на 5 – 7 секунд** у цёплую ваду і **на 5 – 15 хвілін** гарчычным бокам прыкладваюць да скуры* (Асновы мед. ведаў). *Пасля таго было нам **на ўвесь вечар** смеху* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Гаворка – вецер, ёй канца **на век** не будзе* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Мы з таго пакалення, з кагорты байцоў, ні **на хвілю** не можам мы вешаць галоў* (А.Куляшоў). *У Вепрах Саўка запыніўся **на некаторы час*** (Я.Колас). *На млын трэба завезці не дзесяць пудоў, а дзве-тры тоны. Каб хапіла атраду **на зіму*** (І.Шамякін). *І **на вячніны вячнін*** (Р.Барадулін). ***На крыху** ўсталявілася ціишыня* (Я.Скрыган: ППШ). // *Дала баба зарок **на рок.** Згода **на тры года.*** ◊ ***На векі** вякоў! **На векі вечныя! На ўсе вякі. На век вякоў**.* ━ *На каменні руін тваіх адбіты **на вечныя вякі** смерці і пакуты, Хірасіма* (С.Дзяргай). Рус. ***на** что/какой срок.*

**НА[1]-71** *што* Він. Сітуатыў: час + стан: *Вось Даніла смутны* ***на старасць*** *дажыўся: Трэба ж як на ліха, – трэці раз жаніўся* (В.Дунін-Марцінкевіч). Устар. Сін. *на* + Месн. Рус. ***на*** *чем.*

**НА[1]-72** *што/дзеля чаго* Дырэктыў: фінітыў-падзея: *Прыйсці* ***на вяселле****. Прыехаць* ***на хрысціны****. Збірацца* ***на экзамен****. Прыехаць* ***на практыку****. Прыехаць* ***на пабыўку****.* **▬** *Дзяўчаты ходзяць днём адна да аднае з кудзеляю* ***на папрадухі*** (А.Васілевіч). // *Іду* ***на здабыткі****, падвязаўшы лыткі. Нам што ў вастрог – што* ***на цёшчын пірог.*** *Дару мерку гліны, каб хутчэй клікалі* ***на хрысціны.*** *Ідзе як* ***на шпацыр / як на дзедавую вячэру /на паншчыну****.* ◊ ***Не на пажар*** **–** няма куды спяшацца (ТСБМ). ◊ ***Як на пажар*** **–** вельмі хутка бегчы, імчацца (ТСБМ). Рус. ***на*** *что.*

**НА[1]-73** *што* Він. Прычынна-фінітны дэстынатыў: *Берагчы* ***на ўсякі выпадак****.* **▬** ***На тое*** *ж яно і Палессе – без стрэльбы там абысціся трудна* (Я.Колас). // ***На што*** *нам што, калі ў нас во што.* ↔ **На тое ... што; не на тое ... каб:** ***Не на тое*** *Радзіма мне ў рукі дала аўтамат,* ***каб*** *стаяў на дарозе маёй тройчы выкляты кат* (П.Панчанка). Рус. ***на*** *что.*

**НА[1]-74** *што* Він. Фінітыў-дзеянне: *Паслаць* ***на лячэнне****. Падаць руку* ***на развітанне.*** *Паставіць* ***на абмеркаванне****. Сабрацца* ***на мітынг.*** **▬** ***На спатканне*** *песням волі дух мой рвецца і ляціць* (Я.Колас). *Падтрымаць справу як мога больш шырокага навуковага, культурнага і турыстычнага абмену паміж Паўночнай Амерыкай і Беларусяй, прыезду ў Злучаныя Штаты й Канаду беларускіх студэнтаў* ***на навуку****...*(з Рэзалюцыі XIX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі). *Запрасі сваю былую жонку* ***на размову*** (І.Шамякін). *Сыноў бацька сваіх кліча* ***на нараду*** *ў хату* (Я.Купала). Можа далей утварацца прыназоўнікавае спалучэнне-клішэ ***на развітанне*** *каму*: *Гораду трэба сказаць дзякуй за падараваную любоў, за адзеты каменем бераг ... і за апошні ўзмах рукі* ***на развітанне яму*** (У.Караткевіч). // *Будзь здароў, мей сто кароў! А мне цялушку* ***на завод*** *дасі.* ↔ **На тое каб:** ***На тое*** *б'юць,* ***каб*** *балела.* ***На тое*** *прасілі, каб у рот насілі*. Сін. *для*. Рус. ***на*** *что;* ***для*** *чего.*

**НА[1]-75** *што* Він. Фінітыў: *Падараваць* ***на шчасце****.* ◊ ***На памяць*** **–** для таго, каб помніць (ТСБМ).**▬** *Паслаць фота* ***на памяць****. ...яму імя Касцюшкаўскае далі* ***(На памятку****, што ў час ваенны нарадзіўся)* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ◊ ***На вецер; на ўзвей-вецер.*** **▬** *Піша не* ***на вецер****, піша неспраста* (Я.Колас). *Пускаць гаворку* ***на ўзвей-вецер*** (П.Трус). // ***На ўзвей вецер*** *пусціць.* ***На вецер*** *пусціць. Кідаць словы* ***на вецер****. Гэта* ***на звей-вецер*** *сказана*. Рус. ***на*** *что.*

**НА$^{1}$-76** *што* Він. Кандытыў: ♢ ***На павер / напавер; на пракат***. *Пазычаць грошы* ***на павер.*** *Шлюбныя сукенкі цяпер не купляюць, а бяруць* ***на пракат***. ♢ ***На дурнічку (на дурніцу)***. ▬ *Людзі робяць, а ён туляецца, круціць. Прывык сабе* ***на дурнічку*** (Я.Брыль). Сін. *пад; пры ўмове*. Рус. ***на*** *каких условиях;* ***под*** *что* (***под*** *честное слово*).

**НА$^{1}$-77** *што* Він. Сітуатыў: кансеквентыў: *А большы ўсё з малку дзён сваіх уведаў, на няшчасце сваё* (К.Чорны: ППШ). // *Зрабіў* ***на сваю голаў***. *Кукурыку* ***на сваю галаву***. *Зрабіў нож* ***на сваё горла***. ***На бяду*** *і мову адняло. Свярбіць як на каросту. Енчыць як каня* ***на дождж***. *Ці не* ***на дождж*** *ты разбегаўся? Ці не* ***на дождж*** *яны ўсхадзіліся? Есць як* ***на голад.*** *Выхаваў* ***на паповы сані*** (= на пахаванне). ♢ ***Курам на смех.*** ▬ *Ну нашто чупрыну весіць – сумаваць курам* ***на смех****?* (М.Машара). ♢ ***На жаль***. ▬ ***На жаль****, хронік мудрагелістая вязь не данесла нам яго імя* (Інт.). Рус. ***на*** *что;* ***к*** *чему.*

**НА$^{2}$-1** *кім* Суб'ектн.: рэлянт адносін з дзеясловам *жаніцца*: *жаніцьба на суседцы.* ▬ *Не даравала Ясеніну іншага – жаніцьбы* ***на ўнучцы*** *Льва Талстога Соф'і* (Работніца і сялянка, 1994, №3). Русізм. Сін. *з.* Рус. ***на*** *ком.*

**НА$^{2}$-2** *кім* Месн. Суб'ектн.: пратаганіст: *Уся гаспадарка* ***на ім***. *Уся адказнасць* ***на кіраўніку***. ▬ *Але памятайце –* ***на вашым сумленні*** *не сплачаны доўг векавы* (Я.Колас). Сін. *на плячах.* Рус. ***на*** *ком.*

**НА$^{2}$-3** *чым* Месн. У складзе прэдыката дзейнасці, стану: *Быць* ***на службе***. *Стаяць* ***на вахце***. *Сядзець* ***на вёслах***. *Быць* ***на ўтрыманні*** *ў старэйшага брата.* ▬ *І хоць і дня* ***на новай*** *не прабыў* ***пасадзе****, Ужо насіў мундзір такі, як у палякаў, Цягнуў крывую шаблю і ў шпоры «звякаў»* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Рус. ***на*** *чем.*

**НА$^{2}$-4** *чым* Месн. Аб'ектн.: нерухомы інструментыў прымацавання, прыстасавання: *Шапка* ***на цвічку***. *Збанкі* ***на плоце***. *Ліхтары* ***на слупе.*** *Цацкі* ***на ёлцы***. ▬ *А цэлы рад збанкоў* ***на плоце*** *казаў аб тым, што гаспадыня была ўжо ў моцнай каляіне* (Я.Колас). // ***На вярбе*** *грушкі не растуць. Заскачаш як рыба* ***на кручку***. ♢ ***Вісець на тэлефоне.*** ♢ ***Вісець на валаску ад чаго-небудзь.*** ♢ ***Вісець на шыі.*** ♢ ***Вісець на языку.*** Рус. ***на*** *чым.*

**НА$^{2}$-5** *чым* Месн. Аб'ектн.: інструментыў-медыятыў: *Трымаць сабаку* ***на ланцугу***. ▬ *Тхнула грыбным водарам, і Валодзя злез з каня і павёў яго* ***на повадзе*** (К.Чорны: ТСБПШ). // *Каб ты* ***на вяроўцы*** *гуляла! Каб ты* ***на ланцугу*** *бегаў*. Сін. *пры дапамозе.* Рус. ***на*** *чем.*

**НА$^{2}$-6** *чым* Месн. Аб'ектн.: інструментыў – рухомая або нерухомая прылада для дзеяння: *Лічыць* ***на пальцах***. *Габляваць дошкі* ***на варштаце***. *Ткаць* ***на кроснах.*** *Працаваць* ***на*** *новай* ***машыне***. ▬ *За*

*адзін пастаў* ***на варштаце*** *выраблялася звыш сарака сурвэт* (К.Чорны: ТСБПШ). Сін. *з выкарыстаннем*. Рус. ***на*** *чем.*

**НА²-7** *чым* Месн. Аб'ектн.: інструментыў дзеяння *іграць*: *Іграць* ***на акардэоне***. **—***Дзень іграе* ***на жалейцы, на трубе ды на ражку, на*** *зялёным* ***лазняку*** (М.Танк). Жарт.: *іграць* ***на нервах***. Рус. ***на*** *чем.*

**НА²-8** *чым* Месн. Аб'ектн.: інструментыў – сродак перамяшчэння: *Ехаць* ***на маршрутцы***. *Плыць* ***на цеплаходзе***. *Ляцець* ***на самалёце***. *Пераязджаць* ***на падводах***. *Едзе восень* ***на рабым кані****, тут дажджы ліюць, а тут і ясна* (А.Астрэйка: ППШ). *Рабіў за двух,* ***на сваім карку*** *цягнуў ярэмца хлебароба* (Я.Колас). // *Сарока* ***на хвасце*** *прынесла.* ***На крывой казе*** *ездзіць*. ◊ ***На аднойназе*** – вельмі хутка. Сін.-Тв. без прыназоўніка: *чым* (*ляцець* ***самалётам***). Рус. ***на*** *чем* / Тв. без предлога: *чем.*

**НА²-9** *чым* Месн. Аб'ектн.: сродак, рэчыва: *Смажыць рыбу* ***на алеі.*** *Рухавік працуе* ***на газе.*** **—** ***На тарфяным апале, на штучных вадзяных вадаспадах і на нафтавых рухавіках*** *пускаюцца электрастанцыі* (К.Чорны). // *Разбрыняла як карова* ***на добрай пашы***. ◊ ***На мазі*** – блізка да ажыццяўлення, завяршэння (ТСБМ). Сін. *на аснове*. Рус. ***на*** *чем.*

**НА²-10** *чым* Месн. Аб'ектн.: кампазітыў-аснова: *Варыць кашу* ***на малацэ***. *Торт* ***на мёдзе.*** *Куртка* ***на аўчыне***. ◊ ***Расце як на дражджах.*** Сін. *з*. Рус. ***на*** *чем.*

**НА²-11** *чым* Месн. Аб'ектн.: сродак-медыятыў маўлення, зносін: *Размаўляць* ***на мове*** *абарыгенаў.* **—** *Заканадаўчыя акты адначасова публікуюцца* ***на рускай і беларускай мовах*** (Закон). *Хоць сярод дробнай шляхты тады размаўлялі па-беларуску, шляхта таго парадку, да якога, відаць, належаў гэты пан, мовы не ведала: сярод гасцей не больш як які дзесятак размаўляў* ***на мове Марцінкевіча і Каратынскага****, астатнія на дзіўнай сумесі польскіх, расейскіх і беларускіх слоў* (У.Караткевіч). Сін. *на мове*: *Глуханямыя размаўляюць* ***на мове жэстаў***. Рус. ***на*** *чем*/***на языке*** *чего*.

**НА²-12** *чым* Месн. Аб'ектн.: рубрыкатыў: *Дакладны* ***на рабоце***. *Звонкі* ***на вадзе*** *голас. Уважлівы* ***на занятках.*** **—** *Спецыялізуецца калгас* ***на жывёлагадоўлі*** (М.Філіповіч). *Эт, з часам людзі ўпадаюць* ***на сіле*** (Я.Купала). Сін. *па; у.* Рус. ***на*** *чем;* ***по*** *чему;* ***в*** *чем: Специализируется колхоз* ***по*** *животноводству / в животноводстве.*

**НА²-13** *чым* Месн. Аб'ектн.: дэлібератыў: *Увага была засяроджана* ***на ураджаі***. *У заключэнне дакладчык спыніўся* ***на дысцыпліне***. **—***Уся яго* [хлапца] *ўвага была засяроджана* ***на возе*** (М.Лынькоў). Рус. ***на*** *чем.*

**НА²-14** *чым* Месн. Сітуатыў: аб'ект + аснова чаго-н.: *Зарабіць* ***на агурках***. *Эканоміць* ***на запалках***. **—** *Гарачун не супроць быў ча-*

*сам, каб зарабіць* ***на чым-небудзь*** (У.Шахавец). ◊ ***Як Заблоцкі на мыле.*** // *Зарабіў як Заблоцкі* ***на мыле*** */ як Даніла* ***на лісічках*** */ Хама* ***на воўне*** */ Меер* ***на Кузьме*** */ Марцэля* ***на цыбулі.*** Рус. ***на*** *чем*

**НА²-15** *чым* Месн. Аб'ектн.: лакатыў-інструментыў – паверхня для выяўлення, надпісу: *Паказаць* ***на карце****. Напісаць* ***на сцяне****. Малюнкі дзяцей* ***на тратуары****. Чарцёж* ***на ватмане****. Ноты* ***на манжэце.*** ▬ *Лілея* ***на лісту****, як* ***на плыту*** (Р.Барадулін). *Маці золатам ніткуе каласы* ***на палатне*** (А.Александровіч). *Ліпень выткаў слуцкі ўзор* ***на палях*** *пшанічных* (А.Александровіч). // ***На вадзе*** *пісана.* ◊ ***На лбе запісаць*** – добра запомніць. ◊ **На лбе / лобе не напісана** – па знешнім выглядзе не пазнаць.▬ *– Дык у чалавека ж* ***на лобе*** *не напісана, які ён ёсць на самой справе, – слаба запярэчыў інспектар па кадрах* (Лазуркін: ФСБМЛ). Рус. ***на*** *чем.*

**НА²-16** *чым* Месн. Лакатыў адносна істоты, чалавека ці іх органа: *Поўсць* ***на зверы*** *стала дыбкі. Ад страху валасы* ***на галаве*** *заварушыліся. Сядзець* ***на кані****. Сэрца* ***на далоні.*** ▬ *Ты не цураешся ні поту, ні* ***на далоні*** *мазаля* (А.Александровіч). *Ордэн жа* ***на грудзях*** *носяць, каб відзен быў* (І.Чыгрынаў). *Несціхана шумяць* ***на дзяўчатах*** *шаўкі* (П.Броўка: ТСБПШ). // ***На ім*** *аж скура гарыць.* ***На лысіне*** *боб малоціць.* ◊ ***Хадзіць на галаве*** – сваволіць. Сін. *у; на ... у.* Рус. ***на*** *чем.*

**НА²-17** *чым* Месн. Прастор.: лакатыў адносна паверхні прадмета: *А байцоў, як зор* ***на небе*** (Я.Купала). *А* ***на прагалінках на голых*** *Гулянне конікаў вясёлых* (Я. Колас). *Ў яго ваччу ўставалі лавы Жытоў, што ўласнаю рукою Засее восенню другою* ***на*** *ўласнай гэтай* ***на зямельцы*** (Я.Колас). *Я не буду доўга, зараз жа вярнуся, трошачкі* ***на рэчцы*** *ў санках пракачуся* (Я.Колас). *Шпак* ***на дубе*** *расспяваўся* (Я.Колас). ***На стале*** *дымяцца стравы* (А.Звонак). // *Каб у вас было ўвесь час* ***на стале****, у місцы і ў калысцы. Хвалілася кабыла, што* ***на грэблі*** *гаршкі пабіла. Стаў у парозе як чорт* ***на дарозе****.* Рус. ***на*** *чем.*

**НА²-18** *чым* Месн. Аб'ектн.: лакатыў канцэнтрацыі стану, думкі асобы: *Спакойна* ***на сэрцы****.* ***На душы*** *туга.* ▬ ***На сэрцы*** *вясёла і люба, што ў свеце паменшала зла* (П.Броўка). *І сядзіць ён, штосьгадае, бо* ***на думках*** *штосьбыло* (Я.Колас). // *Мулка* ***на сэрцы****, аж бляваць верне.* ***На сэрцы*** *як са свету сходзячы / як бы пахаваў каго.* ◊ ***Мецьна ўвазе.*** ◊ ***Мецьна воку.*** ◊ ***Мецьна прыкмеце.*** Сін. *на ... у; у.* Рус. ***на*** *чем;* ***в*** *чем.*

**НА²-19** *чым* Месн. Аб'ектн.: інструментыў-лакатыў адносна прадмета, на які нешта ўсцягнута: ***На нагах*** *новыя туфлі.* ***На галаве*** *модны капялюшык.* ***На назе*** *павязка.* ▬ *І ў сухмень, і ў слату яны*

(чаравікі) *былі* ***на нагах*** *– не дзіва, што левы пачаў ужо «прасіць кашы»* (В.Быкаў). Рус. ***на*** *чем.*

**НА²-20** *чым* Месн. Прастор.: лакатыў адносна да свету, дзяржавы, краю: ***На Палессі*** *шмат балот.* ***На Браслаўшчыне*** *цудоўныя азёры.* ▬ *Стол заслалі, прынеслі талеркі з вяндлінаю, якую так добра ўмеюць прыгатаўляць* ***на Беларусі****, і селі піць чай* (Я.Колас). *Лышчынскаму помнік, хоць бы сціплы, мы пакуль не здолелі паставіць. А вось* ***на Літве*** *і асабліва ў Польшчы яму аддадзена сапраўдная пашана і навукай і мастацтвамі* (К.Тарасаў). ***На Беларусі*** *свет-зараніцы Нясуць у неба званы журбы.* ***На Беларусі*** *мае бажніцы, Аб Беларусі мае мальбы* (Л.Паўлікава). // ***На Беларусі*** *ўсе Марусі.* ***На гэтым свеце*** *ні ў ком праўды няма ні трошкі, толькі ў аднаго мяне, да ў маёй жонкі трошкі.* ***На том свеці*** *знайду лепшага ў смецці.* ***На том свеце*** *разлічымся вугалькамі. Згіне* ***на чужыне****.* Сін. *у*. Рус. ***в*** *чем.*

**НА²-21** *чым* Месн. Прастор.: лакатыў адносна да ўнутранай прасторы, памяшкання і інш.: *Працаваць* ***на заводзе****. Быць* ***на ферме****. Чакаць* ***на вакзале****. Начаваць* ***на верандзе****.* ▬ *Сціхнуў шум* ***на калідоры*** (Я.Колас). ◊ ***Быць на варце*** – ахоўваць што-небудзь. Рус. ***на*** *чем.*

**НА²-22** *чым* Месн. Прастор.: лакатыў-дырэктыў-старт: *... кожны ксёндз гаворыць тое ж* ***на амбоне*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *з*. Рус. ***с*** *чего.*

**НА²-23** *чым* Месн. Сітуант: лакатыў-характарызатар адносна ўмоў і абставін дзеяння: *Жыць* ***на адзіноце****. Трымаць малако* ***на халадзе****. Жыць* ***на волі****.* ▬ *Свет вялікі –* ***на людзях*** *забудзешся* (І.Пташнікаў). ***На такім прыволлі*** *не нацешыцца* (А.Астрэйка: ППШ). – *І калі гэта ўжо* ***на пагодзе*** *стане? – у адчаі пытаецца дзядзька* (Я.Брыль). // ***На бязлюддзі*** *і мы людзі.* ◊ *Быць* ***на вачах.*** *Здарылася* ***на*** *чыіх* ***вачах.*** *Тут я назваў паэтаў, якія, за выключэннем старэйшых, выраслі літаральна* ***на маіх вачах*** (А.Іверс). ◊ ***Быць на віду*** – звяртаць на сябе ўвагу ўсіх. ◊ ***Быць на вышыні*** – адпавядаць патрабаванням. ◊ ***Быць на сёмым небе*** – адчуваць вялікую радасць. ◊ ***Жыць на сваім хлебе*** – жыць самастойна. ◊ ***На людзях*** – на віду ў іншых (ТСБМ). ◊ ***Бываць на людзях*** – не жыць у самоце, мецца ўзаеміны. ◊ ***Спачываць на лаўрах*** – задаволіўшыся дасягнутым, бесклапотна праводзіць час (ФСБМЛ). ▬ *Узнагароды даюцца не дзеля таго, каб супакоіцца, спачываць* ***на лаўрах*** (М.Танк). Рус. ***на; на виду у****: быть* ***на виду у всех****; быць* ***на ўцёках*** – рус. *быть* ***в бегах****.*

**НА²-24** *чым* Месн. Характарызатар прадмета па наяўнасці ў апошнім пэўнай уласцівай часткі: *Туфлі* ***на высокіх абцасах****. Мост* ***на вантах.*** *Брычка* ***на рысорах****. Прыёмнік* ***на транзістарах****.* ▬ *Вазкі* ***на рысорах*** *ныраюць за ўзгоркі* (А.Куляшоў: ППШ). Рус. ***на*** *чем.*

**НА²-25** *чым* Месн. Характарызатар: спосаб і характар дзеяння адносна паставы агенса: *Ледзь трымаецца* ***на нагах****. Капаць бульбу* ***на каленях****. Вы самі добра ведаеце, што такое «чваракі», – халупы для нашага брата, батрака, у якіх і сапраўды было хоць ракачком хадзі, па-вашаму, па-польску –* ***на «чвараках»*** (Я.Брыль:ППШ). Перан.: *Хочучы* ***паставіць*** *арганізацыю* ***на моцных нагах****, пашырыць правінцыю, я пачаў выдаваць у Менску «Крыніцу»* (Кс.В.Гадлеўскі). // ***На вушах*** *стаяць будзе, а сваё будзе правіць*. Карэлюе з прыстаўкай у прыслоўі (***на*** *каленях –* ***наў****коленцах*): *Калі Халімон,* ***наўколенцах,*** *згорбіўшыся, штосьці разглядаў у шасцярні, да яго падышоў сын Сцяпан* (І.Мележ). ◊ ***Стаяць на сваіх нагах*** **–** быць упэўненым. ◊ ***Быць на нагах*** **–** рана ўстаць; быць увесь час у руху. ◊ ***На нагах не ўстаяць*** – не мець сілы стаяць роўна. ◊ ***Быць на роўнай назе з кім*** – быць у сяброўскіх адносінах з кім. ◊ ***Хадзіць на задніх лапках*** **–** лісліва дагаджаць каму-н., падхалімнічаць (І.Я.Лепешаў). ━ [Паны] *перад Пілсудскім* ***на задніх лапках*** *стаялі...* (З.Бядуля). Рус. ***на*** *чем.*

**НА²-26** *чым* Месн. Характарызатар-таксіс: спосаб дзеяння адносна руху: *на хаду; на ляту; на скаку; на бягу: Страляць* ***на скаку****. Есці* ***на хаду****.* ━ *Хто гэтак, як страляў Жагота, можа стрэліць, Што ў зайца* ***на бягу*** *мог з пісталета ўцэліць?* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Аслеплены і напаўзадушаны дымам вадзіцель, напэўна, дрэнна бачыў:* ***на поўным ходзе*** *танк трапіў у пусты закінуты калодзеж ... так і застыў там, абяскоджаны, у чаканні пагібелі* (І.Шамякін). *Кандрат* ***на хаду*** *зрэзаў полае сцябло дудніку і зрабіў з яго пісталет* (У.Караткевіч). *Былі зімы, што ад марозу...птушка* ***на ляту*** *падае* (А.Кулакоўскі). // ***На хаду*** *падноскі адарве.* ◊ ***На ляту ловіць*** – разумее з паўслова. Сін. *адначасова з*; дзеепрыслоўе *скачучы, бегучы* і інш. Рус. ***на ходу; на скаку; на лету.***

**НА²-27** *чым/калі* Месн. Час.: храналагічны тэмпаратыў: *Здарылася гэта* ***на маладзіку****, мы якраз расаду пасеялі* (з размовы). *Люлі, люлі, мой маленькі! Спі, як кветка* ***на прадвесні*** (Я.Купала). ***На шарай*** *мы сядзелі без агню* (Я.Брыль). *Калі вячэралі, то ўсе кідалі па слоўцу, па фразе пра тое, што ў каго было* ***на дні*** (Ф.Янкоўскі). ***На раніцы*** *толькі з расой прабудзіўся* (Ф.Багушэвіч). *Шмат чаго бачылі* ***на сваім вяку*** *старыя бярэзіны* (П.Галавач). *Здараецца* ***на вяку*** *і па спіне, і па баку* (нар.). З парадкавым лічэбнікам, дыялектн.: ***На трэціх сутках*** *далі нам па дзвесці грам хлеба* (Віцебск.). Можа ўжывацца і як прыстаўка ў аналагічных прыслоўных сінтаксемах: *Я – што крыніца, што лісць* ***напрадвесні*** (Я.Купала). *Шырокая і ўся* ***нараніцы*** *пацяжэлая, рака быццам і не рухалася зусім* (В.Коўтун). ◊ **На носе** (= хутка). ━ *Смерць* ***на носе*** (нар.). Рус. ***на*** *чем****; перед*** *чем.*

**НА²-28** *чым/калі* Месн. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Выпадак **на паляванні.*** ▬ *Здаралася, што **на аблаве** Раптоўна стане і ўгару глядзіць жалосна, Як кот, калі заўважыць вераб'ёў на соснах* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Боты ўсюды спатрэбяцца мне – і ў баях, і **на маршы*** (А.Куляшоў). *Цвёрда трымаўся юнак **на дапросе*** (А.Куляшоў). *Хоць пасівеў стары зашмат, але **на працы** як салдат* (П.Броўка). *Гудзеў гушчар лясны **на мітынгу** вясны* (А.Александровіч). *Хоня тут жа спрытна, не трацячы зручнага моманту, пазваў Міканора на вуліцу – пабачыць, дзе што робіцца **на вячорках*** (І.Мележ). // *Быў **на мяду**, абліў мёдам бараду. Рассеўся як у цешчы **на хрысцінах.** Шыпіць як змей **на вывадзе.*** Сін. *падчас.* Рус. ***на** чем; **во время** чего.*

**НА²-29** *чым* Месн. Час.: тэмпаральны лакатыў: *Спыніўся **на паўслове**. **На гэтым** канчаю свой ліст. Зязюля лічыля гады: **на пятнаццаці** яна змоўкла.* ▬ ***На гэтым** доўгі і нудны спыніўся дапрос* (А.Куляшоў). Рус. ***на** чем.*

**НА²-30** *чым* Месн. Знешняя прычына-фон: *А валасы, не ў буклях, але вузялкамі Пазвязваныя густа з белымі стручкамі, Галоўку дзіўна упрыгожвалі – **на сонцы** Свяцілі, як карона на святой іконцы* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *А там залоціцца **на сонцы** кукуруза* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *пад.* Рус. ***на** чем.*

**НА²-31** *чым* Месн. Знешняя прычына: уздзеянне-сродак: *Выгаралыя **на сонцы** валасы. // Круціцца як скурат **на агні** / як вуж **на патэльні**.* Сін. *пад уздзеяннем*. Рус. ***на** чем*

**НА²-32** *чым* Месн. Прычын.: стымул: *Дзякуй «цару» **на добрым слове**, але вышэй князя я ўсё роўна велічаць яго не стану* («Наша слова»). Сін. *за.* Рус. ***на** чем.*

**НА** *што* **І (НА)** *што* Він. Двухч. дыстрыбутыў: *Пад позіркам касым дзялілася, што ёсць, **на шмат і мала*** (А.Разанаў). *З гэтым цяжка пагадзіцца – асабліва пасля незабыўнае «школы камунізму», дзе існавала Адзіна Правільнае Вучэнне, і свет падзяляўся **на «за» і «супраць»*** (Інт.). *Ці то пратэст, бунт проціў здзеку, які пануе тут адвеку і дзеліць люд на дзве галіны, на дзве няроўныя часціны: **на багачоў і на галоту**?* (Я.Колас); пасля дзеяслова *дзяліць* і яго дэрыватаў. Рус. ***на** что **и на** что.*

*хто/што* **НА¹-1** *каго/што* Наз.-Він. Суб'ектна-аб'ектн. Інтэрпазіц. ва ўзаемназваротных займенніках: *адзін **на** аднаго; адно **на** аднаго; адзін **на** другога.* ▬ *Хлопцы штохвілінна пазіралі на гадзіннікі і **адзін на аднаго**, недаўменна паціскалі плячыма* (Нові-каў: ТСБМ). Рус. *кто/что* **на** *кого/что.*

*хто/што* **НА¹-2** *хто/што* Наз.-Наз. Інтэрпаз. Суб'ектна-суб'ектн. ◊ ***Адзін на адзін*** – сам-насам.▬ *На хвіліну Параска кудысьці*

*вышла, і, калі яны засталіся* ***адзін на адзін****, гэта насцярожаная чужасць адчулася вастрэй* (І.Мележ). *Панарамы лясоў і балот, Краявіды імшыстых нізін... І на Захад, на Поўнач, на Ўсход – Я ды край мой –* ***адзін на адзін*** (Таўбін: ТСБМ). Рус. ***один на один с*** *кем/чем;* ***наедине с*** *кем-чем.*

*хто* **НА¹-3** *каго/што* Наз.-Він. Суб'ектна-аб'ектна-дыстрыбутыўн. Інтэрпазіцыйны ў няпэўна-дыстрыбутыўных спалучэннях: ***хто на што*** *здатны;* ***хто на чым*** *едзе;* ***хто на каго*** *ківае.* Рус. *кто* **на** *кого/что*.

*каго/што* **НА¹-4** *каго/што* Він.-Він. Інтэрпазіц. Рэлят абмену, замяшчэння, змены: *Абмяняць жыта* ***на соль.*** // *Абмяняць быка* ***на індыка****. Прамяняць гаршчок* ***на гліну****. Зморшчыўся як серада* ***на пятніцу***. Рус. *кого/что* ***на*** *кого/что.*

*колькі адзінак* **НА¹-5** *колькі адзінак* Він.-Він. Інтэрпазіц. Дыстрыбутыў: *І самая лепшая галава,* ***калі на яе сто дурняў****, нічога не можа* (У.Караткевіч). *У працэсе лячэння за дынамікай масы цела вядзецца назіранне, хворых узважваюць* ***адзін раз на тыдзень*** (Асновы мед. ведаў). *Пры цяжкай форме грыпу з выражаным сіндромам інтаксікацыі хворым унутрымышачна ўводзяць процігрыпозны гама-глабулін (дарослым* ***3 – 6 мл,*** *дзецям* ***0,15 – 0,2 мл на кілаграм*** *масы цела)* (Асновы мед. ведаў). *Для падрыхтавання ванны* ***на 10 л*** *прэснай вады бяруць* ***100 – 150 г.*** *кухоннай солі* (Асновы мед. ведаў). *Пленарныя пасяджэнні камісіі праводзяцца* ***раз на год*** («Наша слова», №2, 1994). *У Беларусі паказчык распаўсюджанасці захворвання на дадзены момант роўны* ***55 на 100 тысяч насельніцтва****, у Францыі – каля 10 на 100 тысяч, у Швецыі – каля 5, у Літве – каля 70, у Расіі – больш за 80, у азіяцкіх краінах – каля 100 на 100 тысяч* («Звязда», 16.02.05). Рус. *сколько единиц* **на** *сколько единиц.*

*хто/што* **НА¹-6** *каго/што* Наз.-Він. Інтэрпазіц. Рэлят тоеснасці: ***Розум на розум*** *не выходзіць.* ***Час на час*** *не ўдаецца.* ***Гадзінка на гадзінку*** *не выпадае.* ***Год на год*** *не прыходзіцца.* ***Лістапад на лістапад*** *не перападае: калі ўдаецца з'ездзіць на традыцыйныя «Каласавіны» пад Стаўбцы, калі – не* (В.Іпатава). ◊ *Тое* ***на*** *тое выходзіць.* ◊ ***Быць адзін на адзін****. Калі думаў пра сустрэчу* ***адзін на адзін****, то трацячы на нейкі момант развагу, даходзіў да самага страшнага* (І.Шамякін). *У кабінеце яны былі* ***адзін на адзін*** (М.Гроднеў). Рус. *что* ***на*** *что; баш* ***на*** *баш.*

*што* **НА¹-7** *каго/што* Наз.-Він. Інтэрпазіц. Рэлят падваення тоесных аб'ектаў: ***Абед на абед*** *не зашкодзіць, а* ***кій на кій*** *пашкодзіць* (нар.). Рус. *что* ***на*** *что*.

*ні* **НА[1]-8** *кога/каго/што* Він. Інтэрпазіц. паміж адмоўнай прыстаўкай і коранем у адмоўных займенніках: *Ледзь сціхлі за ганкам гнеўныя крокі, Хоню ўзяло шкадаванне, што гаварыў так задзірыста: **ні на што** яму было цяпер гэта – злаваць Хадосьчынага бацьку* (І.Мележ). ***Ані на кога** не ў крыўдзе, Чакаю, як лепшых часін, Уваскрошання змерлых І жыцця тога веку, што прыйдзе. Амін* (Р.Барадулін). Рус. *ни **на** кого/что*.

*няма* **НА[1]-9** *што* Він. Інтэрпазіц. паміж адмоўнай часціцай і коранем ў адмоўных займенніках: *Нам няма **на што** абаперціся* (А.Разанаў). Рус. *не **на** что.*

(ЯК) **НА[1]-10** *каго* Він. Інтэрпазіц. ◊ У складзе злучніка – актуалізатара ўмовы *як на ... дык*, якія ў сваю чаргу ўзыходзіць да рэдукаванай сінтаксемы аўтарызацыі ***на (думку) каго*: *Як на мяне*** (= на маю думку)*, дык я больш люблю сціплыя па фарбах мясціны.* ▬ ***Як на жанчыну**, дык выпадак для XVIII стагоддзя унікальны* (К.Тарасаў). Рус. ***что до** кого/чего...* ***то**; **что касается** кого/чего ...* ***то.***

*няма/не было* **НА[2]-1** *чым* Месн. Інтэрпаз. У адмоўных займенніках: ***Не было на чым** вельмі разгарнуцца, але рада была Аўдоля, што хоць з гэтага пекла вырвалася* (К.Крапіва). Рус. *не **на** чем.*

*хто/што* **НА[2]-2** *кім/чым* Наз.-Месн. Інтэрпазіц. Квантытатыў: *Мяшкі грудзіліся **адзін на другім**, нібы кінутыя да часу* (П.Пестрак). // ***Двойка на двойцы** едзе і двойкай паганяе.* ◊ *Дзірка **на** дзірцы. Лата **на** лаце.* Рус. *кто/что **на** ком/чем.*

*абы* **НА[2]-3** *кім/чым* Месн. Інтэрпазіц. у складзе няпэўных займеннікаў *абы- хто, абы-што; шмат які; шмат хто* і інш.: *Дзеці ў гэтую ноч спалі **абы на чым**, бо сяннік іхні быў вытрасены і памыты, каб за жніво напхаць свежай саломай* (І.Чыгрынаў). ***Шмат на якіх вершах** маладых маіх таварышаў ляжыць адбітак паспешлівасці, вучнёўства* (М.Лужанін). Рус. *лишь бы **на** чем.*

*колькі адзінак* **НА[2]-4** *колькіх адзінках/чым* Наз.-Месн. Дыстрыбутыў: ***Сем пятніц на тыдні.*** // ***Два на гаду** Юр'і, ды абодва дурні: увосень халодны, а ўвясну галодны.* Рус. *сколько единиц **на** скольких единицах/чем.*

**НААБАПАЛ** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***Наабапал сцежкі** чорнымі пластамі ляжалі скібы тлустай зямлі* (Я.Васілёнак). ***Наабапал дарогі** ў фальварак амаль да самага лесу цягнуліся густыястарасвецкія ліпавыя прысады* (Я.Колас). *Прыгожа павіваюцца дарожкі ў полі, гэтыя красёнцы людскога клопату і працы, а **наабапал іх** нахіляецца жыта* (Я.Колас). ▶*Шырокая калгасная вуліца, **наабапал** – новыя хаты* (ППШ). ТСБПШ – прыназоўнік. Сін. *паабапал.* Рус. ***по обеим сторонам** чего.*

**НА АБАРОНУ** *каго/чаго* Род. Фінітыў: *Гэта быў зборны пункт, да якога з усіх бакоў павінны былі сыходзіцца дробныя групы і там арганізоўвацца, каб у баявым парадку выступіць* ***на абарону айчыны*** (К.Тарасаў). *У друку* ***на абарону А.Наўроцкага*** *выступіў У.Караткевіч* (М.Скобла). Сін. *за; у абарону.* Рус. ***на защиту*** *кого/чего.*

**НА АБВОДЗЕ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Войскі 13-й арміі вялі жорсткія баі* ***на абводзе Мінскага УР*** [умацаванага раёна] (Энцыклапедыя гісторыі Беларусі, т.1). Сін. *на лініі*. Рус. ***на линии*** *чего.*

**НА АБЛОНІ** *чаго* Род. Лакатыў-стан: *Не, я сэрцу не дам адпачынак* ***На аблоні суцішных вятроў*** (М.Кавыль). Сін. *на ўлонні*. Рус. ***в/на лоне*** *чего.*

**НА АБЛОМКАХ** *чаго* / **НА** *якіх* **АБЛОМКАХ** *чаго* Род. Лакатыў: *Пакінем спадчыну мы для патомкаў Інакшую ад той, Што ўзялі мы ад продкаў* ***на абломках Гісторыі*** *сваёй* (Я.Купала). Аказіян. Рус. ***на обломках*** *чего.*

**НА АБОЧЫНЕ** *чаго* / **НА** *якой* **АБОЧЫНЕ** *чаго* / **НА АБОЧЫНЕ** Род. Прастор.: лакатыў: *Васіль... раптам* ***на абочыне луга*** *за кустом лазняку заўважыў уваткнутую ў зямлю касу* (А.Кулакоўскі). *На высокім узгорку – гасцінец,* ***на абочыне якога*** *мы стаім, а ў даліне вёсачка...* (Я.Брыль). ▶*Я думаю, што ў яго* [Караткевіча], *як ва ўсіх нас, у той, «не такі ўжо і далёкі час», усё-такі было натуральнае імкненне, нягледзячы ні на што, не застацца* ***на абочыне,*** *не быць ізаляваным ад культурнага працэсу* (В.Рубінчык). Сін. *па-за; збоку; убаку ад.* Рус. ***на обочине*** *чего.*

**НА АБСЛУГОЎВАННЕ** *чаго* Род. Фінітыў-дэстынатыў: *Ваенізаваць – Прыстасаваць да ваенных умоў; перавесці* ***на абслугоўванне ваенных патрэб*** (ТСБМ). Сін. *для.* Рус. ***на обслуживание*** *чего;* ***на потребу*** *чему.*

**НА АБСЯГАХ** *чаго* / **НА** *якіх* **АБСЯГАХ** *чаго* / **НА** *якіх* **АБСЯГАХ** Род. Прастор.: лакатыў: *Ён нарадзіўся пад пахай зеленачубага бору ў добрушскай вёсачцы Перарост, многае ў жыцці паспрабаваўшы як бы на вырост: і гаркавы прысмак першых дзіцячых слёз у часы ваеннай і пасляваеннай бясхлебіцы, і неўтаймаваныя росшукі юнацкай будучыні, дзе выпрабоўваў* ***сябе на абсягах сібірскай тайгі*** (М.Кусянкоў). ■ *Мне да душы белыя аблокі* ***на сініх абсягах нябёсаў*** (М.Наталіч). Рус. ***на просторах*** *чего.*

**НА АБШАРАХ** *чаго* / **НА** *якіх* **АБШАРАХ** *чаго* / **НА** *якіх* **АБШАРАХ** Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў: ***На абшарах маёнтка*** *пераважаюць супескавыя і суглiністыя глебы* (В.Шаблюк). *І ў свой час, і шмат пазней* ***на абшарах Заходняй Беларусі****, дзе вяршэнства-*

*вала польскасць, «Кароткая гісторыя Беларусі» Вацлава Ластоўскага ўплывала на абуджэнне беларускай самасвядомасці, абнадзейвала і мапавала дух мноства людзей* (К.Тарасаў). *Акрамя вышэй апісаных помнікаў, **на абшарах Беларусі** маецца мноства розных іншых камянёў* (навук.). ■ *На Зэльвеншчыне ў мове старых людзей мною зафіксавана нямала слоў рэгіянальных, якія актыўна выкарыстоўваліся ў мінулым як найменні адпаведных рэаліяў, што бытавалі **на гэтых абшарах Гродзеншчыны*** (П.Сцяцко). Сін. *на тэрыторыі*. Рус. ***на территории** чего.*

**НА АБШАРАХ АД** *чаго* **ДА** *чаго* / **НА** *якіх* **АБШАРАХ** АД *чаго* **ДА** *чаго* Род.-Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў з дакладнымі гранічнымі межамі: *Скарына заснаваў новую друкарню – першую **на абшарах ад Балтыкі да Сібіры*** («Родны край», 2009). Рус. ***на территории от** чего **до** чего.*

**НА** *колькі адзінак* **ВЫШЭЙ АД** *чаго* / **ВЫШЭЙ АД** *чаго* **НА** *колькі адзінак* Він.-Род. Двухч. Прастор.: лакатыў: *На пяцьдзесят вёрст выгінастага рэчышча быў толькі адзін паром, **на вярсту вышэй ад горада*** (У.Караткевіч). Сін. *за вярсту вышэй ад.* Рус. ***верстой выше** чего.*

**НА** *што/колькі адзінак* **АД-1** *каго/чаго* Він.-Род. Двухч. Прастор.: квантытатыў: *Яніна Паўлаўна і сапраўды была **на паўкрок ад адчаю*** (М.Карпечанка). || Назоўнік з прыназоўнікам у двух сінтаксемах: *Ён стаяў на тэрасе, адступіўшы **на некалькі крокаў ад дзвярэй** у дом* (У.Караткевіч). Рус. ***на** сколько единиц **от** кого/чего.*

**НА** *які час* **АД-2** *чаго* Він.-Род. Двухч. Час.: тэрмінатыў: *Хворых выпісваюць з бальніцы не раней 28 дня ад пачатку хваробы або **на 21 дзень ад паяўлення жаўтухі*** (Асновы мед. ведаў). Рус. ***на** какую единицу времени **от** чего.*

**НА** *што/якую адлегласць* **АД-3** *чаго* Він.-Род. Двухч. Квантытатыў: рэлят колькаснага прыраўнівання: *Ботаў Жаўтых не носіць... і ходзіць у чаравіках з абмоткамі, якія накручвае нізенька – **на далонь ад халявак*** (В.Быкаў). Рус. ***на** сколько единиц **от** чего.*

**НААДВАРОТ** *каму/чаму* Дав. Адверсатыў: *А намі, літаратарамі, па-ранейшаму кіруюць з цэнтра – маркавы, верчанкі, сураўцавы ... Яны ўжо могуць кіраваць і «па-новаму», **наадварот таму**, што і як рабілі ўчора* (Я.Брыль). Сін. *у супрацьлегласць.* Рус. ***в противоположность** кому/чему.*

**НА АДВАРОТНЫМ БАКУ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Такі запіс, напрыклад, можна ўбачыць у гэтай кнізе **на адваротным баку тытульнай старонкі*** (падручн.). Сін. *на адвароце.* Рус. ***на обратной стороне** чего.*

НА АДВАРОЦЕ *чаго*

**НА АДДАЛЕНАСЦІ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: ■ *Адна падзея і* ***на салiднай аддаленасці часу*** *прыгадваецца з асаблівай выразнасцю і яскравасцю* (В.П.Жураўлёў). Сін. *з дыстанцыі.* Рус. ***на расстоянии*** *чего.*

**НА АДДАЛЕННІ** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *На адлегласці 2 і 5 см ад скругленага канца маюцца дзве авальныя адтуліны,* ***на аддаленні 40, 50 і 60 см*** *нанесены меткі для кантролю глыбіні ўвядзення зонда* (Асновы мед. ведаў). Сін. *на адлегласці.* Рус. ***на расстоянии*** *чего.*

**НА АДДАЛЕННІ АД** *каго/чаго* / **НА** *якім* **АДДАЛЕННІ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***На аддаленні ад хаты*** *цякла крынічка.* ■ *Асабліва здзівіла Басаргіна тая акалічнасць, што пах ліпы* ***на некаторым аддаленні ад квітнеючага дрэва*** *чуваць намнога мацней, чым непасрэдна пад ім* (К.Паўстоўскі. Пер. Краўчанкі). Сін. *на адлегласці ад.* Рус. ***на отдалении от*** *кого/чего.*

**НА АДЗІНОЦЕ З** *кім/чым* Тв. Прэдыкат стану: *Пабыць* ***на адзіноце (сам) з сабою***. ━ *Што ж, па твойму, вывуджвае які-небудзь праўдзівы хрысціянін, што адрокся ад зямлі з усімі яе дарамі і дабротамі і ідзе ад людзей, каб заставацца* ***на адзіноце з Богам?*** (Я.Колас). *Да вечара далёка, а тут выдалася такая нагода, што можна прайсціся па полі, пабыць* ***на адзіноце са сваімі думкамі*** (А.Асіпенка). Сін. *сам-насам з.* Рус. ***наедине с*** *кем/чем.*

**НА АДЗІН ПРЫСТУПАК З** *кім/чым* Тв. Рэлят роўнасці: *Узвядзеннем прадстаўнічай царквы Усяслаў ставіў Полацк* ***на адзін прыступак з Кіевам і Ноўгарадам*** (К.Тарасаў). Сін. *на адзін узровень з.* Рус. ***на одну ступень с*** *кем/чем.*

**НА АДЗІН УЗРОВЕНЬ З** *кім/чым* Тв. Рэлят роўнасці: *Прыняцце каталіцтва ставіла Міндоўга* ***на адзін узровень з заходнімі суседзямі*** (К.Тарасаў). Сін. *нароўні з.* Рус. ***наравне с*** *кем/чем.*

**НА АДЗНАКУ** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *Як вынік, сярэдняя намінальная зарплата выйдзе на адзнаку ў 190 доларaў ЗША, а зарплата бюджэтнікаў –* ***на адзнаку 175 доларaў*** («Звязда», 05.01.05). Сін. *на; на ўзровень.* Рус. ***на отметку*** *сколько единиц.*

**НА АДЗНАКУ Ў** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Як вынік, сярэдняя намінальная зарплата выйдзе* ***на адзнаку ў 190 доларaў*** *ЗША, а зарплата бюджэтнікаў – на адзнаку 175 доларaў* («Звязда», 0501.05). Сін. *на адзнаку.* Рус. ***на отметку в*** *сколько единиц.*

**НА АДЗНАЦЫ-1** *колькі адзінак* **НА** *якой* **АДЗНАЦЫ** *колькі адзінак* / **НА** *якой* **АДЗНАЦЫ** Наз. *На працягу некалькіх гадзін брыгада выконвала ўкладку керамзітабетону на даху канферэнц-залы бібліятэкі* ***на адзнацы 14 метраў*** («Звязда», 26.04.05). ***На адзнацы***

***72 метры*** *размесціцца аглядная пляцоўка, з якой можна будзе палюбавацца прыгажосцю Мінска* («Звязда», 26.04.05). *Рашэннем Дзяржаўнага мытнага камітэту стаўкі мытаў на аўтамабілі, не старэйшыя за тры гады і з рухавіком да 2500 куб.см, усталяваныя* ***на адзнацы 0,75 еўра*** (Інт.). *Узыходзячая зорка нямецкай каманды Петра Ламерт не зрабіла і таго, спыніўшыся* ***на адзнацы 18,86 метраў*** («Голас радзімы»). *У мінулым годзе доля сем'яў з даходамі менш за бюджэт пражытковага мінімуму зноў зменшылася і спынілася* ***на адзнацы 22, 9 працэнта*** (Інт.). ▲ ***На гэтай адзнацы*** *батыскаф спыніўся.* Сін. *на пункце.* Рус. **на отметке** *сколько единиц.*

**НА АДЗНАЦЫ-2 «***што***»** Наз. Характарызатар: анамасіятыў: *Нарэшце шарык спыніўся* ***на адзнацы «Нуль»*** (Г.Грын). *Беларускі гістарычны ківач застыў* ***на адзнацы «злачынства»*** («Наша Ніва»). Сін. *на назве*. Рус. ***на отметке*** *сколько единиц.*

**НА АДЗНАЦЫ** *колькі адзінак* **ЗА** *колькі адзінак* Наз.-Він. Двухч. Ускладн. Дыменсіў-дыстрыбутыў: *Цэлы год – з сакавіка 1995-га да сакавіка 1996-га – валютны курс трымаўся* ***на адзнацы 11500 беларускіх рублёў за 1 долар ЗША*** (Інт.). Рус. ***на отметке*** *сколько единиц* ***за*** *какую единицу исчисления.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ-1** *колькі/колькіх адзінак* / **НА** *якой* **АДЛЕГЛАСЦІ / НА АДЛЕГЛАСЦІ** Наз./Род. Прастор.: дыменсіў: *Тонкі страўнікавы зонд – гэта гумавая трубка даўжынёй 1 – 1,5 м і дыяметрам 3 – 5 мм з першай меткай ад страўнікавага канца* ***на адлегласці 45 см*** (Асновы мед. ведаў). *Распыленне 10000 кг аэразолі сібірскай язвы* ***на адлегласці 100 км*** *можа выклікаць паражэнне людзей на плошчы 100000 км$^2$* (Асновы мед. ведаў). *У асабістым заліку менавіта галоўны выратавальнік нашай краіны заняў першае месца ў стральбе з пісталета Макарава па мішэні, якая знаходзілася* ***на адлегласці 25 метраў*** («Звязда», 26.04.05). || Прыслоўе: ***На адлегласці*** *ўсё бачыцца больш выразна.* Рус. ***на расстоянии*** *чего.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ-2** *чаго* Род. Прастор.: дыменсіў: рэлят колькаснага прыраўнівання: *Калі пункты знаходзяцца ...* ***на адлегласці паўхвалі****, то іх рознасць ...* (падручн.). *І там, унізе, не так далёка ад мяне,* ***на адлегласці пяшчотнага слова****, шанавалі сваю маўклівасць дзве постаці спевака* (Л.Дранько-Майсюк). Рус. ***на расстоянии*** *чего.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ-3** *чаго* Род. Час.: дыменсіў: рэлят колькаснага прыраўнівання: *Тады яны вярнуліся ў Ерузалем з гары, якая называлася Аліўнай, што бліз Ерузалема,* ***на адлегласці суботняга дня хады*** («Наша вера», 2005, №1). *Абодва знаходзяцца ў Беларусі і размешчаны* ***на адлегласці аднаго дня руху*** (Інт.). Рус. ***на расстоянии*** *чего.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ-4** *чаго* Род. Каўзатыў-канфарматыў: *Цяпер, **на адлегласці часу**, я магу гэта патлумачыць: яна* [Валянціна Караткевіч] *адкрывалася нам паступова як асоба і чалавек лёсу* (Н.Кучкоўская). *Цяпер, калі **на адлегласці гадоў** спрабуеш зазірнуць у час нашай творчай маладосці, калі хрушчоўская адліга досыць хутка змянілася на брэжнеўскі застой, я згадваю, што мы тады не надта абцяжарвалі сябе развагамі пра складанасці жыцця* (А.Кашкурэвіч). Сін. *з дыстанцыі.* Рус. ***с расстояния** чего.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ АД** *каго/чаго* / **НА** *якой* **АДЛЕГЛАСЦІ АД** *каго/чаго* / **НА АДЛЕГЛАСЦІ** Род. Прастор.: лакатыў адносна арыенціра: *У гэты час яго часцей за ўсе малююць аднаго або **на адлегласці ад народу*** (Р. Рыдэр. Пер. А.В.) *Апынуўшыся **на адлегласці ад Беларусі**, сп. Букчын нарэшце заняў пазіцыю, якая з беларусацэнтрычнага гледзішча найбольш адпавядае ягонай пставе* (Д.Жукоўскі). ■ ***На вельмі вялікай адлегласці ад Сонца** Капернік змясціў сферу нерухомых зорак* (падручн.). ***На якой адлегласці ад стала** ўпадзе шарык?* (падручн.). Рус. ***на расстоянии от** чего.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ** *колькіх адзінак* **АД-1** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: дыменсіў-лакатыў: *У здаровага чалавека правая мяжа сэрца знаходзіцца **на адлегласці 0,5 – 1 см ад правага краю** грудзіны, ад верхняга краю трэцяга рабра да першага яна ідзе па правым краі грудзіны* (Асновы мед. ведаў). ***На адлегласці 2 і 5 см ад скругленага канца** маюцца дзве авальныя адтуліны* (Асновы мед. ведаў). *У здаровага чалавека правая мяжа сэрца знаходзіцца **на адлегласці 0,5 – 1 см ад правага краю** грудзіны, ад верхняга краю трэцяга рабра да першага яна ідзе па правым краі грудзіны* (Асновы мед. ведаў). *Атрад першай медыцынскай дапамогі разгортваецца **на адлегласці 3 – 10 км ад межаў ачага** хімічнага паражэння з улікам напрамку ветру і перамяшчэння газавага воблака* (Асновы мед. ведаў). ***На адлегласці сотні крокаў ад Высокага квадратнага паркана** і раўналежна яму праходзяць чатыры вуліцы, якія таксама ўтвараюць квадрат* (А.Мінкін, В.Галкоў). Рус. ***на расстоянии** скольких единиц **от** чего.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ** *чаго/якога часу/колькіх адзінак* **АД-2** *чаго* Род. Двухч. Час.: тэмпаратыў: *Загадкавая «Бармунія», паводле Ідрысі, знаходзілася на рацэ Данаст (г.зн.Днестр) **на адлегласці дзевяці дзён ад горада Галісія*** (Галіч) (Інт.). *Сонца размешчана бліжэй да краю галактычнага дыска, **на адлегласці 32 тыс. светлавых гадоў ад цэнтра Галактыкі*** (падручн.). Рус. **на расстоянии** *скольких единиц **от** чего.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ** *колькіх адзінак адзін* **АД-3** *аднаго* / **НА** *якой* **АДЛЕГЛАСЦІ адзін АД** *аднаго* Род.-Род. Інтэрпаз. ва ўзаемназва-

ротным займенніку. Двухч. Прастор.: дыменсіў-лакатыў: *Стралкі станавіліся ў шарэнгу* ***на адлегласці 100 метраў адзін ад аднаго*** (Інт.). ■ *Усе дамы мусілі мець адзіны вонкавы выгляд, стаяць у адну лінію і* ***на аднолькавай адлегласці адзін ад другога*** (В.Шаблюк). Рус. ***на расстоянии*** *скольких единиц друг* ***от*** *друга*.

**НА АДЛЕГЛАСЦІ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* **АД** *чаго* Род.-Род.-Род. Трохч. Ускладн. Прастор.: лакатыў + прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Арлан-белахвост гняздуецца* ***на адлегласці ад 300 м да 3 км ад*** *асноўных кармавых* ***вадаёмаў*** (падручн.). Рус***. на расстоянии от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц* ***от*** *чего.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ** *колькі адзінак* **АД СЯРЭДЗІНЫ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў-дыменсіў: *Разгледзім агульны выпадак, калі пункт С знаходзіцца* ***на адлегласці г ад сярэдзіны О дыполя*** *і радыус-вектар г утварае з воссю дыполя вугал <р* (падручн.). Рус. ***на расстоянии*** *сколько единиц* ***до середины*** *чего.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ** *колькі адзінак* **АД** *чаго* **У НАПРАМКУ** *чаго* Він.-Род.-Род. Трохч. Ускладн. Прастор.: дыменсіў-лакатыў адносна дырэктыва: *Часцінкі, што знаходзяцца* ***на адлегласці л ад вагальнай сістэмы ў напрамку распаўсюджвання ваганняў****, пачнуць вагацца, калі да іх дойдзе ўзбурэнне, якое распаўсюджваецца ў асяроддзі* (навук.). Рус. ***на расстоянии*** *скольких единиц* ***от*** *чего* ***в направлении*** *чего*.

**НА АДЛЕГЛАСЦІ АМАЛЬ** *колькі адзінак* **АД** *чаго* Він.-Род. Двухч. Прастор.: прыблізны дыменсіў-лакатыў: Самая далёкая планета Сонечнай сістэмы, Плутон, ***знаходзіцца на адлегласці амаль 40 а.адз. ад Сонца*** (падручн.). Рус. ***на расстоянии почти*** *сколько единиц* ***от*** *чего.*

НА АДЛЕГЛАСЦІ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА АДЛЕГЛАСЦІ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА АДЛЕГЛАСЦІ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прастор.: прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой + лакатыў: *Пінск камуністы пакінулі, калі немцы знаходзіліся* ***на адлегласці больш за 100 км*** (З.Шыбека. «Звязда», 4.02.05). Сін. *на адлегласці больш чым / больш як.* Рус. ***на расстоянии более*** *скольких единиц.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ БОЛЬШ ЧЫМ** *колькі адзінак* Він. Прастор.: прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой + лакатыў: *У асобныя дні лешч часцей за ўсё бярэцца* ***на адлегласці больш чым метр ад дна*** («Звязда», 05.02.05). Сін. *на адлегласці больш чым / больш як.* Рус. ***на расстоянии более*** *скольких единиц.*

НА АДЛЕГЛАСЦІ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прастор.: прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой + лакатыў: *Пульт дыстанцыйнага кіравання, які дае карыстальнікам магчымасць кіраваць прайграваннем кампазіцый ці фільмаў* ***на адлегласці да 10 метраў*** (Інт.). Рус. ***на расстоянии до*** *скольких единиц.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ ДА** *колькіх* **І БОЛЬШ** *адзінак* Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў + прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй і далейшай адкрытай мяжой + апраксіматар: ... *электрамагнітныя хвалі з частатой <10 Гц, якія назіраў* ***на адлегласці да 10 і больш метраў*** (падручн.). Рус. ***на расстоянии до*** *скольких единиц* ***и более.***

**НА АДЛЕГЛАСЦІ** *адзінак* **З/СА** *колькі* **АД** *чаго* Род.-Він.-Род. Трохч. Прастор.: лакатыў адносна арыенціра + прыблізны дыменсіў: *Колішнія Жыровічы ў той час былі* ***на адлегласці вярсты са тры ад цяперашняга мястэчка*** («Газета Слонімская»). Рус. ***на расстоянии*** *единиц* ***с*** *сколько* ***от*** *чего.*

НА АДЛЕГЛАСЦІ ЗВЫШ *колькіх адзінак*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прастор.: прыблізны дыменсіў + лакатыў: *У 2-й палове XVII ст. Глябовічы набываюць землі і на праванабярэжжы ракі (Навасёлкі і тэрыторыя на поўнач ад іх* ***на адлегласці каля 4 км*** *уздоўж ракі)* (В.Шаблюк). Рус. ***на расстоянии около*** *скольких единиц.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ КАЛЯ** *колькіх адзінак* **АД** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: прыблізны дыменсіў + лакатыў: ***На адлегласці каля 600 – 700 м ад замка*** *фарміравалася гандлёвая плошча* (Інт.). Рус. ***на расстоянии около*** *скольких единиц* ***от*** *чего.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ КАЛЯ** *колькіх адзінак* **І БОЛЬШ** Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў + прыблізны дыменсіў з адкрытай мяжой адлічэння: *Гэтым і тлумачыцца тое, што пасля зоны маўчання,* ***на адлегласці каля 150 – 200 км і больш****, можна зноў пачуць моцны выбух* (падручн.). Рус. ***на расстоянии около*** *скольких единиц* ***и более.***

НА АДЛЕГЛАСЦІ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА АДЛЕГЛАСЦІ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА АДЛЕГЛАСЦІ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

НА АДЛЕГЛАСЦІ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*

НА АДЛЕГЛАСЦІ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА АДЛЕГЛАСЦІ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ** *колькіх адзінак* **НА ЎСХОД АД** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў + дыменсіў + дырэктыў: ***На***

***адлегласці 10-20 м на ўсход ад вул. Свярдлова*** *прасочваецца шэраг свідравін* ...(Інт.). Рус. ***на расстоянии*** *скольких единиц* ***восточнее*** *чего.*

НА АДЛЕГЛАСЦІ *колькі адзінак* НА захад АД *чаго*

НА АДЛЕГЛАСЦІ *колькі адзінак* НА поўдзень АД *чаго*

НА АДЛЕГЛАСЦІ *колькі адзінак* НА поўнач АД *чаго*

НА АДЛЕГЛАСЦІ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА АДЛЕГЛАСЦІ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА АДЛЕГЛАСЦІ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ НЕ БОЛЬШ** *колькіх адзінак* Род. Прастор.: лакатыў + прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Жыццяздольнай аказалася аблога, ці аблава са сцяжкамі – пучкамі разнаколерных пёраў, прывязаных* ***на адлегласці не больш метра*** *да шматкіламетровага шнура...* (Інт.). Сін. *на адлегласці менш чым.* Рус. ***на расстоянии не более*** *скольких единиц.*

НА АДЛЕГЛАСЦІ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

НА АДЛЕГЛАСЦІ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА АДЛЕГЛАСЦІ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ НЕ ДАЛЕЙ** *колькіх адзінак* Род. Прастор.: лакатыў + прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Адзін працэнт людзей мае сацыяльна неадэкватны слых – гэта калі чалавек чуе размоўную мову* ***на адлегласці не далей трох метраў*** («Звязда», 10.02.05). Сін. *на адлегласці бліжэй.* Рус. ***на расстоянии не далее*** *скольких единиц.*

НА АДЛЕГЛАСЦІ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА АДЛЕГЛАСЦІ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА АДЛЕГЛАСЦІ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

НА АДЛЕГЛАСЦІ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*

НА АДЛЕГЛАСЦІ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА АДЛЕГЛАСЦІ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ НЕ МЕНШ ЯК** *колькі адзінак адзін* **АД** *аднаго* Він.-Род. Другая частка інтэрпазіц. ва ўзаемназваротным займенніку. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна арыенціра + прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Устанаўліваюць ложкі* ***на адлегласці не менш як 1,5 м адзін ад аднаго*** *галаўнымі канцамі на поўнач* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***на расстоянии не менее чем*** *сколько единиц один* ***от*** *одного.*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ ПАРАДКУ** *чаго* Наз./Род. Прастор.: лакатыў + прыблізны дыменсіў: рэлят колькаснага прыраўнівання: *Сапраўды, катоднае падзенне патэнцыялу (~10 В) адбываецца* ***на адлегласці парадку даўжыні свабоднага прабегу электрона****, таму каля катода ўзнікае моцнае электрычнае поле, якое можа выклі-*

*каць аўтаэлектронную эмісію* (падручн.). Рус. ***на расстоянии порядка*** *чего.*

НА АДЛЕГЛАСЦІ ПРЫБЛІЗНА *колькі адзінак*

НА АДЛЕГЛАСЦІ ПРЫКЛАДНА *колькі адзінак*

**НА АДЛЕГЛАСЦІ Ў** *колькі адзінак* Він. Прастор.: лакатыўдыменсіў: *Стаім на адным месцы, не робячы кроку насустрач адзін аднаму, каб прытуліцца адно да аднаго, і гэта вельмі страшна – так стаяць* ***на адлегласці ў адзін метр*** («Arche»). *...раскіданыя па фронце* ***на адлегласці ў 120 вёрст****, войскі генерала Самсонава ішлі насустрач свайму лёсу* (Інт.). Рус. ***на расстоянии в*** *сколько единиц.*

**НА АДЛЕГЛАСЦЬ-1** *колькі адзінак* Наз. Прастор.: дырэктыўфініш + дыменсіў: *Даліва-Дабравольскі з трыумфам прадэманстраваў перадачу трохфазнага пераменнага току напружаннем 15 кВ і магутнасцю 220,8 кВт ад Лауфенскага вадападу* ***на адлегласць 175 км*** *з каэфіцыентам карыснага дзеяння 77,4 %* (падручн.). *Ворагі секлі і бралі ў палон уцекачоў, гналі іх* ***на адлегласць многіх міляў*** *і лічылі сябе ўжо цалкам пераможцамі* (К.Тарасаў). *Чалавек можа вызваляць энергію, якая ў змозе знішчыць нават планету, вокамгненна пасылаць інфармацыю* ***на адлегласць соцень тысяч кіламетраў*** (падручн.). Рус. ***на расстояние*** *скольких единиц.*

**НА АДЛЕГЛАСЦЬ-2** *якую* Він. Ускладн. Прастор.: дырэктыў + дыменсіў: ад'ектыўны рэлят колькаснага прыраўнівання: *Такім чынам, энергія стаячай хвалі за чвэрць перыяду ператвараецца з аднаго віду ў другі і зрушваецца ад аднаго канца ўчастка да другога* ***на адлегласць, роўную чвэрці даўжыні хвалі*** (падручн.). *Службовыя асобы, якія займаюцца дзейнасцю ад імя ААН, маюць права на беспераашкодны ўезд і выезд з краіны і перамяшчэнне па краіне ва ўсе месцы сумеснай дзейнасці* ***на адлегласць, неабходную для выканання праграм супрацоўніцтва*** (Інт.). Рус. ***на расстояние*** *какое/равное чему/скольким единицам.*

**НА АДЛЕГЛАСЦЬ-3** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-дыменсіў: субстантыўны рэлят колькаснага прыраўнівання: *Падыход (паляванне з падыходу, скрад, скрадванне – падкрадванне крокам або паўзком да звера* ***на адлегласць выстралу*** (Інт.). *Пад'езд (паляванне на пад'езд) – набліжэнне да звера на санях або лодцы* ***на адлегласць дакладнага стрэлу*** (Інт.). *У клубе да яго лепш не падыходзіць* ***на адлегласць выцягнутай рукі*** (Інт.). Рус. ***на расстояние*** *чего.*

**НА АДЛЕГЛАСЦЬ** *колькіх адзінак адзін* **АД** *аднаго/другога* Наз.-Род. Другая частка інтэрпазіцыйн. ва ўзаемназваротных займенніках. Двухч. Прастор.: дырэктыў адносна двух локумаў + дыменсіў: *На тэрыторыі кожнай з застаў па трое варот, якія робяц-*

*ца так: 2 палкі забіць у зямлю* ***на адлегласць 50 см адна ад другой –*** *яны будуць служыць стойкамі* (Інт.). Рус. ***на расстояние*** *скольких единиц одна* ***от*** *другой.*

**НА АДЛЕГЛАСЦЬ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Двухч. Прастор.: дырэктыў + прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Роўмінгавыя тарыфы па стане на 01.01.2006 ... вых.* ***на адлегласць ад 201 да 600 км*** (Інт.). Рус. ***на расстояние от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

НА АДЛЕГЛАСЦЬ АМАЛЬ *колькі адзінак*

**НА АДЛЕГЛАСЦЬ БЛІЖЭЙ ЯК** *колькі адзінак* / **БЛІЖЭЙ ЯК** *якія колькі адзінак* Наз. Прастор.: прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой + дырэктыў: *Тры гадзіны праляцелі ў марных спробах наблізіцца да карабля* ***на адлегласць бліжэй як тыя няшчасныя сто метраў****, якія ім засталося прайсці* (В.Галавачоў). Рус. ***на расстояние ближе*** *скольких единиц.*

НА АДЛЕГЛАСЦЬ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА АДЛЕГЛАСЦЬ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА АДЛЕГЛАСЦЬ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

НА АДЛЕГЛАСЦЬ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

НА АДЛЕГЛАСЦЬ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА АДЛЕГЛАСЦЬ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

**НА максімальна магчымую АДЛЕГЛАСЦЬ ДА** *колькіх адзінак* Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыў + прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *У час зімоўкі ў выпадку недахопу кіслароду або прамярзання яны* [жабы] *могуць мяняць месцы, перамяшчацца* ***на адлегласць да 100 – 120 м*** (Інт.). *Жывёлы спакойна падпускаюць да сябе людзей* ***на адлегласць да 30 метраў*** (Інт.). *Меркурый бачны раніцай, аддаляецца ад Сонца* ***на максімальна магчымую адлегласць да 26°*** («Родны край», 2009). Рус. ***на расстояние до*** *скольких единиц.*

**НА АДЛЕГЛАСЦЬ ДА** *колькіх адзінак* **І БОЛЕЙ** Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: дырэктыў + прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой + градуатар: *Маладым птушкам* [шылахвосткам] *уласцівы вандраванні* ***на адлегласць да 200 км і болей*** (Інт.). Рус. ***на расстояние до*** *скольких единиц* ***и более****.*

НА АДЛЕГЛАСЦЬ ЗВЫШ *колькіх адзінак*

**НА АДЛЕГЛАСЦЬ КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прастор.: дырэктыў + прыблізны дыменсіў: *Зноў з'явіліся адпрацовачныя павіннасці: паншчына ў памеры 3 мужчынскіх і 2 жаночых дзён у тыдзень з валокі плюс транспартыроўка па вадзе 1 плыта да Вільні* ***(на адлегласць каля 210 км)*** (Інт.). Рус. ***на расстояние около*** *скольких единиц.*

НА АДЛЕГЛАСЦЬ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
НА АДЛЕГЛАСЦЬ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
НА АДЛЕГЛАСЦЬ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
НА АДЛЕГЛАСЦЬ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
НА АДЛЕГЛАСЦЬ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
НА АДЛЕГЛАСЦЬ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

**НА АДЛЕГЛАСЦЬ НЕ БЛІЖЭЙ** *колькіх адзінак* **АД** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: дырэктыў + прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Чырвоная Армія адыходзіла* ***на адлегласць не бліжэй 15 км ад*** *зафіксаванага да моманту спынення ваенных дзеянняў польскага* ***фронту*** (Інт.). Рус. ***на расстояние не ближе*** *скольких единиц* ***от*** *чего.*

НА АДЛЕГЛАСЦЬ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
НА АДЛЕГЛАСЦЬ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
НА АДЛЕГЛАСЦЬ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
НА АДЛЕГЛАСЦЬ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
НА АДЛЕГЛАСЦЬ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
НА АДЛЕГЛАСЦЬ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
НА АДЛЕГЛАСЦЬ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
НА АДЛЕГЛАСЦЬ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
НА АДЛЕГЛАСЦЬ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
НА АДЛЕГЛАСЦЬ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
НА АДЛЕГЛАСЦЬ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
НА АДЛЕГЛАСЦЬ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
НА АДЛЕГЛАСЦЬ ПАРАДКУ *колькі адзінак*
НА АДЛЕГЛАСЦЬ ПРЫБЛІЗНА *колькі адзінак*

**НА АДЛЕГЛАСЦЬ ПРЫКЛАДНА Ў** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў-дырэктыў: *Хаця Марконі і не быў навукоўцам, але здолеў мадыфікаваць прыстасаванне настолькі, што з дапамогай азбукі Морзе перасылаў паведамленні* ***на адлегласць прыкладна ў мілю*** (падручн.). Рус. ***на расстояние примерно в*** *сколько единиц.*

**НА АДЛЕГЛАСЦЬ У** *колькі адзінак* Він. Прастор.: дырэктыў-дыменсіў: *Ад яго* ***на адлегласць у пятнаццаць сажаняў*** *прыемна тхнула перагарам, і, мабыць таму твар ягоны быў дабрадушны* (У.Караткевіч). Рус. ***на расстояние в*** *сколько единиц.*

**НА АДЛЕГЛАСЦЬ У** *колькі* **І БОЛЬШ** *адзінак* Він. Двухч. Ускладн. Прастор.: дырэктыў + дакладны дыменсіў з градуатарам: ***На адлегласць у 1000 і больш кіламетраў*** *перадача электраэнергіі пераменным токам нявыгадная з-за вялікіх страт у правадах і парушэння сінхроннасці работы генератараў* (падручн.). Рус. ***на расстояние в*** *сколько единиц* ***и более.***

**НА АДМЕТЦЫ** *колькі адзінак* Наз./Він. Квантытатыў: *У гэтым годзе прырост валавага ўнутранага прадукта застыў* ***на адметцы 1 %*** (Інт.). Сін. *на; на дзяленні; на адзнацы.* Рус. ***на отметке*** *сколько единиц.*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ АД *колькіх адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ АД *колькіх адзінак* ДА *колькіх адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ АМАЛЬ *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ БЛІЗКА *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ ЗА *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ ЗВЫШ *колькіх адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ КАЛЯ *колькіх адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ ПАРАДКУ *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ ПРЫБЛІЗНА *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ ПРЫКЛАДНА *колькі адзінак*

НА АДМЕТЦЫ / АДЗНАЦЫ / ДЗЯЛЕННІ У *колькі адзінак*

**НА АДНОЙ ЛІНІІ З** *чым* Тв. Прэдыкат: рэлят роўнасці: ***На адной лініі з гэтым домам*** *выцягнуліся між брукаванай дарогай і берагам возера яшчэ некалькі дамоў* (В.Вольскі). Сін. *роўна з*. Рус. ***на одной линии с*** *чем.*

**НА АДНОЙ ХВАЛІ ЎСПРЫМАННЯ З** *кім/чым* Тв. Ускладн. Рэлят тоеснасці: *Прозу Стральцова я чытаў амаль* ***на адной хвалі ўспрымання з Буніным*** (Я.Брыль). Сін. *аднолькава з.* Рус. ***на одной волне восприятия с*** *кем/чем*.

**НА АДНЫМ СВЕЦЕ З** *кім/чым* Тв. Характарызатар-лакатыў: *І яна* [Зоська] *сказала сабе, што жыць* ***на адным свеце з гэтым звяр'ём*** *немагчыма, што яна будзе ім шкодзіць* (В.Быкаў). Аказіян. Сін. *адначасова з; разам з.* Рус. ***на этом свете с*** *кем/чем.*

**НА АДПАВЕДНАСЦЬ** *чаму* Дав. Рэлят адпаведнасці: *У мінулым годзе сістэма менеджменту якасці прадпрыемства атэставана* ***на адпаведнасць патрабаванням*** *міжнародных стандартаў серыі ISO 9000 згодна з іх версіяй 2000 года* («Звязда», 15.02.05). Ант. *на неадпаведнасць.* Рус. ***на соответствие*** *чему.*

**НА** *які час* **АД ПАЧАТКУ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Развіццё перытаніту назіраецца* ***на 9 – 15 дзень ад пачатку хваробы*** (Асновы мед. ведаў). Рус. ***на*** *какое время* ***от начала*** *чего.*

**НА АДПОР** *каму/чаму* Дав. Ускладн. Фінітыў-дырэктыў + контрагенс: *Партыя мабілізавала* ***на адпор ворагу*** *ваенныя, прамысловыя и эканамічныя рэсурсы краіны* (Полымя, №5, 1975). Сін. *супраць*. Рус. ***для отпора*** *кому/чему.*

**НА АДРАС** *каго* / **НА** *які* **АДРАС** *каго* / **НА** *чый* **АДРАС** Род. Адрасат: *Моўная асоба контрдыскурса ... устрымліваецца ад абвінавачванняў* ***на адрас Іншага*** *– як шавініста і індывідуаліста* (Г.К.Чахоўскі). *Паважаныя чытачы, пытанні да міністра дасылайце, калі ласка****, на адрас рэдакцыі «****Звязды»* («Звязда», 12.02.05). *Няма тыдня, каб* ***на адрас «Звязды»*** *не прыйшоў ліст ад Пятра Фёдаравіча Прыходзькі* («Звязда», 25.02.05). *Зрэшты, ці зусім ужо не меў рацыю той малады кінематаграфіст, які працадзіў праз зубы сваю знішчальную рэпліку* ***на адрас беларускага кіно*** (А. Красінскі). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з назоўнікам у знач. прыназ. Сін. *у адрас*. Рус. ***в адрес*** *кого.*

**НА АДРЭЗКУ ПАМІЖ** *чым* **І** *чым* / **НА** *якім* **АДРЭЗКУ ПАМІЖ** *чым* **І** *чым* Тв.-Тв. Трохч. Ускладн. Прастор.: лакатыў у дакладных межах: ■ *Саставім алгарытм адлюстравання на полі Чарцёжніка 16 пунктаў, якія размешчаны* ***на гарызантальным адрэзку паміж пунктамі (0;5) і (15;5)*** *на адлегласці 1 адзін ад аднаго* (падручн.). Сін. *паміж ... і*. Рус. ***на отрезке между*** *чем* ***и*** *чем.*

**НА АДХОНЕ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў: *Берма – уступ* ***на адхоне*** *высокай плаціны, канала, чыгуначнага насыпу* (ТСБМ). Сін. *на схіле.* Рус. ***на склоне*** *чего.*

**НА АКАЗАННЕ** *чаго* Род. Ускладн. Фінітыў-дэстынатыў + эксплікатар: *У такіх умовах надзвычай складана скрачаць выдаткі* ***на аказанне сацыяльна значных паслуг*** («Звязда», 4.02.05). Афіц. клішэ. Сін. *на*. Рус. ***на оказание*** *чего*.

**НА АЛТАР / НА АЎТАР** *чаго* / **НА** *які* **АЛТАР** Род. Дырэктыў-бенефіцыянтыў: *Аддаць / скласці што* ***на алтар бацькаўшчыны (навукі, мастацтва, перамогі*** *і пад.)* (ТСБМ). *Янка Купала паклаў частку свайго эстэтычнага і мастацкага таленту* ***на алтар адраджэння*** *нацыі* (З.Санюк). *Можна шмат гаварыць пра дзейнасць беларускіх святароў, якія жыццё сваё палажылі* ***на аўтар служэння Богу і вялікай неўміручай ідэі*** («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). *У ліку ахвяр, прынесеных іншадумцамі* ***на алтар разняволення*** *людзей, стаіць і імя выдатнага беларускага мысліцеля Казіміра Лышчынскага* (К.Тарасаў). *Людзі ёсць толькі людзі, а такіх, якія кідаюць сябе і ўсё найдарожшае* ***на аўтар бацькаўшчыны****, у нас яшчэ толькі адзінкі, аж ёсць, ёсць!...* (Л.Геніюш). Сін. *у імя*. Рус. ***на алтарь*** *чего*.

**НА АЛТАРЫ / АЎТАРЫ** *чаго* / **НА** *якім* **АЛТАРЫ** Род. Лакатыў-бенефіцыянтыў: *Жыццё маё – агарак свечкі сёння* ***на алтары пакутнае зямлі*** (Л.Геніюш). ▲ *Якой бы спрэчнай не была постаць Вінцэнта Гадлеўскага на палетку беларускага нацыянальна-*

*га адраджэння, ды толькі нельга згадзіцца з тым, што «кс. Вінцэнт Гадлеўскі быў вялікай ахвярай* ***на нашым нацыянальным аўтары*** *не толькі як мучаннік, але і як змагар вялікага стылю за вызваленне беларускага народу»* («Гарадзенскія запісы», 1993 вып.1). Рус. ***на алтаре*** *чего.*

**НА АПІРЫШЧЫ** *чаго*/ **НА** *якім* **АПІРЫШЧЫ** *чаго* / **НА** *якім* **АПІРЫШЧЫ** Род. Лакатыў-канфірматыў: ▲*Вобразна кажучы, ніжэйшая падставовая частка прыступкі, на якую абенаж аступілася беларуская літаратурная творчасць, ёсць міфалагізацыя мінуўшчыны, а верхняя частка – сатварэнне нацыянальных сучаснасці і будучыні на падставе свайго гістарычнага міфа.* ***На гэтым першым апірышчы*** *маладая літаратура і вытварае гістарычны свет беларуса* (Л.Вашко). Аказіян. Сін. *на аснове*. Рус. ***на фундаменте*** *чего.*

**НА АРКУШЫ** *чаго* Род. Па аналогіі з *на пульсе.* ◊ *Трымаць руку* ***на пульсе часу***. ▬ *Вітаю вас, шаноўныя супрацоўнікі тыднёвіка «ЛіМ»! Як чытач, вельмі ўдзячны вашаму выданню за тое, што трымаеце пяро* ***на аркушы літаратурнага часу*** (А.І.Матошка). Аказіян. Сін. *на пульсе*. Рус. ***на листе*** *чего.*

**НА АРЭНЕ** *чаго* / **НА** *якой* **АРЭНЕ** *чаго* / **НА** *якой* **АРЭНЕ** Род. Прастор.: лакатыў: *Гэтая біяграфічная кніга цікава распавядае пра лёс аднаго з найбольш вядомых дзеячаў* ***на арэне еўрапейскай палітыкі*** *першай паловы XX ст.* (Інт.). Аказіян. Рус. ***на арене*** *чего.*

**НА АРЭНУ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *У другой палове XVIII ст. ў Рэчы Паспалітай набіраюць сілу працэсы ўнутранага адраджэння,* ***на арэну грамадскага жыцця*** *выходзіць шэраг прагрэсіўных рэфарматараў, якія робяць сур'ёзныя захады ў драматычным змаганні з усемагутнай цемрай і духоўным варварствам* (А.Мілінкевіч). *У выпадку выйсця «царэвіча»* ***на арэну вялікай палітычнай ігры*** *імя настаўніка абавязкова ўзнялося б да агульнага ведання* (К.Тарасаў). ▲ *Выступіць* ***на літаратурную арэну*** (ТСБМ). Клішэ. Сін. *на*. Рус. ***на арену*** *чего.*

**НА АСАЛОДУ** *каго/каму* Род./Дав. Фінітыў-бенефіцыянтыўкансеквентыў: ■ *Панас пачаў насіць малака яшчэ менш, і Юрка* ***на вялікую асалоду Гаўрылы Ваўка*** *раскляпаў Панаса, што касу ў кузні* (Л.Вашко). Ант. *на зло*. Сін. *на радасць*. Рус. ***к удовольствию*** *кого.*

**НА АСНОВЕ-1** *чаго* Род. Характарызатар-канфірматыў: *Фантастыка Я.Баршчэўскага нараджалася* ***на аснове рэальнасці*** (навук.). *Па ўсім відаць, твор напісаны* ***на аснове рэальнага жыццёвага матэрыялу****, аднак аўтар аказаўся настолькі прывязаным да*

*жыццёвай канкрэтыкі, што аповесць атрымалася больш дакументальнай, чым мастацкай* (Н.Дзянісава). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Сін. *на; зыходзячы з; апіраючыся на.* Рус. ***на основе*** *чего.*

**НА АСНОВЕ-2** *чаго* Прычын.: аснова: ***На аснове*** *праведзенага* ***аналізу*** *фактычнага матэрыялу выдзяляюцца спецыфічныя функцыі прыдаткаў-паўтораў* (навук.). ↔ **На аснове таго што**. ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Сін. *па*. Рус. ***на основании*** *чего.*

**НА АСНОВЕ-3** *чаго* Род. Рэлят адпаведнасці: *Распрацаваць закон* ***на аснове Кантытуцыі Рэспублікі Беларусь.*** *Залічыць у спісы студэнтаў* ***на аснове існуючых правіл***. ↔ **На аснове таго што**. Сін. *у адпаведнасці з; згодна з.* ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Рус. ***в соответствии с*** *чем.*

**НА АСНОВЕДЗІ** *чаго* Род. Рэлят параўнання: *Жывапісная паэзія М.Бацюшкава. нягледзячы на ўсю ідэалагічную прыправу, вылучалася* ***на асноведзі пустапарожняга рыфмавання****, што запаланіла тагачасныя перыядычныя выданні* (М.Скобла). *Л.Раманава...****На асноведзі змагарных вершаў****, што нараджаліся на чарговых барыкадах Адраджэння, яе ціхая лірыка амаль не была чутнай* (М.Скобла). Сін. *на фоне*. Рус. ***на фоне*** *чего.*

**НА АСНОВЕ АНАЛОГІІ З** *кім/чым* Тв. Прычын.: спосаб-абгрунтаванне: *Эксперыментальныя даследаванні сувязі паміж гармонамі і паводзінамі жывёл далі не толькі вельмі амбівалентныя вынікі, а і спарадзілі шэраг меркаванняў* ***на аснове аналогіі з чалавечымі паводзінамі*** (Кейт Мілет. Пер. А.Скурко). ↔ **На аснове аналогіі з тым што**. Сін. *па аналогіі з.* Рус. ***на основании аналогии с*** *кем/чем.*

**НА АСНОВУ** *чаго* Род. Дырэктыў-фініш-спосаб: *...перавесці гаспадарку* ***на аснову прыватнай уласнасці*** *на сродкі вытворчасці.* Сін. *на*. Рус. ***на основу*** *чего.*

**НА АСЯЛКУ** *чаго* Род. Прастор./час: лакатыў: *І вось ужо Бурштынавы шлях як асялок – як* ***на асялку часу****, як на горным перавале паміж мінуўшчынай і наступным, на ім Скарына* (А.Лойка). Аказіян. Рус. ***на оселке*** *чего.*

**НА АТРЫМАННЕ-1** *чаго* Род. Ускладн. Характарызатар + данатыў: *Мець права* ***на атрыманне кампенсацыі.*** *Права* ***на атрыманне спадчыны*** *маюць у першую чаргу крэўныя сваякі.* ▬ *Спадчыннікі па закону кожнай наступнай чаргі атрымліваюць права* ***на атрыманне спадчыны*** *ў выпадку адсутнасці спадчыннікаў папярэдняй чаргі, адхілення іх ад спадчыны альбо адмовы ад яе* («Звязда», 16.02.05). *Апошнім часам у візавым аддзеле пасольства Германіі ў Мінску ўсё часцей пачалі выяўляцца факты падачы грамад-*

*знамі Беларусі падробленых дакументаў* ***на атрыманне ўязной шэнгенскай візы*** («Звязда», 16.02.05). *Статус мнагадзетнай сям'і захоўваецца за сем'ямі, уключанымі ў спісы мнагадзетных сем'яў, што маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў і права* ***на атрыманне ўказаных крэдытаў і/ці субсідый****, у якіх на дату заключэння крэдытных дагавораў не менш трох дзяцей знаходзяцца ва ўзросце да 23 гадоў* («Звязда»). Сін. *на.* Рус. ***на получение*** *чего.*

**НА АТРЫМАННЕ-2** *чаго* Род. Ускладн. Фінітыў: *Усяго, па словах сустаршыні экспертнага савета Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы, першага намесніка міністра культуры Беларусі Уладзіміра Рылаткі,* ***на атрыманне прэмій*** *было вылучана 20 кандыдатур ад Беларусі і Расіі* («ЛіМ», 26.02.04). Сін. *на саісканне; на спашуканне*. Рус. ***на соискание*** *чего.*

**НА АХОВЕ** *каго/чаго* / **НА АХОВЕ** Род. Ускладн. У складзе прэдыката-лакатыва: *Стаяць* ***на ахове парадку.*** **—** *Мы пільна стаім* ***на ахове*** *свяшчэнных савецкіх* ***граніц*** (В.Дзяружынскі). ◊ ***Стаяць на ахове***. Сін. *на варце.* Рус. ***на страже*** *чего.*

**НА АХОВУ** *каго/чаго* / **НА** *якую* **АХОВУ** *каго/чаго* / **НА** якую **АХОВУ** Род. Дэстынатыў: *Рабочая назва праекта – «Аб мерах па забеспячэнню кантстытуцыйнага права грамадзянаў* ***на ахову здароўя****»* (Інт.). *Кожны чалавек мае права* ***на ахову яго маральных і матэрыяльных інтарэсаў****, што з’яўляюцца вынікам навуковых, літаратурных або мастацкіх прац, аўтарам якіх ён стаў* (Інт.). ***На ахову параненых*** *вылучылі невялічкую групу* (Я.Брыль). Рус. ***на охрану*** *кого/чего*.

**НА БАЗЕ** *чаго* / **НА** *якой* **БАЗЕ** Род. Лакатыў-характарызатар: *Стварыць* ***на базе*** *астатніх* ***аддзяленняў*** *педфака новыя факультэты* (Веснік БДУ. Сер.3.1999, №3). *Інтэрпрэтацыя яго* [публіцыстычнага тэксту] *адбываецца на падставе спецыфічных структур-сцэнарыяў, выпрацаваных практыкай кантавання* ***на базе вопыту*** *ўзаемадзеяння грамадства са СМІ* (В.І.Іўчанкаў). *Міністр аховы здароўя праінфармавала кіраўніка дзяржавы аб стварэнні* ***на базе шэрагу медустаноў*** *рэспубліканскіх цэнтраў, якія дадуць магчымасць задаволіць патрэбнасці айчыннай аховы здароўя ў самых сучасных прэпаратах і вырашыць праблему іх імпартазамяшчэння* («Звязда», 05.01.05). ▲ *У 1914 годзе сюды* [у Мсціслаў] *эвакуіравалі з Панявежа настаўніцкую семінарыю (****на яе базе*** *ў лістападзе 1925 года адкрыўся Мсціслаўскі пед тэхнікум)* (У.Караткевіч). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Сін. *на*; *на аснове.* Рус. ***на базе*** *чего.*

**НА БАКУ-1** *чаго* / **НА** *якім*/**правым/левым/тым/гэтым/процілеглым БАКУ** *чаго* **/ НА БАКУ** Род. Прастор.: лакатыў: *Сітуа-*

*цыя была яшчэ тая: амаль усю пяхоту павыбівала, а* ***на баку немцаў*** *бурчэлі «тыгры»* («Звязда», 28.04.05). ■ ***На правым баку Дона*** *гулка грымнулі выбухі, вышэй узбярэжных тапаляў узляцелі ў неба чорныя слупы дыму* (М.Шолахаў. Пер. М.Лужаніна). *Рыначная плошча знаходзілася* ***на правым баку вуліцы****, калі ад Крэўскай брамы падавацца па вуліцы праваруч рынку* (А.Лойка). *Ноччу* ***на процілеглым баку Меркурыя*** *тэмпература можа апускацца амаль да – 200 °С* (падручн.). *Першая школа знаходзілася* ***на супрацьлеглым ад дома баку*** *вуліцы Ленінскай, вельмі небяспечнай для пераходу дзіцяці* (Н.Кучкоўская). ↔ **На тым баку, дзе; на тым баку, адкуль; на тым баку, куды:** ***На тым баку, дзе*** *была ноч, па хрусткім снезе, да кассцей прапякаючы босыя ножкі, у белай кашульцы бегла дзяўчынка. Ад вёскі, дзе лютавалі забойцы* (Я.Брыль). *Лес невысокай рысай віднеўся* ***на тым баку, адкуль*** *мы ўчора прыйшлі* (Ю.Казакоў). Сін. *у*. Рус. ***на стороне*** *чего.*

**НА БАКУ-2** *каго/чаго* Род. Рэлят еднасці: лакатыўны камітатыў*: І яшчэ Сяргей Віктаравіч пацікавіўся, чаму я не* ***на баку мясцовай улады*** («Чырвоная змена», 15.04.05). *Беларусы былі праваслаўнымі, іхняе спачуванне рускім як аднаверцам вылілася ў рашучае нежаданне секчыся* ***на баку Мамая*** (К.Тарасаў). *Усе сімпатыі паэта* ***на баку Бандароўны*** *– дзяўчыны незвычайнага характва і мужнасці* (Р.Шкраба). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Сін. *разам з.* Рус. ***на стороне*** *кого/чего*.

**НА БАКУ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Старэйшыя вялікавалоўшчынскія людзі дараблялі да пенсіі дзе давядзецца. Хто лесніком – Блудны лес даваў работу, – хто ў горадзе. Часцей* ***на баку ад свайго саўгаса*** *«Новы», бо да цэнтра было дастацца яшчэ цяжэй, чым да Мінска ці Заслаўя* (М.Вайцяшонак). Рус. ***на стороне от*** *кого/чего*.

**НА БЕРАГ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Статак касуль выйшаў* ***на берагу лесу.*** Сін. *на край; на ўскраек*. Рус. ***на край*** *чего.*

**НА БЕРАЗЕ-1** *чаго* Ускладн. Прастор.: лакатыў: *Статак прыпыніўся на беразе лесу.* **━** ***На беразе возера*** *здавён стаіць зямлянка* (В.Карамазаў). Рус. ***на краю*** *чего;* ***на берегу*** *чего.*

**НА БЕРАЗЕ-2** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *Там,* ***на беразе іншага часу****, на апошняй выспе знікомага Сусвету, апанююць мяне ўспаміны* (У.Арлоў). Сін. *на краі.* Рус. ***на краю*** *чего.*

**НА БОК-1** *каго/ чаго* / **НА** *які* **БОК** *каго/ чаго* / **НА** *чый* **БОК** Род. Рэлят еднасці: дырэктыўны камітатыў: *Суд, куды ён звярнуўся, стаў* ***на бок адміністрацыйнай камісіі*** («Звязда», 9.02.05). *Адзін з судоў стаў* ***на бок КЖРЭУП****, другі –* ***на бок кватэранаймальніцы***

(«Звязда», 26.02.05). *Яшчэ Яшчэ ў 1658 годзе* ***на бок караля*** *перайшоў палкоўнік Нячай, і яго казакі павярнулі зброю супраць рускіх (*К.Тарасаў). *Дык няўжо не* ***на бок слова Белае Русі****, не* ***на бок паспольства Белае Русі*** *势 стануць тыя, што яшчэ не сталі, што замінаюцца ў нерашучасці, як на раздарожжы?* (А.Лойка). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Сін. *на пазіцыі*. Рус. ***на сторону*** *кого/чего*.

**НА БОК-2** *чаго* / **НА** *які* **БОК** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў; ужываецца звычайна з прыметнікамі *другі, супрацьлеглы,* з займеннікамі *той, гэты* (гл. **НА ДРУГІ БОК** і інш.): ▶*Яны рушылі далей, павольна абышлі ўжо тры бакі* <u>*будыніны*</u> *і цяпер павінны былі выйсці* ***на чацвёрты бок****, што выходзіў на стромы адхон* (У.Караткевіч). Сін. *на бераг*. Рус. ***на*** *какую* ***сторону чего***.

**НАБОК З** *чаго* Род. Ускладн. Дырэктыў: ***Набок з дарогі*** *з доўгім носам* (нар.). Рус. ***прочь с*** *чего*.

**НА БАЛАНС** *каго/чаго* / **НА** *чый* **БАЛАНС** Род. Адрасат-атрымальнік (рэцэпіенс): *Па даручэнню Прэзідэнта будзе праверany стан ваенных гарадкоў, перададзеных міністэрствам абароны ў камунальную ўласнасць і* ***на баланс рэспубліканскіх органаў улады і кіравання*** («Звязда», 06.01.05). Тэрм. Сін. *ва ўласнасць*. Дав. без прыназоўніка. Рус. ***на баланс*** *чего*.

**НА БАЛАНСЕ** *каго/чаго* / **НА** *чыім* **БАЛАНСЕ** Род. Пасэсар: *Улік і рух каштоўных металаў, якія ўтрымліваюцца ў асноўных сродках, вядуцца па пашпартных даных на аб'екты, якія лічацца* ***на балансе прадпрыемстваў*** (Інт.). Сін. *у*. Рус. ***на балансе*** *кого/чего*.

**НА БАЛАНСЕ Ў** *каго* / **Ў** *каго* **НА БАЛАНСЕ** Род. Пасэсар: *Па дамах мясцовых саветаў, якія знаходзяцца ў ЖРЭА на балансе, такія налічэнні будуць праводзіцца праз «жыроўкі»* («Звязда»). Сін. *у*. Рус. ***на балансе у*** *кого/чего*.

**НА** *колькі адзінак* **БОЛЕЙ ЗА** *што* Він.-Він. Двухч. Квантытатыў-розніца + эталон прыраўнівання: *У сярэднім ад каровы надаілі па 3,860 кг малака, што* ***на 139 кг болей за ўзровень*** *папярэдняга* (газ.). Афіц. клішэ. Рус. ***на*** *сколько единиц* ***больше*** *чего*.

НА *колькі адзінак* БОЛЕЙ ЧЫМ *што*

НА *колькі адзінак* БОЛЕЙ ЯК *што*

**НА БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Калі б лічыць не* ***на больш за сотню чалавек****, а на трох?* («Наша Ніва»). Рус. ***на более чем*** *сколько единиц.*

НА *колькі адзінак* БОЛЬШ ЗА *што*

**НА БОЛЬШ ЧЫМ** *колькі адзінак* Він. Час.: дыменсіў-патэнсіў: *Пасля заўчаснай смерці знакамітага на ўсю краіну Міхаіла Карчм-*

*іта СВК «Агракамбінат Сноў»* ***на больш чым пяць месяцаў*** *застаўся без старшыні* («Звязда», 8.02.05). *...выступаюць за тое, каб павялічыць* ***на больш чым 30 % імпартныя пошліны*** *на ўвоз новых іншамарак* (Інт.). Рус. ***на более чем*** *сколько единиц.*

НА *колькі адзінак* БОЛЬШ ЧЫМ *што*

**НА БОЛЬШ ЯК** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: рэлят рознасці: *У шэрагу краінаў працягласць школьнай адукацыі павялічылася на 2 – 3 гады, а ў Угандзе і на Каморских астравах –* ***на больш як 4 гады*** (Інт.). Рус. ***на более чем*** *сколько единиц.*

НА *колькі адзінак* БОЛЬШ ЯК *што*

НА *колькі адзінак* БЛІЖЭЙ *што*

**НА БОРТ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-фініш; з назвамі воднага ці паветранага транспарту: *І вось яны, журналіст Валянцін і літаратар Уладзімір, ваш пакорлівы слуга, у належны дзень узброіліся фотапаратамі, руказакамі, вудамі і мужнасцю і годна ўзышлі* ***на борт паветранага лайнера*** *Мінск – Гомель* (У.Караткевіч). Сін. *на.* Рус. ***на борт*** *чего.*

**НА БОРЦЕ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў; з назвамі воднага ці паветранага транспарту: *Тое ж самае цела на Месяцы будзе важыць прыблізна ў 6 разоў менш, чым на Зямлі, а* ***на борце касмічных караблёў*** *назіраецца бязважкасць цел* (падручн.*). Мы пакахалі адзін аднаго* ***на борце ягонага судна*** («Arche»). Сін. *на.* Рус. ***на борту*** *чего.*

**НА БЫСТРАКУ** *чаго* Род. Характарызатар-лакатыў-інтэнсіў: *М.Танк у сваіх мастацкіх шуканнях рухаўся як быццам спасцярожліва, дзеіў нехапатліва, але, бадай, заўсёды знаходзіўся* ***на быстраку актуальных праблем жыцця і часу*** (М.Мікуліч). Аказіян. Сін. *на стрыжні.* Рус. ***на стрежне*** *чего.*

**НА ВАГАХ** *чаго* Род. Характарызатар-лакатыў-крытэрый*: Аграгарадкі* ***на «вагах»*** *сацыяльных* **стандартаў** (Загаловак у «Звяздзе», 9.06.05). Аказіян. Сін. *з пазіцый; паводле; з пункту гледжання.* Рус. ***на весах*** *чего.*

**НА ВАГУ** *чаго* Род. Рэлят эквівалентнасці*: Прыходзіць час, калі кожныя верныя рукі* ***на вагу золата*** (У.Караткевіч). *А пасля іх* [паўстанцаў] *малады начальнік узначаліў усе паўстанцкія войскі, і галава яго была ацэнена* ***на вагу золата*** *(як быццам можа быць нейкае золата, вартае такой галавы...)* (У.Караткевіч). ◊ ***Быць на вагу золата*** – надта дарага. Рус. ***на вес*** *чего.*

**НАВАКОЛ** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Горад* [Мсціслаў] *фарміраваўся ў сівую даўніну на паўдзённых узгор'ях Смаленскага*

*ўзвышша, як было сказана,* ***навакол Замкавай, Троіцкай і Дзявочай гор*** (У.Караткевіч). *Знізу камень аброс мохам, жоўтая трава* ***навакол яго*** *была вільготная* (К.Чорны). *Свянцоным хлебам, соллю і вадой Абнесла* ***навакол яе*** [каровы] *тры разы* (Я.Купала). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *навокал; вакол*. Рус. ***вокруг*** *кого/чего.*

**НАВАКОЛА** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Гледзячы ў неба, я неяк губляў адчуванне часу і пад ціхую музыку, якая звінела ва мне і* ***навакола мяне****, думаў пра сваё будучае жыццё* (М.Вышынскі). ППШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *навокал.* Рус. ***вокруг*** *кого/чего.*

**НА ВАЛАСОК АД** *чаго* Род. Прастор.: дыменсіў-характарызатар: у складзе фразеалагізма ◊ ***Быць на валасок ад гібелі/смерці*** ━ *За тры гады вайны гэта не адзіны выпадак з біяграфіі Аляксандра Андросіка, калі ён* <u>*быў*</u> ***на валасок ад смерці*** («Звязда», 23.02.05). Рус. быть ***на волосок от*** *чего.*

**НА ВАРЦЕ** *чаго* Род. Ускладн.: у складзе фразелагізма ◊ ***Стаяць на варце*** **–** прэдыкат + пацыентыў: *І ці не ёсць ва ўсіх гэтых прыгодах адзнака нейкага закону жыцця, агульнага і прыватнага, які пільна* <u>*стаіць*</u> ***на варце інтарэсаў*** *жыцця і строга сочыць за тым, каб не парушалася яго раўнважкасць* (Я.Колас). *Федарэнка, як пільны вартаўнік у мастацкай прасторы свайго твора,* <u>*стаіць*</u> ***на варце чытацкай цікаўнасці****, дадаючы час ад часу ў сюжэт новы фактурны штрых, усе больш згушчаючы фарбы* (Л.Алейнік). *Мы мужна* <u>*стаялі*</u> ***на варце вялікіх і цяжкіх спраў*** (М.Хведаровіч: ППШ). *Я ... хацеў бы пусціць па краіне мастацкае палатно, падобнае да «Багатыроў» Віктара васняцова. Толькі сучаснае, аб нашых багатырах, якія* <u>*стаяць*</u> ***на варце спакою і волі*** *краіны* (Я.Брыль). Сін. *на ахове.* Рус. ***на страже*** *чего.*

**НА ВАСТРЫІ/Ю** *чаго* / **НА** *самым* **ВАСТРЫІ/Ю** *чаго* / **НА** *якім* **ВАСТРЫІ** Род. Характарызатар-інтэнсіў: *В.Акудовіч у дадзенай сувязі нас цікавіць не як асоба, якая вось ужо дзесяць апошніх гадоў неадменна перабывае* ***на вастрыю інтэлектуальнага жыцця*** *ў Беларусі* (В.Булгакаў). Сін. *на стрыжні; на піку*. Рус. ***на острие*** *чего.*

**НА ВАЧАХ/ОХ усяго/усёй/усіх** *каго* Род. Характарызатар-эксперыенцэр: ***На вачах усяго венгерскага войска*** *перад шатром Людовіка ўкапалі два слупы, да якіх прывязалі рудога вала* (К.Тарасаў). ***На вачох усяго свет****у гінула Рэч Паспалітая* (А.Бензярук). *На чацвёртым тыдні вайны* ***на вачах усёй вёскі*** *фашысты павесілі аднасяльчаніна Розума Фёдара* (Т.Сіняўскі). ▲ *Але вось* ***на нашых з вамі вачах*** *сем'і пачалі распадацца* («Маладосць», 1985, №12). Сін. *пры; у прысутнасці*. Рус. ***на глазах у*** *кого.*

**НА ВАЧАХ/ВАЧОХ У/ВА** *каго/чаго* / **ВА/У** *каго/чаго* **НА ВАЧАХ/ВАЧОХ** Род. Характарызатар-эксперыенцэр: *Яны* [«старыя»] *ведаюць сакрэт вырошчвання, яны ведаюць сакрэт прышчэпкі – і вось калі яны здзейсняць гэта* ***на вачах у моладзі****, і моладзь гэта падхопіць ... Тады працэс перадачы вопыту адновіцца і ў Расіі, і ў Беларусі* (У.Баярынаў). *Дзяўчынка не крычала, адна ў сцюдзёным бязмежжы,* ***на вачах у высокіх і абыякавых зорак****, – яна ўжо толькі шаптала адзінае слова, якім чалавек пачынае жыццё, слова вялізнай сілы* (Я.Брыль). *Зрабіла яна* [Ядзя] *шкоду дэманстратыўна,* ***ва ўсіх на вачах*** (А.Глобус). Сін. *пры; у прысутнасці*. Рус. ***на глазах у*** *кого.*

**НА ВЕКТАР** *чаго* Род. Дырэктыў-фініш: *Цяпер думаю, што, апынуўшыся ў полі прыцягнення такой магутнай асобы, якой была Таіса Бондар, я проста перабудаваўся* ***на вектар яе інтарэсаў*** (Б.Кантаровіч). Сін. *на*. Рус. ***на вектор*** *чего.*

**НА ВЕЛІЧЫНЮ** *колькі адзінак* Наз. Квантытатыў-розніца пры літарным абазначэнні: *Скорасць перамяшчэння максімуму групы хваль у прасторы х меншая за скорасць верхняй хвалі* ***на велічыню А/т*** (падручн.). Сін. *на* (пры лічбавым абазначэнні). Рус. ***на величину*** *сколько единиц.*

**НАВЕРСЕ** *чаго* / **НА ВЕРСЕ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Дзяўчынка сядзела* ***наверсе воза*** **(**ППШ). ***Наверсе поля*** *знаходзіцца пяціканцовая чырвоная зорка* (Выява Дзяржаўнага герба РБ). *Нарэшце, кавалак паслухмяна лёг на вызначанае месца* ***на версе шліхты*** (К.Крапіва). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *на*. Рус. ***наверху*** *чего.*

НАВЕРСЕ АД *чаго*
НАВЕРСЕ ДА *чаго*
НАВЕРСЕ З *чым*
НАВЕРСЕ ЗА *чым*

**НАВЕРСЕ ЛЯ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна блізкага локума: *Потым мы, перш як увайсці ў дом, разам слухаем, яна* ***наверсе ля дзвярэй****, я ўнізе на падворку, як воз паварочвае з гасцінца наверх на дарогу да дома і як знізу бацька ... выкрыквае прысутным свае вітанні* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Рус. ***наверху у*** *чего.*

**НАВЕРСЕ НА** *чым* Месн. Прастор.: *лакатыў адносна ніжняга арыенціра: Цяпер ён прысеў* ***наверсе на складанцы*** (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). *На калдобінах машина павольна пагойдвалася і* ***наверсе на ёй*** *пакручвалася вежа з кулямётамі, як бы выглядаючы дарогу* (П.Галавач). Рус. ***наверху на*** *чем..*

НАВЕРСЕ НАД *чым*

**НАВЕРСЕ Ў** *чым* Месн. Прастор.: унутраны верхні лакатыў: *Што там «****наверсе» ў Мінску*** *нашы структуры вырашаць, няхай і*

*яно будзе, калі знойдуцца нейкія матэрыяльныя сродкі* (Інт.). ***Наверсе ў ягоным кошыку** ляжаў падасінавік* (У.Арлоў). Рус. ***наверху в** чем.*

**НАВЕРХ[1]** *чаго* / **НАВЕРХ** Род. Характарызатар-дырэктыў: *Ён* [Букрэй] *сядзеў на бярвеннях каля агню, накінуўшы **наверх салдацкай шынелі** яшчэ большае, чым ён сам, шляхецкае футра з шыраччэзным каўняром* (Я.Колас: ППШ). || Прыслоўе: *Яму* [зверу] *ўдалося выцягнуцца **наверх*** (І.Пташнікаў). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *паўзверх*. Сін. *пад ніз*. Рус. ***поверх** чего.*

**НАВЕРХ[2]** *чым* Тв. Характарызатар-спосаб: *На сваю адзежу яна налажыла белы халат, а на халат – душагрэйку **аўчынай наверх*** (Н.Бабіна). *Выварат – становішча пры якім органы ці іх часткі вывернуты **ўнутраным бокам наверх*** (ТСБМ). Ант. *наніз*. Сін. *уверх*. Рус. ***наверх** чем.*

**НА ВЕРХ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Сябры **на верх гары** ўзняліся, Аж упацелі, засапліся* (Я.Колас). Ант. *на ніз*. Сін. *на вяршыню*. Рус. ***на верх** чего.*

НАВЕРХ АД *чаго*

**НАВЕРХ ДА** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *У той час як мы крочым па дарозе **наверх да хутара**, ён няйначай як ужо дасягнуў другой дарогі* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Рус. ***наверх к** чем.*

НАВЕРХ З *чаго*

НАВЕРХ ЗА *кім/чым*

НАВЕРХ ЛЯ *чаго*

**НАВЕРХ НА** *што* Він. Прастор.: дырэктыў-паверхня: – *Выключылі, – і дадала, ужо зманіўшы: – за нясплату складак, – а таму, што маніць яшчэ не ўмела як след, дык пачырванела дадаткова, **наверх на незбляднелую йшчэ чырвань** ад папярэдняга ўзрушэння* (С.Юстапчык (Антон Адамовіч)). *Два маладыя мужчыны ў белых расхрыстаных халатах адразу ўзнеслі і паставілі нікеляваны шырокі ложак і **наверх на сетку** паклалі тры шырокія выгабленыя і абітыя знізу планкамі жоўтыя дошкі* (І.Пташнікаў). *Усеўся зубр бліскучы **Наверх на радыятар*** (М.Аўрамчык). Сін. *на*. Рус. ***наверх на** што.*

НАВЕРХ ПА *чым*

**НАВЕРХ СА** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш+старт: *У кіпню папера ўсплывае не адразу; яна хутчэй паступова раз'ядаецца віруючай гарачынёй і запаволена выбухае шматкамі, якія, спавітыя токам вады, адзін за другім усплываюць **наверх са дна*** **(**П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Рус. ***наверх с** чего.*

**НАВЕРХ У** *што* Він. Прастор.: дырэктыў-фініш: «*Браты часта запаўзалі, прычым адзін вёў другога*», *так было напісана ў адным месцы, «па стромкіх сходах царкоўнай званіцы **наверх у па-***

***мяшканне,*** *дзе былі званы»* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Рус. ***на-верх во*** *что.*

**НА ВЕЧАР** *чаго* / **НА другі/наступны/гэты ВЕЧАР / НА ВЕЧАР** Род. Час.: тэмпаратыў: *Адкласці* ***на вечар наступнага дня.*** ▲***На другі вечар*** *ён сам выйшаў з вячорак разам з Хадоськай і Міканорам* (І.Мележ).|| Назоўнік з прыназоўнікам: *Адну палавіну бохана з'есці раніцой, другую – пакінуць* ***на вечар.*** Рус. ***на вечер*** *чего.*

**НАВІДАВОКУ** *каго* Род. Характарызатар: *Капітан і каманда адразу зразумелі, што давядзецца добра ўпацець, каб прайсці па вузкай Піне ў Прыпяць, прайсці праз ўвесь горад, міма дзесяткаў цеплаходаў і барж,* ***навідавоку вольных гараджан,*** *што абляпілі берагі загарэлымі целамі* (В.Ждановіч). Сін. *на вачах у.* Рус. ***в виду*** *кого.*

**НАВІДАВОКУ ВА/Ў** *каго* Род. Ускладн. Характарызатар-эксперыенцэр: *Прыклад непрафесіяналізму, які* ***ва ўсіх навідавоку,*** *– сапсаванасць цэнтра Мінска найноўшымі пераробкамі...* (В.Куртаніч, М.Цярэшчанка). *Па замкавых галерэях* ***навідавоку ва ўсіх гасцей*** *павольна рухалася чарада служак са срэбнымі сподамі ў руках* («Arche»). Сін. *на вачах у; пры; у прысутнасці; перад*; *на віду ў.* Рус. ***на виду у*** *кого.*

**НА ВІДУ Ў** *каго* Род. Характарызатар-эксперыенцэр: *На людзях –* ***на віду ў іншых*** (ТСБМ). Русізм. Сін. *на відавоку ў.* Рус. ***на виду у*** *кого.*

**НА ВОБЛАСЦЬ** *чаго* Род. Аб'ектн.: дырэктыў адносна паверхні локума: *Накладваюць гарчычнікі ў залежнасці ад захворвання: пры стэнакардыі –* ***на вобласць сэрца****, пры галаўным болі і гіпертаніі – на шыйны аддзел пазваночніка, пры пнеўманіі, бранхіце, катары верхніх дыхальных шляхлў – на розныя месцы грудной клеткі* (Асновы мед. ведаў). ***На вобласць печані*** *ставяць п'яўкі* (Асновы мед. ведаў). Мед. клішэ. Сін. *на; на месца; на ўчастак*. Рус. ***на область*** *чего.*

**НАВОДАЛЬ** *каго/чаго* Род. Тое ж, што і **НАВОДДАЛЬ**. Прастор.: лакатыў: ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *наводдаль*. Рус. ***чуть вдалеке от*** *кого/чего.*

НАВОДАЛЬ АД *каго/чаго*

НА ВОДАПАДЗЕЛ *чаго* І *чаго*

НА ВОДАПАДЗЕЛЕ *чаго* І *чаго*

**НАВОДДАЛЕК** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Вецер як бы пачаў сціхаць, і з-за чорных абрысаў,* ***наводдалек – ці то нізкага лесу, ці то высокіх будынкаў****, – чулася часамі флейта, скрыпка* (К.Чорны). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; размоўн. Сін. *наводдаль*. Рус. ***вдали*** *чего.*

**НАВОДДАЛЕК АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *На голым выгане, **наводдалек ад спаленага вакзала**, яны стаялі доўга, пакуль не пачалася пасадка ў пяць таварных вагонаў – гэта і быў увесь поезд* (К.Чорны: ППШ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; размоўн. Сін. *наводдаль ад*. Рус. ***вдали от*** *чего.*

**НАВОДДАЛІ АД** *каго/чаго* / **АД** *каго/чаго* **НАВОДДАЛІ** Род. Прастор.: лакатыў: ▶ [Радзіма] *Ты ўся **наводдалі** заўсёды* (А.Разанаў). Рус. ***вдали от*** *кого/чего.*

**НАВОДДАЛЬ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Сядзеў **наводдаль стала*** **(**ППШ). *Вось з гэтай нагоды тыя тысячы, якіх так не хапала Мамаю, нерухома прастаялі **наводдаль поля**, а даведаўшыся пра баявы поспех рускіх, рушылі назад, у Вялікае княства* (К.Тарасаў). *Хата яго* [сына] *стаіць от так **наводдаль сяла*** (І.Мележ).▶ *Вада ля <u>бартоў</u> была больш гучная, чым **наводдаль*** (У.Караткевіч). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; ТСБМ – прыназ. Сін. *наводдаль ад*. Рус. ***дальше от*** *чего.*

**НАВОДДАЛЬ АД** *каго/чаго* / **АД** *каго/чаго* **НАВОДДАЛЬ** Род. Прастор.: лакатыў: *Сярод лясоў, **наводдаль ад людзей**, У пакрывелай з старасці хаціне, Адзін, нібы павук у павуцінні, Жыў некалі выгнаннік-чарадзей* (Інт.). *Праўда, людскія страты былі не дужа вялікія, усё ж байцы паспелі акапацца **наводдаль ад чыгункі** ў полі* (В.Быкаў). *Багдановіч змагаўся **наводдаль ад сваёй арміі**. Іншым было лягчэй.Яны былі сузор'ем. Ён – самотнай зоркай...Убачыў радзіму, каб адразу ж самотна памерці **наводдаль ад яе*** (У.Караткевіч). *У канцы стала, ля урны, **наводдаль ад усіх**, распанела разваліўся ў крэсле стары Вежа* (У.Караткевіч). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *наводдалі ад; воддаль ад*. Рус. ***вдали от*** *кого/чего.*

**НАВОДЛЕГ НА** *што* Він. Ускладн. Прастор.: дырэктыў + напрамак: *Каб прагнаць Бадзюлю, трэба чыста вымыць у хаце. Усё гэта лепей рабіць збытнымі днямі, увечары, а бруд выліць **наводлег на заход сонца*** («Родны край», 2009). Рус. ***подальше на*** *что.*

**НАВОДШЫБ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў/дырэктыў: *Падскочыў **наводшыб ад хлапчукоў*** (ППШ). *Сцёпка стаяў **наводшыб ад таварышоў*** (ППШ). *Стаіць варывенька ля самых варот, можна сказаць – як **наводшыб ад сядзібы*** (Я.Скрыган). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *непадалёку ад; крыху ўбаку ад.* Рус. ***на отшиб от*** *чего.*

**НАВОДШЫБЕ** *чаго* / **НАВОДШЫБЕ** Род. Прастор.: лакатыў: *Як правіла, так зразумелы «родны край» адпавядае класічнаму вобразу «малой радзімы», ён ляжыць **наводшыбе вялікай айчыны*** (В.Булгакаў). *Камунальны аддзел не ў будынку райвыканкама, а **на-***

***водшыбе мястэчка***, *у доміку з зялёнымі аканіцамі* (І.Навуменка). *Алесь і Ўладзік зайшлі на нямецкі хутар, што стаяў* ***наводшыбе вялікай вёскі*** (Юрэвіч: ТСБМ). || Прыслоўе: *Аж тры тарпы снапоў* ***на водшыбе*** *стаялі* (У.Карпаў). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; ТСБМ – прыназ. Сін. *на краі.* Рус. ***на отшибе*** *чего.*

**НАВОДШЫБЕ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Белабароды Павал ехаў паперадзе,* ***наводшыбе ад усіх*** *– конь яго меў самы шырокі крок* (К.Чорны). *Касцёл стаяў крыху* ***наводшыбе ад мястэчка*** (М.Машара). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *непадалёку ад; крыху ўбаку ад.* Рус. ***на отшибе от*** *чего.*

**НАВОКАЛ-1** *каго/чаго* Аб'ектн.: дэліберaтыў: *Абышла арда і Тураў, аблягла* ***яго навокал*** (У.Дубоўка). Сін. *пра*. Рус. ***вокруг*** *чего.*

**НАВОКАЛ-2** *каго/чаго* / **НАВОКАЛ** Род. Прастор.: лакатыў: *Навокал рыначнай плошчы стаяць драўляныя і нават цагляныя дамы* (Я.Брыль). *Каторы тыдзень бачу свет* ***навокал сябе*** *ў абсалютна Караткевічавым антуражы: усё навокал у тумане* (Інт.). *Ён не ведаў, што дзе рабілася* ***навокал яг*****о** (К.Чорны). ▶ ***Навокал*** [<u>мяне</u>] *зоры кружаць, як у шчытах, І йскрацца ў зрэнках* (Я.Купала). *Бела* ***навокал*** [<u>мяне</u>], *аж вочы баляць* (Л.Геніюш). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *вакол*. Рус. ***вокруг*** *чего.*

**НАВОКАЛА** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***Навокала палянкі*** *чарадой раслі паганкі* (П.Глебка: ППШ). *Як цені, сіняватыя кругі* ***навокала вачэй*** *ляглі, а вочы як быццам просяць злітавацца ўсіх* (М.Багдановіч). ***Навокала агню*** *стаяць і сядзяць людзі ў вайсковай адзежы* (Я.Колас). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; ТСБМ – прыназ. Сін. *вакол.* Рус. ***вокруг*** *чего.*

**НАВОКАЛ ЛЯ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Я думаю зараз, што гэта не хвароба шматавала і катавала беднае яе цела, а той цмок, тая прымара, той змей-полаз, «спрадвечна пераможаны, але не пахаваны», які віўся* ***навокал ля зямлі і ўсіх земляў*** *і сціскаў іх, «хочучы задушыць»* (У.Караткевіч). Сін. *паўсюль ля*. Рус. ***везде около*** *чего.*

**НАВОКАЛ НА** *чым* Месн. Прастор.: лакатыў: ***Навокал на многіх дзесяцінах*** *шумеў і хваляваўся падасеннім дажджом закінуты, глухі, чорны ад старасці і вільгаці парк* (У.Караткевіч). *Сыны Арвада з тваім уласным войскам вакол на сценах тваіх, і Гамадымы былі на вежах тваіх;* ***навокал на сценах*** *тваіх яны вешалі калчаны свае* (Біблія: Інт.). Рус. ***вокруг на*** *чем.*

**НАВОКАЛ ПА** *чым* Месн. Ускладн. Прастор.: лакатыў: ***Навокал па гораду*** *шастаюць батальёны выпускнікоў са стужкамі* (Інт.). Рус. ***вокруг по*** *чему.*

**НА ВОЛЮ** *каго* Род. Характарызатар: дырэктыўны канфірматыў: *У Крустпілсе, дзе трэба знайсці машыну аж да Ляўдоны, кідаем **на волю лёсу** цягнік* (У.Караткевіч). *Чаму зайчыха пакідае сваіх нованароджаных дзяцей **на волю лёсу**?* («Родны край», 2009). ◊ ***На волю лёсу*** – без падтрымкі (ТСБМ). Рус. ***на волю*** *кого.*

**НАВОНКІ** *каго/чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Гэтак канцы балькі могуць выходзіць **навонкі хаты*** (Я.Станкевіч). *Для «лукашэнкі» любое падарожжа ўглыбкі Еўразіі – гэта чароўная казка і адначасова падарожжа**-навонкі-сябе-самога*** (В.Булгакаў). || Прыслоўе: *Можна быць **навонкі** добрым, зычлівым, а ў сэрцу таіць злосць* (Я.Станкевіч). Ант. *унутр у*. Сін. *за межы*. Рус. ***за пределы*** *чего.*

**НАВОНКІ ДА** *каго/чаго* Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыўфініш: *Дзякую, нарэшце гнеўна кажа сляпы **навонкі да ўладальніцы шынка,** якая ўжо зноў мые куфлі ў запененай вадзе мыйкі за стойкай кухні* («Arche»). Рус. ***вне к*** *чему.*

**НАВОНКІ З** *чаго* / **З** *чаго* **НАВОНКІ** Род. Прастор.: дырэктыў-старт: *Гэта быў зрынальны, «эксцэнтрычны» акт, які выводзіў **з гэтага касцёла навонкі**, на бязмежны разлог поўнай ня-веры – у самой сваёй аснове адмаўляльны* («Arche»). Рус. ***вне из*** *чего.*

**НА ВОПЫЦЕ** *каго/чаго* / **НА** *якім/чыім* **ВОПЫЦЕ** *чаго* / **НА** *чыім* **ВОПЫЦЕ** Род. Прычын.: падстава: ***На вопыце жыцця,*** *пачынаючы з маленства, чалавек спазнае (і ўсведамляе дзякуючы здольнасці самарэфлексіі) сваю быццёвую неабсалютнасць і непаўнату* (Інт.). Сін. *на*. Рус. ***на опыте*** *кого/чего.*

**НА ВОСІ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *У далейшым пры пабудове графікаў **на восі абсцыс** будзем адкладваць не час, а велічыню, прапарцыйную часу* (падручн.). *У якасці контура абходу возьмем акружнасць радыусам К з цэнтрам **на восі току*** (падручн.). || Назоўнік: *Для пазбаўлення самаходу трэба пласцінку 12 ад полюса электрамагніта 10 наблізіць да пласцінкі **на восі дыска*** (падручн.). Мат. тэрм. Рус. ***на оси*** *чего.*

**НА ВОЧЫ**[1] *каго* Род. Аўтарызатар: *Чалавек падаецца вялікім, а Зямля – малой: прапорцыя чалавека і Зямлі **на вочы астранаўта** папросту перакуленая з ног на галаву* (В.Закс. Пер. А.Пяткевіча). Сін. *вачамі/вачыма.* Рус. ***глазами*** *кого.*

**НА ВОЧЫ**[2] *каму* Дав. Ускладн. Частка апісальнага прэдыката + эксперыенцэр: *Людзі баяліся гэтага войска, туляліся па сцежках лясных, па глухіх дарогах, каб не <u>трапляць</u> **на вочы вайсковаму начальству*** (М.Лынькоў). *Ды, калі б **не маёру на вочы** <u>трапіў</u>, ведаеш, што б табе зараз было!* (Р.Баравікова). ▶ *Можа, невядомае і дзіўнаватае прозвішча аўтара – Болбас, а можа, тыя газетныя,*

*патрапіўшыя пры гартанні **на вочы**, кароткія зацемы, тыпу «Першыя канваліі траўня», «Чэрвеньскі дождж», «Ліпеньскія цені» і г.д.* («ЛіМ», 30.04.04). Сін. *перад*. Рус. ***на глаза** кому.*

**НА ВУГАЛ** *колькі адзінак* Наз. Дыменсіў: *Дыск павернецца **на вугал Д<р = о>Д2,** і цела ў нерухомай сістэме перамесціцца з А ў П* (падручн.). Матэм. клішэ. Рус. ***на угол** сколько единиц.*

**НА ВУГАЛ** *колькі адзінак* **АД** *чаго* / **НА** *які* **ВУГАЛ** *колькі адзінак* **АД** *чаго* Наз.-Род. Двухч. Ускладн. Дыменсіў: *Адвес займе напрамак, што адпавядае напрамку рэзультыўнай сіл Р і Р, адхіляючыся **на некаторы вугал <х ад напрамку** да цэнтра Зямлі* (падручн.) Матэм. клішэ.Рус. ***на угол** сколько единиц **от** чего.*

**НА ВУДУ** *каго/чаго* Род. Стымул: *Нямала ветэранаў і іх сваякоў трапляюць **на вуду рэкламы** ў сродках масавай інфармацыі* («Звязда», 17.03.05). Сін. *у палон*. Рус. ***на удочку** кого/чего.*

**НА ВУЛІЦЫ** *каго* Род. Ускладн. Эксплікатар + анамасіятыў: ***На вуліцы Соламавай** з'явіўся магазін «Тысяча дробязяў».* Афіц. клішэ. Як размоўнае ўжыванне магчыма рэдукцыя эксплікатара: *Потым Валодзя не раз казаў, што нідзе яму не пісалася так хораша, як **на Чарнышэўскага*** (А.Мальдзіс). Сін. *па вуліцы.* Рус. ***на улице** кого.*

**НАВЫВАРАТ** *чым* Тв. Характарызатар: *Тыя самыя штаны ды **навыварат гузікамі*** (нар.). Рус. ***навыворот** чем.*

**НА ВЫЕЗДЗЕ З** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна кропкі локума: ***На выездзе з вёскі** Стары Двор Шчучынскага раёна ўвагу падарожнага прыцягне тоўсты дубовы камель, што лежма выгравае на сонцы свае мармуровападобныя бакі* (М.Скобла). *Пасля мы ныраем пад арку **на выездзе з гарадка*** (Я.Брыль). Рус. ***на выезде из** чего.*

**НА ВЫКАРЫСТАННЕ** *чаго* Род. Аб'ектн.: пацыентыў + эксплікатар: *З 1 лютага ў нашай краіне ўведзена забарона **на выкарыстанне харчовых дабавак Е216 і Е217*** («Звязда». 3.02.05). Сін. *на*. Рус. ***на использование** чего.*

**НА ВЫПАДАК[1]** *чаго* Род. Прычын.: прагназуемы каўзатыў: *Паралельна з тэхнічным водазабеспячэннем і абвадненнем Свіслачы Вілейска-Мінская водная сістэма застанецца рэзервам пітнога забеспячэння **на выпадак экстраных сітуацый і аварый*** («Звязда», 4.01.05). *Майце пры сабе пакет копій **на выпадак страты або адабрання** арыгіналаў* («Чырвоная змена», 28.01.05). *План дзеянняў **на выпадак моцнай паводкі** распрацаваны* («Звязда»). *Рабілі запасы **на выпадак** магчымай **вайны** з кімсьці?* (У.Караткевіч). ◊ ***На першы выпадак*** – для пачатку. ***На ўсякі выпадак*** – калі спатрэбіцца.↔ ***На выпадак калі.*** Рус. ***на случай** чего.*

**НА ВЫПАДАК**[2] *што/які* Наз. Прычын.: прагназуемы каўзатыў + анамасіятыў: *І мусіла, згодна з адпаведнымі юрыдычнымі дакументамі, таксама рыхтавацца да паездкі ў Стамбул –* ***на выпадак «ці мала што»*** (С.Берасцень). Рус. ***на случай*** *что.*

НА ВЫПАДАК НЕАБХОДНАСЦІ *чаго*

НА ВЫПАДАК УЗНІКНЕННЯ *чаго*

**НАВЫПЕРАДКІ** *каго/чаго* Род. Характарызатар руху: *І ўсё ж Львоў-Альбоў заўсёды бег* ***навыперадкі першапрастольнага Кіева****, дзе назвалі Караткевіча «Каралём духоўнасці»* (С.Панізьнік). Сін. *наперадзе*. Рус. ***впереди*** *кого/чего.*

**НА ВЫСНОВЕ** *чаго* / **НА** *якой* **ВЫСНОВЕ** Род. Прычын.: выснова: *У наступны раз, калі ласка, удакладняйце,* ***на выснове чаго*** *было вырашана, які варыянт правільны* (Інт.). || Назоўнік з прыназоўнікам: *Адметна, што ў Маскве палітолагі розных кірункаў сыходзіліся* ***на выснове****: выбухі народнага пратэсту адбыліся там, дзе старыя эліты заседзеліся* (Інт.). Сін. *на грунце.* Рус. ***на основании*** *чего.*

**НА ВЫХАДЗЕ З** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна кропкі локума: *Ужо* ***на выхадзе з лядоўні*** *ён* [Лапахін] *пачакаў даярку, што ішла следам за ім і ўсё яшчэ хітравата ўсміхалася* (М.Шолахаў. Пер. М.Лужаніна). *Зноў увайшлі ў густое калючае кустоўе,* ***на выхадзе з якога*** *па камандзе Волаха ўсе разам замёрлі* (В.Быкаў). Сін. *на выездзе з.* Рус. ***на выходе из*** *чего.*

**НА ВЫШЫНІ-1** *чаго* / **НА** *якой* **ВЫШЫНІ** / **НА ВЫШЫНІ** Род. Характарызатар-інтэнсіў у складзе прэдыката: *Глядзі, будзь* ***на вышыні моманту*** (Інт.). ▲ *Вызначце яго кінетычную энергію* ***на гэтай вышыні*** *і праз 3,0 с яго руху* (падручн.). ◊ *Быць* ***на вышыні шчасця*** (РБС). *Быць* ***на вышыні моманту. Быць на вышыні.*** || Назоўнік з прыназоўнікам: ***На безыменнай вышыні*** *Зноў разгарэўся бой* (М.Танк). || Прыслоўе: *Яго* [Танка] *тагачасная творчасць хоць і адчула на сабе негатыўны ўплыў ужо згаданай намі тэорыі бесканфліктнасці, але паэт заставаўся* ***на вышыні*** (М.Мікуліч). Сін. *на піку; на вяршыні; на вастрыі.* Рус. *быть* ***на верху блаженства;*** *быть* ***на острие момента.***

**НА ВЫШЫНІ-2** *чаго* Род. Лакатыў: рэлят колькаснага прыраўнівання: ***На вышыні ўзнятай дзіцячай рукі*** *на сцяне прымацаваны кручкі – для куртак і паліто.* ▬ *Мы ўтраіх лезем на драбінкі глядзець на кулямёт, які, паводле Сашавых словаў, устаноўлены* ***на вышыні вокан*** (Е.Вежнавец). Сін. *на ўзроўні*. Рус. ***на высоте*** *чего.*

**НА ВЫШЫНІ-3** *колькі адзінак* / *колькіх адзінак* Наз./Род. Дыменсіў-лакатыў: *Наш атлет збіраецца штурмаваць планку* ***на***

***вышыні тры метры восемдзесят сантыметраў*** (З.Падбярэзскі). *Напоўненую кружку Эсмарха падвешваюць на штатыве* ***на вышыні 1 – 1, 5 м*** (Асновы мед. ведаў). *Часам, напрыклад, даводзілася працаваць* ***на вышыні трыццаці метраў,*** *што вышэй дзевяціпавярховага дома* (газ.). *Тлумачыцца гэта тым, што* ***на вышыні 50 – 70 км*** *ёсць слаі атмасфернага азону тэмпературай 50 – 70 °С* (падручн.). ***На вышыні 3000 км*** *шчыльнасць паветра амаль роўна шчыльнасці рэчыва космасу* (падручн.). Рус. ***на высоте*** *сколько/их единиц.*

**НА ВЫШЫНІ** *колькі адзінак* **АД** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Дыменсіў-лакатыў + локум адлічэння: *20 кастрычніка Крэсовая авалодала Монтэ-Кроса і Монтэ-Спіна* ***(на вышыні 600 метраў ад узроўню мора)*** (Ю.Грыбоўскі). *Адзін з іх, паўцыркульнай формы, знаходзіцца ў паўднёвай сцяне* ***на вышыні 4 км ад першапачатковага ўзроўню*** *двара, недалёка ад замкавай вежы* (Інт.). Рус. ***на высоте*** *сколько единиц* ***от*** *чего.*

НА ВЫШЫНІ АД *колькіх адзінак* ДА *колькіх адзінак*

НА ВЫШЫНІ АМАЛЬ *колькі адзінак*

**НА ВЫШЫНІ БОЛЕЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прастор.: лакатыў: прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Агенцтвы перадалі, што* ***на вышыні болей за два кіламетры*** *ў самалёта раптоўна адкрылася апарэль* (Інт.). Рус. ***на высоте более*** *скольких единиц.*

НА ВЫШЫНІ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНІ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

**НА ВЫШЫНІ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прастор.: лакатыў-прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: ***На вышыні больш за 80 км*** *і да вышыні 800 км ляжыць іанасфера* (падручн.). ***На вышыні больш за 80 км*** *і да вышыні 800 км ляжыць іанасфера* (падручн.). Рус. ***на высоте более*** *скольких единиц.*

**НА ВЫШЫНІ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* **НАД УЗРОЎНЕМ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў: прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой + локум адлічэння: *Узвышшы – гэта ўчасткі зямной паверхні, якія знаходзяцца* ***на вышыні больш за 200 м над узроўнем мора,*** *але не вышэй за 500 м* (падручн.). *Пласкагор'е – раўніна, размешчаная* ***на вышыні больш за 500 м над узроўнем*** *акіяна* (падручн.). Рус. ***на высоте более*** *скольких единиц* ***над уровнем*** *чего.*

**НА ВЫШЫНІ БОЛЬШ ЧЫМ** *колькі адзінак* Він./Наз./Род. Прастор.: лакатыў: прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: ***На вышыні больш чым тысячы метраў*** *бліснулі ў ранішнім сонцы самалёты* (М.Лынькоў). *скольких единиц.*

НА ВЫШЫНІ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНІ ДА *колькіх адзінак*

НА ВЫШЫНІ ЗА *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНІ ЗВЫШ *колькіх адзінак*

**НА ВЫШЫНІ КАЛЯ** *колькіх адзінак* Прыблізны лакатыў-дыменсіў: ***На вышыні каля 10 м*** *адыходзіць першая магутная галіна, падобная на раскідзістае тоўстастваловае дрэва* («Родны край», 2009). Сін. *на вышыні амаль.* Рус. ***на высоте около*** *скольких единиц.*

НА ВЫШЫНІ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНІ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНІ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

**НА ВЫШЫНІ** *колькіх адзінак* **НАД (УЗРОЎНЕМ) / (ПАВЕРХНЯЙ)** *чаго* Він. – Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў-дыменсіў + локум адлічэння: *Самы высокі пункт нашай Радзімы – гара Дзяржынская (Святая) – знаходзіцца* ***на вышыні 346 м над узроўнем мора*** (падручн.). *Невялікім слоем азон размяшчаецца* ***на вышыні 20 – 25 км над паверхняй Зямлі*** (падручн.). Рус. ***на высоте*** *сколько единиц* ***над уровнем / поверхностью*** *чего.*

НА ВЫШЫНІ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНІ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНІ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНІ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНІ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНІ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНІ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНІ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНІ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНІ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНІ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНІ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНІ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНІ ПАРАДКУ *колькі адзінак*

**НА ВЫШЫНІ ПРЫБЛІЗНА** *колькі адзінак* **АД** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў: прыблізны дыменсіў + локум адлічэння: *Сярэдні ярус ішоў у сярэдзіне сцен,* ***на вышыні прыблізна 8 м ад зямлі****. Ён меў выгляд калідора-галерэі вышынёй трохі больш за 2 м з паўцыркульным скляпеннем* (Інт.). Рус. ***на высоте приблизительно*** *сколько единиц* ***от*** *чего.*

НА ВЫШЫНІ ПРЫКЛАДНА *колькі адзінак*

**НА ВЫШЫНІ Ў** *колькі адзінак* Він. Прастор.: лакатыў-дыменсіў: «*Іанасфера» названая так таму,* ***што на вышыні ў сотні кіламетраў*** *пад уздзеяннем выпраменьвання Сонца атамы перат-*

*вараюцца ў асобныя часціцы – іоны* (падручн.). Рус. ***на высоте в*** *сколько единиц.*

**НА ВЫШЫНЮ-1** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў – рэлят кольказнага прыраўнівання: *Падымаюся* ***на вышыню каната*** *і адчуваю ўтульны след чужога майстэрства* (Л.Дранько-Майсюк). *Жывём пад высокімі дрэвамі – вышэйшыя за саміх сябе* ***на вышыню дрэў*** (А.Разанаў). ◊ *Узняць* ***на належную вышыню***. Рус. ***на высоту*** *чего.*

**НА ВЫШЫНЮ-2** *колькі адзінак* Він./Наз. Прастор.: дырэктыў-дыменсіў: *На Іа было выяўлена адразу 8 вогнедышных вулканаў, якія вывяргаюць фантаны газаў* ***на вышыню 250 – 300 км*** (падручн.). *Якую работу выканала сіла нацяжэння троса пры раўнамерным падыманні кранам грузу 300 кг* ***на вышыню 3,0 м?*** (падручн.). Рус. ***на высоту*** *сколько единиц.*

**НА ВЫШЫНЮ** *колькі адзінак* **АД** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-дыменсіў + локум адлічэння: *Калі сардэчная дзейнасць толькі што спынілася (30 – 40 с пасля страты прытомнасці), то перад перад пачаткам штучнай вентыляцыі лёгкіх трэба паспрабаваць узнавіць работу шляхам надсардэчнага ўдару. Для гэтага выратавальнік падымае сціснуты кулак* ***на вышыню 20 – 30 см ад паверхні груднои клетк****і і с сілай апускае яго на грудзі*ну (Асновы мед. ведаў). *Аснаванне вежы* ***на вышыню 3 м ад цяперашняй паверхні*** *вымуравана з каменю* (Інт.). Рус. ***на высоту*** *сколько единиц* ***от*** *чего.*

НА ВЫШЫНЮ АД *колькіх адзінак* ДА *колькіх адзінак*
НА ВЫШЫНЮ АМАЛЬ *колькі адзінак*
НА ВЫШЫНЮ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
НА ВЫШЫНЮ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
НА ВЫШЫНЮ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
НА ВЫШЫНЮ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
НА ВЫШЫНЮ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
НА ВЫШЫНЮ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

**НА ВЫШЫНЮ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прастор.: дырэктыў: прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Трытоны ў пошуках вільготных месцаў для адпачынку нярэдка могуць прабірацца пад карой па трэшчынах у старых пнях* ***на вышыню да 1 м*** (падручн.). *У акіяне, удалечыні ад берагоў, пры праходжанні прыліўной хвалі вада падымаецца* ***на вышыню да аднаго метра*** (падручн.). Рус. ***на высоту до*** *скольких единиц.*

НА ВЫШЫНЮ ЗВЫШ *колькіх адзінак*

**НА ВЫШЫНЮ КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прастор.: дырэктыў: прыблізны дыменсіў: *Пры падачы яна заціскае мячык у лакця-*

*вым згібе і потым падкідвае яго лакцём жа* ***на вышыню каля 0,5 м*** (Інт.). Рус. ***на высоту около*** *скольких единиц.*

**НА ВЫШЫНЮ МЕНШУЮ Ў** *колькі разоў*/ **НА ВЫШЫНЮ Ў** *колькі разоў* **МЕНШУЮ** Він. Ускладн. Прастор.: дырэктыў: прыблізны дыменсіў + градуатар: *Стальны шарык масай 100 г падае з вышыні ў 1,2 м і пасля ўдару аб падлогу падскоквае* ***на вышыню, у 9 разоў меншую*** (падручн.). Рус. ***на высоту в*** *сколько единиц* ***меньше.***

**НА ВЫШЫНЮ** *колькі адзінак* **НАД** *чым* Він.-Тв. Двухч. Ускладн. Дырэктыў-дыменсіў + локум адлічэння: *Ракета, маса корпуса якой 1 т, паднялася* ***на вышыню 990 км над полюсам Зямлі*** (падручн.). Рус. ***на высоту*** *сколько единиц* ***над*** *чем.*

НА ВЫШЫНЮ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНЮ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНЮ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНЮ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНЮ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНЮ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

**НА ВЫШЫНЮ НЕ НІЖЭЙ ЧЫМ** *колькі адзінак* Наз. Характарызатар: прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Скошваюць (стрыгуць) газон за год 12 – 20 разоў* ***на вышыню не ніжэй чым 4 – 5 см*** («Звязда», 30.04.05). Рус. ***на высоту не ниже чем*** *сколько единиц.*

**НА ВЫШЫНЮ Ў** *колькі адзінак* Він. Прастор.: дыменсіў-дырэктыў: *Гэтыя салавейкі, аднак, цягалі на памост,* ***на вышыню ў тры метры****, бітоны літраў на сорак, каб зліваць малако ў малакавоз* (У.Караткевіч). Рус. ***на высоту в*** *сколько единиц.*

НА ВЫШЫНЮ ПРЫБЛІЗНА *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНЮ ПРЫКЛАДНА *колькі адзінак*

НА ВЫШЫНЮ ПАРАДКУ *колькі адзінак*

**НА ВЫШЫНЯХ (Мн.л.)** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Усе гэтыя гады ляжыць ён* [горад Орша] ***на вышынях Беларуска-літоўскага ўзвышша****, на ўвалах, над Дняпром і ягонымі парогамі* (У.Караткевіч). Сін. *на.* Рус. ***на высотах*** *чего.*

**НА** *колькі адзінак* **ВЫШЭЙ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна колькаснага эталона-локума: *Рана крывавілася на бядры* ***на вяршок вышэй калена*** (І.Мележ). Рус. ***на*** *сколько единиц* ***выше*** *чего*.

НА *колькі адзінак* ВЫШЭЙ ЗА *што*

НА *колькі адзінак* ВЫШЭЙ ЧЫМ *што*

НА *колькі адзінак* ВЫШЭЙ ЯК *што*

**НА ВЯКУ** *каго* / **НА** *чыім* **ВЯКУ** Род. Час.: дыменсіў: ***На вяку такіх старажылаў*** *столькі перамен было – не злічыць!* (Інт.). ▲ ***На маім вяку*** *шмат чаго было.* Сін. *за жыццё*. Рус. ***на протяжении жизни*** *кого*.

**НА ВЯРШЫНІ-1 (Адз.л.)** *чаго* Род. Лакатыў у складзе характарызуючага прэдыката: *Чалавек воляй лёсу і дзякуючы асабістым якасцям апынуўся* ***на вяршыні ўлады*** (Л.і А.Класкоўскія). *Кожны від мастацтва ў пэўны гістарычны момант свайго развіцця – гэта* <u>*піраміда*</u>*,* ***на вяршыні якой*** *знаходзяцца геніі і таленты, а ніжэй – мноства тых, хто да першых не адносіцца, але актыўна працуе, кіруючыся самымі рознымі матывамі творчасці* («ЛіМ», 20. 02.04). Сін. *на піку*. Рус. ***на вершине*** *чего.*

**НА ВЯРШЫНІ-2 (Адз.л.)** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў: *За магіламі ўнізе ля мура бачныя карычневыя, іржавыя пасмы дажджу, зверху* ***на вяршыні мура*** *няшчытныя гонты даху на муры, пад дахам тоўстыя папярэчныя бэлькі, паміж дахам мура і мурам даўгая палоска неба, на тле неба хвалістая, прыгорбленая хада ката* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Сін. *наверсе.* Рус. ***на вершине*** *чего.*

**НА ВЯРШЫНЮ (Він., адз.)** *чаго* Род. Дырэктыў у складзе характарызуючага прэдыката: *Узысці* ***на вяршыню славы.*** ▬ *Ніводзін з твораў Караткевіча не з'яўляецца выпадковым, а выбудоўваецца ў своеасаблівую лесвіцу, што вядзе ў глыб гісторыі і адначасова на вяршыню самапазнання* (А.Бутэвіч). Сін. *на пік.* Рус. ***на вершину*** *чего.*

**НА ВЯРШЫНЯХ (Месн., мн.)** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў: ***На вяршынях маўклівых сосен,*** *прыцярушаных снежнымі крупінкамі, іграюць ружовыя блікі* (В.Данілевіч). Рус. ***на вершинах*** *чего.*

**НА ГЛЕБЕ** *чаго* / **НА** *якой* **ГЛЕБЕ** *чаго* / **НА** *якой* **ГЛЕБЕ** Род. Прычын.: каўзатыў-аснова: *Пасля гэтага яна зноў паразумелася з адным мужчынам* ***на глебе дабрыні, закаханасці, зычлівасці, клопату, апоры, надзейнасці, абароны, вернасці, розных праяваў павагі****, што не было толькі добрым намерам, а ўвайшло ў іх жыццё* (І. Бахман. Пер. В.Сёмухі). *Дзяўчына-падлетак перажыла клінічную смерць* ***на глебе крайняй схуднеласці*** («Звязда», 18.02.05). *Расток творчасці з'явіўся* ***на глебе майго захаплення*** *дызайнам касцюма* (К.Дзенісенка). *Агульным здабыткам мясцовай улады і тутэйшай грамадскасці Анатоль Гурбан лічыць зніжэнне ўзроўню злачыннасці за пяць месяцаў года, прыкладна на 30 працэнтаў (у тым ліку* ***на глебе п'янства)*** *у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года* («Звязда», 22.06.05). *Беларусь мае неаспрэчнае права ганарыцца Міцкевічам, таму што гэты велізарны дух вырас і сфармаваўся як*

*тып* ***на глебе карэннай літоўскай славяншчыны*** (К.Тарасаў). ▲ *Ну, а з хадэцыяй. Я казаў, была дамоўленасць аб пэўным супрацоўніцтве, якая дзейнічала амаль да роспуску кампартыі ў 1938 годзе. Дарэчы,* ***на гэтай глебе*** *ў яе радах атрымаўся разлад* (М.Танк). ↔ **На глебе таго што.** Сін. *на аснове*. Рус. ***на почве*** *чего*.

**НА ГЛЕБУ** *чаго* / **НА** *якую* **ГЛЕБУ** *чаго* / **НА** *якую* **ГЛЕБУ** Род. Дырэктыў-рэцэпіенс: *Усё, справа зробленая – патрапіў* ***на глебу беларускага менталітэту*** (Інт.). *Адсюль, мабыць, выключная сіла ды з'едлівасць гэтых ідэяў, якія, да таго ж, не траплялі* ***на глебу*** *добра развітага шматфункцыянальнага грамадскага* ***арганізму*** («Arche»). Аказіян. Сін. *пра; на тэму.* Рус. ***на почву*** *чего.*

**НА ГЛЫБІНІ** *колькі адзінак* / **НА** *якой* **ГЛЫБІНІ** *колькх адзінак* / **НА** *якой* **ГЛЫБІНІ** / **НА ГЛЫБІНІ (Месн., адз.л.)** Він. Прастор.: дыменсіў-лакатыў: *У 1923 годзе пры пракладцы каналізацыі па цяперашняй вуліцы Тэлеграфнай была знойдзена* ***на глыбіні 5,5 метра*** *косць левай галёнкі мамантa* («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). *Нейтронны паток аказвае моцнае паражальнае дзеянне на чалавека:* ***на глыбіні 10 см*** *у арганізме паглынаецца 50 % энергіі нейтронаў* (Асновы мед. ведаў). *Вада Чорнага мора* ***на глыбіні 150 м*** *насычана серавадародам* (Асновы мед. ведаў). *На паверхні глебы мікробы гінуць ад уздзеяння сонечных прамянёў, высушвання або замарожвання. Аднак* ***на глыбіні 1 – 2 см*** *іх можа быць даволі шмат* (Асновы мед. ведаў*).* ***На глыбіні некалькіх метраў*** *сустракаюцца адзінкавыя мікробы* (Асновы мед. ведаў). *На гэты смертаносны «клад»* ***на глыбіні паўметра*** *натыкнуўся экскаватаршчык, калі пракладваў траншэю пад кабель тэлефоннай сувязі* («Газета Слонімская»). *Эўклідэс сказаў, што на тым месцы, на глыбіні* ***якіх васемнаццаці мэтраў****, ляжыць на каралах столькі старажытных ветразнікаў, што немагчыма нават падлічыць* (Г.Маркес: Інт.). ▲ ***На вялікай глыбіні*** *падземныя воды нагpaваюцца цяплом зямных нетраў* (падручн.). || Прыслоўе: *Пры апусканні зямной паверхні слой торфу можа апынуцца* ***на глыбіні****. Ён заносіцца тоўшчамі глею, пяску, гліны і іншых асадкавых парод* (падручн.). ↔ **На глыбіні дзе; на глыбіні куды; на глыбіні адкуль:** ***На глыбіні, куды*** *не пранікаюць прамяні Сонца, тэмпература вады аднолькавая* (падручн.). ***На глыбіні, там, дзе*** *вечная цемра, жывуць марскія жывёлы, што свецяцца* (падручн.). Рус. ***на глубине*** *сколько единиц.*

**НА** *колькі адзінак* **ГЛЫБІНІ** / *адзінак* **НА** *колькі* **ГЛЫБІНІ (Род., адз.л.)** Він. Двухч. Ускладн. Дыменсіў-характарызатар: *І было ў дрэвах возера Кругленькае,* ***метраў гэтак на 12 – 13 з хвосцікам глыбіні*** (У.Караткевіч). Сін. *глыбінёй на*. Рус. *на сколько единиц* ***глубиной****.*

**НА ГЛЫБІНІ** *колькіх адзінак* **АД** *чаго* **(Род., адз.л.)** Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: дыменсіў-лакатыў адносна локума адлічэння: ***На глыбіні 1,2 м ад сучаснай дзённай паверхні*** *завал гэтае сцяны прасціраецца на адлегласць 1,2 – 2 м на паўночным яе баку на мосце з каменю* (Інт.). Рус. **на глубине** *сколько единиц* ***от*** *чего.*

**НА ГЛЫБІНІ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* **(Род., адз.л.)** Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў: прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Ніжняя мяжа зямной кары пад сушай* ***знаходзіцца на глыбіні ад 35 да 50 км****, а пад гарамі – да 80 км* (падручн.). *Змеі і яшчаркі зімовыя сховішчы арганізуюць ніжэй слоя прамярзання глебы* ***на глыбіні ад 30 – 50 см да 1,5 м****.* (навук.). *Памешчаны яны* [святыні] ***на глыбіні ад 5 да 20 метраў*** *пад зямлёй* (Інт.). Рус. ***на глубине от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**НА ГЛЫБІНІ АМАЛЬ** *колькі адзінак* **НІЖЭЙ ЗА ЎЗРОВЕНЬ** *чаго/якую адзінку адлічэння* Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: прыблізны дыменсіў-лакатыў + локум адлічэння: *Патаемны ход быў знойдзены пад галерэямі музэю юстыцыі ў Натынгеме* ***на глыбіні амаль*** *двух з паловай метраў* ***ніжэй за ўзровень*** *вуліцаў* (Інт.). Рус. ***на глубине почти*** *сколько единиц* ***ниже уровня*** *чего.*

НА ГЛЫБІНІ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНІ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНІ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

**НА ГЛЫБІНІ БОЛЬШ** *колькіх адзінак* Род. Прастор.: лакатыў: прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Калі пагружацца яшчэ глыбей, у разагрэтых нетрах на глыбіні* ***больш 1,5 км*** *воды ператвараюцца ў тэрмальныя расолы – унікальную гарачую вадкасць, насычаную хімічнымі элементамі паловы табліцы Мендзялеева* (Інт.). Рус. ***на глубине более*** *скольких единиц.*

**НА ГЛЫБІНІ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прастор.: лакатыў: прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Па папярэдніх дадзеных, прычынай стаў прарыў падземнага газапроваду* ***на глыбіні больш за*** *11 метраў* (Інт.). Рус. ***на глубине более*** *скольких единиц.*

НА ГЛЫБІНІ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНІ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНІ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНІ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНІ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНІ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНІ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНІ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

**НА ГЛЫБІНІ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прастор.: лакатыў: прыблізны дымэнсіў з дакладнай верхняй мяжой:: *Пад ім адзначана цёмная зямля з невялікім развалам цэглы, а яшчэ ніжэй* ***(на глыбіні да*** *3,20 м.) ляжала шэрая зямля з рэшткамі гарэлага і гнілога дрэва* (Інт.). *Зімуюць кукалкі ў глебе на глыбіні да 5 см* («Родны край», 2009). *Далей на глыбіні 0,8 – 1,8 м і на ўсю шырыню рова ішла лінзападобная праслойка зямлі шэрага колеру з пяском. Пад ёю* ***да глыбіні*** *2,6 м знаходзіўся слой чорнага колеру з украпінамі чырвонай гліны* (Інт.). Рус. ***на глубине до*** *скольких единиц.*

НА ГЛЫБІНІ ЗВЫШ *колькіх адзінак*

**НА ГЛЫБІНІ З** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Прастор.: лакатыў: прыблізны дымэнсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *У паўднёвым і ўсходнім шурфах на глыбіні* ***з 0,35 – 0,40 м да 0,6 м*** *на мацерыку залягала выбрукоўка з дробных і буйных камянёў* (навук.). Рус. ***на глубине от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**НА ГЛЫБІНІ** *колькі адзінак* **І БОЛЬШ** Род. Прастор.: лакатыў-дакладны дымэнсіў + градуатар: *У сутарэннях* ***на глыбіні ста і больш метраў*** *сядзелі дзяжурныя аператары* (Інт.).Рус. ***на глубине*** *сколько единиц* ***и более.***

**НА ГЛЫБІНІ КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прастор.: прыблізны дымэнсіў-лакатыў: *Пры нашых даследаваннях вакол каменя культурны пласт выявіць не ўдалося, але* ***на глыбіні каля 0,5 м*** *адкапана частка каменнай абкладкі* (Інт.). У *1963 г. пры будаўнічых працах на былым замчышчы* ***на глыбіні каля 1 м*** *было знойдзена 10 каменных ядзер дыяметрам 20 – 40 см. ад бамбард XIV – XV ст.ст.* (Інт.). *Пры шурфоўцы цэнтра пляцоўкі* ***на глыбіні каля 0,2 м*** *удалося выявіць вуголле, крамяні з першаснай апрацоўкай і абломкі ранняй ганчарнай керамікі* (навук.). *Тут, у Саргасавым моры,* ***на глыбіні каля тысячы метраў****, вугры нерастуюць і пасля гэтага гінуць* (В.Вольскі). Сін. *на глыбіні прыблізна*. Рус. ***на глубине около*** *скольких единиц.*

НА ГЛЫБІНІ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
НА ГЛЫБІНІ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
НА ГЛЫБІНІ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
НА ГЛЫБІНІ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
НА ГЛЫБІНІ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
НА ГЛЫБІНІ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
НА ГЛЫБІНІ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
НА ГЛЫБІНІ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
НА ГЛЫБІНІ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНІ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНІ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНІ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

**НА ГЛЫБІНЮ**-1 *чаго* Род. Характарызатар: рэлят колькаснага прыраўнівання: *Веданне кожным прадстаўніком грамадства свайго паходжання* ***на глыбіню****, прынамсі,* ***некалькіх пакаленняў*** *паступовa становіцца неад'емнай часткай жыцця* (Інт.). Рус. ***на глубину*** *сколько единиц.*

**НА ГЛЫБІНЮ-2** *колькіх адзінак* / **НА** *якую* **ГЛЫБІНЮ** Наз. Дыменсіў-дырэктыў: *Наканечнік вярчальнымі рухамі ўводзяць ў прамую кішку* ***на глыбіню 10 – 12 см*** (Асновы мед. ведаў). *Пры неабходнасці ін'екцыі лекавага рэчыва ў жалудачкі галаўного мозгу іголку ўводзяць* ***на глыбіню 4 – 5 см*** *на сярэдзіне адлегласці паміж заднім краем вялікай патылічнай адтуліны і асцістым адросткам другога шыйнага пазванка, накіроўваючы яе ўверх па ніжнім краі патылічнай косці пад вуглом 45 – 60*$^{o}$ (Асновы мед. ведаў). *Сеюць яго [цыкламен]* ***на глыбіню 0,5 – 1 см*** *у скрыначкі ў сярэдзіне жніўня* («Звязда», 4.01.05). *Апарат Фултана апусціўся* ***на глыбіню сямі з паловай метраў*** («Экспресс НОВОСТИ»).|| Назоўнік з прыназоўнікам: *Дзеля таго, каб навучыцца плаваць, трэба ўсё ж выплыць* ***на глыбіню*** (Інт.). Рус. ***на глубину*** *сколько единиц.*

**НА ГЛЫБІНЮ** *колькі адзінак* **АД** *чаго* Наз.-Род. Прастор.: дырэктыў-дыменсіў адносна локума адлічэння: *...забудова заходняга боку вул. Леніна* ***на глыбіню 25 м ад чырвонай лініі*** (Інт.). Рус. ***на глубину*** *сколько единиц* ***от*** *чего.*

**НА ГЛЫБІНЮ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Прастор.: дырэктыў-прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Пляцоўка дыяметрам каля 7 м абкружана амаль з усіх бакоў ровам, які ніжэй за яе* ***на глыбіню ад 0,5 да 1,2 м*** (Інт.). *На дзень гэта жывёла зарываецца ў глебу* ***на глыбіню ад 2 – 3 да 20 – 30 см****, а ноччу выходзіць на паляванне* (падручн.). Рус. ***на глубину от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

НА ГЛЫБІНЮ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНЮ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНЮ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНЮ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНЮ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНЮ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

**НА ГЛЫБІНЮ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прастор.: дырэктыў: прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Паводле назіранняў, некаторыя ямы выкопваліся рабаўнікамі* ***на глыбіню да 1,8 м*** *і*

*на плошчы да 4 – 5 кв.м* (Інт.). *Мазі ўводзяць у нос з дапамогай ватнага тампона* ***на глыбіню да 1,5 см*** *на 10 – 15 хвілін, пасля чаго тампон выкідваюць* (Асновы мед. ведаў). *У возера Споры вада праглядаецца* ***на глыбіню да 4 метраў****, у Свідна – на 3,5 м, у Світа – 3,2 м* (падручн.). Сін. *на.* Рус. ***на глубину до*** *скольких единиц.*

НА ГЛЫБІНЮ ЗВЫШ *колькіх адзінак*

НА ГЛЫБІНЮ КАЛЯ *колькіх адзінак*

НА ГЛЫБІНЮ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНЮ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНЮ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНЮ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНЮ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНЮ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНЮ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНЮ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

**НА ГЛЫБІНЮ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ** *колькі адзінак* Він. Прастор.: прыблізны дырэктыў-дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Граблямі насенне забараноўваюць у глебу* ***на глыбіню не больш чым 0,3 – 1,5 см*** («Звязда», 30.04.05). Рус. ***на глубину не более чем*** *сколько единиц.*

НА ГЛЫБІНЮ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНЮ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНЮ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНЮ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНЮ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНЮ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНЮ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

НА ГЛЫБІНЮ ПАРАДКУ *колькі адзінак*

**НА ГЛЫБІНЯХ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* **(Мн.л.)** Род.-Род. Прастор.: прыблізны лакатыў-дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Лешч у нас ловіцца* ***на глыбінях ад пяці да дванаццаці метраў*** («Звязда», 29.01.05). Рус. ***на глубинах от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**НА ГЛЫБІНЯХ У** *колькі адзінак* **І БОЛЕЙ / НА ГЛЫБІНЯХ У** *колькі* **І БОЛЕЙ** *адзінак* Він. Прастор.: дакладны дыменсіў-лакатыў + градуатар: *Зусім нядаўна лічылі, што* ***на глыбінях у 2 – 3 і болей кіламетраў*** *няма жыцця* (падручн.). Рус. ***на глубинах в*** *сколько единиц* ***и больше.***

**НА ГАРЫЗОНЦЕ-1** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***На гарызонце лесу*** *готыка* (Інт.). Сін. *на фоне.* Рус. ***на горизонте*** *чего.*

**НА ГАРЫЗОНЦЕ-2** *чаго* Род. Рэлят уключэння: ***На гарызонце ўспаміну** міргнуў Сяржа Валкавыцкі* (Інт.). Аказіян. Сін. *у; сярод*. Рус. ***на горизонте** чего*.

НА ГІБЕЛЬ *каго/каму*

**НА ГРАНІ-1** *чаго* Род. Характарызатар-лакатыў: *Слова больш даўгавечная рэч, чым муры і мячы. Яны гінуць, слова – жыве, нават калі вялікія сталіцы засынаюць **на грані небыцця*** (У.Караткевіч). *Калі ўсе будуць працаваць над гэтым **на грані сваіх магчымасцей** – грамадства здолее ўсё* (У.Караткевіч). ↔ **На грані таго што.** Сін. *на мяжы*. Рус. ***на грани** чего; **на пределе** чего.*

**НА ГРАНІ-2** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *Былі гады змагання **На грані дзвюх эпох*** (Я.Колас: ТСБМ). Сін. *паміж; на рубяжы.* Рус. ***на рубеже** чего.*

**НА ГРАНІ** *чаго* **І** *чаго* Род.-Род. Характарызатар-лакатыў адносна двух локумаў: *О, дзіўная і праз меру небам прыўкрашаная мсціслаўская зямля! ... З трапяткімі і шоўкавымі бярозавымі гаямі – і пахмурным заснежаным яловым лесам (**на грані прыцемку і ночы**), над якім безнадзейна змірылася глухое неба* (У.Караткевіч). Сін. *паміж ... і*. Рус. ***на грани** чего **и** чего.*

**НА ГРАНІЦЕ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў: *Вы з распятага сэрца кроплю вазьміце. Апошнюю. Болей не трэба. І няхай яна збоку, недзе на ганку, дагарае й дзяцей не страшыць **На граніце любові, На граніце світанку, На граніце велічы** вашай* (У.Караткевіч). Аказіян. Рус. ***на граните** чего.*

**НА ГРАНІЦЫ (Він. мн.л.)** *чаго* Род. Ускладн. Дырэктыўфініш: *У межах адбіцця хвалі **на граніцы асяроддзяў** у залежнасці ад краявых умоў можа ўтварацца альбо вузел, альбо пучнасць* (падручн.). Сін. *на межы*. Рус. ***на границы** чего*.

**НА ГРУНТ** *чаго* Род. Дырэктыў-фініш у складзе характарызуючага прэдыката: *Сцёпка стаў **на грунт крытыкі**, каб хоць гэтым насаліць «комплексам»* (Я.Колас). *Стаўшы **на грунт мёртвакультуры**, новасакралізаваўшы яе, беларуская духатворчасць мкне як хутчэй і далей з ейных нежывых абсягаў* (Л.Вашко). Сін. *на аснову*. Рус. ***на фундамент** чего.*

**НА ГРУНЦЕ-1** *чаго* Род. Характарызатар: *Сучасная пісьменніцкая традыцыя ў беларускай стылістыцы і культуры мовы /маўлення развіваецца ў цеснай сувязі з лінгвістыкай і спрыяе выпрацоўцы моўных норм ў межах усіх функцыянальных стыляў, фарміруючы моўную асобу **на грунце беларускай культуры*** (В.М.Ляшук). ***На грунце гістарычнай фанетыкі** можна асэнсаваць мадыфікацыйныя зрухі ў каранёвых марфемах* (І.Р.Шкраба). *І так пацiху ды па-*

*малу Прыдбалі трохі капіталу, каб хоць пачатачак зрабіць I першы камень залажыць* ***На грунце*** *вольнае* ***зямелькі,*** *Адной-адынай збавіцелькі Ад панскай ласкі і апекі* (Якуб Колас). *Пасля вайны пачалося ажыўленне* ***на грунце ўсяго нацыянальнага*** (М.Мікуліч). ↔ **На грунце таго што.** Сін. *на; на базе*. Рус. ***на фундаменте*** *чего.*

**НА ГРУНЦЕ-2** *чаго* Род. Прычын.: аснова: *I колькі смешных і непажаданых выпадкаў вынікала* ***на грунце гэтага непаразумення*** *ў школе, дзе мова мацеры зневажаецца і забіваецца* (Я.Колас). *Сёння,* ***на грунце ўжо вядомага,*** *мы здзіўляемся як Багдановіч трапна адчуў асаблівасці народнай мовы і самы склад народнага мыслення ў гістарычным эпасе* (У.Караткевіч). ↔ **На грунце таго што.** Сін. *на глебе*. Рус. ***на почве*** *чего.*

**НА ГОД** *чаго* / **НА гэты, той ГОД** Род./Він. Час.: таксісны тэмпаратыў: рэлят адначасовасці: ***На год абароны*** *дысертацыі выпалі падзеі з распадам СССР.* ▲*Нязвыклаю была зіма, нязвыклаю перапала* ***на гэты год*** *і вясна* (В.Адамчык). ↔ **На год калі; на той год калі; на той год як.** Сін. *на час; на пару*. Рус. ***на год*** *чего.*

**НА ГОНАР[1]** *каго/чаго* Род. Адрасат: дэстынатыў: *I, пакуль ранак на струнах тралейбусных ліній марш не зайграе* ***на гонар чарговага дня,*** *Буду з табою, каб быць абсалютна шчаслівым* (А.Брусевіч). Сін. *для; у гонар*. Рус. ***в честь*** *чего.*

**НА ГОНАР[2]** *каму* / **НА** *які* **ГОНАР** *каму* / **НА** *чый* **ГОНАР** Дав. Адрасат: бенефіцыянтыў: *Напісаў і гэтую святую кнігу Евангелле, няхай усё гэта будзе* ***на гонар*** *і хвалу* ***Богу ў тройцы адзінаму і найсвяцейшай пані Марыі і ўсім святым*** **(**Лукаш Прасвітар царквы Жухавіцкай. Пер.А.Пяткевіча). *Мастак Георгій Паплаўскі законна і сумленна заваяваў высокую сваю ўзнагароду.* ***На гонар сабе*** *і на радасць Беларусі* (У.Караткевіч). ▲ *I таму няхай ён і надалей – і як мага надалей – працуе* ***на яе гонар*** (У.Караткевіч). Сін. *у імя.* Рус. ***во славу*** *кого/чего.*

**НА ГОРА** *каму* Дав. Адрасат: бенефіцыянтыў-кансеквентыў: *Шавініст,* ***на гора сабе****, быў адукаваны, меў пасаду дырэктара мастацкай акадэміі, жыў у трохпавярховым асабняку ў цэнтры сталіцы* (А.Глобус). Ант. *на радасць*. Сін. *на зло*. Рус. ***на горе*** *кому.*

**НА ГУСТ-1** *каго/чаго* / **НА** *чый* **ГУСТ / НА ГУСТ** Род. Канфірматыў-аўтарызатар: *Як на мой густ,* ***на густ маіх сяброў і знаёмых*** *– перадача зняважлівая, бо ў ёй нішчыцца, калечыцца як беларуская, так і расейская мовы* (Інт.). Сін. *згодна з думкай; на думку; на погляд*. Рус. ***на вкус*** *кого;* ***на взгляд*** *кого.*

**НА ГУСТ-2** *каго/чаго /* **НА** *чый* **ГУСТ** Род. Адрасат: бенефіцыянтыў: «*Гэта найвялікшая недарэчнасць, што моўнае навучанне*

*ў школе аддадзена **на густ бацькоў»,** – лічыць былы калгасны эканаміст* («ЛіМ», 29.04.88). Сін. Дав. без прыназ. Рус. ***на вкус*** *кого*.

**НА ГЭТЫ БОК-1** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***На гэты бок дарогі****, пад Каралінскую пасеку, – сасновы бор* (І.Пташнікаў). *Група негацыянтаў складалася з банкіра Леапольда Краненберга, самай багатай кішэні **па гэты бок Буга**, Якуба Натансона і Рупрэхта* (У.Караткевіч). Ант. *на той бок*. Сін. *па гэты бок; па левы бок; па правы бок.*. Рус. ***на этой стороне*** *чего.*

**НА ГЭТЫ БОК-2** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: ***На гэты бок лесу*** *кіравала вузенькая рачулка.* Ант. *на той бок*. Рус. ***на эту сторону*** *чего.*

***НАД ТСБПШ;*** ТСБМ **–** ***прыназоўнік.***

**НАД[1]-1** *каго/што* Він. Рэлят параўнання ў суперлятыве: *Радзімая старонка **над усё** мне **прыгажэй**, беларуская гаворка **над усё** мне **даражэй*** (А.Мілюць). ТСБПШ – размоўн. і абл. Рус. Род. без предлога: ***дороже*** *всего*.

**НАД[1]-2** *каго/што* Він. Рэлят параўнання ў абсалютыве: *Я не зміруся, Што не пазнаў цябе па стрэле тым удалым, такім цудоўным у мядзведзя, дасканалым! Бо **над цябе** стралка Літва не знала наша* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). // *Няма лепшага багацтва **над здароўе**. Няма ў лесе **над маліну**, а ў дамоўцы **над дзяўчыну***. Рус. союз ***чем****: Нет лучше богатства, **чем** здоровье.*

**НАД[1]-3** *што* Він. ◊ ***Над меру.*** **—** *Маці зямліца, і ўмалотамі хлеба **над мерку** не дасі звычайную!* (Я.Лучына). ТСБПШ – абл. і ўстар.Рус. ***чрез*** *что*.

**НАД[2]-1** *кім/чым* Тв. Прастор.: лакатыў адносна ніжняга локума: *Зоры далёкія, зоры бліскучыя ціха гараць **над зямлёй*** (Я.Колас). Ант. *пад*. Рус. ***над*** *чем.*

**НАД[2]-2** *кім/чым* Тв. Прастор.: лакатыў адносна ніжняга бакавога локума, названага словамі *возера, рака, мора*: *Высока ўзняліся **над Нёманам** сосны.* **—** *Горад **над вольнай Нявой**, горад нашай славы баявой* (з песні). *Я **над Нявой** жыла ў палацы адзінока* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *на беразе*. Рус. ***над*** *чем.*

**НАД[2]-3** *кім/чым* Тв. Лакатыўны эксперыенцэр: *Ноч **над светам** панавала* (Я.Колас). ***Над спахмурнелым Петраградам*** *стаяла восень лістападам* (Я.Купала). Сін. *у*. Рус. ***над*** *чем.*

**НАД[2]-4** *кім/чым* Тв. Аб’ектн.: дэлібератыў адносін, пачуццяў: *Сумна вецер плакаць стане над будынкам мужыкоў* (Я.Колас). *Як прыходзіў Бандарэнка, а з ім Бандарыха, галасілі **над дачушкай**, галасілі ціха* (Я.Купала). Сін. *па*. Рус. ***о*** *ком/чем;* ***по*** *ком/чему.*

**НАД²-5** *кім/чым* Тв. Асоба як аб’ект негатыўных адносін пры прэдыкатах тыпу *здзеквацца, пацвельвацца, смяяцца, кпіць* і інш. *І не верылася, што ў гэты час на зямлі адны людзі здзекуюцца* ***над другімі*** (А.Ставер). *... спадцішка і няўзнак падцвельваўся* ***над старым Літаварам*** *Язапат Змысла* (В.Адамчык). *Ён стаў смяяцца* ***над яе дзіцячымі страхамі*** («Маладосць» 1998, №2). *А за што* ***над маладзейшымі*** *здзеквацца* (Магілёўская праўда, 22.10.92). Распаўсюджаны русізм. Рэкамендуемы варыянт ***з*** *каго*. Рус. ***над*** *кем/чем.*

**НАД²-6** *кім* Тв. Асоба як аб’ект дзеяння ці адносін з боку кіруючай, дамінуючай асобы: *Узяць верх* ***над мужам***. *— Я не хачу, каб лютавалі* ***над народам*** (У.Караткевіч). *Тварыў закон свой і свой суд* ***над*** *абяздоленым* ***народам*** (Я.Купала). Рус. ***над*** *кем.*

**НАД²-7** *кім/чым* Тв. Аб’ект засяроджанага, працяглага дзеяння: *Сядзець увесь дзень* ***над кнігай.*** *Працаваць* ***над праектам.*** *Задумацца* ***над задачкай***. *— Алёшка і Юрка адразу звесілі чубы* ***над чарцяжом*** (С.Грахоўскі: ППШ). Рус. ***над*** *чем*

**НАД²-8** *кім/чым* Тв. Пацыентыў – асоба як аб'ект адносін (=аб кім) пасля дзеяслова *апекавацца*. *І тое, што яна падабрала па дарозе невядомых ёй дзяцей і апякуецца* ***над імі***, *– гэта выяўленне вялікай агульнай свядомасці* (К.Чорны). Рус. *заботиться* ***о*** *ком/чем.*

**НАД²-9** *кім/чым* Тв. Рэлят суперлятыва: *Куды ні паглянь –* ***над красою краса*** (У.Дубоўка). *Канцэрт над канцэртамі* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Песня* ***над песнямі*** *Саламона* (Р.Барадулін). // ***Над цудам цуд, над дзівам дзіва***. *Баравік* ***над грыбамі грыб***. *Хлеб* ***над панамі пан.*** ТСБПШ – размоўн. Рус. *кто/что* ***из*** *кого/чего: чудо* ***из*** *чудес; песня песней.*

**НАД²-10** *кім/чым* Тв. Рэлят дамінавання: *Х а ч у ўзыходзіць* ***над м а г у*** *У хвілю самую бязбожную* (Л.Дранько-Майсюк). Аказіян. Рус. ***над*** *кем/чем.*

*адзін* **НАД** *адным* Інтэрпаз. Ва ўзаемназваротных займенніках: *Тонкія галінкі схіляліся па чарзе* ***адна над адной*** *ад кожнага подыху ветру.* Рус. *друг* ***над*** *другом.*

**НАДА** *кім/чым* Тв. Фанетычны варыянт **НАД** у спалучэнні *нада мною/й. Ляцяць* ***нада мною*** *птушкі. — Яна мае* ***нада мной*** *такую ўладу, што мне прыходзіцца даваць ёй сапраўдны бой, каб захаваць сваю незалежнасць* (А.Глобус.). *Было ўсё неба* ***нада мною***, *А пада мною ўся зямля* (П.Панчанка). ТСБПШ – прыназоўнік. Рус. ***надо*** *кем/чем.*

**НА** *што* **ДА** *каго* / **ДА** *каго* **НА** *што* Він.-Род./ Род.-Він. Двухч. Ускладн. Прастор.: суб'ектны дырэктыў: *Неаднаразова прыязджалі* ***на дачу да Купалы*** *Якуб Колас, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка,*

*Кузьма Чорны, многія ўкраінскія і рускія пісьменнікі, журналісты* (Я.Раманоўская). Рус. ***на** что **к** кому.*

**НА ДАБРО** *каму / каму* **НА ДАБРО / НА ДАБРО** Дав. Фінітыў-бенефіцыянтыў: *...каб спасцігалі ўсе навукі і раслі Табе, Творцу нашаму, на славу, бацькам і настаўнікам нашым на радасць і ўцеху,* ***Касцёлу і Бацькаўшчыне на дабро** і славу* (Інт.). || Назоўнік з прыназоўнікам: *Воля заўсёды настроена **на дабро*** («Наша вера»). Ант. *на зло.* Сін. *на радасць.* Рус. ***на добро** кому.*

**НАД АБСЯГАМ** *чаго* Род. Прастор.: аб'ектны транзітыў: *Апускаюць у магілу цела Караткевіча. Узлятае **над абсягам зямлі** ЯГО слова, быццам уся Беларусь стала Галасавымі* (В.Ждановіч). Сін. *над прасторамі.* Рус. ***над просторами** чего.*

**НА ДАКУКУ** *каму* Дав. Адрасат: бенефіцыянтыў-кансеквентыў: *Другім добрым пластуном аказаўся камандзір падрыўной групы Гнядкоў і трэцім, **на** здзіўленне і **дакуку маладзейшым**, – стары Маеўскі* (І.Шамякін). Сін. *на зайздрасць.* Рус. ***на докуку** кому.*

**НА** *якую адлегласць/колькі адзінак* **ДАЛЕЙ АД** *чаго* / **ДАЛЕЙ АД** *каго/чаго* **НА** *якую адлегласць/колькі адзінак* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-квантытатыў адносна локума адлічэння: *Адмыслоўцы лічаць, што выратаваць святыню можна адзіным спосабам – перанесці яе **на 20 м далей ад берагу*** (Інт.). Рус. ***на** сколько единиц **дальше от** чего.*

НА *якую адлегласць/што* ДАЛЕЙ ЗА *што*

**НА ДАПАМОГУ**[1] *каго/чаго* Род. Сітуант-пасрэднік: Ускладн. *Разлічваць **на дапамогу сям'і**.* Сін. *на.* Рус. ***на помощь** кого/чего.*

**НА ДАПАМОГУ**[2] *каму / каму* **НА ДАПАМОГУ** Дав. Ускладн. Фінітыў-дырэктыў: адрасат-бенефіцыянтыў: *Ён не можа прымусіць устаць тых падарожнікаў, што сядзяць ля мура, альбо дабіцца ад іх таго, каб яны, злітаваўшыся над ім, прыйшлі **яму на дапамогу** нейкім малазначным балбатаннем, – абы бавіць час* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). *Хутка ноч прыйдзе **на дапамогу цішыні** і тады ўвогуле стане добра* (М.Адам). *Вітаўт накіраваў **на дапамогу** знясіленай **харугве** Кракаўскай зямлі тры – сандамірскую, вялюньскую і ўкраінскую харугвы Галіцкай зямлі* (К.Тарасаў). Постпаз. пры ўзаемназваротных займенніках: *Усе разам, усе гатовыя ў кожную хвіліну прыйсці **адно аднаму на дапамогу*** (Л.Дарашэнка). Сін. *на дапамогу да.* Рус. ***на помощь** кому.*

**НА ДАПАМОГУ ДА** *каго/чаго* / **ДА** *каго/чаго* **НА ДАПАМОГУ** Род. Ускладн. Суб'ектны дырэктыў: адрасат-бенефіцыянтыў: ***На дапамогу да яго*** [Ігельстрома] *прабіліся нешматлікія атрады, з якімі*

*пасол трымаўся ўвесь наступны дзень* (А.Бензярук). Сін. *на дапамогу.* Рус. ***на помощь к*** *кому.*

**НА ДАПАМОГУ З БОКУ** *каго/чаго* Род. Ускладн. Канфірматыў: *Як выканаўца гэтай справы* [уніі цэркваў] *Свідрыгайла мог разлічваць* ***на падтрымку рымскага папы****, а як вораг Гарадзельскай уніі –* ***на дапамогу з боку імператара Зыгмунта і Тэўтонскага ордэна*** (К.Тарасаў). Сін. *на дапамогу.* Рус. ***на помощь со стороны*** *кого/чего.*

**НА ДАРОГАХ (Мн.л.)** *чаго* / **НА** *якіх* **ДАРОГАХ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Гомель, у якім у той час жыла сям'я Кавалёвых, аказаўся* ***на крыжавых дарогах рэвалюцыі*** (І.Дуброўскі). Сін. *у цэнтры.* Рус. ***на дорогах*** *чего.*

**НА ДАРОГУ (Адз.л.)** *чаго* Тв. Прастор.: дырэктыў у складзе прэдыката ці характарызатара: *Кастрычніцкая рэвалюцыя вывела краіну* ***на дарогу сацыялізма*** (Праграма КПСС). Сін. *на шлях.* Рус. ***на путь*** *чего.*

**НА ДАРОГУ ДА** *чаго* Тв. Прастор.: двайны дырэктыў: *Балюта сабралася ісці пехатой – звярнула па загонах* ***на дарогу да Лазы*** (І.Пташнікаў). *Знаёма для вуха выстуквалі і вызвоньвалі колы аб каменне, потым гук глух і шорхаў шырокімі, глiністымі каляінамі побач з дарогай і губляўся, чым даўжэй кацілася павозка ў тым напрамку, у якім ехаў таксама бацька апавядальніка, перш чым ён павярнуў* ***на дарогу да става*** ... (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Рус. ***на дорогу к*** *чему.*

**НА ДАРОЗЕ** *чаго* / **НА** *якой* **ДАРОЗЕ** *чаго* / **НА** *якой* **ДАРОЗЕ** Род. Лакатыў: ■ ***На дарозе жыцця шырокай*** *Пачынаецца ўсё з любві* (Інт.). Аказіян. Сін. *на шляху.* Рус. ***на дороге*** *чего.*

**НА ДАРОЗЕ ДА** *каго/чаго* / **НА** *якой* **ДАРОЗЕ ДА** *каго/чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў: ***На дарозе да Пана Бога*** *стаяць знакі: «не крадзі», «не забівай»*... («Газета Слонімская»). *Цяпер, бадай, не заставалася ніякага сумлеву, што ўсе трое –* ***на пэўнай дарозе да смерці*** («Arche»). Сін. *на шляху да; на сцежцы да*. Рус. ***на пути к*** *чему.*

НА ДАРОЗЕ Ў *што*

**НА ДАСЯГНЕННЕ** *чаго* Род. Фінітыў: *Алгарытм, як правіла, накіраваны* ***на дасягненне вызначанай мэты*** (падручн.). Сін. *на*. Рус. ***на достижение*** *чего.*

**НА ДАТУ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *Статус мнагадзетнай сям'і захоўваецца за сем'ямі, уключанымі ў спісы мнагадзетных сем'яў, што маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў і права на атрыманне ўказаных крэдытаў і/ці субсідый, у якіх* ***на дату заклю-***

***чэння*** *крэдытных дагавораў не менш трох дзяцей знаходзяцца ва ўзросце да 23 гадоў* («Звязда»). **- На тую дату калі.** Сін. *на момант; на час; на дзень*. Рус. ***на дату*** *чего.*

**НА ДАЎЖЫНЮ** *чаго* Род. Рэлят прыраўнівання: *У тумане нічога не бачна* ***на даўжыню выцягнутай рукі***. Сін. *на адлегласць*. Рус. ***на длину*** *чего.*

**НА ДАЎЖЫНЮ** *чаго,* **НЕ БОЛЬШ** Род. Двухч. Ускладн. Рэлят прыблізнага прыраўнівання + градуатар: *Калі да яго засталося якіх крокаў сорак, Мусатаў спыніў сваіх людзей, а сам ад'ехаў ад іх да натоўпу* ***на даўжыню корпуса каня****, не больш* (У.Караткевіч). Рус. ***на длину*** *чего,* ***не более****.*

**НА ДЗЕНЬ** *чаго* / **НА** *які* **ДЗЕНЬ** *чаго* / **НА** *які*/**наступны/другі ДЗЕНЬ** Род. Час.: тэмпаратыў: ***На Дзень настаўніка****.* ***На Дзень пагранічніка. На Дзень маці.*** *Надзець абнову* ***на дзень нараджэння****. Прынесці кветкі* ***на Дзень маці****.* ▲ *Як і абяцаў, Глушак-малодшы* ***на другі дзень*** *выправіўся ў сельсавет* (І.Мележ). ↔ **На дзень калі.** Рус. ***на день*** *кого/чего.*

**НА ДЗІВА** *каму / каму* **НА ДЗІВА** Дав. Фінітыў: бенефіцыянтыў-кансеквентыў: *А што было ўнутры –* ***на дзіва ўсім,*** *– нібыта не было яго, маўчала* (А.Разанаў). *І зажылі Язэп з Настуляю* ***на дзіва ўсяму свету*** (Чарот: ТСБМ). Сін. *на здзіўленне; на здзіў.* Рус. ***на удивление*** *кому.*

НА ДЗЯЛЕННІ *колькі адзінак*

**НА ДНЕ-1** *чаго* / **НА** *якім* **ДНЕ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: партытыў локума: *Мы жывём* ***на дне паветранага акіяна*** (падручн.). Рус. ***на дне*** *чего.*

**НА ДНЕ-2** *чаго* Род. Перан. лакатыў стану: *Гэта было адзічанне без прасвятлення: брыдкія, часам крывавыя ўчынкі, прычыну якіх можна было шукаць толькі* ***на дне*** *іх***,** *блізка або занадта далёка адзін ад аднаго пасаджаных* ***вачэй, вачэй*** *вылюдкаў, дэгенератаў* (У.Караткевіч). *Мяне мучыла даўняя застарэлая хандра, якая варушылася ў тыя дні* ***на дне кожнай беларускай душы****: нявера ў каштоўнасць сваёй справы, бяссілле, глухі боль* (У.Караткевіч). *Рэнесанс памёр, як бы мы ні сумавалі па ім ... І таму, як бы ты ні чакаў у гэтым дворыку сваёй Джульеты,* ***на дне сэрца*** *жыве сум* (У.Караткевіч). *І вечна гучыць уначы – здалёк і* ***на дне душы*** *– незабыты звон з прадонняў* (У.Караткевіч). *Будучыя выступленні былі яшчэ далёка. І толькі вера ў іх і просты люд жыла* ***на дне чалавечых душ*** (У.Караткевіч). *А.Звонак паспеў напісаць яркую кнігу «Святлацені» (1992, Дзяржаўная прэмія Беларусі), а таксама апублікаваць усё тое, што, як залацінкі ў прамывачным рэшаце, засталося*

***на дне душы*** *гулагаўскага вязня* (М.Скобла). *Каля глухіх зажураных вазоў, што запыліліся* ***На дне прадоння****, Ад першажаўранкаў да маразоў Бяссонне ходзіць З кайстрою рудою* (Р.Барадулін). *Ігнась, пакорпаўшыся дзесьці* ***на дне памяці****, парашыў, што ў сварцы вінна Люба, а не ён* (Р.Мурашка). Сін. *у глыбіні.* Рус. ***на дне*** *чего.*

**НА ДНО** *чаго /* **НА** *якое* **ДНО** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-партытыў локума: *Карбанатныя горныя пароды утвараюцца пры асяданні карбанатаў* ***на дно мораў і азёраў*** (падручн.). *Яго* [вужаняці] *прашчур, напэўна, бачыў таго цівуна, якога за жорсткасць кінулі* ***на дно рова*** *сяляне* (У.Караткевіч). Сін. *у.* Рус. ***на дно*** *чего.*

НА ДОЗУ *колькі адзінак*

**НА ДОЛЮ[1]-1** *чаго* Род. Партытыў: *Прыкладна 65 працэнтаў пітной вады прыпадае на 11 падземных вадазбораў артэзіянскай вады. Астатнія 35 –* ***на долю Вілейска-Мінскай воднай сістэмы*** («Звязда», 4.01.05). ***На долю астатніх газаў*** *прыпадае адна тысячная аб'ёму атмасферы* (падручн.). ***На долю актыўнага валодання*** *літоўскімі татарамі роднай цюркскай мовай прыпадае прыкладна 200 гадоў* (З.Канапацкая). Сін. *на.* Рус. ***на долю*** *чего.*

**НА ДОЛЮ[1]-2** *каго/чаго* Род. Суб'ектн.: пратаганіст-эксперыенцэр: ***На долю Ніны Антонаўны*** *«выпала» чатыры канцэнтрацыйныя лагеры* («Звязда», 1.02.06). *Асаблівы поспех у час канцэрта выпаў* ***на долю любімай песні*** *Ч.Немэна «Гэты дзівосны свет», у якой гучыць заклік да людзей знішчыць у сабе нянавісць* («Звязда», 1.02.05). *На жаль,* ***на долю гэтых каштоўнасцяў*** *выпаў цяжкі лёс* (В.Шаблюк). ***На долю гістарычнага помніка*** *выпала нямала выпрабаванняў* (С.Саўко). ▶ *Выпасці – давесціся, здарыцца, дастацца* ***на долю*** (ТСБМ). ↔ **На долю таго/той / тых, хто.** Сін. *на;* Дав. без прыназоўніка. Рус. ***на долю*** *кого/чего*.

**НА ДОЛЮ[1]-3** *чаго/якога часу* Род. Час.: дыменсіў-патэнсіў: ? ***На долю секунды.*** **━** *Але тады здзеялася, што Караль папрасіў шклянку, і Геня падала яму яе – і, можа, гэты момант, у які шклянка пераходзіла з рук у рукі, быў крыху, крышачку толькі, падоўжаны, магло падацца, што яна спазнілася* ***на долю секунды*** *адарваць сваю руку* (В.Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). Рус. ***на долю*** *чего.*

**НА ДОЛЮ[2]** *каму/чаму* Дав. Суб'ектн.: пратаганіст-эксперыенцэр: *Час быў змрочны, выпрабаванні, што выпалі* ***на долю народам****, выклікалі да дзейнасці людзей вялікай духоўнай моцы* (К.Тарасаў). Рус. ***на долю*** *кому/чему.*

**НА ДОНЕЙКУ** *чаго* Род. Перан. лакатыў: *Што там,* ***на донейку душы****?* (А.Зэкаў). Памянш. – ласк. да **на дне**. Рус. ***на донышке*** *чего.*

**НА ДОННІ** *чаго* Род. Перан. лакатыў: *І ці не станецца па часе, тады, калі беларус «зраўняецца» ў сваім прамаўленні з сусветным цямам пра рэчы і навакольнасць, што гэты ўвесь паўсюдны, агульнацямлівы абшар – усяго чарговы камень пад нагою, усяго чарговая строма* ***на донні творчага Духу?*** (Л.Вашко). Сін. *на дне*. Рус. ***на дне*** *чего.*

**НА ДОСВІТКУ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *А калі сур'ёзна, дык вялікае бачыцца на адлегласці, як сказаў рэфарматар-паэт яшчэ* ***на досвітку дваццатага стагоддзя*** (Я.Міклашэўскі). Аказіян. Сін. *на пачатку*. Рус. ***на заре*** *чего.*

**НАД ПАВЕРХНЯЙ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Няцяжка заўважыць, што чым большая скорасць цела і вышыня яго* ***над паверхняй Зямлі****, тым далей яно ўпадзе* (падручн.). Фіз. клішэ. Сін. *над*. Рус. ***над поверхностью*** *чего.*

**НАД ПАДРЫХТОЎКАЙ** *чаго* Род. Ускладн. Аб'ектн.: аб'ектыў: ***Над падрыхтоўкай выдання*** *працавала каля 100 трэнераў, спартсменаў, прадстаўнікоў Міністэрства спорту і турызма РБ, Нацыянальнага алімпійскага камітэта, Беларускага дзяржаўнага універсітэта фізічнай культуры* («Чырвоная змена», 15.04.05). Параўн.: *Выданне рыхтавалі...* Рус. ***над подготовкой*** *чего.*

**НА ДРУГІ БОК** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Камбайны перайшлі* ***на другі бок*** *поля.* **—** *Сціскаючыся ад страху і чуючы, як млеюць, дрыжаць ад яго ногі, перайшла* ***на другі бок рэчкі*** (В.Адамчык). Ант. *на гэты бок*. Сін. *на той бок*. Рус. ***на другую сторону*** *чего.*

**НА ДРУГІ КАНЕЦ** чаго **Род. Прастор.: дырэктыў-фініш:** *Пляц звалі выган, але пасвілі тут рэдка, ганялі ўсю жывёлу* ***на другі канец сяла*** (І.Мележ). **Ант.** *на адзін канец; на гэты канец.* **Сін.** *за.* **Рус. на другой край** *чего*.

**НА ДРУГОЙ ПАЛОВЕ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***На другой палове вагона*** *месціцца дзцячы тапчан, тут жа спіць Міколаў старэйшы брат* (М.Лынькоў). Ант. *на гэтай палове.* Сін. *на той палове.* Рус. ***на другой половине*** *чего.*

**НАД паўднёвай/паўночнай/заходняй/усходняй ...СТАРАНОЙ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў + накірунак: *Вясной* ***над паўднёва-заходняй стараной гарызонту*** *ў сузор'і Вялікага Пса можна ўбачыць зорку Сірыус белага колеру, самую яркую зорку на небе* (падручн.). Астран. клішэ. Рус. ***над южной ... стороной*** *чего.*

НАДТА БЛІЗКА АД *каго/чаго*

**НАДТА БЛІЗКА ДА** *каго/чаго* Прастор.: лакатыў + скаляр: *Не сядзіце* ***надта блізка да экрана*** *тэлевізара* («Здароўе»). Сін. *вельмі блізка да; надта блізка ля.* Рус. ***очень близко к*** *чему.*

**НА ДУМКУ** *каго* / **НА** *якую* **ДУМКУ** *каго* / **НА** *чыю* **ДУМКУ** Род. Аўтарызатар: *У пошуках новай парадыгмы літаратуразнаўчага аналізу, які**, на думку аўтара**, павінен праходзіць у агульным культуралагічным полі, асаблівае значэнне набывае паняцце мастацкай традыцыі* (Т.І.Шамякіна). ***На думку спецыялістаў*** *Канстытуцыйнага суда, умовы аднясення сем'яў да ліку мнагадзетных накіраваны на паляпшэнне прававога становішча гэтых сем'яў* («Звязда»). ***На думку кіраўніка*** *дзяржавы, нават невялікія сельскія балтніцы павінны быць аснашчаны па апошняму слову тэхнікі* («Звязда», 31.03.05). ***На думку расіян,*** *у Беларусь можна выгадна ўкладваць грошы* («Звязда», 28.04.05). ***На думку многіх удзельнікаў*** *свята, Лідскі замак – найбольш удалае месца для правядзення падобных мерапрыемстваў* (В.Сманцар). Сін. *на погляд; па меркаванні/ю*. Рус. ***по мнению*** *кого.*

**НАД УСКРАЙКАМ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***Над ускрайкам лесу****, дзе пачыналіся жоўтыя пяскі, зазвінела песня ляснога жаваранка* (Я.Колас). Сін. *над краем*. Рус. ***над окраиной*** *чего.*

**НАД ЧАС** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *Усё жыццё буду катаваць сябе за свой тон* ***над час той размовы*** (У.Караткевіч). ↔ **Над час калі; над той час калі.** Сін. *у час; пад час*. Рус. ***во время*** *чего.*

**НА ДЫСТАНЦЫІ (Адз.л.)** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *На гэты раз самая юная беларуска ў складзе нацыянальнай зборнай 15-гадовая гамяльчанка Марыя Рудзько заваявала «золата» ў плаванні* ***на дыстанцыі 200 метраў на спіне*** («Звязда», 13.01.05). ***На дыстанцыі 50 метраў*** *на спіне Аляксандра паказала трэці вынік* (Інт.). Рус. ***на дистанции*** *сколько единиц.*

**НА ДЫСТАНЦЫЯХ (Мн.л.)** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: ■ *Ён перамагаў* ***на дыстанцыях 400 і 200 м****, якія лічацца ў плаванні асабліва цяжкімі* (газ.). Рус. ***на дистанциях*** *сколько единиц.*

**НА ЖАХ** *каму / каму* **НА ЖАХ / НА** *які* **ЖАХ** *каму* / **НА** *які* **ЖАХ** Дав. Адрасат: бенефіцыянтыў-кансеквентыў: *І вось уся маса ў ночвах заварушылася, захадзіла, і знутры яе пачалі выварочвацца, падымацца наверх, паўзці ... вантробы, з белай, чырвонаю, сіняю афарбоўкай – мне на здзіўленне і* ***мне на жах*** (А.Разанаў). Сін. *на страх*. Рус. ***к ужасу*** *кого.*

**НА** *кім/чым* **З** *каго/чаго* Месн.-Род.мн.л. Двухч. Аб'ектн.: элементыў + камплексіў: ***На адной з дзяўчын*** *было моднае паліто.* ▬ *Два страшныя твары Схіляюцца,* ***на кожным з іх*** *вусоў па пары, Сапуць над ім і к вуснам бліжацца вусамі, Рукамі ўзмахваюць, ківаюць карпусамі* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Рус. ***на*** *ком/чем* ***из*** *кого/чего мн.ч.*

**НА ЗАВЯРШЭННЕ** *чаго* / **НА ЗАВЯРШЭННЕ** Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Івану таксама спадабалася, што прыйшоў сын, няхай сабе і **на завяршэнне рамонту**, калі пачалі распыляльнікам фарбаваць крыло* (І.Шамякін). ↔ **На завяршэнне таго што.** Сін. *пад канец*. Рус. ***на завершение*** *чего*.

**НА ЗАГАД** *каго* Род. Сітуант: каўзатар-канфірматыў: *Невядомыя ў камуфляжы сказалі, што дзейнічаюць **на загад Кадырава*** («Наша Ніва», 4.02.05). *У 1947 г. Геніюшы атрымалі чэшскае грамадзянства, а ўжо праз год, **на загад савецкіх уладаў**, незаконна былі яго пазбаўленыя, арыштаваныя і пад канвоем вывезеныя ў СССР* (М.Скобла). *Каб узаконіць падзел, **на загад імператрыцы** ў Горадні склікалі сойм, які ўвайшоў у гісторыю пад назовам «нямога»* (У.Арлоў, Г.Сагановіч). Сін. *па загаду*. Рус. ***по приказу*** *кого*.

*колькі адзінак часу/што* **НАЗАД**[1] Постпаз. Він. Час.: тэмпаратыў: *Ліха страслося **яшчэ тыдзень назад**, калі рахманы, паслушны Корсакаў конь раптоўна занараві ўся* (В.Адамчык). ***Хвілін колькі назад** было жаданне забрацца глыбей у пушчу, недзе на першабытнай палянцы паміж векавых сосен раскласці маленькае цяпельца і да вечара сядзець, каб надоўга задаволіць прагу адзіноцтва* (І.Шамякін). ***Гадзіну назад** на КП камандзіра стралковага батальёна яны дамовіліся, што батальён будзе маўчаць* (В.Быкаў). *Калі Чубар **гадзіну назад** выйшаў на ўзлесак, тут і вачам яго адкрыўся гэты, пакошаны яшчэ ў чэрвені, сухадол* (І.Чыгрынаў). *Усё сыходзілася, усё было, акрамя ... акрамя таго, што я не меў і ніколі не мог мець – прадмета, на які стужка навівалася **тры з паловай сотні год назад*** (У.Караткевіч). *Сымон паспрабаваў уявіць сабе той лес, што рос тут **многа гадоў назад*** (А.Чарнышэвіч). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; ТСБМ – прыназ. Сін. *таму назад; таму*. Рус. *сколько единиц времени/что **назад***. *чым* **НАЗАД**[2] / **НАЗАД** *чым* Тв. Характарызатар: *Імполь, здаецца, падаваў выгляд, што слухае Ваўчка, а ў самога перад вачыма ўсё стаяла яна, Хрысця, яе завязаная **ражкамі назад** на патыліцы хустка, паркалёвая, у выцвілыя кветачкі і трохі гаматная, вялікаватая ёй сукенка* (В.Адамчык). ***Плячыма назад** Літавар чмякнуўся на зялёныя стужкі нізенькіх картопель* (В.Адамчык). Ант. *...наперад*. Рус. *чем **назад***.

**НАЗАД АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: суб'ектны дырэктыў-старт: *Упершыню гэта здарылася, калі Тэкля, вяртаючыся **назад ад сястры**, трапіла пад эсэсаўскую аблаву – хапалі людзей для вывазу на катаргу, пад парай стаяў недакамплектаваны эшалон на Вену* (А.Дынько). Ант. *уперад да*. Сін. *ад*. Рус. ***назад от*** *чего*.

**НА ЗАДВОРКАХ** *чаго* Род. Лакатыў-характарызатар: ◊ ***На задворках чаго*** – на заднім плане, убаку (ТСБМ). *Быць **на задворках навукі**. Апынуцца **на задворках гісторыі**. ▬ В.Мыслiўскi заглыбляецца ва ўнутраны свет героя і імкнецца раскрыць тое, што схавана ў нетрах яго душы за доўгі перыяд існавання **на задворках грамадскага жыцця*** (навук.). *Беларусь ідзе ў нагу з часам. Калі не займацца такімі тэхналогіямі, мы апынемся **на задворках цывілізацыі*** (Інт.). Рус. ***на задворках** чего.*

**НА ЗАДВОРКІ** *чаго* Род. Дырэктыў-фініш-характарызатар: *Выкінуць на задворкі цывілізацыі. Папасці на задворкі навукі.* ▬*Беларуская мова выкідаецца **на задворкі грамадскага жыцця**...* (Інт.). Аказіян. Рус. ***на задворки** чего.*

**НАЗАД ДА** *каго/чаго* / **ДА** *каго/чаго* **НАЗАД** Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: «*Спявае!» – сказала й вярнулася **назад да рускай печкі**, паўтарыўшы сама сабе ў сенцах, прыпыніўшыся, задраўшы галаву, не без разгубленасці: – «Спявае!»* (А.Дынько). *Яна зноў нахіляецца наперад і, не адрываючы позірку ад люстэрка, кіруецца **назад да крэсла**, бярэ яшчэ адно люстэрка* («Arche»). *А калі вярнуўся **да партызан назад**, то сказаў...* (І.Чыгрынаў). Ант. *уперад да.* Рус. ***назад к** чему.*

**НАЗАД ДА СТАНУ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Спыніўшыся на імгненне, ён пад дзеяннем пругкай сілы, што дасягае максімальнага значэння, пачне рухацца **назад да стану раўнавагі О** і г.д.* (падручн.). Матэм. клішэ. Рус. ***назад в состояние** чего.*

**НАЗАД З** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-старт: *Буткевіч пісаў у справаздачы, што Кастравіцкага адклікалі **назад з Варшавы,** але гэта не адпавядала сапраўднасці* (Ю.Туронак. Пер. В.Кавалёвай). Ант. *уперад да; уперад на.* Рус. ***назад с** чего; **назад из** чего.*

**НАЗАД ЗА** *каго/што* / **ЗА** *каго/што* **НАЗАД** Він. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Пайшоў **назад за чыгунку*** (ППШ). *– Павінны ж і мы, бабы, памагаць сваім, каб германца вытурыць **назад за граніцу*** (І.Чыгрынаў). *Пабіць з Напалеонам маскалёў не штука, Бо ён і немцам ажно тройчы лазню справіў, Стаптаў і прусакоў, і Англію адправіў **Назад за мора*** (А.Міцкевіч. Пер.П.Бітэля). Ант. *уперад*. Рус. ***назад за** что.*

**НАЗАД К** *каму/чаму* / **К** *каму/чаму* **НАЗАД** Дав. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Паволі, як бы раздумваючы, ці варта плысці, папоўз паром **назад к берагу*** (К.Чорны). Ант. *уперад да; назад ад*. Рус. ***назад к** чему.*

**НАЗАД НА** *што* Він. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Януку, калі ён, апёршыся галавой на рукі, глядзеў з калёс **назад на дарогу**, дзе*

*ішлі немцы, здавалася, што ён дома – у Дальве ля школы* (І.Пташнікаў). Рус. ***назад на*** *что.*

**НАЗАД НА СЯРЭДЗІНУ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ▶*Святар, у гэтым можна было не сумнявацца, пайшоў направа да далматы і адкрыў раздзел надзённы; маючы намер нешта сказаць, ён пайшоў* ***назад на сярэдзіну*** [храма] (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Рус. ***назад на середину*** *чего.*

**НАЗАД ПА** *чым* Тв. Прастор.: транзітыў: *Яны пайшлі далей і* ***назад па дарозе****, пакуль не дайшлі да скрыжавання...* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Рус. ***назад по*** *чему.*

НАЗАД ПРАЗ *што*

**НАЗАД У-1** *што* Він. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Занясі вядро* ***назад у хату*** (ТСБМ). *Калі Вольф з ёй выбраўся нарэшце з падзямелля на двор, яна зашпіліла плашч, ні за што не хацела ісці* ***назад у рэстаран*** (І.Мележ). *Падчас 1-ай сусветнай вайны яны (каштоўнасці) былі вывезены ў Маскву, адкуль* ***назад у Рось*** *вярнулася толькі нязначная частка калекцыі* (В.Шаблюк). *Калі ад'езд на новыя землі сярод тутэйшых людзей стаў масавы, быў дадзены загад лавіць перасяленцаў і заворчваць* ***назад у вёскі*** (І.Чыгрынаў). ППШ – прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Ант. *наперад з*. Сін. *у*. Рус. ***назад в*** *что.*

**НАЗАД У-2** *што* Адушаўл. Він. Прэдыкат: кваліфікатыў-дырэктыў: *Папера загорнутая ў старую газету з рэцэнзіяй на «Споведзь» Юрыя Нагібіна: «Я хачу* ***назад у жыды****, там святлей і чалавечней»* (А.Пінхасік). Ант. *наперад з.* Сін. *у*. Рус. ***назад в*** *что/кого.*

НАЗАД У ЦЭНТР *чаго*

**НАЗАД ЦЕРАЗ** *што* Він. Прастор.: дырэктыў-фініш+транзітыў: *Ягоны брат бег па снезе праз поле і пераскочыў* ***назад цераз драцяную агароджу*** («Arche»). Рус. ***назад через*** *что.*

**НА ЗАЙЗДРАСЦЬ** *каму* Дав. Фінітыў: бенефіцыянтыў-кансеквентыў: ◊ ***На зайздрасць*** – так (такі і пад.), што можна пазайздросціць (ТСБМ). *Жыць* ***на зайздрасць усяму свету****.* ▬ *Сам Валодзя трохі сумеўся, затое ліхтарык атрымаў –* ***на зайздрасць свакім стрыечным братам*** (Н.Кучкоўская). Рус. ***на зависть*** *кому.*

**НА ЗАКАНЧЭННЕ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: ***На заканчэнне сустрэчы*** *начальнік адддзела выхаваўчай работы універсітэта Таццяна Кажанец падзякавала гасцям за наведванне ВНУ і выказала спадзяванне, што літаратары і ў далейшым ахвотна будуць завітваць сюды* (Ю.Базыленка). Сін. *у канцы; пры канцы; на завяршэнне*. Рус***. в завершение*** *чего.*

**НА ЗАМЕНУ З** *кім* Тв. Характарызатар: рэлят ўзаемазамены: *Цяпер бацька сядзеў пануры, скрыва пазіраючы на Імполя, што* ***на***

***замену з*** *мужчынамі цягаў цяжкую жалезную «бабу»* (В.Адамчык). *Невядома, што будзе далей з арэнды, бо скарб хоча пусціць гэтую зямлю* ***на замену з сялянамі*** *на канцы вясковых шнуроў* (Я.Колас). Рус. ***наперемену с*** *кем/чем.*

**НА ЗАМОВУ** *каго* Род. Сітуант: каўзатар-канфірматыў: «*Нарыс гісторыі Польскай Дзяржавы і Народа», выдадзены нядаўна* ***на замову Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Польшча, Амбасады Польшчы ў Беларусі і Польскага інстытута ў Мінску*** («Наша слова», 17.05.06). Сін. *па ініцыятыве.* Рус. ***по инициативе*** *кого.*

**НА ЗАПРАШЭННЕ** *каго* Род. Сітуант: каўзатар-канфірматыў: *Той ваенны, каторы* ***на запрашэнне мамы*** *зайшоў з вуліцы ...* (А.Лойка). Сін. *па запрашэнні/ю.* Рус. ***по приглашению*** *кого*.

**НА ЗАРАНКУ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *Гэта пачалося* ***на заранку нашага стагоддзя****, з першых яго* [Купалы] *надрукаваных радкоў* (У.Караткевіч). *Вытворчая брыгада, якая нарадзілася яшчэ* ***на заранку калгаснага будаўніцтва****, і да гэтага часу застаецца асноўным звяном гаспадарання* (П.М.Машэраў). Ант. *на зыходзе.* Сін. *на досвітку; на зары; у пачатку.* Рус. ***на заре*** *чего.*

**НА ЗАРЫ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: ***На зары цывілізацыі****. —Венецыя* ***на зары свайго існавання****, калі першыя беглыя рыбакі высадзіліся на востраў Маламока, была, відаць, менавіта гэткай: дымка над вадой, зелень платоў і дрэў, чаўны з задзёртымі насамі* (У.Караткевіч). *Яшчэ і сёння ўзнікаюць дэбаты наконт таго, у якую традыцыю запусціла карэнні нацыянальная культура таго ці іншага еўрапейскага народа* ***на зары яго ўзнікнення*** (У.Калеснік). *У ходзе распрацоўкі трох тэм, якія ўзніклі яшчэ* ***на зары творчасці****, Танк намаляваў у агульных абрысах вобраз новага станоўчага героя* (У.Калеснік). *Пабудаваны Давідам, князем Тураўскім,* ***на зары хрысціянства,*** *у паходах на крыжакаў, гарадок славіўся невымернай смеласцю і ўмельствам воінаў* (У.Караткевіч). [Цётка, Купала і Колас] *... мяркуючы па ўсім, някепска ведалі сваю справу і зусім нядрэнна правялі яе ў жыцці. Яшчэ* ***на зары нашага стагоддзя*** (У.Караткевіч). *Багдановіч жыў* ***на зары Адраджэння****, і ён параўнаўча мала ведаў. Але ён прадбачыў ...* (У.Караткевіч). *Я цяпер без багацця багаты* ***на зары квітнеючых дзён*** (Дудар: ТСБМ). Сін. *на пачатку*. Ант. *на схіле*. Рус. ***на заре*** *чего.*

**НА ЗАХАД АД** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *13 ліпеня войскі 50-й арміі выйшлі да ракі Пыранкі* ***на захад ад Скідаля*** *і да Нёмана на тэрыторыі Лунна-Каўшова* (У.А.Нядзелька). *Жыдава лука – урочышча, выган і сенажаць каля ракі Свіслач* ***на захад ад вёскі Занявічы*** *ў Індурскім сельсавеце, належала сялянам вёскі Кунцаўшчына*

(А.Цыхун). ***На захад ад лініі*** *перамены даты чысло месяца (дата) заўсёды большае на адзінку, чым на ўсход ад яе* (падручн.). Ант. *на ўсход ад*. Рус. ***западнее*** *чего.*

*колькі адзінак* **НА ЗАХАД АД** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў-квантытатыў: *Але ж месцазнаходжанне Беларусі яшчэ больш сакральнае – у цэнтры Еўропы (кропка цэнтру кантынента, паводле навейшых доследаў, знаходзіцца* ***50 км на захад ад Полацка****, паміж Усходам і Захадам, Поўначчу і Поўднем, ды і сама назва краіны сведчыць пра гэта* (Т.І.Шамякіна). Рус. *сколько единиц* ***западнее*** *чего.*

**НА ЗАХАД ДА** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *... яму не ўдалося ўзяць Берлін і ён павярнуў* ***на захад да Эльбы*** (Інт.). Рус. ***на запад к*** *чему.*

**НА ЗАХАДЗЕ-1** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў прамы: *На другі дзень* ***на захадзе сонца*** *запрог дзядзька Марцін чорнага коніка, каб завезці пляменніка на станцыю* (Я.Колас). Тэмпаратыў перан.: ▶*На ўсходзе* ***<u>дня</u>*** *майго заранка дагарае, Каб позна вечарам* ***на захадзе*** *ўзысці* (А.Куляшоў).

**НА ЗАХАДЗЕ-2** *чаго* / **НА паўночным/паўднёвым/крайнім ЗАХАДЗЕ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў + напрамак: *Прыпяць бярэ свой пачатак* ***на крайнім захадзе Украінскага Палесся****, у Валынскай вобласці* («Родны край», 2009). Сін. *на зыходзе*. Рус. ***на исходе*** *чего.*

**НА ЗАХАДЗЕ АД** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Платон меркаваў, што Атлантыда знаходзілася* ***на захадзе ад Грэцыі*** (падручн.). *Тут,* ***на захадзе ад былога Скуратовічавага хутара****, і гонту рабілі, і цэглу* (К.Чорны). Сін. *на ўсходзе ад.* Рус. ***западнее*** *чего.*

**НА** *колькі адзінак* **ЗВЫШ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Квантытатыў: рэлят прыраўнівання: *Дарэчы, тавараў для народа выпушчана ў мінулым годзе* ***на 90 мільёнаў рублёў звыш плана*** (газ.). Рус. ***на*** *сколько единиц* ***сверх*** *чего*.

**НА ЗБЕГ** *чаго* Род. Сітуатыў-каўзатыў у складзе прэдыката: *Не ў вашых сілах паўплываць* ***на збег акалічнасцяў*** («Звязда». 29.01.05). Рус. ***на волю*** *чего;* ***на стечение*** *чего.*

**НА ЗВАННЕ** *каго* / **НА** *якое* **ЗВАННЕ** *каго* Род. Характарызатар-рубрыкатыў: *У суседняй з Венецыяй Падуі быў заключаны шлюб па каталіцкіх канонах, пасля чаго маладзён, дзякуючы жончыным брыльянтам, без праблем здаў у мясцовым універсітэце экзамены* ***на званне доктара медыцыны і тэалогіі****, а таксама атрымаў спецыяльны дыплом у галіне герменэўтыкі* (Jan Kakupala). *Днямі ў Мінску прайшоў фінал рэспубліканскага конкурсу* ***на званне «Лепшы галоўны бухгалтар*** *2004 года»* («Звязда», 11.03. 05). *Уменне слухаць і разу-*

*мець свой народ – вось задача, калі хочаце, патэнт* ***на званне інтэлігента*** (В.Акулаў). Сін. *на* (размоўн.). Рус. ***на звание*** *кого.*

НА ЗВАРОТНЫМ БАКУ *чаго*

**НА ЗДЗІЎ** *каму* / **НА** *чый* **ЗДЗІЎ** Дав. Фінітыў: бенефіцыянтыў-кансеквентыў: *Здаў экзамены* ***на здзіў усім***. ▬ ***На здзіў доктару Фаўсту****, не запатрабаваў адшкадавання і скупаваты Голем* (А.Лойка). ▲ *Бо якраз з польска-рускага і руска-польскага дзвюкультур'я... вынікае,* ***на ўсіхні здзіў*** *і неспакой, трэцяя сіла, якая ж адразу прамаўляе па-свойму* (Л.Вашко). Сін. *на здзіўленне.* Рус. ***на удивление*** *кому*.

**НА ЗДЗІЎЛЕННЕ** *каму* / *каму* **НА ЗДЗІЎЛЕННЕ** Дав. Фінітыў: бенефіцыянтыў-кансеквентыў: *І вось уся маса ў ночвах заварушылася, захадзіла, і знутры яе пачалі выварочвацца, падымацца наверх, паўзці ... вантробы, з белай, чырвонаю, сіняю афарбоўкай –* ***мне на здзіўленне*** *і мне на жах* (А.Разанаў). *Другім добрым пластуном аказаўся камандзір падрыўной групы Гнядкоў і трэцім,* ***на здзіўленне*** *і дакуку* ***маладзейшым****, – стары Маеўскі* (І.Шамякін). ***Усёй вёсцы на здзіўленне*** */ Яна дзень той прыгадала, / І байца на свет з'яўленне / Пры нагодзе падказала* (П.Прыходзька). Сін. *на здзіў; на дзіва.* Рус. ***на удивление*** *кому.*

**НА ЗГОН** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *Пах лесу ў Мсціжы пачынала прыносіць усягды* ***на згон зімы,*** *калі ў доўгія, па тыдні, адлігі адтавалі сосны і чарсцвелі, высыхаючы на калючым, суровым ветры* (І.Пташнікаў). *Вясной,* ***на згон зімы****, Вілія разлівалася, выходзячы з берагоў, і затапляла ўвесь лог да заставы* (І.Пташнікаў). *І рэшта дзён маіх цячэ, Як адшумелы дождж па шуле. Па шуле, Па глухой спіне варотаў – Сонных ветрагонаў, Адкуль ліне ці сыпане Апошні дождж* ***на згон загонаў*** (Р.Барадулін). *Адчуй* ***на згон свайго веку*** *хоць, Што ты ў гэтым свеце выпадковы госць, І адпаведна сябе паводзь* (Р.Барадулін). Ант. *на пачатак*. Сін. *пад канец; на згоне*. Рус. ***на исходе*** *чего.*

**НА ЗГОНЕ** *чаго* / **НА** самым **ЗГОНЕ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *Перакананы, гэтую невялічкую нанізку* [кнігу М.Танка «Мой каўчэг»] *з даўкім камяком у горле і смугою на вачах прачытае і перачытае кожны з нас. Яна абзавецца ў душах сучаснікаў* ***на згоне стагоддзя*** *глыбокай павагай і любоўю да паэта, чуласцю і спагадай, гонарам за радзіму, якая нараджае такіх сыноў* (М.Мікуліч). ***На згоне зімы*** *летась вось так аб'язджаў жарабка, скінуўся, ледзь выдыхаў* (У.Ляўданскі). Сін. *у канцы, на згон.* Рус. ***на исходе*** *чего.*

**НА ЗЕМЛІ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Значэнне перамогі пад Грунвальдам ільга акрэсліць так: пасля яе на працягу*

*пяці стагоддзяў, да 1914 года,* ***на землі Беларусі і Літвы*** *не ступаў узброены немец* (К.Тарасаў). Аказіян. Сін. *на тэрыторыю*. Рус. ***на земли*** *чего.*

НА ЗЕМЛЯХ *чаго*

**НАЗІРКАМ ЗА** *кім/чым* Тв. Дырэктыў-характарызатар: *А* ***назіркам за такой пагардай*** *да смерці і жыцця ішлі ўсе іншыя магчымыя дэвальвацыі, цэлыя акіяны дэвальвацыі* («Arche»). Сін. *услед за*. Рус**.** ***следом за*** *чем;* ***глядя на*** *что.*

**НА ЗЛАМАНЁ** *чаго* Род. Фінітыў: ◊ ***На зламанё галавы. —*** *Куды лезеш (прэшся)* ***на зламанё галавы*** (нар.). Сін. *на злом*. Рус. ***сломя*** *голову*.

**НАЗЛО** *каму/чаму* Дав. Адрасат: бенефіцыянтыў-кансеквентыў: *Край цвіце на нашу радасць – злому* ***ворагу назло*** (А.Звонак, М.Хведаровіч: ППШ*). «Сораса» вершы растуць* ***дзяржвыдавецтвам назло*** («Arche»). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Ант. *на карысць; на радасць*. Сін. *на зло; на гора*. Рус. ***назло*** *кому/чему.*

**НА ЗЛО** *каму/чаму* Дав. Адрасат: бенефіцыянтыў-кансеквентыў: *Тут стане горад з бегам дзён* ***на зло пышліваму суседу*** (А.С.-Пушкін. Пер. Я.Купала). *А поруч з гэтым мімаходам Жыццё мінулае крануць I ў цёмны кут яго зірнуць, Дзе пад халодным яго лёдам* ***На зло*** *ліхім яго* ***прыгодам*** *Крыніцы свежыя цякуць* (Я.Колас). ▶*Анісся* ***на зло*** **[**<u>брату</u>**],** *пайшла за Сяргея* (М.Лынькоў). ◊ ***На зло (злосць)*** *каму* – так, каб даняць, раззлаваць каго-н, зрабіць непрыемнасць каму-н. (ТСБМ). ***На злобу дня*** – на актуальную, надзённую тэму (ТСБМ). Сін. *на злосць; на ліха*. Ант. *на шчасце; на дабро*. Рус. ***на зло*** *кому/чему.*

**НА ЗЛОМ** *чаго* Род. Характарызатар: ◊ ***На злом*** *галавы*. — *А тут скора зацвітуць ландышы ... Проста для таго каб не паменела ў сэрцы шчырасці, каб чалавек не ляцеў, як* ***на злом галавы****, а часам сеў і падумаў* (У.Караткевіч). *Ашалелы малады жарабец, які, закінуўшы галаву, ляціць* ***на злом шыі*** *ўздоўж ставоў, сп'янелы ад адчування сваёй прыгажосці і бязмежнасці маладой сваёй сілы* (У.Караткевіч). *Я ні ў якім разе не заклікаю нашу інтэлігенцыю* ***на злом галавы*** *кідацца ў палітыку* (В.Акулаў). *Ісці па сцежках Гётэ – як* ***на злом галавы*** (У.Караткевіч). *З гары па асфальту ляцелі****, як на злом галавы****, і ўспаміналася нешта далёкае ...* (І.Пташнікаў). Сін. *на скрут*. Рус. ***сломя*** *голову*.

**НА ЗЛОМЕ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: ***На зломе вякоў*** *трывожаць сэрца вечна калючыя пытанні: што было, што будзе, хто продкі, хто нашчадкі, як жылі, як жыцьмем? Шукаю адказы ў прозе жыцця* (У.Ліпскі). ***На зломе часу*** (Назва кнігі М.Мікуліча). ■ ***На***

***зломе дзвюх эпох злавесным**, У неспрыяльным ветры злым Сваё жыццё прайшоў я чэсна* (У.Жылка). Сін. *на мяжы; на рубяжы*. Рус. ***на рубеже** чего.*

**НА ЗЛОМЕ** *чаго* **І** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: тэмпаратыў: *Было тое **на зломе вясны і лета** 1993 года* (М.Мікуліч). Сін. *на пераломе*. Рус. ***на границе** чего **и** чего.*

**НА ЗЛОСЦЬ** *каму* Дав. Адрасат: бенефіцыянтыў-кансеквентыў: *Падыхаўшы зранку, вецер сціх зусім; і здавалася, што ён сціх не дзеля таго, што так трэба, а сумыслу**, на злосць усім тым сілам,** якім таксама належала не даваць у здзек гарачыні зусім распараную зямлю і ўсё яе стварэнне* (Я.Колас). *Пачынае з таго краю, адкуль над Курганам узыходзіць сонца. Гэта ён каб **на злосць чарцям*** (А.Васілевіч). ◊ ***На злосць** каму* – тое, што і *на зло* (ТСБМ). Ант. *на дабро; на карысць*. Сін. *на зло; на ліха*. Рус. ***на зло** кому.*

**НА ЗМЕН** *каму* Дав. Рэлят замены: *Чырвоны сцяг наш шлях паборы ўсцілае туды, дзе ў гучным грукаце пярунаў, **на змен пакуты й дзікіх гвалтаў**, заступае ўладар жыцця – ўсясветная Камуна* (Ц.Гартны: ППШ). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Устар. Сін. *на змену*. Рус. ***на смену** кому.*

**НА ЗМЕНУ** *каму/чаму / каму/чаму* **НА ЗМЕНУ** Дав. Рэлят замены: *Мне здаецца, што самая страшная на сёння тэндэнцыя – калі **на змену літаратуры** з яе культам слова прыходзіць замаскіраваная пад літаратуру журналістыка, калі на першым месцы ўжо стаіць пытанне «што пісаць», а не «як пісаць"; калі сюжэт робіцца першасным* (М.Анішчанка). *У свеце экалагічна чыстая ўпакоўка прыходзіць **на змену сінтэтычнай** практычна ва ўсіх галінах* («Звязда», 25.06.05). *Надыходзіў час, калі **на змену ідэалістычнаму ўяўленню** аб развіцці прыроды і чалавека ішла прапаганда матэрыялізму, што змяніла якаснае фарміраванне інфармацыйнай прасторы* (А.Г.Слука). ***На змену адной мадэлі** чалавека прыходзіць другая, гэта азначае змену сістэм каштоўнасцей, непазбежны персанацэнтрызм у культуры (у процівагу пануючаму сёння сацыяцэнтрызму)* (А.Андрэеў). *Але пазней, калі пачаў цвяроза абдумваць усё, **на змену лёгкасці** зноў прыйшла блытаніна пачуццяў, развааг **(І.Мележ)**. Будучыня – часы, падзеі, якія прыйдуць **на змену цяперашнім*** (ТСБМ). *Хваля **хвалі** прыходзіць **на змену**, Забываючыся на беразе пену* (Р.Барадулін). ***На змену ночы** прыйшоў ясны і спакойны сонечны дзень* (В.Вольскі). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Сін. *замест; узамен..* Рус. ***на смену** чему.*

**НА** *які час* **З МОМАНТУ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Выпадзенне валасоў узнікае на тых участках*

*скуры, якія атрымалі апраменьванне дозай 5,5 Гр і болей, і пачынаецца **на 10-17 дзень з моманту апраменьвання*** (Асновы мед. ведаў). Сін. *праз ... з моманту*. Рус. ***на** какое время **с момента** чего.*

**НА ЗНАК** *чаго* / **НА** *які* **ЗНАК** Род. Фінітыў: рэлят тоеснасці: *Князь Радзівіл не бачыў гэткага ніколі, З каня сышоў, абняў маю харціху Каню І тройчы ў лоб пацалаваў **на знак прызнання*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Многія людзі **на знак дэманстрацыі** хадзілі ў народных беларускіх касцюмах, каб нават вонкава паходзіць на мужыкоў* (У.Караткевіч). *Праз дванаццаць гадоў, у 1978-м, А.Наўроцкі **на знак пратэсту** супраць выкарыстання псіхіятрыі ў палітычных мэтах дэманстрацыйна выйшаў з Саюза пісьменнікаў* (М.Скобла). ***На знак пратэсту** супраць новага рэдактара амаль увесь працоўны калектыў пакінуў часопіс* (М.Скобла). *Ён моўчкі кіўнуў **на знак згоды*** (У.Караткевіч).↔ **На знак таго, што:** *Клятву, якую мы далі **на знак таго, што** ніхто ніколі нас не разлучыць, Раланд, відавочна, прыдумаў сам* (У.Караткевіч). Сін. *у знак; у якасці*. Рус. ***в знак** чего.*

**НА** *колькі адзінак* **З ГАКАМ** Він. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны дыменсіў-патэнсіў: *І таму хопіць цябе яшчэ **на век з беларускім гакам*** (У.Караткевіч). Сін. *на ... з лішкам.* Рус. ***на** сколько единиц **с гаком**.*

НА *колькі адзінак* З ЛІШКАМ

НА *колькі адзінак* З ХВОСЦІКАМ

*адзінак* **НА** *колькі* **З ХВОСЦІКАМ ГЛЫБІНІ / ГЛЫБІНІ** *адзінак* **НА** *колькі* **З ХВОСЦІКАМ** Род. – Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой + апраксіматар: *І было ў дрэвах возера Кругленькае, **метраў гэтак на 12 – 13 з хвосцікам глыбіні*** (У.Караткевіч). Рус. ***на** сколько единиц **с лишком/хвостиком глубиной**.*

**НА ЗОЛКУ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Вершы і лірычныя мініяцюры пісаліся ім* [Танкам] *яшчэ **на золку творчага шляху*** (М.Мікуліч). Сін. *на пачатку; на зары; на досвітку.* Рус. ***на заре** чего; **в начале** чего.*

**НА ЗЫХОДЗЕ** *чаго/якога адрэзку часу* Род. Час.: тэмпаратыў: *Працэс сацыяльнага абнаўлення свету **на зыходзе XX стагоддзя** адбываецца ва ўмовах найвастрэйшых класавых бітваў* (Полымя, 1986, № 4). *Было гэта альбо **на зыходзе 1942 года**, альбо на пачатку 1943* («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). *Дняпро **на зыходзе восені** і і на самой справе здаваўся сівым, а гарадскія вуліцы ўжо злёгку прыцерушыў першы снег* (Н.Кучкоўская, Г.Шаблінская). ▶*Ветах – <u>месяц</u> у апошняй квадры, **на зыходзе*** (ТСБМ). Ант. *на пачатку*. Сін. *пры канцы*. Рус. ***на исходе** чего.*

**НА ІМЯ** *каго* Род. Адрасат: ◊ ***На імя чыё*** – адрасаваны, прызначаны каму-н.▬ *У адным з паведамленняў* ***на імя першага сакратара ЦК КП(б)Б*** *адзначалася...* (І.Куркоў). *Яе афіцыйныя заявы наконт гэтага, у тым ліку змешчаныя ў пісьме* ***на імя Генеральнага сакратара ААН,*** *свядома ігнаруюцца* («Звязда», 10.01.1986). *У кішэні ляжалі дакументы* ***на імя беспрацоўнага настаўніка****, за якога я павінен быў выдаваць сябе* (С.Анісаў). *Назаўтра* ***на імя Міхала*** *крывы Пракоп прынёс тэлеграму* (А.Васілевіч: ТСБМ). *Мець у кішэні пісьмо Эйнштэйна* ***на імя Рузвельта*** *– гэта толькі першы крок на доўгім шляху* (газ.). Рус. ***на имя*** *кого.*

**НАЙМЕНЕЙ** *колькі адзінак* Не кіруе склонам. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Тут* [у анталогіі] *толькі творы, што з’явіліся на свет у XX ст., якое дало* ***найменей 90 % усіх пісаных беларускіх паэтычных тэкстаў*** (А.Сідарэвіч). Сін. *сама менш; мінімум; як мінімум*. Рус. ***минимум*** *сколько единиц.*

**НА КАНВЕ** *чаго* / **НА КАНВЕ** Род. Характарызатар-каўзатыў: ***На канве рэўнасных парываў*** *набожнасці Лютэр нават ставіць знак роўнасці між зямным і вышэйшым...* (Інт.). || Назоўнік з прыназоўнікам: *... дзень кірмашны,* ***на канве*** *рабінай вышыты* (Л.Геніюш). Аказіян. Рус. ***на канве*** *чего.*

**НА КАНЕЦ-1** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: ***На канец дзярэўні*** *ідзем* (з гаворак Віцебшчыны). Абл. Сін. *на край*. Рус. ***в конец*** *чего.*

**НА КАНЕЦ-2** *чаго* Род. Час. храналагічны тэмпаратыў: ***На канец стагоддзя*** *абстрактная, рамантычная ідэя грамадскага адраджэння звузілася да адраджэння літаратуры на аснове народнай мовы і паводле пэўнай ідэалагічнай схемы* (С.Паўлычко. Пер. А.Скурко). Ант. *на пачатак*. Сін. *пад канец; на зыходзе*. Рус. ***на конец*** *чего.*

**НА КАНЕЦ-3** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Паступова, пераводзячы стрэлкі свайго гадзінніка наперад,* ***на канец кругасветнага падарожжа*** *падарожнік налічыць лішнія суткі* (падручн.). Сін. *на заканчэнне; на завяршэнне*. Рус. ***на конец*** *чего.*

**НА КАНЕЦ** *якога часу* **– НА ПАЧАТАК** *якога часу* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: храналагічны тэмпаратыў: *Што б там ні казалі «разумнікі», а росквіт беларускага тэатра, нягледзячы на культурную рэвалюцыю, на барацьбу старога з новым, выпадае* ***на канец 20-х и пачатак 30-х гадоў*** (А.Кобец-Філімонава). Рус. ***на конец*** *какого времени –* ***начало*** *какого времени.*

**НА КАНТАКТЫ З** *кім/чым* / **НА** *якія* **КАНТАКТЫ З** *кім/чым* Тв. У складзе апісальнага рэляцыйнага прэдыката: рэлят узаемадзе-

яння: *Ян Павел II застанецца ў гісторыі як першы Папа, які пайшоў* ***на кантакты з іншымі канфесіямі*** («Звязда», 01.6.04.05). *Саюз пісьменнікаў Беларусі ахвотна выходзіць* ***на кантакты з іншымі творчымі саюзамі*** *краіны, што таксама не застаюцца ў баку ад такой важнай справы* (Т.Сетчанка). Ант. *на разрыў з.* Сін. *на сувязь з; на саюз з.* Рус. ***на контакты с*** *кем/чем.*

**НА КАНТРАСЦЕ З/СА** *кім/чым* Тв. Характарызатар: адверсатыў: *Але лідэр апазіцыі выступіў інтэлігентна і спакойна –* ***на кантрасце з эмацыянальным Лукашэнкам****. І* ***на кантрасце з Казуліным*** *таксама* (Інт.). Сін. *у кантраст.* Рус. ***на контрасте с*** *кем/чем.*

**НА КАНФЛІКТ З/СА** *кім/чым* / **НА** *які* **КАНФЛІКТ З** *кім/чым* Тв. У складзе апісальнага рэляцыйнага прэдыката: адверсатыў: *Вызваленне Філіповіча сталася б відавочным выклікам каралю, а ісці* ***на канфлікт з Жыгімонтам*** *дзеля ігумена, «заплямленага» абвінавачваннем у дзяржаўнай здрадзе, Магіла не жадаў* (К.Тарасаў). Ант. *на саюз з.* Сін. *на канфрантацыю з; у апазіцыю да.* Рус. ***на конфликт с*** *кем/чем.*

**НА КАНЦЫ** *якога адрэзка часу* **І НА САМЫМ ПАЧАТКУ** *якога адрэзка часу* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: храналагічны тэмператыў: ***На канцы XIX і на самым пачатку XX стагоддзяў*** *пагібель старакультуры набывае апошнія, катастрафічныя памеры* (Л.Вашко). Рус. ***в конце*** *чего/какого времени* ***и в самом начале*** *чего/какого времени.*

**НА КАПЫЛ** *чаго* / **НА** *які* **КАПЫЛ** *чаго* / **НА** *які/чый* **КАПЫЛ** Род. Рэлят прыраўнівання: *Навука ад пачатку знаходзіцца ў канфлікце з апавяданнямі, якія на паверку аказваюцца,* ***на капыл сваіх уласных крытэрыяў****, казкамі* (Жан-Франсуа Ліётар. Пер. А.Д.). ▲*Узор бярэцца* ***на сусветны капыл*** (У.Караткевіч). Сін. *па мадэлі; на ўзор.* Рус. ***на копыл*** *чего.*

**НА КАРТУ** *чаго* / **НА** *якую* **КАРТУ** *чаго* / **НА КАРТУ** Род. Фінітыў-дэстынатыў: *Усё ставілася* ***на карту барацьбы*** *беларускага народа за сапраўдную свабоду ўсіх нацый, што насялялі тэрыторыю Заходняй Беларусі* (А.Іверс).|| Прыслоўе ў спалучэнні ◊ *Ставіць* ***на карту.*** ━ *Увесь свой набытак паставіў* ***на карту****, каб адстаяць праўду*. Сін. *дзеля; у імя*. Рус. ***на карту*** *чего.*

**НА КАРЦЕ-1** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў прамы: *Гэтыя мясціны – своеасаблівы дыямент* ***на карце Кіраўскага раёна*** («Звязда», 15.02.05). Рус. ***на карте*** *чего.*

**НА КАРЦЕ-1** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў перан.: ***На карце вялікіх жывых пяцігодак*** *Мы творчыя справы акрэслім мяжой* (А.Куляшоў). Рус. ***на карте*** *чего.*

**НА КАРЫСЦЬ¹-1** *чаго* Род. Канфарматыў: *У апошні час з'яўляецца ўсё больш доказаў* ***на карысць «малпавага» паходжання*** *віруса СНІДу* (Асновы мед. ведаў). ***На карысць гэтай заўвагі*** *сведчаць і сардэчныя (то бок несвядомыя) словы Міколы Гіля з віншавальнага артыкулу з нагоды юбілею пісьменніцы: «...цярпенне, жаданне гадамі працаваць з чужымі жыццямі, прытым працаваць гэтак, каб яны сталі працягам твайго жыцця»* (А. Андрыеўская). ↔ **На карысць таго што.** Сін. *у пацвярджэнне.* Рус. ***в пользу*** *чего.*

**НА КАРЫСЦЬ¹-2** *каго/чаго* Род. Фінітыў-дэстынатыў: *Самы галоўны абавязак – выхаваць у дзяцей адказнасць перад Прыродай, Грамадой і сабой за выяўленне свайго таленту* ***на карысць навакольнага свету (роднага краю)*** (М.Шавыркін). *Шчыра жадаю вам моцнага здароўя, даўгалецця і поспехаў у справах* ***на карысць нашай цудоўнай Беларусі*** (Мітрапаліт Філарэт). *Пан Яцак не памёр (як гаварылі) ў Рыме, Але змяніў жыццё сваё і стан, і імя, І акупіў усе свае старыя віны Жыццём святым і працай* ***на карысць Айчыны*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *дзеля; у імя; на гонар.* Рус. ***на благо*** *кого*.

**НА КАРЫСЦЬ¹–3** *каго/чаго* Род. Бенефіцыянтыў: *Бенефіцыянт – артыст,* ***на карысць якога*** *даецца бенефіс, бенефісны спектакль* (ТСБМ). *Хасін б'е: адзін – нуль* ***на карысць мінчан*** (А. Гаўрон). ◊ *Гаварыць* ***на карысць каго*** **–** служыць доказам дадатных якасцей каго-н. (ТСБМ). Рус. ***в пользу*** *кого/чего.*

**НА КАРЫСЦЬ²** *каму/чаму* / *каму/чаму* **НА КАРЫСЦЬ / НА КАРЫСЦЬ** Род. Адрасат: бенефіцыянтыў-кансеквентыў: *У Качанка быў добры характар: ён нікому не адмаўляў у дапамозе, калі гэта ішло* ***на карысць саўгасу*** (І.Шамякін). *Так што галадоўшчыкі* ***на карысць астатнім****, асабліва, калі ежы мала і яна смачная (а гэта ўзаемазвязана)* («Arche»). *Знаёмства з Іваноўскім было* ***капыльскаму гарбару на карысць*** (М.Скобла). *Караткевіч сам падганяў нас з адпраўленнем і праз свайго пастаяннага ўрача запэўніў нас, што падарожжа будзе* ***яму на карысць*** (В.Ждановіч). *Сакрэт – у веданні: калі прамаўчаць, а калі сказаць. Галоўнае, каб гэта было* ***на карысць: асобнаму чалавеку, грамадству, планеце*** («ЛіМ»). Рус. ***на пользу*** *кому/чему;* ***во благо*** *кому/чему.*

**НАКЛАДАМ¹** *каго* Род. Пасэсар: *А кнігі, сапраўды, каштоўныя, толькі які ёлуп іх сабраў пад адной вокладкай: «Евангелле» 1539 года, выдадзенае* ***накладам князя Юр'я Сямёнавіча Слуцкага****, ды тут жа «Евангелле» Цяпінскага, ды да яго прышмараваны «Статут» 1580 года выдання, той, што пад даглядам Льва Сапегі рабіўся* (У.Караткевіч). Сін. *коштам; за кошт*. Рус. ***за счёт*** *кого.*

**НАКЛАДАМ²** *колькі адзінак / якім* (колькасна) **НАКЛАДАМ** Наз. Дыменсіў: *З канца 2003 газета выходзіць нерэгулярна **накладам 299 асобнікаў** у фармацэ глянцавага каляровага часопісу* («Навінкі»). *Гэты ўнікальны для Беларусі фаліянт вагой два кілаграмы надрукаваны **накладам 5 тысяч асобнікаў** у друкарні «Neografia» (г. Марцін, Славакія), якая лічыцца адной з самых вядомых ва Усходняй Еўропе* (Інт.).▲ *Кнігі выходзілі пераважна **тысячным накладам*** (Інт.). *У адказе ЦВК прызнаваўся факт выпуску **павышаным накладам** ці то газеты, ці то рэкламных плакатаў* («СБ»). Сін. *тыражом*. Рус. ***тиражом** сколько единиц.*

**НАКЛАДАМ БЛІЗУ / агульным НАКЛАДАМ БЛІЗУ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў: *За два гады выдавецтва выдала 14 кніг **агульным накладам блізу 45 тысяч паасобнікаў*** (Інт.). Рус. ***(общим) тиражом около** скольких единиц.*

НАКЛАДАМ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НАКЛАДАМ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НАКЛАДАМ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

**НАКЛАДАМ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Калі нашая новая альтэрнатыва не прадасца **накладам больш за 100 тысяч** ...*(Інт.). Рус. ***(общим) тиражом более** скольких единиц.*

НАКЛАДАМ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

НАКЛАДАМ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

**НАКЛАДАМ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Для выпуска ў свет друкаваных СМІ **накладам да 500 асобнікаў*** (Інт.). *... застаецца каля паўтара дзесяткаў незалежных грамадска-палітычных газет **агульным штотыднёвым накладам да 300 тысяч асобнікаў*** (Інт.). Рус. ***(общим) тиражом до** скольких единиц.*

НАКЛАДАМ ЗВЫШ *колькі адзінак*

**НАКЛАДАМІ НЕ МЕНШ ЯК** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой:: *Так, праводзілася палітыка русіфікацыі, але паэтычныя кнігі Купалы, Коласа і Багдановіча выходзілі **накладамі не менш як 2000 асобнікаў*** (А.Сідарэвіч).Рус. ***тиражами не менее** скольких единиц.*

НАКЛАДАМ КАЛЯ *колькі адзінак*

НАКЛАДАМ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НАКЛАДАМ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НАКЛАДАМ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

**НАКЛАДАМ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой:: *Калі нашая новая альтэрна-*

*тыва не прадасца* ***накладам менш за 100 тысяч****...* (Інт.). Рус. ***(общим) тиражом менее*** *скольких единиц.*

НАКЛАДАМ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
НАКЛАДАМ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
НАКЛАДАМ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
НАКЛАДАМ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
НАКЛАДАМ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
НАКЛАДАМ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
НАКЛАДАМ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
НАКЛАДАМ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
НАКЛАДАМ НЕ МЕНЙ ЗА *колькі адзінак*
НАКЛАДАМ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
НАКЛАДАМ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
НАКЛАДАМ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
НАКЛАДАМ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
НАКЛАДАМ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

**НАКЛАДАМ ТОЛЬКІ** *колькі адзінак* Наз. Дыменсіў: «*Краязнаўства» Ўлашчыкава, на жаль, выйшла* ***накладам толькі 150 асобнікаў*** *(«Arche»).* Рус. ***(общим) тиражом лишь*** *сколько единиц.*

**НАКЛАДАМ У** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Выдавецтва «Беларусь»* ***накладам у 15 тысяч паасобнікаў*** *выпусціла ў свет кніжку вядомых гісторыкаў Льва Казлова і Анатоля Цітова «Беларусь на сямі рубяжах*» («Наша слова», 1994). «*Раскручанага» расійскага літаратара Андрэя Вазнясенскага друкуюць* ***накладам у 2 тысячы экземпляраў****, і гэта на ўсю Расію* (А. Гормаш). Рус. **(*общим) тиражом в*** *скольких единиц.*

**НАКОНАДНІ** Я.Станкевіч. Без кантэксту.

**НАКОНТ-1** *чаго* / **НА** *гэты/той* **КОНТ** Род. Аб'ект.: дэлібератыў: *Не існуе пакуль адзінага пункту погляду* ***наконт прыроды*** *ідэалагічна актуалізаванага тэксту* (Г.К.Чахоўскі). *Я так і не паспеў нічога сказаць яму* ***наконт сына*** (І.Шамякін). *Цяпер, калі выйшаў Тлумачальны слоўнік з 6 кніг, ёсць дзе атрымаць патрэбную даведку* ***наконт значэння*** *слоў* (А.Каўрус). *Яму зноў карцела* ***наконт каня*** (В.Быкаў). *Назіранні Б.Галавіна* ***наконт праблемы*** *засваення нормы носьбітамі мовы* (навук.). ▲*Што вы можаце сказаць* ***на гэты конт****? Цікавыя і пераканаўчыя развагі* ***на гэты конт*** *знаходзім у У.Калесніка* (М.Мікуліч). ТСБПШ – прыназ. Сін. *аб; пра*. Рус. ***насчет*** *кого/чего;* ***по поводу*** *кого/чего;* ***о*** *ком/чем.*

**НАКОНТ-2** чаго Род. Дэлібератыў; ужываецца ў пытальных выказваннях тыпу *як/што скажаш*, *што чуваць* або ў сцвярджальных пасля дзеясловаў з ментальнай семантыкай: «*Ну, а як* ***наконт***

***тых,*** *расстраляных?»* (У.Караткевіч). *– Ты яшчэ не абедаў?.. То, можа, пачакаеш гадзіны паўтары? Разам паямо. – Добра. Калі? Дзе? – Скажам, гадзіны ў тры. Як* ***наконт марвакзала****?* (У.Караткевіч). ↔ **Наконт таго, што / як / які / калі / дзе** і інш. адносна-пытальныя словы: *Яшчэ і сёння ўзнікаюць дэбаты* ***наконт таго, у якую*** *традыцыю запусціла карэнні нацыянальная культура таго ці іншага еўрапейскага народа на зары яго ўзнікнення* (У.Калеснік). ТСБПШ – прыназ. Рус. ***насчет*** *чего.*

**НАКОНТ-3** *каго/чаго* Род. Актуалізатар тэмы: ***Наконт удзелу*** *народных скрыпачоў у Рэспубліканскім конкурсе імя І.Жыновіча можна сказаць наступнае...* («ЛіМ», 4.11.88). ↔ **Наконт таго, што / як / які / калі / дзе** і інш. адносна-пытальныя словы: *Вось* ***наконт таго, як*** *жывуць служачыя, то я неаднораз бачыў, што жывуць яны нядрэнна* (Ц.Гартны). Сін. *што да; што тычыцца*. Рус. ***что касается*** *кого/чего.*

**НАКОНТ-4** *каго/чаго* Род. Фінітыў: *Быў гэта знак, што госці едуць з палявання І чэлядзь завіхаецца* ***наконт снядання*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ↔ **Наконт таго каб**. Рус. ***с*** *чем.*

**НАКОНТ-5** *каго/чаго* Род. Крытэрый: *Раён у мяне* ***наконт кляшча*** *бяспечны, але ўсё ж ...* (У.Караткевіч). Сін. *па*. Рус. ***по поводу*** *кого/чего.*

**НАКОНТА** *каго/чаго* Род. Фінітыў: *Наказ такі, каб заўтра зрана твой брат Антось шоў да адбору, а сам Міхал аб гэту пору настройваў лыжы да сялібы – падбаць панам* ***наконта рыбы*** (Я. Колас). ТСБПШ – прыназ. Рус. ***с*** *чем;* беспредложн. форма Род.

**НА КОШТ** *каго/чаго* Род. Данатар: *Каб не палохаць гледачоў бяззубымі ратамі,* ***на кошт дзяржавы*** *забяспечыць усіх выступоўцаў бліскучымі пратэзамі...* (Інт.). || Назоўнік з прыназ.: *Ці паўплывае гэта* ***на кошт*** *прадукцыі?* Сін. *за кошт; на кошты*. Рус. ***за счёт*** *кого/чего.*

**НА КОШТЫ (Мн.л.)** *каго* Род. Данатар: *У пачатку 90-х, калі ў Літфондзе ўжо не было грошай не тое, што на труну, нават на вянок, пісьменніка хавалі* ***на кошты родных і блізкіх*** (А. Гаўрон). Рус. ***за счет*** *кого.*

**НА КРАЁХ/КРАЯХ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Большыня з іх* [мух], *калі конь міргае вачыма, застаецца сядзець* ***на краёх павекаў****, быццам яны з'яўляюцца часткай гэтых міргаючых вачэй* (П.Гандке. Пер. Я. Балясіна). Рус. ***по краям*** *чего.*

**НА КРАЁЧКУ** *чаго* Род. Аб'ектны лакатыў: *Пакуль жа, стомлены круглай, як перакуленая ратонда, поўняю, пішу сваёй неразгаданай А.* ***на краёчку нябеснай паперы*** *кароткі развітальны ліст* (Л.Дранько-Майсюк). Рус. ***на краешке*** *чего.*

**НА КРАІ/Ю** *чаго* / **НА** *якім/* **самым КРАІ/Ю** *чаго* / **НА КРАІ/Ю** Род. Прастор.: лакатыў: *Выплесканая нагамі сцежка ... раптам правалілася ў глыбокія прорвы ям.* ***На краі іх*** *сохлі выветраныя ялаўцовыя карэнні* (В.Адамчык). *Горад балансаваў* ***на краі бездані****, а мы з ім разам* (Э.Джонг. Пер. А.Дынько). *Не балансуйце без патрэбы* ***на краі ляза*** («Звязда», 15.02.05). *Людзей загналі ў гумно* ***на краі вёскі****, зачынілі дзверы і заперлі на завал*у («Звязда», 23.02.05). *Пратуберанцы лепш за ўсё прыкметныя* ***на краі сонечнага дыска*** (падручн.). *Дзяўчаты, што жывуць у дамку, скіданым з аполкаў* ***на краю палянкі****, дык не тое што павысыпаюцца, нават прыемных сноў не дасняць, калі яны каторым набрыдуць* (Р.Сабаленка). ■ ***На паўночным краю Белавежскай пушчы*** *ў Ваўкавыскім павеце Поразаўскай (даўней Баярскай) воласці ляжыць вёска Шурычы* «Гарадзенскія запісы», 1993 вып.1). ***На самым краі лесу*** *фары намацалі воз скіданага абы-як беразаку* (М.Лобан). ◊ ***На краі магілы*** – пры смерці. Рус. ***на краю*** *чего.*

**НА КРАЙ-1** *чаго* / **НА самы КРАЙ** *чаго* / **НА** *які* **КРАЙ** *чаго /* **НА** *які* **КРАЙ** Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Добра ўтаптаная сцяжынка вывела іх* ***на край бульбянага поля*** (В.Быкаў). *Калі яны ўрэшце выбраліся* ***на край*** *камяністага* ***абрыву*** *і, стомленыя, спыніліся, іх позірку адкрыўся амаль што плоскі горны ўхіл, зарослы дробным пакручастым сасоннікам* (В.Быкаў). *З цугляў у каня падала ўжо мыла, калі Алесь, мінуўшы алею ... вырваўся, урэшце,* ***на край высокага плато*** *і ўбачыў стромы спуск дарогі...* (У.Караткевіч). Сін. *на ўскраек.* Рус. ***на край*** *чего.*

**НА КРАЙ-2** *чаго* / **НА самы КРАЙ** *чаго* / **НА** *які* **КРАЙ** *чаго /* **НА** *які* **КРАЙ** Род. Аб'ектны дырэктыў: *Вольга Усцінаўна прыйшла, села* ***на край канапы****, распусціла валасы, прыбіраючы іх на ноч* (І.Шамякін). Сін. *з краю.* Рус. ***на край*** *чего.*

**НАКРУГ** *чаго* Род. Лакатыў-характарызатар: *І* ***накруг таго стала****, сеўшы кругам, заспявалі* (П.Броўка: ТСБПШ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; разм. Сін. *вакол.* Рус. ***вокруг*** *чего.*

*колькі адзінак* **НА круг / НА круг** *колькі адзінак* Наз. Ускладн. Дыменсіў-дыстрыбутыў: *Ураджайнасць трэба атрымаць ні больш ні менш еўрапейскую –* ***560 цэнтнераў на круг*** (Інт.). Рус. ***на круг*** *чего.*

**НА круг ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак /* **ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак* **НА круг** Наз. Прыблізны дыменсіў-дыстрыбутыў: *Міхаіл Рыгоравіч адзначыў, што сёлета ў гаспадарцы* ***на круг*** *выйдзе прыкладна па 35 цэнтнераў збожжа* («Гомельская праўда»). Рус. ***на круг примерно*** *сколько единиц.*

**НА КРЫЛЕ** *каго/чаго* Род. Прастора: лакатыў: *Інакш пачалася бітва* ***на крыле татараў*** (К.Тарасаў). Аказіян. Сін. *у, на флангу.* Рус. ***у*** *кого;* ***на фланге*** *кого.*

НА КРЫЛО *каго/чаго*

**НАКШТАЛТ[1]-1** *каго/чаго* Род. Рэпрэзентант: *А колькі па дарозе было хутароў* ***накшталт Дзвюх хат****, засценкаў, корчмаў, палёў, лясоў, наогул маляўнічых мясцін* (І.Навуменка). ↔ **Накшталт таго што; накшталт таго як; накшталт таго, які** і інш. спалучэнні са злучальнымі словамі: *Была ў нас такая гульня, ад якой іншы чалавек пасінеў бы. Так проста, нібы з яра ў ваду, задаваць адзін аднаму пытанні* ***накшталт таго****,* ***на якіх мовах*** *быў напісаны бехістунскі надпіс (старажытна-персідскай, эламскай і вавіронаскай)* (У.Караткевіч). Сін. *тыпу*. Рус. ***типа*** *чего.*

**НАКШТАЛТ[1]-2** *каго/чаго* Род. Сітуатыў: рэлят прыраўнівання: *Каб ведаў, што жонка,* ***накшталт іншых жонак****, так настойліва ўгаворвае з эгаістычных меркаванняў – з-за грошай, становішча – нізавошта не пайшоў бы* (І.Шамякін). *Данцыг стаўся для Граса феноменам* ***накшталт Дубліна для Джэймса Джойса ці Бамбея для Салмана Руждзі*** (Е.Лявонава). *Часта ўжываецца разам з няпэўным займеннікам: Міхал Тварыцкі бачыў перад сабой* ***нешта накшталт скрыжавання*** *гарадскіх вуліц* (К.Чорны). Сін. *нападобе; па прыкладзе.* ↔ **Падобна да таго як; падобна на тое як.** Рус. ***подобно*** *чему;* ***по примеру*** *чему.*

**НАКШТАЛТ[1]-3** *каго/чаго* Род. Сітуатыў: рэлят прыпадабнення: *І бор чарнеў* ***накшталт*** *вялізарнага* ***гмаху...*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Пятляла рэчка тут* ***накшталт вужакі*** (М.Машара: ТСБПШ). Син. *быццам, нибы.* Рус. ***наподобие*** *чего.*

**НАКШТАЛТ[2] «***што***»** Наз. Рэлят прыраўнівання; у ролі злучніка: *І, відаць, па гэтым рэцэпце былі пабудаваны фразы, пазбаўленыя якраз гэтай дакладнасці, а то і сэнсу,* ***накшталт: «Дзень восьвось павінен быў перамагчы світанне»*** (А.Мальдзіс). Сін. *напрыклад.* Рус. союз ***к примеру.***

**НАКШТАЛТ[3]** *чаму* Дав. Рэлят прыраўнівання: ***Накшталт брусаўскаму*** [= земляробу, з якім параўноўваў В.Брусаў паэта, – М.К.], *земляроб у санеце Ул.Дубоўкі паўстае як сімвалічнае ўвасабленне дзейнасці пісьменніка* (У.Сенькавец). Сін. *нападобе.* Рус. ***подобно*** *чему.*

**НА ЛАД** *каго/чаго* Род. Характарызатар: рэлят прыраўнівання: *І калі Францішак пачаў весці сваё вясёлае прычытанне* ***на лад жалаваных грамат****, то ў Івана аказалася тут жа ў прыпасе прозвішча Рэбічковіч* (А.Лойка). ▲ *І цягам доўгія часіны, дзявочыя забыўшы сны, свае шырокія тканіны* ***на лад пярсідскі*** *ткуць яны*

(М.Багдановіч). Сін. *на тон; на настрой; на спосаб; на манер*. Рус. ***на лад*** *чего*.

**НА ЛАСКУ** *каго/чаго* / **НА** *якую* **ЛАСКУ** *каго/чаго* / **НА** *чыю* **ЛАСКУ** Род. Ускладн. Аб'ект чакання + канфірматыў: *Не цярплю спадзяванняў* ***на ласку магутнага Бога*** (В.Шніп). Сін. *на; на падтрымку; на дапамогу*. Рус. ***на поддержку*** *кого/чего*.

**НАЛЕВА АД-1** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *...**налева ад хвойнічку** было чыстае месца* (ППШ). *Вось **налева ад сабору** купал высіцца..* (К.Крапіва). ***Налева ад парога*** *стаяў доўгі стол* (П.Пестрак). ▶*Направа* ***ад сяней*** *сядзібнага дома размяшчалася вялікая хата з чатырма вокнамі, кафлянай печчу і лавамі, **налева** – такая ж хата, жылая і гаспадарчыя каморы* (Інт.). ***Налева ад яловых прысадаў*** *– шыкоўны тапалёвы гаёк, у глыбіні якога знаходзіцца драўляны павільён* (Інт.). ***Налева ад галоўных дзвярэй*** *змяшчаецца ікона Божай маці* (Інт.). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Ант. *направа ад.* Сін. *злева ад.* Рус. ***налево от*** *кого/чего.*

**НАЛЕВА АД-2** *каго/чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Ідзіце **налева ад вялікай дарогі** ...* (У.Караткевіч). Ант. *направа ад*. Рус. ***налево от*** *кого/чего.*

**НА ЛЕВАБЯРЭЖЖЫ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў; з назвамі рэк: *Новы пасёлак раскінуўся **на левабярэжжы Нёмана***. Ант. *на правабярэжжы.* Сін. *на левым беразе*. Рус. ***на левом берегу*** *чего.*

**НАЛЕВА ПРЫ** *кім/чым* Месн. Прастор.: лакатыў: ***Налева пры сцяне*** *відзён быў рог ложка* (ППШ). Ант. *направа пры*. Сін. *налева каля.* Рус. ***налево при*** *чем*

**НА ЛЕВЫМ БЕРАЗЕ** *чаго* Род. Прастор.: прамы лакатыў: *Кунцаўская Одля, Кунцаўская Водла – **сенажаць на левым беразе Свіслачы** недалёка ад вёскі Водлы ў Канюхаўскім сельсавеце* (А.Цыхун). ***На левым беразе Нёмана*** *жылі яцвягі, на правабярэжжы – літоўцы* (К.Тарасаў). Ант. *на правым беразе*. Рус. ***на левом берегу*** *чего.*

**НА ЛІК** *колькі* Наз. Дыменсіў: *Павольна выдыхаючы **на лік 1 – 5**, прыўзніміце таз, напружваючы мышцы пахвіннай вобласці* («Звязда», 19.02.05). Рус. ***на счет*** *сколько.*

**НА ЛІКУ** *каго/чаго* / **НА** *чыім* **ЛІКУ** Род. Пасэсар-агенс: *А.А.Богуш кіруе створанай ім лабараторыяй фізікі высокіх энергій, **на ліку супрацоўнікаў** якой значная колькасць цікавых навуковых вынікаў* (Інт.). *Пяршынства ў Гамбургу – гэта другая перамога **на ліку пары** ў гэтым сезоне* (Інт.). Сін. *у.* Рус. ***на счету*** *кого.*

**НА ЛІНІІ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***На лініі перамены*** *даты пачынаецца новы дзень, новы каляндарны месяц і новы год* (падручн.). Рус. ***на линии*** *чего.*

**НА ЛІНІІ АД** *чаго* (**І**) **ДА** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: транзітыў: *Тымчасам ходзіць ён* ***на лініі*** *былога №1* ***ад Камароўскага парку й пакуль да Ліповае вуліцы*** *(б.Валадарскага), паступова асвойваючы й далейшыя дзялянкі ў кірунку да пасажырскага вакзалу* («Arche»). Рус. ***на линии от*** *чего* ***до*** *чего.*

**НА ЛІНІЮ**[1] *што – што – што* Наз. Прастор.: дырэктыў + анамасіятыў: *Савецкія войскі ў перыяд з 23 чэрвеня па 4 ліпеня разбілі сілы фашысцкае групы армій «Цэнтр» у раёнах Віцебска, Оршы,- Магілёва, Бабруйска, акружылі на ўсход ад Мінска больш чым стотысячную групоўку ворага і выйшлі* ***на лінію возера Нарач, Маладзечна, Стаўбцы, Нясвіж*** (У.А.Нядзелька). Ваен. клішэ. Сін. *на рубеж*. Рус. ***на линию*** *что.*

**НА ЛІНІЮ**[2] *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *10 ліпеня войскі 3-й арміі выйшлі* ***на лінію р. Шчары*** (У.А.Нядзелька). Ваен.- клішэ. Сін. *на.* Рус. ***на линию*** *чего.*

**НА ЛОЖЫ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ◊ ***На ложы смерці.*** ▬ *У «Запрашэнні на кару» Набокава вязню Цынцынату паказваюць «фотагараскоп» дзіцяці, складзены злавесным месье П'ерам, – гэта альбом фатаграфіяў маленькай Эмы, на якіх яна немаўлятка, маленькае дзіцятка, цнатлівая дзяўчынка – цяперашнія, а далей ідуць фатаграфіі Эмы-падлетка, нявесты, трыццацігадовай жанчыны, і нарэшце саракагадовай Эмы* ***на ложы смерці,*** *створаныя шляхам рэтушавання ды выкарыстання фатаграфіяў ейнай маці* (С.Сонтаг. Пер.В.Дразда). Рус. ***на смертном одре.***

**НА ЛОНЕ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ◊ ***На лоне прыроды*** – на адкрытым паветры, сярод прыроды (ТСБМ).▬ *Даўно не бачыў і дзядзьку Рыгора, і многіх нашых супольных знаёмых, якія, відаць, летам недзе адпачывалі за горадам,* ***на лоне прыроды*** (М.Танк). Сін. *на ўлонні; сярод.* Рус. ***на лоне*** *чего.*

**НАМАГАННЯМІ** *каго/чаго / якімі* **НАМАГАННЯМІ** *каго/ чаго / чыімі* **НАМАГАННЯМІ** Род. Суб'ектн.: агенс: *Саюзная дзяржава, якая па многіх накірунках аб'ядноўвае сёння нашу краіну з вялікай усходняй суседкай, пачала стварацца ў снежні 1999 года.* ***Намаганнямі палітыкаў?*** *Не толькі! Спадзяваннямі сваіх шматлікіх грамадзян* (І.Петрусевіч). Сін. *дбаннямі; клопатамі*; Тв. без прыназоўніка: *стварацца палітыкамі.* Рус. ***усилиями*** *кого.*

**НА МАГУТНАСЦЬ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Дымерсіў: *Электракавапаркі вырабляюцца* ***на магутнасць ад 350 да 1 000 Вт*** *і ўключаюцца ў сетку напружаннем 220 В* (падручн.). Рус. ***на мощность от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**НА МАГЧЫМАСЦЬ** *што зрабіць* Не кіруе склонам. Інф. Мадалізатар у складзе прэдыката: *Галоўным абмежавальным фактарам* ***на магчымасць стаць хросным бацькам ці маці*** *з'яўляецца канфесійная прыналежнасць чалавека* («Родны край», 2009). Рус. ***на возможность*** *что сделать.*

**НА МАНЕР** *каго/чаго* Род. Рэлят прыраўнівання: *Атрад* ***на манер невялікага войска*** (ППШ). *– Як ты мяркуеш, Мартыне, – парушыў маўклівасць дзед талаш, пачаўшы трохі здалёку, – ці можна падабраць добрых хлопцаў ну,* ***на манер невялікага войска****?* (Я.Колас). *... ад прыроды злёгку змахвае на Мефістофеля, каб служыць нам люстрам усёй нашай унутранай чартаўшчыны. І* ***на манер Фаўста*** *пакутуе цяжкім роздумам* (А.Ямпольская). ▲*Суддзя пабачыў Прылады, мастака па іх пазнаў самога, Хоць за той час яго змянілі вельмі многа Палкоўнака адзнакі і мундзір уланскі, І вусікі з бародкай* ***на манер іспанскі*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ◊ ***На адзін манер*** **–** аднолькава. ▬ *А амаль не кожны дзень гэтая кабета наведвалася ў кантору, чакала Зосю каля дзвярэй знадворку і пачынала дзякаваць кожны раз* ***на адзін манер*** (Нёманскі: ФСБМЛ). ◊ ***На свой манер*** **–** не так, як іншыя. ↔ **На манер таго, як.** ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ.; ТСБМ – *манер* у знач. прыназ. (у спалуч. з *на*). Сін. *нападобе; на лад; на ўзор.* Рус. ***на манер*** *кого/чего.*

**НА МАПЕ** *чаго* / **НА** *якой* **МАПЕ** *чаго* / **НА** *якой* **МАПЕ** Род. Прастор.: лакатыў; перан.: *...імя пісьменніка Уладзіміра Караткевіча перш за ўсё асацыіруецца з маладосцю... з тым самасцвярджальным Пачаткам, калі* ***на мапе жыцця*** *яшчэ толькі пазначаліся першыя літаратурныя пуцявіны-маршруты да зор* (В.Коўтун). ■ *Адбітак намаляваўся ў рэвалюцыях і войнах, засеў застрамкаю ў памкненнях гістарычнарэальных палітыкаў, ён пераканаўча і нахабна пляміцца* ***на палітычнай мапе свету****, ён неадчэпна палоніць абуджануюгістарычную свядомасць новабеларуса* (Л.Вашко). Паланізм. Сін. *на карце*. Рус. ***на карте*** *чего.*

**НА МЕЖАХ** *чаго* / **НА** *якіх* **МЕЖАХ** *чаго* / **НА** *якіх* **МЕЖАХ** Род. Прастор.: лакатыў: *Часам я чую, як* ***на межах майго абсягу*** *перагаворваюцца галасы: «... Небарака, ён ўсё ніяк не можа пераступіць свой абсяг...»* (А.Разанаў). *І мы паміж небам стаім і зямлёй –* ***на межах расстання, на межах сустрэч*** (В.Аколава). ↔ **На межах дзе:** *І мы паміж небам і зямлёй –* ***на межах, дзе*** *расстаюцца і сустракаюцца.* Сін. *на краі.* Рус. ***на границах*** *чего.*

**НА МЕЖАХ** *што* **І** *што* Наз.-Наз. Ускладн. Прастор.: лакатыў + анамасіятыў: *Адсюль вынікае, што электрычнае поле ў праводніках можа існаваць толькі ў тонкіх слаях* ***на межах праваднік 1 – правадяік 2, праваднік 1 – вакуум*** *і* ***праваднік 2 – вакуум***. (падручн.). Сін. *на лініі.* Рус. ***на границах*** *чего* ***и*** *чего.*

**НА МЕЖАХ ПАМІЖ** *чым* Тв., мн. л. Прастор.: лакатыў: *Судачыненні, якія характарызуюць змяненні вектараў Е і В* ***на межах паміж дыэлектрыкамі***, *называюцца межавымі ўмовамі* (падручн.). Сін. *паміж*. Рус. ***на границах между*** *чем.*

НА *колькі адзінак* МЕНЕЙ

НА *колькі адзінак* МЕНЕЙ ЗА

НА *колькі адзінак* МЕНЕЙ ЧЫМ

НА *колькі адзінак* МЕНЕЙ ЯК

**НА** *колькі адзінак* **МЕНШ** *каго/чаго* Він. Ускладн. Квантытатыў + градуатар: *У гэтым годзе ў школы пойдзе* ***на 10 працэнтаў менш дзяцей***, *чым у мінулым* (газ.). Рус. ***на*** *сколько единиц* ***меньше.***

**НА** *колькі адзінак* **МЕНШ ЗА** *што* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Квантытатыў + градуатар + рэлят колькаснага параўнання: *Самая блізкая да сонца планета Меркурый мае радыус 2440 км, што* ***на многа менш за радыус*** *Зямлі* (падручн.). Рус. ***на*** *сколько единиц* ***меньше.***

НА *колькі адзінак* МЕНШ ЧЫМ

**НА МЕНШ ЧЫМ** *колькі адзінак* **У** *чым* Він.-Месн. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + дыстрыбутыў: *Windows Vista устаноўлена* ***на менш чым 1 %*** *кам-п'ютараў* ***у свеце*** (Інт.).

НА *колькі адзінак* МЕНШ ЯК

**НАМЕСТ** *каго/чаго* Род. Аб'ектн.: рэлят замены: *Каб гэта я стаў* ***намест галоўнага камісара***, *дык зразу ў першую чаргу распарадзіўся б паправіць шляхі* (ППШ). Сін. *замест; на месца*. ТСБПШ – прыназ. Рус. ***вместо*** *чего.*

**НА МЕСЦА-1** *каго/чаго* / **НА** *якое* **МЕСЦА** *каго/чаго* / **НА** *чыё* **МЕСЦА** Род. Аб'ектн.: рэлят замены: *Калі б прэзідэнт Кучма чытаў Франца Фэнана, яго нядаўнія нараканні наконт таго, што «нацыянальная ідэя не спрацавала», можна было б спісаць на нашу, па-савецку разумова маларухлівую, як сіта, здзіраўленую рэпрэсіямі і, па ўсіх адзнаках, правінцыйную інтэлектуальную эліту, якая* ***на месца*** *пільна патрэбнай* ***нацыянальна-дзяржаўнай ідэалогіі*** *не змагла, у канцы ХХ стагоддзя, запрапанаваць нічога, акрамя абшарпаных «гетманскіх кляйнотаў»*

(А.Забужко. Пер. М.Баярына). ***На месца хросных бацькоў**, якія не маюць сваёй пары, у якасці сватоў выбіралі сямейную пару, у якой ёсць здаровыя разумныя дзеці, у якой усё ладзіцца ў доме* («Звязда», 24.03.05). ↔ **На месца таго, хто; на месца таго, што.** Сін. *замест*. Рус. ***вместо*** *кого/чего*.

**НА МЕСЦА-2** *чаго* / **НА пастаяннае/часовае/** *якое* **МЕСЦА** *чаго* Род. Простор.: дырэктыў-фініш: *Толькі летась у сталіцу пераехала* ***на пастаяннае месца жыхарства*** *15 тысяч 100 чалавек* («Звязда», 12.02.05). ***На месца здарэння** неадкладна прыбылі супрацоўнікі ГРАНС і ГРАУС* («Звязда»,17.03.05). ***На месца катастрофы** прымчаўся нямецкі карніцкі атрад, што перахапіў радыёсігнал англічан* (газ.). ▲ *Жыгалка сышоў са сцэны і сеў* ***на сваё месца*** (Гурскі: ТСБМ). ↔ **На месца, дзе; на месца, адкуль; на месца, куды**. Канц. клішэ. ◊ ***На месца!*** **–** каманда сабаку заняць яго месца. ◊ ***Паставіць на сваё месца*** **–** рэзкай заўвагай прымусіць каго-небудзь паводзіць сябе інакш (ФСБМЛ). Рус. ***на место*** *чего*.

**НА МЕСЦА МІЖ** *кім/чым* **І** *кім/чым* Тв.-Тв. Простор.: дырэктыў-фініш адносна двух локумаў: *Перапрасіўшы ветліва,* ***на месца села Між ім і дзядзькам****, але есці не хацела* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *паміж*. Рус. ***на место между*** *чем* ***и*** *чем*.

**НА МЕСЦАХ (Мн.л.)** *чаго* / **НА** *якіх* **МЕСЦАХ** *чаго* Род. Простор.: лакатыў: *Няма помніка на радзіме Касцюшкі, няма памятных знакаў* ***на месцах колішніх баёў****, няма праўдзівых і шырокіх экспазіцый у нашых музеях* (К.Тарасаў). ↔ **На месцах, дзе; на месцах, адкуль; на месцах, куды.** Сін. *на месцы*. Рус. ***на местах*** *чего*.

**НА МЕСЦЫ-1 (Адз.л.)** *чаго* / **НА** *якім* **МЕСЦЫ** *чаго* / **НА МЕСЦЫ** Род. Простор.: лакатыў: *Адвакат папярэджваў, што прычынаў дзеля майго ўтрымання пад вартай няма шака, бо* ***на месцы злачынства*** *я затрыманы не быў, сведкаў, якія б паказалі на мяне, не знайшлося, і ў месцы майго пражывання ані галавы, ані іншых частак бюсту не адшукалі* (У.Плешчанка). *Каб гэта ўбачыць, дастаткова мець вочы. Ці прысутнічаць* ***на месцы падзей*** («Звязда», 12.02.05). *Усё менш жадаючых гнаць самагонку на продаж і тым самым рызыкаваць быць заспетым, як кажуць,* ***на месцы злачынства*** («Звязда», 22.06.05). *Раней ужо прыгадвалася, што Навагрудак быў пабудаваны на літоўскіх землях* ***на месцы захопленага паселішча Жоўны*** (К.Тарасаў). *Як ні жахліва і безнадзейна было яму* [Глечыку] *заставацца ў адзіноце* ***на месцы смерці*** *сваіх таварышаў, але, забіўшы Аўсеева, ён адчуў, што прыйдзецца трываць да*

*канца* (В.Быкаў). *Часам **на месцы з'яўлення іконы** пачынала прабівацца скрозь зямлю крыніца, часам там проста капалі калодзеж* (Я.Крук). ↔ **На месцы, дзе/куды/адкуль; там, дзе/куды/адкуль.** || Прыслоўе: *Калі пагусцеў дождж, ніжэйшая вясёлка, з хмарай, якую яна абдымае, наблізілася да нашай лодкі, а вышэйшая засталася **на месцы*** (Я.Брыль). ◊ ***На месцы*** – там, дзе што-нібудзь адбылося ці будзе адбывацца (ТСБМ). ◊ ***Вочы на мокрым месцы*** – пра таго, хто часта плача. ◊ ***Душа не на месцы*** – трывожыцца аб чымці кім-небудзь. ◊ ***На голым месцы*** – там, дзе пуста, нічога няма (ТСБМ). ▬ *Невялікае селішча Скіп'ёўскае Пераброддзе ўзнікла **на голым месцы** пры вялікім Скіп'ёўскім лесе адразу пасля рэвалюцыі* (К.Чорны). ◊ ***На месцы злачынства*** – там, дзе адбылося штосьці нядобрае. ◊ ***На самым відным месцы*** – на месцы, якое кідаецца ў вочы (ТСБМ). ◊ ***На сваім месцы*** – адпавядаць свайму прызначэнню. ◊ ***На тым самым месцы*** – там, дзе адбывалася раней. ◊ ***Таптацца на адным месцы*** – не рухацца наперад, не развівацца, не ўдасканальвацца (ФСБМЛ). Рус. ***на месте** чего.*

**НА МЕСЦЫ-2 (Адз.л.)** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў + рэлят замены+: ***На месцы ўзмежка** саду з крапівой куслівай Цяпер гародчык быў маленькі і стракаты* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ***На месцы голых выганаў** засаджваюцца паркі* (К.Чорны). *Да канца першага ці пачатку другога тыдня **на месцы сыпу** з'яўляецца пласцінiстае лушчэнне...* (Асновы мед. ведаў). *Красаванне кветак жывое Застанецца **на месцы дрыгвы*** (У.Караткевіч). ↔ **На месцы, дзе; на месцы, адкуль; на месцы, куды.** Сін. *замест*. Рус. ***на месте** кого/чего.*

**НА МЕСЦЫ-3 (Адз.л.)** *каго* Род. Рэлят гіпатэтычнай замены: *Калі б гэта было сто гадоў таму назад, – сказаў Міхась, – я **на месцы Андрэя** выклікаў бы Івана Барысаглебава на дуэль* (У.Шахавец). Рус. ***на месте** кого.*

**НАМІНАЛАМ** *колькі адзінак* Наз. Дыменсіў: *Манета «60 год Перамогі» выпушчана **наміналам 50 рублёў** (сярэбраная) і адчаканена якасцю «пруф» і **наміналам 1 рубель** (медна-нікелевая) – «пруф-лайк» Паводле слоў Міхаіла Журавовіча, першая манета – сярэбраная і мае намінал 20 рублёў. Адчаканена яна якасцю «пруф з тампадрукаваннем»* («Звязда», 26.04.05). *Нацыянальны банк Беларусі 12 красавіка выпускае ў абарачэнне памятныя манеты «Вялікдзень» серыі «Святы і абрады беларусаў»: срэбную – **наміналам 20 рублёў**, пробай сплаву 925, масай 33,62 г, дыяметрам 38,61 мм; медна-нікелевую – **наміналам 1 рубель**, масай 16,00 г, дыяметрам 33,00 мм* (Інт.). Сін. *вартасцю*. Рус. ***номиналом** сколько единиц.*

**НА МОВЕ**[1] «*што»* Наз. Характарызатар-анамасіятыў: *Заўважым, што ў алгарытме, які запісаны ў сістэме Е-практыкум, не трэба задаваць літарным велічыням значэнні, якія ўтрымліваюць больш за 15 сімвалаў, а ў алгарытме, які запісаны* ***на мове Кумір пад ОО5****, літарныя канстанты і літарныя велічыні могуць утрымліваць да 255 сімвалаў* (падручн.). Сін. *мовай; пад сімвалам*. Рус. ***на языке «****что».*

**НА МОВЕ**[2] *чаго* / **НА** *якой* **МОВЕ** *чаго* / **НА** *якой* **МОВЕ** / **НА** *чыёй* **МОВЕ** Род. Характарызатар: *Спрачацца* ***на мове кулакоў****. ▬ Калі б марксізм загаварыў* ***на мове псіхалогіі****, што немагчыма паводле ягонай логікі, то ён бы назваў першасным матывам прагу нажывы* («Arche»). *Я па-ранейшаму ўсё сустракаю першы, і па-ранейшаму свет размаўляе са мною* ***на мове здарэнняў*** (А.Разанаў). *Псіхіка як своеасаблівы цэнтр і банк дадзеных успрымае інфармацыю, якая існуе* ***на мове вобразаў, сімвалаў, уяўленняў – на мове адзінкавага і канкрэтнага****, што фіксуецца пачуццямі* (А.Андрэеў). *Адгаманіла лета* ***на мове зор*** *малінавых* ***і кветак*** (П.Панчанка). *Народы ўсяго свету павінны гаварыць паміж сабой не* ***на мове гармат****, а* ***на мове мастацтва*** («Полымя»). || Назоўнік з прыназоўнікам: *Размаўляць* ***на мове*** *абарыгенаў.* Аказіян. Сін. *мовай/ю; у мове*. Рус. ***на языке*** *чего.*

**НА МОМАНТ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: ***На момант выхаду*** *працiўніка да Дняпра абарончыя пазіцыі на гэтым рубяжы не былі абсталяваны* (Энцыклапедыя гісторыі Беларусі, т.1). *Аб варунках станаўлення асобы Оскара мы ўжо згадвалі: яно завяршылася* ***на момант нараджэння*** (Е.А.Лявонава). *Афіцыйныя вынікі выбараў* ***на момант падпісання*** *нумара ў друк яшчэ не былі падведзены* («Звязда», 11.01.05). ↔ **На момант калі; на момант як.** Сін. *на дзень; на час.* Рус. ***на момент*** *чего.*

**НА МОМАНТ ПАЧАТКУ** *чаго* Род. Ускладн. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Падаецца, што* ***на момант пачатку нямецка-савецкай вайны*** *Станкевіч быў не надта задаволены вынікамі сваёй місіі* (Ю.Туронак. Пер. В.Кавалёвай). Сін. *на пачатку*. Рус. ***на момент начала*** *чего.*

**НА МЭЦЕ**[1] *што зрабіць* Інф. У складзе прэдыката з дзеясловам *мець.*: *Гутарка яўна* <u>*мела*</u> ***на мэце падняць*** *баявы дух, веру ў нашу перамогу* (І.Мележ). ↔ **На мэце каб.** Рус. ***иметь целью*** *что сделать.*

**НА МЭЦЕ**[2] *што* Він. У складзе прэдыката з дзеясловам *мець*: *...вайна справядлівая, незахопніцкая, вызваленчая, якая* <u>*мае*</u> ***на мэце абарону*** *народа ад знешняга нападу* (І.Ласкоў). Рус. *иметь* ***целью*** *что.*

**НА МЯЖУ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў: *Разгледзім выпадак, калі* ***на мяжу раздзелу*** *двух асяроддзяў падае гукавая хваля, інтэнсіўнасць якой роўна ...(пад вуглом а да нармалі)* (падручн.). Фіз. тэрм. Сін. *на месца.* Рус. ***на границу*** *чего.*

**НА МЯЖЫ[1]-1** *чаго* / **НА самай МЯЖЫ** *чаго* Род., мн.л. Час.: тэмпаратыў: *Мова і стыль сродкаў масавай інфармацыі* ***на мяжы стагоддзяў*** (загаловак). *Гэтая кніга этапная ў жыцці творцы. У ёй сабраныя вершы, напісаныя* ***на мяжы XX – XXI стагоддзяў*** (А.Сакалоўская). Сін. *на рубяжы*. Рус. ***на рубеже*** *чего.*

**НА МЯЖЫ[1]-2** *чаго* / **НА самай МЯЖЫ** *чаго* Род., адз. л. Прастор.: лакатыў: *Драма перасяленцаў з засыпаных радыяцыйным попелам мясцін – гэта і асабістая драма Наталлі Касцючэнкі, бо яе радзіма – вёска Іолча Брагінскага раёна – таксама аказалася* ***на самай мяжы зоны*** *адсялення* (А.Зэкаў). *Звон,* ***на самай крайняй мяжы свайго палёту****, закрануў ягоную галаву... Фама ўпаў...* (У.Караткевіч). Рус. ***на границе*** *чего.*

**НА МЯЖЫ[1]-3** *чаго* Род., адз. і мн. л. Характарызатар: інтэнсіў: *Я вельмі востра адчуваў грамадскую несправядлівасць яшчэ з маленства; у той час наша сям'я была* ***на мяжы выжывання****, асабліва цяжка было ў пасляваенныя галодныя гады* («ЛіМ»,26.03.04). *Менавіта таму Кулікоўская бітва і засталася ў людской памяці – рускія землі, заклікныя пабіць Мамая, далі для перамогі ўсё, што маглі даць, нічога не ўтаілі, выйшлі на поле Кулікова* ***на мяжы сваіх магчымасцей*** (К.Тарасаў). ↔ **На мяжы таго, каб**: *Быў* ***на мяжы таго, каб*** *кінуць усё гэта* (У.Караткевіч). Рус. ***на грани*** *чего;* ***на пределе*** *чего.*

**НА МЯЖЫ[2]** *колькі адзінак – колькі адзінак* Наз. Прыблізны квантытатыў: *Месяц таму рэйтынг спікера верхняй палаты парламенту Расіі і яго партыі Справядлівая Расія месяц таму балансаваў* ***на мяжы 12 – 15 працэнтаў*** («Наш Час»). Сін. *ад...да; паміж... і.* Рус. ***в пределах*** *скольких единиц.*

**НА МЯЖЫ З** *чым* / **НА самай**/*якой* **МЯЖЫ З** *чым* Тв. Прастор.: лакатыў адносна памежнага локума: *Здаралася, вясна чакала ў нейкім зусім далёкім ад дома месцы: у польскім лесе* ***на мяжы з Чэхіяй****, ля сцен Каложы, у цягніку дзесьці паміж Гомелем і Смаленскам* («Звязда», 24.03.05). *У той год я паступіў на завочны факультэт аддзялення журналістыкі БДУ, з Койданава (Дзяржынска), дзе адпрацаваў год пасля Магілёўскага культасветвучылішча, вярнуўся дамоў, на Касцюкоўшчыну, уладкаваўся загадчыкам клуба ў вёсцы Гаўрыленка, што* ***на самай мяжы з Расіяй*** («ЛіМ»). *Наш раён знаходзіцца* ***на мяжы з Расіяй****, і гэта стварае нам пэўныя*

*праблемы, якія на месцы вырашаць складана* («Звязда», 22.06.05). Сін. *паміж ... і*. Рус. ***на границе с*** *чем.*

**НА МЯЖЫ** *чаго* **З** *чым* Род. – Тв. Час.: тэмпаратыў: ***На мяжы верасня з кастрычнікам****, у перадчуванні шматлікіх праверак, выкліканых, не ў апошнюю чаргу, «справай Шарамета», усю інфармацыю з «газет» падчыстую згаблёўваюць* («Arche»). Сін. *паміж... і; у канцы... – пачатку; на мяжы... і*. Рус. ***на границе*** *чего* ***с*** *чем.*

**НА МЯЖЫ-1** *чаго* **І** *чаго* Род. Двухч. Ускладн. Час.: тэмпаратыў: *Адным з першых умацаваных храмаў на Беларусі быў Полацкі сафійскі сабор, перабудаваны* ***на мяжы 15 і 16 ст****. у 5-вежавы храм-замак* (Энцыклапедыя гісторыі Беларусі, т.1). ***На мяжы вясны і лета*** *адзначалі Зялёныя святкі – Сёмуху* («Звязда», 15.02.05). *Існавала нібыта па той бок жыцця:* ***на мяжы сённяшняга і мінулага, сённяшняга і будучага****...* («ЛіМ», 14.05.04). *Што гэта? Містыка? Даніна модным на Захадзе Джойсу і Прусту, у якіх героі жывуць* ***на мяжы рэальнага і ірэальнага?*** (А.Мальдзіс). *Я пакінуў, да волі ахвочы, марны клопат людскoе чаргі, каб мяне* ***на мяжы дня і ночы*** *прывіталі Айчыны багі* (С.Адамовіч). Сін. *паміж ... і*.Рус. ***на рубеже*** *чего* ***и*** *чего.*

**НА МЯЖЫ-2** *чаго* **І** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Я і сам не раз праходзіў каля таго нямецкага снарада без узрывальніка, вывернутага плугам з зямлі, які даўно ўжо ляжаў пры дарозе* ***на мяжы поля і лесу*** (В.Ліпскі). *З-пад сонца бацькоўскага сэрца, З цямрэчы нябыту На кірмаш мітусні і хлусні Спяшаюцца дзеці даверліва.* ***На мяжы аблокаў і долу*** *Заплаціўшы цвярозую мыту, Купляюць малечыя дні, Галодныя а ненажэрныя* (Р.Барадулін). Сін. *паміж ... і*. Рус. ***на границе*** *чего* ***и*** *чего.*

**НА МЯЖЫ ПАМІЖ** *чым* Тв., мн.л. Прастор.: лакатыў: ... ***на мяжы паміж паўправаднікамі*** (падручн.). Сін. *паміж*. Рус. ***на границе между*** *чем.*

**НА НАВУКУ** *каму* Дав. Фінітыў: бенефіцыянтыў-кансеквентыў: *Вялікі паэт, які будзе шчыра і таленавіта ўхваляць новы лад, значна карыснейшы ёй* [уладзе] *за дробнага бунтаўніка, пакаранага* ***на навуку іншым*** (Інт.). Сін. *у павучанне*. Рус. ***в поучение*** *кому.*

НА НАГРУЗКУ *колькі адзінак*

**НА НАГРУЗКУ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Вадзіцельскае крэсла ў аўтобусе разлічана* ***на нагрузку не больш чым 130 кілаграмаў*** («Звязда», 30.04.05). Рус. ***на нагрузку не более*** *скольких единиц.*

**НА** *колькі адзінак* **НАЗАД** / **НАЗАД НА** *колькі адзінак* Він. Ускладн. Квантытатыў + дырэктыў: *Я адпоўз* ***на даланю назад****, па-*

*куль не наткнуўся пятамі ззаду на туфлі Трэцяга Гульца, і прамерыў адлегласць разгону: козыр* (П. Гандке. Пер. Я.Балясіна). Рус. ***на** сколько единиц **назад.***

НА *колькі адзінак* НА ЗАХАД

НА *колькі адзінак* НА ЗАХАД АД *чаго*

НА *колькі адзінак* НА ЗАХАД ДА *чаго*

НА *колькі адзінак* НА ЗАХАД К *чаму*

НА *колькі адзінак* НА ЗАХАД ЗА *што*

НА *колькі адзінак* НА ПАЎДНЁВЫ ЗАХАД

НА *колькі адзінак* НА ПАЎДНЁВЫ ЗАХАД АД *чаго*

НА *колькі адзінак* НА ПАЎДНЁВЫ ЗАХАД ДА *чаго*

НА *колькі адзінак* НА ПАЎДНЁВЫ ЗАХАД К *чаму*

НА *колькі адзінак* НА ПАЎДНЁВЫ ЗАХАД ЗА *што*

**НА** *колькі адзінак* **НАПЕРАД** Він. Двухч. Ускладн. Час./Прастор: дыменсіў-патэнсіў: ***На тры гады наперад** у інстытуце складаюцца для Белага мора табліцы прыліваў* (газ.). *Ён – сапраўдны «інжынер чалавечых душаў», прадугледзеў амаль усё, пралічыў падзеі **на сто крокаў наперад*** («ЛіМ», 26.03.04). *Паэма Крапівы шмат у чым пераклікаецца з сатырычнай п'есай Уладзіміра Маякоўскага «Клоп», напісанай у 1928 годзе, галоўны герой якой таксама трапляе ў светлае заўтра, праўда, усяго **на пяцьдзесят год наперад** і трохі іншым спосабам* («Arche»). Рус. ***на ... вперед.***

НА *колькі адзінак* НА ПОЎДЗЕНЬ

НА *колькі адзінак* НА ПОЎДЗЕНЬ АД

НА *колькі адзінак* НА ПОЎНАЧ

НА *колькі адзінак* НА ПОЎНАЧ АД

**НА НАПРУЖАННЕ** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Па ДАСТ 2239-70 лямпы напальвання вырабляюцца **на напружанне 220 і 127 В** магутнасцю ад 15 да 1500 Вт, а для мясцовага асвятлення рабочых месц – **на напружанне 12 і 36 В** магутнасцю да 100 Вт з люстраным або дыфузным адлюстравальным слоем унутры колбы* (падручн.). Рус. ***на напряжение** сколько единиц.*

**НА НАПРУЖАННЕ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Некаторыя высакавольтныя дыёды разлічаны **на напружанне да 3000 В** на кожны пераход, а нізкавольтныя (з вадзяным ахалоджваннем) на токі ў дзесяткі тысяч ампер* (падручн.). Рус. ***на напряжение до** скольких единиц.*

**НА наступны / другі / трэці ... ДЗЕНЬ ПАСЛЯ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: таксісны тэмпаратыў + квантытатыў: ***На другі дзень пасля размовы** з Аляксеем падпалкоўнік Сяміжон паехаў у раённы цэнтр, які быў кіламетраў за пятнаццаць* (І.Мележ). ***На на-***

***ступны дзень пасля прыезду*** *мяне ўключылі ў брыгаду* (Г.Абуховіч). Сін. Род. без прыназоўніка: ***А наступнага дня*** *мы паехалі шукаць народных майстроў* (У.Караткевіч). Рус. ***на*** *какой* ***день после*** *чего.*

НА *колькі адзінак* НА ЎСХОД

**НА** *колькі адзінак/што* **НА ЎСХОД АД** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў + квантытатыў + напрамак: *Непадалёк і Дзявочая гара – гарадзішча Днепра-Дзвінскай культуры. Другая яе назва «Гарадок»: гэта* ***«на палову вярсты» на ўсход ад замка*** (У.Караткевіч). Рус. ***восточнее*** *чего*.

НА НЕАДПАВЕДНАСЦЬ каму/чаму

**НА НЕБАСХІЛЕ** *чаго* **/ НА** *якім* **НЕБАСХІЛЕ** *чаго* **/ НА** *якім* **НЕБАСХІЛЕ** Род. Лакатыў: камплетыў + рэлят уключэння: *Я не бачу, хто з маладых ці старых пісьменнікаў мог бы Вас замяніць. Такой постаці* ***на небасхіле беларускай паэзіі*** *пакуль што няма* (Р.Родчанка – Максіму Танку). Аказіян. Сін. *сярод; у*. Рус. ***на небосклоне*** *чего.*

**НА** *колькі адзінак* **– НЕ БОЛЬШ / НЕ БОЛЬШ –** *адзінак* **НА** *колькі* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Іх адлежнасць раздзяляе* ***Не больш – вератняў на два*** (Я.Колас). Рус. ***на*** *сколько единиц –* ***не более.***

**НА НЕ БОЛЬШ ЧЫМ** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Пакласці ў кіпень яйка* ***на не больш чым 30 секунд*** (Інт.). *Сточваць ружжо трэба да той пары, пакуль ударнік будзе «хавацца» у каробку* ***на не больш чым 1 мм*** (Інт.). Рус. ***на не более чем*** *сколько единиц.*

**НА НЕ БОЛЬШ ЧЫМ** *колькі адзінак* **АД** *якой адзінкі адлічэння* Він.-Род. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + дыстрыбутыў: *ЕВС рэкамендуе праводзіць акрэдытацыю* ***на не больш чым двух прадстаўнікоў ад аднаго выдання*** (Інт.). Рус. ***на не более чем*** *сколько единиц* ***от*** *какой единицы исчисления.*

**НА НЕ БОЛЬШ ЯК** Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Нашы аўтамабілі лёгка перамяшчаюцца са скорасцю 160/180 км/гадз., хоць загадзя дамаўляліся* ***на не больш як 140 км/гадз***. (Інт.). *Мы просім асобныя групы падаваць заяўкі* ***на не больш як пяць семінараў*** (Інт.). Рус. ***на не более чем*** *сколько единиц.*

**НА НЕКАРЫСЦЬ** *каго/чаго* Род. Фінітыў: адверсатыўны бенефіцыянтыў-кансеквентыў: *Намерамі прапагандысцкага фальшавання гісторыі* ***на некарысць беларусаў*** *Нарбут пераўзышоў усіх сваіх папярэднікаў* (А.Латышонак). Ант. *на карысць*. Сін. *у карысць.* Рус. ***во вред*** *кому.*

НА НІЗ *чаго*

**НА НІВЕ** *чаго* / **НА** *якой* **НІВЕ** *чаго* / **НА** *якой* **НІВЕ** Род. Лакатыў: *Ведаю, многія скажуць, што не ўсё так бясхмарна* ***на ніве выхавання*** *студэнцкай моладзі* («Звязда», 4.02.05). *Афармляючы кнігу, мастак стараецца ісці ў нагу з міжнароднымі працэсамі, маўляў: а што робіцца ў свеце* ***на ніве маёй прафесіі****?* («ЛіМ»). *Каб карэнным чынам змяніць сітуацыю на карысць беларусаў, ён быў той думкі, што трэба ствараць толькі такія школы, якія маглі б «прышчапляць вучням любасць да роднага краю, развіваць у іх пашану да таго народу, сярод каторага яны жывуць, і рыхтаваць з іх добрых, сумленных і працавітых работнікаў* ***на ніве беларускай культуры*** («ЛіМ»). *Асуджэнне само развеялася як дым перад фактам працы тэбэшэўцаў* ***на ніве культуры*** (М.Танк). *Мы ўсе дужа рады, што Ты не толькі жыў, здароў, але і так плённа працуеш* ***на ніве мастацтва****, знаёміш сваіх шматлікіх слухачоў са скарбамі роднай песні* (М.Танк – М.Забэйду-Суміцкаму). ■ *– Жадаю поспехаў* ***на высокароднай ніве асветы****, – пакланіўся аграном Рыце* (А.Васілевіч). ▲ *І пачалася праца, якую благаславіў вялебны ксёндз-пробашч Уладыслаў Завальнюк – вялікі рупліўца не толькі* ***на святарскай ніве****, але і* ***на ніве беларушчыны*** (А.Сакалоўская). Аказіян. Сін. *у сферы; на палетку.* Рус. ***на ниве*** *чего;* ***в сфере*** *чего.*

**НА-1** *колькі адзінак* **НІЖЭЙ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Квантытатыў + градуатар: *Нізкія гукі гучалі* ***на два таны ніжэй****, а высокія выклікалі з чорных нетраў скавытанне і свіст* (Н.Бабіна). *... зараз гэтая істота ляжыць разам з коньмі* ***на тры сажні ніжэй паверхні*** *праклятага месца* (У.Караткевіч). Рус. ***на*** *сколько единиц* ***ниже.***

**НА-2** *што* **НІЖЭЙ** *каго/чаго* / **НІЖЭЙ** *каго/чаго* **НА** *што* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Рэлят параўнання: *Дэлегацыю кнігавыдавецкіх работнікаў узначальваў Ігар Лапцёнак,* ***на ранг ніжэй*** *– Валерый Грышановіч* (С.Панізьнік). Сін. *на адзнаку ніжэй.* Рус. ***рангом ниже*** *чем.*

**НА** *што/які час* **ПА** *чым* Він. – Месн. Двухч. Ускладн. Час.: таксісны тэмпаратыў; першая частка сінтаксемы звычайна складае спалучэнне слоў *дзень, тыдзень, год* і г.д. з ад'ектывамі-канкрэтызатарамі тыпу *наступны, другі, трэці* і інш.: ***На другі дзень па вяселлі.*** ▬ *Толькі ўжо* ***на пятае лета па*** *ўзгаданым* ***абстрэле*** *Друі лівонцамі вялікі князь Кейстут, маючы ўласную «батарэю дзел парахавых», нібы дзікіх пчолаў з дупла, выкурваў рыцараў з Юрбарскага замка* (Г.Сагановіч). Сін. *на ... пасля.* Рус. ***на*** *чтокакое время* ***по*** *чем.*

**НА ПАВАДКУ Ў** *каго/чаго* Род. Канфірматыў: *Дзяржаўны орган не мусіць ісці* ***на павадку ў сілаў****, якія хочуць дэстабілізаваць*

*сітуацыю, распаліць у нашым грамадстве міжрэлігійную варожасць* («Наша ніва»). Аказіян. Сін. *на повадзе ў*. Рус. ***на поводу у** кого/чего*.

**НАПАВЕР** *каму* / *каму* **НАПАВЕР** Дав. Ускладн. Кандытыў + адрасат: рэцэпіент: *Душу анёлакрылую Бог **табе напавер** дае. Не абцяжар, чалавеча, крылы ў яе* (Р.Барадулін). Рус. ***на веру** кому.*

**НА ПАВЕРСЕ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Год, другі, меней або болей і неўзначай раптоўна пырскае і віруе гэта вада **на паверсе зямлі**, абаграваемая сонцам, непадатная марозам* (Ц.Гартны). ТСБПШ – спалуч. прыназ. у знач. прыназ. Сін. *на паверхні*. Рус. ***на поверхности** чего.*

**НА ПАВЕРХНІ-1** *чаго* / **НА ПАВЕРХНІ** Род. Лакатыў: *Дзякуючы таму, што Дэлез уводзіць «логіку сэнсу»,ёсць і чацвёртае вымярэнне сцвярджэння, чысты «сэнс-здарэнне», які настойліва вымыкаецца або проста месціцца ў сцвярджэнні, ды ёсць тым бесцялесным нечым (сэнсам) **на паверхні рэчаў*** (Д.Алькоўскі-Лэтц. Пер. П. Баркоўскага). *Разам з тым, яны працуюць з фрагментаванай уніфікаванай мовай, заснаванай на Быцці, і вынаходзяць **на паверхні бытнасцяў** постмадэрную тэорыю мовы; гэткую, што ўжо была сфармуляваная як мова ў мастацтве* (Д.Алькоўскі-Лэтц. Пер. П. Баркоўскага). Аказіян. Рус. ***на поверхности** чего.*

**НА ПАВЕРХНІ-2** *чаго* Род. Аб'ектны лакатыў: *Як пакінуць мне вас Гэтай ноччу бяздоннай, нямой, Зазірнуўшы сусвету Ў яго таямнічыя вочы, Каб світанак сустрэць **На паверхні зямелькі сваёй**, назаўсёды пакінуўшы Бераг бясконцае ночы* (А.Звонак). *Дзякуючы знашнім сілам **на паверхні Зямлі** ўтварыліся слаі рыхлых парод* (падручн.). *Унутры або **на паверхні дыэлектрыка** могуць знаходзіцца зарады, якія не ўваходзяць у састаў яго малекул* (навук.). ■ *Шырокая агрубелая далонь з цьмянымі варсінкамі і сінімі набраклымі вузламі адбілася **на бліскучай паверхні кафейніка*** (Т.Хадкевіч). Ант. *унутры*. Сін. *на; у*. Рус. ***на поверхности** чего.*

**НА ПАВЕРХНЮ** *чаго* Род. Аб'ектны дырэктыў-фініш: *20 ліпеня 1969 г. амерыканскі касманаўт Ніл Армстранг, адзін з трох членаў экіпажа касмічнага карабля «Апалон-11», першым з людзей ступіў **на паверхню Месяца*** (падручн.). *Час ад часу цераз вяршыні вулканаў **на паверхню Зямлі** выліваюцца патокі расплаўленых парод* (падручн.). Рус. ***на поверхность** чего.*

**НА ПАВЕСТКУ** *чаго* Род. Дэлібератыў-дырэктыў: *Таксама ставіцца **на павестку дня** вырашэнне беларускіх праблемаў, напрыклад, стварэння Цэнтру беларускай культуры ў Беластоку* («Наша ніва»). Канц. клішэ. Сін. *на парадак*. Рус. ***на повестку** чего.*

**НА ПАВЕСТЦЫ** *чаго* / **НА ПАВЕСТЦЫ** Род. Дэлібератыў-лакатыў: *17 – 19 верасня ў Вільнюсе* ***на павестцы дня*** *абмяркоўваліся такія пытанні, як «Еўрапейская ідэнтычнасць ці еўрапейская разнастайнасць»?* (Інт.). ▶***На павестцы*** *бываюць і такія тэмы, як расавая дыскрымінацыя* (Інт.). Сін. *на парадку*. Рус. ***на повестке*** *чего.*

**НА ПАГІБЕЛЬ** *каму/чаму* Дав. Адрасат: бенефіцыянтыў-кансеквентыў: *Ён* (каваль) *злыгаўся з д'яблам, робіць гадаў жалезных, куе крамолу* ***на пагібель людзям*** *тутэйшым, – палохаюць валадары* (У.Арлоў). Ант. *на радасць*. Сін. *на смерць; на гібель; на шкоду*. Рус. ***на погибель*** *кому.*

**НА ПАДБОЙ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Бедныя бедуіны, узгадаваныя сярод скаціны на непрыхільнай пясчанай зямлі, рушылі з пустыні* ***на падбой свету****, несучы з сабою запраўдную веру ў адзінага Бога і ягонага прарока Магамета* (Я.Пятроўскі). Аказіян. Сін. *на край*. Рус. ***на край*** *чего.*

**НА ПАДМОСТКАХ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Выступіць* ***на падмостках сцэны*** (ТСБМ). Сін. *на.* Рус. ***на подмостках*** *чего.*

**НА ПАДМУРКУ** *чаго* / **НА** *якім* **ПАДМУРКУ** Род. Характарызатар-аснова: *Па слову Ангельскага гімна, сапраўдны мір можа ўсталявацца толькі тады, калі ён будуецца* ***на падмурку Божага закону жыцця*** *і пры ўмове добрай волі людзей* (Мітрапаліт Філарэт). ▲ *Домік стаіць* ***на*** *высокім, складзеным з камення* ***падмурку*** *і зухавата пазірае да бляску прамытымі акенцамі на пасёлак* (Бяганская: ТСБМ). ↔ **На падмурку таго што.** Аказіян. Сін. *на; на грунце*. Рус. ***на фундаменте*** *чего.*

**НАПАДОБЕ** *каго/чаго* Род. Рэлят прыраўнівання: *Гэта* ***нападобе рабочай варты****, каб парадак трымаць* (В.Адамчык). ↔ **Нападобе таго як**. Сін. *кшталтам*. Рус. ***наподобие*** *кого/чего;* ***вроде*** *кого/чего.*

**НА ПАДСТАВЕ** *чаго* / **НА** *якой* **ПАДСТАВЕ** *чаго* / **НА** *якой* **ПАДСТАВЕ** Крытэрый характарызацыі, адносін: *Бог не ацэньвае чалавека* ***на падставе колеру скуры, мовы, адукацыі, банкаўскага рахунку, здольнасцяў ці іншых другасных рэчаў****, але робіць гэта паводле крытэрыяў нязменнай вартасці* (Арцыбіскуп Т.Кандрусевіч). *Інтэрпрэтацыя яго* [публіцыстычнага тэксту] *адбываецца* ***на падставе спецыфічных структур-сцэнарыяў****, выпрацаваных практыкай кантактавання на базе вопыту ўзаемадзеяння грамадства са СМІ* (В.І.Іўчанкаў). *Дыягназ устанаўліваюць* ***на падставе клінічных сімптомаў*** *хваробы і бактэрыялагічнага даследавання крыві ў гарачкавы перыяд* (Асновы мед. ведаў). *І вось на адным этапе нямецкі бок дазволіў плаціць ім* [вязням канлагераў] ***на падставе ўспамінаў*** («Звязда, 09.04.05). *Мы не ведаем,* ***на падставе якіх да-***

***ных і доказаў*** *суд прыйшоў да перакanання аб «праступнасці» нацыянальнае працы кс. Гадлеўскага* («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). ◊ ***На падставе*** *чаго* – зыходзчы з чаго, абапіраючыся на што-н. (ТСБМ). ↔ **На падставе таго што**. Сін. *па; зыходзчы з; абапіраючыся на*. Рус. ***на основании*** *чего.*

**НА ПАДТРЫМКУ** *каго/чаго* Ускладн. Аб'ект чакання + канфірматыў: *Як выканаўца гэтай справы* [уніі цэркваў] *Свідрыгайла мог разлічваць* ***на падтрымку рымскага папы****, а як вораг Гарадзельскай уніі – на дапамогу з боку імператара Зыгмунта і Тэўтонскага ордэна* (К.Тарасаў). Сін. *на*. Рус. ***на поддержку*** *кого/чего.*

**НА ПАД'ЕЗДЗЕ ДА** *чаго* Род. Прастор./Час.: ***На пад'ездзе да Менску*** *я перабраўся ў апошні вагон, каб бліжэй было бегчы да аўтавакзалу і з радасцю адзначыў, што цягнік набліжаецца да станцыі хвілін на пяць раней* (А.Мельнікаў). ***На пад'ездзе да Вільні*** *– у адной з корчмаў – у іх* [Францішка Скарыны і яго пляменніка Рамана] *нават да песні дайшло* (А.Лойка). Рус. ***на подъезде к*** *чему.*

НА ПАД'ЕЗДЗЕ К *чаму*

**НА ПАДЫХОДАХ ДА (Мн.л.)** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***На падыходах да Слоніма*** *гвардыі яфрэйтар М.У.Мірошнік паўтарыў подзвіг А.Матросава* (У.А.Нядзелька). Сін. *пад*. Рус. ***на подходах к*** *чему.*

**НА ПАДЫХОДЗЕ ДА (Адз.л.)** *чаго* Род. Прастор./Час.: лакатыў-тэмпаратыў: *Прачытала: нашы* ***на падыходзе да Мінска****, яна павінна пакінуць свой пост без дазволу немцаў і перачакаць у вызначаным месцы* («Звязда», 24.03.05). *І на гэты раз* ***на падыходзе да цэлі*** *самалёты раздзяліліся: частка іх ударыла на лініі абароны, астатнія, прарываючыся праз запынялъны агонь зенітак, рынуліся на пераправу* (І.Шамякін). Сін. *пад; каля*. Рус. ***на подходе к*** *чему.*

НА ПАДЫХОДЗЕ К *чаму*

**НА ПАЖАР / НА ПОЖАР** *чаго* Род. Аб'ектн.; у складзе апісальнага прэдыката, выражанага звязаным словазлучэннем: *Ліць ваду на пожар злосці* – мірыць каго-небудзь. ▬ *А сёстры Юзіка цягнулі За вушы з двух бакоў і білі. Але іх старшыя мірылі, –* ***На пожар злосці*** *<u>лілі воду</u> і замацоўвалі так згоду: – ну, пацалуйцеся вы з браткам! – І ўсё йшло зноў сваім парадкам* (Я.Колас). Аказіян. Сін. *на.* Рус. ***на пожар*** *чего.*

**НА ПАЗІЦЫІ (Він. мн.л.)** *каго* / **НА** *якія* **ПАЗІЦЫІ** *каго* / **НА** *чые/якія* **ПАЗІЦЫІ** Род. Аб'ектн.: дырэктыў-фініш: *24 чэрвеня, на досвітку,* ***на пазіцыі ворага*** *абрушылася ўся моц артылерыі дывізій, карпусоў і армій* («Памяць»). ↔ **На пазіцыі адкуль; на пазіцыі дзе; на пазіцыі куды.** Сін. *на*. Рус. ***на позиции*** *чего.*

**НА ПАЗІЦЫІ (Месн. адз.л.)** *чаго* / **НА** *якой* **ПАЗІЦЫІ** *чаго* / **НА такой** */якой* **ПАЗІЦЫІ** Род. Канфарматыў: *Стаяць **на пазіцыі лібералізацыі цэн**. Уласнікі з'яўляюцца натуральнымі саюзнікамі кандыдата ў Прэзідэнты, які грунтоўна стаіць **на пазіцыі ідэалогіі сацыяльнай гармоніі*** (Інт.). ■ *Усе паэты стаялі **на цвёрдай пазіцыі змагання** за адраджэнне Беларусі ў самым шырокім значэнні гэтага слова* (А.Іверс). ▲ *Дастаткова таго, што Ён усемагутны. У такім выпадку павінна быць прынята ўсё, што Ён чыніць альбо дапускае. Менавіта **на такой пазіцыі** стаіць біблейскі Іоў* (Інт.). ***На пазіцыі, прыбліжанай да народнафронтаўскай**, стаялі Адам Станкевіч, Ян Пазьняк, Янка Шутовіч, дольф Клімовіч, Язэп Найдзюк* (М.Танк). ↔ Н**а пазіцыі таго што; на той пазіцыі што.** Сін. *на пункце гледжання; да думкі*. Рус. ***на позиции** кого/чего.*

**НА ПАЗІЦЫЮ (Адзін.л.Він.)** *каго/чаго* / **НА** *якую* **ПАЗІЦЫЮ** *каго/чаго* / **НА** *чыю* **ПАЗІЦЫЮ** Род. Канфірматыў: *Сіноды біскупаў мусілі азірацца **на пазіцыю Курыі*** (Інт.). Сін. *на думку.* Рус. ***на позицию** кого.*

**НА ПАЗІЦЫЯХ (Мн.л.Месн.)** *каго/чаго* / **НА** *якіх* **ПАЗІЦЫЯХ** *чаго* / **НА** *якіх/чыіх* **ПАЗІЦЫЯХ** Род. Канфарматыў: ***На пазіцыях сацыялістычнага рэалізму** цвёрда стаяў Васіль Івашын* («Новы час»). *Мікалайчык ужо не стаяў **на пазіцыях прызнання** за ўсходнюю мяжу Польшчы дэмаркацыйнай лініі, усталяванай Рыжскай дамовай 1921 г.* (Інт.). ↔ **На пазіцыях таго што.** Сін. *да пункту погляду*. Рус. ***на позициях** чего.*

НА ПАЗНАЦЫ *колькі адзінак*

**НА** *колькі адзінак* **ПАЗНЕЙ** Він. Двухч. Ускладн. Квантытатыў: рэлят рознасці + градуатар: *Самы хуткі конь, з тых, хто прыняў удзел у забегу, прышоў на фініш **на 12 хвілін пазней*** (Інт.). Сін. – Тв. без прыназоўніка: *колькімі адзінакамі пазней.* Рус. *сколькими единицами **позже**.*

**НА ПАКАЗ** *каму/чаму* / **НАПАКАЗ** *каму/чаму* / *каму/чаму* **НАПАКАЗ** Дав. Адрасат: бенефіцыянтыў-фінітыў: *Тут я ўжо ўсё нутро яго выстаўлю **на паказ людзям**, навыварат выверну, як панчоху* (К.Крапіва). *Як той казаў – вайна не толькі лье кроў, але і кожную брудную душу выверне **на паказ свету*** (К.Чорны: ППШ). *Храбрыя з гонарам, **усім напаказ**, насілі на тварах сваіх сінякі* (П.Броўка). *Ці то, зняўшы апранаху, я ў паўдзённай спёкі час цела грэшнае **Манаху** выстаўляю **напаказ*** (К.Крапіва). ТСБПШ – спалуч. наз. з прыназ. у знач. прыназ. Рус. ***напоказ** кому.*

**НА першай/другой/гэтай/той/левай/правай ПАЛАВІНЕ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў: *Воддаль, **на другой палавіне***

***цэха**, дзве жанчыны ў паласатым убранні паставілі на дол насілкі і, мабыць зацікаўленыя, пужліва чакалі, што будзе далей* (В.Быкаў). Рус. ***на половине*** *чего.*

**НА ПАЛАЖЭННЕ** *каго/чаго* Род. Дырэктыўны рэлят прыраўнівання: *Трапіць* ***на палажэнне бежанца.*** *Перайсці* ***на палажэнне надзвычайнай сітуацыі***. Русізм. Сін. *у становішча; на становішча*. Рус. ***на положение*** *кого/чего.*

**НА ПАЛАЖЭННІ-1 (Адз.л.Месн.)** *каго/чаго* / **НА** *якім* **ПАЛАЖЭННІ** *каго/чаго* / **НА** *якім* **ПАЛАЖЭННІ** Род. Лакатыўны рэлят прыраўнівання: *Беларусаў вучылася ў той гімназіі абмежаваная колькасць, яны былі* ***на палажэнні вучняў другога гатунку*** (У.Калеснік). *14 жніўня 1881 г. было ўведзена ў дзеянне «Палажэнне аб мерах па ахове дзяржаўнай бяспекі і грамадскага спакою», па якому любая мясцовасць і ў любы час маглі быць аб'яўлены* ***на палажэнні ўзмоцненай або надзвычайнай аховы*** (Інт.). Русізм. Сін. *у якасці; у статусе.* Рус. ***на положении*** *кого/чего.*

**НА ПАЛАЖЭННІ-2 (Мн.л.Він.)** *каго/чаго* / **НА ПАЛАЖЭННІ З** *чаго* / **НА** *якія* **ПАЛАЖЭННІ** Род. Ускладн. Канфарматыў + аўтарызатар: *Л.Салавей абапіраўся галоўным чынам* ***на палажэнні выдавецкай рэцэнзіі*** *М.Лужаніна на гэты твор* (Стэнаграма пасяджэння СПБ). Канц. клішэ.Сін. *на рашэнні; на вывады.* Рус. ***на положения*** *кого/чего.*

**НАПАЛАМ З** *чым* Тв. Камітатыў: *Мы пяклі праснакі* ***напалам з лебядою*** *і чакалі вясны, каб адтала кара* (П.Броўка). *Я выграбаю, вышкрабаю рэшту* ***напалам з*** *тлустым сляпушчым* ***святлом****, да металёвага бляску* («Arche»). *Каб неяк процістаяць захворванню, можна выкарыстаць тытунёвы пыл, чысты ці* ***напалам з вапнай*** (Звязда», 25.06.05). *Самалёты карныя Над галавой. Туманы, сатканыя* ***напалам з крывёй*** (У.Лісіцын). *Сяўрук ужо адступіў крыху назад, бо нехта, мусіць знячэўку, разоў два сыпануў на ногі мокрай,* ***напалам з глеем*** *зямлі* (А.Кулакоўскі). *Улетку па гэтай дарозе вазілі з паплавоў сена, мяккае, як воўну, жыта* ***напалам з гірсой і мяцёлкай*** (А.Асіпенка). ТСБМ – прысл. Сін. *напалову з.* Рус. ***наполовину с*** *чым.*

**НАПАЛ З** *чым* Тв. Камітатыў: *Направа абсеяныя шнуры: ярыну ўсю пакрывае свірэпка, жыта* ***напал з гірсой і званцом*** *пагерсана градамі* (Я.Купала). ТСБМ – прысл.; ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ; размоўн. Сін. *напалам з.* Рус. ***пополам с*** *чем.*

**НА ПАЛЕТКУ** *чаго* Род. Лакатыў перан.: *Якой бы спрэчнай не была постаць Вінцэнта Гадлеўскага* ***на палетку беларускага нацыянальнага адраджэння****, ды толькі нельга згадзіцца з тым, што «кс. Вінцэнт Гадлеўскі быў вялікай ахвярай на нашым нацыяналь-*

*ным аўтары не толькі як мучаннік, але і як змагар вялікага стылю за вызваленне беларускага народу»* («Гарадзенскія запісы», 1993 вып.1). Аказіян. Сін. *на ніве.* Рус. ***на ниве*** *чего.*

**НА ПАЛІЦАХ** *чаго* Род. Аб'ектны лакатыў: партытыў + камплетыў: *Я ганаруся тым, што* ***на паліцах маёй бібліятэкі*** *стаіць большасць гэтых кніг са шчырымі сяброўскімі надпісамі аўтара* (А.Асіпенка). Аказіян. Сін. *у.* Рус. ***на полках*** *чего.*

**НА ПАЛОВЕ АДЛЕГЛАСЦІ ПАМІЖ** *чым* **І** *чым* Двухч. Ускладн. Прастор.: квантытатыў + лакатыў адносна двух локумаў: ***На палове адлегласці паміж б і*** *Цэфея, недалёка ад прамой, што злучае іх, ёсць унікальная зорка* (К.Цыркун). Астр. тэрм. Рус. ***на половине расстояния между*** *чем* ***и*** *чем.*

**НА ПАЛОВУ** *чаго* Род. Характарызатар: рэлят колькаснага прыраўнівання: *Абапёршыся* ***на палову вышыні*** *на рукі, ён яшчэ разглядае здымкі і малюнкі, надпісы, напісаныя і выдрапаныя на сценах навокал* (П. Гандке. Пер. Я.Балясіна). Рус. ***на половину высоты*** *чего.*

**НАПАЛОВУ З** *кім/чым* Тв. Характарызатар: камітатыў-суагенс: *Да гэтага часу мы ўжо стала жылі ў адным доме з дзядзькам Янкам у Мінску па вуліцы Кастрычніцкай, які ў канцы 1926 года быў куплены Іванам Дамінікавічам* ***напалову з сястрой Леакадзіяй*** (Я. Раманоўская). Сін. *разам з.* Рус. ***наполовину с*** *кем/чем.*

**НА ПАМЕЖЖА-1** *чаго* **І** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш адносна двух локумаў: *Калі вы ўпершыню трапілі* ***на памежжа Беларусі і Польшчы****, якія ўражанні яно выклікала ў вас?* («Голас Радзімы»). Сін. *на мяжу*. Рус. ***на пограничье*** *чего* ***и*** *чего.*

**НА ПАМЕЖЖА-2** *чаго* **І** *чаго* Род. – Род. Двухч. Ускладн. Час.: тэмпаратыў: *Час будаўніцтва ўсяго комплексу прыпадае, хутчэй за ўсё,* ***на памежжа 1665 г.*** *(дата выдзялення іезуітам пляца)* ***і 1692 г.*** *(калі пачалося ўзвядзенне званіцы)* («Наша вера»). Сін. *на мяжу; на прамежак.* Рус. ***на рубеж*** *чего* ***и*** *чего.*

**НА ПАМЕЖЖЫ-1** *чаго* **І** *чаго* Род.-Род. Мн.л. Двухч. Ускладн. Час.: тэмпаратыў адносна двух часавых кропак: *Усе, каму прыйшла ў галаву ідэя выдаць гэтую анталогію* ***на памежжы 2002 і 2003 гадоў****, ушаноўваюць сотыя ўгодкі аднаўлення друкавання беларускіх кніг самімі беларусамі* (А.Сідарэвіч). Сін. *на рубяжы*. Рус. ***на рубеже*** *чего* ***и*** *чего.*

**НА ПАМЕЖЖЫ-2** *чаго* **І** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна двух локумаў: *Сабачатнікі на асфальтаванку не выходзяць, гуляюць глыбей,* ***на памежжы пусткі і лесапаласы*** (А.Казлоў).Сін. *на прамежку*. Рус. ***на пограничье*** *чего* ***и*** *чего.*

**НА ПАМЯТКУ АБ** *кім/чым* Месн. Ускладн. Фінітыў + дэліберaтыў: *Курортнікі фатаграваліся* ***на памятку аб поўдні,*** *звычайна, гуртам* (Хомчанка: ТСБМ). ↔ **На памятку аб тым, што; на памятку пра тое, што; на памятку што**: *Яму імя Касцюшкаўскаё далі* ***На памятку, што*** *ў час ваенны нарадзіўся* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Параўн.: ***на памятку аб ваенным часе*** *нараджэння.* Сін. *на ўспамін аб*. Рус. ***на память о*** *чем.*

НА ПАМЯТКУ ПРА што

**НА ПАМЯЦЬ / НА доўгую / добрую ПАМЯЦЬ** *каму* Ускладн. Фінітыў + адрасат: *Барыс Роланд надпісаў* ***мне на памяць*** *чарговую кніжку сваей прозы «Ні эліна, ні іўдзея...» Скразны герой ягоных апавяданняў – спачатку яўрэйскі хлопчык 60-х, потым падлетак 70-х, юнак 80-х, яўрэйскі мужчына канца XX стагоддзя* (А.Гаўрон). *Чытаю надпісы: «****На памяць лепшаму сябру*** *Паўлу ад Гаўрылы Ф. У дні сумеснай службы, г. Штэнсдорф»* (С.Шаўцоў. «Звязда», 28.04.05). *З усмешкай прадбачлівай Евы* [манашка] *падае* ***на памяць пану афіцэру*** *фотакартку* (Л.Дранько-Майсюк). Маўленчаэтыкетнае клішэ. Рус. ***на память*** *кому.*

**НА ПАМЯЦЬ АБ** *кім* Месн. Фінітыў + дэліберaтыў: ***На памяць аб любімай жонцы*** *Караль насыпаў курган, які быў мініяцюрай кургана Касцюшкі ў Кракаве* («Ave Maria»). Сін. *на ўспамін аб*. Рус. ***на память о*** *чем.*

**НА ПАРАДАК** *чаго* Род. Дэліберaтыў-дырэктыў: ◊ *Ставіць* ***на парадак дня.*** ▬ *Жыццё ж тым часам ідзе далей, ставіць* ***на парадак дня*** *новыя праблемы* (А.Сабалеўскі). *Мэты вайны фашысты не хавалі пад нацыянальнымі праблемамі: яны ставілі іх* ***на парадак дня****, каб утрымаць захопленыя тэрыторыі* («Звязда», 4.02.05). Рус. ***на повестку*** *чего.*

**НА ПАРАДАК ВЫШЭЙ ЗА** *каго/што* Род. Ускладн. Квантытатыў-рознасць + кампаратыў: *У большасці выпадкаў беларускія мастакі выглядаюць у дзіцячых кніжках* ***на парадак вышэй за аўтараў*** («ЛіМ»,12.03.04). Рус. **на порядок выше** *кого/чего.*

**НА ПАРАДКУ** *чаго* Род. Дэліберaтыў-лакатыў: ◊ *Стаяць* ***на парадку дня. На парадку дня*** *стаяла стварэнне савецкай інтэлігенцыі* («Arche). Сін. *на павестцы.* Рус. ***на повестке*** *чего.*

**НА ПАРОГ** *чаго* / **НА** *які* **ПАРОГ** *чаго* **/ НА** *які* **ПАРОГ / НА ПАРОГ** Род. Прастор. перан.: дырэктыў-фініш: *Пастаяннае адчуванне зямлі сваёй – «****на парог радзімы*** *павярнуся» – дыктуе патрэбу тварыць* («Мая Беларусь»). ▶*Маладая вясна ідзе* ***на парог,*** *Спяваючы песні сонцу і небу* (Ю.Гушчынская). Рус. ***на порог*** *чего.*

**НА ПАРОЗЕ-1** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Мы вылезлі ля ганку з абодвух калёсаў, з'явіўся Вацлаў і падбег да будучай жонкі, каб прывітаць **на парозе свайго дому** – і нас прымаў з прыязнай, вельмі спакойнай гжэчнасцю* (В. Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). Сін. *каля; перад*. Рус. ***у порога*** *чего.*

**НА ПАРОЗЕ-2** *чаго* / **НА самым ПАРОЗЕ** *чаго* Род. Час: фазавы тэмпаратыў – пачатковая кропка адлічэння часу: *Мужчына **на парозе трыццацігоддзя*** (Г. Мэт'юз. Пер. Ю.Марголіна). *Лабановіч быў хлопец крэпкі, моцна зросся з зямлёю і жыццём, любіў гэтае **жыццё, на парозе якога** ён стаяў і росквіт якога для яго толькі зачынаўся* (Я.Колас). *Зараз мы знаходзімся **на парозе рэформы** вышэйшай школы* («Звязда», 14.04.05). *І ёй* [Валянціне Нікіцінай] *ужо **на парозе абароны** кандыдацкай дысертацыі, не знайшлося месца для працы ў нашым Інстытуце* (А.Сямёнава).■ *Так **на самым парозе жыцця** чалавек быў пляснуты няўмольным лёсам у непралазную гразь бяды і згрызот* (С.Майхровіч). Аказіян. Сін. *у пачатку; на пачатку*. Рус. ***на пороге*** *чего.*

**НА ПАРОЗЕ-3** *чаго* Род. Час: фазавы тэмпаратыў – гранічная кропка адлічэння часу: ■ *Не спаткаліся тут між палёў, між разорамі, не сустрэціцца ім **на пясчаным парозе жыцця*** (М.Танк). Сін. *у канцы; на мяжы; пад канец*. Рус. ***на пороге*** *чего.*

**НА ПАРОЗЕ** *чаго* **І** *чаго* Род. – Род. Двухч. Ускладн. Лакатыў перан. адносна двух локумаў: *Чалавек зможа многае, калі ў любой сітуацыі здолее заставацца самім сабою. А такія сітуацыі ў першую чаргу ствараліся ў экстрэмальных умовах, **на парозе «жыцця і смерці»,** на рубяжах дабра і зла, вернасці і здрады, на мяжы чалавечых мажлівасцей* (Інт.). Сін. *на мяжы*. Рус. ***на границе*** *чего.*

**НА ПАРУ З-1** *кім* Тв. Камітатыў-суагенс: *Другі раз, гадоў праз дзесяць пасля прыведзенага выпадку, узнікла гаворка, што секцыя паэзіі збіраецца вылучыць на прэмію маю новую кнігу паэзіі – і тут жа Ніл Гілевіч, у чые планы гэта ніякім чынам не ўваходзіла, усчаў крык, што я «пераходжу дарогу» выдатнай паэтцы, сваёй сяброўцы, і я, глыбока абражаная, зняла сваю кнігу нават з абмеркавання (у адрозненне ад шаноўнага Ніла Сымонавіча, які **на пару з Генадзем Бураўкіным** «спіхнуў» з дарогі Уладзіміра Караткевіча, каб падзяліць прэмію, а Караткевіча «ушанаваць» толькі пасля смерці)* (Т.Бондар). *Аркадзь Куляшоў... **На пару з К.Чорным** кансультаваў маладых у Саюзе пісьменнікаў* (М.Скобла). *Нагавіцы выкручвалі **на пару з Лябёдкам** і круцілі іх да тае пары, пакуль штаны не затрашчалі* (В.Мудроў). Сін. *разам з.* Рус. ***на пару с*** *кем.*

**НА ПАРУ З-1** *кім* Тв. Камітатыў-суэкзісцыенс: *Шчыра кажучы, у кожным з нас недзе глыбока-глыбока ўсё-такі сядзіць сентыментальны хлюпік* ***на пару з летуценным рамантыкам*** (Ю.Шастак). Сін. *разам з; у саюзе з; у спалучэнні з.* Рус. ***вместе с*** *кем.*

**НА ПАСАДЗЕ** *каго* Род. Лакатыўны кваліфікатыў: *А дзесяцігадовая праца* ***на пасадзе віцэ-прэзідэнта*** *ўсёй Акадэміі навук: колькі там давялося траціць нерваў і часу, каб усе гуманітарныя навукі рэспублікі «жылі» і развіваліся суладна з патрабаваннямі часу* («Звязда», 15.02.05). *За нейкі год працы* ***на пасадзе старшыні*** *райвыканкам В.Дмітраніца паспеў узяць толькі з прадпрымальніка І.Міраноўскага каля 23 тысяч долараў хабару* («Звязда», 9.06.05). *Жыгімонт не зацвердзіў Глінскага* ***на пасадзе дворнага маршалка*** (К.Тарасаў). Сін. *у якасці.* Рус. ***в должности*** *кого.*

**НА ПАСАДУ (Адз.л. Він.)** *каго* Род. Дырэктыўны кваліфікатыў: *Але гэта ідзе з тых савецкіх часоў, калі існавала разнарадка – дзве жанчыны ў кабінет міністраў, пару ў аблвыканкам –* ***на пасаду адказных сакратароў*** (Р.Пермякоў). *Учора Вярхоўная рада Украіны зацвердзіла Юлію Цімашэнка* ***на пасаду прэм'ер-міністра*** («Звязда», 5.02.05). *Яго* [Івана Вахрамеева] *шэсць разоў перавыбіралі* ***на пасаду гарадскога галавы*** (В.Мядзведзева). *У 1768 годзе Жэлібера выбіраюць* ***на пасаду прафесара*** *анатоміі, хірургіі і натуральнай гісторыі медычнага каледжа ў Ліёне* (А.Мілінкевіч). *Былы камісар партызанскага атрада Іван Якаўлевіч Дабрыян паклікаў мяне* ***на пасаду сакратара гарсавета*** (А.Іверс). Сін. *у якасці*; Тв. без прыназоўніка: *сакратаром гарсавета*. Рус. ***на должность*** *кого.*

**НА ПАСАДЫ (Мн.л. Він.)** *каго* Род. Дырэктыўны кваліфікатыў: *Ястрабцоў запрасіў сабе ў міністра казённую камандзіроўку ў Маскву дзеля агляду шляхетнгых пансіёнаў з той мэтай, каб запрасіць «адукаваных іншаземцаў»* ***на пасады пакаёвых наглядальнікаў*** *у шляхетныя пансіёны Гродзенскі і Навагрудскі* («Гарадзенскія запісы», 1993 вып.1). Сін. *у якасці*. Рус. ***на должности*** *кого* (мн.).

**НА** *якім часе* **ПАСЛЯ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: тэмпаратыў: *Іншыя дні асвячэння вады, акрамя Вадохрышча, называліся «малымі»: ... у суботу напярэдадні Вялікадня, у дзень Прапалавення (серада* ***на трэцім пасля Вялікадня тыдні****)* («Звязда», 4.01.05). Рус. ***в*** *какое время* ***после*** *чего.*

**НА** *які час* **ПАСЛЯ ЗАВЯРШЭННЯ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Выпісваюць хворых ... пры адмоўных выніках бактэрыялагічнага даследавання макроты, слізі з насаглоткі, пунктату з бубона, узятых* ***на 2-, 4- і 6-ы дзень пасля***

***завяршэння этыятропнай тэрапіі*** (Асновы мед. ведаў). Сін. *у... пасля завяршэння.* Рус. ***на*** *какое время* ***после завершения*** *чего.*

**НА ПАСЯРОДАК** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Казакі высунулі стол* ***на пасяродак хаты*** *і накрылі яго чорным сукном* (М.Гарэцкі). Сін. *на сярэдзіну; пасярод.* Рус. ***на середину*** *чего.*

НА ПАСЯРОДКУ *чаго*

**НА ПАТРЭБУ[1]-1 (Адз.л. Він.)** *каго* Род. Фінітыў: бенефіцыянтыў: *Сёлетні лаўрэат брытанскі драматург Гаральд Пінтар пазбегнуў патрэбы каструяваць* ***цуд на патрэбу публікі*** (Інт.). *Масавая культура творыцца* ***на патрэбу шырокіх абывацельскіх колаў*** *і таму мае наўмысную ідэйна-эстэтычную спрошчанасць* (Л.Вашко). Сін. *на пацеху; дзеля*. Рус. ***на потребу*** *кого/чего.*

**НА ПАТРЭБУ[1]-2 (Адз.л. Він.)** *каго/чаго* Род. Фінітыў: дэстынатыў: *Цела сяляўкі падоўжанае, сціснутае з бакоў, пакрытае тонкай бліскучай луской (з якой здабываюць гуанін* ***на патрэбу біжутэрнай вытворчасці)*** (падручн.). *Гэта значыць, што зроблены ўсе неабходныя аналізы, што новая порцыя палескага паліва можа ісці* ***на патрэбу народнай гаспадаркі*** (В.Вольскі). Сін. *для.* Рус. ***на нужды*** *чего.*

**НА ПАТРЭБУ[2] (Адз.л. Він.)** *каму* Фінітыў: бенефіцыянтыў: *Пачаліся напады на паштовыя эстафеты, рэквізіцыя ўрадавай пошты (потым яе звычайна палілі) і экспрэпрыяцыя грошай* ***на патрэбу паўстанню*** (У.Караткевіч). Сін. *на патрэбы*. Рус. ***на нужды*** *кому.*

**НА ПАТРЭБЫ (Мн.л. Він.)** *каго/чаго* Род. Фінітыў: дэстынатыў: *10 мільёнаў долараў было выдзелена* ***на патрэбы ваенных шпіталяў*** («Звязда», 1.02.05). *Характар забудовы гандлёвых крамаў на Рынку мог змяніць прывілей 1597 г. Жыгімонта III, які дазволіў зрабіць цагельню ў горадзе з мэтаю выкарыстання матэрыялу* ***на патрэбы будавання*** *важных гарадскіх аб’ектаў (ратушы, крамы), манастыроў і г.д.* (Ю.Гардзееў). *Наўрад ці такая праца* ***на патрэбы манастыра*** *задавальняла Сімяона Полацкага* (К.Тарасаў). Сін. *на карысць*. Рус. ***на нужды*** *кого/чего.*

**НАПАЎ З** *кім/чым* Тв. Камітатыў: *Скокам-бокам,* ***напаў з горам*** *наспеў годзік і дваццаты, быў хлапцом – сказаць не сорам!* (Я.Купала: ППШ). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ.; абл. Сін. *напалам з.* Рус. ***пополам с*** *чем.*

**НА ПАЎДНЁВА-ЎСХОДНІМ БАКУ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў + напрамак: ***На паўднёва-ўсходнім баку нябеснага купала****, злева ад Ліры, – сузор'е Лебедзя* (К.Цыркун). Рус. ***на юго-восточной стороне*** *чего.*

**НА ПАЎДНЁВЫ ЗАХАД АД** *чаго* / **НА ПдЗ АД** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў + напрамак: ... *Магчыма, што недалёка* ***на паўднёвы***

***захад ад берштаўскай царквы**. Там, на пагорку пад назвай «дварэц» Генадзем Семенчуком былі знойдзены фрагменты кафлі* (С.Токць). *Неўзабаве двыізія атрымала загад заняць абарону **на паўднёвы захад ад Віцебска** і ва ўзаемадзеянні з суседам справа і злева спыніць наступленне немцаў* («Звязда»: ТСБМ). Рус. **юго-западнее**.

НА ПАЎДНЁВЫ ЗАХАД ДА *чаго*

НА ПАЎДНЁВЫМ БАКУ *чаго*

**НА ПАЎДНЁВЫ ЎСХОД АД** *чаго* / **НА ПдУ АД** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў + напрамак: *На наступны дзень вораг акружыў левафланговыя часці 10-й арміі **на ПдУ*** [паўднёвы ўсход] ад Ваўкавыска (Энцыкл. гіст. Беларусі). *Горад Розэнгайм ляжыць у прыальпійскай даліне над рэчкаю Ін **на паўднёвы ўсход ад Мюнхену*** (падручн.). Рус. ***юго-восточнее** чего*.

НА ПАЎДНЁВЫ ЎСХОД ДА *чаго*

НА ПАЎДНЁВЫ ЎСХОД ЗА *чым*

НА ПАЎДНЁВЫ ЎСХОД К *чаму*

НА ПАЎДНЁВЫ ЎСХОД ПАСЛЯ *чаго*

**НА ПАЎНОЧНЫ ЗАХАД АД** *чаго* / **АД** *чаго* **НА ПАЎНОЧНЫ ЗАХАД / НА ПАЎНОЧНЫ ЗАХАД** Род. Прастор.: лакатыў + напрамак: *Да зыходу дня 17 ліпеня часткі 153-е стралковае дывізіі (камандзір палкоўнік А.А.Шчэннікаў) выйшлі на дзяржаўную мяжу СССР **на паўночны захад ад Сапоцкіна*** (У.А.Нядзелька). *Размешчаны на мапе непадалёк ад Бармуніі (**на паўночны захад**) горад «Лунса» (аркуш 54) Рыбакоў лічыў Луцкам* (Інт.). Рус. ***северо-западнее** чего.*

*колькі адзінак* **НА ПАЎНОЧНЫ ЗАХАД АД** *чаго* Наз. – Род. Ускладн. Квантытатыў + лакатыў + напрамак: *Крывая вежа, Капернік і пернік – гэта тры адметныя рысы гораду Торунь, якія размешчаны на рацэ Вісла – **200 кіламетраў на паўночны захад ад Варшавы*** (Радыё «Палонія»). Рус. *сколько единиц **юго-западнее** чего.*

НА ПАЎНОЧНЫ ЗАХАД ДА *чаго*

НА ПАЎНОЧНЫ ЗАХАД ЗА *чым*

НА ПАЎНОЧНЫ ЗАХАД К *чаму*

НА ПАЎНОЧНЫ ЗАХАД ПАСЛЯ *чаго*

**НА ПАЎНОЧНЫ ЎСХОД АД** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў + напрамак: *Клім ... атрымаў ва ўзнагароду валоданне князёў Шуйскіх **на паўночны ўсход ад Масквы*** («Arche»). *У 1908 годзе на чыгуначнай станцыі Бязданы, што **на паўночны ўсход ад Вільні**, баявая арганізацыя Польскай Партыі Сацыялістычнай здзейсніла напад на расейскі паштовы цягнік і экспрапрыіравала грошы, якія тым цягнікам перавозіліся* («Наша ніва»). Рус. ***северо-восточнее** чего.*

НА ПАЎНОЧНЫ ЎСХОД ДА *чаго*
НА ПАЎНОЧНЫ ЎСХОД ЗА *чым*
НА ПАЎНОЧНЫ ЎСХОД К *чаму*
НА ПАЎНОЧНЫ ЎСХОД ПАСЛЯ *чаго*
НА ПАЦВЯРДЖЭННЕ *чаго*

**НА ПАЦЕХУ** *каму / каму* **НА ПАЦЕХУ** Дав. Фінітыў: бенефіцыянтыў: *Рог, быццам* ***віхру на пацеху****, Панёс па пушчы голас, паўтараны ў рэху* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Ён рады быў, то дамам повад даў для смеху, Дык і* ***стральцам*** *хацеў знайсці што* ***на пацеху****, І так казаў, віна сабе падліўшы ў чару* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Аказіян. Сін. *на радасць*. Рус. ***на потеху*** *кому.*

**НА ПАЧАТАК** *чаго* Род. Час.: тэрмінатыў – крытэрый адлічэння часу: ***На пачатак вайны*** *ў прыгранічнай зоне Заходняй асобай ваеннай акругі* [Абарончая аперацыя на Беларусі 1941] *... ператтворана ў Заходні фронт...*(Энцыкл. гіст. Беларусі, т.1). *Чыстыя золатавалютныя рэзервы Нацыянальнага банка* ***на пачатак гэтага года*** *склалі 1 мільярд 25 мільёнаў 907 тысяч 604 долары ЗША* («Звязда», 3.02.05). *Па падліках, зробленых* ***на пачатак мінулага стагоддзя****, на Беларусі на шэсць-сем сялян прыходзіўся адзін шляхціч* (К.Тарасаў). Сін. *па стану на; на.* Рус. ***на начало*** *чего.*

**НАПАЧАТКУ-1** *якога часу* Род. Час.: тэмпаратыў: ***Напачатку зімы*** *ўсю хату перасяляюць на першы паверх – у «адзін-ноль»* (А.Мельнікаў). *Прычына разыходжанняў, якія ўзніклі* ***напачатку 90-****х, больш глыбокая* (А.Гормаш). *Прычына разыходжанняў, якія ўзніклі* ***напачатку 90-х****, больш глыбокая* («ЛіМ», 12.03.04). ***Напачатку сваёй творчасці*** *Мірык узяў за псеўданім прозвішча татавай маці – Шайбак, што* ***ў перакладзе з цюркскіх моваў*** *азначае «сад у квецені»* (А.Глобус). *А вось чаму Купала загінуў амаль* ***напачатку вайны*** *– гэта для мяне загадка* (М.Танк). ТСБПШ – прыназ.; размоўн. Сін. *у пачатку*. Рус. ***в начале*** *чего.*

**НАПАЧАТКУ-2** *чаго* Род. Прастора: лакатыў: *Пастаўлены былі і бамбарды сярод літоўскага войска: уздоўж гарадскіх сцен,* ***напачатку маста****, спаленага з другога берага Віслы* (К.Тарасаў). Сін. *перад.* Рус. ***перед*** *чем.*

**НА ПАЧАТКУ-1** *чаго/якой адзінкі часу* / **НА ПАЧАТКУ** Род. Час.: храналагічны тэмпаратыў: *На Беларусі санет заявіў пра сябе* ***на пачатку XVII ст.*** (В.П.Рагойша). *Янка Купала* ***на пачатку XX ст. –*** *у самы мадэрнісцкі перыяд развіцця еўрапейскай паэзіі – не спакусіўся рознымі чыста фармальнымі вышукамі* (В.П.Рагойша). ***На пачатку трэцяга тысячагоддзя,*** *з усведамленнем змены эпох, мы стаім перад неабходнасцю пераадолець адносіны філалагічнай*

*навукі да тэксту ўвогуле, і да мастацкага тэксту ў прыватнасці* (Т.І.Шамякіна). *Калі ў канцы 50-х гг. у Мінску яшчэ было некалькі беларускіх школ, дык* ***на пачатку 60-х*** *яны зніклі (газ.). Семінарская бібліятэка выкарыстала фонд нясвіжскага дамініканскага манастыра, скасаванага* ***на пачатку мінулага стагоддзя*** (І.Навуменка). *Люблю я гэтыя ціхія халаднаватыя ночы, што бываюць у канцы лета і* ***на пачатку восені****, каторымі гэтыя дзве пары года як бы адмяжоўваюцца адна ад аднае* (Я.Колас). Прыслоўе: ***На пачатку*** *Слова было ...* (Р.Барадулін). Ант. *напрыканцы*. Сін. *напачатку*. Рус. ***в начале*** *чего*.

**НА ПАЧАТКУ-2** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: *А толькі гіне народ, калі* ***на пачатку ягонай дарогі*** *не з'явіцца такі, як вы, без кампрамісаў* (У.Караткевіч). *Яшчэ* ***на пачатку сядзення*** *чую Шалкевіча: «Верасень – слотная пара...», у самай сярэдзіне, з раніцы,- пару песень Вольгі Цярэшчанкі, пад канец кратаў – Алеся Камоцкага і Касю (Андрэй Мельнікаў). ...паводле «Догмы-95» імя рэжысёра не фігуруе ў тытрах ні* ***на пачатку****, ні пры канцы* ***фільма*** (С. Фяненка). «***На пачатку дарог***» (Верш У.Караткевіча). Ант. *пры канцы*. Сін. *у пачатку*. Рус. ***в начале*** *чего*.

**НА ПАЯХ З/СА** *кім/чым* Тв. Камітатыў + кандытыў: *Да апошняга часу фактычным уладальнікам мінскага клуба была прыватная асоба, што* ***на паях з мінскім аўтазаводам*** *арганізавала сумеснае прадпрыемства «ФК «Тарпеда-МАЗ»* («Народная воля», 22.02.05). Сін. *на пару з*. Рус. ***на паях с*** *кем*.

**НАПЕРАД**[1] *каго/чаго* / **НАПЕРАД** Род. Характарызатар: дырэктыў-фініш: *Куды* ***наперад бацькі*** *ў пекла?* (Інт.). *Туды, да гэтай ямы, і падступалася сучачка, дзеля асцярогі прапусціўшы* ***наперад сябе*** *Імполя і круцячыся ззаду яго ног* (В.Адамчык). *Прапусціўшы* ***наперад сябе*** *дзяцей з бліскучымі сярэбранымі званочкамі, з закрыстыі з келіхам у руцэ выйшаў убраны ў літургічныя шаты немалады ружовашчокі ксёндз* (В.Адамчык). *То што* ***наперад цябе*** *забягаю, прабач, калі ласка* (Інт.). *Андрэй адскочыў на крокаў дзесяць* ***наперад усіх*** *і ўскінуў угару руку* (К.Чорны). ▶ *Калі падыходзілі яны ў канец горада, Самуіл сказаў Саўлу: скажы слузе, каб ён пайшоў* ***наперад*** ***<u>нас</u>****, – і той пайшоў* ***наперад****; – а ты спыніся цяпер, і я адкрыю табе, што сказаў Бог* (Біблія). || Прыслоўе: *Генеральная Асамблея пакажа дарогу* ***наперад****?* (газ.) Рус. ***поперед*** *кого/чего*.

**НАПЕРАД**[2] *каму/чаму / каму/чаму* **НАПЕРАД** Дав. Характарызатар: дырэктыў-фініш: *Сяргейка забег* ***наперад статку****, ляснуў бізуном і працягла ... закрычаў* (В.Хомчанка). *Ён стаў, і яна забегла* ***яму наперад*** (І.Пташнікаў). *Другі жаўнер мерыцца ў яго з вінтоўкі,*

*але Данілава маці забягае* ***жаўнеру наперад****, засланяючы Данілу* (К.Крапіва). ТСБМ – прыназ.; ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Рус. ***впереди*** *кого/чего.*

**НАПЕРАД**[3] *чым / чым* **НАПЕРАД** Тв. Характарызатар: спосаб: *Натуральна, што цяпер прыйшоў час пахмельнага сіндрому: памяць пра мінулае аказалася тым, што ў матэматыцы завецца ўмовай неабходнаю, але недастатковаю, – нельга рухацца ў будучыню* ***задам наперад*** («Arche»). [Ведзьма]: *Не рабі мне глуму, а ідзі ў сені, Але зажмур вочы, ды* ***наперад задам****, Пад сцяну пралезеш яшчаркай ці гадам (*Ф.Багушэвіч). *Камета, якая аддаляецца ад Сонца, рухаецца ў міжпланетнай прасторы* ***хвастом наперад*** (падручн.). Ант. *уперад*. Рус. ***наперёд*** *чем.*

**НАПЕРАД АБ** *што* Він. Ускладн. Характарызатар: аб'ектны дырэктыў-фініш: *Абраз з шумам гвазнуўся* ***наперад аб стол****, а потым аб лаву* (Я.Колас). Ант. *назад аб.* Рус. ***вперед о*** *что.*

**НАПЕРАД АД** *чаго* Род. Ускладн. Аб'ектны дырэктыў-старт: *Дошка высунулася* ***наперад ад даху*** (ППШ). Ант. *назад ад*. Рус. ***вперед от*** *чего.*

НАПЕРАД АД *чаго* ДА *чаго*

**НАПЕРАД ДА** *чаго* Род. Ускладн. Аб'ектны дырэктыў-фініш: *Аднак калі ён і не спіць, то ўсё роўна выглядае на тое, што ён яшчэ не зусім прачнуўся, калі ён хістаючыся ўсхопліваецца, і ад стала, за якім ён сядзеў і склейваў кінастужку, накіроўваецца* ***наперад да аўдыёстужкі*** (П.Гандке.Пер.Я.Балясіна). *У будцы ёсць сігналізацыя, якая называецца супрацьпажарнай сігналізацыяй, павучае яго пасля гэтага кінамеханік, які, прагаворваючы свае словы, працягвае далонь па крузе вакол патыліцы* ***наперад да горла,*** *быццам каб абцерці пот* (П.Гандке. Пер. Я. Балясіна). Ант. *наперад ад*; *назад да*. Рус. ***вперед к*** *чему.*

**НАПЕРАД З/СА** *чым* Тв. Ускладн. Характарызатар: камітатыў: *Бацька апавядальніка закінуў сурдут на плячо, нагнуўся і прыстаў раз ці два на калена, каб падняць лейцы, якія конь, што без прынукі ўзяўся* ***наперад з возам****, валок за сабой па брукаваным двары* (П.Гандке. Пер. Я. Балясіна). || Прыслоўе і назоўнік з прыназоўнікам: *Калі мы хочам, каб на зямлі павялічваўся давер, трэба пачынаць з саміх сябе: крочыць* ***наперад з улагоджаным сэрцам****, жыць у згодзе з тымі, хто знаходзіцца побач з намі* («Ave Maria»). Ант. *назад з*. Рус. ***вперед с*** *чем.*

**НАПЕРАД ЗА** *што* Він. Ускладн. Дырэктыў-фініш + фінітыў: *Падпісаў паперы, быццам ён, Шастак Мікалай Іванавіч, зяўляецца ўдзельнікам групы шкоднікаў пад назвай «****Наперад за свабоду****»*

*(НЗС), якую ачольвае намеснік наркама шляхоў зносін* (В.Быкаў). Рус. ***вперед за*** *что.*

НАПЕРАД НА *што*

**НАПЕРАД ПА** *чым* Месн. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-транзітыў: *У першага стрэчнага запытаўся пра гасцініцу, пакрочыў **наперад па** ледзь бачнай, завеянай **сцежцы*** («ЛіМ»). *Беларусы, якія засталіся жывыя, успамінаюць, што іх гналі ў атаку, як быдла – у поўны рост («грудью») на доты і дзоты, на смяротны агонь нямецкіх кулямётаў. Новыя хвалі наступаючых беглі **наперад па трупах** папярэдніх* (В.Буйвал). Ант. *назад па.* Рус. ***вперед по*** *чему.*

НАПЕРАД ПРАЗ *што*

**НАПЕРАД У** *што* Він. Ускладн. Аб'ектны дырэктыў-фініш: *Калі потым ліючая з крана вада становіцца халоднай, ён зноў набірае яе і пачынае сёрбаць і глытаць, пастаянна паварочваючы судзіну **наперад у рот**, аж пакуль яму не закрывае рот* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). *Але сапраўдны чалавек – гэта суцэльнае адхіленне ад нормы, ад «галоўна-стрыжнявога працэсу», а паталогія – магутны рухавік прагрэсу, няспыннага руху **наперад у невядомасць**, ролю якой звычайна выконвае будучыня (*В. Аўраменка). Ант. *назад з*. Рус. ***вперед во*** *что.*

**НА ПЕРАДДЗЕННІ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: ***На пераддзенні Міколы*** *сабраўся лабановіч да свайго сябра Турсевіча і пайшоў на раз'езд* (Я.Колас: ТСБПШ).ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ.; абл. Сін. *напярэдадні*. Рус. ***накануне*** *чего.*

**НАПЕРАДЗЕ** *каго/чаго* Род. Аб'ектна-прастор.: лакатыў адносна рухомага локума: *Пераскокваючы цераз разоры і западаючы ў няроўнай раллі, з радасным і ашалелым віскам **наперадзе яго** кацілася малая аблавухая сучачка* (В.Адамчык). *Прабегшы **наперадзе ксяндза**, старэнькі даўганосы магістрант прыкленчыў на два калены перад алтаром* (В.Адамчык). *Калі рот не адкрываецца, то трэба чатырма пальцамі абедзвюх рук узяць за ніжнюю сківіцу і выцягнуць яе трохі наперад, так, каб ніжнія зубы сталі **наперадзе верхніх*** (падручн.). *Будзь падобны да сарны Ці да маладога аленя, Бяжы **наперадзе свайго ценю** Па горах самых бальзамавых* (Р.Барадулін). ТСБМ – прыназ.; ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *наперадзе ад*. Рус. ***впереди*** *кого/чего.*

**НАПЕРАДЗЕ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Ён раптам тлумачыць, што ледзь прыкметны рух **наперадзе ад нас** – гэта наша пяхота* (К.Чорны). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Ант. *ззаду ад*. Сін. *перад.* Рус. ***впереди от*** *кого/чего.*

**НАПЕРАДЗЕ ВА** *каго/чаго/ўсіх* Род. Прастор.: лакатыў паводле рухомага локума: *Адхінуліся дзверы ... і ў парозе **наперадзе ва***

***ўсіх*** *заківалася, апіраючыся, апіраючыся на палку, Шура – невялікая, чарнявая, з круглым тварам і расчэсанымі на рад валасамі жанчына гадоў за трыццаць* (І.Пташнікаў). Сін. *перад.* Рус. ***впереди*** *кого/чего*.

НАПЕРАДЗЕ ДА *каго/чаго*

НАПЕРАДЗЕ ЗА *кім/чым*

НАПЕРАДЗЕ КАЛЯ *каго/чаго*

**НАПЕРАДЗЕ** *каго/чаго* **НА** *колькі адзінак* / **НА** *колькі адзінак* **НАПЕРАДЗЕ** *каго/чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў + прыблізны квантытатыў: ▶*Рэент і Асэсар выскачылі збоку, Гервазы быў* ***наперадзе на сто*** *мо* ***крокаў*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Рус. ***впереди*** *кого/чего* ***на*** *сколько единиц* ***/ на*** *сколько единиц* ***впереди.***

**НАПЕРАДЗЕ Ў** *каго* Род. Прастор.: лакатыў паводле рухомага локума: *Спіна самога начальніка, здаецца, калывалася цяпер* ***наперадзе ў Казімера*** (С.Юстапчык: Антон Адамовіч). Рус. ***впереди у*** *кого.*

**НАПЕРАКОР** *каму/чаму* / *каму/чаму* **НАПЕРАКОР** Дав. Уступальн.: адверсатыўны бенефіцыянтыў: рэлят неадпаведнасці: *Міхал аб помсце строіць планы. Вось ён нап'ецца, прыйдзе п'яны...- Няхай крычыць сабе тады. А не – не ўзяць два дні яды* ***Наперакор*** *сваёй* ***жанчыне****, пакуль яе злосць не астыне?* (Я.Колас). *І цяжка б жыць, каб не жывілі Яе спадзевак і надзей –* ***наперакор той панскай сіле****, Што так насела на людзей* (Я.Колас). ***Наперакор не толькі лёсу*** *Нясу высока галаву ... Жыву і прычакаю шчасця* ***Усім чарцям наперакор*** (В.Вярба). З асабовым і зваротным займеннікамі: *Нягледзячы, аднак, на рэцэнзію Я.Герцовіча, а то* ***і наперакор ёй,*** *«Дзікае паляванне...» карысталася вялікай папулярнасцю сярод чытачоў* (А.Мальдзіс). *Туды,* ***сабе наперакор****, насустрач вечнаму расстанню, дзе замыкаецца прастор, дзе абрываецца хістанне* (А.Разанаў). ***Наперакор людскім перакананням*** *аб яго здольнасцях Барыс ведаў, што мастака з яго не выйдзе ніколі* (В.Быкаў). ТСБМ – прыназ.; ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Ант. *у адпаведнасці з.* Сін. *насуперак*. Рус. ***наперекор*** *кому/чему.*

**НА ПЕРАЛОМЕ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *Германскія плямёны з пачаткам наступнага стагоддзя зліваюцца з тубыльцамі, а* ***на пераломе 8-га стагоддзя*** *два элементы твораць сабою аднародную супольнасць* (Я.Пятроўскі). *Збор твораў Шолам-Алейхема выходзіў* ***на пераломе пяцідзесятых – шасцідзесятых гадоў*** (Я.Брыль). Сін. *на рубяжы*. Рус. ***на переломе*** *чего.*

**НАПЕРАМЕНУ З** *кім/чым* Тв. Характарызатар: рэлят ўзаемазамены: *Ксёндз, падняўшыся на алтар, паставіў свой залацісты*

*келіх... сышоў да сходцаў алтара і* ***наперамену з міністрантам*** *загаварыў па-латыні нешта таямнічае да людзей* (В.Адамчык). Сін. *на замену з*. Рус. ***наперемену с*** *кем/чем.*

**НАПЕРАРЭЗ-1** *каму/чаму / каму/чаму* **НАПЕРАРЭЗ** Дав. Характарызатар: дырэктыў-фініш адносна рухомага локума: *Ён* [Клямт] *раптам кінуўся ў поле, стараючыся дапасці да кустоў, але заўважыў, што справа* ***наперарэз яму*** *бягуць два байцы* (І.Мележ). *На скрыжаванні вуліц* ***наперарэз падводам*** *выскачыў маладзенькі партызан* (Х.Жычка). *Стральцы з нагоншчыкамі крута павярталі* ***Звяру наперарэз,*** *між нетрамі і пушчай* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Давай ... да лесу дабяжым. А там* ***яму наперарэз*** *ці, лепш, следам пойдзем, прасочым* (Я.Купала). ▶*<u>Немец</u>, бач, драла дае па шасе, дык ён* ***наперарэз*** *махнуў* (А.Якімовіч). *І <u>ляснік</u> бяжыць, а лес устае* ***наперарэз*** (М.Калашынскі). ТСБМ – прыназ.; ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *наперасек*. Рус. ***наперерез*** *кому.*

**НАПЕРАРЭЗ-2** *хто каму* Наз.-Дав. Характарызатар: дырэктыўфініш адносна сустрэчнаму руху локумаў; перад абедзвюма часткамі ўзаемназваротнага займенніка: *Ідуць, плывуць людскія хвалі.* ***Наперарэз адны другім*** (Я.Колас). Рус. *друг другу* ***наперерез*** */* ***наперерез*** *друг другу*.

**НАПЕРАРЭЗ НАСУСТРАЧ** *каму/чаму* Дав. Ускладн. Характарызатар: дырэктыў-фініш адносна рухомага сустрэчнага локума: *На грэбні паказаўся стан другой брыгада, калі Размётнаў заўважыў крочыўшага* ***наперарэз насустрач ім*** *чалавека* (М.Шолахаў. Пер. Гайдук). Рэдуплікацыя. Рус. ***наперерез навстречу*** *кому/чему.*

**НАПЕРАРЭЗ ПРАЗ** *што* Він. Характарызатар: дырэктыў-транзітыў: *Забегалі вочы ў Тамаша, ён* ***наперарэз праз пляц*** *хутка пайшоў...* (І.Гурскі). Рус. ***наперерез через*** *что.*

**НАПЕРАСЕК** *каму/чаму* Дав. Характарызатар: дырэктыў адносна рухомага локума: *Беглі* ***салдатам наперасек*** (ППШ). *Сымон прысеў, прылёг, цікуе – ідзе павольна чалавек якраз* ***яму наперасек****, ідзе, нібыта штось цікуе* (Я.Колас). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; абл. Сін. *наперарэз*. Рус. ***наперерез*** *кому/чему.*

**НА ПЕРАСЯЧЭННІ** *чаго* Род. мн.л. Прастор.: лакатыў: *Дакажыце, што цэнтр мас плоскага трохвугольнага цела ляжыць* ***на перасячэнні медыян*** (падручн.). Рус. ***на пересечении*** *чего.*

**НА ПЕРАСЯЧЭННІ** *чаго* **І** *чаго* Род.-Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна двух ці больш локумаў: *Так* [«Песня пра зубра»] *крыху менш як год назад аўтарка гэтых радкоў вобразна назвала страсці, якія разгараліся вакол яшчэ не пастаўленага помніка «Беларусь партызанская», які павінен быў з'явіцца* ***на перасячэнні***

***Партызанскага праспекта з вуліцай Енісейскай*** *да 60-годдзя вызвалення Беларусі* («Звязда», 27.01.05). Сін. *на скрыжаванні; на рагу*. Рус. ***на пересечении*** *чего*.

**НАПЕРАТОЧ** *каму/чаму* Дав. Характарызатар: дырэктыў-фініш адносна рухомага локума: *Рыгор крута павярнуў назад, пайшоўшы* ***ім наператоч*** (Ц.Гартны). Сін. *наперарэз*. Рус. ***наперерез*** *кому/чему*.

**НАПЕРАТОЧ ДА** *каго/чаго* / **ДА** *каго/чаго* **НАПЕРАТОЧ** Род. Характарызатар: дырэктыў-фініш адносна рухомага локума: *Яны нацянькі скакалі* ***да рабочых наператоч****, але ніхто не пакінуў радоў* (Ц.Гартны). Рус. ***наперерез*** *кому/чему*.

**НАПЕРАХВАТ** *каго/чаго* Род. Характарызатар-фінітыў: дырэктыў-фініш адносна рухомага локума: *Адсюль* ***наперахват нашых самалётаў*** *падымаліся, як груганнё, знішчальнікі* (Р.Няхай). ▶ *Гэта Астахаў зразумеў як папрок. Выправіў* ***наперахват*** *Дыма, і вось цяпер камандуючы папраўляе* (А.Алешка). Сін. *наператоч*. Рус. ***наперехват*** *кому/чему*.

**НА ПЕРАХОДЗЕ З** *чаго* **У** *што* Род.-Він. Ускл. Двухч. Ускладн. Час.: тэмпаратыў адносна двух кропак: ***На пераходзе з зімы ў вясну*** *святкавалася разгульная, вясёлая, шчодрая на пачастункі і гасціннасць, злёгку фрывольная, поўная шчырых эратычных матываў Масленіца* («Звязда», 15.02.05). Сін. *на мяжы*. Рус. ***на переходе из*** *чего* ***во*** *что*.

**НАПЕРАЦЯЖКІ З** *кім/чым* Тв. Характарызатар: рэлят ўзаемаадносін: *Здавалася: палякі не ваююць, а толькі гуляюць у нейкую дзікую гульню; цераз груд вінтовак* ***наперацяжкі*** *ўзяліся яны* ***з бальшавікамі*** (М.Нікановіч). Рус. ?***наперетяжки с*** *кем/чем*.

**НА ПЕРЫФЕРЫІ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Сёння здаецца, што фальклор, літаратура ўвогуле не патрэбныя, яны апынуліся* ***на перыферыі грамадскай цікаўнасці****, а на першым – атрыманне інфармацыі і яе носьбіты – журналісты* («ЛіМ»). Рус. ***на периферии*** *чего*.

**НА ПЕРЫЯД** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *Белдзяржуніверсітэт узяў задачу забеспячэння тэставымі матэрыяламі на перыяд правядзення рэпетыцыйнага тэсціравання і праверку тэстаў на сябе* («Звязда», 27.01.05). Сін. *на час*. Рус. ***на период*** *чего*.

**НА ПЕРЫЯД АД** *колькіх адзінак часу* **ДА** *колькіх адзінак часу* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: тэрмінатыў-дыменсіў з дакладнымі гранічнымі межамі: *Работу з кожнай краінай мяркуецца весці на аснове так званых сумесных планаў дзеянняў, у якіх будуць акрэслены канкрэтныя задачы ў розных сферах* ***на перыяд ад трох да пяці***

***гадоў*** («Звязда», 30.04.05). Сін. *на*. Рус. ***на период от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**НА ПЕРЫЯД ДА** *якога часу* Род. Час.: тэрмінатыў-дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Аляксандр Лукашэнка даручыў забяспечыць выкананне прагнозных паказчыкаў не толькі ў гэтым годзе, але і ў цэлым за ўсю пяцігодку ў строгай адпаведнасці з канцэпцыяй развіцця банкаўскай сістэмы* ***на перыяд да 2010 года*** («Звязда», 28.01.05). *Асноўныя грошы – дзесьці 60 працэнтаў ад запланаваных сродкаў (а* ***на перыяд да 2010-га года*** *выдзелена больш як тры трыльёны рублёў) – мы накіруем на тое, каб запрацавала эканоміка* (У.Цалко). Сін. *да*. Рус. ***на период до*** *какого времени.*

**НА ПЕРЫЯД З** *якога часу* **ПА** *які час* Род.-Він. Двухч. Складн. Час.: тэрмінатыў-дыменсіў з дакладнамі гранічнымі межамі: *З пашырэннем хрысціянства быў суаднесены з Пасхай і стаў перасоўным (прыпадае* ***на перыяд з 4 красавіка па 8 мая)*** (В.Куртаніч). Сін. *з ... па*. Рус. ***на период с*** *какого времени* ***по*** *какое время.*

**НА П'ЕДЭСТАЛ** *чаго* Род. Рэлят прыраўнівання: *Мужчына ўзвёў сябе* ***на п'едэстал памнажэння Дабра*** *(забываючыся пры гэтым, колькі войнаў было распачата на планеце дзеля ўласнага ж узвелічэння)*(А.Катовіч). Аказіян. Сін. *на вяршыню*. Рус. ***на пьедестал*** *чего*.

НА П'ЕДЭСТАЛЕ *чаго*

**НА ПІК** *чаго* / **НА самы ПІК** *чаго* / **НА ПІК** Він. Дырэктыўфініш: *Іншая справа, што не ўсіх удалося вывесці* ***на пік максімальнай гатоўнасці*** (Інт.). Сін. *на вяршыню*. Рус. ***на пик*** *чего.*

**НА ПІКУ** *чаго* / **НА самым ПІКУ** *чаго* Месн. Характарызатар: лакатыў-інтэнсіў: *Рух* ***на піку эмоцый***, *радасць перамогі і горыч паражэння, «пачуццё локця» і велізарны зарад пазітыва на доўгі час наперад* (Інт.). *І ён* [Скарына] *увогуле ўваходзіў у Кракаў у часіну, калі гэты, як яму здавалася, наймудрэйшы горад быў* ***на самым піку*** *сваёй сярэдневяковай* ***славы*** (А.Лойка). Сін. *на вяршыні*. Рус. ***на пике*** *чего.*

**НА ПЛАТФОРМЕ** *чаго* Род. Кандытыў: падстава: *Яшчэ й агульнае яднанне* ***на платформе беларускасці***, *без барыкадаў, палітыкі і ўзаемнага паглуму!* (В.Сёмуха). *Разам з ім Л.Лойкам мне пашчасціла заснаваць у 1992 годзе інфармацыйна-аналітычную газету «Згода»...,* ***на платформе якой*** *быў аднаўлены выхад газеты «Новы Час»* (А.Кароль). Сін. *на грунце*. Рус. ***на платформе*** *чего.*

**НА ПЛЕЧЫ** *каго/чаго* Род. Адрасат: бенефіцыянтыў: *Гэта занадта важліва, а я не пляткар, я не магу так проста ўзваліць такое абвінавачванне* ***на плечы чалавека***, *якія, можа, яшчэ і бязвінны* (У.Караткевіч). Сін. *на*. Рус. ***на плечи*** *кого.*

**НА ПЛОШЧЫ** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Распыленне 10000 кг аэразолі сібірскай язвы на адлегласці 100 км можа выклікаць паражэнне людзей* ***на плошчы 100000 км²*** (Асновы мед. ведаў). *Палескі запаведнік утвораны ў 1988 годзе ў беларускім сектары 30-кіламетровай зоны Чарнобыльскай атамнай станцыі* ***на плошчы 130 тыс. гектараў*** («ЛіМ»). Рус. ***на площади*** *сколько единиц.*

**НА ПЛОШЧЫ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Паводле назіранняў, некаторыя ямы выкопваліся рабаўнікамі на глыбіню да 1,8 м і* ***на плошчы да 4 – 5 кв.м*** (Інт.). Рус. ***на площади до*** *скольких единиц.*

**НА ПЛОШЧЫ КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў: *Аквапарк, які будзе адпавядаць міжнародным стандартам, з'явіцца* ***на плошчы каля 90 гектараў*** («Звязда», 29.01.05). Рус. ***на площади около*** *скольких единиц.*

**НА ПЛОШЧЫ Ў** *колькі адзінак* / **НА ПЛОШЧЫ Ў** (*якіх*) *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *У гэты час з 4293 гаспадарак у васьмі паветах Беларусі 1526 (34,9 %) размяшчаліся* ***на плошчы ў адну ці болей валок*** (навук.). *Уся наша рэспубліка, як на далоні,* ***на плошчы ў нейкіх сто гектараў*** (У.Караткевіч). Рус. ***на площади в*** *сколько единиц.*

**НА ПЛЯЧАХ** *каго* Род. Характарызатар: спосаб + пасэсар: *Не бывае канфедэрацыі, пабудаванай* ***на плячах федэрацыі*** (Інт.). *Нельга даваць падставу нягоднікам выязджаць* ***на плячах народа,*** *плюючы яму ў твар* (Інт.). Аказіян. Сін. *на ўмовах; за кошт*. Рус. ***на плечах*** *кого.*

**НА ПОВАДЗЕ Ў/ВА** *каго* / **У** *каго* **НА ПОВАДЗЕ** Род. У складзе рэляцыйнага прэдыката: ◊ ***Пайсці на повадзе ў каго***. — *Пагадзіцца з песімістамі,* ***пайсці ў іх на повадзе*** *новы кіраўнік нават і не думаў* («Звязда», 25.06.05). Рус. ***на поводу у*** *кого.*

**НА ПОГЛЯД** *каго* Род. Аўтарызатар: ***На погляд сучаснага чалавека,*** *нават вельмі далёкага ад заалогіі, яны (спробы сістэматызацыі жывёл) былі смешныя. Наіўныя, а часам нават цынічныя* («Звязда», 10.02.05). Сін. *на думку*. Рус. ***на взгляд*** *кого.*

**НА ПОДЗЕ** *чаго* Род. Каўзатыў-падстава: *Ці паверыш, Ваша, што я* ***на подзе*** *таго* ***ўзору,*** *што мы аглядалі, мысліцельна рэканструяваў усё, што магчыма паміж імі, усё іхнае хаўрусаванне* (В.Гамбровіч. Пер. В. Булгакава). *Гэткіх прыкладаў, што пацвярджаюць імавернасць евангелічных апаведаў* ***на подзе новых даследаванняў,*** *можна яшчэ болей знайсці ў гэтай і іншых гістарычных кнігах* («Arche»). *Сувязь мужчыны з дзецюком адбываецца* ***на подзе тэхн-***

***ічных справаў, апекі, супрацоўніцтва,*** *але, калі яна становіцца беспасярэдняй, выяўляе сваю нечуваную непрыстой*насць (В.Гамбровіч. Пер. В. Булгакава). Сін. *на грунце*. Рус. ***на основе*** *чего.*

**НА ПОДСТУПАХ ДА-1** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна пачатку локума: *На золку, калі рэшткі палка ўліліся ў злучэнне, што заняло абарону* ***на подступах да пераправы****, Звягінцаў ўжо іначай, чым раней, паглядаў на Лапахіна, які рыхтаваў запасную пазіцыю* (М.Шолахаў. Пер. М.Лужаніна). *Успомнім цуд на Вісле ў 1920 годзе, калі палякі ўжо* ***на подступах да Варшавы*** *разбілі арду Тухачэўскага* (Інт.). ***На подступах да адміністрацыі*** *іх спынілі міліцыянты* (Інт.). Сін. *каля; пад.* Рус. ***на подступах к*** *чему.*

**НА ПОДСТУПАХ ДА-2** *чаго* Род. Фазавы лакатыў: *Бяруся сцвярджаць, што сёння мы знаходзімся толькі* ***на подступах да разумення*** *ягонай* [Караткевічавай] *творчасці і яго самога як асобы* (А.Асіпенка). Сін. *у пачатку.* Рус. ***на подступах к*** *чему.*

**НА ПОДСТУПЫ ДА** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш адносна пачатку локума: *Фарсіравалі па лёдзе Днепр, перарэзалі чыгунку Магілёў – Рагачоў, 23 лютага выйшлі* ***на подступы да Рагачова*** *з паўночнага ўсходу і паўднёвага ўсходу* («Рэспубліка»). Сін. *да.* Рус. ***на подступы к*** *чему.*

**НА ПОЛЕ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Пад градам папрокаў падканцлера каралеўства харугва ўсё ж такі вярнулася* ***на поле бою*** (К.Тарасаў). Сін. *на месца.* Рус. ***на поле*** *чего.*

**НА ПОЛІ-1** *чаго* / **НА** *якім* **ПОЛІ** *чаго* / **НА** *якім* **ПОЛІ** Род. Прастор.: лакатыў: ◊ ***На полі бітвы; на полі брані; на полі бою.*** ▬ *Падчас чарговага «змагання з алкаголем» Хвядос не вытрымаў варожага «напору» і «паў...* ***на полі брані****, капыты задраўшы ўгору»* («Arche»). *Што адбывалася* ***на полі бітвы*** *ў сапраўднасці, ніхто не ведае, і наўрад ці знойдзецца дакумент, які пралье святло на шматлікія загадкі гэтай жорсткай сечы многіх народаў* (К.Тарасаў). *Вучылішча вярнулася з фронту... Вярнулася абяскроўленае, малалікае – большасць курсантаў засталася там,* ***на полі бою*** (А.Марціновіч). Сін. *на месцы.* Рус. ***на поле*** *чего.*

**НА ПОЛІ-2** *чаго* Род. Лакатыў: рэлят уключэння: *Вось яны, вось: то хаваюцца ў цёмныя нетры майго забыцця, то аб'яўляюцца* ***на белым полі маёй увагі*** (А.Разанаў). *Але вернемся яшчэ раз да рэнесансу і гляньма, як дасягненні арабаў* ***на полі культуры*** *вяжуцца з адраджэннем на Захадзе* (Я. Пятроўскі). ▲*Літаральна за тры гады мы сталі з'яднанай камандай змагароў за духоўнасць* ***на айчынным культуралагічным полі*** (М.Мятліцкі). Сін. *у полі; у зоне*. Рус. ***в поле*** *чего.*

**НАПОПЕРАК-1** *каму/чаму* Дав. Характарызатар: адверсіўны дырэктыў-фініш адносна рухомага локума: *Мужчына моцнымі рухамі вёслаў рушыў далей, паставіў рыпучае вясло **напоперак ходу** лодкі...*(П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Сін. *упоперак*. Рус. ***поперек** чего*.

**НАПОПЕРАК-2** *каму/чаму* Дав. Адверсіў: *Вырас **напоперак волі і думкам*** (ППШ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *насуперак*. Рус. ***вопреки** кому/чему.*

**НА ПОЎДЗЕНЬ АД-1** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў + напрамак: *Сярод супляменнікаў з вёскі **на поўдзень ад Зізангі** ведамы ён як «Белы»* («Arche»). *Буслава яма – самая глыбокая ўпадзіна на рацэ Свіслач **на поўдзень ад хутара Знайдзіна** ў Канюхаўскім сельсавеце* (А.Цыхун). ***На поўдзень ад Русі Літоўскай** знаходзілася Палессе – пачатковая вобласць рассялення дрыгавічоў – з галоўнымі сваімі княствамі – Тураўскім і Пінскім* (К.Тарасаў). Ант. *на поўнач ад*. Рус. ***южнее** чего.*

**НА ПОЎДЗЕНЬ АД-1** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: ***На поўдзень ад 2-й гвардзейскай арміі**, у кірунку на Ліду і далей на Гродна наступала 31-я армія* (У.А.Нядзелька). Ант. *на поўнач ад*. Рус. ***на юг от** чего.*

**НА ПОЎДЗЕНЬ ДА** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Усе летам рвуцца **на поўдзень да мора*** (Я. Раманоўская). *Займеўшы землі перш у Калужскім павеце, яны распаўсюджваюцца потым вышэй на поўнач да Цверы і **на поўдзень да Курска**, надалей захопліваючы суседнія землі* (Інтэрнэт). Рус. **на юг к *чему.***

НА ПОЎДЗЕНЬ ЗА *колькі адзінак* АД *чаго* / ЗА *колькі адзінак* АД *чаго* НА ПОЎДЗЕНЬ

**НА ПОЎДЗЕНЬ ЛЯ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў + напрамак: *Асобы, адказныя за выхаванне дзяцей школьнага ўзросту мястэчка Заморск, былі пастаўленыя перад выбарам, пасылаць дзяцей у школу мястэчка Пустэльнікі ... альбо ў школу мястэчка Ўзвышанск, якая знаходзілася на адлегласці, якую можна вылічыць, **на поўдзень ля асфальтаванае дарогі*** (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Рус. ***южнее** чего.*

**НА ПОЎДЗЕНЬ У БОК** *чаго* Род. Дырэктыў-фініш + напрамак: *Паўгадзіны на мікрааўтобусе ад Мазыра **на поўдзень ў бок украінскай мяжы*** («Звязда», 26.04.05). Рус. ***южнее в сторону** чего.*

**НА ПОЎДНІ АД** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў + напрамак: *Немцы прарваліся **на поўдні ад Чырвонай Нівы*** (М.Ткачоў). Рус. ***южнее** чего.*

**НА ПОЎНАЧ АД** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў + напрамак: *Увечары – Жодзішкі, **на поўнач ад Смаргоні** – невялічкі населены пункт, які ўзгадваўся яшчэ ў XVI стагоддзі і меў Магдэбургскае права*

(«Arche»). *У 2 – 1 палове XVII ст. Глябовічы набываюць землі і на праванабярэжжы ракі (Навасёлкі і тэрыторыя* ***на поўнач ад іх*** *на адлегласці каля 4 км уздоўж ракі)* (В.Шаблюк). *Старая Одля, Старая Водля – урочышча, сенажаць на левым беразе ракі Свіслач* ***на поўнач ад вёскі Канюхі*** (А.Цыхун). *Адна бітва адбылася* ***на поўнач ад Рагачова*** (У.Караткевіч). *Дарогу* ***на поўнач ад горада*** *кантралявалі інсургенты, ездзіць па ёй было небяспечна* (У.Караткевіч). *На царкоўным двары* ***на поўнач ад храма*** *знаходзіцца камень-валун вышынёю 0,5 м з адбіткам жаночай ступні прыкладна 34 памеру* (Інт.). *На карце відаць: асноўная частка азёраў Беларусі знаходзіцца* ***на поўнач ад мяжы*** *апошняга ледніка* (падручн.). Ант. *на поўдзень ад.* Рус. ***севернее*** *чего.*

**НА ПОЎНАЧ ДА** *чаго* / **ДА** *чаго* **НА ПОЎНАЧ** Род. Прастор.: дырэктыў-фініш + напрамак: *Займеўшы землі перш у Калужскім павеце, яны распаўсюджваюцца потым вышэй* ***на поўнач да Цверы*** *і на поўдзень да Курска, надалей захопліваючы суседнія землі* (Інт.). Рус. ***севернее к*** *чему.*

НА ПОЎНАЧ ЗА *што*

**НА ПОЎНАЧ У** *колькіх адзінках* **ЛЯ** *чаго* Месн.-Род. Прастор.: лакатыў: напрамак + квантытатыў адносна бліжняга локума: *Асобы, адказныя за выхаванне дзяцей школьнага ўзросту мястэчка Заморск, былі пастаўленыя перад выбарам, пасылаць дзяцей у школу мястэчка Пустэльнікі, якая знаходзілася* ***на поўнач у столькіх і столькіх кіламетрах ля гасцінца,*** *альбо ў школу мястэчка Ўзвышанск, якая знаходзілася на адлегласці, якую можна вылічыць, на поўдзень ля асфальтаванае дарогі* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Рус. ***севернее в*** *скольких единицах* ***от*** *чего.*

**НА ПОШУКІ** *каго/чаго* Род. Фінітыў: *Але новы дырэктар не адгаворваў хлопцаў, калі хто з іх збіраўся ехаць у горад,* ***на пошукі шчасця*** («Полымя», 1987, № 4). *Антон не пытаўся ў Зоські, але здагадваўся, што тая ішла цяпер менавіта* ***на пошукі слядоў*** *гэтай групы* (В.Быкаў). *Калгаснікі, убачыўшы прывезеныя Дзямідам Сычам турбіны і генератар, кінуліся* ***на пошукі электрычнага шнура*** (М.Паслядовіч). Рус. ***на поиски*** *кого/чего.*

**НАПРАВА АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў + напрамак: ***Направа ад дарогі*** *рос клён* (ППШ). *Першы драўляны касцёл кармелітаў, пазначаны на планах Гродна 1655 і 1706 гг., размяшчаўся* ***направа ад маста*** *праз Нёман на нізкай надпойменнай тэрасе* («Наша вера». ***Направа ад яго*** *сеў генерал Дамброўскі, А леваруч Князевіч, Пац і Малахоўскі, Між іх – Падкамарына* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Відаць, мы ў цемры ўзбіліся на бакавы ганак, бо* ***про-***

***ста направа ад мяне*** *быў парадны ўваход* (У.Караткевіч). ***Направа ад вусця*** *Забрадчанкі – тарфянік, які густа стракаціць сцежкамі-змейкамі, выбітымі калгасным статкам* (М.Пазнякоў). ***Направа ад сяней*** *сядзібнага дома размяшчалася вялікая хата з чатырма вокнамі, кафлянай печчу і лавамі, налева – такая ж хата, жылая і гаспадарчыя каморы* (Інт.). *Мы селі на каменную лаўку, укапаную на схіле,* ***направа ад каплічкі*** (Інт.). *Магілы былі* ***направа ад уваходу*** *(з боку вуліцы Кірава), там былі яшчэ лётчыкі пахаваныя* («Наша Ніва»). ▶*Налева <u>ад дарогі</u> стаяў прыгожы домікз чырвонай цэглы... А* ***направа****, за вузкай грэбелькай з гарбатым мосцікам, віднеўся невялікі вадзяны млын* (А.Чарнышэвіч). ТСБМ – прысл. у знач. прыназ (у спалуч. з «ад»): *направа ад дарогі рос Авёс, Налева – памідоры спелі* (Корбан: ТСБМ). Ант. *леваруч*. Сін. *справа ад*. Рус. ***направо от*** *чего.*

**НА ПРАВАБЯРЭЖЖЫ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***На правабярэжжы Нёмана*** *– дубовыя гаі.* ▶ *На левым беразе* ***Нёмана*** *жылі яцвягі,* ***на правабярэжжы –*** *літоўцы* (К.Тарасаў). Рус. ***на правобережье*** *чего.*

**НАПРАВА ДА** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў + напрамак: *Святар, у гэтым можна было не сумнявацца, пайшоў* ***направа да далматы*** *і адкрыў раздзел надзённы ...* (П. Гандке. Пер. Я. Балясіна). Рус. ***направо к*** *чему.*

**НА ПРАВА** *чаго* Род./Інф. Характарызатар: *Віза – урадавы штамп у пашпарце* ***на права ўезду*** *ў дадзеную дзяржаву,* ***выезду*** *з яе ці* ***праезду*** *па яе тэрыторыі* (ТСБМ). *Хто йдзе на гору, той павінен білет купіць* ***на права ўходу*** (Я.Колас). *Дзядзька спытаўся, стрымліваючы ўсмешку: «А ты, брат, дазвол* ***на права палявання*** *маеш?»* (А.Якімовіч). *Атэстат – дакумент* ***на права атрымання*** *ваеннаслужачым грашовага, харчовага і інш. забеспячэння* (ТСБМ). *Вольна – каманда* ***на права трымацца*** *ў страі свабодна* (ТСБМ). Рус. ***на право*** *чего/ что делать.*

**НАПРАВА Ў БОК** *чаго* Род. Вектарны дырэктыў-фініш: *У Глухах паварочваю* ***направа ў бок*** *майго роднага* ***Заброддзя*** (М.Пазнякоў). Сін. *направа да; направа ў кірунку*. Рус. ***направо в сторону*** *чего.*

**НА ПРАВАХ** *каго/чаго* / **НА** гэтых/*якіх* **ПРАВАХ** Род. Кваліфікатыў: *Вось толькі цябе не хапае для пэўнага каларыту (жарт, вядома, ты заўсёды ў маім сэрцы* ***на правах перманентнага кашмару)*** («Arche»).*Сфарміраваліся палкі колькасцю ў 300-500 чалавек з інгушоў, асецінаў, лезгінаў, але зноў жа* ***на правах паселенага войска****, без адрыву ад радзімы* (К.Тарасаў). *Памінаючы Анатоля Сыса, друкуем урыўкі з кнігі эсэ Лідзіі Возісавай «Боская птушка», якая*

*размножана **на правах рукапісу** на пачатку гэтага года ў Гомелі* («ЛіМ», 12.05.06). ↔ **На тых жа правах, што і**. Сін. *са статусам; у якасці.* Рус. ***на правах** кого/чего.*

**НА** *колькі адзінак* **ПРАВЕЙ АД** *чаго* / **ПРАВЕЙ АД** *чаго* **НА** *колькі адзінак* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў: квантытатыў рознасці + напрамак: *Першы шар павінен размяшчацца **на 20 см правей ад кропкі**...* (Інт.). Рус. ***на** сколько единиц **правее** чего.*

**НА ПРАВЫМ БЕРАЗЕ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў з канкрэтызатарам: *Тэрыторыя Татарстану яўляе сабою раўніну ў лясной і лесастэпавай зоне з невялікімі ўзвышшамі **на правым беразе Волгі*** (Інт.). *У Старога Куранца з'яўляецца іншая назва – «Велейка»(ад ракі Веллі-Віліі, **на правым беразе якой** стаяў двор)* («Родны край», 2009). Ант. *на левым беразе*. Сін. *на правабярэжжы.* Рус. ***на правом берегу** чего.*

*колькі разоў* **НА** *якую адзінку часу* **ПРАЗ** *якую адзінку часу* Наз.-Він.-Він. Трохч. Ускладн. Характарызатар: квантытатыў + дыстрыбутыў + тэрмінатыў: *Звычайна рэжым харчавання хворых прадугледжвае прыём ежы **4 – 5 разоў на дзень праз 4 гадзіны*** (Асновы мед. ведаў). Рус. *сколько единиц **в** какую единицу времени **через** какую единицу времени.*

**НАПРАДВЕСНІ** *чаго* / **НАПРАДВЕСНІ** Род. Час.: храналагічны тэмпаратыў; ужываецца пры ўказанні на год: *І вось **напрадвесні саракавога года** было нарэшце аб'яўлена: «Беларусы – да маткі!»* (Я.Брыль: ТСБПШ). ***Напрадвесні 1906 года** па ўсёй царскай Расіі ішла падрыхтоўка да выбараў у першую дзяржаўную Думу* (Я.Колас). *Напрадвесні мінулага года мы з Алесем Адамовічам прыйшлі наведаць Лынькова і Мележа, сюды ж* [у бальніцу]*, дзе я пішу пра гэта* (Я.Брыль). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Рус. ***перед весной** какого года.*

**НА ПРАДМЕТ** *чаго* Род. Аб'ектн.: дэліберэтыў: *Таму прапаную як партыям і аб'яднанням, так і грамадзянам падаваць пазовы у Канстытуцыйны і Вярхоўны суд **на прадмет спагнання** кампенсацыі за маральную шкоду за абразу нацыянальнай годнасці і гонару* («Наша Ніва», 4.02.05). *Занепакоенасць у карэнных жыхароў краін ЕС выклікала нядаўняе рашэнне аб пачатку перамоў з Турцыяй **на прадмет далучэння** да ЕС* («Звязда», 18.05.05). - **На прадмет таго, што / як / які ...** *Канешне, заўсёды існавалі розныя думкі **на прадмет таго, якога** кшталту імітацыю лічыць найбольш адпаведнай* (С.Паўлычко. Пер. А.Скурко). *24 снежня 1827 года Міцкевіч святкаваў свой дзень нараджэння і быў папрошаны аб імправізацыі **на прадмет вядомай постаці** Вялікага Княства Літоўскага князя Льва*

*Сапегі* (А.Пірошкінас. Пер.Г.Праневіча). Афіц. Сін. *пра; аб.* Рус. ***на предмет*** *чего.*

**НАПРАМКАМ ДА** *каго/чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: [Рыгор] *выйшаў на вуліцу і паскораным крокам пайшоў* ***напрамкам да клінікі*** *Вілле* (Ц.Гартны). Сін. *у напрамку да.* Рус. ***в направлении к*** *чему.*

**НАПРАМКІ ДА** *каго/чаго* Род. Характарызатар + дырэктыў-фініш: *Час быў дамоў і...* [Павел з Мартай], *жартуючы, пайшлі напрамкі да шашы* (Вышынскі: ТСБМ). ТСБМ – прысл.(без «да»; заўвага наша – М.К.).

**НА ПРАПАНОВУ** *каго/чаго* Аўтарызатар-ініцыятар: *Гэтыя асаблівасці,* ***на прапанову Брытанскай Акадэміі Навук****, ад імя Кліма сталі звацца кліматам (climate), а працэс адаптацыі да іх – акліматызацыяй (acclimatisation)* (Jan Kakupala). Сін. *па прапанове; па ініцыятыве*. Рус. ***по предложению*** *кого/чего.* **НАПРАСТКІ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: вектарны дырэктыў-старт: *Па сцежачцы, што вілася* ***напрасткі ад лесу*** *і бегла праз поле, павольна пасоўваліся якраз сюды дзве чалавечыя фігуры* (Я.Колас).ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Рус. ***напрямик от*** *чего.*

НАПРАСТКІ ПРАЗ *што*

**НАПРАСТКІ ДА** *каго/чаго* (ППШ; без кантэкста).

**НАПРАСТКІ ЦЕРАЗ** *што* Він. Прастор.: дырэктыў-транзітыў: *Пажылыя з косамі, граблямі і харчамі ехалі на калёсах наўкруг за пятнаццаць вёрст, а моладзь ішла* ***напрасткі цераз раку і балота*** (А.Чарнышэвіч). Сін. *наўпрост праз.* Рус. ***напрямик через*** *что.*

**НА ПРАСТОРАХ (Месн. мн.л.)** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***На прасторах жыцця*** (Я.Колас). ***На прасторах неўгамоннага жыцця*** *разбівалася аб Вашу* [Горкага] *непахіснасць, аб Вашу ясназорную сумленнасць усё абманнае, усё нікчэмнае* (Я.Купала). ***На прасторах СНД*** *разводзяць больш за 30 парод свіней* («Звязда», 16.02.05). *Матросам эскадранага мінаносца «Забіяка» Алесь Гурло браў Зімні палац, удзельнічаў у грамадзянскай вайне* ***на прасторах Расіі*** (М.Скобла). *Сяргей Дарожны ... Будаваў Камсамольск-на-Амуры, непадалёк ад якога і лёг у безымянную магілу, якіх былі мільёны* ***на прасторах*** *пераўтворанай у суцэльны гулаг* ***краіны*** (М.Скобла). *Масавая літаратура – з'ява досыць распаўсюджаная* ***на прасторах былога Саюза*** (М.Анішчанка). Сін. *на абшарах*. Рус. ***на просторах*** *чего.*

НА ПРАСТОРЫ (Він. адз.л.) *чаго*

**НА ПРАСЦЯГ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *З пачатку другой паловы XIX стагоддзя электратэхніка выйшла з лабараторый* ***на прасцяг усебаковага практычнага прымянення*** *ў быт-*

*ворчасці, на транспарце і ў сувязі* (падручн). Сін. *на прасторы*. Рус. ***на просторы*** *чего.*

**НАПРАСЦЯК ДА** *каго/чаго* Род. Прастор.: характарызатар + дырэктыў-фініш: *Парашыўшы абмінуць пасёлак, Васіль звярнуў з дарогі, што вяла да Нырчы, і лугам* ***пайшоў напрасцяк да ракі*** (У.Краўчанка). Сін. *напрасткі да.* Рус. ***напрямик к*** *чему.*

**НАПРАСЦЯК ЦЕРАЗ** *што* Він. Прастор.: характарызатар + транзітыў: *Каб не рабіць кругу,* [Ліда] *падалася* ***напрасцяк цераз выган*** *той вёскі ў якой жыла* (А.Кулакоўскі). Сін. *проста цераз.* Рус. ***прямиком через*** *что.*

**НА ПРАЦЯГУ-1 /НАПРАЦЯГУ** *чаго* Род. Час.: дыменсіў-патэнсіў; спалучаецца з назоўнікам тэмпаральнай або падзейнай семантыкі: *Перш за ўсё не будзем забывацца, што Чарнагорыя («сербская Спарта»)* ***на працягу стагоддзяў*** *была і цяпер, дарэчы, таксама з'яўляецца адным з некалькіх дзяржаўных утварэнняў сербскага этнасу* (І.А.Чарота). *Мабыць, мы ўсё ж мала ведаем і кепска вывучаем, чым было наша настаўніцтва для народа* ***на працягу ягонай гісторыі*** (В.Быкаў). ***На працягу ночы*** *зоркі, Месяц і планеты перамяшчаюцца па небе* (падручн.). *Пры дозах апраменьвання каля 6 Гр гэтыя сімптомы трымаюцца* ***на працягу тыдня*** (Асновы мед. ведаў). *Як лёгка можна шчасце знішчыць чалавеку За раз, а не паправіш* ***на працягу веку!*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ***Напрацягу*** *свайго доўгага* ***маналога*** *Якуб пастаянна змяняе суразмоўцаў* (В.І.Жук). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *цягам*. Рус. ***в течение*** *чего.*

**НА ПРАЦЯГУ-2** *колькіх адзінак часу* Род. Час.: дыменсіў-патэнсіў + квантытатыў: ужываецца з колькасна-іменным спалучэннем: *Утрыманне хлору ў паветры рабочых памяшканняў у межах 0,001 – 0,006 мг/л аказвае значнае раздражняльнае дзеянне, канцэнтрацыя 0,1 – 0,2 мг/л пры экспазіцыі 30 хвілін небяспечная для жыцця, удыханне заражанага паветра з канцэнтрацыяй хлору 0,5 мг/л* ***на працягу 15 хвілін*** *вядзе да смяротнага атручвання, а з канцэнтрацыяй 10 мг/л* ***на працягу хвіліны*** *– да смяротных атручванняў у 50 % выпадкаў* (Асновы мед. ведаў). *Ныркавая гіпертэнзія можа дасягаць узроўню 180 – 230/120 – 160 мм рт.сл. і ўтрымліваецца* ***на працягу 2 – 3 тыдняў*** (Асновы мед. ведаў). Сін. *цягам; за.* Рус. ***на протяжении*** *скольких единиц.*

**НА ПРАЦЯГУ-3** *чаго – чаго* Род.-Род. Час.: прыблізны дыменсіў-патэнсіў + храналагічны тэмпаратыў: *Апавяданні сялянаў-падарожных, шляхціцаў, цыгана «гучалі» ў хаце Завальні* ***на працягу восені 1816 – вясны 1817 гг.*** (М.В.Хаўстовіч). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *за; за час з ... па.* Рус. ***на протяжении*** *чего – чего.*

**НА ПРАЦЯГУ** *колькіх адзінак часу* **АД** *чаго* **ДА** *чаго* Род.- Род.- Род. Трохч. Ускладн. Час.: дыменсіў-патэнсіў з названымі межамі: *Але насамрэч **на працягу двух-трох дзён** (часам і значна больш) **ад селекцыі да вывазу** ахвяры Мановіцу-Аўшвіцу карыстаюцца гэтым прывілеем* (Прыма Леві. Пер. В.Буйвал). Рус. ***на протяжении** скольких единиц времени **от** чего **до** чего.*

**НА ПРАЦЯГУ** *колькіх адзінак часу* **АД ПАЧАТКУ** *чаго* Род.- Род. Двухч. Ускладн. Час.: дыменсіў-патэнсіў з вызначанай пачатковай кропкай адлічэння: *Хворы лічыцца заразным **на працягу 30 дзён ад пачатку хваробы*** (Асновы мед. ведаў). Рус. ***на протяжении** скольких единиц времени **от начала** чего.*

НА ПРАЦЯГУ БОЛЬШ *колькіх адзінак часу*

**НА ПРАЦЯГУ БОЛЬШ ЧЫМ** *колькіх адзінак часу* Род. Час.: прыблізны дыменсіў-патэнсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Калі тэмпература ў кватэры ніжэй за нарматыўную **на працягу больш чым 3 каляндарных дзён**, прадугледжваецца рабіць пераразлік платы за ацяпленне* («Звязда»). Рус. ***на протяжении более** скольких единиц времени.*

**НА ПРАЦЯГУ** *колькіх адзінак часу* **ЗАПАР** Род. Двухч. Ускладн. Час.: дыменсіў-патэнсіў + характарызатар: *Для аб'яўлення эпідэміі грыпу неабходна, каб перавышэнне эпідпарога рэгістравалася **на працягу трох дзён запар*** («Звязда», 4.02.05). Рус. ***на протяжении** скольких единиц времени **подряд**.*

**НА ПРАЦЯГУ** *колькіх адзінак часу* **З ДНЯ** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: дыменсіў-патэнсіў з вызначанай пачатковай кропкай адлічэння: *Прапановы прымаюцца **на працягу 10 дзён з дня апублікавання** аб'явы* (газ.). Сін. *на працягу ... з часу*. Рус. ***на протяжении** скольких единиц времени **со дня** чего.*

**НА ПРАЦЯГУ** *колькіх адзінак часу* **З МОМАНТУ** *чаго* Род.- Род. Двухч. Ускладн. Час.: дыменсіў-патэнсіў з вызначанай пачатковай кропкай адлічэння: *Дзяцей, якія не хварэлі шкарлятынай і былі ў кантакце з хворым, не дапускаюць у дзіцячыя ўстановы і ў першыя два класы школы **на працягу 7 дзён з моманту ізаляцыі** хворага* (Асновы мед. ведаў). *Згодна з заканадаўствам наймальнік павінен заводзіць іх **на працягу 5 дзён з моманту прыёму** чалавека на работу* («Звязда», 4.01.05). Сін. *на працягу ... ад*. Рус. ***на протяжении** скольких единиц времени **с момента** чего.*

**НА ПРАЦЯГУ** *колькіх* **І БОЛЕЙ** *адзінак часу* Род. Двухч. Ускладн. Час.: дыменсіў-патэнсіў дакладнай ніжняй мяжой + градуатар: *Бубоны могуць падвяргацца павольнаму разыходжанню **на працягу 2 – 4 і болей месяцаў**, размякчэнню і ўскрыццю праз 2 – 4 дні*

(Асновы мед. ведаў). Рус. ***на протяжении*** *скольких* ***и более*** *единиц времени.*

**НА ПРАЦЯГУ** *колькіх адзінак час*у **ЦІ НАВАТ БОЛЬШ** Род. Двухч. Ускладн. Час.: дыменсіў-патэнсіў дакладнай ніжняй мяжой + градуатар: *Гэта маярат Яноўскіх* ***на працягу трох стагоддзяў ці нават больш*** (У.Караткевіч). Рус. ***на протяжении*** *скольких единиц времени* ***и даже более****.*

**НА ПРАЦЯГУ НЕ БОЛЕЙ** *колькіх адзінак часу* Род. Час.: прыблізны дыменсіў-патэнсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Пры рабоце* ***на працягу не болей гадзіны*** *дапускаецца ГДК да 50 мг/м$^{3,}$ на працягу 30 хвілін – да 100 мг/м$^{3,}$* ***не болей 15 хвілі****н – да 200 мг/м$^3$* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***на протяжении не более*** *скольких единиц времени.*

**НА ПРАЦЯГУ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ** *колькіх адзінак* Род. Час.: прыблізны дыменсіў-патэнсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Пасля гэтага хуткімі энергічнымі рухамі расціраюць хворага з усіх бакоў* ***на працягу не больш чым пяці хвілін*** («Звязда», 15.06.05). Рус. ***на протяжении не более*** *скольких единиц времени*

**НА ПРАЦЯГУ** *колькіх адзінак часу* **ПА** *чым* Род.-Месн. Час.: дыменсіў-патэнсіў з пачатковай кропкай адлічэння: ***На працягу гадзіны па*** *маім* ***вяртанні*** *ў хату...* (А.Мельнікаў). Сін. *на працягу ... пасля.* Рус. ***на протяжении*** *скольких единиц времени* ***по*** *чем.*

**НА ПРАЦЯГУ** *колькіх адзінак часу* **ПАСЛЯ** *чаго* Род.-Род. Час.: дыменсіў-патэнсіў з вызначанай пачатковай кропкай адлічэння: *Пасля трагічнай гібелі паэта Васіля Сахарчука, які* ***на працягу дзесяці гадоў пасля драматычнай смерці*** *Васіля Гадулькі так і не змог дастукацца да людскіх сэрцаў, каб выдаць паэтычную спадчыну свайго сябра, і была распачатая (пры нечаканым пасыле Алеся Разанава) дабрачынная акцыя па ўшанаванні памяці малавядомага, але таленавітага паэта з Берасцейшчыны* (Л. Галубовіч). *Чамусьці застаецца распаўсюджанай думка, што працоўную кніжку можна выдаваць* ***на працягу 3 дзён пасля звальнення****. Такая думка памылковая. Выдача кніжкі павінна рабіцца непасрэдна ў апошні дзень работы* («Звязда», 4.01.05). Рус. ***на протяжении*** *скольких единиц времени* ***после*** *чего.*

**НАПРОСТ К** *каму/чаму* Дав. Прастор.: дырэктыў-фініш + характарызатар: *Пайшоў* ***напрост к бярозе*** (ППШ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *проста к.* Рус. ***прямо к*** *кому/чему.*

**НА ПРОСЬБЫ** *каго* Род. Ускладн. Каўзатыў-стымул: ***На просьбы Берлінскага двара*** *тэрмін продажу падоўжыў, але прадаць павінны былі ўсё* («Наша слова», 17.05.06.). Сін *па просьбе; на просьбу*. Рус. ***по просьбе*** *кого.*

**НАПРОЦІ-1** *каго/чаго* Род. Прастор.: адверсатыўны лакатыў: *Імполь турзануў да сябе лейцы, прыпыняючы каня **напроці** белых, мураваных, роўненька, як пад шнур, і шчыльна пастаўленых адна да адной яўрэйскіх **крамаў*** (В.Адамчык). *Вот **напроці калонкі** хата будзет* (дыял., Шумілінскі р-н). *Вера сядзела **напроці Максіма** і не зводзіла з яго вачэй* (М.Машара). ***Напроці акна** раслі дрэвы* (К.Чорны). *Падобны колер яшчэ бывае ў раннюю восень пад рабінаю, **напроці рэчкі*** (Інт.). ▶ ***Суседка напроці** выбегла вады зачэрпаць* (М.Лобан). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *насупраць*. Рус. ***напротив** чего.*

**НАПРОЦІ-2** *каго/чаго* Род. Рэлят параўнання: *Гэтая каляжанка харытаў, нягледзячы на сваё манекеннае хараство, такая звычайная з выгляду, што **напроці любой нашай славянскай ружы** – зусім як безназоўная кветка* (Л.Дранько-Майсюк). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *у параўнанні з*. Рус. ***против** чего.*

**НАПРОЦІ-3** *чаго* Род. Час.: адверсатыўны тэмпаратыў: *Не выходзь з хаты **напроці ночы***. ▬ «*Уцякае ад свайго гнязда, як Шайбачысіна Кася. Уцякае, як гэате недалужнае пташаня. З дому. І куды, каб хто спытаў, **напроці буры*** (В.Адамчык). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *перад*. Рус. ***против** чего.*

**НАПРОЦІ-4** *каго* Род. Адверсатыўны лакатыў адносна асобылокума: *Прыпыніўся **напроці маладзіцы**, што надарылася на чужой вуліцы* (В.Адамчык). ▶ *Давай далонь, сядай за стол **напроці*** (Э.Валасевіч). Сін. *каля; побач з*. Рус. ***рядом с** кем; **поравнявшись с** кем.*

**НАПРОЦІЎ** *каго/чаго* Род. Адверсатыўны лакатыў адносна асобы-локума: *Вінцусь Шавель прысеў **напроціў Платовіча** і неадхільна на яго глядзеў* (Ц.Гартны). *Панура адгукнуўся п'яны госць Прабабкіных, поўны чалавек, які сядзеў **напроціў архітэктараў**, хоць перад гэтым ніхто нікогоа не хваліў, наадварот, спрачаліся* (І.Шамякін). ▶<u>*Назву*</u> *ён* [Сямён Парфёнавіч] *злосна падкрэсліў тоўстым карычневым алоўкам і паставіў **напроціў** на полі тоўсты клічнік* (І.Шамякін). Сін. *насупраць*. Рус. ***напротив** кого/чего.*

**НАПРОЦІЎ ЦЕРАЗ** *што* Він. Ускладн. Прастор.: лакатыў-характарызатар: *Максім убачыў, як сумеліся яго сябры, што сядзелі **напроціў цераз стол*** (І.Шамякін). Рус. ***напротив через** что.*

**НАПРОЦЬ-1** *каго/чаго* Род. Рэлят параўнання: *Век хлопцы ішлі дамоў, збітыя на горкі яблык, бо іх **напроць іншых** была адна жменька* (М.Вайцяшонак). *Чарніцы напроць зімы сінія... Сінія, цямнейшыя **напроць зімы** і вочы гэтай жанчыны* (М.Вайцяшонак). *Благія людзі рабілі яе надта дурной **напроць сябе**, каб апраўдацца, калі баба Стася дакладвала калгаснаму начальству, хто панёс з поля кош бульбы* (М.Вайцяшонак). Сін. *напроці*. Рус. ***противу** кого/чего.*

**НАПРОЦЬ-2** *каго/чаго* Род. Прастор.: адверсатыўны лакатыў адносна прадмета-локума: ***Напроць печы*** *з дзвюх пліт жорны, ля жарон – палок* (Я.Купала). Рус. ***напротив*** *чего.*

**НАПРОЦЬ-3** *каго/чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *Чарніцы* ***напроць зімы*** *сінія... Сінія, цямнейшыя напроць зімы і вочы гэтай жанчыны* (М.Вайцяшонак). Сін. *перад*. Рус. ***перед*** *чем.*

**НАПРУЖАНАСЦЮ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Пазней, у 70-я і 80-я гады Б.Б. Бойкам (сумесна з А.К. Сойкам) былі распрацаваны і створаны больш дасканалыя крыніцы моцных магнітных палёў* ***напружанасцю да*** $10^6$ ***эрстэд*** (Інт.). Рус. ***напряжённостью до*** *скольких единиц.*

**НАПРУЖАННЕМ** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Даліва-Дабравольскі з трыумфам прадэманстраваў перадачу трохфазнага пераменнага току* ***напружаннем 15 кВ*** *і магутнасцю 220,8 кВт ад Лауфенскага вадападу на адлегласць 175 км з каэфіцыентам карыснага дзеяння 77,4 %* (падручн.). *У 1960 годзе была пабудавана лінія электраперадачы Крычаў – Клімавічы* ***напружаннем 110 кВт*** *і падстанцыя* ***напружаннем 110/35/10 кВт*** (Інт.). Рус. ***напряжением*** *сколько единиц.*

**НА ПРЫЁМЕ** *чаго* Аб'ектн.: інструментыў-метад: ***На прыёме шматслоўнасці і таўталогіі*** *пабудаваны амаль усе тэксты Цімура Зульфікарава* (Ю.Пацюпа). Сін. *на; з дапамогай; метадам; спосабам*. Рус. ***на приеме*** *чего.*

**НАПРЫКАНЦЫ / НА ПРЫКАНЦЫ / НА ПРЫ КАНЦЫ** *чаго* Род. Час.: храналагічны тэмпаратыў: ***Напрыканцы дня*** *ў забытых богам і людзьмі вёсачках трывожыў [я] сэрца роздумам пра наш заблытаны свет* (Я.Пархута). ***Напрыканцы 1830-х гг.*** *Ванькавіч пакінуў Мінск* (М.Паграноўскі). ***Напрыканцы снежня****, акурат пад Новы год, паштарка ўручыла важкі пакунак* (Л. Левановіч). ***Напрыканцы размовы*** *хачу сардэчна павіншаваць усіх жыхароў Беларусі з Новым годам* («Звязда»). *Яна* [кніга] ***напрыканцы леташняга года*** *пабачыла свет («ЛіМ»).* ***Напрыканцы рабочага дня*** *Сяргея паклікалі да тэлефона* («Маладосць»). *Тытанічная праца* ***на прыканцы сезона*** («Звязда»). *Дух...які выяўлены рэчаісна ў руйнавальным вэрхале грамадзянскае вайны... у савецкім патрыятызме ў часе Вялікае Айчыннае вайны, у паваенным будаўніцтве жыцця... у загніванні грамадства* ***на пры канцы стагоддзя****, у кананні сацыяльнага ды дзяржаўнага ладу ў дзевяностых ...дух гэты выяўлены ў нейкіх фантастычных карцінах, якія перамяшаліся да кашы...* (Л.Вашко). Ант. *напрыпачатку*. Сін. *у канцы; пад канец.* Рус. ***в конце*** *чего.*

**НА ПРЫКЛАДАХ (Мн. л.)** *чаго* Род., мн.л. Характарызатар: каўзатыў: падстава: *З-за недахопу пераканаўчых доказаў я ўвогуле згаджаюся з Мані і Гемпсанам, якія* ***на прыкладах цэлага шэрагу пацыентаў*** *са змяшаным полам сведчаць, што псіхалагічнае ўсведамленне полу вызначаецца постнатальнымі чыннікамі, не звязанымі з анатоміяй і фізіялогіяй вонкавых геніталіяў* (К.Мілет. Пер. А.Скурко). ↔ **На прыкладах таго што; на прыкладах тых, хто; на прыкладах тых, якія.** Сін. *на прыкладзе*. Рус. ***на примерах*** *кого.*

**НА ПРЫКЛАДЗЕ** *каго/чаго* Род. Характарызатар: спосаб: *Норма разглядаецца беларускімі пісьменнікамі* ***на прыкладзе розных моўных сродкаў*** (М.В.Ляшук). *НАВУКА. Ну хаця б* ***на прыкладзе хіміі*** *(якой яшчэ няма, а ёсць алхімія). Усё досыць проста і зразумела* (У.Караткевіч). *Растлумачу зноў жа* ***на прыкладзе Мсціслава*** *і ягоных камяніц* (У.Караткевіч). ***На прыкладзе П.Броўкі*** *яскрава відно, да чаго даводзіць празмернае раздзіманне аўтарытэту, ледзь не прыжыццёвая кананізацыя* (М.Скобла). *Сіла разбурэння горных парод, а таксама будынкаў і збудаванняў, добра відаць* ***на прыкладзе «кіслотных» дажджоў*** (падручн.). ***На прыкладзе біяграфіі*** *Хрола і яго аднавяскоўцаў Мятліцкі звярнуў увагу на працэс станаўлення і развіцця ўсенароднай барацьбы з фашысцкімі захопнікамі* (В.Казлова). ↔ **На прыкладзе таго як**. Сін. *на*. Рус. ***на примере*** *кого/чего.*

**НА ПРЫКЛАДЗЕ З** *чым* Тв. Характарызатар: спосаб: *Але такі паважны наіўны рэалізм у пэўным сэнсе недарэчны ў эру фатаграфічных вобразаў, бо той рэзкі падзел, які ён праводзіць між вобразам («копіяй») і сапраўднай рэччу («арыгіналам») – які Платон неаднаразова ілюструе* ***на прыкладзе з малюнкам*** *– нельга так проста пераносіць на фатаграфію* (С.Сонтаг. Пер.В.Дразда). Сін. *на прыкладзе.* Рус. ***на примере с*** *кем/чем.*

**НА ПРЫНЦЫП (Він. адз.л.)** *чаго* Род. Характарызатар: дырэктыў-спосаб: *Прадпрыемствы ў асноўным «перахварэлі» пасля пераходу* ***на прынцып краіны прызначэння*** *пры збіранні падатку на дабаўленую вартасць* («Звязда», 26.02.05). Сін. *на метад*. Рус. ***на принцип*** *чего.*

**НА ПРЫНЦЫПАХ (Месн. мн.л.)** *чаго* Род. Характарызатар: лакатыў-спосаб: *Аб'яднанне* ***на прынцыпах роўнасці і дэмакратыі***. ▬ *Камітэт дзейнічаў* ***на прынцыпах камісіі*** *генеральнага камісарыяту* («Arche»). Сін. *метадамі.* Рус. ***на принципах*** *чего.*

**НА ПРЫНЦЫПЕ (Месн. адз.л.)** *чаго* Род. Характарызатар-метад: *Добраахвотны – заснаваны* ***на прынцыпе самадзейнасці*** *мас* (ТСБМ). Сін. *на аснове.* Рус. ***на принципе*** *чего.*

НА ПРЫНЦЫПЫ (Він. мн.л.) *чаго*

**НАПРЫПАЧАТКУ** / **НА ПРЫПАЧАТКУ** *чаго* / **НА** самым **ПРЫПАЧАТКУ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: ***Напрыпачатку перадачы*** *паведамім* («Бел. радыё», 2000). ■ *Прызнацца, трохі здзівіла і адначасна ўзрадавала, што ліст аказаўся амаль «пад рукой» у паэта, хоць і быў напісаны* ***на самым прыпачатку 1978 года*** (М.Мікуліч). Сін. *на пачатку*. Рус. ***в начале*** *чего.*

**НА ПРЫСМЕРКУ** *чаго* / **НА** *якім* **ПРЫСМЕРКУ** *чаго* / **НА ПРЫСМЕРКУ** Род. Час.: фазавы тэмпаратыў: ■ *Л.Геніюш, якой наканавана было пайсці з жыцця* ***на вечаровым прысмерку застойнага часу****, не лекатала перад ўладатрымцамі і чынавенствам, якога б калібру яны ні былі, годна бараніла свае ідэі і перакананні* (М.Мікуліч). Аказіян. Сін. *пад канец*. Рус. ***под конец*** *чего.*

**НА ПУЛЬСЕ** *чаго* Род. У складзе прэдыката: ◊ ***Трымаць руку на пульсе часу***. ▬ *Выданне ўжо дзесяць гадоў трымае газетны радок* ***на пульсе жыцця беларускай дыяспары*** («Звязда», 06.01.05). Аказіян. Рус. ***на пульсе*** *чего.*

**НАПЯРЭДАДНІ** *чаго* / **НАПЯРЭДАДНІ** Род. Час.: фазавы тэмпаратыў: *Грас ... замоўчвае гістарычнае банкруцтва правых колаў СДПГ* ***напярэдадні*** *і пасля* ***Першай сусветнай вайны*** (Е.А.Лявонава). *Згодна рэгламенту, уручэнне прэмій адбудзецца* ***ў дзень свята*** *(альбо* ***напярэдадні****) – Дня яднання Беларусі і Расіі; праўда дакладная дата ўрачыстасцей пакуль невядома* («ЛіМ», 06.02.04). *Іншыя дні асвячэння вады, акрамя Вадохрышча, называліся «малымі»: ... у суботу* ***напярэдадні Вялікадня****, у дзень Прапалавення (серада на трэцім пасля Вялікадня тыдні)* («Звязда», 4.01.05). *У Гомелі* ***напярэдадні 1 Мая*** *будзе ўрачыста адкрыта другая чарга музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны* («Звязда», 17.03.05). ▶*Банжын коратка расказаў, што было зроблена* ***напярэдадні*** (У.Шыцік). «***Напярэдадні***» (загаловак верша Р.Барадуліна). Сін. *перад*. Рус. ***накануне*** *чего.*

**НАПЯРЭЙМЫ** *каму/чаму* Дав. Характарызатар дзеяння адносна рухомага локума: дырэктыў-фініш: *Салдат выбег* ***напярэймы ўцекачу*** (ППШ). ***Напярэймы яму*** *бухнуў яшчэ адзін, мусіць, не меткі стрэл* (В.Адамчык). ***Манашцы юнай напярэймы*** *Ты б кінуўся, каб не манах Яе правёў паўз дом Тальгейма, Ружанцам закілзаўшы страх* (Л.Дранько-Майсюк). ***Напярэймы яму*** *– гародам па старой сцежцы – бегла дачка* (І.Пташнікаў). *І тут Зянон убачыў, як* ***напярэймы возу*** *ідзе знаёмы каваль* (У.Караткевіч). *Спярша, калі рушыў ад натоўпу* ***напярэймы ім*** *гэты таўставаты немец, жанчыны толькі здзіўлена насцярожыліся* (І.Чыгрынаў). *ваўчыца бегла*

*(зосна-прагна!) напярэймы Параненаму целу ласяняці* (В.Аколава). ТСБМ – прыназ. ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; размоўн. Сін. *наперахват*. Рус. ***наперехват** кому/чему.*

**НАПЯРЭЙМЫ ДА** *каго/чаго* / **ДА** *каго/чаго* **НАПЯРЭЙМЫ** Род. Характарызатар дзеяння адносна рухомага локума: дырэктыў-фініш: *Гукай сваю адзіную, гукай, Бяжы **да мілых вуснаў напярэймы**, Ламай чаромхі душныя бярэмы, Кідай да ног каханай хмельны май* (Г.Бураўкін). Сін. *напярэймы*. Рус. ***наперерез к** кому/чему.*

**НАПЯРЭСЦІГІ / НАПЯРЭСЦЯГІ / НА ПЯРЭСЦЯГІ** *каму/чаму* Дав. Характарызатар дзеяння адносна рухомага локума: дырэктыў-фініш: *Дырэктыў-фініш-характарызатар: Трое ехалі па раллі, потым пусціліся **напярэсцігі кан**ю* (М.Лобан: ТСБПШ). *Так ідзе адна, гадае, Аж зірнула – дух унік: **На пярэсцягі ёй** з гаю Шусь пануры Дамянік!* (Я.Колас). ▶ *Стары... выбег, стаў **напярэсцігі**. – Вы куды гэта?* (А.Кулакоўскі). Сін. *напярэймы*. Рус. ***наперехват** кому.*

**НАПЯРЭСЦІЖКІ** *каму* / *каму* **НАПЯРЭСЦІЖКІ** Дав. Характарызатар дзеяння адносна рухомага локума: дырэктыў-фініш: *Хлопцы пабеглі **напярэсціжкі цялятам*** (ППШ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Абл. Сін. *напярэймы*. Рус. ***наперехват** кому.*

**НА РАГУ (Месн. адз.л.)** *чаго* / **НА** *якім* **РАГУ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў; звычайна пры назоўніку *вуліца* або тапоніме: *І, божа літасцівы, як яна перапалохалася і як заенчыла немым крыкам, калі незнарок **на рагу вуліцы** наскочыла на кульгавага, з жоўтаю кацубою яўрэя* (В.Адамчык). *Міця сустрэў Чэсю ... дзе стаялі не дакончаныя дамкі і дзе **на рагу вуліц**, займаючы шырокі пляц, па-купецку ганарыста рассеўся прыгожы выштукаваны будынак* (В.Адамчык). *Гродзенскі жаночы кляштар св. Брыгіты, што **на рагу вуліц** К.Маркса (былая Брыгіцкая) і Маладзёжнай (былая Навікоўская) быў заснаваны маршалкам вялікага княства Літоўскага Кшыштафам Весялоўскім і яго жонкай Аляксандрай* (В.Швед). *Тэлефон-аўтамат **на рагу дзвюх** аціхлых **вуліц:** перадумвае, што чуў за дзень* (А.Разанаў). ▶ ***На рагу*** [вуліцы] *пад каштанамі нейкая жанчына гандлявала марожаным* (В.Быкаў). Сін. *на скрыжаванні; на перасячэнні*. Рус. ***на перекрестке** чего; **на пересечении** чего.*

**НА РАГУ З** *чым* Тв. Ускладн. Прастор.: лакатыў; звычайна пры назоўніку *вуліца* або тапоніме: ***На рагу з Арджанікідзэ** ён зноў павярнуў* (Н.Бабіна). Рус. ***на углу с** чем.*

**НА РАГУ** *чаго* **І** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў; звычайна пры назоўніку *вуліца* або тапоніме: *...Ён штораніцы а палове на дзесятую п'е каву ў кавярні **на рагу Пушкіна і Прарэзнай*** (А.Пінхасік). *Прынятыя ў Саюз пісьменнікаў, мы тады добра*

*пасядзелі ў невялічкім рэстаране **на рагу Ленінскай і Інтэрнацыянальнай*** (А.Асіпенка). Рус. ***на углу*** *чего* ***и*** *чего.*

**НА РАГАХ (Месн. мн.л.)** *чаго* Род. Ускладн. Звычайна са словам *вуліца* ў мн.л.: *...нагрувашчванне жыццяў, якія так і не трапілі ў летапісанне, бясконцыя шэрагі кабетаў **на рагах вуліц**...* (Э.Джонг. Пер. А.Дынько). Рус. ***на перекрестке*** *чего* (мн.ч.).

**НА РАДАСЦЬ[1]** *каго* Род. Бенефіцыянтыў-кансеквентыў: *ЦК КПБ(б) жадае Вам доўгага жыцця і новых велізарных поспехаў у вашай далейшай мастацкай творчасці **на радасць працоўных*** (Прывітанне Янку Купалу). Сін. *на карысць; дзеля*. Рус. ***на радость*** *кому.*

**НА РАДАСЦЬ[2]** *каму / каму* **НА РАДАСЦЬ / НА** *якую* **РАДАСЦЬ** *каму* **/ НА РАДАСЦЬ** Дав. Бенефіцыянтыў-кансеквентыў: *У аблаве, побач стоячы, **на радасць ліху**, Стралялі цёзкі ўдвух зараз у медзвядзіху* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *А мне здалося, што замест яе нехта ўнёс у пакой вялікую торбу з удодамі і пакінуў яе тут **на радасць акружаючым*** (У.Караткевіч). «*И разошлись, как в море корабли», **нямаведама якому чорту на радасць**, а сабе на смутак* (У.Караткевіч). *Мастак Георгій Паплаўскі законна і сумленна заваяваў высокую сваю ўзнагароду. На гонар сабе і **на радасць Беларусі*** (У.Караткевіч). Сін. *дзеля.* Рус. ***на радость*** *кому.*

**НА РАДЗЕ** *чаго* Род., мн.л. Рэлят уключэння: *У ЗША **на радзе паветраных ліній** нізкага і высокага напружання ўстаноўлены апоры са шклапластыку* (Розен). Русізм. Сін. *на шэрагу*. Рус. ***на ряде*** *чего.*

**НАРАЗЕ** *чаго* Род. Кандытыў: ◊ ***Наразе чаго*.— *Тады, **наразе чаго**, трэба ўстрымацца*** (В.Адамчык).↔ **Наразе чаго ... то**. Рус. ***в случае*** *чего.*

**НА РАЗГАЛІНАВАННІ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў; з назвамі вуліц: *Месца расстрэлу было **на разгалінаванні Койданаўскага і Ігуменскага трактаў**, недзе ў раёне цяперашняй фабрыкі-кухні або паштамта* (У.Караткевіч). Сін. *на скрыжаванні*. Рус. ***на разветвлении*** *чего.*

**НА РАЗГАЛКУ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Калі выехалі **на разгалку дарог**, ён перабіў Зубрычава настаўленне...* (І.Мележ). Сін. *на скрыжаванне.* Рус. ***на развилку*** *чего.*

НА РАЗГАЛЦЫ *чаго*

**НА РАЗГЛЯД** *каго/чаго* Род. Адрасат: *Усе гэтыя ідэі будуць вынесены **на разгляд Кабінета міністраў** Латвіі ўжо на наступным тыдні* («Звязда», 18.02.05). *Вынесці пытанне **на разгляд сходу*** (ТСБМ). Сін. *у*; *на.* Рус. ***на рассмотрение*** *кого/чего.*

**НА РАЗМІН З** *кім/чым* Тв. Характарызатар: рэлят ўзаемазамены: *Бягуць вятры **з вятрамі на размін**, І цешыць цішу гамана зямная* (Р.Барадулін). Аказіян. Сін. *на замену*. Рус. ***на взаимозамену с*** *кем/чем.*

**НА «РАЗЫХОДЗЕ»** *каго* Род. Ускладн. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Пад канец балявання, **на «разыходзе» гасцей** чуліся ўжо іншыя выслоўі* (М.Я.Грынблат). Аказіян. Рус. ***на расходе*** *кого.*

**НА** *колькі адзінак* **РАНЕЙ** *чаго* / *чаго* **НА** *колькі адзінак часу* **РАНЕЙ** Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: тэрмінатыў + градуатар: *Мяркуем прыкладна **на месяц раней** усталяванага **тэрміну** скончыць работы на гэтым аб'екце* (газ.). ***На год раней намечанага тэрміну** завершана будаўніцтва ангара на аэрадроме Ферыхедзь* (А. Лукашук). ▶ *Рак прастаты паражае мужчын ва ўзросце старэй за 50 гадоў, але пачатак пухліннага працэсу адбываецца **на дзесяткі гадоў раней*** («Звязда», 9.02.05). ***На пару стагоддзяў раней**, у Мсціславе жыло 30 тысяч чалавек* (У.Караткевіч). *На пад'ездзе да Менску я перабраўся ў апошні вагон, каб бліжэй было бегчы да аўтавакзалу і з радасцю адзначыў, што цягнік набліжаецца да станцыі **хвілін на пяць раней*** (А.Мельнікаў). Рус. ***на*** *сколько единиц* ***раньше****.*

**НАРАЎНЕ З** *кім/чым* Тв. Рэлят роўнасці*: Жаночы алкагалізм ужо практычна стаў **нараўне з мужчынскім*** («Рэгіянальная газета»). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *нароўні з*. Рус. ***наравне с*** *кем/чем.*

**НАРАЎНІ З** *кім/чым* Тв. Рэлят роўнасці: ***Нараўні з Пяруном** выступаў Бог Дый* (Інт.). *Расказвае пра пакуты і гора, якія ім даводзілася зносіць, часам **нараўні з дарослымі*** (Інт.). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; абл. Сін. *нараўне з*. Рус. ***наравне с*** *кем/чем.*

**НА РАХУНАК (Він. адз.л.)** *каго/чаго* Род. Каўзатыў: *Калі беларускае адраджэнне хутка пашыраецца, то гэта мы павінны аднесці **на рахунак** глыбока жывучага **пачуцця самаахові*** (Л.Вашко). Сін. *на; на кошт*. Рус. ***на счет*** *кого/чего.*

**НА РАХУНКУ** *каго/чаго* / **НА** *якім* **РАХУНКУ (Месн. адз.л.)** *чаго* / **НА** *чыім* **РАХУНКУ** Род. Пасэсар-лакатыў: *За ўсю кар'еру **на рахунку Мірнага** адзін тытул у адзіночным разрадзе і 21 – у парным* («Звязда», 05.02.05). ***На рахунку Грэма** 70 міжнародных сустрэч...* («Звязда», 18.05.05). ***На рахунку актора-паэта** каля сотні сыграных роляў, а вершаваных зборнікаў пакуль толькі тры* (М.Скобла). ▲ ***На яго*** [тэатра] ***творчым рахунку** вялікі шэраг інсцэніровак і літаратурна-музычных кампазіцый* («ЛіМ»). Сін. *у*. Рус. ***на счету*** *кого/чего.*

НА РАХУНКІ (Він. мн.л.) *каго/чаго*

НА РАХУНКАХ (Месн. мн.л.) *каго/чаго*

**НАРМАЛЬНА ДА** *чаго* Род. Характарызатар-лакатыў: *У перыгеі і апагеі сілы гравітацыйнага прыцягнення накіраваны **нармальна да арбіты** і спадарожнік рухаецца пад дзеяннем цэнтраімклівага паскарэння* (падручн.). Физ.терм. Рус. ***нормально к*** *чему.*

**НА РОГ** *чаго* / **НА** *які* **РОГ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-фініш: партытыў + камплетыў: *Побач, **на рог страхі**, ён* [снег] *падае наўкос адразу ўніз, як у вір галавой* (І.Пташнікаў). ***На рог стала**, засланы чыстым абрусам, лёг першы блінец* (Я.Брыль). *Заяц, як мячык, падскочыў угару, крута павярнуў і яшчэ хутчэй панёсся полем **на рог лесу*** (Краўчанка: ТСБМ). Сін. *на вуглавы край*. Рус. ***на угол*** *чего.*

**НА РОЛЮ** *каго* Род. Кваліфікатыў: рэлят ізафункцыянальнасці: *Вядомы вучоны* [М.Бахцін] *вылучаў катэгорыю часу **на ролю вядучага элемента** хранатопу* (М.В.Хаўстовіч). *Калі сярод сваякоў такіх не знойдзецца, тады можна запрасіць **на ролю сватоў** кагосьці з сяброў* («Звязда», 24.03.05). *Чыноўнікі, якіх тагачасная сістэма «выпаласкала і адціснула», не здольныя нават былі выпрастаць да канца спіну, а не тое каб прэтэндаваць **на ролю лідэра** нацыі* («Звязда», 14.04.05). *Калі ў 1863 годзе ў Польшчы, Беларусі і Літве ўспыхнула паўстанне, то лепшай кандыдатуры **на ролю ката*** [чым генерал-губернатар М.Н.Мураўёў], *безумоўна, нельга было знайсці* («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). *Пры ўсіх сваіх цудатворных якасцях яна* [Купяцкая Маці Боская] *ніяк не магла прэтэндаваць **на ролю** агульнабеларускай **святыні** і тым больш **святыні** ўсяго насельніцтва «грэчаскай веры» Рэчы Паспалітай* (К.Тарасаў). ***На ролю кіраўніка або хоць бы духоўнага лідэра** «нацыяналістаў» падыходзіў Караткевіч, бо Генюш знаходзілася далекавата, ажно ў Зэльве, а той быў у сталіцы, у эпіцэнтры «беларускага нацыяналізму»* (М.Чарняўскі). Сін. *у якасці*. Рус. ***на роль*** *кого/чего.*

**НА РОСТАНІ (Месн. адз.л.)** *чаго* Род. мн.л. Прастор.: лакатыў: *А **на ростані нашых дарог** бліскавіцы малоцяць цапамі Тыя ружы, якія снапамі да тваіх панакіданы ног* (У.Някляеў). Сін. *на скрыжаванні*. Рус. ***на перекрестке, где расстались***.

**НА РОСТАНЯХ** (**Месн. мн.л**.) *чаго* Род., мн.л. Прастор.: лакатыў: *Краіна, якая, у сілу свайго геапалітычнага становішча, за тысячагоддзе пабывала **на ростанях супрацьлеглых культурных уплываў** – візантыйства і праваслаўя з аднога боку і каталіцкага Рыму з другога ... павінна была б, улічваючы клінічную слабасць цэнтралізуючых дзяржаўных традыцыяў, даўно распаўзціся на бясформны кангламерат этнічных «земляў»* (А.Забужко. Пер. М.Баярына). Рус. ***на перекрестках*** *чего.*

**НА РОЎНАЙ З** *кім/чым* Тв. Рэлят роўнасці: *Мы разумелі з Пятром, што Валодзя яшчэ не настолькі ўздужэў, каб **на роўнай з намі** выконваць усялякую работу ў падарожжы* (В.Ждановіч). Сін. *нароўні з; на роўні з.* Рус. ***наравне с** кем/чем.*

**НАРОЎНЕ З** *кім/чым* Тв. Рэлят роўнасці: *Гінуць не толькі старажытныя цывілізацыі, няўцямныя таямнічыя пісьмёны мінулавеччыны, дагістарычныя умельствы шаманіць над агнём..., але ж **нароўне з аджылым** падуладная вызначальнай загубе і самая найноўшая, самая нязломная навіна* (Л.Вашко). Сін. *нароўні з; аднолькава з.* Рус. ***наравне с** кем/чем.*

**НА РОЎНІ-1** *каго/чаго* Род. Рэлят прыраўнівання: *На пачатку гэтага году беларускі падпалкоўнік меў заробак **на роўні расейскага генерала*** (Інт.). Сін. *на ўзроўні*. Рус. ***на уровне** чего.*

**НА РОЎНІ-2** *колькіх адзінак* Род. Рэлят квантыфікацыйнага прыраўнівання; з колькасна-іменным спалучэннем: *Парог, з якога аперацыі з нерухомасцю трапляюць у сферу асаблівага кантролю, застаўся **на роўні 2000 базавых велічыняў*** (Інт.). Сін. *у эквіваленце; у суме; у колькасці*. Рус. ***на уровне** скольких единиц.*

**НАРОЎНІ З** *чым* / **З** *чым* **НАРОЎНІ / НА-РОЎНІ З** *кім/чым* / **НА РОЎНІ З** *кім/чым* / **НАРОЎНІ** Тв. Рэлят роўнасці: *Беларусы таксама надзялялі Жанчыну-Маці выключным сацыяльным статусам. Культ Рожаніцы, Берагіні, Лады, Лёлі **нароўні з культам** продкаў быў вызначальным у фарміраванні сістэмы сацыякультурных каштоўнасцяў* (Я.Крук: «Звязда»). ***Нароўні з дубам** бяроза лічыцца адным з найбольш ушаноўваемых дрэў* («Звязда»). *Цябе цікавіць не жыцця нахіл, Што **з ворывам чарнобыльскім нароўні**, Цябе цікавіць аравійскі пыл, Што сыплецца ў афінскія жароўні* (Л.Дранько-Майсюк). *Веру ў Духа Святога, Што сыходзіць ад самога Бога, каму **нароўні з Айцом і Сынам** пакланяемся, не лічачы рокаў* (Р.Барадулін). «*Neuro Dubel» – адзін з трох культавых беларускіх гуртоў, **на роўні з NRM I «Ляпісам Трубецкім»*** (Інт.). *Мы, грамадзяне Беларусі, назіраючы, а не вызначаючы, ход падзеяў у сваёй краіне і жывучы рэмінісцэнцыямі, стаім **на-роўні з эмігрантамі*** («Наша слова», № 35). || Прыслоўе: *І паэтка вяла з імі дыялогі **нароўні**, хоць пасля васьмігодкі закончыла не універсітэцкі гістфак, а архітэктурна-будаўнічы тэхнікум* (М.Скобла). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; размоўн. Сін. *нараўне з; нага ў нагу з.* ▬ *Нага ў нагу – **нароўні з кім-небудзь**, у адпаведнасці з кім. – чым-небудзь* (ТСБМ). Рус. ***наравне с** кем/чем.*

**НА РУБЕЖ (Він. адз.л.)** *чаго/якога часу* Род. Час.: тэмпаратыўдырэктыў: *Найбольш значныя хвалі эміграцыі з Беларусі прыпадаюць **на рубеж 19 – 20 ст**.* (Інт.). Сін. *на мяжу*. Рус. ***на рубеж** чего.*

**НА РУБЯЖАХ (Месн. мн.л.)** *чаго* / **НА РУБЯЖАХ** Род. Прастор.: лакатыў: ▶ *На гарадскіх сценах, ля крапасных брам, у засадах* ***на рубяжах*** *стаяла змерзлая злая варта* (К.Тарасаў). Рус. ***на рубежах*** *чего.*

**НА РУБЯЖАХ** *чаго* **І** *чаго* Мн.л. Род.-Род. Прастор.: перан. лакатыў адносна двух локумаў: *Чалавек зможа многае, калі ў любой сітуацыі здолее заставацца самім сабою. А такія сітуацыі ў першую чаргу ствараліся ў экстрэмальных умовах, на парозе «жыцця і смерці»,* ***на рубяжах дабра і зла****, вернасці і здрады, на мяжы чалавечых мажлівасцей* (Інт.). Сін. *на мяжы*. Рус. ***на рубежах*** *чего* ***и*** *чего.*

НА РУБЯЖЫ (Він. мн.л.) *чаго*

**НА РУБЯЖЫ-1 (Месн. адз.л.)** *што – што* **ДА** *чаго* Наз.-Наз.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: працяжны лакатыў-анамасіятыў: *Арміі атрымалі загад Стаўкі да зыходу 28 чэрвеня заняць абарону* ***на рубяжы Краслава – Дзісна –Полацкі УР – Віцебск – Орша – р.Дняпро да Лоева*** (Энцыклапедыя гісторыі Беларусі, т.1). Ваен. тэрм. Сін. *на лініі ... – ... да*. Рус. ***на рубеже*** *что – что ...****до*** *чего.*

**НА РУБЯЖЫ (Месн. адз.л.)** *чаго* / **НА** *якім* **РУБЯЖЫ** *чаго* / **НА** *якім* **РУБЯЖЫ** Род. Час.: тэмпаратыў адносна двух кропак: *Венеды – славянскія плямёны эпохі першабытнаабшчыннага ладу, якія* ***на рубяжы нашай эры*** *насялялі тэрыторыю ад Эльбы да Дняпра* (ТСБМ). || Назоўнік з прыназоўнікам: *Зайчаня маё, сэрца, бяжы, затаіся дзе-небудзь, замоўкні... Гэта восень* ***на рубяжы****, лістапад зазірае ў вокны* (А.Разанаў). Сін. *на мяжы*. Рус. ***на рубеже*** *чего.*

**НА РУБЯЖЫ (Месн. адз.л.)** *чаго* І *чаго* Род. Час: лакатыў/тэмпаратыў адносна двух локумаў/часавых кропак: *Залевы. Дражняць міражы. Гудуць вятры пры падыходзе... Мы кожны дзень* ***на рубяжы былых і будучых стагоддзяў*** (А.Разанаў). Сін. *на мяжы... і; на сумежжы... і.* Рус. ***на рубеже*** *чего* ***и*** *чего.*

**НА РУІНАХ** *чаго* / **НА** *якіх* **РУІНАХ** *чаго* / **НА** *чыіх* **РУІНАХ** Род. Лакатыў: ***На руінах аднае з найдаўнейшых у Еўропе аграрных культураў****, пасля галадамору й прымусовай калектывізацыі («традицій підрізації», як сказаў паэт), украінцы патрохі, упарта й цярпліва аднаўляюць свае genii loci, культ месца* («Arche»). ■ *Мёртвы фальклор як бы дазваляе адвольна, самападстаўна развівацца* ***на сваіх руінах новасакральнай творчасці****, не з'яўляючыся перашкодаю, прыгонам для яе* (Л.Вашко). Аказіян. Рус. ***на руинах*** *чего.*

**НА РУКАХ** *каго* Род. Канфірматыў: рэлят суладдзя: *Тут* ***на руках прыхільнікаў*** *маршалак новы* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Аказіян. Сін. *пры падтрымцы.* Рус. ***на руках*** *кого.*

**НА РУКАХ З** *кім* / **З** *кім* **НА РУКАХ** Тв. Ускладн. Характарызатар-кандытыў: *Куды мне, **на руках з малым дзіцем**?* (з размовы). ***З малымі на руках** на чужбіну ехаць?* (з размовы). Рус. ***с** кем **на руках.***

**НА РУКАХ У** *каго* Род. Ускладн. Сітуатыў: характарызатар + пасрэднік: *Калі бацьку знайшлі, было вельмі позна – ён памёр **на руках у доктара Ніколава*** («ЛіМ», 27.02.04). *«Я – член Саюза пісьменнікаў!!!» І ад таго запалошнага крыку я канчаткова самлеў **на руках у** вопытнага **Міколы Мятліцкага*** («ЛіМ», 27.02.04). Аказіян. Сін. *у прысутнасці*. Рус. ***на руках у** кого.*

**НА РЫНКУ** *чаго* Род. Сітуатыў: стан асяроддзя: *Ад 33 да 40 % жаночага насельніцтва занятыя **на рынку працы** ў заходніх краінах, але амаль дзве траціны жаночага насельніцтва застаецца за межамі рынку рабочай сілы* (К.Мілет. Пер. А.Скурко). *Як у вас справа наконт супрацоўніцтва з рознымі ўстановамі, іншымі выдавецтвамі, ці канкурыруеце вы **на рынку кнігадрукавання і распаўсюджвання**?*(«ЛіМ»,23.04.04). Ант. *за межамі рынку.* Сін. *у.* Рус. ***на рынке** чего.*

**НА РЭАЛІЗАЦЫЮ** *чаго* Род. Ускладн. Фінітыў: *11,1 мільярда рублёў выдзяляюцца **на рэалізацыю рэспубліканскай праграмы** «Захаванне і выкарыстанне меліяраваных зямель на 2000 – 2005 гады»* («Звязда, 25.01.05). Сін. *на.* Рус. ***на реализацию** чего.*

**НА РЭЛЬСАХ** *чаго* Род. Сітуатыў: час + стан асяроддзя: ***На рэльсах калектывізацыі** пачалася прабуксоўка* (Інт.). Аказіян. Сін. *у*. Рус. ***на рельсах** чего.*

НА РЭЛЬСЫ *чаго*

НА САМОЦЕ З *кім/чым*

**НА САМЫМ ПАЧАТКУ** *чаго* / *якога адрэзка часу* Род. Час.: тэмпаратыў адносна эпагею часавага арыенціру: *Распачатая Купалам і Багдановічам **на самым пачатку ХХ ст**. традыцыя санетапісання знайшла плённы працяг* (В.П.Рагойша). ***На самым пачатку 20-х гг.** Я.Колас браў чынны ўдзел у працы клуба беларускай моладзі «Беларуская хатка»* (А.Бельскі). ***На самым пачатку 1920-х** у расійскім пісьменстве саспяваюць і друкуюцца літаратурныя маніфесты і зборнікі новай плыні* (навук.). *Здарылася гэта **на самым пачатку XV стагоддзя**. Тады вялікая бяда звалілася на славян* (У.Караткевіч). ***На самым пачатку лета** зажоўкла бярэзіна ў скверы* (А.Разанаў). ***На самым пачатку ласкавага чэрвеня** званы паклікалі з Мінска адразу трох чалавек* (У.Караткевіч). Ант. *у самым канцы*. Рус. ***в самом начале** чего.*

**НА САІСКАННЕ** *чаго* Род. Фінітыў: *Да ўдзелу ў конкурсе **на саісканне Дзяржаўных прэмій** Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і*

*тэхнікі дапушчаны наступныя работы* ... («Звязда», 23.04.04). Сін. *на спашуканне; на атрыманне*. Клішэ. Рус. ***на соискание*** *чего.*

**НА СВІТАНКУ** *чаго* Род. Час.: фазавы тэмпаратыў: *І толькі Прыбалтыка і дагэтуль любіць, удасканальвае, развівае далей цудоўны «куншт», які дазваляе бачыць свет больш вясёлкавым, чым ён ёсць на самай справе. А гэта ж уласціва кожнаму з нас: нездарма ж мы* ***на світанку жыцця*** *любілі глядзець на зямлю праз каляровыя шкельцы* (У.Караткевіч). Аказіян. Сін. *на пачатку; на золку; на досвітку.* Рус. ***на заре*** *чего.*

**НА СКЛОНЕ** *чаго* Род. Час.: фазавы тэмпаратыў: *Сонца з акна ўжо знікла, і тое ледзьве свяцілася, мабыць,* ***на склоне дня*** (В.Быкаў). Сін. *на схіле; на зыходзе.* Рус. ***на склоне*** *чего.*

**НА СКОНЕ** *чаго* Род. Час.: фазавы тэмпаратыў: *Самы цяжкі грып, звычайна з процьмай ускладненняў, надараецца* ***на сконе пошасці****, недзе напрыканцы лютага – у сакавіку* (Інт.). *Прывезлі ёй пісьмо* ***на сконе дня*** (В.Сідарэнка). *І недзе там,* ***на сконе дня****, укрыўшы голаў покрывам са сну, упрыгожыць нехта скронь сваю сярпа нашчэрбленым лязом* (Х.Кашкурэвіч). Сін. *у канцы; на схіле.* Рус. ***в конце*** *чего;* ***на скончании*** *чего.*

**НА СКОСЕ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Ён з поўнай патэльняй наведвае стол, калі ўжо цяжка апускаецца на крэсла, калі ўжо хапатліва пачынае з'ядаць вячэру, сядзіць, нахіліўшыся наперад* ***на скосе седзіва...*** (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Аказіян. Рус. ***на скосе*** *чего.*

**НА СКРУТ** *чаго* Род. Характарызатар: ◊ *На злом галавы – тое, што і* ***на скрут галавы*** (ТСБМ). ━ *Валодзя зухавата крутануў рулём і памчаў нас* ***на скрут галавы*** (У.Калеснік). *Мітрук памчаўся* ***на скрут галавы*** *ў гушчыню зараснікаў* (А.Наварыч). Сін. *на злом*. Рус. ***сломя*** *голову.*

**НА СКРЫЖАВАННЕ** *чаго* **І** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-фініш адносна двух локумаў: *Выходзячы* ***на скрыжаванне Пяхоты Ляновэй і Падгурскей****, яна ледзь не трапіла пад Богшаў бурачковага колеру джып* (Е.Вежнавец). Сін. *на рог; на перасячэнне*. Рус. ***на пересечение*** *чего*.

**НА СКРЫЖАВАННІ-1** *чаго* Род. мн. л. Прастор.: лакатыў адносна двух і больш локумаў: ***На скрыжаванні вуліц*** *наперарэз падводам выскачыў маладзенькі партызан* (Х.Жычка). *Лёс распарадзіўся так, што Слонімскі край аказаўся* ***на скрыжаванні чатырох дарог*** («Звязда», 25.06.05). *Мсціслаў ляжыць у васемнаццаці кіламетрах ад станцыі Ходасы і* ***на скрыжаванні дарог*** *Магілёў – Смаленск і Орша – Крычаў* (У.Караткевіч). *Гром уздыхаў і грукаў*

*глуха* ***На скрыжаванні шумных рэк*** (М.Лужанін). *сам я зразумеўЮ што знаходжуся ў палоне толькі тады, як* ***на скрыжаванні шасейных дарог,*** *куды мы нарэшце выйшлі, убачыў нямецкіх матацыклістаў* (І.Чыгрынаў). ||▶ *Машына спынілася* ***на скрыжаванні*** (ТСБМ). Сін. *на перасячэнні*. Рус. ***на перекрестке*** *чего.*

**НА СКРЫЖАВАННІ-2** *чаго* Род. мн. л. Лакатыў адносна некалькіх перан. локумаў: *Кожны з нас жыве* ***на скрыжаванні розных валентнасцяў*** («Arche»). ***На скрыжаванні дзвюх дзедаўскіх моў*** *Я слова не маю для плачу* (Л.Рублеўская). Рус. ***на пересечении*** *чего.*

**НА СКРЫЖАВАННІ** *чаго* **І** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна двух локумаў: *Першы ў Беларусі гіпермаркет адкрыецца ў Мінску ў 2005 годзе ў мікрараёне Серабранка* ***на скрыжаванні сталічнага праспекта Ракасоўскага і вуліцы Ванеев****а* («Звязда» 29.01.05). Сін. *на перасячэнні ... і.* Рус. ***на пересечении*** *чего* ***и*** *чего.*

**НА СКРЫЖАЛІ** *чаго* / **НА** *якія* **СКРЫЖАЛІ** *чаго* Род. У складзе прэдыката: аб'ектны дырэктыў: ◊ *Запісаць* ***на скрыжалі гісторыі****.* ■ *А выгляд горак крутабокіх, Лясочкаў, хвоек кучаравых, Такіх прыветных і ласкавых, Як дабрадушныя бабулі, І грэлі сэрца і гарнулі, Ў вачах стаялі, як жывыя. Дрыжалі струны гаваркія, Ў агульны тон суладдзя гралі І* ***на нявідныя скрыжалі Трох неажыццяўлёных слоў*** *Пісалі напісы вякоў* (Я.Колас). Аказіян. Рус. ***на скрижали*** *чего.*

**НА СКРЫЖАЛЯХ** *чаго* / **НА самых СКРЫЖАЛЯХ** *чаго* Род. Перан. лакатыў: ◊ ***На скрыжалях гісторыі.*** ▬ *Я шчаслівая, што* ***на скрыжалях Сусвету*** *мы з Кастусём не размінуліся* («Беларусь», № 491). ***На скрыжалях лёсу і гісторыі*** (назва раздзела кнігі «У.Караткевіч»). *Не да лірыкі, калі ты нібы* ***на самых скрыжалях гісторыі*** *– едзеш, вяртаешся не толькі дамоў, але і ў гісторыю – ва ўсякім выпадку, у гісторыю ўзаемаадносін дзвюх палавін адной дзяржавы – Кароны і Княства* (А.Лойка). Рус. ***на скрижалях*** *чего.*

**НА СЛАВУ** *каму/чаму* Дав. Фінітыў-бенефіцыянтыў: *Каб спасцігалі ўсе навукі і раслі Табе, Творцу нашаму, на славу, бацькам і настаўнікам нашым на радасць і ўцеху,* ***Касцёлу і Бацькаўшчыне на*** *дабро і* ***славу*** (Інт.). Рус. ***во славу*** *чего.*

**НА СЛЕД** *каго/чаго* Род. У складзе прэдыката: ◊ *Выйсці* ***на след каго-н****.* ▬ *Што ж датычыць кармазапарніка, дык нам пакуль, на жаль, не ўдалося выйсці* ***«на след» такіх вытворцаў*** («Звязда», 17.03.05). Аказіян. Сін. *на.* Рус. ***на след*** *кого/чего.*

**НА СЛОЙ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Дзевяць дзесятых масы атмасферы прыпадае* ***на слой да 16 км*** (падручн.). Сін. *на таўшчыню*. Рус. ***на слой до*** *скольких единиц.*

НА СЛУЖБЕ *каму/чаму*

**НА СЛУЖБЕ Ў** *каго* / **У** *каго* **НА СЛУЖБЕ** / **НА** *якой* **СЛУЖБЕ У** *каго* Род. Суб'ектны лакатыў-канфірматыў: *Сюжэтам оперы была гаротная доля дзяўчыны Браніславы* ***на службе ў пана*** (Інт.). *Хто з вас* ***у войску*** *кесара* ***на службе*** *будзе, Няхай маіх слоў гэтых не забудзе* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Бобік – пагардлівая назва паліцаяў, якія былі* ***на службе ў нямецка-фашысцкіх захопнікаў*** *у часе Вялікай Айчыннай вайны* (ТСБМ). Рус. ***на службе у*** *каго.*

**НА СЛУЖБУ** *каму/чаму* / *каму/чаму* **НА СЛУЖБУ** Дав. Бенефіцыянтыў: *Ці мо Пінэты бесаў* ***вам*** *прыслаў* ***на службу?*** *(*А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *І тады гісторыя і праўда ўжо былі пастаўлены* ***на службу палітычнай тэндэнцыі,*** *а значыць, і простай фальсіфікацыі* (У.Караткевіч). *Вецер – «блакітнае паліва» – усё часцей ставяць* ***на службу чалавеку*** (падручн.). Сін. *ва ўладу*. Рус. ***на службу*** *кому/чему.*

**НА СЛУЖБУ Ў**[1] *што* Він. Дырэктыў-фінітыў + канфірматыў: *Калі яго забралі* ***на службу ў царскае войска****, на пытанне рускага пісарчука: «Фамилие?», ад разгубленасці замест «Станкевіч» пралапатаў «Гаўрань»* (А.Гаўрон). Рус. ***на службу во*** *что.*

НА СЛУЖБУ Ў[2] *каго*

**НА СЛЯДЫ** *каго* Род. Прастор.: дырэктыў-транзітыў адносна папярэдняга рухомага локума: *А новы кароль Жыгімонт ужо спяшаўся* ***на сляды мяцежнага князя Глінскага****, і той, бачачы нядружнасць у падтрымцы з боку нібы ўжо згаворaных з ім Белай і Чорнай Русі, стаў уцякаць ад войска Жыгімонта* (А.Лойка). Сін. *следам за*. Рус. ***по следам*** *кого.*

НА СМЕТНІК *чаго;* перан.

**НА СМЕТНІКУ** *чаго* Род. Лакатыў у часе: *Новае – гэта здабытае* ***на сметніку гісторыі*** *старое* (Інт.). Аказіян. Сін. *у.* Рус. ***на задворках*** *чего.*

**НА СМУТАК** *каму* Дав. Бенефіцыянтыў-кансеквентыў: «*И разошлись, как в море корабли», нямаведама якому чорту на радасць, а* ***сабе на смутак*** (У.Караткевіч). Аказіян. Ант. *на радасць*. Сін. *на шкоду*. Рус. ***на печаль*** *кому.*

**НА СПАДЗЕ** *чаго* Род. Час.: фазавы тэрмінатыў: *Гэта ж тут я* ***на спадзе дня*** *ўбачыў у хвалях марскую царэўну* (У.Караткевіч). ***На спадзе стагоддзя*** *ім* (юнакам) *усё-ткі ўнушылі, што адзін радок Гётэ даражэй за перамогі ўсіх армій свету* (Л.Дранько-Майсюк). Ант. *на досвітку; на пачатку*. Сін. *на схіле*; *пад канец; напрыканцы.*Рус. ***на склоне*** *чего.*

**НА СПАЖЫВУ** *каго/каму* Род./Дав. Адрасат: бенефіцыянтыў: *Як вучонага слаўнага мужа вітаў уладыка Яўфімій Скарыну і ўхваль-*

*ваў яго пільнасць і тружаніе, што ён аб ежы духоўнай* ***на спажыву душы*** *дбае і што слава ягоная ўжо далёка чутная, славу слова Божага ўзносіць* (А.Лойка). Сін. *на карысць.* Рус. *на пользу кому/чему;* перен. ***на пищу*** *душе..*

**НА СПАКУСУ** *каму* Дав. Бенефіцыянтыў-кансеквентыў: *Вырасла* ***нам на спакусу*** (ППШ: назоўнік з прыназоўнікам). Рус. ***на искушение*** *кому*.

**НА СПАШУКАННЕ** *чаго* Род. Фінітыў: *Кандыдатура беларускага мастака-скульптара І.Міско вылучана* ***на спашуканне прэміі*** *Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва* (БелаПАН). Сін. *на саісканне*. Рус. ***на соискание*** *чего.*

**НА СПАЧЫН** *чаго* / **НА СПАЧЫН** Род. Фінітыў: ◊ ***На спачын душы*.— *Ахвяраваць залатоўку царкве* ***на спачын душы*** (Інт.). || Прыслоўе: *Час вячоркам* ***на спачын****, Ды не моўкнуць песні, смех* (М.Кавыль). Рус. ***за упокой*** *чего*.

**НА СПІНЕ** *каго/чаго* Род. Ускладн. Рэлянт: ***На спіне настаўніка*** *беларускай мовы, так сказаць, гонар нашай нацыі* (Інт.). Сін. *на плячах; на; на адказнасці*. Перан. Рус. ***на плечах*** *кого;* ***на ответственности*** *кого*.

НА СПІНЕ Ў *кого*

**НА СПОД** *чаго* Род. Дырэктыў-фініш стану: *Пачаў чытаць з алоўкам, упускаючы* ***на спод душы*** *самае кранальнае* (У.Ліпскі). Сін. *у глыбіню; у глыбіні; углыб.* Рус. ***в тайники*** *чего*.

**НА СПОДЗЕ-1** *чаго* / **НА самым СПОДЗЕ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Пры ляску,* ***на самым сподзе*** *зялёнага* ***берага****, сядзеў, мусіць, аглушаны іхнім* [сарок] *раз'юшаным строкатам і крыкам, адурэлы заяц* (В.Адамчык). Сін. *у самым нізе.* Рус. ***в самом низу*** *чего.*

**НА СПОДЗЕ-2** *чаго* / **НА** самым **СПОДЗЕ** *чаго* Род. Лакатыў стану: *Нейкая спакутаваная любасць да яго* [Імполя] *заварушылася* ***на сподзе душы*** (В.Адамчык). Рус. ***в глубине*** *чего.*

**НА СПОСАБ** *чаго/які* Род. Характарызатар: рэлят прыраўнівання: ▲ *Вёска Шурычы – тыпова беларуская. Аднак носіць на сабе пячаць паўднёвых уплываў: хлявы і гумны не так збудаваны, як у Паўночнай Беларусі, крыты яны болей* ***на спосаб украінскі,*** *на ўсе чатыры бакі, без шчытоў* (Кс. В.Гадлеўскі). ↔ **На спосаб, які.** Сін. *спосабам; на манер*. Рус. ***способом*** *чего.*

**НА СПРАВУ (Він. адз.л.)** *чаго* Род. Фінітыў: *Вось бы іхні імпэт* ***на справу дэмакратызацыі*** (Інт.). ↔ **На справу таго каб.** Сін. *на*. Рус. ***на дело*** *чего.*

НА СПРАВЫ (Він. мн.л.) *чаго*

**НА СПУСКУ ДА** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў + напрамак: *У Магілёве **на спуску да Задняпроўя** стаялі машыны, якія не змаглі ўзабрацца на гару* (У.Караткевіч). Рус. ***на спуске к*** *чему.*

**НА СТАДЫІ (Месн. адз.л.)** *чаго* Час.: фазавы тэмпаратыў: *Гэтая розніца відавочная ўжо **на стадыі ранняй сацыялізацыі** і, вядома, захоўваецца **на стадыі вышэйшай асьветы*** («Arche»). *Аднак шмат дзяцей спыняецца **на стадыі «пробаў»,** не стаючыся хранічнымі таксікаманамі* («Arche»). *Радуюся публікацыям свайго сябра Міхася Южыка, тым больш што звычайна знаёмлюся з яго творамі **на стадыі рукапісу*** (Ю.Нераток). ↔ **На той стадыі калі**. Сін. *на этапе*. Рус. ***на стадии*** *чего.*

**НА СТАДЫЮ (Він. адз.л.)** *чаго* Род. Час.: дырэктыў-фініш: *Беларусь выйшла **на стадыю сучаснага эканамічнага росту*** (газ.). ↔ **На туюстадыю калі.** Сін. *на этап*. Рус. ***на стадию*** *чего.*

**НА СТАНЕ** *чаго* Род. Кансеквентыў: *Дрэннае ці няправільнае харчаванне, шкодныя звычкі могуць адбіцца **на стане здароўя*** («Звязда», 18.02.05). Сін. *на*. Рус. ***на состоянии*** *чего.*

**НА СТАНОВІШЧА** *каго/чаго* Род. Аб'ектн.: дэлібератыў: *Аўтар упэўнена праходзіць па лабірынтах княжых дынастый, феадальных войнаў, уній, заўжды звяртаючы ўвагу **на становішча простага, «згалелага» чалавека*** («ЛіМ»). ↔ **На тое, як.** Сін. *на.* Рус. ***на положение*** *кого/чего.*

**НА СТАНОВІШЧЫ** *чаго* / **НА** *якім* **СТАНОВІШЧЫ** Род. Характарызатар: *У складзе статльнага прэдыката: У мясцовасцях, аб'яўленых **на становішчы ўзмоцненай або надзвычайнай аховы,** ген. – губернатары, губернатары і граданачальнікі надзяляліся правам выдання абавязковых пастаноў «па прадметах, якія адносяцца да прадухілення парушэнняў грамадскага парадку...* (Энцыкл. гіст. Беларусі, т.1). *За парушэнне абавязковых пастаноў вінаватых каралі ў адміністрацыйным парадку: у мясцовасцях **на становішчы ўзмоцненай аховы** – штраф да 500 руб. або арышт да 3 месяцаў,- **на становішчы надзвычайнай аховы** – арышт ці зняволенне ў турме або крэпасці да 3 месяцаў або штраф да 3 тыс. руб* (Энцыкл. гіст. Беларусі, т.1). Сін. *у якасці*. Рус. ***на положении*** *чего.*

**НА СТАРАСЦІ** *чаго* Род. Час.: фазавы тэмпаратыў: ◊ ***На старасці год.*** **—** *Гэта быў проста кар'ерыст, што **на старасці год** выжыў з розуму* (У.Караткевіч).

**НА СТАРОНКАХ** *чаго* / **НА** *якіх* **СТАРОНКАХ** *чаго* / **НА** *якіх/чыіх* **СТАРОНКАХ** Род. Аб'ектны лакатыў: партытыў + камплетыў: *Пачынаючы з № 2 і да апошняга ў 1908 № 26 усе арыгінальныя апавяданні, апублікаваныя **на старонках** першай беларускай*

*легальнай **газеты** ... мелі выключна сатырычна-гумарыстычны характар* (П.І.Навойчык). *Спачатку твор публікуецца на старонках таго ці іншага часопіса, потым лепшае выдаецца асобнай кніжкай* (Р.Баравікова). *Хаця **на старонках часопіс**у не было адкрытых палітычных дэбатаў, пазіцыя «БМ» і яго рэдактара не супадала з дзяржаўнай* («Наша Ніва», 4.02.05 г.). *А яшчэ раней, у 1951-м, імя Івана Навуменкі пачало з'яўляцца **на старонках нашай роднай «Звязды»*** («Звязда», 15.02.05 г.). *Летась **на старонках «Літаратурнай газеты»** друкавалася вялікая палеміка, у якой удзельнічала больш як пятнаццаць (!) аўтараў, пад рубрыкай «Крытыка: Самазабойства жанра?»* (Н.Дзянісава). *Назва «Белая Русь» з'яўляецца **на старонках пісьмовых крыніцаў** недзе ў палове XVIII ст.* (А.Латышонак). *Я даўно люблю Вашы душэўныя, арыгінальныя вершы: час ад часу яны траплялiся мне **на старонках газет** або ў часопісах* (Н.Тарашкевіч – М.Танку). Сін. *у*. Рус. ***на страницах** чего.*

**НА СТАРОНКІ** *чаго* Род. Аб'ектны дырэктыў-фініш: партытыў + камплетыў: *Майстэрства мясцовых дойлідаў, хлебаробаў, шклавараў занесена **на старонкі гісторыі** гэтага краю* («Звязда», 15.02.05). *Упершыню **на старонкі старажытных актаў** паселішча трапляе з сярэдзіны XVII ст. як адна з вёсак маёнтку Івашкавічы, што належаў Шэметам* («Гарадзенскія запісы», 1993 вып.1). Сін. *у*. Рус. ***на страницы** чего.*

НА *колькі адзінак* СТАРЭЙШЫ

**НА СТАЎЛЕННІ ДА** *каго/чаго* / **НА** *якім* **СТАЎЛЕННІ ДА** *каго/чаго* Род. Ускладн. Характарызатар: рэлят стаўлення: ■ *Так, рускі характар фармуе сваю нацыянальную годнасць не на гонары за ўласную прыналежнасць да нацыі, а **на пагардлівым стаўленні да іншых народаў*** (А.Андрыеўская). Сін. *на адносінах да*. Рус. ***на отношении к** кому/чему.*

**НА СТРОМЕ** *чаго* / **НА** *якім* **СТРОМЕ** *чаго* / **НА** *якім* **СТРОМЕ** Род. Аб'ектны лакатыў: партытыў + камплетыў: *Я зведаў найкароткае спатканне **На строме еўрапейскага крыла**, калі раса мядовага змяркання на гіацынты белыя лягла* (Л.Дранько-Майсюк). Аказіян. Сін. *на*. Рус. ***на крутом изломе** чего.*

**НА СТРЫЖНІ** *чаго* Род. Характарызатар: лакатыў-інтэнсіў у часе і прасторы: *Шматлікія замежныя навуковыя паездкі і кантакты дазвалялі быць сапраўды **на стрыжні развіцця** тэарэтычнай граматыкі, блізка пазнаёміцца з асобамі, якія так ці інакш ішлі ў авангардзе развіцця тагачаснай граматычнай думкі, прынамсі, славянскай, але не толькі славянскай* (А.Я.Міхневіч). Сін. *на быстраку; на вастрыі; на пульсе*. Рус. ***на стрежне** чего.*

**НАСТРЭЧУ** *каму/чаму* Дав. Прастор.: дырэктыў-фініш адносна руху локума: *Ідуць рыбакі, пахаваўшы Прахора, **настрэчу буры**, якая абняла паўкраіны* (М.Танк: ТСБПШ). *Дзед бярэ ў мяне з рук пугу, пераварочвае таўсцейшым канцом пужальна і ідзе **настрэчу фурманцы*** (В.Адамчык). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; абл. Сін. *насустрач*. Рус. ***навстречу*** *кому/чему.*

**НАСТРЭЧУ К** *каму/чаму* Дав. Прастор.: дырэктыў-фініш адносна руху локума. Без кантэкста ў ППШ. Сін. *настрэчу*. Рус. ***навстречу*** *кому/чему.*

**НА СТЫКАХ (Месн. мн.л**.) *чаго* / **НА** *якіх* **СТЫКАХ** Род. Ускладн. Лакатыў адносна некалькіх локумаў: *Падвойныя зычныя пішуцца **на стыках марфем*** (падручн.). *Цягнік ідылічна грукатаў **на стыках рэек*** (М.Кундэра). *Кватэры церпяць з-за працечак **на стыках сценавых панэляў*** (газ.). *Латкі, па якіх сцякае вада **на стыках даху**, завалены смеццем і зараслі імхом* (Газета Слонімская). Сін. *на сутоку; на шве.* Рус. ***на стыках*** *чего.*

**НА СТЫКУ (Месн. адз.л.)** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна некалькіх локумаў: *... у паглыбленне **на стыку стрыжняў*** (падручн.). ***На стыку трох рэспублік** Насыпаны курган. Тут біліся без страху І рускі, і латыш. Мы неслі разам страты, Салдаты і браты* (П.Панчанка). Сін. *на шве*. Рус. ***на стыке*** *чего.*

**НА СТЫКУ** *чаго* **І** *чаго* Род. – Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна двух локумаў: *Праціўніку ўдалося прарвацца **на стыку 22-й і 20-й армій*** (Энцыкл. гіст. Беларусі, т.1). *Жыла першую восень без каровы, і ў яе, увішнай, руплівай**, на стыку дня і вечара**... як бы ўтвараўся правал, які не знала чым запоўніць* (І.Шамякін). Рус. ***на стыке*** *чего **и** чего.*

**НА СТЫКУ З/СА** *чым* Тв. Ускладн. Лакатыў адносна кантактнага локума: *Трапіць на другі паверх можна было па прыступках мураванай лесвіцы, якая пачыналася ля самага нізу падпорнай сцяны **на стыку са сцяной** рандэля* (навук.). Сін. *на шве з*. Рус. ***на стыке с*** *чем.*

**НА СУД** *каму* Дав. Ускладн. Адрасат + фінітыў: ◊ *Аддаць **на суд каму*** (ТСБМ). Рус. ***на суд*** *кому.*

**НА СУІСКАННЕ** *чаго* Род. Фінітыў: *Беларускі рэспубліканскі фонд фундаментальных даследаванняў аб'явіў Конкурс **на суісканне грантаў** развіцця «Вучоны-2005»* («Народная воля»). Сін. *на саісканне*. Рус. ***на соискание*** *чего.*

НА СУМЕЖЖЫ *чаго*

**НА СУМЕЖЖЫ** *чаго* **І** *чаго* Род.-Род. Ускладн. Характарызатар: камітатыў: *Педагагічная псіхалогія ўзнікла **на сумежжы педа-***

***гогікі і псіхалогіі*** *і вывучае заканамернасці развіцця чалавека ва ўмовах адукацыі і выхавання* (навук.). Рус. ***на пересечении*** *чего.*

**НА СУМУ**[1] *колькі адзінак* / **НА агульную СУМУ** *колькі адзінак* Наз. Дыменсіў: *Юнакі, разбіўшы вітрыннае акно, пранiклі ў магазін, скралі грашовую выручку ў суме 300 тысч 950 рублёў, товарна-матэрыяльныя каштоўнасці* ***на суму 323 тысячы 180 рублёў*** *і справалі ўцячы* («Звязда», 27.01.05). *У такім разе* ***на суму 250 еўра*** *(эквівалентную кошту слыхавога апарата) грамадзяніну выдаецца па яго жаданню танометр і лекі* («Звязда», 25.02.05). *Трое рабочых гэтага камбіната па месцы працы выкралі 63,6 кг мясапрадуктаў* ***на агульную суму 700000 рублёў*** («Звязда», 28.01.05). Рус. ***на сумму*** *сколько единиц.*

**НА СУМУ**[2] *чаго* Род. Дыменсіў: рэлят прыраўнівання: *Пры актывацыі карты адбываецца аўтаматычнае папаўненне балансу* ***на суму наміналa****, указанага на картцы* (Інт.). Рус. ***на сумму*** *чего.*

**НА СУМУ**[3] *якую* Він. Дыменсіў-дэскрыптыў: *Заўсёды можна падабраць злітак* ***на суму, якую Вы маеце*** (Белгазпрамбанк). Рус. ***на сумму*** *какую.*

НА СУМУ АД *колькіх адзінак*

**НА СУМУ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Кожны парушальнік будзе аштрафаваны* ***на суму ад 1 да 5 базавых велічынь*** (газ.). Рус. ***на сумму от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**НА СУМУ АМАЛЬ** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны дыменсіў: *Усяго грузчык вынес больш як дзве тысячы балонаў* ***на суму амаль дзевяць мільёнаў беларускіх рублёў*** («Звязда»). Рус. ***на сумму почти*** *сколько единиц.*

**НА СУМУ АМАЛЬ У** *колькі адзінак* / **НА агульную СУМУ АМАЛЬ У** *колькі адзінак* / **агулам НА СУМУ АМАЛЬ У** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў: *Пяцёх пікетчыкаў пакаралі штрафамі за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі* ***агулам на суму амаль у 5,5 тысяч даляраў*** (Інт.). Рус. ***на сумму / на общую сумму*** *сколько единиц.*

**НА СУМУ БОЛЕЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Завод даў звышпланавай прадукцыі* ***на суму болей за 340 млн. рублёў*** (газ.). Рус. ***на сумму более*** *скольких единиц.*

НА СУМУ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА СУМУ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

**НА СУМУ БОЛЬШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *У раёне выпрацоўваецца прадукцыі*

*вышэйшага гатунку* ***на суму больш 60 млн. рублёў*** («Звязда», 5.02.05). Рус. ***на сумму более*** *скольких единиц.*

**НА СУМУ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дымансіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Судом задаволены іск, прад'яўлены пракурорам* ***на суму больш за 994 мільёны рублёў*** («Звязда», 18.02.05). Рус. ***на сумму больше*** *скольких единиц.*

**НА СУМУ БОЛЬШ ЧЫМ** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны дымансіў з дакладнай ніжняй мяжой: *У выніку дзейнасці органаў дзяржкантролю і фінансавых расследаванняў у бюджэт паступіла грашовых сродкаў і накіравана ў даход дзяржавы матэрыяльных каштоўнасцяў* ***на суму больш чым 130 млрд. рублёў*** («Звязда», 06.01.05). Рус. ***на сумму более чем*** *сколько единиц.*

**НА СУМУ БОЛЬШ ЯК** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны дымансіў з дакладнай ніжняй мяжой: ***На суму больш як 0,4 млн****. аштрафавана столькі ж канкрэтных кіраўнікоў і іншых службовых асоб* («Звязда», 10.02.05). Рус. ***на сумму более чем*** *сколько единиц.*

**НА СУМУ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дымансіў з дакладнай верхняй мяжой: *Кожны з праектаў-пераможцаў будзе прафінансаваны* ***на суму да 4000 даляраў ЗША*** («Навіны»). Рус. ***на сумму до*** *скольких единиц.*

**НА СУМУ ЗВЫШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дымансіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Вярнуўшыся з Еўпаторыі дамоў, гаспадыня не ўбачыла ў сваёй кватэры крыштальных ваз, салатніц і іншых вырабаў* ***на суму звыш 300 тысяч рублёў*** (газ.) *З піларамы прыватнага прадпрымальніка ўкрадзены піламатэрыялы* ***на суму звыш 100000 рублёў*** (Зводка РАУС). Рус. ***на сумму свыше*** *скольких единиц.*

**НА СУМУ КАЛЯ** *колькіх адзінак* / **НА агульную СУМУ КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дымансіў: *У яе праваахоўнікі канфіскавалі 106 такіх вырабаў* ***на агульную суму каля 12 мільёнаў*** *рублёў* («Звязда»). *У аб'яднанні «Луч» укаранёны гаспадарчыя дагаворы* ***на суму каля 200 мільёнаў рублёў*** («Звязда»,16.02.05). Рус. ***на сумму около*** *сколько единиц..*

**НА СУМУ МЕНЕЙ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дымансіў з дакладнай верхняй мяжой: *Пры разовым закупу прадукцыі* ***на суму меней 350000 рублей +1 %*** *...* (Інт.). Рус. ***на сумму менее*** *скольких единиц.*

НА СУМУ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
НА СУМУ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
НА СУМУ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
НА СУМУ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*

НА СУМУ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
НА СУМУ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
НА СУМУ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
НА СУМУ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
НА СУМУ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
НА СУМУ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
НА СУМУ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
НА СУМУ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
НА СУМУ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
НА СУМУ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
НА СУМУ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
НА СУМУ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
НА СУМУ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
НА СУМУ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
НА СУМУ ПАРАДКУ *колькі адзінак*

**НА СУМУ ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак* / **НА агульную СУМУ ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны дыменсіў: ... *падрыхтаваць праект* ***на суму прыкладна 1 млн. даляраў ЗША*** (Інт.). Рус. ***на сумму примерно*** *сколько единиц.*

**НА СУМУ Ў** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў: *У двары яго дачы знайшлі яшчэ і цэлы склад будаўнічых рыштаванняў, 140 кв.м,* ***на суму ў некалькі мільёнаў рублёў*** («Звязда», 5.02.05). Рус. ***на сумму в*** *сколько единиц.*

**НАСУПЕРАК**[1] *чаго* Род. Характарызатар-адверсатыў: *І рабіў ён* (Гусоўскі) *гэта* ***насуперак*** *створанага кансерватыўнымі арыстакратычнымі вярхамі* ***міфа*** *аб генеалагічнай перавазе рымска-каталіцкай знаці ў Вялікім Княстве Літоўскім над грэка-каталіцкай* (У.Калеснік). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; размоўн.; ТСБМ – прыназ. Сін. *супраць; у супрацьлегласць*. Рус. ***вопреки*** *чему.*

**НАСУПЕРАК**[2]**-1** *каму/чаму* Дав. Характарызатар-адверсатыў: *Але сватацца ды падходжваць да яе не мог – адкаснуўся, чужое нешта, ды як жа ж жыць* ***насуперак душы****, калі сэрца замірала па Караліне* (В.Адамчык). *Яна адчувае, што* ***насуперак*** *ейнай* ***волі*** *яе разжалавалі* (М. Этвуд. Пер. М.Салаўёвай). *Вельмі ўстрывожыла тое, што, прынёсшы ў хату гэта акно, бесхрыбетны Свістуновіч упершыню за доўгія гады іх сумеснага жыцця перастаў падпарадкоўвацца. Пайшоў* ***насуперак ёй****. Займеў сваю думку!* (М.Карпечанка).▶ *Страціўшы волю і здольнасць нешта рабіць* ***насуперак****, паслухаўся* (А. Гаўрон). ↔ **Насуперак таму што.** ТСБМ – прыназ.ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; размоўн. Сін. *процi; наперакор*. Рус. ***против*** *кого/чего.*

**НАСУПЕРАК[2]-2** *каму/чаму* Дав. Сітуатыў: уступка + адверсатыў: *І другое пачуццё. І здзіўленне, і недаўменне, і пашана да таго, хто блізу сто гадоў таму назад упарта, як парастак паміж плітамі тратуара, пралез паміж дзвюма стыхіямі, рускай і польскай,* ***насуперак усім*** (Я.Брыль). *У распрацоўцы канцэпцыі аўтар арыентуецца на філасофію пантэізму... не ігнаруючы, аднак,* ***насуперак традыцыйнаму геаграфізму****, маштабы гістарычнай дзейнасці чалавека па пераробцы прыроднага асяроддзя* (Т.І.Шамякіна). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; размоўн.; ТСБМ – прыназ. Сін. *нягледзячы на.* Рус. ***вопреки*** *кому/чему.*

Утварае клішаванае спалучэнне з назоўнікам і фарміруе ўскладненую сінтаксему:

· **НАСУПЕРАК волі** *каго* Род. Ант. *па волі.* Рус. ***вопреки воле*** *кого/чего*.

· **НАСУПЕРАК жаданню/ям / чаканню/ям / спадзяванню/ям** *каго* Род. ***Насуперак чаканням,*** *людзей перад гэтай рэліквіяй стала меней* (С.Харэўскі). Ант. *згодна з жаданнем/ямі / чаканнем/ямі / спадзяваннем/ямі.* Рус. ***вопреки ожиданию/ям*** *кого*.

· **НАСУПЕРАК загаду /указу / дэкрэту / дырэктыве / указанню** *каго/чаго* Род. *Езуіцкі ордэн,* ***насуперак указу*** *Пятра І ад 1719 года і таму, што Рэч Паспалітая на сваіх землях яго скасавала, падтрымала Кацярына* (К.Тарасаў). Ант. *згодна з загадам / указам / дырэктывай/ дэкрэтам.* Рус. ***вопреки приказу / указу / директиве / декрету*** *кого/чего.*

· **НАСУПЕРАК закону/ам / правілу/ам** *каго/чаго* Род. *Асабліва псуюць і калечаць мову бяздумныя калькавыя пераклады і так званыя канцылярыты, калі і само слова, і канструкцыя фразы робяцца сілком,* ***насуперак законам*** *мовы* (Я.Скрыган). *Усевалад Гарачка...* ***Насуперак агульнапрынятаму правілу*** *не друкаваць дзённікі пры жыцці, апублікаваў іх у дваццацігадовым узросце* (М.Скобла). Рус. ***вопреки закону/ам / правилу/ам*** *кого/чего.*

· **НАСУПЕРАК ініцыятыве** *каго/чаго* Род. Ант. *па ініцыятыве.* Рус. ***вопреки инициативе*** *кого/чего*.

· **НАСУПЕРАК традыцыі/ям / звычаю/ям** *каго/чаго* Род. Ант. *па традыцыі/ям / звычаі/ях.* Рус. ***вопреки традиции/ям / обычаю/ям*** *кого/чего*. І г.д.

**НАСУПОР[1]** *каго/чаго* Род. Уступальны кандытыў: *А калі,* ***насупор ціхіх дум****, падалася каманда: «Гатова!»...* (П.Глебка: ТСБПШ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; размоўн. Рус. ***наперекор*** *кому/чему.*

**НАСУПОР²-1** *каму/чаму* / *каму/чаму* **НАСУПОР** Дав. Уступальны кандытыў-адверсатыў: *Рабіў **насупор жаданням*** (ППШ). ***Насупор ўсяўладнаму лёсу** я ільды і пустыні скрышыў, я прыйшоў да твайго уцёса – кедр каханы з паўночных вышынь* (У.Караткевіч). *З цёмных старадаўніх хат выбіліся на святло, як парастак з зямлі, **насупор нягодам, бурам, сухавеям, тысячам навалаў*** (У.Караткевіч). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; размоўн. Сін. *наперакор*. Рус. ***наперекор** кому/чему.*

**НАСУПОР²-2** *каму/чаму* Дав. Адверсатыўны дырэктыў-фініш адносна руху локума: *І **насупор дажджу і ветру** вялі прасторныя шляхі цераз балоты, цераз нетры, цераз пяскі пустынь сухіх* (П.Глебка).▶*Твары цьмяныя **насупор** узіраюцца: смерці збыцца... Запытаешся: «Гэта сабор?..» Гэта – бальніца* (А.Разанаў). Сін. *насустрач*. Рус. ***навстречу** кому/чему.*

**НА СУПРАЦОЎНІЦТВА Ў** *што* Він. Ускладн. Дырэктыўфінітыў: *У тым, што мяне з разведкі паклікалі **на супрацоўніцтва ў падпольную рэдакцыю**, што неўзабаве штабной машыністцы было сказана перадрукаваць пад маю дыктоўку тое з маіх рукапісаў, што было адаслана на Вялікую зямлю, прымаў вырашальны ўдзел і Царук разам са сваім сябрам і паплечнікам па барацьбе і пакутах Жалезняковічам* (Я.Брыль). Сін. *у*. Рус. ***на сотрудничество в** что.*

**НАСУПРАЦЬ-1** *каго/чаго* Род. Простор.: адверсатыўны лакатыў: *Ён* [Ігнатовіч] *з натугай падняўся і пайшоў да століка, што стаяў **насупраць доўгага стала**, як бы адпілаваны ад яго, – такой жа канфігурацыі* (І.Шамякін). *Тады заўважыў я **насупраць сэрца** пляму, А пан з хістаннем паказаў рукой на браму* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Перад абедзвюма часткамі ўзаемназваротнага займенніка: *Спазніўся ўстаць і спазніўся легчы, спазніўся пачаць работу і спазніўся скончыць – і пачалі мяняцца месцамі дні і ночы, вынікі і прычыны, і я апынуўся **насупраць самога сябе*** (А.Разанаў). *Дом пусты, пакоі **насупраць адзін аднаго**, мэбля, якая ў пустэчы мацней давала знаць аб сабе, я чакаў* (В.Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). ▶ *<u>Гіпаліт</u>, які дасюль быў шляхціцам з прыхаванай злосцю, раз'юшанасцю, абы выстаяць, цяпер супакоены і шляхетны, уссеўся на ганаровай лаве і кіўком галавы прывітаў радзіну аконама з Іканю, што сядзела **насупраць*** (В.Гамбровіч. Пер. В. Булгакава). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *напроці*. Рус. ***напротив** кого/чего.*

**НАСУПРАЦЬ-2** *каго/чаго / каму/чаму* Род./Дав. Характарызатар: адверсатыўны дырэктыў-фініш: *І я пайшоў **насупраць плыні**, каб дакапацца, дзе клубок* (М.Лужанін: ТСБПШ). *Песня **насупраць дажджу**, што хвошча ў вочы, песня пад грукат грымотаў – гэта, і*

*гэта найбольш помніцца з «Майго спадарожніка»* (Я.Брыль). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *настрэчу*. Рус. ***встречь** чего.*

**НАСУПРАЦЬ-3** *каго/чаго* Род. Характарызатар-адверсатыў: ▶ *Калі Чарняхоўскі падышоў да машыны, з кустоў **насупраць** вытнуўся танкіст, што зашпільваў камбінезон* (І.Мележ). Рус. ***напротив** чего*.

**НАСУПРАЦЬ-4** *каго/чаго* Род. Рэлят параўнання*: Ты **насупраць настаўніка** яшчэ хлапчук* (П.П.Шуба). Сін. *у параўнанні з*. Рус. ***против** кого/чего.*

**НАСУПРАЦЬ-5** *каго/чаго* Род. Час.: фазавы тэмпаратыў: *Ну, дзед, шчаслівa! Глядзі, каб усе расклеіў. Ды асцярожна – **насупраць дня** ідзеш* (А.Кучар: ТСБПШ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *перад*. Рус. ***перед** чем.*

*адзін* **НАСУПРАЦЬ** *аднаго* Інтэрпазіц. адносна частак ўзаемназваротнага займенніка: *Народ, схіліўшыся і праглынуўшы аплаткі, адвандраваў назад у прытворы, служкі зноў сцягнулі з лаваў посьцілкі, потым яны, стоячы паўкругам **адзін насупраць аднаго**, зноў разамкнулі фронт лаваў; святар з сваім рыштункам таксама падаўся назад да аўтара; тут ён посцілкай выцер келіх і паставіў за створкі* (П.Гандке. Пер. Я. Балясіна). Рус. *друг* **напротив** *друга.*

**НАСУПРАЦЬ ПРАЗ** *што* / **ПРАЗ** *што* **НАСУПРАЦЬ** Він. Ускладн. Прастор.: адверсатыўны лакатыў-транзітыў: *Яе каханак, з якім іх пасадзілі аднačасова, сядзеў **насупраць праз двор*** (Э.Кантуркава. Пер. С. Сматрычэнкі). Сін. *насупраць цераз*. Рус. ***напротив через** что.*

**НАСУПРАЦЬ ЦЕРАЗ** *што* Він. Ускладн. Прастор.: адверсатыўны лакатыў-транзітыў: *Але калі статак прайшоў і яна пагаварыла з настаўніцай Кусянковай, якая жыла **насупраць цераз вуліцу**, трымала карову і праклінала сваё жыццё... – Таісіна рашучасць купіць карову знікла* (І.Шамякін). Сін. *насупраць праз*. Рус. ***напротив через** что.*

**НАСУПРАЦЬ У** *чым* Месн. Ускладн. Прастор.: адверсатыўны лакатыў: *Я пабег у пакой і пабудзіў бацьку: брат ляжыць там **насупраць у гумне*** (П.Гандке. Пер. Я. Балясіна). Рус. ***напротив в** чем*.

**НАСУПРОЦІЎ** *каго/чаго* Род. Прастор.: адверсатыўны лакатыў: *А на другім паверсе ў той жа час у залі, Якую некалі люстэркаваю звалі, Стаяў Граф на балконе **насупроціў брамы** І ветрам халадаўся* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *насупраць*. Рус. ***напротив** кого/чего*.

***НАСУПРОЦЬ*** ТСБМ – прыназ.

**НАСУПРОЦЬ-1** *чаго* Род. Прастор.: адверсатыўны лакатыў: *Тая белая вежа **насупроць КДБ** – мая* (Е.Вежнавец). *Дзяўчына пры-*

*села на лаўку* ***насупроць дома*** (Р.Даніленка). *Цагляная аграмадзіна ў чатыры паверхі высілася* ***насупроць гарадскога парку*** (З.Бядуля). ▶ *<u>У двор каля ліпы</u> пажылы чалавек уводзіў з пашы каня, з двара* ***насупроць*** *выганялі парасят* (І.Мележ). *Костусь прыпыніўся* ***насупроць баранавалокаў*** *і чакаў, пакуль яны вернуцца назад* (К.Чорны: ТСБПШ). ***Насупроць кавярні*** *спыніўся аўтобус, адкуль палезлі грыбнікі* (Інт.). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *насупраць*. Рус. ***напротив*** *чего.*

**НАСУПРОЦЬ-2** *чаго* Род. Час.: фазавы тэмпаратыў: *Лятае сокал, стоміцца – садзіцца на белы камень,* ***насупроць начы****, і слухае: ці то звініць крыніца, ці то звіняць харобрыя мячы* (Т.Бондар). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *процi*. Рус. ***против*** *чего*.

**НАСУПРОЦЬ-3** *каго/чаго* Род. Рэлят параўнання: *Ладымер* ***насупроць Сымона*** *зусім шчуплы і худы* (К.Чорны). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *у супрацьлегласць*. Рус. ***в противоположность*** *кому/чему.*

**НАСУПРОЦЬ-4** *каго/чаго* Дав. Прастор.: адверсатыўны дырэктыў: *Ляцеў бы* ***ветру насупроць****, раздоллем цешыўся бялёсым* (Ю.Гаўрусёў). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *наперакор*. Рус. ***наперекор*** *чему*.

**НАСУПРОЦЬ-5** *каго/чаго* Род. Адверсатыў: *Цямраная сіла свету старога сплятаецца ў чорны клубок, адна ў яе думка, мэта, дарога – паўстаць* ***насупроць жыцця*** *маладога, спыніць наш вясенні паток* (Я.Колас: ТСБПШ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *супраць*. Рус. ***против*** *чего*.

*хто/што* **НАСУПРОЦЬ** *каго/чаго* Род. Інтэрпаз. З узаемназваротнымі займеннікамі: *Пасядуць Гальяш і Зоська* ***адно насупроць другога*** *і перапытваюць усялякую драбязу* (К.Чорны). Рус. *друг* ***против*** *друга.*

**НАСУПЯРЭЧ** *каму/чаму* Дав. Адверсатыў: *Ну, іншы раз і ён агрызнецца і скажа што-небудзь* ***насупярэч*** *зайздроснаму* ***Купрэю*** (Я.Колас). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *наперакор*. Рус. ***наперекор*** *кому/чему.*

**НАСУСТРАЧ-1** *каму / каму* **НАСУСТРАЧ** / *каму* **НА СУСТРАЧ** Дав. Дырэктыў-фініш адносна супрацьлегламу руху локума: *Яна пабегла* ***насустрач куранёўцам****, што каля лесу ўчулі яе* (І.Мележ). *Надзейка падняла шклянку з пралескамі да твару, панюхала, прыжмурыўшыся ад прыемнасці, і, паставіўшы назад, кінулася* ***насустрач бацьку,*** *што затрымаўся быў на кухні* (Т.Хадкевіч). *Корчжа, як стаяў, так і стаяў, глядзеў* ***ёй насустрач****, чакаў, аж пакуль яна не падыйшла* (І.Мележ). *Машыны па шашы ўжо ішлі з уключа-*

*ными фарамі, але, як на злосць, усе з горада,* ***нам насустрач*** (В.Быкаў). *Наперадзе з'явілася нейкая худзенькая дзяўчынка, што ішла* ***нам насустрач*** (А.Кавальчук). ▶ *Ледзь выйшлі за хлявы, убачылі постаць, што ціха сунулася па разоры* ***насустрач*** (І.Мележ). *Міця ішоў, прыглядаючыся да людзей, што сыпалі* ***насустрач****, да няроўнага, з выбоінамі, з дажджавымі лужынамі, ходніку* (В.Адамчык). *Мужыкі, што трапляюцца* ***насустрач,*** *зацкавана глядзяць у зямлю* (У.Караткевіч). *Калі Васіль выбег на двор, перад ім раптам узнікла постаць, што ішла* ***насустрач*** (І.Мележ). Адхіленне ад нарматыўнага злітнага напісання: *Некаторыя пацыенты просяць запратэзаваць іх у крэдыт – есці ўжо няма чым, а грошай на лячэнне яшчэ не назбіралі. У выключных выпадках ідзём* ***ім на сустрач*** («Звязда», 5.02.05). ТСБМ – прыназ.; ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *насустрэчу*. Рус. ***навстречу*** *кому/чему.*

**НАСУСТРАЧ-2** *чаму* Дав. Прастор. – час.: дырэктыў-фініш адносна будучай падзеі: *Параненыя ведаюць, куды,* ***насустрач чаму*** *і да якіх баёў мы нясём іх* (А.Адамовіч). Рус. ***навстречу*** *чему*.

*хто/што* **НАСУСТРАЧ** *аднаму* / **НАСУСТРАЧ** *адзін аднаму* Дырэктыў-фініш; ва ўзаемназваротных займенніках: *Мы абое адразу ўнурылі позірк далоўкі і, не прамаўляючы ні слова, рушылі* ***адзін насустрач аднаму*** *да пачатку сходаў на першы паверх* («Arche»). *Таму галоўнае пажаданне – спакойна ісці* ***насустрач адзін аднаму****, прыцягваць і пашыраць кола літаратараў* («ЛіМ», 13.02.04). *Мы ідзём* ***насустрач адзін аднаму****, і адлегласць між намі ўсё большае* (У.Арлоў). *Абодва адным духам зняліся ...з прыступкі, адным духам сталі проста над кілімам і адначасна, прыставіўшы складзеныя чаўнаком рукі да барады, зрабілі крок* ***адзін насустрач другому*** (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Сін. *насустрэчу.* Рус. ***навстречу*** *друг другу.*

**НАСУСТРАЧ ДА** *каго/чаго* / **ДА** *каго* **НАСУСТРАЧ** Род. Дырэктыў-фініш адносна супрацьлеглага руху локума: *Яны не стралялі, толькі гыркнулі злосна і варожа нешта незразумелае, і адзін, той, што заводзіў матацыкл – белатвары, з абвіслай губой мужчына, – ступіў* ***да яго насустрач*** (В.Быкаў). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *насустрач*. Рус ***навстречу*** *кому/чему*.

**НАСУСТРАЧ З** *чаго* Род. Характарызатар: дырэктыў-старт: *Якія крокі* ***насустрач з абодвух бакоў*** *могуць, на ваш погляд, паспрыяць збліжэнню пазіцый раз'яднаных літаратурных груповак дзеля захавання аслаблай нацыянальнай культурнай і духоўнай прасторы (мовы, літаратуры, мастацтва, традыцый) – беларускай дзяржаўнасці агулам?* (06.02.04). Сін. *насустрач.* Рус. ***навстречу с*** *чего.*

**НАСУСТРАЧ К** *каму/чаму* Дав. Дырэктыў-фініш: *Ісці **насустрач к перамозе*** (ППШ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *насустрач.* Рус. ***навстречу к** кому/чему.*

**НАСУСТРЭЧ** *каму/чаму* Дав. Дырэктыў-фініш адносна супрацьлеглага руху локума: *А ён* [ручаёк] *гучны і смяшлівы, так і ходзіць, аж дрыжыць, І другі сябрук шчаслівы **Насустрэч яму** бяжыць* (Я.Колас: ТСБПШ). *Мы заўсёды ідзём **насустрэч аўтарам** тэкстаў, калі яны не згодныя з нашай рэдактурай* (Інт.). ***Насустрэч** іду **вясне*** (Р.Крушына). *Сымон... **Насустрэч яму** бяжыць. Ты паслухай, дзед сярдзіты, Што там чуецца ўгары* (Я.Колас). *Дык лепш змагацца з невядомым, Ісці **благому насустрэч*** (У.Хадыка). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; размоўн. Сін. *насустрач*. Рус. ***навстречу** кому/чему*.

**НАСУСТРЭЧ ДА** *каго/чаго* Род. Дырэктыў-фініш: *...**Насустрэч да нас** бег шпарка, Каб, як мы сябе ўбачым, Светам нас абліць дрыжачым. Ах! І песня салавейкі, Што так голасам жалейкі Свішча, б'е, перабівае...* (Інт.). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; размоўн. Сін. *насустрэчу да*. Рус. ***навстречу к** кому/чему.*

**НАСУСТРЭЧ К** *каму/чаму* Дав. Дырэктыў-фініш. ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; размоўн. Без кантэкста. Сін. *насустрэч да.* Рус. ***навстречу к** кому/чему.*

**НАСУСТРЭЧУ-1** *каму/чаму* Дав. Рухомы дырэктыў-фініш: *Зялёныя чубкі лесу, далёкія хутары плылі **насустрэчу поезду*** (В.Адамчык). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *насустрач*. Рус. ***навстречу** кому/чему.*

**НАСУСТРЭЧУ-2** *каму/чаму* Дав. Нерухомы дырэктыў-фініш: *А вось як пойдзеш, чалавеча, **Таму касцёлу насустрэчу**, Там будзе вуліца направа...* (Я. Колас). Сін. *да.* Рус. ***к** кому/чему*.

**НАСУСТРЭЧУ ДА** *каго/чаго* Род. Дырэктыў-фініш. ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Без кантэкста. Сін. *насустрач да.* Рус. ***навстречу к** кому/чему.*

**НАСУСТРЭЧУ К** *каму/чаму* Дав. Дырэктыў-фініш. ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Без кантэкста. Сін. *насустрач к.* Рус. ***навстречу к** кому/чему.*

**НА СУТОКУ** *чаго* **І** *чаго* Род.-Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна двух локумаў: *Замак **на сутоку Дняпра і Дубровенкі*** («ЛіМ», 14.05.04). Сін. *на стыку*. Рус. ***на слиянии** чего и чего.*

**НА СУТОННІ** *чаго* Род. Час.: фазавы тэмпаратыў: *Сталася тое фактычна **на сутонні** яго* [Панчанкі] ***жыццёвага шляху**, тады, калі паэту пахілілася на дзевяты дзесятак* (М.Мікуліч). Аказіян. Сін. *у канцы; пад канец*. Рус. ***в конце** чего.*

**НА СУТЫКУ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў адносна двух кропак адлічэння: *А адбылася яна* [выстаўка] ***на сутыку гадоў*** *на новай пляцоўцы – у выставачным комплексе, што на праспекце Пераможцаў* («ЛіМ», 6.01.06). *П'еса прысвечана паўстанню рабоў, якія жылі на Гаіці, супраць каланіяльнага ўладарства Францыі* ***на сутыку XVIII – XIX стагоддзяў*** (Б.Кантаровіч).Сін. *на рубяжы; на мяжы*. Рус. ***на стыке*** *чего*.

**НА СФЕРУ** *чаго* Род Аб'ектны дырэктыў: рэлят увагі: *Сама спецыфіка культасветніцкай адукацыі арыентуе будучых спецыялістаў* ***на сферу народна-сцэнічнага танца*** («ЛіМ», 06.01.06). Сін. *на*. Рус. ***на сферу*** *чего*.

**НА СХІЛАХ** *чаго* / **НА** *якіх* **СХІЛАХ** *чаго* Ускладн. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Рака Свіслач, левы прыток Нёмана, пачынаецца* ***на паўднёва-заходніх схілах Ваўкавыскага ўзвышша****, каля вёскі Занкі ў Свіслацкім раёне* («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). *Нёман і Вілія бяруць свой пачатак* ***на схілах Мінскага ўзвышша*** (падручн.). Рус. ***на склонах*** *чего.*

**НА СХІЛЕ-1** *чаго* / **НА** *якім* / **тым / гэтым СХІЛЕ** *чаго* / **НА** *якім* **СХІЛЕ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Упасці* ***на схіле рова****.* ■ *Толькі голае вершаллё ляшчынніку ціхенька пагойдвалася* ***на тым схіле рова*** (В.Быкаў). Сін. *на адхоне.* Рус. ***на склоне*** *чего.*

**НА СХІЛЕ-2** *чаго* / **НА самым** / *чыім* **СХІЛЕ** *чаго* Род. Час.: фазавы тэмпаратыў: *Аднак у гэты раз* ***на схіле дня*** *яму прымроіліся першыя прадвесці паразы* (І.Кадарэ. Пер. А. Дынько і Ю.Вроні). *Усё на радзіме сябра без сябра страта, і калі* ***на схіле*** *пахмурага* ***дня*** *я збяруся адтуль пайсці, у бязлюдным прагале завулка прыкмечу тое, што спыніць увагу маю і здасца надзіва знаёмым, – старыя вялікія дрэвы* (А.Разанаў). *Што тычыцца М.Танка, то, трэба думаць, упершыню ён пачуў пра Ларысу Геніюш яшчэ* ***на схіле 30-х гадоў*** (М.Мікуліч). *Але лепшую, на мой погляд, кнігу «Заклён на скрутны вір» (1995) Анатоль Вялюгін напісаў ужо* ***на схіле жыцця*** (М.Скобла). *І ўсё тужэй пятля майго маўчання, І ўсё даўжэй мой цень* ***на схіле дня*** (Л.Дранько-Майсюк). ◊ ***На схіле гадоў.*** **—***А найбольш даводзілася крочыць па бездарожжы, па палях і балотах, у дождж і завіруху. Можа таму і баляць ногі* ***на схіле гадоў*** (А.Іверс). ▲ *...Усе кветкі, маляваныя на фанеры, адразу набываюць у маім уяўленні цікетачны «статус». Менавіта цікетачны, нягледзячы на тое, хто іх маляваў і калі – маэстра Маціс на пачатку* <u>*стагоддзя*</u> *ці мой сын-ліцэіст* ***на яго схіле*** (Л.Дранько-Майсюк). Сін. *у канцы.* Рус. ***на склоне*** *чего.*

**НА СХОДЗЕ** *чаго* Род. Час.: фазавы тэмпаратыў: ***На сходзе тыдня*** *пахаладала.* ▬ *Прайду не галоўным рэчышчам, а праточкай, пад ніцай вярбой пасяджу з вудаю, паразважаю* ***на сходзе дня,*** *а паплавок... – Бог з ім – не апошняя рыба ў Прыпяці* (В.Ждановіч). Сін. *на схіле*. Рус. ***на исходе*** *чего*.

**НА СХОНАХ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Вятры шумяць у полі, І дрэмле ў наквеці* ***На схонах ніў*** *сяло* (П.Трус). Сін. *сярод.* Рус. ***среди*** *чего.*

НА СЦЕЖКАХ *чаго*

**НА СЦЕЖКІ** *чаго* / **НА** *якія* **СЦЕЖКІ** *чаго* Род. У складзе прэдыката пасля эксплікатара: дырэктыў: ■ *Каб пазбавіцца ад уяўна літаратуразнаўчай і ўяўна артыкулярнай сур'ёзнасці, ператворымся ў вандроўнікаў, ступім* ***на бесклапотныя сцежкі рамантычнай адвольнасці,*** *бо ўжо рухаецца да нас вандроўны тэатр...* (Л.Дранько-Майсюк). Аказіян. Рус. ***на тропу*** *чего.*

НА СЦЕЖКУ *чаго*

НА СЦЭНЕ *чаго*

**НА СЦЭНУ** *чаго* Род. У складзе прэдыката пасля эксплікатара: дырэктыў: *Пасля гэтага шэрагу забойстваў* ***на сцэну*** *бурлівага* ***палітычнага жыцця*** *выйшаў старэйшы сын Міндоўга Войшалк, які хаваўся ад Трайната ў Пінску* (К.Тарасаў). Сін. *у; на арэну*. Рус. ***на сцену*** *чего.*

**НА СЯРЭДЗІНЕ-1** *чаго* Род. Час.: фазавы тэмпаратыў: ***На сярэдзіне танцу*** *грузчыкі Дому культуры вывезлі ў залю кантэйнеры з падарункамі* («Arche»). Сін. *пасярод*. Рус. ***в середине*** *чего*.

**НА СЯРЭДЗІНЕ-2** *чаго* / **НА самай СЯРЭДЗІНЕ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Салдаты на нейкі момант замуліліся* ***на сярэдзіне плошчы*** *– ісці альбо не ісці далей* (І.Чыгрынаў). ***На сярэдзіне ракі****, дзе плынь была найбольш быстрай, адна пройма раптам вырасла ў доўгую вузкую паласу вады* (У.Краўчанка). ***На сярэдзіне азярца*** *час ад часу разыходзяцца кругі, чуваць усплёск – гуляе рыба* (І.Навуменка). *Старэнькі параходзік з зухаватай назвай «Чаркес» мясіў ваду пліцамі* ***на самай сярэдзіне ракі*** (М.Ракітны). Сін. *пасярэдзіне.* Рус. ***на середине*** *чего*.

**НА СЯРЭДЗІНЕ АДЛЕГЛАСЦІ ПАМІЖ** *чым* **І** *чым* Тв.-Тв., адз.л. – адз.л. Двухч. Ускладн. Прастор.: дыменсіў + лакатыў адносна двух локумаў: *Пры неабходнасці ін'екцыі лекавага рэчыва ў жалудачкі галаўного мозгу іголку ўводзяць на глыбіню 4 – 5 см* ***на сярэдзіне адлегласці паміж*** *заднім* ***краем*** *вядікай пытлічнай адтуліны і асцістым* ***адросткам*** *другога шыйнага пазванка, накіроўваючы яе ўверх па ніжнім краі пытлічнай косці пад вуглом 45 – 60$^o$* (Асно-

вы мед. ведаў). Сін. *паміж...і*. Рус. ***на середине расстояния между** чем **и** чем.*

**НА СЯРЭДЗІНУ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: партытыў + камплетыў: *Дарожка буйных светлых бурбалак, якая з'явілася на паверхні, сведчыла, што на гэты раз бабёр паплыў пад вадой **на сярэдзіну ракі*** (В.Вольскі). Рус. ***на середину** чего.*

**НА ТАЎШЧЫНЮ-1** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Глыбей **на таўшчыню 0,2 м** ішла выбрукоўка з буйных і дробных камянёў* (навук.). Рус. ***на толщину** сколько единиц.*

НА ТАЎШЧЫНЮ-2 *чаго*

**НА ТВАРЫ** *чаго* / **НА** *якім* **ТВАРЫ** *чаго* / **НА** *якім* **ТВАРЫ** Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: ***На твары зямлі** – балючыя шнары вайны.* ▲ *Прыходзяць і адыходзяць акупанты, усе гэтыя пілсудчыкі і эсэсманы, і след іхні знікае **на твары зямным** – а яна (мова) стаіць, бо карані яе ў глыбінях, дзе спяць тыя, хто стагоддзямі песціў, шліфаваў, бярог яе, лаканічную, гнуткую і цвёрдую адначасова, спявучую* (У.Караткевіч). Аказіян. Сін. *на*. Рус. ***на лике** чего*.

**НА ТЛЕ-1** *чаго* / **НА** *якім* **ТЛЕ** *чаго* Род. Лакатыў-фон: *Яго зялёныя вочы вылучаюцца **на тле зорнага неба*** (аб партрэце Борхеса ў тэлеперадачы аб Ван Гогу па канале «Лад» 10.10.04). *Зверху на вяршыні мура няшчытныя гонты даху на муры, пад дахам тоўстыя папярэчныя бэлькі, паміж дахам мура і мурам даўгая палоска неба, **на тле неба** хвалістая, прыгорбленая хада ката* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). *На набярэжнай Сены дастаеш з кайстры і **на тле Сабору Парыскай Божай Маці** ставіш на парапет зялёную бутэльку бардо* (У.Арлоў). *Пішчалаўскі замак – той помнік архітэктуры, да якога не прыводзяць экскурсій, які не пабачыш на сталічных паштоўках, **на тле якога** не фатаграфуюцца турысты* («Arche»). Сін. *на фоне*. Рус. ***на фоне** чего.*

**НА ТЛЕ-2** *чаго* / **НА** *якім* **ТЛЕ** *чаго* Род. Лакатыў: партытыў + камплетыў ■*Чырвоны пас **на белым тле Радзімы**, Ты клічаш нас за волі міг адзіны Узняцца і загінуць без разваг* (А.Мінкін). Сін. *на абліччы*. Рус. ***на лике.***

НА ТЛО-1 *чаго* Сін. *на фон.*

**НА ТЛО-2** *чаго* Род. Дырэктыў-фініш: *Чорная стужка не так даўно заасфальтаванай вуліцы падалася яму жалобнай стужкай, што лягла **на тло яго роднай Бярозаўкі*** (М.Карпечанка). Сін. *на абліччa*. Рус. ***на лик** чего.*

**НА ТОЙ БОК-1** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: партытыў + камплетыў: *Пасля гэтага пайшоў Іісус **на той бок мора** Гал-*

*ілейскага* (Свяшчэннае Евангелле). *А ўсе надзеі на збавенне І на канец таго мучэння, Які настане ўсё ж нарэшце,* ***На той бок смерці*** *перанесці!* (Я.Колас). // ***На той бок ядлаўца*** *бяжыць дзеўка, як гаўца*. Ант. *на гэты бок.* Рус. ***на ту сторону*** *чего*.

**НА ТОЙ БОК-2** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Бераг* ***на той бок рэчкі*** *быў ніжэйшы і ўвесь зарос лазняком*. Ант. *на гэты бок.* Сін. *па той бок; на тым баку*. Рус. ***по ту сторону*** *чего;* ***на той стороне*** *чего.*

**НА ТОКІ Ў** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Некаторыя высакавольтныя дыёды разлічаны на напружанне да 3000 В на кожны пераход, а нізкавольтныя (з вадзяным ахаладжваннем)* ***на токі ў дзесяткі тысяч ампер*** (падручн.). Фіз. тэрм. Сін. *на*. Рус. ***на токи в*** *сколько единиц*.

**НА ТЭМУ[1]** (Адз.л.) «*што»* Наз. Намінат-дэлібератыў: «*Київ Травнений» стаўся для нас урокам* ***на тэму: як важна і як неабходна мець у сталіцы краіны прадстаўнічы тэатральны фестываль*** (В.Салееў). Рус. ***на тему*** «*что».*

**НА ТЭМУ[2] (Адз.л.)** *чаго* Род. Аб'ектн.: дэлібератыў: *Гутаркі* ***на тэму грамадзянскай абароны*** (ППШ). *Я мог бы яшчэ да д'ябла шмат чаго напісаць* ***на тэму рэлігіі*** ... (А.Прасаловіч). *У «Маладосці» Таццяна Ільіна развважае* ***на тэму моладзі і беспрацоўя*** *ў артыкуле «Жыццёвая пазіцыя нулявая ці не?»* («ЛіМ»,20.02.04). *Уразіў нас не знешні выгляд Эйфелевай вежы, а тая нахабнасць і празмерна бестактоўная настойлівасць, з якой новыя парыжане спрабавалі «уперці» нам сумніўнай якасці сувеніры* ***на тэму Эйфелевай вежы*** («Звязда», 18.05.05). «*Сердзібор» іменна і напісан* ***на тэму аднаўлення*** *калгаснай гаспадаркі пасля вайны і, па-мойму, нядрэнна* (П.Пестрак – М.Танку). *Купалаўскі верш «Мая хатка» з'яўляецца па сутнасці вольнай варыяцыяй* ***на тэму аналагічнага верша*** *Багушэвіча «Мая хата»* (В.Івашын). Сін. *аб.* Рус. ***на тему*** *чего.*

**НА ТЭМЫ (Мн.л.)** *чаго* / **НА** *якія* **ТЭМЫ** *чаго* / **НА** *якія* **ТЭМЫ** Род.мн.л./адз.л.аднародных членаў. Аб'ектн.: дэлібератыў: *Кнігі іх* [беларускіх святароў] ***на тэмы рэлігіі, гісторыі, геаграфіі*** *Беларусі, так як і дзейнасць саміх святароў на карысць абуджэння беларускага народа заўсёды былі ў няміласці ад існуючых улад* («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). ▲ *Вось і сёння, прыкутыя хваробай, не можам сустрэцца і, як некалі, пагаварыць не* ***толькі на высокія тэмы – пра дзяўчат, літаратуру, палітыку****, ці хоць бы перакінуцца ў дурня* (М.Танк – П.Панчанку). ▲ *Апроч польскіх прэлекцыяў чытаў таксама па-беларуску* ***на тэмы гістарычныя*** *лек-*

*цыю, нехта з пасярод слухачоў зажадаў, каб чытаць лекцыю па-беларуску* (Кс.В.Гадлеўскі). Сін. *аб; пра.* Рус. ***на темы*** *чего.*

**НА ТЭРМІН АД** *колькі адзінак часу* **ДА** *колькіх адзінак часу* Род. – Род. Двухч. Ускладн. Час.: дыменсіў-патэнсіў з дакладнымі кропкамі адлічэння: *25 % чалавек можа загінуць, калі дапамога спозніцца* ***на тэрмін ад некалькіх хвілін да некалькіх гадзін*** (Асновы мед. ведаў). *Доза ў 0,01 Гр ад знешняга ці ўнутранага апраменьвання здольная скараціць працягласць жыцця чалавека* ***на тэрмін ад 20 гадзін да 5 дзён*** (Асновы мед. ведаў). *Калі на вучоным савеце паспяхова праходзіла абарона праграмы, стварaўся «аддзел генеральнага праекта»* ***на тэрмін ад трох да пяці гадоў*** (газ.). Сін. *на перыяд ад... да.* Рус. ***на срок от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**НА ТЭРМІН БОЛЬШ** *колькіх адзінак* Род. Час.: дыменсіў-патэнсіў: *Усе іншаземцы, якія прыбываюць на вучобу ці работу ў краіну* ***на тэрмін больш 3 месяцаў****, праходзяць праверку на СНІД* (Асновы мед. ведаў). Сін. *на перыяд больш.* Рус. ***на срок более*** *скольких единиц.*

**НА ТЭРМІН БОЛЬШ ЯК** *колькі адзінак* Він./Наз. Час.: дыменсіў-патэнсіў: *Для тых, хто пакінуў Беларусь* ***на тэрмін больш як на шэсць месяцаў****, воінскі ўлік ажыццяўляецца ваеннымі камісарыятамі па месцы жыхарства* («Звязда», 17.01.08). Сін. *на перыяд больш як.* Рус. ***на срок более*** *скольких единиц.*

**НА ТЭРМІН ДА** *колькіх адзінак* Род. Час.: дыменсіў-тэрмінатыў: *Афіцыйныя срокі і ўмовы праграмы дазваляюць удзельніку (студэнту дзённай формы навучання* ***ва ўзросце ад 18 да 24 гадоў****) прыехаць на тэрыторыю ЗША з 1 чэрвеня па 19 кастрычніка* ***на тэрмін да 4 месяцаў*** (М. Анішчанка). *Журналісту пагражае абмежаванне ці пазбаўленне волі* ***на тэрмін да пяці гадоў*** («Наша Ніва», 4.02.05). Сін. *на перыяд да.* Рус. ***на срок до*** *скольких единиц.*

**НА ТЭРМІН ЗВЫШ** *колькіх адзінак* Род. Дыменсіў-патэнсіў: *У выпадку выбыцця пенсіянера з дзяржаўнай стацыянарнай арганізацыі сацыяльнага абслугоўвання* ***на тэрмін звыш аднаго месяца****... пенсія выплачваецца ў поўным памеры* (Закон РБ). Сін. *на перыяд звыш.* Рус. ***на срок более*** *скольких единиц.*

**НА ТЭРМІН З** *якога часу* **ПА** *які час* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Час.: дыменсіў-тэрмінатыў: *Сёлета прамысловае і аматарскае рыбалоўства ў рыбалоўных угоддзях усіх абласцей плануецца забараніць* ***на тэрмін з 1 красавіка па 30 мая*** («Звязда»). Сін. *на перыяд з... па.* Рус. ***на срок с*** *какого времени* ***по*** *какое время.*

**НА ТЭРЫТОРЫІ** *чаго* / **НА** *якой* **ТЭРЫТОРЫІ** *чаго* / **НА** *чыёй/якой* **ТЭРЫТОРЫІ** Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + кам-

плетыў: *У цяперашні час эпідэмічны сыпны тыф **на тэрыторыі краін** былога СССР ліквідаваны* (Асновы мед. ведаў). *А можа яны ўжо **на тэрыторыі часткі**, бо суботнім ранкам нашы следчыя выходзяць на работу, чаго, са словаў ахоўнікаў, звычайна не бывае* (А. Мельнікаў). *Існуе ўжо сёння пагроза ператварэння «Беларусьфільма» ў нейкі камбінат па абслугоўванні ўсіх, безадносна да інтарэсаў культуры краіны, **на тэрыторыі якой** знаходзіцца тое самае кінавытворчае прадпрыемства* («ЛіМ»,19.03.04). Сін. *на абшары; на абсягу*. Рус. ***на территории** чего.*

НА ТЭРЫТОРЫІ АД *колькіх адзінак*

**НА ТЭРЫТОРЫІ АД** *чаго* **ДА** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Дыменсіў з дакладнымі межамі: *Але ўсё ж давайце ўспомнім, што **на тэрыторыі ад Куранёўкі да Пірагова і ад Лук'янаўкі да Дняпра** агульная колькасць рымскіх манет перавышае шэсць тысяч экземпляраў* (У.Караткевіч). Рус. ***на территории от** скольких единиц **до** скольких единиц.*

НА ТЭРЫТОРЫІ ДА *колькіх адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ ЗВЫШ *колькі адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ КАЛЯ *колькіх адзінак*

НА ТЭРЫТОРЫІ ПАРАДКУ *колькі адзінак*

**НА ТЭРЫТОРЫІ ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў: *Тады яна* [Чарнагорыя] *аб'ядноўвала 8 родапляменных саюзаў* ***на тэрыторыі прыкладна 12 тыс. кв. кіламетраў****...* (І.А.Чарота). Рус. ***на территории примерно*** *скольких единиц.*

НА ТЭРЫТОРЫІ У *колькі адзінак*

**НА ТЭРЫТОРЫЮ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: партытыў + камплетыў: *Як вядома, дэпутаты Еўрапарламента ўзнялі пытанне арганізацыі незалежнага тэлерадыёвяшчання* ***на тэрыторыю Беларусі*** *з памежных краін* («Звязда», 29.01.05). *Група В – асобы, дэпартаваныя са сваёй радзімы* ***на тэрыторыю Германіі*** *і акупіраваных ёю дзяржаў і прыцягнутыя там да прымусовых работ* («Звязда», 9.04.05). ***На тэрыторыю краін*** *Заходняй Еўропы гэтымі днямі заходзіць вельмі гарачае і сухое паветра з боку Афрыкі* («Звязда», 28.06.05). *Авіядэсант – войска, якое высаджваецца з самалётаў, верталётаў* ***на тэрыторыю праціўніка*** *для ўдзелу ў баявых аперацыях* (ТСБМ). Канц. клішэ. Сін. *на; на абшары*. Рус. ***на территорию*** *чего*.

**НА** *што/з якой мэтай* **У$^1$-1** *што/куды* / **НА** *што/з якой мэтай* **У** *што/куды* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Фінітыў-дырэктыў: *Некалькі разоў яны* [пісьменнікі] *разам прыязджалі* ***на канікулы ў Оршу*** (А.Мальдзіс). Рус. ***на*** *что* ***во*** *что* ***/ во*** *что* ***на*** *что.*

**НА** *колькі адзінак* **У$^1$-2** *што/якую адзінку адлічэння* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Характарызатар-квантытатыў: *Вакол гэты стары парк* ***на дзве вярсты ў кожны бок****, а за ім спяць без агнёў самотныя хаты* (У.Караткевіч). Рус. ***на*** *сколько единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**НА** *чым* **У$^2$** *каго* Тв.-Род. Двухч. Ускладн. Партытыў + пасэсар: *Імя тваё* ***на вуснах у Еўропы****, Як васільковы лёд!* (Л.Дранько-Майсюк). *Усё, што ў музыцы – у сэрцы тое ж, І, значыць, ад метафар не ўцячы, Тады магчыма ўсё – і вёска Тонеж Прачнецца ў Парыжа на плячы* (Л.Дранько-Майсюк). *Пакуль слывуць майстры і штукары, Датуль спакойна за зямлю* ***На сэрцы у Бога*** *...* (Р.Барадулін). Сін. *на чыім*. Рус. ***на*** *чем* ***у*** *кого.*

**НА ўвесь/усю/усё/усе** *што* Він. Характарызатар: інтэнсіў-суперлятыў: *Пір* ***на ўвесь мір****. — Ты глядзела –* ***на ўсю шыр*** *павекі* (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). Рус. ***на весь / всю / всё / все*** *что.*

**НА ЎДЗЕЛ У** *чым* Месн. Ускладн. Характарызатар-фінітыў: ***На ўдзел у конкурсе*** *падалі заявы ўладальнікі 57 брэндаў, якія належаць да 31 таварнай групы* («Народная газета», 9.02.05). *Нядаўна прыняты Закон аб садзейнічанні галасаванню амерыканцаў прадпісвае амерыканцам прадстаўляць у выбарчыя камісіі дакументы,*

*якія сведчаць аб пастаянным месцы жыхарства і якія пацвярджаюць іх правы **на ўдзел у галасаванні** ў адпаведнай акрузе* («Звязда», 11.03. 05). *Падпісваючы **дагавор на ўдзел у будаўніцтве**, высвятляйце ўсе нюансы падрабязна* («Звязда», 31.03.05). *Кожны год «Рондстудыя» атрымлівае прапановы **на ўдзел у рэспубліканскіх і міжнародных фестывалях*** (А.Кірыковіч). Сін. *на*. Рус. ***на участие в** чем*.

**НА ЎЕЗДЗЕ Ў** *што* Він. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна пачатку локума: *Першае, што кідаецца ў вочы літаральна **на ўездзе ў сяло** – мноства веласіпедыстаў на вуліцах* («Звязда», 10.02.05). *Цяпер даваенныя пабудовы, якія складаюць цэлую вуліцу **на ўездзе ў былы раённы цэнтр**, не лепшым чынам адбіваюцца на яго сучасным іміджы* («Звязда», 15.02.05). Ант. ***на выездзе з.*** Сін. *у пачатку*. Рус. ***на въезде во** что*.

**НАЎЗАМЕН**[1] *каму/чаму / каму/чаму* **НАЎЗАМЕН** Дав. Рэлят замены: *Як правіла, ідучы да паэта, я імкнуўся ўзяць з сабою магнітафон або **наўзамен яму** фотапарат, а нярэдка – тое і другое адначасова* (М.Мікуліч). Сін. *замест*. Рус. ***взамен** чего*.

**НАЎЗАМЕН**[2] *чаго* Род. Рэлят замены: *Але заўсёды хацелася б пачуць: вось гэта зроблена дрэнна, і што трэба зрабіць **наўзамен таго, гэтага*** (А.Карбалевіч). *Тут **наўзамен зарплаты** рабочым і служачым выдавалі аўтамагнітолы і радыёстанцыі* (Інт.). Сін. *замест*. Рус. ***взамен** чего*.

**НАЎЗАМЕН ЗА** *што* Він. Рэлят замены: ***... наўзамен за** абяцаны **«прэзенцік»*** (В.Гамбровіч. Пер. В. Булгакава). Рус. ***взамен за** что*.

**НАЎЗАХВАТ З/СА** *кім/чым* Тв. Характарызатар: *Па-над горадам на захад З неразлучнай нашай парай **З аўтаматамі наўзахват** Авіетка зырка шпарыць* (К.Крапіва). ППШ, без кантэкстаў. Рус. ***с** чем **наперевес**.*

НАЎЗАХВАТКІ З *кім/чым*

**НАЎЗБОЧ-1** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Пан Вайніловіч пабудаваў у Мінску Чырвоны касцёл, размешчаны **наўзбоч** цяперашняй **плошчы** Незалежнасці* (І.Навуменка). ***Наўзбоч гаю** дзве бярозы ды з дубочкам маладым абняліся так прыгожа на ўзгорачку крутым* (М.Машара). Сін. *збоку.* Рус. ***сбоку** чего*.

**НАЎЗБОЧ-2** *чаго* Род. Аб'ектн.: дэлібератыў: *Прага рэвізіянізму (**наўзбоч рамана** А.Федарэнкі «Рэвізія», часопіс «Полымя», №№ 1-2, 2004г., ды іншых публікацый у перыёдыцы)* («ЛіМ», 14.05.04). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *па поваду; вакол*. Рус. ***по поводу** чего*.

**НАЎЗБОЧ АД** чаго Род. Прастор.: лакатыў: Унізе пад *пальмамі, **наўзбоч ад дарогі і гатэляў** з бліскаўкамі рознакаляровых шыльдаў замерлі шэрагі аўтамабіляў* (В.Быкаў). Рус. ***сбоку от** чего.*

**НАЎЗБОЧ ЛЯ** *чаго* / **ЛЯ** *чаго* НАЎЗБОЧ Род. Прастор.: лакатыў: *Мінарэты ўзнялі свае дзюбы, **Ля святыні** пастаўшы **наўзбоч*** (Д.Шатыловіч). Рус. ***сбоку возле*** *чего*.

**НА ЎЗБОЧЧАХ (Мн.л.)** *чаго* Род. мн.л. Прастор.: лакатыў адносна некалькіх локумаў: партытыў + камплетыў: *Мы – на вялізнай паляне, навокал якое зялёныя горы, **на ўзбоччах якіх** пладовыя дрэвы ў белым цвеце і чырвоныя дахі пасёлка Рударцы* (Я.Брыль). Сін. *на схілах*. Рус. ***на склонах*** *чего*.

**НА ЎЗБОЧЧЫ (Адз.л.)** *чаго* Род. Фазавы тэмпаратыў: *Не ўпершыню падкосіць ногі **На ўзбоччы дзён** тваіх смуга, Дарога ці скразняк трывогі, Ці непад'ёмная туга* (Т.Бондар). Сін. *на схіле*. Рус. ***на склоне*** *чего*.

**НА ЎЗБОЧЫНЕ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Гэтае шанцаванне прадаўжалася аж да таго нешчаслівага ранку, калі генеральская машина выпадкам наляцела на супрацьтанкавую міну, пакінутую немцамі **на ўзбочыне** тылавой **дарогі*** (В.Быкаў). *Не варухне абвялым лістам клён **на ўзбочыне дарогі**, не адзавецца птушка* (І.Навуменка). Сін. *каля*. Рус. ***на обочине*** *чего*.

**НА ЎЗБЯРЭЖЖЫ** *чаго* / **НА** *якім*/**усім ЎЗБЯРЭЖЖЫ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Паміж пустак, балот Беларускай зямлі, **На ўзбярэжжы ракі** шумнацечнай, Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі, – Ўдзірванелы курган векавечны* (Я.Купала). *Знайдзіце на карце свету раўніны **на ўзбярэжжы Паўночнага Ледавітага акіяна*** (падручн.). *Невыпадкова палова ўсіх буйных гарадоў свету, з насельніцтвам больш за 3 млн чалавек, **размешчана на ўзбярэжжы** ці паблізу **мораў*** (падручн.). Сін. *на беразе*. Рус. ***на побережье*** *чего*.

**НА ЎЗВЫШШЫ** *чаго* Род. Характарызатар-інтэнсіў: *Трэ было страхавацца на ўсякі выпадак, што ўжо хто-хто, а начальнік НКВД быў і ўчора **на ўзвышшы пільнасці**, і якраз у гэты мамэнт выкрыў цэлую шпіёнскую змову* («Arche»).Сін. *на піку*. Рус. ***на верху*** *чего*.

**НА ЎЗВЫШЭННІ** *чаго* Род. Лакатыў: *Там, унізе, дзеляцца і дзеляць, **На ўзвышэнні вяршаў** – толькі боль* (Л.Рубальская). Сін. *на вяршыні*. Рус. ***на вершине*** *чего*.

**НАЎЗДАГОН-1** *каму/чаму / каму/чаму* **НАЎЗДАГОН** / *каму/ чаму* ... **НАЎЗДАГОН** Дав. Прастор.: дырэктыў-фініш + рэцэпіенс: *Тады Глечык дрыготкімі рукамі ўхапіў старшыноў кулямёт, перакінуў яго на тыльны бруствер і, амаль не цэлячыся, выпусціў **наўздагон Аўсееву** ўсё, што было ў недастрэленым дыску* (В.Быкаў). *Як толькі наглядчык адчыніў дзверы ... Майка паспела праслізнуць у яго пад рукамі на калідор, Лібушка кінула зэдаль **ёй наўздагон;** і ў*

*гэты момант яе лютаванне ўбачыла Эва, мілаваная Эвічка...* (Э.Кантуркава. Пер. С.Сматрычэнкі). ТСБМ – прыназ.; ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *услед; наўздагонак*. Рус. ***вдогонку** кому/чему.*

**НАЎЗДАГОН-2** *каму* Дав. Дырэктыў-адрасат: «*Маякоўскі» даў гудка ў наш гонар і адваліў. Мы стаялі і рабілі рукамі «аці»* ***яму наўздагон*** (У.Караткевіч). ▶*Пусціўся подбегам, мінуў царкву, задыхана крыкнуў* ***наўздагон****: «Хрысця! Хрысця, пачакай!»* (В.Адамчык). «*Колік, – сказаў я* ***наўздагон,*** *– доўга не мыйся»* (А.Кавальчук). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *услед*. Рус. ***вдогонку** кому.*

**НАЎЗДАГОН-3** *каму/чаму* Дав. Характарызатар: рэлят прыраўнівання: ▶*Учора пачаў чытаць яшчэ адну гістарычную аповесць, і ... падумалася з прыкрасцю, што ўсе народы ўжо даўно адбразгацелі ў літаратурах рыцарскімі мечамі ды латамі, а мы цяпер –* ***наўздагон*** (Я.Брыль). Сін. *за*. Рус. ***вслед за** кем/чем*.

**НАЎЗДАГОНАК** *каму/чаму / каму/чаму* **НАЎЗДАГОНАК** Дав. Дырэктыў-фініш + рэцэпіенс: *Хацеў я паслаць снарад* ***наўздагонак ёй*** [машыне] (І.Мележ: ППШ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; размоўн. Сін. *наўздагон*. Рус. ***вдогонку** кому*.

**НАЎЗДАГОНАК ЗА** *кім/чым* Тв. Дырэктыў-фініш: ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; размоўн.; без кантэкста. Сін. *наўздагон за*. Рус. ***вдогонку за** кем/чем.*

**НАЎЗДАГОН ЗА** *кім/чым* / **ЗА** *кім/чым* **НАЎЗДАГОН** Тв. Дырэктыў-фініш адносна папутнаму руху локума: *Памчаўся* ***наўздагон за сувязным*** – ППШ. *Аглядзеў сам сябе, а дакладней – крылы свайго паліто, і з ніжняй прыступкі паляцеў* ***наўздагон за поездам*** (П.Пестрак. – ППШ). *Шэры воўк падціснуў хвост і даў драла ў лес наўпрост. А* ***за ім*** *і Пустабрэх* ***наўздагон*** *кудысьці збег* (У.Мазго). *Прытка бяжыць беларус* ***наўздагон за сусветам*** (Л.Вашко). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *услед за; следам за*. Рус. ***вдогонку за** чем*.

*хто/што* **НАЎЗДАГОНКІ ЗА** *кім/чым* / **ЗА** *кім/чым* **НАЎЗДАГОНКІ** Тв. Дырэктыў-фініш; ва ўзаемназваротных займенніках: *Думкі беглі* ***адна наўздагонкі за адною***. ▶ *І гэтак Пыжыкавыя думкі за думкамі беглі* ***наўздагонкі****, навыперадкі, шараваліся, размінаючыся* (Інт.). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; размоўн.; без кантэкста. Рус. ***вдогонку** друг другу / друг другу* ***вдогонку*** */ один* ***вдогонку*** *другому.*

**НАЎЗДАГОНКУ** *каму/чаму / каму/чаму* **НАЎЗДАГОНКУ** Дав. Дырэктыў-фініш адносна папутнага руху локума: ***Нам*** *маланкі б'юць* ***наўздагонку****, Нам грамы раздзіраюць вушы* (Л.Сом). Сін. *наўздагон*. Рус. ***вдогонку** кому/чему*.

**НАЎЗДАЛЁК АД** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Тады **наўздалёк ад гарадка**, дзесь у Цюмені толькі разгаралася электрычнае стагоддзе* (Л.Вашко). *Званіца стаяла наўздалёк ад стройнай, са святла пабудаванай царквы* (У.Караткевіч). ▶ *Пазбягаючы глядзець мужу ў вочы, Антаніда Загорская глуха спытала у пана Адама, які стаяў **наўздалёк*** (У.Караткевіч). Ант. *недалёка ад*. Сін. *далёка ад*. Рус. ***вдали от** чего*.

**НАЎЗДЗІЎ** *каму/чаму* Дав. Фінітыў-кансеквентыў: *Выйдзе такая бэра слуцкая, што толькі **людзям наўздзіў*** (М.Лынькоў: ППШ). *Навошта вінаваціць прозу, Калі **рамантыкам наўздзіў** Хацеў ты пасадзіць бярозу, А нехта дуб свой пасадзіў* (М.Стральцоў). *Бывала, у кампаніі на світанках ганялі пазычаную ў ляснічага лодку цераз чароты і, знаходзячы невялікія вокны, кілзалі дзябёлых гарбылёў **наўздзіў гаспадыні*** (У.Калеснік). *Бацька ... зусім нечакана, **наўздзіў суседзям** захапіўся вудамі* (Я.Брыль). ТСБМ – прыназ.; ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *на дзіва*. Рус. ***на удивление** кому/чему*.

**НАЎЗДОЎЖ** *чаго* Род. Характарызатар-лакатыў: *Перад адчыненымі дзвярыма дзіця, памагаючы сабе правым локцем, выпрасталася **наўздоўж сцяны*** (Ф.Кафка: Інт.). Сін. *уздоўж*. Рус. ***вдоль** чего*.

**НАЎЗДОЎЖ** *чаго* **ДА** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Харкатрызатар: дырэктыў-фініш: *І куля – **наўздоўж цела да заду**. Не знаю, як хто, а я на вайне болей за ўсё баяўся такой во... А вот калі **наўздоўж** – ад макаўкі да заду – страшна падумаць* (В.Быкаў). Сін. *уздоўж да*. Рус. ***вдоль до** чего*.

**НА ЎЗМЕЖЖЫ-1** *чаго* **І** *чаго* Род.-Род. Стан адносна двух перыядаў існавання: *Можа праз тое, што гэта сталася ў найменш прыдатным, залішне ўразлівым веку **на ўзмежжы дзяцінства й дарослсці**, калі маладосць паўстае супраць аўтарытэтаў, можа праз тое, што насамрэч існуе нешта накшталт покліча крыві, аднак калі Майка знайшла сваю крэўную сям'ю ў цыганскай калоніі ў Кладне, яна дала сябе асляпіць вольнасцю жыцця і адразу ж закахалася* (Э.Кантуркава. Пер. С.Сматрычэнкі). Сін. *на мяжы*. Рус. ***на грани** чего*.

**НА ЎЗМЕЖЖЫ-2** *чаго* **І** *чаго* Род.-Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *На паўднёвым усходзе, **на ўзмежжы з Брэсцкай і Мінскай вобласцямі,** ляжыць Навагрудскае ўзвышша, а на паўночным усходзе – Ашмянскае* (С.А.Габрусевіч). Сін. *на мяжы*. Рус. ***на границе** чего **и** чего*.

**НА ЎЗМЕЖКУ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Але не ўсё, калі камяк у горле, Не ўсё, не ўсё – калі*

*душу агорне па незабыўным непазбыўны жаль. Па кім? Па чым? Ці не па ўсіх і ўсім: па каласах тых, што* ***па ўзмежку поля****, Па тым – што праўда, і па тым – што воля, Па самым любым, самым дарагім ...*(У.Някляеў). ***На ўзмежку пляцоўкі*** *сохнуць рэшткі вывернутых бярозак, ялінак і хмызоў* (В.Вольскі). Сін. *на краі; на ўскрайку.* Рус. ***на меже*** *чего.*

**НА ЎЗМЕЖКУ** *чаго* Род. Ускладн. Характарызатар стану адносна двух характарыстык: *Смецяры былі хлудамі вельмі далёкімі ад парапсіхалогіі і іншых вытанчаных навукаў, што* ***буяюць на ўзмежку розуму і таямнічых глыбіняў*** *падсвядомасці* (А.Мінкін, В.Галкоў). Сін. *на мяжы.* Рус. ***на пограничье*** *чего* ***и*** *чего.*

**НАЎЗОР** *чаго* Род. Рэлят прыраўнівання: *Нічога дзіўнага, што будучы рэктарам віленскага калегіюма, Догель прыступіў да арганізацыі (рэарганізацыі) шляхецкага канікту, які называўся віленскім шляхецкім калегіюмам ...* ***наўзор варшаўскай пляцоўкі*** («Наша слова»). Сін. *на манер*. Рус. ***по образцу*** *чего.*

**НА ЎЗОР (Адз.л.)** *чаго* Род. Рэлят прыраўнівання: *Павялічыцца павага да іх, усе пабачаць, што яны могуць не толькі ваяваць, рабіць сыр і квасіць малако, але й спяваць старыя быліны* ***на ўзор віцязяў*** *мінулых дзён* («Arche»). ***На ўзор саракагадовага вандравання****, якое, пачаўшыся ў свята Пасхі, прывяло выбраны народ з егіпецкай няволі ў зямлю запаветную, а таксама па прыкладу Самога Хрыста****,*** *які сорак дзён знаходзіўся ў пустыні, Касцёл рыхтуецца да велікоднага трыдуума (тры дні, прысвечаныя развважанню над апошнімі днямі зямнога жыцця Збаўцы: Вялікі чацвер Вячэры Пана, Вялікая пятніца Мукі Пана і нядзеля З мёртвых паўстання)* («Родны край», 2007). *Тады, у далёкую пару юначага станаўлення... душа мая прагнула адчуць моц уласных крылаў. Каб,* ***на ўзор годнай чарады папярэднікаў****, самому пачаць самастойны шлях* (Я.Янушкевіч). *Анакрэантычная паэзія – ананімная паэзія, якая пісалася* ***на ўзор вершаў*** *антычнага паэта Анакрэонта* (А.Жлутка). Сін. *на манер*. Рус. ***на манер*** *чего;* ***по образцу*** *чего.*

**НА ЎЗОРАХ (Мн.л.)** *чаго* Род. Аб'ектн.: крытэрый: *Многія нашы паэты, ідучы ў літаратуру, вучыліся і вучацца* ***на ўзорах Танкавага слова*** (М.Мікуліч). Сін. *на.* Рус. ***по образцам*** *чего.*

**НА ЎЗРОЎНІ[1]-1** *чаго* / **НА** *якім* **УЗРОЎНІ** Род. Аб'ектны лакатыў: *Сінтаксічныя памылкі прыводзяць да дэфармацыі ў асноўным толькі* ***на ўзроўні выказвання*** (навук.) *Разыходжанні паміж мовамі назіраюцца* ***на ўзроўні семантыкі*** *адпаведных прыназоўнікаў* (навук.). *Уласна лінгвістычныя і міждысцыплінарныя даследаванні апошніх дзесяцігоддзяў базай для навуковых пошукаў маюць*

*семіятычную сувязь паміж з'явамі жыцця, прэзентацыю іх у мове не толькі **на інтралінгвістычным узроўні**, які забяспечвае тэхналагічную функцыю камунікацыі, але і **на ўзроўні ілакутыўных сіл**, якія ўключаюць у сябе своеасаблівую гаму маўленчай дзейнасці* (В.І.Іўчанкаў). ▲ ***На семантычным узроўні***. Лінгв. тэрм. Сін. *у сістэме*. Рус. ***на уровне*** *чего*.

**НА ЎЗРОЎНІ[1]-2** *чаго* / **НА** *якім* **УЗРОЎНІ** Род. Рэлят адпаведнасці: *Работа пракладае шлях новаму самастойнаму навуковаму адгалінаванню як у плане базавай распрацоўкі праблемы і яе тэарэтычнага асэнсавання, так **і на ўзроўні** прыватных практыка-арыентаваных **канцэпцый** функцыянавання публіцыстычнага тэксту на працягу XX ст.* (В.І.Іўчанкаў). *Гэтая літаратура новая, але яе навізна відавочная перш за ўсё **на ўзроўні стылістыкі»*** («ЛіМ», 06.02.04). *Генадзь купіў сабе новы касцюм, перайшоўшы ў інстытут, – каб быць **на ўзроўні выгляду** вучоных* (І.Шамякін). ■ *І на самой справе Інстытут літаратуры знаходзіўся **на даволі высокім узроўні творчых магчымасцей*** (В.П.Жураўлёў). ▲ *Піяры давалі адукацыю **на еўрапейскім узроўні**...* (К.Тарасаў). Сін. *у адпаведнасці з; у плане*.. Рус. ***в соответствии с*** *чем;* ***на уровне*** *чего*.

**НА ЎЗРОЎНІ[1]-3** *чаго* / **НА** *якім* **УЗРОЎНІ** Род. Канфарматыў: *А «Яна і я» Янкі Купалы? Як гэта цудоўна напісана, якая гэта высокая паэзія! Бадай, **на ўзроўні санетаў Пятраркі і Шэкспіра*** (С.Грахоўскі). Сін. *падобна да*. Рус. ***на уровне*** *чего*.

**НА ЎЗРОЎНІ[1]-4** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: прыраўніванне адносна параметраў другога локума: *Побач з ложкам ставяць прыложкавы столік, які па вышыні павінен быць **на ўзроўні ложка*** (Асновы мед. ведаў). *Выратавальнік становіцца на калені злева ад паражонага **на ўзроўні плячэй** і робіць яму запар чатыры хуткія ўдзіманні паветра, не дапускаючы поўнага вызвалення ад паветра лёгкіх паражонага паміж удзіманнямі* (Асновы мед. ведаў). *Другі паверх пачынаўся **на ўзроўні вяршыні** вала* (навук.). ***На ўзроўні мора** 1 м$^3$ паветра мае масу 1 кг 33 г* (падручн.). Сін. *упоравень з*. Рус. ***на уровне*** *чего*.

**НА ЎЗРОЎНІ[1]-5** *каго/чаго* Род. Суб'ектны лакатыў: *Праз подкуп ураднікаў і сенатараў дзейнічалі прускі, рускі, турэцкі, французскі паслы. Тое ж рабілася **на ўзроўні павятовага сейміка**, толькі што тут браліся меншыя грош*ы (К.Тарасаў). Сін. *у; сярод*. Рус. ***на уровне*** *кого/чего*.

**НА ЎЗРОЎНІ[2]-1** «*што*» Наз. Характарызатар: анамасіятыў: *Пры гэтым зноў пацверджаны іншыя міжнародныя рэйтынгі вядучай банкаўскай установы краіны: доўгатэрміновы рэйтынг (Long-*

*term) –* ***на ўзроўні «CCC+»,*** *кароткатэрміновы (Short-term) –* ***на ўзроўні «C»*** *і рэйтынг падтрымкі (Support) –* ***на ўзроўні «5»*** («Звязда», 15.02.05). *Ёсць крытыка* ***на ўзроўні «падабаецца – не падабаецца»****, калі чалавек, напрыклад, не ўспрымае верлібр, дык як успрымаць ягоную крытыку* (А.Спрынчан). Сін. *тыпу; накшталт*. Рус. ***на уровне*** *чего.*

**НА ЎЗРОЎНІ²-2** *колькі адзінак* Наз. Дыменсіў: *Вільготнасць у сховішчы павінна быць* ***на ўзроўні 95 %*** («Родны край-2007»). *Аблягчэнне функцыі пашкоджаных лёгкіх ... дасягаецца ... падтрыманнем пастаяннай тэмпературы ў палатах* ***на ўзроўні +25 °С*** (Асновы мед. ведаў). *Гадавое змяненне курса рубля да долара прадугледжана* ***на ўзроўні 0 – 3,4 працэнта*** («Звязда», 29.01.05). *Пры вострай прамянёвай хваробе першай ступені колькасць лейкацытаў у 1 мкл крыві ў гэты час бывае* ***на ўзроўні 4х10³*** *... чацвёртай ступені – менш як 1х10³* (Асновы мед. ведаў). *Сёння рэйтынг эсэраў знаходзіцца* ***на ўзроўні 5 – 7 працэнтаў*** («Наш Час»). Рус. ***на уровне*** *сколько единиц.*

**НА ЎЗРОЎНІ²-3** *хто – хто* Наз.-Наз. Характарызатар: *Францыск Скарына, вядома, перапіскі* ***на ўзроўні кароль – вялікі князь маскоўскі*** *ведаць не мог...* (А.Лойка). Сін. кантэкстуальны: *паміж.* Рус. ***на уровне*** *кто – кто.*

**НА ЎЗРОЎНІ** *колькі адзінак* **У** *якую адзінку адлічэння* Наз.-Він. Дыменсіў-дыстрыбутыў: ***На ўзроўні 60 – 80 ударaў у хвіліну*** *пульс застаецца да 60 гадоў, а далей зноў можа пачашчацца* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***на уровне*** *сколько единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

НА ЎЗРОЎНІ З *кім/чым*

**НА ЎЗРОЎНІ НЕ НІЖЭЙ ЗА** *што* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *...яўка выбаршчыкаў у цэлым па краіне* ***на ўзроўні не ніжэй за 75 працэнтаў****...*(Інт.). Рус. ***на уровне не ниже*** *чего.*

**НА ЎЗРОВЕНЬ-1** *каго/чаго* Рэлят прыраўнівання: *Канкурэнтамі МMЗ па вытворчасці аўтамабільных рухавікоў можна лічыць КамАЗ і яраслаўскія заводы. Аднак, каб выйсці* ***на ўзровень мінчан,*** *ім патрэбны каласальныя капіталаўлажэнні* («Народная газета», 9.02.05). *Наш шлях – гэта не шлях знікнення рыфмы, звядзення рытму* ***на ўзровень прозы*** *праз вольны верш. Наш шлях ва ўдасканаленні рытмаў нашай паэзіі* (У.Караткевіч). Рус. ***на уровень*** *кого/чего.*

**НА ЎЗРОВЕНЬ-2** *чаго* Род. Дырэктыў: крытэрый параметрычнага параўнання: *Падняць рукі* ***на ўзровень*** *вачэй*.Рус. ***на уровень*** *чего*.

**НАЎКАСЫ** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў. ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; без кантэкста. Сін. *наўскасяк*. Рус. ***наискось*** *чего.*

**НАЎКАСЫ АД** *каго/чаго* / **АД** *каго/чаго* **НАЎКАСЫ** Род. Прастор.: дырэктыў: *Пакаціўся* ***наўкасы ад дарожкі*** (ППШ).

ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; без кантэкста. Сін. *наўскасяк ад*. Рус. ***наискось от*** *кого/чего*.

НАЎКАСЫ ДА *каго/чаго*

**НАЎКОЛ** *каго/чаго* Род. Прастор.: прамы лакатыў адносна прадмета-локума: ***Наўкол моста*** *чысты, як далонь, луг: не падбярэшся, каб не заўважылі* (Г.Шуцько). *Толькі адно што ён бачыць* ***наўкол сябе*** *не сферы, якія* ***наўкол зямлі****, а паясы кніг, залатыя кнігі з усіх чатырох бакоў вакол яго...* (А.Лойка). Перан. лакатыў адносна абстрактнага локума: *Сашчэплена кола* ***наўкол маіх лепшых маіх надзей*** (П.Панчанка: ППШ). ТСБМ – прыназ.; ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; размоўн. Сін. *навокал*. Рус. ***вокруг*** *чего*.

**НАЎКОЛА** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна прадмета-локума:: *А брутальнасць суправаджаў нізкі, цудоўны спеў, які блішчаў недзе ў іх ці* ***наўкола іх*** («Arche»). *Пашпацыраваў павольна* ***наўкола дзядзінца****, абышоў яго разы з тры* («Arche»). *Калі я апынуўся ў гэтым штодзённым асяроддзі, якое мы ўтваралі* ***наўкола стала****, усе бягучыя справы, вайна і Нямеччына, вёска і клопаты, вярнуліся і ўдарылі мяне* («Arche»). *Быццам віруе вір, верацяно верціцца адно толькі* ***наўкола самога сябе****...* (А.Разанаў). ТСБМ – прыназ.; ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *вакол*. Рус. ***вокруг*** *чего*.

**НАЎКОС** *чаго* / *чаго* **НАЎКОС** / **НАЎКОС** Род. Характарызатар: дырэктыў/лакатыў: *Люстраняць людскія лёсы скрозь ручвы* ***дажджу наўкос*** *і гінуць у сцюжных росах па той бок напятых нябёс* (Інт.). ***Наўкос усяго хвойніку*** *рассцілаюцца па ўтульным моху зялёныя абрусы* (З.Бядуля; ППШ). ТСБМ – прыназ.; ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; размоўн. Сін. *наўскасяк*. Рус. ***наискось*** *чего*.

**НАЎКОС АД** *каго/чаго* Род. Характарызатар: дырэктыў/лакатыў. ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; размоўн.; без кантэкста. Рус. ***наискось от*** *кого/чего.*

**НАЎКОС ДА** *каго/чаго* Род. Характарызатар: дырэктыў/лакатыў. ▶ *«Чорт, – сказаў салдат, –* ***наўкос*** [цячэння ракі – М.К.] *бяры, не стаў бокам да хвалі»* (У.Караткевіч). Рус. ***наискось к*** *кому/чему.*

**НАЎКОСЬ** *чаго* Род. Характарызатар: дырэктыў/лакатыў: *Арсень з цікавасцю ўзіраўся ў прысадзістага, скуластага, шыроканосага сяржанта ў плашч-палатцы і касцы, з павешаным* ***наўкось грудзей*** *аўтаматам* (Т.Хадкевіч). Рус. ***наискось*** *чего*.

**НАЎКРУГ** *каго/чаго* Род. Характарызатар: дырэктыў/лакатыў: *Дарога абвіваецца* ***наўкруг курганоў*** (ППШ). *Калі Варанецкі скончыў, Парамонаў устаў і захадзіў па пакоі* ***наўкруг стала*** (І.Дуброўскі). *Дрэвы ўтваралі зялёную агароджу* ***наўкруг усяго парку***

(А.Чарнышэвіч). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; размоўн. Сін. *вакол; кругом*. Рус. ***вокруг** чего*.

**НАЎКРУГА** *чаго* Род. Характарызатар: дырэктыў/лакатыў: *Старая азірнулася **наўкруга сябе**, убачыла пры плоце сухі арэхавы кій і парнула ім у ржавую сухую кажурынку* («Arche»). *А тут, **наўкруга нашых Косічаў**, яе носіць столькі галадранцаў, што і не злічыць* («Arche»). ***Наўкруга карычневага дома** з расхрыстанымі аканіцамі мігацела сетка драцяной агароджы* («Arche»). ***Наўкруга стала** чалавек пяць вяло ажыўленую гутарку* (Р.Мурашка). Сін. *наўкруг; кругом; вакол*. Рус. ***вокруг** кого/чего.*

**НАЎКРУГА ПА** *чым* Месн. Транзітыў-характарызатар: *Ён узяў мяне пад руку і павёў **наўкруга па дзірване** з надзвычай тэатральнай жэстыкуляцыяй* (В.Гамбровіч. Пер. В. Булгакава). Рус. ***кругом по** чему*.

**НА ЎКРЫЖАВАННІ** *чаго* Род. мн.л. Прастор.: лакатыў адносна некалькіх локумаў: *У ложках – сярод поту й кахання, **На ўкрыжаванні вайсковых дарог**, У шэпце ганебных прызнанняў – бачыў людзей Бог* (У.Лобач). Сін. *на скрыжаванні*. Рус. ***на перекрестках** чего.*

**НА** *колькі адзінак* **УНУТР АД** *чаго/якога часу* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў: *Пры вонкавым аглядзе вобласці сэрца ў здаровага чалавека ў пятым міжрэберным прамежку злева **на 1-2 см унутр ад сярэднеключычнай лініі** можна заўважыць нязначныя ваганні груднай клеткі* (Асновы мед. ведаў). *Левая мяжа адноснай сардэчнай тупасці ... спускаецца выпуклай звонку дугой дапятага міжрабер'я, у якім канчаецца **на 1-2 см унутр ад левай сярэднеключычнай лініі*** (Асновы мед. ведаў). Мед. клішэ. Рус. ***на** сколько единиц **внутрь от** чего.*

**НА ЎЛАДУ** *каго/чаго* / **НА** *якую* **ЎЛАДУ** *каго/чаго* / **НА** *чыю* **ЎЛАДУ** Род. Адрасат-атрымальнік: *І ён паплыў, аддаўшыся **на ўладу** імклівай **плыні і** пеністым **водаваротам** ракі* (М.Лынькоў). Рус. ***во власть** кого/чего.*

НА ЎЛІК *каго/чаго*

**НА ЎЛІКУ** *каго/чаго* / **НА** *якім* **УЛІКУ** *каго/чаго* / **НА** *чыім* **УЛІКУ** Род. Рэлят уключэння + пасэсар: *Я быў тады яшчэ **на ўліку партызанскага штаба*** (М.Танк). Сін. *на ўліку ў.* Рус. ***на учете** кого/чего.*

**НА ЎЛІКУ Ў** *чым* Месн. Рэлят уключэння + лакатыў: *Вучань 9-га класа ўжо знаходзіцца **на ўліку ў ІСН*** («Звязда», 13.01.05). Сін. *на ўліку*. Рус. ***на учете в** чем.*

**НА ЎЛОННЕ**[1] (**Він**. **адз.л**.) *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Сюды, **на ўлонне бароў і палян**, Калісь прыязджаў з-за паўсвету Красой любавацца вяльможнейшы пан* (М.Арочка). *Святая дзева, што бароніш Чанстахову І ў Вострай браме свеціш, што*

*ўзяла ў ахову Наш слаўны Навагрудак з добрым верным людам, Як мне жыццё ў дзяцінстве ты вярнула цудам... Так цудам зноў нас вернеш* ***на Айчыны ўлонне*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *на.* Рус. ***на лоно*** *чего*.

**НА ЎЛОННЕ[2] (Месн. адз.л.)** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Аўтар падсвядома прапануе сентыментальны ідэал узаемаадносінаў спаміж людзьмі* ***на ўлонне*** *натуры* («Сьвіцязь», 1994, №2). Сін. *на.* Рус. ***на лоне*** *чего.*

**НА ЎЛОННІ (Месн. адз.л.)** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў; звычайна з назоўнікам *прырода*: *Было вырашана правесці свята не ў Мікалаеўшчыне, а* ***на ўлонні прыроды*** («ЛіМ», 07.03.06). *Новыя мясціны, новыя людзі, негаданыя прыгоды падарожжа, начлег дзе-небудзь* ***на ўлонні прыроды****, касцёр, цёмнае неба і ясныя зоры...* (Я.Колас). *Спадарожнікамі аказаліся неглыбокія людзі, якія* ***на ўлонні прыроды*** *ні разу не загаварылі аб прыродзе* («ЛіМ»). ***На ўлонні акіяна****, на выгодзе Ты гордаю Цыбелаю марской Раскашавала не адно стагоддзе З тыярай стромых веж над галавой* (Байран аб Венецыі. Пер. Я.Семяжона). ▲*Спрацаваны,* ***на Божым улонні****, засынае крыклівы прастор* (С.Ясень). Сін. *на аблоні.* Рус. ***на лоне*** *чего.*

**НА ЎЛОННЯХ (Месн. мн.л.)** *чаго* / **НА** *якіх* **УЛОННЯХ** *чаго* / **НА** *чыіх* **УЛОННЯХ** Род. мн.л. Прастор.: лакатыў: ***На ўлоннях лясоў і палёў*** *спраўляе свой баль радыяцыя* (Інт.). ▲ *Носіць вадзяная пустыня на ўлоннях сваіх быстрыя вастраносыя чаўны і лёгкія чайкі-душагубкі* (Я.Колас). *Журба на зялёных улоннях, І мне не развеяць патолю* (В.Гардзей). Сін. *на прасторах*. Рус. ***на просторах*** *чего.*

**НА ЎМОВАХ** *чаго* Род. Кандытыў: *У сямейных дзіцячых дамах сям'я бярэ дзіця на выхаванне* ***на ўмовах апекі****, калі на кожнае дзіця выплачваецца дапамога, а бацькі атрымліваюць заробак выхавацеля* («Звязда», 25.02.05). *І калі вынікае, што ветэрану неабходна кватэра – выдзеліць абавязкова. Але* ***на ўмовах сацыяльнага жылля*** («Звязда», 17.03.05). Сін. *на прынцыпах*. Рус. ***на условиях*** *чего.*

**НАЎПЕРАД** *каго* Род. Тое ж, што і **НАПЕРАД**. Дырэктыў-фініш адносна папутнага руху локума: *Ганна ступіла крок да акна, але мачыха кінулася* ***наўперад яе,*** *раскінула рукі* (І.Мележ). Рус. ***вперед*** *кого/чего.*

**НАЎПРАКІ** *каму* Дав. Адверсатыўны бенефіцыянтыў: ▶*Усе маўчаць – не любіць Маньчжур, каб хто* ***наўпракі*** *гаварыў* (М.Лынькоў). Ант. *у лад; у тон.* Сін. *насуперак.* Рус. ***наперекор*** *кому/чему.*

**НАЎПРОСТ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Злева і* ***наўпрост ад мяне*** *былі бязмежныя верасовыя пусткі з рэдкімі купамі дрэў, справа нейкія зарасці, за імі поўная, як вока, рэчка, потым*

*балотны скарлючаны лес, а пасля, відаць, сапраўдная і безнадзейная дрыгва* (У.Караткевіч). Сін. *наўпрост да.* Рус. ***прямо от*** *кого/чего.*

НАЎПРОСТ ДА *каго/чаго*

**НАЎПРОСТ ПА** *чым* Месн. Прастор.: транзітыў: *Хатка адсюль недалёка... з паўкіламетра, не болей, калі ісці наўпрост па балоту* (В.Вольскі). Сін. *напрасткі па.* Рус. ***напрямик по*** *чему.*

**НАЎПРОСТ У** *што* / **У** *што* **НАЎПРОСТ** Він. Дырэктыўфініш: *Шэры воўк падціснуў хвост і даў драла **ў лес наўпрост**. А за ім і Пустабрэх наўздагон кудысьці збег* (У.Мазго). Сін. *проста ў.* Рус. ***прямо во*** *что.*

**НАЎПРОСТ ЦЕРАЗ** *што* Він. Прастор.: дырэктыў-транзітыў: *Шчыльна захінуўшыся плашчом, Буевіч збег з ганка і **наўпрост цераз сад** падаўся да калгаснай канторы* (Шашкоў: ТСБМ). Ант. *наўскос цераз.* Сін. *напрасткі цераз.* Рус. *прямо через* ***что.***

**НАЎПРОЦІ-1** *чаго* Род. Час.: фазавы тэмпаратыў: *Адна сярод лесу **наўпроці ночы** яна* [Яніна] *не баіцца нічога: ні звера, ні чалавека* (Р.Мурашка). *Не ідзі ты на захад сонца к майму ганку, зайдзі ты **наўпроці поўдня*** («Казкі і легенды роднага краю»). Сін. *проці.* Рус. ***перед*** *чем.*

**НАЎПРОЦІ-2** *чаго* Род. Прастор.: адверсатыўны лакатыў*: **Наўпроці іх двара** заўсёды ляжала бярвенне* (В.Вітка). Сін. *насупраць*. Рус. ***напротив*** *чего.*

**НАЎПРОЦЬ-1** *каго/чаго* Род. Прастор.: адверсатыўны лакатыў: *Дом **наўпроць школы*** (ППШ). *Секунду ён* [Коля] *стаяў **наўпроць іх*** [немцаў], *глядзеў на іх, а яны на яго* (А.Ставер). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *напроці.* Рус. ***напротив*** *чего.*

**НАЎПРОЦЬ-2** *каго/чаго* Род. Прастор.: адверсатыўны дырэктыў: *Я сам, як дрозд, не маю адпачынку, – Жыццё неўтаймаванае вяду. То я з табой суняўся на хвілінку, А потым зноў **наўпроць вятроў** пайду* (А.Ставер). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *супраць*. Рус. ***наперекор*** *чему.*

**НАЎРАЗЕ** *чаго* Род. Кандытыў: ***Наўразе чаго*** *трэба распытаць, што робіцца там* (В.Адамчык). Сін. *на выпадак*. Рус. ***в случае*** *чего.*

**НАЎСКАСЫ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў. ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; без кантэкста. || Прыслоўе: *Як растлумачыў Казангап, яны зрэзалі **наўскасы** кіламетраў дзесяць* (Ч.Айтматаў: Інт.). Сін. *наўскасяк*. Рус. ***наискосок*** *чему.*

**НАЎСКАСЫ АД** *каго/чаго* / **АД** *каго/чаго* **НАЎСКАСЫ** Род. Прастор.: лакатыў: *Па другі бок дарогі, **наўскасы ад іх** стаяў слуп* (К.Чорны: ППШ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; абл. Сін. *наўскасяк ад*. Рус. ***наискосок от*** *кого/чего.*

**НАЎСКАСЫ ДА** *каго/чаго* / **ДА** *каго/чаго* **НАЎСКАСЫ / НАЎСКАСЫ** Род. Дырэктыў-характарызатар: *Дождж **да мора** бег **наўскасы*** (Інт.). Сін. *наўскасяк да*. Рус. ***наискось к*** *кому/чему.*

**НАЎСКАСЬ ЦЕРАЗ** *што* / **ЦЕРАЗ** *што* **НАЎСКАСЬ** Він. Дырэктыў-характарызатар: *Потым я **наўскась цераз двор** і праз дзверы іду ў дом* («Arche»). Сін. *наўскасяк цераз*. Рус. ***наискось через*** *что*.

**НАЎСКАСЯК**[1] *чаго* Род. Прастор.: транзітыў: *Лінія лесу ішла **наўскасяк дарогі*** (К.Чорны). *З каромыслам на плячах **наўскасяк вуліцы** ішла старая* (У.Карпаў). || Прыслоўе: *Абапал яго **наўскасяк** размешчаны два ложы, на якіх ляжаць Езус і адзін з апосталаў, астатнія сядзяць ці стаяць за сталом* («Наша вера»). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *наўскасы*. Рус. ***наискосок*** *чего.*

**НАЎСКАСЯК**[2] *чаму* Дав. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Накіроўваючы машыну **наўскасяк адхону**, каб не было так строма, я пачаў падымацца, рухацца па касагоры* (У.Калеснік).

**НАЎСКАСЯК АД** *каго/чаго* / **АД** *каго/чаго* **НАЎСКАСЯК** Род. Прастор.: лакатыў: *А вось гэта доўгая хата, што **наўскасяк ад мае**, – пастуквае пальцам у шыбу гаспадыня* (Інт.). *Неба ўгары над галавой было парэзана расцягнутымі **наўскасяк ад Пячнога** доўгімі густа падпаленымі ў чырвонае палосамі* (І.Пташнікаў).ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *наўскасы ад*. Рус. ***наискосок от*** *чего*.

НАЎСКАСЯК ДА *каго/чаго*

**НАЎСКАСЯК ПА** *чым* / **ПА** *чым* **НАЎСКАСЯК** Месн. Прастор.: спосаб-транзітыў: *Андрэй крыкнуў Алёшу, каб той павярнуў **наўскасяк па дзядзінцы** да Ям, мінуў ферму і канец вёскі* (І.Пташнікаў). Сін. *наўскасы па*. Рус. ***наискось по*** *чему*.

**НАЎСКАСЯК ПРАЗ** *што* / **ПРАЗ** *што* **НАЎСКАСЯК** Він. Прастор.: транзітыў-характарызатар: ***Наўскасяк праз двор**, далей, працiскваючыся паміж дзвюма высокімі агароджамі, ісці па вузкай зарослай сцежцы* (І.Гатоўчыц). *Насупраць царквы, **праз плошчу наўскасяк**, ходаючыся з мураванінаю аб высі, тырчыць пажарная вартавая вежа, ганарова – «каланча»* («Arche»). Сін. *наўскасы праз*. Рус. ***наискось через*** *что*.

**НАЎСКАСЯК ЦЕРАЗ** *што* / **ЦЕРАЗ** *што* **НАЎСКАСЯК** Він. Прастор.: транзітыў-характарызатар: *За гародамі з жоўтым бульбоўнікам стаялі хаты: яго, Андрэева; Ганьчына – **наўскасяк цераз вуліцу**; воддаль, за вялікай старой ліпай – Балюціна высокая хата* (І.Пташнікаў). Рус. ***наискосок через*** *что.*

**НАЎСКОС** *чаго* / **НАЎСКОС** Род. Прастор.: характарызатар-транзітыў: *Ён* [Бесо] *пачаў узнімацца ўгору, ідучы ў падножжы **наўскос стромага спаду*** (Э.Самуйлёнак: ППШ). ТСБМ – прыназ.; ТСБПШ –

прысл. у знач. прыназ. || Прыслоўе: *Мяса прамыць, ачысціць ад плевак і нарэзаць **наўскос** упоперак валокнаў* (Інт.). Рус. ***наискосок*** *чему*.

**НАЎСКОС АД** *чаго* / **АД** *чаго* **НАЎСКОС** Род. Прастор.: лакатыў: *Утрымліваліся супрацоўнікі ў цаглянай пабудове **наўскос ад службовага будынка** СД* (Інт.). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Рус. ***наискось от*** *чего*.

**НАЎСКОС ДА** *каго/чаго* / **ДА** *каго/чаго* **НАЎСКОС** Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Цьмяныя цені коннікаў беглі ад дарогі **наўскос да** дрыгвяністай **лагчыны*** (У.Караткевіч). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *наўскасяк да.* Рус. ***наискось к*** *кому/чему.*

**НАЎСКОС ПРАЗ** *што* / **ПРАЗ** *што* **НАЎСКОС** Він. Прастор.: транзітыў: *Але ў слухаўцы зацягнулася падазронае маўчанне, патрэсквала разрадамі толькі праваднaя адлегласць, дарэчы, кароткая – **наўскос праз праспект** – ад Дому друку, дзе знаходзілася рэдакцыя часопісу, да магазіну «Сінтэтыка», над якім ён жыў* (В.Адамчык). Рус. ***наискось через*** *что.*

**НАЎСКОСЬ[1]** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў / дырэктыў. ППШ (без кантэкста). Рус. ***наискось*** *чего*.

**НАЎСКОСЬ[2]** *чаму* Дав. Прастор.: лакатыў / дырэктыў. ППШ (без кантэкста). Рус. ***наискось*** *чему*.

**НАЎСКОСЬ ДА** *чаго* / **ДА** *чаго* **НАЎСКОСЬ** Род. Прастор.: лакатыў-характарызатар: *Пасля гэтага ён ставіць воз і каня так **наўскось да дарогі**, што потым яму можна будзе развярнуцца* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Сін. *наўскасяк да*. Рус. ***наискось к*** *кому/чему*.

**НА ЎСКРАЕК** *чаго* Він. Прастор.: дырэктыў-фініш: партытыў + камплетыў: *Аднойчы пастухі, якія выгналі статак **на ўскраек лесу**, заўважылі, як праз галіны дзікай грушы прабіваецца святло* («Звязда», 25.06.05). *Стараючыся не збіцца з жардзянога насцілу, асцярожна ступаючы, Бондар пайшоў **на ўскраек балаціны*** (І.Навуменка). Сін. *на край*. Рус. ***на окраину*** *чего.*

**НА ЎСКРАІ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: ***На ўскраі пералеска** спыніўся аддыхацца* (А.Гайдар. Пер. М.Татура). *Піць! Арасіць хоць кропляй рот... Але **на ўскраі цытадэлі** Кіпіць гарачы кулямёт* (П.Прыходзька). *Хлопчыкі падышлі ўжо блізка да агародаў, як учулі плач **на ўскраі вёскі*** (М.Лынькоў). Сін. *на ўскрайку*. Рус. ***на краю*** *чего*.

**НА ЎСКРАІНЕ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Жылі мы тады з маці **на ўскраіне Вільні**, на Звярынцы* (Л.Ялоўчык). *Метэарыт, што быў знойдзены на пачатку XIX стагоддзя **на ўскраіне Брагіна**, увогуле адмысловая гісторыя: агульнай вагой у некалькі соцень кілаграмаў, касмічны госць занесены ва*

*ўсе міжнародныя астранамічныя каталогі як «Метэарыт Брагін»* (М.Анішчанка). Сін. *на краі*. Рус. ***на окраине*** *чего*.

**НАЎСКРАЙ** *чаго* / *чаго* **НАЎСКРАЙ** Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Вішня **наўскрай дарогі**: спяшайся першаю расцвісці – у пчол абранніцай будзеш* (А.Разанаў). ***Наўскрай*** *то пясчанай, то ўтравянелай **дарогі** красуецца жыта, і, падышоўшы бліжэй, я ў ім заўважаю гняздо і чародку птушак* (А.Разанаў). *Каля Нёмана, **лесу наўскрай**, Адкурлычуць прыгожае лета, А ўвосень – у сонечны край. Зноў у вырай у эскарце дзетак* (М.Кавыль). Сін. *на ўскрайку*. Рус. ***возле*** *чего.*

**НА ЎСКРАЙ-1** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Вісарыён застаўся стаяць **на ўскрай тратуара**, апіраючыся на плечы суседзяў* (Э.Самуйлёнак). Сін. *на край*. Рус. ***на краю*** *чего.*

**НА ЎСКРАЙ-2** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў: партытыў + камплетыў: *Гарматы стралялі не далей, як ад вёскі, якую бачыў Чубар, калі выходзіў **на ўскрай лесу*** (І.Чыгрынаў). *Той страшны час, калі радзіму пахавалі I з гэтай песняй падаліся **на ўскрай свету*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Рус. ***на край*** *чего.*

**НА ЎСКРАЙКАХ (Мн. л.)** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: ***На ўскрайках неба**, ужо ніяк не могучы засланіць далягляд, стаяць занавескі празрыстай смугі. Якая раніца для засевак!* (Я.Брыль). Сін. *на краях*. Рус. ***на краях*** *чего.*

**НА ЎСКРАЙКУ-1 (Адз.л.)** *чаго* / **НА самым УСКРАЙКУ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Жывём тут у межах нацыянальных дзяржаваў, **на ўскрайку духоўнага кантыненту**, бо код для выхаду ў Сярэднюю Еўропу з'яўляецца цывілізацыйным кодам* (К.Чыжэўскі. Пер. А.Скурко). *Населены пункт, які ляжыць на старадаўнім стратэгічным, кацярынінскіх часоў, тракце, **на ўскрайку Белавежскай пушчы**, мог бы стаць прывабнай для турыстаў мясцінай* («Звязда»,15.02.05). ***На ўскрайку вечнасці*** (Р.Барадулін). *Мясцовыя назвы – Капцы, Даўнія магілы. За 1,3 км на поўнач ад вёскі**, на ўскрайку лесу**, злева ад дарогі, ва ўрочышчы Маяк* (Інт.). ■ *Падчас Вялікай Айчыннай вайны ў гэтым доме, які стаяў **на самым ускрайку сяла**, недалёка ад лесу жылі нашы вяскоўцы* (А.Белы). *Хаты стаялі **на самым ускрайку горада**, у аршанскім напрамку, і нам з бацькам здавалася, што мы амаль дома* (Н.Кучкоўская). Сін. *на краі*. Рус. ***на окраине*** *чего*.

**НА ЎСКРАЙКУ-2** *чаго* Род. Перан. тэмпаратыў-лакатыў: *Крыж сумлення, адчаю і болю, крыж небяспекі, нуды чорна-шэрыя крылы расправіў над полем – **на ўскрайку бяды*** (Л.Валасюк). Сін. *перад*. Рус. ***на краю*** *чего*.

**НА ЎСКРАЙКУ-3** *чаго* / **НА самым УСКРАЙКУ** *чаго* Род. Час.: фазавы тэмпаратыў: *Іван Лагвіновіч... **На самым ускрайку тысячагоддзя** адну за другой выдаў дзве кніжкі – «Разлукі выраёвыя» і «Пілiпаўка»* (М.Скобла). Сін. *у пачатку.* Рус. ***в самом начале** чего.*

**НА ЎСКРАІ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Карчма над Нёманам, **на ўскраі** маленькага заходнебеларускага **мястэчка*** (Я.Брыль). ***На процілеглым ускраі вёскі**, крыху на водшыбе, пад навіссю высокіх дубоў стаяў, мабыць, той домік, пра які гаварыў дарогай Сакалоўскі* (І.Навуменка). Сін. *на краі*. Рус. ***на краю** чего.*

**НА ЎСКРАІНЕ** ***чаго***

**НА ЎСКРАІНАХ** (**Месн. мн. л**.) *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Адносна менш пацярпелі прамысловыя прадпрыемствы, якія размяшчаліся **на ўскраінах гораду*** («Arche»). Сін. *на ўскрайках*. Рус. ***на окраинах** чего*.

**НА ЎСКРАІНУ (Він. адз.л.)** *чаго* / **НА** *якую* **УСКРАІНУ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-фініш: партытыў + камплетыў: ■ *Часткі 15-й арміі 15 ліпеня выйшлі **на паўднёва-усходнюю ўскраіну Гродна*** (У.А.Нядзелька). Сін. *на ўскраек*. Рус. ***на окраину** чего*.

НА ЎСКРАІНЫ (Він. мн.л.) *чаго*

**НАЎСЛЕД** *каму/чаму* Дав. Дырэктыў-транзітыў: *Крадуцца з волі сны, і **ім наўслед** звіняць драты калючыя Эльгена* (Л.Беларуска). ▶ *Дык тады ўжо з астатнімі сіламі Над Сажом палячу на край-свет. Ветракі надламанымі крыламі Не ўзмахнуць у падтрымку **наўслед*** (А.Сыс). Сін. ***услед.*** Рус. ***вслед** кому/чему.*

**НАЎСЛЕД ЗА** *кім/чым* Тв. Дырэктыў-транзітыў: ***Наўслед за імі** (часткамі 169-й стралковай дывізіі) ў горад з паўднёвага ўсходу ўвайшлі часткі 5-е стралковае дывізіі* (У.А.Нядзелька). *Міхась Шэлехаў... У сваёй першай іпастасі паэт не адкрываў амерык, ішоў **наўслед за маскоўскімі калегамі**, найперш за Ю.Кузняцовым* (М.Скобла). Сін. *следам за*. Рус. ***вслед за** кем/чем.*

**НА ЎСЛУЗЕ Ў** *каго* Род. Ускладн. Канфірматыў: *Пасля Познані і Кракава ён* [Скарына] *пройдзе Вільню, пасля Кракава і Вільні – Маскву, пасля Масквы – зноў Вільню і зноў Прагу, дзе апынецца каралеўскім садоўнікам-батанікам Градчанаў – **на ўслузе ў новага працадаўцы** – караля чэшскага Фердынанда* (А.Лойка). Сін. *у; пад кіраўніцтвам.* Рус. ***в услужении у** кого.*

**НА ЎСПАМІН** *чаго* Род. Ускладн. Сітуатыў: стымул-дэліберат: *Еў Рыкаў смачна, у гаворку не мяшаўся, Ды **на ўспамін Варшавы** зараз адазваўся* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Рус. ***на воспоминание о** чем.*

**НА ЎСПАМІН АБ** *чым* Месн. Фінітыў-дэлібератыў: ***На ўспамін аб той сустрэчы** ў настаўніцкай хаце ў Жураўлі і цяпер*

*вісіць фотаздымак* (В.Карамазаў). *Фотаздымак... Сваёю Рукою на ім Напісала яна: «**На ўспамін аб былым**»* (А.Куляшоў). *Апраметная ляжыць пад Беларуссю, і можна, ударыўшы вяслом у нізкае неба, дастукацца да Рагачова або да Полацка і папрасіць месцічаў выпіць **на ўспамін аб страчанай душы*** (П.Васючэнка). Сін. *на памяць аб.* Рус. ***на память о** ком/чем.*

**НА ЎСПАМІН АД** *каго* Род. Ускладн. Дэстынатыў + данатар: *Дарагому другу дзяцінства, мілай Алёнцы **на ўспамін ад Сцёпкі*** (Я.Колас). Эпісталярн. клішэ. Сін. *на памяць ад*. Рус. ***на память от** кого*.

**НА ЎСПАМІН ПРА** *каго/што* / **НА** *які* **ЎСПАМІН ПРА** *каго/што* / **НА** *які* **УСПАМІН** Він. Фінітыў-дэліберарытыў: *Ты хочаш плакаць, але ты жанчына, Якую Бог пазбавіў горкіх слёз, І не для слёз прыдумана ангіна, А **на ўспамін пра снег і пра мароз*** (Л.Дранько-Майсюк). Эпісталярн. клішэ. Сін. *на памяць пра*. Рус. ***на память о** чем*.

**НА ЎСПАЧАТКУ** *чаго* Род. Час.: фазавы тэмпаратыў: ***На ўспачатку XX стагоддзя** беларускае духаванне шукае гэткую шырокую літаратуру, крочыць да яе* (Л.Вашко). Ант. *пры канцы*. Сін. ***на пачатку** чаго*.

**НА ЎСТАРАНЕННЕ** *чаго* Род. Элімінатыў-фінітыў у складзе прэдыката: *План падрыхтоўкі заканапраектаў на 2005 год у цэлым накіраваны **на ўстараненне прабелаў** у прававым рэгуляванні, прывядзенне законаў у адпаведнасць з рашэннямі прэзідэнта, міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь* («Звязда». 5.02.05). Сін. *на ліквідацыю*. Рус. ***на устранение** чего.*

**НАЎСТРЭЧУ** *каму/чаму* Дав. Дырэктыў-фініш. ППШ (без кантэкста). Русізм. Сін. *насустрач*. Рус. ***навстречу** кому/чему.*

**НА ЎСХОД АД** *чаго* / **НА У АД** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў + напрамак: *Трагічныя падзеі... прымусілі Кліма развітацца з атрыманымі валоданнямі і шукаць з невялічкім атрадам шчасця ў лясах **на ўсход ад Масквы*** (Jan Kakupala). *Белай Руссю называлася толькі невялікая частка тэрыторыі **на ўсход ад Мінска*** (Ж. Некрашэвіч-Кароткая). *Вялікае балота – урочышча, сенажаць каля ракі Свіслач **на ўсход ад вёскі Пачобуты** ў Макараўскім сельсавеце Бераставіцкага раёна* (А.Цыхун). *Нейкія сем вёрст **на ўсход ад Ковеля*** (У.Караткевіч). *Яго* [Заходняга фронту] *сілы, што засталіся, ужо не маглі стварыць суцэльнага фронту абароны **на У*** [усход] ***ад Мінска па рубяжы р.** Бярэзіна* (Энцыкл. гіст. Беларусі, т.1). *Паводле ўказання Стаўкі **на У*** [усход] ***ад фронту** абароны, які ствараўся, пачалося канцэнтраванне 24-й і 28-й армій* (Энцыкл. гіст. Беларусі, т.1). *До-*

*следы 1986 – 1987 гг. паказалі, што Вялікі пасад у XII – XIII стст. цягнуўся па правым беразе Дзвіны* ***на ўсход ад замка*** *не меней як на 1 км у міжрэччы Палаты* (Інт.). Ант. *на захад ад*. Рус. ***восточнее*** *чего.*

НА ЎСХОД ДА *чаго*

**НА ЎСХОД ЗА** *чым* Тв. Прастор.: лакатыў + напрамак: *Калі б было так, дык даваенная польска-савецкая мяжа не праходзіла б у Стоўбцах* ***на ўсход за Мінскам*** (Інт.). Рус. ***восточнее*** *чего*.

**НА ЎСХОДЗЕ-1** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Немцы не хацелі рабіць яшчэ адной дзяржаўнай фармацыі* ***на ўсходзе Еўропы*** *і, аддаючы Беларусь Расеі, мелі на ўвазе паміж Украінай і Літвой (праз Беларушчыну) стварыць супольныя і беспасярэдныя граніцы з Расеяй* (Кс.В.Гадлеўскі). Ант. *на захадзе.* Рус. ***на востоке*** *чего.*

**НА ЎСХОДЗЕ-2** *чаго* Род. Ускладн. Час.: тэмпаратыў; у прамым значэнні з назвамі нябесных свяціл: *А было ж гэта ў маі,* ***на усходзе сонца*** (Я.Лучына). Ант. *на захадзе.* Рус. ***на восходе*** *чего.*

**НА ЎСХОДЗЕ-3** *чаго* Род. Час.: пераносны тэмпаратыў: *Шкада заранкі мне, што ў небе дагарае* ***На ўсходзе дня*** *майго, якому ружавець* (А.Куляшоў). ***На ўсходзе дня*** *майго заранка дагарае, Каб позна вечарам на захадзе ўзысці* (А.Куляшоў). Ант. *на схіле; у канцы.* Сін. *на пачатку*. Рус. ***на заре*** *чего.*

**НА ўсходнім БАКУ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Размешчаны* ***на ўсходнім баку Налібоцкай пушчы*** *Івянец упершыню згаданы ў пісьмовых крыніцах як Гівянеч у 1470 г.* («Родны край», 2009). Ант. *на заходнім баку.* Сін. *на ўсходзе.* Рус. ***в восточной стороне*** *чего.*

**НА ЎСХОД ПА ТОЙ БОК** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў + накірунак: *І ўсё, што заставалася на ўсход па той бок мяжы Кароны, – усё тое прадаўжала заставацца каралеве Ядвізе мядзвежым* (А.Лойка). Рус. ***восточнее по ту сторону*** *чего.*

**НАЎСЦЯЖ** *чаго* Род. Прастор.: транзітыў: *Змрок імклівіў* ***наўсцяж даліны****, цені слаліся – біліся долу* (У.Дубоўка). *Самалёты як развярнуліся, так і паляцелі* ***наўсцяж дарогі****, на захад, на гарадок* (М.Лынькоў). *І носяцца іскры над струджаным краем,* ***наўсцяж Беларусі Заходняй*** (У.Дубоўка). || Прыслоўе: *І ўся зямля* ***наўсцяж*** *– Законны наш спажытак* (Я.Колас). ТСБМ – прыназ.; ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *уздоўж па лініі* (ППШ); *ўсцяж* (БРС). Рус. ***вдоль по*** *чему.*

**НАЎСЦЯЖ АД** *якога часу* **ДА** *якога часу* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: дымэнсіў-патэнсіў з дакладнымі межамі*: Ой, на два,*

*ой, на два галасы мы спявалі, ой, на два галасы ды на дзве старany – І Азарыч, і Чавусаў родныя далі чулі спеў наш* ***наўсцяж ад вясны да вясны*** (І.Катляроў). Рус. ***сплошь от*** *чего* ***до*** *чего.*

**НА ЎТРЫМАННІ** *каго/чаго* Род. Ускладн. Суб'ектны лакатыў: пасэсар-канфірматыў: *У 1935-м ён* [Сяргей Дзяргай] *арыштаваны, з няволі вярнуўся схварэлым і жыў* ***на ўтрыманні брата*** (М.Скобла). Сін. *на сродкі; у.* Рус. ***на содержании*** *кого.*

**НА ЎЦЕХУ** *каму / каму* **НА ЎЦЕХУ / НА** *якую* **ЎЦЕХУ** *каму /* **НА ЎЦЕХУ** Дав. Фінітыў-кансеквентыў: *Абы толькі* ***ім на ўцеху*** *труна з памерлым пастаяла ў Доме літаратара ды адбыўся грамадзянскі мітынг з прамоўцамі і ганаровай вартай* (А.Гаўрон). *Паляшучка мяне пацалуе* ***на ўцеху каханню*** (А.Глобус). *Каб спасцігалі ўсе навукі і раслі Табе, Творцу нашаму, на славу,* ***бацькам і настаўнікам нашым на*** *радасць і* ***ўцеху****, Касцёлу і Бацькаўшчыне на дабро і славу* (Інт.). Рус. ***на утешение*** *кому.*

**НА ЎЧАСТКАХ (**чаго) **ВЫШЭЙ** *колькіх адзінак* Род. – Род. Ускладн. Лакатыў + дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Могуць быць галавакружэнне, галаўны боль, гіперэмія твару і бачных слізістых абалонак, павышаная патлівасць, пачуццё пякоты, паколванне і сверб скуры* ***на ўчастках апраменьвання вышэй 6-8 Гр*** (Асновы мед. ведаў). Мед. клішэ. Рус. ***на участках поражения выше*** *скольких единиц.*

**НА ЎЧАСТКУ** *што – што* Наз.-Наз. Ускладн. Прастор.: лакатыў + анамасіятыў: *У пачатку ліпеня матарызаваныя часці праціўніка* ***на ўчастку Быхаў – Рагачоў – Жлобін*** *выйшлі да Дняпра і спрабавалі фарсіраваць раку* (Энцыклапедыя гісторыі Беларусі, т.1). ***На ўчастку ОА*** *напружанне прама прапарцыянальнае адноснаму падаўжэнню* (падручн.). Рус. ***на участке*** *чего.*

**НА ФАРМІРАВАННЕ** *чаго* Род. Ускладн. Аб'ектн.: рэлят-кансеквентыў пры рэляцыйным прэдыкаце: *Ці ўплываюць падобныя выступленні* ***на фарміраванне іміджа*** *Беларусі за межамі краіны?* («Звязда», 12.02.05). Рус. ***на формирование*** *чего.*

**НА ФОН** *чаго* Род. Ускладн. Аб'ектн.: рэлят-кансеквентыў пры рэляцыйным прэдыкаце: *Уплывае* ***на фон першамайскага жыцця*** *тое, што на пустым месцы пасёлак узнік – няма традыцыяў гістарычных* (Інт.). Сін. *на*. Рус. ***на фон*** *чего.*

**НА ФОНЕ-1** *чаго* / **НА** *якім* **ФОНЕ** *чаго* / **НА** *якім* **ФОНЕ** Род. Рэлят параўнання: *Фанетычная характарыстыка польскай мовы* ***на фоне другіх славянскіх моў*** (загаловак навук. артыкула). ***На фоне*** *тагачаснай* ***палемікі*** *прыхільнасць да імажынізму расцэньвалася як негатыўная з'ява* (навук.). *Дарагі Мікалай Уладзімі-*

*равіч! Гэтымі днямі, у крызісныя дні хваробы, атрымаў Ваша цікавае даследаванне маіх лірычных твораў* ***на фоне нашай сучаснай беларускай лірыкі*** (М.Танк – М.Мікулічу). ▲ *Менавіта* ***на зімовым фоне*** *разгортваюцца сюжэты найбольш значных карцін мастака* («ЛіМ», 06.01.06). ↔ **На фоне таго як.** Сін. *у параўнанні з.* Рус. ***на фоне*** *чего.*

**НА ФОНЕ-2** *чаго* / **НА** *якім* **ФОНЕ** *чаго* / **НА** *якім* **ФОНЕ** Род. Канфарматыў: *Аналіз кагнітыўных мадэлей, адлюстраваных у паведамленнях тэкстаў СМІ, праводзіцца* ***на фоне агульнай тэорыі*** *апрацоўкі дыскурса* (навук.). Сін. *з пункту гледжання; з пазіцый*. Рус. ***на фоне*** *чего.*

**НА ФОНЕ-3** *чаго* / **НА** *якім* **ФОНЕ** *чаго* / **НА** *якім* **ФОНЕ** Род. Характарызатар-лакатыў: *У іншыя перыяды года, асабліва зімой, ёсць даволі вялікія шанцы нават сфатаграваць* ***на фоне волатаў*** [зуброў] («Звязда», 28.04.05). Сін. *побач з.* Рус. ***на фоне*** *чего.*

**НА ФОНЕ-4** *чаго* / **НА** *якім* **ФОНЕ** *чаго* / **НА** *якім* **ФОНЕ** Род. Прастор.: лакатыў: *Венера з'яўляецца* ***на фоне вячэрняй зары*** *ў другой палове студзеня* («Родны край», 2007). ■ ***На шэрым фоне ўваходу ў пячору*** *вызначылася нейкая вялікая цёмная маса, спынілася, быццам здзіўленая, – пачуўся грозны, хрыплы рык* (Я.Маўр). ↔ **На фоне таго дзе.** Рус. ***на фоне*** *чего.*

**НА ФРАНТАХ (Мн.л.)** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Камуністы наперадзе ўсюды, заўсёды –* ***На франтах будаўніцтва****, у баю, у змаганні* (М.Танк: ТСБМ). Сін. *на; на месцах.* Рус. ***на фронтах*** *чего.*

**НА ФРОНЦЕ** *колькі адзінак* Наз. Прастор.: лакатыў-дыменсіў: *12 ліпеня Зэльвянка была фарсіравана* ***на фронце 30 км*** (У.А.Нядзелька). Ваен. клішэ. Сін. *шырынёй/ю*. Рус. ***на фронте*** *сколько единиц.*

**НА ФУНДАМЕНЦЕ** *чаго* Род. Характарызатар-канфірматыў: *Наогул, усе лепшыя творы Ніла Гілевіча заснаваныя менавіта* ***на фундаменце «любові да бліжняга»*** («ЛіМ», 13.02.04). Сін. *на грунце; на аснове*. Рус. ***на фундаменте*** *чего.*

**НА ХВАЛІ-1 (Адз.л.)** *чаго* / **НА** *якой* **ХВАЛІ** *чаго* / **НА** *якой* **ХВАЛІ** Месн. Тэмпаратыў стану: уступка: *Урокі 1998 года мы павінны засвоіць у поўнай меры і на забыць іх* ***на хвалі ажыўлення*** *попыту на нашу прадукцыю* («Звязда»).

**НА ХВАЛІ-2 (Адз.л.)** *чаго* / **НА** *якой* **ХВАЛІ** *чаго* / **НА** *якой* **ХВАЛІ** Род. Характарызатар стану: *Каханка не прыйшла, а прыплыла* ***На хвалі эратычнага жадання*** (Л.Дранько-Майсюк). ■ *Вось* ***на такой хвалі ўзнясення*** *праваслаўнай веры Самуіл Пятроўскі-Сітніяновіч пастрыгся ў манахі Полацкага Богаяўленскага манастыра* (К.Тарасаў). ***На гэтай хвалі патрыятычных пачуццяў***

*Міцкевіч і абрывае апавяданне пра апошні наезд у Літве, аб лёсах шляхты* (К.Тарасаў). Сін. *у стане*. Аказіян. Рус. ***на волне*** *чего*.

**НА ХВАЛІ (Мн.л.)** *чаго/куды* Род. У складзе прэдыката: дырэктыў-фініш: *Людзі кінулі сваё жыццё* ***на хвалі лёсу****, змірыліся з тым, што жыць гэтак жа, як суседзі, яны нібыта не ў стане* («Звязда», 26.06.05). Рус. ***на произвол*** *чего*.

**НА ХВАЛУ** *каму/чаму* Дав. Адрасат: бенефіцыянтыў-кансеквентыў: *Напісаў і гэтую святую кнігу Евангелле, няхай усё гэта будзе* ***на*** *гонар і* ***хвалу Богу ў тройцы адзінаму і найсвяцейшай пані Марыі і ўсім святым*** **(**Лукаш Прасвітар царквы Жухавіцкай. Пер.- А.Пяткевіча). Сін. *на славу*. Рус. ***во хвалу*** *кому/чему*.

**НА ХРЫБЦІНУ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-фініш: партытыў + камплетыў: *Рыбак далёка выскачыў наперад і доўга шыбаваў па касагоры, мусіць, каб выбрацца* ***на хрыбціну пагорка*** *і агледзецца* (В.Быкаў). Аказіян. Сін. *на вяршыню*. Рус. ***на хребет*** *чего.*

**НА ЦЕЛЕ** *чаго* Род. Лакатыў: партытыў + камплетыў: *«Няўжо памру і стану трупам, Згнію ў зямлі нікчэмным струпам* ***на целе гэтае зямлі?»*** (Якуб Колас). Аказіян. Сін. *на*. Рус. ***на теле*** *чего.*

**НА ЦЯГАСЦЬ** *каму/чаму* Дав. Бенефіцыянтыў-кансеквентыў: *Як дзве старэнькія кабеткі, К каторым старасць неўзаметкі Падкраўшысь злодзеем срэдзь ночы, Як смачны сон змыкае вочы, Красу і крэпасць забірае І ўсю іх жывасць выкрадае Ды кіне іх адных, старэнькіх, Адных, як перст, і чуць жывенькіх І непатрэбных анікому* ***На цягасць жыццю*** *маладому, – Так каля хаты, у садочку, Схіліўшысь ціхенька ў куточку, Стаялі дзве вярбы старыя* (Я.Колас). Сін. *на цяжкасць*. Рус. ***в тягость*** *кому/чему*.

**НАЦЯНЬКІ ДА** *каго/чаго* / **ДА** *чаго/каго* **НАЦЯНЬКІ** Род. Дырэктыў-фініш: *Не піў, а яе* [гліну] *паіў малаком, не еў, а яе карміў хлебам, каб абудзілася, каб ажыла і сказала с л о в а, якое людзі згубілі, калі захацелі ўзысці* ***нацянькі да Бога*** (А.Разанаў). Сін. *проста да*. Рус. ***прямо к*** *кому/чему*.

**НАЦЯНЬКІ ПА** *чым* / **ПА** *чым* **НАЦЯНЬКІ** Месн. Прастор.: транзітыў: *На могілкі не было следу, і бульдозер рабіў дарогу* ***нацянькі па полі*** (І.Пташнікаў). Сін. *напрасткі па*. Рус. ***прямо по*** *чему.*

**НАЦЯНЬКІ ПРАЗ** *што* / **ПРАЗ** *што* **НАЦЯНЬКІ** Він. Прастор.: транзітыў: *Ехалі, ішлі* ***нацянькі праз лес*** *да старой пагранзаставы, якая стаяла на самым беразе ў лесе, высака над Віліёй* (І.Пташнікаў). Сін. *напрасткі праз*. Рус. ***прямо через*** *что.*

**НА ЧАЛЕ** *чаго* / **НА** *чыім* **ЧАЛЕ** Род. Кваліфікатыў: *Сярод іх – 46 жанчын стаялі* ***на чале міністэрстваў*** *па сацыяльных пытаннях, 47 – па правах жанчын і гендэрных праблемах, 30 жанчын*

*узначальвалі міністэрствы працы, 19 – міністэрствы замежных спраў, 15 – эканомікі, 22 – прамысловасці, 21 – юстыцыі* (М.Цярэшчанка). *35-гадовы Грос лічыўся самам маладым прэм'ерам Еўропы. Праўда, і яго тэрмін* ***на чале ўрада*** *аказаўся адным з самых непрацяглых – усяго дзевяць месяцаў* («Звязда», 27.04.05). *Якія ж шанцы меў Мікалай Радзівіл Чорны, каб стаць самому ці замацаваць фамілію* ***на чале самастойнага гаспадарства****?* (К.Тарасаў). *Зарэмба быў чалавек суровы і лаканічны... Пад яго камандай было 69 чалавек, а* ***на чале аднаго з двух падраздзялення****ў стаяў рускі Фёдар Яльчанінаў пад псеўданімам Гарап* (У.Караткевіч). ***На чале зграі*** *стаяць заўсёды двое: воўк-важак (самы моцны звер) і яго сяброўка-ваўчыха* («Родны край-2007»). ▶*<u>Атрад</u> сваіх жакеяў конных вёў да бою – Сам* ***на чале,*** *жалеза ўгору ўзняў з фасонам* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *уперадзе* (ППШ); *пад камандай; пад кіраўніцтвам*. Рус. ***во главе*** *чего*.

**НА ЧАЛЕ З/СА** *кім/чым* / **НАЧАЛЕ З/СА** *кім* / **З/СА** *кім/чым* **НА ЧАЛЕ** Тв. Камітатыў + дамінуючы агенс: *Жыў у гэтым гарадку малады, баявы і вясёлы народ – пагранічнікі* ***на чале з начальнікам*** *заставы* (Т.Хадкевіч). *Шляхту конна ўміг пасадзім, Я –* ***на чале з пляменнікам****, а там – паглядзім!* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *У навакольных сёлах лютуе банда паліцаяў* ***на чале не то з Вазняком, не то Пазняком*** (В.Булгакаў). *На з'ездзе выбралі першы Беларускі Нацыянальны камітэт* ***на чале са Скірмунтам****, які тады шчыра гарнуўся да беларускай работы* (Кс.В.Гадлеўскі). *Палітычнае і ваеннае значэнне Полацка панізілася, землі яго падрабнелі, і на першы план выйшлі суседзі* ***на чале з Наваградкам*** (К.Тарасаў). *Ідзе пасяджэнне штаба міжпрайцэнтра, начальства у нас – з пяці брыгад,* ***з самім Царуком на чале*** (Я.Брыль). *І дарма пасольствы на ўсход ўсё кіраваліся:* ***з Глебавічамі*** *пераважна* ***на чале,*** *як і тады, перад яго адыходам у Кракаў, таксама* ***са Станіславам Глебавічам начале****, і* ***з Пятром Мішкоўскім****, і* ***з Войцехам Яновічам*** (А.Лойка). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *пад кіраўніцтвам; пад правадырствам*. Рус. ***во главе с*** *кем*.

**НА ЧАЛО** *чаго* Род. У складзе прэдыката-дырэктыва: кіруючы агенс: *Пад транспарантам даволі вялікая грамада беларусаў з Алексюком на чале, каторы стараўся выбіцца* ***на чало беларускага руху*** (Кс. В.Гадлеўскі). Сін. *на кіраўніцтва; уперад.* Рус. ***во главу*** *чего;* ***в руководство*** *чего.*

**НА ЧАС-1** *чаго* / **НА той/гэты ЧАС** Род. Час.: таксісны тэрмінатыў: *Паслугамі ламбардаў ужо карыстаюцца многія жыхары, каму патрэбна захаваць кнігі* ***на час ад'езду*** *ці тэрмінова патра-*

*буюцца грошы* («Кнігарня», 1981, кастр.). *Для вучонага* ***на час ажыццяўлення сваёй лінгвагеаграфічнай задумы*** [лінгвістычная геаграфія] *усведамлялася найперш як дапаможны метад у вывучэнні гісторыі мовы* (навук.). *Гасця заўважыў ён у той жа час, вядома, Але не мог яму ў кужэльным паказацца, Дык хуценька тайком пайшоў перапранацца У вопратку, нарыхтаваную ўжо зранння* ***На час вячэры*** *між чужых паноў і паняў* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ***На час перагавораў*** *немцы наладзілі лінію прамой сувязі з Петраградам* (І.Шамякін). *Рэпліка запісана Караткевічам з нагоды абсалютна «сухога» закону, устаноўленага* ***на час падарожжа*** (В.Ждановіч). ↔ **На той час пакуль**. Сін. *на перыяд*. Рус. ***на время*** *чего*.

**НА ЧАС-2** *чаго* / **НА той/гэты ЧАС** Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Оскар Мацэрат,* ***на час знаёмства*** *з ім пацыент псіхіятрычнай лякарні* (Е.А.Лявонава). ▲ *Ён* [Іван Грамовіч] *быў* ***на той час*** *сакратаром рэдакцыі* (С.Кухараў). ↔ **На той час калі**: *...Варшава болей для адводу І асабліва* ***на той час, Калі*** *выпоўзвае ў абходы, Як злодзей, панскі лабатрас* (Я.Колас). Сін. *у час*. Рус. ***на время*** *чего*.

**НА часавым АДРЭЗКУ ПАМІЖ** *чым* **І** *чым* Тв.-Тв. Двухч. Ускладн. Час.: тэмпаратыў: ***На часавым адрэзку «паміж мінулым і будучым»*** *ёсць тая падзея, святкаванне якой заўсёды суадносілася з глабальнымі законамі косма-планетарнага характару* («Звязда», 15.02.05). Сін. *паміж ... і; у перыяд паміж.. і.* Рус. ***на временном отрезке между*** *чем* ***и*** *чем.*

НА ЧАСТОТАХ *колькі адзінак*

**НА ЧАСТОТАХ** $_{(,)}$ **БЛІЗКІХ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў: *Ультрагукавая апрацоўка матэрыялаў, заснаваная на кавітацыі, выконваецца* ***на частотах, блізкіх да 20 кГц,*** *таму што з узрастаннем частаты памяншаецца здольнасць ультрагуку ствараць кавітацыю з-за скарачэння часу на ўтварэнне пузыркоў* (падручн.). Рус. ***на частотах близко к*** *скольким единицам.*

**НА ЧЭСЦЬ** *каго/чаго* Род. Дэстынатыў: *Тут жа яна пазнала... доктара Клікушыну, як кіраўніка «дзіцячае самадзейнасці», без выступленняў якое з рознымі «мантажамі»* ***на чэсць «вялікага Сталіна»,*** *«слаўнай партыі бальшавікоў» і «доблеснай чырвонай арміі» не адбываўся ніводзін, бадай, клубны паказ* (С.Юстапчык (Антон Адамовіч)). *Цяпер яно называецца Мурадыяй* ***на чэсць памяці*** *забітага там* ***султана Мурада*** («Arche»). Сін. *у гонар*. Рус. ***в честь*** *кого/чего.*

**НА ШАЛЯХ** *чаго* / **НА** *якіх* **ШАЛЯХ** *чаго* / **НА** *якіх/чыіх* **ШАЛЯХ** Род. Аб’ект: інструментыў: ***На шалях унутранай раўнавагі*** *ўзважваеш Паражнечу і Паўнату і нікому не прызнаешся, чаму не пераважвае шаля шалі* (А.Разанаў). Аказіян. Рус. ***на весах*** *чего*.

**НА ШКОДУ** *каму/чаму* / *каму/чаму* **НА ШКОДУ** Дав. Бенефіцыянтыў-кансеквентыў: *Буяць – расці ў націну, разрастацца **на шкоду плоданашэнню*** (ТСБМ). *Выпадкі, у якіх «вучоны» чалавек можа выкарыстаць свае веды **на шкоду іншаму чалавеку** або супольнасці, можна прыводзіць дзесяткамі* (Я.Пятроўскі). *Дзейнасць менскай філіі станоўча ацэньвалася ў Варшаве, затое ў Менску спараджала падазрэнні і даносы ў SD – галоўным чынам на Іваноўскага, якога называлі польскім агентам, што дзейнічае **на шкоду Беларусі*** («Arche»). *Карацей, для сябе я запісаў гаспадароў у катэгорыю тых урачоў, якія разам із школьнымі настаўнікамі, па сутнасці, з'яўляюцца аднымі з самых малавартых і малапрыемных людзей, тых, **каму** адукацыя ідзе **на шкоду*** («Arche»). *Не перастарайцеся: на ўгноенай глебе настурка моцна разрасецца **на шкоду цвіценню**, якое настае праз 40 – 50 дзён пасля з'яўлення усходаў* («Родны край», 2009). Ант. *на карысць*. Сін. *на бяду; на зло; на цягасць*. Рус. ***во вред** кому/чему.*

**НА ШЛЯХ** *чаго* Род. Прэдыкат: дырэктыў-фінітыў: *Мы сталі **на шлях вяртання** да духоўных крыніц* (Мітрапаліт Філарэт). *Духоўная згода, узаемнасць і цярпімасць – галоўныя састаўныя адзінага маральнага закону для чалавека і Сусвету, следаванне якому можа ўратаваць людства і Зямлю ад самазнішчэння, утаймаваць стыхіі, што выйшлі з берагоў, павярнуць цывілізацыю **на шлях эвалюцыйных пераўтварэнняў*** (Т.Бондар). *Існаванне Польшчы, Літвы, Беларусі азначала, што так ці іначай давядзецца ступіць **на шлях рэформ*** (У.Караткевіч). *Святы анёле, Заступніку Боскае волі, ...Боль незаслужаны патушы, застацца самім сабой Дазволь мне, ахоўца мае душы, **На шлях збаўлення** мяне скіруй, Калі дзе паддаўся мане, даруй* (Р.Барадулін). Ант. *са шляху*. Сін. *да*. Рус. ***на путь** чего.*

**НА ШЛЯХ АД** *чаго* **ДА** *чаго* Род.-Род. Ускладн. Сітуатыў: дырэктыў-старт + дырэктыў-фініш: *Калі выйсці з Хрэнцыі, каб дайсці да сваёй Беларусі, час, безумоўна, спатрэбіцца большы, чым **на шлях ад «Чужой бацькаўшчыны» да свайго «Дому»*** (Інт.). ***На шлях ад слова да справы** заставалася 8 дзён* (Інт.). Сін. *ад ... да*. Рус. ***на путь от** чего **к** чему.*

**НА ШЛЯХ ДА** *чаго* Род. Дырэктыў-фініш: *Адылі, ужо Кант і Гегель наважваюцца **на шлях да прасторавага і часавага** (і то бок **дыскурсіўнага**) насуперак азначальнай сістэме* (Д.Алькоўскі-Лэтц. Пер. П.Баркоўскага). Рус. ***на путь к** чему.*

**НА ШЛЯХАХ** *чаго* / **НА** *якіх* **ШЛЯХАХ** *чаго* / **НА** *якіх/чыіх* **ШЛЯХАХ** Род. Прастор.: лакатыў: *І хочацца, каб палымяны заклік, што гучыць з вуснаў пілігрымаў у вясёлых спевах, дасягнуў сэрца*

*кожнага чалавека, які сустрэне вандроўнікаў **на шляхах Беларусі**, і каб пілігрымкі на нашай зямлі былі знакам непахіснасці хрысціянскай веры і традыцый* («ЛіМ»). ▲ *З глыбіняў вякоў узнікаюць і зноўку знікаюць дарожныя знакі – людзі, што сустракаюцца нам **на нашых шляхах*** (А.Разанаў). Рус. ***на путях** чего*.

НА ШЛЯХАХ АД *чаго*

**НА ШЛЯХАХ ДА** *чаго* Род. Ускладн. Аб'ектны лакатыў: партытыў + камплетыў: *Скупая, загадкавая і часам нявытлумачаная гісторыя напісана **на шляхах да Мсціслава**, на яго вулачках, на сцежках гарадзішча і Дзявочай гары* (У.Караткевіч). Сін. ***на дарогах да** чаго.*

**НА ШЛЯХАХ З** *чаго* **Ў** *што* Род. У складзе прэдыката лакатыў: *Быць **на шляхах з мінулага ў будучыню**.* **—||** Назоўнік: *Мы **на шляхах**: **з рэчаіснасці**, дзе ўсё змяняецца то паступова, то раптам, **у рэчаіснасць**, якая прыцягвае нашу бязмоўную і невідушчую ўвагу, нібы магнітную стрэлку полюс, і ў абсязе якой мы робімся тымі, кім ёсць* (А.Разанаў). Рус. ***на пути из** чего **во** что.*

НА ШЛЯХАХ К *чаму*

НА ШЛЯХАХ У *што*

**НА ШЛЯХУ-1** *каго/чаго* / **НА** *якім* **ШЛЯХУ** *каго/чаго* / **НА** *чыім* **ШЛЯХУ** Род. Сітуатыў: лакатыў + тэмпаратыў: ***На шляху прабегу** альфа-часціцы страчваюць энергію на іанізацыю малекул асяроддзя і ўтвараюць сотні тысяч пар іонаў, у сярэднім да 30 тысяч на 1 см прабегу* (Асновы мед. ведаў). ▲*Тры нялёгкія заданні мне жыццё дало: На начной дарозе дальняй Адшукаць святло; Скласці песню на той мове І на той зямлі, Над якой у час суровы Буры прагулі; Пакідаючы краіну з сонцам веснавым, Сад квітнеючы пакінуць **На шляху сваім*** (М.Танк). Сін. *на шляхах.* Рус. ***на пути** кого/чего*.

**НА ШЛЯХУ-2** *чаго* Род. Сітуатыў: стан + характарызатар: *Грэкі былі першымі, каторыя ўнялі яго* [чалавека] *ў межы разумнага тасавання ў жыцці **на шляху дыялогу**, уздымаючы справядлівасць да ролі князя ў гаспадарстве* (Я.Пятроўскі). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Рус. ***на пути** чего.*

**НА ШЛЯХУ-3** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў + камітатыў: ***На шляху Smith-аўскай каманды** па Заходняй Еўропе гэты Cliemenka паспеў закахаць у сябе дачку венецыянскага дожа і закахацца сам, а так як дож быў супраць далейшага развіцця зносін дачкі з чужынцам, проста скраў яе з Венецыі, разам з сямейнымі брыльянтамі* (Jan Kakupala). Сін.*падчас.* Рус. ***по пути** кого/чего.*

**НА ШЛЯХУ АД** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў-транзітыў: *У эшалоне былі вагоны, цалкам запоўненыя цяжкапараненымі, і плат-*

*формы з падабранымі* ***на шляху ад Мінска*** *людзьмі* (Э.Іофе). Рус. ***на пути*** *от чего*.

**НА ШЛЯХУ АД** *чаго* **ДА** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў-транзітыў: *Графічна работа* ***на шляху ад пункта / да пункта 2*** *роўная плошчы фігуры* (падручн.). Рус. ***на пути от*** *чего* ***к*** *чему.*

**НА ШЛЯХУ ДА-1** *чаго* / **НА** *якім* **ШЛЯХУ ДА** *чаго* / **НА** *чыім* **ШЛЯХУ** Род. Прастор.: лакатыў-транзітыў: *Хуткая медыцынская дапамога аказваецца на месцы здарэння, а пры неабходнасці і* ***на шляху да бальніцы*** (Асновы мед. ведаў). *Касмічны зонд Lunar 2* ***на шляху да Месяца*** *перадаў па радыё першыя здымкі Зямлі* («Arche»). Рус. ***по дороге к*** *чему*.

**НА ШЛЯХУ ДА-2** *чаго* / **НА** *якім* **ШЛЯХУ ДА** *чаго* / **НА ШЛЯХУ** *каго* **ДА** *чаго* / **НА** *чыім* **ШЛЯХУ** Род. Лакатыў-транзітыў: ***На шляху да палітычнага Алімпа*** *страты і расчараванні непазбежныя?* (М.Цярэшчанка). *Само з'яўленне нашага універсітэта першапачаткова разглядалася ў якасці кроку* ***на шляху да аднаўлення*** *адзінай адукацыйнай прасторы* («Звязда», 4.01.05). *Без разумных нормаў і прынцыпаў гэтак старажытны свет, як і сучасны, не могуць абыйсціся* ***на шляху*** *людскасці* ***да новых гарызонтаў*** (Я.Пятроўскі). ■ *Мудрасць ведае адну веру – веру ў вялікае прадвызначэнне Чалавека, якога Прырода стварыля для поўнага і канчатковага спазнання самой сябе... І Францыск Скарына зрабіў адзін з першых крокаў* ***на нашым шляху да гэтага*** (У.Караткевіч). Рус. ***на пути к*** *чему*.

**НА ШЛЯХУ ДА-3** *чаго* Род. Характарызатар стану: *А ўвогуле ж і цяпер яшчэ каля шасцісот відаў звяроў і птушак* ***на шляху да вымірання*** (У.Караткевіч). ***На шляху да*** *прафесійнага* ***сталення*** (загаловак; В.І.Іўчанкаў). Сін. *у стане*. Рус. ***на пути к*** *чему*.

**НА ШЛЯХУ З** *чаго* **НА** *што* Род.-Він. Прастор.: лакатыў-транзітыў: *Самы небяспечны з урокаў маёй шафёрскай практыкі здарыўся* ***на шляху з Зэльвы на Свіцязь*** (У.Калеснік). Рус. ***на пути из*** *чего* ***на*** *что.*

**НА ШЛЯХУ К** *каму/чаму* Дав. Час.: таксісны тэмпаратыў: *З вялікімі фінансавымі цяжкасцямі сутыкнуўся* ***на шляху к «Дажынкам-2006»*** *Бабруйск* (Інт.). Рус. ***на пути к*** *чему*.

НА ШЛЯХУ ПА *чым*

**НА ШЛЯХУ Ў** *што* Він. Час.: тэмпаратыў: *Архівы* ***на шляху ў XXI стагоддзе*** (загаловак). Рус. ***на пути во*** *что*.

**НА ШЭРАГ-1** *чаго* Род. Ускладн. Аб'ект + квантытатыў: *Згодна з тэорыяй дэканструкцыі, дыскурс абапіраецца* ***на шэраг бінар-***

***ных апазіцый,*** *адзін складнік з якіх мае пазітыўны характар, другі негатыўны* (Г.К.Чахоўскі).

**НА ШЭРАГ-2** *чаго* Род. Дырэктыўны аб’ект + квантытатыў: *Сёлета пры паступленні* ***на шэраг спецыяльнасцяў*** *абітурыентам прыйдзецца здаваць «Гісторыю Беларусі»* («Звязда», 25.02.05). Рус. ***на ряд*** *чего*.

**НАШЧОТ** *каго/чаго* Род. Дэлібератыў тэмы: *– А* ***нашчот культуры*** *я не кажу, бо ён прывык у дзярэўні побач са свіннямі, а тут яму не хлеў, а кварціра* (П.Васючэнка). Стылізаваны пад «трасянку» русізм. Сін. літ. *наконт*. Рус. ***насчет*** *кого/чего.*

**НА ЭТАПАХ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Першая медыцынская дапамога паражоным. Асаблівасці догляду* ***на этапах эвакуацыі*** (Асновы мед. ведаў). Сін. *на стадыі; падчас*. Рус. ***на этапах*** *чего*.

**НА ЭТАПЕ / НА** *якім* **ЭТАПЕ** *чаго* / **НА** *якім* **ЭТАПЕ** Род. Час.: тэмпаратыў: ***На этапе развітога сацыялізма*** *практычна павінна быць вырашана задача забеспячэння рацыянальнага спажывання насельніцтвам асноўных прадуктаў харчавання ў адпаведнасці з патрабаваннямі навукі* («Arche»). ▲ ***На сённяшнім этапе*** *рэфармавання сістэмы аховы здароўя аб'яднанне амбулаторна-паліклінічных структур горада і вёскі нерацыянальнае* («Звязда», 24.03.05). Сін. *на стадыі*. Рус. ***на этапе*** *чего*.

**НЕАДЛУЧНА АД** *каго/чаго* Род. Характарызатар: *Мы жывём* ***неадлучна ад гэтага свету*** *і міжволі люструем яго ў сваёй душы* (Інт.). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Сін. *неадрыўна ад*. Рус. ***неотрывно от*** *чего*.

**НЕАДПАВЕДНА** *чаму* Дав. Рэлят неадпаведнасці: *Патрабаванне адыходу веры або змены веравызнання* ***неадпаведна сумленню****, пастаўленае як умова для заключэння сужэнства, з'яўляецца парушэннем права рэлігійнай свабоды* (Інт.). || Прыслоўе: *Другое звязвалася з імперскім праектам,* ***неадпаведна*** *пададзеным як «грамадзянская супольнасць у сваёй місіі»* (Г.Сьпівак). ТСБПШ – прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Сін. *несуадносна з; непрапарцыянальна.* Рус. ***несоответственно*** *кому/чему.*

**НЕАДПАВЕДНА З** *кім/чым* Тв. Рэлят неадпаведнасці: *Несапраўдны ён* (шлюб) *і ў тым выпадку, калі сужэнства трактуецца* ***неадпаведна з каталіцкім вучэннем****, напрыклад, як часовы саюз альбо саюз, які выключае патомства* (Інт.). Сін. *адступаючы ад; адрозна ад.* Рус. ***несоответственно*** *кому/чему.*

**НЕ АДСТУПАЮЧЫ АД** *чаго* Род. Характарызатар дзеяння: *Ігнат Сцяпанавіч не баіцца сказаць праўду... І робіць гэта* ***не ад-***

***ступаючы ад*** *агульных* ***інтарэсаў****, але з тактам, без прыніжэння годнасці* («Весці АН БССР,1988, № 4). Сін. *неадрыўна ад.* Рус. ***не отступая от*** *чего.*

**НЕ АДЫХОДЗЯЧЫ АД** *чаго* Род. Характарызатар дзеяння: *З'явілася онлайнавая версія праграмы Kir2Lac. Канвертаваць тэкст зараз можна* ***не адыходзячы ад касы*** *(*Інт.). *І над усім гэтым – абдубашаная пацыфістка Вайна, якая будзе* ***не адыходзячы ад вяртушкі****, пад касяк браць інтэрв'ю у якога небудзь вакаліста гурта БЕЗ БІЛЕТА* (Інт.). Сін. *адразу пасля*. Рус. **не отходя от** *чего.*

**НЕ БЕЗ** *чаго* Род. Рэлят дапушчэння экзістэнцыі чаго-небудзь: *Скажу шчыра:* ***не без рэўнасці*** *прачытала гэтыя радкі – бо... вы не толькі рускі, але і беларускі акцёр?* («Звязда», 5.02.05). *Знайшоў дзіру ў паркане і* ***не без напору*** *Праціснуўся ў гарод, як воўк які ў абору* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Маглі валодаць жалязякай* ***не без мукі*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Касцёл Святога Андрэя* ***не без падстаў*** *лічыцца адным з найбольш вядомых ва ўсёй Заходняй Беларусі* («Звязда», 25.06.05). *Цяпер тут ішоў мітуслівы гандаль рознымі анучамі і неданоскамі. Безумоўна,* ***не без новых рэчаў*** (І.Грамовіч). ◊ ***Не без гэтага*** **–** і гэта бывае. ***Не без таго*** **–** бывае і так. ***Не без чаго*** **–** тое, што і з чым. Сін. *з.* Рус. ***не без*** *чего*.

**НЕ БЕЗ ВЕДАМА** *каго* Род. Рэлят дапушчэння экзістэнцыі канфірмацыі: *Але і на гэты раз лёс полацкага Адысея залежаў не так ад жадання палкай удавіцы, якая* ***не без ведама пракурора*** *напярэдадні мінулае ночанькі ўжо спрабавала дабіцца ўзаемнасці ад затрыманага на вроцлаўскай ратушы невядомага Францыска з прамым на тое заданнем – невядомае праясніць. Лёс Францыска Скарыны залежаў, аднак, ад зусім-зусім іншага...* (А.Лойка). Сін. *з ведама.* Рус. ***не без ведома*** *кого.*

**НЕ БЕЗ ДАПАМОГІ** *каго/чаго* Род. Рэлят дапушчэння экзістэнцыі канфірмацыі: *Выстава адбылася* ***не без дапамогі мецэнатаў***. ▲ *А пасля ты пабіў станавога, а пасля цябе выклікалі ў павет* ***не без нашай дапамогі*** (У.Караткевіч). Сін. *з дапамогай*. Рус. ***не без помощи*** *кого/чего*.

**НЕ БЕЗ УДЗЕЛУ** *каго* Род. Рэлят дапушчэння суагенса: *Дашукацца нейкіх сінтэзуючых канстантаў у кім толькі не творанай (і ўсе ж такі* ***не без удзелу ўкраінцаў!****) украінскай гісторыі – справа безнадзейная ...* (А.Забужко. Пер. М.Баярына). Ант. *без удзелу*. Сін. *з удзелам*. Рус. ***не без участия*** *кого/чего*.

**НЕ БЕЗ УПЛЫВУ** *каго/чаго* Род. Рэлят дапушчэння рэлянта: *Калі прызнацца шчыра, то гістарычнай тэмай захварэў* ***не без уп-***

***лыву Уладзіміра Сямёнавіча*** (А.Бутэвіч). Сін. *пад уплывам*. Рус. ***не без влияния*** *кого/чего.*

**НЕ БЛІЖЭЙ** *колькіх адзінак* **АД** *каго/чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў + прыблізны квантытатыў з дакладнай бліжняй мяжой: *У адпаведнасці з нормамі тэхнічныя збудаванні можна ўзводзіць* ***не бліжэй 50 км ад геалагічнага разлома*** (Інт.). *Спартсмен павінен ажыццяўляць падачу* ***не бліжэй 1,5 метраў ад канцавой лініі тэніснага стала*** (Інт.). Рус. ***не ближе*** *скольких единиц* ***от*** *чего.*

**НЕ БЛІЖЭЙ** *колькіх адзінак* **ДА-1** *каго/чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў + прыблізны квантытатыў з дакладнай бліжняй мяжой: *Новыя аб'екты цяпер павінны будавацца* ***не бліжэй 25 метраў да будынкаў*** (Інт.). *Кальцавая дарога пройдзе* ***не бліжэй 200 м ад вёсак і лецішчаў*** (Інт.). Рус. ***не ближе*** *скольких единиц* ***до*** *чего.*

**НЕ БЛІЖЭЙ** *колькіх адзінак* **ДА-2** *каго/чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны тэрмінатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Дата складання спіса акцыянераў павінна быць* ***не бліжэй 20 дзён да даты*** *агульнага з 18 сакавіка 2004 г.* (з аб'явы). Рус. ***не ближе*** *скольких единиц* ***к*** *чему/какому времени.*

**НЕ БЛІЖЭЙ ЗА** *колькі адзінак адлегласці* **ДА** *каго/чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: прыблізны лакатыў з дакладнай бліжняй мяжой: *Пратэставаць супраць мясцовага начальства дазвалялася толькі з яго пісьмовага дазволу і* ***не бліжэй за 5 км ад ягонага будынку*** (В.Быкаў). Рус. ***не ближе*** *скольких единиц* ***к*** *чему.*

**НЕ БЛІЖЭЙ ЧЫМ** *колькі адзінак* **АД** *каго/чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: прыблізны лакатыў з дакладнай бліжняй мяжой: *Куплю дом у вёсцы недалёка ад Мінска,* ***не бліжэй чым 50 км ад кальцавой*** (з аб'явы). *Аўтаматы для гульняў могуць размяшчацца* ***не бліжэй, чым 500 м ад школ і цэркваў*** (Інт.). Рус. ***не ближе чем*** *сколько единиц* ***от*** *чего.*

**НЕ БЛІЖЭЙ ЧЫМ ЗА** *колькі адзінак адлегласці* **АД** *каго/чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: прыблізны лакатыў з дакладнай бліжняй мяжой: *Пры наяўнасці ў лагеры адкрытага вогнішча яно павінна быць размешчаным* ***не бліжэй чым за 20 – 25 м ад палатаў ці жылых памяшканняў*** (з загаду). Рус. ***не ближе чем за*** *сколько единиц* ***от*** *чего.*

**НЕ БЛІЖЭЙ ЧЫМ ЗА** *колькі адзінак часу* **ДА-1** *чаго* Він. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны тэрмінатыў з дакладнай бліжняй мяжой: *Выключэннем з правілаў складаць спіс асоб* ***не бліжэй чым за 20 дзён да сходу*** *з'яўляецца выпадак* (Інт.). Сін. *не пазней чым за ... да.* Рус. ***не позднее чем за*** *сколько единиц* ***до*** *чего.*

**НЕ БЛІЖЭЙ ЧЫМ ЗА** *колькі адзінак адлегласці* **ДА-2** *каго/чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: прыблізны лакатыў з дакладнай бліжняй мяжой: *Выгульныя пляцоўкі для сабак павінны размяшчацца* ***не бліжэй чым за 40 м да жылых будынкаў*** (газ.). Рус. ***не ближе чем за*** *сколько единиц* ***от*** *чего.*

**НЕ БЛІЖЭЙ ЧЫМ У** *колькіх адзінках* **АД** *каго/чаго* Месн.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: прыблізны лакатыў з дакладнай бліжняй мяжой: *У Пскоўскай вобласці аб'екты гульнявога бізнесу змогуць размяшчацца* ***не бліжэй чым у 50 м ад жылых будынкаў і сацыяльных аб'ектаў*** (Інт.). *Канструкцыі павінны размяшчацца* ***не бліжэй чым у 10 м ад краю дарогі*** *ў сельскай мясцовасці* (Інт.). Рус. ***не ближе чем в*** *скольких единицах* ***от*** *чего.*

**НЕ БОЛЕЙ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *На ўсе Мікуцічы было* ***не болей трох лодак****, хоць у сяле налічвалася каля двухсот двароў* (Я.Колас). Рус. ***не более*** *скольких единиц.*

*адзінак колькі / колькі адзінак*, **НЕ БОЛЕЙ** Постпазіц., адасоблены. Ускладн. Прыблізны квантытатыў + градуатар: *Ён вёў за руку маленькага хлопчыка, якому было, мяркуючы па росту****, гадоў пяцьшэсць, не болей*** (М.Шолахаў. Пер. М.Лужаніна). Сін. *не больш*. Рус. *столько-то единиц,* ***не больше****.*

НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ-1 *колькі адзінак*

**НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ** *што* Наз. Рэлят тоеснасці: *Канечне, гэта* ***не болей чым сціплы эпізод*** *з перажытага* (Р.Сітніца). Сін. *у якасці.* Рус. ***не более чем*** *что.*

**НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ НА** *колькі адзінак* **У** *якую адзінку адлічэння* Він. – Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + дыстрыбутыў: *Цану фермер можа павялічыць, але* ***не болей чым на 1,8 працэнта ў месяц*** («Звязда»). Рус. ***не более чем на*** *сколько единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**НЕ БОЛЕЙ ЧЫМСЬЦІ** *што* Наз. Рэлят тоеснасці: *Казаў, што жыццё чалавечае надта несувымернае з вечнасцю і што ці пятнаццаць гадоў, ці шэсцьдзесят – усё* ***не болей чымсьці імгненне*** *ў вечнасці часу* (В.Быкаў). Сін. *не болей чым*. Рус. ***не более чем*** *что.*

НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ У *колькі адзінак*

**НЕ БОЛЕЙ ЯК** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Першая прагулка наванароджанага ў зімовы час павінна быць кароткачасовая,* ***не болей як 10 хвілін*** (Асновы мед. ведаў). *Можа, іменна таму рэкорд трымаўся* ***не болей як гадзіну****, а потым членаў Саюза (ці сяброў) стала 531* (В.Гардзей). *Псіхолагі*

*кажуць, што пачуццё гумару адсутнічае* ***не болей як у*** *5 % людзей* (Інт.). Сін. *не больш за.* Рус. **не более** *скольких единиц.*.

**НЕ БОЛЕЙ ЯК НА-1** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў-дыстрыбутыў з дакладнай верхняй мяжой: *Для дзяцей ва ўзросце да года палаты павінны быць* ***не болей як на 2 ложкі*** (Асновы мед. ведаў). *Пры гэтым, каб зменшыць ціск на сценку сасуда, яго запаўняюць вадкасцю* ***не болей як на 80 – 85 %*** (Асновы мед. ведаў). Рус. ***не более чем на*** *сколько единиц.*

**НЕ БОЛЕЙ ЯК НА-2** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў рознасці з дакладнай верхняй мяжой: *Ён датуль сядзеў, пакуль стог з`елі.* ***Не болей як на адзін сажань*** *засталося* (нар.). Сін. *не больш як на*. Рус. ***не более чем на*** *сколько единиц.*

**НЕ БОЛЕЙ ЯК** *колькі адзінак* **У** *якую адзінку адлічэння* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + дыстрыбутыў: *Студэнцкая віза дае вам дазвол на працу* ***не болей як*** *20 гадзін* ***у*** *тыдзень* (Інт.). Сін. *не больш за*. Рус. ***не более*** *скольких единиц.*

**НЕ БОЛЕЙ ЯК ПРАЗ** *колькі адзінак часу/які час* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + тэрмінатыў: *Дамавік рэзка ўстаў з канапы і накіраваўся ў лазніцу, адкуль* ***не болей як праз хвіліну*** *вярнуўся* (Інт.). Рус. ***не более чем через*** *сколько единиц.*

**НЕ БОЛЬШ** *чаго* Род. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Кожнае лінейна ўпарадкаванае мноства можа мець* ***не больш аднаго найменшага*** *і* ***не больш аднаго найбольшага элемента*** (Р.Кожух). *Яны – рабы моды і* ***не больш таго*** (Інт.). Рус. **не более** *скольких единиц.*

*адзінак колькі*, **НЕ БОЛЬШ-1** Не кіруе склонам. Постпазіц., адасоблены. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + градуатар: *Да ракі заставалася* ***кіламетраў два, не больш***. Рус. *единиц сколько,* ***не более***.

*што*, **НЕ БОЛЬШ-2** Не кіруе склонам. Постпазіц. адносна назоўніка, адасоблены. Рэлят колькаснага упадаблення: *Вы бачылі, што сабой уяўляе рэчышча Свіслачы без дадатковых «уліванняў»? Ручай –* ***не больш*** («Звязда», 4.01.05). Рус. *что,* ***не более.***

**НЕ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Сапраўдных, сур'ёзных калекцыянераў няшмат – каля 50 – 60 чалавек у Мінску, па Беларусі* ***не больш за тысячу*** («Звязда», 4.02.05). *Супраціўленне зазямлення нейтралі генератара і трансфарматараў не павінна перавышаць 4 Ом, а пры магутнасці менш за 100 кВ –А –* ***не больш за 10 Ом***. (падручн.). *У радку звычайна* ***не больш за 64 – 65 сімвалаў*** (падручн.). *Электра-*

*вымяральны камбінаваны прыбор забяспечаны аўтаматычнай засцярогай ад кароткачасовых электрычных перагрузак пры вымярэнні сілы і напружання пастаяннага і пераменнага току, але* ***не больш за 50 А*** *у паслядоўных і* ***за 2 кВ у паралельных электрычных ланцугах*** (падручн.). Рус. ***не более*** *скольких единиц.*

**НЕ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* **НА** *якую адзінку вымярэння* / **НА** *якую адзінку вымярэння* **НЕ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + дыстрыбутыў: ***На адзін квадратны кіламетр у сярэднім*** *прыпадае* ***не больш за дваццаць чалавек*** («Arche»). Сін. *не болей за ... на*. Рус. ***не более*** *скольких единиц* ***на*** *сколько единиц.*

**НЕ БОЛЬШ ЧЫМ**[1] *што* Наз. Рэлят параўнання: намінат: *На фоне матэрыяльных выгод размовы аб развіцці грамадзянскіх інстытутаў у Беларусі* ***не больш чым шырма*** («Звязда», 01.6.04.05*).* Сін. *не што іншае як*. Рус. ***не более чем*** *что.*

**НЕ БОЛЬШ ЧЫМ**[2] *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Усяго зараз у месцы пазбаўлення волі адбываюць пакаранне* ***не больш чым 33 тысячы асуджаных*** («Звязда», 25.01.05). *Гатуйце моркву* ***не больш чым 5 – 10 хвілін*** *і абавязкова пад накрыўкай* («Родны край-2007»). *У Мінскім раёне нядрэнны ўчастак зямлі па льготнаму кошту ацэньваецца* ***не больш чым 22 тысячы рублёў*** («Звязда», 18.02.05). Сін. *не больш як*. Рус. ***не более чем*** *сколько единиц.*

**НЕ БОЛЬШ ЧЫМ ЗА**[1] *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + дыменсіў-патэнсіў: *Дапамога па догляду хворага дзіцяці ва ўзросце да 14 гадоў пры амбулаторным лячэнні выплачваецца за перыяд, на працягу якога дзіця паводле заключэння ўрача мае патрэбу ў доглядзе, але* ***не больш чым за 14 каляндарных дзён*** (Закон РБ). *У Пецярбурзе гарадскі тэлефон падключаць* ***не больш чым за паўгода*** (Інт.). Сін. *не больш як за.* Рус. ***не более чем за*** *скольких единиц.*

**НЕ БОЛЬШ ЧЫМ ЗА**[2] *колькімі адзінкамі* Тв. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Любы элемент ... непасрэдна настае* ***не больш чым за адным элементам*** *гэтага мноства* (падручн.). Сін. *не болей чым за*. Рус. ***не более чем за*** *сколькими единицами.*

**НЕ БОЛЬШ ЧЫМ ЗА** *колькі адзінак* **ПЕРАД ДНЁМ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + тэмпаратыў: *Выплачваецца розніца ў пенсіі за мінулы час з дня звароту па назначэнне пенсіі, але* ***не больш чым за 12 месяцаў перад днём*** *яе* ***назначэння*** (Закон РБ). Рус. ***не более чем за*** *сколько единиц времени* ***перед днем*** *чего.*

**НЕ БОЛЬШ ЧЫМ НА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Лепш за ўсё цуркі вертыкальна ўкапаць у зямлю, пакідаючы зверху* ***не больш чым на 1/3 вышыні*** («Звязда», 16.02.05). *Крэс-салату зручна сеяць радкамі, заглыбляючы насенне* ***не больш чым на 1 см*** («Звязда»). Сін. *не болей чым на*. Рус. ***не более чем на*** *скольких единиц.*

**НЕ БОЛЬШ ЧЫМ ПА** *колькіх адзінках* Месн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Навучэнцы, якія дапушчаны да экзаменаў, але маюць нездавальняючыя гадавыя адзнакі* ***не больш чым па двух прадметах*** *тэарэтычнага навучання, па якіх не праводзяцца экзамены, атрымліваюць па гэтых прадметах індывідуальныя вучэбныя заданні і здаюць па іх залікі ...* (З аб'явы). Рус. ***не более чем по*** *скольким единицам*.

**НЕ БОЛЬШ ЧЫМ ПРАЗ** *колькі адзінак часу* Він. Прыблізны квантытатыў-тэмпаратыў з дакладнай верхняй мяжой: *Вымаюць трубку ў* ***дзяцей не больш чым праз 15 – 20 хвілін*** (Асновы мед. ведаў). Рус. ***не более чем через*** *сколько единиц.*

**НЕ БОЛЬШ ЧЫМ У[1]** *колькі адзінак/разоў* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Зямельны падатак можа павялічвацца мясцовымі ўладамі* ***не больш чым у два разы*** («Звязда», 14.06.05). Сін. *не больш як у*. Рус. ***не более чем в*** *скольких единицах.*

**НЕ БОЛЬШ ЧЫМ У[2]** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Прэзідэнт карыстаецца даверам* ***не больш чым у 25 працэнтаў*** *выбаршчыкаў* (Інт.). Сін. *не болей чым*. Рус. ***не более чем у*** *скольких единиц.*

**НЕ БОЛЬШ ЧЫМ У** *колькіх адзінках* **АД** *якой колькасці* Месн. – Род. Двухч. Ускладн. Партытыў: прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + камплетыў: *Заўважым, што ўсе пералічаныя тэмы сустракаюцца* ***не больш чым у 6 % ад усіх калыханак*** (навук.). Сін. *не болей чым*. Рус. ***не более чем в*** *скольких единицах...* ***от*** *скольких единиц.*

**НЕ БОЛЬШЫ ЗА** *што/колькі адзінак* Він. Рэлят: эквівалент прыблізнага квантытатыва з дакладнай верхняй мяжой: *Модуль перамяшчэння* ***не большы за шлях****...* (падручн.). Рус. ***не больше*** *чего* (= *скольких единиц*).

**НЕ БОЛЬШ ЯК-1** *што* Наз. У складзе прэдыката-характарызатара: рэлят параўнання: намінат: *Яму* [Балуеву] *дастаўляла асалоду думаць, што яны з іхнім сацыялізмам* ***не больш як сляпыя шчанюкі*** (У.Караткевіч). Сін. *не што іншае як; не больш чым*. Рус. ***не более чем*** *кто/что.*

**НЕ БОЛЬШ ЯК-2** *колькі адзінак* Не кіруе склонам. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Працягласць дзеяння кампрэсу –* ***не больш як 12 гадзін*** (Асновы мед. ведаў). *Да паўстанка аставалася* ***не больш як кіламетры два*** *хады, а цягнік меўся прыйсці не менш як праз гадзіны тры* (В.Адамчык). *Гэтаксама і ў гэткую пару стукалі тады, калі забіралі нядаўняга кватаранта, прыгожага рослага мужчыну з бародкаю і ў скураной карычневай курткы, што толькі і паспеў парабіць у школе* ***не больш як месяц*** (В.Адамчык). *Пры гэтым член экспертнага савета – доктар навук мае права ўваходзіць у склад* ***не больш як двух саветаў*** *па абароне дысертацый* (афіц.). *Хоць сярод дробнай шляхты тады размаўлялі па-беларуску, шляхта таго парадку, да якога, відаць, належаў гэты пан, мовы не ведала: сярод гасцей* ***не больш як які дзесятак*** *размаўляў на мове Марцінкевіча і Каратынскага, астатнія на дзіўнай сумесі польскіх, расейскіх і беларускіх слоў* (У.Караткевіч). Сін. *не болей як*. Рус. ***не более чем*** *сколько единиц.*

**НЕ БОЛЬШ ЯК НА** *колькі адзінак* / **НЕ БОЛЬШ ЯК** *адзінак* **НА** *колькі* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Затрымаць грамадзяніна міліцыя можа* ***не больш як на*** *3 дні з мэтай, напрыклад, высвятлення асобы* (Інт.). *Калі навучанне ў краіне вядзецца на нацыянальнай мове* ***не больш як на 30 %****, нацыя знаходзіцца пад пагрозай існавання* (Інт.). *Сёння ён, здаецца, ступае на месцы, памагаючы сабе ляскай і прасунуўшыся наперад* ***не больш як на сантыметраў дзесяць*** (В.Адамчык). *Святла ў ліхтары магло хапіць* ***не больш як на*** *паўгадзіны* (Р.Мурашка). Сін. *не больш чым на*. Рус. ***не более чем на*** *сколько единиц.*

**НЕ БОЛЬШ ЯК** *колькі адзінак* **НА** *якую адзінку вымярэння* Наз.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + дыстрыбутыў: *Па-першае, ёсць на гэта спецыяльныя посткаітальныя таблеткі – на нашым рынку, напрыклад, пастынор, які прымаюць не пазней як праз 2 – 3 гадзіны пасля полавага акту, прычым* ***не больш як 4 таблеткі на месяц*** (Ю.Марголін). *Наўрад ці змог грамадзянскі губернатар ведаць усе падрабязнасці яго* [Ястрабцова] *кіравання пры вельмі рэдкіх наведваннях вучылішчаў, у якіх ён быў* ***не больш як адзін або два разы на год*** («Гарадзенскія запісы», 1993 вып.1). Сін. *не болей як ... на*. Рус. ***не более чем*** *скольких единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**НЕ БОЛЬШ ЯК ПА** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: дыстрыбутыў: *Рандэлі мелі* ***не больш як па два паверхі*** (навук.). Сін. *не болей як па*. Рус. ***не более чем по*** *сколько единиц.*

**НЕ БОЛЬШ ЯК ПРАЗ** *колькі адзінак часу* Він. Прыблізны квантытатыў-тэмпаратыў з дакладнай верхняй мяжой: ***Не больш як праз год*** *пайшла чутка, што Любоў Макаёнак сышлася з Мікалаем Мяшковым, міністрам адукацыі* (Інт.). ***Не больш як праз 5 хвілін*** *Васіль ужо верадзіў сон жыхароў чацвёртага паверха* (Інт.). Рус. ***не более чем через*** *сколько единиц.*

**НЕ БОЛЬШ ЯК** *колькі часу* **ТАМУ** Він. Двухч. Прыблізны квантытатыў-тэмпаратыў з дакладнай верхняй мяжой: ***Не больш як месяц таму*** *ў сувязі з юбілеем паэта я ў кароценькай віншавальнай прадмоўцы ўжо спрабаваў выказацца адносна яго паэтычнай творчасці і нават, жадаючы паказаць добрае веданне і памятлівасць, трошкі перабольшыў сваю дасведчанасць і, не зазірнуўшы для зверкі ў літаратурныя даведнікі, не зусім дакладна назваў вершаваныя зборнікі Алеся Жыгунова* («ЛіМ», 26.03.04). Сін. *не больш чым ... таму*. Рус. ***не более чем*** *сколько единиц* ***тому***.

**НЕ БОЛЬШ ЯК** *колькі адзінак* **У[1]** *што/якую адзінку вымярэння* Він. – Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + дыстрыбутыў: *Працаваць* ***не больш як 8 гадзін у дзень.*** Сін. *не больш чым ... у*. Рус. ***не более*** *скольких единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**НЕ БОЛЬШ ЯК** *колькі адзінак* **У[2]** *чым* Він.-Месн. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + дыстрыбутыў: *Мець перапынкі ў працы* ***не больш як 30 дзён у годзе*** (Інт.). Сін. *не больш чым ... у*. Рус. ***не более чем*** *сколько единиц* ***в*** *какой единице исчисления.*

**НЕ БУЙНЕЙ ЧЫМ** *што* (= *колькі адзінак*) Эквівалент прыблізнага квантытатыва з дакладнай верхняй мяжой: *Для лоўлі ляшча я выкарыстоўваю кручок* ***не буйней чым №8*** («Звязда», 29.01.05). Сін. *не большы чым*. Рус. ***не крупнее чем*** *сколько единиц/что.*

**НЕ ВЕЛЬМІ ДАЛЁКА АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: прыблізны лакатыў: *...выконваючы там школьныя, але годныя абавязкі ў Новых Нідэрландах (паміж Новай Францыяй і Вірджыніяй,* ***не вельмі далёка ад Мексікі)****...* (Інт.). Сін. *блізка ля.* Рус. ***не очень далеко от*** *чего.*

**НЕ ВЫКЛЮЧАЮЧЫ** *каго/чаго* Род. Аб'ект уключэння: *Быў ён прысадзісты, крыху сагнуты і махаў рукамі,* ***не выключаючы той****, з партфелем, больш за ўсіх* (У.Караткевіч). *Гатэль павінен быць* ***не вышэй трох зорак*** (газ.). ↔ **Не выключаючы таго што.** Сін. *уключаючы*. Рус. ***не исключая*** *чего.*

**НЕ ВЫШЭЙ-1** *чаго* Род. Характарызатар: рэлят колькаснага прыраўнівання: *Ён заўважыў, што разумная крытыка –* ***не вышэй***

***дапушчальнай нормы*** *– выклікае прыхільнасць начальніка, калі ён не дурань, да таго, хто крытыкуе* (У.Караткевіч). Рус. ***не выше*** *чего.*

**НЕ ВЫШЭЙ-2** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Па ступені павышэння тэмпературы цела адрозніваюць субфебрыльную гарачку (**не вышэй 38 °С**), фебрыльную, ці ўмераную (38 – 39), высокую, ці пірэтычную (39 – 41), празмерную, ці гіперпірэтычную (вышэй 41 °С)* (Асновы мед. ведаў). *Інфляцыя ў 2006 г. можа скласці* ***не вышэй 9 %*** (газ.). Сін. *не больш чым*. Рус. ***не выше*** *скольких единиц.*

**НЕ ВЫШЭЙ** *колькіх адзінак* **АД** *чаго/якой колькасці* Род.-Род. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Выкупная цана зямлі пад прыватызаванымі прадпрыемствамі будзе* ***складаць не вышэй 2,5 % ад яе кадаставага кошту*** (газ.). Рус. ***не выше*** *скольких единиц* ***от*** *скольких единиц.*

**НЕ ВЫШЭЙ ЗА-1** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *У рэдкіх выпадках тэмпература можа павышацца, але* ***не вышэй за 38 °С*** (Асновы мед. ведаў). *Узвышшы – гэта ўчасткі зямной паверхні, якія знаходзяцца на вышыні больш за 200 м над узроўнем мора, але* ***не вышэй за 500 м*** (падручн.). *Шукаю памяшканне ў арэнду пад бытавыя паслугі. У людным месцы,* ***не вышэй за першы паверх*** (аб'ява). Сін. *не вышэй*. Рус. ***не выше*** *скольких единиц.*

**НЕ ВЫШЭЙ ЗА-2** *што* Він. Рэлят прыраўнівання: *А ў астатнім такія неабходныя двухбаковыя кантакты назіраліся* ***не вышэй за ранг намесніка міністра*** *замежных спраў* («Наша Ніва», 4.02.05). Сін. *не вышэй*. Рус. ***не выше*** *чего.*

**НЕ ВЫШЭЙ** *колькіх адзінак* **ЗА** *якую адзінку адлічэння* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + дыстрыбутыў: *Тарыф на транспарціроўку нафты з Усходняй Сібіры павінен быць* ***не вышэй 30 доларaў за тону*** (Інт.). Рус. ***не выше*** *скольких единиц* ***за*** *какую единицу исчисления.*

**НЕ ВЫШЭЙ** *колькіх адзінак* **У** *якую адзінку адлічэння* Він.-Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + дыстрыбутыў: *Тарыфы на ЖКГ будуць расці* ***не вышэй 10 % у год*** (газ.). Рус. ***не выше*** *скольких единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**НЕ ВЫШЭЙ ЧЫМ** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Тэмпература паветра ўначы будзе* ***не вышэй чым 7 – 14****, а ўдзень – 15 – 20 градусаў цяпла* («Звязда»). *Прэзідэнт В.Ючшанка патрабаваў ад Кабміна забяспечыць узровень інфляцыі ў 2005 годзе* ***не вышэй чым 9,8 %*** (газ.). Сін. *не вышэй*. Рус. ***не выше*** *скольких единиц.*

НЕ ВЫШЭЙ ЯК *колькі адзінак*

**НЕ ВЫШЭЙ ЯК** *колькі працэнтаў* **АД** *чаго/колькіх адзінак* Наз.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + партытыў: + камплетыў: *1-я ступень абязводжвання арганізма адпавядае стратам вадкасці* ***не вышэй як 3 % ад масы цела****, 2-я – 4 – 6 %, 3-я – 7 – 9 %, 4-я – 10 % і болей* (Асновы мед. ведаў). Сін. *не вышэй... ад*. Рус. ***не выше*** *скольких единиц* ***от*** *скольких единиц.*

**НЕ ГАВОРАЧЫ ПРА** *каго/што* / **НЕ ГАВОРАЧЫ ЎЖО ПРА** *каго/што* Він. Аб'ектн.: рэлят уключэння: *Ёсць яшчэ імёны,* ***не гаворачы ўжо пра такія галасы****, як па-бацькоўску пранікнёна-разважлівы, ушчувальны голас шчырага пісьменніка, прамоўцы Уладзіміра Юрэвіча – і не яго аднаго* (М.Вайцяшонак). ***Не гаворачы пра дастойны ўдзел*** *беларусаў у барацьбе з фашызмам на франтах Вялікай Айчыннай вайны, на Беларусі, як вядома, было больш за чатырыста тысяч рэгулярных партызанаў, намнога больш тых, што памагалі партызанам, кожны дзень і кожную гадзіну рызыкуючы жыццём сваім і сваіх блізкіх. Падпольшчыкі і сувязныя* (Я.Брыль). ↔ **Не гаворачы пра тое што; не гаворачы пра тое каб.** Сін. *акрамя*. Рус. ***не говоря о*** *чем.*

**НЕ ГЛЕДЗЯЧЫ НА** *каго/што* Він. Уступальн.: адваротны кандытыў: ***Не гледзячы на непагоду і недалужную руку*** *сваю, ён сыпаў пытаннямі* (М.Лынькоў: ТСБПШ). ТСБПШ – спалуч. адмоўя, дзеепрысл. і прыназ. у знач. прыназ.; устар. - **Не гледзячы на тое што.** Сін. *нягледзячы на*. Рус. ***несмотря на*** *что*.

**НЕ ГЛЫБЕЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў-квалітатыў з дакладнай верхняй мяжой*: Балтыка* ***не глыбей за сотню метраў*** (У.Караткевіч). Сін. *глыбінёй не больш*. Рус. ***не глубже*** *скольких единиц /* ***глубиной не более*** *скольких единиц.*

**НЕГЛЫБОКА ПАД** *чым* Тв. Прастор.: лакатыў: *Праз мільёны гадоў знешнія сілы могуць зраўнаваць горы, і месцараджэнні руд апынуцца* ***неглыбока пад зямлёй*** (падручн.). Рус. ***неглубоко под*** *чем.*

**НЕ ГОРШ ЗА** *каго/што* Він. Кампаратыў: кампарат прыраўнівання: *Сустракаў здзічэлыя сады і паркі, настолькі запушчаныя, што маглі б прыдацца для гульні ў Робін Гуда* ***не горш за Шэрвудскі лес*** («Arche»). Сін. *лепш за*. Рус. ***не хуже*** *чего.*

**НЕ ДА-1** *каго/чаго* Род. У складзе адмоўнага рэляцыйнага прэдыката: *Мне цяпер* ***не да сэксу*** («Arche»). *Ранняму жаўранку* ***не да сну*** (Р.Барадулін). *Колькі дзён* ***не да рыбы*** *было Сілівону* (М.Лынькоў). *Грамадзе было* ***не да смеху*** *над спалоханай кабетай* (З.Бядуля). ***Не да лірыкі****, калі ты нібы на самых скрыжалях гісторыі –*

*едзеш, вяртаешся не толькі дамоў*, *але і ў гісторыю – ва ўсякім выпадку, у гісторыю ўзаемаадносін дзвюх палавін адной дзяржавы – Кароны і Княства* (А.Лойка). *І* ***не да спраў*** *у Літве каралю Жыгімонту,* ***не да віленцаў*** *пакуль што яму,* ***не да палачанаў****, хоць двайным падаткам ад караля і яны на гэты год абкладзены!* (А.Лойка). // *Стала* ***не да юру****, абы вынесці скуру*. ◊ ***Не да таго***. ◊ ***Не да месца*** **–** недарэчы. ↔**Не да таго каб; не да таго калі.** Рус. ***не до*** *чего.*

**НЕ ДА-2** *чаго* Род. Характарызатар-кваліфікатыў: *Гэта табе* ***не да твару****... Ад любога шкадавання з боку Францыска Скарыны ў яго карысць ён* [пан Твардоўскі] *зракаецца, бо лічыць* ***не да гонару*** *свайго браць сабе яму неналежныя, хоць і немізэрныя грошы* (А.Лойка). Рус. ***не к*** *(лицу кому).*

**НЕ ДАЛЕЙ** *колькіх адзінак* **АД** *каго/чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў-лакатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Куплю дом* ***не далей 3-х станцый ад кальца*** (з аб'явы). Рус. ***не далее*** *скольких единиц* ***от*** *кого/чего.*

**НЕ ДАЛЕЙ ЯК** *колькі адзінак часу* **ТАМУ** Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў-тэмпаратыў з дакладнай верхняй мяжой: *Цікава, як зараз прэм'ер-міністр Польшчы Дональд Туск будзе рэагаваць на тое, што яму* ***не далей як два месяцы таму*** *беларускі бок «даў па мордзе»...?* («Наш Час» 29.10 – 4.11.08). Рус. ***не далее как*** *сколько единиц* ***тому.***

**НЕ ДАЛЕЙ ЯК** *колькі адзінак часу* **ТАМУ НАЗАД** Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў-тэмпаратыў з дакладнай верхняй мяжой: ***Не далей як тыдзень таму назад****, ужо тады, як работала камісія, таварыш Апейка ўзяў пад сваю апеку ашуканца...* (І.Мележ). Рус. ***не далее как*** *сколько единиц* ***тому назад.***

**НЕДАЛЁКА** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Кажуць, што пасля сяляне бунтавалі, Над палацамі клубіўся чорны дым* ***Недалёка той карчмы,*** *дзе быў Купала На даўгінаўскім гасцінцы векавым* (М.Танк). *Два браты ва ўзросце сямідзесяці сямі і васьмідзесяці гадоў, чальцы-заснавальнікі кібуцу* ***недалёка Рош-Піну****, заўзята спрачаюцца, адзін перад адным ставячы пад сумнеў мужчынскасць братаву* (Г.Мэт'юз. Пер. Ю. Марголіна). ТСБПШ – прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Сін. *паблізу*. Рус. ***близ*** *чего.*

**НЕДАЛЁКА АД** *каго/чаго* / **НЕ ДАЛЁКА АД** *каго/чаго* / **АД** *каго/чаго* **НЕДАЛЁКА** Род. Прастор.: лакатыў: ***Недалёка ад пераезда*** *злосна пасвістваў, чмыхаў белаю параю, спыняючы свой разгон, чорны нядужы паравозік з чатырма чырвонымі вагончыкамі* (В.Адамчык). *На невялічкім століку* ***недалёка ад канапы*** *стаяла скрыначка, музычны струмант, якую падлоўчы і пускаў у работу,*

*каб забавіць гасцей* (Я.Колас). *Высока ў паўднёва-заходняй частцы неба, **недалёка ад Вялікай Мядзведзіцы,** відаць Паўночная Карона і Валапас* (К.Цыркун). ***Недалёка ад фальварка** ў Плунжынскім лесе тоіцца цудоўнае возера Свіцязь* (К.Тарасаў*). Апрошвалі людзей на вуліцах, жыхароў дамоў, што стаяць **не далёка ад «аб'ектаў»*** (Інт.). ***Недалёка ад казармы** строй салдат рассыпаецца* (А.Наўроцкі).▶ *Калі яны выбеглі на двор, самалёты былі ўжо **недалёка*** **(**І.Мележ). ↔ **Недалёка ад таго месца, дзе; недалёка ад таго прадмета, які; недалёка ад той асобы, якая**...: *У такі час з **хаты, недалёка ад той, дзе** дзяўчына брала воду, выйшаў на ганак, пацягваючыся, хлопец з хмурнымі заспанымі вачыма...* (І.Мележ). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Сін. *паблізу*. Рус. ***недалеко от** чего.*

**НЕДАЛЁКА ДА-1** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *На Даўгінаўскім тракце, **недалёка да** Менску, завяліся такія майстры, што пераймаюць людзей на дарозе* (Інт.). *Перад абпалам цэгла сушылася або проста на зямлі, або на пасыпанай пяском пляцоўцы, **недалёка да жылля** рамеснікаў. таму зрэдку на ёй сустракаюцца сляды лап* (Інт.). *Горад Трыр знаходзіцца **недалёка да мяжы** Нямеччыны з Люксембургам* (Інт.). ↔ **Недалёка да таго месца адкуль; недалёка да таго месца дзе; недалёка ада таго месца куды.** Сін. паблізу. Рус. ***недалеко от** чего*.

**НЕДАЛЁКА ДА-2** *чаго* Род. Час.: тэрмінатыў: *На наступны вечар Кот прабраўся да Пячоры па Дзікім Лесе і праседзеў **недалёка да самай раніцы*** (Дж.Р.Кіплінг: Інт.). ↔ **Недалёка да таго часу калі; недалёка да таго часу як.** Сін. *амаль да.* Рус. ***почти до** чего*.

**НЕДАЛЁКА ДА-3** *колькіх адзінак часу* Род. Час.: храналагічны тэмпаратыў: *...было ўжо **недалёка да 24-00** і хацелася спаць* (Інт.). Сін. *амаль*. Рус. ***около** чего*.

**НЕДАЛЁКА ЗА** *чым* Тв. Прастор.: лакатыў: *Сяло **недалёка за рэчкаю*** (ППШ). *Цёмны лес, што стаяў **недалёка за вёскай** і глядзеў хмурна, як бы казаў: «Не слухай ты гэтых песень: у іх твая атрута»* (Я.Колас). ***Недалёка за** імшыстымі **ствапамі** дрэўпаблісквае лянівымі хвалямі рэчка* (Нядзведскі: ТСБМ). ↔ **Недалёка за тым месцам адкуль; недалёка за тым месцам дзе; недалёка за тым месцам куды.** Рус. ***недалеко за** чем.*

**НЕДАЛЁКА ЛЯ** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Азірнуўшыся, Андрэй зглядзеў **недалёка ля ельніку** рабіну, старую, разгатую, усыпаную ягадамі* (І.Пташнікаў). ↔ **Недалёка ля таго месца адкуль; недалёка ля таго месца дзе; недалёка ля таго месца куды.** Рус. ***недалеко у** чего.*

**НЕДАЛЕЧ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Управа, **недалеч ад лесу,** стаяў маёнтак* (Ц.Гартны: ППШ). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ.; абл. Сін. *недалёка ад*. Рус. ***недалеко от*** *чего*.

**НЕДАЛЁЧКА АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: прыблізны лакатыў: *Ужо цямнела, як прыселі яны адпачыць **недалёчка ад чыгункі*** (М.Лынькоў: ТСБПШ). *Мілда Янаўна захацела і дамаглася, каб Юлій быў пахаваны паблізу магілкі іхняга сына, які толькі намякнуў ім пра шчасце мацярынства і бацькоўства, **недалёчка ад магілы** яе маці* (Я.Брыль). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ.; размоўн. Сін. *недалёка ад*. Рус. ***недалечко от*** *кого/чего.*

**НЕ ДА СПАДОБЫ** *каму* Дав. Ускладн. Прэдыкатыў: *Прашу не забываць сапліцаўскай хваробы: Апроч Айчыны **ім** нішто **не да спадобы*** (А.Міцкевіч. Пер. Бітэля). Рус. ***не по нутру*** *кому.*

**НЕ ДА ТВАРУ** *каму* Дав. Прэдыкатыў: *Вам **не да твару,** не для вашае павагі!* (А.Міцкевіч. Пер. Бітэля). *Я ніколі не дазволю сабе ў замежнай дзяржаве казаць, што ў мяне дрэнная краіна... Гэта **не да твару грамадзяніну** Беларусі* (С.Гайдукевіч). *– Будзьце мужчынам. **Не да твару камандзіру** гаварыць такое* (Г.Пальчэўскі). ◊ ***Не к лицу.*** Рус. ***не к лицу*** *кому.*

**НЕ ДАЎЖЭЙ ЗА** *што/якую адзінку часу* Він. Час.: дыменсіўпатэнсіў + прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *І ўсё гэта было **не даўжэй за хвіліну**: чарגаванне начных жахаў і цёплага дня, зор і блакітнага неба* (У.Караткевіч). Сін. *не больш*. Рус. ***не дольше*** *чего/скольких единиц.*

**НЕ ДАХОДЗЯЧЫ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *...якія «ляжаць у 107-мі вярстах» **не даходзячы** Масквы* (Інт.*)*. ***Не даходзячы** гэтага места, мяжа паварочавае крыху на ўсход...*(Інт.). || Дзеепрыслоўе: *І пайшоў* [Свідрыгайла] *ў Літоўскую зямлю, і начаваў у Рудомені за паўтары мілі ад Вільні, і пайшоў да горада, **не даходзячы** Трокаў, павярнуў на Старыя Трокі* (Інт.). «*Татараве прышэдшы да Навагародку, і скора прышлі за Нёман і **не даходзячы** Ліды, каля горада, спыніліся...*(Інт.). ↔ **Не даходзячы таго месца адкуль; не даходзячы таго месца дзе; не даходзячы таго месца куды.** Сін. *перад; не даходзячы да*. Рус. ***не доходя*** *чего*.

**НЕ ДАХОДЗЯЧЫ ДА** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***Не даходзячы да** горада з левага боку бачу руіны вялізнага кляштара картузаў,заснаванага, як напісана на ўяздной браме, у 1682 г.* (Інт.). *Так называлася звычайная сталоўка на вуліцы Валадарскага, **не даходзячы да** Рускага тэатру* (Інт.). *...думаю, што Трыб'ют павінен быць рознастылёвым. Канешне **не даходзячы да** тыц-тыц, але ў рэчышчы рок-*

*музыкі* (Інт.). *Далей па Гогалеўскай, **не даходзячы да плошчы**, як згадвае ў сваёй кнізе мемуараў Быкаў, адкрылі музей настаўніка Марка Шагала – знакамітага Пэна* (Б.Клейн). || Дзеепрыслоўе: ***Не даходзячы*** *дзесяці крокаў* ***да*** *табара, Ілька сеў на зялёным беразе невялічкай рачулкі, што працякала тут* (В.Каваль). *Партызаны цяпер пачалі адыходзіць у лес. Там, **не даходзячы да вёскі**, можна было выбрацца балотнымі зараснікамі на ўзгоркаватае поле* (К.Чорны). ↔ **Не даходзячы да таго месца адкуль; не даходзячы да таго месца дзе; не даходзячы да таго месца куды.** Рус. ***не доходя до*** *чего.*

**НЕ ДАХОДЗЯЧЫ НА** *якую адлегласць/што* Він. Прастор.: лакатыў: рэлят колькаснага прыраўнівання*:* ***Не даходзячы на стрэл,*** *рота за ротаю пачалі абыходзіць поле бойкі* (А.Змагар). ↔ **Не даходзячы на адлегласць роўную**.... Сін. *на адлегласці*. Рус. ***не доходя на*** *какую единицу расстояния*.

**НЕ ДАЯЗДЖАЮЧЫ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *А **не даязджаючы Святой Волі** трапілі ў такі густы туман, што, здавалася, аўтобусу не прабіцца* (Я.Пархута). ↔ **Не даязджаючы таго месца адкуль; не даязджаючы таго месца дзе; не даязджаючы таго месца куды.** Сін. *перад*. Рус. ***не доезжая*** *чего*.

**НЕ ДАЯЗДЖАЮЧЫ ДА** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *А вось **не даязджаючы да Акадэміі**, на вуліцы Петруся Броўкі ёсць выдатнейшая студэнцкая сталоўка* (Інт.). *У пачатку 1970-х гадоў на паўночнай ускраіне Мінска, злева ад Лагойскай шашы, **не даязджаючы да кальцавой дарогі**, існавала яшчэ вёска Зялёны Луг* (Інт.). ↔ **Не даязджаючы да таго месца адкуль; не даязджаючы да таго месца дзе; не даязджаючы да таго месца куды.** Сін. *перад*. Рус. ***не доезжая до*** *чего*.

**НЕДЗЕ АДРАЗУ ПАСЛЯ** *чаго* Род. Час.: няпэўны таксісны тэмпаратыў: ***Недзе адразу пасля выбуху*** *на Чарнобыльскай АЭС я сустрэўся з Міхаілам Саўчыкам* (І.Капыловіч). ↔ **Недзе адразу пасля таго як.** Сін. *дзесьці адразу пасля*. Рус. ***где-то сразу после*** *чего.*

**НЕДЗЕ АЖ ДА** *чаго/якога часу* Род. Час.: няпэўны тэрмінатыў-інтэнсіў: *...перасяленцы ж, пераважна з наўгародскіх земляў і Беларусі, не ўтваралі дэмаграфічна значнай канцэнтрацыі **недзе аж да 1350 году**, калі Кіеў ужо даўно заняпаў* (Э.Кінан. Пер. А.В.: Інт.). ↔ **Недзе аж да таго часу як.** Сін. *дзесьці аж да*. Рус. ***где-то вплоть до*** *чего/какого времени.*

**НЕДЗЕ БЛІЗКА** *чаго* Род. Прастор.: няпэўны лакатыў: *А **недзе блізка Варшавы,** ён не памятае цяпер, ці на захад ад яе, ці на ўсход, ён* [Скарына] *трапіў у куліковыя санкі – у згруджаныя на іх целы такіх жа маладых, як ён сам, хлопцаў, толькі што ў рознакаляровых кунтушах* (А.Лойка). Сін. *дзесьці каля.* Рус. ***где-то около*** *чего.*

**НЕДЗЕ БЛІЗКА АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: няпэўны лакатыў: *Яго* (Аркадзя) *няма ўжо дваццаць гадоў, а кніга ёсць і будзе. І яна* ***недзе блізка ад Мележавых палешукоў****, як і Лобан з яго случакамі, аднак і яна – сама па сабе* (Я.Брыль). *– Не, ты* ***недзе блізка ад нас****, – раптам праплывала невядома адкуль надзея, і Далідовіч працягваў пошукі* (Шахавец: ТСБМ). ↔ Н**едзе блізка ад таго месца адкуль; недзе блізка ад таго месца дзе; недзе блізка ад таго месца куды.** Сін. *дзесьці блізка*. Рус. ***где-то близко от*** *кого/чего.*

**НЕДЗЕ БЛІЗКА К** *чаму* Дав. Няпэўны тэмпаратыў: *Назаўтра,* ***недзе блізка к абеду****, у вёску заявіўся конны разведчык* (П.Пестрак). Сін. *дзесьці блізка к; перад.* Рус. ***где-то около*** *чего.*

**НЕДЗЕ БЛІЗКА КАЛЯ** *чаго* Род. Прастор.: няпэўны лакатыў: *Лятаю, але не вышэй за неба,* ***недзе блізка каля яго*** (У.Някляеў). *Ніжэй могілак,* ***недзе вельмі блізка ад нас****, абвальваецца ў ручай надмытая вадою берагавіна* (А.Савіцкі). ↔ Н**едзе блізка каля таго месца адкуль; недзе блізка каля таго месца дзе; недзе блізка каля таго месца куды.** Сін. *дзесьці блізка ля*. Рус. ***где-то близко возле*** *чего*.

**НЕДЗЕ БЛІЗКА НА** *чым* Месн. Прастор.: няпэўны лакатыў: *Зноў загаварылі* ***недзе блізка на аселіцы****, як усё роўна ішлі сюды, у гэты канец вёскі, і ён стаў чакаць* (І.Пташнікаў). ↔ **Недзе блізка на тым месцы адкуль; Недзе блізка на тым месцы дзе; Недзе блізка на тым месцы куды.** Сін. *дзесьці блізка на*. Рус. ***где-то близко на*** *чем.*

**НЕДЗЕ ГЛЫБОКА ПАД** *чым* Тв. Няпэўны лакатыў: *Зусім неспадзявана нарадзілася* ***недзе глыбока пад сэрцам****, пачала расці, расці дурная, шалёная радасць* (У.Караткевіч). Рус**.** ***где-то глубоко под*** *чем*.

**НЕДЗЕ ГЛЫБОКА Ў** *чым* Месн. Няпэўны лакатыў: *Ён адчуў, што* ***недзе глыбока ў душы****, кранулася радасць* (І.Пташнікаў). Сін. *дзесьці глыбока ў*. Рус. ***где-то глубоко в*** *чем.*

**НЕДЗЕ ДА** *чаго/якога часу* Род. Час.: няпэўны тэмпаратыў: ***Недзе да 1921 года****, да вызвалення Беларусі ад белапалякаў, і нас лічылі рускімі, а гаварылі ўсе па-беларуску* (С.Грахоўскі). ↔ **Недзе да таго часу як.** Сін. *дзесьці да*. Рус. ***приблизительно до*** *какого времени.*

НЕДЗЕ ДАЛЁКА АД *чаго*

**НЕДЗЕ ДАЛЁКА-ДАЛЁКА Ў** *чым* Месн. Ускладн. Прастор.: няпэўны лакатыў + інтэнсіў: ***Недзе далёка-далёка ў лесе*** *кугікнула нейкая птушка, і зноў усё заціхла* (Інт.). Сін. *дзесьці далёка-далёка ў.* Рус. ***где-то далеко-далеко в*** *чем.*

**НЕДЗЕ ДАЛЁКА ЗА** *чым* Тв. Прастор.: няпэўны лакатыў: *Змітрок насіў сваё імя і прозвішча* ***недзе далёка за пазухай****, разам з дакументамі* (Я.Брыль). Сін**.** *дзесьці далёка за*. Рус. ***где-то далеко за*** *чем.*

**НЕДЗЕ ДАЛЁКА МІЖ** *чым* Тв. мн.л. Прастор.: няпэўны лакатыў адносна некалькіх локумаў: *Усё адно думкі не тут. Яны **недзе далёка між сняжынкамі**, што некалі апускаліся на лысую галаву, а галава ўсміхалася і казала «нарэшце, не дождж»* (А.Глобус). Сін. *дзесьці далёка між*. Рус. ***где-то далеко между*** *чем*.

**НЕДЗЕ ДАЛЁКА НА** *які кірунак* **АД** *каго/чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: няпэўны лакатыў адносна арыенціра: *Гэтае слова аднойчы было пачутае адным маім сябрам **недзе далёка на поўнач ад цэнтру Беларусі*** (Інт.). Сін. *дзесьці далёка на... ад*. Рус. ***где-то далеко на*** *какое направление* ***от*** *чего.*

**НЕДЗЕ ДАЛЁКА Ў** *чым* Месн. Прастор.: няпэўны лакатыў: *Уздоўж ракі імклівым віхрам пракацілася рэха і адазвалася **недзе далёка ў лесе*** (А.Кулакоўскі).

**НЕДЗЕ З** *чаго/адкуль* Род. Няпэўны дырэктыў-старт: ***Недзе з аддаленага кутка**, з-пад кухні выйшла сястра-гаспадынягод пад пяцьдзесят* (П.Пестрак). Сін. *дзесьці з*. Рус. ***где-то из*** *чего.*

**НЕДЗЕ З** *колькі адзінак* **ДАЎЖЫНЁЙ** Він. Прыблізны дымерсіў: *Шчыліна між чахламі і сцяной была з далонь шырынёй і **недзе з два чахлы даўжынёй*** (Інт.). Сін. *дзесьці з... даўжынёй*. Рус. ***где-то с*** *сколько единиц* ***длиной.***

**НЕДЗЕ З-ПАД** *чаго* Род. Прастор.: няпэўны дырэктыў-старт: *Далей, за мостам, **недзе з-пад Сырніцы**, вядзе ўбіты след ад машын* (І.Пташнікаў*). І жаўранкі – **недзе з-пад самага сонца*** (Я.Брыль). – *Куды цябе трасца нясе! – абураецца мужчынскі голас **недзе з-пад лаўкі*** (А.Васілевіч). *Чацвёрты, сагнуўшыся, стаяў па калені ў яме – даставаў адтуль, **недзе з-пад ног**, белыя вялікія талеркі і ставіў адну на адну* (І.Пташнікаў). Сін. *дзесьці з-пад*. Рус. ***где-то из-под*** *чего.*

**НЕДЗЕ КАЛЯ-1** *чаго/якога часу* Род. Час.: няпэўны тэмператыў: *З падаўленнем першай рэвалюцыі аслабнула і дзейнасць арганізацыі, якая крыху ажывілася толькі **недзе каля 1910 года**, пасля чаго звестак пра яе аж да лютага 1917 года не было* (У.Караткевіч). ↔ **Недзе каля таго часу калі; недзе каля таго часу як.** Сін. *дзесьці каля*. Рус. ***где-то около*** *какого времени.*

**НЕДЗЕ КАЛЯ-2** *чаго* Род. Прастор.: няпэўны лакатыў: *Аўчаркі брахалі ўжо **недзе каля ўправы*** (І.Шамякін). ↔ **Недзе каля таго месца адкуль; недзе каля таго месца дзе; недзе каля таго месца куды.** Сін. *дзесьці каля*. Рус. ***где-то возле*** *чего.*

**НЕДЗЕ ЛЯ-1** *чаго* Род. Прастор.: няпэўны лакатыў: *Ноччу, **недзе ля Жабінкі**, у купэ пагрукалі* (Е.Вежнавец). *Пасля той шляхціц, едучы, відаць, дадому, Выпадкам стрэў Давэйку **недзе ля парома***

(А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Загарыцца лісток барвяны* ***недзе ля нахмураных хмар*** (Р.Барадулін). *Вочы Мсціслава смяяліся* ***недзе ля вачэй*** *Алеся* (У.Караткевіч). ↔ **Недзе ля таго месца адкуль; недзе ля таго месца дзе; недзе ля таго месца куды.** Сін. *дзесьці ля*. Рус. ***где-то у*** *чего*.

**НЕДЗЕ ЛЯ-2** *чаго/якога* часу Род. Час.: няпэўны тэмпаратыў: ***Недзе ля поўначы*** *спужана заіржаў конь.* ↔ **Недзе ля таго часу калі; недзе ля таго часу як**. Сін. *дзесьці ля*. Рус. ***где-то около*** *чего/какого времени.*

**НЕДЗЕ ЛЯ самага КРАЮ** *чаго* Род. Час.: няпэўны тэмпаратыў-метафарычны лакатыў: ***Недзе ля самага краю часу*** *па хісткім схіле нам давядзецца спускацца ніжэй і ніжэй, у зямную глыб...* (А.Разанаў). Сін. *дзесьці ля самага краю.* Рус. ***где-то возле самого края*** *чего.*

**НЕДЗЕ НА** *чым* Месн. Прастор.: няпэўны лакатыў: *Ганнін бацька ўдзень і ўвечар прападаў* ***недзе на ўзбалотку*** *ў зарасніках* (І.Мележ). *І ў язычніцтве і ў хрысціянстве светам кіруе найвышэйшая сіла, яна знаходзіцца* ***недзе на небе*** (К.Тарасаў). *...****Недзе на Старым Месце,*** *у раёне Старамесцкай плошчы, па начах гарыць святло, звяраюць тэкст будучай кнігі з Бібліяй на стараяўрэйскай, грэчаскай і лацінскай мовах* (У.Караткевіч). ***Недзе на вуліцы*** *ў Вешках гаманілі; бразгалі вёдры ў некага ля студні, і рыкала скаціна* (І.Пташнікаў). *Сцюдзёная вада, – гэта* ***недзе на Паліку*** *ці ў Асіпаўскай пушчы... растае лёд* (І.Пташнікаў). ↔ **Недзе на тым месцы адкуль; недзе не тым месцы дзе; недзе на тым месцы куды.** Сін. *дзесьці на*. Рус. ***где-то на/в*** *чем*.

**НЕДЗЕ НА ГРАНІ** *чаго* Род. Няпэўны лакатыў стану: *Дзіўна, чамусьці* ***недзе на грані шчасця*** *– не лёгкая небяспечнасць цела, не крохкае ападанне, а гравітацыя – падаць у Вечнасць* (Я.Дашына). Сін. *дзесьці на грані*. Рус. ***где-то на грани*** *чего.*

**НЕДЗЕ НАД** *чым* Тв. Прастор.: няпэўны лакатыў: *І гавораць яшчэ, што страчалі ў палёце Ці то ў Арктыцы недзе, ці* ***недзе над Гобі*** *На тым самым падбітым яго самалёце, На якім ён ніколі пасадкі не зробіць* (У.Паўлаў). *Не паспеў Міхась ачомацца ад страшнага відовішча, як* ***недзе над вёскай*** *пачаўся свіст бомбаў і траскатлівыя выбухі* (А.Асіпенка). Сін. *дзесьці над*. Рус. ***где-то над*** *чем.*

**НЕДЗЕ НА ПАЧАТКУ** *чаго/якога часу* Род. Час.: няпэўны тэмпаратыў: *Тэма нацыянальных сімвалаў натхняла паэтаў* ***недзе на пачатку*** *і ў сярэдзіне* ***XIX ст.*** (А.Сідарэвіч). Сін. *дзесьці на пачатку*. Рус. ***где-то в начале*** *чего*.

**НЕДЗЕ НА ПРАЦЯГУ** *чаго/якога часу* Род. Час.: няпэўны дымэнсіў: ***Недзе на працягу XIX ст****. Кухціцы з невядомых нам пры-*

*чынаў спынілі сваё існаванне* (В.Шаблюк). Сін. *дзесьці на працягу*. Рус. ***в течение около*** *чего*.

**НЕДЗЕ НА ПОЎНАЧ АД** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: няпэўны лакатыў + напрамак: ***Недзе на поўнач ад Берынгавага праліву,*** *седзячы на краі крыгі з тварам без выразу (усякі рух скрываюць тоўстыя слаі скураў і футраў) трыццаціаднагадовы эскімос даводзіць сябе да ашаламляльнага сілай аргазму ў слізкай мяззе распушчанага кітовага тлушчу* (Г.Мэт'юз. Пер. Ю.Марголіна). Ант. *недзе на поўдзень ад*. Сін. *дзесьці на поўнач ад*. Рус. ***где-то южнее*** *чего*. **НЕДЗЕ НА РУБЯЖЫ** *чаго* Род. Час.: няпэўны тэмпаратыў: *Тут ва ўсё можна паверыць, нават у міфічнага апостала Андрэя, які нібыта прыцягнуў сюды крыж аж з берагоў Міжземнага мора* ***недзе на рубяжы нашай эры*** (У.Караткевіч). Сін. *дзесьці на памежжы*. Рус. ***где-то на рубеже*** *чего*.

**НЕДЗЕ НА ТОЙ БОК** *чаго* Род. Прастор.: няпэўны лакатыў: ***Недзе на той бок гары*** *затарахцелі па карэнні калёсы* (І.Пташнікаў). Сін. *недзе на тым баку*; *недзе па той бок*. Рус. ***где-то на той стороне*** *чего*.

**НЕДЗЕ ПАД[1]** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў: *Неўзабаве з'яўляецца перакладчыца – бландзіністая жанчынка, даволі прывабная,* ***недзе пад трыццаць*** («Arche»). Сін. *дзесьці пад*. Рус. ***где-то под*** *сколько единиц*.

**НЕДЗЕ ПАД[2]** *чым* Тв. Прастор.: няпэўны лакатыў: *І, нібыта, з паўгода назад забілі яго* ***недзе пад Кандагарам*** (Р.Баравікова). *Лёкай абвяшчае* ***недзе пад тэрасай*** (У.Караткевіч). Сін. *дзесьці пад*. Рус. ***где-то под*** *чем*.

**НЕДЗЕ ПАД КАНЕЦ-1** *чаго* / **НЕДЗЕ ПАД самы КАНЕЦ** *чаго* Род. Час.: няпэўны тэмпаратыў: ***Недзе пад канец XVI ст.*** *у Расі пачынае фармавацца мястэчка* (В.Шаблюк). Сін. *дзесьці ў канцы*. Рус. ***где-то под конец*** *чего*.

**НЕДЗЕ ПАД КАНЕЦ-2** *чаго* / **НЕДЗЕ ПАД самы КАНЕЦ** *чаго* Род. Аб'ектны лакатыў: *І ўсё ж адзін грэх я ўзяў на сваю душу: выкрасліў не вельмі вялікі абзац недзе* ***пад самы канец нарыса*** (А.Асіпенка). Сін. *дзесьці ў канцы*. Рус. ***где-то в конце*** *чего*.

**НЕДЗЕ ПАМІЖ-1** *чым* **І** *чым* Тв.-Тв. Двухч. Ускладн. Прастор.: няпэўны лакатыў адносна двух локумаў: *З летапісаў вядома, што прыкладна з 1235 года* ***недзе паміж Вяллёй і Нёманам*** *існавала «Літва Міндоўга»* (У.Арлоў). *Чубар пачаў расказваць чырвонаармейцу пра сваё ванлраванне ад Бесядзі да абараняльнага рубяжа, што* ***недзе паміж вёскамі Пёкліна і Журынічы*** (І.Чыгрынаў). Сін. *дзесьці паміж ... і*. Рус. ***где-то между*** *чем* ***и*** *чем*.

**НЕДЗЕ ПАМІЖ-2** *чым* **І** *чым* Тв.-Тв. Двухч. Ускладн. Час.: няпэўны тэмпаратыў: *Па вялікім рахунку, людзям прапаноўвалася сабрацца **недзе паміж** шостаю **і** сёмаю **недзе паміж** Плошчаю Перамогі **і** паркам Янкі Купалы* («Наша Ніва»). *А-гістарычныя, дасэксуальныя, запыненыя **недзе паміж архаікай і сучаснасцю**, мы былі настолькі ж чуйныя й успрымальныя, як пітная вада ў вядры на кухні* (Інт.). Сін. *дзесьці паміж ... і*. Рус. ***где-то между** чем **и** чем.*

**НЕДЗЕ ПАМІЖ-3** *колькімі адзінкамі* **І** *колькімі адзінкамі* Двухч. Ускладн. Тв.-Тв. Прыблізны квантытатыў: *У кашальку было недзе **паміж 100 і 200 еўра*** (Інт.). Сін. *дзесьці паміж.* Рус. ***где-то около** скольких единиц.*

**НЕДЗЕ ПАСЛЯ** *чаго* Род. Час.: няпэўны тэмпаратыў: *Паедзем, і **недзе пасля Маладзечна**, бліжэй да гораду, трэба будзе выйсці ды выпаліць штучку* (П.Севярынец). ↔ **Недзе пасля таго месца адкуль; недзе пасля таго месца дзе; недзе пасля таго месца куды.** Сін. *дзесьці пасля.* Рус. ***где-то после** чего.*

**НЕДЗЕ ПРАЗ** *што/якую адзінку часу* Він. Час.: няпэўны тэмпаратыў: ***Недзе праз паўгадзіны** баланда забірае шлемкі* («Arche»). ***Недзе праз гадзіну** цікава было зірнуць на залу з вышыні другога паверха* («Звязда», 28.05.05). Сін. *дзесьці праз.* Рус. ***где-то через** какое время.*

**НЕДЗЕ ПРАЗ** *колькі адзінак часу* **ПАСЛЯ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: няпэўны таксісны тэмпаратыў: ***Недзе праз 10 гадоў пасля ўступлення** на трон Івана III (і **праз пакаленне пасля перамогі** ягонага бацькі ў грамадзянскай вайне, якая ледзьве не зруйнавала Расеі) настаўнікі вялікага князя зразумелі...што вакол двару й войска іхнага суверэна фармуецца новая магутная сіла* (Э.Кінан. Пер. А.В.). Сін. *дзесьці праз ... пасля*. Рус. ***где-то через** сколько единиц **после** чего.*

**НЕДЗЕ СПАДЫСПАДУ** *чаго* Род. Няпэўны дырэктыў-старт: *...**Недзе спадыспаду душы**, як у глыбокім калодзежы гаючая вада, вытачыўся ратунак: во колькі яна будзе жыць* (В.Адамчык). Сін. *дзесьці спадыспаду; дзесьці з глыбінь*. Рус. ***где-то со дна** чего.*

**НЕДЗЕ СПЕРАДУ ЛЯ** *каго/чаго* Род. Прастор.: няпэўны лакатыў: ***Недзе спераду ля шафёра** было паднята шкло, і на Андрэя дзьмула свежым ветрам – пахла мокрай жытняй саломай і падзолістай зямлёй* (І.Пташнікаў). Ант. *дзесьці ззаду ля.* Сін. *дзесьці спераду ля*. Рус. **где-то спереди возле.**

**НЕДЗЕ ТАМ НА** *чым* Месн. Прастор.: няпэўны лакатыў: *Жанчына таксама працуе **недзе там на ферме ці заводзе*** (Arche). Сін. *дзесьці там на*. Рус. ***где-то там на** чем*.

**НЕДЗЕ ТАМ Ў** *чым* Месн. Прастор.: няпэўны лакатыў: *Вось чутно, што **недзе там у вёсцы** камітэт узаемадапамогі з кулакоў выбран* (К.Чорны). Сін. *недзе ў.* Рус. ***где-то там в*** *чем.*

**НЕДЗЕ Ў-1** *чым* Месн. Час.: няпэўны тэмпаратыў: *Гэта голас з васьмі стагоддзяў. **Недзе ў далёкім цьмяным дванаццатым стагоддзі** прагучаў ён для нас. З вуснаў сына багатых тураўскіх мяшчан, сына горада, які ні па велічы, ні па дзяржаўнасці, ні па асвечанасці не саступаў Полацку, Ноўгараду Вялікаму, Кіеву...* (У.Караткевіч). *Ён* [Валерый] *загінуў **недзе ў кастрычніку** 1941 года пад Масквой* (А.Верабей). Сін. *дзесьці ў*. Рус. ***где-то в*** *чем.*

**НЕДЗЕ Ў-2** *чым* / **У** *чым* **НЕДЗЕ** Месн. Прастор.: няпэўны лакатыў: *А брутальнасць суправаджаў нізкі, цудоўны спеў, які блішчаў **недзе ў іх** ці наўкола іх* («Arche»). *І гавораць яшчэ, што страчалі ў палёце Ці то **ў Арктыцы недзе**, ці недзе над Гобі На тым самым падбітым яго самалёце, На якім ён ніколі пасадкі не зробіць* (У.Паўлаў). *Пшанічны ўзнімаўся на пагорак з бярозамі, ён ведаў, што тут **недзе ў сакрэце** павінен быць Фішар, і трохі прыцішыў крок* (В.Быкаў). ***Недзе ў сенцах** глуха бабахнулі дзверы, і ўсё сціхла* (А.Асіпенка). *Зянон павінен быў прыяднацца да астатніх бадзяг пазней, **недзе ў Мазыры*** (У.Караткевіч). ***Недзе ў гушчары** пакрыкваў драч* (С.Грахоўскі). Сін. *дзесьці ў*. Рус. ***где-то в*** *чем*.

**НЕДЗЕ Ў ГЛЫБІНІ-1** *чаго* Род. Прастор.: няпэўны лакатыў: партытыў + камплетыў: ***Недзе ў глыбіні саду** бразгатаў ланцугом сабака* (М.Лупсякоў). Сін. *дзесьці ў глыбіні; дзесьці ў сярэдзіне; дзесьці ў цэнтры.* Рус. ***где-то в глубине*** *чего.*

**НЕДЗЕ Ў ГЛЫБІНІ-2** *чаго* Род. Няпэўны лакатыў стану: *Недзе **ў глыбіні маёй душы** жыве цікаўнасць тых рымлян, якія хадзілі глядзець на гладыятараў* (У.Караткевіч). ***Недзе ў глыбіні адчування** ціхенька сама па сабе жыве, не згаджаецца са мною ўпартая маленькая думка: не, не можа яна* [Люся] *быць благою, не можа, яна не такая* (В.Быкаў). ***Недзе ў глыбіні душы** ўспыхнулі крыўда і рэўнасць* (І.Шамякін). Сін. *недзе на дне; недзе ў тайніках*. Рус. ***где-то в глубине*** *чего.*

**НЕДЗЕ Ў КАНЦЫ-1** *чаго* Род. Час.: прыблізны тэмпаратыў: ***Недзе ў канцы месяца** надумаў дзед перакрыць страху.* — ***Недзе ў канцы XVI** ці на пачатку XVII ст. у межах маёнтка з’яўляюцца яшчэ два новыя сёлы – Станькоўцы і Парэчча* (В.Шаблюк). Рус. ***где-то в конце*** *чего/какого времени.*

**НЕДЗЕ Ў КАНЦЫ-2** *чаго* Род. Прастор.: прыблізны лакатыў: партытыў + камплетыў: ***Недзе ў канцы вагона** надрыўным басам закрычаў чалавек* (А.Асіпенка). Сін. *у канцы.* Рус. ***где-то в конце*** *чего.*

**НЕДЗЕ Ў ПАЛОВЕ** *чаго/якога часу* Род. Час.: няпэўны тэмпаратыў: *Назва «Белая Русь» з'яўляецца на старонках пісьмовых крыніцаў* ***недзе ў палове XVIII ст.*** (А.Латышонак). Сін. *дзесьці ў палове; прыблізна ў палове*. Рус. ***где-то в половине*** *чего.*

**НЕДЗЕ Ў** *колькі адзінак* **ПАСЛЯ** Він. Прыблізны квантытатыў: *Іх* [дарог] *пацехі куліковыя ён* [Скарына] *зазанаў яшчэ зусім бязвусым юнаком, бо* ***недзе ў два ці тры гады пасля таго****, як стаў бакалаўрам, маравое паветра выгнала яго з Кракава, – страхам выгнала, галоднага, халоднага* (А.Лойка). ↔ **Недзе ў** *які* **час пасля таго як. Рус.** ***где-то*** *сколько единиц* ***спустя после*** *чего.*

**НЕДЗЕ Ў ПАЧАТКУ** *чаго/якой адзінкі часу* Род. Час.: няпэўны тэмпаратыў: *Спружыноўка – конны культыватар з спружынным рэгулятарам паглыблення зубоў у глебу. Яна з'явілася ў сялянаў* ***недзе ў пачатку 30-х гадоў*** *XX в.* (П.Сцяцко). *Аўтарскія дзесяць экземпляраў я атрымаў у Слоніме на пошце* ***недзе ў пачатку другой дэкады верасня 1939 года*** (А.Іверс). Сін. *дзесьці ў пачатку*. Рус. ***где-то в начале*** *чего.*

**НЕДЗЕ Ў СЯРЭДЗІНЕ-1** *чаго* Род. Прастор.: няпэўны лакатыў: партытыў + камплетыў: *Недзе* ***ў сярэдзіне канюшні****, глыбака, як дзе ў яме, зарзала жарабя* (І.Пташнікаў). Сін. *дзесьці ў глыбіні*. Рус. ***где-то в середине*** *чего.*

**НЕДЗЕ Ў СЯРЭДЗІНЕ-2** *чаго* Час.: няпэўны тэмпаратыў: *На тым месцы* ***недзе ў сярэдзіне красавіка*** *таксама адбубуцца ўрачыстасці з удзелам сведкаў тых баёў, вышэйшага кіраўніцтва дзяржавы* («Звязда», 17.03.05). Сін. *дзесьці ў сярэдзіне*. Рус. ***где-то в середине*** *чего.*

**НЕДЗЕ Ў ТАЙНІКАХ** *чаго* Род. Прастор.: няпэўны лакатыў: ***Недзе ў тайніках душы*** *будзе тлець дзіцячая і нязбытная надзея на тое, што адшукаюцца, вернуцца з небыцця бацька і маці* (П.Васючэнка). Аказіян. Сін. *недзе ў глыбіні*. Рус. ***где-то в тайниках*** *чего.*

**НЕ З** *якіх/чаго* Род. Аблятыўны характарызатар: генератыўквалітатыў: ? ***Не з пужлівага дзесятка*** *– пра смелага чалавека.*

**НЕЗАДОЎГА ДА** *чаго* Род. Час.: няпэўны тэмпаратыў: *Паводле ананімкі, што паступіла перад гэтым, ва ўсім вінавата Таццяна Вярбіцкая, якая даглядала яго і паспяшалася адправіць на той свет, каб завалодаць ягонай спадчынай, тым больш, што Альховік* ***незадоўга да сваёй смерці*** *перапісаў завяшчанне на яе карысць* (А.Марціновіч). *Пажар у квартале, дзе жывуць у асноўным бедныя, узнік* ***незадоўга да поўначы*** *і працягваўся каля 7 гадзін* («Звязда», 15.06.05) *Калі ён* [дзед] ***незадоўга да смерці*** *аслеп – я быў у яго чымсьці накшталт сакратара: чытаў яму, а часам і пісаў за яго* (У.Караткевіч). Сін. *перад самым/ай/ымі...* Рус. ***незадолго до*** *чего*.

**НЕЗАДОЎГА ДА ПАВАРОТУ НА** *што* Він. Ускладн. Прастор./Час.: няпэўны лакатыў: *Калі картэж кіраўніка РАТ ЕЭС **незадоўга да павароту на Мінскую шашу** збавіў хуткасць, адбыўся выбух закладзенага на дарозе фугаса* («Звязда»). Сін. *перад*. Рус. ***незадолго до*** *чего.*

**НЕЗАДОЎГА ПЕРАД** *чым* / **НЕЗАДАЎГА ПЕРАД** *чым* Тв. Час.: няпэўны тэмпаратыў: *Моцны, з ацярэбленага ядлоўцу пляцень, якім Несцер абнёс сад **незадоўга перад вайной**, быў месцамі спалены* (А.Кулакоўскі). ***Незадоўга перад тым*** *бацькі прыехалі з кірмашу* (В.Быкаў). ↔ **Незадоўга перад тым як.** Сін. *перад самым/ай/ымі*. Рус. ***незадолго перед*** *чем.*

**НЕЗАДОЎГА ПЕРАД КАНЦОМ** *чаго* Род. *Яшчэ пазней, **незадоўга перад канцом баявых дзеянняў**, пасля таго як у секулярызаваным кляштары мястэчка Пустэльнікі былі зычліва адбудаваныя некалькі памяшканняў, дзеці школьнага ўзросту гэтага мястэчка пачалі хадзіць на заняткі ў абацтва* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Сін. *напрыканцы*. Рус. ***незадолго перед*** *чем.*

**НЕЗАЛЕЖНА АД-1** *чаго* Род. Кандытыў: рэлят незалежнасці: *Для прыёму ўнутр прэпарат назначаюць у таблетках па 0,5 г 4 разы на дзень **незалежна ад часу прыёму** ежы* (Асновы мед. ведаў). *Бяссонніца можа з'явіцца ў любога чалавека **незалежна ад узросту*** («Звязда»). *Ампіцылін назначаюць унутр **незалежна ад прыёму ежы** дарослым па 0,5 г 4 – 6 разоў у суткі* (Асновы мед. ведаў). ↔ **Незалежна ад таго як; незалежна ад таго дзе / калі / чаму / які:** *У анталогіі друкуюцца творы паэтаў, якія пісалі і пішуць па-беларуску. **Незалежна ад таго, дзе** яны жылі і жывуць... **да якое** палітычнае партыі належалі ці належаць, **у якіх стасунках** з цяперашняю ўладаю ў Беларусі знаходзіліся і знаходзяцца* (А.Сідарэвіч). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ.; кніжн.; ТСБМ – *незалежна* у знач. прыназ. (у спалуч. з *ад*). Сін. *безадносна ад*. Рус. ***безотносительно к*** *чему* (БРС).

**НЕЗАЛЕЖНА АД-2** *чаго* Род. Уступальн.: *Усе паражоныя АР удушлівага дзеяння адносяцца да катэгорыі насілачных **незалежна ад выяўленасці** сімптомаў атручвання* (Асновы мед. ведаў). *Нярэдка ў гэтай повязі на першы план зноў жа выступае жанчына, як, прынамсі, у паэме «Гон», у якой даўняе – своеасаблівы экран памяці, які высвечвае тое, што, **незалежна ад часу,** не губляе сваёй актуальнасці, а ў дадзеным выпадку – гэта безабароннасць жанчыны* («ЛіМ»,13.02.04). *Мужчыны і жанчыны, якія дасягнулі паўналецця, маюць права без усякіх абмежаванняў, **незалежна ад расы, нацыянальнасці або рэлігіі**, браць шлюб і засноўваць сям'ю* («Усеа-

гульная дэкларацыя правоў чалавека»). *Наш часопіс адкрыты для ўсіх, **незалежна ад палітычных перакананняў і незалежна ад літаратурных прыхільнасцяў*** («Новы Час»). ↔ **Незалежна ад таго як; незалежна ад таго дзе / калі / чаму / які:** *Усё добра, што добра канчаецца, **незалежна ад таго, як** яно пачыналася* (І.Шамякін). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ.; кніжн.; ТСБМ – *незалежна* у знач. прыназ. (у спалуч. з *ад*). Сін. *нягледзячы на*. Рус. ***независимо от*** *чего*.

**НЕ ЗВАЖАЮЧЫ НА** *каго/што* Він. Уступальн.: *Між тым адступленне ад нормы тут лёгка тлумачыцца: **не зважаючы на нарматыўныя слоўнікі**, у жывой мове гэтае слова не мае пэўнага націску* (Р.Шкраба). *Пракладай сабе дарогу ў жыццё, **не зважаючы ні на якія нягоды**, дарогу прасторную, ясную, з бясконцымі краявідамі і далячынямі* (Я.Колас). *Аднак, **не зважаючы на ўсе тую ж тарашкевіцу**, з пачуццём душэўнай узнёсласці адным з першых купіў я беларускамоўную Біблію з рук самога яе перакладчыка, шаноўнага Васіля Сёмухі* («ЛіМ», 23.04.04). *Падпявалі хто мог, **не зважаючы на «адсутнасць наяўнасці» голасу і слыху*** (А.Гаўрон). ↔ **Не зважаючы на тое што**. Сін. *нягледзячы на*. Рус. ***невзирая на*** *кого/что.*

**НЕЙДЗЕКА ЗУСІМ БЛІЗКА ЛЯ** *каго/чаго* Род. Прастор.: няпэўны лакатыў: ***Нейдзека зусім блізка ля вакна,*** *напэўна, хаваючыся ў цень разлапістых векавых ліпаў, што туліліся да памаляванага ў жоўты колер дому з паўкруглаю шкляною верандаю й дзікім вінаградам над уваходам, гучна рыкнула карова* (А.Захаранка). Дыял. Сін. *недзе зусім блізка ля*. Рус. ***где-то совсем близко возле*** *чего*.

**НЕ КАЖУЧЫ АБ** *кім/чым* Месн. Рэлят уключэння: ***Не кажучы аб прыбытках****, грошай на развіццё справы застаецца мала* (Інт.). *Ніхто не дасягнуў вышыні папулярнасці Пугачовай, і кожны, хто з ёй хоць раз за руку павітаўся, **не кажучы аб больш блізкіх адносінах**, імгненна рабіўся зоркай першай велічыні* (Інт.). *Дзеянні кіраўніцтва... з гледзішча нармальнай логікі, **не кажучы аб фармальнай логіцы**, не падлягае асэнсаванню* (Інт.). *Зборнік толькі цудам не прывёў яго* [Алеся] *на тры гады ў выпраўленчы дом, на восем гадоў у катаргу, **не кажучы аб паклёпах** ворагаў і **здрадніцтве** фальшывых сяброў* (У.Караткевіч). *Уявіць сабе, што тут ён, Алесь, павінен быў бы хаваць свае сімпатыі нават да Граноўскага, ужо **не кажучы аб Шаўчэнку*** (У.Караткевіч). *Але, **не кажучы ўжо аб гэтай публіцы**, яна* [беларуская мова] *неабходная і сапраўдным* (У.Караткевіч). ↔ **Не кажучы аб тым што.** Сін. *не лічачы; не кажучы пра*. Рус. ***не говоря о*** *чем*.

**НЕ КАЖУЧЫ ПРА** *каго/што* / **НЕ КАЖУЧЫ (ЎЖО) ПРА** *каго/што* Він. Рэлят уключэння: *Па сутнасці, сапраўднага школь-*

*нага падручніка па гісторыі Беларусі**, не кажучы ўжо пра інстытуцкі,** няма ў нас і сёння* (Л.Лыч). *Цяпер мінчане нават сярэдняга ўзросту нічога пра яго* [партызанскі парад] *не ведаюць, **не кажучы ўжо пра маладзейшых*** («Звязда». 27.01.05). *Не маючы аніводнага нацыянальнага універсітэта, Беларусь на фоне сусветнай практыкі**, не кажучы ўжо пра еўрапейскую** – працягвае выглядаць «белаю варонаю»* (Л.Лыч). ↔ **Не кажучы пра тое што.** Сін. *не лічачы; не кажучы аб.* Рус. ***не говоря о** чем.*

**НЕКАЛЬКІ НІЖЭЙ** *колькіх адзінак/чаго* Род. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *У некаторых здаровых людзей тэмпература цела можа быць некалькі **ніжэй 36*С** ці вышэй 37*С* (Асновы мед. ведаў). Сін. *крыху ніжэй*. Рус. ***несколько ниже** чего.*

**НЕКУДЫ ЗА** *што* Він. Прастор.: няпэўны дырэктыў-фініш: *Пойдзеш **некуды за Чарталле**, сядзеш над празрыстымі водамі, паглядзіш на зарэчныя камяніцы і сады і адчуеш – радзіма* (У.Караткевіч). *Лісце на бярозах ліпела толькі дзе-нідзе, а несціханы вецер усё тузаў гнуткае голле, збіваў лісты і, круцячы, гнаў **некуды за агародчык**, у апусцелае поле* (І.Мележ). Сін. *куды-небудзь за.* Рус. ***куда-нибудь за** что.*

**НЕКУДЫ Ў** *што* Він. Няпэўны дырэктыў-фініш: *Непранікальныя вочы Зіны утаропіліся **некуды ў адну кропку** і, здавалася, нічога і нікога не заўважаюць вакол* (Васілёнак: ТСБМ). Сін. *кудысьці ў.* Рус. ***куда-то во** что.*

**НЕ ЛІЧАЧЫ** *каго/чаго* Род. Рэлят выключэння: *На яго асабістым рахунку, **не лічачы тых з аўтаматамі**, маецца дзевяць цікавых затрыманняў* (ППШ). *У замку каля пяцідзесяці пакояў, **не лічачы калідораў** і розных **пераходаў з закуткамі*** (У.Караткевіч). *У адкрытым конкурсе на 2005 год сярод пастаўшчыкоў перамог 61 суб'ект гаспадарання **(не лічачы 11 зверагаспадарак)*** («Звязда», 4.02.05). *Вось Славянская бібліятэка. Тры з паловай мільёны тамоў... І сярод іх – пятнаццаць тысяч беларускіх назваў, **не лічачы часопісаў і газет*** (У.Караткевіч). ↔ **Не лічачы таго што. Калі не лічыць, што.** ТСБПШ – спалуч. адмоўя з дзеепрысл. у знач. прыназ. Сін. *акрамя; калі не лічыць: Зарплата 500 тысяч, **калі не лічыць прэміяльных. —** Аж пасля відаць – стаяць каровы.І нешта штук з пятнаццаць. **Гэта калі не лічыць двух кароў Банадысёвых*** (К.Чорны). Рус. ***не считая** кого/чего.*

**НЕ МАЛАДЗЕЙ** *чаго/колькіх адзінак часу* Род. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Напісаная на дошцы светлая карціна – **не маладзей сярэдзіны XVIII стагоддзя*** (Інт.). Сін. *не менш*. Рус. ***не моложе** чего.*

**НЕ МАЛАДЗЕЙ ЗА** *колькі адзінак часу* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Склад дэлегацый – 20 турыстаў і 2 прадстаўнікі. Узрост –* ***не маладзей за 18 год*** (Інт.). Рус. ***не моложе*** *чего/скольких единиц*.

**НЕ МАЛАДЗЕЙШЫ/АЯ/ЫЯ ЗА (Муж., жан., сяр.р. адз. л.; мн. л.)** *колькі адзінак* Він. Характарызатар: прыблізны квантытатыў з дакладаній ніжняй мяжой: *Прымаюцца асобы* ***не маладзейшыя за 18 гадоў*** (з аб'явы). Ант. *не старэйшы/ая/ыя за*. Сін. *ва ўзросце ад*. Рус. ***не моложе*** *скольких единиц.*

**НЕ МЕНЕЙ** *кольkіх адзінак* Род. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *У мітынгу прыняло ўдзел* ***не меней 40 тысяч чалавек*** (газ.). Ант. *меней; не больш*. Рус. ***не менее*** *скольких единиц.*

**НЕ МЕНЕЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Песня мусіць утрымліваць* ***не меней за 1 куплет ды 1 прыпеў*** *на ангельскай мове* (газ.). *Кожны паабяцаў штодня пісаць* ***не меней за 11*** *беларускіх* ***слоў*** (А.Глобус). Ант. *не больш за; меней за*. Сін. *не меней*. Рус. ***не менее*** *скольких единиц.*

**НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Факультэт можа ствараецца пры наяўнасці* ***не меней чым 200 студэнтаў*** *на дзённай форме навучання,* ***не меней чым 400 студэнтаў*** *– на вячэрняй форме навучання,* ***не меней чым 500*** *– на завочнай форме навучання* (афіц.). Ант. *не болей чым; меней чым.* Сін. *не меней як*. Рус. ***не менее*** *скольких единиц.*

НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ НА *колькі адзінак*

НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ У *колькі адзінак*

**НЕ МЕНЕЙ ЯК** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Пасля працэдуры хворы мусіць ляжаць у пасцелі* ***не меней як 30 хвілін*** (Асновы мед. ведаў). *Ва ўзросце 1-2 месяцы працягласць сну павінна быць* ***не меней як 18 – 20 гадзін*** (Асновы мед. ведаў). *Садзіць усё як мага шчыльней; слой зямлі* ***не меней як 6 см*** («Родны край-2007»). Ант. *не болей чым.* Сін. *не меней чым*. Рус. **не менее** *скольких единиц.*.

**НЕ МЕНЕЙ ЯК НА-1** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў адлегласці з дакладнай ніжняй мяжой: *Доследы 1986 – 1987 гг. паказалі, што Вялікі пасад у XII – XIII стст. цягнуўся па правым беразе Дзвіны на ўсход ад замка* ***не меней як на 1 км*** *у міжрэччы Палаты* (Інт.). Ант. *меней як; не болей як.* Сін. *не меней чым.* Рус. ***не менее*** *скольких единиц.*

**НЕ МЕНЕЙ ЯК НА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў-тэрмінатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Масла ўжо заставалася не больш паловы, але, мяркуючы па кошце, яго было яшчэ* ***не ме-***

***ней як на дваццаць чырвонцаў*** (А.Купрын: Інт.). *Ганарару за папярэднюю кнігу, па маіх падліках, хапала* ***не меней як на год-паўтара****, а надаўжэй я даў сабе слова жыццё не планаваць* (У.Арлоў). Сін. *не менш як на*. Рус. ***не менее чем на*** *скольких единиц.*

**НЕ МЕНЕЙ ЯК** *колькі адзінак* **НА** *колькі адзінак* Наз.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + дыстрыбутыў: *Рэжым харчавання:* ***не меней як 6 разоў на дзень*** *у абмежаванай колькасці* (Асновы мед. ведаў). *Для ўсіх груп урокі балета праводзіліся* ***не меней як 5 – 6 гадзін на дзень*** (Інт.). Сін. *не менш ... на*. Рус. ***не менее*** *скольких единиц* ***на*** *какую единицу исчисления.*

**НЕ МЕНЕЙ ЯК У** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Лічбы стратаў пакуль не называюць, але спецыялісты ацэньваюць маштабы незаконнага гандлю спіртам* ***не менш як у мільён долараў*** (Інт.). Ант. *не болей як у; меней як у.* Сін. *не меней чым у.* Рус. ***не менее чем*** *сколько единиц* ***в.***

**НЕ МЕНШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Калгас ставіў задачу падрыхтаваць пад ураджай бягучага года* ***не менш 617 тысяч тон*** *угнаенняў* (газ.). ***Не менш 14 чалавек*** *сталі ахвярамі ўрагана які пракаціўся па краінах Еўропы* («Звязда», 11.01.05). *А гэткі кутасок чапляюць толькі ў свята, Бо пёрку кожнаму цана* ***не менш дуката*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Для кожнага палажэння ўказальніка на шкале рабіце* ***не менш трох вымярэнняў*** (падручн.). Ант. *не больш; менш.* Сін. *не меней*. Рус. ***не менее*** *скольких единиц.*

**НЕ МЕНШ** *колькіх адзінак* **АД** *колькіх адзінак* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: партытыў + камплетыў: *Наша мэта – забяспечыць у 1985 годзе выпуск прадукцыі вышэйшай катэгорыі* ***не менш 19,8 % ад аб'ёму*** *прадукцыі, падлягаючай атэстацыі* (газ.) *Камітэт дзяржаўнага кантролю РБ прапанаваў ураду прыняць рашэнне аб скіраванні* ***не менш 15 працэнтаў сродкаў ад агульнай сумы*** *бюджэтнага фінансавання на папаўненне фондаў бібліятэк сістэмы Міністэрства культуры* («ЛіМ»). Рус. ***не менее*** *скольких единиц* ***от*** *чего.*

**НЕ МЕНШ ЗА-1** *каго* Він. Рэлят параўнання: *Я* ***не менш за вас*** *разумею свае абавязкі і зраблю тое, што трэба* (В.Быкаў). Рус. ***не меньше*** *кого.*

**НЕ МЕНШ ЗА-2** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Гіпермаркет – гэта магазін самаабслугоўвання з гандлёвай плошчай больш чым 3 тыс. квадратных метраў і асартыментам ад 25 тысяч і больш найменняў,* ***не менш за***

***палову якога*** *займаюць нехарчовыя тавары* («Звязда», 29.01.05). *Чорт ведае, які дурань вырашыў насаджаць у такім змрочным месцы ялі- ны, але гэта было зроблена, і дрэвы, якім было* ***ніяк не менш за сотню год****, зрабілі мясцовасць толькі трошкі больш прыемнай, ніж славуты лес у Дантэ* (У.Караткевіч). *Вымерайце мернай стужкай даўжыню жолаба ад пункта ад пункта А пачатку руху да цыліндрычнага упору В* ***не менш за 3 разы,*** *даныя занясіце ў табліцу* (падручн.). Ант. *не больш за.* Сін. *каля.* Рус. ***не менее*** *скольких единиц.*

**НЕ МЕНШ** *колькіх адзінак* **НА** *якую адзінку адлічэння* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + дыстрыбутыў: *Унесці* ***угнаенняў не менш адной тоны на гектар*** (ППШ). Рус. ***не менее*** *скольких единиц* ***на*** *какую единицу исчисления.*

**НЕ МЕНШ ЧЫМ** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Атрымліваецца, што будаўнікі штогод павінны будуць уводзіць у эксплуатацыю ў вёсцы* ***не менш чым 8335 дамоў*** («Звязда», 11.01.05). *Даход сям'і студэнта за мінулы год на кожнага яе члена павінен быць* ***не менш чым 511 520 рублёў*** (Інт.). *Для паляпшэння агульнага стану здароўя спявайце кожны дзень* ***не менш чым 10 хвілін*** («Родны край», 2009). Ант. *не больш чым.* Сін. *не менш як; па меньшай меры.* Рус. ***не менее чем*** *сколько единиц.*

**НЕ МЕНШ ЧЫМ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + рэлят ўзаемазамены: *Украінцы пойдуць у армію* ***не менш чым за 1,5 тысячы грыўняў*** (Інт.). Рус. ***не менее чем за*** *сколько единиц.*

**НЕ МЕНШ ЧЫМ ЗА** *колькі адзінак* **АД** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + лакатыў адносна арыенціра: *Месца пад будучую студню павінна быць чыстым і размяшчацца* ***не менш чым за 50 м ад складзіравання смецця*** («Беларуская ніва»). Рус. ***не менее чем за*** *сколько единиц* ***от*** *чего.*

**НЕ МЕНШ ЧЫМ ЗА** *колькі адзінак часу* **ДА** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + тэрмінатыў: ... *аб спыненні гэтага Пагаднення* ***не менш чым за 6 месяцаў да сканчэння*** *тэрміну* («Бел. палічка»). Рус. ***не менее чем за*** *скольких единиц* ***до*** *чего.*

**НЕ МЕНШ ЧЫМ НА-1** *што* Він. Рэлят градацыі з дакладнай ніжняй мяжой: *Яна* [спявачка] *настроена* ***не менш чым на перамогу*** («Чырвоная змена», 15.04.05). Сін. *толькі на.* Рус. ***не менее чем на*** *что.*

**НЕ МЕНШ ЧЫМ НА-2** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + дыстрыбутыў-характарыза-

тар: *У гарадах рэспублікі трэба пабудаваць агульнаадукацыйных школ* ***не менш чым на 280 тысяч вучнёўскіх месц*** («Полымя», №5, 1984). Сін. *да*. Рус. ***не менее чем на*** *сколько единиц.*

**НЕ МЕНШ ЧЫМ НА-3** *колькі адзінак* Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + рэлят рознасці: *Устанавіце такі рэжым у ланцугу, каб стрэлкі прыбораў адхіліліся* ***не менш чым на 1/3 шкалы прыбора*** (падручн.). *Аўтобусны парк мяркуецца абнавіць* ***не менш чым на 10 працэнтаў*** («Звязда»), 28.05.05). Сін. *на.* Рус. ***не менее чем на*** *сколько единиц.*

**НЕ МЕНШ ЧЫМ НА-4** *што/колькі адзінак часу* Він. Час.: дыменсіў-патэнсіў: *Тэмпературу вады вызначаюць водным тэрмометрам. Яго апускаюць у ванну* ***не менш чым на хвіліну*** *і перамешваюць пры гэтым ваду* (Асновы мед. ведаў). *Ахоўныя археалагічныя раскопкі, паводле заключэння спецыялістаў, павінны былі расцягнуцца* ***не менш чым на тры гады*** («ЛіМ», 28.10.88). Сін. *не менш як на*. Рус. ***не менее чем на*** *сколько единиц.*

**НЕ МЕНШ ЧЫМ** *колькі адзінак* **НА[1]** *колькі адзінак* Двухч. Ускладн. Наз.-Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + дыстрыбутыў: *Шчыльнасць забруджвання цэзіем-137складала* ***не менш чым 5 кюры на кв.км*** («Звязда», 13.01.05). Рус. ***не менее чем*** *сколько единиц* ***на*** *сколько единиц.*

**НЕ МЕНШ ЧЫМ** *колькі адзінак* **НА[2]** *колькіх адзінках* / **НА** *колькіх адзінках* **НЕ МЕНШ ЧЫМ** *колькі адзінак* Наз.-Месн. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + дыстрыбутыў-лакатыў: *Лысая гара – гэта вельмі паэтычнае месца і ў прамым, і ў пераносным сэнсе, бо* ***на кожных 4 – 5 сотках*** *жыве, працуе альбо адпачывае* ***не менш чым адзін пісьменнік*** («Звязда», 25.02.05). Рус. ***не менее чем*** *сколько единиц* **на** *сколько единиц.*

**НЕ МЕНШ ЧЫМ** *колькі адзінак* **У** *якую адзінку вымярэння* Наз.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + дыстрыбутыў: *З цягам часу ААТ «Гарызонт» разлічвае наладзіць выпуск* ***не менш чым 500 тысяч СВЧ-печак у год*** («Звязда», 12.02.05). *Для максімальнага забеспячэння патрэбнасцяў насельніцтва ў кукурузе аб'ём вытворчасці павінен складаць* ***не менш чым 10 тысяч тон у год*** («Звязда», 28.04.05). *Людзям з такімі хваробамі* [фарынгіт, бранхіт] *карысна спяваць* ***не менш чым гадзіну ў дзень*** («Родны край», 2009). Рус**.** ***не менее чем*** *сколько единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**НЕ МЕНШ ЯК** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *З агульнай колькасці паўстанцаў у шэсцьдзесят тысяч было* ***не менш як дваццаць пяць тысяч беларусаў***

(У.Караткевіч). *Па санітарных нормах плошча памяшкання на аднаго хворага ў шматложкавай палаце павінна быць 7 $м_2$, вышыня столі –* ***не менш як 3,5 м*** (Асновы мед. ведаў). *У састаў пасты ўваходзяць* ***не менш як 25 %*** *(да 65 %) парашкападобных рэчываў і мазевая аснова* (Асновы мед. ведаў). *Усяго замежныя спецыялісты налічваюць* ***не менш як 50 відаў*** *бактэрыяльных сродкаў паражэння чалавека, жывёл і раслін* (Асновы мед. ведаў). *Нагрузка павінна складаць* ***не менш як 20 – 25 % намінальнай магутнасці*** *рухавіка* (падручн.) *Ён выпіць мог за раз* ***не менш як дзве барылкі*** *І не ківацца, і гуторыць без памылкі* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *І вось калі мы выйшлі ў бакоўку гэтай цудоўнай старжытнай (яна мае* ***не менш як дзвесце год)*** *хаты, стары паказаў нам гравіраваны партрэцік чалавека ў лаўровым вянку* (У.Караткевіч). Рус. ***не менее*** *скольких единиц.*

**НЕ МЕНШ ЯК** *колькі адзінак часу* **АД ПАЧАТКУ** *чаго* Наз.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + дыменсіў-патэнсіў адносна кропкі адлічэння: *Ізаляцыя хворага працягваецца* ***не менш як 2 тыдні ад пачатку захворвання*** (Асновы мед. ведаў). Рус. ***не менее чем*** *сколько единиц* ***от*** *какого времени.*

**НЕ МЕНШ ЯК ДА** *колькіх адзінак часу* Род. Час.: няпэўны квантытатыў з дакладанай ніжняй мяжой: *Малы ўжо можа далічыць* ***не менш як да дваццаці***. Рус. ***не менее чем до*** *скольких единиц.*

**НЕ МЕНШ ЯК НА** *колькі адзінак* Він. Час.: прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + дыменсіў-патэнсіў: *Разам з тым контрудар у беластоцкім выступе* ***не менш як на 2 дні*** *адцягваў савецкія 3-ю і 10-ую арміі, што ў тым становішчы было немэтазгодным, бо іх войскам пагражала поўнае акружэнне* (Энцыкл. гіст. Беларусі, т.1). *Уводзяць яго незадоўга перад суполеннем, пасля якога пакідаюць у целе яшчэ* ***не менш як на шэсць гадзін*** (Ю.Марголін). Ант. *не болей як на; менш як на*. Сін. *болей як на.* Рус. ***не менее чем на*** *сколько единиц.*

**НЕ МЕНШ ЯК ПРАЗ** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + тэрмінатыў: *Да паўстанка аставалася не больш як кіламетры два хады, а цягнік меўся прыйсці* ***не менш як праз гадзіны тры*** (В.Адамчык). Рус. ***не менее чем через*** *сколько единиц.*

**НЕ МЕНШ ЯК У**[1] *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Лічбы стратаў пакуль не называюць, але спецыялісты ацэньваюць маштабы незаконнага гандлю спіртам* ***не менш як у мільён долараў*** (Інт.). *Відаць, і тыя і тыя*

*ткаліся **не менш як у дваццаць чатыры ніты*** (У.Караткевіч). Сін. *не меней як у; не менш чым у.* Рус. ***не менее чем в** сколько единиц.*

**НЕ МЕНШ ЯК У²** *чым/колькіх адзінках* Месн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + характарызатар: *Гэты партрэт фігуруе ў пражскіх выданнях разоў пяць, прычым **не менш як у трох варыянтах*** (Інт.). Сін. *не менш чым у*. Рус. ***не менее чем в** сколько единиц.*

**НЕ МЕНШ/АЯ ЯК (Жан.р.)** *колькі адзінак* Наз. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + характарызатар: *Здаровы чалавек за 4 гадзіны выдзяляе 1,5 л мачы; пры гэтым адна з порцый павінна быць **не меншая як 300 мл** з адноснай шчыльнасцю 1,001 – 1,002* (Асновы мед. ведаў). Сін. *не меней як.* Рус. ***не менее** скольких единиц.*

**НЕ МЕНШЫ (Муж.р.)** *колькіх адзінак/чаго* Род. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + характарызатар: *Згодна з прыкметай дзялімасці лікаў у кананічным выглядзе, лік ... з'яўляецца агульным кратным лікаў a і b пры ўмове, што n – **не меншы найбольшага з паказчыкаў...*** (падручн.). Сін. *не меней як.* Рус. ***не менее** скольких единиц/чего.*

◊ **НЕ НА ўме –** не прыходзіць у галаву **—** *Забыўся пра нягоды І **не на ўме** жуку, Што абяцаў паднесці Ён хату слімаку* (М.Танк). Рус. ***И в голову не пришло.***

**НЕ НА БАКУ** *каго/чаго* Род. Ускладн. Аблятыўны прэдыкат: рэлят нятоеснасці: *І яшчэ Сяргей Віктаравіч пацікавіўся, чаму я **не на баку мясцовай улады*** («Чырвоная змена», 15.04.05). Сін. *супраць.* Рус. ***не на стороне** кого/чего.*

**НЕ НА БОЛЬШ ЧЫМ** *колькі адзінак* / **НА НЕ БОЛЬШ ЧЫМ** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + дыменсіў-патэнсіў: *У мяне адна сястра знаёмая заўсёды казала сваім хлопчыкам: у душ **не на больш чым 10 хвілін*** (Інт.). Рус. ***не на более чем** сколько единиц.*

**НЕ НАДТА ПОДАЎГУ ПАСЛЯ** чаго Род. Час.: няпэўны таксісны тэмпаратыў: *Гэта было **не надта подаўгу пасля таго** ўжо, калі ён* [Караткевіч] *пахаваў Валянціну Браніславаўну* (А.Васілевіч).

**НЕ НА КАРЫСЦЬ** *каму/чаму* Дав. Адверсатыўны бенефіцыятыў: *Падлік быў **не на карысць Мікіты**, і ён моўчкі з гэтым згадзіўся* (П.Васючэнка). Ант. *на карысць.* Сін. *супраць.* Рус. ***не в пользу** кого/чего*.

**НЕ НІЖЭЙ-1** *чаго* Род. Характарызатар-прэдыкат: рэлят градацыі з вызначанай ніжняй мяжой: *Упраўленню хлебапрадуктаў трэба вырашыць пытанне аб павелічэнні вытвочасці таварнай*

*прадукцыі для камбікормавага завода хаця б* ***не ніжэй дасягнутага ўзроўню*** (газ.) *Гэта мінімальная стаўка, устаноўленая ўрадам, як гарантыя на атрыманне аўтарам ганарару* ***не ніжэй пэўнага памеру*** (С. Канановіч). Сін. *не менеш за.* Рус. ***не ниже*** *чего.*

**НЕ НІЖЭЙ-2** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Цана на нафту* ***не ніжэй 60 долараў*** *станоўча адлюстроўваецца дынаміку расійскага фондавага рынку* (газ.). *Зарплата ульянаўцаў павінна быць* ***не ніжэй 2600 рублёў*** (газ.). Сін. *не менш чым.* Рус. ***не ниже*** *скольких единиц.*

**НЕ НІЖЭЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Тэмпература вады павінна быць* ***не ніжэй за 50 градусаў*** (Інт.). *Таму нармальнае развіццё яек магчыма толькі* ***пры вільготнасці*** *глебы* ***не ніжэй за 25 %*** (Інт.). Ант. *ніжэй за.* Сін. *не менш за.* Рус. ***не ниже*** *скольких единиц.*

**НЕ НІЖЭЙ ЗА** *колькі адзінак* **АД** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Партытыў: прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + камплетыў: *Згодна Генеральнаму пагадненню паміж урадам, наймальнікамі й прафсаюзамі, стаўка 1 разрада павінна быць* ***не ніжэй за 35 % ад БПМ*** (Інт.). Рус. ***не ниже*** *скольких единиц.*

НЕ НІЖЭЙ ЯК *колькі адзінак*

**НЕ ПА** *чым* Месн. ◊ ***Не па сабе.*** **—** *Ён адчувае крыху* ***не па сабе*** *сярод тлумнага зборышча дарослых людзей* (Я.Колас). ◊ ***Не па носе –*** не падабаецца. ◊ ***Не па зубах*** – няма магчымасціі, сілы. ◊ ***Не па нутру –*** быць не даспадобы. Рус. ***не по*** *себе.*

**НЕПАДАЛЁК** *каго/чаго* / **НЕПАДАЛЁК** Род. Прастор.: лакатыў: *Яна стаяла* ***непадалёк мяне,*** *на ўзмежку* (Я.Купала: ППШ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; размоўн.). ► *Вяскоўцы мяркуюць, што* <u>*камень*</u> *стаў гаючым дзякуючы суседству з вясковай бальніцай***,** *якая размяшчалася* ***непадалёк*** («Родны край-2007»). – *Уладзімір Сямёнавіч, добры вечар! – пачулася раптам* ***непадалёк*** (Л.Дранько-Майсюк). ТСБМ – прыназ.; ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; разм. Сін. *недалёка ад*. Рус. ***неподалеку от*** *кого/чего.*

**НЕПАДАЛЁК АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Сёлета яна* (вясна) *паказалася раптам у самым цэнтры майго Мінска, на беразе Свіслачы,* ***непадалёк ад таго месца****, дзе крыху прыўзнімаючы парапет, упадае ў раку пад яе вадой нешырокі ручай – Няміга* («Звязда», 24.03.05). *Вось лёс: загінуць* ***непадалёк ад роднай хаты*** («Звязда», 28.04.05). ***Непадалёк ад мяне*** *стаяў танклявы, але, відаць, моцны малады чалавек, белавалосы, з вельмі прыемным і шчырым тварам, апрануты сціпла, але з падкрэсленай акуратнасцю* (У.Караткевіч). *Янка Купала нарадзіўся ў фальварку Вязынка,*

***непадалёк ад мястэчка Радашковічы*** *былога Вілейскага павета* (падручн.). *Сад размяшчаўся недзе там, дзе цяпер Галоўпаштамт,* ***непадалёк ад Вацлаўскай плошчы*** (У.Караткевіч). ***Непадалёк ад дома Караткевіча*** *ў Кіеўскім завулку пражывала сям'я яго блізкага сябра Адама Іосіфавіча Мальдзіса – Адася, як называў яго Валодзя* (Н.Кучкоўская). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ.; размоўн.). Сін. *непадалёку*. Рус. ***неподалеку от*** *кого/чего.*

**НЕПАДАЛЁКУ** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Яны* [Серж з бацькам] *былі ўжо непадалёку свайго дома* (К.Чорны: ТСБПШ). ***Непадалёку сцішаных Ашмян*** *загаласіла ўтрапёна дудка – куды гучней, чым віленскі арган* (М.Дукса). ТСБМ – прыназ.; ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *непадалёку ад*. Рус. ***неподалеку от*** *чего*.

**НЕПАДАЛЁКУ АД** *каго/чаго* / **АД** чаго **НЕПАДАЛЁКУ** Род. Прастор.: лакатыў: *Між гэтых дрэў асабліва кідалася ў вочы падарожнага старадрэвіна-хвоя, што стаяла зусім адна на высокім грудзе* ***непадалёку ад Нёмана*** (Я.Колас). *У адной са сваіх работ, якая адносіцца да перыяду Вялікай Айчыннай вайны, я паказаў Купалу на беразе Волгі, дзе паэт спыніўся ў татарскім пасёлку Пячышчы,* ***непадалеку ад Казані*** («ЛіМ», 21.05.04). *Машына стала. Валіць валам Люд у тунелі пад вакзалам, А з ім і дзядзька цісне збоку,* ***Ад шэрых світ непадалёку*** (Я. Колас). ***Непадалёку ад акопа*** *Звягінцава зеўрала буйная варонка* (М.Шолахаў. Пер. М.Лужаніна). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Сін. *каля*. Рус. ***неподалеку от*** *кого/чего.*

**НЕПАДАЛЁКУ ЛЯ** *каго/чаго* / **ЛЯ** *каго/чаго* **НЕПАДАЛЁКУ** Род. Прастор.: лакатыў адносна вельмі блізкага локума: *Той дом, хоць невялікі, але мілы воку,* ***Ля пуні*** *тры стагі стаяць* ***непадалёку*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Бачыць Граф, аж збоку Стаіць Тадэвуш* ***ля яго непадалёку*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *непадалёку ад*. Рус. ***неподалеку возле*** *кого/чего.*

**НЕПАДАЛЁЧКУ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***Непадалёчку ад воза*** *ляжаў стары* (М.Лынькоў). *Ігнат сядзеў* ***непадалёчку ад сястры****, тупа ўставіўшыся ў блізкую купіну, парослую шорсткай, шызаватай травой* (М.Лынькоў). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ.; размоўн. Сін. *непадалёку ад.* Рус. ***неподалеку от*** *кого/чего.*

**НЕ ПАЗНЕЙ** *чаго/якога часу* Род. Час.: прыблізны тэрмінатыў адносна верхняй мяжы: ***Не пазней 25 студзеня*** *будзе праведзена перадперапісная праверка* («Ленінскі шлях», 13.01.99). *Падаткаплацельшчык мае магчымасць зарэгістравацца* ***не пазней даты*** *апошняга дня падачы дэкларацыі – 1 сакавіка* («Звязда, 8.02.05).

*Вацлаў і Юры Іваноўскія выехалі з Варшавы* ***не пазней 11 верасня 1939 году****, бо на наступны дзень усе дарогі, што вялі з сталіцы на ўсход і на поўдзень, былі перарэзаныя войскамі вермахту* («Arche»). *Масты на Няве пачнуць разводзіць* ***не пазней 23 красавіка*** (Інт.). *Прыходзь жа сюды* ***не пазней трох дзён****, раскажаш нам, што здабудзеш за гэты час* (Я.Колас). Сін. *не пазней чым; да*. Рус. ***не позднее*** *скольких единиц.*

**НЕ ПАЗНЕЙ ЗА** *што/які час* Він. Час.: прыблізны тэрмінатыў, абмежаваны верхняй мяжой: *Сачыненні неабходна даслаць у рэдакцыю* ***не пазней за абумоўленыя ніжэй тэрміны*** («Звязда», 4.02.05). *Кніга ўзнікла* ***не пазней за 1647 год****, пісаная, пэўна, у Карэлічах...* (А.Пяткевіч). ***Не пазней за 30 кастрычніка*** *будуць створаны акруговыя раённыя камісіі, не пазней за 29 лістапада – участковыя камісіі* (газ.). ↔ **Не пазней за дзень / час, які**...: *Даплата адзінага падатку праводзіцца* ***не пазней за дзень, які папярэднічае*** *дню змянення ўмоў ажыццяўлення дзейнасці* («Палажэнне аб адзіным падатку...»). Рус. ***не позднее*** *чего*.

**НЕ ПАЗНЕЙ ЗА** *колькі адзінак часу* **ПАСЛЯ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны таксісны тэмпаратыў з дакладнай верхняй мяжой: *Пенсіі з прычыны страты карміцеля членам сем'яў ваеннаслужачых ... назанчаюцца, калі карміцель памёр...* ***не пазней за 5 гадоў пасля спынення выплаты пенсіі*** (Закон РБ). ↔ **Не пазней за час пасля таго як.** Рус. ***не позднее*** *чего/какого времени* ***после*** *чего.*

**НЕ ПАЗНЕЙ** *колькіх адзінак часу* **ПАСЛЯ** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны таксісны тэмпаратыў з дакладнай верхняй мяжой: *Своечасовая першая медыцынская дапамога прадухіляе ці змяншае цяжкія вынікі паражэння, а часам і выратоўвае жыццё паражонага, калі яна аказана адразу ці* ***не пазней першых 30 хвілін пасля паражэння*** (Асновы мед. ведаў). ↔ **Не пазней ... пасля таго як.** Сін. *на працягу ... пасля*. Рус. ***не позднее*** *скольких единиц* ***после*** *какого события.*

**НЕ ПАЗНЕЙ ЧЫМ** *калі/у якое чысло* Род. Час.: прыблізны тэрмінатыў даты з дакладнай канечнай мяжой: *Журы падводзіць вынікі конкурсу і выносіць рашэнне аб пераможцах у кожнай намінацыі* ***не пазней чым 25 красавіка гэтага года*** («Звязда», 31.03.05). Сін. *да*. Рус. ***не позднее*** *чего.*

**НЕ ПАЗНЕЙ ЧЫМ ЗА** *колькі адзінак часу* Він. Час.: прыблізны тэрмінатыў з дакладнай канечнай мяжой: *А для таго, каб здаць у рэзервовы дзень... трэба звярнуцца ў пункт рэгістрацыі за пропускам* ***не пазней чым за 6 дзён*** («Звязда», 25.02.05). Рус. ***не позднее чем в течение*** *скольких единиц.*

**НЕ ПАЗНЕЙ ЧЫМ ЗА** *колькі адзінак часу* **ДА** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: адносны прыблізны тэрмінатыў з дакладнай канечнай мяжой: *Удзельнікі абавязковага і «профільнага» цэнтралізаванага тэсціравання павінны зарэгістравацца* ***не пазней чым за 10 дзён да правядзення тэст-экзамена*** («Звязда», 4.02.05). *Фізічная нагрузка неабходная, але* ***не пазней чым за 4 – 5 гадзін да сну*** («Звязда»). *Участкі для галасавання ўтвараюцца* ***не пазней чым за два месяцы да выбараў*** (Выбарчы кодэкс). ↔ **Не пазней чым за ... да таго як.** Рус. ***не позднее чем*** *сколько единиц* ***до*** *какого времени.*

**НЕ ПАЗНЕЙ ЧЫМ ЗА** *колькі адзінак часу* **ДА ПАЧАТКУ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны таксісны тэрмінатыў з дакладнай канечнай мяжой: *Прышчэпка робіцца* ***не пазней чым за два тыдні да пачатку эпідэмічнага пад'ёму*** *захворвання* («Родны край-2007»). *Рашэнне аб змяненнях даводзіцца да паступаючых у навучальныя ўстановы профтэхадукацыі* ***не пазней чым за 2 месяцы да пачатку прыёму*** (Інт.). ↔ **Не пазней чым за да пачатку таго як.** Рус. ***не позднее*** *скольких единиц* ***до начала*** *чего.*

**НЕ ПАЗНЕЙ ЧЫМ ЗА** *колькі адзінак часу* **ПАСЛЯ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны таксісны тэрмінатыў з дакладнай канечнай мяжой: *Выдача пасведчанняў аб накіраванні на работу або даведак аб самастойным працаўладкаванні выпускнікам ажыццяўляецца ўстановай адукацыі* ***не пазней чым за 5 дзён пасля заканчэння*** *імі вучобы* (Палажэнне аб размеркаванні выпускнікоў). *Разгляд апеляцыі праводзіцца* ***не пазней чым за тры каляндарныя дні пасля яе падачы*** (Інт.). ↔ **Не пазней чым ... пасля таго як.** Рус. ***не позднее чем за*** *скольких единиц* ***после*** *чего.*

**НЕ ПАЗНЕЙ ЧЫМ** *колькі адзінак часу* **З ДНЯ** *чаго* Він./Наз.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны таксісны тэрмінатыў з дакладнай канечнай мяжой: *Пенсіі з прычыны страты карміцеля членам сем'яў ваеннаслужачых ... назначаюцца, калі карміцель памёр* ***... не пазней чым тры месяцы з дня звальнення*** *з ваеннай службы* (Закон РБ). ↔ **Не пазней чым... з дня калі.** Рус. ***не позднее*** *чего/какого времени* ***со дня*** *чего.*

**НЕ ПАЗНЕЙ ЧЫМ ПРАЗ** *які час* **ПАСЛЯ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны таксісны тэрмінатыў з дакладнай канечнай мяжой: *Грошы донарам выплачваюцца* ***не пазней чым праз два дні пасля здачы*** *крыві* («Звязда», 31.03.05). ↔ **Не пазней чым ... праз той час калі.** Рус. **не позднее чем через ... после.**

**НЕ ПАЗНЕЙ ЧЫМ У** *якім часе* Месн. Час.: прыблізны тэмпаратыў даты з дакладнай верхняй мяжой: ***Не пазней чым у 2006 годзе*** *Беларусь набудзе два судны для ўласнага марскога гандлёвага*

*флоту* («Звязда», 1.06.05). *Гораду Вілейцы папярэднічаў двор Куранец, ці стары Куранец. Узнік ён не пазней чым у XIV стагоддзі* («Родны край», 2009). Рус. ***не позже чем в*** *каком году.*

**НЕ ПАЗНЕЙ ЯК** *калі* Род. Час.: прыблізны тэмпаратыў даты з дакладнай верхняй мяжой: *Пасля каляндарнага года фізічныя асобы абавязаны* ***не пазней як 1 сакавіка*** *прадставіць у падатковы орган па месцы пастаноўкі на ўлік дэкларацыю аб сукупным даходзе за мінулы каляндарны год* («Звязда» 05.01.05). *Прадугледжана, што на гарадскіх і прыгарадных маршрутах адхіленне руху аўтобусаў ад раскладу можа быць не раней як 3 мінуты і* ***не пазней як 5 мінут*** (Інт.). Рус. ***не позже*** *какого времени.*

**НЕ ПАЗНЕЙ ЯК ПРАЗ** *колькі адзінак часу* **ПАСЛЯ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны таксісны тэмпаратыў даты з дакладнай верхняй мяжой: *Такім паражоным хірургічная дапамога аказваецца ў першую чаргу, а ўсім астатнім –* ***не пазней як праз 6 – 12 гадзін пасля паражэння*** (Асновы мед. ведаў). *Па-першае, ёсць на гэта спецыяльныя посткаітальныя таблеткі – на нашым рынку, напрыклад, пастынор, які прымаюць* ***не пазней як праз 2 – 3 гадзіны пасля полавага акту****, прычым не больш як 4 таблеткі на месяц* (Ю.Марголін). ↔ **Не пазней як праз ... пасля таго як.** Рус. ***не позже*** *скольких единиц* ***после*** *чего.*

**НЕ ПАРА** *каму* Дав. Прэдыкат: рэлят неадпаведнасці: *Затое ж дзядзька хват і дока, Набіў на косах сваё вока, і калі выбера ён коску –* ***Не пара іншаму падоску*** (Я.Колас).

**НЕПАСРЭДНА АД-1** *каго* Род. Адрасант: *Патрабаванне, што бюро скаргаў павінна быць незалежным і знаходзіцца не па адрасу фонду, першапачаткова зыходзіла* ***непасрэдна ад нямецкага боку*** («Звязда», 25.02.05). Сін. *ад самога*. Рус. ***непосредственно от*** *кого.*

**НЕПАСРЭДНА АД-2** *чаго* Род. Генератыў: *І трэба прызнаць, што паміж пераважнай большасці сваіх равеснікаў, закліканых у літаратуру* ***непасрэдна ад плуга і касы****, М.Чарот вылучаўся не толькі адукацыяй* (М.Скобла). Сін. *ад.* Рус. ***непосредственно от*** *чего.*

**НЕПАСРЭДНА АД-3** *чаго* Род. Аб'ектн.: інструментыў: *Вядучы – які прыводзіцца ў рух* ***непасрэдна ад рухавіка*** (ТСБМ). Сін. Тв. без прыназ. (*чым*). Рус. ***непосредственно от*** *чего.*

**НЕПАСРЭДНА ДА** *каго* Род. Адрасат: *Іх* [вучняў] *часта грубаватыя выхадкі ці звароты* ***непасрэдна да яго*** *настаўнік прапускаў між вушэй, ведаючы той грубы асяродак, з якога яны выйшлі* (Я.Колас). Рус. ***непосредственно к*** *кому.*

**НЕПАСРЭДНА З** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-старт: *Не горшыя ўмовы ў пакоях, і пастаўка прадуктаў харчавання –* ***непасрэд-***

***на з СВК «Рассвет»*** («Звязда», 29.01.05). *Літары надпісаў можна рысаваць «уручную», але больш зручна выкарыстоўваць інструмент «Увод сімвалаў», з дапамогай якога сімвалы выводзяцца на экран **непасрэдна з клавіятуры*** (падручн.). Рус. ***непосредственно из/с*** *чего.*

**НЕПАСРЭДНА ЗА**[1] *каго/што* Він. Аб'ект-фінітыў: *Бой **непасрэдна за Слонім** распачаўся ў 17 гадзін 9 ліпеня* (У.А.Нядзелька). Сін. *за сам/у/о/і* (неадуш.) / *за самога/ую/іх* (адуш.). Рус. ***непосредственно за*** *кого/что.*

**НЕПАСРЭДНА ЗА**[2] *чым* Тв. Аб'ектн.: *Элемент, які настае **непасрэдна за элементам** a, будзем абазначаць a'* (падручн.). Рус. ***непосредственно за*** *кем/чем.*

**НЕПАСРЭДНА З ВУСНАЎ** *каго* Род. Адрасант: *Першым разам давялося ўспрымаць яго [верш] **непасрэдна з вуснаў** самога паэта* (М.Мікуліч). Сін. *непасрэдна ад.* Рус. ***непосредственно из уст*** *кого.*

НЕПАСРЭДНА К *каму/чаму*

**НЕПАСРЭДНА КАЛЯ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Гомельцы (50-60 асоб) чакалі нас **непасрэдна каля стадыёну*** (Інт.). *Трэба адрозніваць атмасферны азон ад азону, што знаходзіцца **непасрэдна каля** паверхні Зямлі, так званага «каляземнага» азону* (навук.) *Размешчана сакрысція звычайна ва ўсходняй частцы касцёла, **непасрэдна каля** месца правядзення службы* (Інт.). Сін. *ля самага/ай/ых...* Рус. ***непосредственно возле*** *чего.*

**НЕПАСРЭДНА КАЛЯ МЕСЦА** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Яна знаходзілася ў падножжа Верхняга замка, відаць, **непасрэдна каля месца ўпадзення** Чорнага ручая ў Дзвіну* (Інт.). Сін. *каля самага/ай/ых...* Рус. ***непосредственно возле места*** *чего.*

**НЕПАСРЭДНА НА**[1] *што* Він. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Каб набыць агрэгат індывідуальнага даення, трэба звяртацца **непасрэдна на прадпрыемства*** («Звязда», 17.03.05). Сін. *на сам/у/о/і.* Рус. ***непосредственно на*** *что.*

**НЕПАСРЭДНА НА**[2] *чым* Месн. Прастор.: лакатыў: *Асаблівасці друкарскіх выданняў можна заўважыць **непасрэдна на старонках** гэтай кнігі* (Быкадораў Ю.А., Кузняцоў А.Ц.). Сін. *на самім/ой/іх...* Рус. ***непосредственно на*** *чем.*

**НЕПАСРЭДНА ПАД** *чым* Тв. Прастор.: лакатыў: *Асабліва здзівіла Басаргіна тая акалічнасць, што пах ліпы на некаторым аддаленні ад квітнеючага дрэва чуваць намнога мацней, чым **непасрэдна пад ім*** (К.Паўстоўскі. Пер. Краўчанкі). Сін. *пад самім/ой/імі...* Рус. ***непосредственно под*** *чем.*

**НЕПАСРЭДНА ПАСЛЯ** *чаго* Час.: таксісны тэмпаратыў: ***Непасрэдна пасля Аршанскай бітвы** ў 1514 годзе ў Кракаве выйшаў з*

*друку паэтычны зборнік, у склад якога ўвайшлі вершаваныя панегірыкі розных паэтаў у гонар вялікага трыумфу* (Інт.). *Улік кожнага голасу ажыццяўлаецца* ***непасрэдна пасля запаўнення*** *ўдзельнікам галасавання электроннага бюлетэня* (Інт.). *Верагодна,* ***непасрэдна пасля гэтых падзей*** *Рагнеда зрабіла замах на жыццё мужа* (Інт.). ↔ **Непасрэдня пасля таго як.** Сін. *адразу пасля*. Рус. ***непосредственно после*** чего.

**НЕПАСРЭДНА ПЕРАД** *чым* Тв. Час.: тэмпаратыў: ***Непасрэдна перад новым годам*** *быў прыняты ўказ прэзідэнта, згодна з якім крэдыты для грамадзян, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, будуць выдавацца тэрмінам на 20 гадоў пад 5 працэнтаў гадавых памерам да 90 працэнтаў ад агульнага кошту жылля* («Звязда», 11.01.05). *Азотныя ўгнаенні ўносяцца* ***непасрэдна перад сяўбой*** («Звязда», 30.04.05). Сін. *перад самым/ай/ымі.* Рус. ***непосредственно перед*** *чем.*

**НЕПАСРЭДНА ПРЫ** *чым* Месн. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Подпіс і пячатка ставяцца касірам непасрэдна* ***пры ўнясенні грошай*** («Звязда»). Рус. ***непосредственно при*** *чем.*

**НЕПАСРЭДНА Ў¹-1** *што/у які час* Він. Час.: тэмпаратыў: *Чамусьці застаецца распаўсюджанай думка, што працоўную кніжку можна выдаваць на працягу 3 дзён пасля звальнення. Такая думка памылковая. Выдача кніжкі павінна рабіцца* ***непасрэдна ў апошні дзень*** *работы* («Звязда», 4.01.05). Рус. ***непосредственно в*** *какое время.*

**НЕПАСРЭДНА Ў¹-2** *што* Він. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Садзіць настуркі можна расадай або* ***непасрэдна ў грунт*** («Родны край», 2009). Сін. *адразу ў.* Рус. ***непосредственно во*** *что.*

**НЕПАСРЭДНА Ў²** *чым/дзе* Месн. Прастор.: лакатыў: *Фірменны магазін прадпрыемства знаходзіцца* ***непасрэдна ў Маладзечна*** *і адначасова з'яўляецца яго выставачнай пляцоўкай* («Звязда», 15.02.05). *У абітурыентаў прымуць сертыфікаты цэнтралізаванага тэсціравання, якое праводзіцца* ***непасрэдна ў Расіі*** («Звязда», 24.03.05). Сін. *у сам/у/о/і.* Рус. ***непосредственно в*** *чем.*

**НЕ ПРА** *каго/што* **КАЖУЧЫ** Він. Пабочны сітуатыў: рэлят выключэння пры параўнанні: *Ні вучыцца, ні працаваць –* ***не пра тваіх сыноў кажучы****, Ефрасіння, – не хочуць* (Т.Бондар). *Не так часта стрэнеш свайго выкладчыка ў ролі артыста. Усё больш адна постаць: пад гальштукам, фрак, за кафедрай. А адтуль іншы раз нудныя аксіёмы****, не пра Міколу Рыгоравіча кажучы*** (А.Слука). Сін. *акрамя.* Рус. ***не о*** *ком/чем* ***речь; за исключением*** *кого/чего.*

НЕ ПРЭТЭНДУЮЧЫ НА *што*

НЕ РАДЗЕЙ ЗА *колькі адзінак часу*

**НЕ РАДЗЕЙ** *колькіх адзінак* **НА** *колькі адзінак* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны дыменсіў з адной дакладнай мяжой + дыстрыбутыў: *Нацельная і пасцельная бялізна мянецца па меры неабходансці,* ***не радзей аднаго разу на тыдзень*** (Асновы мед. ведаў). *Рада праводзіць свае паседжанні паводле патрэбы, але* ***не радзей аднаго разу на квартал*** (Інт.). *Фізічна аслабленым рэкамендуецца ўжываць* ***не радзей 2 разоў на тыдзень*** *вараную рыбу* (Інт.). Ант. *не часцей ... на.* Рус. ***не реже*** *скольких единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**НЕ РАДЗЕЙ ЗА** *колькі адзінак* **НА** *колькі адзінак* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны дыменсіў з адной дакладнай мяжой + дыстрыбутыў: *У дзяржорганах, іншых установах павінен праходзіць асабісты прыём грамадзян* ***не радзей за раз на месяц*** (Інт.). *Вольны Сойм склікаецца па рашэнні рады па меры неабходнасці, але* ***не радзей за адзін раз на год*** (Інт.). Ант. *не часцей за ... на.* Рус. ***не реже*** *скольких единиц* ***на*** *какую единицу исчисления.*

**НЕ РАДЗЕЙ ЗА** *колькі адзінак* **У** *колькі адзінак* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны дыменсіў з адной дакладнай мяжой + дыстрыбутыў: *Кіруючым органам з'яўляецца савет, пасяджэнні якога праводзяцца па меры неабходнасці, але* ***не радзей за адзін раз у год****, і правамоцны пры наяўнасці на пасяджэнні не менш паловы членаў яго складу* (Статут СПБ). *Вышэйшым органам гарадскіх, раённых аддзяленняў з'яўляецца Сход, які праводзіцца па меры неабходнасці, але* ***не радзей за 1 раз у год*** (Інт.). Ант. *не часцей за ... у.* Рус. ***не реже*** *скольких единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**НЕ РАДЗЕЙ** *колькіх адзінак* **У** *колькі адзінак* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны дыменсіў з адной дакладнай мяжой + дыстрыбутыў: *Галаву мыюць цёплай вадой з мылам пры тлустай скуры* ***не радзей аднаго разу ў 4 – 5 дзён*** (Асновы мед. ведаў). *Трымаюцца санітарных правілаў пры наведванні хворых роднымі****, не радзей аднаго разу ў 10 дзён*** *хворыя прымаюць гігіенічную ванну або душ з пераменай нацельнай і пасцельнай бялізны* (Асновы мед. ведаў). *Праверцы ізаляцыі падлягаюць таксама працуючыя электраўстаноўкі: у памяшканні без павышанай небяспекі – адзін раз у два гады, а ў сырых памяшканнях і ў памяшканнях з едкімі парамі –* ***не радзей аднага раза ў год*** (навук.). *Канферэнцыя праводзіцца* ***не радзей 1 разу ў 2 гады*** (Інт.). Ант. *не часцей ... у.* Рус. ***не реже*** *скольких единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**НЕ РАДЗЕЙ ЧЫМ** *колькі адзінак часу* **НА** *якую адзінку часу* Наз.-Він. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны дыменсіў з адной дак-

ладнай мяжой + дыстрыбутыў: *Пасяджэнні Рады склікаюцца* ***не радзей чым адзін раз на месяц*** («Наша слова», №2, 1994). *Ва ўдзельнікаў даследавання, якія спажывалі адварную ці запечаную рыбу* ***не радзей чым 1 – 3 разы на тыдзень****, агульная рызыка інсульту на 15 працэнтаў ніжэй, чым у асоб, якія елі рыбу радзей* («Звязда», 9.02.05). *Цяпер вадзіцеляў, якія выязджаюць у рэйс, тэстуюць на алкаголь кожны дзень. Іншых работнікаў – тых жа станочнікаў – выбарачна, але* ***не радзей чым раз на тыдзень*** (Інт.).. *Сустрэчы* ***адбываюцца не радзей чым 1 раз на месяц****, за выключэннем канікул і часу сесіі* (Інт.). Ант. *не часцей чым ... на.* Рус. ***не реже*** *скольких единиц* ***на*** *какую единицу исчисления.*

**НЕ РАДЗЕЙ ЧЫМ ПРАЗ** *які час/што* Він. Час.: прыблізны дыменсіў-тэмпаратыў з адной дакладнай мяжой: *Стажыроўка праводзіцца па меры неабходнасці ў адпаведнасці з планамі і праграмамі ... з адрывам і без адрыву ад асноўнай работы* ***не радзей чым праз 3 – 5 гадоў*** (Інт.). Ант. *не часцей чым праз.* Рус. ***не реже чем через*** *какое время/что.*

**НЕ РАДЗЕЙ ЯК** *калі/як часта* Прысл. Час.: прыблізны дыменсіў з адной дакладнай мяжой: *Сойм склікаецца* ***не радзей, як штомесяц*** (Інт.). Ант. *не часцей як.* Рус. ***не реже чем*** *один раз* ***в*** *какое время/что.*

**НЕ РАДЗЕЙ ЧЫМ** *колькі адзінак* **У** *якую адзінку адлічэння* Наз.-Він. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны дыменсіў з адной дакладнай мяжой + дыстрыбутыў: *Кіраўнікі дзяржаўных органаў, іншых арганізацый і ўпаўнаважаныя імі службовыя асобы абавязаны праводзіць асабісты прыём грамадзян* ***не радзей чым адзін раз у месяц*** *ва ўстаноўленыя дні і гадзіны* (Інт.). *Павышэнне кваліфікацыі кіруючых работнікаў і спецыялістаў праводзіцца па меры неабходнасці, але* ***не радзей чым 1 раз у 5 гадоў*** (Інт.). *Справаздача АБ дзейнасці КАМІСІІ разглядаецца ў Міністэрстве Культуры* ***не радзей чым адзін раз у год*** (Інт.). Ант. *не часцей чым ... у.* Рус. ***не реже*** *скольких единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**НЕ РАДЗЕЙ ЯК** *колькі адзінак* **НА** *якую адзінку* Наз.-Він. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны дыменсіў з адной дакладнай мяжой + дыстрыбутыў: *Канферэнцыя гарадской (раённай) філіі склікаецца* ***не радзей, як адзін раз на 6 месяцаў*** (Інт.). *Цэнтральная рада збіраецца на свае пасяджэнні* ***не радзей як 4 разы на год*** (Інт.). *Ваяводскім і павятовым уладам даручалася выбраць будучых сойміках пагранічных камісараў, якія павінны былі* ***не радзей як два разы на год*** *мець чатырохтыднёвыя сустрэчы з расійскімі прадстаўнікамі* (Інт.). *Пасяджэнні ЦК БСДП праводзяцца па меры*

*неабходнасці, але* ***не радзей як 4 разы на год*** (Інт.). Ант. *не часцей як ... на.* Рус. ***не реже*** *скольких единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**НЕ РАДЗЕЙ ЯК ПРАЗ** *які час/што* Він. Час.: прыблізны дымексіў з адной дакладнай мяжой: *Кожны кіроўца лічыць за гонар* ***не радзей як праз трыццаць секунд*** *з усёй моцы націскаць на сігнальны гудок* (Інт.). Ант. *не часцей як праз.* Рус. ***не реже чем каждые*** *сколько единиц.*

**НЕ РАДЗЕЙ ЯК** *колькі адзінак* **У** *якую адзінку адлічэння* Наз.-Він. Двухч. Ускладн. Час.: няпэўны дыменсіў з адной дакладнай мяжой + дыстрыбутыў: *Канцэртная, выставачная дзейнасць складаецца з: правядзення канцэртных выступленняў, паказу спектакляў, арганізацыі выставак і іншых мерапрыемстваў* ***не радзей як адзін раз у два месяцы*** *з мэтай дэманстрацыі творчых дасягненняў удзельнікаў калектыву перад гледачамі* (Інт.). *У першыя тры месяцы знаходжання выхаванца ў дзіцячым доме сямейнага тыпу кантроль ажыццяўляецца* ***не радзей як 1 раз у тыдзень*** (Інт.). Ант. *не часцей як.* Рус. **не реже чем** *скольких единиц* ***в*** *какую единицу исчисления.*

**НЕ РАНЕЙ** *чаго/якога часу* Род. Час.: прыблізны тэрмінатыў з адной дакладнай мяжой: *Вярнуся* ***не раней 3 гадзін.*** **—** *Новая рэдакцыя закона аб друку і іншых СМІ паступіць у парламент* ***не раней 2007 года*** (Інт.). *Падатак на нерухомасць будзе ўведзены* ***не раней 2008 года*** (Інт.). Ант. *не пазней.* Рус. ***не раньше*** *чего/какого времени.*

**НЕ РАНЕЙ** *якога часу* **АД ПАЧАТКУ** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладжн. Час.: прыблізны таксісны тэрмінатыў з адной дакладнай мяжой: *Хворых выпісваюць з бальніцы* ***не раней 28 дня ад пачатку хваробы*** *або на 21 дзень ад паўлення жаўтухі* (Асновы мед. ведаў). Ант. *не пазней ... ад пачатку.* Рус. ***не раньше*** *какого времени* ***от начала*** *чего.*

**НЕ РАНЕЙ ЗА** *які час/што* Він. Час.: прыблізны тэрмінатыў з адной дакладнай мяжой: *У агульнапрынятым цяпер выглядзе падзел на Белую, Чорную і Чырвоную Русь выснаваўся* ***не раней за*** *17 стагоддзе* (Інт.). *Новы закон аб СМІ з'явіцца* ***не раней за 2007 год****?* (Інт.). *Аб'яўлены Еўракамісіяй праект вяшчання на Беларусь пачнецца* ***не раней за травень*** (Інт.). *Італьянская вячэра пачынаецца* ***не раней за 20-ую гадзіну*** (Інт.). Ант. *не пазней за.* Сін. *не раней чым*. Рус. ***не раньше*** *какого времени.*

**НЕ РАНЕЙ ЗА** *колькі адзінак часу* **ДА** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны таксісны тэрмінатыў з адной дакладнай мяжой: *Той, хто знаходзіцца па месцы свайго жыхарства ў дзень выбараў, рэферэндума, мае права* ***не раней за пяць дзён да выбараў***

*прагаласаваць датэрмінова* (Інт.). Сін. *не раней чым за ... да*. Ант. *не пазней за... да.* Рус. ***не ранее*** *скольких единиц* ***до*** *чего*.

**НЕ РАНЕЙ ЗА** *колькі адзінак часу* **ПАСЛЯ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны таксісны тэрмінатыў з адной дакладнай мяжой: *Цяперашні парадак прадугледжвае магчымасць атрымаць расейскае грамадзянства* ***не раней за пяць гадоў пасля падачы*** *адпаведнай заявы* (Інт.). Ант. *не пазней за... пасля.* Рус. ***не раньше*** *скольких единиц* ***после*** *чего*.

**НЕ РАНЕЙ ЧЫМ** *калі* Прысл. Час.: прыблізны тэмпаратыў з адной дакладнай мяжой: *Пост праяўляўся ці ў поўным устрыманні, ці ў штодзённым ужыванні садавіны і гародніны, але* ***не раней чым увечары****, з захадам сонца* («Звязда», 23.02.05). Ант. *не пазней чым.* Рус. ***не раньше*** *чего.*

**НЕ РАНЕЙ ЧЫМ З** *якога часу* Род. Час.: прыблізны тэрмінатыў-тэмпаратыў з адной дакладнай мяжой: пачатковая кропка адлічэння: *Рашэнне аб павышэнні гранічных узроўняў цэн на прыродны газ рэальна ўступіць у сілу* ***не раней чым з 1 лютага 2006 года*** (Інт.). Ант. *не пазней чым з.* Рус. ***не раньше чем с*** *какого времени.*

**НЕ РАНЕЙ ЧЫМ ЗА** *які час* **ДА** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны таксісны тэрмінатыў з адной дакладнай мяжой: ***Не раней чым за год*** *і не пазней чым за месяц* ***да плануемага ад'езду*** *трэба зрабіць свайму выхаванцу ўсе неабходныя прышчэпкі* (Інт.). Ант. *не пазней чым за ... да.* Рус. ***не раньше чем за*** *какое время.*

**НЕ РАНЕЙ ЧЫМ ПРАЗ** *што/колькі адзінак часу* Час.: прыблізны тэмпаратыў з адной дакладнай мяжой: *На ўчастку, дзе ў гаспадыні расла цыбуля, можна высаджваць цыбульныя культуры* ***не раней чым праз 2 – 3 гады*** («Звязда», 23.02.05). *Гэта будзе* ***не раней чым праз 10 гадоў*** («Звязда», 31.05.05). Ант. *не пазней чым праз.* Рус. ***не ранее чем через*** *сколько времени.*

**НЕ РАНЕЙ ЧЫМ ПРАЗ** *колькі адзінак часу* **АД ПАЧАТКУ** *чаго* Він.-Род. Час.: прыблізны таксісны тэмпаратыў-тэрмінатыў з адной дакладнай мяжой: *Асобы, якія перанеслі гепатыт, дапускаюцца да работы на аб'ектах харчавання* ***не раней чым праз месяц ад пачатку хваробы*** (Асновы мед. ведаў). *Дзяцей дашкольнага ўзросту і вучняў першых двух класаў дапускаюць у яслі-сад ці ў школу толькі праз 12 дзён пасля выпіскі з бальніцы ці дамашняй ізаляцыі, г.зн****. не раней чым праз 22 дні ад пачатку хваробы*** (Асновы мед. ведаў). Ант. *не пазней чым праз.* Рус. ***не раньше чем через*** *какое время* ***от начала*** *чего.*

**НЕ РАНЕЙ ЧЫМ У** *чым/якім годзе* Месн. Час.: прыблізны храналагічны тэмпаратыў з адной дакладнай мяжой: *Пакуль будаў-*

*ніцтва яшчэ аднаго перасадачнага пункта плануецца пачаць* ***не раней чым у 2010 годзе*** («Звязда», 12.02.05). Ант. *не пазней чым у.* Рус. ***не раньше чем в*** *каком году.*

**НЕ РАНЕЙ ЯК[1]** *калі/у які час* Прысл. Час.: прыблізны ханалагічны тэмпаратыў з адной дакладнай мяжой: *Аднак Бярнард Стаповіч не называў дакладных датаў, таму можна меркаваць, што асабістае знаёмства магло адбыцца* ***не раней як летам-восенню 1923 года*** («Наша вера»). *Масавыя вывазкі пачаліся* ***не раней як зімою 1940 года****, таму што «живой товар» прызначаўся для працы на шахтах* (Інт.). ***Не раней як учора*** *застрэлілі там мужчыну, які ўначы заголасна хроп* (Інт.). ↔ **Не раней як** (з дзеепрыслоўным зваротам ці даданай часткай). *Я вырашыў ісці ў пачынак* ***не раней, як агледзеўшы ўсё тут****, і пайшоў па алеі* (У.Караткевіч). *Звернешся да мяне* ***не раней, як*** *скончыш будаўніцтва* (Інт.). *Ехаць у Маскву з кнігамі Скарына мог* ***не раней, як кнігі гэтыя надрукаваў*** (Інт.). Ант. *не пазней як.* Рус. ***не раньше*** *чего.*

**НЕ РАНЕЙ ЯК[2]** *колькі адзінак часу* Наз. Прыблізны дыменсіў з адной дакладнай мяжой: *Прадугледжана, што на гарадскіх і прыгарадных маршрутах адхіленне руху аўтобусаў ад раскладу можа быць* ***не раней як 3 мінуты*** *і не пазней як 5 мінут* (Інт.). Рус. **не раньше** *скольких единиц времени.*

**НЕ РАНЕЙ ЯК[3]** *чым* Тв. Час.: прыблізны тэмпаратыў з адной дакладнай мяжой: *Пры ўсёй складанасці і шматпланавасці генезісу архітэктурных формаў дзераўнянскага касцёла яго трэба датаваць* ***не раней, як 1-й паловай XVII ст.*** (Інт.). Ант. *не пазней як.* Рус. ***не ранее чем*** *какой датой.*

**НЕ РАНЕЙ ЯК З[1]** *якога часу* Род. Час.: прыблізны тэмпаратыў з адной дакладнай мяжой: пачатковая кропка: *З сённяшніх назваў нам здаецца, што гісторыя слонімскіх вуліц пачынаецца* ***не раней як з 1945 года*** (Інт.). Ант. *не пазней як з.* Рус. ***не раньше чем с*** *какого времени.*

**НЕ РАНЕЙ ЯК З[2]** *чым* Тв. Час.: прыблізны тэмпаратыў з адной дакладнай мяжой: *... апошнія, згодна з прысудам, адышлі ціхамірна ў нябыт, і калі вернуцца адтуль, то, відаць,* ***не раней як з надыходам Суднага дня*** (Інт.).

Ант. *не пазней чым з.* Рус. ***не раньше чем с*** *чем.*

**НЕ РАНЕЙ ЯК ЗА** *колькі адзінак часу* Він. Час.: прыблізны тэрмінатыў з адной дакладнай мяжой: *Я думаю, – кажа Казлоўскі, –* ***што не раней як за дзесяць год*** (Ю. Монвід (Фр.Аляхновіч). Ант. *не пазней як за.* Рус. ***не раньше чем за*** *какое время.*

**НЕ РАНЕЙ ЯК ЗА** *колькі адзінак часу* **ДА** *чаго* Двухч. Ускладн. Він.-Род. Час.: прыблізны тэмпаратыў-тэрмінатыў-кандытыў

з адной дакладнай мяжой: *Яно* [датэрміновае галасаванне] *праводзіцца* ***не раней як за*** *пятнаццаць дзён* ***да*** *дня галасавання паводле рашэння выбарчых камісіяў суб'ектаў Расейскай Фэдэрацыі* (Інт.). *Паводле Алімпійскіх правілаў, замену ў камандзе, якая ўдзельнічае ў эстафеце, можна праводзіць* ***не раней як за*** *гадзіну* ***да*** *старту* (Інт.). Ант. *не пазней як за ... да.* Рус. ***не раньше чем за*** *скольких единиц* **до** *чего.*

**НЕ РАНЕЙ ЯК ЗА** *колькі адзінак часу* **ПАСЛЯ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны тэмпаратыў-тэрмінатыў-кандытыў з адной дакладнай мяжой: *Узнагароджаныя Ганаровай граматай могуць быць паўторна ўзнагароджаны гэтай граматай за новыя заслугі* ***не раней як за 3 гады пасля папярэдняга ўзнагароджання*** (Інт.). Ант. *не пазней за ... пасля.* Рус. ***не раньше чем через*** *сколько единиц времени/какое время* ***после*** *чего.*

**НЕ РАНЕЙ ЯК ЗА ЧАСОЎ** *каго/чаго* Він. Час.: прыблізны тэмпаратыў адносна канфірматыва: *Хутчэй за ўсё будаўніцтва мураванага замка распачалося* ***не раней, як за часоў князя Вітаўта*** (Інт.). Ант. *не пазней як за.* Рус. ***не раньше времен*** *кого/чего.*

**НЕ РАНЕЙ ЯК КАЛЯ** *якога часу/чаго* Род. Час.: прыблізны тэмпаратыў: *Тут ён будзе* ***не раней як каля поўдня*** (А.Маруа: Інт.). Ант. *не пазней як каля.* Рус. ***не раньше чем около*** *чего.*

**НЕ РАНЕЙ ЯК НА** *што/які час* Він. Час.: прыблізны тэмпаратыў з адной дакладнай мяжой адносна часавага арыенціра: *Вось дарэчы, пры Клінтане было цёпла і снег выпадаў* ***не раней як на*** *Раство* (Інт.). Ант. *не пазней чым на.* Рус. ***не раньше чем на*** *что.*

**НЕ РАНЕЙ ЯК ПА** *чым/па якім часе* Месн. Час.: прыблізны таксісны тэмпаратыў з адной дакладнай мяжой: *А наступіла тое* ***не раней, як па вячэры****, калі ўжо ўсталі ад стала* (Інт.). Ант. *не пазней як па.* Рус. ***не раньше чем после*** *чего*.

**НЕ РАНЕЙ ЯК ПАСЛЯ** *чаго/якога часу* Род. Час.: прыблізны таксісны тэмпаратыў з адной дакладнай мяжой: *Яна замацоўвалася дастаткова павольна й шырока распаўсюдзілася* ***не раней, як пасля смерці Мусіна-Пушкіна*** (Інт.). Ант. *не пазней як пасля.* Рус. ***не раньше чем после*** *чего.*

**НЕ РАНЕЙ ЯК ПРАЗ** *які час/што/колькі адзінак часу* / **НЕ РАНЕЙ ЯК** *адзінак* **ПРАЗ** *колькі* Він. Час.: прыблізны тэмпаратыў-тэрмінатыў з адной дакладнай мяжой: *Уступныя экзамены: вынікі* ***не раней, як праз 4 дні*** (Інт.). *Экспедыцыю з Капэлы там чакалі* ***не раней як тыдні праз тры*** (Інт.). Ант. *не пазней як праз.* Сін. *не раней чым праз*. Рус. ***не раньше чем через*** *какое время.*

**НЕ РАНЕЙ ЯК ПРАЗ** *колькі адзінак часу* **ПАСЛЯ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны тэрмінатыў-тэмпаратыў з ад-

ной дакладнай мяжой: Выпісваюць хворых пасля скурнай і бубоннай чумы **не раней як праз 4 тыдні пасля нармалізацыі тэмпературы** (Асновы мед. ведаў). Ант. *не пазней як праз ... пасля.* Рус. ***не раньше чем через*** *какое время*.

**НЕ РАНЕЙ ЯК ПРАЗ** *колькі адзінак часу* **ПАСЛЯ ТЭРМІНУ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: прыблізны таксісны тэрмінатыў-тэмпаратыў з адной дакладнай мяжой: *Праект можа распачацца* ***не раней, як праз 5 месяцаў пасля тэрміну падачы аплікацыі*** (Інт.). Ант. *не пазней як праз ... пасля тэрміну.* Рус. ***не раньше чем через*** *какое время* ***после срока*** *чего.*

**НЕ РАНЕЙ ЯК У** *які час* Він. Час.: прыблізны тэмпаратыў з адной дакладнай мяжой: *Трэба чакаць заўтра* ***не раней як у абед*** (Інт.). Сін. *не раней чым у*. Рус. ***не раньше чем в*** *какое время.*

**НЕ РАНЕЙ ЯК У КАНЦЫ** *чаго/якога часу* Род. Час.: прыблізны тэмпаратыў з адной дакладнай мяжой: *Кладка яек у вужа пачынаецца* ***не раней як у канцы чэрвеня*** *і нярэдка працягваецца ўсё лета* (навук.). Ант. *не пазней як у канцы; не раней як у пачатку.* Рус. ***не раньше чем в конце*** *чего.*

**НЕ РАНЕЙ ЯК У ДРУГОЙ ПАЛОВЕ** *чаго/якога часу* Род. Час.: прыблізны тэрмінатыў-тэмпаратыў з адной дакладнай мяжой: *Першы выхад сяголетак адзначаецца* ***не раней як у другой палове ліпеня*** (навук.). Ант. *не пазней як у другой палове.* Рус. ***не раньше чем во второй половине*** *чего.*

**НЕ СТАРЭЙ ЗА** *колькі адзінак часу* Він. Характарызатар-прэдыкатыў: квалітатыў з часавым квантытатывам: *За два крокі ад універсітэта, на прыпынку насупраць Дома Саветаў, зусім адкрыта дэгуставалі піва хлопцы,* ***не старэй за дваццаць гадоў*** («Звязда», 22.06.05). Сін. *не больш*. Рус. ***не старше*** *скольких единиц.*

НЕСУВЫМЯРАЛЬНА З/СА *чым*

**НЕ СУПРАЦЬ** *каго/чаго* / *што зрабіць* Род./Інф. Прэдыкатыў: мадалізатар прэдыката: *Галоўнае – прыгажуня* ***не супраць скрасіць*** *сенняшнюю ноч* (А. Казлоў). *Мой пляменнік, які жыве ў Бранскай вобласці, сёлета заканчвае школу і зусім* ***не супраць паступіць*** *у адну з тэхнічных установаў Мінска* («Звязда», 4.01.05). Рус. ***не против*** *что сделать.*

НЕСУРАЗМЕРНА З/СА *чым*

**НЕ Ў** *чым* Месн. Прэдыкатыў: ◊ ***Не ў галаве –*** не з'яўляецца прадметам чыіх-небудзь думак.

**НЕЎЗАБАВЕ ПАСЛЯ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў следавання: *А на турме,* ***неўзабаве пасля «лекцыі»*** *я з голаду выходжу...* («Arche»). *Драматычныя гэтыя падзеі меліся адбыцца*

***неўзабаве пасля Кулікоўскай бітвы*** (К.Тарасаў). *Я трапіў туды (ва Ўкраіну)* ***неўзабаве пасля вызвалення*** *Кіева* (У.Караткевіч). [Валерый] *сустрэўся з сястрой Наталляй, якая* ***неўзабаве пасля развітання*** *атрымала ад яго ліст* (А.Верабей). ***Неўзабаве пасля абароны*** *кандыдацкай дысертацыі мне давялося ўдзельнічаць у навуковай канферэнцыі, што праходзіла ў тагачасным педагагічным інстытуце імя А.М.Горкага* (А.Я.Міхневіч). ↔ **Неўзабаве пасля таго як:** ***Неўзабаве пасля таго як*** *у №11 часопіса «Роднае слова» за 1993 г. з'явіўся мой невялікі артыкул пра М.Кавыля, мяне знайшла бандэроль з ЗША* (М.Скобла). Сін. *адразу пасля*. Рус. ***вскоре после*** *чего.*

**НЕ Ў ЗМОЗЕ** *што зрабіць* Інф. Прэдыкатыў: мадалізатар немагчымасці ў прэдыкаце: *Дрыжучы ад халоднага адчаю і неўразумення – нашто так, каму гэта патрэбна? – ён абняў яе і стаяў доўга,* ***не ў змозе ні пусціць і ні застацца*** (У.Караткевіч). *Я круціў галавою і мыкаў,* ***не ў змозе адбіцца*** *ад кашмарнага цяжкага сну* (У.Караткевіч). Рус. ***не в состоянии*** *что делать*.

**НЕ Ў КАРЫСЦЬ** *каго/чаго* Род. Адверсатыўны бенефіцыянтыў: *У ліпені абстаноўка ў Курляндыі змяніцца* ***не ў карысць паўстанцаў*** (Інт.). Рус. ***не в пользу*** *кого/чего.*

**НЕ Ў ЛАД (Він.) З/СА** *чым* Тв. Характарызатар: рэлят несуладнасці: *Юрка Лявонны... Аўтар шасці зборнікаў пераважна рытарычных вершаў, сярод якіх часам* ***не ў лад з барабанна-барацьбітнай эпохай****, пракідваліся трапныя лірычныя замалёўкі* (М.Скобла). *Ён чамусьці* ***не ў лад са сваім настроем*** *раптам падумаў ...* (В.Быкаў). ◊ ***Не ў лад*** **–** нязладжана, нястройна, не ў адпаведнасці з чым-н. (ТСБМ). Ант. *у лад з/са.* Рус. ***не в лад с*** *чем.*

**НЕ Ў ЛАДАХ (Месн. мн.л.) З/СА** *кім/чым* Тв. Прэдыкат адносін: рэлят несуладдзя, дысанансу: ◊ ***Не ў ладах*** *з кім-чым* – быць не ў згодзе, у дрэнных адносінах (ТСБМ).

**НЕ Ў ЛАДУ (Месн. адз.л.) З/СА** *кім/чым* Тв. Прэдыкат адносін: рэлят несуладдзя, дысанансу: ◊ ***Не ў ладу*** *з кім-чым* – быць не ў згодзе, у дрэнных адносінах (ТСБМ).

**НЕ ЎЛІЧВАЮЧЫ** *каго/чаго* Рэлят выключэння: *Зямлі пад бульбу давалі па пятнаццаць сотак,* ***не ўлічваючы той****, што каля хаты* (з размовы). Сін. *без уліку.* Рус. ***не считая*** *кого/чего.*

**НЕ Ў НАГУ З** *чым* Тв. Характарызатар: рэлят несуладнасці: *На той жа радзе з «масавага ўжытку» быў выкрасаны даволі сціплы, зусім не балбатлівы паэт: ідзе, маўляў,* ***не ў нагу з эпохай*** («ЛіМ»). Рус. ***не в ногу с*** *кем/чем.*

**НЕ Ў ПРАВЕ** *што зрабіць / што зрабіць* **НЕ Ў ПРАВЕ** Інф. Мадалізатар дэантычнай немагчымасці ў складзе прэдыката: *Я* ***абві-***

***няць не ў праве**, я свой гнеў пакінуў, Я **абвіняць не ў праве** – праз мяне ён згінуў...*(А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Рус. ***не вправе** что делать.*

**НЕ Ў ПРЫКЛАД** *каму* Дав. Рэлят параўнання і супрацьлегласці; як правіла, у пабочных словах: *У парку імя Луначарскага 5 мастоў, праз раку Сож – 4. На жаль, у ніводнага з іх (**не ў прыклад братам з Парыжу**) няма сваіх самабытных імёнаў* (Інт.). *Трэба зазначыць, што беларускія прадпрымальнікі, **не ў прыклад іншым дэмпалітыкам**, дзейнічалі як зладжаны механізм* (Інт.). *Усе лічылі сябе ні ў чым не вінаватымі. Яно так і было. Ім не было ў чым каяцца, **не ў прыклад тым,** хто іх садзіў* (В.Шыдлоўскі). *...бацькі наймалі сваіх настаўнікаў граматы ды вучылі дзяцей па хатах на роднай мове. (Не ў прыклад, скажам, сучасным рагачоўскім «патрыёткам», якія на ўсю рэспубліку пракрычалі: «Не пустим детей в белорусскую школу»)* (С.В.Дубянецкі). Сін. *у адрозненне ад.* Рус. ***не в пример** кому.*

**НЕ Ў СІЛАХ (Мн.л.)** *што зрабіць / што зрабіць* **НЕ Ў СІЛАХ** Інф. Прэдыкатыў: мадалізатар алетычнай немагчымасці ў складзе прэдыката: *І, сітка круцячы, як бубен танцаўшчыца, І стукаючы ў такт, **не ў сілах запыніцца**, Давай скакаць праз курак, галубоў і паваў* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Сэрца задрыжэла Ў яе, як слёзы ўбачыла ў вачах хлапчыны, Ды **зразумець была не ў сілах** той прычыны, З якой ён пакахаў і зараз пакідае* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Пасля яе* [Канстытуцыі Еўрасаюза], *па меркаванню сацыялістаў, Францыя апынецца ў падпарадкаванні афіцыйнага Бруселя і будзе **не ў сілах абараніць** сваіх грамадзян* («Звязда», 31.05.05). Сін. *не ў змозе; не ў стане.* Рус. ***не в силах** что сделать.*

**НЕ Ў СІЛЕ (Адз.л.)** *што зрабіць / што зрабіць* **НЕ Ў СІЛЕ** Інф. Прэдыкатыў: мадалізатар алетычнай немагчымасці ў складзе прэдыката: *Стральцы выводзяць коней, пад'язджаюць брычкі, аж двор таго натоўпу **агарнуць не ў сіле*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Рус. ***не в силах** что сделать.*

**НЕЎСПАДОБУ** *каму* Дав. Прэдыкатыў: рэлят адмоўнага стаўлення: *Гэта рэзалюцыя была **неўспадобу бальшавікам**, якія хацелі не рэспубліканскага, а савецкага строю і дыктатуры пралетарыяту* (Кс.В.Гадлеўскі). Сін. *не даспадобы.* Рус. ***не по нутру** кому.*

**НЕ Ў СТАНЕ** *што зрабіць* Інф. Прэдыкатыў: мадалізатар алетычнай немагчымасці ў складзе прэдыката: *Зразумела, што ў такіх умовах не можа існаваць дабро, яно проста **не ў стане прыжыцца*** (В.Быкаў). *Прырода гэтага даверу мусіць разглядацца не ў сферы веры як такой, а выключна ў рэлігійных тэрмінах, яна гэтаксама не мае ў падмурку ніякай нацыянальнай ідэі, як гэта было, напрыклад,*

*у немцаў перыяду нацыстаў, бо рускія, насамрэч, **не ў стане** выразна **патлумачыць** адчуванне сваёй расавай переваґі* (А.Андрыеўская). *Некалькі пакутных хвілін яна корчылася на сундуку ад бездапаможнасці і крыўды, **не ў стане зразумець**, чаму яны такія ўпартыя ў гэтым відавочным і пагібельным сваім намеры?* (В.Быкаў). Рус. ***не в состоянии** что сделать.*

**НЕ ХУТЧЭЙ ЧЫМ ЗА** *колькі адзінак часу* Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + час.: дыменсіў-патэнсіў: *Святло ад Проксімы Цэнтаўры ляціць да нас 4 гады і 4 месяцы, а сучасныя ракеты могуць даляцець да яе **не хутчэй чым за 1 млн. гадоў*** (падручн.). Ант. *хутчэй чым за.* Сін. *даўжэй чым за*. Рус. ***не быстрее чем за** сколько единиц времени.*

**НЕ ЧАСЦЕЙ ЗА** *колькі адзінак* **НА** *якую адзінку адлічэння* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + час.: дыменсіў-дыстрыбутыў: *Найрадзей карыстаюцца сеціва бухгалтары: толькі адна студэнтка ходзіць ў інтэрнэт штодзённа, а 83 % бываюць ў ім **не часцей за некалькі разоў на год*** (Інт.). Ант. *не радзей за ... на.* Рус. ***не чаще** скольких единиц* **в** *какую единицу исчисления.*

**НЕ ЧАСЦЕЙ ЗА** *колькі адзінак* **У** *якую адзінку адлічэнння* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + час.: дыменсіў-дыстрыбутыў: *Вырашэнню праблемы спрыяла б публікацыя каментарыя да дакумента, дзе б рэгламентаваўся ўдзел вучняў малодшых класаў у агульнашкольных мерапрыемствах. Напрыклад, правядзенне мерапрыемства для пачатковай школы **не часцей за адзін раз у месяц** і толькі па жаданню дзяцей* (Інт.). Ант. *не радзей за ... у.* Рус. ***не чаще** скольких единиц **в** какую единицу исчисления.*

**НЕ ЧАСЦЕЙ ЧЫМ** *колькі адзінак* **У** *якую адзінку вымярэння* Наз.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + час.: дыменсіў-дыстрыбутыў*: **У тых, хто часцей чым адзін раз на тыдзень** еў смажаную рыбу, рызыка інсульту павышалася на 37 працэнтаў у параўнанні з удзельнікамі, якія спажывалі смажаную рыбу **не часцей чым адзін раз у месяц*** («Звязда», 9.02.05). Ант. *не радзей чым ... у.* Рус. ***не чаще** скольких единиц **в** какую единицу исчисления*.

**НЕ ЧАСЦЕЙ ЯК** *колькі разоў* **НА** *колькі адзінак* Він.-Він. Час.: дыменсіў-дыстрыбутыў: *Канферэнцыі такога кшталту на інтэлектуальным і агульнаметадычным узроўні ў Расіі ўдаецца правесці **не часцей як раз на год-два*** («Культура», 30.09.94). Ант. *не радзей як ... на.* Рус. ***не чаще** скольких единиц **на** какую единицу исчисления*.

**НЕ ЧАСЦЕЙ ЯК ПРАЗ** *колькі адзінак часу* Він. Час.: тэрмінатыў-дыстрыбутыў: *Яна падавала свой голас* ***не часцей, як праз паўгадзіны*** *кожны раз* (К.Чорны). Сін. *амаль праз ...кожны раз.* Рус. ***не чаще чем через*** *сколько единиц времени.*

**НЕШТА БЛІЗКА ДА** *каго/чаго* Род. Рэлят няпэўнага прыраўнівання: *Проста, з 18-ці гадоў захапляўся экзатычнымі рэлігіямі, быў* ***нешта блізка да крышнаітаў*** (А.Гаўрон). Сін. *дзесьці блізка да*. Рус. ***что-то вроде*** *кого/чего.*

**НЕШТА ЗА** *колькі адзінак часу* **ПЕРАД** *чым* Він.-Тв. Час.: няпэўны тэмпаратыў: *Недзе ў мяне захаваўся прысвечаны пытанням беларускай культуры нумар часопіса «Сыгналы», выдадзены* ***нешта за два-тры тыдні*** *ці за месяц* ***перад самай вайной****, дзе надрукаваны артыкул Дрэмы пра беларускае мастацтва* (М.Танк). Сін. *прыкладна за ... перад*. Рус. ***где-то за*** *какое время* ***перед*** *чем.*

**НЕШТА КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны квантытатыў: *Ужо асушана* ***нешта каля пяцісот гектараў****, а экскаватарчыкі нястомна ўсё ідуць, усё чэрпаюць глыбінныя пласты палескай зямлі* (П.Пестрак). ТСБМ – прысл. у спалуч. з прыназ. Сін. *дзесьці каля.* Рус. ***что-то около*** *скольких единиц.*

**НЕШТА КРЫШАЧКУ БОЛЬШ ЧЫМ** *колькі адзінак часу* **ТАМУ НАЗАД** Наз. Час.: прыблізны тэмпаратыў папярэднасці з дакладнай ніжняй мяжой адносна цяперашняга часу: *Здаецца, і першы вальны сейм у Польшчы быў не так даўно – у 1493 годзе, ледзь не ў год нараджэння Францыска, і канстытуцыю «Nihil novi»* ***нешта крышачку больш чым дзесяць гадоў таму назад*** *прынялі, а вось як ужыўся ўжо ў свае вольнасці, у сваю свавольнасць пан шляхціц Твардоўскі...* (А.Лойка). Рус. ***где-то чуть более*** *скольких единиц* ***тому назад.***

**НЕШТА КШТАЛТУ** *чаго* Род. Рэлят няпэўнага прыраўнівання: *Гэна было* ***нешта кшталту абмену****, даніны, якую яна мусіла сплаціць, каб пачуць падобныя гісторыі ад іншых* («Arche»). Рус. ***что-то вроде*** *чего.*

**НЕШТА НАКШТАЛТ**[1] *чаго* Род. Рэлят няпэўнага параўнання пры ідэнтыфікацыі прадмета ці з'явы: *Часам, апынуўшыся на тэрыторыі жаданай суседняй краіны, ен адчуваў, быццам трапіў у пастку – на ўскрайку лесу, у старым аўтамабілі, хаваўся паліцыянт з радарам, а ў бліжэйшым мястэчку паліцэйскі патруль браў штраф амаль з кожнага, бо каму прыйдзе ў галаву ехаць праз лес з хуткасцю 40 км/г –* ***нешта накшталт*** *славутага славянскага* ***«гасцінца»,*** *які нясуць, ідучы ў госці.* (К.Чыжэўскі. Пер. А.Скурко). *А іх марскіх вожыкаў мора выкатвае. Толькі іхнія касцячкі.* ***Нешта***

***накшталт круглай каробачкі*** *з адтулінай* (У.Караткевіч). *Дзядзька прыладзіў каля зямлянкі* ***нешта накшталт верстака****, нарыхтаваў алешыны і пачаў рабіць ночвы* (Я.Брыль).↔ **Нешта накшталт таго, што, як / які** (злучальн. сл.) і інш. *Паэт упарціўся ў пытаннях тэрміналогіі ці азначэння,* ***нешта накшталт таго, у якіх*** *выпадках пісаць «уз'яднанне», а ў якіх «далучэнне»* (А.Ліс). Сін. *нешта нападобе*. Рус. ***что-то вроде*** *чего.*

**НЕШТА НАКШТАЛТ[2]** «*што*» Наз. Анамасіятыў: «*У адной невялікай паводле еўрапейскіх сумераў канстытуцыйнай манархіі насельніцтва складалася...» Адразу згадваецца* ***нешта накшталт*** *«у тры-дзевятым царстве...» Узнікае спадзяванне на цікавае падарожжа, непасрэдны ўдзел у дзівосных падзеях* (Л.Алейнік). *У мясцовым рэстаране часта гучаў вокліч: «Айн оф цін бомбала!», а чулася як: «Ай гофцы бомбала!» Слова ў слова гэтае выслоўе не перакласці, азначала ж яно* ***нешта накшталт – гуляй, за ўсе заплачана****!* (А.Гаўрон).↔ **Нешта накшталт таго, што.** *Айцец Леанард Жыховіч вёў бяседу, амаль хатнюю і душакарысную, з дружкамі і будучымі маладажонамі ...* ***нешта накшталт таго, што*** *яны павінны ўсур'ёз падумаць, пакуль не позна, бо касцёл разводу не пры-знае і, значыць, гэта на ўсё жыццё* (У.Караткевіч). Сін. *штосьці накшталт.* Рус. ***что-то вроде*** *чего.*

**НЕШТА НА МАНЕР** *чаго* Род. Рэлят няпэўнага прыраўнівання: *Кніжачка Зьміцера Пляна называецца «Таксыдэрмічны практыкум», нешта* ***на манер навуковага рэферата*** («ЛіМ», 05.03.04). Сін. *штосьці накшталт*. Рус. ***что-то вроде*** *чего.*

НЕШТА НАПАДОБЕ *чаго*

**НЕШТА ПАД** *колькі адзінак часу* Він. Прыблізны квантытатыў: няпэўны тэмпаратыў: *Штодня* ***нешта пад восем гадзін*** *па нашу брыгаду ў Лазюкі прыязджаў грузавік* (Вышынскі: ТСБМ).Рус. ***где-то под*** *что.*

**НЕШТА ПРАЗ** *колькі адзінак часу* **ПАСЛЯ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: няпэўны тэмпаратыў: ***Нешта праз паўгода пасля таго****, як прыйшлі з лесу, віхурным зімовым вечарам ён завёз жонку ў радзільны дом* (І.Мележ).↔ **Нешта праз ... пасля таго як.** Рус. ***где-то через*** *какое время* ***после*** *чего.*

**НЕШТА Ў КАНЦЫ** *чаго* Род. Няпэўны тэмпаратыў: *Супрацоўнік «Вожыка»,* ***нешта ў канцы саракавых гадоў****, вяртаючыся з палескай камандзіроўкі, маючы ў Баранавічах тры гадзіны да мінскага цягніка, я павагаўся трохі і пазваніў яму* [Царуку] *дахаты* (Я.Брыль). Сін. *недзе ў канцы.* Рус. ***где-то в конце*** *чего.*

**НЕ ШЫРЭЙ** *чаго/колькіх адзінак* Род. Квантытатыў: *На вузенькай, цеснай вуліцы, дзе панель* ***не шырэй метра****, бегчы стала яшчэ цяжэй* (Новікаў: ТСБМ). Сін. *да.* Рус. ***не шире*** *чего/скольких единиц.*

**НЕЯК НА ЗЫХОДЗЕ** *чаго* Род. Час.: няпэўны тэмпаратыў: *Пачалося з таго, што* ***неяк на зыходзе мінулай зімы*** *ў акно хаты Галубіных ціхенька пастукалі ноччу (*В.Быкаў). Рус. ***как-то на исходе*** *чего*.

**НЕЯК НЕЎЗАБАВЕ ПАСЛЯ** *чаго* Род. Час.: няпэўны тэмпаратыў адносна пачатковай кропкі: ***Неяк неўзабаве пасля вяселля*** *мы са старшынёй выканкама заглянулі ў яго дом – павіншаваць маладых* (І.Шамякін). Сін. *аднойчы неўзабаве пасля.* Рус. ***как-то сразу после*** *чего.*

НІЖАЙ *колькіх адзінак*

**НІЖЭЙ-1** *колькіх адзінак* Род. Квантытатыў: *Нават у цяні дрэў ноччу тэмпература паветра не апускалася* ***ніжэй трыццаці градусаў*** («Рэспубліка», 05.03.99). *Карлікавы рост, або нанізм (****ніжэй 135 см****), бывае пры зніжэнні функцыі пярэдняй долі гіпофіза ў перыяд росту арганізма* (Асновы мед. ведаў). *Тэмпература кіпення вышэй 140*С. Тэмпература замярзання* ***ніжэй –40 °С*** (Асновы мед. ведаў). ***Ісці ніжэй трох долараў*** *прадавец яўна не хацеў* (В.Вольскі). Сін. *менш.* Рус. ***ниже*** *скольких единиц.*

**НІЖЭЙ-2** *чаго* Род. Рэлят параметрычнага прыраўнівання:

- колькаснага: *Згодна з уяўленнямі вучоных МКРА аб тым, што не існуе поўнасцю бяспечнай парогавай* ***дозы, ніжэй якой*** *пранікальная радыяцыя не аказвае шкоднага ўздзеяння, можна меркаваць, што аддаленыя вынікі могуць узнікаць ад апраменьвання не толькі вялікімі, але і малымі дозамі* (Асновы мед. ведаў). Сін. *менш*. Рус. ***ниже*** *скольких единиц;* ***меньше*** *скольких единиц;*

- градацыйнага: *Па выражанасці ацёку падскурнай клятчаткі адрозніваюць тры ступені таксічнай дыфтэрыі: 1) ацёк да сярэдзіны шыі; 2) ацёк да ключыцы; ацёк* ***ніжэй ключыцы*** (Асновы мед. ведаў). *Паўднёвы палярны круг – гэта паралель у Паўднёвым паўшар'і, на якой Сонца знаходзіцца* ***ніжэй гарызонту*** *ўвесь дзень 22 чэрвеня* (падручн.). *Яе каса залатога колеру і цяжкая, як золата, падала* ***ніжэй каленяў*** (І.С.Тургенеў). *Кастусь нядаўна дэмабілізаваўся, прыйшоў «па чыстай» дадому з прычыны ампутацыі правай рукі* ***ніжэй локця*** (А.Васілевіч). ***Ніжэй могілак****, недзе вельмі блізка ад нас, абвальваецца ў ручай надмытая вадою берагавіна* (А.Савіцкі). *Набедранік – частка адзення святара ў выглядзе парчовага прамавугольніка, якая носіцца на баку* ***ніжэй пояса*** (ТСБМ). Сін. *ніжэй узроўня*. Рус. ***ниже*** *чего;*

- прасторавага: *Паводле акупацыйнага падзелу ўсё Палессе* ***ніжэй Прыпяці*** *адносілася да гэбітскамісарыята Украіны* (А.Гаўрон). *На працягу шасцісот кіламетраў сваёй плыні, ад аколіц гарад-*

*ка Докшыцы, дзе яна пачынаецца, і да Дняпра, **ніжэй горада** Рэчыцы, цячэ Бярэзіна па беларускай зямлі* (В.Вольскі). ***Ніжэй гэтага месца** паказалася з вады круглая і цёмная галава бабра* (В.Вольскі). ***Ніжэй Крэўскае брамы** – праваруч – будзе піўнічка, дзе перад сваім ад'ездам у Прагу тры гады таму назад ён Скарына давяршаў справы з Багданам Онкавым, Якубам Бабічам* (А.Лойка). Сін. *на поўдзень ад*. Рус. ***ниже** чего; **южнее** чего.*

*колькімі адзінкамі/чым* **НІЖЭЙ** Тв. Пастпазіц. Лакатыў: ***Некалькімі старонкамі ніжэй** Леві апавядае выпадак, які здарыўся з ім асабіста: аднойчы, калі вязні зусім засмяглі, ён выдабыў крыху вады, але падзяліўся толькі з найбліжэйшым сябрам, а з іншымі – не* (Ц.Тодараў. Пер. А.Дынько). *Грынкевіч узяў з ложка букет мімозы, выйшаў і спусціўся па сходах **паверхам ніжэй*** (У.Караткевіч). Сін. *на*. Рус. *скольким единицами **ниже.***

**НІЖЭЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Праўда, цыкламен сонца прамое не пераносіць. Як і скразнякі, холад (**ніжэй за 17 градусаў**) і перапады тэмператур* («Звязда», 4.01.05). *Неабходна пастаянна сачыць за ціскам, імкнуцца да таго, каб паказчык быў **ніжэй за 140 на 90*** («Звязда», 9.02.05). *Рэле, якія спрацоўваюць пры ўзрастанні кантралюемай велічыні вышэй за намінальнае значэнне, называюцца максімальнымі; рэле, якія спрацоўваюць пры змяншэнні кантралюемай велічыні **ніжэй за намінальнае значэнне**, – мінімальнымі* (падручн.). *Разраджаць акумулятар **ніжэй за 1,85 В** нельга, бо пры гэтым дробназярністы сульфат неабарачальна ператвараецца ў буйнакрышталічны, і акумулятар псуецца* (падручн.). *Слаі вады, ахалоджаныя **ніжэй за 4 °С,** застаючыся ля паверхні, ахалоджваюцца ўсё больш і больш і нарэшце замярзаюць* (падручн.). Сін. *ніжэй*. Рус. ***ниже** скольких единиц.*

**НІЖЭЙ ЗА АДЗНАКУ** *колькі адзінак/колькіх адзінак* Наз./Род. Прыблізны дыменсіў з дакладанай верхняй мяжой: *Да парога новага тысячагоддзя мы прыйшлі з несуцяшальнымі лічбамі: у 2000-м колькасць насельніцтва Беларусі упершыню апусцілася **ніжэй за адзнаку 10 мільёнаў*** (Інт.). Рус. ***ниже отметки** сколько единиц.*

**НІЖЭЙ ЗА РОВЕНЬ** *што* Він. Рэлят параметрычнага прыраўнівання: эквівалент квантытатыва: *Хто самы славуты з французаў? Напалеон, што знайшоў апошні прыстанак у доме Інвалідаў, дзе ягоны саркафаг з чырвонага парфіру змушае кожнага наведніка пакланіцца, бо стаіць **ніжэй за ровень падлогі**?* (У.Арлоў). Сін. *ніжэй узроўню*. Рус. ***ниже** чего.*

**НІЖЭЙ УЗРОЎНЮ** *чаго* Род. Рэлят колькаснага параўнання: *Падземная частка помпавай станцыі размесціцца **ніжэй узроўню вады** ў Дзвіне, яе трэба агарадзіць ад грунтовых вод* (Т.Хадкевіч).

**НІЖЭЙШЫ/АЯ/ОЕ/ЫЯ ЗА** *якую колькасць* Він. Характарызатар: рэлят колькаснага параўнання: *Пры рэалізацыі тавараў (работ, паслуг) уласнай вытворчасці па цэнах **ніжэйшых за іх сабекошт** падатковая база вызначаецца зыходзячы з цаны рэалізацыі такіх тавараў (работ, паслуг)* («Звязда», 4.01.05). Сін. *ніжэй*. Рус. ***ниже** скольких единиц.*

**НІЖЭЙ ПА** *чым* Месн. Прастор.: лакатыў: *Ён украінец. Яны таксама па Дняпры. **Ніжэй па плыні*** (У.Караткевіч). Рус. ***ниже по** чему.*

НІЗКА АД *чаго*

**НІЗКА ДА** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Нізка да зямлі* (ППШ). Без кантэкста. Рус. ***низко до** чего.*

**НІЗКА К** *чаму* Дав. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Жыта **нізка к долу** нахіляецца* (нар. песня: ТСБПШ). ТСБПШ – прыназоўнік *к*. Рус. ***низко к** чему*.

**НІЗКА НАД** *кім/чым* Тв. Прастор.: лакатыў: ***Нізка над вадою** лятаюць ластаўкі* (В.Вольскі). ***Нізка над** зарослым дзікім кменам **надворкам...** шмыгала чорна-сіняватая ластаўка, падымалася ўгору над плотам, мігаючы чырвоным воллем* (В.Адамчык). *Нават летам награванне паверхні нязначнае, паколькі Сонца стаіць **нізка над гарызонтам*** (падручн.). *Юпітэр з'яўляецца пад раніцу ў сузор'і Скарпіёна **нізка над гарызонтам*** («Родны край-2007»). Рус. ***низко над** кем/чем*.

**НІЗКА ПАД** *чым* Тв. Прастор.: лакатыў: *Круга вушэй і **нізка пад вушамі** ў яго* [воўка] *стала рабіцца жоўта; пад жыватом поўсць сівела і выпадала* (І.Пташнікаў). Рус. ***низко под** чем*.

**НІ ПА** *чым* Месн. Прэдыкатыў: ◊ ***Ні па чым*** (ніпачым) ━ *Ім усё **ні па чым.** Ім не ўласціва пачуццё спагадлівасці* (С.Майхровіч: ППШ).

**НІ Ў** *што* Він. Квалітатыў: ◊ ***Ні ў зуб*** – нічога не разумее.

**НІЯК НЕ БОЛЬШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Я мяркую так таму, што не часта бывае ў такім закутку паўналецце адзінай наследніцы маярату, і ўсё ж праз два дні ў Балотныя Яліны з'ехалася **ніяк не больш чатырох дзесяткаў** чалавек* (У.Караткевіч). Рус. ***никак не более** скольких единиц.*

**НІЯК НЕ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Чорт ведае, які дурань вырашыў насаджаць у такім змрочным месцы яліны, але гэта было зроблена, і дрэвы, якім было **ніяк не менш за сотню год**, зрабілі мясцо-*

*васць толькі трошкі больш прыемнай, ніж славуты лес у Дантэ* (У.Караткевіч). Рус. ***никак не меньше*** *скольких единиц*.

**НЫ** Фанетычны варыянт **НА**. *Ужо вербіч* ***ны дваре****, чіряз тыдзень будзіць вербныя нядзеля* (дыял.; Клім.).

**НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА** *што* Він. Уступальн.: ***Нягледзячы на*** *ўсю* ***даўнасць*** *самой з'явы, навуковае ўяўленне аб словаўтваральным ланцужку сфарміравалася параўнальна нядаўна* (навук.). *Мы былі поўныя надзеі і,* ***нягледзячы на беднасць****, верылі ў будучыню* (І.Шамякін). ***Нягледзячы на «прысутнасць»*** *у беларускай нацыянальнай літаратуры Міхася Лынькова і Івана Шамякіна, Івана Мележа і Васіля Гурскага, а потым – Васіля Быкава, Міколы Лобана, Івана Чыгрынава – ён, Іван Навуменка, заявіў сябе ў творчасці самай «балючай», актуальнай і вечна бессмяротнай тэмай – тэмай вайны* («Звязда», 15.02.05). *Асноўная яго* [А.Я.Багдановіча] *праца – двухтомная манаграфія «Мова зямлі» і напісаны на яе тэарэтычнай аснове ў 30-я гады нашага стагоддзя «Этнічны склад народаў славянскіх і рускіх» у 2-х тамах –* ***нягледзячы на абяцанні*** *савецкіх чыноўнікаў, так і засталася ў рукапісах* («Гарадзенскія запісы», 1993 вып.1). *Мы сваёй працай даказалі: культура,* ***нягледзячы на шматлікія цяжкасці****, можа і павінна зарабляць грошы* (Р.Марчук). ↔ **Нягледзячы на тое што.** ТСБПШ – спалуч. дзеепрысл. з прыназ. у знач. прыназ.; ТСБМ – прыназ. Сін. *насуперак*. Рус. ***несмотря на*** *что*.

**НЯГЛЕДЗЯЧЫ НІ НА** *што* Він. Уступальн. + інтэнсіў: *І ўсё ж,* ***нягледзячы ні на што****, трэба працаваць і верыць, што пасеянае табой рана ці позна ўзыдзе* (А.Рыбак). ***Нягледзячы ні на якія абставіны****, ён ніколі не губляў надзеі на Бога і заўсёды маліўся: у вязніцы, у лагерах, у шпіталі...* («Наша вера»). *Прафесар крумкач, публічна абсароміўшыся два разы, зашыўся ў густы лес і ўсё*

*круціць мазгі над пытаннем: чаму гарыць балота,* ***нягледзячы ні на якія перашкоды*** (Я. Колас). «*У час «Salve Regina», што спяваем пасля камплеторыя, усе павінны прысутнічаць,* ***нягледзячы ні на ранг, ні на стан і ні на якія-небудзь іншыя прычыны*** («Наша вера»). Рус. ***несмотря ни на*** *что*.

**НЯЗГОДНА З** *кім/чым* Тв. Рэлят нятоеснасці, неадпаведнасці: *Вельмі мне прыкра, што* ***нязгодна з праўдай*** *падалі маю нацыянальнасць і памылкова шмат іншых фактаў* (Інт.). *Але ў дамовах прадугледжана, што, калі іх будуць выкарыстоўваць* ***нязгодна з дамоўленасцямі****, то Польшча можа патрабаваць іх вярнуць* (Інт.). *Я лічу, што ўсё робіцца нязгодна з тымі праектамі, якія былі апрацаваныя, узгодненыя і зацверджаныя* (Інт.). *Жыццё і палітыка Рэспублікі Беларусь у польскіх сродках масавай інфармацыі паказва-*

*юцца ўвесь час маргінальна і аднабакова, нязгодна з праўдай* (Інт.). *За выдаткоўванне дзяржаўных грошай* ***нязгодна з мэтаю*** *польскае МУС пакарала Грамадска-Культурнае Таварыства* (Інт.). Сін. *неадпаведна.* Рус. ***не в соответствии с*** *чем.*

**НЯМНОГА-НЯМАЛА** *колькі адзінак* Наз. Квантытатыў + рэлятар дакладнасці: *І так на сукны і аксаміты і на ўсе іншыя розныя каралеўскія патрэбы каралём было ўзята ў ліхвяра* ***нямнога-нямала 5 000 коп, і 600 коп, і 30 коп і пяцьдзесят грошаў*** (А.Лойка). Рус. ***ни много ни мало*** *сколько единиц.*

## О

**ОБАК** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***Обак калідора*** *камеры відны* (Я.Колас: ТСБПШ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; устар. і абл. Рус. ***обочь.***

**ОКАЛА** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў. Русізм (ППШ). Рус. ***около.***

## П

***ПА*** ТСБПШ; ТСБМ – прыназоўнік.

**ПА[1]-1** *што* Він. Крытэрый: рэлят колькаснага прыраўнівання ўзроўню чаго-небудзь (вады, травы і інш.) адносна цела чалавека ці іншай істоты: *Вада* ***па костачкі / па калені / па пояс / па шыю / па вушы*** (але: *з галавою/з галоўкаю*). *Снег* ***па пояс***. ━*Стаміўшы голле духатою, Ліпнёвы дзень, як звон, стаяў: Жыты* ***па плечы****, травы ў пояс, Лісты па сажню выганяў* (М.Лужанін). *Клуня блізка, і на сене можна добра адпачыць, чым вы мелі* ***па калені*** *гразь папоцемку мясіць* (Я.Колас). *А ночы насталі цёмныя, так і глядзі, каб не напароцца вокам на яловы сучок, не правеліцца* ***па пахі*** *ў ваду* (А.Карпюк). // *Глыбока – жабе* ***па калена.*** *Кавалер – старому кату* ***па калена****. Кату* ***па пяту****, пчале* ***па крылле****, сабаку* ***па хвост****. Кату* ***па пяту****, раку* ***па вусы****.* ***Па вушы*** *ўлез. Наеўся* ***па самае не хачу / па самае горла****. Уваліўся* ***па самыя нікуды / па самыя годзі****.* ◊ ***Па канец рук*** – абы як, неахайна.━*Калі ў нас* ***па канец рук*** *усё будзе ісці, дык як жа мы нават тых людзей, што ідуць да нас з вёскі, пераварым у сваім катле!..* (К.Чорны). Сін. *на ўзроўні; ў*. Рус. ***по*** *что* (*колено /пояс / уши*); ***до*** *самых подмышек.*

**ПА[1]-2** *каго/што* Він. Аб'ект-фінітыў: *Паехаць* ***па лекара. ****Пайсці* ***па ваду****.* ━ *Хто гэта казаў, – Спяранскі, здаецца? – што законы знарок трэба пісаць незразумела, каб народ звяртаўся* ***па тлума-***

***чэнні** да начальства* (У.Караткевіч). *Па сынах, што стаяць **па шчасце** ў чарзе, матчынай трывозе балюча, Як слязе на лязе* (Р.Барадулін). // *Адным возам **па піва** едуць. Пайшоў **па розум** да галавы. Еду **па жонку пятую**; судзі, божа, **па дзесятую***. Сін. *за*. Рус. ***за** кем/чем.*

**ПА[1]-3** *што/якi час* Він./Прыслоўе. Час.: тэрмінатыў-дыменсіў: *Веру дрэву, веру зверу, веру грому і дажджу ... А каму **па смерць** не веру – ў бітве ворагу скажу* (К.Кірэенка: ТСБПШ). *I вось таго Менску амаль не засталося. Засталіся куточкі. I яны мне **па сёння** вельмі дарагія* (В.Тарас). *Тут, у Францыі, больш за сто гадоў таму з'явіліся крытыя аўто, а я і **па сёння** не маю накрыцця* (Л.Дранько-Майсюк). *I **па сёння** ў парку выразна акрэслены асноўныя кампазіцыйныя элементы* (В.Кавалёў). *Дыфузію пачуццяў з адной літаратуры ў другую **па сёння** вядзе Караткевіч* (С.Панізьнік). ◊ ***Па век вякоў!*** Сін. *да*. Рус. ***до** чего/каких пор.*

**ПА[1]-4** *што* Він. Прастор.: лакатыў; ТСБПШ: у складзе прыназоўнікавых спалучэнняў са словамі *бок, старана, край, рука, бераг,* пры якіх ёсць азначэнні *той, гэты, адзін, другі, правы, левы, абодва***.** Гл. адпаведныя артыкулы Рэестра з названымі спалучэннямі.

**ПА[1]-5** *колькі адзінак / адзінак* **ПА** *колькі* Він. Дыстрыбутыў; з лічэбнікамі пры адуш. і неадуш. назоўніках: *Ісці **па два-тры чалавекі**. **Па пяць шчупакоў** лавілі.* ▬ *I такія трывалыя выходзілі граблі – **гады па тры** служылі* (М.Лынькоў: ТСБПШ). ▶*Хто злічыць, **па колькі** друг дружку цалуе..?* (Я.Купала). *Тут – хата ў хату, паглядзець, **па шэсць, па сем акон**, над кожным дахам медзь заводзіць перазвон* (А.Астрэйка). // *Усім будзе **па сем**, але нікому восем. Пайшлі ўгару – **па два** на шыбеніцу.* Рус. ***по** сколько/чему.*

**ПА[2]-1** *чаму* Дав. Аб'ектн.: нерухомы інструментыў-паверхня: *Пісаць чорным **па беламу***. ▬ *Так мы стаялі перад разьбой **па дрэву** выдатнага скульптара Віта Ствоша* (Я.Брыль). *На двух слупах прымацаваны шчыт, на якім прыгожа – белым **па чорнаму** – напісана...* (Я.Брыль). ТСБПШ – адхіленне ад літ. нормы. Рус. ***по** чему*.

**ПА[2]- 2** *чаму* Дав. Прастор.: транзітыў: *Імчыць ён **па** светламу **полю** імкліва* (А.Куляшоў). *Ён адыходзіць ад акна і паволі шнуруе ад сцяны да сцяны **па свайму пакойчыку*** (Я.Колас). *Стары клён **па ствалу** аброс лістамі* (Я.Брыль). // ***Па коллю** вочы ходзяць*. *Ой, пасею сваё гора **Па чыстаму полю***. Сін. – форма тв. без прыназ. ТСБПШ – адхіленне ад літ. нормы. Рус. ***по** чему.*

**ПА[2]- 3** *чаму* Дав. Прастор.: лакатыў; з квантарамі ўсеахопнасці: // *Няхай гавораць, няхай сачуюць Хоць **па цэламу свету.** Гэтага цвету – **па ўсяму свету.** Каб па табе хвала **па ўсяму свету** гула*. Сін. *на ўвесь...* Рус. ***на весь** что.*

**ПА²-4** *чаму* Дав. Прастор.: дырэктыў: *Накіроўвацца* ***па маршруту*** (ППШ). *Смерць кацілася* ***па жывому следу*** *бомб, траншэй, варожых куль...* (А.Куляшоў: ТСБПШ). *Справа* ***па барту*** *– Жыгулі* (Я.Брыль). // ***Па ветру*** *дзержыць нос.* ТСБПШ – радзей у адз. л. Рус. ***по*** *чему.*

**ПА²-5** *чаму* Дав. Крытэрый-рубрыкатыў: *Таварыш* ***па інстытуту***. - *Сябра* ***па калгасу*** (ППШ). *У дарозе мы выпадкова сустрэліся з сябрам нашага доктара Шастры* ***па медыцынскаму інстытуту*** (Я.Брыль). *У шэрай цяцёркі* ***па пісьму*** *– пяцёркі* (В.Вітка). Рус. ***по*** *чему.*

**ПА²-6** *каму/чаму* Дав. Крытэрый-спосаб: *Зразумела, што складанне зборніка* ***па тэматычнаму прынцыпу*** *выклікала пэўныя цяжкасці* (Ф.Янкоўскі). *У календары змяшчаюцца на кожны дзень года моманты ўсходу і захаду Сонца* ***па паясному часу*** («Родны край-2007»). Сін. *паводле.* Рус. ***по*** *чему.*

**ПА²-7** *чаму* Каўзатыў-падстава: *Вядомы* ***па перыядычнаму друку*** (ППШ). *Бадай што толькі* ***па голасу*** *Алесь пазнаў Гелену Карыцкую* (У.Караткевіч). ◊ ***Па праву.*** ▬ *Я не аб тым, што называюць славай, Хачу сказаць сягоння, дружа мой, Хоць і яна нам дадзена* ***па праву*** *Самім жыццём, гісторыяй самой* (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). // *Карову* ***па ведаму*** *купляй. Я то не* ***па каню****, не* ***па аглоблях – па справядлівасці.*** Сін. *на падставе.* Рус. ***по*** *чему.*

**ПА²-8** *чаму/колькі часу* Дав. адз. л. Час.: дыменсіў-патэнсіў: *Не палілі ў печы* ***па году*** (ППШ). *Калі мне бывала весела, калі мне бывала радасна, я часта* ***па цэламу месяцу*** *твайго не знаходзіў адрасу* (П.Панчанка). Рус. форма тв. без предлога (*не топили в печке* ***годами***).

**ПА²-9** *чаму/колькі часу* Дав. адз. л. Час.: дыменсіў-дыстрыбутыў: *Шмат у нас гарадоў, шмат яшчэ паўзнімаецца – толькі ў кожным пажыць мне* ***па году*** *жадаецца* (П.Броўка: ТСБПШ). *Казаў мне калісьці зямляк, сябар з суседняй вёскі: – Па сорак пяць пражылі мы, браце Іване,* ***па добраму валоваму вяку*** (Я.Брыль). Рус. ***по*** *чему/ сколько единиц времени.*

**ПА²-10** *чаму* Дав. адз. л. Аб'ектн.: дэлібератыў: *Сум* ***па дому*** (ППШ). ***Па лету*** *ў полі дні галосяць, і хмелем кветак брэдзяць ночы* (У.Хадыка). ***Па партызану*** *будзе бедаваць і безуцешна слёзы ліць старая маці, а* ***па казаку*** *дзяўчына чорнабровая тужыць* (М.Танк: ТСБПШ). // *Кожнаму дразду жаль* ***па свайму гнязду***. Сін. *аб.* Рус. ***по*** *чему.*

**ПА²-11** *чаму/чым* Дав./Месн. адз. л. Аб'ектн.: медыятыў: *Грошы можна пераслаць* ***па тэлеграфу***. *Пісьмо прыйшло* ***па элект-***

***роннай пошче.*** — *Сёння ўрок гісторыі* ***па тэлебачанню*** («Вожык»). Сін. *з прымяненнем*. Рус. ***по*** *чему.*

**ПА²-12** *чаму* Дав. адз. л. Аб'ектн.: інструмент кантролю (кантроллер): *Ішлі* ***па компасу*** (А.Адамовіч, Я.Брыль, У.Калеснік). *Шукаю выйсця на гасцінец* ***па сонцу****, кволай сіняве, дзе, як бягун істужку, рве крылаты вецер павуцінне* (М.Губернатараў). *Яны* [кнігі Караткевіча] *з'яўляюцца падручнікам,* ***па якому*** *наша моладзь вучыцца патрыятызму і маральнай чысціні* (А.Мальдзіс). // ***Па ветру*** *дзержыць нос*. Сін. *пры дапамозе; кіруючыся.* Рус. ***по***.

**ПА²-13** *чаму* Дав. адз. л. Характарызатар-лакатыў: *Загад* ***па дзіцячаму саду****. Распараджэнне* ***па дэканату****.* Сін. *у межах*. Рус. ***по.***

**ПА²-14** *каму/чаму* Дав. Рэлят адпаведнасці: *Адзявацца* ***па сезону****.* — *Героі рамана кахаюць* ***па вечнаму і неадменнаму*** *для ніякай крытыкі* ***закону*** *самога яго вялікасці жыцця* (Я.Брыль). *Яшчэ* ***па звычаю*** *старому мужчыны сталыя удому свае літанні адпраўлялі, пакуты Езуса спявалі* (Я.Колас). *Махнула ў Кустанай І там сышлася з камбайнерам,* ***Па сэрцу****, без вянца* (У.Корбан). Сін. *у адпаведнасці з; згодна з.* Рус. ***по*** *чему.*

**ПА²-15** *чаму/колькі часу* Дав. Аўтарызатар-сурсіў: *Фільм* ***па Дастаеўскаму****.* — *Кінакарціну «Паядынак»,* ***па Купрыну****, мне давялося глядзець двойчы* (Я.Брыль). Сін. *паводле.* Рус. ***по*** *чему.*

**ПА²-16** *чаму* Дав. адз.л. Аб'ектн.: дыстрыбутыў: *Скінуцца* ***па рублю****.* — *Узялі* ***па вялікаму квачу****, ну, і давай разводзіць абстракцыянізм* (Я.Брыль). З лічэбнікам *адзін: Станьце, дзеці,* ***па аднаму*** (В.Вітка). // *Каму* ***па каню****, а мне два.* ***Па цэламу сабаку*** *з рота скача.* Рус. ***по*** *чему/сколько.*

**ПА²-17** *чаму* Дав. адз. л. Рэлят колькаснага прыраўнівання: *Капуста* ***па вядру****. Кавалкі* ***па метру****.* —*Пасля пайшоў снег, густы,* ***па лапцю*** (І.Пташнікаў). // *Вочы* ***па яблыку****, а галава з арэх.* Сін. *з; велічынёй з.* Рус. ***по*** *чему;* ***с*** *что.*

**ПА²-18** *чаму/катораму* Дав. адз.л. Характарызатар істоты адносна ўзросту: *Жарабя* ***па другому годзіку*** (П.П.Шуба). *Хлопчык* ***па сёмаму гадку*** *пайшоў у школу* (П.П.Шуба). Сін. *пасля.* Рус. ***по*** *чему.*

**ПА²-19** *чаму* Дав. адз.л. Характарызатар дзеяння: *Але скажу табе* ***па сакрэту****: Пракоп не любіць такіх матэрыялаў* (Б.Сачанка). // ***Па сакрэту*** *ўсяму свету.* Рус. ***по*** *чему.*

**ПА²-20** *чаму* Дав. адз.л. Каўзатыў: *Няма калі раз'язджаць* ***па ўсякаму глупству*** (М.Лобан). *Каб хто-небудзь* ***па непаразуменню*** *ці* ***па злому намеру*** *не зганьбіў таго, што дорага нашаму чалавеку* ... (К.Крапіва). Сін. *ад*. Рус. ***по*** *чему.*

**ПА²-21** *чаму* Дав. адз.л. Аўтарызатар-падстава: *І **па царскаму загаду** карабель падрыхтавалі, паплылі на ім па моры госці ў край далёкі свой* (А.Звонак, М.Хведаровіч). Рус. ***по** чему.*

**ПА²-22** *чаму* Дав. адз.л. Кандытыў: ◊ ***Па вялікаму рахунку**.* — ***Па вялікаму рахунку**, нябожчык не мае патрэбы ні ў труне, ні ў помніку – усё гэта даніна традыцыям, хай і набожным. Але вечна жывая душа памёршага мае вялікую патрэбу ў нашай пастаяннай малітве* («Родны край-2007»). Рус. ***по большому счету.***

**ПА³-1** *кім/чым* Месн. Аб'ектн.: дэлібератыў пры прэдыкаце з семантыкай перажывання, пачуццяў; спалучаецца

- з назоўнікамі: *І раптам вострая, страшная туга **па радзіме** нібы нажом ударыла пад сэрца* (У.Караткевіч). *І ўжо мой слых **па родным слове** тужыць* (Х.Чэрня). *Шапку зняў і глянуў моўчкі на сваю старую хатку, дзе хусцінкай церла вочы **па сынах-вандроўцах** матка* (У.Дубоўка). *Памёр Твардоўскі. Нават і плачуць у друку не тыя або не так, як трэба плакаць **па гэтым паэце і чалавеку*** (Я.Брыль);

- са спалучэннямі прыметніка і займенніка: *Праўда, у апошні час зрэдку нападала на яе незразумелая туга **па нечым невядомым*** (І.Шамякін);

- з іменнымі словазлучэннямі: *Смутак **па зялёным колеры, па загадцы вітражоў...*** (Л.Дранько-Майсюк);

- з субстываванымі прыметнікамі і займеннікамі: *У вершах пра суровы і бязлітасны ваенны час Мікола Сурначоў з замілаваннем апяваў родны край, сумуючы **па родным, блізкім, дарагім*** (Т.Кекелева). *Ён тужыць **па сваіх** і неграў пакарае* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля);

- з асабовымі і зваротным займеннікамі: *І нават не **па ім** я плачу, а па загубленай яго маладосці**,** – я добра разумею гэта!* (У.Караткевіч). *Ён* [Завішнюк] *часта ўспамінае лясы на Алтаі... **Па іх** у яго часта шчымела душа* (І.Пташнікаў). *Добрую памяць **па сабе** маладым пакінуў* (П.П.Шуба). *Але не ўсё, калі камяк у горле, Не ўсё, не ўсё – калі душу агорне **па незабыўным** непазбыўны жаль**. Па кім? Па чым? Ці не па ўсіх і ўсім: па каласах** тых, што па ўзмежку поля, **Па тым** – што праўда, і **па тым** – што воля, **Па самым любым, самым дарагім, Па ўсім, па ўсім** – да слёз, да слёз, да слёз **Па самым крэўным** у чужынным свеце...* (У.Някляеў). // *Варкаваў брукаваў сівы галубок На чырвонай каліне. Гараваў, тужыў малады казак Ды **па добрай дзяўчыне.** Ужо **па табе** і патапцы паелі, а ты жывеш ды хлеб жуеш.. Званіў Апанас, да не **па нас.*** Сін. *аб*. Рус. ***по** кому/чему/ком*.

**ПА³-2** *чым* Месн. Аб'ектн.: транзітыў-паверхня: *Ісці босым **па гарачым вуголлі**.* — *А песня то расінкай блісне, то, як вяроўкаю*

*тугой, жальбой раптоўна сэрца сціснe і **па шчацэ** збяжыць слязой* (А.Вялюгін). *Потым затупаў **па ім*** [ходніку], *пакідаючы на зялёнай, з сінімі паскамі молцы жоўтыя плямы сыраватага пяску* (В.Адамчык). *Густым ляском **па буравалу** Міхал выходзіць на гасцінец* (Я.Колас). Перан.: *Як досвітак **па неачахлых вугалях**, Мой сум ступае **па гарачых зорках*** (Р.Барадулін). // ***Па плячах** так як мароз сыпле. **Па спіне** мурашкі прабеглі.* Рус. ***по** чему.*

**ПА³-3** *кім/чым* Месн. Аб'ектн.: крытэрый вызначэння, параўнання, характарызацыі: *Пазнаць знаёмага **па хадзе**.* — *Я знаю Расію **па волі**, Мілейшай няма за якой* (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). *Гаворыць Сцёпка і на Алёнку не глядзіць, каб **па вачах** яго не пазнала, што ён трохі туману напускае* (Я.Колас). *Я пазнаў Сапліцу **Па росце і вусах**!* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Ды **па Зазыбу** нельга было адгадаць што-небудзь: той умеў, калі гэта патрэбна было, не паказваць свайго ўнутранага ўзрушэння* (І.Чыгрынаў). *Народ, відаць, жыў панавата, Прынамсі, добра і заможна, **Па ўсім** аб гэтым судзіць можна: **Па ветраках**, такіх удумных, І **па абэржах** гэтых, **гумнах, Па** старасвецкіх **азяродах, Па гарбузах** на агародах, **Па тытуню** і **па садочках**, Дзе хаты ніклі, бы ў вяночках* (Я.Колас). // *Відаць пана **па халявах. Па скуры** цябе пазнаю.* ◊ ***Мераць па сабе*** – браць у якасці крытэрыя толькі сваю думку, свае паводзіны. — *– не ведаеш, дык маўчы. **Па сабе** мераеш!* (Хв.Жычка).↔ **Па тым як:** ***Па тым, як** неспакойна пазіраў ён назад, на дарогу, як нервова мяў ён у руках сцяблінку малачаю, відаць было, што ён чымсьці вельмі ўстрывожаны* (М.Лынькоў: ТСБПШ). Рус. ***по** чему.*

**ПА³-4** *кім/чым* Месн. Аўтарызатар: ***Па паданні**, Свір была заснаваная ў XIII стагоддзі на месцы капішча язычніцкага бога Перунанальшчанскім князем Даўмонтам* («Родны край», 2009). ***Па Золатавай**, сінтаксема – гэта адзінства лексічнага значэння, марфалагічнай формы і сінтаксічнай пазіцыі* (навук.). // ***Па мне** дык хай ён робіць што хоча. **Па маёй часці** хоць коні красці. **Па маёй галаве** няхай/хоць воўк траву есць. **Па нём** не будзе ні вецер веяць, ні сонца грэць.* ◊ ***Па яго*** – па яго думцы. — *Мітынгаў Ладымер не паважаў і не бачыў ад іх тае карысці, якую, **па яго**, дае тэатр* (Ц.Гартны: ТСБПШ). Рус. ***по** кому.*

**ПА³-5** *чым* Месн. Аб'ектн.: інструментыў (нерухомая прылада): *Пагладзіць **па галоўцы**. Дажджы ўсю ноч бубняць **па ржавым даху**, ім дружна адгукаецца капеж* (А.Звонак: ТСБПШ). *Я не ведаю. Чаму мне так уцешна, як зазвоніць восень меддзю **па лістах*** (М.Васілёк). *Услон заняў сваё ўжо места, На ім стаяла дзежка цеста, І апалонік то і дзела **Па дзежцы** боўтаў жвава, смела І*

*кідаў цеста ў скавародкі* (Я.Колас). *І толькі зоркай гук з гармоніка сарваўся і чыркнуў, як **па шклу, па цішыні*** (У.Карызна). ◊ ***Гладзіць па шэрсці.*** — *Усё **па шэрсці** гладзілі, дагаджалі ўсе ўсім* (Ф.Янкоўскі). ◊ ***Атрымаць па шыі***. Рус. ***по** чему.*

**ПА³-6** *чым* Месн. Аб'ектн.: інструментыў (рухомая прылада-медыятыў): *Лезці **па драбінах**. Гаварыць **па тэлефоне**.* — *Палез Антось перш **па драбінах**, З драбін цярэбіцца ў галінах* (Я.Колас). *Патрава здарыцца, пакража, – Як бачыш, вызнае, дакажа І дойдзе ўжо да галубочка, Як бы **па нітцы** да клубочка* (Я.Колас). Сін. *з дапамогай; з выкарыстаннем*. Рус. ***по** чему.*

**ПА³-7** *чым* Месн./Дав. Аб'ектн.: інструмент: кантроллер: *Вылічыць **па калькулятары**.* — *Некага там хаўтурылі з нашых сваякоў, і дзед Іван, пакуль прывезлі папа, чытаў над нябожчыкам **па кантычцы*** (Я.Брыль). *Я ж гадзіннік з сабой захапіў, час **па ім** назіраю, бо шчаслівўцам ніколі не быў, быць такім не жадаю* (А.Куляшоў). *Калі хочацца авалодаць Нашай мовай, Вывучайце яе не **па граматыках**, Каноны якіх часта бываюць супярэчлівымі; Не **па слоўніках**, Якія старэюць раней, Як выйдуць з друку; Не **па шыльдах**, Якія часта мяняюцца. А вывучайце **Па спрадвечных нашых пісьмёнах** Крыніц, дарог, плугоў, **Па гоману** дрэў У вясновым і зімнім уборы, **Па матчыных калыханках** на змярканні і ў час зарападу, **Па цішыні** папялішчаў Хатыні І брацкіх магіл, **Па зязюльчынай варажбе** І жураўлінаму **крыку, па грому** салютаў І **шэлесту** нашых сцягоў, **па ззянню** агнёў І расплаўленай **сталі** ў вагранках, **Па поціску** рук, Што зброяй валодаць умеюць І сябрам Дараць на ільняных ручніках Хлеб і соль, сваё сэрца і дружбу* (М.Танк). // *Знаці піва **па задатку.*** ◊ ***Як па лінейцы*** – вельмі роўна. — *Адсюль дарога была роўная, як **па лі-нейцы**, і была відаць далёка-далёка* (Краўчанка: ТСБМ). Рус. ***по** чему.*

**ПА³-8** *кім/чым* Месн. Аб'ект-цэль: *Страляць **па варонах**. Ударыць **па руцэ**.* — *Але б вы самі спрабавалі, Калі б у вочы вам плявалі І вас агіднаю зняваган **Па сэрцы** білі б, як той шлягай!* (Я.Колас). – *Ета ж як пачалі страляць **па нас** ля ракі, дак тыя на бранявіку сваім і ўцяклі* (І.Чыгрынаў). *Я – **па кані**, ён мне – **па карку**!* (Я.Колас). ◊ *Біць з гарматы **па вераб'ях*** – малы вынік пры вялікіх высілках. Рус. ***по** чему.*

**ПА³-9** *чым* Месн. Характарызатар-рубрыкатыў: *Прарэктар **па навуцы**. Сяброўка **па курсе.** Упаўнаважаны **па загатоўках**. Намеснік старшыні **па прамысловасці**. Пачаць працу **па выпрацоўцы** нацыянальнай ідэі. Таварыш **па няшчасці.*** — *І сніў ён сяброў **па заставе*** (А.Куляшоў). *Трэба вызначыцца ў стратэгіі **па зніжэнню** сабекошту прадукцыі* (газ.). *Гэта быў дзесяты **па ліку** паказ творчасці ама-*

*тарскіх калектываў школ горада* («ЛіМ»). *Генерал-губернатар абвясціў ва ўсіх газетах, што ніякіх пастаноў* ***па сялянскай справе*** *не будзе* (У.Караткевіч). *Пагана адчуваў, было няёмка і сумна, асабліва пасля таго, як на паседжанні камісіі* ***па культуры*** *нейкая фіфа-настаўніца выскачыла з першым пытаннем: «А что же будем делать с белорусским языком?»* (Я.Брыль). *У той дзень, як нямецкія танкі прарвалі абараняльны рубеж каля Царковішча, старшыня райспажыўсаюза быў накіраваны ў якасці ўпаўнаважанага* ***па эвакуацыі*** *калгаснай маёмасці ў самыя прыфрантавыя гаспадаркі* (І.Чыгрынаў). Сін. *па справах; па пытаннях; па часці.* Рус. ***по*** *чему.*

**ПА³-10** *кім* Месн. Характарызатар: рэлят міжасабовых адносін: *І побач – трэслася пераспелая, як слівіна, удава* ***па начальніку*** *пошты, з якой жыў цяпер гэты «Ейна», мясцовая, але з выгляду – «таксама добрая Рохля», на дзедава вызначэнне* (С.Юстапчык (Антон Адамовіч)). *А пан жа крэўны,* ***Па маці Лоўчыне****, як знаеш сам, напэўна* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Дзеда* ***па маме*** *звалі Іван, а дзеда* ***па бацьку*** *Даніла* (Я.Брыль). Сін. *па лініі.* Рус. ***по*** *чему.*

**ПА³-11** *чым* Месн. У складзе прэдыката: рэлят добрага стаўлення: *Добрыя словы* ***па сэрцы*** *кожнаму.*▬ *Мне* ***па душы*** *мая работа, Так лёгка, Русь, і цяжка мне!* (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). *Бушуе Балтыйскае мора, І вецер яму* ***па душы*** (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). Ант. ◊ ***Не па носе*** – не падабаецца.▬ *Гэта яму* ***не па носе***. Сін. *да спадобы/даспадобы.* Рус. ***по*** *душе;* ***по*** *сердцу.*

**ПА³-12** *чым* Месн./Дав. Рэлят адпаведнасці: *Атрымаць* ***па заслугах***. ▬ *Ён першы ў нас стаў жыць* ***па чужаземнай звычцы*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Са словамі тыпу *правіла, закон, формула, тэарэма* і інш. стварае прыназоўнікавыя спалучэнні – фізіка-матэм. тэрміны-клішэ:

· **ПА закону/е** *чаго* Род. Рэлят адпаведнасці: *Мясаед – перыяд пасля каляд, калі* ***па закону праваслаўнай царквы*** *дазваляецца есці мяса* (ТСБМ).

· **ПА правіле/у**: *Такі спосаб складання вектараў называецца складаннем* ***па правілу трохвугольніка*** (падручн.). *Знаходжанне сумы двух вектараў такім спосабам называецца складаннем* ***па правілу паралелаграма*** (падручн.).

· **ПА стандарце/ту:** *Адтуліну ў муфце іголкі робяць канічнай з нахілам 2°52’* ***па міжнародным стандарце,*** *каб яна забяспечвала шчыльную насадку на конус наканечніка шпрыца* (Асновы мед. ведаў). // ***Па сабацы*** *хвост.* ***Па чужой дудцы*** *скача. Я то не па каню, не па аглоблях –* ***па справядлівасці.*** Сін. *згодна з; у адпаведнасці з.*

· **ПА тэарэме**: па тэарэме Піфагора.

· **ПА** формуле:

**ПА³-13** *чым* Месн. Квантытатыў-дыстрыбутыў: *І ты, братка, ідзі дадому, няможна хоць і **па дваіх** збірацца* (К.Чорны). *Там і цяпер, як і заўсюды, Макалі ўсе з адной пасуды І елі дружна, не драмалі; Нарэшце ўсе **па скварцы** бралі* (Я.Колас). *Мужчыны бралі **па аладцы** І аж пацелі, небаракі* (Я.Колас). *Падбіраю і збіраю У сваім радзімым краі **Па зярнятку** тыя словы, Што кладуцца ў асновы не старых, а песень новых* (Я.Пушча). ***Па кавалку** ашчаджала, гаспадыняю была* (П.Броўка). *Карычанцы прышлі, каб ім панскай зямлі адрэзалі **па кавалку*** (Я.Скрыган). *Усім ягоным* (дзядзькі) *памочнікам, сынам і дочкам, будзе на полі **па яблыку**, на якіх яшчэ, здаецца, не высахла святая вада* (Л.Дранько-Майсюк). // *Сабраў бог **па ягадцы**. **Па сабацы** з рота скача. **Па чом** зубы прадаеш? **Па чом** сыры ў Мазыры?* Рус. ***по** сколько/чему*.

**ПА³-14** *чым* Месн. Квалітатыў: рэлят неадпаведнасці (з адмоўем): // *Як што **не па ім**, адразу сварыцца. **Не па зубах** гэта табе. **Не па кляпу** лямка*. Сін. *не да.* Рус. ***не по** чему.*

**ПА³-15** *чым* Месн. Прастор.: транзітыў: *Ісці **па полі**. Ехаць **па дарозе**.* ▬ *Стафан убачыў, што коні ўжо нясуць людзей **па стромым схіле*** (У.Караткевіч). // ***Па гэтых дарогах** толькі гаршкі вазіць. Ідзе як **па маслу / па дрыгве / па прыску / па вуголлі.*** ◊ ***Як па масле*** – лёгка, добра, без цяжкасцей. ◊ ***Пайсці па дрэннай дарозе*** – стаць на няправільны шлях жыцця (ТСБМ). Сін. – тв. без прыназ.: *схілам / дарогамі / сходамі / вуліцай.* Рус. ***по** чему.*

**ПА³-16** *чым* Месн. мн.л. Прастор.: дыстрыбутыў: *Разыйсціся **па сёлах**. Вандруюць **па вёсках**.* ▬ *Салдаты разышліся **па вагонах*** (П.П.Шуба). *Старэйшая дзяўчынка Ніна змалку прывыкла хадзіць **па заработках*** (П.Галавач). ◊ ***Па руках пайсці*** – тое, што, скарыстаўшы, перадаюць іншым.▬ *Пазаўчора ў рэзерве **па руках** хадзіла пракламацыя* (К.Чорны). *Збэсцілася дзеўка, **па руках** пайшла* (з размовы). Рус. ***по** чему.*

**ПА³-17** *чым* Месн. Прастор.: лакатыў: ***Па цэлым па Саюзе** Бяжыць хай пераклічка* (Я.Купала). *Бо у Літве стралок, як тое судна ў моры, Куды захоча, вольна ходзіць **па прасторы*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Зноў у полі жыта палавее, І Купала ходзіць **па зямлі*** (С.Грахоўскі). *Там хутаркі, ды ўсё з садамі, То як папала, то радамі Параскідаліся **па полі*** (Я.Колас). // *Гэты квеце **па ўсім свеце.*** Сін. *у; ва; на.* Рус. ***по** чему.*

**ПА³-18** *чым* Месн. Прастор.: дырэктыў: *Ісці **па слядах**.* ▬ *Не забудзецца краіна сына з бацькавых загонаў, **па тваіх слядах-пуці-***

***нах*** *вучняў выйдзе незлічона* (П.Броўка). ◊ ***Плыць па цячэнні***. Рус. ***по*** *чему.*

**ПА³-19** *чым* Месн. Прастор./Час.: лакатыў; перад спалучэннем назоўніка з парадкаваным лічэбнікам: ***Па другім кіламетры*** *дарога паверне ўправа. Рэчку сустрэнеце* ***па пятым кіламетры*** (П.П.Шуба). Рус. ***на*** *чем.*

**ПА³-20** *чым* Тв. Прастор.: транзітыў: *Ехаў* ***па сялом*** (Віцебшч.). Сін. Тв. без прыназ-ка: *ехаў сялом.* Дыял. Рус. ***по*** *чему.*

**ПА-21** *чым* Месн. Рэлят параўнання: фон для параўнання*: З канца вёскі данёсся гучны* ***па начы*** *стрэл* (М.Лынькоў). Сін. *проці.* Рус. ***среди*** *чего.*

**ПА³-22** *чым* Месн. Час.: тэмпаратыў паслядоўнасці: ***Па вясне*** *пачынаецца лета.* — ***Па прыездзе****, у гасцініцы, найперш імкнуліся да тэлевізара* («ЛіМ», 6.09.91). *Не нявольнікаў скутых Толпы шлі* ***па ночы****, – То ўставаў да працы Вольны люд рабочы* (Я.Купала). *Мужчыны зараз* ***па сняданні*** *Пайшлі ў гумно на спачыванне – Аддаць мінуту для дрымоты* (Я.Колас). *На дзесятыя ўгодкі варма вараць мёд салодкі, а* ***па мёдзе*** *– рукі ў бок ды ў скокі крок у крок!* (Я.Купала). ***Па відну****, думаю, і ўнука Сяргея можна б у клуб звадзіць* (М.Вайцяшонак). ***Па васьмі днях*** *быў звольнены пад залог 1000 зл.* (Кс.В.Гадлеўскі). // ***Па адвенці*** *ў том маменці.* ◊ ***Па часе*** **–** пасля таго як адбылося. *Сп'яна ахрысцілі кумы хлапчука не бацькоўскім імем, а нейкім Панасам; агледзеўшыся, пабрылі да дзяка, ды нельга было перапраўіць* ***па часе*** (М.Танк: ТСБПШ). Форма давальнага склону – русізм, што знаходзіцца па-за нормай*: па прыезду*: ***Па прыезду*** *ў калгас мы сустрэліся з галоўным рэдактарам* («Савецкая вёска», 11.12.86). Сін. *пасля.* Рус. ***по*** *чему.*

**ПА³-23** *чым* Месн. Час.: дыстрыбутыў-дыменсіў: *Відаць, што страшна мучыцца, бо* ***па хвіліне*** *Хапаецца за грудзі, шыю, за калені* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Не ўжываецца з асабовымі займеннікамі. Сін. *кожны/ая/ае/ыя.* Рус. ***каждый/ая/ое/ые***.

**ПА³-24** *чым* Месн. Час.: у складзе прэдыката стану: *Гуляць* ***па дажджы***. ***Па такой слаце*** *ісці не хочацца.* —*Захацелася пагуляць* ***па марозе*** (І.Шамякін). *З канца вёскі данёсся гучны* ***па начы*** *стрэл* (М.Лынькоў). Не ўжываецца з асабовымі займеннікамі. Рус. ***по*** *чему.*

**ПА³-25** *чым* Месн. Час.: прэдыкат: рэлят канчатковай фазы дзеяння: *Вось і* ***па вяселлі****!* — *Шчэзла доля,* ***па забаве****! Час вясёлы знік* (Я.Купала). З займеннікам – квантарам усеахопнасці: *Адзін скубяне, другі скубяне, от табе і* ***па ўсім*** (К.Чорны). Не ўжываецца з асабовымі займеннікамі. ◊ ***Па няўчасе*** (устар.) – не ў час, позна.—*Пазна-*

*еш тады сваё ліха – но ў пекле **па неўчасе** ўжэ будзе* (К.Каліноўскі). Сін. *пасля.* Рус. ***по** чем.*

**ПА³-26** *чым* Месн. Час.: тэмпаратыў адначаснасці: *Сеяць лён **па вясне*** (ППШ). *Шкадаваў боты **па восені** і мясіў па дварэ ў стаптаных лапцях* (М.Лынькоў). Сін. прыслоўе: *восенню*; *вясной*. Рус. ***по** чему* (*Цыплят **по осени** считают*).

**ПА³-27** *чым* Месн. Час.: дыстрыбутыў цыклічнасці: *Збірацца **па панядзелках**. **Па святах** раздаваць гасцінцы*. // *Ну, і нос – на свята рос, а **па буднях** носім*. Рус. ***по** чему.*

**ПА³-28** *чым* Месн. Фінітыў: *Аднойчы я зайшоў у іх зямлянку **па нейкай патрэбе*** (І.Шамякін). *Феафанаў ездзіў **па справах** у Маскву* (А.Гайдар. Пер. М.Татура). *Гэта той самы бярэзнік, дзе летась наш дзядзька, ходзячы **па грыбах**, напаў на неруш* (Я.Колас). Рус. ***по** чему*(*делам*)*; **за** чем* (*грибами*).

**ПА³-29** *чым* Кандытыў: *І я – скажу вам **па сумленню** – Больш к гандлю маю нахіленне* (Я.Колас). ◊ ***Па вялікім рахунку***. ◊ ***Па праўдзе кажучы*** **–** калі казаць праўду**. ▬** // ***Па праўдзе** кажучы, то й бог паможа*. Сін. *згодна з; у адпаведнасці з.* Рус. ***по** чему.*

**ПА³-30** *чым* Месн. Прычын.: каўзатыў: *Пасля ж, калі яна ў сталіцы пражывала, Паслуг Суддзі зрабіла розных там нямала, Дык вось дзеля таго ён ганарыўся ёю І зваў ахвотна пры людзях сваёй сястрою, Чаго яна, **па дружбе**, не забараняла* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Ён тым часам **па старым вайсковым звычаі** агледзеўся і зразумеў, што сапраўды занадта доўга праспаў* (В.Быкаў). // ***Па гэтым** дзеці будуць, хоць дробныя*. ◊ ***Па маладосці гадоў*** **–** з-за недастатковай сталасці, па нявопытнасці (ТСБМ). Рус. ***по** чему.*

*што* **ПА¹-1** *чым/колькі* Наз. – Месн. Характарызатар: дыстрыбутыў-дыменсіў: ***Кропля па кроплі. Раз па разу.*** **▬** *Шла **вясна па вясне*** (Я.Купала: ТСБПШ). *Добры быў лянок, палола яго, ірвала, слала, а як улежаўся – сушыла, мяла, удваіх з Зоськай **нітачку па нітачцы** вывелі* (Я.Купала). Рус. *что **по** чем.*

*хто/што* **ПА¹-2** *кім/чым* Наз. – Месн. ? ***Сам(а/о/і) па сабе*** асобна ўзяты, не ўлічваючы абставін. **▬** ***Сам па сабе** ён* [багаты жыццёвы матэрыял] *яшчэ не гарант творчага поспеху* (А.Ліс*). А па вясне, а па сяўбе мы ўжо не **самі па сабе*** (А.Вярцінскі). Рус. *сам **по** себе*.

*няма/не мае* **ПА²** *што* Він./Месн. Інтэрпаз. У аналітычных адмоўных спалучэннях: *няма **па** што, няма **па** чым. Сколькі ж гэта дзядоў **не мае па што** заглядаць у дамавыя вогнішчы? Сколькі ж гэта дзядоў не пазнала б сваёй нашчадзі на тэй зямлі, дзе спачываюць іх косці!* (А.Абуховіч). Рус. ***незачем;** не **по** чему; не **по** чем.*

**ПА АБАВЯЗКУ** *чаго* Род. Прычын.: каўзатыў: *Кіраўнік Гайнаўскага павета дадаў, што названымі праблемамі ён займаецца не толькі **па абавязку службы** – ён нарадзіўся за пяць кіламетраў ад граніцы* (Інт.). *... асабліва сваякоў і крэўных маіх абодвух полаў азнаямляю і абвяшчаю, просячы кожнага пад прысягай і **па абавязку сумлення**, каб ні ў чым гэтай волі маёй не супрацівіліся* (Інт.). *Апроч цэнзуры і паліцыі, якія сачылі за «Нашай Нівай» **па абавязку службы**, за ёй назіралі і царкоўнікі і даносілі начальству* (Інт.). *На месца паэтаў, рыцараў і прарокаў селі бізнесмены, палітыкі і гандляры. Яны героі нашага часу. Хіба што паэта часам паслухае другі паэт. У лепшым выпадку – яшчэ і крытык. **Па абавязку сваёй прафесіі*** (Інт.). *Віленскія ваяводы **па абавязку сваёй асноўнай пасады** мусілі большасць часу праводзіць у сталіцы дзяржавы – Вільні* (Інт.). Рус. ***по долгу*** *чего.*

**ПААБАПАЛ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна цэнтральнага локума: *А затым **паабапал шляху**, можа ў паўкіламетры адзін да аднаго пайшлі прагалы зарослага чарналессем поля, на якім яшчэ нешта сеялася і расло* (А.Кавальчук). *У магіле 6 на грудзях знайшлі 2 бронзавыя гузікі, **паабапал чэрапа** завушніцы ў форме пытальніка* («Гарадзенскія запісы», 1993 вып.1). *Спачатку **паабапал дарогі** цягнуліся яшчэ палеткі з раскіданымі там-сям дзічкамі, падобнымі на дубы* (У.Караткевіч). *Дарога мяккая, **паабапал яе** глыбокія, аксамітна-зялёныя канавы, а далей у квецені і раскошныя купы ліп* (У.Караткевіч). ***Паабапал гаці**, на якой стаіць машина, раскінулася балота* (В.Вольскі). З асабовым займеннікам: *На Белай дарозе, на цвёрдых **паабапал яе** сцежках у траве, лезлі наверх мухаморы, цэлымі кучамі, уздзіраючы вільготнымі чырвонымі галовамі прыбітую зямлю* (І.Пташнікаў). *Замест светлых ліп... **паабапал алеі** ўсё часцей траплялiся чорныя і нейкія зімнія яліны* (У.Караткевіч). ТСБПШ – прыназ. Сін. *абапал*. Рус. ***обочь*** *чего;* ***по обеим сторонам*** *чего.*

**ПА АБОДВА БАКІ** *каго/чаго* / **ПА АБОДВА** *чые* **БАКІ** Род. Прастор.: лакатыў адносна цэнтральнага локума: *У магіле **3 па абодва бакі чэрапу** знойдзена па 1 шматбусінным скроневым колцы* («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). *Крыху воддаль на ўсход ад галоўнай воднай артэрыі горада – Заходняй Дзвіны, **па абодва бакі** яе **прытока**, рэчкі Віцьбы, размяшчаліся дзве плошчы, злучаныя паміж сабою мастом* («Мая Беларусь»). *Маленькія фігуркі людзей расходзіліся **па абодва бакі набярэжнай**, што плаўна агінала бераг* (В.Быкаў). *Было б з ёй зусім добра, калі б **па абодва бакі Ганны** не ішлі хмурны, насцярожаны сусед Васіль... і гаварлівы, упэўнены, нахабны Яўхім Глушак* (І.Мележ). ▶*Яны увайшлі ў <u>седлавіну.</u> Схілы вяр-*

*шынь ужо высіліся* ***па абодва бакі****, сцежка трохі паднялася яшчэ і скіравалася ўніз* (В.Быкаў). *Дарогаю тою імчацца машыны, прысады стаяць* ***па абодва бакі*** (А.Звонак). *Мясціна была нізкаватая,* ***па абодва бакі*** *рос аер, пракідаліся лазовыя кусты* (М.Лобан). ▲ *Заляскатаў воз. Моўчкі павалілі* ***па абодва яго бакі*** *людскія гурты* (У.Караткевіч). Сін. *паабапал.* Рус. ***по обе стороны*** *кого/чего.*

**ПА АБОДВА БАКІ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна цэнтральнага локума: *Хвілін дваццаць яны* [немцы] *дзяўблі бомбамі дашчэнту паруйнаваны раз'езд, пасля рэйкі* ***па абодва бакі ад раз'езда****, разбілі паходную кухню* (В.Быкаў). *Сапежынскія ўладанні раскінуліся* ***па абодва бакі ад старажытнай мяжы*** *Лукомльскай воласці* (Інт.). ***Па абодва бакі ад трыбуны*** *– ахова з сякерамі* (Інт.). ***Па абодва бакі ад веж*** *знаходзяцца прадаўгаватыя каравульныя памяшканні* (Інт.). ***Па абодва бакі ад Хрыста,*** *на выступах карнізу, змешчаны постаці св. Цырпіяна і св. Аўгусціна, а вышэй, у атачэнні аблокаў, паказана постаць Бога Айца* («Новы Час»). Сін. *паабапал*. Рус. ***по обе стороны от*** *кого/чего.*

**ПА АБОДВУХ БАКАХ** *чаго* / **ПА АБОДВУХ** *чыіх* **БАКАХ** Род. Прастор.: лакатыў адносна цэнтральнага локума: ***Па абодвух баках канала*** *ліставы лес* (В.Вольскі). ▶*Бліжэй да вакна,* ***па абодвух баках*** *– двух'ярусныя металёвыя нары, крытыя ДСП* («Arche»). Сін. *паабапал.* Рус. ***по обеим сторонам*** *чего.*

**ПА АБСТАВІНАХ** *чаго* / **ПА** гэтых **АБСТАВІНАХ** Род. Прычын.: каўзатыў: *На мірныя прапановы цара ён* [Напалеон] *адказаў адмовай, хоць мог без страт, без праліцця крыві, проста* ***па абставінах сваёй рэальнай сілы****, што палохала Аляксандра, вытрабаваць значныя ўступкі* (К.Тарасаў). ↔ **Па тых абставінах, што.** Сін. *у сілу.* Рус. ***по обстоятельствам*** *чего.*

**ПА АБШАРЫ** *чаго* / **ПА** *якім* **АБШАРЫ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў*:* ■*Гэта ўспаміны выхавальнікаў і выхаванцаў дзіцячых устаноў, сабраныя і апісаныя аўтарам больш чым за пятнаццацігадовы тэрмін паездак па нашай рэспубліцы, вынікі вялікай перапіскі У.Паўлава з героямі сваёй працы, раскіданымі воляй лёсу* ***па вялікім абшары былога СССР*** (Э.Іофе). Сін. *па абсягу; па тэрыторыі*. Рус. ***по пространству*** *чего.*

**ПА** *колькі адзінак* **АД** *каго/чаго/якой адзінкі адлічэння* Він. – Род. Двухч. Ускладн. Квантытатыў + дыстрыбутыў: *Падчас першага этапу фонд выплачваў* ***па 65 працэнтаў ад належнай сумы*** («Звязда», 25.02.05). *Пасля, схіліўшыся, шапнуў Суддзі на вуха: «Калі жадаеце, каб выйшлі ўсё насуха****, Ад кожнай галавы – па тысячы*** *ў гатоўцы, Па тысячы, не менш – апошняе вам слоўца»* (А.Міцкевіч.

Пер. П.Бітэля). Сін. *па ... з*. Рус. ***по*** *сколько единиц* ***с*** *какой единицы исчисления.*

**ПА АДЗІН БОК** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна цэнтральнага локума: *Усе сядзелі* ***па адзін бок стала****, ад сцяны* (А.Камароўскі). ***Па адзін бок вуліцы*** *выкапана канава для сцёку вады* (Н.Кучкоўская). ▶: *Ён* [хлопчык] *цяпер, бы* <u>*на граніцы*</u>*, На высокім* <u>*рубяжы*</u>*;* ***Па адзін бок*** *– блеск дзянніцы, Па другі – цьма, дзе ён жыў* (Я.Колас). Ант. *па другі бок.* ▬ ***Па адзін і па другі бок вёскі*** *стаялі ветракі, як страшыдлы, шырока раскінуўшы свае крылы* (Я.Колас). *Бабка ведала ўсіх будачнікаў* ***па адзін і па другі бок раз'езду*** *і вельмі раіла пагасцяваць у бабініча* (Я.Колас). Рус. ***по одну сторону*** *кого/чего.*

**ПА АДЗІН БОК АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна цэнтральнага локума: *Гэта ўсё нейкі сон, страшны* ***сон, па адзін бок ад якога*** *вырай, па другі – катакомбы, у якіх пакуль яшчэ блукае, блукае мая душа* (І.Тоўсцік). *Фігуры Божай Маці і апостала Іаана размешчаны* ***па адзін бок ад крыжа****, значна зменшаны і быццам аддалены ад гледача* (Інт.). Рус. ***по одну сторону от*** *чего.*

**ПА АДЗІН БОК З** *чым* Тв. Прастор.: лакатыў адносна цэнтральнага локума: *Мноства пунктаў, якое складаецца з пунктаў 0, А і ўсіх пунктаў М, што ляжаць* ***па адзін бок з пунктам А*** *адносна 0, называецца прамянём* (падручн.). Рус. ***по дону сторону с*** *чем.*

**ПА АДЗІН І ДРУГІ БОК** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна цэнтральнага локума: ***Па адзін і другі бок дарогі*** *ляжалі чатырохкутныя сажалкі, як вялізныя люстры* (А.Чарнышэвіч). Сін. *па абодва бакі.* Рус. ***по одну и другую стороны*** *чего;* ***по обеим сторонам*** *чего.*

**ПА АДНОСІНАХ ДА** *каго/чаго* Род. Крытэрый: *Сама сутнасць людзей у многім выяўляецца і* ***па адносінах да кахання*** («ЛіМ», 13.02.04). *Спакой і раўнамерны прамалінейны рух эквівалентныя, і іх можна адрозніць толькі* ***па адносінах да выбранай сістэмы*** *адліку* (падручн.). Рус. ***по отношению к*** *чему.*

**ПА АДРАСУ/Е[1]-1** *каго/чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыўпасэсар: *Патрабаванне, што бюро скаргаў павінна быць незалежным і знаходзіцца не* ***па адрасу фонду****, першапачаткова зыходзіла непасрэдна ад нямецкага боку* («Звязда», 25.02.05). Сін. *па месцы.* Рус. ***по адресу*** *чего.*

**ПА АДРАСУ/Е[1]-2** *каго/чаго* Род. Адрасат: *Амаль кожны ранішні нарад пачынаўся з нападак і пагроз* ***па адрасе запраўшчыка*** (А.Брусевіч). Сін. *на адрас.* Рус. ***в адрес*** *кого/чего.*

**ПА АДРАСУ/Е[2]** *якім/што* Не кіруе склонам. Ускладн. Прастор.: лакатыў-характарызатар: *Учора ў Мінску* ***па адрасу Матусев-***

***іча, 35*** *адбылася ўрачыстая цырымонія адкрыцця першага ў краіне магазіна новага фармата рознічнага гандлю – дыскаунтэра «На недельку»* («Звязда», 4.01.05). *Прадпрыемства «Віцебскае агенцтва па дзяржаўнай рэгістрацыі і зямельнаму кадастру» размешчана* ***па адрасу: 210026, г.Віцебск, вул. Палітэхнічная, 5-18*** («Звязда», 23.02.05). ***Па адрасу www. minsk-region.gov.by*** *пачаў працаваць афіцыйны сайт Мінскага аблвыканкама* («Чырвоная змена», 15.04.05). Клішэ. Рус. ***по адресу*** *какому /что.*

**ПА АДСУТНАСЦІ** *каго/чаго* Род. Крытэрый: ***Па*** *наяўнасці ці* ***адсутнасці пахавальнага інвентара*** *магілы размяркоўваюцца наступным чынам...* («Гарадзенскія запісы», 1993 вып.1). Ант. *па наяўнасці.* Сін. *па.* Рус. ***по отсутствию*** *кого/чего.*

**ПА** *чым/якім па ліку* **АД ПАЧАТКУ** *чаго* Месн.-Род. Прастор.: лакатыў адносна локума-старта: ***Па трэцім кіламетры ад пачатку лесу*** *дарога вялікім кругам абыходзіць лясное азярцо, берагі якога спрэс з дрыгвы* (К.Чорны). Рус. ***на*** *какой единице* ***от начала*** *исчисления.*

**ПА АЗНАЧЭННІ/Ю** *каго/чаго* / **ПА** *якім* **АЗНАЧЭННІ/Ю** *каго/чаго* Род. Аўтарызатар: ■ *Уменне слухаць і разумець свой народ – вось задача, калі хочаце, патэнт на званне інтэлігента. У адваротным выпадку гэта не інтэлігент, а так бы мовіць, «абразаванец» (****па ўдалым азначэнні А.Салжаніцына****)* (В.Акулаў). Син. *па выказванні; па меркаванні.* Рус. ***по определению*** *кого.*

**ПА АКАНЧЭННІ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Дык калі назначылі мяне* ***па аканчэнні Акадэміі*** *у 1916 годзе ў Менск, я ехаў туды як ведамы работнік не толькі па касцельнай, але таксама і па роднай ніве* (Кс. В.Гадлеўскі). Русізм. Сін. *па сканчэнні.* Рус. ***по окончании*** *чего.*

**ПА АНАЛОГІІ З / СА** *кім/чым* Тв. Характарызатар: рэлят прыраўнівання: *На месцы* [дж] *магло ўзнікнуць спалучэнне* [дж] ***па аналогіі з тымі словамі****, якія праходзяць ад тых жа каранёў з зычным* [д] (І.Р.Шкраба). ***Па аналогіі з выразамі*** *«сёмая (дзесятая) вада на кісялі» набыў варыянт фразеалагізм «на сёмым небе», стаў ужывацца і ў форме на дзесятым небе»* (навук.). *Гендэрны вопыт, такі неабходны з дзяцінства, у няпоўных сем'ях, а дакладней,* ***па аналогіі з імі****, у няпоўным грамадстве – наогул быў страчаны* (І.Шаблоўская). *Цяпер* ***па аналогіі з польскаю мовай*** *сталі пісаць «некалькі дзён таму»* (У. Дамашэвіч). *Паняцце «масавая літаратура» нельга разумець* ***па аналогіі з сённяшнім паняццем*** *«масавая культура»* (Л.Вашко). Сін. *аналагічна з.* Рус. ***по аналогии с*** *чем.*

**ПА АНАЛАГУ** *чаго* Род. Характарызатар: рэлят прыраўніван-ня: *Зернеўборачны камбайн «Ліда-1300» (створаны **па аналагу** нямецкага камбайна «Case», кошт якога ў Германіі 150000 еўра)* (Інт.). Сін. *па аналогіі з; на ўзор*. Рус. ***по аналогу*** *чего.*

**ПА АПАЗІЦЫІ ДА** *каго/чаго* Род. Каўзатыў: *Сымон паступіў ва ўкраінскую паліцыю **па апазыцыі да Масея**, што сышоў, як ён казаў, у камуністычную партызанскую банду імя Іосіфа Сталіна, якой камандаваў ягоны знаёмец па гімназычным літаратурна-авангардысцкім гуртку, даўні агент Камінтэрну Чарняк* (А.Дынько). Ант. *з сімпатыі да.* Сін. *у процівагу.* Рус. ***в оппозицию к*** *кому/чему.*

**ПА АПІСАННІ/Ю** *каго/чаго* Род. Аўтарызатар. *Прасочым асноўныя яе (Грунвальдскай бітвы) моманты **па апісанні Яна Длугаша*** (К.Тарасаў). Сін. *паводле.* Рус. ***по описанию*** *кого/чего.*

**ПА АПЛАЦЕ** *чаго* Род. Характарызатар: *Падчас абследавання 45 працэнтаў сем'яў паведамілі, што карыстаюцца льготамі **па аплаце паслуг** грамадскага трнспарту, 15 працэнтаў – па леках, 12 працэнтаў – **па аплаце адпачынку**, 12 працэнтаў – **па аплаце жылля і камунальных паслуг*** («Звязда»); *Умоўная беларуская сям'я штомесяц «спажывае» льгот **па аплаце транспарту** на суму 1961 руб*. («Звязда»). Клішэ. Рус. ***по оплате*** *чего.*

**ПА АПЛАЦЕ ЗА** *што* Він. Характарызатар: *50-працэнтная скідка **па аплаце за камунальныя паслугі** устаноўлена для шэрагу катэгорый грамадзян* («Звязда»). Памылковая кантамінацыя спалучэнняў *аплата чаго* і *плата за што.* Літ. сін. *па аплаце.* Рус. ***по оплате*** *чего.*

**ПА АСАЦЫЯЦЫІ З/СА** *кім/чым* Тв. Каўзатыў-характарызатар: рэлят падобнасці: *На Магілёўшчыне распачатую малацьбу спынялі ў дзень Цуда, бо яна, як і распальванне агню ў гумне (найверагодней **па асацыяцыі з ударамі перуна і бліскамі маланкі**), пагражае спаліць пабудову* («Бел. нар. каляндар»). Рус. ***по ассоциации с*** *кем/чем.*

**ПААСОБКУ АД** *каго/чаго* Род. Ускладн. Характарызатар: рэлят выключэння: *Але чаму можна казаць пра Чорную Русь **паасобку ад Белай Русі**, дзе засяроджаны найбольш вядомыя нашы гарады – Полацк, Віцебск, Менск, Слуцк, Орша, Клецк?* (К.Тарасаў). Ант. *разам з.* Сін. *асобна ад.* Рус. ***отдельно от*** *кого/чего.*

**ПААСОБКУ З** *кім/чым* Тв. Характарызатар: – *Колькі нам з маткай адпушчана яшчэ пажыць тых дзянькоў. І тыя **паасобку з родным сынам*** (М.Вайцяшонак). Ант. *з; разам з*. Сін. *асобна ад; без*. Рус. ***врозь с*** *кем/чем.*

**ПА АЦЭНКАХ** *каго* Род. Аўтарызатар: ***Па ацэнках экспертаў**, інвеставанне сродкаў у памеры 8 працэнтаў ад фонду аплаты*

*працы на працягу 20 гадоў пры рэальнай стаўцы даходнасці ўсяго ў 1 працэнт забяспечвае накапленне ў памеры 50 працэнтаў ад сярэдняга памеру ранейшага заробку* («Звязда», 23.02.05). Сін. *на думку*. Рус. ***по оценкам*** *кого*.

**ПА БАКАХ** *чаго* / **ПА** *якіх* **БАКАХ** *чаго* / **ПА БАКОХ** *чаго* / **ПА** *чыіх* **БАКАХ** Род. Прастор.: лакатыў адносна цэнтральнага локума: ***Па баках*** *яго* [будынка] ***цэнтральнай часткі*** *зроблены сіметрычныя ўваходы* (В.Кавалёў). *Я меў пад сваёй апекай чатыры каровы, якія пасціў на лясным квадраце,* ***па бакох якога*** *раслі жыта, бульба, капуста* (Юр. Монвід (Ф. Аляхновіч)). Сін. *паабапал*. Рус. ***по обеим сторонам*** *чего*.

**ПА БАКАХ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна цэнтральнага локума: *У глыбіні ад вуліцы знаходзіўся галоўны драўляны жылы дом на падмурку, з ганкам на слупах.* ***Па баках ад яго*** *размяшчаліся два таксама драўляныя флігелі, у адным з іх былі кухня і сталовая* (Інт.). ***Па баках ад варонкі*** *пагойдваліся скручаныя кольцы калючага дроту* (Пятніцкі: ТСБМ).

**ПА БАРАЦЬБЕ** «*што*»/*якой* Не кіруе склонам. Ускладн.: характарызатар + эксплікатар: *Дзевятнаццатага лютага ў сталіцы пройдзе адкрыты міжнародны турнір* ***па барацьбе самба*** *на прызы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь* («Звязда», 18.02.05). *Андрэй Арлоўскі з'яўляецца чэмпіёнам свету* ***па барацьбе самба*** *сярод моладзі, а па спецыяльнасці – юрыстам* («Чырвоная змена», 15.04.05). Спарт. клішэ. З'ява рэдуплікацыі: *самба* ад рус. *самбо – самооборона без* оружия; *барацьба = самаабарона.* Фармант *барацьба* ў даным выпадку – эксплікатар. Сін. *па*. Рус. ***по борьбе «****что*»/*какой.*

**ПА БАРАЦЬБЕ З/СА** *кім/чым* Тв. Ускладн. Характарызатар: *Атрад* ***па барацьбе са шкоднікамі*** *палёў.*—*У Гомелі супрацоўнікамі ўпраўлення* ***па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю*** *і спецпадраздзялення* ***па барацьбе з тэрарызмам*** *«Алмаз» затрыманы муж і жонка* («Звязда», 11.01.05). *У межах праграмы* ***па барацьбе з дзіцячым атлусценнем*** *некаторыя дзіцячыя садкі ў ЗША ўжо адмовіліся ад сокаў* («Звязда», 25.02.05). *Больш за тое, я пішу гэтую кароткую рэцэнзію на кніжку свайго цяперашняга калегі па працы Віктара Патапенкі, які ў сваю чаргу напісаў кніжку пра сваіх былых калегаў – супрацоўнікаў Камітэта* ***па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй*** («ЛіМ», 25.06.04). Клішэ. Рус. ***по борьбе с*** *кем/чем.*

ПА БАРАЦЬБЕ СУПРАЦЬ *чаго*

**ПА БЕРАГАХ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў; з назвамі водных аб'ектаў: *Людзі варты шчасця,*

*дзе б яны ні жылі: на Ацэ, у Прыдняпроўі, ці* ***па берагах сініх латышскіх азёраў*** *або ў наваколлі Відрыджы* (У.Караткевіч). ***Па берагах канала*** *ляжалі высокія бясформенныя груды рудой балотнай зямлі* (У.Краўчанка). Сін. *на; на ўзбярэжжы.* Рус. ***по берегам*** *чего.*

**ПАБЛІЖАЙ** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ▶ *Ступіў наш дядзька крокам смелым, Ідзе к сталу, што быў* ***паблiжай*** (Я.Колас). Ант. *падалей ад.* Сін. *бліжэй да*. Рус. ***поближе к*** *кому/чему.*

**ПАБЛІЗКУ ЛЯ** *каго/чаго / хто/што* **ЛЯ** *каго/чаго* **ПАБЛІЗКУ** Род. Прастор.: лакатыў: *Ажаніўся – своя воля; што быў адзін – стала нас двое. Цяпер ляжым* ***адно ля другога паблізку****, трэба стараццa якогася ў калыску* (нар.). Сін. *блізка ля.* Рус. ***близко возле*** *кого/чего.*

**ПАБЛІЗУ** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Спрытна праслізнуўшы паміж вялізных, гружаных цэглай, шчэбенем і мяшкамі з цэментам баржаў, што стаялі на якарах* ***паблізу берага****, кацярок з раптоўна сціхлым маторам ткнуўся носам у берагавы пясок* (Т.Хадкевіч). *Рабочыя ... праводзілі рамонтныя работы* ***паблізу вёскі Прудок*** *Гарадоцкага раёна* («Звязда», 11.01.05). *Верабей – невялікая птушка атрада вераб'іных з карычнева-шараватым апярэннем, якая жыве пераважна* ***паблізу чалавека*** (ТСБМ). ***Паблізу Свіцязі і Завосся*** *знаходзяцца Тургановічы, у часы Міцкевіча – радавы маёнтак Верашчакаў* (К.Тарасаў). З асабовым займеннікам і з рэдукцыяй назоўніка: *Фрыдэрык быў* ***паблізу мяне****, аддзелены дзвюма галовамі, галава яго была* ***паблізу****, і я мог яе бачыць...* («Arche»). ▶*Але ён аказаўся* ***паблізу*** *і ў той свой прыход прапанаваў Антону ўступіць у партызанскі атрад* (В.Быкаў). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *недалёка ад; паблізу ад*. Рус. ***недалеко от*** *кого/чего.*

**ПАБЛІЗУ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Верхаводка – падземная вада, якая залягае* ***паблізу ад зямной паверхні*** (ТСБМ). ***Паблізу ад Пакроўскага манастыра****, скажам, выбухнуў у вайну снарад, і ў варонцы знайшлі рымскую рэспубліканскую манету Спурыя Афранія* (У.Караткевіч). ***Паблізу ад бакавых сцен*** *дома, групамі і паасобку, раслі старыя каштаны разам з дэкаратыўнымі кустарнікамі* (Інт.). *Людзей, якія самавольна пасяліліся ў вёсках* ***паблізу ад Чарнобыля*** *і ў самім Чарнобылі, не так ужо і шмат – да чатырох соцень чалавек* (газ.). *Лагойск размешчаны* ***паблізу ад аўтамабільнай трасы*** *Мінск – Віцебск* (Інт.). *Студзень – спрыяльны месяц для назірання Сатурна, пакольні планета знаходзіцца* ***паблізу ад процістаяння*** («Родны край», 2007). *Я адчуваю, што ты знаходзішся* ***паблізу ад мяне****, я думаю пра гэта нават тады, калі раблю зусім дрэнныя рэчы* («Arche»). Сін. *блізу ад; недалёка ад*. Рус. ***поблизости от*** *кого/чего.*

**ПАБЛІЗУ АД ТЭРЫТОРЫІ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *У XIII стагоддзі паблізу* ***ад тэрыторыі раёна*** *ўзнік яшчэ адзін удзельны цэнтр – Свіслач* (Інт.). Сін. *паблізу ад; паблізу ад абшараў.* Рус. ***поблизости от территории*** *чего.*

**ПАБЛІЗУ АД УВАХОДА/У НА** *што* Він. Ускладн. Прастор.: удакладнены лакатыў: партытыў + камплетыў: *За 4 м на захад ад паўночна-заходняга кута гэтага раскопа,* ***паблізу ад увахода на свяцілішча*** *была закладзена прарэзка вала даўжынёй 8 м і шырынёй 2 м* (Інт.). Ант. *далёка ад уваходу на.* Сін. *ля уваходу на.* Рус. ***недалеко от входа на*** *что.*

**ПАБЛІЗУ ДА** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Большасць месцараджэнняў нафты і газу, размешчаных* ***паблізу да паверхні****, ужо выкарыстана* (падручн.). Сін. *блізка ля.* Рус. ***ближе к*** *кому/чему.*

**ПАБЛІЗУ З** *кім/чым* Тв. Прастор.: лакатыў: *Гэта падарунак горада Кіева – гораду Мінску. Устаноўлены ў скверы* ***паблізу з амбасадай*** *Украіны ў Беларусі* (радыё «Рацыя»). Сін. *недалёка ад.* Рус. ***рядом с*** *кем/чем.*

**ПАБЛІЗУ КАЛЯ** *каго/чаго* Род. Прастор.: рэдуплікаваны лакатыў: ***Паблізу каля прахадной*** *і на шашы заўжды таўкліся вайскоўцы, афіцэры ды прапаршчыкі, сярод якіх калісьці было нямала знаёмых* (Інт.). Сін. *каля; паблізу.* Рус. ***возле*** *кого/чего;* ***рядом с*** *кем/чем.*

**ПАБЛІЗУ ЛЯ** *чаго* Род. Прастор.: рэдуплікаваны лакатыў: *Мясціны прыгожыя і* ***паблізу ля горада*** (Інт.). Ант. *далёка ад.* Сін. *блізка ля.* Рус. ***близко к*** *чему.*

**ПАБЛІЗУ НА** *чым* Месн. Ускладн. Прастор.: удакладнены лакатыў: *Аляксей азірнуўся на Сонцава, які з санлівым выглядам сядзеў* ***паблізу на броўцы*** *дарогі* (І.Мележ). Рус. ***возле на*** *чем.*

**ПА БОЛЬШ ЧЫМ** *колькіх адзінках* Месн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Службы занятасці прапануюць бясплатную падрыхтоўку* ***па больш чым 70 спецыяльнасцях*** («Звязда»). Рус. ***по более чем*** *скольким единицам.*

**ПАБУДОВЫ** *якога года* Род. Характарызатар: тэмпаратыў-генератыў: *Агледзім храм звонку і знутры, потым, перш чым рушыць далей па маршруце да праваслаўнай царквы* ***1886 года пабудовы,*** *паабедаем у хваёвым ляску* (Інт.).

**ПА ВЕДАМСТВЕ/У** *чаго* Род. Рубрыкатыў: *Напэўна, поспех у галіне тэарэтычнай педагогікі схіліў аўтара да службы* ***па ведамстве народнай асветы*** «Гарадзенскія запісы», 1993 вып.1). *Служба* ***па ведамству народнай асветы*** *Ястрабцова скончылася ў 1958 года ў Віцебскай губерні* «Гарадзенскія запісы», 1993 вып.1). Сін. *па часці; па справах*. Клішэ-тэрмін. Рус. ***по ведомству*** *чего/какому.*

**ПАВЕРСЕ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў-характарызатар: *Сасняк-самасейка, Як шчотачка **паверсе гор*** (Я.Колас). ▶ [Пніцкі] *падпаразаўся **паверсе*** [чаго?] *вузенькаю папружкаю* (К.Чорны). Прыслоўе: *Пажар ішоў **паверсе*** (ТСБМ). Сін. *паверх.* Рус. ***поверх*** *чего.*

**ПА ВЕРСЕ** *чаго* Род. Аб'ектны лакатыў: партытыў + камплетыў: *Салдат штурхнуў яго ў бок, і толькі **па версе галавы** перабежчыка слізгануў кулак Сяргея Карагі і збіў шапку* (Я.Колас). Рус. ***по верху*** *чего.*

**ПА ВЕРСІІ** *каго* Род. Аўтарызатар: «*Песняй года» **па версіі гледачоў** тэлеканала АНТ, стаў «Чорны бумер» у выкананні гомельскага рэпера Сярогі («Звязда»,* 4.01.05 г.). Сін. *на думку.* Рус. ***по версии*** *кого.*

**ПАВЕРХ-1** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Хрысціцель перад ім на доўбні ўспіраўся І галавой **паверх яе** круціў, нібыта Вялікім гарбузом, на доўгі кій узбітым* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Двое рабочых у памаранчыкавых камізэльках **паверх ватовак** падмяталі гумовую бегавую дарожку* (У.Сакалоў). *І вось **паверх галоў** у зборышчы кіпучым Пад бэльку шугануў слуп светлы і бліскучы* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *А вяжуць у адно калон тых верхавіны, сагнутыя пад стыль гатыцкі, лукавіны. **Паверх іх** упрыгожанні ідуць выкрутам, не долатам, а простым сечаныя склютам* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ТСБПШ –прыназ. Рус. ***поверх*** *кого/чего.*

**ПАВЕРХ-2** *каго/чаго* Род. Прастор.: дырэктыў: *Круль засяроджана пазіраў **паверх прысад** і ўсяго што рабіў – маўчаў* (Я.Пархута). ***Паверх дзерава** пайшоў* (нар.). *Маладыя яблынькі адно самымі вяршкамі выглядалі **паверх жыта*** (К.Чорны). ◊ ***Пайсці паверх папараці*** – адбіцца ад рук, вырасці неслухам.– *Мама, што называецца, дыхала на мяне. Але не дазваляла, каб пайшоў **паверх папараці*** (Р.Барадулін). ТСБПШ – прыназ. Рус. ***поверх*** *кого/чего.*

**ПА ВІНЕ** *каго/чаго* Род. Прычын.: каўзатар: *Аварыя ўзнікла **па віне будаўнікоў** з-за парушэння разліковых нормаў пры ўзвядзенні збудаванняў* (Асновы мед.ведаў). *Праверкай выяўлена, што **па віне кіраўніцтва** завода прадпрыемства толькі за апошнія два гады панесла неабгрунтаваныя страты, якія налічваюць дзесяткі мільярдаў рублёў* («Звязда», 06.01.05). *У 40 працэнтах выпадкаў ДТЗ адбываюцца **па віне п'яных вадзіцеляў*** («Звязда», 18.02.05). *Мой сын разумны быў хлапчына, А зараз, **па віне Суддзі**, ён небарака* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *з віны*. Рус. ***по вине*** *кого/чего.*

ПА ВОБРАЗЕ/У *каго/чаго*

**ПА ВОДГУКАХ** *каго/чаго* Род. Аўтарызатар: ***Па водгуках спецыялістаў**, гэта ўнікальны ў СНД аўтамабіль* («Звязда»). Сін. *па сведчанні; на думку*. Рус. ***по отзывам*** *кого/чего.*

**ПАВОДДАЛЬ** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *За брамаю валялася **паводдаль хаты**, Як галава дзіцячая, ядро гарматы Ад шведскіх часаў* (А.Міцкевіч. Пер.П.Бітэля). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *паводдаль ад*. Рус. ***недалеко от*** *кого/чего.*

**ПАВОДДАЛЬ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***Паводдаль ад дарогі*** *расла дзічка* (ППШ). ТСБПШ – спалучэнне прысл. з прыназ. Сін. *воддаль ад*. Рус. ***недалеко от*** *кого/чего.*

**ПАВОДЛЕ-1** *чаго* Род. Аўтарызатар-сурсіў: *У курганах, **паводле народных паданняў**, хавалі волатаў* (Т.І.Шамякіна). Сін. *па даных; па звестках.* Рус. ***по*** *чему.*

**ПАВОДЛЕ-2** *каго* Род. Аўтарызатар-адрасант: ***Паводле Чорнага**, мова і стыль – гэта тыя формы, у якіх падаецца чытачу думка твора* (А.Каўрус). *Ахоўныя археалагічныя раскопкі, **паводле заключэння спецыялістаў**, павінны былі расцягнуцца не менш чым на тры гады* («ЛіМ», 28.10.88). Не ўжываецца з займеннікам 1-й асобы: **паводле мяне.* Для гэтага – сін. *як на*: ***як на*** *мяне; на маю думку.* Сін. *на думку.* Рус. ***по мнению*** *кого.*

**ПАВОДЛЕ-3** *чаго* Род. Рэлят адпаведнасці: ***Паводле закона*** *„застою», энергія вялікай гаварыльні не здольная ператварацца ў энергію практычных дзеянняў* («ЛіМ», 30.03.90). ***Паводле сваіх патрэб і жаданняў*** *мы пераўтваралі сваю зямлю* (К.Чорны). *Фільмы, зробленыя ў новай стылістыцы – «The Kingdom II» і «Ідыёты» – гэта своеасаблівы пратэст, але пратэст творчы, супраць панавання амерыканскага «капіталістычнага» кіно і перабольшвання ролі рэжысёра і прадзюсара ў творчым працэсе (**паводле «Догмы-95»** імя рэжысёра не фігуруе ў тытрах ні на пачатку, ні пры канцы фільма)* (С.Фяненка). // *Паводле працы і зарплата*. ТСБПШ – прыназ. Сін. *згодна з*. Рус. ***согласно*** *чему*.

**ПАВОДЛЕ-4** *чаго* Род. Прычын.: каўзатыў: *Пасля разгрому Напалеона, **паводле рашэння Венскага кангрэса** (1815), Прымор'е было аддадзена Аўстрыі* (І.А.Чарота). Сін. *дзякуючы.* Рус. ***по*** *чему;* ***благодаря*** *чему.*

**ПАВОДЛЕ-5** *чаго* Род. Крытэрый: *Дыскурс улады не з'яўляецца аднастайным **паводле гэтай прыкметы*** (Г.К.Чахоўскі). ***Паводле жанрава-тэматычнай прыналежнасці*** *згаданыя творы неаднастайныя* (навук.). ***Паводле ўжывання*** *прыдаткі-паўторы маюць стылістычна абумоўленыя абмежаванні* (навук.). *Малады Кузьма Чорны **паводле імпрэсіяністычнай манеры** пісьма быў блізкі да З.Бядулі* (І.Навуменка). Сін. *па.* Рус. ***по*** *чему.*

**ПАВОДЛЕ-6** *чаго* Род. Сурсіў: *Быў адноўлены ўсяго адзін спектакль – «Ідыёт» **паводле Дастаеўскага*** (А.Сабалеўскі). Сін. *аўтарства; па.* Рус. Род. без предлога: «*Идиот» Достоевского*.

**ПАВОДЛЕ-7** *чаго* Род. Рэлят суаднесенасці, датычнасці: *Паказальна, што выкладу У.Дубоўкам сваёй канцэпцыі папярэднічае яго аналіз словаўжывання ў мастацкіх тэкстах* ***паводле стылістычных і арталагічных крытэрыяў*** (В.М.Ляшук). ***Паводле граматычнага роду*** *такія намінацыі суадносяцца з формамі мужчынскага роду* (навук.). ТСБПШ – прыназ. Сін. *прымяняльна да.* Рус. ***применительно к*** *кому/чему.*

**ПАВОДЛЕ АНАЛОГІІ З** *чым* Род. Рэлят аналогіі: *Тут, можна, відаць, дапусціць, што такі грамадскі лад не абавязкова быў звязаны з панаваннем аднаго полу, як можа падацца з тэрміну «матрыярхат»* ***паводле*** *яго семантычнае* ***аналогіі са словам*** *«патрыярхат»* (К.Мілет. Пер. А.Скурко). Сін. *па аналогіі з.* Рус. ***по аналогии с*** *чем.*

**ПАВОДЛЕ ВОЛІ** *каго* Род. Прычын.: каўзатар-аўтарызатар. Сінтаксема ўскладняецца за кошт ўжывальных слоў тыпу *закон, традыцыя, рашэнне, указ* і інш.: ***паводле закону*** *чаго;* ***паводле формулы*** *якой;* ***паводле традыцый*** *каго;* ***паводле рашэння*** *каго* і г.д.: ***Паводле прыгавору ваеннапалявога суда*** *Валовіча павесілі ў Гародні* («Наша слова»). ▲ *Ганна Ахматава была веруючая жанчына, паэтэсу адпявалі ў царкве* ***паводле яе волі*** («ЛіМ»). Сін. *па волі; згодна з воляй.* Рус. ***согласно воле*** *кого*.

**ПАВОДЛЕ КРЫТЭРЫЯЎ** *чаго* Род. Ускладн. Крытэрый: *Бог не ацэньвае чалавека на падставе колеру скуры, мовы, адукацыі, банкаўскага рахунку, здольнасцяў ці іншых другасных рэчаў, але робіць гэта* ***паводле крытэрыяў нязменнай вартасці*** (Арцыбіскуп Т.Кандрусевіч). Ант. *безадносна да.* Сін. *паводле; па крытэрыях.* Рус. ***согласно критериям*** *чего.*

**ПАВОДЛУГ** *чаго* Род. Аўтарызатар. Прыведзены П.П.Шубам без кантэкста. ТСБПШ – прыназ.; устар. і абл.; тое ж, што і паводле.

**ПА ВОЛІ** *каго/чаго* Род. Канфірматыў + суб'ект-каўзатар: *Пакуль Касцюшка адсутнічаў, Людвіка Сасноўская* ***па волі бацькі*** *сталася княгіняй Любамірскай* (К.Тарасаў). *Што ж, хочацца пагаварыць пра шчасце, якім яны абдзелены* ***па волі гэтай суровай, дзікай вайны****, пра шчасце, што прыйдзе калісьці, што ходзіць недзе* (Я.Брыль). *Гэтыя значэнні ці адценні фіксуюцца ў нарматыўных даведніках не* ***па волі складальнікаў-лінгвістаў****, а на аснове маўленчай практыкі людзей, звычайна пры апоры на практыку аўтарытэтных аўтараў, на частотнасць ужывання пэўнага значэння, на іншыя крытэрыі, істотныя пры кадыфікацыі моўнай нормы* (І.Я.Лепешаў). *Сын Божы ўвайшоў у свет, створаны ім Самім* ***па волі Бога Айца*** (Мітрапаліт Філарэт). *Пасля з вёскай стала наступнае: да паўстання яна мела назву Пакроўка, пазней – Сабакінцы і толькі праз сто*

*гадоў – пры савецкай уладзе – **па волі насельніцтва** яна была пераіменавана ў Першамайск* «Гарадзенскія запісы», 1993 вып.1). ***Па волі лёсу** Філіповіч прычыніўся да цікавай і драматычнай гісторыі аднаго з самазванцаў, якога ўлады Рэчы Паспалітай рыхтавалі на маскоўскі трон* (К.Тарасаў). ▲ *І ад жаху, а можа, і **па волі божай**, які ўсё гэта наслаў, людзі ў той год нядужалі* (У.Караткевіч). *І на-дзіва мала ў той год нарадзілася дзяцей, можа таму, што быў голад і пошасць, а можа, **па волі божай**, каб не пакутавалі бязвінныя* (У.Караткевіч). Сін. *паводле волі.* Рус. ***по воле** кого/чего.*

**ПА ВОСІ** *чаго* Род. Характарызатар: ***Па восі ардынат. Па восі вярчэння.*** ▬ *Графік каардынаты, як вынікае з формулы ... будзе падняты **па восі ардынат** або апушчаны* (падручн.). Фіз. тэрм. Рус. ***по оси** чего.*

**ПА ВУЛІЦЫ** *каго* Ускладн. Характарызатар: эксплікатар + анамасіятыў; з уласным назоўнікам пры ўказанні адрасу: *І мы пайшлі ў кватэру, якую ён* [Караткевіч] *толькі што атрымаў у блочным, «хрушчоўскім», доме **па вуліцы Чарнышэўскага** пад нумарам 7* (А.Мальдзіс). Сін. *на вуліцы.* Рус. ***по улице** кого.*

**ПА ВЫВУЧЭННІ/Ю** *чаго* Род. Рубрыкатыў: *Курсы **па вывучэнню замежных моў.*** Клішэ. Рус. ***по изучению** чего.*

**ПА ВЫКАНАННІ/Ю** *чаго* Род. Рубрыкатыў: *Будуць ажыццёлены праверкі **па выкананню заканадаўства*** («Звязда». 06.01.05). Клішэ. Рус. ***по выполнению** чего.*

**ПА ВЫКАРАНЕННІ/Ю** *чаго* Род. Рубрыкатыў: *Камітэт праінспектуе, як праводзіцца работа **па выкараненню** з гаспадарчых адносінаў **бартэру** і неабгрунтаваных **пасрэднікаў*** («Звязда», 06.01.05). Клішэ. Ант. *па ўкараненню.* Сін. *па ліквідацыі.* Рус. ***по искоренению** чего.*

**ПА ВЫКЛІКУ** *каго* Род. Прычына: каўзатыў: *Калі ён* [князь Юрый Пінскі] *пад час вайны вяртаўся **па выкліку князя Вітаўта** на радзіму, дык вёў пінскую харугву, дзе яго ведалі і дзе ён карыстаўся «законнай уладай»* (К.Тарасаў). ▶*Выпатрабаваць – прымусіцца з'явіцца куды-небудзь **па выкліку*** (ТСБМ). Ант. *без выкліку.* Рус. ***по вызову** кого.*

**ПА ВЫНІКАХ-1** *чаго/якога дзеяння* Род. Каўзатыў-кантролер: ***Па выніках свідравання і іншых метадаў даследавання** ўстаноўлена, што дыяметр варонкі метэарытнага кратэра складае каля 15 км, а глыбіня большая за 150 м* (падручн.). Сін. *у выніку*. Рус. ***в результате** чего.*

**ПА ВЫНІКАХ-2** *чаго/якога дзеяння* Род. Дэлібератыў: *У гэтым годзе выпускнікі ўжо не змогуць здаць выпускныя іспыты ра-*

*ней часу, бо сертыфікаты* ***па выніках*** *платнага* ***тэсціравання*** *выдавацца не будуць* («ЛіМ»). Сін. *аб.* Рус. ***по результатам*** *чего.*

**ПА ВЫНІКАХ-3** *чаго/якога перыяду часу* Род. Час.: дыменсіў-патэнсіў: *Між тым, адзначаюць у міністэрстве,* ***па выніках 2005 года*** *сярэдняя зарплата павінна дасягнуць 250 долараў ЗША* («Звязда», 05.01.05). *Алкагольны лідэр пацясніў на адну пазіцыю галоўнага металіста – РУП «БМЗ», уклад якога ў дзяржкапілку скараціўся з 1,47 %* ***па выніках першага паўгоддзя*** *2004 году да 1,18 %* («Наша Ніва», 4.02.05). Сін. *за перыяд.* Рус. ***по итогам*** *чего.*

**ПА ВЫНІКАХ ЗА** *які час* Він. Час.: дыменсіў-патэнсіў: ***Па выніках за 2004 год*** *розніца ў сярэдніх заробках настаўнікаў і ўрачоў склала 77 долараў* («Звязда», 29.01.05). ***Па выніках за мінулы год,*** *у Беларусі па ўсіх каналах рэаліхзацыі было прададзена насельніцтву амаль 144 тысячы тон рыбы* («Звязда», 4.02.05). Сін. *за*; *за перыяд.* Рус. ***по итогам за*** *какое время.*

**ПА ВЫНІКАХ (чаго) НА** *які час* Він. Час.: дыменсіў-патэнсіў: *Не сумняваемся што заслуга паштавікоў ёсць і ў тым, што* ***па выніках падпісной кампаніі на І паўгоддзе і 1-ы квартал 2005 года*** *колькасць прыхільнікаў старэйшага ў краіне, адзінага штодзённага беларускамоўнага рэспубліканскага выдання значна вырасла* («Звязда», 29.01.05). Сін. *на; на перыяд.* Рус. ***по итогам на*** *какое время.*

**ПА ВЫРАБЕ/У** *чаго* Род. Ускладн. Рубрыкатар + эксплікатар: *Пасля вяртання з палону Грас некаторы час працуе на шахце, затым – вучнем у каменячоса, майстра* ***па вырабу*** *надмагільных* ***пліт*** (Е.А.Лявонава). *Гэты гарадок Шуйск аператыўна перайменавалі ў горад Клім, для забеспячэння занятасці насельніцтва там было пабудавана прадпрыемства* ***па вырабе гарэлкі*** *для Крамля і створана конна-спартыўная база імя Марыны М* (Jan Kakupala). *Вынік шматгадовага супрацоўніцтва – каскадную міні-кацельню – дэманструе начальнік участка* ***па вырабу газавых катлоў*** *кампаніі «Альфа-Калор» Ігар Севасцееў* («Звязда», 28.01.05). *Хутка адчынім майстэрню* ***па вырабу акуляраў*** («Звязда», 25.02.05). Ант. *па ліквідацыі.* Сін. *па вытворчасці.* Рус. ***по изготовлению*** *чего*.

**ПА ВЫРАЗЕ/У** *каго/чаго* Род. Аўтарызатар: *Як не трапіў у «палату мінёраў» (****па выразу майго друга*** *паэта Р.Барадуліна), сам не ведаю* (У.Караткевіч). *Розныя азначэнні слова знаходзяцца ў адносінах дапаўняльнасціі з'яўляюцца,* ***па выразу Я.Д.Паліванава,*** *«указкамі на адну і тую ж велічыню»* (А.Я.Міхневіч). Сін. *па словах.* Рус. ***по выражению*** *кого.*

**ПА ВЫРОШЧВАННІ/Ю** *чаго* Род. Ускладн. Рубрыкатар + \эксплікатар: *Сёння сусветны лідар* ***па вырошчванню і экспарту грыбоў*** *– Кітай* («Звязда», 16.02.05). Рус. ***по выращиванию*** *чего.*

**ПА ВЫТВОРЧАСЦІ** *чаго* Род. Ускладн. Рубрыкатар + эксплікатар: *План* ***па вытворчасці малака*** *выканалі.* ▬ *А сутнасць гэтай гульні можна выказаць коратка: калі людзям плацяць за паказчыкі, дык яны робяцца спецыялістамі* ***па вытворчасці паказчыкаў*** («Полымя», № 9, 1987). *Канкурэнтамі ММЗ* ***па вытворчасці аўтамабільных рухавікоў*** *можна лічыць КамАЗ і яраслаўскія заводы* («Народная газета», 9.02.05). *Дарэчы, назву творчай суполкі Schmerzwerk, удзельнікам якой ты з'яўляешся, можна перакласці як «Завод* ***па вытворчасці болю»*** (М.Анішчанка). Сін. *па вырабу; па* (размоўн.): *План* ***па малаку*** *выканалі.* Рус. ***по производству*** *чего.*

**ПА ВЫХАДЗЕ** *чаго* / **ПА** *чыім* **ВЫХАДЗЕ** Род. Ускладн. Час.: тэмпаратыў экзістэнцыі: ***Адразу па выхадзе свайго зборніка*** *твораў «Песні з-за кратаў» Сяргей Новік-Пяюн даслаў яго М.Танку* (М.Мікуліч). ▲ *Гаворка тут – пра адну з лепшых кніг у нацыянальнай паэзіі 60-х гадоў, зборнік М.Танка «Глыток вады», дасланы аўтарам* ***па яго выхадзе*** *сваім сябрам у Вільню* (М.Мікуліч). Сін. *з выхадам.* Рус. ***по выходе*** *чего.*

**ПАВЭДЛУГ-1** *каго/чаго* Род. Аўтарызатар: ***Павэдлуг маці,*** *дачка павінна ўсё ўмець.* Можа ўжывацца з займеннікам 1-й асобы: *павэдлуг мяне.* Сін. *як на.* ▬ *«Открытіе міра» Смірнова. Добра, але ж занадта****, як на мяне****, грунтоўна* (Я.Брыль); *на думку.* Рус. ***по мнению*** *кого.*

**ПАВЭДЛУГ-2** *каго/чаго* Род. Рэлят адпаведнасці: ***Павэдлуг харча*** *пойдзе работа* (К.Чорны: ТСБПШ). ТСБПШ — прыназ.; устар. і абл. Сін. *адпаведна.* Рус. ***соответственно*** *чему.*

**ПАВЭДЛУГ-3** *каго/чаго* Род. Крытэрый: *Вакол іх* [Власты і Ядвігіна Ш.] *згуртаваліся чуць не ўсе нашы аўтары апавяданняў, вытвараючы* ***павэдлуг гэтага*** *два асобныя слаі...* (М.Багдановіч). Сін. *адносна*. Рус. ***относительно*** *чего.*

**ПАВЭДЛУГ-4** *каго/чаго* Род. Рэлят параўнання: супрацьпастаўленне: «*Што ты гэнымі ржавымі стрэльбамі зробіш* ***павэдлуг войска****?.. – не згаджаецца з Пронькам, як заўсёды, Паўлюк* (В.Каваленка: ТСБПШ). Сін. *супраць; у параўнанні з.* Рус. ***супротив*** *чего.*

**ПА ГАЛІНАХ (Мн.л.)** *чаго* / **ПА** *якіх* **ГАЛІНАХ** *чаго* Род. Рубрыкатыў-класіфікатар: *Навуковыя бібліятэкі працуюць над стварэннем і папулярызацыяй інфармацыйна-бібліяграфічных рэсурсаў* ***па пэўных галінах навукі*** (І.Смірнова). Сін. *па*. Рус. ***по отраслям*** *чего.*

**ПА ГАЛІНЕ (Адз.л.)** *чаго* Род. Рубрыкатыў: *Гэта прадметная мадэль (па форме падачы), немаштабная (у залежнасці ад знешніх памераў), дынамічная (у залежнасці ад часу), электронная* ***(па галіне ведаў)*** (падручн.). Сін. *па сферы*. Рус. ***по отрасли*** *чего*.

**ПА** *колькі адзінак* **ГЛЫБІНІ** Він. Дыменсіў-дыстрыбутыў: *Роўнае поле, і раптам на ім сапраўды, як воспа, правалы* ***па некалькі метраў глыбіні*** *густа зарослыя бярозкамі, вольхамі, асінкамі, лазрой, розным хмызняком* (У.Караткевіч). Сін. *па ... у глыбіню*. Рус. ***по*** *сколько единиц* ***глубины.***

**ПА ГРУПЕ «***што***»** Наз. Анамасіятыў: *Трэці год запар ААБ «Беларусбанк» прызнаецца пераможцам нацыянальнага конкурсу «Брэнд года» ў спажывецкай намінацыі* ***па групе «Банкаўскія паслугі»*** («Звязда», 15.02.05). Сін. *групы; класа*. Рус. ***по группе «что»***.

**ПА ГРЭБЕНІ** *чаго* / **ПА самым ГРЭБЕНІ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: ***Па самым грэбені вала*** *ідзе дарожка, абсаджаная старымі дрэвамі* (В.Вольскі). Ант. *па схіле*. Сін. *па піку; па цэнтры*. Рус. ***по гребню*** *чего*.

**ПА ГЭТЫ БОК** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна цэнтральнага локума: *У любой вёсцы* ***па гэты бок шашы*** *можна было наскочыць на фашыстаў* (Новікаў: ТСБМ). *Ант. па той бок.* — *Такі выпадак заўсёды можа быць, я гэта ведаю, бо сам ваяваў. Асабліва цяпер, калі* <u>*па той бок фронту*</u> *і* ***па гэты бок*** *тыл вялікі* (І.Чыгрынаў). Сін. *па левы бок; па правы бок*. Рус. ***по эту сторону*** *чего*.

ПАД ***ТСБПШ; ТСБМ – прыназоўнік.***

**ПАД[1]-1** *што* Він. Час: тэмпаратыў-арыенцір адносна пары сутак; ужываецца з назоўнікамі тэмпаральнай семантыкі *вечар, раніца, поўнач* і г.д.: *Але дарогі падсыхалі,* ***пад ранак*** *часам здараўся невялікі марозік* (В.Быкаў). *Ён задрамаў толькі* ***пад досвітак****, але і цяпер спаў нядоўга, бо разбудзіла гаворка* (І.Мележ). *Ноч там пераседзеў пад хваінай,* ***пад ранак*** *не вытрымаў, пастукаў да аднаго дзядзькі, якому верыў, дазнацца каб, што ўсё ж такі здарылася* (В.Быкаў). *Яўхім так спрытна пусціў чутку, што* ***пад поўдзень*** *у Куранях не было такога чалавека, які б не ведаў, што Маслак жывы і дужы* (І.Мележ). Не ўжываецца з анафарычнымі займеннікамі: *пад ранак – *пад яго.* || Прыстаўка ў прыслоўях: *Калі ж замірае* ***Падвечар*** *абшар, На хвоі іграе Багрысты пажар* (Я.Колас). Рус. ***под*** *что*.

**ПАД[1]-2** *што* Він. Час: тэмпаратыў-арыенцір адносна свята: *Якраз* ***пад вербніцу*** *ў суботу, у самы снег і гразь і слоту ў будан Міхал з Алесем пхаўся* (Я.Колас). Сін. *перад*. Рус. ***перед*** *чем*; ***накануне*** *чего*; ***в канун*** *чего*.

**ПАД[1]-3** *што* Він. Час.: тэмпаратыў даты: *Так, напрыклад, была створана «тэорыя», якую абавязкова даюць у падручніках і нават у акадэмічных выданнях, быццам назва Русь Чорная ўзнікла пасля таго, як Літоўскае княства **пад 1215 год** захапіла землі Гродзеншчыны, а ў адрозненне ад гэтых «заваяваных» зямель Полаччына і Віцебшчына сталі называцца Белай Руссю* (К.Тарасаў). Сін. *у канцы (1214-га года).* Рус. ***в конце** чего (предшествующего года).*

**ПАД[1]-4** *што* Він. Характарызатар: сітуант-камітатыў; са словамі, якія абазначаюць акустычныя з'явы (*спеў, звон, шолах, крык, смех* і г.д.): *Агнём жыцця я слаўлю шумны горад – **Пад звон** зары, **пад спеў** гуллівы бур* (У.Хадыка). ***Пад крык** гусей і журавоў Мой родны Край згадаю зноў* (Р.Крушына). ***Пад гул і крыкі адабрэння** ён Дубадзел уліў у сябе поўную шклянку самагонкі, паставіў шклянку дагары, паказваючы, як трэба піць за такую вялікую справу, – да кропелькі* (І.Мележ). *Мінскі дзяржаўны палац дзяцей і моладзі выпеставаў **пад шолах хваляў Камсамольскага возера** не адно пакаленне творчых людзей* («ЛіМ»). *Вучнёўская моладзь з цікавасцю паслухала вершы, пакладзеныя на музыку і выкананыя аўтарам **пад гітару*** («ЛіМ»). *Мае сябры **пад свіст мяцелі, Пад свіст свінца** ў баі ішлі* (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). ◊ *Танцаваць **пад язык*** (г.зн. без музычнага суправаджэння). Сінтаксема функцыянальна набліжаецца да інварыянтнага фарманта ўскладненай сінтаксемы *пад акампанемент чаго*. Сін. *пад акампанемент.* Рус. ***под** что.*

**ПАД[1]-5** *што* Він. Нерухомы аб'ект: дырэктыў-фініш, ніжэй паверхні якога якога накіравана дзеянне уніз па вертыкалі: *Палажыць скрутак **пад страху**. // Гаў, да і схаваліс **пад печ**. Падагнуў хвост ды **пад мост***. Ант *з-пад.* Сін. *уніз пад.* Рус. ***под** что.*

**ПАД[1]-6** *што* Він. Нерухомы аб'ект: дырэктыў-фініш, да ніжняй паверхні якога накіравана уверх па вертыкалі дзеянне: Прастор.: дырэктыў-фініш: *І толькі калі ўзляцелі ўгору галасы спевакоў – **пад шаты голых бяроз, пад зоры** – яна зрабіла крок да яго* (У.Караткевіч). Ант. *з-пад.* Сін. *уверх да.* Рус. ***к** чему.*

**ПАД[1]-7** *што* Він. Аб'ектны дырэктыў-фініш, блізка да якога па гарызанталі накіравана дзеянне: *Падсунуць ложак **пад сцяну**.* ▬ *Графскі конь убок з дарогі Праз поле **пад** замковыя пабег **парогі*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ◊ *Падсунуць **пад нос**. // А яму ўжо **пад Юр'я** нізадаўга.* ◊ *Падвесці **пад** дурнога **хату**.* Ант. *ад.* Сін. *да.* Рус. ***под** что.*

**ПАД[1]-8** *што* Він. Рухомы аб'ект: дырэктыў-фініш: покрыва або крыніца рэчыва, сродка: *Папасці **пад дождж**.* ▬ *Рунь з восені добра пайшла **пад снег**, добра выйшла ўвесну з-пад снегавой коўдры* (У.Караткевіч). *За шапку, Графа ўгледзеўшы, стары схапіўся І сваяку*

*паноў даўнейшых пакланіўся, Схіліўшы лысіну бліскучую* ***пад сонца****, Якое асвяціла ўміг рубцоў бясконца* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Ант. *з-пад*. Рус. ***под*** *что*.

**ПАД[1]-9** *што* Род. Аб'ектн.: інструментыў / дэстынатыў; ужываецца з саматызмамі: *Палажыць* ***пад галаву*** *падушку з сінціпону*. // *Кулачок* ***пад бачок****, камень* ***пад галоўку***. Сін. *для*. Рус. ***под*** *что*.

**ПАД[1]-10** *каго* Він. Пацыентыў пасля дзеяслова *падкопвацца* (‘накіраваць негатыўныя дзеянні супраць каго-небудзь з мэтай заняць яго месца’): *Ён ведаў, адчуваў, што Зеляной непрыкметна падкопваецца* ***пад шэфа*** (У.Караткевіч). Сін. *супраць*. Рус. ***под*** *кого*.

**ПАД[1]-11** *што* Він. Рэлят прыраўнівання: *Апрануцца* ***пад рокера***. **—** *Новы выштукаваны* ***пад нямецкі вугол*** *дом з цынкавым дахам і бела-нябескімі расхрыстанымі аканіцамі хаваўся ў цяньку пад ружаватымі старымі хвойкамі* (В.Адамчык). Сін. *на*. Рус. ***под*** *кого/что*.

**ПАД[1]-12** *што* Він. Рэлят адпаведнасці: *Жанчына была адзета* ***пад тагачасную моду*** (К.Чорны). *Джамбулу я песню сягоння пяю,* ***Пад сэрца*** *і думу настроіў сваю* (Я.Купала). ◊ ***Пад масць*** – падыходзіць.

**ПАД[1]-13** *колькі адзінак* Він. Квантытатыў-апраксіматар адносна росту істоты: *Але ўсё ж невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, каб адзін з хлопцаў, боўдзіла* ***пад два метры****, не асэнсаваў чагосьці* (У.Караткевіч). Сін. *каля*. Рус. ***около*** *скольких единиц*: *... если бы один из парней, верзила* ***метров около двух****, не продолжил разговор* (пер. В.Щедриной).

**ПАД[1]-14** *колькі адзінак / адзінак* **ПАД** *колькі* Він. Квантытатыў-апраксіматар: адносна ўзросту, вагі, колькасці і інш.; звычайна ў інтэрпазіцыі – паміж генітывам і лічэбнікам са значэннем прыблізнасці: *Старому ўжо* ***гадоў пад восемдзесят***. *Вяпрук быў* ***пудоў пад дванаццаць***. **—** *Таўкачаваты дзяцюк з багатай хаты.* ***Гадоў пад сорак****, а яшчэ ўсё кавалер* (Я.Брыль). З рэдукцыяй назоўніка: *...маё пакаленне Імя мае, Хоць майму пакаленню* ***пад дваццаць*** *ёсць* (А.Куляшоў). Сін. *амаль; каля*. Рус. ***под*** *сколько единиц*.

**ПАД[1]-15** *што* Він. У складзе апісальнага прэдыката; рэлят залежнасці: *Ставіць* ***пад сумненне***. *Весці* ***пад вянец***. *Падпасці* ***пад шкодны ўплыў.*** *Падпасці* ***пад падазрэнне***. *Падпасці* ***пад мабілізацыю***. **—** *Калі на працягу 30 хвілін прымет эфектыўнасці масажу сэрца не назіраецца, то неабходнасць далейшага ажыўлення ставіцца* ***пад сумненне*** (Асновы мед. ведаў). «*Убачыш, – ціха сказаў Раўбіч. – Сілком* ***пад вянец*** *павяду*» (У.Караткевіч). ◊ *Браць* ***пад увагу.*** **—** *Неабходна браць* ***пад увагу*** *не толькі будову сказа, значэнне і форму слоў, але і іх «акрасу», «фарбы»* (А.Каўрус). *Чаму прыліўны*

*выступ абягае Зямлю за час, на 52 мін большы за суткі? Вы зможаце зразумець гэта, калі прымеце* ***пад увагу*** *рух Месяца* (падручн.). ◊ *Аддаць* ***пад распіску.*** ◊ *Аддаць* ***пад суд***. ◊ *Браць* ***пад абстрэл*** – падвяргаць нападкам. ◊ *Узяць* ***пад казырок*** – аддаваць чэсць. Рус. *взять* ***под*** *козырёк; отдать* ***под расписку*** и под.; но: *принять* ***во внимание***.

**ПАД¹- 16** *што* Він. Дэстынатыў: аб'ект прызначэння: *Кадушка* ***пад агуркі***. *Грады* ***пад моркву***. — *Ацалелы ў Оршы касцёл пераабсталявалі* ***пад Дом культуры****, здаецца, будаўнікоў* (Н.Кучкоўская). Ант. *з-пад.* Сін. *для.* Рус. ***под*** *что.*

**ПАД¹-17** *каго / што* Він. Дырэктыў: дамінуючы суб'ект – асоба, ўлада, краіна: *Гэта было тады, як мы* ***пад другія Саветы*** *падпалі* (з размовы). *Вёска* ***пад Польшчу*** *адышла, пакуль у верасні трыццаць дзевятага Саветы не прыйшлі* (з размовы). Ант. *ад.* Сін. *да.* Рус. ***под*** *что.*

**ПАД¹-18** *што* Він. Сітуант-характарызатар: *Узяць* ***пад пахі.*** — *Дарагія гарнітуры хлопцаў сядзелі на іх, як на карове сядло, ціснулі* ***пад пахі****, мулялі ў грудзях* (У.Караткевіч). ◊ ***Лахі пад пахі*** – сабраць небагатыя пажыткі, узяць іх з сабой і пайсці (ТСБМ). — [Лабановіч:] – *Не цеш сябе, хлопча, марнымі надзеямі, а лепш паціхеньку бяры лахі* ***пад пахі*** *і выбірайся* (Я.Колас). Рус. ***под*** *что.*

**ПАД²** *чаго* Род. Час: тэмпаратыў-арыенцір: *Сонца бярэцца* ***пад паўдня*** *і пачынае грэць* (І.Пташнікаў). *Сонца стаяла высока – бралася* ***пад паўдня.*** *Такой парой гоняць дамоў з адранку скаціну* (І.Пташнікаў). Ант. *з.* Сін. *пад (што).* Рус. ***к*** *чему*: *Солнце поднимается* ***к полудню***.

**ПАД³-1** *кім / чым* Тв. Час паводле дамінуючага суб'екта – асобы, ўлады, краіны: *Краіна ж жыла тады яшчэ* ***пад бацькам*** *Сталіным* («ЛіМ», 27.09.91). *Цяпер гэты горад* [Рэжыцы] ***пад Латвіяй*** (М.Гарэцкі). *У Францыі сучаснай,* ***пад Напалеонам****, Няма дзе зараз разгуляцца пустазвонам* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Ужо, кажуць, і Мінск* ***пад немцам*** (В.Быкаў). ◊ *Быць/трымаць* ***пад абцасам*** – быць/трымаць у падпарадкаванні. Сін. *пад уладай*, *у панаванне, у цараванне.* Рус. ***в царствование*** *кого;* ***во владениях*** *чего;* ***во времена*** *кого.*

**ПАД³-2** *кім/чым* Тв. Суб'ект дамінавання: *Апошні раз, пайшоўшы на вайну з Агінскім У Вільню, дзе служылі разам* ***пад Ясінскім*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *пад камандаваннем.* Рус. ***под началом*** *кого.*

**ПАД³-3** *чым* Тв. Час.: тэмпаратыў адносна дамінуючага знака: *Нарадзіцца* ***пад шчасліваю зоркай.*** // ***Пад няшчаснаю / шчасліваю гвяздаю*** *нарадзіўся.* ***Пад такою ўжо*** *ён* ***планетаю*** *ўрадзіўся*. Рус. ***под*** *чем.*

**ПАД³-4** *кім/чым* Тв. Прастор.: лакатыў дзеяння па вертыкалі адносна ўнутранай паверхні нізкага локума: *Два берлагі былі на адной галявіне. Адзін **пад вываратнем*** (У.Караткевіч). Карэлюе з прыстаўкай прыслоўя ***пады**спадам: Ля Лажкоў над полем дрыжала густая, як туман, смуга; яна дрыжала і над трактарам, над выхлапной трубой, і тады Андрэю здавалася – трасецца **падыспадам** зямля* (І.Пташнікаў). // *Ляжыць **пад ганкам**, хвост абаранкам*. Ант. *на*: *Бываў **на лаве** і **пад лаваю*** (нар.). Сін. *унізе пад.* Рус. ***под** чем.*

**ПАД³-5** *кім/чым* Тв. Прастор.: лакатыў адносна паверхні пакрыва ці сродка: *Салат **пад маянэзам**. Селядзец «**пад кажухом**».* ▬ *Вялікія гарады мурашынага народу драмалі **пад снегам*** (У.Караткевіч). // ***Пад хвартухом** сядзіць. Сядзіць як мыш **пад венікам**.* ◊ ***Пад спудам*** (РБС). Рус. ***под** чем.*

**ПАД³-6** *кім/чым* Тв. Прастор.: ніжні лакатыў адносна ўнутранай паверхні высокага локума: ***Пад дрэвамі** было заціשна і ўтульна.* ▬ *Сымон цэлы год спаў у халупах пастухоў або проста **пад чыстым небам*** (У.Караткевіч). ◊ ***Жыць пад адной страхой / пад адным дахам*** – жыць разам, адной сям'ёй. ▬ *Пасля, калі яны жылі, як кажуць, **пад адной страхой**, Зазыба таксама пазбягаў размоў* (І.Чыгрынаў). Рус. ***под** чем.*

**ПАД³-7** *кім/чым* Тв. Прастор.: верхні лакатыў адносна ўнутранай паверхні высокага локума: ***Пад воблакамі** лятали ластаўкі.* Сін. *уверсе пад.* Рус. ***под** чем.*

**ПАД³-8** *чым* Тв. Прастор.: лакатыў адносна бліжняга локума: *Вось моладзь пастраляць у лес пайшла на ўцеху, 180 А дамы і старыя ля жняцоў, няйначай, **Пад лесам**, мо чакаюць юнакоў з удачай* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля).

**ПАД³-9** *чым* Тв. Прастор.: бакавы лакатыў адносна бакавой паверхні блізкага аб'екта: *І цяпер **пад вокнамі** старога цёплага дома аж шалеў ліловы і сіні бэз* (У.Караткевіч). *Але сёння Шарэйка вельмі здзівіўся, калі ўбачыў **пад вокнамі** Зазыбу* (І.Чыгрынаў). Ант. *ад.* Сін. *каля; ля.* Рус. ***у** чего.*

**ПАД³-10** *чым* Тв. Аб'ектн.: рухомы інструментыў-каўзатар: *Гучна скрыпіць снег **пад ботамі**.* ▬ *Пыліць **пад армейскімі ботамі** шлях, Медалі звіняць на грудзях* (Зарыцкі: ТСБМ). *Падлога падгніла, і дошкі хістаюцца **пад нагамі*** (Я.Колас). *Добра чую, як **пад нажніцамі** скрыгоча дрот* (А.Зарыцкі). *Натоўп адхіснуўся ад труны, як жыта **пад ветрам*** (У.Караткевіч). ***Пад сярпом** маім крывым Жыта хутка гнецца, Сноп за снопам у радкі Покладам кладзецца* (Ц.Гартны). Сін. *ад.* Рус. ***под** чем.*

**ПАД³-11** *кім* Тв. Лакатыў адносна локума – жывой істоты ці часткі яе цела: *Гарэла зямля **пад нагамі** ворагаў. // **Пад сабою** зямлі не чуе.* Сін. *пад ... у / у ... пад (Гарыць зямля **пад нагамі ў ворагаў**).* ◊ ***Пад пахай***. ━ *Позірк яго міжвольна не мог адарвацца ад заціснутай у яе **пад пахай** буханачкі* (В.Быкаў). ◊ ***Пад пахамі***. ━ *Сарочка памакрэла, асабліва **пад пахамі** ды на спіне, і прыліпла шчыльна да цела* (І.Мележ). Рус. ***под** чем; **под мышкой; под мышками***.

**ПАД³-12** *чым* Тв. Сітуатыў: каўзатыў-аб'ект: *Падаючы **пад страшным цяжарам** на спіну, ён адчуў ля самага аблічча гарачае смуроднае дыханне* (У.Караткевіч). Сін. *ад.* Рус. ***под** чем.*

**ПАД³-13** *чым* Тв. Характарызатар дамінавання: *Што здарылася? – гукнуў уголас Зазыба, калі і яны з Парфёнам Вяршковым нарэшце апынуліся **пад канвоем** сярод натоўпу* (І.Чыгрынаў). *Асабліва багата чаго для разумення гэтага даваў выпадак, што адбыўся ў Белай гліне, калі стары Якушок прасіў Чубара, каб той павёў яго праз вёску **пад вінтоўкай*** (І.Чыгрынаў). *Але пасля, як верамейкаўцы прайшліся **пад канвоем** у вёску ды пастаялі **пад страхам** на пляцы, шмат што змянілася ў іх свядомасці, калі не перайначылася* (І.Чыгрынаў). Рус. ***под** чем.*

**ПАД³-14** *чым* Тв. Прычын.: каўзатар-асяроддзе: ***Пад сцюжаю** фінскай скалеў – дранцвее ў ватоўцы рука* (М.Калачынскі). *Ладны і сівы, ён ехаў на сваім коніку проста, як ездзіў, напэўна, і **пад кулямі*** (У.Караткевіч). ◊ *Быць **пад мухай*** – быць п'янаватым. Рус. ***под** чем.*

**ПАД³-15** *чым/ калі* Тв. Час.: тэмпаратыў: *Чаго ніколі даўней не бывала, кідаўся Сцёпка, як у гарачцы ... і ледзь **пад раніцай** крыху супакоіўся* (Ядвігін Ш.). Сін. *пад (што).* Рус. ***под** что.*

**ПАД³-16** *чым* Тв. Каўзатыў зрокавага ўспрымання: *Свежы, іскрысты снег блішчаў **пад сонцам*** (П.Пестрак). Сін. *на.* Рус. ***под** чем.*

**ПАД³-17** *чым* Тв. Намінант: ***Пад нашатырным спіртам** разумеюць водны раствор аміяку* (ТСБМ). Сін. – Тв. без прыназ. Рус. ***под** чем.*

**ПАДА** *кім/чым* Тв. Фанетычны варыянт ***ПАД*** перад збегам зычных у форме *пада мной.*

**ПАД АБАРОНАЙ** *каго/чаго* / **ПАД** *якой* **АБАРОНАЙ** *каго/ чаго* / **ПАД** *чыёй* **АБАРОНАЙ** Род. Ускладн. Характарызатар: лакатыў-канфірматыў: *Пад абаронай вялікага дуба хавалася ад суровых вятроў кволая бярозка.* ━ *Паўночная Асецiя **пад абаронай Расіі** набыла самастойнасць* (Інт.). Рус. ***под защитой** кого/чего.*

**ПАД АБАРОНУ** *каго/чаго* Род. Характарызатар: дырэктыў-канфірматыў: *Побач з дубам цягнулася да сонца тоненькая бярозка, быццам хавалася **пад абарону ляснога волата** ад злых вятроў*

(Інт.). || Назоўнік з прыназоўнікам: *Браць каго-небудзь **пад абарону.*** Рус. ***под защиту*** *кого/чего.*

**ПАД АБЛАДАЙ** *каго/чаго* Род. Канфірматыў: *Шылі з яго* [чорнага аксаміту] *ледзь не ўсю падрад адзежыну, ды ўсё італьянскага крою, і няясна было, ці то край у жалобе, ці толькі **пад абладай моды**, ці ахвяры трох татарскіх шляхлў ушаноўвае, ці проста чорна-валошскі маскарад карнаваліць у краіне* (А.Лойка). Сін. *пад даймом; пад уплывам.* Рус. ***под влиянием*** *чего*.

ПАД АБЛІЧЧАМ *чаго*

**ПАД АБЦАСАМ У** *каго* Род. Ускладн. Канфірматыў: *Быць **пад абцасам у жонкі***. || Прыслоўе: *Жонка трымала яго **пад абцасам***.

**ПА ДАГАВОРАХ З/СА** *кім* Тв. Кандытыў: *Органы дзяржаўнай бяспекі маюць права праводзіць навуковыя, выпытна-канструктарскія даследаванні, праектныя, экспертныя, будаўнічыя і вытворчыя работы самастойна і **па дагаворах з дзяржаўнымі органамі і іншымі аргнаізацыямі**, прыцягваць да гэтых мэтаў экспертаў і спецыялістаў* («Звязда», 17.05.05). Сін. *на ўмовах.* Рус. ***по договорам с*** *кем.*

**ПАД АДНЫМ ДАХАМ З/СА** *кім/чым* Тв. Ускладн. Сітуант: камітатыў: *Да таго ж мы не пайшлі на закрыццё непасрэдна дзіцячага садка – ён застаецца **пад адным дахам з прытулкам**,і, такім чынам, ва ўсіх з'явілася магчымасць пераканацца – усе дзеці аднолькавыя* («Звязда», 29.01.05). Сін. *разам з.* Рус. ***под одной крышей с*** *кем/чем.*

ПА ДАДЗЕНЫХ *каго/чаго*

**ПАД АКАМПАНЕМЕНТ** *чаго* Род. Характарызатар-камітатыў: рэлят суправаджэння: *А ў звычайныя дні **пад акампанемент гэтага рарытэта** наярваў народны мелас на дудцы-жалейцы добразнаны Валодзя Пузыня* (А.Гаўрон). *Словам, **пад акампанемент нецэнзуршчыны** маё знаёмства з дзяўчынай скончылася* («Звязда», 18.02.05). «*Стары Ольса» – музыка беларускага сярэдневечча. Унікальнай з'явай беларускай культуры стаў асобны жанр гераічных балад і духоўных песняў **пад акампанемент ліры*** (Інт.). Ант. *без акампанемента.* Сін. *пад суправаджэнне.* Рус. ***под аккомпанемент*** *чего.*

**ПАДАЛЕЙ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-старт: *Іншым разам пагнаў бы гэтых выпівак ад пад'езда, **падалей ад людскіх вачэй*** (М.Карпечанка). *Усюды – на дарогах, на сцежках – тысячы і тысячы людзей ішлі на ўсход, каб адысці **падалей ад** крывавае **здані** смерці, якая штодня напамінала аб сабе грымотным рэхам жалеза, завываннем самалётных матораў…* (М.Лынькоў). ↔ **Падалей ад таго месца, дзе:** *Людзі моўчкі разышліся па хатах, **падалей ад таго месца, дзе** глуха парыпваў пад шалёным ветрам*

*апалены маланкаю дубовы сук* (М.Лынькоў). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ.; разм.; у знач. прыназ. Ант. *бліжэй да.* Сін. *далей ад.* Рус. ***подальше от*** *кого/чего.*

**ПАДАЛЕЧАЙ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-старт: *Аддаў мяне бацька падалечай ад сябе: сем міль борам ісці, а ось-мую морам плысці* (нар. песня: ТСБПШ). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ.; абл.; у знач. прыназ.

**ПА ДАМОЎЛЕНАСЦІ З/СА** *кім* Тв. Кандытыў: *Памер і парадак выплаты кампенсацыі за выкарыстанне асабістага аўтамабіля вызначаюцца* ***па дамоўленасці з наймальнікам*** («Звязда»). Сін. *згодна з.* Рус. ***по согласованию с*** *кем.*

**ПА ДАНЫХ** *каго/чаго* Род. Аўтарызатар: ***Па даных МКРА,*** *для насельніцтва, непасрэдна не звязанага з іанізуючымі выпраменьваннямі па рабоце, доза знешняга апраменьвання не павінна перавышаць 500 мбэр за год* (Асновы мед. ведаў). ***Па даных Белгідрамета*** *максімальная забруджанасць па цэзію ў Брагіне складае 67 кюры на км²* («Полымя», №9, 1990). ***Па даных археалогіі,*** *яшчэ да н.э. ужо выкарыстоўваліся прадметы і аздабленні, якія былі зроблены з бронзы і каштоўных металаў метадам адліўкі ў формы* (падручн.). *Намінальная пастаянная лічыльніка вызначаецца* ***па даных лічыльніка*** (падручн.). Сін. *па дадзеных; па звестках.* Рус. ***по данным*** *кого/чего.*

**ПАД АПЕКАЙ/Ю** *каго/чаго* / **ПАД** *якой* **АПЕКАЙ/Ю** *каго/чаго* / **ПАД** *чыёй* **АПЕКАЙ/Ю** / **ПАД АПЕКАЙ/Ю** Род. Ускладн. Лакатыўны канфірматыў: ...застацца ***пад апекай*** *сярэдняга* ***брата*** **(**А.Екадумаў). *Адроджаная «Мірская батлейка» цяпер* ***пад апекаю*** *мясцовага* ***МПТВ-234,*** *дзе рыхтуюць рэстаўратараў, керамістаў – адным словам сапраўдных творчых асоб* («Звязда», 5.02.05). *Знаходжуся я тут* ***пад апекай*** *вельмі сымпатычнага* ***доктара Е.Г.Карскага*** (М.Танк). ***Пад апекаю львавян*** *яно* [«Беларускае брацтва»] *мацнела, гуртавалася і гартавала*ся (С.Панізьнік). ■ ***Пад заўсёднай апекай Іваноўскага*** *былі дзевяць менскіх Дамоў дзіцяці, для якіх ён перш за ўсё стараўся дваставаць прадукты* (Ю.Туронак. Пер. В.Кавалёвай). ▲*Я меў* ***пад сваёй апекай*** *чатыры каровы, якія пасвіў на лясным квадраце, па бакох якога раслі жыта, бульба, капуста* (Юр. Монвід. Пер. Ф.Аляхновіча).|| *У лагерах рознага тыпу паправілі здароўе 16 тысяч хлопчыкаў і дзяўчынак ... дзяцей-сірот, якія знаходзяцца* ***пад апекай,*** *дзяцей-інвалідаў..* (газ.). Сін. *пад ахо-вай; пад наглядам*. Рус. ***под опекой*** *кого/чего.*

**ПАД АПЕКУ**[1] *каго* / **ПАД** *якую* **АПЕКУ** *каго* / **ПАД** *каго* **АПЕКУ / ПАД** *чыю* **АПЕКУ** Род. Дырэктыўны канфірматыў: *Паколькі*

*Саюз беларускіх пісьменнікаў і «Белліт-фонд» не маюць сродкаў, каб утрымліваць Дом творчасці ў належным стане, Мінская пісьменніцкая арганізацыя прапануе перадаць Дом творчасці **пад апеку дзяржавы** з тым, каб пасля неабходнага рамонту выкарыстоўваць яго для аздараўлення дзяцей, пацярпелых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС* («ЛіМ», 20.02.04). *І **пад апеку права** лёс аддам сялянскі* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Дзе б і з кім ён* [Максім Танк] *ні быў, куды б ні заносіла паэта паводка часу і абставін, як ён сам выказваўся..., яго заўжды цягнула дамоў, у родныя Пенаты, **пад апеку жонкі і вернага сябра Любові Андрэеўны*** (М.Мікуліч). Можа разрывацца назоўнікам: *Аж дваццаць тры валяюцца на смерць забітых, Больш трыццаці ўжо мучацца ад ран адкрытых, Шмат іх пабегла ў сад, за рэчку, ў хмель ад здзекаў, І колькі ў дом убегла **пад жанчын апеку*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Дык лепш ад улады адмовіцца ўжо чалавеку І аддаці сялян нашых лёсы **пад права апеку*** (А.Міцкевіч. Пер. Бр.Тарашкевіча). ▲ *Дырэктар чацвёртай школы Фрумкіна фактычна ўзяла **пад сваю апеку** хуліганаў, каб толькі ўтрымаць назву «ўзорнай школы»* (І. Куркоў). Сін. *пад ахову; пад крыло*. Рус. ***под опеку** кого*.

**ПАД АПЕКУ²** *каму* Дав. Дырэктыўны канфірматыў: *А мы аддаліся **пад апеку Генадзю Кісяляву*** (А.Мальдзіс). Сін. *пад апеку каго; пад патранат.* Рус. ***под опеку** кого.*

ПАД АПЯКУНСТВА *каго/чаго* / ПАД *якое* АПЯКУНСТВА / ПАД *чыё* АПЯКУНСТВА

**ПАД АПЯКУНСТВАМ** *каго/чаго* **/ ПАД** *якім* **АПЯКУНСТВАМ / ПАД** *чыім* **АПЯКУНСТВАМ** Род. Лакатыўны канфірматыў: *Душа – той храм, дзе спее слова **пад апякунствам абразоў*** (С.Законнікаў). Сін. *пад апекай; пад патранатам.* Рус. ***под опекой***.

ПАД АРГУМЕНТАМ (Адз.л.) *чаго*

**ПАД АРГУМЕНТАМІ (Мн.л.)** *каго/чаго* / **ПАД** *якімі* **АРГУМЕНТАМІ** *каго/чаго* / **ПАД** *чыімі/якімі* **АРГУМЕНТАМІ** Род. Прычын.: доказ: ▲ *Ну, праўда, пасля **пад некаторымі аргументамі**, здаецца, змякчэў, але напэўна ўсё ж няведама* (С.Юстапчык (Антон Адамовіч)). Сін. *пад доказамі*. Рус. ***под аргументами** чего*.

**ПА ДАРОЗЕ** *куды* Прысл. Склонам не кіруе. Ускладн. Сітуатыў: час. + прастор.: транзітыў: *Драмаць **па дарозе назад**.* ▬ *Аднак **па дарозе назад** ён усе яшчэ бачыў, як гэты чалавек ішоў там па дарозе ў сваіх надзьмуваных ветрам нагавіцах* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна); *У той час як жандар ідзе шырокімі крокамі, падыходзіць да апавядальніка, ён бязгучна фармуе губамі словы, якія ўжо падрыхтаваў **па дарозе сюды*** («Arche»). ***Па дарозе дадому** сустрэў*

*бывалага рыбака, пасля гутаркі з якім зрабіў трохі грубаватую, але ўловістую снасць, якая працуе па прынцыпу донкі* («Звязда», 25.06.05). *Ці не ад гэтага пастаянства ў характары, у жыцці,* ***па дарозе дадому****, яна* [Валя] *так любіла зазірнуць у кнігарню, каб купіць чарговы «дэфектыў», як называліся ёю дэтэктывы* ((І.Гатоўчыц). Рус. ***по дороге*** *куда.*

**ПА ДАРОЗЕ ВА** *што* Він. Перад словамі на *у*. Тое ж, што і **ПА ДАРОЗЕ Ў**. Сітуатыў: час. + прастор.: транзітыў: ***Па дарозе ва універсітэт*** *дэкан педагагічнага факультэта мне ўручыла заяўку на ўдзел у фестывалі* (С. Спас). Рус. ***по дороге в(о)*** *что.*

ПА ДАРОЗЕ АД *чаго*

ПА ДАРОЗЕ АД *чаго* ДА *чаго*

**ПА ДАРОЗЕ ДА** *каго/чаго* Род. Сітуатыў: тэмпаратыў + транзітыў: *Перад тым як пайсці да вады і ўжо* ***па дарозе да вады*** *твая рука прыстасоўваецца да холаду* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). *Тэўтонцы напаўзалі на рады баяраў, зміналі адпор і* ***па дарозе да Любенскага возера****, не шкадуючы сябе, прабіваліся наперад* (К.Тарасаў). ***Па дарозе да доміка*** *яны не сустрэлі ніводнага чалавека* (У.Караткевіч). Рус. ***по дороге к****.*

**ПА ДАРОЗЕ З БОКУ** *чаго* Род. Ускладн. Сітуатыў: транзітыў + дырэктыў-старт: ***Па дарозе з боку мястэчка*** *паказаўся нейкі веласіпедыст* (Юр. Монвід (Ф.Аляхновіч)). Рус. ***по дороге со стороны*** *чего.*

**ПА ДАРОЗЕ З/СА** *чаго* **ДА** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Сітуатыў: транзітыў + дырэктыў-старт + дырэктыў-фініш: *Але гэта належыць ужо да другога апісання, у якім паказваецца, як воз з травой* ***па дарозе са ставу да хаты*** *перакульваецца, як з-за аварыі дышаль вылузваецца з ланцуговага суплету, як чалавек плячом ставіць на колы воз, які ляжыць збоку поля на крушні камення, і як ён вось цяпер зноў запрагае каня* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Рус. ***по дороге от*** *чего* ***к*** *чему.*

**ПА ДАРОЗЕ З/СА** *чаго* **НА** *што* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Сітуатыў: транзітыў + дырэктыў-старт + дырэктыў-фініш: ***Па дарозе з Вільні на Полацак*** *Уцякаем ад навальніцы* (Л.Сом). Рус. ***по дороге из*** *чего* ***в(о)*** *что.*

**ПА ДАРОЗЕ З/СА** *чаго* **Ў** *што* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Сітуатыў: транзітыў + дырэктыў-старт + дырэктыў-фініш: ***Па дарозе з Чэлябінска ў Оршу****, паколькі ехалі звычайна праз Маскву, мы спыняліся на некалькі дзён у сваякоў і сустракаліся там з Валодзем* (Н.Кручкоўская). «*У нас навучаецца 524 чалавекі», –* ***па дарозе з вытворчых майстэрняў у камп'ютарны клас*** *расказваў Віктар Аркадзьевіч* («Звязда», 5.02.05 г.); ***Па дарозе з Аняліна ў Гудагай*** *Валодзя стаў*

*пераконваць мяне: «Давай пра ўсё гэта напішам па аповесці»* (А.Мальдзіс). Рус. ***по дроге из*** *чего* ***в(о)*** *что.*

ПА ДАРОЗЕ К *чаму*

**ПА ДАРОЗЕ НА-1** *што/куды* Він. Прастор.: транзітыў + напрамак: ***Па дарозе на Нарач****, напрыклад, каля (да ці пасля – не памятаю) вёскі Талуць, ён Куляшоў заўсёды казаў: «Асцярожней, Валерый, скінь газ»* («ЛіМ», 1.02.85). ***Па дарозе на Браслаў*** *– куток свянцянскай Літвы* (Я.Брыль). *У аўтобусе,* ***па дарозе на Глыбокае****, чыталі свежыя газеты* («ЛіМ», 6.09.91). ***Па дарозе на Акропаль*** *зойдзем на тайфунны рынак Монастыракі...* (Л.Дранько-Майсюк). *Меў жа нехта рацыю, калі казаў, што* ***па дарозе на вайну*** *балбатлівы святар – лепшы спадарожнік* (Л.Дранько-Майсюк). *Дзед Талаш з Нупрэем узялі на сябе задачу абследаваць пункты, што ляжалі* ***па дарозе на мястэчка*** (Я.Колас). *За Бягомлем,* ***па дарозе на Лепель****, усё часцей сустракаюцца лясы, пералескі* (В.Вольскі). Рус. ***по дороге на*** *что*.

**ПА ДАРОЗЕ НА-2** *што* Він. Ускладн. Сітуатыў: транзітыў + фінітыў: ***Па дарозе на выступленне*** *ў Вязынскую школу ... Валодзя расказваў мне, што Месінг літаральна ашаламіў веданнем самых патаемных ягоных спраў (у тым ліку кіеўскіх), даў некалькі парад* (А.Мальдзіс). Рус. ***по дороге на*** *что.*

**ПА ДАРОЗЕ НАВЕРХ ДА** *чаго* Він. Ускладн. Сітуатыў: Прастор.: транзітыў + напрамак + дырэктыў-фініш: *У той час як мы крочым* ***па дарозе наверх да хутара****, ён няйначай як ужо дасягнуў другой дарогі* («Arche»). Ус. ***по дороге наверх к*** *чему.*

**ПА ДАРОЗЕ Ў-1** *што* Він. Прастор.: транзітыў + дырэктыў-фініш: *Часам я праязджаў паблізу* ***па дарозе ў Санта-Аніту****, але ніколі не наведваўся сюды* («Arche»). ***Па дарозе ў Завоссе*** *– возера Гніліца, Кандычаў ручай, гара Жарнова* (К.Тарасаў). ***Па дарозе ў Святую Святых*** *Захапеце з сабой маю душу* (М.Кавыль). ***Па дарозе ў фатаграфію*** *маці зайшла са мной на Нізкім рынку ў краму* (А.Александровіч). Рус. ***по дороге в(о)*** *что.*

**ПА ДАРОЗЕ Ў-2** *што* Він. Прастор.: транзітыў + дырэктыў-фініш + фінітыў: *І кожны раз* ***па дарозе ў праўленне*** *ў Гарошкі балюча сціскалася сэрца, калі бачыў вокны, забітыя крыж-накрыж* («Полымя», 1986, №2). Рус. ***по дороге в(о)*** *что.*

**ПА ДАРУЧЭННІ/Ю** *каго* Род. Кандытыў: канфірматыў: *Асноўнымі функцыямі «РУПІС» з'яўляюцца: выдача ліцэнзій на выкарыстанне твораў з дазволу і* ***па даручэнні аўтараў****, збор і пералічэнне для аўтараў ганарараў, ну а калі ўзнікае неабходнасць – абарона іх маёмасных правоў у судзе* (С.Канановіч). *Старшыня камі-*

*тэта далажыў аб выніках праведзенай* ***па даручэнню*** *Прэзідэнта комплекснай праверкі фінансава-гаспадарчай дзейнасці ТАА «Мінскі падшыпнікавы завод»* («Звязда», 06.01.05). ***Па даручэнню Прэзідэнта*** *Камітэту дзяржкантролю сумесна з іншымі органамі дзяржкіравання на працягу максімальна кароткага часу належыць прывесці тэрыторыі ўсіх былых ваенных гарадкоў у ідэальны парадак* («Звязда», 16.02.05). ***Па даручэнні часопіса*** *«Маладосць» ездзіў на Тураўшчыну, каб напісаць эсэ да 1000-годдзя Турава* (У.Караткевіч). Рус. ***по поручению*** *кого.*

**ПАД АРЫШТАМ У** *чым* Месн. Ускладн. У складзе апісальнага прэдыката + лакатыў: *Ваенны суд вызначыў Карнелію Рукевіч «вытрымаць* ***пад арыштам у кляштары*** *адзін месяц»* («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). *Былы камандзір Літоўскага асобнага корпуса генерал ад інфантэрыі Ф.Ф.Доврэ лічыў, што Ксаверыя Рукевіч, якая знаходзілася з 29 красавіка 1826 г.* ***пад арыштам у Беластоцкім дзявочым кляштары****, ужо гэтым пакарана дастаткова* («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). Рус. ***под арестом в*** *чем.*

**ПАД АСЛОНАЮ** *каго/чаго* Род. Ускладн. Сітуатыў: лакатыў + эксплікатар: *Люблю сядзець* ***пад аслонаю ейнага*** [яблыні] ***ценю.*** *І ейная садавіна салодкая майму паднябенню* (Р.Барадулін). Сін. *пад аховаю.* Рус. ***под защитой*** *кого/чего.*

**ПА ДАТЫЧНАЙ ДА** *чаго* Характарызатар-дырэктыў: *Няхай сіла Р прыкладзена ў пункце А на адлегласці г ад восі, ляжыць у плоскасці траекторыі і накіравана* ***па датычнай да яе*** (падручн.). *Пры крывалінейным руху цела імгненная скорасць накіравана* ***па датычнай да траекторыі*** *руху ў пункце, дзе знаходзіцца цела ў дадзены момант часу* (падручн.). Фіз. клішэ. Рус. ***по касательной к*** *чему.*

**ПАД АХОВАЮ/Й-1** *каго* / **ПАД** *якой* **АХОВАЙ/Ю** *каго* / **ПАД** *чыёй* **АХОВАЮ/Й** Род. Ускладн. Лакатыўны канфірматыў адносна асобы: *Ужо не істотна зараз, як дабраўся ён да тых месцаў ... «браніраваным транспартам»* ***пад аховай чарнаскурых жаўнераў*** *з кантынгенту сілаў бяспекі ААН* (К. Чыжэўскі. Пер. А.Скурко). *Затрыманыя* ***пад аховай паліцыі*** *некаторы час стаялі ў калідоры дырэкцыі* (П.Пестрак). *Не шкодзь старому парку ў тваёй вёсцы, нават калі ён не* ***пад аховай дзяржавы*** *(такіх мала), не шкодзь жывому – можаш учыніць непапраўную згубу* (У.Караткевіч). ***Пад аховай дзяржавы*** *бабры размножылися и пачали распащсюджвацца па иншых сумежных вадаёмах* (В.Вольски). ▲ ***Пад аховай ягонай*** [атрада] – *падводы з хлебам* (А.Куляшоў). Сін. *пад апекай; пад наглядам.* Рус. ***под охраной*** *кого/чего.*

**ПАД АХОВАЮ/Й-2** *чаго* / **ПАД** *якой* **АХОВАЙ/Ю** *чаго* / **ПАД** *чыёй* **АХОВАЮ/Й** Род. Лакатыўны канфірматыў адносна прадмета: *Гавораць, калі побач з настаўнікам падрастае самародак, ён знаходзіцца нібыта **пад аховай мудрасці*** (А.Слука). *Пераначаваў у лодцы **пад аховай скалы*** (Я.Маўр). *Тады хлопцы падцягнулі сваю здабычу да вогнішча і спакойна павячэралі **пад аховаю агню*** (Я.Маўр). *Чубару неабходна было як хутчэй, пакуль не села сонца, трапіць на той бераг Бесядзі, каб апынуцца **пад аховай лесу*** (І.Чыгрынаў). *на паляне ў светлым пералеску Расцвілі, налітыя расой, Сінія падснежныя пралескі – **Пад аховай урачыстых хвой*** (П.Панчанка). Сін. *пры; каля; у*. Рус. ***под защитой*** *кого/чего*.

**ПАД АХОВУ-1** *каго* / **ПАД** *якую* **АХОВУ** *каго* / **ПАД** *чыю* **АХОВУ** Дырэктыўны канфірматыў адносна асобы: *Помнік узяты **пад ахову дзяржавы***. ▬ *Цэлымі вёскамі ўцякалі ў лес сяляне **пад ахову партызан*** (І.Гурскі). *Іх* [цывільных] *узялі на «джып», на якім мы прыехалі з заставы, **пад ахову аднаго аўтаматчыка і адной аўчаркі*** (Я.Брыль). *Падзяліла ж гэтая вайна русічаў, на бок Масквы адныя з князёў ідуць, **пад ахову польскага караля** туляцца іншыя* (А.Лойка). || Назоўнік з прыназоўнікам: *Браць каго-небудзь **пад ахову***. Сін. *пад нагляд*. Рус. ***под охрану*** *кого/чего;* ***под защиту*** *кого*.

**ПАД БЕРАГ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: партытыў + камплетыў: *Збялелі, скочылі назад, **пад пушчы бераг** I ўцякалі* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля).

**ПАД БОКАМ У** *каго* / **У** *каго* **ПАД БОКАМ / ПАД** *чыім* **БОКАМ** Род. Суб'ектны лакатыў: ***У вас пад бокам** тоіцца атрад ... А вы спакойна седзіце ў палацах* (П.Глебка). Сін. *каля*. Рус. ***под боком у*** *кого*.

**ПАД БОТАМ** *каго* / **ПАД** *якім* **БОТАМ** *каго* / **ПАД** *чыім* **БОТАМ** Род. Каўзатар-канфірматыў: *Усё, што доўгія гады стваралі тут асвейскія калгаснікі, загінула **пад цяжкім ботам нямецкіх катаў-акупантаў*** (З лістоўкі). Аказіян. Сін. *ад*. Рус. ***под сапогом*** *кого*.

ПАД ВАДЗІЦЕЛЬСТВА *каго*

ПАД ВАДЗІЦЕЛЬСТВАМ *каго*

**ПАД ВАГОЙ/Ю** ***каго/чаго*** Род. Каўзатар: ***Пад вагою Акілы*** *крыж склаўся напалам (так яго было зручней перавозіць у фургоне* (У.Караткевіч). Сін. *пад; пад цяжарам*. Рус. ***под тяжестью*** *кого/чего*.

ПАД ВЕДАМА *каго*

**ПАД ВЕДАМАМ** *каго* / **ПАД** *чыім* **ВЕДАМАМ** Род. Канфірматыў: ***Пад ведамам ахмістрыні** былі ўсе касцёльныя гаспадарчыя справы*. ▲ ***Пад ейным ведамам** былі ўсе запасы і гаркомаўскае, і асабістае Цімафеічавае гаспадаркі* (С.Юстапчык (Антон Адамовіч)).

ПАД ВІДАМ *каго/чаго*

**ПАД ВОБЛІКАМ** *каго/чаго* Род. Рэлят тоеснасці: *Хто хаваецца **пад воблікам Блакітнай Жанчыны**, так падобнай да той, што намалявана на старым партрэце?* (А.Мальдзіс). Сін. *у выглядзе*. Рус. ***под обликом*** *кого*.

**ПАД ВОКАМ У** *каго* Род. Канфірматыў: *А следам панічы на коніках скакалі **Пад вокам у бацькоў**, што ў той бок ледзь глядзелі, Ні то што каб пасля сварыліся, гудзелі* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *У Вільні жыў, дзіцём яшчэ адбыўшы з хаты **Пад вокам у ксяндза**...*(А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *пад наглядам*.

**ПАД ВОКЛІЧЫ** *каго* / **ПАД** *якія* **ВОКЛІЧЫ** *каго* Род. Рэлят суправаджэння: *Памятае тое сам Францыск, як вялікая княгіня Алена Іванаўна...уваходзіла **пад вітальныя воклічы палачан** у гарадскую браму, як накіроўвалася ў вялікую Сафею – на абедню, што служыў сам полацкі ўладыка Іон Глезна* (А.Лойка). Сін. *пад суправаджэнне*. Рус. ***под крики*** *кого*.

**ПАД ВУГЛОМ**[1] *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *Пры неабходнасці ін'екцыі лекавага рэчыва ў жалудачкі галаўнога мозга іголку ўводзяць, ... накіроўваючы яе ўверх па ніжнім краі патылічнай косці **пад вуглом 45 – 60**°* (Асновы мед. ведаў). *Бутэльку з шампанскім ніколі не трасуць, а нахіляюць пад вуглом 45°, адной рукой моцна трымаюць корак, другой – паварочваюць бутэльку, а не наадварот!* («Родны край», 2009). *Павольна падыміце прамыя ногі **пад вуглом 60**°, апусціце* («Звязда»). У сінтаксему ўводзіцца крытэрый адліку: *Сіла, якая перамяшчае цела па гарызантальнай паверхні, накіравана **пад вуглом а = 30° да паверхні*** (падручн.). Рус. ***под углом*** *сколько единиц.*

**ПАД ВУГЛОМ**[2] *чаго* / **ПАД** *якім* **ВУГЛОМ** *чаго* / **ПАД** *якім* **ВУГЛОМ** Род. Характарызатар: крытэрый: *Дзеці глядзяць на свет **пад вуглом бессмяротнасці*** (Інт.). ▲*Яны не маюць ахвоты бачыць свет **пад незвычайным вуглом**, каб адкрыць нешта новае* (С'юзан Сонтаг. Пер. В.Дразда). *Калі **пад гэткім вуглом** зірнуць на створанае Караткевічам, то, безумоўна, ён мэтанакіравана дамагаўся стварэння нацыянальнага міфа, любіў сівыя легенды і таленавіта выкарыстоўваў іх у сваіх рознажанравых творах* (А.Бутэвіч). Сін. *скрозь прызму*. Рус. ***под углом*** *чего*.

ПАД ВУГЛОМ АД *колькіх адзінак*

ПАД ВУГЛОМ АД *колькіх адзінак* ДА *колькіх адзінак*

ПАД ВУГЛОМ АД *колькіх адзінак* ДА *колькіх адзінак* К *чаму* / ДА *чаго*

**ПАД ВУГЛОМ ДА** *чаго* / **ПАД** *якім* **ВУГЛОМ ДА** *чаго* Род. Характарызатар: *Рух цела, кінутага **пад вуглом да гарызонту**, часта называюць балістычным рухам* (падручн.). *Пры ўнутрымышач-*

*най ін'екцыі ў бядро шпрыц трэба трымаць **пад вуглом да паверхні** цела, каб не пашкодзіць надкосніцу* (Асновы мед. ведаў). *Гук, які ідзе **пад некаторым вуглом да зямной паверхні**, дасягаючы дадзенага слою, паступова згінаецца, апісвае дугу і зноў вяртаецца на зямлю* (падручн.). Рус. ***под углом к** чему.*

**ПАД ВУГЛОМ** *колькі адзінак* **ДА** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Дыменсіў + крытэрый: *Пабудуйце на экране паралельную рознакаляровую штрыхоўку рабочага акна **пад вуглом 45° да гарызанталі*** (падручн.). *Пры руху каменя, кінутага **пад вуглом 60° да гарызонту**, яго каардыната х змянялася з часам па закону*: .... (падручн.). *Разгледзім выпадак, калі на мяжу раздзелу двух асяроддзяў падае гукавая хваля, інтэнсіўнасць якой ...**(пад вуглом а да нармалі)*** (падручн.). ***Пад вуглом 60° да гарызонту** і з пачатковай скорасцю 30 м/с кінуты камень* (падручн.). Фіз. – мат. клішэ. Рус. ***под углом** сколько единиц **к** чему.*

**ПАД ВУГЛОМ ДА** *чаго* **Ў/У** *колькі адзінак* Род.-Він./Наз. Двухч. Ускладн. Дыменсіў + крытэрый: *Першым і другім пальцамі адной рукі адцягваюць апрацаванае месца скуры ў складку, другой рукой, утрымліваючы шпрыц **пад вуглом да скуры ў 30 – 45°**, энергічным рухам уводзяць іголку пад аснову складкі на глыбіню 2 – 3 см і, націскаючы на ручку поршня, уводзяць у падскурную клятчатку лякарства* (Асновы мед. ведаў). *Пабудуйце на экране паралельную рознакаляровую штрыхоўку рабочага акна **пад вуглом у 45° да гарызанталі*** (падручн.).

ПАД ВУГЛОМ К *чаму*

**ПАД ВУГЛОМ** *колькі адзінак* **адзін ДА аднаго** Він./Наз.-Род. Двухч. Ускладн. Дыменсіў + крытэрый адносна ўзаемна звязаных велічынь: *Паміж полюсамі магніта знаходзяцца дзве рухомыя катушкі, зробленыя з тонкага праваду і **размешчаныя пад вуглом 90° адна да адной*** (падручн.). Рус. ***под углом** сколько единиц друг **к** другу.*

ПАД ВУГЛОМ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
ПАД ВУГЛОМ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ПАД ВУГЛОМ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
ПАД ВУГЛОМ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
ПАД ВУГЛОМ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
ПАД ВУГЛОМ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
ПАД ВУГЛОМ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
ПАД ВУГЛОМ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ПАД ВУГЛОМ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
ПАД ВУГЛОМ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
ПАД ВУГЛОМ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

ПАД ВУГЛОМ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
ПАД ВУГЛОМ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
ПАД ВУГЛОМ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ПАД ВУГЛОМ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
ПАД ВУГЛОМ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
ПАД ВУГЛОМ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
ПАД ВУГЛОМ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

**ПАД ВЫГЛЯДАМ** *каго/чаго* Род. Рэлят псеўдатоеснасці: *У 1845 частку сваёй лагойскай калекцыі ён перавёз у Вільню **пад выглядам выстаўкі**, якую пасля ператварыў у прыватны музей* (Інт.). *Вядома толькі, што **пад выглядам санітарных высечак** знішчаюць дубы ды іншыя каштоўныя пароды дрэва* (Інт.). ▲ *Але са словаў Гіпаліта на нас напіраў прымус, наказ, **ні пад якім выглядам** яго нельга адпусціць, асабліва цяпер* (В.Гамбровіч. Пер. В. Булгакава). Рус. *пад маскай.* Рус. ***под видом** чего.*

**ПАД ВЫЗНАЧЭННЕ** «*што»* Наз. Дырэктыўны анамасіятыў: *І не толькі той, што трапляе **пад вызначэнне «легкое чтиво»**, а і «сур'ёзнай»* (А. Марціновіч). Сін. *пад назву.* Рус. ***под определение** «что».*

ПАД ВЫЗНАЧЭННЕМ «*што»*.

**ПАД ВЭЛЬМАМ** *чаго* Род. Рэлят псеўдатоеснасці: *А ў час ночы глуха-немы, – Калі месяц блеск свой кіне У твар ночкавай пустыні, І **пад вэльмам ціхай дрэмы** Зоры высыплюць бы іней, – Ажываў ён* [звон]*, і чароўна Гралі струны яго самі* (Я.Колас). Аказіян. Сін. *пад вэлюмам.* Рус. ***под кисеей** чего.*

ПАД ВЭЛЮМ *чаго*

**ПАД ВЭЛЮМАМ** *чаго* Род. Рэлят псеўдатоеснасці: *Але гэта не прыменшыла яго прысутнасці, якая стала толькі менш даступнай вачам: ён хаваўся **пад вэлюмам нябачнасці**, такі ж самы* (В.Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). Рус. ***под кисеей** чего.*

ПАД ВЯРШЭНСТВАМ *каго/чаго*

**ПАД ГАЛАСЫ** ***каго/****чаго* Род. Камітатыў-час: рэлят суправаджэння: *Помніць сябе пачынаю **пад галасы жніўнае песні*** (Р.Барадулін). Сін. *пад суправаджэнне.* Рус. ***под голоса** кого/чего.*

**ПАД ГОМАН** *каго* Род. Сітуатыў: камітатыў: рэлят суправаджэння: *Таму і запісваю гэта, пры лямпе, перад сном, вярнуўшыся з далёкай, самотнай праходкі – па шашы, **пад гоман жаб** і перасвіст салаўёў* (Я.Брыль). Сін. *пад суправаджэнне.* Рус. ***под гомон** кого.*

**ПАД ГРАД** *чаго* Род. Дырэктыўны камітатыў-характарызатар: рэлят суправаджэння: *Са сцэны гора-аратар сышоў **пад град воклічаў і смяшкоў**.* Рус. ***под град** чего.*

**ПАД ГРАДАМ** *чаго* Род. Лакатыўны камітатыў-характарызатар: рэлят суправаджэння: ***Пад градам папрокаў*** *падканцлера каралеўства харугва ўсё ж такі вярнулася на поле бою* (К.Тарасаў). Рус. ***под градом*** *чего.*

**ПАД ГРЫФАМ**[1] «*што*»/*якім* Наз. Анамасіятыў: *Такім чынам, і сама я зацікавілася кнігай з серыі «Бібліятэка прыгод і фантастыкі»* ***пад грыфам «Для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту»*** (Л.Алейнік). *Але ж паколькі пэўны аспект сваёй душэўна-духоўнай дзейнасці мы пазначылі* ***пад грыфам «ПАЭЗІЯ»,*** *то давайце паспрабуем хоць патлумачыць падобнае вызначэнне* («ЛіМ»). Сін. *пад рубрыкай.* Рус. ***под грифом «****что*»/*каким.*

**ПАД ГРЫФАМ**[2] *каго/чаго* Род. Характарызатар-канфірматыў: *Універсітэт выдае падручнікі* ***пад грыфам Міністэрства адукацыі РБ.*** Клішэ. Рус. ***под грифом*** *чего.*

**ПАД ГУКІ** *чаго* Род. Характарызатар: рэлят суправаджэння: *І прычальваў наш параходзік да нейкага там Радуля ў лепшым выпадку пад «Тр-ры кар-рты» з «Пікавай дамы», а то і* ***пад гукі*** *бессмяротнай, як усякая выпушчаная мільённым тыражом пошасць, «****Лады»*** (У.Караткевіч). Сін. *пад.* Рус. ***под звуки*** *чего.*

**ПАД ГУСТ** *каму/каго* / **ПАД** *чый* **ГУСТ** Род. Рэлят адпаведнасці: ■ *Падарункі састарэлай маці ўжо не траплялі* ***пад гарадскі густ*** *дачкі* (Інт.). ▲*Скрыпка Тамаша кожнаму на яго ж мове гаварыла,* ***пад яго густ*** *грала* (З.Бядуля). Сін. *пад.* Рус. ***под вкус*** *кого.*

**ПАД ДАГЛЯДАМ** *каго* Род. Сірканстант: дамінуючы суэкзісцыянтыў: *Звілістая Уша блішчэла пад сонцам, на лузе* ***пад даглядам пастуха****, які абапіраўся на кій, пэўна, каб не ўпасці ў дрымоце, пасвіліся каровы...* (К.Тарасаў). *А кнігі, сапраўды, каштоўныя, толькі які ёлуп іх сабраў пад адной вокладкай: «Евангелле» 1539 года, выдадзенае накладам князя Юр'я Сямёнавіча Слуцкага, ды тут жа «Евангелле» Цяпінскага, ды да яго прышмараваны «Статут» 1580 года выдання, той, што* ***пад даглядам Льва Сапегі*** *рабіўся* (У.Караткевіч). *Людзі сабралі зброю і, пакінуўшы яе* ***пад даглядам Кірдуна****, сталі над вартай* (У.Караткевіч). Ант. *без дагляду.* Сін. *пад наглядам*. Рус. ***под присмотром*** *кого.*

**ПАД ДАЙМОМ** *чаго* Род. Характарызатар-канфірматыў: *І* ***пад даймом гэтай думкі*** *– што для мяне – я драўся праз кусты, ужо нічога не бачучы* (В.Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). Сін. *пад цяжарам.* Рус. ***во власти*** *чего.*

**ПАД ДАХ** *каго/чаго* / **ПАД** які **ДАХ** *каго/чаго* / **ПАД** *чый* **ДАХ** Род. Дырэктыўны канфірматыў: перан. партытыў + камплетыў: *Пасля «Сябры» быццам бы вырашылі застацца – пры ўмове, што пя-*

*ройдуць «**пад дах» Белдзяржфілармоніі*** («Звязда», 4.01.05). *Поўная сіл і абаяльнасці жанчына, у сталасці свайго таленту ... нястомная збіральніца **пад дах літаратурна-часопіснага дома** лепшых творчых сіл, магутны згустак жыццёвай энергіі, імя якому – Таіса Бондар* (Г.Кісялёў). Аказіян. Ант. *з-пад даху.* Сін. *пад патранат; пад крыло.* Рус. ***под крышу** кого/чего.*

**ПАД ДАХАМ** *каго/чаго* / **ПАД** *якім* **ДАХАМ** *каго/чаго* / **ПАД** *чыім* **ДАХАМ** Род. Лакатыўны канфірматыў: перан. партытыў + камплетыў: *Платныя віды медыцынскіх паслуг будуць сабраны **пад дахам дзяржаўнных унітарных прадпрыемстваў*** («Звязда», 5.02.05). Ант. *з-пад даху.* Сін. *пад; пад крылом.* Рус. ***под крышей** чего.*

**ПАД ДЗЕЯННЕ** *чаго* Род. Рэлят каўзатыўна-канфірматыўнай залежнасці: «*Генеральная пракуратура абавязана ўзбудзіць крымінальную справу супраць Кучмы Л.Д. па фактах учыненых ім злачынстваў падчас знаходжання на пасадзе прэзідэнта Украіны, якія падпадаюць **пад дзеянне артыкулаў** аб дзяржаўнай здрадзе», – заявіў таварыш Сіманенка* («Звязда», 23.02.06). Юр. клішэ. Рус. ***под действие** чего.*

**ПАД ДЗЕЯННЕМ** *чаго* Род. Каўзатыў: ***Пад дзеяннем рукі** чалавека прадметы перасоўваюцца* (падручн.). *Планеты рухаюцца па эліптычных арбітах **пад дзеяннем сілы** прыцягнення Сонца* (падручн.). *Пры паніжэнні напружання ток у катушцы рэле зменшыцца, і пры гэтым якар **пад дзеяннем спружыны** адхіліцца ад стрыжня катушкі і замкне кантакты апаратыўнага току, які адключыць* (падручн.). *Ва ўсіх гэтых прыкладах **пад дзеяннем адных цел** на другія мяняецца іх скорасць* (падручн.). *Рух зорак у Галактыцы адбываецца **пад дзеяннем** яе **гравітацыйнага поля*** (падручн.). ***Пад дзеяннем поля прыцягнення** целы прыцягваюцца адно да аднаго* (падручн.). Сін. *пад уздзеяннем*. Рус. ***под воздействием** чего.*

**ПАД ДОГЛЯДАМ** *каго* Род. Канфірматыў: *Жывых пітонаў трымалі ў спецыяльных хатах-кумірнях **пад доглядам жрацоў*** (В.Вольскі).

ПАД ДУДКУ *каго*

ПАД ДУЛА *чаго*

**ПАД ДУЛАМ (Адз.л.)** *чаго* / **ПАД** *якім* **ДУЛАМ** *чаго* / **ПАД** *якім/чыім* **ДУЛАМ** Род. Сітуатыў: характарызатар + адзіночны канфірматыў: суб'ект дамінавання: *Адзін з іх, моцна збіты, вопраткай у цемры вельмі паходзіў на яе ўласнага мужа, і ўсю дарогу, не маючы магчымасці зварухнуцца **пад дулам аўтамата**, яна думала* ...(Інт.). Сін. *пад прыцэлам.* Рус. ***под дулом** чего.*

**ПАД ДУЛАМІ (Мн.л.)** *чаго* Род. Характарызатар: множны канфірматыў: *Менавіта ў Горадні 205 гадоў таму **пад дуламі ра-***

***сейскіх гарматаў*** *адбыўся апошні Сойм ...* («Наша Ніва»). *Толькі бліжэй да ранку дазволілі апрануцца, і ў кайданках* ***пад дуламі аўтаматаў*** *пацягнулі ў МУС* (Інт.). Сін. *пад прыцэлам.* Рус. ***под дулами*** *чего.*

ПАД ДУЛЫ *чаго*

**ПАД ДЫКТОЎКУ** *каго* Род. Ускладн. Сітуатыў: характарызатар + канфірматыў: *Вынікі Другой сусветнай вайны, падведзеныя* ***пад дыктоўку Сталіна****, канчаткова вырашылі шматвяковае ўкраінска-польскае пытанне і вызначылі заходнюю мяжу Украіны* (Інт.). Сін. *пад націскам*. Рус. ***под диктовку*** *кого.*

ПАД ДЭВІЗ «*што*»

**ПАД ДЭВІЗАМ** «*што»* Наз. Анамасіятыў-канфарматыў: *Падтрымана ініцыятыва дэпутатаў Саратаўскай вобласці аб разгортванні ўсесаюзнага паходу* ***пад дэвізам «Усе вырашчанае – захаваць»*** (А.Лукашук). *У Мінску з 6 па 9 верасня* ***пад дэвізам «Расія і Беларусь: ад агульных крыніц – да агульных мэтаў»*** *у рамках Года Расіі ў Беларусі пройдзе расійская нацыянальная выстаўка* («Звязда», 17.03.05). *І вось першае знакавае мерапрыемства ў новай установе – фестываль народнай творчасці* ***пад дэвізам «Фальклор без межаў»*** (М.Маліноўскі). Сін. *пад лозунгам.* Рус. ***под девизом «****что».*

ПАД ДЭФІНІЦЫЮ «*што»*

ПАД ДЭФІНІЦЫЯЙ «*што*»

**ПАД** адным **З** *чаго* Месн.-Род. мн.л. Двухч. Ускладн. Партытыў + камплетыў: *Мы сядзім* ***пад адной з вежаў*** *і няспешна разважляем* («ЛіМ», 16.04.04). Рус. ***под одним/ой из*** *чего* (мн.ч.).

**ПАД ЗАВАДАТАРСТВАМ** *каго/чаго* / **ПАД** ***якім*** **ЗАВАДАТАРСТВАМ** ***каго/чаго*** / **ПАД** ***чыім*** **ЗАВАДАТАРСТВАМ** Род. Характарызатар: канфірматыў*:* ***Пад завадатарствам старэйшага брата*** *наладзіць выстаўку.* ***—*** *Чакаем цябе, каб* ***пад тваім завадатарствам*** *кінуцца ў хвалі, напіцца сцюдзёнай вады з крынічак* (М.Лужанін – М.Танку). Сін. *пад началам: на чале з.* Рус. ***под руководством*** *кого.*

ПАД ЗАВЕСАЙ *чаго*

**ПАД ЗАВЕСУ** *чаго* / **ПАД** *чаго* **ЗАВЕСУ** / **ПАД** *якую* **ЗАВЕСУ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: партытыў + камплетыў: *Так і струмень хаваўся* ***пад альшын завесу*** (А.Міцкевіч). Ант. *з-пад.* Сін. *пад засень.* Рус. ***под завесу*** *чего.*

ПАД ЗАВІССЮ *чаго*

**ПАД ЗАГАДАМ** *каго/чаго* Кандытыў + суб'ект дамінавання: *У Нясвіжы і наогул у Менску* ***пад загадам біскупа*** *Лазінскага мне ўжо рабілася цесна* (Кс.В.Гадлеўскі). Рус. ***под властью*** *кого.*

**ПАД ЗАГАЛОЎКАМ** / **ПАД** *якім* **ЗАГАЛОЎКАМ** «*што*» Наз. Анамасіятыў: *Чарговую сенсацыю ньюйорксkія газеты паднеслі* ***пад загалоўкам «Падводная аперацыя містэра Бітэра»*** (газ.). ■ *На гэтую ж тэму* ***пад агульным загалоўкам «Вечны агонь перамогі»*** *змешчаны вершы Паўлюка Пранузы, Пятра Прыходзькі, Аркадзя Нафрановіча; апавяданне Алеся Дзятлава «Апошні патрон»; урывак з аповесці Васіля Гурскага «Сірочая доля»* («ЛіМ»,11.06.04). Сін. *пад назвай; пад назовам.* Рус. ***под заголовком «****что».*

ПАД ЗАДАЧУ *чаго*

**ПАД ЗАДАЧЫ (Мн.л.)** *чаго* Род. Фінітыў: дэстынатыў: *Абсталяванне маральна устарэла, бо пабудавана на старой элементнай базе і састарэлых тэхналагічных прынцыпах (****пад задачы тэхнікі*** *1980-х гадоў) і патрабуе тэрміновага абнаўлення* («Звязда», 12.02.05). Сін. *пад; для.* Рус. ***под задачи/у*** *чего.*

ПАД ЗАКЛІКАМ *чаго*

ПАД ЗАКЛІКАМ ДА *чаго*

**ПАД ЗАЛОГ** *колькі адзінак* Наз. Кандытыў-дыменсіў: *Па васьмі днях быў звольнены* ***пад залог 1000 зл.*** (Кс.В.Гадлеўскі). *Пасля сканчэння следства Танка выпусцілі да* ***суда пад залог 200 злотых*** (У.Калеснік).

**ПАД ЗАРУКУ** *каго* / **ПАД** *якую* **ЗАРУКУ** *каго* Род. Кандытыў-канфірматыў: *Андрэй Полацкі некалькі гадоў адседзеў у турэмнай камеры і быў вызвалены* ***пад заруку князя Вітаўта*** (К.Тарасаў). Сін. *пад абяцанне.* Рус. ***под заруку*** *кого.*

**ПАД ЗАСЕНЬ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: партытыў + камплетыў: *Сцяжыны ўмуражэлыя радкоў Бягуць* ***пад засень раншняга дрэва****, Дзе яблык падала Адаму Ева, Дзе спяць сляды пегасавых радкоў* (Р.Барадулін). Ант. *з-пад.* Сін. *пад ахову.* Рус. ***под сень*** *чего.*

**ПАД ЗАСЕННЮ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: ***Пад засенню брыля*** *над уваходам мы падымаемся, плёткарачы, па прыступках на месца, асветленае сонцам* (П.Гандке. Пер. Я. Балясіна). Сін. *пад; пад заслонай.* Рус. ***под*** *чем.*

**ПАД ЗАСЛОНАЙ** *чаго* Род. Канфірматыў: характарызатар-лакатыў: *Ўсе сумныя сягоння, без настрою Глядзяць на неба, што як быццам прыніжацца, Цясніцца стала, да зямлі зближацца І разам з ёю* ***пад заслонай змроку цёмнай,*** *Як закаханыя, ўжо шэпчуцца таёмна, свае пачуцці выражаючы ва ўздыхах* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля).

ПАД ЗАСЛОНУ *чаго*

ПАД ЗАСТУПНІЦТВА *каго/чаго*

ПАД ЗАСТУПНІЦТВАМ *каго/чаго*

ПАД ЗАСЦЯРОГАЙ *каго*

ПАД ЗАСЦЯРОГАЙ У *каго*

ПАД ЗАСЦЯРОГУ *каго*

**ПАД ЗАХАД** *чаго* / **ПАД** *які* **ЗАХАД** *чаго* Род. Час.: фазавы тэмпаратыў: *Пamрочліва-тужлівымі былі **пад захад жыцця** старонкі ліставання паэтаў* (М.Мікуліч). Ант. *на ўсходзе.* Сін. *пад канец*. Рус. ***под закат*** *чего.*

ПАД ЗВАННЕМ *хто/каго*

**ПАД ЗВЕРХНІЦТВА** *каго*

**ПАД ЗВЕРХНІЦТВАМ** *каго* Род. Канфірматыў: *645 гадоў таму (15 верасня 1362) перамога беларускіх войскаў **пад зверхніцтвам Вялікага князя Альгерда** над татарамі каля Сініх Водаў* («Наша слова», 17.01.07). Сін. *на чале з; пад кіраўніцтвам.* Рус. ***под руководством*** *кого.*

**ПА ДЗЕЛЯ** *каго/чаго* Род. Аўтарызатар: ***Па дзеля мяне**, што хочаце рабеце* (Я.Станкевіч). Рэдуплікацыя: ***па*** *мне* + ***дзеля*** *мяне.* Сін. *што да*. Рус. ***по*** *кому/чему*.

**ПАД ЗНАК** *чаго* Род. Дырэктыў: рэлят адпаведнасці: *Мадэрнізацыя, праводжаная з імперскага цэнтру, увогуле паставіла існаванне гэтага народу **пад знак запытання*** (В.Булгакаў). *... а затым масу т паднесці **пад знак вытворнай*** (падручн.). Рус. ***под знак*** *чего.*

**ПАД ЗНАКАМ-1** *чаго* / **ПАД** *якім* **ЗНАКАМ** *чаго* Род. Канфарматыў: ◊ ***Пад знакам чаго*** – кіруючыся якой-н. ідэяй, якім-н. імкненнем. ▬ *І што ж тут кепскага здараецца, Калі **пад знакам адкрыцця** Жанчына любая з'яўляецца З чужога нейкага жыцця?!* (Л.Дранько-Майсюк). *Мы былі цяпер **пад знакам уцёкаў** і, паволі пасоўваючыся алейкай, асвойваліся з рашэннем* (В.Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). *Фактычна **пад знакам тэсціравання** пройдзе ўся другая палова вясны* («Звязда», 27.01.05). *Сённяшні красавік у нашай краіне праходзіць **пад знакам навядзення** парадку ў буйных і малых гарадах і вёсках* («Чырвоная змена», 15.04.05). *Хаты стаялі **пад знакам сонца*** (У.Караткевіч). ■ *І мы будзем **падарожнічаць пад летуценным знакам Апалонавага дрэва*** (Л.Дранько-Майсюк). Сін. *пад ідэяй; пад сцягам.* Рус. ***под знаком*** *чего.*

**ПАД ЗНАКАМ-2** *чаго* Род. Лакатыўны характарызатар-анамасіятыў: *Вугал **пад знакам сінуса** (аргумент сінуса) адназначна вызначае значэнне пераменнага току ў любы момант часу пры зададзенай амплітудзе* (падручн.). *Рашэнне ўраўненняў, у якіх выраз з пераменнай знаходзіцца **пад знакам модуля**, таксама прыводзіць да сукупнасці ўраўненняў* (навук.). Рус. ***под знаком*** *чего.*

ПАД ІДЭЯЙ *чаго*

**ПАД ІМЕМ** *каго/хто* / **ПАД** *якім* **ІМЕМ** *каго/хто* Род./Наз. Анамасіятыў-кваліфікатыў: ***Пад імем султана*** *ён разграміў князёў Балканаў і Бізантыі, пад новым тытулам ён, мусіць, растопча ўсю Еўропу* (Ісмаіл Кадарэ. Пер. А.Дынько і Ю.Вроні). *Раптоўная смерць караля вызваліла пасад для пратэжэ расейскай імператрыцы Кацярыны II графа Станіслава Панятоўскага. Той атрымаў карону* ***пад імем Аўгуста IV*** (А.Бензярук). *Князь Валодша ў гістарычнай літаратуры праходзіць* ***пад імем Уладзіміра,*** *што мела прычынай кальку з лацінскай транскрыпцыі імя беларускага князя ў «Хроніцы Лівоніі»* (К.Тарасаў). *Тое ж можна сказаць пра брата Святаслава, заснавальніка Барысава, князя Барыса, які не менш вядомы* ***пад язычніцкім імем Рагвалод*** (К.Тарасаў). Сін. *як.* Рус. ***под именем*** *кого/кто.*

ПАД ІМЁНАМІ *каго/хто*

**ПАД ІНТАНАЦЫЮ** *каго* / **ПАД** *якую* **ІНТАНАЦЫЮ** *каго* Род. Канфарматыў: *З такой папраўкай эпізод з Фрыдаю робіцца, канечне, цалкам зразумелы і апраўданы, «хаця ад таго і не менш трагічны», – скажам у заключэнне, падстройваючыся* ***пад інтанацыю вялікага Майстра*** *і глыбока няшчаснага* ***чалавека***. («ЛіМ», 09.04.04). Аказіян. Сін. *пад лад.* Рус. ***под интонацию*** *кого.*

ПАД КАМАНДАВАННЕ *каго*

**ПАД КАМАНДАВАННЕМ** *каго* / **ПАД** *якім* **КАМАНДАВАННЕМ** *каго* / **ПАД** *чыім* **КАМАНДАВАННЕМ** Род. Лакатыўны канфірматыў: *Камандуючы фронтам стварыў конна-механізаваную групу ў складзе 11-га механізаванага корпуса 3-й арміі, 6-га механізаванага корпуса і 36-й кавалерыйскай дывізіі 10-й арміі* ***пад агульным камандаваннем камандуючага фронтам І.В.Болдзіна*** (Энцыкл. гіст. Беларусі). *Наша дывізія ўваходзіла ў 38-ю армію* ***пад камандаваннем Маскаленкі*** (з інтэрв'ю ў «ЛіМе», 02.07.04). *Прагу вызваляў* ***фронт пад камандаваннем маршала Конева*** («ЛіМ», 02.07.04). *Тут* ***пад камандаваннем*** *мсціслаўскага князя Сымона Лугвена Альгердавіча мужна змагаліся тры смаленскія харугвы* (Гіст. Беларусі). Сін. *на чале з.* Рус. ***под командованием*** *кого.*

**ПАД КАМАНДАЙ** *каго* Род. Лакатыўны канфірматыў: *Генерал Фікельмонт выслаў роту выпрабаваных у баях салдат* ***пад камандай капітана Пора-Леановіча*** (У.Караткевіч). *Маніфестуючых было да 30 чалавек, пераважна работнікаў і паліцыі, якія* ***пад камандай Хэлхоўскага*** *служылі ў «дарожнай камандзе»* (Кс.В.Гадлеўскі). ▲ *Зарэмба быў чалавек суровы і лаканічны...* ***Пад яго камандай*** *было 69 чалавек, а на чале аднаго з двух падраздзяленняў стаяў рускі Фёдар Яльчанінаў пад псеўданімам Гарап* (У.Караткевіч). *Узваліўшы на сані невад, чалавек дваццаць мужыкоў* ***пад камандай***

***Леўшуна*** *паехалі на рыбу* (Я.Колас). Сін. *пад кіраўніцтвам*. Рус. ***под командой*** *кого.*

**ПАД КАМАНДУ** *каго* / **ПАД** *каго* **КАМАНДУ** / **ПАД** *якую* **КАМАНДУ** *каго /* **ПАД** *чыю* **КАМАНДУ** Род. Дырэктыўны канфірматыў: *Брытва* ***пад каманду*** *йдзе* ***Рузэчкі!*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *пад камандаванне.* Рус. ***под команду*** *кого.*

**ПАД КАМПЕТЭНЦЫЮ** *чаго* Род. Рэлят дырэктыўнай каўзатыўна-канфірматыўнай залежнасці: *Большасцю гэтакіх галасоў вырашаюцца амаль усе справы, якія падпадаюць* ***пад кампетэнцыю названае інстытуцыі*** (Я.Пятроўскі). Сін. *пад дзеянне.* Рус. ***под компетенцию*** *чего.*

**ПАД КАНВОЕМ** *каго/чаго* Род. Характарызатар: канфірматыў: рэлят суправаджэння: *У тую ж ноч палонных салдат і афіцэраў* ***пад канвоем конных чырвонаармейцаў*** *адправілі ў вёску Высокая Рудня* (Я.Колас). Сін. *пад наглядам*. Рус. ***под конвоем*** *чего.*

**ПАД КАНЕЦ** *чаго* Род. Час.: фазавы тэмпаратыў: ***Пад канец другога тыдня*** *астрожная адзінота і нуда сталі менш мучыць Максіма* (М.Машара). ***Пад канец жыцця*** *Ефрасіння Полацкая выправілася ў паломніцтва да гроба Гасподня ў Іерусалім* (К.Тарасаў). *Шчаслівыя тыя з людзей, хто* ***пад канец свайго веку*** *можа сказаць, што праца іх прынята паслядоўнікамі і жыццё іх не падманула* (К.Тарасаў). ***Пад канец рабочага дня*** *Юрка ўзяў з маіх рук двойчы перапісаныя мною допісы* (Р.Сабаленка). *Пачынаю ўжо лічыць свае гады, нібы рублі* ***пад канец камандзіроўкі*** (Я.Брыль). ***Пад канец нарады*** *Ваўчок неяк паспакайнеў і абмяк – ці то стаміўся, ці адчуў, што залішне нашумеў* (Т.Хадкевіч). ◊ ***Пад канец*** – пры заканчэнні (ТСБМ). Сін. *напрыканцы.* Рус. ***под конец*** *чего.*

**ПАД КАНЕЦ** *чаго* **ПАСЛЯ** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Першыя прыметы рэгенерацыі тканак з'яўляюцца толькі* ***пад канец першага месяца пасля паражэння*** (Асновы мед. ведаў). *Пры пераважным паражэнні цэнтральнай нервовай сістэмы смяротныя зыходы часцей назіраюцца ў першыя суткі пасля атручвання, а пры пераважным паражэнні печані і нырак –* ***пад канец першага – трэцяга тыдня пасля атручвання*** (Асновы мед. ведаў).

ПАД КАНТРОЛЬ *чаго*

**ПАД КАНТРОЛЕМ** *каго/чаго*/ **ПАД** *якім* **КАНТРОЛЕМ** *каго/ чаго /* **ПАД** *чыім* **КАНТРОЛЕМ** Род. Ускладн. Характарызатар-канфірматыў: *Дзіўна, але ўсялякае хваляванне знікла, я дзейнічаў, як аўтамат, але так разумна і хутка, як ніколі не здолеў бы зрабіць гэта* ***пад кантролем мозгу*** (У.Караткевіч). *Для Злучаных Штатаў*

*ужо не існуе стратэгічнай пагрозы, што магла б прывесці да канфрантацыі Амерыкі з Еўразійскім кантынентам, які цалкам знаходзіцца* ***пад кантролем варожай імперыі*** (Зб. Бжэзінскі. Пер. С.Петрыкевіча). *Пад палітыкай мы разумеем структурна-ўладныя ўзаемадачыненні, такую сітуацыю, калі адна група людзей знаходзіцца* ***пад кантролем іншае*** (К.Мілет. Пер. А.Скурко). *Працавала Соня* ***пад кантролем дзядзькі*** («Звязда»). ▲*Нельга чакаць сапраўднага мастацтва ад культуры, якая знаходзіцца* ***пад палітычным кантролем****; мастацтва павінна ствараццa толькі ў такім асяроддзі, дзе чалавек свабодна выбірае, што і як ён будзе маляваць* (Р. Рыдэр. Пер. А.В.). Сін. *пад наглядам.* Рус. ***под контролем*** *кого/чего.*

ПАД КАТКОМ *чаго*

**ПАД КАТОК** *чаго* / **ПАД** *які* **КАТОК** *чаго* Род. Дырэктыўны інструментыў уздзеяння: *Наша лагодная статыстыка не ўключала сюды тых, хто памёр да суда ці скончыў жыццё самагубствам, а таксама перасяленцаў. І яшчэ тых беларусаў, што трапілі* ***пад каток рэпрэсій****, жывучы ў іншых рэспубліках* (К.Тарасаў). Аказіян. Сін. *пад; пад уздзеянне.* Рус. ***под каток*** *чего.*

ПАД КІРАВАННЕ *каго*

**ПАД КІРАВАННЕМ-1** *каго* Род. Лакатыўны канфірматыў: *Пры гэтым Валынь нікому не перадавалася, а, відавочна, засталася* ***пад кіраваннем трыумвірату*** *– старэйшых Яраславічаў* (Г.Семянчук). *Іспанія знаходзілася* ***пад кіраваннем Франка****, які не прымаў да канца правілаў еўрапейскай палітычнай гульні* (А.Казакевіч). Сін. *пад кіраўніцтвам.* Рус. ***под руководством*** *кого.*

**ПАД КІРАВАННЕМ-2** *чаго* Род. Лакатыўны каўзатар: *Персанальныя камп'ютары тыпу PC раней працавалі* ***пад кіраваннем аперацыйных сістэм*** *МЗ-ОО5, PC OO5 або ОК OO5* (падручн.). Сін. *пад уздзеяннем.* Рус. ***под управлением*** *чего.*

**ПАД КІРАЎНІЦТВА** *каго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *Што было рабіць? Паддацца* ***пад кіраўніцтва польскіх агітатараў,*** *каторых падаслала да нас польская эндэнцыя, якая хоча верхаводзіць у каталіцкім жыцці?* (Кс.В.Гадлеўскі). *Мураўёў прапанаваў узброіць надзейных сялян і паставіць іх* ***пад кіраўніцтва*** *вопытных* ***афіцэраў*** (У.Караткевіч). Сін. *пад правадырства*. Рус. ***под руководство*** *кого*.

**ПАД КІРАЎНІЦТВАМ** *каго* / **ПАД** *якім* **КІРАЎНІЦТВАМ** *каго* / **ПАД** *чыім* **КІРАЎНІЦТВАМ** Род. Лакатыўны канфірматыў: *Упершыню на заслаўскі фэст завітаў ансамбль традыцыйнай джазавай музыкі «Рэнесанс»* ***пад кіраўніцтвам Мікалая Лапцёнка*** (С.Берасцень). *Тут* ***пад кіраўніцтвам Кліма*** *была збудавана драў-*

*ляная крэпасць Клімцы* (Jan Kakupala). ▲*«Давай, Герасім Пятровіч, правярай! Я пакажу табе ўсе прарэхі, якія зрабілі **пад тваім кіраўніцтвам»*** (І.Шамякін). *Лепшыя творы музычнага мастацтва эпохі князёў Радзівілаў гучалі для наведвальнікаў музея ў выкананні заслужанага калектыву РБ Акадэмічнага хору НДТРК **пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР, прафесара Віктара Роўды*** («Звязда», 06.01.05). *Персанальны камп'ютэр апрацоўвае інфармацыю **пад кіраўніцтвам чалавека*** (падручн.). Сін. *пад правадырствам*; *на чале з*. Рус. ***под руководством** кого*.

**ПАД КОЛА** *чаго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: ***Пад кола дэградацыі** трапілі нацыянальная музыка, жывапіс* (В.Куртаніч). Аказіян. Сін. *пад каток*. Рус. ***под колесо** чего*.

**ПАД КОЛЕР** *чаго* Род. Рэлят параўнання: *З коміна, дзе ўткнута шэрая **пад колер сталі** гліняная труба, тарапліва, як бы яго ліхаманка трасе, плыве-бяжыць сіняваты дымок* (Я.Колас). *Гэты трохі вышэйшы за чалавечы рост абеліск за якіх дзесяць год ужо некалькі разоў мяняў свой колер: быў то беласнежны, белены перад святамі вапнаю, то зялёны, **пад колер салдацкіх прыладаў і зброі**...* (В.Быкаў). *Тваіх вачэй, **пад колер сталі**, праменне яснае люблю* (У.Дубоўка). *Бурыя, **пад колер зямлі**, берагавыя ластаўкі, ці, як іх яшчэ называюць, беражанкі, спрытна вывіваліся над вадой, мільгаючы белымі паласатымі жывоцікамі* (А.Пальчэўскі). *У хмызняку віднеліся распятыя палаткі, зялёна-рабыя, **пад колер лісця*** (М.Ткачоў). ТСБПШ – прыназ. *пад*. Сін. *колеру*. Рус. ***под цвет** чего*.

**ПАД КРАЙ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: партытыў + камплетыў: *Толькі як пад'ехалі **пад край сяла**, пачула неспакой, адвярнулася, нахілілася над малой* (І.Мележ). Рус. ***под конец / к концу** чего*. ▬ *Только когда подъехали **к концу улицы**, почувствовала беспокойство, отвернулась от хат, наклонилась над дочкой* (пер. Н.Кислика).

**ПАД КРЫЖАМ-1** *чаго* / **ПАД КРЫЖАМ** *чаго* / **ПАД** *якім* **КРЫЖАМ** Род. Канфірматыў: *У 1577 г. у Вільні, у друкарні Радзівіла, выйшла кніга езуіта Пятра Скаргі «Пра адзінства касцёла Божага», які прапанаваў аб'яднаць праваслаўных і католікаў **пад крыжам рымскага папства*** (А.Г.Слука). Сін. *пад апекай; пад уплывам*. Рус. ***под крестом** чего; **под патронажем** чего*.

**ПАД КРЫЖАМ-2** *чаго* / **ПАД КРЫЖАМ** *чаго* / **ПАД** *якім* **КРЫЖАМ** Род. Каўзатыў: *Як часта мы **пад крыжам мукі** Ў тамленні духу ўзносім рукі І вочы, поўныя гарэння, І прагнем мігу вызвалення!* (Якуб Колас). Сін. *пад даймом*. Рус. ***под тяжестью** чего*.

**ПАД КРЫЛО** *каго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *Стаць пад крыло мецэната.* ▲ *То быў, вядома, найперш палітычны клопат ка-*

*ралевы, якая, беручы **пад сваё мецэнатскае крыло** дзесяць дзецюкоў з далёкай Літвы, цераз гады адукацыі... спадзявалася убачыць у іх асобах блізкіх да сябе дзеча-праваднікоў яе палітыкі...* (А.Лойка). Ант. *з-пад крыла*. Сін. *пад патранаж.* Рус. ***под крыло** кого.*

**ПАД КРЫЛОМ** *каго* / **ПАД** *якім* **КРЫЛОМ** *каго* / **ПАД** *чыім* **КРЫЛОМ** Род. Лакатыўны канфірматыў: *За час жыцця пры Саветах **пад крылом Масквы** мы якраз чужое ўзялі, а сваё аддалі* (А.Зэкаў). *Камерны аркестр і ансамблі («Сірынкс», «Інтрада», Актэт салістаў на драўляных духавых інструментах), што працуюць **пад крылом Дзяржаўнага канцэртнага аркестра** Беларусі...* (С.Берасцень). ■ *Вось такім парадкам **пад адным крылом Іваноўскага** пачала дзейнічаць ячэйка акоўскай вайсковай выведкі, а **пад другім** хаваўся Баляслаў Бэрут, у будучыні прэзідэнт Польскай народнай рэспублікі* (Ю.Туронак. Пер. В. Кавалёвай). Сін. *пад апекай.* Рус. ***под крылом** кого.*

**ПАД КРЫЛОМ У** *каго* Род. Лакатыўны канфірматыў-пасэсар: ◊ ***Пад крылом у** каго* – пад чыёй-н. апекай (ТСБМ). Сін. *пад апекай*. Рус. ***под крылом у** кого.*

**ПАД КРЫЛЦА** *каго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: ***Пад крылца «Сібуру»** прадугледжваецца перавесці яшчэ некалькі заводаў* («Наша Ніва», 4.02.05). Сін. *пад апеку.* Рус. ***под крылышко** кого.*

**ПАД** *якімі* **КУТАМІ** *чаго* Род. Канфарматыў: зафіксаваны толькі з назоўнікам *зроку*: ■ *Бо абодва гэтыя феномены ёсць лагічным працягам таго, што ёсць сутнасцю фатаграфіі: занатаваць (патэнцыйна) усё на свеце **пад самымі рознымі кутамі зроку*** (С.Сонтаг. Пер. В.Дразда). ▲*Яго абвінавацілі ў ачарненні прыстойных рэчаў шляхам неадэкватнага іх здымання: ...ён здымае **пад рознымі кутамі**: «камера была наўмысна накіраваная на гэты цудоўны сучасны мост пад вельмі дрэнным кутом, каб ён падаваўся крывы ды хісткі», альбо не здымае аб'ектаў цалкам: «ён намагаецца здымаць з такой блізкай адлегласці, каб сказіць вобразы людзей ды знявечыць іх духоўны свет»* (С.Сонтаг. Пер. В.Дразда). Рус. ***под углом** зрения.*

**ПАД КУТОМ** *чаго* Род. Канфарматыў: *Звычайныя жыццёвыя з'явы і працэсы **пад кутом рамантычна-ўзвышанага погляду** Л.Геніюш, у святле глыбока ўсвядомленых ёю нацыянальна-патрыятычных каштоўнасцей пераўзнаўляліся, атрымлівалі новае аблічча, набывалі іншую якасць* (М.Мікуліч).▲ *«...камера была наўмысна накіраваная на гэты цудоўны сучасны мост **пад вельмі дрэнным кутом**, каб ён падаваўся крывы ды хісткі...»* (С. Сонтаг. Пер. В.Дразда). Рус. ***под углом** зрения.*

ПАД ЛАГАТЫП *што*

**ПАД ЛАГАТЫПАМ**[1] «*што*» / **ПАД** *якім* **ЛАГАТЫПАМ** «*што*» / **ПАД** *якім* **ЛАГАТЫПАМ** Наз. Анамасіятыў: *Менавіта гэтыя справы, што пачыналіся **пад лагатыпам «перабудова»,** і звялі нас разам напачатку 90-х* (А.Кароль). Сін. *пад лозунгам.* Рус. ***под логотипом «****что».*

**ПАД ЛАГАТЫПАМ**[2] *каго* / **ПАД** *якім* **ЛАГАТЫПАМ** *каго* / **ПАД** *чыім* **ЛАГАТЫПАМ** Род. Ускладн. Характарызатар + пасэсар: рэлят псеўдатоеснасці: *Падробкі прадаюцца **пад лагатыпам вядомых брэндаў*** (Інт.). Сін. *пад маркай.* Рус. ***под логотипом*** *кого.*

**ПАД ЛАД** *каму/чаму* Дав. Рэлят суладдзя: *Хор пяе **пад лад салісту***. Сін. *у такт.* Рус. ***в лад*** *кому/чему.*

**ПАД ЛОЗУНГАМ**[1] «*што*» / **ПАД** *якім* **ЛОЗУНГАМ** «*што*» / **ПАД** *якім* **ЛОЗУНГАМ** Наз. Канфарматыў-анамасіятыў: ***Пад лозунгам «Беларусь для беларусаў»*** *ён* [Кубэ] *прапагандаваў ідэю нямецка-беларускай лучнасці інтарэсаў і супрацоўніцтва...* (Ю.Туронак. Пер. В. Кавалёвай). *На маю думку, не трэба пакідаць у эпосе, якая адыходзіць, розныя нацыяналізмы, вылепленыя з ранейшай гліны **пад лозунгам «Беларусь для беларусаў»*** (Л.Брадоўскі). *Мураўёў і яго каманда праводзілі сваю палітыку **пад лозунгам «Пальшчызны тут быць не павінна»*** («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). ■ *Асноватворным тут будзе сцверджанне, што ўсякая спроба рэстаўраваць імперыю – **пад красамоўным эмацыйным лозунгам «мусім ахоўваць мільёны рускіх за межамі Расіі»** – будзе натыкацца на моцны супраціў з боку абуджаных нацыяналістаў у былых рэспубліках СССР, прагных незалежнасці* (Зб.Бжэзінскі. Пер. С.Петрыкевіча). Сін. *пад дэвізам.* Рус. ***под лозунгом*** *чего.*

**ПАД ЛОЗУНГАМ**[2] *чаго* / **ПАД** *якім* **ЛОЗУНГАМ** *каго* / **ПАД** *якім/чыім* **ЛОЗУНГАМ** Род. Характарызатар: канфарматыў-фінітыў: *Левае ж, рэвалюцыйнае, ці якабінскае крыло, выступала за тое, каб **пад лозунгам выратавання Айчыны** аб'яднаць ва ўзброенай барацьбе ўсе патрыятычныя сілы* (Інт.). Сін. *дзеля.* Рус. ***под лозунгом*** *чего.*

**ПАД МАРКАЙ/Ю**[1] *чаго* / **ПАД** *якой* **МАРКАЙ** *чаго* Род. Характарызатар: рэлят псеўдатоеснасці: *Аднак **пад маркай прапаганды традыцыйных сямейных каштоўнасцяў** на жанчынаў будуць псіхалагічна ціснуць, фармуючы ў іх пачуццё віны ...* (Інт.). *Краіны Антанты **пад маркай дапамогі** рускім прапанавалі ўвесці ў Расію свае войскі* (Гурскі: ФСБМЛ). ▲ *І вельмі здзівілася, калі ўбачыла гэтакую куртку ў гандлёвым цэнтры ў Ждановічах, зноў-такі, зразумела, **пад маркай замежнай*** (Інт.). З анафар. займеннікам: *І так лютавалі не толькі*

*ваўкі. **Пад маркаю іх** нямала брыдоты рабілі і банды, бандэраўцы ці бульбаўцы* (Казько: ФСБМЛ). ◊ ***Пад маркай** чаго* – пад выглядам (ТСБМ). Сін. *пад выглядам*. Рус. ***под маркой** чего.*

**ПАД МАРКАЙ/Ю²** *што* / **ПАД** *якой* **МАРКАЙ** *што* Наз. З нескланяльнымі назоўнікамі. Анамасіятыў-рубрыкатыў: *Аператар сотавай сувязі «БелСел» летась павялічыў колькасць абанентаў сеткі **пад гандлёвай маркай Dialog**, якая працуе ў стандарце cdma* 2000, 1 7,7 раза («Звязда», 06.01.05). Сін. *маркі.* Рус. ***под маркой** что.*

ПАД МАРКУ *чаго*

**ПАД МАСКАЙ/Ю** *чаго* / **ПАД** *якой* **МАСКАЙ/Ю** *чаго* / **ПАД** *якой /чыёй* **МАСКАЙ/Ю** Род. Характарызатар: рэлят псеўдатоеснасці: *Цынізм часам хаваецца **пад маскай кахання*** (Л.Дранько-Майсюк). ■***Пад знешняй сацыяльнай маскаю літаратуры і гісторыі** крыецца ўнутраны невызнаны свет – «душа» вонкавых падзеяў: літаратура і гісторыя псіхічныя* (Л.Вашко). *Сваё замяшанне* [Зелянюк] *досыць удала хаваў **пад маскай вясёлага бадзёрага ажыўлення*** (Зарэцкі). Сін. *пад выглядам*. Рус. ***под маской** чего.*

ПАД МАСКУ *чаго*

ПАД МАСЦЬ ◊ ***Пад масць каму-небудзь*** **(**ТСБМ).

**ПАД НАВІССЮ/ПАД НАВЕССЮ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Як па кілімах, ля бярозак беластвольных **Пад навессю шатроў** зялёных і прывольных Снавалі постаці* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Прайшлі гады, і выстраіўся тут рад новых гонтавых дахаў, знікла пустка **пад навіссю садоў*** (М.Ракітны). ***Пад навіссю дрэў**, як баразна, Легла далёка канава* (Я.Колас). Сін. *пад*. Рус. ***под сенью** чего.*

**ПАД НАВІСЬ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-фініш: партытыў + камплетыў: *Убачыўшы праз мігатлівую навалоку слёз там каля рэчкі верасаўскіх мужчын,* [Хрысця] *крута завярнула за Ваўчковым садком на балотца, **пад навісь старых вербаў*** (В.Адамчык). *Нырнуў Барыс у цёмны спад **Пад навісь горкае каліны*** (Я.Колас). Ант. *з-пад навісі.* Сін. *пад*. Рус. ***под сень** чего.*

**ПАД НАГАМІ Ў** *каго* / **У** *каго* **ПАД НАГАМІ** Род. Суб'ектны лакатыў + пасэсар: *Казка надзейна затаілася ў гэтым доме. Гэта добры дамавік звівае з гарохавіння мяккі цяўнік **пад нагамі ў кароў*** (У.Караткевіч). ***Пад нагамі ў каня** было сена* (К.Чорны). ◊ ***Пад нагамі** зямля гарыць **у** каго-н.* (ТСБМ). ▬ *Уздыхнуў з палёгкай, седзячы ў вагоне і пакідаючы Вільню, дзе зямля **ў мяне пад нагамі** гарэла* (Юр. Монвід (Ф. Аляхновіч). Сін. *пад*. Рус. ***под ногами у** кого.*

**ПАД НАГЛЯД** *каго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *Пасля гібелі Лубы-старэйшага хлопец быў узяты **пад нагляд сябра** бацькі*

*Бялінскага* (К.Тарасаў). Ант. *з-пад нагляду*. Сін. *пад апеку.* Рус. ***под надзор*** *кого.*

**ПАД НАГЛЯДАМ** *каго* / **ПАД** *якім* **НАГЛЯДАМ** *каго/чаго* / **ПАД НАГЛЯДАМ** Род. Лакатыўны канфірматыў + кандытыў: *Лячэнне ўтвораных пролежняў праводзяць* ***пад наглядам урача*** (Асновы мед. ведаў). *Час збіраць камяні на парнаскіх пашах, дзе паэты* ***пад наглядам Найвышэйшага Пастыра*** *сто гадоў адбывалі радоўку радка* (М.Скобла). *Адны дзеці былі ў хаце з пазелянелай страхою.* ***Пад наглядам*** *малой, як лялька,* ***Тані-сінявочкі*** (У.Караткевіч). ■ ***Пад пільным наглядам роднай матулі і бабулі*** *аказвалася вада, якая выкарыстоўвалася ў час першага рытуальнага купання дзіцяці* («Звязда», 4.01.05). ***Пад марудным наглядам аблок*** *Свой гравійка сувой разматала* (Ю.Голуб). || Назоўнік з прыназоўнікам: *У першыя гады* ***пад наглядам*** *было 2 мільёны 400 тысяч чалавек, а сёння ўжо – мільён 300 тысяч* (У.Цалко). Сін. *пад кантролем; падназіраннем*. Рус. ***под надзором*** *кого.*

**ПАД НАГЛЯДАННЕМ** *каго* Род. Лакатыўны канфірматыў: *Калі я зайшоў у пакой, дзе адбылася свара, Варону паклалі ўжо ў адным з дальніх пакояў* ***пад нагляданнем сваякоў*** *Дубатоўка, а кампанія зноў сядзела за сталом* (У.Караткевіч). Сін. *пад апекай.* Рус. ***под надзор*** *кого.*

**ПАД НАГОДАЙ** *чаго* / **ПАД** *якой* **НАГОДАЙ** Род. Каўзатыў: ▲*Ты б пастукала* ***пад нейкай нагодай*** (В.Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). Сін. *па прычыне.* Рус**.** ***под предлогом*** *чего.*

ПАД НАДПІСАМ «***што»*** **Наз. Анамасіятыў:** ***І выраб мой дасужае мінуты, рагаты сук*** *пад надпісам «Чымган»,* ***прыродаю так вычварна загнуты, гадае там пра родны Казахстан*** **(Я.Колас). Сін.** ***пад назвай; пад назовам.*** **Рус.** *с надписью «****что****».*

*адзінак чаго* **ГЭТАК ПАД** *колькі* **НАЗАД** Род.-Він. Час.: няпэўны тэмпаратыў-квантытатыў: *А дзяўчаты кіеўскія! Дальбо,* ***год гэтак пад трыццаць назад*** *яны былі такія ж прыгожыя, як мінскія, слонімскія, рагачоўскія, а значыць, і найпрыгажэйшыя ў свеце* (У.Караткевіч). Сін. *...каля назад.* Рус. *единиц* ***этак под*** *сколько* ***назад***.

**ПАД НАЗВАЙ/Ю**[1] *што* / «*што*» / «*Што*» / *Што* Наз. Анамасіятыў: *Праславілі яны* [браты Сілко] *свой род і родны Мір тым, што цешылі народ на кірмашах і святах перасовачным тэатрам* ***пад назваю батлейка*** («Звязда», 5.02.05). *Сэкс і бег стымулююць у арганізме выпрацоўку рэчыва* ***пад назвай праклацін****, якое адказвае за ўтварэнне новых клетак мозга* («Звязда» 08.04.05). *З «разнасолаў» заўсёды прысутнічаў дзяжурны шашлык* ***пад назваю «мая ты доля»,*** *калькуляцыю якога складалі тры кавалачкі няўежнай гавя-*

*ды, палітыя лыжкаю таматнага соуса, па-іншаземнаму велігурыста званага кетчупам, ды жменя шынкаванай цыбулі* (А.Гаўрон). *З пачатку 1944-га яго ўспаміны пра перадваенныя туляньні **пад назваю «Страшны год»** друкаваў часопіс «Новы шлях»* (Юр. Монвід. Пер.Ф.Аляхновіча). *У Краснадары прайшла прэзентацыя новага расійскага аўтамабіля малога класа **пад назвай «Мішка»*** («Звязда», 26.02.05). *Сярод мясцовых жыхароў могільнік гэты існуе **пад назвай «Барок»*** («Гарадзенскія запісы», 1993 вып.1). *Гэтая паласа зорак вядомая **пад назвай Млечны Шлях*** (падручн.). *На той самай прыкладна прасторы ў старажытнасці існавала славянская дзяржава Дукля, пазней вядомая **пад назвай Зэта*** (І.А.Чарота). ■ *Дыплом «за высокую якасць тэкстаў» атрымаў штотыднёвік **пад мілай назвай «Люцыфер»*** (В.Ліпскі). *Першы выпуск «усебеларускага літаратурна-мастацкага альманаха» Першы выпуск «усебеларускага літаратурна-мастацкага альманаха» **пад гучнай назвай «Гоман»** засведчыў неверагодны патэнцыял у галіне айчыннай словатворчасці* (Л.Алейнік). ▲ «*Вясна-2006». Менавіта **пад такой назвай** у Цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Багдановіча прайшла выстаўка сямі знакамітых маладзечанскіх мастакоў* («ЛіМ»). Сін. *пад загалоўкам.* Рус. ***под названием** «что».*

**ПАД НАЗВАЙ/Ю²** *чаго* / **ПАД** *якой* **НАЗВАЙ/Ю** *чаго* / **ПАД** *якой*/**гэтай/той/іншай НАЗВАЙ/Ю** Род. Намінант: *Сёння стандартным з'яўляецца правапіс узору 1959 г., а апазіцыйная прэса ўжывае **пад назвай «класічнага»** варыянты правапісу Тарашкевіча («тарашкевіца»)* («Звязда», 4.01.05). ■ *Карчма, як карабель, а ззаду, як святыня: Чатырохгранная, як тога Ноя, скрыня, Вядомая **пад простай назваю стадолы*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Яшчэ ў XIX ст. камень з талеркападобнымі паглыбленнямі апісаны каля в. Варонічы Полацкага раёна, дзе быў вядомы **пад назвай Вітаўтавых талерак*** (Э.Зайкоўскі). Сін. *пад назовам.* Рус. ***под названием** чего.*

**ПАД НАЗВУ** *чаго*/«*што*» Род./Наз. Намінант: *Вырошчванне маку на клумбе – дзеянне, якое падпадае **пад назву «распаўсюджванне наркотыкаў***». Рус. ***под название** чего.*

**ПАД НАЗІРАННЕМ** *каго* / **ПАД** *якім* **НАЗІРАННЕМ** *каго* Род. Канфірматыў + кандытыў: *З дапамогай голаду сапраўды лечацца некаторыя захворванні, аднак выключна **пад назіраннем урача**, у стацыянарных умовах* («Звязда», 27.01.05). *Акт канфедэрацыі, напісаны **пад пільным назіраннем расійскай імператрыцы** і абвешчаны ў мястэчку Таргавіца Кіеўскай губерні, заклікаў змагацца супраць Канстытуцыі 3 мая за абарону вольнасцяў шляхты і каталіцкай царквы* (К.Тарасаў). Сін. *пад наглядам*. Рус. ***под надзором** кого.*

**ПАД НАЗОВАМ**[1] «*што*» / **ПАД** *якім/***агульным НАЗОВАМ** «*што*» / **ПАД** *якім* **НАЗОВАМ** Наз. Анамасіятыў: *Батальёны, якія спачатку прымалі мужчынаў сталага веку, насілі нумары з 301 да 325 і былі вядомыя* ***пад назовам «вахтмайстарскія батальены»*** (Д. Голдгаген. Пер. А.Пяткевіча). *Саюз вырабіў 12 тон асабліва небяспечнага віду віруса воспы* ***пад назовам «Індыя»*** (Інт.). ■ *Тэматычна ў тым жа рэчышчы знаходзяцца два апавяданні Генрыха Далідовіча* ***пад агульным назовам «Новы свет»,*** *прысвечаных, як піша аўтар, «Светлай памяці маёй роднай вёскі, якую я не пабачыў: яна была спалена ў 1943 годзе»* («ЛіМ»,11.06.04). *На выстаўцы ладзілася вялікая духоўна-асветніцкая праграма* ***пад агульным назовам «Святло Раства»*** («ЛіМ», 06.01.06). *Валянцін Акудовіч вызначае з'яўленне свайго збору лірычна-філасофскіх* ***тэкстаў пад шматзначным і небяспечным назовам «Дыялогі з Богам»*** («ЛіМ»). Сін. *пад назвай.* Рус. ***под названием «****что».*

**ПАД НАЗОВАМ**[2] *чаго* Род. Намінант: *З набліжэннем 11-га ст. краіны Заходняе Еўропы падняллі ініцыятыву заатакавання магаметанаў на Ўсходзе ў форме некалькіх ваенных экспедыцыяў, якія ўвайшлі ў гісторыю* ***пад назовам Крыжовых паходаў*** (Я.Пятроўскі). *Каб узаконіць падзел, на загад імператрыцы ў Горадні склікалі сойм, які ўвайшоў у гісторыю* ***пад назовам «нямога»*** (У.Арлоў, Г.Сагановіч).

ПАД НАЗОЎ «*што*»/*чаго*

ПАД НАПОР *каго/чаго*

**ПАД НАПОРАМ** *каго/чаго* Род. Прычын.: каўзатыў + канфірматыў: *Недабіткі фашысцкай аховы адыходзяць* ***пад напорам сілы*** (Я.Брыль). *І – не першыя і не апошнія – вымушаны былі* [Петр Мсціславец і Іван Фёдараў] ***пад напорам*** *цёмнай* ***чэрні****, падбухторанай перапісчыкамі і цемрашаламі з вярхоў, як духоўных, так і свецкіх, бегчы з Масквы ў Заблудаў, непадалёку ад Супрасля* (У.Караткевіч). *Шыбы бразгацелі* ***пад напорам ветру*** (М.Лупсякоў). Сін. *пад націскам.* Рус. ***под напором*** *чего.*

ПАД НАЦІСК *каго/чаго*

**ПАД НАЦІСКАМ** *каго/чаго* / **ПАД** *якім* **НАЦІСКАМ** *каго/чаго* / **ПАД** *чыім* **НАЦІСКАМ** Род. Прычын.: каўзатыў + канфірматыў: *Неаднойчы быў арыштаваны, апошні раз у красавіку-чэрвені (сядзеў у Валадарцы), вызвалены* ***пад націскам грамадскасці*** *й сасланы ў Віцебск* (П.Севярынец). *Наш сярэдні чалавек-культурны ўзор фармаваўся* ***пад націскам татальнай ідэалогіі****, пад наглядам недасягальнага, на ўзроўні Бога, ідэальнага эсхаталагічнага правадыра-старэйшага брата, да якога сярэдняй сацыяльнай шрубкай ніколі не ўзняцца* (А. Екадумаў). *Падскочылі, рвануўшы ўраз свае*

*галовы У два бакі, нібы вяршаліны двух хвояў **Пад націскам вятроў**, і з-пад стала абое Рванулі рукі, што ляжалі ўжо бок з бокам, А твары чырванню набеглі ў момант вока* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ■ *А не так даўно калектыў прыклаў нямала намаганняў, каб яна выстаяла **пад напорыстым націскам сектанцкіх актывістаў**, якія ўцягнулі ў свае сеткі яе бацькоў* (А.Лукашук). *А фальш нашага памерлага падарожжа перадаваўся сіняй тапаграфіяй, якая непрыкметна перасоўвалася **пад** уплывам і **націскам** якраз гэтага нашага **падарожжа*** (В.Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). || Назоўнік з прыназоўнікам: «*Е» мяняеш на «а» ў першым складзе **перад націскам*** (Ю.Свірка). Сін. ***пад напорам** каго/чаго.*

**ПАД НАЧАЛАМ** *каго* Род. Суб'ектны лакатыў-канфірматыў: *Па іроніі лёсу пачыналі мы вельмі акадэмічна – Расэл у Оксфардзе **пад началам Нэвіла Когіла**, а я ў Калумбійскім універсітэце ў Джэймза Кліфарда* (Э.Джонг. Пер. А.Дынько). *Пінск дае палітычны прытулак Войшалку, а ў наступным годзе пінская дружына **пад началам Войшалка** пайшла на Панямонне* (Інт.). *Абарона Рыгі ліцвінскім войскам **пад началам Яна Кароля Хадкевіча*** (Чаропка). *Да 1561 году места было **пад началам архібіскупа Вільгельма Брандэнбургскага*** (Інт.). *У лепшыя яе* (Тураўскай зямлі) *гадзіны хадзілі **пад началам Турава** Клецк і Слуцк, Мазыр і Пінск, Чартарыйск і Рагачоў* (У.Караткевіч). Сін. *на чале з*. Рус. ***под началом** кого.*

**ПАД НЕБЯСПЕКАЮ** *чаго* Род. Каўзатыў; сінтаксема ў выглядзе даданай часткі з злучальным словам *што: Яна толькі колькі разоў памыкалася ўстаць і папрасіць увагі, але гэтая зайздросная сястрычка Нюрка кажны раз адразу моцна тузала за сукенку і трэ было здавацца **пад небяспекаю, што** рэдзенькі муслінчык можа ня вытрымаць* (С.Юстапчык (Антон Адамовіч)). Сін. *з апаскі.* Параўн.: *трэ было здавацца **пад небяспекаю парыву** тканіны.*

**ПАД НОГІ**[1] *каго* Рус. Бенефіцыянтыў: *Беларусь зрабілася «трафеем» царскай арміі. Вайскоўцы, што паклалі край **пад ногі Кацярыны**, чакалі, калі на іх пальецца залаты дождж* (А.Бензярук). Рус. ***под ноги** кого.*

ПАД НОГІ[2] *каму*

**ПАД НОСАМ У** *каго* Род. Ускладн. Суб'ектны лакатыў + пасэсар: *Ды, відаць, не рызыка гэта была – **пад носам у фашыстаў** тайна пахаваць сына-партызана* (М.Пазнякоў). ▶ *Хочацца дзёрзкае кінуць Самсону, Хочацца дзверы **пад носам** закрыць* (Я.Янішчыц). Сін. *пад вокам у.* Рус. ***под носом у** кого.*

**ПАД НУМАРАМ** *колькі* Наз. Характарызатар-анамасіятыў: *Дом **пад нумарам сто дзевяць**.* ▬ *Васьмёрка – назва некаторых*

*прадметаў (трамвая, аўтобуса і пад.)* ***пад нумарам 8*** (ТСБМ). *M22 азначае – аб'ект* ***пад нумарам 22*** *у каталозе Месье* (К.Цыркун). *А калі пасля «жывога» праслухоўвання ідзе паўтор запісу конкурснай праграмы ў адваротным парадку, уладальнікі чаргі* ***пад нумарам два*** *зноў у выйгрышным становішчы, бо іх песня гучыць перадапошняй, канцэнтруючы на сабе ўвагу гледачоў, якія рыхтуюцца выбраць і патэлефанаваць* («ЛіМ»). *І мы пайшлі ў кватэру, якую ён* [Караткевіч] *толькі што атрымаў у блочным, «хрушчоўскім», доме па вуліцы Чарнышэўскага* ***пад нумарам*** *7* (А.Мальдзіс). Сін. *нумар.* Рус. ***под номером*** *сколько.*

**ПАД НУМАРАМІ** *чаго* Род. Характарызатар-намінант: *Пакінуты разгляду і суду:* ***пад нумарамі вартасці і вады****, – я з сутнасцю аднойчы супаду. А пацукі захоплівалі ўладу* (А.Разанаў). Аказіян. Рус. ***под номерами*** *чего.*

**ПАДОБНА** *каму/чаму* Дав. Рэлят прыраўнівання: *Пераліваюцца* ***падобна дыяментам*** **(**ППШ). *Атрымаўшы ступень бакалаўра філасофіі, Будны****, падобна Скарыне****, накіраваўся ў Італію* (К.Тарасаў). *Касцюшка атрымаў ад сваіх калегаў мянушку «Швед з-пад Брэста», бо,* ***падобна Карлу XII,*** *падымаўся а чацвёртай гадзіне і, каб прагнаць сон, апускаў ногі ў балею з ледзяной вадой, якую з ночы ставіў пры ложку* (К.Тарасаў). *І вось з'яўляецца юнак і,* ***падобна летапісцу*** *з уласнага верша, раптам дае гэтай спячай памяці першы штуршок ...* (У.Караткевіч). - **Падобна таму як і.** Сін. *нападобе як;* злучнік *як і*. Рус. ***подобно*** *кому/чему.*

**ПАДОБНА ДА** *каго/чаго* Род. Рэлят прыраўнівання – уключэння ў клас аднародных па тоеснасці: *Адам Русак,* ***падобна да Коласаўскага Сымона-музыкі****, прыйшоў у горад спазнаць нотную навуку* (А.Бельскі). *Аднак,* ***падобна да іншых татальных ідэалогіяў*** *(няхай за аналогію нам тут будзе расізм і каланіялізм), кантроль у патрыярхальным грамадстве быў бы няпоўным, а нават н798здзейсненым, калі б не пакладаўся на сілу, якая служыць не толькі спосабам уплыву ў экстрэмальных сітуацыях, а і інструментам паўсядзённага запалохвання* (К.Мілет. Пер. А. Скурко). ↔ **Падобна да таго як.** *Паветраны шар, напоўнены вадародам, усплывае ўверх* ***падобна да таго, як*** *усплываюць пузыркі паветра ў шклянцы вады* (падручн.). Сін. *кшталтам*. Рус. ***подобно.***

**ПАДОБНА НА-1** *што* Він. Рэлят прыраўнівання: *Кругавароты рэчываў,* ***падобна на кругаварот*** *вады, прыводзяцца ў рух энергіяй Сонца* (падручн.). Сін. *падобна як і.* Рус. ***подобно*** *кому/чему.*

**ПАДОБНА НА-2** *што* Він. Прэдыкатыў ў злучнікавых спалучэннях: ***Падобна на тое, што*** *ў бачнай перспектыве нейкія рухі*

*накшталт далучэння Смаленшчыны магчымыя толькі пры Лукашэнку* (В.Ліпскі). ***Падобна на тое, што*** *наш паэт, як на легенду, не дужа і нахлусіў* (У.Караткевіч). Рус. ***похоже на*** *что.*

**ПА ДОГЛЯДУ** *каго* Род. Ускладн. Характарызатар: рубрыкатыў: *Быць у водпуску* ***па догляду дзіцяці.*** *Рабочы* ***па догляду жывёлы.*** **—** *З 1 лютага па 30 красавіка штомесячная дапамога працуючай маці* ***па догляду дзіцяці*** *ва ўзросце да 3 гадоў складзе 87 тысяч 850 рублёў, старэйшага за 3 гады – 40 тыс.550 рублёў* («Звязда», 3.02.05). Юр. клішэ. Рус. ***по уходу за*** *кем.*

ПАД ПАВАДЫРСТВА *каго/чаго*

**ПАД ПАВАДЫРСТВАМ** *каго* Канфірматыў: *Палякі* ***пад павадырствам Хэлхоўскага*** *зрабілі шум і крык у касцёле* (Кс.В.Гадлеўскі). *Быў на яго* [бацькі] *магіле апошні раз 16 верасня 1925 г., у той самы дзень, калі мяне збайкатавалі на паразоўскім фэсце* ***пад павадырствам кс. Спэрскага*** (Кс.В.Гадлеўскі). Сін. *на чале з.* Рус. ***под руководством*** *кого.*

**ПАД ПАВЕТКУ** *чаго* Род. Пеарн. дырэктыў-фініш: рэлят уключэння: *Душа паэта ўтрапёна крыляла на Мядзельшчыну,* ***пад паветку ўсяго блізкага і роднага*** (М.Мікуліч). Сін. *пад крыло: пад засень*. Аказіян. Рус. ***под крыло*** *чего.*

**ПАД ПАГРОЗАЙ-1 (Тв.)** *чаго* Род. Будучы лакатыўны кансеквентыў: ***Пад пагрозай эпідэміі*** *5 мільёнаў чалавек* («Звязда», 06.01.05). *У нашым рознакаляровым і рознагалосым свеце налічваецца больш за шэсць тысяч моў. Палова з іх* ***пад пагрозай знікнення*** («Звязда», 18.02.05). *Сёння прытулак для пакінутых сабак* ***пад пагрозай знішчэння*** («Чырвоная змена», 15.04.05). Сін. *перад станам.* Рус. ***под угрозой*** *чего.*

**ПАД ПАГРОЗАЙ-2 (Тв.)** *чаго* Род. Сітуатыў: каўзатыў + характарызатар: *Правілы бою, распрацаваныя яшчэ Чынгіз-ханам, забаранялі* ***пад пагрозай пакарання*** *смерцю ўдзел у бітве нават тысяцкаму* (К.Тарасаў). *Варта было б учыніць бунт на караблі****, пад пагрозай зброі*** *прымусіць капітана прышвартавацца да РС-09 і плысці, узяўшы тое судна на абардаж* (У.Караткевіч). ↔ **Пад пагрозай таго што.** Сін. *пад страхам.* Рус. ***под угрозой*** *чего.*

**ПАД ПАГРОЗАЙ-3** *чаго* Род. Будучы каўзатыў: ***Пад пагрозай атруты*** *хлопцы выкінулі нямала і добрых грыбоў* (Я.Маўр). Сін. *на выпадак.* ↔ **На выпадак каб не; пад пагрозай каб не**. Рус. ***во избежание*** *чего.*

**ПАД ПАГРОЗУ (Він.)** *чаго* Род. Будучы дырэктыўны кансеквентыў: ***Пад пагрозу знішчэння*** *пастаўлена не толькі мова і культура этнасу, але і сам этнас* (Інт.). Рус. ***под угорозу*** *чего.*

ПАД ПАНАВАННЕ *каго/чаго*

**ПАД ПАНАВАННЕМ (Тв.)** *каго* Род. Лакатыўны канфірматыў: ***Пад панаваннем Шарлямана*** *каралеўства Франкаў асягнула стан імперыі* (Я.Пятроўскі). Сін. *пад цараваннем; пад уладай.* Рус. ***под властью*** *кого.*

**ПАД ПАТРАБАВАННЕ (Він.)** *каго/чаго* Род. Рэлят псеўдатоеснасці: *Трэба адзначыць, што ў нашы дні помста не ў модзе і часта хаваецца* ***пад патрабаванне*** *правасудздзя* (Ц.Тодараў. Пер. А.Дынько).

ПАД ПАТРАБАВАННЕМ *каго/чаго*

ПАД ПАТРАНАЖ *каго/чаго*

**ПАД ПАТРАНАЖАМ (Тв.)** *каго /* **ПАД** *якім*/**непасрэдным ПАТРАНАЖАМ** *каго* Род. Канфірматыў: *Хасэ Эрнандэс актыўна ўдзельнічаў у працы грамадскага клубу «УзГорак», які існаваў* ***пад патранажам амерыканскага фонду***... («Наша Ніва», 4.02.05). *Л.Лойка паспрабаваў яшчэ адрадзіць часопіс* ***пад патранажам Інстытуту гісторыі НАН РБ*** *і, сустрэўшы там насцярожанае стаўленне кіраўніцтва да апальнага часопісу, адышоў ад гэтае справы і вярнуўся да выкладчыцкай дзейнасці* («Наша ніва», 4.02.05). *Трагедыя самападману: ці можна было за беларускую ідэю змагацца рукамі ворага, ці магчыма была незалежнасць* ***пад патранажам Германіі?*** («Звязда», 4.02.05). *Са свайго боку Лявонаў прапануе ... не выбіраць саперніка Лукашэнкі на выбарах ... Ну, і шмат чаго яшчэ «разумнага» і «рацыянальнага. Накшталт правядзення рэферэндуму па праекту Канстытуцыі РБ (дарэчы, напісанай* ***пад непасрэдным патранажам лявонаўскага фонду***), *унясення змяненняў у выбарчы кодэкс... і многіх іншых, не менш цікавых рэчаў* («Звязда», 15.06.05). *Фестываль сярэдневечнай музыкі праходзіць у сталіцы Швецыі штогод* ***пад патранажам каралевы Сільвіі*** (Інт.). *Да 1565 году Цяпінскі знаходзіцца* ***пад патранажам Мікалая Чорнага*** *і дапамагае Буднаму ў ягонай творчасці* (Інт.). Сін. *пад патранатам.* Рус. ***под патронажем*** *кого.*

ПАД ПАТРАНАТ *каго* Род.

**ПАД ПАТРАНАТАМ (Тв.).** *каго* Род. Канфірматыў: *Акцыя «Дзеці – дзецям» праводзіцца другі год* ***пад патранатам Мінскага міжнароднага клуба жонак паслоў***, *які ўзначальвае Ніна Аруцюнян, жонка пасла Арменіі ў нашай краіне* (С.Берасцень). *Жыццё беларускіх сядзібаў на працягу многіх стагоддзяў поўнілася цудоўнай музыкай май лепшых мясцовых і замежных майстроў, якія працавалі* ***пад патранатам заможных уладароў*** (С.Берасцень). *Фестываль «Ноц блюзова» адбываецца* ***пад патранатам Міністэрства***

***культуры Польшчы і лодзінскага ваяводы*** (Інт.). *Асноўная частка збораў існавала* ***пад патранатам магнатэрыі й шляхты****, якая далучылася да Рэфармацыі* (Інт). *Рымскія тэрыторыі* ***пад патранатам асобных варварскіх правадыроў*** *станавіліся своеасаблівымі выспамі вольнасці, дзе маглі знайсці прытулак роспачныя рымляне* (Інт.). Сін. *пад эгідай; пад патранажам*. Рус. ***под патронатом*** *кого.*

**ПАД ПАТРЭБЫ (Він.)** *каго/чаго* Адрасат: дэстынатыў: *Стаматалагічную паліклініку вырашана было адкрыць у сценах былой медыцынскай установы тэрапеўтычнага профілю,* ***пад патрэбы стаматалогіі*** *абсалютна не прыстасаванай* («Звязда», 5.02.05). *На распрацоўку рухавіка спецыяльна* ***пад патрэбы Горкаўскага завода*** *мінскія спецыялісты затрацілі чатыры гады* («Звязда», 12.02.05). Сін. *для патрэб; для.* Рус. ***для нужд*** *кого.*

**ПАД ПАДАБЕНСТВА** *чаго* Рэлят прыраўнівання: *На сярэдняй паліцы таго ж стэлажа, прыстасаванай* ***пад падабенства бра, –*** *дзве зграбныя, з чырвонымі абадочкамі чаркі* (А.Вярцінскі). Сін. *нападобе.* Рус. ***наподобие*** *чего.*

**ПАД ПАХАЙ** *каго* Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Ён нарадзіўся* ***пад пахай зеленачубага бору*** *ў добрушскай вёсачцы Перарост, многае ў жыцці паспрабаваўшы як бы на вырост: і гаркавы прысмак першых дзіцячых слёз у часы ваеннай і пасляваеннай бясхлебіцы, і неўтаймаваныя росшукі юнацкай будучыні, дзе выпрабоўваў сябе на абсягах сібірскай тайгі* (М.Мятліцкі). Аказіян. Сін. *пад засенню; пад крылом.* Рус. ***под крылом*** *кого.*

ПАД ПАХУ *каму*

**ПАД ПЕРАСВІСТ** *каго* Род. Сітуатыў: камітатыў-характарызатар: рэлят суправаджэння: *Таму і запісваю гэта, пры лямпе, перад сном, вярнуўшыся з далёкай, самотнай праходкі – па шашы,* ***пад*** *гоман жаб і* ***перасвіст салаўёў*** (Я.Брыль). Сін. *пад суправаджэнне; пад акампанемент.* Рус. ***под пересвист*** *кого.*

**ПАД ПЕСНАПЕЎ** *каго/чаго* Род. Сітуатыў: камітатыў-характарызатар: рэлят суправаджэння: ***Пад песнаспеў Анёлаў (ці людзей?)*** */ Прыўстаць насустрач / ззяючай далоні, / Якую Багародзіца ўскладзе / На голаў мой, шапнуўшы / ціха: «Помні...» / Прыўстаць – і ўкленчыць, / каб аддаць жыццё, / Зямное і духоўнае, ў паклоне, / Адчуўшы ўсплеск агню, што перацёк / Праз лёгкі дотык / Матчынай далоні...* (Т.Бондар). *Той дзень мінуў, і новы дзень прыспеў, / А слёзы шчасця ззяюць, як і ззялі, / У глыбіні душы,* ***пад песнаспеў / Нябёсаў****, іх прасветленае далі* (Т.Бондар). Сін. *пад акампанемент.* Рус. ***под песнопение*** *кого/чего.*

ПАД ПОКРЫВА *чаго*

**ПАД ПОКРЫВАМ-1 (Тв.).** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: ***Пад покрывам лёду** – снег з густога пылу* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Сін. *пад.* Рус. ***под покрывалом** чего.*

**ПАД ПОКРЫВАМ-2 (Тв.).** *чаго* Род. Характарызатар-крытэрый: рэлят псеўдатоеснасці: *Часта **пад ілжывым покрывам** быццам бы высокіх **ідэй** распальваецца варожасць, нянавісць і сеецца смерць* (С.Стахоўская). Сін. *пад маскай; пад лозунгам.* Рус. ***под лозунгом** чего.*

ПАД ПРАВАДЫРСТВА *каго*

**ПАД ПРАВАДЫРСТВАМ (Тв.)** *каго* Канфірматыў: Род. *Ці не думаеце вы, дарагія паплечнікі, – якраз мацаючы наган, павёў таварыш Малкін, – што жыццё вашае зрабілася занадта спакойным, супакоеным у наш трывожны час гістарычнага змагання з сусветнай акулай фашызму **пад правадырствам слаўнай партыі й вялікага Сталіна?*** (С.Юстапчык (Антон Адамовіч)). *Розныя наезды ў «землі рымлянаў», пераважна **пад правадырствам Гаруна**, спрычыніліся да здабыцця, сярод іншых аб'ектаў, грэцкіх манускрыптаў* (Я.Пятроўскі). Сін. *пад кіраўніцтвам.* Рус. ***под руководством** кого.*

**ПАД ПРАТЭКТАРАМ** *каго/чаго* / **ПАД** *якім* **ПРАТЭКТАРАМ** *каго/чаго* / **ПАД** *чыім* **ПРАТЭКТАРАМ** Род. Канфірматыў: ▲ *З арыентацыяй на супрацоўніцтва з Трэцім Рэйхам гэтыя дзеячы звязвалі свае надзеі на арганізацыю ўласных узброеных сіл, а ў выпадку перамогі над СССР – таксама стварэнне асобнай беларускай дзяржавы **пад нямецкім пратэктарам*** (Ю.Туронак). Сін. *пад пратэктаратам.* Рус. ***под протекторатом** кого/чего.*

ПАД ПРАТЭКТАРАТ *каго/чаго*

**ПАД ПРАТЭКТАРАТАМ (Тв.)** *каго/чаго* Род. Канфірматыў: *Гітлер, які перад нападам на СССР шмат разоў абяцаў утварыць **пад пратэктаратам Германіі** асобную беларускую дзяржаву, у часе вайны аніяк не выказваўся на гэты конт* (Ю.Туронак. Пер. В. Кавалёвай). *Падтрымаць пазіцыю беларусаў у падрыхтоўцы і правядзенні чарговых прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі **пад пратэктаратам ААН*** (Інт.). *Ні пра якую незалежную і шчаслівую **пад пратэктаратам фашыстоўскай Нямеччыны** Беларусь не магло быць гаворкі* (Інт.). Сін. *пад патранатам; пад апекай.* Рус. ***под протекторатом** кого/чего.*

**ПАД ПРАТЭКТАРАТСТВАМ** *каго/чаго* / **ПАД** *якім* **ПРАТЭКТАРАТСТВАМ** *каго/чаго* / **ПАД** *чыім* **ПРАТЭКТАРАТСТВАМ** Род. Канфірматыў: *Многія сапраўдныя патрыёты сваёй Бацькаўшчыны ...выказвалі асцярогу з той нагоды, што на гэтых пасадах могуць аказацца іншародцы, палякі або літоўцы, якія таксама імкнуліся*

*да сваёй дзяржаўнасці* ***пад пратэктаратствам Нямеччыны*** «Гарадзенскія запісы», 1993 вып.1).

**ПАД ПРОЗВІШЧАМ «**хто» / **ПАД** *якім* **ПРОЗВІШЧАМ** «хто» / **ПАД** *якім/чыім* **ПРОЗВІШЧАМ** Наз. Анамасіятыў: *Пачынаецца песня, з'яўляецца птушка, Што жыве ў Беларусі* ***пад прозвішчам Драч*** (М.Лужанін). *Няясна, ці гэтая ж самая асоба зноў узнікае* ***пад прозвішчам Цяпінскі*** *ў 80-х гг. на Кіеўшчыне* (Інт.). *!921 г. – у газеце «Савецкая Беларусь» ад 28 траўня* ***пад прозвішчам Бладысь*** *Дубоўка друкуе свой першы верш «Сонца Беларусі»* (навук.). ■ *Тым часам Анатоль Бярозка* ***пад сваім сапраўдным прозвішчам Мацей (Мацвей) Смаршчок*** *жыў у далёкім свеце за акіянам і паводле сваёй адукацыі, атрыманай у Віленскім універсітэце, займаўся медычнай практыкай* («ЛіМ»). ▲ *Так з таго часу і жыла ў вёсцы:* ***пад чужым прозвішчам****, толькі зрэдку з'яўляючыся на людзях* (Jan Kakupala). Рус. ***по фамилии «****кто».*

ПАД ПРЫГЛЯД *каго*

ПАД ПРЫГНЁТ *каго*

ПАД ПРЫГНЁТАМ *каго*

**ПАД ПРЫГЛЯДАМ** *каго/чаго* Род. Лакатыўны канфірматыў: *Нават каліВасіль адзін пайшоў па вуліцы, галоўнай мястачковай вуліцы, яму яшчэ не верылася да канца, што ўся тая недарэчная, прыкрая гісторыя скончылася, што ён ужо не* ***пад прыглядам варты****, не арыштант, а вольны казак, што можа ісці туды, куды хоча, куды вядзе сэрца* (І.Мележ). *Хата маміна стаіць адна* ***пад прыглядам Валапаса*** (Р.Барадулін). Сін. *пад: пад вартай.* Рус. ***под приглядом*** *кого/чего*.

**ПАД ПРЫКЛАДАМ** *каго* Род. Каўзатыў-канфірматыў: *Тэкля сутыкнулася з ім на царкоўным ганку і з тактам і праніклівасцю дарослага свецкага чалавека, якія* ***пад*** *уздзеяннем і* ***прыкладам мужа*** *пачыналі ставаць уласцівымі таксама й ёй, з аднога позірку вызначыла ягонае арыстакратычнае паходжанне – па найменшых дэталях, прычосцы, манеры рухацца, прышчэпленых у раннім дзяцінстве* (А.Дынько). Сін. *пад уплывам; па прыкладу/дзе.* Рус. ***по примеру*** *кого.*

ПАД ПРЫКРЫЦЦЁ *чаго*

**ПАД ПРЫКРЫЦЦЁМ (Тв.)** *чаго* Род. Лакатыў-характарызатар: *А цяпер яшчэ гэты холад – на ёй цяжкое ваўнянае паліто,* ***пад прыкрыццём якога*** *любіць сядзець яна зімоваю парою...* (Г.Мэт'юз. Пер. Ю.Марголіна). Сін. *пад.* Рус. ***под*** *чем.*

**ПАД ПРЫМУСАМ** *каго/чаго* Род. Прычын.: каўзатыў + канфірматыў: *Абараняць дзяржаву яны ішлі толькі* ***пад прымусам сілы*** («Наша слова»). Сін. *пад націскам.* Рус. ***под принуждением*** *кого/чего.*

ПАД ПРЫЦЭЛ *каго/чаго*

**ПАД ПРЫЦЭЛАМ (Тв.)** *каго/чаго* Род. Канфірматыў: *Кажа: усе былі **пад прыцэлам кулямётаў** ...* (А.Мельнікаў). *Лявон Карась – першая, але не апошняя ахвяра сярод супрацоўнікаў «Свабоды», якія пяцьдзесят гадоў былі **пад прыцэлам камуністычных спецслужбаў*** (Інт.). *Некаторыя з іх нечакана ўзнялі руку на таго, каго павінны былі абараняць, пры гэтым правадыр апынуўся **пад прыцэлам адразу некалькіх злачынцаў*** (Інт.). Сін. *пад дулам/і*. Рус. ***под прицелом** кого/чего.*

**ПАД ПСЕЎДАНІМАМ (Адз.л.)** *хто/каго* / **ПАД** *якім* **ПСЕЎДАНІМАМ** *хто/каго* / **ПАД** *якім* **ПСЕЎДАНІМАМ** Наз./Род. Анамасіятыў: *У сярэдзіне XIX стагоддзя адзін з такіх нашчадкаў, які меў імя Samojla Clemens і ганяў параходы па Misisipi, адкрыў у сабе талент прыгожага пісьменства і праз хуткі час увайшоў у сусветную літаратуру **пад псеўданімам Mark Twain*** (Jan Kakupala). *Зборнік «Дудка беларуская» выдаў у 1891 годзе Францішак Багушэвіч **пад псеўданімам Мацей Бурачок*** («Звязда», 14.04.05). ***Пад псеўданімам Анатоль Жменя** ён* [Леў Гарошка] *надрукаваў некалькі дзесяткаў апавяданняў* («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). *Зарэмба быў чалавек суровы і лаканічны... Пад яго камандай было 69 чалавек, а на чале аднаго з двух падраздзяленняў стаяў рускі Фёдар Яльчанінаў **пад псеўданімам Гарап*** (У.Караткевіч). *У 1610 г. у Вільні **пад псеўданімам Феафіла Арфолага** ён* [Мялецій Сматрыцкі] *выдаў кнігу «Фрынас, або Плач усяленскай усходняй царквы» – адзін з лепшых твораў пісьменніка-публіцыста* (А.Г.Слука). Сін. *пад імем; пад прозвішчам*. Рус. ***под псевдонимом** кто/кого.*

**ПАД ПСЕЎДАНІМАМІ (Мн.л.)** *хто* **І** *хто* Наз.-Наз. Двухч. Ускладн. Анамасіятыў: *Літаратурныя і крытычныя творы Сяргея Харэўскага таксама друкаваліся **пад псэўданімамі Антон Сіюль і Гары Куманецкі*** (С.Харэўскі). Рус. ***под псевдонимами** кто **и** кто.*

**ПАД ПЯРОМ** *каго* Род. Суб'ектн.: аўтарызатар-агенс: *На першы погляд, шэраговае здарэнне, прыватны выпадак з жыцця Заходняй Беларусі набыў **пад пяром Н.Тарас** адметную сімвалічную афарбоўку, рысы сацыяльнай заканамернасці і тыповасці, стаўся матэрыялам для роздуму паэтэсы адносна чалавечай долі ва ўмовах грамадства, заснаванага на несправядлівасці і прыніжэнні* (М.Мікуліч). *А вось як выглядаюць **пад пяром паэта** Пятро і Кацярына* (У.Караткевіч). ***Пад пяром паэтэсы** яна* [звычайная беларуская карціна] *набывала яркае эмацыянальна-сэнсавае напаўненне, падкрэсленае рамантычна-ідэалізаванае выяўленне* (М.Мікуліч). *Ю.Крыжаніч быў, здаецца, першым аўтарам-філолагам, пад пяром якога беларуская*

*мова ўпершыню атрымала сваё сучаснае найменне* (С.Запрудскі). Сін. *у; у творах; ва ўяўленні.* Рус. ***под пером*** *кого.*

**ПАД ПЯТОЮ (Тв.).** *каго/чаго* Род. Характарызатар-канфірматыў: *Паэт сумуе з прычыны таго, што родная Беларусь стогне* ***пад пятою фашызму*** (Я.Раманоўская). Рус. ***под игом*** *кого/чего.*

ПАД ПЯТУ *каго/чаго*

**ПАД РОСТ** *каму* Дав. Рэлят адпаведнасці: *Чаму не можа чалавек у сваіх справах тварэння ўбачыць сябе калі не* ***пад рост Богу,*** *то хаця б у цені Яго ценем Яго?..* (А.Лойка). Сін. *у адпаведнасць.* Рус. ***под рост*** *кому.*

**ПАД** *колькі адзінак* **РОСТУ** Наз./Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Першы быў ваенным, меў* ***пад два метры росту*** *і звераватую фізіяномію* (С.Адамовіч). Сін. *ростам пад.* Рус. ***ростом около*** *скольких единиц.*

**ПАД РУБРЫКАЙ** «*што*» / **ПАД** *якой* **РУБРЫКАЙ «***што*» / **ПАД** *якой* **РУБРЫКАЙ** Наз. Анамасіятыў: *Андрэй вазьмі ды скажы мне, што як што яно Брэхт быў камуністам, дык след публікаваць пераклады з яго паэзіі* ***пад рубрыкай «Паталогія»*** (Інт.). *Цыкл артыкулаў* ***пад рубрыкай «Каб выйсці замуж»*** *будзе ўключаць у сябе матэрыялы народна-праваслаўнага календара і народныя магічныя сродк*і («Звязда», 9.02.05). *Летась на старонках «Літаратурнай газеты» друкавалася вялікая палеміка, у якой удзельнічала больш як пятнаццаць (!) аўтараў,* ***пад рубрыкай «Крытыка: Самазабойства жанра?»*** (Н.Дзянісава).▲ *Гэтая серыя канцэртаў пройдзе па Брэсцкай і Мінскай абласцях* ***пад агульнай рубрыкай****, у межах акцыі «Майстры мастацтваў – за моцную і квітнеючую Беларусь». Дарэчы,* ***пад гэткай жа рубрыкай*** *прайшоў і вечар-канцэрт Сімфанічнага аркестра Нацыянальнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі* (С.Б.) Сін. *пад назвай; пад назовам*. Рус. ***под рубрикой «****что».*

ПАД РУБРЫКУ «*што»*

**ПА ДРУГІ БОК** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна цэнтральнага локума: *Так я стаў меркаваць пазней, студэнтам, адкрыўшы, што коласаўскае Цельшына – гэта вёска Люсіна, недалёка ад Ганцавіч, а хутар Шарпутоўшчына* ***па другі бок Лані*** *– гэта ад Сержпутоўскіх; што многія казкі, якія вывучаў у школе і чытаў наўзахлёб самастойна, паходзяць з майго Чудзіна* (А. Каско). *У суседзяў, што жылі* ***па другі бок вуліцы ад Грасыльды****, з плота здымалі бялізну* (І.Пташнікаў). *Калі ён выходзіў з брамы, сувязны быў* ***па другі бок вуліцы****, стаяў каля газетнага кіёска і глядзеў на Катавіцкага* («Arche»). ▶ *Узбоч* <u>*дарогі*</u> *–* *лясок,* ***па другі бок*** *– поле, а ўгары – папялястыя хмаркі паўзуць* (Я.Колас). *Ён* [хлопчык] *цяпер,*

*бы на граніцы, На высокім рубяжы; Па адзін бок – блеск дзянніцы, **Па другі** – цьма, дзе ён жыў* (Я.Колас). Ант. *па адзін бок; па гэты бок*. Сін. *па той бок*. Рус. ***по другую сторону*** *чего.*

ПА ДРУГІ БОК АД *каго/чаго*

ПА ДРУГІ БОК ЛЯ *каго/чаго*

**ПАД РУКАМІ** *каго* / **ПАД** *якімі* **РУКАМІ** *каго* / **ПАД РУКАМІ** Суб'ект: агенс-каўзатар: ***Пад рукамі маладзіцаў*** *лён ды з песнямі паплыў, мігатліваю крыніцай, каласістай хваляй ніў* (Л.Геніюш). Сін. *у.* Рус. ***под руками*** *кого.*

ПАД РУКОЮ *каго*

ПАД РУЛІ *чаго*

**ПАД РУЛЯМІ (Тв.)** *чаго* Род. Характарызатар-канфірматыў: *Сапраўды, плошчу Перамогі (ці Круглую) спачатку будавалі палонныя немцы **пад рулямі савецкіх карабінаў*** (С.Харэўскі). *А потым моўчкі, **пад рулямі аўтаматаў**, закопваў на сваім гародзе* (В.Быкаў). *На світанні іх і паднялі **пад рулямі дзвюх стрэльбаў*** (В.Быкаў). Сін. *пад прыцэлам.* Рус. ***под дулами*** *чего.*

**ПАД РЭДАКЦЫЯЙ** *каго* Род. Аўтарызатар-канфірматыў: *Двухтомнік **пад рэдакцыяй Р.Барадуліна** выйшаў у Мінску ў 1984 годзе* (С.Панізьнік). Сін. *рэдакцыі.* Рус. ***под редакцией*** *кого.*

**ПАД САМ/УЮ/АЕ/ЫЯ[1]**... *што* Він. Час.: тэмпаратыў: *Толькі **пад самы Новы год** маразы скавалі зямлю як лёд* (І.Мележ). Сін. *непасрэдна перад.* Рус. ***перед самым/ой/ыми ...*** *чем.*

**ПАД САМАЙ/ЫМ/ЫМІ[2]**... *чым* Тв. Прастор.: лакатыў адносна бліжэйшага локума: *Чаўны **плылі пад самым берагам*** (У.Караткевіч). ***Пад самым носам*** **–** блізка, побач, у непасрэднай блізкасці ад каго-, чаго-н. (ТСБМ). Сін. *непасрэдна ля; блізка; побач; унепасрэднай блізкасці да.* Рус. ***у самой/ого/ых*** *чего*.

**ПАД САМЫ КАНЕЦ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў з вызначанай фінітнай мяжой: *Анісі давялося яшчэ пачырванець **пад самы канец вячэрняга пасяджэння,** калі дакладчык выйшаў да трыбуны з заключным словам* (І.Мележ). Рус. ***под самый/ую/ыми*** *что.*

**ПАД СЕННЮ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + кампletыў: *Галоўнае – аблічча Індыі. Грандыёзныя «Баньяны», у ценю якіх дрэмлюць буйвалы («**Пад сенню Баньяна**», «Баньян»), і адчуваеш, якое гэта дрэва зялёнае, якая настоеная стагоддзямі цень пад яго кронай* (У.Караткевіч). Ант. *з-пад засені.* Сін. *пад; у засені.* Русізм. Рус. ***под сенью*** *чего.*

**ПАД СІЛУ** *каму/чаму / каму/чаму* **ПАД СІЛУ** Дав. Прэдыкатыў: мадалізатар магчымасці суб'екта: *...**табе пад сілу** самыя смелыя задачы* (Б.Кантаровіч). Сін. *па сіле.* Рус. ***по силам*** *кому.*

**ПАД СКРЫП** *чаго* Род. Рэлят суправаджэння: *Шпакі, паснедаўшы ў полі, **Пад скрып санлівы жураўля** І перадражняць цябе ўволю, І ахарошацца здаля* (С.Гаўрусёў). Сін. *пад акампанемент*. Рус. ***под скрип*** *чего*.

**ПАД СЛОВАМ** *чаго* Род. Каўзатыў: ◊ ***Пад словам гонару / чэсці.*** ▬ *Хоць Войскі нешта ведаў, ды **пад словам чэсці** Маўчаў і на нішто ўмеў адказы звесці* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *па прычыне*. Рус. ***под словом*** *чего*.

ПАД СОЎСАМ *чаго*

**ПАД СПЕВЫ (Мн.л.)** *каго/чаго* Мн.л. Род. Суагенс: рэлят суправаджэння: *Чорныя дрэвы прысадаў і садоў гнуліся і мялі, неба і дамы спалі ў іхняй засені **пад спевы ураганаў*** (У.Караткевіч). Сін. *пад акампанемент; пад песнапеў*. Рус. ***под пение*** *чего*.

**ПАД СПЕЎ (Адз.л.)** *каго/чаго* Род. Рэлят суправаджэння: *Добра думаецца **пад спеў Пражскіх званоў*** (У.Караткевіч). Сін. *пад; пад акампанемент*. Рус. ***под пение*** *кого/чего*.

**ПАД СТАРШЫНСТВАМ** *каго* / **ПАД** *якім* **СТАРШЫНСТВАМ / ПАД** *чыім* **СТАРШЫНСТВАМ** Род. Канфірматыў: *Праект Дзяржаўнай праграмы «Туберкулёз» на 2005 – 2009 гады ў цэлым адобраны на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў, якое адбылося 29 сакавіка і прайшло **пад старшынствам прэм'ер-міністра Беларусі Сяргея Сідорскага*** («Звязда», 31.03.05). *Такія даныя былі прыведзены 26 красавіка на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў, якое прайшло **пад старшынствам прэм'ер-міністра Сяргея Сідорскага*** («Звязда», 27.04.05). *Першы мінскі атрад быў арганізаваны ў лютым, а ўжо 14 лютага ўзнікла следчая камісія па палявых справах **пад старшынствам палкоўніка Рэйхарта*** (У.Караткевіч). ***Пад старшынствам кіраўніка** Грамадскага аб'яднання «Саюз пісьменнікаў Беларусі», сусветна вядомага **літаратара Мікалая Чаргінца** 23 студзеня адбылося чарговае пасяджэнне прэзідыума гэтай творчай суполкі* (Т.Сетчанка). *Студэнцкі сход адбыўся **пад нязменным старшынствам дэкана.*** Сін. *пад кіраўніцтвам*. Рус. ***под председательством*** *кого*.

**ПАД СТРАХАМ-1** *чаго* Род. Будучы кансеквентыў: *Напрыклад, жорсткія патрыярхальныя сістэмы ісламскага кшталту забаранялі пазашлюбнае (незаконнае) нараджэнне дзяцей **пад страхам смяротнага пакарання*** (К.Мілет. Пер. А.Скурко). Сін. *пад пагрозай*. Рус. ***под страхом*** *чего*.

**ПАД СТРАХАМ-2** *чаго* Характарызатар: *50 гадоў гэтая ні ў чым не вінаватая жанчына пражыла **пад страхам «выкрыцця»*** («ЛіМ»). Сін. *пад пагрозай*. Рус. ***под страхом*** *чего*.

**ПАД СТЫЛЬ**[1] «*што»* Наз. Характарызатар: рэлят прыраўнівання: *Пакой абсталявалі* ***пад стыль хай-тэк*** (Інт.). ▲ *А вяжуць у адно калон тых верхавіны, сагнутыя* ***пад стыль гатыцкі****, лукавіны* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *у стылі;* злучнік *гэтакі самы, як*. Рус. ***в стиле «****что».*

**ПАД СТЫЛЬ**[2] *чаго* Род. Характарызатар: рэлят прыпадаблення: *Сучасныя дызайнеры робяць новыя рэчы* ***пад стыль старых, паношаных****. Кажуць, надта модна, хоць не вельмі прыгожа* (Інт.). Сін. *нападобе;* злучнікі *нападобе як; нібы.* Рус. ***под стиль*** *чего.*

ПАД СУПРАВАДЖЭННЕ *чаго*

**ПАД СУЗОР'ЕМ-1** *чаго/якім* / **ПАД** *якім* **СУЗОР'ЕМ** *чаго* / **ПАД** *якім* **СУЗОР'ЕМ** Род. Час.: храналагічны тэмпаратыў: *Мексіканцы лічаць, што белыя свечкі неабходна запальваць народжаным* ***пад сузор'ем Рака,*** *чырвоныя –* ***Скарпіёнам і Авенам*** («Родны край-2007»). Сін. *пад знакам*. Рус. ***под созвездием*** *чего*.

**ПАД СУЗОР'ЕМ-2** *каго* / **ПАД** *якім* **СУЗОР'ЕМ** *каго/чаго* / **ПАД** *якім* **СУЗОР'ЕМ** Род. Характарызатар-канфарматыў: *Дазволіўшы сабе пэўную высокапышнасць фразы, можна сказаць, што паэт Пімен Панчанка нарадзіўся* ***пад сузор'ем Янкі Купалы****, а гэта значыць, што вырачаны на вечную любоў да беларушчыны, на любоў пакутную, самахвярную* (Р.Барадулін). Аказіян. Сін. *пад знакам*. Рус. ***под созвездием*** *кого.*

**ПАД СХІЛАМІ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Мы засталіся адны* ***пад схіламі вялізных валоў*** *замчышча* (У.Караткевіч). Ант. *з-пад схілаў.* Сін. *пад*. Рус. ***под сводами*** *чего.*

ПАД СХІЛЫ *чаго*

**ПАД СХОВАМ** *чаго* Род. Перан. лакатыў-характарызатар: *Рука ў руку з ім і з ахвотай Дзяўчына мілая ішла.* ***Пад сховам дзеўчага крыла*** *гарнула далі пазалотай, І не кранала іх журбота, Не засмучала іх імгла* (Я.Колас). Сін. *пад покрывам; пад аховай.* Аказіян. Рус. ***под защитой*** *чего.*

**ПАД СЦЕНАМІ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Летась настаўнікі скардзіліся, што ім прыходзілася закрываць вочы на адсутнасць на занятках вучняў, якія вымушаны былі «начаваць»* ***пад сценамі ВНУ****, каб атрымаць запаветны пропуск на тэсціраванне* («Звязда», 25.02.05). Сін. *ля сцен; ля.* Рус. ***у стен*** *чего.*

**ПАД СЦЯГ (Адз.л. Він.)** *чаго* Род. Дырэктыўны канфарматыў: *Ідуць хадою непакорных* ***Пад сцяг апошняй барацьбы*** *Ўсе пасынкі стагоддзяў чорных, Аплёванай зямлі рабы* (У.Хадыка). *Ты гаспадар у родным краі І як свядомы афіцэр Добраахвотнікаў збіраеш*

***Пад сцяг дзяржавы БНР*** (Л.Дранько-Майсюк). Сін. *пад эгіду.* Рус. ***под знамя*** *чего.*

ПАД СЦЯГІ *чаго*

**ПАД СЦЯГАМ-1 (Адз.л.Тв.)** *чаго /* **ПАД** *якім* **СЦЯГАМ** *чаго /* **ПАД** *чыім* **СЦЯГАМ** Ускладн. Канфірматыў + пасэсар: *Карабель, параплаў (ці параход) рэгіструецца не толькі* ***пад сцягам якой-небудзь краіны****, але і прыпісваецца да яе порта* (Інт.). Рус. ***под флагом*** *чего.*

**ПАД СЦЯГАМ-2** *чаго* Характарызатар: канфарматаыў: *Што і казаць – другі тыдзень чэрвеня пройдзе для смаргонцаў* ***пад сцягам музыкі*** (Інт.). Сін. *пад знакам. разам з.* Рус. ***под знаком*** *чего.*

**ПАД СЦЯГАМ-3** *чаго* Прычын.: каўзатыў-канфарматыў: *У 1654 годзе Маскоўская дзяржава, ажыццяўляючы свае даўныя планы захопу Беларусі, распачала* ***пад сцягам абароны адзінаверцаў*** *чарговую вайну* («Наша вера»). *Для Ордэна ж адкрывалася перспектыва здабыцця нашых земляў* ***пад сцягам вайны з няверымі і вяртання адабраных Міндоўгам маёмасцяў*** *хрысціянскім уладцам* («Наша вера»). *Падсумоўваючы гэтыя каментарыі да міфу пра «рускую спадчыну», адзначу: у часы Івана ІІІ і Васіля ІІІ Маскоўшчына пашыралася за кошт старой кіеўскай тэрыторыі, але я не бачу падставаў, каб лічыць, што яны кіраваліся нейкай тэарэтычнай ці ідэалагічнай праграмай, якая настойліва раіла ім злучыць усходніх славянаў* ***пад сцягам*** *адноўленай рускай* ***спадчыны*** (Э. Кінан. Пер. А.В.). Сін. *пад маркай; пад вэлюмам; пад шыльдай; пад лозунгам; пад ідэяй.* Рус. ***под знаменем*** *чего.*

ПАД СЦЯГАМІ *чаго*

ПАД ТАЎРО *чаго*

ПАД ТАЎРОМ *чаго*

**ПАД ТОН** *каму/чаму* Дав. Рэлят суладдзя: *З новай верай, з новай сілай зажывём, Беларускі гімн свой родны запяём, Беларускай* ***песні роднае пад тон*** *Заарэм мы і засеем свой загон* (С.Новік-Пяюн). Сін. *пад лад*. Рус. ***в тон*** *чему.*

**ПАД ТЫТУЛАМ**[1] «*што*» / **П.Т.** «*што*» Наз. Анамасіятыў: *Надзвычай важным і своеасаблівым праявам, як ілюстрацыя таго, аб чым мы гаворым, можа быць артыкул, змешчаны ў «Беларусе» (№263, сакавік, 1979)* ***пад тытулам «Аляксандр Баршчэўскі ў Ангельшчыне»*** (Я.Пятроўскі). *У павязанні з нашаю тэмаю, у беластоцкай «Ніве» (№24-1216) знаходзім артыкул* ***п.т. «Чаму моладзь уцякае з вёскі?»*** (Я.Пятроўскі). *Да «Апостала» падаецца кампетэнтны каментар Г.Ротэ* ***пад тытулам «Апостал. Вільна. 1525. Яго даследаванні і крыніцы»*** («Новы Час»). *Кожны раз* ***пад тытулам***

***«Сёння»*** *будзе змяшчацца аператыўная інфармацыя бягучага дня* (Інт.). Сін. *пад назвай; пад назовам; пад загалоўкам*. Рус. ***под заголовком «****что».*

**ПАД ТЫТУЛАМ²** *каго/чаго* Род. Анамасіятыў-дэстынатыў*: Першы драўляны касцёл у вёсцы Шацілкі (цяпер горад Светлагорск) быў пабудаваны ў 1638 годзе* ***пад тытулам Святога Крыжа*** (Інт.). Сін. *у імя*. Рус. ***во имя*** *кого/чего.*

**ПАД УВАГАЙ** *каго* / **ПАД** *якой* **УВАГАЙ** *каго* Род. Канфірматыў: *Пра такіх жа ў народзе кажуць, што яны – мечаныя і знаходзяцца* ***пад самай пільнай увагай самога Бога****, а мечаныя (Нялюба – не выключэнне) тым і цікавыя, што інтуітыўна адчуваюць тое, вызначыць сутнасць чаго простым смяротным не дадзена*. (А.Марціновіч). Ант. *з-пад увагі.* Сін. *пад вокам*; *пад наглядам*. Рус. ***в зоне внимания*** *кого.*

**ПАД УДАР (Він.)** *чаго* Род. Дырэктыўны канфірматыў-кансеквентыў: *Нараніцы, у прасторы, я з ім, я воддаль яго – абодва выцягнутыя з гэтай ямы Павурнай, бачныя, і нецэнзурнасць мая з ім пастаўленая* ***пад удар далекай выправы*** («Arche»). Сін. *пад цяжар; пад даймо.* Рус. ***под удар*** *чего.*

ПАД УДАРАМ *чаго*

**ПАД УДАРАМІ** *чаго* / **ПАД** *якімі* **УДАРАМІ** *чаго* Род. Прычын.: каўзатыў знешніх абставін: *Бязмернай была сціпласць Караля, ягоная збітая з тропу хлапчукаватасць як бы змізарнела* ***пад ударамі*** *такіх трагічных* ***здарэнняў****, і ен быў сама ціхі, а таксама пачцівы, рахманы* (В.Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). *Гінула напалеонаўская армія не толькі ад мяча. Гінула* ***пад ударамі сялянскіх вілаў, навостраных косаў, знятых з вазоў аглобляў****, ад той створанай гвалтам нянавісці, якая дазваляе абыякава глядзець, як нядаўнія забойцы і рабаўнікі, змёрзлыя і згаладалыя, валяюцца пры дарозе і іх заносіць снегам* (К.Тарасаў). Сін. *пад; ад удараў; ад*. Рус. ***под ударами*** *чего.*

**ПАД УЗДЗЕЯННЕ** *каго/чаго* Род. Дырэктыўны канфірматыўкансеквентыў: *Кожны можа падпасці* ***пад уздзеянне абставінаў****, але не кожны паддасца ім* (Інт.). Сін. *пад уплыў.* Рус. ***под воздействие*** *кого/чего.*

**ПАД УЗДЗЕЯННЕМ** *каго/чаго* Род. Канфірматыў-каўзатыў: *Гэтая размова яе з Вацлавам, ужо амаль аб заручынах,* ***пад уздзеяннем дзецюка****, які за ёй плёўся, паддавалася імклівай дэвальвацыі, і сама яна пачынала авалодваць нейкім двухсэнсоўным значэннем* (В.Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). *Істэрыя можа развівацца ў асоб з аслабленай нервовай сістэмай* ***пад уздзеяннем псіхічнай траўмы***

(Асновы мед. ведаў). *Галоўныя псіхічныя рысы сфармаваліся **пад уздзеяннем грамадскіх праблем*** (навук.). *Аднак рыкетсіі Правацака хутка гінуць пры награванні вышэй 50°С і **пад уздзеяннем дэзінфекцыйных сродкаў*** (Асновы мед. ведаў). *Некаторыя хваробатворныя мікробы **пад уздзеяннем ахоўных сіл** арганізма і лекаў могуць змяняцца з утварэннем Л-формаў і мікаплазмаў* (Асновы мед. ведаў). *Вяртаюцца на радзіму афганскія грамадзяне, якія пакінулі яе **пад уздзеяннем ілжывай прапаганды** ворагаў красавіцкай рэвалюцыі* (А.Лукашук). *Магчыма, у аўторак **пад уздзеяннем абставінаў** вы зменіце свой пункт гледжання* (Інт.). Сін. *пад уплывам.* Рус. ***под воздействием** кого/чего.*

**ПАД УЗОРЫ** *чаго* Род. Ускладн. Рэлят прыраўнівання і суправаджэння: *У праграме – танцы **пад узоры сярэдневечнай музыкі**, любімыя і новыя песні, конкурсы* («Наша Ніва», 4.02.05). Сін. *пад.* Рус. ***под узоры** чего.*

**ПАД УЛАДАЙ/Ю (Тв.)** *каго/чаго* / **ПАД** *якой* **УЛАДАЙ/Ю** *каго/чаго* / **ПАД** *чыёй* **УЛАДАЙ** Род. Лакатыўны характарызатар-канфірматыў: *Народ, які больш за сто гадоў жыў **пад уладай Ягелонаў**, мае поўнае права быць далучаным да польскамоўных дарункаў айчыннай Эўтэрпы, Эрата і Полігімніі* (Ж.Некрашэвіч-Кароткая). *Першым учынкам вайны з'явілася паўстанне Жмудзі, якая тады знаходзілася **пад уладай Ордэна*** (К.Тарасаў). *Так Вялікае Княства Літоўскае і Польшча зноў з'ядналіся **пад уладай аднаго гаспадара**, што ў Польшчы быў каралём, а ў Вялікім Княстве Літоўскім – вялікім князем* (К.Тарасаў). *І недарма ж на Палессі Чуў ад сталых я галоў, Што ў жыцці мы, як у лесе, – **Пад уладай нейкіх слоў*** (Я.Колас). *Такім чынам кончылася Мсціслаўскае княства, і ў 1528 годзе горад стаўралеўскай воласцю, **пад уладай старостаў*** (У.Караткевіч). ***Пад уладаю** весняю **сноў** Да мяне прыхініся пакорна* (А.Зарыцкі). ТСБМ – ◊. Сін. *пад пад панаваннем; пад уплывам*. Рус. ***под властью** кого/чего.*

**ПАД УЛАДУ (Він.)** *каго/чаго* / **ПАД** *якую* **УЛАДУ** *каго/чаго* / **ПАД** *чыю* **УЛАДУ** Род. Дырэктыўны канфірматыў-кансеквентыў: *У 1236-1240 гадах рускія землі трапілі **пад уладу татара-манголаў*** (К.Тарасаў). *У 1561 годзе, згодна з Віленскім дагаворам, Лівонскі ордэн трапіў **пад уладу Вялікага княства Літоўскага*** (К.Тарасаў). *Гэтае адно ёсць той рэчай, якую гістэрычка не хоча прызнаваць як належную да сябе і **пад уладу якой** яна якраз праз гэта трапляе* (Ота Вайнінгер. Пер. А.Пяткевіча). ***Пад уладу расейскага трону** пераходзілі беларускія землі правабярэжнага Дняпра і Заходняй Дзвіны* («Наша слова», 17.01.07). ▲ *Браць **пад сваю ўладу**.* Ант. *з-пад улады.* Сін. *пад уплыў.* Рус. ***под власть** кого/чего.*

**ПА ДУМЦЫ** *каго*/ **ПА** *якой* **ДУМЦЫ** *каго* / **ПА** *чыёй* **ДУМЦЫ** Род. Аўтарызатар: *А сама як літая: усё на месцы, што павінна быць у жанчыны, **па думцы ўсякага добрага швейцарца*** (У.Караткевіч). Сін. *на думку; на погляд*. Рус. ***по мнению*** *кого.*

**ПАД УПЛЫВАМ (Тв.)** *каго/чаго* / **ПАД** *якім* **УПЛЫВАМ** ***каго/чаго*** / **ПАД** *чыім* **УПЛЫВАМ** Род. Лакатыўны каўзатыў-канфірматыў: *Славяне-русы арганізоўвалі асяроддзе, з аднаго боку, **пад уплывам** знешніх **абставін**, разумеючы іх як рэаліі вышэйшага парадку. А з другога боку, змянялі іх у межах асаблівасцей свайго светапогляду* (Т.І.Шамякіна). ***Пад уплывам рускай мовы*** *ў беларускім маўленні ўзнікаюць калькі і паўкалькі* (навук.). *Многія новыя ідэі і метады ў матэматыцы часта ўзнікалі **пад уплывам фізікі*** (падручн.). ■ *Хоць я не быў **пад асабістым уплывам Караткевіча**, аднак раман, бясспрэчна, зрабіў сваю справу* (Ф.Янушкевіч). *Як пісьменнік А.Жукаўскас развіваўся **пад моцным уплывам** духоўна-эстэтычных **традыцый і пошукаў беларускай літаратуры** і, у прыватнасці, М.Танка* (М.Мікуліч). ▲*Настрой яго* [Танка] *вершаў уладна падпарадкоўвае сабе чытача, і, прачытаўшы кнігу, доўга яшчэ знаходзішся **пад яе уплывам*** (Р.Бярозкін). Ант. *з-пад уплыву*. Сін. *пад уздзеяннем*. Рус. ***под влиянием*** *кого/чего.*

**ПАД УПЛЫВЫ (Він. мн.л.)** *каго/чаго* Род. Дырэктыўны канфірматыў-кансеквентыў: *Прыехаўшы ў жніўні 1918 году ў Менск, біскуп Лазінскі паддаўся адразу **пад уплывы эндэцыі** і зараз жа аб'явіў мне, што высылае ў Нясвіж* (Кс.В.Гадлеўскі). Сін. *пад уздзеянне.* Рус. ***под влияние*** *кого/чего.*

**ПАД УПЛЫЎ (Він.адз.л.)** *каго/чаго* / **ПАД** *які/чый* **УПЛЫЎ** Род. Дырэктыўны кафірматыў-кансеквентыў: *Аднак, нават калі іншыя ягоныя інтэрпрэтацыі пераконваюць больш, праблема ў тым, што проста няма сьведчанняў таго, што маскоўская палітыка ці палітыкі хоць крыху падпалі **пад уплыў гэтага тэксту** ў прыватнасці ці пісанняў царкоўных кніжнікаў увогуле аж да пярэдадня Новага часу – прыблізна да канца XVII ст*. («Arche»). *Рэгіён Санкт-Пецярбурга тым часам мог бы трапіць **пад уплыў Скандынавіі або Германіі*** (С.Юстапчык (А. Адамовіч)). *Менавіта з таго моманту, калі край трапіў **пад уплыў польска-каталіцкага касцёла і маскоўска-праваслаўнай царквы**, чужая мова ў боскіх храмах стала не столькі сродкам рэлігійнай місіі, колькі прапаведнікам палітыкі суседніх дзяржаваў* («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1).▲ *Таццяна Марыч? ... Так ... Яна папала **пад благі ўплыў*** (П.Глебка). Ант. *з-пад уплыву.* Сін. *пад уздзеянне.* Рус. ***под влияние*** *кого/чего.*

**ПАД УРАЖАННЕМ** *чаго* / **ПАД** *якім* **УРАЖАННЕМ** *чаго* / **ПАД** *якім* **УРАЖАННЕМ** Род. Прычын.: каўзатыў: *Бунін мог напісаць толькі* ***пад уражаннем водару*** *антонавак у скрынцы яго пісьмовага стала* (У.Караткевіч). *Няміга – вуліца кароткая, некалькі сот метраў, але па ёй можна вандраваць, калі* ***пад уражаннем просьбы****: «Не адпускай мяне...»... паволі вяртацца назад ... і шукаць і не знаходзіць букіністычную краму, у якой засталася жальба: «Не адпускай мяне...»* (Л.Дранько-Майсюк). *Я сяджу* ***пад уражаннем*** *дзедавых адведзін і ўсміхаюся* (П.Пестрак). ***Пад уражаннем прафесійных тэатральных пастановак*** *урэшце і самі пачалі ставіць спектаклі дома* (Н.Кучкоўская). Сін. *пад уздзеяннем*. Рус. ***под впечатлением*** *чего*.

**ПАД УРАЖАННЕМ АД-1** *каго/чаго* Род. У складзе апісальнага прэдыката стану: *Некаторыя студэнты знаходзіліся* ***пад уражаннем ад спартовых перамог*** («Наша Ніва»). Рус. ***под впечатлением от*** *кого/чего*.

**ПАД УРАЖАННЕМ АД-2** *каго/чаго* Род. Каўзатыў: *На самым пачатку вайны, на горкай дарозе адступлення,* ***пад уражаннем ад убачанага*** *Мікола Сурначоў напісаў верш «У стоптаным жыце»* (Т.Кекелева). Рус. ***под впечатлением от*** *кого/чего*.

**ПА ДУХУ** *хто* / *хто* **ПА ДУХУ** Не кіруе склонам. Ускладн. Крытэрый кваліфікацыі; з адушаўлёнымі назоўнікамі: *Больш за тое, з анатацыі вынікае, што Павел мне* ***брат па духу****, бо «вядзе барацьбу не толькі з няздарнымі літаратурнымі паплечнікамі, але і з самім сабой»* (В.Куртаніч, М.Цярэшчанка). Рус. ***по духу*** *кто*.

ПАД УЦІСК *каго/чаго*

**ПАД УЦІСКАМ** (**Тв.**) *каго/чаго* Род. Каўзатыў-канфірматыў: *Ягайла быў вымушаны ўступіць дамаганням імператара Зыгмунта і даў згоду на каранацыю. Але хутка* ***пад уціскам каронных паноў*** *перадумаў згаджацца, растлумачыўшы свой крок бояззю, што пасля смерці Вітаўта беларусы і літоўцы могуць абраць сабе гаспадара без уліку інтарэсаў Польшчы* (К.Тарасаў). *Нягледзячы на складаныя палітычныя і эканамічныя абставіны, нявызначанасць дзяржаўнасці* ***пад уціскам царскага самаўладдзя****, у пачатку XX ст. беларуская культура дасягнула такога ўзроўню, што стала развівацца на ўстойлівай нацыянальнай глебе і вылучыла з жыватворных глыбінь народа найярчэйшыя таленты Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і многіх іншых* (А.Г.Слука). Сін. *пад ярмом*. Рус. ***под игом*** *кого/чего*.

ПАД ФЛЁРАМ *чаго*

ПАД ЦІСК *каго/чаго*

**ПАД ЦІСКАМ[1]** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *Высушаны ў іх пар* ***пад ціскам 7 МПа*** *пры тэмпературы 290 °С накіроўваецца ў турбіну* (падручн.). Сін. *пад напорам*. Рус. ***под давлением*** *сколько единиц.*

**ПАД ЦІСКАМ[2]** *каго/чаго* / **ПАД** *якім* **ЦІСКАМ** *каго/чаго* / **ПАД** *якім* **ЦІСКАМ** Род. Лакатыўны каўзатыў-канфірматыў: *Сатырычную камедыю «Тутэйшыя» варта было б унесці ў кнігу рэкордаў Гінеса – яе забаранялі пяцёрачы (!), апошні раз знялі са сцэны ў 2001-м у Купалаўскім тэатры (што праўда, праз год* ***пад ціскам грамадскасці*** *аднавілі)* (М.Скобла). *Паміранне яе, якое фактычна зусім не пасоўвалася наперад,* ***пад ціскам нашай прысутнасці і чакання,*** *з кожнай хвілінай станавілася больш напятым – гэта мы пагружаліся ў не наша напяцце* (В.Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). ■ *Калі за царом «Наша Ніва» выходзіла без асаблівых праблемаў амаль дзевяць гадоў, дык беларускі друк у Заходняй Беларусі знаходзіўся* ***пад сталым ціскам адміністрацыі*** (А.Сідарэвіч). ▲***Пад вялікім ціскам*** *малекулы газаў збліжаюцца адна з адной* (падручн.). Сін. *пад націскам*. Рус. ***под давлением*** *кого/чего.*

**ПАД ЦІСКАМ У** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *Стэрылізацыя цякучай парай ажыццяўляецца на працягу 45 – 60 хвілін пры тэмпературы 100 °С у паравым стэрылізатары або аўтаклаве* ***пад ціскам пары ў 1 атм.*** (Асновы мед. ведаў). Сін. *пад напорам*. Рус. ***под давлением*** *сколько единиц.*

ПАД ЦІСКАМ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

ПАД ЦІСКАМ ЗВЫШ *колькіх адзінак*

ПАД ЦІСКАМ КАЛЯ *колькіх адзінак*

ПАД ЦІСКАМ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*

ПАД ЦІСКАМ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

ПАД ЦІСКАМ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

ПАД ЦІСКАМ ПАРАДКУ *колькіх адзінак*

ПАД ЦІСКАМ ПРЫКЛАДНА Ў *колькі адзінак*

ПАД ЦЯЖАР *чаго*

**ПАД ЦЯЖАРАМ** *каго/чаго* / **ПАД** *якім* **ЦЯЖАРАМ** *каго/чаго* / **ПАД** *якім/чыім* **ЦЯЖАРАМ** Род. Канфірматыў-каўзатыў: *Іхная чалавечнасць пахаваная, альбо яны самі яе пахавалі* ***пад цяжарам здзекаў****, якія ім давялося вытрымаць або ўчыніць* (Прыма Леві. Пер. В.Буйвал). ***Пад цяжарам гэтых ног*** *угіналася падлога* (П.Пестрак). Ант. *з-пад цяжару.* Сін. *пад даймом.* Рус. ***под тяжестью*** *чего.*

ПАД ЧАРЫ *каго/чаго*

**ПАД ЧАРАМІ** *каго/чаго* Род. Лакатыўны канфірматыў-каўзатыў: *Як і яму, «нам так засляпляе* ***пад чарамі ўлады*** *і* ***прэстыжу,***

*што мы забываемся пра сваю сутнасную крохкасць: мы добраахвотна ці вымушана заключаем дамову з уладай, забываючыся, што ўсе мы ў гета [...] і што зусім побач чакае эшалон»* (Ц.Тодараў. Пер. А.Дынько). Сін. *пад уплывам.* Рус. ***под чарами*** *кого/чего.*

**ПАДЧАС** *чаго* / **ПАДЧАС** Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Уладзімір Караткевіч* ***падчас праходжання афіцэрскіх збораў*** *на Ціхаакіянскім флоце* (Подпіс пад фота ў т.3 зб.тв. У.Караткевіча). *Загінуў пан* ***падчас*** *дзяржаўнага* ***разброду****, Дык і маёмасць разляцелася без ладу* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Калі Напалеон падчас бітвы прымае Табаку, гэта знак, што ён перамагае* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Адметным энергетычным патэнцыялам валодала вада, якая знаходзілася ў хаце* ***падчас розных падзей*** («Звязда», 4.01.05). ***Падчас адной паездкі*** *– ці не ў Магілёў дзеля юбілею Аляксея Пысіна – спыніліся, зайшлі ў лес* (А.Вярцінскі). || Прыслоўе: *Тут спатыкаў, казалі людзі, бунтарных хлопцаў ён* ***падчас*** (М.Машара). ↔ **Падчас таго як; падчас таго калі.** ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *у час*. Рус. ***во время*** *чего.*

**ПАД ЧАС** *чаго* / **ПАД той/гэты ЧАС** Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Мужыкі з ахвотай (пакуль не пачалася гужавая павіннасць* ***пад час вайны****) наймаліся на розныя работы* (І.Чыгрынаў). *Прыпамінаюцца ёй сняданкі* ***пад час вайны*** *з Кітаем, калі муж яе быў на фронце* (Г. Мэт'юз. Пер. Ю.Марголіна). *Царскі гнеў быў непрадказальны. Прыкладам, баярын Рэпнін стаўся зарэзаным па загаду Грознага ў царкве,* ***пад час малітвы*** («ЛіМ»). ▲ ***Пад той час*** *з-пад пяра выходзілі не толькі, як кажуць, сур'ёзныя апавяданні, але і гумарэскі і фельетоны* (С.Кухараў). З найбольш ужывальнымі аддзеяслоўнымі назоўнікамі са значэннем экзістэнцыі ці акцыянальнага дзеяння ўтварае састаўны аналаг прыназоўніка; напрыклад:

· **Пад час адсутнасці** *каго* Род. *Зрабіць вобыск* ***пад час адсутнасці гаспадара*** *кватэры.* ▲ *Калі* ***пад час маёй адсутнасці*** *нехта і зробіць дакладны вобыск, то чорта перагрясе ўсе выпадковыя кнігі* (У.Караткевіч). Рус. ***во время отсутствия*** *кого/чего.*

· Пад час знаходжання на *чым*

· **Пад час знаходжання ў** *чым* Месн. Тэмпаратыў – таксіс адначасовасці: ***Пад час знаходжання ў Беларусі*** *патрыярх Алексій II наведаў Жыровічы* (Інт.).

· **Пад час праверкі** *чаго* Род. Тэмпаратыў – таксіс адначасовасці: *І* ***пад час праверкі дакументаў*** *ужо пералічваюць: прайшло з пачатку году 36 тыдняў, значыць, у тваіх паперах мусіць быць 36 подпісаў* (У. Ісаенка). ↔ **Пад час таго як; пад той час калі.** ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Сін. *у час; падчас.* Рус. ***во время*** *чего*.

**ПАД ШАПКАЮ** *чаго* Род. Ускладн. Характарызатар: канфірматыў + пасэсар: *А што тычыцца канала «Культура», то зараз ідуць перамовы (і досыць паспяховыя), каб неўзабаве ягоныя лепшыя перадачы траплялі ў беларускі эфір* ***пад шапкаю нашага «ЛАДУ»*** (А.Гаўрон). Сін. *пад дахам; на.* Рус. ***под крышей*** *чего.*

ПАД ШАТАМІ *чаго*

**ПАД ШАТЫ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў: партытыў + камплетыў: *А як мне хочацца часам на цёплае сонца,* ***пад шаты сапраўдных дрэў****, якія тут не растуць* (У.Караткевіч). Сін. *у засень.* Рус. ***под сень*** *чего.*

ПАД ШТАНДАР *чаго*

ПАД ШТАНДАРАМ *чаго*

ПАД ШТАНДАРАМІ *чаго*

ПАД ШТАНДАРЫ *чаго*

**ПАД ШУМ / ПАД** *які* **ШУМ** *чаго* Рус. Характарызатар: рэлят суправаджэння: *Алесь* ***пад гэты шум вітання*** *Разгледзеў клумак ўвесь дазвання* (Я.Колас). Сін. *пад суправаджэнне.* Рус. ***под шум*** *чего.*

**ПАД ШЫЛЬДАЙ** «*што*» Наз. Анамасіятыў: З *сябрамі «Бум-Бам-Літа» нашая суполка працягвае творчае супрацоўніцтва* ***пад шыльдай «Другі фронт мастацтваў"***(«ЛіМ»). Сін. *пад назвай.* Рус. ***под вывеской*** *чего.*

ПАД ШЫЛЬДУ *чаго*

**ПАД ШЭПТ** *каго/чаго* Род. Характарызатар: рэлят суправаджэння: *Ён* [Караткевіч] *прыйшоў да нас* ***пад шэпт «Сівой легенды»,*** *абудзіў усіх «Званамі Віцебска», пазнаёміў з «Маці урагану» ... захапляльнна распавёў пра «Зямлю пад белымі крыламі» і цвёрда завіў – «Быў.Ёсць.Буду.»...* В.Бечык). Сін. *пад.* Рус. ***под шепот*** *чего.*

**ПАД ЭГІДАЙ** *каго/чаго* Род. Канфірматыў: *Шмат якіх перашкод даводзіцца пераадольваць тым, хто сее разумнае, вечнае* ***пад эгідай «Ведаў»*** («Звязда», 06.01.05). *Дзяржавы свету, адным словам, не супраць жыць у тым рэальным свеце, які склаўся* ***пад эгідай ААН*** *пасля заканчэння другой сусветнай вайны* («Звязда», 9.02.05). *Пад такой назвай ў красавіку* ***пад эгідай БРСМ*** *стартуе рэспубліканская акцыя* («Звязда», 18.02.05). *У гэтыя ж дні* ***пад эгідай ЮНЕСКО*** *праходзілі Міжнародны форум «Адукацыя для ўстойлівага развіцця: на шляху да да грамадства ведаў»* («Звязда», 14.04.05). *Дагаварыўся ўрэшце да таго, што толькі* ***пад эгідай моцнага*** *славянін адчувае раскошу і замілаванне* (У.Караткевіч). Сін. *пад заступніцтвам; пад кіраўніцтвам*. Рус. ***под эгидой*** *кого/чего.*

ПАД ЭМБЛЕМАЙ *чаго*

**ПАД ЭСКОРТАМ/АЙ** *каго/чаго* Род. Характарызатар-канфірматыў: рэлят суправаджэння: *За пашырэнне быццам у прыватных гуртках рэвалюцыйных ідэяў... быў зноў арыштаваны і адпраўлены таксама, як і ў першы раз,* ***пад эскортай аж трох паліцыянтаў*** *у Лыптуны і на Лукішкі* (Кс.В.Гадлеўскі). Сін. *пад канвоем.* Рус. ***под эскортом*** *кого/чего.*

**ПАД ЮРЫСДЫКЦЫЮ** *чаго* Род. Дырэктыўны канфірматыў: *Шаленства (таксама, відаць, цяга, але якая падмяняе сабой усе іншыя), імкненне ўсё прыцягнуць, усё прывесці* ***пад юрысдыкцыю знакаў*** («Arche»). Сін. *пад эгіду.* Рус. ***под юрисдикцию*** *чего.*

ПАД ЮРЫСДЫКЦЫЯЙ *чаго*

ПАД ЯРМО *чаго*

**ПАД ЯРМОМ** *каго/чаго* Род. Лакатыўны канфірматыў: *Гродзеншчына на працягу трох гадоў знаходзілася* ***пад ярмом фашысцкай акупацыі*** (У.А.Нядзелька). Сін. *пад даймом.* Рус. ***под ярмом*** *кого чего.*

**ПА ЖАДАННІ/Ю** *каго* / **ПА** *якім* **ЖАДАННІ/Ю** *каго* / **ПА** *чыім* **ЖАДАННІ/Ю** Род. Канфірматыў: аўтарызатар-каўзатар: *Летась сталічная Дзяржаўтаінспекцыя выдала 264 нумарныя знакі з камбінацыяй лічбаў, выбраных* ***па жаданні саміх уладальнікаў*** *транспартных сродкаў* («Звязда», 16.02.05). *Пра тое, што Міндоўг увайшоў у горад не сілай, а* ***па жаданні*** *ці са згоды* ***навагрaдскіх феадалаў****, неабвержна сведчыць хрышчэнне яго ў праваслаўе, прадатаванае Гусцінскім летапісам 1246 годам* (К.Тарасаў). *Настаяцель* ***па жаданні цара*** *даваў тлумачэнні аб старадаўняй гісторыі царквы св. Сафіі* (К.Тарасаў). *У час другога прыезду Караткевічаў мы,* ***па жаданні Валі****, паехалі ў Велеград, былы цэнтр Вялікай Маравы* (Г.Крыжанава-Брындзава). Сін. *па волі, са згоды*. Рус. ***по желанию*** *кого*.

**ПА** *колькі адзінак/чым/чаму* **З** *колькіх адзінак/каго/чаго* / **З** *каго/чаго/колькіх адзінак* **ПА** *колькі адзінак/чым/чаму* Наз./Месн./Дав.-Род. Двухч. Ускладн. Квантытатыў + дыстрыбутыў: *На карысць феадала такія сяляне былі павінны плаціць* ***па 42 грошы з валокі зямлі*** (В.Шаблюк). // ***Па тры пуды жыта з хаты. З кожнай хаты па сабачцы***. ***З носа па грошу, па траячку з рыла***. Рус. ***по*** *сколько единиц* ***с*** *кого/чего/скольких единиц.*

***ПА-ЗА*** ТСБМ; ТСБПШ – прыназоўнік.

**ПА-ЗА[1]-1** *чаго* Род. Рэлят уключэння: ***Па-за такіх кагнітыўных фактараў****, як жаданне, норма, ацэнка, вялікая роля належыць канвенцыянальным ведам, якія вызначаюць функцыянаванне іншых сістэм, што забяспечваюць камунікацыю* («Бел. лінгвістыка», вып. 51, 2001). Рус. ***кроме*** *чего.*

**ПА-ЗА[1]-2** *каго/што* Він. Дырэктыў-старт: *Два полюсы творчасці: натхненне і засяроджанне, выйсце **па-за сябе** і ўвыйсце ў сябе, эстэтычны і медытатыўны, ультрагукавы і інфрагукавы* (М.Багдановіч). Рус. ***вне*** *кого/чего.*

**ПА-ЗА[2]-1** *чым* Тв. Прастор.: лакатыў выключэння: *Нельга пераацаніць ролю маладзёжнай арганізацыі, і не толькі ў школе, але і **па-за школай*** («Полымя», 1984, № 4). *А забіць кугакаўку зусім нескладана. **Па-за сваім гняздом** гэта адна самых даверлівых птушак. Людзі, дапамажыце барадатай прыгажуні выжыць у беларускіх лясах!* («Звязда», 01.6.04.05). *Тайга – пустыня, у якой можна нават знайсці цэлы манастыр, які існуе **па-за часам і прасторай**, не ведаючы пор рэвалюцыі і вайны* (Я.Брыль). *Яна тым часам знікла **па-за** дрэваў **ценем*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). З асабовым займеннікам: «*Не аддавайце сябе таму, што знаходзіцца **па-за вамі**, і не бярыце, што вам не належыць, – вас папярэджвае нейчы голас, – інакш ...»* (А.Разанаў). Рус. ***вне*** *кого/чего.*

**ПА-ЗА[2]-2** *чым* Тв. Аб'ектн.: *Важна **па-за такім эпатажам і прэтэнзіямі** новай плыні на вызначальную авангарднасць бачыць у ёй сур'ёзны намер пранікнуць у таямніцы светабудовы* (навук.). Сін. *за.* Рус. ***за*** *чем.*

**ПА-ЗА[2]-3** *чым* Тв. Прастор.: несупрасторавы транзітыў: ***Па-за садкамі, па-за хлявамі**, пазавуголлю, гародамі краліся адзін за адным папацёмку ўчатырох, як ваўкі* (К.Крапіва). Сін. *міма; паўз.* Рус. ***по-за*** *чем.*

**ПА** *колькі адзінак* **ЗА** *што/якую адзінку адлічэння* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Квантытатыў + дыстрыбутыў: *У самую пару гуркі былі танныя – **па 5 рублёў за капу*** (з размовы).

ПА-ЗА АТМАСФЕРАЙ/Ю *чаго*

ПА ЗАВЯРШЭННІ *чаго*

**ПА ЗАГАДУ** *каго* / **ПА** *якому* **ЗАГАДУ** *каго* / **ПА** *чыйму* **ЗАГАДУ** Род. Аўтарызатар-канфірматыў: *Царскі гнеў быў непрадказальны. Прыкладам, баярын Рэпнін стаўся зарэзаным **па загаду Грознага** ў царкве, пад час малітвы* («ЛіМ»). *Віфлеем быў перапоўнены: мноства людзей сышлося ў горад Давідаў для перапісу, які праводзіўся ва ўсіх межах Рымскай імперыі **па загаду Аўгуста кесара*** (Мітрапаліт Філарэт). *А мо й цяпер я саграшыў, што так зарання, Не **па загаду ўладаў** распачаў паўстанне!* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Разваліўся гэты клуб, літаратурны асяродак, куды людзі ішлі **па загаду свайго сэрца*** (С.Грахоўскі). *Усё было зроблена **па загаду пана Юрыя*** (У.Караткевіч). З прыслоўем: *І перадачу ў семдзесят другім годзе па «Я з вогненнай вёскі...», заказаную нам і ўжо*

*гатовую, знячэўку, нібы з-за вугла, няўдала і груба сарвалі – таксама* ***па загаду зверху*** (Я.Брыль). ▲ ***Па ягонаму*** [Пятра Вялікага] ***загаду*** *калмыкі і драгунскія палкі абрабавалі, вынішчылі і спалілі гарады Віцебск і Магілёў* (К.Тарасаў). Сін. *па волі*. Рус. ***по приказу*** *кого*.

ПА ЗАГАДУ З *чаго*

**ПА ЗАДАННІ/Ю** *каго/чаго* / **ПА** *якім* **ЗАДАННІ/Ю** *каго/чаго* / **ПА** *якім* **ЗАДАННІ/Ю** Род. Канфірматыў: *Я да самай вайны жыў у Вілейцы, быў супрацоўнікам газеты «Вілейская праўда», потым* ***па заданні Саюза пісьменнікаў*** *Беларусі пераехаў у Беласток* (М.Танк). Сін. *па даручэнню*. Рус. ***по заданию*** *кого*.

ПА-ЗА ДУЖКАМІ *чаго*

**ПА-ЗА ЗАЛЕЖНАСЦЮ АД** *каго/чаго* Род. Рэлят выключэння адносін: *Адзін з важнейшых вывадаў канферэнцыі звязаны з тым, што аб'ектыўна глабалізацыя сусветнай палітыкі адбываецца* ***па-за залежнасцю ад жаданняў асобных дзяржаў*** *і іх лідэраў і што сусветнае супольніцтва абавязана знайсці і сфармуляваць адэкватныя гэтаму новыя ўмовы забеспячэння гарантый правоў асобы* (Інт.). Ант. *у залежнасці ад*. Сін. *незалежна ад*. Рус. ***независимо от*** *кого/чего*.

ПА-ЗА ЗОНАЙ *чаго*

**ПА ЗАКАЗУ** *каго/чаго* Род. Каўзатар: *Маладыя людзі будуць здаваць дысцыпліну «Чалавек. Грамадства. Дзяржава» ў выглядзе тэсціравання, якое правядзе* ***па заказу БДУ*** *Рэспубліканскі інстытут кантролю ведаў* («Звязда», 27.01.05). *Летась* ***па заказу Камчарнобыля*** *былі распрацаваны і зацверджаны санітарныя нормыі правілы ўладкавання, утрымання і арганізацыі рэжыму ў дзіцячых рэабілітацыйна-курортных і аздараўленчых цэнтрах* («Звязда», 15.03.05). *Выпуск выдання ажыццёўлены* ***па заказу*** *і пры фінансавай падтрымцы* ***Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь*** («Родны край», 2007). Клішэ. Рус. ***по заказу*** *кого/чего*.

**ПА-ЗА КАНТЭКСТАМ** *чаго* Род. Рэлят выключэння: *Такія тэксты проста пакідаюцца* ***па-за кантэкстам гаворкі****, крытык на іх не звяртае аніякай увагі, тым самым даючы зразумець, што ўсе тое, што ен абмінае, абмінецца ці будзе абыдзена і самім часам* («ЛіМ»). *Бо сама Паэзія жыве* ***па-за кантэкстам нашых гаворак*** *пра яе і выжывае незалежна ад нашага стаўлення (яе ведання-няведання, успрымання-адмаўлення)* («ЛіМ»). Ант. *у кантэксце*. Рус. ***вне*** *чего*.

**ПА ЗАКАНЧЭННІ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў следавання; з назоўнікамі працэсуальнай семантыкі: ***Па заканчэнні вучобы*** *яны* [выпускнікі] *аказваліся зусім нядольнымі хоць штосьці карыснае зрабіць* (Л.Лыч). *Тых, хто* ***па заканчэнні кірмашу*** *набраў большую колькасць такіх кругляшоў (жэтонаў), узнагародзілі гра-*

*матамі і салодкімі прызамі* («Чырвоная змена», 28.01.05). ***Па заканчэнні спаборніцтваў*** *іх удзельнікі збяруцца за «круглым сталом», дзе падрабязна абмяркуюць перспектывы пошукавага руху як аднаго з важнейшых накірункаў патрыятычнага выхавання моладзі* ("Звязда», 8.02.05). Ант. *перад пачаткам.* Сін. *пасля.* Рус. ***по окончании*** *чего*.

**ПА ЗАКЛІКУ** *каго* Род. Канфірматыў: адрасант-каўзатар: ***Па закліку вядомага царкоўнага прапаведніка***, *праасвяшчэннага епіскапа Феафана Затворніка, «прынясем Народжанаму золата чыстага пазнання Божых ісцін ...»* (Мітрапаліт Філарэт). Рус. ***по призыву*** *кого*.

**ПА ЗАКОНАХ** *чаго* Род. Канфірматыў: рэлят адпаведнасці: *За забойства мужа, нават за няўдалы замах,* ***па законах веку*** *князёўну абавязкова чакала смерць* (К.Тарасаў). Сін. *згодна законаў.* Рус. ***по законам*** *чего*.

**ПА ЗАКОНУ** *чаго* / **ПА** *якому* **ЗАКОНУ** *каго* Род. Каўзатыў-падстава: *Незразумелым таксама з'яўляецца мякчэнне гукаў «з», «с», «ц» перад мяккімі зычнымі «ь», дзе гэтыя гукі мякчацца самі сабой* ***па закону ўпадаблення*** *без ужывання пасля іх «ь»* (В.Ластоўскі). *Спадчыннікі* ***па закону кожнай наступнай чаргі*** *атрымліваюць права на атрыманне спадчыны ў выпадку адсутнасці спадчыннікаў папярэдняй чаргі, адхілення іх ад спадчыны альбо адмовы ад яе* («Звязда», 16.02.05). ■ ***Па трэцяму закону Ньютана*** *сіла вагі роўна: P=F* (падручн.). Сін. *згодна закону*. Рус. ***по закону*** *чего.*

**ПА-ЗА МАСКАЮ** *чаго* Род. Лакатыўны характарызатар: *Такога гора нямала мы ўбачым у сярэдзіне XX стагоддзя, асабліва ў 30-5- гады, калі жывая душа творцы, ягоная мастацкая індывідуальнасць гіне* ***па-за маскаю ці то лірычнага героя, ці то героя тыповага*** (Л.Вашко). Сін. *пад маскай.* Рус. ***под маской*** *чего.*

**ПА-ЗА МЕЖАМІ** *чаго* Род. Лакатыў выключэння: *Выпадае адно падзяліцца ўражаннямі ад герояў – тэатральнага мастака, падаецца, даволі крывадушнай і цынічнай асобы, і балерыны, не вельмі шчаслівай жанчыны, для якой, відавочна, жыццё не ўяўляецца магчымым* ***па-за межамі «прафесіі»*** (Л.Алейнік). *Выканаўца «Чарцёжнік» дазваляе будаваць лініі і* ***па-за межамі поля****, але гэтыя лініі не будуць бачнымі на экране* (падручн.). *Заяц бег каля самага краю, перад правым колам. Ратуючыся з-пад машыны, ён скокнуў, не гледзячы куды, і незнарок апынуўся* ***па-за межамі светлай паласы*** (В.Вольскі). Ант. *у межах*. Сін. *за межамі*. Рус. ***вне пределов*** *чего.*

**ПА-ЗА МЕЖЫ** *чаго* / **ПА-ЗА** *якія* **МЕЖЫ** *чаго* / **ПА-ЗА** *чые/ якія* **МЕЖЫ** Род. Прастор.: дырэктыў-фініш выключэння: *Глыбіня*

*сімволікі, напал пачуцця выводзіць паэму **па-за межы гістарычнага літаратурнага помніка,** яна чытаецца як сучасная ў адносінах да любых формаў прыгнёту* (К.Тарасаў). З асабовым займеннікам: *Але ў іншым, менш банальным сэнсе, супадзенне я і я – гэта ілюзія: я заўседы ёсць большым, чым тое, чым я ёсць, бо як у прасторы, так і ў часе я выходжу **па-за межы сябе*** (Ц.Тодараў. Пер. А.Дынько). ▲ *Мастацтва і навука як духатворчасць – бязмежнейшыя ад маралі-духазапавету і не падпарадкаваныя ейным законам; выспеленыя ў ейным улонні, яны вольна сягаюць **па-за маральныя межы**, і ў гэтым сэнсе яны амаральныя* (Л.Вашко). Ант. *у межы.* Сін. *за межы*. Рус. ***за пределы** чего.*

**ПА ЗАМОВЕ** *каго* Род. Канфірматыў-каўзатар: *У Лялечным тэатры **па замове ТБМ** паказаны спектакль «Шлях у Батлеем»* («Наша слова»). Сін. *па ініцыятыве.* Рус. ***инициативе** кого.*

**ПА** *колькі адзінак* **ЗАПАР ЗА** *якую адзінку часу* Він.-Він. Трохч. Ускладн. Квантытатыў + характарызатар + дыстрыбутыў: *Сённяшнія перформансы і творчыя вечарыны маладзейшых літаратараў мала чым адрозніваюцца ад скамароства (я яшчэ памятаю час, калі зараблялі грошы на выступленнях ад бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў, там былі не менш артыстычныя асобы, якія ўмелі інтрыгаваць і забаўляць сабраную на перакур публіку **па чатырыпяць разоў запар за адзін дзень**)* («ЛіМ», 12.03.04). Рус. ***по** сколько единиц **подряд за** какую единицу исчисления.*

ПА-ЗА ПАРАДЫГМАЙ *чаго*

**ПА ЗАПАСАХ** *чаго* Род. Крытэрый: ***Па запасах калійных солей** наша краіна займае адно з першых месцаў у свеце* (падручн.). Сін. *па.* Рус. ***по запасам** чего.*

**ПА-ЗА ПОЛЕМ** *чаго* Рус. Лакатыў выключэння: *Гэта ізноў жа характэрная рыса рускай свядомасці і культуры, для якой **па-за полем рускасці** нібыта нічога не існуе, чым і тлумачыцца існаванне і папулярнасць азначэння «няруcкі», якім называецца ўсе Іншае* (А. Андрыеўская). *Твой твар павінен быць люстрам мужчыны, якое застаецца для гледачоў **па-за полем бачнасці*** (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Ант. *у полі.* Сін. *па-за межамі.* Рус. ***вне поля** чего.*

**ПА-ЗА ПРАСТОРАЙ** *чаго* / **ПА-ЗА** *якой* **ПРАСТОРАЙ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў выключэння: *Літаратура і мастацтва не могуць развівацца **па-за пэўнай прасторай культуры і мовы*** (М.Танк). Ант. *у прасторы.* Сін. *па-за межамі.* Рус. ***вне пределов** чего.*

**ПА ЗАПРАШЭННІ/Ю** *каго* / **ПА** *якім* **ЗАПРАШЭННІ** *каго* / **ПА** *чыйму* **ЗАПРАШЭННІ** Род. Канфірматыў: адрасант-каўзатар: *Распаўсюджаная легенда, быццам Скарына займаў у Празе пасаду*

*каралеўскага садоўніка* ***па запрашэнні караля Фердынанда*** *і заснаваў славуты сад на Градчанах, не мае пад сабой грунтоўных падстаў* (К.Тарасаў). ***Па запрашэнні выкладчыка*** *Ягелонскага універсітэта* ***З.Нядзелі*** *наведаў Польшчу* (У.Караткевіч). *Надоўга запомнілася і паездка на Украіну* ***па запрашэнні ці не Кіеўскага таварыства кнігалюбаў*** (В.Коўтун). ■ ***Па настойлівым запрашэнні гаспадароў*** *сваты садзяцца за стол.* Рус. ***по приглашению*** *кого*.

ПА-ЗА РАМКАМІ *чаго*

ПА-ЗА СФЕРАЙ *чаго*

ПА-ЗА СФЕРАМІ *чаго*

ПА-ЗА СЦЕНАМІ *чаго*

**ПА-ЗА СУВЯЗЗЮ З** *кім/чым* Тв. Лакатыў-характарызатар: рэлят выключэння: *Адасобіць – паставіць асобна,* ***па-за сувяззю з іншымі*** (ТСБМ). Ант. *у звязку з.* Сін. *адасоблена ад.* Рус. ***вне связи с*** *кем/чем.*

**ПА-ЗА ЎВАГАЙ** *каго* Род. Ускладн. Лакатыў выключэння + пасэсар: *І зразумела, не засталася* ***па-за ўвагай і дарослых, і дзяцей*** *значная падзея – 60-годдзе Вялікай перамогі* (Р.Марчук). *Тагачасныя выданні, прысвечаныя краязнаўству, этнаграфіі, фальклору, доўгі час былі* ***па-за ўвагай літаратуразнаўцаў*** (А.Туровіч). *Вопыт лінгвістычных атласаў Германіі і Францыі заставаўся* ***па-за ўвагай*** *нашых* ***дыялектолагаў*** (навук.). Ант. *в поле зрения.* Син. *за межамі.* Рус. ***вне внимания*** *кого.*

**ПА-ЗА ЎЛАДАЙ** *каго* / **ПА-ЗА** *чыёй* **ЎЛАДАЙ** Род. Ускладн. Адверсатыўны канфірматыў: рэлят выключэння: ***Па-за ўладай Кубэ*** *былі пошта, чыгунка, большасць будаўнічых арганізацый* («Звязда», 8.02.05). Ант. *ва ўладзе.* Сін. *за межамі ўлады*. Рус. ***вне власти*** *кого.*

**ПА ЗБЕГУ** *чаго* / **ПА** *якім* **ЗБЕГУ** *чаго* Род. Прычын.: каўзатыў: ■ *Але* ***па трагічным збегу абставін*** *Казіміраўская Слабада была практычна знішчана з зямлі падчас вайны ў сярэдзіне XVII стагоддзя* (М.Цярэшчанка). Рус. ***по стечению*** *чего.*

**ПА ЗВЕСТКАХ** *чаго/каго* Род. Аўтарызатар: *Цяпер у вёсках і на хутарах,* ***па звестках статыстычнай службы****, пражываюць 389,2 тысячы чалавек* («Звязда», 4.01.05). *Такую заяву,* ***па звестках прэс-службы*** *міністэрства абароны краіны, зрабіў падчас наведвання Дзяржаўны сакратар Савета бяспекі* («Звязда», 09.04.05). Рус. ***по сведениям*** *кого/чего.*

**ПА ЗВЫЧАІ/Ю (Адз.л.)** *каго/чаго* / **ПА** *якому* **ЗВЫЧАЮ** *каго/чаго* / **ПА** *якому* **ЗВЫЧАЮ** Род. Рэлят адпаведнасці: ***Па звычаях веку*** *ён* [Глінскі] *вучыўся ў Італіі і там прыняў каталіцтва* (К.Тарасаў). *Каралева Бона вырашыла сітуацыю* ***па звычаю свайго роду*** *– у справу пайшла атрута, і хутка ненавісная ёй нявестка згарэла, як свечка*

(К.Тарасаў). ▲ *У Крамлі, **па старому звычаю**, цар абышоў усе сабо-ры, слухаў малебны* («Наша слова»). *15 снежня 1519 года ён [Скары-на] надрукаваў і вычытаў гэтыя словы... і **па славянскаму звычаю**, як перад дарогай, сеў на куртаты зэдлік, падкурчыўшы ногі, што так настаяліся за аціхлым – таксама ж перад дарогай! – друкарскім прэсам* (А.Лойка). Сін. *згодна з.* Рус. ***по обычаю*** *кого/чего.*

**ПА ЗВЫЧАЯХ (Мн.л.).** *каго/чаго* Род. ***Па звычаях веку*** *ён (Глінскі) вучыўся ў Італіі і там прыняў каталіцтва* (К.Тарасаў). *Сустракаюцца невялікія групы літвінаў-язычнікаў, якія **па звычаях сваіх продкаў** дагэтуль яшчэ пакланяюцца сонцу, лясам і вужакам* (Інт.). *Ён – аўтар шматлікіх камедый, раманаў, паэтычных тво-раў, напісаных **па звычаях той эпохі*** (Інт.) Рус. ***по обычаям*** *кого*.

**ПА ЗВЫЧЦЫ** *каго/чаго* Род. Рэлят адпаведнасці + каўзатыў: *Ад публічных скандалаў яе выратоўвала правіла «не выносіць смец-це з хаты», якога эліта прытрымлівалася **па звычцы савецкіх часоў*** (Інт.). Рус. ***по традиции*** *чего.*

**ПА ЗНАКУ** *каго* Род. Каўзатар-ініцыятар: *Пад шум, пад гру-кат навальніцы, Як бы **па знаку чараўніцы**, Ўстаюць-растуць на лузе копкі, І луг пабраўся ўвесь у бобкі* (Я. Колас). Сін. *па сігналу.* Рус. ***по знаку*** *кого.*

**ПАЗНЕЙ** *якога часу* / **ПАЗНЕЙ** Род. Час.: тэрмінатыў*: Матэ-рыялы, прысланыя **пазней адзначанага тэрміну**, разглядацца не будуць* (Інт.). *Усе жыхары абавязаны **пазней 8 гадзінаў вечара** не пакідаць сваіх дамоў і кватэр без належнага пасведчання ад палі-цыі* (Інт.). || Прыслоўе: ***Пазней*** *размовы пайшлі пра штотыднёвік* (Інт.). Рус. ***позже*** *какого времени.*

*колькі адзінак* **ПАЗНЕЙ**[1] Він. Постпазіц. Час. Тэмпаратыў: ***Амаль сто гадоў пазней*** *– у 1377 г. крыжаносцы занялі і знішчылі амаль увесь горад, апрача замка, які занялі **два гады пазней*** (Інт.). Рус. *сколько времени **позже***.

*колькімі адзінкамі* **ПАЗНЕЙ**[2] Тв. Постпазіц. Час.: тэрмінатыў: *Калі ён **двума гадамі пазней** пачаў разумець гэта, было позна* (У.Ка-раткевіч). *Сыны князя загінулі раней за бацьку: Міхаіл – у 1385 год-зе пад час паходу Масквы на Алега разанскага; Сымон – **годам паз-ней**, калі бараніў Полацк ад свайго стрыя Івана-Скіргайлы* (К.Тара-саў). Рус. *сколькими единицами **позже.***

ПА *колькі адзінак* З ГАКАМ

**ПАЗНЕЙ ЗА** *што* / *які час* Він. Час.: тэмпаратыў + градуатар: *Час напісання кнігі менш пэўны – першая палова XIII ст., XIV ст. і нават **пазней за канец XIV ст**.* (А.Пяткевіч). Рус. ***позднее чем*** *что/ какое время.*

**ПАЗНЕЙ ЗА** *колькі адзінак часу* **З ДНЯ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: таксісны тэрмінатыў: *Пенсіі з прычыны страты карміцеля членам сем'яў ваеннаслужачых ... назначаюцца, калі карміцель памёр* ***не пазней за тры месяцы з дня звальнення*** *з ваеннай службы, калі смерць настала з прычыны ранення* (Закон РБ). Рус. ***не позднее чем за*** *какое время* ***со дня*** *чего.*

**ПАЗНЕЙ ЧЫМ ЗА** *колькі адзінак часу* **ДА** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: таксісны тэрмінатыў: *Мы не вяртаем грошы ў тым выпадку, калі заказ быў адменены* ***пазней чым за 24 гадзіны да ажыццяўлення заказа*** (Інт.). Рус. ***позже чем за*** *какое время* ***до*** *чего.*

**ПА** *колькі адзінак* **З НЕЧЫМ** Він. Двухч. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + дыстрыбутыў: *У лясгасе 97 тысяч лясных угоддзяў – іх даглядаюць трохі больш за 300 чалавек (яшчэ* ***па 100 з нечым*** *чалавек заняты ў «аграрным цэху» лясгаса)* («Звязда», 28.04.05).

ПА *колькі адзінак* З ХВОСЦІКАМ

**ПА** *колькі* **І БОЛЬШ** *адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў-дыстрыбутыў з дакладнай ніжняй мяжой + градуатар: *У Буда-Кашалёўскім лясніцтве беражліва ахоўваюцца восем дубоў-гігантаў, вышыня якіх дасягае 30-36 метраў; ім* ***па 300 і больш гадоў*** («Родны край», 2009). Сін. *больш чым па.* Рус. ***по*** *сколько* ***и более*** *единиц.*

**ПА ІМЕНІ** *хто/што* Наз. Анамасіятыў: *Нашу асаблівую трывогу выклікае недастатковы, а то і проста слабы прыток пісьменніцкіх імен у сферу дзейнасці* ***па імені Публіцыстыка*** (А.Лукашук). *Афінянін* ***па імені Акадэм*** *паказаў братам, дзе хаваюць іх сястру* (падручн.). Сін. *з назовам.* Рус. ***по имени.***

**ПА ІНІЦЫЯТЫВЕ** *каго* / **ПА** *чыёй* **ІНІЦЫЯТЫВЕ** Род. Каўзатар-ініцыятар: ***Па ініцыятыве камсамольцаў*** *на тэрыторыі комплекса высаджана больш 500 дрэў* (газ.). *Сёлета* ***па ініцыятыве Савета акругі*** *ў беларускім горадзе Светлагорску прайшла конкурс-акцыя «Калядная паштоўка»* («Звязда», 1.02.05). *Знак пабудаваны і ўстаноўлены* ***па ініцытыве гарадскога грамадскага аб'яднання*** *непаўналетніх вязняў фашызму* («Звязда», 25.01.05). *У лістападзе* ***па ініцыятыве рэктара Міхаіла Батуры*** *пры універсітэце пачала працаваць электронная бібліятэка, пакуль што адзіная на ўсю рэспубліку* («Звязда», 18.02.05). *Як сцвярджаюць гісторыкі, будаўніцтва драўлянага касцёла ў Слоніме пачалося ў далёкім 1490 годзе* ***па ініцыятыве караля*** *Казіміра Ягелончыка* («Звязда», 25.06.05). *Цкаванне абстракцыяністаў пачалося* ***па ініцыятыве Герасімава*** *...* (А.Мальдзіс). *У канцы 50-х гадоў* ***па ініцыятыве светлай памяці***

***Пятра Фёдаравіча Глебкі*** *ўзнік наш інстытут, у структуры якога аддзел фальклору быў з самага пачатку* (А.Ліс). Сін. *па пачыну*. Рус. ***по инициативе*** *кого*.

**ПА ІРОНІІ** *чаго* Род. Каўзатыў: ◊ ***Па іроніі лёсу*** **–** па недарэчнай выпадковасці. ***Па іроніі лёсу*** *пачыналі мы вельмі акадэмічна – Расэл у Оксфардзе пад началам Нэвіла Когіла, а я ў Калумбійскім універсітэце ў Джэймса Кліфарда* (Э.Джонг. Пер. А.Дынько). ***Па іроніі лёсу****, беспрацоўе найбольш хутка расце ў краінах, якія з'яўляюцца эканамічнымі лідарамі ЕС: Германіі, Францыі, Іспаніі* («Звязда», 18.05.05). ***Па іроніі лёсу*** *ордэнская дзяржава захавала за сабой назву знішчанага (часткова анямечанага) народа* (К.Тарасаў). Рус. ***по иронии*** *судьбы*.

ПА КАМАНДЗЕ *каго*

ПА КАНЕЦ *чаго*

ПА КАНОНАХ *чаго*

ПА КАНТРАСТУ/ЦЕ ДА *чаго*

ПА КАНТРАСТУ/ЦЕ З *чым*

**ПА КАНТРОЛЮ ЗА** *чым* Тв. Рубрыкатыў: *Дзяржаўная камісія* ***па кантролю за ўступнымі іспытамі*** *вырашыла паставіць у роўныя ўмовы абітурыентаў усіх медыцынскіх ВНУ* («Звязда», 16. 02.05). Клішэ. Рус. ***по контролю за*** *чем*.

ПА КАПРЫЗУ *каго/чаго*

**ПА КАТЭГОРЫІ (Адз.л.) «***што***»** Наз. Характарызатар-анамасіятыў: *Спіс* ***па катэгорыі «С»*** *налічваў 79,119 чалавек* («Звязда», 25.02.05). Сін. *па класу.* Рус. ***по категории «****что***»**.

**ПА КАТЭГОРЫЯХ (Мн.л.)** «*што»* **І** *«што*» Наз. – Наз. Двухч. Ускладн. Характарызатар-анамасіятыў + пералічэнне, што паўплывала на форму ліку назоўніка ў функцыі прыназоўніка: *Кампенсацыі былі цалкам выплачаны* ***па катэгорыях «А» і «В»*** («Звязда», 25.02.05). Рус. ***по категориям «****что***» и «****что***»**.

**ПА КІРУНКАХ (Мн.л.)** *чаго* / **ПА** *якіх* **КІРУНКАХ** *чаго* / **ПА** *якіх* **КІРУНКАХ** Род. Прастор.: дырэктыў-фініш + дыстрыбутыў: *Я разаслаў удалечыню па розных кірунках стрэлы, а стрэлы вяртаюцца, цэлячыся ў мяне* (А.Разанаў). Сін. *у кірунках*. Рус. ***по направлениям***.

ПА КІРУНКУ *чаго*

**ПА КІШЭНІ** *каму* Дав. Прэдыкатыў алетычнай магчымасці: *Чыстыя й сытыя работнікі ў ідавочнай гармоніі з начальствам і найноўшымі тэхналогіямі выпрабляюць аўтамабілі, якія наўрад ці* ***ім па кішэні****, на заводзе, дзе аб'ёмы вытворчасці скараціліся ў пяць разоў проці 1929 года* (Рабэрта Рыдэр. Пер. А.В.). *Ці будзе новае школьнае адзенне* ***па кішэні сем'ям*** *з ніжэйшым за сярэдні даходам?* («Звязда», 4.02.05). З адмоўем выражае значэнне алетычнай

немагчымасці: *Праз пару дзён выявілася, што «Нерынга»* ***нам*** *яўна* ***не па кішэні*** (А. Мальдзіс). Сін. *па сіле.* Рус. ***по карману*** *кому.*

**ПА КЛАСЕ/У** *чаго* Рубрыкатыў: *Кіраўнік – завуч школы, выкладчык* ***па класе цымбалаў*** («ЛіМ»). *Ініцыятар і арганізатар-пастаноўшчык гэтай знамянальнай вечарыны – загадчык аддзялення народных струнных інструментаў, выкладчыца* ***па класе балалайкі*** *Святлана Абдулаева* (Т.Сетчанка). Сін. *па.* Рус. ***по классу*** *чего.*

**ПА КОШТУ** *чаго* Род. Рэлят прыраўнівання: *Урад проста выбіраў з гэтых зямель золата і серабро* ***па кошту папяровых грошай*** (К.Тарасаў). ↔ **Па кошту, які ...; па такому ж кошту, што і; па гэткаму самаму кошту, што і.** Сін. *па вартасці*. Рус. ***по стоимости*** *чего*.

**ПА КРАЁЧКУ** *чаго* Род. памяншальн. ад **ПА КРАІ**. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *Імчаліся* ***па краёчку нейкага глыбокага абрыву*** (У.Калеснік). Сін. *па краі.* Рус. ***по краешку*** *чего.*

ПА КРАЙ *чаго*

**ПА КРАІ/Ю (Адз.л.)** *чаго* Род. Лакатыў-характарызатар: партытыў + камплетыў: *Праз 8 – 24 гадзіны на паражоным месцы скуры абазначаюцца рэзкія межы эрытэмы,* ***па краі якой*** *узнікаюць мелкія пузыркі* (Асновы мед. ведаў). *У здаровага чалавека правая мяжа сэрца знаходзіцца на адлегласці 0,5 – 1 см ад правага краю грудзіны, ад верхняга краю трэцяга рабра да першага яна ідзе* ***па правым краі грудзіны*** (Асновы мед. ведаў). *Уверсе* ***па краю манеты*** *– узор са стылізаваных сняжынак* («Звязда», 25.02.05). Рус. ***по краю*** *чего.*

**ПА КРАЯХ-1 (Мн.л.)** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: партытыў + камплетыў: *О мой родны край! Хмурна пазіраеш ты з сіняга туману, што лёг* ***па краях палёў****, дзе неба,* спусціўшыся *нізка, абнімаецца з беднаю зямлёй* (Я.Колас). *Весела пазірае стары лес, што разросся за сялом і цягнецца* ***па краях поля****, як разак, пастаўлены зубамі ўгору* (Я.Колас). Сін. *па ўскрайках.* Рус. ***по окраинам*** *чего.*

**ПА КРАЯХ-2 (Мн.л.)** *чаго* Род. Лакатыў-характарызатар: партытыў + камплетыў: *Выпушка – нашыўка з футра* ***па краях адзення****,* ***абутку*** (ТСБМ). Рус. ***по краям*** *чего.*

**ПА КУРСЕ/У** *чаго* Род. Крытэрый: *Юда атрымаць рады Трыццаць срэбранікаў* ***Па курсу здрады*** (Р.Барадулін). Сін. *у адпаведнасці з; адпаведна*. Рус. ***по курсу*** *чего.*

**ПА ЛЕВАЙ СТАРАНЕ** *каго/чаго* Род. Лакатыў адносна цэнтральнага локума: партытыў + камплетыў: ▶ ***Па левай*** *– Страпчая, а Спраўнік злы прыссаўся Па правай* <u>*старане*</u> *і кроўю напіваўся* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Ант. *па правай старане.* Сін. *леваруч; з левага боку ад; па левую руку ад; злева ад*. Рус. ***с левой стороны*** *чего.*

ПА ЛЕВУЮ РУКУ АД *каго/чаго*

**ПА ЛЕВЫ БОК** *каго/чаго* / **ПА** *чый* **ЛЕВЫ БОК** Род. Лакатыў адносна цэнтральнага локума: *Паміж людзьмі ёсць хісткая мяжа, і перад ёю чалавек нямее: па правы бок яе бліпчыць лязо нажа, **па левы бок яе** віно спагады спее* (В.Сахарчук). Ант. *па правы бок*. Сін. *па адзін бок*. Рус. ***по левую сторону*** *кого/чего.*

**ПА ЛЕВЫ БОК АД** *каго/чаго* Род. Лакатыў адносна цэнтральнага локума: *І кожны раз, як узыходзіла нанава сонца, яны бачылі яго **па левы бок ад сябе*** (І.Чыгрынаў). Ант. *па правы бок ад.* Рус. ***по левую сторону от*** *кого/чего.*

**ПА ЛЕВЫМ БАКУ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна цэнтральнага локума: *З самага краю вуліцы, **па левым баку яе,** стаяла пабудаваная і зусім яшчэ прыстойная хатка* (Ц.Гартны). Ант. *па правым баку; справа ад*. Сін. *злева ад*. Рус. ***по левой стороне от*** *кого/чего.*

ПА ЛЕВЫМ БАКУ АД *чаго*

**ПА ЛІНІІ[1]** *Што – Што* / *што – што* Наз. Анамасіятыў: *Вакол каменя існуе выбрукоўка з меншых камянёў, прамакутнай формы, памерамі **па лініі захад-усход** 2,8 м, **па лініі поўнач-поўдзень** каля 3 м* (навук.). Рус. ***по линии*** *что– что.*

**ПА ЛІНІІ[2]-1** *чаго* / **ПА** *якой* **ЛІНІІ** Род. Характарызатар: рубрыкатыў: *Прадугледжана нямала сумесных мерапрыемстваў **па лініі ветэранскіх арганізацый*** («Звязда», 10.02.05). *Спецыялізуючыся **па лініі радыяцыйнай гігіены і бяспекі**, Аляксандр Пятровіч не меў ні дня спакою* («ЛіМ»). ◊1. ***Па лініі*** *чаго* ці *якой* – у якіх-небудзь органах, установах (ТСБМ). ▲ *Працаваць **па партыйнай лініі**.* ◊ 2. ***Па лініі*** – ад імя якога-небудзь органа, установы. ▲ *Вынесці вымову **па партыйнай лініі**.* ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Сін. *у сферу/ы*. Рус. ***по линии*** *чего*.

**ПА ЛІНІІ[2]-2** *чаго* / **ПА** *якой* **ЛІНІІ** *чаго* Род. Характарызатар дзеяння: дырэктыў: *Сусветная арганізацыя аховы здароўя рэкамендуе накіраваць прафілактыку захворвання **па лініі шырокай інфармацыі і выхваўчай работы** ў сексуальнай сферы* (Асновы мед. ведаў). *Сапраўды – няма нічога дзіўнага, калі дзяцюк кахае пекную дзевачку і ўсё развіваецца **па лініі натуральнага прыцягнення*** (В. Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). *Рэдакцыя ішла **па лініі скарачэння паўтораў, дыялогаў, лістоў да сяброў, апісальных мясцін*** (М.Танк). ▲ *Ад нашага берага да касы **па прамой лініі** каля шасці кіламетраў* (В.Вольскі). ◊ ***Па лініі найменшага супраціўлення*** – выбіраць найбольш лёгкі спосаб дзеянняў, пазбягаючы перашкод (ФСБМЛ). *Не справіўшыся з намечаным, адказныя работнікі пайшлі*

***па лініі найменшага супрацiўлення***; *афармілі ў лютым акт на спісанне* («Звязда»). Сін. *у накірунку; у напрамку*. Рус. ***по линии*** *чего*.

**ПА ЛІНІІ²-3** *каго* / **ПА** *чыёй* **ЛІНІІ** Род. Характарызатар асобы: генератыў: *Дзядзька* ***па лініі маці.*** **—** *Гаспадаром у ягоны* [*майстра*] *дом* ***па лініііі блізкага сваяцтва*** *прыйшоў мой сябар* (Л.Дранько-Майсюк). ▲*Сведчанне пра існаванне грамадстваў, дзе радавод ішоў* ***па мацярынскай лініі*** *(дапісьменныя плямёны ў Афрыцы, напрыклад) перакрэсліваюць версію Мэйна пра ўніверсальнасць радаводу толькі* ***па бацькоўскай лініі*** (Кейт Мілет. Пер. А.Скурко). *Казала, што яе дзед (наколькі я зразумеў,* ***па мацярынскай лініі)*** *быў польскі паэт* (А.Мальдзіс). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Сін. *па*. Рус. ***по линии*** *кого*.

**ПА ЛІНІІ²-4** *чаго* Род. Аб'ектн.: пацыенс: *І на гэты раз на падыходзе да цэлі самалёты раздзяліліся: частка іх ударыла* ***па лініі абароны****, астатнія, прарываючыся праз запыняльны агонь зенітак, рынуліся на пераправу* (І.Шамякін). Сін. *па*. **Рус.** ***по линии*** *чего*.

**ПА ЛІНІІ** *Што – Што* **ДА** *чаго* Наз.-Наз.-Род. Двухч. Ускладн. Лакатыў-анамасіятыў: *Стаўка прыняла рашэнне стварыць абарончы рубеж* ***па лініі Сушчова – Віцебск – р. Дняпро да Краменчуга*** (Энцыкл. гіст. Беларусі, т.1). Рус. ***по линии*** *Что – Что –* ***до*** *Чего*.

**ПА ЛІНІІ З** *чаго* **НА** *што* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Характарызатар-транзітыў + напрамак: *Возера Свіцязь ляжыць на высокім пласкагор'і і сягае ўзроўнем вады 257 метраў вышыні ад паверхні мора, сваім малюнкам і абрысамі паўтараючы амаль правільны круг дыяметрам 1650 метраў* ***па лініі з поўдня на поўнач*** *і па лініі «усход – захад» – 1700 метраў* («Белавежская пушча»). Сін. *у напрамку.* Рус. ***по линии с*** *чего* ***на*** *что*.

**ПА ЛОНУ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: транзітыў: партытыў + камплетыў: *Човен борзда і роўна слізгацiць* ***па шырокаму лону спакойнай Прыпяці*** (Я.Колас). Сін. *па*. Рус. ***по лону*** *чего*.

**ПА МАДЭЛІ** *чаго* / **ПА** *якой* **МАДЭЛІ** *чаго* / **ПА** *якой* **МАДЭЛІ** Род. Рэлят прыраўнівання: *З мінулага года новыя агрэгаты ствараюцца ў цэхах пакуль што* ***па мадэлі доследнай партыі*** («Рэспубліка»). *Саюзная дзяржава Расіі і Беларусі будуецца не* ***па мадэлі Еўрасаюза****, а* ***па сваёй уласнай мадэлі*** (газ.). Сін. *на капыл*. Рус. ***по модели*** *чего*.

**ПА МАЛАДОСЦІ** *чаго* Род. Каўзатыў: ◊ *Не цаніць* ***па маладосці гадоў***. Рус. ***по молодости лет.***

**ПА МАНЕРЫ** *чаго* Род. Крытэрый: *Першы пераклад – вельмі англійскі* ***па манеры выканання*** (У.Караткевіч). Сін. *па*. Рус. ***по манере*** *чего*.

**ПА МАРШРУТУ/ЦЕ** *Што – Што / што – што* Наз.-Наз. Двухч. Ускладн. Характарызатар-транзітыў: *Мы актыўна працуем над тым, каб забяспечыць развіццё міжнародных зносінаў. Асабліва гэта датычыцца перавозкі калійных угнаенняў* ***па маршруту Беларусь – порты Чорнага мора*** («Звязда», 31.05.05). Сін. *па лініі.* Рус. ***по маршруту*** *Что – Что.*

**ПАМЕЖ**[1] *каго/чаго* Род. Лакатыў-генератыў: *...Зрадзілася на народнай ніві,* ***памеж свайго народу*** («Наша Ніва», 1909, №30). Сін. *ад.* Рус. ***среди*** *кого/чего.*

**ПАМЕЖ**[2]**-1** *кім/чым* Тв. Адрасат: *Вось мела надзею з команам злучыцца,* ***Памеж мужыкамі*** *шляхецтвам хваліцца* (В.Дунін-Марцінкевіч). Сін. *перад.* Рус. ***перед*** *кем/чем.*

**ПАМЕЖ**[2]**-2** *кім/чым* Тв. Рэлят узаемаадносін: *І з тых пор яны душою, Сэрцам к сабе прыляглі, І з тых пор* ***памеж сабою*** *Вечну міласць прысяглі!* (В.Дунін-Марцінкевіч). ППШ – прыназ. Сін. *паміж.* Рус. ***между*** *кем/чем.*

**ПАМЕЖЖА** *чаго* / **ПАМЕЖЖА** Род. Характарызатар-тэмпаратыў: *Спынімся каротка на некаторых момантах народніцтва як тэарэтычнага дыскурсу, цяжкіх для разумення канфлікту культуры* ***памежжа стагоддзяў*** *і ўсталявання мадэрнісцкага дыскурсу* (С.Паўлычко. Пер. А. Скурко). Сін. *на мяжы; на рубяжы.* Рус. ***на рубеже*** *чего.*

**ПА МЕНШАЙ МЕРЫ** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны квантытатыў + градуатар-апраксіматар. *У выніку землятрусу загінула* ***па меншай меры 40 чалавек*** (Інт.). Не кіруе склонам. ◊ ***Па меншай меры*** **–** не менш чым (ТСБМ). Сін. *не менш чым; мінімум.* Рус. ***по меньшей мере*** *сколько единиц.*

**ПАМЕРАМ**[1] *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *У выніку атрымаўся артыкул* ***памерам 10 000 знакаў****, у тры разы з лішкам большы, чым запланавана* (Л.Языковіч). Рус. ***размером*** *сколько единиц.*

**ПАМЕРАМ**[2] *чаго* Род. Кампарат: рэлят прыраўнівання: *Ніжэй* ***памерам арыгіналу*** *падаюцца пераклады трох вершаў Гарацыя* (А.Жлутка). Рус. ***размером*** *чего.*

ПАМЕРАМ АД *колькіх адзінак*

**ПАМЕРАМ АД-1** *чаго* **ДА** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Кампарат: рэлят прыраўнівання па няпэўнай колькасна абмежаванай велічыні: *Калі стаіць добрае надвор'е, акунь* ***памерам ад запалкі да далоні*** *бярэцца амаль на ўсё, што рухаецца* («Звязда», 26.02.05). *У склад Сонечнай сістэмы ўваходзіць таксама велізарная колькасць малых планет – астэроідаў, мноства камет, безліч малых цел* ***памерам ад***

***100 м да мізэрна малых пылінак*** (падручн.). Сін. *велічынёй.* Рус. ***размером от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**ПАМЕРАМ АД-2** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Няпэўны дыменсіў з абмежаванай колькаснай велічынёй: *У склад Сонечнай сістэмы ўваходзіць таксама велізарная колькасць малых планет – астэроідаў, мноства камет, безліч малых цел* ***памерам ад 100 м да мізэрна малых пылінак*** (падручн.). Рус. ***размером от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**ПАМЕРАМ АМАЛЬ** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў: *Аўтар прынёс у выдавецтва тэкст на 20 старонках* ***памерам амаль 40 000 знакаў****, таму на пасяджэнні рэдакцыйнай калегіі было прынята рашэнне скараціць артыкул да адпаведных памераў* (Л.Языковіч). Рус. ***размером почти*** *скольких единиц.*

**ПАМЕРАМ АМАЛЬ У** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў: *А вось само «поле бою» асаблівага захаплення на першы погляд не выклікала: заснежаны стадыён, выведзеная чырвонай фарбай на белым снезе акружнасць* ***памерам амаль у паўстадыёна*** («Звязда», 25.02.05). Рус. ***размером почти в*** *сколько единиц.*

ПАМЕРАМ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

ПАМЕРАМ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

ПАМЕРАМ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

**ПАМЕРАМ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* **ДАЎЖЫНЁЙ** Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой + адна велічыня: *Камлыгі (па-руску – глыбы) гэта буйныя валуны* ***памерам больш за 3 метры даўжынёй****, а валуны – ад 10 см да 3 метраў* («Сумежжа»). Рус. ***размером более*** *скольких единиц* ***в длину.***

ПАМЕРАМ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

ПАМЕРАМ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

ПАМЕРАМ ДА *колькіх адзінак*

**ПАМЕРАМ ДА** *колькіх* **працэнтаў АД** *чаго / якой колькасці / колькіх адзінак* Род.-Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой + дыстрыбутыў: *Непасрэдна перад новым годам быў прыняты ўказ прэзідэнта, згодна з якім крэдыты для грамадзян, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, будуць выдавацца тэрмінам на 20 гадоў пад 5 працэнтаў гадавых* ***памерам да 90 працэнтаў ад агульнага кошту жылля*** («Звязда», 11.01.05). Рус. ***размером до*** *скольких единиц/****процентов от*** *чего.*

**ПАМЕРАМ З/СА** *што* / **ПАМЕРАМ ... З/СА** *што* / **З/СА** *што* **ПАМЕРАМ** Він. Кампарат: рэлят колькаснага прыраўнівання: *Нарэшце, самы апошні кавалачак атрымаўся «****памерам з пачак*** *папірос «Казбек»* (А.Федарэнка). *Звычайна падчас гэтай аперацыі*

*клавіятурны курсор прымае выгляд прамавугольніка* ***памерам з пункт меню*** (падручн.). ***Памерам*** *яны* [піранні] *былі* ***з 5-капеечную манету****, дасягнуўшы дарослага ўзросту, кожная важыла 4 кілаграмы* («Звязда». 5.02.05). *Спадарожнік вагой 52 кг і* ***памерам з пральную машыну*** *быў паспяхова выведзены на арбіту* (Інт.). *Гэты дробны драпежнік* [шуляк-карабольчык] ***памерам з голуба*** *можа атакаваць адразу некалькі мірных птушак* («Родны край», 2009). Сін. *велічынёй з.* Рус. ***размером с*** *кого/что.*

ПАМЕРАМ ЗВЫШ *колькіх адзінак*

ПАМЕРАМІ АД *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*

ПАМЕРАМІ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*

ПАМЕРАМІ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*

ПАМЕРАМІ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*

**ПАМЕРАМІ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Сучасныя дэфектаскопы дазваляюць кантраляваць металічныя дэталі* ***памерамі больш за 10 м*** *і выяўляць дэфекты памерамі каля міліметра, што знаходзяцца як у глыбіні, так і на адлегласці некалькіх міліметраў ад паверхні* (падручн.). Рус. ***размерами более*** *скольких единиц.*

**ПАМЕРАМІ БОЛЬШ** *колькіх адзінак* **НА** *колькі адзінак* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой; другая частка звычайна выражана знакам памнажэння, але захоўвае кіраванне склонам: *Доўгія тэксты, малюнкі (фоты)* ***памерамі больш 400Ч300 (300Ч400),*** *фотасправаздачы варта хаваць... (Інт.). Рус.* ***размерами более*** *скольких единиц* ***на*** *сколько единиц.*

ПАМЕРАМІ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*

ПАМЕРАМІ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*

ПАМЕРАМІ ДА *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*

**ПАМЕРАМІ З** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў: *Вось жа пад канец яшчэ аднаго рабочага дня пакіраваў проста ў свой кабінет, згарнуў там вялізны дыван без узораў, адхінаючы раскладзеную пад ім мапу свету* ***памерам з дваццаць квадратных футаў*** (Г.Мэт'юз. Пер. Ю.Марголіна). Рус. ***размерами с*** *сколько единиц.*

ПАМЕРАМІ ЗВЫШ *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*

**ПАМЕРАМІ КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў: *Сучасныя дэфектаскопы дазваляюць кантраляваць металічныя дэталі памерамі больш за 10 м і выяўляць дэфекты* ***памерамі каля міліметра****, што знаходзяцца як у глыбіні, так і на адлегласці некалькіх міліметраў ад паверхні* (падручн.). *Вакол каменя існуе выбрукоўка з меншых камянёў, прамакутнай формы,* ***памерамі*** *па лініі*

*захад-усход 2,8 м, па лініі поўнач-поўдзень* ***каля 3 м*** (навук.). Рус. ***размерами около*** *скольких единиц.*

**ПАМЕРАМІ КРЫХУ БОЛЕЙ ЯК** *што* Наз. Дыменсіў: рэлят прыраўнівання: *Дзверы ў левым куце вялі ў памяшканне* ***памерамі крыху болей як тэлефонная будка*** (І.Ільф, Я.Пятроў. Пер. наш). Гл. у арыгінале: *Дверь в левом углу вела в помещение* ***размером чуть побольше телефонной будки*** (И.Ильф, Е.Петров). Рус. ***размерами чуть побольше*** *скольких единиц*

ПАМЕРАМІ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*
ПАМЕРАМІ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*
ПАМЕРАМІ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*
ПАМЕРАМІ МЕНШ ЗА *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*
ПАМЕРАМІ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*
ПАМЕРАМІ МЕНШ ЯК *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*

**ПАМЕРАМІ (Мн.л.)** *колькі адзінак* **НА** *колькі адзінак* Наз.-Він. Ускладн. Дыменсіў; лексічны кампанент сінтаксемы складаецца з двух або трох элементаў, злучаных знакам памнажэння: *Адпускаюць дазіраваныя парашкі ў папяровых капсулах з белай пісчай паперы, нарэзанай у выглядзе прамавугольнікаў* ***памерамі 7,5 Ч10 см*** (Асновы мед. ведаў). *Магільная яма* ***памерамі 2,0 Ч1,5 м*** *глыбінёй 1,4 м арыентавана ў кірунку поўнач-поўдзень* («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). Рус. ***размерами*** *сколько единиц ? сколько единиц.*

ПАМЕРАМІ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*
ПАМЕРАМІ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*
ПАМЕРАМІ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*
ПАМЕРАМІ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*
ПАМЕРАМІ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*
ПАМЕРАМІ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*
ПАМЕРАМІ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*
ПАМЕРАМІ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*
ПАМЕРАМІ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*
ПАМЕРАМІ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*
ПАМЕРАМІ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*
ПАМЕРАМІ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак* НА *колькі адзінак*
ПАМЕРАМ КАЛЯ *колькі адзінак*
ПАМЕРАМ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
ПАМЕРАМ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ПАМЕРАМ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
ПАМЕРАМ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
ПАМЕРАМ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
ПАМЕРАМ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

**ПАМЕРАМ** *колькі адзінак* **НА** *колькі адзінак* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Дыменсіў-дыстрыбутыў: *Так мы і жылі шасцёра ў хаце **памерам 4 на 4 метры*** («Звязда», 16.02.05). *Цокаль на плане **памерам 30 метраў на 50**, а мячэць – **24 на 24*** («Звязда»). Значэнне першаснага прыназоўніка можа быць выражана іншымі графічнымі сродкамі – знакам мнажэння: *А вось сквер **памерам 140х70м** на Кутузаўскім праспекце прывабіў: цэнтр, людное месца, прасторная тэрыторыя, магістраль, якую можна лічыць дарогай на Беларусь* (С.Берасцень). Рус. ***размером** сколько единиц **на** сколько единиц.*

ПАМЕРАМ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*
ПАМЕРАМ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ПАМЕРАМ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*
ПАМЕРАМ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*
ПАМЕРАМ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*
ПАМЕРАМ НЕ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*
ПАМЕРАМ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*
ПАМЕРАМ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*
ПАМЕРАМ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*
ПАМЕРАМ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*
ПАМЕРАМ НЕ МЕНШ ЧЫМ *колькі адзінак*
ПАМЕРАМ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*
ПАМЕРАМ СА *што*

**ПАМЕРАМ У-1** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *І хаця ў 1997 годзе, згодна з указам кіраўніка дзяржавы, будынак перайшоў у веданне Кіраўніцтва справамі прэзідэнта, у Доме літаратара за Саюзам заставалася плошча **памерам у адну тысячу квадратных метраў**, палову якой займае бібліятэка* («Народная воля», 22.02.05). *Першапачаткова выдавецтвам быў запланаваны артыкул **памерам у 3 тыс. знакаў*** (Л.Языковіч). *Тыповы пратуберанец мае выгляд гіганцкай зоркі **памерам у сотні кіламетраў*** (падручн.). *Буйныя целы (**памерам у дзесяткі сантыметраў**) пранікаюць глыбока ў атмасферу Зямлі* (падручн.). *У лютым 1936 года, у раёне Вялікай Ракі, былі злоўлены ў загон, **памерам у дзесяць гектараў**, два ласі ва ўзросце дзесяці месяцаў* (В.Вольскі). Сін. *велічынёй у.* Рус. ***размером в** сколько единиц.*

**ПАМЕРАМ У-2** *што* Він. Дыменсіў-кампарат: рэлят прыраўнівання: *Які аб'ём памяці ў байтах зойме чорна-белы віртуальны рысунак **памерам у экран?*** (падручн.). Сін. *велічынёй з.* Рус. ***размером с** что.*

**ПАМЕРАМ УСЯГО** *колькі адзінак* **НА** *колькі адзінак* Наз./Він.-Він. Двухч. Ускладн. Дыменсіў + дыстрыбутыў: *Зараз у Жыровіцы*

*наведваецца да ста тысяч паломнікаў і турыстаў з усяго свету, каб прайсціся па старажытных дворыках, папіць гаючай вады і аддаць пашану маленькай, **памерам усяго 43 на 56 міліметраў**, цудадзейнай іконе маці Божай Жыровіцкай* («Звязда», 25.06.05). Рус. ***размером всего*** *сколько единиц* ***на*** *сколько единиц.*

**ПАМЕРАМ У** *колькі адзінак* **ДАЎЖЫНЁЙ/Ю** Він. Двухч. Ускладн. Дыменсіў з намінацыяй аднаго з параметраў памеру: *Бактэрыя – трохвугольнік* ***памерам у 5 мікрон даўжынёю*** *...здольна хутка рухацца* («Настаўніцкая газета», 01.04.99). Рус. ***размером в*** *сколько единиц* ***длиной.***

**ПА МЕРКАВАННІ/Ю (Адз.л.)** *каго/чаго* Род. Аўтарызатар: *У якасці бактэрыяльных сродкаў,* ***па меркаванні замежных спецыялістаў****, могуць прымяняцца такія ўзбуджальнікіхвароб, якія лёгка атрымаць у дастатковай колькасці* (Асновы мед. ведаў). ***Па меркаванню спецыялістаў,*** *з моманту знаёмства з агнём чалавецтва харчуецца «мёртвай» ежай, але тым не менш працягвае жыць* («Звязда», 27.01.05). *Нізкая адукаванасць,* ***па меркаванні Полацкага****, стала як бы карпаратыўнай рысай духавенства* (К.Тарасаў). ***Па меркаванні арганізатараў****, правядзенне фестывалю паспрыяе павелічэнню значнасці беларускай фатаграфіі сярод іншых візуальных мастацтваў як у сваёй краіне, так і за яе межамі* (В.Кавалёў). Сін. *на думку*. Рус. ***по мнению*** *кого*.

ПА МЕРКАВАННЯХ (Мн.л.) *каго/чаго*

**ПА МЕРКАХ (Мн.л.)** *каго/чаго* Род. Аўтарызатар: ***Па мерках вялікага свету*** *гэта падзея мо і не надта прыкметная* («Звязда», 10.02.05). Сін. *як па.* Рус. ***по меркам*** *кого.*

**ПА МЕРЦЫ (Адз.л.)** *каго* Род. Аўтарызатар: ▲*Тыраж у любога з выданняў* [на беларускай мове] ***Па эміграцкай мерцы!*** (Л.Дранько-Майсюк). Рус. ***по мерке*** *кого.*

**ПА МЕРЫ-1** *чаго* Род. Рэлят паступовай прапарцыянальнасці: *Вера ў адраджэнне бацькаўшчыны згасала* ***па меры разгарання*** *ваеннага пажару* (В.П.Рагойша). ***Па меры спаду*** *рэвалюцыі каардынацыя дзейнасці арганізацый і роля кіруючага цэнтра паступова слабелі* (Энцыкл. гіст. Беларусі, т.1). *Змаганне за аўтаномію будзе ўзрастаць* ***па меры збліжэння*** *Далёкага Ўсходу з краінамі эканамічнага цуду – Японіяй, Карэяй і Кітаем* (Зб.Бжэзінскі. Пер. С.Петрыкевіча). ***Па меры высякання*** *чалавекам лясоў і ўзорвання зямель русак услед за чалавекам перамяшчаецца далей на поўнач* («Родны край», 2009). ◊ ***Па меншай меры*** **–** не менш чым (ТСБМ).▬ – *Цяпер я быў бы* ***па меншай меры*** *дырэктарам завода* (А.Васілёнак).↔ **Па меры таго як:** ***Па меры таго, як*** *выкладаў Сцёпка свой план, слухачы ўсё больш*

*і больш захапляліся ім* (Я.Колас). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ. Рус. ***по мере*** *чего.*

**ПА МЕРЫ-2** *чаго* Род. Кандытыў: *Нацельная і пасцельная бялізна мянецца* ***па меры неабходнасці****, не радзей аднаго разу на тыдзень* (Асновы мед. ведаў). *Школьная навука ў ніжэйшай школе* ***па меры можнасці*** *павінна вясціся ў беларускай мове* (Пратакол Беларускага сялянскага з'езду ў Горадні, 1918 г.). ◊ ***Па меры магчымасцей –*** калі будзе магчыма. Рус. ***по мере*** *чего.*

**ПА МЕСЦАХ** *чаго* Род. Транзітыў-дырэктыў: *Ісці па месцах баявой славы.* ▬ *Добра зарэкамендавалі сябе і рэйды прадстаўнікоў грамадскасці разам з участковым* ***па месцах нефармальных «тусовак»*** *моладзі* («Звязда», 22.06.05). *– Заўтра я іду* ***па месцах ласінага рэву,*** *– сказаў мне заатэхнік* (В.Вольскі). Рус. ***по местам*** *чего.*

**ПА МЕСЦЫ-1** *чаго* Род. Характарызатар: рубрыкатыў: *Пасля календарнага года фізічныя асобы абавязаны не пазней як 1 сакавіка прадставіць у падатковы орган* ***па месцы пастаноўкі*** *на ўлік дэкларацыю аб сукупным даходзе за мінулы каляндарны год* («Звязда». 05.01.05).

**ПА МЕСЦЫ-2** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Найбольш каштоўныя рэчы мы даставім вам* ***па месцы жыхарства*** *адразу пасля пачатку новай падпісной кампаніі, дзе, па добрай традыцыі, уручым іх з удзелам кіраўніцтва мясцовай «вертыкалі» і работнікаў паштовай сувязі* («Звязда», 11.01.05). *Трое рабочых гэтага камбіната* ***па месцы працы*** *выкралі 63,6 кг мяаспрадуктаў на агульную суму 700000 рублёў* («Звязда», 28.01.05). *Чытачам варта звярнуцца ў раённае спажывекае* ***таварыства па месцы жыхарства*** («Звязда», 17.03.05).

**ПА МЕТАДЗЕ-1 / ПА МЕТАДУ** «*што*» Наз. Характарызатар: метад: *Для штучнай экспіраторнай вентыляцыі лёгкіх* ***па метадзе з рота ў рот*** *або* ***з рота ў нос*** *пацярпелага укладваюць на спіну на цвёрдую паверхню...* (Асновы мед. ведаў). Сін. *па прынцыпу/е.* Рус. ***по методу «****что».*

**ПА МЕТАДЗЕ-2 / ПА МЕТАДУ** Месн. Характарызатар: метад + аўтарызатар: *АЦ вымяраюць з дапамогай ртутнага сфігмаманометра ці танометра у міліметрах ртутнага слупка* ***па метадзе Караткова*** *з рэгістрацый гукавых фенаменаў, эквівалентных максімальнаму і мінімальнаму ціску* (Асновы мед. ведаў). *Аднаразова ўнутрымышачна ўводзяць* ***па метадзе Бязрэдкі*** *30 – 75 мл процісібіраязвеннага глабуліну* (Асновы мед. ведаў). Сін. *па прынцыпу/е.* Рус. ***по методу*** *кого.*

**ПАМІЖ** *ТСБМ, ТСБПШ – прыназоўнік.*

**ПАМІЖ[1]-1** *чаго* Род. мн.л. Лакатыў адносна аднароднага асяроддзя: *Хоць песня як і з даўніх б'е часоў, – звініць, як вецер* ***паміж верасоў*** (Я.Купала). *Поезд то хаваўся пад кронай свежай яркай зелені, то імчаўся* ***паміж вясёлых пералескаў*** (А.Васілевіч). *Уявіў, як ён, стары чалавек, будзе бегчы, віхляючы* ***паміж дрэў****, прадзірацца праз маладыя калючы ельнік, каб схавацца* (І.Шамякін) –.. *петляя* ***между деревьями*** (пер. Т.Шамякиной).

**ПАМІЖ[1]-2** *чаго* Род. адз.л. назоўніка са знач. зборнасці; лакатыў адносна аднароднага асяроддзя: *Я праверыў клеевы пах лаку для пазногцяў, пах вадкасці, пры дапамозе якой яна яго змывала адразу пасля таго як нанесла і перад тым як нанесці яго ў чарговы раз, пах астылае рамонкавае гарбаты, якой яна прамывала вочы дзеля большага бліску, пах пірага з назбіраных пустых пудрэлачак з-пад пудры, пах «славутай парфумы», якой яна апырсквала пакой, пах тых падобных да цытрыны яблыкаў, чайны пах адпаведнага ваеннаму часу мыла, якое ляжала ў куфэрку* ***паміж вопраткі****, што дасталася ў спадчыну ад маці* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Сін. *у.* Рус. ***между*** *чем.*

**ПАМІЖ[1]-3** *каго/чаго* Род. мн.л. Лакатыў-камітатыў: *Мужык пайшоў* ***паміж слуг****, пакорліва апусціўшы галаву* (У.Караткевіч). Сін. *з; разам з.* Рус. ***между*** *кем/чем.*

**ПАМІЖ[1]-4** *каго/чаго* Род. Дырэктыў-старт: *Тым часам Талімэна ўбегла* ***паміж коней*** *І к Графу заламаныя ўзняла далоні* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *з-за*. Рус. ***из-за*** *кого/чего.*

**ПАМІЖ[1]-5** *чаго* Род. мн.л. (pluralia tantum). Дырэктыў-фініш: *Не сунь пальцаў* ***паміж дзвярэй*** (У.Караткевіч). Сін. *між.* Рус. ***между*** *чего.*

**ПАМІЖ[1]-6** *чаго* Род. мн.л. (pluralia tantum). Транзітыў: *Я жыў і ішоў* ***паміж руін*** (У.Караткевіч). Сін. *сярод.* Рус. ***среди*** *чего.*

**ПАМІЖ[1]-7** *каго/чаго* Род. мн.л. Камплетыў: *Нішто не вечна* ***паміж нас*** (П.Броўка). Сін. *у.* Рус. ***среди*** *кого/чего.*

**ПАМІЖ[1]-8** *каго* Род. мн.л. Рэлянты ўзаемін: ***Паміж старых прыяцеляў*** *павеяў нядобры халадок* (А.Зарэцкі: ТСБПШ). Сін. *між.* Рус. ***между*** *кем.*

**ПАМІЖ[2]-1** *чым* Тв. мн.л. Прастор.: лакатыў: *Беларусь – своеасаблівая (глыбінна-цэнтральная) прастора, якая знаходзіцца* ***паміж рознымі цывілізацыямі*** (Т.І.Шамякіна). *І другое пачуццё. І здзіўленне, і недаўменне, і пашана да таго, хто блізу сто гадоў таму назад упарта, як парастак* ***паміж плітамі*** *тратуара, пралез* ***паміж дзвюма стыхіямі, рускай і польскай****, насуперак усім* (Я.Брыль). *Дняпро ў гэтым месцы быў просты, як страла, і як страла імчаўся* ***паміж берагамі*** (У.Караткевіч). ◊ ***Паміж двух агнёў*** **–** становішча, калі не-

бяспека пагражае з двух бакоў.— *Дануся... была **паміж двух агнёў**, але і ў яе пачаў прабівацца на сяброўку гнеў* (А.Карпюк). Сін. *між.* Рус. ***между*** *чем.*

**ПАМІЖ²-2** *чым* Тв. мн.л. Час.: тэмпаратыў: ***Паміж танцамі*** *артысты выконвалі нумары* (Д.Гранін). *Вышэйшым органам Саюза быў з'езд ці канферэнцыя, **паміж імі** партарганізацыю ўзначальваў Абласны камітэт Саюза РСДРП Літвы і Беларусі* (Энцыкл. гіст. Беларусі, т.1). *Выратавальнік становіцца на калені злева ад паражонага на ўзроўні плячэй і робіць яму запар чатыры хуткія ўдзіманні паветра, не дапускаючы поўнага вызвалення ад паветра лёгкіх паражонага **паміж удзіманнямі*** (Асновы мед. ведаў). ◊ ***Паміж тым*** – у той час, тым часам. — *А цётка **паміж тым** працягвала расказваць казку* (ППШ). Сін. *у інтэрвале/ах паміж.* ↔ **Паміж тым як.** *Снег зусім сышоў з поля, **паміж тым як** была сярэдзіна снежня* (ППШ). Рус. ***между*** *чем.*

**ПАМІЖ²-3** *кім/чым* Тв. мн.л. Прастор.: лакатыў адносна прадметаў + камплетыў: *А **паміж імі** стаяла пляшка кмяноўкі ды запыленая, бы ў фуфайцы, бутэлька віна* (У.Караткевіч). ***Паміж імі*** [кнігамі] *стаялі срэбныя каўчэгі для асабліва важных манускрыптаў* (У.Караткевіч). Сін. *сярод.* Рус. ***между*** *чем.*

**ПАМІЖ²-4** *кім* Тв. мн.л. Рэлянты ўзаемін: ***Паміж братамі*** *не было моцнай дружбы.* —*Будзем лічыць, што ўмова **паміж намі** заключана* (К.Крапіва: ТСБПШ). ◊ ***Паміж намі кажучы; паміж намі*** – чаго не варта гаварыць іншым. — *Як ты дасочыш, калі, **паміж намі кажучы**, польскія салдаты – бабы* (Я.Колас). ◊ ***Паміж сабою.***—*Прыемна вясновай лагоднай парой сысціся, пагутарыць **паміж сабой*** (П.Броўка). Сін. *між.* Рус. соответственно: ***между*** *кем;* ***между нами говоря; между нами; между собой.***

**ПАМІЖ²-5** *кім/чым* Тв. мн.л. Рэлянты параўнання, супастаўлення: *Розніца **паміж іх лекцыямі** была відавочная* (І.Шамякін: ТСБПШ). Сін. *між.* Рус. ***между*** *кем/чем.*

**ПАМІЖ²-6** *кім* Тв. мн.л. Дыстрыбутыў: *Спадчыну падзялілі **паміж братамі.** Падзяліць сшыткі **паміж вучнямі** ў сваім класе* (ППШ).

**ПАМІЖ²-7** *кім/чым* Тв. мн.л. Рэлят адрознення, размежавання: ***Паміж рэлігіямі*** *шмат адрозненняў, але ўсе яны не адмаўляюць Усявышняга* (Інт.).

◊ **ПАМІЖ іншым-1** – мімаходам. Характарызатар: *Рабіла яна гэта **паміж іншым**, і Алесь адказваў ахвотна, забыўшыся адразу, што прыйшоў сюды ўпершыню* (У.Шыцік: ТСБПШ). Рус. ***между делом***.

◊ **ПАМІЖ іншым-2 –** дарэчы. Модус дарэчнасці: ***Паміж іншым***, *такі пераказ звязаны з курганом, які ўзнімаецца сярод мястэчка Лукомлі* (Г.Гарэцкі: ТСБПШ). Сін. *між іншым.* Рус. ***между прочим.***

**ПАМІЖ** *кім/чым* адз.л. **З** *кім/чым* адз.л. Тв.-Тв. Двухч. Ускладн. Рэлянты ўзаемін: *Яшчэ адно падмацаванне тэзісам аб цеснай повязі* ***паміж тэорыяй марксізму-ленінізму з хрысціянствам*** («Arche»). Сін. *паміж ... і.* Рус. ***между*** *кем/чем* ***с*** *кем/чем.*

**ПАМІЖ[1]** *чаго* **І** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Рэлянты сумежжа: *Граніца была ў іх* ***паміж таго****, што самі куплялі к свяцечку ў манапольцы,* ***і таго****, што мелася на сховах у Івана* (М.Гарэцкі). Сін. *паміж чым і чым.* Рус. ***между*** *чем* ***и*** *чем.*

**ПАМІЖ[2]** *чаго* **І** *чым* Род.-Тв. Двухч. Ускладн. Рэлянты сумежжа. *Урэшце мы выйшлі з лесу і шлях пакаціўся ўніз* ***паміж кар'ера з аднаго боку і ўзрытай пусткаю з другога*** *і знік у тунэлі пад высокім насыпам аб'язной аўтастрады, за якой хаваўся Ракаў* (А.Кавальчук). *А* ***паміж лёду і вадою****, Ўнізе пад мёрзлаю зямлёю Пустое месца астаецца...* (Я. Колас). Сін. *паміж чым і чым.* Рус. ***между*** *чем* ***и*** *чем.*

**ПАМІЖ[3]-1** *кім/чым ды/і кім/чым*, (**з аднаго боку), І** *кім/чым*, (**з другога**): Тв.-Тв. Двухч. Ускладн. Рэлянты размежавання; увядзенне пабочных слоў абумоўлена пералічэннем і спалучальнай сувяззю ў адным з рэлянтаў: *Напачатку трэба правесці мяжу* ***паміж вінамі ды півам з аднаго боку й моцнымі спіртнымі напоямі з другога*** («Arche»). Сін. *між..., з аднаго боку, і..., з другога.* Рус. ***между*** *кем/чем,* ***с одной стороны, и*** *кем/чем,* ***с другой****.*

**ПАМІЖ[3]-2** *кім/чым* **І** *кім/чым* Тв.-Тв. Двухч. Ускладн. Рэлянты ўзаемасувязі ці размежавання: *Класікі як бы чытаюць «Кнігу прыроды», углядаюцца ў розныя яе праявы, імкнуцца знайсці вузлавую сувязь* ***паміж чалавекам і наваколлем*** (Т.І.Шамякіна). *... частата змяшаных шлюбаў* ***паміж белай жанчынай і чарнаскурым мужчынам*** *у параўнанні з частатой шлюбаў белага мужчыны і чарнаскурай жанчыны...* («Arche»). *Калі дзеля паэзіі жывеш І думы той паэзіі аддany, – Тады ніякіх не існуе меж* ***Паміж табой і поклічам жаданым*** (Л.Дранько-Майсюк). Сін. *між... і.* Рус. ***между*** *кем/чем* ***и*** *кем/чем.*

**ПАМІЖ[3]-3** *кім/чым* **І** *кім/чым* Тв.-Тв. Двухч. Ускладн. Рэлянты размежавання ў прасторы: лакатыў: *З сынам і жонкай сядзім на зялёнай, духмянай абочыне палявой дарогі* ***паміж пшаніцай і жытам*** (Я.Брыль). Рус. ***между*** *чем* ***и*** *чем.*

**ПАМІЖ[3]-4** *якім* **І** *якім* + *чым* (назоўнік адз.л.) / **ПАМІЖ** *якім* **І** *якім* + нуль-форма першага назоўніка Тв.-Тв. Двухч. Ускладн.

Рэлянты размежавання ў часе: прыблізны тэмпаратыў з дакладнымі пачатковым і канцовым момантамі: ***Паміж другім і трэцім годам*** *надзей з Сідарам здарылася такое, што ён лічыў нядрэнным козырам* (Я.Брыль). ▶ З рэдукцыяй назоўніка: *Ён быў бацькам дзевяці дзяцей, народжаных* ***паміж 1924 і 1940*** (Д.Голдгаген. Пер. А.Пяткевіча). Сін. *паміж ... і.* Рус. ***между*** *чем* ***и*** *чем.*

**ПАМІЖ³-5** *якім* **І** *якім + чым* (назоўнік мн.л.) Тв.-Тв. Двухч. Ускладн. Рэлянты размежавання ў прасторы: ***Паміж першым і другім абводамі*** *расцягнулі на зямлі сетку з «калючкі»* («Arche»). Рус. ***между*** *чем* ***и*** *чем.*

**ПАМІЖ³-6** *колькімі адзінкамі* **І** *колькімі адзінкамі* Тв.-Тв. Прыблізны квантытатыў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *Але цяпер яны раптам сталі «ідэалагічнымі байцамі», забіўшы ў той дзень* ***паміж 2000 і 2200 жыдоў*** *– мужчын, жанчын і дзяцей* (Д. Пер. А.Пяткевіча). Сін. *ад ... да.* Рус. ***от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**ПАМІЖ³-7** *чым* (Мн.л.) *чым/што* (Адз.л. імя ўласнага) **І** *чым/што* (Адз.л. імя ўласнага) Тв.-Тв./Наз.-Тв./Наз. Двухч. Ускладн. Рэлянты размежавання; пры адным класіфікатары: *Прастора* ***паміж рэкамі Лабай (Эльбай) і Дняпром****, у межах якой знаходзілася Палессе, была зямлёй невядомай* (навук.). ***Паміж імёнамі «Саша» і «Шура»*** *няма розніцы: гэта памяншальныя варыянты аднаго імя – «Аляксандр»; Сашура – Саша + Шура.*

**ПАМІЖ⁴-1** *чым мн.л. чаго* **І** *чаго* Тв.-Род.-Род. Двухч. Ускладн. Рэлянты суадносін частак розных цэлых: *Табліца павінна адлюстроўваць узаемасувязь* ***паміж значэннямі прыстаўкі і асновы*** (навук.). Рус. ***между*** *чем* ***и*** *чем чего.*

**ПАМІЖ⁴-2** *чым мн.л. каго* **І** *каго* Тв.-Род.-Род. Двухч. Ускладн. Рэлянты размежавання ў прасторы: ***Паміж хлявамі Цвіркі і Зелькі*** *зробленае перакрыццё з жэрдзя і картафлянiку* («Arche»). Рус. ***между*** *чем* ***и*** *чем чего.*

**ПАМІЖД** Дыялектн. (У гаворках Віцебшчыны).

ПАМІЖ МОМАНТАМ *чаго* І *чым*

ПАМІЗ *чым* (ППШ; без кантэкста).

ПА МІЛАСЦІ *каго*

**ПАМІМА-1** *каго/чаго* Род. Рэлят выключэння: *Братачка! Нашто ты сваю сястру так у балота топчаш? Яшчэ і* ***паміма цябе*** *яе людзі натопчуцца!* (Я.Купала). Сін. *акрамя.* Рус. ***помимо*** *кого/чего.*

**ПАМІМА-2** *каго/чаго* Род. Карытыў: *... яшчэ гэты клопат, такі неспадзяваны, – гэтае сватаўство; ён, напэўна, баіцца, што яно можа адбыцца* ***паміма яго волі*** (І.Шамякін). *Сярожа* ***паміма***

***свайго жадання*** *аказаўся ўцягнутым у плынь заводскага жыцця* (А.Кучар). *Усё стала як бы па-за яго* [Ігнася] *істотаю: вось робіцца ўсё на свеце* ***паміма яго****, далёка ад яго* (К.Чорны). ТСБПШ – прыназ. Сін. *без; без удзелу; незалежна ад.* Рус. ***помимо*** *кого/чего*.

**ПАМІМА-3** *чаго* Род. Рэлят уключэння: ***Паміма гарбарнай прамысловасці****, ёсць у Смагне і дзве цяслярскія майстэрні* (Ц.Гартны). ТСБПШ – прыназ. Сін. *акрамя.* Рус. ***помимо*** *кого/чего*.

**ПАМІМА ВОЛІ** *каго* / **ПАМІМА** *чыёй* **ВОЛІ / ПАМІМА ВОЛІ** Род. Характарызатар: *Вялікай праўдай мастацтва вее ад гэтага твора і ад яго негалоўнага героя, які,* ***паміма волі аўтара****, стаў галоўным, ад дзяўчынкі Вулькі* (А.Кучар: ТСБПШ). ▲ *І зноў цэлы рад вобразаў выплывае ў памяці* ***паміма яго*** [Лабановіча] *волі, і сэрца шчыміць болем утраты* (Я.Колас). ТСБПШ – наз. з прыназ.

**ПА МОДЗЕ** *чаго/якога часу/стылю* Род. Параўн.: рэлят адпаведнасці: ***Па модзе веку*** *Геранім Радзівіл трымаў дваровы тэатр % адных толькі сцэнічных прылад мелася дзесяць вазоў* (К.Тарасаў). *Было ў гэтым колеры, сукенцы, у старанна,* ***па модзе трыццатых гадоў,*** *укладзеных валасах, у светла-шэрых чаравічках на нізкім абцасіку і ва ўсёй яе паставе нешта цнатлівае і п'янкое, нібы семнаццацігадовая сталічная выдатніца выбралася з бацькамі на прыроду, але ўцякла ад іх, сядзіць ды марыць* («Arche»). *Вянчаў малады мазур, здаровы, харошы* ***па модзе тых гадоў****, такіх можна пабачыць на тадышніх вышываных карцінках: шатэн з няўрымсліва буйным чубам, густыя бровы, правільны твар, шырокае цела* («Arche»). ▲ *Ён ехаў на падводзе Пярэдняй, твар схаваўшы у каптур,* ***па модзе Манашай****, ды яго пазналі* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Сядло* ***па модзе ці турэцкай, ці казацкай*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *на манер; на ўзор.* Рус. ***по моде*** *чего/какого времени/стиля.*

**ПА МЯНУШЦЫ** *хто* Наз./Не кіруе склонам. Анамасіятыў: *Яшчэ на пачатку XX стагоддзя жылі тут цікавыя людзі – браты* ***па*** *прозвішчу ці* ***мянушцы Сілко*** («Звязда», 5.02.05). *Апошняя надзея была ўскладзена на службова-вышуковага сабаку* ***па мянушцы Лэдзі*** («Звязда», 15.02.05). *Паядынак за званне чэмпіёна свету адбыўся ў Лас-Вегасе. Сапернікам аказаўся двухразовы пераможца свету Цім Сільвія* ***па мянушцы Маньяк*** («Чырвоная змена», 15.04.05). *У поўным узаемапаразуменні са сваім чытырохногім сябрам* ***па мянушцы Грэсі*** *працуе старшы сяржант міліцыі Ленінскага раёна Магілёва Аляксандр Лушынскі* («Звязда», 31.05.05). *Князь Юрый Пінскі* ***па мянушцы Нос*** *на тую пару з'яўляўся пскоўскім намеснікам Вітаўта* (К.Тарасаў). *Нават і другу свайму, Івану Боха-*

*ну-Калошы, **па мянушцы Лётчыку**, ён* [дзядзька Захар] *не даваў уздымацца залішне высока* (Я.Брыль). Рус. ***по кличке** кто.*

**ПАМЯЦІ (Дав. адзін. л.)** *каго / якой* **ПАМЯЦІ** *каго / чыёй* **ПАМЯЦІ** Род. Адрасат прысвячэння: дэстынатыў: *Дзякуючы яго-най настойлівасці, на свіслацкім Востраве Слёз пабудавалі мемарыяльную капліцу **памяці** загінулых на той вайне беларускіх **хлопцаў*** (Ю.Нераток). «*Толькі праўда аб вайне можа прадухіліць вайну». З такіх слоў пачалася наша сустрэча са старшынёй Беларускага таварыства **памяці воінаў і ахвяр** Вялікай Айчыннай вайны, ветэранам, інвалідам вайны, кавалерам некалькіх ордэнаў Віктарам Афанасьевічам Краўцом* («Звязда», 24.03.05). *Вечар **памяці Адама Міцкевіча**, на якім была выканана літаратурна-музычная кампазіцыя, прысвечаная нашаму паэту-земляку, быў уключаны ў цыкл справаздачных канцэртаў Наваградскай дзіцячай школы мастацтваў* (Т.Сетчанка). ***Памяці героях** ванных гадоў прысвечана сімфанічная паэма «Партызанская быль»* («Родны край», 2009). ■ *Тэматычна ў тым жа рэчышчы знаходзяцца два апавяданні Генрыха Далідовіча пад агульным назовам «Новы свет», прысвечаных, як піша аўтар, «**Светлай памяці маёй роднай вескі**, якую я не пабачыў: яна была спалена ў 1943 годзе»* («ЛіМ»,11.06.04). Сін. *у памяць аб.* Рус. ***памяти** кого.*

**ПАМЯЦІ ПА** *кім/чым* Месн. Адрасат прысвячэння: дэстынатыў + дэліберятыў: ***Памяці па загінуўшых** у Вялікую Айчынную вайну цалкам прысвечаны майскі часопіс «Полымя» і падборка матэрыялаў часопіса «Маладосць»* («ЛіМ», 11.06.04). Сін. *у памяць аб.* Рус. ***в память о** ком/чем.*

**ПА** *колькі адзінак* **НА[1]-1** *каго/што* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Квантытатыў + дыстрыбутыў: *Ужываць **па** 1-2 капсулы **на** прыём.* ▬ *На абедзенны стол працоўных рэспублікі кожны дзень трэба пакласці каравай вагай 4-5 мільёнаў кілаграмаў. Гэта калі выпякаць усяго **па 400-500 грамаў хлеба на душу*** («Полымя», №2, 1988). *Кожны пераехаўшы атрымлівае пяць бюджэтаў пражытковага мінімуму пад'ёмных плюс **па 1 бюджэту на кожнага члена** сям'і* («Звязда», 22.06.05). *Паміж абедам і вячэрай прыносяць цукар: **па 20 г на нос*** (А.Мельнікаў). *Каб **па дзесяцёра на сані**, дык і то ўсіх не забраў бы* (А.Кулакоўскі). Рус. ***по** сколько единиц **на** кого/что.*

**ПА** *колькі адзінак, колькі разоў* **НА[1]-2** *адзінку часу / колькі адзінак, колькі разоў* **ПА НА[1]-2** *адзінку часу* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Квантытатыў + часавы дыстрыбутыў: *Для зняцця лёгкіх прыступаў удушша рэкамендуецца эфедрын у таблетках **па 0,025 г 3 разы на дзень** або ў ін’екцыях 5 % раствору **па 1 мл 1 – 2 разы на дзень***

(Асновы мед. ведаў). *Пры дробным апраменьванні сабакі* ***па 0,1 Гр на дзень*** *гібель жывёлы наступае, калі агульная доза дасягае 50 Гр* (Асновы мед. ведаў). ***Па некалькі разоў на дзень*** *робім сумесны праменад усцяж доўгага бальнічнага калідора* (В.Дашкевіч). *Часта перапісвацца, можа, і не было патрэбы, бо яны* ***разы па два, па тры на год*** *страчаліся* (І.Шамякін). Рус. ***по сколько единиц на*** *какую единицу времени.*

**ПА** *колькі адзінак* **НА[1]-З** *што* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Квантытатыў + прасторавы дыстрыбутыў; з назоўнікамі *гектар, круг* у другой частцы: *Сёлета выйшла* ***па 60 цэнтнераў*** *збожжа* ***на гектар****. Рапсу з кожнага гектара збіраюць* ***па 18 ц****, а ў Гродзенскай вобласці –* ***па 24 ц на круг*** (Інт.). С/г клішэ. Рус. ***по*** *сколько единиц* ***на*** *что*.

**ПА** *колькі адзінак* **НА[2]** *чым* / *колькіх адзінках вымярэння* Він.-Месн. Двухч. Ускладн. Квантытатыў + дыстрыбутыў: *Знаходзілі* ***па дзесяць грыбоў на адным месцы.*** ▬ *У кнізе каля 300 аркушаў. Пісана паўуставам у адзін слупок,* ***па 21 радку на старонцы*** (А.Пяткевіч). *Яна* [унірэма] *марудна выплыве з-за непаваротнага тулава магутнага танкера... таемная марская істота з магутнымі плаўнікамі-вёсламі –* ***па дванаццаць на кожным борце*** (Л.Дранько-Майсюк). Рус. ***по*** *сколько единиц* ***на*** *чем/скольких единицах измерения/исчисления.*

**ПА** *колькі адзінак/разоў* **НА** *якую адзінку вымярэння* **ЗА** *колькі адзінак часу* **ДА** *чаго* Він.-Він.-Він.-Род. Чатырохч. Ускладн. Квантытатыў + тэрмінатыў + дыстрыбутыў: *Працадзіце настой, прымайце* ***па 1 – 2 ст. лыжкі 3 – 4 разы на дзень за 15 – 20 хвілін да яды*** («Родны край», 2009). *Вазьміце 2 ст. лыжкі здробненых каранёў пятрушкі, памясціце іх у тэрмас, заліце 0,5 л кіпеню, дайце настояцца 8 – 10 гадзін, затым працадзіце і піце* ***па 1/4 – 1/3 шклянкі 3 разы на дзень за паўгадзіны да яды*** («Родны край», 2009). Мед. клішэ. Рус. ***по*** *сколько единиц* ***в*** *какую единицу исчисления* ***за*** *какое время* ***до*** *чего.*

**ПА** *колькі адзінак* **НА** *адзінку вымярэння колькі разоў* **НА** *адзінку часу* Чатырохч. Ускладн. Він.-Він.-Наз.-Він. Квантытатыў + тэрмінатыў + дыстрыбутыў: *Эратрыміцын прымаюць унутр* ***па 5000 – 10000 АД на кілаграм масы 4 разы на дзень*** (Асновы мед. ведаў). Рус. ***по*** *сколько единиц* ***на*** *какую единицу исчисления сколько раз* ***на*** *единицу времени.*

**ПА НАГЛЯДУ ЗА** *чым* Тв. Ускладн. Рубрыкатыў: *Пракуратурай* ***па нагляду за законнасцю*** *на дзяржаўнай мяжы і ў пагранічных войсках... узбджаны крымінальныя справы* («Звязда», 27.04.05). Сін. *па справах; па.* Рус. ***по надзору за*** *чем.*

**ПА НАГОДЗЕ** *чаго* / **ПА** *якой* **НАГОДЗЕ** Род. Прычын.: каўзатыў: ▲ *Яму рупіла запытаць, **па якой нагодзе** сам Госпад Бог прыслаў на ягоны панадворак такіх паважаных гасцей* (Р.Сабаленка). Рус. ***по поводу** чего.*

ПА-НАД

**ПА-НАД**[1] *што* Він. Прастор.: транзітыў/дырэктыў-фініш адносна ніжняга локума: *Хай імчыцца наша песня Птушкай **па-над гай*** (Я.Купала). *І Войскі праз акно **па-над** старых **галовы** Нагнуўся тварам, моўчкі слухаў іх размовы* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Падхапілі, ўзялі гусляра-старыка, Гуслі разам яго самагуды; **Па-над бераг круты**, дзе шумела рака, Павялі, паняслі на загубу* (Я.Купала). *Дым кадзільны – жар вершаў – прад светам Узнашу да Цябе **па-над хмары*** (У.Жылка). Ант. *па-пад.* Сін. *над.* ТСБМ, ТСБПШ – прыназоўнік. Рус. ***по-над** чем.*

**ПА-НАД**[2]**-1 / ПАНАД** *чым* Тв. Прастор.: лакатыў/транзітыў адносна ніжняга локума: *Ефрасіння Ігнатаўна паказала мне свой двор, сваіх качак, гусей, той ставок, **панад якім** ці даўно яны сталі з Поніным* (В.Карамазаў). *А як мы палезем, **па-пад нізам** ці цераз верх?* (А.Дынько). *...Няхай сабе распавядае, Што роспач не паз-быць таму, Хто па-сапраўднаму кахае; Што **па-над ястрабным х а ч у** М а г у жураўнае не ўстане І праз персідскую парчу Цвяток радзімы не прагляне* (Л.Дранько-Майсюк). *Праплыве гук баязлівы **Па-над лугам, па-над нівай** У знямелы свет, Ды зноў ціха-ціха стане* (Я.Колас). *Вярбіны, нахіленыя **па-над ракою**: як гэта плынь цячэ, а іх адлюстроўванні застаюцца?!* (А.Разанаў). *Даўно, ў дзіцячыя гады, Я пасадзіў тры жалуды На ўзгорку **па-над ручаём** За нашым вузенькім гумном* (П.Броўка). ***Па-над белым пухам** вішняў, Быццам сіні аганёк, Б'ецца, ўецца шпаркі, лёгкі Сінякрылы матылёк* (М.Багдановіч). Ант. *па-пад.* Рус. ***по-над** чем.*

**ПА-НАД**[2]**-2 / ПАНАД** *чым* Тв. *Ахрышчаны ў каталіцтва рымскага абраду, а потым стаўшы каталіком усходняга абраду, Рыгор Барадулін у сваёй паэзіі **па-над канфесіямі*** (Кс.У.Завальнюк). ТСБМ, ТСБПШ – прыназоўнік. Сін. *над; па-за.* Рус. ***вне** чего.*

**ПА-НАД**[2]-3 *чым* Тв. Прастор.: лакатыў-транзітыў адносна стрыжнёвага локума: *Ярасна цвіло **па-над шляхамі** жоўтае купалле* (У.Караткевіч). ТСБМ, ТСБПШ – прыназоўнік. Сін. *уздоўж; каля; па абодвух баках.* Рус. *у*: *Яростно цвёл **у дорог** жёлтый купальник* (пер. В.Щедриной).

**ПА** *колькі адзінак* **НА** *якую адзінку* **ДА** *чаго* Він.-Він.-Род. Трохч. Ускладн. Дыстрыбутыў + квантытатыў + тэрмінатыў: 1 *сталовую лыжку лекавых траў заліць кіпенем, настояць 1 – 2 гадзіны,*

*працадзіць. Прымаць* ***па*** $^{1}/_{4}$ ***шклянкі 3 – 4 разы на дзень да яды*** («Звязда»). Мед. клішэ. Рус. ***ио*** *сколько единиц* ***на*** *какую единицу исчисления* ***до*** *чего.*

ПА НАЗВЕ «*што»*

ПА НАЙМЕННІ/Ю «*што»*

ПА НАКАЗУ *каго*

**ПА НАКІРАВАННІ/Ю** *каго* / **ПА** *якім* **НАКІРАВАННІ** *каго* Род. Прычын.: падстава: [Дзед Фадзей] *Потым* ***па накіраванні Расіі*** *паехаў у Чэхаславакію, вучыўся на ветэрынара* (М.Танк). Рус. ***по направлению*** *кого.*

**ПА НАПРАМКУ** *чаго* Род. Дырэктыў-характарызатар: *Правіла правай шрубы: вярціце ручку свярдзёлка так, каб ён паступальна рухаўся* ***па напрамку току*** (падручн.). Сін. *у напрамку; у кірунку; у накірунку.* Рус. ***в направлениии*** *чего.*

ПА НАПРАМКУ АД *чаго*

ПА НАПРАМКУ З *чаго*

ПА НАПРАМКУ З *чаго* ДА *чаго*

ПА НАПРАМКУ К *чаму*

ПА НАПРАМКУ ДА *чаго*

**ПА НАПРАМКУ РУХУ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-фініш + напрамак: *Сіла* $F_1$ *верціць дыск супраць напрамку руху гадзіннікавай стрэлкі, а сіла* $F_2$ – ***па напрамку руху гадзіннікавай стрэлкі*** (падручн.). Фіз.-мат.клішэ. Рус. ***по направлению движения*** *чего.*

**ПА НАРМАЛІ ДА** *чаго* Род. Характарызатар: дырэктыў-фініш + напрамак: *Вектар... будзе накіраваны* ***па нармалі да вектара*** *скорасці V* (падручн.). Мат. клішэ. Рус. ***по нормали к*** *чему.*

**ПА НАЯЎНАСЦІ** *чаго* Род. Крытэрый: ***Па наяўнасці*** *ці адсутнасці* ***пахавальнага інвентара*** *магілы размяркоўваюцца наступным чынам...* («Гарадзенскія запісы», 1993 вып.1). Ант. *па адсутнасці.* Рус. ***по наличию*** *чего.*

ПА НЕАБХОДНАСЦІ *чаго*

ПА НЕДАГЛЯДУ *каго*

ПА *колькі адзінак,* НЕ БОЛЬШ

**ПА** *колькі адзінак,* **НЕ МЕНШ** Двухч. Ускладн. Дыстрыбутыў + квантытатыў з постпазіцыйным градуатарам: *Пасля, схіліўшыся, шапнуў Суддзі на вуха: «Калі жадаеце, каб выйшлі ўсе насуха, Ад кожнай галавы – па тысячы ў гатоўцы,* ***Па тысячы, не менш*** *– апошняе вам слоўца»* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *не менш чым па.* Рус. ***по*** *сколько единиц,* ***не менее.***

ПА НЕПРАДБАЧАНАСЦІ *каго*

**ПА НОРМАХ** *чаго* Род. Рэлят адпаведнасці: ***Па нормах пунктуацыі** XIX стагоддзя двукроп'е з працяжнікам ставілася і перад усякім другім сказам прамой мовы* (Г.Клюсаў). Сін. *згодна з нормамі*. Рус. ***согласно нормам** чего.*

**ПА НЯДБАЙНАСЦІ** *каго* Род. Сітуант: каўзатар: *Нашчадкі гэтага Smitha **па нядбайнасці пісарчукоў** сталі насіць ужо прозвішча Sith, якое пасля трансфармавалася пасля ў Syth і Sys* (Jan Kakupala). Сін. *па недагляду.* Рус. ***по халатности** кого.*

**ПА ПАВЕРХНІ** *чаго* Род. Прастор.: транзітыў: партытыў + камплетыў: *Месячны цень рухаецца **па паверхні Зямлі** з захаду на ўсход са скорасцю каля 1 км/с* (падручн.). *Індукаваныя зарады ў стане раўнавагі таксама размяркоўваюцца **па паверхні праваднiка*** (падручн.). *Сунецца лодка **па роўнай паверхні ракі**, і зусім не відаць таго, хто вяслуе* (М.Ваданосаў). Рус. ***по поверхности** чего.*

**ПА-ПАД** *чым* Тв. Прастор.: транзітыў адносна верхняга локума: – *А як мы палезем, **па-пад нізам** ці цераз верх?* (А.Дынько). // *Ой, пайду я па-пад морам, сіне мора грае*. Ант. *па-над.* ТСБПШ – прыназ.; абл. Рус. ***под** чем.*

**ПА ПАДАБЕНСТВУ ДА** *каго/чаго* Род. Крытэрый: *Сапраўды, калі Бог тварыў чалавека **па падабенству да Сябе**, то чаму Ён павінен адпрэчваць чалавека ад сябе ў справах тварэння рук ягоных?* (А.Лойка). Сін. *падобна да.* Рус. ***по подобию** своему.*

**ПА ПАДЛІКАХ** *каго* / **ПА** *якіх* **ПАДЛІКАХ** *каго* / **ПА** *чыіх* **ПАДЛІКАХ** Род. Аўтарызатар: *Аляксандр Мікалаевіч адзначыў, што, **па падліках энергетыкаў**, айчынныя квоты на шкодныя выкіды айчыннымі экспертамі ацэньваюцца ў межах ад 300 мільёнаў да 1 мільярда 200 мільёнаў долараў ЗША* («Звязда», 11.01.05). Сін. *згодна з падлікамі; па даных; па сведчанні.* Рус. ***по подсчетам** кого.*

ПА ПАДСТАВАХ *чаго*

ПА ПАДСТАВЕ *чаго*

**ПА ПАМЕЖЖЫ ПАМІЖ** *чым* **І** *чым* Тв.-Тв. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна рэлянтаў размежавання: *З узнікненнем Вялікага княства Літоўскага ён* (горад Мсціслаў) *апынуўся на юры, **па памежжы паміж княствам і Смаленскай зямлёй*** (У.Караткевіч). Сін. *на мяжы паміж; на тэрыторыі паміж ... і.* Рус. ***на пограничье между** чем **и** чем.*

ПА ПАМЫЛЦЫ *каго*

**ПАПАЛАМ З** *чым* / **З** *чым* **ПАПАЛАМ** Тв. Характарызатар: камітатыў: *Хлеба ледзь да каляд хапала, і то **папалам з мякінай*** (А.Чарнышэвіч: ТСБПШ). *Абрысы старадаўняй пушчы, святую смагу баек там – нутром на попел ператрушчу, змяшаю з друзам*

*папалам* (У.Хадыка: ТСБПШ). ◊ ***Папалам з бядою; папалам з горам*** – ледзьве-ледзьве, абы-як; для прыліку. ▬ *Янка і не дамагаўся вельмі сабе палавіны, ён і з трацяком упраўляўся* ***папалам з бядою*** (К.Крапіва). *Сяк-так дзядзька плечы й грудзі* ***папалам*** *памые* ***з горам****, але далей, кажа, – будзе, – раздзявацца, бачыш, сорам* (К.Крапіва). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. Рус. ***пополам с*** *чем.*

**ПА ПАРАДАХ** *каго/чаго* Род. Сітуант: каўзатар-канфірматыў: *Большасць з тых, каму давялося стаць ахвярамі сэкс-індустрыі за межамі Беларусі, зрабілі ўсё ж менавіта свядомы выбар. Пры гэтым, што самае сумнае, нярэдка* ***па парадах знаёмых*** *і са згоды ўласных бацькоў* («Звязда», 18.05.05). Сін. *па парадзе.* Рус. ***по советам*** *кого.*

**ПА ПАРАЗУМЕННІ/Ю З** *кім/чым* / **ПА** *якім* **ПАРАЗУМЕННІ/Ю З** *кім/чым* Тв. Сітуант: рэлят суладдзя: *Мне калісьці Леон Пастэрнак прыслаў цікавы дакумент Міністэрства ўнутраных спраў «Lewica literacka w Polsce», у якім напісана: «На беларускім участку... ужо ў жніўні ці верасні* ***па паразуменні з Сяргеем Сіняком з Казлоўшчыны і Пятром Петкуном*** *было вырашана стварыць гэту арганізацыю»* (М.Танк). Сін. *па ўзгадненні/ю*. Рус. ***по согласованию с*** *кем.*

ПА ПАРАДЗЕ *каго*

ПА ПАТРЭБАХ *чаго*

ПА ПАТРЭБЕ *каго/чаго*

ПА ПАЎНАМОЦТВУ *каго*

**ПА ПАХОДЖАННІ/Ю** *хто* (часцей, хоць склонам не кіруе) / *хто* **ПА ПАХОДЖАННІ/Ю** Наз./Не кіруе Ускладн. Генератыў: *Сапраўды, няўжо нам выракацца творчай спадчыны Мацея Стрыйкоўскага або Цыпрыяна Базыліка з тае толькі прычыны, што яны –* ***палякі па паходжанні*** (Ж.Некрашэвіч-Кароткая). *А калі ў беларускую прозу прыйшоў рабочы ці інтэлігент, то гэта быў пераважна ўчарашні селянін або* ***селянін па паходжанні*** (А.Мальдзіс). ***Беларус па паходжанні****, дзіця заходнепалескага краю, духам Пракапеня жыў далёка не косаўскім, не паляшуцкім* (Л.Дранько-Майсюк). Сін. *з; родам з.* Рус. ***по происхождению*** *кто.*

ПА ПАЧЫНУ *каго*

**ПАПЕРАД** *каго* Род. Час.: тэмпаратыў: *Ён прыехаў* ***паперад усіх*** (П.П.Шуба). *Мікіта не даў сябе ўпрошваць – адно перакуліў у рот* ***паперад усіх*** *сваю шклянку і, кусаючы на хаду ... хлеб, спехам падаўся да парога* (І.Чыгрынаў). Сін. *перш за.* Рус. ***поперек*** *кого.*

**ПАПЕРАДЗЕ-1***каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна рухомага локума: *І плыла гэта шчымлівая песня пра дзеву Марыю.*

***Папярэдзе міністранта**, што нёс жалезны крыж, **папярэдзе ксяндза**, пад ногі якому з плеценых маленькіх карзінак дзяўчаткі ... сыпалі кветачкі ...* (В.Адамчык). *Прасвечваецца школа **папярэдзе** ўсіх маіх **дарог*** (С.Панізьнік). ***Папярэдзе ўсіх** ляцеў легкакрылы анёл* (У.Караткевіч). *Аднойчы, задумліва ідучы **папярэдзе нас з Валяй** па галоўным праспекце горада, Валодзя раптам прыставіў указальныя пальцы да лба і, пры гэтым моцна, «па-бычынаму» рыкнуўшы, кінуўся ўслед за дзяўчынай...* (І.Гатоўчыц). *Ды то былі толькі кветачкі, бо ягадкі, як заўсёды, не **папярэдзе кветак**, а за імі...* (А.Лойка). – *Усё ў парадку! – тонам, які не пакідаў цею сумнення, сказаў Іваноўскі, праціскаючыся **папярэдзе яе*** [дзяўчыны] *ў вагон* (В.Быкаў). Рус. ***впереди** кого/чего.*

**ПАПЯРЭДЗЕ-2** *каго/чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Прасвечваецца школа **папярэдзе** ўсіх маіх **дарог*** (С.Панізьнік). [Ліцвін Заберазінскі] *у фаворы перад новым каралём Жыгімонтам аказаўся **папярэдзе яго*** [Глінскага] – *ужо былога аблюбенца караля Аляксандра* (А.Лойка). Сін. *наперадзе.* Рус. ***поперед** кого/чего.*

*адзін* **ПАПЕРАМЕННА З** *другім / адзін* **З** *другім* **ПАПЕРАМЕННА** Наз.-Тв. Характарызатар: Інтэрпаз. Ва ўзаемназваротных займенніках: ***Адзін паперменна з другім** абвяшчае адзін аднаму вайну; пасля гэтага нават той, каму была абвешчана вайна, загадвае выбягаючым з круга спыніцца* ((П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Рус. *друг **с** другом **попеременно.***

**ПАПЯРОЧНІКАМ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дымесціў з дакладнай верхняй мяжой: *Нягледзячы на невялікія памеры, камень адметны наяўнасцю на верхняй роўніцы 11 выемак глыбінёю да 3 і **папярочнікам да 5 см*** (Інт.). Сін. *у папярочніку.* Рус. ***до** сколких единиц **в поперечнике; диаметром до** скольких единиц.*

**ПА ПОВАДУ-1** *чаго* Род. Аб'ектн.: дэлібератыў: *Размовы **па поваду праекта*** (П.П.Шуба). ***Па поваду так званага пытання*** (назва твора У.І.Леніна ў перакладзе на бел. (ППШ). Сін. *пра.* Рус. ***по поводу** кого/чего.*

**ПА ПОВАДУ-2** *чаго* Род. Каўзатыў: *Артыкул наш напісаны не пра Абломава, а **па поваду Абломава*** (М.Дабралюбаў. Пер. П.П.Шубы). Сін. *з прычыны.* Рус. ***по поводу** кого/чего.*

**ПА ПРАБЛЕМАХ** *каго/чаго /* **ПА** *якіх* **ПРАБЛЕМАХ** *каго/чаго /* **ПА** *чыіх* **ПРАБЛЕМАХ** Род. Рубрыкатыў: *Міністэрства **па праблемах сям'і (па спорту** ёсць, **па моладзі** ёсць, а **па сям'і**, як у цывілізаваным свеце), –* няма (ЗЮ, №134-135). *Камітэт **па праблемах наступстваў** катастрофы на Чарнобыльскай АЭС пры Савеце Міністраў РБ* («Звязда», 18.02.05). *У апошнія гады міжнарод-*

*нае супрацоўніцтва **па праблемах Чарнобыля** набыло новы імпульс* (У.Цалко). *У камітэце **па праблемах наступстваў** катастрофы на Чарнобыльскай АЭС пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь* («Звязда»). *Мы абмеркавалі і прынялі рашэнні па развіццю спажыўкааперацыі, у Берастравіцкім раёне – **па праблемах службы** быту, а нядаўна на Лідчыне – па пытаннях адукацыі* («Звязда», 22.06.05). *Адразу пасля адкрыцця адбылося ўзнагароджанне пераможцаў рэспубліканскага конкурсу на лепшую публікацыю **па праблемах дзяржаўнага будаўніцтва*** («ЛіМ»). ■ *Канферэнцыя **па актуальных праблемах мовазнаўства***. Афіц. клішэ. Сін. *па справах; па пытаннях*. Рус. ***по проблемам** чего*.

**ПА ПРАВІЛАХ** *чаго* / **ПА** *якіх* **ПРАВІЛАХ** *чаго* / **ПА ПРАВІЛАХ** Род. Характарызатар: спосаб: ■ *Мы і будзем змагацца! Толькі без панікі і не як авантурысты, а **па ўсіх правілах ваеннай і партыйнай навукі*** (І.Мележ). Ант. *без правіл/аў.* Сін. *па законах.* Рус. ***по правилам** чего*.

ПА ПРАВУ *каго*

**ПА ПРАВАЙ СТАРАНЕ** *каго* Род. Суб'ектны лакатыў адносна асобы: *Па левай – Страпчая, а Спраўнік злы прыссаўся **Па правай старане** і кроўю напіваўся* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Ант. *па левай старане; леваруч ад.* Сін. *леваруч ад.* Рус. ***по правую сторону от** кого.*

**ПА ПРАВАХ** *каго* Род. Рубрыкатыў: *Сярод іх – 46 жанчын стаялі на чале міністэрстваў па сацыяльных пытаннях, 47 – **па правах жанчын** і гендэрных праблемах, 30 жанчын узначальвалі міністэрствы працы, 19 – міністэрствы замежных спраў, 15 – эканомікі, 22 – прамысловасці, 21 – юстыцыі* (Інт.). Сін. *па пытаннях.* Афіц. клішэ. Рус. ***по правам** кого.*

**ПА ПРАВЕ/У-1** *каго* / **ПА** *якім/якому* **ПРАВЕ/У** Род. Каўзатыў: статус: *Тадэвуш, хоць юнак, але **па праве госця** Высока сеў ля дам пры боку ягамосця* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). [Бушлат] *Цяпер ніхто яго не носіць, – Вісіць **па праву запаснога*** (М.Хведаровіч). ▲ ***Па якому праву** вы яго забіраеце?* Сін. *на правах.* Рус. ***по праву** кого.*

**ПА ПРАВЕ/У-2** *чаго* / **ПА** *якому* **ПРАВУ** *чаго* / **ПА ПРАВУ** Род. Каўзатыў: падстава: *Кніга напісана не **па праву заслуг і пакут**. Толькі **па праву любасці** да Чалавека – які ён ёсць, які ён будзе, бо павінен быць* (Я.Брыль). *У 1377 годзе, калі Альгерд на смяротнай пасцелі прызначыў сваім наступнікам Ягайлу, князь Андрэй палічыў сябе ўшчэмленым**: па праву першародства** вялікакняжацкая карона належала яму* (К.Тарасаў). || Прыслоўе: [Пра жанчын-партызанак]: *Лясныя рыцаркі – **па праву** Мне б хацелася назваць* (П.Броўка). Сін *па закону*. Рус. ***по праву** чего*.

**ПА ПРАВЕРЦЫ** *чаго* Род. Ускладн. Рубрыкатыў: *Нядаўна прыбыўшая ў Беларусь новая камісія* ***па праверцы налічэнняў*** *ад нямецкага боку зараз працуе з ім* [спісам прымусовых рабочых] («Звязда», 25.02.05). Сін. *па кантролю над*. Рус. ***по проверке*** *чего*.

**ПА ПРАВІЛАХ (Мн.л.)** *чаго* / **ПА** *якіх* **ПРАВІЛАХ** *чаго* / **ПА** *чыіх* **ПРАВІЛАХ** Род. Характарызатар: спосаб: *Вядома, што складанне і адыманне дробаў з аднолькавымі назоўнікамі зводзіцца да складання або адымання іх лічнікаў, таму гэтыя дзеянні над дзесятковымі дробамі ажыццяўляюцца* ***па правілах складання і адымання*** *натуральных лікаў* (навук.). *Расійскія бюджэтнікі ў Магілёве, па сутнасці, вучацца* ***па правілах гэтай краіны*** («Звязда», 4.01.05). Сін. *па законах*. Рус. ***по правилам*** *чего*.

**ПА ПРАВІЛЕ/У (Адз.л.)** *чаго* / **ПА** *якому* **ПРАВІЛЕ/У** *чаго* / **ПА** *чыім/чыйму* **ПРАВІЛЕ/У** Род. Характарызатар: спосаб: *Ператварэнне радыёактыўных ізатопаў у ізатопы іншых элементаў адбываецца* ***па правіле зрушэння*** (Асновы мед. ведаў). *Калі раздзяліць адрэзак, які мы прынялі за адзінку,* ***па правілу залатога сячэння,*** *атрымаецца, што большая частка будзе раўняцца 0,618, меншая – 0,382, а іх суадносіны – 1,618* («Звязда», 18.02.05). *Праваднік з токам, які знаходзіцца ў магнітным полі, прыходзіць у рух, кірунак якога вызначаецца* ***па правілу левай рукі*** (навук.). *Множанне комплексных лікаў выконваецца* ***па правілу множання*** *мнагачленаў з улікам знака ўяўнай адзінкі* (навук.). *Калі праваднік рухаецца каля паўночнага полюса статара, то ў ім індуцыруецца ЭРС, накіраванне якой вызначаецца* ***па правілу правай рукі*** *ад А да В* (падручн.). *Сілы трэба складваць* ***па правілу складання*** *вектараў* (падручн.). Фіз.-мат. клішэ. Сін. *згодна з правілам*. Рус. ***по правилу*** *чего*.

ПА ПРАВУЮ РУКУ АД *каго*

**ПА ПРАВЫ БОК-1** *каго/чаго* / **ПА** *чый* **ПРАВЫ БОК** Род. Аб'ектны лакатыў адносна цэнтральнага локума: *Паміж людзьмі ёсць хісткая мяжа, і перад ёю чалавек нямее****: па правы бок яе*** *блішчыць лязо нажа, па левы бок яе віно спагады спее* (В.Сахарчук). Ант. *злева ад*. Сін. *справа ад*. Рус. ***по правую сторону*** *чего*.

**ПА ПРАВЫ БОК-2** *каго/чаго* / **ПА** *чый* **ПРАВЫ БОК** Род. Прастор.: лакатыў адносна цэнтральнага локума: ***Па правы бок Бесядзі*** *тым часам ужо гаманілі Бабінавічы, якія пасля, калі рапрадавалі ў тутэйшых мясцінах каронныя землі, пачалі называцца мястэчкам* (І.Чыгрынаў). ***Па правы бок сцежкі,*** *перад тым як заступіць туды палыну, расла нейкая паўзучая трава* (І.Чыгрынаў). Ант. *па левы бок*. Сін. *па правы бераг*. Рус. ***по правую сторону*** *чего*.

ПА ПРАВЫ БОК АД *каго/чаго*

**ПА ПРАВЫМ БОРЦЕ** *чаго* Род. Ускладн. Аб'ектны лакатыў адносна судна: ▶ *Акрамя* <u>*сейнера*</u> *ў моры было яшчэ два судны.* ***Па правым борце*** *ішоў сейнер-напарнік. Па левым – імчала белым матылём Васілёва яхта* (У.Караткевіч).

**ПА-ПРАЗ** *што* Він. Транзітыў-перашкода: *Натоўп дзяўчат, жанчын, яшчэ жывых, йдзем зледзянелай тундры каляінай,* ***па-праз снягі****, мароз сцінае дых, мароз шукае песні салаўінай* (Л.Геніюш). Сін. *па ... праз.* Рус. ***по*** *снегам* + ***сквозь*** *снега.*

**ПА**[1] *колькі адзінак* **ПРАЗ** *які час* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Дыстрыбутыў + тэрмінатыў: *Прымаць* ***па 2 таблеткі праз кожныя тры гадзіны****.* Мед. клішэ. Рус. ***по*** *сколько единиц* ***через*** *сколько единиц времени.*

**ПА**[2] *чым* **ПРАЗ** *што* Месн.-Він. Двухч. Ускладн. Прастор.: транзітыў: *Я ехаў* ***па дарозе праз лес*** *і меркаваў аб усім, што здарылася* (У.Караткевіч). Рус. ***по*** *чему* ***через*** *что.*

**ПА** *колькі адзінак* **ПРАЗ** *які час* **ПАСЛЯ** *чаго* Він.-Він.-Род. Трохч. Ускладн. Дыстрыбутыў + тэрмінатыў + таксісны тэмпаратыў следавання: *Прымаць* ***па 2 таблеткі праз кожныя пяць гадзін пасля яды****.* Мед. клішэ. Рус. ***по*** *сколько единиц* ***через*** *сколько единиц времени* ***после*** *чего.*

**ПА** *колькі адзінак* **ПРАЗ** *які час* **ПЕРАД** *чым* Він.-Він.-Род. Трохч. Ускладн. Дыстрыбутыў + тэрмінатыў + таксісны тэмпаратыў папярэднасці: *Прымаць* ***па 2 таблеткі праз кожныя пяць гадзін перад ядой****.* Мед. клішэ. Рус. ***по*** *сколько единиц* ***через*** *сколько единиц времени* ***перед*** *чем.*

**ПА ПРАПАНОВЕ** *каго/чаго* Род. Каўзатар: ***Па прапанове старшыні*** *савета было вырашана, што найбольш заслужаныя прадстаўнікі караткевічазнаўства вартыя, калі не ўганаравання дзяржаўнымі ўзнагародамі, то хаця б грамадскага прызнання* («ЛіМ»). Син. *з падачы*. Рус. ***по предложению*** *кого.*

**ПА ПРАШЭСЦІ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў следавання: *Нават* ***па прашэсці часу*** *цікавасць навукоўцаў да праблемы не слабее* («Рэспубліка», 24.08.99). Сін. *пасля.* Рус. ***по прошествии*** *чего.*

**ПА ПРАФЕСІІ** *хто / хто* **ПА ПРАФЕСІІ** Наз./Не кіруе склонам. Рубрыкатыў: *Ён* ***па прафесіі*** *ўрач, а па хобі паэт.* ▬ *Свірыд, Емельянаў бацька,* ***фурман па прафесіі****, і не проста фурман, а панскі* (Я.Колас). Рус. ***по профессии*** *кто.*

**ПА ПРОЗВІШЧУ/Ы** *хто* Наз./ Не кіруе склонам. Анамасіятыў: *Яшчэ на пачатку XX стагоддзя жылі тут цікавыя людзі – браты* ***па прозвішчу*** *ці мянушцы* ***Сілко*** («Звязда», 5.02.05). *У Слоніме жыў заможны яўрэй* ***па прозвішчу Квінт*** (А.Іверс). *Дык вось, імя ў*

*яго Адам, Адам* ***па прозвішчы Нядзелька*** (Л.Дранько-Майсюк). Рус. ***по фамилии*** *кто.*

**ПА ПРОСЬБЕ** *каго* Род. Каўзатар: *Затым,* ***па просьбе Караткевіча****, Янка Брыль расказаў пра сваю нядаўнюю паездку ў Польшчу, дзе ён быў разам з С.Кірсанавым* (А.Мальдзіс). Рус. ***по просьбе*** *кого.*

**ПА ПРОЦІДЗЕЯННІ/Ю** *чаму* Дав. Рубрыкатыў: *Сітуацыя, як адзначыў падчас сустрэчы з журналістамі начальнік аддзела* ***па процідзеянню незаконнаму абароту*** *наркотыкаў МУС Беларусі Рамуальд Андрыеўскі, застаецца даволі складанай* («Звязда», 18.02.05). *Цэнтр створаны пры падтрымцы Міжнароднай арганізацыі па міграцыі ў рамках дзяржаўнай праграмы* ***па процідзеянню гандлю людзьмі*** («Звязда», 23.02.05). Афіц. клішэ. Ант. *па абароне.* Сін. *па барацьбе з.* Рус. ***по противодействию*** *чему.*

**ПА ПРЫЗНАННІ/Ю** *каго/чаго* / **ПА** *якім/якому* **ПРЫЗНАННІ/Ю** *каго/чаго* / **ПА** *чыім/чыйму* **ПРЫЗНАННІ/Ю** Род. Аўтарызатар: *Хведар Цімафеевіч Астаповіч,* ***па агульным прызнанні нізоў і вярхоў*** *– рабочых і начальства, – быў добрым гаспадаром* (І.Шамякін). Сін. *па сведчанні/ю.* Рус. ***по признанию*** *кого.*

**ПА ПРЫКЛАДЗЕ / ПА ПРЫКЛАДУ** *каго* / **ПА** *чыйму/чыім* **ПРЫКЛАДУ/ДЗЕ** Род. Аб'ект: рэлят параўнання: «*Аб'явіў нам ксёндз з амбоны, Што кесар дараваў,* ***па прыкладу Кароны****, Свабоду Княжаству Літоўскаму* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ***Па прыкладу нябёсаў*** *і зямля заспала* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Граф – пан і ў шляхты навакольнай у пашане,* ***Па прыкладу яго*** *і ўвесь павет паўстане* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Вось і Віктар Каліна* ***па прыкладу больш вопытных таварышаў*** *падпісаў кантракт ды пачаў ляпіць альбомы, як піражкі* («Звязда», 01.6.04.05). *Ёсць звесткі, што,* ***па прыкладзе Скарыны****, нашы майстры хацелі выдаць усё гэта ў перакладзе на простую мову, «каб научение людем ... ширилося»* (У.Караткевіч). *На ўзор саракагадовага вандравання, якое, пачаўшыся ў свята Пасхі, прывяло выбраны народ з егіпецкай няволі ў зямлю запаветную, а таксама* ***па прыкладу Самога Хрыста,*** *які сорак дзён знаходзіўся ў пустыні, Касцёл рыхтуецца да велікоднага трыдуума (тры дні, прысвечаныя разважанню над апошнімі днямі зямнога жыцця Збаўцы: Вялікі чацвер Вячэры пана, Вялікая пятніца Мукі пана і нядзеля З мёртвых паўстання)* («Родны край», 2007). Сін. *нападобе; па ўзору; на ўзор.* Рус. ***по примеру*** *кого.*

**ПА ПРЫМУСУ** *каго* Род. Каўзатар: канфірматыў: *У 1389 годзе канстанцінопальскі патрыярх Іерамія, вяртаючыся з Масквы, дзе* ***па прымусу Барыса Гадунова*** *заснаваў патрыяршаства, прыз-*

*начыў кіеўскім мітрапалітам менскага святара Міхаіла Рагазу* (К.Тарасаў). Сін. *пад націскам.* Рус. ***по принуждению** кого.*

**ПА ПРЫНЦЫПЕ/У-1** *чаго* **/ ПА** *якім/якому* **ПРЫНЦЫПЕ/У** *чаго /ПА якім/якому* **ПРЫНЦЫПЕ/У** Род. Характарызатар: метад: *Прамыванне пабудавана **па прынцыпе супольных сасудаў ці сіфону*** (Асновы мед. ведаў). *Апараты з аўтаматычным прывадам працуюць **па прынцыпе аўтаматычнага ўдзімання** ў лёгкія і адваротнага адсысання кіслароду ці кіслародна-паўтранай сумесі* (Асновы медыцынскіх ведаў). *Калі ж карыстальнікі – кафэ, бары, рэстараны – не маюць магчымасці прадаставіць такую інфармацыю ў рамках масавага выкарыстання твораў розных аўтараў, тады размеркаванне сродкаў – ганарараў – сярод аўтараў адбываецца **па прынцыпе «прыблізнай справядлівасці»**, якім карыстаюцца ў многіх краінах свету* (С.Кананові). *Адным з найпершых пытанняў, якое нярэдка ставілася ў нас напярэдадні пераходу нашых краін да уплаты ПДВ **па прынцыпу краіны прызначэння**, было наступнае: што адбудзецца з цэнамі?* («Звязда», 1.02.05). *Найбольш значныя гістарычныя падзеі часцей за ўсё адбываюцца ў канкрэтных часавых «кропках», якія суадносяцца паміж сабой **па прынцыпу залатой прапорцыі*** («Звязда», 18.02.05). *Самыя сучасныя сістэмы GPS аснашчаны картамі адраснай базы, з якой можна працаваць **па прынцыпу тэлефоннай кнігі*** («Звязда», 30.04.05). *Па дарозе дадому сустрэў бывалага рыбака, пасля гутаркі з якім зрабіў трохі грубаватую, але ўловістую снасць, якая працуе **па прынцыпу донкі*** («Звязда», 25.06.05). *Сфарміраваны **па прынцыпе календара**, альманах знаёміць нас з тымі з'явамі прыроды, што яскрава характарызуюць кожную з іх* (А.Зарэцкі). ▲*У Пушчы часта можна назіраць спалучэнне эпатажных вобразаў з характэрным нанізваннем іх адзін на другі **па прынцыпу калекцыі** ... **Па такому ж прынцыпу** пабудаваны, напрыклад, вядомы верш Я.Пушчы «Веснавое»...* (І.Э.Багдановіч). Сін. *па правіле/у.* Рус. ***по принципу** чего*.

**ПА ПРЫНЦЫПЕ/У-2** «*што*» Наз./Не кіруе склонам. Анамасіятыў: *Калі ты ўжо жывеш **па прынцыпе «размахніся, рука»,** то размахніся гэтай рукою на іх* [усіх гэтых кольчатых шаўкапрадаў, сасновых клапоў і г.д.] («Родны край», 2009). *Рэжысёр вырашае сітуацыю з трохкутнікам **па прынцыпе «Калі ў першым акце на сцяне вісіць стрэльба, то яна стрэліць у другім»*** (Інт.). Рус. ***по принципу «**что».*

**ПА ПРЫНЦЫПУ КАНТРАСТА З** *чым* Тв. Ускладн. Характарызатар: спосаб + адверсатыў: *Традыцыйныя вясковыя рэаліі злучаліся паэтам **па прынцыпу кантраста з лексікай** новай пострэ-*

*валюцыйнай рэчаіснасці* (І.Э.Багдановіч). Сін. *па кантрасту з.* Рус. ***по принципу контраста с*** *чем.*

**ПА ПРЫХОДЗЕ** *каго/чаго* Род. Ускладн. Прэдыкат экзістэнцыі + таксісны тэмпаратыў: *Цікавы погляд аўтара на стан беларускага тэатру* ***па прыходзе*** *ў Менск* ***немцаў*** *і праз тры гады пасля таго* (В.Мухін). ***Па прыходзе саветаў*** *імя Міколы Шчаглова-Куліковіча было надоўга сцёртае з гісторыі беларускае музыкі* (В.Мухін). Сін. *з прыходам.* Рус. ***с приходом*** *кого*. **ПА ПРЫЧЫНАХ (Мн.л.)** *чаго* / **ПА** *якіх*/**гэтых/невядомых/тых ПРЫЧЫНАХ** Род. Каўзатыў: *Расійскія гарады* ***па прычынах недахвату*** *ўнутранай* ***стабільнасці*** *ў лідары не трапілі* («Звязда», 14.04.05). || Наз. з прыназ. ***Па прычынах, пра якія*** *я не магу гаварыць, я сёння ўрокаў не зрабіў* (Ю.Сотнік). Рус. ***по причинам*** *чего.*

**ПА ПРЫЧЫНЕ (Адз.л.)** *чаго* / **ПА** *якой* **ПРЫЧЫНЕ** Род. Каўзатыў: *Не прыехаць* ***па прычыне хваробы*** – ППШ. *Уявіце сабе, што вось дарослы чалавек выбывае са строю* ***па прычыне хваробы****, яго хутка забывае начальства, бо якая ж з яго карысць?* (Г.Новік – М.Танку). Син. *з прычыны.* Рус. ***по причине*** *чего.*

**ПА ПЫТАННІ/Ю (Адз.л.)** *чаго* Род. Дэлібератыў: *На прэсканферэнцыі з гэтай нагоды пасол адзначыў, што Еўрасаюз застаецца адкрытым для дыялога з Беларуссю* ***па пытанню паступовага развіцця*** *двухбаковых адносінаў, хоць яны няпростыя* («Звязда», 12.03.05). *У ходзе размовы бакі абмяняліся думкамі* ***па пытанню падрыхтоўкі*** *да святкавання 60-годдзя Вялікай Перамогі* («Звязда», 09.04.05). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз.; кніжн.; у мастацкім стылі ўжываецца для стылізацыі кніжнасці: *У паліклініцы. «Здарова, Зойка, што ты тут робіш?» – «Я –* ***па пытанню зубоў****»* (Я.Брыль). Сін. *наконт.* Рус. ***по вопросу*** *чего.*

**ПА ПЫТАННЯХ (Мн.л.)** *чаго* Род. Рубрыкатыў: *У другой палове дня адбыліся семінар і нарада* ***па пытаннях супрацоўніцтва*** *Асацыяцыі кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў Беларусі з калегамі з Расіі* (А.Гаўрон). *Пасля яго* [старшыні праўлення] *апошняга выступлення* ***па пытаннях другога этапа*** *ў рэдакцыю амаль да нядаўняга часу не паступіла ніводнай скаргі ці пытання ад атрымальнікаў кампенсацый* («Звязда», 25.02.05). *Мяне прызначылі ў Саўміне рэспублікі старшынёй Камітэта* ***па пытаннях войска****, наогул,* ***усіх сілавых міністэрстваў*** (М.Чаргінец). *У другой палове дня адбыліся семінар і нарада* ***па пытаннях супрацоўніцтва*** *Асацыяцыі кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў Беларусі з калегамі з Расіі* (А.Гаўрон). *Ці лёгка судзіцца* ***па пытаннях аўтарскага права****?* С.Кананові*ч). *Мы абмеркавалі і прынялі рашэнні па развіццю*

*спажыўкааперацыі, у Бераставіцкім раёне – па праблемах службы быту, а нядаўна на Лідчыне –* ***па пытаннях адукацыі*** («Звязда», 22.06.05). *За 75 гадоў Інстытутам выдадзена каля 550 манаграфій і навуковых зборнікаў, падрыхтавана 18 выданняў навукова-каменціраваных збораў твораў, надрукавана звыш шасці тысяч навуковых артыкулаў, рэцэнзій* ***па пытаннях літаратуры і мастацтва*** (А.Данільчык). Афіц. клішэ. Сін. *па справах.* Рус. ***по вопросам*** *чего.*

**ПАПЯРОД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў-характарызатар: *Ах, зямля мая!... Як жа ты дрэнна ставішся да тых асінак, якія* ***папярод усіх*** *выбягаюць на поле, на святло. Першай засыпле іх снегам зіма, зламае вецер* (У.Караткевіч). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; абл. Сін. *паперад; перш за.* Рус. ***впереди*** *кого/чего*.

**ПАПЯРОК** *чаго* / **ПАПЯРОК** Род. Характарызатар руху адносна шырыні локума: ◊ *Стаяць* ***папярок горла*** – вельмі не падабацца. ▬ *Гэта было ў сорак чацвёртым, калі Сымон таксама ўжо перайшоў у лес да камуністаў, а Чарняка ўжо забілі ці то бульбаўцы з Украінскай паўстанцкай арміі, ці то свае ж галаварэзы, якім рамантык-камандзір не даваў красці па сёлах падсвечнікі й парцаляну і якім ён ужо* ***папярок горла*** *стаяў са сваімі «не зачапай»* (А.Дынько). || Прыслоўе: *Прайшоў я ўздоўж, папярок Беларусь* (М.Танк: ТСБПШ). ◊ ***Станавіцца папярок дарогі*** *каму* – перашкаджаць. Ант. *удоўж; уздоўж.* Сін. *упоперак.* Рус. ***поперек*** *чего.*

**ПА ПЯТАХ** *каго* Род. Характарызатар: суб'ектны транзітыў: *Мамай, відаць, святкаваў перамогу – татары ішлі* ***па пятах уцекачоў*** *і высякалі іх у спіну* (К.Тарасаў). Сін. *услед за.* Рус. ***по пятам*** *кого.*

**ПА РАДЫУСУ АД** *чаго* Род. Характарызатар руху: дырэктыўстарт: *Цяпер на кожную часцінку масай т, якая знаходзіцца на адлегласці... ад восі вярчэння, будзе дзейнічаць яшчэ і цэнтрабежная сіла інерцыі..., што ляжыць у плоскасці вярчэння часцінкі і накіраваная* ***па радыусу ад восі*** (падручн.). Фіз. тэрм. Рус. ***по радиусу от*** *чего.*

**ПА РАДЫУСУ ДА** *чаго* Род. Характарызатар руху: дырэктыўфініш: *Вектар ... будзе накіраваны па нармалі да вектара скорасці..., г. зн.* ***па радыусу да цэнтра*** *крывізны...* (падручн.). Фіз. тэрм. Рус. ***по радиусу к*** *чему.*

**ПА РАЗВІЦЦІ/Ю** *чаго* Род. Рубрыкатыў: *Мы абмеркавалі і прынялі рашэнні* ***па развіццю спажыўкааперацыі****, у Бераставіцкім раёне – па праблемах службы быту, а нядаўна на Лідчыне – па пытаннях адукацыі* («Звязда», 22.06.05). Афіц. клішэ. Рус. ***по развитию*** *чего.*

**ПА РАЗДАРОЖЖЫ** *чаго* Род. Прастор.: транзітыў: *Падмерзла зямля – стала суха, сонца ўзышло – стала слотна: жыву – нібы-*

*та іду **па раздарожжы сусветаў*** (А.Разанаў). Сін. *па мяжы.* Рус. ***по перекрестку** чего.*

**ПА РАЗЛІКАХ ЗА** *што* Він. Рубрыкатыў: *З лета мінулага года льгота **па разліках за электраэнергію** не пашыраецца на нашу сям'ю* («Звязда», 17.03.05). Канц. Сін. *па.* Рус. ***по расчетам за** что.*

**ПАРАЛЕЛЬНА** *чаму* Дав. Характарызатар: рэлят роўназалежнасці ў прасторы: *Насілкі ставяць нажным канцом да галаўнога канца ложка, а калі плошча палаты не дазваляе, то **паралельна ложку*** (Асновы мед. ведаў). *Уявім сабе, што кожнае з цел Т1 і Т2 складаецца з вельмі тонкіх пласцінак аднолькавай таўшчыні, размешчаных **паралельна плоскасці а,** падобна таму як тоўсты пачак паперы складаецца з тонкіх лістоў* (падручн.). *Нерухомая катушка зроблена з тоўстага проваду і ўключаецца ў ланцуг паслядоўна з нагрузкай, а рухомая мае вялікую колькасць віткоў тонкага проваду, з'яўляецца катушкай напружання і ўключаецца ў ланцуг **паралельна нагрузцы*** (падручн.). *Рудая хвастатая хмара сунулася далёка за вышынямі над грэйдэрам, што цягнуўся на ўсход **паралельна плыні** Дона* (М.Шолахаў. Пер. М.Лужаніна). *Гасцінец пралягаў **паралельна чыгунцы*** (А.Ставер: ТСБПШ). ТСБПШ – прысл. ў знач. прыназ. Ант. *перпендыкулярна.* Сін. *паралельна з/са.* Рус. ***параллельно** чему.*

**ПАРАЛЕЛЬНА З/СА-1** *кім/чым* / **З** *кім/чым* **ПАРАЛЕЛЬНА** Тв. Рэлят роўназалежнасці ў часе: *Надоі павялічваюцца **паралельна з ростам ураджаяў*** (ППШ). ***Паралельна з увядзеннем** салявых раствораў праводзіцца антыбактэрыяльная тэрапія тэтрацыклінамі* (Асновы мед. ведаў). ***Паралельна з асвячэннем** вады ў народзе жыла традыцыя ў пэўныя дні года хадзіць да крыніц...* («Звязда», 4.01.05). ***Паралельна з тэхнічным водазабеспячэннем і абвадненнем** Свіслачы Вілейска-Мінская водная сістэма застанецца рэзервам пітнога забеспячэння на выпадак экстранных сітуацый і аварый* («Звязда», 4.01.05). *У Мінскім медуніверсітэце тэрміны прыёму сёлета зменяцца і залічэнне будзе весціся **паралельна з іншымі ВНУ*** («Звязда», 11.03.05). ***Паралельна з выданнем** фальклорнай спадчыны, гэтага залатога фонду беларускай народнай культуры, мы займаліся і тэарэтычным яго асэнсаваннем* (А.Ліс). ***Паралельна са мною** жылі і рабілі кар'еру людзі параўнальна са мною пустыя, нікчэмныя і нават паскудныя* (К.Крапіва). ТСБПШ: спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Ант. *паслядоўна; следам за; перад.*Сін. *паралельна; адначасова з.* Рус. ***параллельно с** кем/чем.*

**ПАРАЛЕЛЬНА З/СА-2** *кім/чым* / **З** *кім/чым* **ПАРАЛЕЛЬНА** Тв. Рэлят роўназалежнасці ў прасторы: *Нарэшце падышлі да таго*

*месца, дзе **паралельна з абозам** пралягала чыгунка* (М.Машара). ТСБПШ: спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Рус. ***параллельно с** кем/чем.*

**ПА РАСКРЫЦЦІ/Ю** *чаго* Род. Рубрыкатар: *Самае цяжкае пакаранне атрымаў былы старшы оперупаўнаважаны аддзела **па раскрыццю злачынстваў**, звязаных з крадзяжом аўтамабіляў* («Звязда», 9.02.05). Афіц. клішэ. Рус. ***по раскрытию** чего.*

**ПАРАЎНАЛЬНА З/СА** *кім/чым* Тв. Рэлят параўнання: ***Параўнальна з тэкстамі** савецкага часу мяняецца накіраванасць публіцыстычнага тэксту, трансфармуюцца камунікатыўныя ўстаноўкі журналіста* (В.І.Іўчанкаў). *Паралельна са мною жылі і рабілі кар'еру людзі **параўнальна са мною** пустыя, нікчэмныя і нават паскудныя* (К.Крапіва). ***Параўнальна з перыядам ВКЛ** рэзка ўзрасла сярэдняя населенасць двара – цяпер яна складала 8,8 чалавек* (Інт.). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Сін. *у параўнанні з*. Рус. ***сравнительно с** кем/чем.*

**ПАРАЎНАЎЧА З/СА** *кім/чым* Тв. Рэлят параўнання: *Параўнаўча з тым, што нам трэба было для барацьбы, гэта адзінкі* (І.Шамякін). *Сучасная тэхніка **параўнаўча з прымітыўнымі прыладамі** працы* (ППШ). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Сін. *у параўнанні з.* Рус. ***сравнительно с** кем/чем.*

**ПА РАШЭННІ/Ю** *каго/чаго* Род. Каўзатыў-канфірматыў: *Памятная дошка ўсталявана **па рашэнні Магілёўскага гарвыканкама** пры ўваходзе ў абласны Цэнтр здароўя* («ЛіМ»). ***Па рашэнню раённага антыфашысцкага камітэта** ісці ў горад выпала мне* (А.Іверс). Рус. ***по решению** кого/чего.*

**ПА РОДУ** *чаго* Род. Рубрыкатыў: *Штогод абследаванне павінны праходзіць людзі, якія **па роду сваёй дзейнасці** шырока кантактуюць з людзьмі* («Звязда», 16.02.05). *... забяспечыць бяспеку ... камандзіраваных за межы Рэспублікі Беларусь грамадзян РБ, якія маюць **па роду сваёй дзейнасці** допуск да дзяржаўных сакрэтаў ...* («Звязда», 17.05.05). Рус. ***по роду** чего.*

**ПАРОЮ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў адначасовасці: *Вось стольнік заклікаў малойчыка ліхога І ў замку частаваў, бо **выбараў парою** Ён меў шмат галасоў з сябрамі і раднёю* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *у час*. Рус. ***во время** чего.*

**ПА РУБЯЖЫ-1 «***што – што...»* Наз.-Наз. Лакатыў-анамасіятыў: *... па рубяжы **Дзітва –Лебяда – Нёман***. Сін. *па лініі.* Рус. ***по рубежу «**что – что...».*

**ПА РУБЯЖЫ-2** *чаго* Род. Лакатыў: *Яго* [Заходняга фронту] *сілы, што засталіся, ужо не маглі стварыць суцэльнага фронту*

*абароны на У* [усход] *ад Мінска* ***па рубяжы р. Бярэзіна*** (Энцыкл. гіст. Беларусі, т.1). Сін. *па лініі.* Рус. ***по рубежу*** *чего.*

**ПА РУКАХ** *каго* Род. Суб'ектны транзітыў: пасэсар: ***Па руках мінчан*** *хадзілі іхнія* [ссыльных] *фатаграфіі, гараджане ўсяляк імкнуліся зрабіць высокародным людзям хаця б нейкую палёгку* (У.Караткевіч). Сін. *сярод; у.* Рус. ***по рукам*** *кого.*

**ПАРЫВАМІ ДА** *колькіх адзінак* **У** *адзінку часу* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой + дыстрыбутыў: *Моцны вецер* ***парывамі да 25 – 30 м/с****, які прайшоў па тэрыторыі рэспублікі, стаў прычынай пашкоджанняў* («Звязда», 11.01.05).

**ПА РЭКАМЕНДАЦЫІ** *каго* / **ПА** *якой* **РЭКАМЕНДАЦЫІ** *каго* / **ПА** *чыёй* **РЭКАМЕНДАЦЫІ** Род. Каўзатар-канфірматыў: *Этнічныя беларусы, якія з'яўляюцца грамадзянамі Расіі і пражываюць на яе тэрыторыі,* ***па рэкамендацыі*** *беларускіх* ***таварыстваў або ўстаноў*** *адукацыі могуць залічвацца ў беларускія ВНУ па-за конкурсам* («Звязда», 24.03.05). Ант. *без рэкамендацыі.* Сін. *пры падтрымцы.* Рус. ***по рекомендации*** *кого.*

**ПА СВЕДЧАННІ/Ю** (**Адз.л**.) *каго/чаго* Род. адз.л. Аўтарызатар: *А штуршком для напісання аповесці,* ***па сведчанні*** *самога* ***аўтара****, з'явілася інфармацыя па рэспубліканскім радыё пра чарговага беларускага «рабінзона», які з вайны вартуючы схаваныя ўладамі ў лесе царкоўныя каштоўнасці, вымушаны быў сам паўстагоддзя хавацца ад людзей* («ЛіМ»). *Будавалі Наваградак на месцы літоўска-дрыгавіцкага паселішча, якое,* ***па сведчанні Нарбута****, мела назву Жоўны* (К.Тарасаў). ***Па сведчанні акадэміка Ліхачова,*** *мастацтва Шагала вырасла з глебы народнай яўрэйскай культуры, народнай беларускай культуры і рускага лубка* (Л.Дранько-Майсюк). Сін. *па звестках.* Рус. ***по свидетельству*** *кого.*

**ПА СВЕДЧАННЯХ** *каго/чаго* Род. мн.л. Аўтарызатар: ***Па сведчаннях мемуарыстаў*** *XVII стагоддзя, выкладчыкі калегій, а адпаведна і настаўнікі брацкіх і пратэстанцкіх школак нацкоўвалі вучняў на іншаверцаў – біцца з аднагодкамі, абражаць дарослых, кідаць камяні ў вокны, распачынаць бойкі, крычаць услед папам і манахам «схізма», «недаверак» і г д.* (К.Тарасаў). Сін. *па звестках; згодна з данымі.* Рус. ***по свидетельствам*** *кого.*

**ПА СІЛАХ**[1] *каму* / *каму* **ПА СІЛАХ** Дав. Ускладн. Прэдыкатыў: мадалізатар алетычнай магчымасці эксперыенцэра: *Пачынаючым тэрарыумістам Алег параіў спачатку перачытаць адпаведную літаратуру, каб вызначыць для сябе, што канкрэтна яны хочуць трымаць дома, і пераканацца, што справа сапраўды* ***ім па сілах***

(«Звязда», 5.02.05). Сін. успамагальны дзеяслоў *магчы.* Рус. ***по силам*** *кому.*

**ПА СІЛАХ**[2] *што зрабіць* Інф.; не кіруе склонам. Прэдыкатыў: мадалізатар алетычнай магчымасці дзеяння: *Вам **па сілах стварыць** вакол сябе гарманічную абстаноўку і дарыць навакольным цяпло і радасць* («Звязда», 12.02.05). Сін. успамагальны дзеяслоў *магчы.* Рус. ***по силам*** *кому.*

ПА СІЛЕ *што зрабіць*

**ПА СІСТЭМЕ «***што»* Наз. Анамасіятыў: *Думаю, вельмі хутка прыйдзе час, калі кандыдатуры прадпрыемстваў, якія не стандартызаваны **па сістэме ISO**, тэндэрнымі камісіямі нават разглядацца не будуць, – дзеліцца дырэктар ДРБУ* («Звязда», 28.01.05). *У Беларусі **па сістэме ХАССП** ужо працуюць такія прадпрыемствы, як «Камунарка», «Слодыч», «Спартак», «Акватрайпл», «Дарыда»* («Звязда», 12.02.05).

**ПА СКАНЧЭННІ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў следавання + фаза завяршэння дзеяння: ***Па сканчэнні разгляду** справы будзе ўручана судовая павестка з патрабаваннем выплаты штрафу* («Наша слова», №35). Ант. *перад пачаткам.* Сін. *пасля завяршэння.* Рус. ***по окончании*** *чего.*

**ПА СЛОВАХ** (**Мн.л**.) *каго* Род. Аўтарызатар: *Якраз гэта і было тое месца, дзе, **па словах бабкі**, Міхалку налучыла тое здарэнне* (Я.Колас). *Яе* [Камілы Марцінкевіч] *гурток, **па словах В.Кошчыца**, «згуртаваў усё, што было самае патрыятычнае»* (У.Караткевіч). Сін. *па сведчанні.* Рус. ***по словам*** *кого.*

**ПА СЛОВУ (Адз.л.)** *каго* Аўтарызатар: ***Па слову Ангельскага гімна**, сапраўдны мір можа ўсталявацца толькі тады, калі ён будуецца на падмурку Божага закону жыцця і пры ўмове добрай волі людзей* (Мітрапаліт Філарэт). Сін. *па словах.* Рус. ***по словам*** *кого.*

***ПАСЛЯ*** ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.

**ПАСЛЯ-1** *чаго* Род. Час.: лакатыў: ***Пасля павароту** на поўдзень будзе мост.* **—** *Па дарозе на Нарач, напрыклад, каля (да ці **пасля** – не памятаю) вёскі Талуць, ён Куляшоў заўсёды казаў: «Асцярожней, Валерый, скінь газ»* («ЛіМ», 1.02.85). Сін. *за.* Рус. ***после*** *чего.*

**ПАСЛЯ-2** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў паслядоўнасці падзей: ***Пасля размовы** выйшаў з кабінета Рыкаў* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Было якраз **пасля яе заручын*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ***Пасля вяртання** з палону Грас некаторы час працуе на шахце, затым – вучнем у каменячоса, майстра па вырабу надмагільных пліт* (Е.А.Лявонава). ▶ *Карыстаючыся тым, што я схаваны ад іх хмызамі, а сцежка ідзе пад гару, я ўзяў боты ў рукі і даў па сцежцы такі клас*

*бегу, якога не даваў ніколі да* <u>*гэтага*</u> *і бадай што ніколі –* ***пасля*** (У.Караткевіч). *Нас забыццё запыніць на імгненне Ў памяці халоднай, як зямля. А наше ўмецтва і няўменне Лёс мусіць некаму аддаць* ***пасля*** (смерці – *М.К.)* (Р.Барадулін). || Прыслоўе ў функцыі злучальнага слова: *Паслухай споведзі маёй,* ***пасля*** *са мною Рабі што хочаш* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ↔ **П*асля таго як; пасля таго калі. Пасля таго як*** *бацька і мачыха благаславілі маладых на вянчанне, пад віск дудкі, плач гармоніка і буханне бубна Гання і Яўхім выйшлі на двор* (І.Мележ). Ант. *напярэдадні: Грас... замоўчвае гістарычнае банкруцтва правых колаў СДПГ* ***напярэдадні і пасля Першай сусветнай вайны*** (Е.А.Лявонава). Сін. *за;* злучальнае слова *потым.* Рус. ***после*** *чего.*

**ПАСЛЯ-3** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў адносна храналагічнага арыенціра: ***Пасля Каляд. Пасля Вялікадня***. ━ *Вяселле наладжвалі* ***пасля Пакроваў****, калі трохі ўправіліся з гаспадаркай* (І.Чыгрынаў). Рус. ***после*** *чего*.

**ПАСЛЯ-4** *колькіх гадоў* Род. Характарызатар з градуатарам: *Устаноўлена, што найбольшая доля захворванняў прыпадае на асоб* ***пасля сарака гадоў*** (Асновы мед. ведаў). Сін. *старэй; ва ўзросце больш за.* Рус. ***после*** *скольких лет;* ***старше*** *скольких лет.*

**ПАСЛЯ-5** *чаго* Род. Крытэрый-арыенцір: *Згадваю філасофскі вітраж Нэлі Шчаснай: мужчына і жанчына як андраген: адно цела знізу і раздвоеныя* ***пасля паясніцы****, нават рукамі адштурхоўваюць адно аднаго* (І.Шаблоўская). Сін. *каля.* Рус. ***выше*** *чего.*

**ПАСЛЯ-6** *колькіх гадзін/якога часу* **вечара/ночы/дня/раніцы** / *гадзін* **ПАСЛЯ** *колькіх /якога часу* **вечара/ночы/дня/раніцы** Род. Час.: тэмпаратыў адносна дакладнага часу пары сутак: ***Гадзін пасля шасці вечара*** *мы праязджаем праз сяло Домжарыцы* (В.Вольскі). Рус. ***после*** *какого времени* ***вечера.***

*колькі адзінак часу* **ПАСЛЯ-1** *чаго* Наз.-Род. Ускладн. Квантытатыў + тэмпаратыў: *Калі сардэчная дзейнасць толькі што спынілася* ***(30 – 40 сек. пасля страты прытомнасці)****, то перад перад пачаткам штучнай вентыляцыі лёгкіх трэба паспрабаваць узнавіць работу шляхам надсардэчнага ўдару. Для гэтага выратавальнік падымае сціснуты кулак на вышыню 20 – 30 см ад паверхні грудной клеткі і с сілай апускае яго на грудзіну* (Асновы мед. ведаў). Рус. *сколько единиц времени* ***после*** *чего.*

*колькі адзінак часу* **ПАСЛЯ-2** *якой адзінкі часу* Час.: тэмпаратыў (паказчык часу на пытанне *Каторая гадзіна?*): *Тры гадзіны* ***пасля*** *палудня* (В.Гамбровіч. Пер. В. Булгакава). Рус.: *три часа* ***пополудни/дня****.*

**ПАСЛЯ АПУБЛІКАВАННЯ** *чаго* Род. Ускладн. Час.: тэмпаратыў + прэдыкат экзістэнцыі: *Ужо цяпер, **пасля апублікавання** ў перыёдыцы першых **кніг** гэтых раманаў, я не знаходжу пакуль што падстаў лічыць іх значнымі літаратурнымі з'явамі* (Я.Брыль). Сін. *пасля выхаду/з'яўлення.* Рус. ***после публикации** чего.*

**ПА СЛЯДАХ-1** *каго/чаго* / **ПА** *якіх* **СЛЯДАХ** *каго/чаго* / **ПА** *якіх/чыіх* **СЛЯДАХ** Род. Прастор.: транзітыў: *Мы думалі іх спачатку пусціць **па слядах Свеціловіча**, калі цябе заб'юць, але Свеціловіч сядзеў з намі да наступнага дня, а Варона быў паранены* (У.Караткевіч). *Я **па слядах Францішка Скарыны** Абвандраваў дзяржавы ўсёй Еўропы* (М.Клімковіч). ***Па слядах вайны** ішлі крывавыя зарывы, сірочыя коміны спаленых вёсак* (М.Лынькоў). ■ *Зроблена гэта* [фрэскі] ***па свежых слядах здарэння**, і зроблена здорава* (У.Караткевіч). ↔ **Там дзе; туды дзе.** Сін. *за; следам за.* Рус. ***по следам** кого.*

**ПА СЛЯДАХ-2** *каго* / **ПА** *якіх* **СЛЯДАХ** *каго* / **ПА** *якіх/чыіх* **СЛЯДАХ** Род. Канфірматыў: «*Пераемнасць традыцый», «славутыя дынастыі», «дзеці ідуць **па слядах бацькоў**»...* («ЛіМ»). Сін. *за; па традыцыі; па звычаях.* Рус. ***по стопам** кого.*

**ПА СЛЯДАХ-3** *чаго* / **ПА** *якіх* **СЛЯДАХ** *чаго* / **ПА** *якіх* **СЛЯДАХ** Род. Дэлібератыў: *А я адзін прайдуся – у памяці – «недзе там», **па слядах нашай маладосці**...*(«ЛіМ»). ***Па слядах мінулага стагоддзя*** (загаловак у «Звяздзе», 25.06.05). Сін. *аб; пра; у думках аб.* Рус. ***по следам** чего.*

**ПАСЛЯДОЎНА** *чаму* Дав. Рэлят суаднесенасці: *Электрамагніт / мае абмотку з тоўстага правад, якая з'яўляецца токавай і ўключаецца ў ланцуг **паслядоўна нагрузцы*** (падручн.). Ант. *паралельна.* Рус. ***последовательно** чему.*

**ПАСЛЯДОЎНА З/СА** *чым* Тв. *Нерухомая катушка зроблена з тоўстага правад, з'яўляецца токавай і ўключаецца ў ланцуг **паслядоўна з нагрузкай**, а рухомая мае вялікую колькасць віткоў тонкага правад, з'яўляецца катушкай напружання і ўключаецца ў ланцуг паралельна нагрузцы* (падручн.). Ант. *паралельна.* Рус. ***последовательно с** чем.*

**ПАСЛЯ ЗАВЯРШЭННЯ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў следавання + фаза завяршэння дзеяння: ***Пасля завяршэння загрузкі** абалонкі на рабочы стол «раскладваецца» прамавугольнае акно асноўнай праграмы з назвай «Диспетчер программ»* (падручн.). Ант. *перад пачаткам.* Сін. *пасля заканчэння.* Рус. ***после завершения** чего.*

**ПАСЛЯ ЗАКАНЧЭННЯ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў следавання + фаза завяршэння дзеяння: ***Пасля заканчэння 10 абаротаў** адлік часу спыняецца* (падручн.). *Медыцынскі персанал, які*

*працуе ў халерных аддзяленнях,* ***пасля заканчэння працы*** *праходзіць поўную санітарную апрацоўку* (Асновы мед. ведаў). *Дапамагала ёй у працы і тое, што* ***пасля заканчэння вучылішча*** *чатыры гады працавала на зборачным канвееры Мінскага гадзіннікавага завода* (газ.). ***Пасля заканчэння сярэдняй школы*** *Яўгенія Мінаўна паступіла ў Магілёўскі машынабудаўнічы тэхнікум* («Звязда», 13.01.05). ***Пасля заканчэння выставы*** *фірмам-удзельніцам мы прапануем на працягу года узяць удзел у профільных семінарах* («Звязда», 28.01.05). Ант. *перад пачаткам.* Сін. *па заканчэнні*; *пасля*. Рус. ***по окончании*** *чего.*

**ПАСЛЯ ЗАХАДУ** *чаго*/**сонца/ месяца** Род. Час.: тэмпаратыў адносна палажэння нябесных свяціл: *Венеру і Меркурый можна ўбачыць вечарам* ***пасля захаду Сонца****, ці раніцай, перад узыходам* (падручн.). Ант. *перад захадам; перад узыходам; пасля ўзыходу*. Рус. ***после захода*** *чего.*

**ПАСЛЯ ЗОНЫ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў + класіфікатар: *Гэтым і тлумачыцца тое, што* ***пасля зоны маўчання****, на адлегласці каля 150-200 км і больш, можна зноў пачуць моцны выбух* (падручн.). Сін. *за.* Рус. ***после зоны*** *чего.*

**ПАСЛЯ** *колькіх адзінак часу* **ПА ЗАВЯРШЭННІ** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: тэмпаратыў + фаза канца дзеяння: «*Я прысвячаю гэту перамогу душы нябожчыка Ясіра Арафата, – заявіў ён* [Махмуд Абас] *перад натоўпам сваіх прыхільнікаў* ***пасля дзвюх гадзін па завяршэнні галасавання*** («Звязда», 11.01.05). Рус. *сколько единиц времени* ***спустя после*** *чего.*

*колькі адзінак часу* **ПАСЛЯ ПАЧАТКУ** *чаго* Род. Ускладн. Час.: тэмпаратыў + пачатковая кропка дзеяння: ***Колькі дзён пасля пачатку «плану Барбароса»*** *ён наладзіў у горадзе Беластоку жахлівую крывавую лазню, якой лёсіла набыць высокае сімвалічнае значэнне* (Д.Голдгаген. Пер. А.Пяткевіча). Рус. ***через*** *сколько единиц времени* ***после начала*** *чего.*

ПАСЛЯ ЎЗЫХОДУ *чаго*/сонца/месяца

**ПАСЛЯ** *якога* **ПРАМЕЖКУ** *чаго* Род. Двухч. Ускладнн. Час.: тэмпаратыў: *Але толькі* ***пасля некаторага прамежку часу*** *мы пакінулі кабінет Гіпаліта* (В.Гамбровіч. Пер. В. Булгакава). Рус. ***через*** *некоторый* ***промежуток*** *чего.*

**ПАСЛЯ ПРЫХОДУ** *каго/чаго* Род. Ускладн. Час.: тэмпаратыў + экзісцыянтыў: ***Пасля прыходу*** *ў верасні 1939 г.* ***Чырвонай Арміі і савецкай улады*** *А.Луцкевіч быў арыштаваны і этапіраваны ў Мінск* (С.Г.Буель). Сін. *з прыходам*. Рус. ***после прихода*** *кого/чего.*

**ПАСЛЯ СКАНЧЭННЯ** *чаго* Род. Тэмпаратыў: ***Пасля сканчэння следства*** *Танка выпусцілі да суда пад залог 200 злотых*

(У.Калеснік). Ант. *перад пачаткам.* Сін. *па сканчэнні.* Рус. ***по окончании*** *чего.*

**ПА СПЛЫВЕ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў следавання + фаза завяршэння дзеяння: *Адпускай свой хлеб па ўдзячных водах, Каб яго знайшлі **па сплыве дзён*** (Р.Барадулін). Ант. *на досвітку.* Сін. *па заходзе; па заканчэнні; на сконе.* Рус. ***по завершении*** *чего.*

**ПА СПОСАБЕ/У** *чаго* Род. Характарызатар: спосаб: *Саджанцы для жывога паркана садзяць **па спосабу «ёлачкі»*** (Інт.). || Назоўнік з прыназ.: *Надмагільная кладка амаль круглай формы, **па спосабе** ўтварэння адносіцца да 1-га тыпу* («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). Рус. ***по способу*** *чего.*

**ПА СПРАВАХ-1 (Мн.л.)** *каго/чаго* Род. Рубрыкатыў: *Камісія **па справах непаўналетніх.** — Ад імя расійскай дэлегацыі выступіў намеснік міністра **па справах друку і СМІ РФ** Валерый Сіражэнка* (А.Гаўрон). *Як адзначыў начальнік аддзела **па справах ветэранаў і пажылых людзей** Іван Нагібін, у цэлым, калі мінулі ўжо гады, сітуацыя з сацыяльнай абароненасцю воінаў-афганцаў палепшылася* («Звязда», 16.02.05). *І ўвогуле трэба помніць, што пастановай Дхзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР **па справах будаўніцтва** і калегіі Міністэрства культуры БССР 7 ліпеня 1971 года Мсціслаў уваходзіць у лік гарадоў, што маюць каштоўныя горадабудаўнічыя ансамблі і комплексы, прыродныя ландшафты і культурны слой* (У.Караткевіч). Сін. *па пытаннях.* Рус. ***по делам*** *кого/чего.*

**ПА СПРАВАХ-2** (**Мн.л.**) *каго/чаго* Род. Фінітыў: *Прыехаў таварыш з Мінска **па справах камсамольскай ячэйкі*** (газ.). Сін. *з мэтай; у сувязі з.* Рус. *по делам кого/чего.*

**ПА СПРАВЕ-1 (Адз.л.)** *чаго* Род. Рубрыкатыў: *Шчука, мабыць, будзе далей весці следства **па справе ўзлому**...* (У.Караткевіч). Сін. *па справе аб.* Рус. ***по делу о*** *чем.*

**ПА СПРАВЕ-2 (Адз.л.)** *чаго* Род. Каўзатыў: матыў: *У 1930 г. Б.Эпімах-Шыпіла беспадстаўна быў арыштаваны **па справе «Саюза вызвалення Беларусі»*** («Родны край», 2009). Сін. *у сувязі з.* Рус. ***по делу*** *чего.*

ПА СРАЎНЕННЮ З *кім/чым* Русізм (ППШ).

ПАСРЭДНІЦТВАМ *каго*

**ПА СТАНЕ/У** *чаго* Род. Каўзатыў: унутраная прычына-перашкода; як правіла, ужываецца з назоўнікамі *здароўе, душа*: *Хтосьці **па стану душы** пачне больш займацца сабой і звяртаць увагу на свой знешні выгляд* («Звязда»,18.02.05). *Калі чалавек **па стану здароўя** не можа прыйсці на ўрачыстасць, то прадстаўнікі мясцовай улады ўручаць медаль дома ў ветэрана* («Звязда», 17.03.05). *Бацька*

*быў белабілетнік, не прыгодны да воінскай павіннасці **па стану здароўя**, таму яго вызвалілі ад салдацкай службы* (А.Астрэйка). *У людзі выбіўся толькі мой брат Міша, якога **па стану здароўя** з арміі камісавалі* («Звязда», 10.02.04). *Цяжкасці, звязаныя з выкананнем указа, прымусілі першага дырэктара вучылішчаў Ф.В.Сазановіча **па стане здароўя** звольніцца, замест яго і быў прызначаны І.М.Ястрабцоў «*Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). Рус. ***по состоянию*** *чего.*

**ПА СТАНЕ/У НА** *якую дату* Він. Час.: тэмпаратыў адзнакі храналагічнага часу (год, чысло): ***Па стану на 1 студзеня 2009 г.*** *1 амерыканскі долар па курсу Нацыянальнага банка РБ роўны 2600 беларускім рублям* (З тэлеперадачы). ***Па стану на 9 студзеня*** *інтэнсіўнасць уздыму узроўню вады дасягала 20 – 50 сантыметраў за суткі* («Звязда» 11.01.05). ***Па стану на 2000 год*** *17 тысяч дзяцей з прыроднай паталогіяй сардэчна-сасудзістай сістэмы мелі патрэбу ў дапамозе* («Звязда», 4.01.05). ***Па стану на 1 лютага*** *паслугамі мабільнай сувязі ў Беларусі карыстаюцца больш як 2,5 мільёна чалавек, альбо практычна чвэрць насельніцтва краіны* («Звязда», 3.02.05). ***Па стану на пачатак кастрычніка мінулага года*** *ў Беларусі было зарэгістравана толькі 213 таварыстваў уласнікаў жылля* («Звязда», 4.02.05). *База даных змяшчае звесткі пра незалежныя дзяржавы Еўропы **па стану на 1995 г.*** (падручн.). *Аднак **па стану на сённяшні дзень** запасы яе* [тарфакрошкі] *ў нашым раёне практычна вычарпаны* («Перамога», 11.02.86). Рус. ***по состоянию на*** *какое число.*

ПА СТАПАМ *каго* ◊ ***Па стапам бацькоў***. Русізм.

**ПА СТВАРЭННІ/Ю** *чаго* Род. Рубрыкатыў: *Вёў работу **па стварэнні бальшавіцкіх груп і арганізацый*** (ППШ). Афіц. клішэ. Рус. ***по созданию*** *чего.*

◊ ПА СТРОГАСЦІ закона / ПА ўсёй СТРОГАСЦІ закона

**ПА СТУПЕНІ** *чаго* Род. Крытэрый: *Вышэйшы – самы высокі **па ступені развіцця*** (ТСБМ). Рус. ***по степени*** *чего.*

**ПА СУТНАСЦІ** *чаго* Род. Дэлібератыў: ***Па сутнасці зададзенага пытання*** *нам паведамілі наступнае* («Звязда», 5.02.05). Юр. клішэ. Рус. ***по существу*** *чего.*

**ПА СУКУПНАСЦІ** *чаго* Род. Рубрыкатыў: *Па сукупнасці гадавога даходу.* Афіц. клішэ. Рус. ***по совокупности*** *чего.*

**ПА СУСЕДСТВУ/Е З/СА-1** *кім/чым* Тв. Прастор.: лакатыў: *Новы дом узвялі – у дварах, **па суседству з вакзалам –** высачэзны, прыгажэнны, а ўжо расфарбаваны...* («Звязда», 01.6.04.05). ***Па суседству з маім домам*** *сталі новыя, сучасныя ў сэнсе архітэктуры* (І.Навуменка). *З-за моцнага задымлення пажарным прыйшлося эвакуіраваць 15 чалавек з кватэр, якія знаходзяцца **па суседстве з вог-***

***ненебяспечным жыллём*** («Звязда», 17.01.08). ***Па суседству з тым сталом****, за якi селi Стась i Андрэй, прымасцiлiся два чалавекi, з выгляду мешчанiн i селянiн* (Я.Колас). Сiн. *блiзка ля*. Рус. ***по соседству с*** *кем/чем.*

**ПА СУСЕДСТВУ/Е З/СА-1** *кім* Тв. Ускладн. Характарызатар: лакатыў + камітатыў-суэкзісцыентыў: *Начавалі ў глыбінках, часцяком на сенавалах, у хлявах, бывала –* ***па суседству з коньмі або козамі*** (І.Гатоўчыц). *І тут, бачыце, выдра жыве* ***па суседству з бабром*** (В.Вольскі). Сін. *у суладдзі з; блізка да*. Рус. ***по соседству с*** *кем.*

ПА СХЕМЕ «*што – што*»/*чаго*

**ПА СХІЛАХ (Мн.л.)** *чаго* / **ПА** *якіх* **СХІЛАХ** *чаго* / **ПА** *якіх* **СХІЛАХ** Род. Ускладн. Транзітыў: партытыў + камплетыў: ***Па схілах рачных далін*** *рыхлы матэрыял, які ўтварыўся ў выніку разбурэння гор, падае, скочваецца, змываецца вадой уніз* (падручн.). ▲ *Стасю не дужа хочацца карабкацца* ***па крутых схілах*** А.Асіпенка). Рус. ***по склонам*** *чего.*

**ПА СХІЛЕ/У (Адз.л.)** *чаго* Род. Транзітыў: партытыў + камплетыў: *Мы пакрочылі* ***па схілу лясного ўзгорка****, збіраючы свежыя пралескі* (К.Кірэенка). Рус. ***по склону*** *чего.*

**ПА СЦВЕРДЖАННІ/Ю / СЦВЯРДЖЭННІ/Ю** *каго* Род. Аўтарызатар: *У змене мастацкіх плыняў імажынізму адводзілася вызначальная роля, бо ён,* ***па сцверджанні Шаршаневіча****, пераўзыйшоў усе папярэднія стылі, уключаючы сімвалізм і футурызм, дасканаласцю матэрыяла і майстэрствам формы* (І.Э.Багдановіч). *Спуск да Здароўца (вада тут,* ***па сцвярджэнні старых людзей****, «здаравіла, вылечвала») быў прыкрыты выбітым брукам* (У.Караткевіч). Сін. *па сведчанні.* Рус. ***по утверждению*** *кого.*

**ПА СЦЕЖКАХ-1** *чаго* Род. Сітуатыў-характарызатар: *Здаецца, на першы погляд, мы свядома кіраваліся* ***па сцежках скандалаў****, бударажылі «верных ленінцаў» ды прыхільнікаў соцрэалізму* (Ю.Гумянюк). *Думка просіцца ў ісціны на пастой, Наблукаўшыся* ***па сцежках вякоў*** *сіратой* (Р.Барадулін). *І ён* [Караткевіч] *ніяк не мог зразумець, чаму яму нельга хадзіць* ***па сцежках гісторыі****, а толькі па сучасным праспекце (*А.Асіпенка). Сін. *следам за; па слядах*. Рус. ***по тропам*** *чего.*

**ПА СЦЕЖКАХ-2** *каго* Род. Ускладн. Прастор.: транзітыў + пасэсар: *Ісці* ***па сцежках Гётэ*** *– як на злом галавы* (У.Караткевіч). Сін. *следам за.* ↔ **Там дзе**. Рус. ***тропами*** *кого.*

**ПА СЦЭНАРЫІ/Ю-1 Месн.** *каго* / **ПА** *якім/якому* **СЦЭНАРЫЮ** *чаго* / **ПА** *чыім/чыйму* **СЦЭНАРЫЮ** Род. Ускладн. Характарызатар: агенс + канфірматыў + рэлят адпаведнасці: *Фабрыка*

*Белдзяржкіно працуе зараз над вялікім гукавым фільмам «Шукальнікі шчасця»* ***па сцэнарыю заслужанага дзеяча мастацтва Кобеца****...* (Інт.). *Быў паказан мастацкі фільм, зняты яшчэ ў 1991 годзе* ***па сцэнарыю Валянціны Коўтун*** (Інт.).

**ПА СЦЭНАРЫ/Ю**-2 *чаго* Рэлят прыпадабнення: *Святы праводзіліся ў асноўным* ***па сцэнарыю паганскіх Калядак****, але ў аснову іх тэматыкі і атрыбутыкі пакладзены біблейскія тэксты* (Інт.). Сін. *па; па схеме; па плану; падобна да.* Рус. ***по сценарию*** *чего.*

***ПАСЯРОД*** ТСБПШ – прыназоўнік.

**ПАСЯРОД-1** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна цэнтра локума: «*Умывальнік вунь у сенцах», – паказала Суля на філянговыя, з вострым ромбікам* ***пасярод планак****, непрычыненыя дзверы* (В.Адамчык). *Не цяжка ўзяць яго ні трошкі, Калі хартоў паставіць* ***пасярод дарожкі*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ▶ *А* ***пасярод*** *капліца жудка, як астрог, На свет глядзела вокнамі сляпымі* (Я.Купала). *Крыж заткнуў* [сын Божы] ***пасярод земскае кулі****, як штандар пабедны* (Я.Купала). ◊ ***Пасярод дарогі*** **–** не даехаўшы да патрэбнага пункту. ▬ *Трасе цялежка, падкідае па калдобінах, усё роўна як хоча яна выкінуць мяне* ***пасярод дарогі*** (Я.Колас). ◊ ***Пасярод дарогі стаць (быць, стаяць)*** **–** вельмі перашкаджаць каму-небудзь.▬ – *Каго ж ты, злыдзень, хацеў звесці са свету?– абурана пытаў Багдан, намацваючы нагамі разору. – Хто табе гэтак стаў* ***пасярод дарогі****?* (А.Кулакоўскі: ТСБПШ). Ант. *па краях.* Сін. *пасярэдзіне.* Рус. ***посреди*** *чего.*

**ПАСЯРОД-2** *чаго* Род. Камплексіў: ***Пасярод дзяцей*** *хлопчык вылучаўся вельмі светлымі, амаль белымі валасамі* (Інт.). ▶ *І свой рай мы маем для душы: не шулак, не печышча старое – мілы кут, бацькоўскі даўні род, ціхую рачулку пад гарою з залатой лілеяй* ***пасярод*** (У.Ракаў). *Ускудлачаныя галовы мужчын у першых радах. Стракатыя хусткі жанчын* ***пасярод*** (І.Шамякін: ТСБПШ).

**ПАСЯРОД-3** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *Недзе* ***пасярод гарачага дня****, калі ва ўсе вочы глядзела ліпеньскае сонца і не было ратунку ад сляпнёў нават у пушчы, сахаты патупаў да ракі* (І.Чыгрынаў). Сін. *у пару.* Рус. ***в середине*** *чего.*

**ПАСЯРОД** *аднаго* **З** *чаго* Род. – Род. мн.л. Ускладн. Прастор.: лакатыў + элементыў + множнасць: *З яго чарназёмнымі падворкамі ды рознакаляровымі ад ранішняга дажджу брукаванкамі,* ***пасярод адной з якіх*** *можна заўважыць выразны абрыс вялізнага чырвонага каменя ў форме сэрца* (С.Берасцень). Рус. ***посреди*** *одной* ***из*** *чего.*

**ПАСЯРОДКУ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Наша хата чапурылася якраз жа* ***пасяродку вёскі****, дзелячы яе на Камзэтаўку і Ма-*

*цярык* («ЛіМ», 30.04.04). *Суворы і незнаёмы багемаўцам хлуд спыніўся* ***пасяродку залы*** *і застыў у самай пагрозлівай, на якую толькі быў здольны, паставе* (А.Мінкін, В.Галкоў). Сін. *пасярод.* Рус. ***посередке*** *чего.*

**ПАСЯРЭДЗІНЕ-1** *чаго* Род. мн. л. Прастор.: лакатыў (з колькасна-іменным спалучэннем): *Вёска Чарсцвяты на Ушаччыне была падобна на карабель. Яна ўладкавалася на высокім ўзгорку* ***пасярэдзіне двух*** *блакітных-блакітных, чысцюткіх* ***азёр****, акаймаваных лесам* (А.Слука). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *паміж.* Рус. ***посередине*** *чего.*

**ПАСЯРЭДЗІНЕ-2** *чаго* Род. адз.л. Прастор.: лакатыў: ***Пасярэдзіне вуліцы*** *стаяла рабая карова і махала з жывёльнай абыякавасцю доўгім хвастом* (І.Пташнікаў). *Бульвар – шырокія прысады на гарадской вуліцы, звычайна* ***пасярэдзіне яе*** (ТСБМ). ***Пасярэдзіне вострава*** *расце некалькі вялізных старых ялін* (В.Вольскі). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *на сярэдзіне.* Рус. ***посреди*** *чего.*

**ПАСЯРЭДЗІНЕ МІЖ** *чым* **І** *чым* Тв.-Тв. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў з рэдуплікацыяй: *Тут рашэнне, як часта бывае,* ***пасярэдзіне між музыкай і сэнсам*** (У.Караткевіч). Сін. *паміж.* Рус. ***посередине между*** *чем* ***и*** *чем.*

**ПАТАРЧ** *чым* Тв. *Чы пень, чы калода, усё* ***патарч носам*** (нар.). Сін. *сторч.* Рус. ***торчмя*** (наречие).

**ПА ТОЙ БОК-1** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Такі выпадак заўсёды можа быць, я гэта ведаю, бо сам ваяваў. Асабліва цяпер, калі* ***па той бок фронту*** *і па гэты бок тыл вялікі* (І.Чыгрынаў). *Нават ці здагадвалася яна, што чакае яе* ***па той бок ракі****?* (В.Быкаў). ***Па той бок чыгункі*** *іх яшчэ не заўважылі* (В.Быкаў). *А як будзе адной* ***па той бок Нёмана****?* (В.Быкаў). *Я сам тутэйшы і здаўных ведаў, што* ***па той бок хвойнага лесу****, за берагавымі ўзгоркамі, ёсць добрая гліна* (К.Чорны). *Яна сядзела* ***па той бок стала****, амаль насупраць госця, але сама не дакранался ні да чога* (І.Чыгрынаў). *За распятым на сцяне акном,* ***па той бок шыбін****, існаваў яго, Андрэеў, дарагі сэрцу край – сховішча салодкіх згадак і такіх светлых і шчымлівых цяпер успамінаў* (М.Карпечанка). Ант. *па гэты бок*. Сін. *па другі бок; на тым баку*. Рус. ***на той стороне*** *чего*.

**ПА ТОЙ БОК-2** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў: *Жаданне зазірнуць* ***па той бок заслоны*** *не раз апаноўвала Уладзіміра Караткевіча* (П.Васючэнка). Сін. *за.* Рус. ***по ту сторону*** *чего.*

**ПА ТОЙ БОК-3** *чаго* Род. Час: тэмпаратыў: *Выпілі спачатку пакрысе, пасядзелі, а потым нехта карты прынёс, і ён, у выніку,*

*аж **па той бок ночы** дамоў заявіўся* (В.Доўнар). Сін. *пасля.* Рус. ***во второй половине** чего/какой части суток.*

**ПА ТРАДЫЦЫІ (Адз.л.)** *чаго / якога часу* Род. Каўзатыў-канфірматыў: ***Па традыцыі сярэдневечча**, якой цвёрда прытрымоўваліся і ў Заходняй і ва Ўсходняй Еўропе, князь прымаў непасрэдны ўдзел у бітве: ці адразу, з першых хвілін, ці пазней, калі сам вёў у бой рэзервы* (К.Тарасаў). Сін. *па звычаі.* **Рус. *по традиции*** *чего.*

ПА ТРАДЫЦЫЯХ (Мн.л.) *каго*

**ПА ТЫПЕ/У** *чаго* Род. Рэлят прыраўнівання: *Задышка змяняецца рэдкім арытмічным булькаючым дыханнем **па тыпе Чэйна – Стокса*** (Асновы мед. ведаў). *Адзін з распятых ужо разбойнікаў – **па тыпу расстрыга**, па носу запівоха – пакасіўся на іх і застагнаў, закаціўшы вочы* (У.Караткевіч). *Аграгорад – вялікі сельскі населены пункт, які пабудаваны **па тыпу горада** і які з'яўляецца цэнтрам буйной вытворчасці сельскагападарчай адзінкі* (ТСБМ). Сін. *накшталт.* Рус. ***по типу** чего.*

**ПА ТЭМЕ** *чаго* Род. Рубрыкатыў-дэліператыў: *Трэці дзень форума партызанаў – гэта навукова-практычная канферэнцыя **па тэме партызанскага руху**, падполля, увогуле ўсенароднага супраціўлення на тэрыторыі Беларусі як важнага фактару ў перамозе над фашызмам* («Звязда», 17.03.05). Сін. *па пытаннях.* Рус. ***по теме** чего.*

**ПА ТЭРМІНЕ/У** *чаго* Род. Рубрыкатыў: «*Бярэзінскі лясгас» – трэці **па тэрміну існавання** лясгас у Мінскай вобласці* («Звязда», 10.02.05). Рус. ***по срокам** чего.*

**ПА ТЭРЫТОРЫІ** *чаго* Род. Прастор.: транзітыў: *Моцны вецер парывамі да 25 – 30 м/с, які прайшоў **па тэрыторыі рэспублікі**, стаў прычынай пашкоджанняў* («Звязда», 11.01.05). *Атрады брыгады ўдзельнічалі ў разгроме варожай камендатуры ў Любані, у рэйдзе **па тэрыторыі Мінскай, Палескай і Пінскай абласцей**, у баях з карнікамі* («Звязда», 15.02.05). ***Па тэрыторыі нашай краіны** Заходняя Дзвіна працякае ўсяго 350 км* (падручн.). Рус. ***по территории** чего.*

**ПА** *колькі адзінак* (*колькі разоў*) **У/Ў¹-1** *адзінку часу* Він.-Він. Двух/трохч. Ускладн. Квантытатыў + дыстрыбутыў у часе: *Пры цяжкіх формах прамянёвай хваробы з першага дня пасля апраменьвання праводзіцца лячэнне сульваніламідамі пралангаванага дзеяння ці антыбіётыкамі (оксацылін, ампіцылін **па 0,5 г унутр 4 разы ў суткі**)* (Асновы мед. ведаў). *Ампіцылін назначаюць унутр незалежна ад прыёму ежы дарослым **па 0,5 г 4 – 6 разоў у суткі*** (Асновы мед. ведаў). Мед. клішэ. Рус. ***по** сколько единиц сколько раз **в** единицу времени.*

**ПА-2** *колькі адзінак/чым/чаму* **Ў¹-2** *адзінку адлічэння* Наз./ Месн./Дав.-Він. Двухч. Ускладн. Квантытатыў + дырэктыўны дыстрыбутыў па аб'ектах: *На такім участку маглі змагацца з крыжакамі не больш 10 – 11 харугваў, калі ўзяць сто метраў на кожную, гэта значыць* ***па 50 чалавек у шэраг****, і 68 – 10 шэрагаў у глыбіню* (К.Тарасаў). // *А, гэткія паны!* ***Па тры ў штаны.*** Рус. ***по*** *сколько единиц* ***в*** *что.*

**ПА** *колькі адзінак* **У²** *чым* Наз. Двухч. Ускладн. Квантытатыў + лакатыўны дыстрыбутыў па аб'ектах: *Направа адкрываліся баявыя парадкі крыжакоў – кліны мелі* ***па 30 – 40 рыцараў у шарэнзе*** *і шэрагаў дваццаць у глыбіню* (К.Тарасаў). Рус. ***по*** *сколько единиц* ***в*** *чем.*

**ПА ЎВАХОДЗЕ Ў** *што* Він. Час.: таксісны тэмпаратыў следавання: *27 чэрвеня 1941 г.,* ***па ўваходзе ў Беласток****, які быў заняты немцамі, як і многія іншыя гарады, без барацьбы, камандзір батальёну Эрнст Вайс загадаў сваім людзям «прачасаць» жыдоўскі квартал і сагнаць усіх жыхароў мужчынскага полу* (Д. Голдгаген. Пер. А.Пяткевіча). Ант. *да ўваходу ў.* Рус. ***по вторжении в*** *что.*

**ПА** *колькі адзінак* **У ГЛЫБІНЮ** Він. Двухч. Ускладн. Дыстрыбутыў + дыменсіў: *Аднак і тры калоны* ***па пятнаццаць кіламетраў у глыбіню –*** *карціна ўражлівая* (К.Тарасаў). Рус. ***по*** *сколько единиц* ***вглубь.***

**ПА** *колькі адзінак* **УГЛЫБІНЮ НА** *якую адзінку адлічэння* Він. – Він. Двухч. Ускладн. Дыстрыбутыў + дыстрыбутыў: *Шчыльнасць агню, напрыклад, на Сямёнаўскіх флешах была такая, што французы хадзілі ў атакі калонамі* ***па 50 – 60 чалавек углыбіню на кожны пагонны метр фронту*** (К.Тарасаў). Рус. ***по*** *сколько единиц* ***вглубь на*** *какую единицу отсчета.*

**ПАЎЗ-1** *што* Він. Прастор.: несупрасторавы лакатыў: ***Паўз леску*** *ў Марфы была расадніца, накрытая парваным брэднем, Марфа павярнула туды, каб паглядзець высадкі* (І.Чыгрынаў). ***Паўз нас*** *паплавамі ляжала сенажаць* (Я.Скрыган). ТСБПШ – прыназ. Сін. *каля.* Рус. ***возле*** *чего.*

**ПАЎЗ-2** *што* Він. Прастор.: лакатыў адносна прадольнага локума: *Як натыкнуліся мурашкі з абодвух бакоў на перашкоду, якая засланіла шлях, так і забегалі ўстрывожаныя* ***паўз яе*** (І.Чыгрынаў). *Пакуль ён мінаў* ***паўз канаву*** *балота, на дварэ звечарэла* (І.Чыгрынаў). ТСБПШ – прыназ. Сін. *уздоўж.* Рус. ***вдоль*** *чего.*

**ПАЎЗ-3** *каго/што* Прастор.: несупрасторавы транзітыў: *Ля ўвахода заўсёды стаяла дужа каларытная жанчына-білецёрка...- чамусьці ўся Орша называла яе Фаня Калчак. І прайсці* ***паўз Фаню*** *непрыкметным мала каму шанцавала* (Н.Кучкоўская). *Але крочу*

*далей* ***паўз Грэзу*** (М.Пазнякоў). *Адсюль, з Пажэжына, як сведчаць гісторыкі, ішоў Суволраў са сваім войскам* ***паўз той Цар-дуб*** (Я.Пархута). *Сонца ўжо не толькі высока паднялося над зямлёй, але трохі збочыла на ўсходзе, каб паплысці па небе* ***паўз вёску*** *і ўвечары... схавацца за возерам* (І.Чыгрынаў). *Бяссонаў адступіўся, прапусціў машыну* ***паўз сябе*** (І.Мележ). *Уніз вялі сходы,* ***паўз якія*** *праязджаў Алесь* (У.Караткевіч). *Заплюшчыць вочы, праязджаючы* ***паўз дом,*** *дзе памёр Пушкін* (У.Караткевіч). ТСБПШ – прыназ. Ант. *праз.* Сін. *міма.* Рус. ***мимо*** *кого/чего*: *Вниз велиі ступеньки,* ***мимо которых*** *проезжал Алесь* (пер. В.Щедриной).

**ПАЎЗ-4** *каго/што* Він. Рэлят уключэння: *Усялякі зрэз гісторыі культуры – ці то штодзённасць, ці мудрагелістыя структуры спецыяльных інфармацыйных плыняў –* ***паўз усё іншае*** *мае ў сабе схаваныя прынцыпы і сэнсы патэнцыйнага цяперашняга* («Культура», 30.01.94). Рус. ***кроме*** *всего прочего.*

**ПАЎЗ-5** *што* Він. Прастор.: супрасторавы лакатыў: *Тут,* ***паўз берагу*** *ракі, На спаборніцтва з яршамі Селі чуйна рыбакі* (Я.Колас). Сін. *уздоўж на.* Рус. ***вдоль на*** *чем.*

**ПАЎЗ-6** *што* Він. Прастор.: супрасторавы транзітыў: *Калі хопіць часу ... – спусцімся «за вадою»* ***паўз усю Прыпяць*** *у межах Беларусі* (В.Ждановіч). Сін. *уздоўж па.* Рус. *вдоль по чему*; ср.: ***Вдоль по Питерской****...*

**ПАЎЗБОК** *каго/чаго* Род. Несупрасторавы транзітыў: *Гутарка яўна не клеілася. Чалавек ужо не забягаў наперад, а ішоў* ***паўзбок яго*** *і, засопшыся, скупа адказваў на пытанні...* (М.Лынькоў: ТСБПШ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *збоку.* Рус. ***рядом с*** *кем/чем.*

**ПАЎЗВЕРХ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна ніжняга локума: *На цэнтральных вуліцах Кіева паміж рэкламных шчытоў IBM, Hond'ы і Lego трапляюцца ў вока шырокія табло з яскравым, сінезялёна-залатым краявідам: дняпроўскія кручы, рака ў ажурным суплецце мастоў, ззяюць на сонцы будынкі лаўраў у паркавым зяленіве, і* ***паўзверх ўсяго*** *– разгоністы надпіс: «Кияни!»* (А.Забужко. Пер. М.Баярына). *Мы гужам спускаліся па галоўнай лесвіцы на шпацыровы двор, захутаўшы рукі ў ватолы, якія мы на марозе накідвалі* ***паўзверх*** *друзлай* ***адзежы...*** (Э.Кантуркава. Пер. С.Сматрычэнкі). *Яна* [зіма] ***паўзверх галін і траў*** */ Наслала апранахаў* («ЛіМ»,14.05.04). *А праз плячо* ***паўзверх кажуха*** *Ідзе раменны пас, бы ў зуха* (Я. Колас). *У чайной сядзелі звычайныя палешукі. Бабулі з «крэндзелем» на галаве і ў белых фартухах* ***паўзверх вышываных сукняў****, вусатыя меднатварыя дзядзькі* (У.Караткевіч). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *на.* Рус. ***поверх*** *чего.*

**ПАЎЗВЫШ** *каго/чаго* Род. Дырэктыў-фініш: *Толькі кінула вокам паўзвыш брамы, праверыла лічбу і павярнула ў двор* (Ц.Гартны: ТСБПШ). ТСБПШ – прыназ.; абл. Сін. *паўзверх.* Рус. ***поверх*** *кого/чего.*

**ПА ЎЗГАДНЕННІ/Ю З/СА** *кім* Тв. Кандытыў: *Гэтае пытанне неабходна рашаць* ***па ўзгадненню з*** *мясцовымі партыйнымі органамі* (ЛіМ, 8.10.88). *Рэспубліканскім цэнтрам па аздараўленню і санаторна-курортнаму лячэнню насельніцтва* ***па ўзгадненню з Камчарнобыля і міністэрствам фінансаў*** *вызначаецца сярэдні кошт пуцёвак* («Звязда»). Сін. *па дамоўленасці з.* Рус. ***по согласованию с*** *кем.*

ПА ЎЗГОДНЕНАСЦІ З/СА *кім*

**ПАЎЗДОЎЖ** *чаго* Род. Прастор.: несупрасторавы транзітыў: *Рады стромкіх таполяў, як вартаўнікі, стаялі высокаю шарэнгаю* ***паўздоўж чатырох сцен*** *агароджы* (Я.Колас). *Дзяўчына-сялянка ішла* ***паўздоўж зялёных платоў*** (У.Караткевіч). ***Паўздоўж агароджы*** *ішло на новыя могілкі шэсце цыганоў* (У.Караткевіч). ТСБПШ – прыназ. Ант. *па.* Сін. *уздоўж.* Рус. ***вдоль*** *чего.*

**ПА ЎЗОРУ** *каго/чаго* Род. Рэлят прыраўнівання: *...стала прыглядацца да іх малюнкаў, каб* ***па ўзору іх*** *і самой напісаць* (М.Вайцяшонак). *У Піцеры прайшоў устаноўчы з'езд партыі «Тэтчарысты Расіі», якая абяцае нам светлае будучае* ***па ўзору Вялікабрытаніі*** (газ.). *У Руцкага выспела думка стварыць з іх таварыства* ***па ўзору Таварыства Ісуса,*** *гэта значыць іезуітаў* (К.Тарасаў). *Чачот запісвае народныя песні і сам складае вершы* ***па ўзору гэтых песень*** (У.Караткевіч). *Пасля падарожжа ў Парыж асабістую ахову Геранім Радзівіл арганізаваў* ***па ўзору французскіх мушкецёраў****, нават форму салдаты мелі тую ж самую* (К.Тарасаў). *Полацкі дзяржаўны універсітэт утвораны* ***па ўзору класічнага еўрапейскага універсітэта*** (Інт.). Сін. *на манер, па выгляду; па прыкладу..* Рус. ***по образцу*** *чего.*

**ПА ЎЗРОЎНІ/Ю** *чаго* Род. Рубрыкатыў: *Тэст павінен быць align=рознабаковым* ***па ўзроўні складанасці і змястоўнасці)*** («ЛіМ», 4.06.04). *Вырашыць пытанне замацавання кадраў на вёсцы можна, умоўна кажучы, прыраўнаваўшы* ***па ўзроўню аплаты*** *сельскую мясцовасць да Крайняй Поўначы* («Звязда», 24.03.05). *У масе сваёй беларусы сярод краін СНД* ***па ўзроўню жыцця*** *знаходзяцца ў лідэрах* («Звязда», 14.04.05). Сін. *па ўмовах; па якасці.* Рус. ***по уровню*** *чего.*

**ПА ЎКАЗЕ/У** *каго* / **ПА** *якім* **ЎКАЗУ** *каго* / **ПА** *чыім* **ЎКАЗУ** Род. Ускладн. Сітуант: канфірматыў-агенс: *Арганізаваць камітэт* ***па ўказу прэзідэнта.*** ▬ *Запаведнік на рацэ Бярэзіне быў створаны* ***па ўказу Савецкага ўрада*** *ў 1925 годзе* (В.Вольскі). ▲ *А* ***па якому ўказу?*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Рус. ***по указу*** *кого.*

**ПА ЎКАЗЦЫ** *каго* / **ПА** *чыёй* **УКАЗЦЫ** Род. Сітуант: канфірматыў-агенс: *Гэта быў таксама наш зямляк, які яшчэ раней* ***па ўказцы Ю.Пілсудскага*** *арганізаваў на Віленшчыне «путч» супраць Літвы, ды стварыў г.зв. «Сярэднюю Літву», якую потым шляхам плебісцыту далучылі да Польшчы* («Наша слова»). *Мяркуючы па фразеалогіі абвінавачванняў і папрокаў паэту, газета «Ленінскі прызыў» дзейнічала няйначай як* ***па ўказцы мясцовых ахоўнікаў*** *чысціні афіцыйнай ідэалогіі, завучаных імі канцэпцый і схем* (Я.Казека). Спалучаецца з прыслоўем, якое мае суб'ектнае значэнне: *Канечне, не адразу, шмат часу прайшло, пакуль я зразумеў, што тое абмеркаванне падрыхтавана* ***па ўказцы зверху****, ад улады* (Г.Гарбук). Сін. *пры падтрымцы.* Рус. ***по указке*** *кого.*

**ПА ЎЛІКУ** *чаго* Род. Рубрыкатыў: *Традыцыйная кампанія* ***па ўліку птушак*** *аб'яўляецца ў пачатку студзеня, але ў гэтым годзе яна фактычна пачынаецца пасля таго, як выпаў снег, на фоне якога птушак лепш назіраць* («Звязда», 27.01.05). Рус. ***по учету*** *кого/чего.*

**ПА ЎМОВАХ** *чаго* / **ПА** *якіх* **УМОВАХ** *чаго* / **ПА** якіх **УМОВАХ** Род. Прычын.: каўзатыў: *Шлях няпросты і* ***па ўмовах таго часу*** *запатрабаваў выключнай духоўнай працы* (К.Тарасаў). ***Па ўмовах Рыжскага міру 1921 года*** *Расія шчодра адрэзала беларускіх зямель Польшчы, забрала сабе Віцебшчыну, Гомельшчыну, магілёўшчыну, а ў рэштках з 6 паветаў паўторна абвясціла БССР* (К.Тарасаў). ***Па ўмовах маскоўскага жыцця*** *замах на кнігу «святога пісання», спроба зарыфмаваць непарушныя тэксты здавалася дзёрзкасцю, выклікала незадаволенасць і супраціўленне* (К.Тарасаў). З адносным займеннікам: *Цверскі князь Міхаіл Аляксандравіч быў вымушаны заключыць з Дзмітрыем мір,* ***па ўмовах якога*** *прызнаваў сябе «малодшым братам» маскоўскага вялікага князя* (К.Тарасаў). Сін. *па; паводле, згодна з*. Рус. ***по условиям*** *чего.*

**ПАЎНОЧНЕЙ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў з кампаратывам: *Калі яны гналіся за табою, пасля вячэры ў Дубатоўка, сляды зніклі* ***паўночней першага месца****, а пасля той гісторыі ля Яноўскага палаца, калі яны наважыліся крычаць, – яшчэ трохі* ***паўночней*** (У.Караткевіч). Сін. *на поўнач ад.* Рус. ***севернее*** *чего.*

**ПА ЎПЛАЦЕ** *чаго* Рубрыкатыў: *Суддзя мае права ўстанаўліваць дадатковыя льготы* ***па ўплаце пошліны*** *для асобных грамадзян, зыходзячы з іх матэрыяльнага становішча* («Звязда», 23.02.05). Рус. ***по уплате*** *чего.*

ПА УСЁЙ ДАЎЖЫНІ *чаго*

ПА ЎСІМ ПРАСЦЯГУ АД *чаго* ДА *чаго*

**ПА ЎСІМ ПРАСЦЯГУ АД** *чаго* **І ДА** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Транзітыў з адзначанымі пачатковай і канцавой кропкамі: *Адна паска вырвалася з палоскі вакол губ і цяпер вісіць перад моцна сцятым ротам; аднак падбародздзе, якое ўжо дрыжыць, перадае гэты свой рух вышэй і скаланае зярністую скуру пад вачыма і прымушае яе дрыжаць, прычым гэтае дрыжанне зноў-такі выганяе на лоб глянец і пот* ***па ўсім прасцягу ад скроняў і да месца****, дзе пачынаюцца валасы* (Пер. Я.Балясіна). Сін. *ад ... да.* Рус. ***на всем протяжении от*** *чего* ***и до*** *чего.* **ПА ЎСКРАІ** *чаго* Род. Лакатыў: ▶*Стол не пакрыты тым* ***абрусам****, Які саткала ты сама. На ім укладзены узор На любату і на спазор.* ***Па ўскраі*** *– россып васількоў...* (Р.Крушына). Сін. *на ўскрайку; па краях.* Рус. ***на краю*** *чего*; ***по краям*** *чего.*

**ПАЎСКРАЙ / ПА ЎСКРАЙ** *чаго* Род. Несупрасторавы транзітыў: *Раман запрог каня, палажыў на драбінкі плуг і мернаю ступою паехаў* ***паўскрай яру*** (ТСБПШ). *З свайго узгорка, з мурашынае сталіцы Дарогу пратапталі аж* ***па ўскрай крыніцы*** (А.Міцкевіч). Рус. ***мимо*** *чего;* ***вдоль*** *чего.*

**ПА ЎСКРАЙКУ** *чаго* Род. Дырэктыў-транзітыў: *З жмуцікам паперы паміж сківіцамі аса паступова выконвае сваю будаўнічую работу, паўзучы наўскась зверху ўніз; яна накіравалася* ***па ўскрайку*** *ўжо гатовай* ***часткі*** *і праткала мяккую, змочаную яе слінай палоску далей; але работа часта перапынялася, потым узнаўлялася, бо хутка вычэрпваўся запас* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Рус. ***по краю*** *чего.*

**ПА ЎСПАМІНАХ** *каго* Род. Аўтарызатар: ***Па ўспамінах сучаснікаў****, найбольш завіхаліся ў рабунку баварцы, прусакі, рэйнскія немцы, харваты з італьянскага корпуса* (К.Тарасаў). Карэлюе са спалучэннямі *як успамінаюць; як кажуць / пішуць...; па тым, што ўспамінаюць / кажуць / пішуць*...Сін. *па словах*. Рус. ***по воспоминаниям*** *кого.*

**ПА ЎСТАНОЎЦЫ** *чаго* Род. Рубрыкатыў: *Мы звярнуліся ў Пастаянны камітэт Саюзнай дзяржавы з тым, каб праект* ***па ўстаноўцы помніка*** *стаў беларуска-расійскім* («Звязда», 9.02.05). Сін. *па; па стварэнню/і.* Рус. ***по созданию*** *чего.*

**ПА ЎШАНАВАННІ ПАМЯЦІ** *каго* Род. Ускладн. Рубрыкатыў з рэдуплікацыяй: *Пасля трагічнай гібелі паэта Васіля Сахарчука, які на працягу дзесяці гадоў пасля драматычнай смерці Васіля Гадулькі так і не змог дастукацца да людскіх сэрцаў, каб выдаць паэтычную спадчыну свайго сябра, і была распачатая (пры нечаканым пасыле Алеся Разанава) дабрачынная акцыя* ***па ўшанаванні памяці*** *малавядомага, але таленавітага* ***паэта*** *з Берасцейшчыны* (Л.Галубовіч). Сін. *памяці.* Рус. ***по увековечении памяти*** *кого*.

**ПА ЎЯЎЛЕННЯХ** *каго* Род. Аўтарызатар: *Слова, **па ўяўленнях нашых продкаў**, мела вялікую сілу, нікольki не меншую, калі не большую, чым іншыя «дзіўныя» з'явы: вада (кроў), агонь, дрэва, камень* (К.Тарасаў). Сін. *на думку; па меркаваннях.* Рус. ***по представлениям*** *кого.*

**ПА ФАКЦЕ / ПА ФАКТУ-1** *чаго* Род. Дэлібератыў: *Праз тры гадзіны следчы Аўчыннікаў вынес пастанову аб затрыманні мяне ў якасці падазраванага **па факце крадзяжу** бюсту* (У.Плешчанка). *У адносінах да непрацуючага жыхара Віцебска узбуджана крымінальная справа **па факту махлярства** ў асабліва буйным памеры* («Звязда», 10.02.05). Юр. клішэ. Сін. *у; па сутнасці.* Рус. ***по факту*** *чего.*

**ПА ФАКЦЕ / ПА ФАКТУ-2** *чаго* Род. Рубрыкатыў: *Да нечаканых вынікаў прывяло сышчыкаў расследаванне, якое яны праводзілі **па факту знікнення** без вестак індывідуальнага прадпрымальніка з Магілёва* («Звязда». 5.02.05). Юр. клішэ. Рус. ***по факту*** *чего.*

**ПА ФОРМЕ**[1] *«што» /якой* Наз. *Як зазначана вышэй, гаварыць **па форме «S ёсць P»** значыць замыкаць здарэнні ў цыклічным часавым каркасе* (Д. Алькоўскі-Лэтц. Пер. П.Баркоўскага). *Цяпер, каб вывесці справаздачу **па форме ОТЧЕТ** на экран, дастаткова ўвесці каманду* (падручн.). Рус. ***по форме «****что».*

**ПА ФОРМЕ**[2] *чаго* Рубрыкатыў: *Гэта прадметная мадэль **(па форме падачы)**, немаштабная (у залежнасці ад знешніх памераў), дынамічная (у залежнасці ад часу), электронная (па галіне ведаў)* (падручн.). *Стварыце рабочую табліцу для ўліку школьна-пісьмовых прыналежнасцей, якімі вы карыстаецеся, **па форме інвентарызацыйнага вопісу*** (падручн.). Рус. ***по форме*** *чего.*

**ПА ФОРМУЛЕ** *«што»/якой* Наз. Характарызатар: спосаб: *Масу радыёнукліду можна разлічыць **па формуле M=2,41X1024ArXT**, дзе M – маса, Ar – масавы лік, T – перыяд паўраспаду* (Асновы мед. ведаў). *Беларусь была ініцыятарам гэтай ідэі, а таксама прапановы аб канкрэтным фармаце кансультацый у рамках Партнёрства дзеля міру **па формуле «НАТА – АДКБ»*** («Звязда»). Сін. *па правілу; па форме.* Рус. ***по формуле «****что».*

**ПА ФРОНТУ** *колькі адзінак* / *колькі адзінак* **ПА ФРОНТУ** Наз./Він. Дыменсіў: *Геаграфічныя памеры яго (поля бою) 8 x 9 кіламетраў, але плошча, якая падыходзіла для бітвы, складала **4 кіламетры па фронту** і 5 у глыбіню* (К.Тарасаў). Рус. *сколько единиц **по фронту**.*

**ПАХОДЖАННЕМ З/СА** *чаго/адкуль* Род. Генератыў: *Аксана Сташэнка, дачка М.Старыцкага, пiша: «Пятро Антонавіч **паходжаннем з паўночнай Чарнігаўшчыны**, ледзь не з Беларусі...»* (У.Караткевіч). Сін. *з*; *родам з.* Рус. ***происхождением из/с*** *чего.*

**ПА ХОДЗЕ / ХОДУ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў адначасовасці: *Неабходна ў тэрміновым парадку **па ходу работ** унесці карэктывы па паляпшэнню якасці і камфортнасці жылля* («Звязда», 22.06.05). *Словам – каб ён* [стары артыст], ***па ходу дзеяння**, мог цалавацца з маладой артыстачкай, наіўнай, чыстай дзяўчынай, што нядаўна прыйшла з інтстытута* (Я.Брыль). *У тым-та і справа, што **па ходу сітуацыі** і **па ходу развіцця** характараў гэтае слова не так-та лёгка якім-небудзь іншым замяніць* (К.Чорны). *Пры далейшым змяненні току ў фазах чатырохполюснае магнітнае поле статара будзе вярцецца **па ходу гадзіннікавай стрэлкі**, прычым за перыяд яно павернецца на 180°, значыць, здзейсніць толькі палавіну абароту* (падручн.). *Вось, здаецца, і ўсе асобы, вартыя ўпамінавення. Далей аб кожным **па ходзе справы*** (У.Караткевіч). Сін. *падчас.* Рус. ***по ходу** чего.*

**ПА ЦАНЕ[1]** *колькі адзінак* Він./Наз. Дыменсіў: *Выкарыстоўваючы электронныя табліцы, састаўце інвентарызацыйны вопіс для ўліку матэрыяль-ных каштоўнасцей у кабінеце інфарматыкі, калі ў ім ёсць: 1 настаўніцкі камп'ютэр **па цане 200 млн р.**, 12 вучнёўскіх камп'ютэраў **па цане 125 млн р.**, 26 сталоў **па цане 8,2 млн р.**,* (падручн.). Сін. *коштам.* Рус. ***по цене** сколько единиц.*

**ПА ЦАНЕ[2]** *чаго* Род. Рэлят прыраўнівання: *За шкуры жывёл, забітых на жывёлазабойчых пунктах, выплачваецца надбаўка ў памеры 7 працэнтаў кошту скуры, а кішэчная сыравіна аплачваецца **па цане 1 гатунку*** (А.Лукашук). Сін. *па кошту.* Рус. ***по цене** чего.*

**ПА ЦАНЕ НА** *колькі адзінак* **ВЫШЭЙ ЧЫМ** *што/якая колькасць* Він.-Наз. Двухч. Ускладн. Дыменсіў + рэлят розніцы: *Толькі той факт, што што шкуркі норкі на аўкцыёне пушніны ў Фінляндыі «ідуць з малатка» **па цане на 15 – 20 працэнтаў вышэй**, **чым з іншых зверагаспадарак**, гаворыць аб многіім* («Звязда», 09.04.05). «*Пеўня» выставілі на продаж **па цане на парадак вышэй, чым планавалі*** («Звязда», 31.05.05). Рус. ***по цене на** сколько единиц **выше** какого количества.*

**ПА ЦЯЧЭННІ/Ю** *чаго* / **ПА верхнім/ніжнім ЦЯЧЭННІ/Ю** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыў + несупрасторавы транзітыў адносна ракі, ручая: *Перасечаныя вялікімі балотамі і азёрамі, яны* [лясныя масівы] *цягнуцца паласой з поўначы на поўдзень **па верхнім цячэнні ракі** Бярэзіны і яе шматлікіх прытокаў* (В.Вольскі). *На Беларусі да 1917 года баброў больш за ўсё было ў нашай мясцовасці, у лясах **па верхнім цячэнні Бярэзіны*** (В.Вольскі). Ант. *супраць цячэння.* Сін. *уздоўж.* Рус. ***по течению** чего.*

**ПА ЧАСАХ** (**Мн.л**.) *чаго* Род. Крытэрый: *Памятная яму **па часах візіта** Johna Smitha ў Рэчыцу Галандыя змагалася з Гішпані-*

*яй за ўласную незалежнасць і ўжо таму выклікала глыбокую сімпатыю* («Arche»). Сін. *па часе.* Рус. ***по времени*** *чего.*

**ПА ЧАСЕ-1 (Адз.л.) / ПА** *якім* **ЧАСЕ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў следавання: *Дзень добры, новая мясціна! Спаткай ты нас, як маці сына **Па часе доўгае разлукі** ...* (Я.Колас). ↔ **Па часе калі**. *Наказ яго дайшоў **па часе, калі** ўсё ўжо было гатова* (К.Крапіва). Сін. *пасля*. Рус. ***после*** *чего.*

**ПА ЧАСЕ-2 (Адз.л.) / ПА** *якім* **ЧАСЕ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў адначасовасці: ▲*Іван Паўлавіч сабраў нямала **па тым часе** кніг, часопісных і газетных публікацый аб дзейнасці Беларускіх франтоў* (І.Шамякін). Сін. *у час; падчас.* Рус. ***во время*** *чего.*

**ПА ЧАСЕ-3 (Адз.л.) / ПА** *якім* **ЧАСЕ** *чаго* Род. Крытэрый: *Вёска жыла па часе сталіцы.* ▲ *Аднолькавыя гадзіннікі, якія ідуць **па мясцовым часе**, на розных мерыдыянах будуць паказваць розны час* (падручн.). Рус. ***по времени*** *чего.*

**ПА ЧАСТЦЫ** *чаго* Род. Крытэрый: *За больш чым 30-гадовую гісторыю свайго існвання інстытут назапасіў багаты вопыт **па частцы праектавання і рэканструкцы**і жылога фонду* («Звязда» 28.01.05). *Ранняя зіма і спячка перашкодзіла няўрымсліваму гаспадару хлудаў Цмоку калывоку ажыццявіць усё задуманае ім **па частцы** карэннага **абнаўлення** Хлудзіі* (А.Мінкін, В.Галкоў). Русізм. Сін. *па.* Рус. ***по части*** *чего*.

**ПА заходняй/усходняй/паўночнай/паўднёвай/** *якой* **ЧАСТЦЫ** *чаго* Род. Прастор.: транзітыў: *Днепр, даўжынёй больш за 2000 км, працякае **па ўсходняй частцы Беларусі** больш за 700 км* (падручн.). Сін. *па*. Рус. ***по*** *какой* ***части*** *чего.*

**ПА ЧАСЦІ** *чаго* **/ ПА** *якой* **ЧАСЦІ** *чаго* Род. Рубрыкатар: *спрактыкаваны **па часці лоўлі** рыбы* (ППШ – устар.). *Намеснік галоўнага ўрача **па лячэбнай часці.** Намеснік дырэктара **па гаспадарчай часці. // ▲Па маёй часці** хоць коні красці*. Рус. ***по части*** *чего*.

**ПАЧАТКУ** *чаго/якога адрэзка часу* Род. Характарызатар-тэмпаратыў: *І сапраўды, літаратар **пачатку XX стагоддзя** – стваральнік таго, чаго аб'ектыўна няма ні ў жыцці, ні пакуль у мастацтве ды ў літаратурным слове* (Л.Вашко). *Дзеянне адбываецца ў акупаванай гітлерцамі Польшчы **пачатку саракавых гадоў*** («Arche»). *Дзейнічае ў Свіры і невялікая драўляная Успенская царква **пачатку XX ст.*** («Родны край», 2009). Рус. ***начала*** *какого времени.*

*якога адрэзка часу* – **ПАЧАТКУ** *чаго/якога адрэзка часу* Род. Інтэрпазіц. Ускладн. Характарызатар: тэмпаратыў-дыменсіў: *Традыцыі, што ляжыць у аснове ўсёй беларускай літаратуры **XX – пачатку XXI стст.**, у многім дапамагае міфапаэтычны пады-*

*ход* (Т.І.Шамякіна). Гіст. клішэ. Рус. *какого ввремени – **начала** какого времени.*

**ПАЧЫНАЮЧЫ** *кім/чым* Тв. Рэлят пачатку адлічэння: *Ермачэнка пачаў прапанаваць іншых і мяне ў тым ліку, усе нечаму адмаўляліся, **В.Захаркам пачынаючы*** (Л.Геніюш). Сін. *пачынаючы ад.* Рус. ***начиная** кем/чем.*

**ПАЧЫНАЮЧЫ АД** *каго/чаго* Род. Рэлят пачатку адлічэння: *Ад папярэдніх гэтая анталогія адрозніваецца і тым, што ў ёй прадстаўленая беларуская паэтычная эміграцыя, **ад А.Смаленца пачынаючы*** (А.Сідарэвіч). Сін. *пачынаючы*. Рус. ***начиная с** кого/чего.*

**ПАЧЫНАЮЧЫ АД** *каго/чаго* **АЖ ДА** *каго/чаго* Род. Двухч. Ускладн. Рэлят пералічэння з пачатковай і канцавой кропкамі + інтэнсіў: *Сусветная гісторыя культуры – гэта сотні і тысячы напісаных «аркушоў» многімі народамі, **пачынаючы ад няпамятных дзён аж да нашае пары*** (Я.Пятроўскі). Сін. *ад ... аж да.* Рус. ***начиная с** кого/чего **ажно до** кого/чего.*

**ПАЧЫНАЮЧЫ АД** *каго/чаго* **ДА** *каго/чаго* Род. Двухч. Ускладн. Рэлят пералічэння з пачатковай і канцавой кропкамі: *Тут было ўсё: **пачынаючы ад чабору, душыцы, мяты, зайцавага гарошку да раслін баршчэўніку*** (У.Дубоўка). Син. *ад ... да.* Рус. ***начиная с** кого/чего **до** кого/чего.*

**ПАЧЫНАЮЧЫ АД** *каго/чаго* **І ДА** *каго/чаго* Род. Двухч. Ускладн. Рэлят пералічэння з пачатковай і канцавой кропкамі + рэлятар злучэння: *Яны ж, пачуўшы гэта і адчуваючы дакоры сумлення, сталі выходзіць адзін за адным, **пачынаючы ад старэйшых і да апошніх*** (Свяшчэннае Евангелле). *Грунтоўнае даследавання ідэйна-тэматычнагадыяпазону беларускай літаратуры пачатку XX ст., што праводзілася адным пакаленнем вучоных, **пачынаючы ад А.Луцкевіча, М.Гарэцкага і да І.Навуменкі, М.Мушынскага, А.Лойкі і іншых**, пераканаўча сцвердзіла слушнасць дадзенай думкі* (П.І.Навойчык). Сін. *ад ... да.* Рус. ***начиная с** кого/чего **и до** кого/чего.*

**ПАЧЫНАЮЧЫ АД** *каго/чаго* **І КАНЧАЮЧЫ** *кім/чым* Род.-Тв. Двухч. Ускладн. Рэлят пералічэння з указанымі пачатковай і канцавой кропкамі адліку + рэлятар злучэння: *Менавіта за безыдэйнасць у творах Уладзіміра Караткевіча на яго неаднойчы нападалі заўзятыя крытыканы, **пачынаючы ад яго землякоў і канчаючы сакратаром ЦК кампартыі па ідэалогіі*** (М.Аўрамчык). Сін. *ад ... да.* Рус. Рус. ***начиная с** кого/чего **и кончая** кем/чем.*

**ПАЧЫНАЮЧЫ АД** *каго/чаго* **І КАНЧАЮЧЫ НА** *кім/чым* Тв.-Тв. Двухч. Ускладн. Рэлят пералічэння з пачатковай і канцавой кропкамі + рэлятар злучэння: *На собскай, адзінай у ваколіцы, аўта-*

*машыне, хоць пехатою, здаецца, куды спраўней і хутчэй, за часінаў якіх пяць, можна было перамагчы ўсе перашкоды мясцовасці, **пачынаючы ад** дрогкага, хісткага мосту **і канчаючы на** небрукаваных, выбоістых, калі горка-пыльных, а калі й грузка-гразкіх гарадскіх «**вуліцах**»)* (С.Юстапчык (Антон Адамовіч)). Сін. *ад ... да.* Рус. ***начиная с** кого/чего **и кончая** кем/чем.*

**ПАЧЫНАЮЧЫ АД** *чаго* **ПРАЗ** *што* **І ЗАКАНЧВАЮЧЫ** *чым* Род.-Він.-Тв. Трохч. Ускладн. Рэлят пералічэння з пачатковай і канцавой кропкамі + рэлят прамежкавай адзнакі + рэлятар злучэння: *Крыжовы шлях – пасійнае набажэнства, прысвечанае разважанню пра Муку Пана**, пачынаючы ад несправядлівага прысуду Пілата, праз цяжкі шлях** на Галгофу ў цярновым вянку і з крыжам на плячах, **і заканчваючы смерцю** на крыжы і пахаваннем* («Звязда», 9.02.05). Сін. *ад ... да.* Рус. ***начиная с** чего **через** что **и заканчивая** чем.*

**ПАЧЫНАЮЧЫ З/СА-1** *чаго* Род. Рэлят пералічэння: пачатковы адлік аб'ектаў у прасторы: *Другі ўзровень твора (умоўна названы намі «час ад'езду»), пададзены аўтарам шэрагам асобных раздзелаў, ... выбудоўваецца **пачынаючы з раздзела** «Шляхціц Завальня»* (М.В.Хаўстовіч). *Мяркуючы па агульным змесце манаграфіі, **пачынаючы з другога раздзела** ўзмацняецца дыяхранічнасць даследавання* (Ж.Некрашэвіч-Кароткая). *Калі ўсе астачы будуць ненулявыя, то дзяленне ніколі не закончыцца, але ў дзелі, **пачынаючы з некаторага знака**, лічбы пачнуць паўтарацца, таму што лік розных астач канечны, а ўсяго астач бесканечна многа* (падручн.). *Раней «кураторам» мог выступаць настаўнік-філосаф – і мы можам бачыць такую з'яву цягам гісторыі літаратуры, **пачынаючы са Старажытнай Грэцыі*** (М.Анішчанка). ***Пачынаючы са сцэны гулянкі**, перакладчык, нібы знайшоўшы ключ да таго, што адбываецца ў сэрцах герояў, робіць сваю справу ўсё лепей і лепей* (У.Караткевіч). ***Пачынаючы з гэтага дня**, работы на канале вяліся ўжо штодзённа* (У.Краўчанка). ТСБПШ – спалуч. дзеепрысл. з прыназ. у знач. прыназ. Сін. *з.* Рус. ***начиная с** чего.*

**ПАЧЫНАЮЧЫ З/СА-2** *якога часу* Род. Тэмпаратыў: рэлят перадічэння: пачатковая кропка адліку часу: *Што да санета, то Багдановіч пачаў іх пісаць і друкаваць услед за Купалам, **пачынаючы з 1911 г.**, стварыўшы (разам з перакладнымі санетамі) 11 такіх вершаў* В.Рагойша). *Значная частка назоўнікаў у вядскай гаворцы набыла пад націскам канчатак –э, які ўласцівы старажытным беларускім помнікам **пачынаючы з XV ст.*** (навук.). *У першыя 2 – 3 дні пасля атручвання, **пачынаючы з перыяду скрытага дзеяння** АР,*

*праводзіцца працяглая аксігенатэрапія* (Асновы мед. ведаў). *Справа ў тым, што* ***пачынаючы з 1696 года****, пасля прыняцця ўсеагульнай канфедэрацыі сасловій Рэчы Паспалітай да сярэдзіны XIX стагоддзя беларусы наогул вымушаны былі карыстацца толькі лацінкай* (М.Цярэшчанка). ***Пачынаючы з чацвярга*** *практычна ўсе справы будуць ісці з лёгкасцю* («Звязда», 12.02.05). *Паводле папярэдніх прагнозаў,* ***пачынаючы з сярэдзіны наступнага тыдня*** *чакаецца павелічэнне воблачнасці* («Звязда», 4.02.05). ***Пачынаючы з пятніцы*** *выйшлі першыя сеялкі на палі паўднёвых раёнаў Брэсцкай вобласці* («Звязда», 29.03.05). *Былі яны* (гарады) *багатыя і гандлёвыя, але выпальваліся,* ***пачынаючы з XI стагоддзя****, ледзь не па тры разы на кожныя сто год* (У.Караткевіч). *Ужо не сакрэт, што* ***пачынаючы з вясны 1939 г.*** *у лабараторыях Германіі, Францыі, Англіі, ЗША ліхаманкава працуюць над рашчапленнем атамнага ядра* (газ.). ↔ **Пачынаючы з таго што; пачынаючы з таго моманту як.** *Увесь час,* ***пачынаючы з таго мамонату, як*** *яму паведамілі аб рашэнні прызначыць яго камандзірам мясцовага партызанскага атрада, Нарчук думаў пра гэта* (І.Чыгрынаў). ТСБПШ – спалуч. дзеепрысл. з прыназ. у знач. прыназ. Сін. *з; ад.* Рус. ***начиная с*** *какого времени.*

**ПАЧЫНАЮЧЫ З/СА** *якога часу* **ДА СЯРЭДЗІНЫ** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: тэмпаратыў: дыменсіў з пачатковай і канцавой кропкамі ўказання працягласці часу: *Справа ў тым, што* ***пачынаючы з 1696 года****, пасля прыняцця ўсеагульнай канфедэрацыі сасловій Рэчы Паспалітай* ***да сярэдзіны XIX стагоддзя*** *беларусы наогул вымушаны былі карыстацца толькі лацінкай* (М.Цярэшчанка). Сін. *ад ... да.* Рус. ***начиная с*** *чего/какого времени* ***и до середины*** *чего/какого времени.*

**ПАЧЫНАЮЧЫ З ДРУГОЙ ПАЛОВЫ** *чаго/якога часу* **І ДА** *чаго/якога часу* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: тэмпаратыў: дыменсіў з пачатковай і канцавой кропкамі ўказання працягласці часу + рэлятар злучэння: *У кнігу войдуць работы, якія фарміравалі і вызначалі развіццё сучаснай беларускай фатаграфіі,* ***пачынаючы з другой паловы 1980-х гадоў і да сённяшніх дзён*** (В.Кавалёў). Сін. *ад ... да*. Рус. ***начиная с другой половины*** *чего* ***и до*** *какого времени.*

**ПАЧЫНАЮЧЫ З/СА** *чаго/якога часу* **І АЖ ДА КАНЦА** *чаго/якога часу* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: тэмпаратыў: дыменсіў з пачатковай і канцавой кропкамі ўказання працягласці часу + рэлятар злучэння + інтэнсіў: ***Пачынаючы з гэтага часу і аж да канца XIII стагоддзя*** *Рымская Каталіцкая Царква стаецца найбольшым фактарам у гісторыі сярэднявечча; яе аўтарытэт і ўлада, уплыў і багацці стала ўзрастаюць, а яе дастойнікі стаюцца найболей вы-*

*датнымі ўва ўсіх галінах дзейнасці* (Я.Пятроўскі). Сін. *ад ... і аж да канца.* Рус. ***начиная с*** *чего/какого времени* ***и до конца*** *чего/какого времени.*

**ПАЧЫНАЮЧЫ З/СА** *чаго* **І ВЫШЭЙ** Род. Двухч. Ускладн. Рэлят пералічэння па нарастаючай + рэлятар злучэння: *Брусель заліты агнямі знізу, а **пачынаючы з другога паверха і вышэй** вокны закладзены густой цемрай* (Л.Дранько-Майсюк). Сін. *ад ... і вышэй.* Рус. ***начиная с*** *чего* ***и выше.***

**ПАЧЫНАЮЧЫ З/СА** *чаго* **І ДА-1** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Рэлят пералічэння + рэлятар злучэння: *Да таго ж, некаторыя студэнты акадэміі працуюць, **пачынаючы з 7 гадзін раніцы і да позняга вечара*** (С.Канановіч).

**ПАЧЫНАЮЧЫ З/СА** *каго/чаго* **І ДА-2** *каго/чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Рэлят пералічэння з указанымі пачатковай і канцавой кропкамі спіса + рэлятар злучэння: ***Пачынаючы з № 2 і да** апошняга ў 1908 **№ 26** усе арыгінальныя апавяданні, апублікаваныя на старонках першай беларускай легальнай газеты ... мелі выключна сатырычна-гумарыстычны характар* (П.І.Навойчык). Сін. *ад ... да; пачынаючы ... і канчаючы*. Рус. ***начиная с*** *какой единицы/чего* ***и до*** *какой единицы/чего*.

**ПАЧЫНАЮЧЫ З/СА** *чаго* **І НІЖЭЙ** Род. Двухч. Ускладн. Рэлят пералічэння па ніспадаючай з указанай пачатковай кропкай + рэлятар злучэння: *Аналагічным чынам у радках, **пачынаючы з 8-га і ніжэй**, ствараецца табліца* (падручн.). Сін. *ад ... і ніжэй.* Рус. ***начиная с*** *чего* ***и ниже.***

**ПАЧЫНАЮЧЫ З** *якой адзінкі часу/чаго* **І ПА-ПРАЗ** *якую адзінку часу/што* Род. – Він. Двухч. Ускладн. Час.: тэмпаратыў-дыменсіў: рэлят пералічэння з указанымі пачатковай і канцавой кропкамі часу + рэлятар злучэння + патэнсіў: ***Пачынаючы з гэтага стагоддзя і па-праз наступнае трэцяе стагоддзе п.н.э.,** рымляне прыйшлі ў поўны кантакт з грэцкаю культураю, якая ў ваграмаднай меры на лепшае з'іначыла рымскае жыццё* (Я.Пятроўскі). Рус. ***начиная с*** *какого времени* ***и включая*** *какое время.*

**ПАЧЫНАЮЧЫ З КАНЦА** *чаго* Род. Тэмпаратыў з дакладнай пачатковай кропкай адліку: ***Пачынаючы з канца мая** Стралец відаць даволі нізка над зямлёю* (К.Цыркун). Сін. *ад канца.* Рус. ***начиная с конца*** *чего.*

**ПАЧЫНАЮЧЫ З МОМАНТУ** *каго/чаго* **І КАНЧАЮЧЫ** *кім/чым* Род.-Тв. Двухч. Ускладн. Рэлят пералічэння з указанымі пачатковай і канцавой кропкамі часу + рэлятар злучэння: ▲*Раней лазню для ўсіх рыхтаваў дзед Яўмен, **пачынаючы з таго моманту,***

*як засоўваў у печку дровы,* ***і канчаючы вось гэтым развядзеннем*** *пары* (І.Чыгрынаў). Сін. *ад ... да; пачынаючы ... і канчаючы*. Рус. ***начиная с момента*** *какого времени/чего* ***и до*** *какого времени/чего*.

**ПАЧЫНАЮЧЫ З СЯРЭДЗІНЫ** *якога адрэзка часу* Род. Час.: Тэмпаратыў з дакладнай пачатковай кропкай адліку: *Пачынаючы* ***з сярэдзіны XX ст.*** *для даследавання Космасу пачалі выкарыстоўвацца нябачныя віды выпраменьванняў: радыёхвалі, рэнтгенаўскія прамяні і інш.* (падручн.). *Паводле папярэдніх прагнозаў,* ***пачынаючы з сярэдзіны наступнага тыдня*** *чакаецца павелічэнне воблачнасці* («Звязда», 4.02.05). Сін. *з сярэдзіны*. Рус. ***начиная с середины*** *чего.*

**ПАЧЫНАЮЧЫ** *чым* **І КАНЧАЮЧЫ** *чым* Тв.-Тв. Двухч. Ускладн. Рэлят пералічэння з указанымі пачатковай і канцавой кропкамі часу + рэлятар злучэння: *Вялікі ўплыў на развіццё адчуванняў ідум мела маці, жанчына простая, што навучылася чытаць сама праз сябе, але развітая і многа чытаўшая,* ***пачынаючы Бібліяй і канчаючы Талстым*** (К.Чорны). *Людзі, сядзеўшыя за сталом і на лавах, былі пераважна камандзіры,* ***пачынаючы ўзводным і канчаючы камандзірам батальёна т. Шалёхіным*** (Я.Колас). Сін. *ад ... да.* Рус. ***начиная*** *кем/чем* ***и кончая*** *кем/чем.*

**ПА ШКАЛЕ** / **ПА** *якой* **ШКАЛЕ** *чаго*; Род. *Бо, як мы высветлілі, прымусовасць, навязванне даўно трапілі ў разрад намаганняў катаў, страціўшых* ***па шкале*** *выключна чалавечых* ***каштоўнасцей*** *міласэрнасць і павагу, а перш за ўсё – бескарыслівы ідэалізм.* (В.Куртаніч). ■ *Да ліку сваякоў, у выпадку смерці якіх абавязкова прытрымліваліся гэтай рэгламентацыі, адносяцца прадстаўнікі 1-2 пакаленняў, як* ***па вертыкальнай шкале*** *(бабуля – дзядуля, бацька – маці, іх дзеці і ўнукі), так і* ***па гарызантальнай шкале сістэмы*** *роднасных адносінаў: родныя і стрыечныя браты і сёстры* («Звязда»). Рус. ***по шкале*** *чего.*

**ПА ШЛЯХУ-1** *каго* Род. Характарызатар: рэлят параўнання: *Ягоны праўнук перабраўся* ***па шляху далёкага продка*** *ў Ангельшчыну і стаў заснавальнікам ды галавой лонданскай школы піянізму* («Arche»). *Тэадор Кохер не пайшоў* ***па шляху сваіх калег****, хоць і паўтарыў доследы сваіх папярэднікаў* (Г.Шэршань). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ.; кніжн. Сін. *нападобе;* злучнік *як і.* Рус. ***по пути*** *кого.*

**ПА ШЛЯХУ-2** *чаго* Род. Характарызатар: транзітыў: *Аб'ектыўна атрымалася так, што ён* [Сердзюкоў], *яшчэ напярэдадні прыгоннай рэформы, павёў гаспадарку* ***па шляху такой эвалюцыі****, у якой ужо вельмі прыкметныя былі капіталістычныя рысы* (У.Караткевіч). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. у знач. прыназ.; кніжн. Сін. *шляхам.* Рус. ***путем*** *чего.*

ПА ШЛЯХУ АД *чаго*

ПА ШЛЯХУ АД *чаго* ДА *чаго*

**ПА ШЛЯХУ ДА** *чаго* Род. Характарызатар: транзітыў + дырэктыў-фініш:: *І тое, і другое проста змяніць на меней якасныя* ***па шляху да «хаты»*** («Arche»). *Зінаіда Яўгенаўна ўзнёсла і дужа апетытна распавядала пра ўсе тыя незлічоныя цяжкасці, што давялося ёй агораць* ***па шляху да сваёй важнай адзнакі*** *прафесійнай годнасці – атрымання вышэйшай катэгорыі* (М.Карпечанка). ТСБПШ – спалуч. прыназ. з наз. і прыназ. у знач. прыназ. Рус. ***по пути к*** *чему.*

ПА ШЛЯХУ З/СА *чаго*

ПА ШЛЯХУ К *чаму*

ПА ШЛЯХУ НА *што*

ПА ШЛЯХУ Ў *што*

**ПАШЫРЭННЕМ** *колькі адзінак* **НА** *колькі адзінак* Наз.-Він. Дыменсіў: *Дадатковая інфармацыя: маецца дадатковы вонкавы экран дыяганаллю 1.2” і* ***пашырэннем 128x128*** (Інт.). Рус. ***расширением*** *сколько единиц* ***на*** *сколько единиц.*

**ПА ШЭРАГУ** (**Дав**.) *чаго* Род. Прыназ. спалучэнне: прыназ. + апраксіматар: *Быў яшчэ і другі брат, які ў гэтым выпадку пераймаў адпаведныя правы, але той* ***па шэрагу прычын*** *не мог прыняць манашаскі сан, абавязковы для ўзвядзення ў архіерэі* (І.А.Чарота). *Падчас праверкі высветлілася, што гэтыя нормы і правілы не выконваюцца* ***па шэрагу пазіцый*** («Звязда», 15.03.05). Пры дакладнай інфармацыі апраксіматар рэдуцыруецца: *Магчымасці праграмнага забеспячэння дазваляюць здзяйсняць пошук неабходнай інфармацыі* ***па шэрагу бібліяграфічных параметраў*** *(палёў):* ***аўтару, назве, году выдання*** *і інш.*(І.Смірнова). Сін. *па некалькіх*. Рус. ***по ряду*** *чего.*

**ПА ФОРМУЛАХ**[1] **«***што», «што»...* Наз. Крытэрый: *...паказана графічная залежнасць x, V і a ад часу /* ***па формулах (10.4), (10.9) і (10.10)*** *для выпадку, калі пачатковая фаза роўная нулю* (падручн.). Сін. *па формуле.* Рус. ***по формулам «****что»,«что»...*

**ПА ФОРМУЛАХ**[2] *каго* Род. Аўтарызатар: *Патрэбную сутачную колькасць груднога малака для дзяцей 7 – 8 дзён жыцця можна разлічыць* ***па формулах Фінкельштэйна****: n –70 – для дзіцяці з масай меней 3200 г і n – 80 – калі маса перавышае 32000 г, дзе n – колькасць дзён жыцця дзіцяці* (Асновы мед. ведаў). Сін. *згодна з формуламі.* Рус. ***по формулам*** *кого.*

**ПЕРАД**[1] *што* Він. Час.: храналагічны тэмпаратыў: *Сям'я Гадлеўскіх жыла ў Шурычах спрадвеку; у Поразаўскіх парахвіяльных актах спатыкаецца яна* ***перад 1700 гадоў*** (Кс. В.Гадлеўскі). Устар. Рус. ***перед*** *каким временем.*

**ПЕРАД²-1** *кім* Тв. Адрасат: *Хоць звычайна не меў схільнасці прасіць, усё ж аднойчы не вытрываў, заікнуўся **перад вартавым**..., каб дазволіў і яму* (І.Мележ). *Цяжка ты адкажаш **перад Богам*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Ён камандзір, **перад царом** адкажа строга* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. – Дав. без прыназоўніка (*каму*). Рус. ***перед** кем.*

**ПЕРАД²-2** *кім* Тв. Эксперыенцэр: *Тут, на Палессі, дзе людзей сустракалі мала, можа., і задумаешся над кожным чалавекам, які ні пяройдзе **перад** тваімі **вачамі*** (Я.Колас). *Адчуваў, што тым, што сарваўся тут за сталом, толькі прынізіў сябе **перад гэтай малой вяртухай*** (І.Шамякін). // ***Перад панам Хвёдарам** расхадзіўся ходарам.* Сін. *у прысутнасці*. Рус. ***перед** кем.*

**ПЕРАД²-3** *кім* Рэлят адносін: *Ціхай ранічкай, да сонца, хлопчык выбраўся з двара, ідзе ён у свет бясконцы пашукаць таго дабра, каб змяніць той лёс паганы, новым спосабам зажыць, каб увагі і пашаны **перад ёю** заслужыць* (Я.Колас: ТСБПШ). *Анупрэй згаджаўся, што ён віноўнік **перад таварышамі**, што ён зрабіў цяжкую абмылку* (Ц.Гартны). – *А я моцна вінаваты **перад маладым князем*** (У.Караткевіч). Рус. ***перед** кем.*

**ПЕРАД²-4** *кім/чым* Тв. Лакатыў адносна фасаднага локума: *Рукі склаў **перад сабою**, Як пры малітве* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Нарэшце палатно апусцілася – і **перад паняй** стаяў анёл і спяваў па-салаўінаму* (З.Бядуля: ТСБПШ). Ант. *за.* Сін. *перад.* Рус. ***перед** кем/чем.*

**ПЕРАД²-5** *чым* Тв. Час: тэмпаратыў папярэднасці; з назоўнікам са значэннем працэсу ці часу: *Сябар, калі сустрэліся **перад вячэрай,** успомніў свайго вучня з жонкаю* (Ф.Янкоўскі). *Мы не ведаем, **перад** ці пасля **17 верасня** рушыў ён з Любліну да Вільні, і ці разумеў ён, што апынецца на тэрыторыі, захопленай Чырвонай Арміяй* (Ю.Туронак. Пер. В.Кавалёвай). *Дык ідзі ж уночы У лес **перад Янам,** каб ні брэх сабачы, Ані спеў пятушы, ні людскія вочы Не былі ў перашкодзе* (Ф.Багушэвіч). // *Не **перад ноччу** кажучы.* ◊ ***Перад усім*** – перш за ўсё. ▬ *Гарэцкага гэтая шырокая плынь цікавіла **перад усім** як з'ява літаратурна-мастацкага парадку* (Арс. Ліс). ↔ **Перад тым як:** ***Перад тым як** сесці за стол, Міканор запрасіў і Васіля, але той адмовіўся* (І.Мележ). Сін. *напярэдадні.* Рус. ***перед** чем.*

**ПЕРАД²-6** *кім/чым* Тв. Прастор.: лакатыў: *Што б там **перад вамі** ці за вамі ні рабілася – не аглядайцеся назад* (Я.Купала). ***Перад** лабатым **грудком** вузенькі шнурок тупкае сцежкі разарвала рыжавая крынічка* (В.Адамчык). ↔ **Перад тым месцам ... дзе.** Сін. *не даходзячы да.* Рус. ***перед** кем/ чем.*

**ПЕРАД²-7** *кім/чым* Тв. Рэлят параўнання: [Аб беларускай мове]: *Усе жылі пад перунамі, Ды найгарчэйшы лёс быў твой, І ўсе бяднеюць параўнанні **Перад нязломнасцю** тваёй* (П.Панчанка). *І прад малодшаю сталіцай старая змеркнула Масква, як **перад новаю царыцай** парфіраносная ўдава* (Я.Купала: ТСБПШ). Сін. *у параўнанні з.* Рус. ***перед** кем/чем.*

**ПЕРАД²-8** *кім/чым* Тв. Рэлят супрацьдзеяння: *Беларусы не спасавалі **перад ворагам.** — **Перад знешняй небяспекай** рускія людзі – ад царскага двара да вясковага нябогі – былі аднадушныя ў адпоры няпрошаным чужынцам* (К.Тарасаў). Рус. ***перед** чем.*

*што/хто* **ПЕРАД-1** *кім/чым* Тв. Інтэрпаз. Ва ўзаемназваротных займенніках: ***Адна перад адной** у воду захлюпалі зялёныя лупатыя жабы* (В.Адамчык). *У рэчцы, не падкасаўшы падолаў, стаялі версаўскія маладзіцы, **адна перад адной** з размаху білі на вымачаным нанач у апопеле і складзеным ў гармонік палатне вагкімі пранікамі – перылі яго* (В.Адамчык). *Пакрысе бяседа ўвайшла ў тое рэчышча, калі пачынаецца бязладная гамана, калі мужчыны пачынаюць **адзін перад адным** выхваляцца* (Р.Сабаленка). *Яшчэ калі яны стаялі **адзін перад адным**, Чубар збольшага паспеў угледзецца ў Шпакевіча* (І.Чыгрынаў). Рус. *друг **перед** другом.*

*ні* **ПЕРАД-2** *кім/чым* Тв. Інтэрпаз. У адмоўных займенніках: *Скідай з дарогі перашкоду, **Ні перад чым** не запыняйся* (Я.Колас). *Гэтага не трэба афішаваць **ні перад кім*** (В.Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). Рус. *ни **перед** кем/чем.*

**ПЕРАДА-1** *мной/ю* Тв. Адрасат: *Цімафей Пятровіч Ломцеў ... Я прысвяціў яго памяці сваю доктарскую манаграфію, бо быў, ёсці і буду ўдзячны яму за тое, што ён першы раскрыў **перада мною** высокую вартасць прафесійнага навуковага каляжанства* (А.Я.Міхневіч). *Я зачаравана гляджу на сполахі барвовых ценяў, якія гойсаюць па хаце, слухаю няспынны трэск агня, і душу маю ахінае сцішанасць ад няспыннага руху сусвету, які разгарнуў **перада мною** вялізную, невытлумачальную для чалавека працу* (А. Кавальчук). ТСБПШ – прыназоўнік. Рус. ***передо** мной.*

**ПЕРАДА-2** *мной/ю* Тв. Прастор.: лакатыў: *Прівадзіцкае балота, як вокам сягнуць, ляжала **перада мною*** (К.Чорны: ТСБПШ). ***Перада мной** рачны жыхар нырае за мальком* (П.Броўка). ТСБПШ – прыназоўнік. Рус. ***передо** мной.*

**ПЕРАД АБЛІЧЧАМ** *чаго* Род. Рэлят супрацьстаяння: *І аддавалася пяшчоце мужчынскай рукі, нервовай і вытанчанай, ужо дарослай, яна – што таксама шукала аўтарытэту **перад абліччам драматычнай смерці,** якая перарастала яе ранейшае, цялеснае*

*няўмецтва, што чапляецца за чужую даросласць* (В.Гамбровіч. Пер. В. Булгакава). *Ніхто не атакаваў ейнай веры – не патрабавалася яе бараніць – Бог станавіўся лішнім **перад абліччам атэізму**, што быў толькі шыльдай* (В.Гамбровіч. Пер. В. Булгакава). Сін. *перад.* Рус. ***перед лицом** чего.*

**ПЕРАД АДЫХОДАМ ДА** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў папярэднасці: *Асвяжэнне паветра ў пакоі асабліва важна вечарам, **перад адыходам да сну*** (падручн.). Сін. *перад.* Рус. ***перед отходом к** чему.*

**ПЕРАД АДЫХОДАМ З/СА** *чаго* **У/Ў** *што* Род.-Він. Час.: тэмпаратыў папярэднасці: *Арабы не ведалі грэцкай мовы, затым спачатку былі залежнымі ад перакладаў, выкананых іншымі падданымі, каторыя ведалі грэцкую і арабскую мовы: паганамі, жыдамі і асабліва нэсторыянскімі хрысціянамі, з каторых Ян Залатавусны, **перад адыходам са свецкага жыцця ў манастыр**, згуляў найболей важную ролю* (Я.Пятроўскі). Рус. ***перед отходом из** чего **во** что.*

**ПЕРАД АДЫХОДАМ У** *што* // **ПЕРАД самым АДЫХОДАМ У** *што* Він. Час.: тэмпаратыў папярэднасці: ***Перад адыходам у мінскае падполле** Соня прыйшла ў родную вёску развітацца з сястрой* («Звязда»). *А было ўсё гэта недзе **перад самым адыходам Францішка ў Кракаў** – за год, два* (А.Лойка). Рус. ***перед отходом во** что.*

**ПЕРАДАМ (Тв.) ДА** *каго/чаго* Род. *– Хацінка, хацінка, павярніся **да мяне перадам**, а да лесу задам* (З казкі). *Калі ўсё дзеецца на кухні, жанчына можа сесці на стальніцу ды аплесці нагамі партнёра, які стаіць **перадам да яе*** («Arche») Рус. ***передом к** кому/чему.*

ПЕРАД АСОБАЙ *каго*

ПЕРАД АСОБАМІ *каго*

**ПЕРАД ВАЧЫМА** *каго* Род. Адрасат: эксперыенцэр: ◊ ***Перад вачыма*** – у прысутнасці, на віду ў каго-небудзь (П.П.Шуба). ▬ *Чарапіцкі **перад вачыма** змоўкшых **рабочых** размашыста вымае з кішэні нож, нервова адрэзвае ад ботаў падноскі...* (П.Пестрак: ТСБПШ). «*І зрабілі сыны Ізраілевы злое **перад вачыма Бога**, і забылі гаспадара, Бога свайго», – колькі разоў паўтараецца гэтая формула ў «Кнізе суддзяў Ізраілевых»,і, відаць, гэтымі сваімі паўторамі яна перш за ўсё імпанавала Скарыне* (А.Лойка). *Лідэр лівійскай рэвалюцыі вырашыў рэабілітаваць сваю краіну **перад вачыма жыхароў** планеты...*(«Наш Час»). Сін. *перад.* Рус. ***перед глазами** кого.*

**ПЕРАД ВЫХАДАМ НА** *што* Він. Ускладн. Час.: тэмпаратыў папярэднасці: *Твар, рукі і ногі **перад выхадам на холад** добра змазаць гусіным (барсучным, заечым) салам* («Звязда», 12.02.05). Рус. ***перед выходом на** что.*

ПЕРАД ЗАКАНЧЭННЕМ *чаго*

**ПЕРАД ЗАХОДАМ / ПЕРАД самым ЗАХОДАМ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў папярэднасці; са словамі *сонца, месяц: Вярнуліся толькі надвечар, амаль* ***перад самым заходам сонца*** (Сіўцоў: ТСБМ). Рус. ***перед закатом*** *чего.*

**ПЕРАД НАДЫХОДАМ** *чаго* Род. Ускладн. Час.: тэмпаратыў папярэднасці: *Цяжка сказаць, у якой ступені гэтая інфармацыя адпавядала сапраўднасьці, а ў якой была прызначана ўзмацніць становішча ПБН* ***перад надыходам канфэрэнцыі*** («Arche»). *Асабліва важна* ***перад надыходам замаразкаў*** *праводзіць асеннюю перакопку глебы* («Родны край», 2009). Сін. *перад.* Рус. ***перед*** *чем.*

**ПЕРАД НАПОРАМ** *каго/чаго* Род. Ускладн. Каўзатыў: *«Можа, паехаць адсюль?» – варухнулася ў душы спозненая думка, водгук той маёй «ночы жаху», і памерла* ***перад напорам безнадзейнасці, жалезнай рашучасці і жадання біцца*** (У.Караткевіч). Сін. *перад націскам.* Рус. ***перед напором*** *кого/чего.*

**ПЕРАД НОСАМ** *каго* Род. Адрасат: эксперыенцэр: *Таму барбары зноў высадзілі ягоныя брамы і траслі* ***перад носам жыхароў*** *кантыненту сваімі дзідамі, не тлумачачы, што значыць гэтыя сыгналы – злагаду ці смерць* («Arche»). Рус. ***перед носом*** *кого.*

ПЕРАД НОСАМ У *каго*

**ПЕРАД КАНЦОМ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў папярэднасці: *Спаткаліся два чалавекі: варвар, які пачынаў новае жыццё, і паэт, што вяртаўся ў сваю найраднейшую айчыну, такую, якой ён яе запомніў* ***перад канцом свету*** («Arche»). ***Перад канцом змены*** *Сашу выклікалі ў дырэкцыю завода* (Шуцько: ТСБМ). ***Перад канцом вайны*** [Сцепаніду Андрэеўну] *напаткала непапраўнае гора – прыйшла чорная вестка аб смерці сына* (Шахавец: ТСБМ). Ант. *пасля заканчэння; перад пачаткам.* Сін. *перад заканчэннем.* Рус. ***перед концом*** *чего.*

ПЕРАД ПАРОГАМ *чаго*

**ПЕРАД ПАЧАТКАМ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў папярэднасці: *Калі сардэчная дзейнасць толькі што спынілася (30 – 40 сек. пасля страты прытомнасці), то перад* ***перад пачаткам штучнай вентыляцыі*** *лёгкіх трэба паспрабаваць узнавіць работу шляхам надсардэчнага ўдару. Для гэтага выратавальнік падымае сціснуты кулак на вышыню 20 – 30 см ад паверхні груднай клеткі і с сілай апускае яго на грудзіну* (Асновы мед. ведаў). *Зніміце паказанне лічыльніка* ***перад пачаткам работы*** (падручн.). *Перад пачаткам посту вернікам належыць усім дараваць усе крыўды і адзін у аднаго папраасіць даравання, прычым зрабіць гэта не толькі словам, але і ад сэрца* («Звязда», 12.03.05). Рус. ***перед началом*** *чего.*

**ПЕРАД САМЫМ/АЙ/ЫМІ** *чым* Тв. Прастор.: лакатыў адносна вельмі блізкага локума: ***Перад самымі Верамейкамі*** *яны пайшлі рознымі шляхамі: Чубар напрасткі, праз лес, каб выйсці на гуцянскую дарогу пасля і непрыкметна, а Сыркін павёў туды хлопцаў зусім у абход гэтага лесу* (І.Чыгрынаў). ***Перад самым Асінаўскім*** *лес парадзеў* (І.Пташнікаў). ◊ ***Перад самым носам*** – блізка, побач, у непасрэднай блізкасці ад каго-, чаго-н. (ТСБМ). Сін. *блізка ля; блізка; побач; у непасрэднай блізкасці да.* Рус. ***перад самым/ой/ыми...***; ***в непосредственной близости от*** *кого/чего.*

ПЕРАД ТВАРАМ *каго* (РБС, с. 409)

**ПЕРАД УВАХОДАМ У** *што* Він. Прастор.: лакатыў: *У генеральным плане ўвесь комплекс мае ўсе элементы каталіцкага кляштара: квадратны ўнутраны дворык... фруктовы сад з агародам, двор з гаспадарчымі пабудовамі і самастойным заездам, парадны дворык* ***перад уваходам у касцёл*** («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). *Аванложа – невялікае памяшканне* ***перад уваходам у тэатральную ложу*** (ТСБМ). ***Перад уваходам у нару*** *вытаптана і выраўнена круглая пляцоўка каля аднаго метра ў дыяметры* (В.Вольскі). Син. *пры ўваходзе ў.* Рус. ***перед входом в(о)*** *что.*

**ПЕРАД УЗЫХОДАМ** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў; з назвамі нябесных свяціл: ▶ *Назіраць гэтую цудоўную планету (Венеру) можна раніцай,* ***перад узыходам*** *або вечарам, пасля заходу* ***Сонца*** (падручн.). Ант. *пасля ўзыходу; перад заходам; пасля заходу*. Рус. ***перед восходом*** *чего.*

**ПЕРАД УПАДЗЕННЕМ** *чаго* **У/Ў** *што* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў + рэляцыйны прэдыкат: ***Перад упадзеннем у Прыпяць Гарыні*** *пацягнуўся дагістарычны лес* (У.Караткевіч). Сін. *перад сутокам*. Рус. ***перед впадением*** *чего* ***во*** *что.*

**ПЕРАЗ** *што* Він. Час.: дыменсіў-патэнсіў: ***Пераз*** *цалюсенькі дзень* (З.Санюк). Сін. – Він. без прыназ.: *Цалюсенькі дзень.* Рус. Вин. без предлога: ***Целый день.***

**ПЕРАК** *чаго* Род. Характарызатар: лакатыў: *Азірнулася* [Кланя] *на хату – немец ля парога стаіць, аўтамат чорны* ***перак грудзей*** (І.Пташнікаў). ТСБПШ – прыназоўнік; абл. Сін. *папярок.* Рус. ***поперек*** *чего.*

**ПЕРПЕНДЫКУЛЯРНА** *чаму* Дав. Рэлят размяшчэння на плоскасці адносна локума: *Далонь другой рукі выратавальнік накладвае на тыльную паверхню кісці першай рукі, нагінаецца ўперад, рукі выцягвае* ***перпендыкулярна грудзіне*** *пацярпелага і пры максімальным разгінанні кісцяў асновай, або пяткай, далоні робіць 15 штуршковых націсканняў* (Асновы мед. ведаў). Ант. *паралельна.* Рус. ***перпендикулярно*** *чему.*

**ПЕРПЕНДЫКУЛЯРНА ДА** *чаго* Род. Рэлят размяшчэння на плоскасці адносна локума: *Пры руху плазмы ў магнітным полі адбываецца перамяшчэнне пад дзеяннем сілы Лорэнца дадатных і адмоўных зарадаў у процілеглых кірунках* ***перпендыкулярна да кірунку*** *руху плазмы, гэта значыць ствараецца рознасць патэнцыялаў на полюсах генератара ў дзесяткі кілавольт* (падручн.). Ант. *паралельна да.* Рус. ***перпендикулярно к*** *чему*.

ПЕРШАЕ ЧВЭРЦІ *чаго*

**ПЕРШ ЗА** *каго/што* Він. Рэлят пераважнасці ў часе: *Тадэвуш быў бліжэй, дык змог іх папярэдзіць; Спыніўся ля Суддзі, каб* ***перш за іх*** *угледзець...* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ◊ ***Перш за ўсё.*** ▬ *Этнас і нацыя – паняцці вельмі блізкія, але не тоесныя,* ***перш за ўсё*** *гістарычна* (навук.). *Польская дэрывацыя – гэта* ***перш за ўсё*** *вербальная словаўтваральная сістэма* (навук.). *Гэты каляндар прызначаны* ***перш за ўсё*** *для жыхароў Беларусі* («Родны край», 2007). Рус. ***прежде*** *чего.*

**ПЕРЫЯДАМ** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *І тым больш, калі такі вялікі адрэзак часу няма аўтобуса, то можа б пусцілі б дадатковы рэйс* ***перыядам 20 хвілін****, гэта ж час пік!* (Інт.). Рус. ***периодом*** *сколько единиц.*

**ПЕРЫЯДУ** *чаго* Род. Характарызатар па часе: тэмпаратыў храналагічнага часу адносна адной дэскрыпцыі: *У беларускай мовазнаўчай літаратуры* ***перыяду 1966 – 1975 гг.*** *знайшлі адлюстраванне таксама пытанні мовы і стылю паасобных беларускіх пісьменнікаў* (навук.). *З імем Кузьмы Чорнага звязаны найбольш прыкметныя, выдатныя здабыткі беларускай прозы 20 – 30 гг і* ***перыяду Вялікай Айчыннай вайны*** (І.Навуменка). *Прырода гэтага даверу мусіць разглядацца не ў сферы веры як такой, а выключна ў рэлігійных тэрмінах, яна гэтаксама не мае ў падмурку ніякай нацыянальнай ідэі, як гэта было, напрыклад, у немцаў* ***перыяду нацыстаў*** (А.Андрыеўская). Сін. *часоў.* Рус. ***периода*** *кого/чего.*

**ПЕРЫЯДУ МІЖ** *чым* Тв. мн.л. Характарызатар па часе: тэмпаратыў храналагічнага часу: дыменсіў: *Мадэрнізмам звычайна называюць літаратуру* ***перыяду між дзвюма сусветнымі войнамі*** (С.Паўлычко. Пер. А.Скурко). Сін. *часоў паміж.* Рус. ***периода между*** *чем.*

ПЕРЫЯДУ МІЖ *чым* І *чым*

**ПЛОШЧАЙ** *колькі адзінак* Він./Наз. дыменсіў: *За 2000 – 2004 гады ў Веткаўскім раёне здадзена ў эксплуатацыю 93 кватэры агульнай* ***плошчай 6,8 тысячы квадратных метраў*** («Звязда», 27.04.05). *Вакол бібліятэкі будзе разбіты парк* ***плошчай 84 гектары*** («Звязда», 26.04.05). Рус. ***площадью*** *сколько единиц.*

ПЛОШЧАЙ АД *колькіх адзінак*

ПЛОШЧАЙ АД *колькіх адзінак* ДА *колькіх адзінак*

ПЛОШЧАЙ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

ПЛОШЧАЙ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

ПЛОШЧАЙ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

**ПЛОШЧАЙ БОЛЬШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Якія дзяржавы Еўропы маюць тэрыторыю плошчай* ***больш за 40 000 км²****?* (падручн.). *У паўночна-усходняй частцы возера размяшчаецца рамантычны востраў* ***плошчай больш за 6 га****, аб'яўлены помнікам прыроды* («Родны край», 2009). Сін. *плошчай звыш.* Рус. ***площадью более*** *скольких единиц.*

ПЛОШЧАЙ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

ПЛОШЧАЙ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

ПЛОШЧАЙ ДА *колькіх адзінак*

ПЛОШЧАЙ ЗА *колькі адзінак*

ПЛОШЧАЙ ЗВЫШ *колькіх адзінак*

**ПЛОШЧАЙ КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў: *У паветра было выкінута 7 тыс. т аміяку, які ўтварыў газавае воблака* ***плошчай каля 10 км²*** *і вышынёй 80 м* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***площадью около*** *скольких единиц.*

ПЛОШЧАЙ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

ПЛОШЧАЙ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

ПЛОШЧАЙ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

ПЛОШЧАЙ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

ПЛОШЧАЙ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

ПЛОШЧАЙ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

ПЛОШЧАЙ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

ПЛОШЧАЙ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

**ПЛОШЧАЙ НЕ МЕНЕЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Лесабалотныя ландшафты з буйнымі вярховымі балотамі* ***плошчай не меней за 500 га****, астравамі і мысамі, парослымі высакаствольным лесам* (Інт.). Рус. ***площадью не менее*** *скольких единиц.*

ПЛОШЧАЙ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

ПЛОШЧАЙ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

ПЛОШЧАЙ НЕ МЕНШ ЗА *колькі адзінак*

**ПЛОШЧАЙ НЕ МЕНШ ЧЫМ** *колькі адзінак* Він./Наз. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Каб выканаць гэту задачу, архітэктарам трэба дадаткова асвоіць тэрыторыю* ***плошчай не менш чым 42 тысячы гектараў*** («Звязда», 12.02.05).

ПЛОШЧАЙ НЕ МЕНШ ЯК *колькі адзінак*

ПЛОШЧАЙ ПАРАДКУ *колькі адзінак*

**ПЛОШЧАЙ У** *колькі адзінак* / **агульнай ПЛОШЧАЙ У** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Саўгасны сад **агульнай плошчай у 871 гектар** прыносіць прыбытак* («БД», 1999, №4). *Хваля, праходзячы праз пляцоўку **плошчай у адзін квадратны метр**, пераносіць за 1 с такую колькасць энергіі, якая змяшчаецца ў паралелепіпедзе...* (падручн.).

**ПЛЮС** *што* Наз. Рэлят сумеснасці і дадатковасці: *Разлік дакладны ды плюс удача, Паклон начальству ды жартаў крышку – Глядзіш – і стаўка, а там і дача, Грунтоўны базіс ашчаднай кніжкі* (П.Панчанка). *Каардыната цела ў любы момант роўна каардынаце цела ў пачатковы момант часу **плюс праекцыя** перамяшчэння цела за дадзены прамежак часу руху на каардынатную вось* (падручн.). Ант. *мінус*. Матэм. клішэ. Рус. ***плюс*** *что.*

**ПЛЮС ДА** *чаго* Род. Рэлят сумеснасці і дадатковасці: *Алена, азнаёміўшыся з вашай біяграфіяй, проста здзіўляюся, наколькі вы рознабаковы чалавек: вы і музыкант, і дызайнер, і народны майстар па касцюме, ды і **плюс да ўсяго** – фатограф!* (К. Дзенісенка). Сін. *у дадатак да.* Рус. ***плюс к*** *чему.*

**ПО** *чым* Месн./Дав. Тое ж, што і **ПА** ў знач. **ПА[3]-8. ━** *Кось-кось-кось – пакуль у аглоблі, потым **по баку** дугою ды ў жывот яшчэ нагою* (К.Крапіва: ТСБПШ). *І ён пачаў расказваць, як калісьці ашукаў на кірмашы цыгана, купляючы ў яго кабылу; нават даў яму **по вуху*** (К.Чорны: ТСБПШ). ТСБПШ – прыназоўнік; разм. Рус. ***по*** *чему.*

**ПОБАЧ-1** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: ***Побач той рачулкі*** *кучы буралому* (ППШ). ***Побач храма*** *пастроены людзьмі царкоўны дом* (Л.Геніюш). *У драўляным дамку **побач чырвонага касцёла*** *Люба нанялася падмятаць, бегаць на пасылках* (К.Чорны). *Ён* [Міхаіл] *сядзеў на тым канцы даўгога стала, на покуце, **побач бацькі*** (М.Вайцяшонак). З субстантываваным прыметнікам: *Зноў будзе і ў пашане Яго імя, і **побач слаўных, чэсных** стане* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ▲ *На брычках* ***<u>дамы</u>*** *ехалі ў канцы калоны, А **побач** – моладзі натоўп вясёлы конны* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *каля*. Рус. ***рядом с*** *кем/чем.*

**ПОБАЧ-2** *каго/чаго* Род. Рэлят выключэння: *Усё, што **побач рэвалюцыі**, то безумоўна ніжэй яе па значнасці* (Ц.Гартны: ТСБПШ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; абл. Сін. *па-за.* Рус. ***вне*** *чего.*

**ПОБАЧ-3** *каго/чаго* Род. Рэлят уключэння: *На працягу ўсяе ночы, **побач другіх асоб** у снох, неадходна стаяла ў яго вачах надта пекная дзяўчына, кропля ў кроплю з Зосяю* (Ц.Гартны: ТСБПШ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; абл. Сін. *акрамя.* Рус. ***наряду с*** *кем/чем.*

**ПОБАЧ З/СА-1** *кім/чым* / **З** *кім/чым* **ПОБАЧ** / **ПОБАЧ** Тв. Прастор.: лакатыў адносна блізкага локума: *Стары корпаўся ў агародчыку **побач з домам*** (Н.Марціновіч). *Як ты станеш вылежвацца, калі **побач з табой** так працуюць* (І.Шамякін). *А ў час, як Зося словы тыя дамаўляла, **З ёй побач** стаў Гервазы, здзіўлены нямала* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Гавораць, калі **побач з настаўнікам** падрастае самародак, ён знаходзіцца нібыта пад аховай мудрасці* (А.Слука). *Якраз **побач з кубінскімі маракамі** прымасцілася беларуская змейка з яе высока ўскінутай галавой* (А.Вярцінскі). *Дзесьці спяць мае сябры ў акопах. Дай і мне, Бог, легчы **з імі побач*** (М.Танк). ||Наз. з прыназ.: *Усталёўваешся ў адлегласць, якой немагчыма парушыць, каб апынуцца **з далёкім побач**, а з блізкім яшчэ бліжэй* (А.Разанаў). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Сін. *каля*. Рус. ***рядом с*** *кем/чем.*

**ПОБАЧ З/СА-2** *чым* / **З** *кім/чым* **ПОБАЧ-2** Тв. Характарызатар-камітатыў: ***Побач з прафесійнымі праблемамі*** *творчасці пісьменніку даводзілася вырашаць задачы першаступеннай сацыяльнай значнасці* (навук.). *Але, дружа мой, усё гэта сталася з цягам доўгага твайго творчага змагання, дзе **побач з радасцямі і задаволенасцю** было столькі засмучэнняў і болю...* (К.Кірэенка). ***Побач з чатырохстопным ямбам** («...Па межах родных і разорах») і **шасцістопным ямбам** у яго* [Купалы] *з'яўляюцца трохскладовыя памеры («Запушчаны палац»)* (В.Рагойша). ***З гэтай шчыраю песняю побач** прайду я, Летуценнем дзівосным яе акрылю* (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Сін. *разам з*. Рус. ***вместе с*** *чем.*

**ПОБАЧ З/СА-3** *кім/чым* Тв. Рэлят параўнання: *Ён не мог не адчуваць, што **побач з ім** ён, Мусатаў, заўсёды будзе выглядаць, як п'яны капрал* (У.Караткевіч). Сін. *у параўнанні з.* Рус. ***рядом с*** *кем/чем.*

**ПОБАЧ З/СА-4** *чым* Тв. Час.: рэлят адначасовасці: ***Побач з працай над дыялекталагічным атласам** праводзілася манаграфічнае апісанне і вывучэнне беларускіх дыялектаў* (М.Суднік). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Сін. *адначасова з*. Рус. ***вместе с*** *чем.*

**ПОБАЧ З/СА-5** *кім/чым* Тв. Суб'ект: суагенс: *Плёну ў працы значна больш, калі **побач з табой** шчыруюць сябры.* Сін. *разам з.* Рус. ***вместе с*** *кем.*

*хто/што* **ПОБАЧ** *каго/чаго* Наз.-Род. Інтэрпазіц. Ва ўзаемназваротных займенніках: *адно **побач** аднаго; **побач** адно аднаго; адзін **побач** другога*: *Вось прывіталіся й павольнаю хадою, ажыўлена гаворачы, падаліся разам у тым кірунку, куды трэ было ёй, блізень-*

*ка **адно побач аднаго*** (С.Юстапчык (Антон Адамовіч)). ▶ *Размешчаныя **побач** на нябеснай сферы зоркі, нават калі яны выглядаюць аднолькава, знаходзяцца на велізарных адлегласцях адна ад адной* (падручн.). *Веліч і трагедыя заўжды стаяць **побач*** (К.Тарасаў). ▶ *Мы з табой, як сляды ад колаў, Ходзім **побач** апошні раз* (А.Руцкая). Рус. *друг **возле** друга.*

*хто/што* **ПОБАЧ З/СА** *кім/чым* Наз.-Тв. Інтэрпаз. Ва ўзаемназваротных займенніках: *...часткі ягонага цела няўцямна рухаюцца **адна побач з другой...*** (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна). Рус. ***рядом** друг **с** другом*.

ПОБАЧ З ІМЕМ *каго*

**ПОБАЧ ЛЯ** *каго/чаго* Рэдуплікацыя. (ППШ; без кантэкста).

**ПОБАЧКІ З** *кім/чым* Тв. Прастор.: лакатыў адносна блізкага локума: *Выцерла слёзы, пайшла ў свет дарогаю **побачкі з сонцам**, дарогаю слаўнаю* (Я.Купала). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Сін. *побач з.* Рус. ***рядышком с** кем/чем.*

**ПОБАЧ НА** *чым* Месн. Прастор.: лакатыў: *А **побач на малюнку** – спрытны скакунок, здаецца, леляпс, які ў змаганні за існаванне перамог і знішчыў на зямлі велізарна-нязграбнага, з маленькай галоўкай атлантазаўра, каб пасля знікнуць і самому...* (С.Юстапчык (Антон Адамовіч)). Рус. ***рядом на** чем.*

**ПОБАЧ-ПОБАЧ З/СА** *чым* Тв. Ускладн. Прастор.: лакатыў + інтэнсіў: *Г'ерг пабачыў, як падаўся налева сцяг караля Босніі Тврка, а пасля ў хмарах пылу мільгнулі флагі князя Лазара **побач-побач са страшнымі маладзікамі*** (І.Кадарэ. Пер. А.Дынько і Ю.Вроні). Рус. ***совсем рядом с** кем/чем.*

**ПОБЛІЗ** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна блізкага локума *Лячу я **побліз месяца**, Журба ў грудзях не месціцца* (М.Гаўрусёў: ТСБПШ). [Гагарын]: *Я сын аратага, і мне здалося: **побліз карабля** не зоры – зерне ў баразне, а неба – чорная ралля* (А.Вялюгін). *Толькі **побліз роднай вёскі**, Быццам сонца хто схаваў, Як пабачыла, што поле Град бязбожна здратаваў* (П.Броўка). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *паблізу.* Рус. ***поблизости от** кого/чего.*

**ПОБЛІЗУ** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна блізкага локума: *Сяліба была глухая і стаяла яна **поблізу рэштак** велізарнага лесу* (К.Чорны: ТСБПШ). ***Поблізу яго*** [дзядзькі]*, прывязаны да плоту, стаяў нязграбны галаваcты конь* (І.Мележ). *На вакзальнай плошчы, у трамваі, **поблізу мяне** сеў чалавек* (Я.Скрыган). ▶*Іх двое, зліўшыся, стаяла... Я **поблізу*** [іх] *ішоў дарогай. Хацеў мінуць. Не змог, аднак. Яны не бачылі нічога. І я не бачыў. Лепей так!*

(П.Броўка).▶ <u>*Ён*</u> *азірнуўся навокал – усе, хто быў **поблізу**, сачылі за ім і Марцінам* (І.Мележ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.

**ПО́БЛІЗУ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна блізкага локума: *Гэтаму ён навучыўся ў Івана Лютынскага, вядомага на ўсю акругу майстра-самародка, які жыў у Лужках, **поблізу ад вёскі** Барсукі* (І.Марачкін). ***Поблізу ад абоіх вёсак** ёсць лясныя ўрочышчы з назваю Бердаўка* (Інт.). Сін. *недалёка ад.* Рус. ***поблизости от*** *кого/чего.*

**ПО́ВЕРХ** *чаго* Род. Характарызатар: *На нагах, **поверх ботаў**, былі надзеты саламяныя эрзац-галошы* (М.Ткачоў: ТСБПШ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *паверх.* Рус. ***поверх*** *чего.*

**ПО́ВЕРХУ** *чаго* Род. Характарызатар-транзітыў: *Раптам пабег ад сянец па хаце – шу-шу-шу-шу! – лёгкі пошумак, быццам вецер прайшоў **поверху** ўмёрзлага ў балота **чароту*** (У.Паўлаў). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *паверх.* Рус. ***поверх*** *чего.*

**ПО́ДЛЕ** *чаго* Род. Крытэрый: рэлят адпаведнасці: *Усё – і прыклады із старых памяткаў – пададзена **подле цяперашняга правапісу*** (Я.Станкевіч). Сін. *паводле.* Рус. ***в соответствии с*** *чем.*

**ПО́ДЛУГ** *чаго* Тое ж, што і **ПАВОДЛЕ.** ТСБПШ – прыназоўнік; без кантэкста. Рус. ***согласно*** *чему.*

**ПО́ДЧАС** *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў адначасовасці: *... на вялікіх кірмашах у Чашіках, Бялынічах, Хіславічах, Шклове, Гомлі, у Полацку на Красным кірмашы і цяпер пачуеш **подчас вясёлай бяседы** яе* [«Энеіды»] *урыўкі, хоць часта перайначаныя так, што ледзьве пазнаеш арыгінал* (Р.Друцкі-Падбярэзскі: ТСБПШ). ТСБПШ – прыназоўнік; устар. Сін. *падчас.* Рус. ***во время*** *чего.*

**ПО́-КАЙ** *чаго* Род. Дыял. Прастор.: лакатыў: *Было **по-кай рэчкі*** (Дыял. атлас бел.м.).

ПО́МЕЖ З/СА *кім/чым*

**ПО́МІЖ** *кім/чым* Тв. Рэлят суадносін: *Поміж намі ёсць парогі, і нам іх не абмінуць* (Я.Колас: ТСБПШ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; устар. і абл. Сін. *паміж.* Рус. ***между*** *кем/чем.*

ПО́МІЖ З/СА *кім/чым*

**ПОПЕРАК** *чаго* Род. Характарызатар: *Тварыцкі хапіў яго* [Скуратовіча] ***поперак цела** і падняў гэты страшэнны для яго цяжар* (К.Чорны). *Канец лесвіцы я паклаў **поперак складанкі** дроў* («Arche»). ***Поперак духу злому** Воля Господня стане* (Р.Барадулін). *– Шчасце тваё, што стары, а то я паказаў бы, як станавіцца **поперак дарогі**...* (Мяжэвіч: ТСБМ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ.; разм. Ант. *уздоўж.* ▬ *Промні святла з батарэек **уздоўж і поперак вуліцы** праціналі цемру* (П.Пестрак). Сін. *папярок.* Рус. ***поперек*** *кого/чего.*

**ПОПЛЕЧ** *каго* Род.; як правіла, з адушаўлёнымі назоўнікамі. Прастор.: лакатыў адносна асобы як локума. *Гаспадар ішоў **поплеч Міхалкі*** (К.Чорны). *У трывозе Кацярына **поплеч любага** ідзе* (П.Броўка). ▶ *Ад варот напрамкі – <u>магіла Анатоля</u>. Тут пахавана ўся яго радня. **Поплеч** – магілы бацькоў, а таксама мужа і двух дзяцей сястры Тамары* (ЛідзіАна). «*Вось цераз нізінку пратопаем, а там за ляском вёска. Недалёка ўжо, – падбадзёрыў Рыбак, стоячы да <u>яго</u> бокам, – чакаў, каб пайсці **поплеч**»* (В.Быкаў). У перакладзе на рус. таксама з рэдукцыяй назоўніка: *...чтобы идти **рядом*** (пер. автора). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *поплеч з.* Рус. ***рядом с кем**/чем.*

**ПОПЛЕЧ З/СА-1** *кім/чым* / **З** *кім/чым* **ПОПЛЕЧ** Тв. Характарызатар: суагенс-камітатыў: *Ісці **поплеч з братам.** Рабіць **поплеч з бацькам**.* ━*Ён* [Выліваха] *паправіў на спіне лютню і рушыў **поплеч са Смерцю*** (У.Караткевіч). *Да гэтага радаснага жыцця ідзе вёска **поплеч са сваім старшым братам** – горадам* (К.Чорны: ППШ). *Поспех з'явіўся і вынікам ваеннага таленту, які паказалі Дзмітрый Данскі і князі, што змагаліся **з ім поплеч*** (К.Тарасаў). *І камісар, сваім алоўкам паклаўшы подпіс, так сказаў: «Ну што ж, раз так – бяры вінтоўку, ты сёння **з намі поплеч** стаў»* (П.Броўка). *Бачыў смешнага старога, які няйначай як здзяцінеў, а цяпер вось чыкульгае **поплеч з марскім паляўнічым** Айметам* (Ю.Рытхэу). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Сін. *побач з / з ... побач; разам з / з ... разам.* Рус. ***рядом с** кем / **с** кем **рядом**.*

**ПОПЛЕЧ З/СА-2** *кім/чым* / **З/СА** *кім/чым* **ПОПЛЕЧ** Тв. Рэлят параўнання: *Няма, бадай, на свеце славы, Каб роўнай **поплеч** стала **з ёй**!* [песняй] (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). Сін. *у параўнанні з.* Рус. ***рядом с** кем/чем.*

ПОПЛЕЧКІ *каго*

**ПОПЛЕЧКІ З/СА** *кім* Тв. Характарызатар: суагенс-камітатыў: *І Межалайціс **поплечкі з Цільвісам**, і Матузявічус, і Мазурунас* (М.Калачынскі: ТСБПШ). ***Поплечкі з імі*** [дзяўчатамі]*за працай суровай – мужнія жонкі, салдацкія ўдовы* (А.Куляшоў: ППШ). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ.

**ПОПЛЕЧ ЛЯ** *каго* / **ЛЯ** *каго* **ПОПЛЕЧ** Род. Характарызатар: лакатыў: *Хай **ля мяне** пасядуць **поплеч** Гады, што не ўцяклі далёка* (Р.Барадулін). Сін. *каля.* Рус. ***рядом с** кем.*

**ПОПЫРОД** *каго/чаго* Род. Дыял. Характарызатар: лакатыў: *П'ять козаків: два спэроду, тры ззаду – йїдут. **Попырод молодухы** йїдут, як можут узяты* (в. Камянюкі Камянецк. р-на. Ф.Д.Клімчук). Сін. *паперадзе.* Рус. ***впереди** кого.*

**ПОРАВЕНЬ З/СА** *кім/чым* Тв. Характарызатар: лакатыў: *Дзед махае рыдлёўкай* ***поравень са мною*** *і яшчэ расказвае пра тое, як працаваў грузчыкам на чыгунцы* (А.Глобус). Сін. *поруч з/са.* Рус. ***рядом с*** *кем.*

**ПОРУЧ-1** *каго* Род. Камітатыў: *Папераздзе ішлі паліцыянты, за імі поруч адзін аднаго – стары Няміра, сымон Чуйка і ягоны хлопец. Малады яшчэ вельмі, год так семнаццаць яму* (К.Чорны: ТСБПШ). ▶ *Нашто* ***я*** *сабе, калі цябе няма* ***поруч****?* (У.Караткевіч). *Зноў далёкім мроівам дрыжала тое нядужае жаданне, каб быў* ***поруч****, абняў* *яе* (В.Адамчык). *Далей Ясінскі, юны прыгажун схмурнелы, А* ***поруч*** *Корсак, сябра неадступны, смелы...* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *поплеч.* Рус. ***рядом с*** *кем.*

**ПОРУЧ-2** *чаго* Род. Лакатыў: *Дама ў веку пяцідзесяці двух гадоў, жыхарка Эль-Гізы,* ***поруч Каіру,*** *заве ... сваю маладую нубійскую пакаёўку* (Г. Мэт'юз. Пер. Ю.Марголіна). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *блізу.* Рус. ***возле*** *чего.*

**ПОРУЧ-3** *каго/чаго* Род. Несупрасторавы транзітыў: ***Я*** *разгубіўся на момант і не падняў рукі, машина ветрам прашмыгнула* ***поруч****, і нас зноў ахінула цемра* (В.Быкаў). Сін. *міма.* Рус. ***мимо*** *кого/чего.*

**ПОРУЧ З/СА-1** *чым* Тв. Прастор.: лакатыў непасрэднай блізкасці да локума: *У кухні,* ***поруч з пакоікам*** *настаўніка, дзе ён спаў, стаяў глухі шум ад галасоў цельшынскага жыхарства* (Я.Колас). *А* ***поруч з*** *убогімі людскімі* ***будынкамі*** *ўпёрліся ў неба панскія палацы, зелянеюць сады, ломяць галлё яблыкі і грушы...* (Я.Колас). ***Поруч са словамі*** *«напрыканцы», «напрыпачатку» ў друку стала ўжывацца новаўтвораная лексема «напершапачатку»* (Н.А.Чабатар). *Стаяла там за плотам блізка,* ***поруч з садам****, Дзе Рыкаў абапёрты быў сваім атрадам, старая сырніца* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *На прыгуменні,* ***поруч з садам****, Павець з гумном стаяла радам...* (Я.Колас). Сін.*блізка ля; каля.* Рус. ***рядом с.***

**ПОРУЧ З/СА-2** *кім* / **З/СА** *кім* **ПОРУЧ** Тв. Камітатыў: *Міцю зноў зажадалася быць* ***поруч з ёю*** (В.Адамчык). *На заключным пасяджэнні мы сядзелі* ***з ім*** [Караткевічам] ***поруч*** (А.Асіпенка). ▶ *Каб дапісаць партрэт Антося, Скажу: на свеце не знайшлося Ні ўдоўкілюбкі, ні дзяўчыны, каб палучыць дзве палавіны, Каб разам шчасце здабываць І* ***поруч*** *долю падзяляць* (Я.Колас). Сін. *разам з.* Рус. ***вместе с*** *кем.*

**ПОРУЧ З/СА-3** *чым* / **З/СА-3** *чым* **ПОРУЧ** Тв. Рэлят паралельнай сувязі: *На працягу ўсяго часу* ***поруч з кнігай*** *ішла вусная творчасць* (А.Лойка). *Поруч са старымі ў зборнік выбраных твораў паэта ўключаны і новыя, напісаныя ім у апошні час* (У.Дубоўка:

ТСБПШ). ТСБПШ – спалуч. прысл. з прыназ. у знач. прыназ. Сін. *у звязцы з: Пры гэтым вельмі часта творчая постаць Якуба Коласа бачыцца **поруч** ці **ў цеснай звязцы з постацыю Янкі Купалы*** (А.Бельскі). Рус. ***вместе с*** *чем.*

**ПОСЛЕ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў следавання: ***После*** *гэтай **працы-мачыхі** спачынь, сонейка* (Я.Купала). Русізм. Сін. *пасля.* Рус. ***после*** *чего.*

*колькі адзінак* **ПОТЫМ** Він. Постпаз. Ускладн. Час.: квантытатыў + таксісны тэмпаратыў следавання: ***Некалькі хвілін потым*** *угаворвала далучыцца да ўсіх і Дамеціха* (І.Мележ). Сін. *пасля.* Рус. *сколько времени **спустя.***

**ПОТЫРЧ** *чым* Тв. Характарызатар: спосаб: *У астатнім намаганні Літаварыха рванулася ўперад і **потырч галавою** ткнулася ў гразкае, што калыхалася пад нагамі, багнішча* (В.Адамчык). *Ён з радасцю падумаў, што Мураўёву, хоць часова, ляцець **потырч галавою*** (У.Караткевіч). Рус. ***торчком вниз.***

**ПОЎЗ** *што* Він. Несупрасторавы транзітыў: *Ехаў **поўз сяло*** (Віцебшч.). Дыял. Сін. *паўз.* Рус. ***мимо*** *чего.*

**ПОЎЗВЕРХ** *чаго* Род. Характарызатар-транзітыў: *І чуць апошні лёд зламаўся, з зямлі клубок вады падняўся і з шумам коціць **поўзверх лёду*** (Я.Колас: ТСБПШ). ТСБПШ – прысл. у знач. прыназ. Сін. *паверх.* Рус. ***поверх*** *чего.*

ПРА ***ТСБПШ – прыназоўнік.***

**ПРА-1** *каго/што* Він. Аб'ект: дэлібератыў; пры назоўніках з абстрактна-лагічнай семантыкай; пры займенніках: ***Пра што*** *некалі снілі, тое пры Саветах зрабілі* (нар.). *Мы яшчэ не расказалі як след нашым дзецям і моладзі **пра** выдатнага беларускага **асветніка першадрукара Ф.Скарыну**, **пра** легендарнага **рэвалюцыянера, аднаго з кіраўнікоў** паўстання 1863 года **Кастуся Каліноўскага, пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча**, **пра** выдатнага **паэта** і абаяльнага **чалавека Францішка Багушэвіча*** (Я.Брыль). ***Пра самабытнага і арыгінальнага жывапісца і графіка, этнографа і фальклрыста, лексікографа (слоўнікара!..) Язэпа Драздовіча*** *чытаў не раз і нямала* (Ф.Янкоўскі). *Толя забыўся **пра дагавор** з Валяй, што будзе чакаць яе на сваім завулку* (А.Якімовіч). *Гаворцы не было канца – і **пра сябе і сваё запаветнае, і пра знаёмых, і пра вычытанае з кніг, і пра палітыку*** (Т.Хадкевіч). *Яе брала дзіва, што гэта наіўнае дзяўчо з нейкай смешнай сталасцю дбае **пра яе*** (В.Адамчык). ↔ **Пра тое, што (**злучнік і злучальнае слова**); пра тое, як (**злучнік і злучальнае слова): *Алесь расказаў пра дарогу, пра размову з прафесарам, **пра тое, як** гучала песня ў снягах, пра*

*пагрозлівы сон* (У.Караткевіч). *Не было ўжо шкадавання аб дарагім, што назаўсёды траціла, ні трывогі* ***пра тое, як*** *будзе далей* (І.Мележ). З адносным займеннікам пры наміналізаванай дадзенай часціцы ў спрошчаным складаным сказе: *Было* ***пра што*** *ўспомніць.*▬ *Аўтару яе* [кнігі] *было* ***пра што*** *ўспомніць,* ***пра што*** *расказаць* (Арсень Ліс). *Знайшлі* ***пра што*** *гаварыць за абедам* (І.Шамякін).Сін. *аб.* Рус. ***о*** *ком/чем.*

**ПРА-2** *каго/што* Він. Дэстынатыў: *Есць, да не* ***пра вашу чэсць*** (нар.). ◊ ***Пра сябе*** **–** чытаць не ўголас, для сябе. Сін. *для.* Рус. ***про*** *кого.*

**ПРА-3** *што* Він. Фінітыў: *Пакінуць пра ліхую гадзіну* (П.П.Шуба). *Няхай застанецца пра чорны дзень* (П.П.Шуба). ◊ ***Пра запас*** **–** на выпадак, калі спатрэбіцца (П.П.Шуба).▬ *Тут жа стаяў і шафік а ў шафіку* ***пра запас*** *вадзілася гарэлка* (Я.Колас). Сін. *на.* Рус. ***на*** *что.*

**ПРА-4** *што* Він. Каўзатыў: *Зганьбілі чалавека, а за што?* ***пра што****?* (з запісаў нар. гаворак: ТСБПШ). ◊ ***Ні за што ні пра што*** **–** без дай прычыны, без падстаў. [Даніла]: *Вось* ***ні за што ні пра што*** *пахавалі чалавека. А ён можа цяпер у дарозе – Чырвоную армію вядзе* (К.Крапіва: ТСБПШ). Сін. *за; праз.* Рус. ***за*** *что.*

*ні* **ПРА** *каго/што* Він. Інтэрпаз. У адмоўных займенніках: *Зоська не ўдзельнічала ў размове і* ***ні пра што*** *не пыталася* (В.Быкаў). Рус. *ни* ***о*** *чем.*

**ПРАВАРУЧ** *каго/чаго* Род. Лакатыў адносна цэнтральнага локума: *Пастаў над імі бязбожнага, і д'ябал хай стане праваруч яго* (Р.Барадулін). ***Праваруч дарогі*** *станавіліся гуфы віленцаў і трачан* (К.Тарасаў). *Рынчачная плошча знаходзілася на правым баку вуліцы, калі ад Крэўскай брамы падавацца па вуліцы* ***праваруч рынку*** (А.Лойка).▶ ***Праваруч*** *на ўтравелым пагорку падступала да самага адхону шаравата-крэйдавая каланада ратонды* («Arche»). *Палякі пайшлі* <u>*з левага боку возера*</u>*, ваяры Вітаўта –* ***праваруч*** *і прама з маршу пачалі перастройвацца ў баявыя парадкі* (К.Тарасаў). Ант. *леваруч.* Сін. *з правага боку.Рус.* ***с правой ситороны*** *кого/чего.*

**ПРАВАРУЧ АД-1** *каго* Род. Лакатыў адносна правай рукі асобы, каля якой сядзяць: *І ўзышоў на неба Хрыстос Нябачным ззяннем. І сядзіць* ***праваруч ад Айца*** (Р.Барадулін). *І* ***праваруч ад самаўладца-хама*** *Самога д'ябла ў чорным ахінале Пастаў, Няхай пасведчыць чарадзе і светласць хама* (Р.Барадулін). *Цяпер гэты, па іх ранейшаму меркаванню, жэўжык сядзеў у прэзідыуме,* ***праваруч ад*** *дырэктара інстытута – самога акадэміка Лістова* (С.Давідовіч). *Гаспадар Белага Лесу сядзеў у тарцы стала і свідруюча-дапытлівымі вачыма глядзеў на падначаленых.* ***Праваруч ад яго*** *варушыўся ў крэсле шэры Воўк* («Наша Ніва»). Ант. *леваруч*: <u>*Праваруч ад мяне*</u>

*стомленая, пакорлівая няўдаламу лёсу Карла.* ***Леваруч*** *– неспакойны, хваравіты Гельвер, поўны маладой прагі жыцця* (Інт.). Сін. *па правую руку ад.* Рус. ***по правую руку от*** *кого.*

**ПРАВАРУЧ АД-2** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна цэнтральнага локума: ***Праваруч ад мяне*** *быў калгасны ток, а леваруч – альбо разваленая, альбо недабудаваная МТС* (Інт.). *Адзіным мастком паміж кінатэатрамі 90-х і 30-х служыў «Геліяс», кінатэатар з дзвюма заламі на Вялікай вуліцы* ***праваруч ад віленскай Ратушы,*** *назва якога фігуруе ў дзённіках народнага паэта* (А.Антанян). *У сярэдзіне – багаты алтар Найсвяцейшай Панны і* ***праваруч ад уваходу*** *другі, таксама прыгожы* («Наша вера»). *Юры Такмакоў усё-такі захапіў замак Азярышча, найбольш аддалены абарончы пункт* ***праваруч ад Дзвіны*** (А.Янушкевіч). *На ўездзе ў мястэчка,* ***праваруч ад дарогі,*** *стаяў вялізны брудна-шэры намёт, каля якога завіхаліся некалькі чырвонаармейцаў* (В.Мудроў). Ант. *злева ад.* Сін. *справа ад.* Рус. ***справа от*** *кого/чего.*

**ПРАВАРУЧ ЛЯ-1** *каго* Род. Лакатыў адносна правай рукі асобы, каля якой сядзяць: *І ўстаў жывы на трэці дзень паводле Пісьма.*

*І на неба ўзыйшоў, ды сядзіць* ***праваруч ля Айца*** (Малітва). Ант. *леваруч.* Сін. *па правую руку.* Рус. ***по правую руку от*** *кого.*

**ПРАВАРУЧ ЛЯ-2** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна цэнтральнага локума: ***Праваруч, ля*** *намёту князя Лазара, усчалася нейкая сумятня, але Г'ёрг ня мог адарваць вачэй ад сечы* (І.Кадарэ). Ант. *злева ад.* Сін. *справа ад.* Рус. ***справа от*** *кого/чего.*

**ПРАВЕЙ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў адносна цэнтральнага локума: *Абараняўшыя мост прыйшлі ў часовае замяшанне, даўшы магчымасць адной з рот хутка пераправіцца бродам праз раку* ***правей маста*** (Інт.). Ант. *лявей.* Сін. *управа ад.* Рус. ***правее*** *чего.*

**ПРАВЕЙ АД** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна цэнтральнага локума: ***Правей ад цэнтра*** *можна знайсці чыстыя мовы* (Інт.). *Рэстаран знаходзіцца* ***правей ад гатэля*** *у напрамку да плошчы з гадзіннікам* (Інт.). Ант. *лявей ад.* Сін. *направа ад.* Рус. ***правее от*** *чего.*

**ПРАВЕЙ ЗА** *што* Він. Прастор.: лакатыў адносна цэнтральнага локума: *З дапамогаю радка формул (радка прагляду) лёгка ўпэўніцца, што ячэйкі* ***правей за А10 і А11*** *з'яўляюцца пустымі* (падручн.). Сін. *справа за.* Рус. ***правее*** *чего.*

**ПРАВОС** *што* Він. Транзітыў: *Бег* ***правос сад*** (Віцебшч.). Дыял. Сін. *праз.* Рус. ***через*** *что.*

***ПРАД*** ТСБПШ – прыназоўнік. Фанетычны варыянт **ПЕРАД** у розных значэннях. Ужыв. пераважна ў мове паэзіі. Часцей заўважаны ў мове Коласа, Купалы.

**ПРАД**[1] *чаго* Род. Час.: тэмпаратыў: *Хцівец, дачакаўшы* ***прад святога Яна****, Зайшоў ў лес далёка ад самага рана, выспаўся за соньца, вечарам памыўся і сабе чакае: ці прэндка паўночы?* (Ф.Багушэвіч). Сін. *напярэдадні.* Рус. ***накануне*** *чего.*

**ПРАД**[2] *што* Він. Суб'ект успрымання: эксперыенцэр: *Чыстым стану* ***прад Божыя вочы*** (У.Караткевіч: ТСБПШ). Сін. *перад.* Рус. ***пред*** *кем.*

**ПРАД**[3]**-1** *кім* Тв. Адрасат: *На момант ціха стала ў хаце, Куды мужчыны завіталі, Спыніліс, шапкі пазнімалі,* ***Прад абразамі*** *гнуць галовы* (Я.Колас). Сін. *перад.* Рус. ***пред*** *кем.*

**ПРАД**[3]**-2** *кім* Тв. Суб'ект успрымання: эксперыенцэр: *Вочак пару хацеў бы я мець* ***прад сабою*** (Я.Купала). *Бо прырода – найцікавейшая кніга, якая разгорнута* ***прад вачамі*** *кожнага з нас* (Я.Колас). Сін. *перад.* Рус. ***пред*** *кем.*

**ПРАД**[3]**-3** *кім* Тв. Час.: тэмпаратыў папярэднасці: *У грамадзе навіны, чуткі, Як ручаі журчаць вясной Або той вецер* ***прад гразой****, Калі ён хіліць лознік гнуткі* (Я.Колас). *Глянь зоркі Крывавай Мігціць акрайчык, як божая ўсмешка* ***Прад спаннем*** *кінута свету ласкава* (Я.Купала). *Зірні на луг* ***прад навальніцай****, Калі крыжастай бліскавіцай У страсе твар ахрысціць хмара* (Я.Колас). Ант. *пасля.* Сін. *напярэдадні.* Рус. ***перед*** *чем.*

**ПРАД**[3]**-4** *кім/чым* Тв. Рэлят супастаўлення: *і голас змаўкае дакукі прад веліччу зорнага ззяння* (Я.Колас). Сін. *у параўнанні з.* Рус. ***пред*** *кем/чем.*

**ПРАДА** *чым* Тв. Фанетычны варыянт **ПРАД** перад збегам зычных у форме *мной/ю.* ▬ *А слова «здраднік» адбівалася ўкруг рэхам I цэлы дзень ад рання самага да змроку Вілося* ***прада мной****, як пламя ў хворым воку* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *перада.* Рус. ***предо*** *мной.*

***ПРАЗ*** ТСБМ, ТСБПШ – прыназоўнік.

**ПРАЗ-1** *каго* Він. Сітуант: пасрэднік: *Закон* ***праз Маісея*** *дадзены, а благадаць і ісціна* ***праз Іісуса*** *сталіся* (Свяшчэннае Евангелле). *Не паслаў Бог Сына Свайго ў свет, каб судзіць свет, але каб свет быў спасёны* ***праз Яго*** (Свяшчэннае Евангелле). *Другі пасажыр падаў* ***праз лётчыка*** *на зямлю некалькі скрынак, мяшкоў, пакункаў і сышоў сам* (Т.Хадкевіч). ◊ ***Праз дзесятыя рукі.*** ◊ ***Сам праз сябе*** – сам па сабе, самастойна, без пасрэднікаў. ▬ *Вялікі ўплыў на развіццё адчуванняў ідум мела маці, жанчына простая, што навучылася чытаць* ***сама праз сябе****, але развітая і многа чытаўшая, пачынаючы Бібліяй і канчаючы Талстым* (К.Чорны). – *Я ... так... хлопец... падарожны,* ***Праз сябе сам****... Я... нічый!* (Я.Колас). ↔ **Праз таго, хто.** Сін. *з дапамогай.* Рус. ***через*** *кого.*

**ПРАЗ-2** *што* Він. Інструментыў: *Толькі **праз мае рукі** прайшло столькі «правільна» пішучых людзей, што пры іх пераліку было б зябка скалануцца* («ЛіМ»). Рус. ***через** что.*

**ПРАЗ-3** *што* Він. Аб'ектн.: празрыстая перашкода для зрокавага ўспрымання прадмета на адлегласці: *Глядзець **праз вокны**. Бачыць **праз слёзы**.*—*Лілося **праз вокны** ў пакой святло месяца* (У.Караткевіч). ***Праз** вялікія **вокны** свяцілі марозныя зоры* (У.Караткевіч). *Раскошны белы дом, **праз мноства вокан** якога зверху відаць даліна цудоўнага Тырнава* (Я.Брыль). *І толькі **праз адно акно** нечакана радасна і чыста глядзіць снежны дзень* (У.Караткевіч). *Калі Чарнашатаў патупаў ботамі к дзвярам, Башлыкоў і Апейка **праз шыбу** глядзелі, як ён падбіраў сена, адвязваў каня, як нетаропка задуменна выкіроўваў на вуліцу* (І.Мележ). Перан.: *Луг вывернуў кажух Сушыць пасля дажджу. Абапал неба хмаркай ускалмачанай. Даўно яно было, а я дасюль гляджу На свет **Праз прызбу** хаты матчынай* (Р.Барадулін). *Твар яго быў ружовы ад утрапення, вочы глядзелі **праз чалавека** навылёт* (К.Чорны). Рус. ***сквозь** что; **из** чего**;** **во** что.*

**ПРАЗ-4** *што* Він. Аб'ектн.: інструмент-перашкода з адтулінай: *Узняліся з-за сталоў, стоўпіліся, каб бачыць усё **праз адчыненыя дзверы*** (І.Шамякін). *Хату ў мяне надоечы замяло так, што хоць **праз гарышча** вылазь* (Т.Хадкевіч). *Яны апрануліся хутка і ... вылезлі **праз акно*** (У.Караткевіч). *– дык мо тут дадзім адгул матору? – прасадзіў **праз шыбу** кабіны галаву вадзіцель* (Р.Сабаленка). // *Дуець **праз усе застаўкі***. Сін.*у*. Рус. ***через** что*; ***во** что.*

**ПРАЗ-5** *што* Він. Аб'ектн.: інструмент-перашкода, якую пераадольваюць, разрываючы яе: *Ён прагна слухаў тыя словы, Што сцежкай цеснай, патайной Ішлі ў народ **праз муры, ковы**, Як зелень свежая вясной* (Я.Колас). ***Праз** гнілыя саламяныя **стрэхі** ліецца вада* (Я.Колас). ***Праз парк, праз голыя шаты, праз непагоду** даляцеў бой гадзінніка* (У.Караткевіч). ◊ ***Праз зубы*** **–** не раскрываючы рота, невыразна гаварыць. ◊ ***Праз бок вылезці*** **–** кепска кончыцца для каго-небудзь. Рус. ***сквозь** что.*

**ПРАЗ-6** *што* Він. Аб'ект-рэчыва: *Як бы **праз туман**, прайшлі **праз** яе смутную **прыгнечанасць** першыя словы, якія нечым кранулі ўвагу, прымусілі яе адгукнуцца* (І.Мележ). *Якраз ужо і ноч рассейваць стала цені – Ружовыя ўжо беглі **праз блакіт** праменні* (А.Міцкевіч. Пер.П.Бітэля). *Калі прыехаў з лесу, увайшоў у хату бацька, яна ўбачыла яго як бы **праз ваду** і пачула як бы **праз ваду*** (І.Мележ). ***Праз мяцеліцу і поцемак** убачыла каня, калі ён падышоў ледзь не ўсутыч* (І.Мележ). Рус. ***сквозь** что.*

**ПРАЗ-7** *што* Він. Стымул: *Беларуская мова сярод іншых моваў свету вылучаецца сваёй прыгажосцю* ***праз сваю мілагучнасць і пявучасць*** («Наша слова»). Сін. – Тв. без прыназ.: *сваёй мілагучнасцю і пявучасцю.* Рус. Тв. без предлога.

**ПРАЗ-8** *што* Він. Аб’ектн.: дэлібератыў: *А як сказаў* ***праз курыва****, у мяне аж нутро загарэлася* (запісы нар. гаворак: ТСБПШ). ***Праз вас*** *пыталіся – што, дзе, як* (з гутаркі). Рус. ***о*** *чем.*

**ПРАЗ-9** *што* Він. Характарызатар: спосаб + ускосны пасрэднік + каўзатар дзеяння: *Замацоўваецца ўсё гэта* [няпісаныя законы этнаса], *сцвярджаецца і перадаецца традыцыі галоўным чынам* ***праз фальклор і літаратуру народа*** (Т.І.Шамякіна). *Істотна, што лінгвістычнымі ведамі (****праз самадукацыю*** *і, часцей,* ***праз філалагічную адукацыю****) валодаюць амаль усе сучасныя беларускія пісьменнікі, валодалі і іх папярэднікі* (В.М.Ляшук). *Архітэктура – гэта тая частка культуры, якая гістарычна фарміруе асяродак быцця нацыі. Яна ўвасабляе паняцце радзімы* ***праз збіральны вобраз*** *родных бацькоўскіх сядзіб, вёсак, мястэчакі гарадоў* («ЛіМ», 7.06.06).↔ **Праз тое, што.** Сін. *дзякуючы*. Рус. ***через*** *что.*

**ПРАЗ-10** *што* Він. Характарызатар: метад дзеяння: ***Праз супрацьпастаўленне*** *двух сацыяльных станаў распрацоўваецца таксама матыў няроўнай долі бедных і багатых* (навук.). ↔ **Такім чынам каб.** Сін. *шляхам; метадам.* Рус.***через*** *что*; ***путём*** *чего.*

**ПРАЗ-11** *што* Він. Характарызатар: спосаб дзеяння: *Адзін з гасцей параіў быў* ***праз суд*** *спагнаць з Грамабойчыкаў тратнае* (К.Крапіва). *Пасля Меднага бунту сем тысяч пакаралі* ***праз адсячэнне*** *галавы, а пятнаццаць тысяч – адсячэннем рукі ці нагі* (К.Тарасаў). *Спыніць германскі націск ленінскі ўрад здолеў толькі* ***праз Брэсцкі мір*** (К.Тарасаў). *А Сымон адзін зусім, торбу звесіўшы* ***праз плечкі****, ідзе воддалек за ім...* (Я.Колас). Сін. *спосабам.* Рус. ***через*** *что;* ***способом*** *чего.*

**ПРАЗ-12** *што* Він. Аб’ект – вертыкальная перашкода, якую пераадольваюць, пералазячы цераз яе: транзітыў: *Пералезці* ***праз плот****.—Былі скокі* ***праз вогнішча*** (Б.Сачанка). Сін. *цераз.* Рус. ***через*** *что.*

**ПРАЗ-13** *каго/што* Він. Аб'ект – група жывых істот, сярод якіх праходзяць: транзітыў: *Збеглых праганялі* ***праз зялёную вуліцу*** (У.Караткевіч). *Алесь прывязаў каня да агарожы і павольна пайшоў* ***праз натоўп*** *па галоўнай плошчы* (У.Караткевіч). Рус. ***сквозь*** *каго/што.*

**ПРАЗ-14** *што* Він. Аб'ект – мяжа, за якую пераходзяць: транзітыў: «*Падумай, што сказаў бы свет аб чалавеку,– Сказаў Тадэвуш,– што ў такім, як я вось, веку Здаровы дома жыў, каханы і вясёлы, Калі жанатыя кідаюць сем'і, сёлы І прабіраюцца у войска* ***праз гра-***

***ніцу*** (А.Міцкевіч. Пер.П.Бітэля). *Ёй* [Марыне] *сумна ў хаце і нямі-ла, і жаласць плёскае **праз край*** (Я.Колас). ◊ ***Праз меру*** – звыш нормы. ━ *Яна* [Люда] *палівала з вялікай меднай конаўкі, вымудра-най дзедам яшчэ з мікалаеўскай снараднай гільзы, а Толя **праз меру** доўга пырхаў і ўсё прасіў ліць цэлай конаўкай на галаву* (Я.Брыль). Сін. *за.* Рус. ***через*** *что.*

**ПРАЗ-15** *што* Він. Аб'ект – гарызантальная перашкода, якую пераадольваюць, рухаючыся па ёй: транзітыў: *Ішоў **праз гароды** да-дому па снезе, у завею, калі ўсё навокал ахутала белая каламуць* (І.Ша-мякін). ***Праз сотні кіламетраў**... у глыбокім варожым тыле чулі мы набатны заклік ...ўзнімацца на бязлітасную барацьбу з гітлераўскімі захопнікамі* (В.Казлоў). *Ён* [Максім] *ведаў кожны ўзгорак, кожную пятлю раўчука, што працякаў **праз сяло*** (І.Шамякін). *Перад самымі Верамейкамі яны пайшлі рознымі шляхамі: Чубар напрасткі, **праз лес**, каб выйсці на гуцянскую дарогу пасля і непрыкметна, а Сыркін павёў туды хлопцаў зусім у абход гэтага лесу* (І.Чыгрынаў). *Зона не **праз трыццаць кіламетраў**, А **праз сэрца** кожнае прайшла* (К.Ка-мейша). *Будыніна думала аб чымсьці, што не датычылася двох ча-лавек, якія зараз ішлі **праз заценены луг** да яе дзвярэй* (У.Караткевіч). *Каб выйсці на «цэнтральны праспект», як іранізавала Віталія, яны пайшлі **праз гароды*** (І.Шамякін) – ... *они шли **огородами*** (пер. Т.Ша-мякиной). Сін. – Тв. без прыназ.: *ішоў **гародамі**.* Рус. ***через****: шел **через огороды**, шел **огородами**; протекал **через** село.*

**ПРАЗ-16** *што* Він. Характарызатар: медыятыў-транзітыў: ***Праз Сергучоўскі канал** Бярэзіна злучаецца з ракой Бузянкай, з ляснымі азёрамі Плаўе, Манец і Ольшыца...* (В.Вольскі). Сін. *па;* Тв. без пры-наз. (*чым*). Рус. ***через*** *что.*

**ПРАЗ-17** *што* Він. Прастор.: лакатыў: *Стаялі ліпы ля агарод-жы **праз вуліцу*** (М.Стральцоў). Сін. *уздоўж.* Рус. ***вдоль*** *чего.*

**ПРАЗ-18** *што/колькі адзінак часу* Він. Час.: дыменсіў-патэнсіў; ужываецца са спалучэннем назоўніка тэмпаральнай семантыкі з квантарным займеннікам *цэлы, ўвесь: вучыўся **праз усе дзесяць гадоў.** Сядзіць Сцёпка **праз усе**, без канца доўгія і нудныя для яго, зімовыя **вечары** на куртатай дубовай калодачцы* (А.Якімовіч). *Уранні пры-носіць сюды смех і песні наша моладзь. **Праз цэлы дзень** гучаць яны* (Я.Брыль). *Марына Паўлаўна **праз цэлы дзень** жыла ў ружовым чадзе новага адчування* (М.Зарэцкі). ***Праз усё лета** заняты яны* [ва-вёркі] *работай* (А.Якімовіч). *Пясняр, змагар, **бядняк праз век** – быў перш за ўсё я чалавек!* (У.Жылка). *Ах, Мінск! Ты **праз усе вякі** Жада-ным будзеш як сталіца...* (Л.Дранько-Майсюк). *Калі ж нарэшце Дзяніс Яўменавіч таксама дачуўся пра гэта, дык і яму зрабілася*

*зразумела, чаму Масей **праз усю тую** ранішнюю **размову** не ўзяў ні бацькаў, ні матчын бок* (І.Чыгрынаў). Сін. *на працягу.* Рус. ***целый; на протяжении всего** периода времени.*

**ПРАЗ-19** *што* Він. Час.: тэрмінатыў: *Прыйсці **праз паўтары гадзіны**.* ━ ***Праз момант** зімародак з'явіўся зноў на паверхні і ўзляцеў на ранейшае месца на суку* (В.Вольскі). ***Праз два дні** Надзя выйшла на работу* (С.Грахоўскі). Сін. *па; па прашэсці.* Рус. ***через** что/ какое время **спустя.***

**ПРАЗ-20** *якое што* Він. Квантытатыў-дыстрыбутыў: *Гадзіннік званіў **праз кожныя паўгадзіны**.* ━ *Як чаруюць і вабяць да сябе акуратненька і клапатліва пастаўленыя **праз пэўную адлегласць** лаўкі каля дарогі!* (Я.Колас). *Аўтобусы ідуць **праз кожныя дзесяць хвілін*** (С.Грахоўскі). ◊ ***Пятае праз дзесятае*** – часткова, фрагментарна.━ *Яны, простыя дзеці вёскі, зразумелі з усяго гэтага **пятае праз дзесятае*** (З.Бядуля). Рус. ***через каждые** сколько единиц.*

**ПРАЗ-21** *каго* Він. Прычын.: каўзатар-віноўнік: *Пан **праз вас** з мяне галаву здыме* (В.Лукін: ТСБПШ). *І ўмёр **праз нявесту** адважны Аскар* (М.Багдановіч). *Я два разы гарэў – усё **праз суседзі** – два разы будаваўся* (Я.Брыль). ↔ «**Праз таго, хто.** Сін. *з-за.* Рус. ***из-за** чего.*

**ПРАЗ-22** *каго/што* Він. Прычын.: каўзатыў-падзея негатыўных наступстваў: *У асноўнай частцы твора Я.Баршчэўскі ... мае намер распавесці пра надзвычай важную, катастрафічную падзею, у выніку якое знікла, а пасля **праз забыццё** памерла Святыня* (М.В.Хаўстовіч). *Стары яўрэй нечага ўпадабаў хлопца і, каб той не прапаў **праз сваё калецтва**, узяўся навучыць рамяству* (І.Чыгрынаў). ***Праз той выпадак**, можа, і пачаў яе дамагацца* (В.Карамазаў). *Што эмоцыі? Гвалт вераб'іны. Я **праз іх** ненавіджу сябе* (Л.Дранько-Майсюк).↔ **Праз тое што**. Сін. *з-за*. Рус. ***из-за** чего.*

**ПРАЗ-23** *каго/што* Він. Прычын.: каўзатыў-фінітыў: *Ужо **праз адно гэта** быў сэнс як хутчэй наведацца ў мястэчка, каб глянуць на ўсё, што адбывалася там, сваімі вачамі* (І.Чыгрынаў). *Стары салдат, ён быў у вёсцы на кватэры; Суддзя **праз ветлівасць** прасіў яго к вячэры* (А.Міцкевіч. Пер.П.Бітэля). *Брыдка, калі адукаваны чалавек, князь, пачынае насіць лапці **праз нейкія там меркаванні*** (У.Караткевіч). ↔ **Дзеля таго што**. Сін. *дзеля.* Рус. ***ради** чего; **из-за** чего.*

**ПРАЗ-24** *што* Він. Сірканстант уступкі: *Усміхнуцца **праз слёзы.*** ━ *Апусціў вочы хлопчык і амаль **праз плач** прамовіў: «Гаспадар прагнаў мяне»* (П.Пестрак). // *Трэба жыць **праз не магу.*** ◊ ***Браць праз сябе*** – рабіць непасільнае. Сін. – дзеепрысл. *пераадольваючы.* Рус. ***через** что.*

**ПРАЗ-25** *што* Він. Рэлят скразной ўсеахопнасці; з займеннікам *увесь: Ва ўсім цывілізаваным свеце родная мова ёсць асноваю, якая лучыць усе прадметы школьнага курса, якая праходзіць **праз усе яго часткі*** (Р.Шырма). Сін. *скрозь*. Рус. ***сквозь** что*.

*адзінак* **ПРАЗ-1** *колькі* Род.-Він. Інтэрпаз. ў прыблізных квантытатывах-тэмпаратывах: ***Начы праз дзве** будзе поўня* ((І.Пташнікаў). ***Метраў праз шэсцьсот** блакітным люстэркам заблішчэла вусце Збрадчанкі, якая ўпадае, вядома ж, у Грэзу* (М. Пазнякоў). *Калі **хвілін праз колькі** Мітрафан Ануфрыевіч апынуўся на выспе, каля свайго будана, то ўбачыў там лесніка...* (І.Чыгрынаў). Рус. *единиц **через** сколько.*

*адзінак* **ПРАЗ-2** *колькі* Род.-Він. Інтэрпаз. ў прыблізных квантытатывах-лакатывах: ***Вёрст праз пяць,** калі стала зразумела, што пагоні не будзе, пусцілі разгарачаных коней рыссю* (У.Караткевіч). Рус. *единиц **через** сколько.*

*колькі адзінак* **ПРАЗ-3** *колькі адзінак часу* Він.-Він. Ускладн. Квантытатыў + тэмпаратыў: *Усяго на курс лячэння назначаюць **15-20 ваннаў праз 1-2 дні*** (Асновы мед. ведаў). Рус. *сколько единиц **через** какое время.*

**ПРАЗ** *што* **АД-1** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў: ***Праз дарогу ад гімназіі** была драўляная гасцініца* (В.Кавалёў). Сін. *цераз ... ад*. Рус. ***через** что **от** кого/чего.*

**ПРАЗ** *колькі адзінак* **АД-2** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор: лакатыў + квантытатыў: *Кватэра – **праз два паверхі ад пляцоўкі,** дзе забойства чынілася, і жыць у ёй – як штодня тую жудасць трываць* (І.Штэйнер). Рус. ***через** сколько единиц **от** чего.*

**ПРАЗ** *колькі адзінак* **АД ПАЧАТКУ** *чаго* Він.-Род. Час.: тэмпаратыў адносна пачатковай кропкі дзеяння: *Калі дробныя дозы апраменьвання ў суме складаюць ад 0,05 да 0,025 Гр у месяц, то ўзнікае хранічная форма прамянёвай хваробы, якая развіваецца **праз 1,5 – 3 гады ад пачатку апраменьвання*** (Асновы мед. ведаў). ***Праз 7 – 10 дзён ад пачатку захворвання** кашалб узмацняецца і даходзіць да сутаргавых прыступаў, часта з ірвотай* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***через** сколько единиц **от начала** чего.*

**ПРАЗ БАР'ЕРЫ** *чаго* Род. Ускладн. Аб'ект – перашкода, якую пераадольваюць + эксплікатар: *Гаворка ідзе пра перыяд, калі беларуская ідэя зноў і зноў прабівалася **праз бар'еры шматлікіх забарон*** (В.Коўтун). Сін. *праз*. Рус. ***сквозь барьеры** чего.*

**ПРАЗ ВЕРХ** *чаго* Род. Дырэктыў-фініш: *Глядзець **праз верх паркана**.* ▬*Алёшка **праз верх акул яраў** зірнуў на яго* [Кольку] *доўгім дакорлівым позіркам* (С.Грахоўскі). Сін. *паверх; паўзверх*. Рус. ***поверх** чего.*

**ПРАЗ ВЫКАРЫСТАННЕ** *чаго* Род. Аб'ект-спосаб: *Прымусовая сістэма заснаваная на процьме дробязяў, **праз выкарыстанне якіх** чалавек перастае быць чалавекам* (Э.Кантуркава. Пер. С.Сматрычэнкі). Сін. *шляхам выкарыстання.* Рус. ***путем использования*** *чего.*

**ПРАЗ** *што* **З** *чаго* **НА** *што* Він.-Род.-Він. Трохч. Ускладн. Прастор.: транзітыў + дырэктыў-старт + дырэктыў-фініш: *Зона магчымых канфліктаў пралягла **праз увесь абсяг Еўразіі з усходу на захад*** («Arche»). *Разведчык вылез **праз** добра схаваны **лаз з хлява на двор*** («Arche»). Рус. ***через*** *что* ***из/с*** *чего* ***на/в*** *что.*

**ПРАЗ КРАЙ** *чаго* / **ПРАЗ** *які* **КРАЙ** *чаго* / **ПРАЗ** *які* **КРАЙ** / **ПРАЗ КРАЙ** Род. Аб'ект – вертыкальная перашкода: транзітыў: *Не краявід гэта быў і не новы горад ... Але калі я, паддаўшыся зману, перахіліўся **праз край тратуара**, напружанага, нібы струна, і ўгледзеў, што тоіцца там, унізе, усё стала позна ўраз* (А.Разанаў). Рус. ***через край*** *чего.*

**ПРАЗ ЛАСКУ** *каго* / **ПРАЗ** *якую* **ЛАСКУ** *каго* / **ПРАЗ** *чыю* **ЛАСКУ** *каго* Род. Канфірматыў-каўзатар-віноўнік: ◊ ***Праз ласку*** *чыю* – з-за каго, па чыёй віне (адбылося, здарылася што-н.) (І.Я.Лепешаў). ▲ *Думаеце, Юстын Корч не **праз яго ласку** ў Сібір угадзіў?* (Ц.Гартны: ФСБМЛ).

**ПРАЗ** *колькі адзінак* **НА** *якую адзінку па ліку* Він.-Він. Прастор.: лакатыў адносна пералічэння аб'ектаў: *Жыў Брава-Жыватоўскі **праз тры хаты на чацвёртую** – гэта значыць, перш чым выйсці на вуліцы, выглядваў з акна, каб мець пэўнасць пра суседзяў* (І.Чыгрынаў). Рус. ***через*** *сколько единиц* ***на*** *которую.*

**ПРАЗ НАВІСЬ** *чаго* Род. Аб'ектн.: транзітыў – празрыстая перашкода зроку: *Коля клаўся на спіну **і праз навісь сасновых лапін** маўкліва пазіраў на неба* (І.Навуменка). Сін. *праз.* Рус. ***сквозь сень*** *чего.*

**ПРАЗ** *што* **НАСУПРАЦЬ** Він. Двухч. Ускладн. Прастор.: транзітыў + лакатыў: *Скарыны, 26 – якраз **праз дарогу насупраць** Палаца прафсаюзаў, побач з Домам афіцэраў* (А.Гаўрон). Рус. ***через*** *что* ***напротив.***

**ПРАЗ** *што* **НАЎСКАСЯК** Він. Двухч. Ускладн. Прастор.: транзітыў + лакатыў адносна супрацьлегла-вуглавога локума: *Насупраць царквы, **праз плошчу наўскасяк**, ходаючыся з мураванінаю аб высі, тырчыць пажарная вартавая вежа, ганарова – «каланча»* С.Юстапчык (Антон Адамовіч); Рус. ***через*** *что* ***наискосок.***

ПРАЗ НЕДАХОП *чаго*

**ПРАЗ НЯСТАТКІ** *чаго* / **ПРАЗ НЯСТАТКІ** Род. Прычын.: каўзатыў + карытыў экзістэнцыі ▶*Янка Стахвіновіч, самы старшы*

*сын, мусіў* ***праз нястаткі*** *ў заробкі пайсці* (М.Гарэцкі). Сін. *праз нястачу.* Рус. ***из-за нехватки*** *чего /* ***из-за нищеты****.*

**ПРАЗ НЯСТАЧУ** *чаго* Род. Прычын.: каўзатыў + карытыў экзістэнцыі. *Ціск на ўкраінскае быў моцным: пануючая культура навязвала ўкраінцам той знявечаны, гратэскны «вобраз сябе», які не пакідае месца для самапавагі, – так, як калі б палякам давялося,* ***праз нястачу іншых крыніцаў,*** *таясаміць сябе адно з «палячышкамі» ў раманах Дастаеўскага, а немцам – з нямецкімі персанажамі савецкіх фільмаў пра вайну* (А.Забужко. Пер. М.Баярына). Сін. *за недахопам.* Рус. ***за отсутствием*** *чего.*

**ПРАЗ** *колькі адзінак часу* **ПА** *чым* Він.-Месн. Двухч. Ускладн. Час.: квантытатыў + таксісны тэмпаратыў следавання: ***Праз паўстагоддзя па Асвенцыме*** *і* ***праз 7 гадоў па смерці Леві*** *выбухнуў генацыд у Руандзе, калі хуту забілі не менш за 800 000 тутсі* (Ц.Тодараў. Пер. А.Дынько). ***Праз пару дзён па прыбыцці*** *трэцяй роты ў Шаўлі плакаты абвяшчалі...* («Arche»). *Такая гарматня паўстала ў Вільні* ***праз тры дзесяцігоддзі па Аршанскай бітве*** *стараннямі вялікага князя і караля Жыгімонта Старога* (Г.Сагановіч). Сін. *праз ... пасля.* Рус. ***через*** *какое время* ***по*** *чем.*

**ПРАЗ** *колькі адзінак часу* **ПА ЗАКАНЧЭННІ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: квантытатыў + таксісны тэмпаратыў следавання: ***Праз дзесяць гадоў па заканчэнні вайны*** *вясной 1955 г. гандлёвыя рады разбурылі паводле загаду першага сакратара райкама партыі С.А.Пілатовіча* (Ю.Гардзееў). Сін. *праз ... пасля.* Рус. ***через*** *какое время* ***по окончании*** *чего.*

**ПРАЗ ПАМЯЦЬ ПРА** *каго/што* Род. Фінітыў-дэстынатыў: ***Праз памяць на магільныя насыпы і крыжы****, пад якімі бясчасна змарнеўшыя ў няволі спяць нашы дзяды і прадзеды,* ***праз памяць на сваіх матак****, каторыя нас сваей грудзей ускармілі, – выракацца роднай мовы не маем права»* (Л. Лыч). Сін. *дзеля; у імя.* Рус. ***во имя*** *чего.*

**ПРАЗ** *колькі адзінак часу* **ПАСЛЯ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: квантытатыў + таксісны тэмпаратыў следавання: *Усім ім* [чарнагорскім уладарам-уладыкам] *па праву належаць пачэсныя месцы ў гісторыі айчыны. Асабліва ж Петару І Петравічу (1748 – 1830), якога* ***праз чатыры гады пасля адыходу з зямнога жыцця*** *пачалі ўшаноўваць як святога ...*(І.А.Чарота). *Купанне праводзяць за 40 – 45 хвілін да кармлення або* ***праз гадзіну пасля кармлення*** *за 1 – 1,5 гадзіны да сна* (Асновы мед. ведаў). ***Праз пяцьдзесят гадоў пасля «Плачу»*** *... паэт ізноў звярнуўся да пераасэнсавання зместу дарагога вобраза Яраслаўны* (Л.І.Зарэмба). *Пазней высветлілася:* ***праз тыдзень пасля нараджэння*** *ў хлопчыка выраслі вялікія пацучыныя*

*зубы* (У.Сакалоў). *Аповесць выйшла асобнай кніжкай у 1989 годзе ў выдавецтве «Юнацтва», **праз пяць гадоў пасля смерці** пісьменніка* (Н.Кучкоўская). Рус. ***через** сколько единиц времени **после** чего.*

**ПРАЗ** *колькі адзінак часу* **ПАСЛЯ З'ЯЎЛЕННЯ** *каго/чаго* Він. – Род. Двухч. Ускладн. Час.: квантытатыў + таксісны тэмпаратыў следавання: *Не перастарайцеся: на ўгноенай глебе настурка моцна разрасцецца на шкоду цвіценню, якое настае **праз 40 – 50 дзён пасля з'яўлення усходаў*** («Родны край», 2009). Рус. ***через** сколько единиц времени **после появления** кого/чего.*

**ПРАЗ** *колькі адзінак часу* **ПАСЛЯ ПАЧАТКУ** *чаго* Він.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: квантытатыў + таксісны тэмпаратыў следавання: *Свайго хлопца я **сустрэла праз месяц пасля пачатку заняткаў*** (Э.Джонг. Пер. А.Дынько). Рус. ***через** сколько единиц времени **после начала** кого/чего.*

**ПРАЗ ПАСРЭДНІЦТВА** *каго* Род. Суб'ектн.: пасрэднік: ***Праз пасрэдніцтва** Славацкай амбасады тры разы* [Івана Джундова] *наведвала Беларусь* («Дзеяслоў», №25). Сін. *праз.* Рус. ***через посредничество** кого.*

**ПРАЗ ПРАСЦЯГ ПАМІЖ** *чым* **І** *чым* Тв.-Тв. Двухч. Ускладн. Прастор.: транзітыў адносна бакавых локумаў + рэлятар злучэння: *Адзін за другім мы памалу і ўсё больш памалу ідзём калідорам; перад аднымі – нейкімі – дзвярыма я спыняюся, стаю і чакаю; кароткімі мацаючымі крокамі, мармытліва счытваючы з шыльдаў нумары, ён праходзіць **праз** гэты **прасцяг паміж мною і дзвярыма** і кіруецца, мармычучы, па калідоры далей* (П.Гандке. Пер. Я.Балясіна).

**ПРАЗ ПРЫЗМУ** *чаго* Род. Канфарматыў: *Беларуская рэчаіснасць 60 – 70-х XVIII ст. адлюстроўваецца Я.Баршчэўскім **праз прызму** фальклорна-міфалагічных **уяўленняў** беларуса-селяніна, беларус-шляхціца* (М.В.Хаустовіч). *Слова адлюстроўвае не сам прадмет ці з'яву акаляючага свету, а тое, як чалавек бачыць яго, **праз прызму той жа карціны**, якая існуе ў яго свядомасці* (нав.). *Прызванне крытыка – не «вучыць» творцу, як пісаць, а **праз прызму напісанага** ім адкрываць чытачу і твор, і жыццё (у сцвярджальным ці адмоўным плане – гэта ўжо залежыць ад твора*) (В.Зуёнак). *Калі мы будзем працягваць разглядаць беларускае вяселле **праз прызму процістаяння** правага і левага як мужчынсага і жаночага, то заўважым, што сват павінен павязваць ручнік так, каб вузел аказаўся пад правай рукой* (Я.Крук). Сін. *праз.* Рус. ***сквозь призму***.

**ПРАЗ СЕЦЬ** *чаго* Род. Аб'ектн.: празрыстая перашкода зроку: *Цукровая бель старых цэркваў і манастыроў **праз сецьгалін.** Мазыр.* (У.Караткевіч). Сін. *скрозь навісь.* Рус. ***сквозь сеть** чего.*

**ПРАЗ СМУГУ** *чаго* Род. Аб'ект-рэчыва; перан.: *Сённяшняя сталіца незалежнай Літвы і тая Вільня, што бачыцца* ***праз смугу стагоддзяў*** *і назаўжды застанецца для нас вышэйшым увасабленнем беларускай духоўнасці і дзяржаўнасці, – рэчы зусім розныя* (Я.Лецка). Аказіян. Рус. ***сквозь мглу*** *чего.*

**ПРАЗ ТОЎШЧУ** *чаго* Род. Аб'ектн.: непразрыстая перашкода; перан.: ***Праз тоўшчу гадоў*** *гляджу на тую прызбу і нешта бачу цябе, мая першая ў жыцці прыгажуня* (Хв. Жычка). Аказіян. Сін. *праз*. Рус. ***сквозь толщу*** *времени*.

**ПРАЗ ТЭРЫТОРЫЮ** *чаго* **У/Ў** *што/куды* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Прастор.: транзітыў: партытыў + камлетыў + дырэктыў: *В.К.Кюхельбекер ажыццявіў пасля паўстання пабег* ***праз тэрыторыю Беларусі ў Варшаву*** («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). Рус. ***через территорию*** *чего* ***во*** *что.*

**ПРАЗ** *каторы* **У/Ў[1]** *каторы па ліку* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Характарызатар адносна парадку адлічэння: *Заплікнуўшы* ***праз пяты ў дзесяты*** *аплікі даматканай жакеткі, Ігнась выладзіўся на вакзал* (Р.Мурашка). Рус. ***через*** *который* ***в*** *который.*

**ПРАЗ** *што* **У/Ў[2]** *чым* Він.-Месн. Двухч. Ускладн. Аб'ектн. – перашкода з адтулінай: *Завёў яго пад канал, на вызначанае месца, скуль* ***праз галу ў дрэвах*** *можна было назіраць сцэну* (В.Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). Сін. *праз прагал у.* Рус. ***сквозь прогалину в*** *чем.*

**ПРАМА З/СА-1** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-старт: *Калі вецер заходзіў з Вешак –* ***прама з поўдня****, з-за балота, на Выганчык пад вёску ляцела бурае, пацёртае альховае лісце* (І.Пташнікаў). Сін. *проста з*. Рус. ***прямо с*** *чего.*

**ПРАМА З/СА-2** *чаго* Род. Фабрыкатыў: *Чалавек навучыўся атрымліваць азот* ***прама з паветра*** (падручн.). Сін. *непасрэдна з.* Рус. ***непосредственно из*** *чего.*

**ПРАМА НАД** *кім/чым* Тв. Прастор.: лакатыў адносна ніжняга локума: *Тады дзяўчынка-падлетак сядзела ў акопе ў родным крычаве, а* ***прама над галавой*** *свісталі снарады – свае і нямецкія* («Звязда», 24.03.05). ***Прама над галавой*** *Усяслава няярка гарэла Колзорка* (В.Іпатава). *Двойчы ў годзе Сонца паміж тропікамі бывае* ***прама над галавой*** *– у зеніце* (падручн.). Сін. *проста над; над самай*. Рус. ***прямо над*** *чем.*

**ПРАМА ПАД** *чым* Месн.Прастор.: лакатыў адносна верхняга локума: *Доказ таго, што мясцовасць, дзе вы жывяце, была калісьці марскім дном, можна знайсці* ***прама пад нагамі*** (падручн.). Рус. ***прямо под*** *чем.*

ПРАМЕЖ *чым*

**ПРАМЕЖДЫ** *каго* Род. мн.л. Лакатыў-камітатыў: ***Прамежды родных*** *пражываюць* (Віцебшч.). Дыял. Сін. *сярод; разам з.* Рус. ***с*** *кем.*

**ПРАМІЖ-1** *каго* Род. мн.л. Лакатыў-характарызатар: ***Праміж людзей*** *і я штурхаўся і ціснуўся, што ёсць пары...*(«Тарас на Парнасе»: ТСБПШ). ТСБПШ – прыназ.; устар. і абл. Сін. *сярод; разам з.* Рус. ***среди*** *кого.*

**ПРАМІЖ-2** *каго* Род. мн.л. Рэлят размежавання: ***Прамиж нас****, кума, рэчка быстрая* (нар. песня: ТСБПШ). ТСБПШ – прыназ.; устар. і абл. Сін. *паміж; між.* Рус. ***промеж*** *кем.*

**ПРАМІМА** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў-характарызатар: *Не той п'яніца, што п'ець, а той, што* ***праміма чаркі*** *льець* (нар.). Син. *мима.* Рус. ***мімо*** *чего.*

**ПРАПАРЦЫЯНАЛЬНА** *чаму* Дав. Рэлят суаднесенасці: *Калі ў доме ёсць групавы лічыльнік, то яго агульныя паказанні размяркоўваюцца* ***прапарцыянальна агульнай плошчы*** *кожнай кватэры* («Звязда»). Сін. *адпаведна; у залежнасці ад.* Рус. ***пропорционально*** *чему.*

ПРАПАРЦЫЯНАЛЬНА З *чым*

**ПРАЎЦОМ НА** *каго/што* Він. Ускладн. Характарызатар: дырэктыў-фініш: *Адзін за другім яны вынырнулі з лагчыны і накіравалі* ***праўцом на яго*** (Ц.Гартны). Сін. *проста на.* Рус. ***прямиком на*** *кого/што.*

**ПРАЦЫ (Род. адз.л.)** *каго* Род. Суб'ектн.: агенс + рэлят аўтарства: *«Партрэт Людовіка XIV»* ***працы Рыго****, напісаны ў 1701 годзе, паказвае хутчэй караля, перакананага ва ўласнай бязгрэшнасці, чым асвечанага* («Arche»). Сін. *пяра; пэндзля.* Рус. ***работы*** *кого.*

**ПРАЦЯГЛАСЦЮ-1** *колькі адзінак / колькі адзінак* **ПРАЦЯГЛАСЦЮ** *колькі адзінак прасторы* Він. Прасторавы дыменсіў: *У выніку за год дарожнікі пабудавалі 127 пад'ездаў* ***агульнай працяглацю 25,6 кіламетра*** («Звязда», 28.01.05). *Па завяршэннні першага этапа будаўніцтваў эксплуатацыю плануецца ўвесці асноўную лыжную трасу* ***працягласцю 240 метраў*** *з бугельным пад'ёмнікам* ... («Звязда», 30.04.05). Рус. ***протяженностью*** *сколько единиц.*

**ПРАЦЯГЛАСЦЮ-2** *колькі адзінак часу* Він. Дыменсіў-патэнсіў часу: *Націсканні належыць рабіць хуткімі* ***працягласцю 0,5 с*** *з інтэрвалам часу 0,5 с*. (падручн.). *Агульныя абліванні таксама праводзяць з паступовым паніжэннем тэмпературы з 32 – 30 °С да 25 – 20 °С і ніжэй* ***працягласцю 2 – 5 хвілін*** («Звязда», 15.06.05). Рус. ***на протяжении*** *какого времени.*

ПРАЦЯГЛАСЦЮ АД *колькіх адзінак*

**ПРАЦЯГЛАСЦЮ АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Прыблізны дыменсіў з вызначанымі ніжняй і верхняй межамі:

*Карыстаючыся базай даных ЕОКОРЕ, знайдзіце... дзяржавы, якія маюць берагавую граніцу* ***працягласцю ад 1000 да 3000 км*** (падручн.). Рус. ***протяжённостью от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

ПРАЦЯГЛАСЦЮ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

ПРАЦЯГЛАСЦЮ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

ПРАЦЯГЛАСЦЮ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

ПРАЦЯГЛАСЦЮ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

ПРАЦЯГЛАСЦЮ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

ПРАЦЯГЛАСЦЮ БОЛЬШ ЯК *колькі адзінак*

**ПРАЦЯГЛАСЦЮ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дымensіў з дакладнай верхняй мяжой: *Па працягласці цячэння хваробы падзяляюцца на вострыя –* ***працягласцю да 15 сутак****, падвострыя –* ***да 45 сутак*** *і хранічныя – звыш 45 сутак* (Асновы мед. ведаў). *Затым пачынаюцца клінічныя сутаргі* ***працягласцю да 2 хвілін*** (Асновы мед. ведаў). *Абліванні могуць праводзіцца ў ванне, пад душам або на вуліцы пры тэмпературы вады 30 – 25 °С і ніжэй,* ***працягласцю да трох хвілін*** *для любой часткі цела* («Звязда»,15.06.05). Рус. ***длительностью*** *скольких единиц.*

ПРАЦЯГЛАСЦЮ З *колькі адзінак*

**ПРАЦЯГЛАСЦЮ ЗВЫШ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дымensіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Па працягласці цячэння хваробы падзяляюцца на вострыя –* ***працягласцю*** *да 15 сутак, падвострыя – да 45 сутак і хранічныя –* ***звыш 45 сутак*** (Асновы мед. ведаў). Рус. ***длительностью более*** *скольких единиц.*

**ПРАЦЯГЛАСЦЮ КАЛЯ** Род. Прыблізны дымensіў: *Пасля кожнай кампрэсіі* ***працягласцю каля адной секунды*** *трэба здымаць рукі з груднай клеткі, каб не перашкаджаць яе распраўленню і напаўненню сэрца крывёю* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***длительностью около*** *скольких единиц.*

ПРАЦЯГЛАСЦЮ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

ПРАЦЯГЛАСЦЮ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

ПРАЦЯГЛАСЦЮ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

ПРАЦЯГЛАСЦЮ НЕ БОЛЕЙ ЗА *колькі адзінак*

ПРАЦЯГЛАСЦЮ НЕ БОЛЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

ПРАЦЯГЛАСЦЮ НЕ БОЛЕЙ ЯК *колькі адзінак*

ПРАЦЯГЛАСЦЮ НЕ БОЛЬШ ЗА *колькі адзінак*

ПРАЦЯГЛАСЦЮ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ *колькі адзінак*

**ПРАЦЯГЛАСЦЮ НЕ БОЛЬШ ЯК** *колькі адзінак часу* **У** *якой адзінцы часу* Він.-Месн. Двухч. Ускладн. Прыблізны дымensіў з дакладнай ніжняй мяжой + дыстрыбутыў: *Пераразлік адзінага падатку праводзіцца ў выпадках... часовага (****працягласцю не больш***

***як 30 каляндарных дзён у годзе****) неажыццяўлення дзейнасці індывідуальным прадпрымальнікам...* («Палажэнне аб адзіным падатку...»). Рус. ***длительностью не более чем*** *сколько единиц* ***в*** *какой единице.*

ПРАЦЯГЛАСЦЮ НЕ МЕНЕЙ ЗА *колькі адзінак*

ПРАЦЯГЛАСЦЮ НЕ МЕНЕЙ ЧЫМ *колькі адзінак*

ПРАЦЯГЛАСЦЮ НЕ МЕНЕЙ ЯК *колькі адзінак*

**ПРАЦЯГЛАСЦЮ ПА** *колькі адзінак* Месн. Дыменсіў-дыстрыбутыў: *Пры сярэдняй цяжкасці паражэння аксінагентэрапію можна праводзіць сеансамі* ***працягласцю па 6 – 8 гадзін*** (Асновы мед. ведаў). Рус. ***длительностью по*** *сколько единиц.*

ПРАЦЯГЛАСЦЮ ПАРАДКУ *колькі адзінак*

**ПРАЦЯГЛАСЦЮ ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў: *Адна частка вёскі абаронена дзякуючы пабудаванай дамбе, другая – гэта тэрыторыя* ***працягласцю прыкладна 700 м*** *– не абаронена* («Звязда») Рус. ***протяжённостью примерно*** *сколько единиц.*

**ПРАЦЯГЛАСЦЮ Ў** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Выпускнікам, якія атрымалі накіраванне на работу, па заканчэнні ўстановы адукацыі даецца адпачынак* ***працягласцю ў адзін каляндарны месяц****, незалежна ад таго, калі яны мелі апошнія канікулы ва ўстанове адукцыі (*Інт.). Рус. ***длительностью в*** *сколько единиц.*

**ПРОБАЙ** *колькі адзінак* / **ПРОБАЙ** (<u>чаго</u>) *колькі адзінак* Наз. Дыменсіў: *Нацбанк выпускае ў абарачэнне памятныя манеты «60 год Перамогі»: срэбную – наміналам 50 рублёў,* ***пробай*** *<u>сплаву</u>* ***925****, масай 67,25 г* (Інт.). *Нацыянальны банк Беларусі 12 красавіка выпускае ў абарачэнне памятныя манеты «Вялікдзень» серыі «Святы і абрады беларусаў»: срэбную – наміналам 20 рублёў,* ***пробай*** *<u>сплаву</u>* ***925****, масай 33,62 г, дыяметрам 38,61 мм; медна-нікелевую – наміналам 1 рубель, масай 16,00 г, дыяметрам 33,00 мм* (Інт.).Рус. ***пробой*** *сколько единиц.*

ПРОСТА АД *чаго* ДА *чаго*

**ПРОСТА ДА** *каго* Род. Суб'ектны дырэктыў: *Накіравацца* ***проста да дырэктара****.* **—** *Я прыйшоў* ***проста да Вашы****, бо чалавек у маім палажэнні не мае іншага шляху* («Arche») Рус. ***прямо к*** *кому.*

**ПРОСТА З** *чаго* Род. Прастор. – аб'ектн.: дырэктыў-старт: ***Проста з моста****, тарчма галавою* (нар.). Рус. ***прямо с*** *чего.*

**ПРОСТА З-ПАД** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-старт: *Жанчына кінулася наперад і выхапіла дзяўчынку* ***проста з-пад машыны*** (М.Скрыпка). Ант. *проста пад.* Рус. ***прямо из-под*** *чего.*

**ПРОСТА ЛЯ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Дабраліся мы да прычала, дзе* ***проста ля берага*** *прыткнуўся наш плывучы дом* (У.Караткевіч). Сін. *ля самага...*Рус. ***прямо у*** *чего.*

**ПРОСТА НА**[1] *што* Він. Пратор.: дырэктыў па вертыкалі ці гарызанталі: *Аб Хвядосавых прыгодах людзей інфармуюць радыё і незвычайна мадэрнізаваная кінахроніка – дакументальныя здымкі ў вечаровы час праектуюцца* ***проста на воблакі*** («Arche»). *Ён ляжыць выпрастаны і глядзіць* ***проста на лямпачку****, нічога ня кажучы і ўжо ні аб чым ня думаючы?* («Arche»). *Вечарам, калі абодва вярталіся ў гатэль і праходзілі каля мясакамбіната, з-за высокага плота ім* ***проста на галовы*** *нехта шпурнуў важкаваты скрутак* («ЛіМ», 28.05.04). *З-за лесу выплылі хмары, і вецер пагнаў іх* ***проста на ўсход*** (І.Чыгрынаў). *Сонца стаяла ў зеніце, і яго прамяні падалі* ***проста на непакрытыя галовы*** (І.Шамякін). Рус. ***прямо на*** *что*.

**ПРОСТА НА**[2] *чым* Месн. Прастор.: лакатыў: *У якасці заложнікаў расстрэльвалі невінаватых людзей, без дай прычыны****, проста на вуліцах*** («ЛіМ», 15.02.91). *Ля прычала* ***проста на мурагу*** *сядзелі дзве жанчыны і белабрысы хлопец* (А.Асіпенка). Рус. ***прямо на*** *чем.*

**ПРОСТА НАД** *чым* Тв. Прастор.: лакатыў адносна ніжняга локума: *Пан Юры не любіў камянёў, цемры, сцен, і таму яго пахавалі* ***проста над Дняпром****, у дубровым гаі* (У.Караткевіч). Рус. ***прямо над*** *чем.*

**ПРОСТА ПАД** *што* Він. Прастор.: дырэктыў адносна сустрэчнага і верхняга рухомага аб'екта: *Выйшаў з пушчы* ***проста пад кулі*** (У.Караткевіч). Рус. ***прямо под*** *что*.

**ПРОСТА ПЕРАД/А** *кем/чым* Тв. Лакатыў адносна асобы: *Я стаяў амаль ля зараснікаў,* ***проста перада мною*** *ў вярсце быў парк Балотных Ялін, дрыгвяністая лагчына метраў у дзесяць шырынёй аддзяляла мяне ад таго месца, дзе знаходзіўся сорак хвілін таму* (У.Караткевіч). ***Проста перад сабою*** *каваль бачыў вусы, разверстыя раты, налітыя крывёю вочы, зброю* (У.Караткевіч). Рус. ***прямо перед*** *кем/чем.*

**ПРОСТА Ў/Ў** *што* Він. Дырэктыў-цэль: *А калі расплюшчылі вочы – убачылі, што пярун кінуў свой распалены молат* ***проста ў вялізны сухі дуб****, які стаяў ля дарогі, за нейкія дваццаць крокаў ад іх* (У.Караткевіч). *Сабраўшы апошнія сілы, плюнуў Васіль* ***проста ў вочы*** *палкоўніку* (М.Лынькоў). *Гледзячы Кірылу* ***проста ў вочы****, незнаёмы спытаў з крывой усмешкай ...* (І.Шамякін). Рус. ***прямо во*** *что*.

**ПРОСТА Ў ЗУБЫ** *каму* Дав. Адрасат-рэцэпіенс: *Трапляліся асобныя людзі, якія страцілі ад страху ўсякі розум, якія кідаліся ў паніцы* ***проста ў зубы ворагу*** (М.Лынькоў). Перан. Сін. *да.* Рус. ***прямо в зубы*** *кому*.

ПРОСТА Ў ЛАПЫ *каго/каму*

ПРОСТА Ў РУКІ *каго/каму*

***ПРОЦІ*** ТСБМ; ТСБПШ – прыназоўнік.

**ПРОЦІ[1]-1** *чаго* Род. Разм. Прастор.: адверсатыўны лакатыў: *А там, **проці сонца**, зноў паўзе хмурка* (Я.Колас). *Брод **проці двара** – брод на рацэ Свіслач каля Бровара* (А.Цыхун). *Акно было **проці печы**, вялікае, пад столь* (І.Пташнікаў). // ***Проці ліха** на ўзгорку, дзе пень на калоду брэша.* Сін. *насупраць*. Рус. ***напротив** чего; **на противоположной стороне** чего.*

**ПРОЦІ[1]-2** *чаго* Род. Адверсатыўны дырэктыў: *Насунуўшы ніжай на лоб кепку, Імполь доўга глядзеў **проці** сухога пякучага **сонца*** (В.Адамчык). *Па Прыпяці можна ісці за вадой і **проці вады*** (В.Ждановіч). *Што адзін зробіш **проці ўсіх**? Не ідуць, мой сынок, рэчкі ўгару і не круцяцца урыллі ў ветраку **проці ветру*** (Я.Купала). Сін. *на; супраць*. Рус. ***против** чего; **на** что.*

**ПРОЦІ[1]-3** *каго/чаго* Род. Адверсатыў: *Гарою стаяў ён **проці крыўды** сельскай грамады і на сходах быў першы праціўнік начальства* (Я.Колас). *... Выракаючыся* [роднай мовы], *ён* [беларус] *... мусіў бы ісці **проці ўсяго святога**, непадменнага на свеце, **проці ўсяго таго**, што паказвае адменнасць чалавека перад скацінай* (Я.Купала). *– Маўчы, калі ёсць хлеб у роце! І што сказаць **на гэта проці**?* (Я.Колас). ***Проці закону** хочаш ісці – большай бяды сабе наклікаць?* (Інт.). Сін. *супраць*. Рус. ***против** кого/чего.*

**ПРОЦІ[1]-4** *каго* Род. Адверсатыў: рэлят супрацьдзеяння: *– Таварышы! Ці мы сабраліся тут справу рабіць, ці кулацкіх падпявалаў слухаць? Іншыя меры прыму **проці тых, хто зрывае работу сходу**!* Я.Колас). Сін. *у адносінах да*. Рус. ***к** кому*.

**ПРОЦІ[1]-5** *каго/чаго* Род. Аб'ектн.: рэлят параўнання: *Па сутнасці, прыход беларуса ў гісторыю – то прыход у мастацтва, дзе гісторыя – новая, літаратурная, больш сучасная форма выяўлення, калі параўнаць яе **проці ранейшае творчасці**, якая не вынікала за межы этнаграфіі* (Л.Вашко). Сін. *з; у параўнанні з.* Рус. ***в сравнении с** кем/чем.*

**ПРОЦІ-6** *чаго* Род. Рэлят адпаведнасці: крытэрый: *Знайшоў адно паленца, таўсцейшае **проці меры**, і з-за гэтага паленца абярнуў увесь воз дроў* (Я.Колас). Сін. *паводле*. Рус. ***сверх** чего.*

**ПРОЦІ[1]-7** *чаго* Род. Адверсатыўны тэмпаратыў: *У дадатак да ўсяго была і немалая рызыка, каб ісці **проці цёмнай ночы** ў такі трывожны час ды яшчэ не ведаючы дарогі* (В.Адамчык). ***Проці Йвана** ночка мала* (нар. песня). // *Не **проці ночы** кажучы.* Сін. *перад*. Рус. ***накануне** чего.*

**ПРОЦІ[2]** *каму* Дав. Адверсатыў: рэлят супрацьдзеяння: *Платы маю шмат я для такіх непакор, Хто сябе **проці мне** стаць асмеліў* (Я.Купала). ТСБПШ – абл. Сін. *з; са*. Рус. ***против** кого.*

*адзін* **ПРОЦІ** *аднаго* Наз. – Род. Інтэрпаз. Ва ўзаемзваротных займенніках: *Андрэй убачыў, як начальнік і малады чалавек адразу адлучыліся ад яго, падаўшыся краем жыліны – адзін з аднаго боку, другі з другога. Ішлі* ***адзін процi аднаго*** (І.Пташнікаў). Рус. ***напротив*** *друг друга.*

**ПРОЦІ ВОЛІ** *каго/чаго* Род. Ускладн. Мадалізатар алетычнай немагчымасці + адверсатыў: *Дзікі крык вырваўся сам* ***процi волi Васіля*** (Я.Колас). ▶*Рад быў я не думаць і не знацца з вамі, толькі ж* ***процi волi*** *плывяце вы* [думкі] *самі* (Я.Колас). Ант. *па волі*. Сін. *насуперак волі; насуперак жаданню*. Рус. ***против воли*** *кого/чего.*

**ПРОЦІЛЕГЛА** *чаму* Дав. Адверсатыў: *Значыць, на яго дзейнічае сіла, накіраваная* ***процілегла скорасці*** *руху цела, якая і змяншае скорасць да нуля* (падручн.). *З моманту ўзнікнення дэфармацый у месцы сутыкнення цел пачынаюць дзейнічаць сілы, накіраваныя* ***процілегла*** *адносным* ***скарасцям*** *цел* (падручн.) *Вектар b накіраваны* ***процілегла*** *вектару a* (падручн.). *І ты рашыў, што гэта дазваляе табе працягваць шкодныя думкі, сеяць недавер, сумненні і ўвогуле рабіць* ***процілегла высокім мэтам*** *нашай гістарычнай працы?* (Інт.). Рус. ***противоположно*** *чему.*

**ПРОЦІЛЕГЛА** ДА *каго/чаго* Род. Адверсатыў: *...стаянне чалавека ... арыентаванае не на статыку, а на хаджэнне, на мноства аднолькавых мітуслівых рухаў, што па азначэнні* ***процілегла да стаяння*** *ў яго сапраўдным значэнні* (Інт.). Сін. *процілегла*. Рус. ***противоположно*** *чему.*

*ПРОЦІЎ* **ТСБПШ – прыназоўнік; абл.**

**ПРОЦІЎ-1** *каго/чаго* Род. Фанетычна-графічны варыянт **ПРОЦІ**; адверсатыў: *А для каго ўся роскаш гэта? Антосю стала чагось смутна. Ці гэта роскаш так атрутна... Ці то пратэст, бунт* ***проціў здзеку****, Які пануе тут адвеку І дзеліць люд на дзве галіны, на дзве нароўныя часціны* (Я.Колас). *Ой, не, дзедку:* ***проціў сілы*** *Можна ставіць толькі сілу* (Я.Колас). «*Панок, – прасіў дудар, – не рабі ты гэтага, не ідзі ты* ***проціў прыроды****!»* (Я.Колас). *Непакоюся крыху, болей за жывых, бо ж мы бяссільныя* ***проціў законаў жыцця!*** (Л.Геніюш). ▶*Для Беларусі ж і Літвы гэтыя клопаты заставаліся надзённымі, займалі грамадскую думку, і шляхта ў залежнасці ад светапогляду і перакананняў шукала доказы за і* ***проціў*** (К.Тарасаў). Сін. *супраць*. Рус. ***против*** *кого/чего.*

**ПРОЦІЎ-2** *чаго* Род. Фанетычна-графічны варыянт **ПРОЦІ**; адверсатыўны лакатыў: // ***Проціў ліха*** *на ўзгорачку: шукай да трымай*. Сін. *перад*. Рус. ***напротив*** *чего;* ***на противоположной стороне*** *чего.*

**ПРОЦІЎ-3** *чаго* Род. Фанетычна-графічны варыянт **ПРОЦІ**; адверсатыўны тэмпаратыў: *Бог з вамі, панічок! Што вы сказалі процiў ночы?! Няхай Бог крые!* (Я.Колас). *Не **процiў ночы** спамінаючы*. Рус. ***накануне** чего.*

**ПРОЦІЎ-4** *каго/чаго* Род. Аб'ектн.: рэлят параўнання: *Пыша цешча, пышна, **проціў** зяця не выйшла* (нар. песня). Сін. *з; у параўнанні з.* Рус. ***в сравнении с** кем/чем.*

**ПРОЦІЎ ВОЛІ** *каго* Род. Фанетычна-графічны варыянт **ПРОЦІ ВОЛІ**: Адверсатыў: *Што йдзе **проціў** яго* [розума] ***волі** Ці не ў часе выступае, Тое нішчыць цьма сляпая, Тое жыць не мае долі* (Я.Колас). Рус. ***против воли** кого/чего.*

**ПРОЦЬ** *каго/чаго* Род. Тое ж, што і **ПРОЦІ**. Адверсатыў: *Я не толькі ваяваць **проць багоў**, – нават чорта ганяць з Беларусі гатоў* (Інт.). ТСБПШ – прыназ.; абл.; без кантэкста. Сін. *супраць*. Рус. ***против** кого.*

**ПРОЧ** *каго/чаго* Род. Тое ж, што і **АПРОЧ**. Рэлят выключэння: *Дык трыста галасоў трымаў ён сільнай воляй, А сам не меў нічога, **проч кавалка поля** Ды шаблі і вусоў даўгіх, як у нікога* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Няма нікога, проч цябе* (Я.Купала). ТСБПШ – прыназ.; абл. Сін. *апроч; апрача; акрамя.* Рус. ***кроме** кого/чего.*

***ПРЫ*** ТСБМ; ТСБПШ – прыназоўнік.

**ПРЫ-1** *кім* Месн. Суб'ектн.: апякун-суэкзісцыянтыў: *Хлопец жыў **пры дзеду*** (Я.Брыль). *Не было толькі бацькі, ды і Алеся, мусіць не маючы **пры кім** пакінуць дзіця, сядзела дома* (В.Адамчык). *Жыў **пры матцы** перш хлапчынка, і была халупка ў іх, дзе курылася лучынка, дзе туліліся ўтраіх* (Я.Колас). *Ты ж здароў і дома, ты ж цяпер **пры мне*** (К.Буйло). *Сама цётка атрымлівала пенсію і жыла **пры сыне** – дырэктару школы ў бязлеснай, але ўрадлівай мясцовасці* (Б.Сачанка). *Нават і хустка завязана «пад бараду», як у бабулі-калгасніцы, **пры якой** малая гадуецца* (Я.Брыль). *Як **пры бацьку** жыў без ніякіх хатніх клопатаў, так і цяпер **пры жонцы*** (А.Кулакоўскі). Сін. *разам з; пад наглядам; у*. Рус. ***с** кем; **при** ком.*

**ПРЫ-2** *кім* Месн. Суб'ектн.: сведка: *Я шкадую, што не пайшоў наадкрытую: трэба было, каб **пры нас, пры людзях** Тэкля пайшла з хаты назаўсёды* (К.Чорны). // *Не **пры чужых / пры дзецях** кажучы. Не **пры нас** казана. Не **пры табе** пісана. Не **пры табе** пісана, не **пры мне** казана*. Сін. *у прысутнасці.* Рус. ***при** ком.*

**ПРЫ-3** *кім* Суб'ектн.: суагенс: *За ім пайшоў манах, Суддзя – **пры Бернардыне*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *разам з.* Рус. ***вместе с** кем.*

**ПРЫ-4** *кім* Месн. Час.: суб'ектны тэмпаратыў-канфірматыў: *Было ўсё гэта* ***пры Касцюшцы*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Неяк зімой, яшчэ* ***пры панах****, іхнюю вёску амаль дашчэнту выкаціў пажар* (Я.Брыль). // ***Пры цары Гароху****, як людзей было троху і як былі дзеравяныя рублі і жалезныя капейкі*. *Гэта не* ***пры мне*** *пісана.* Сін. *у цараванне; у панаванне.* Рус. ***при*** *ком.*

**ПРЫ-5** *кім* Месн. Пасэсіў-каўзатыў: ***Пры скаціне*** *не вельмі адыйдзешся з дому* (з гутаркі). *Выспацца ўночы* ***пры малым дзіцяці*** *– вялікая раскоша* (А.Глобус). *Дык і пасвіць трэба, краска,* ***пры авечках*** *стаяць крукам* (Я.Колас). Сін. *з*; дзеепрыслоўе *маючы, гледзячы, апекавацца:* ***Маючы*** *скаціну, ад дому не адыйдзешся.* Рус. ***с*** *кем.*

**ПРЫ-6** *чым* Месн. Квалітатыў: камітатыў + кандытыў: *Добра,* ***калі пры розуме, пры таленце*** *– яшчэ і гумар* (Я.Брыль). *Вулічка вузенькая,* ***пры добрых нагах*** *пераступіць можна* (М.Лобан). Сін. – прыметнік: *калі разумны, таленавіты, даўганогі...* Рус. ***при*** *чем.*

**ПРЫ-7** *чым* Месн. Аб’ектн.: пацыенс: аб’ектыў: *Я застаўся дома,* ***пры гаспадарцы*** (А.Кулакоўскі). *І вось ужо дзесяць старэйшых былі* ***пры справе*** (М.Лобан). Сін. апісальны прэдыкат: *займацца справай; трымаць гаспадарку* і інш. Рус. ***при*** *чем.*

**ПРЫ-8** *чым* Месн. Інструментыў: нерухомая прылада: *Горды сваёй сілай, уладай сваёй горды,* ***пры станку*** *стаіць ён, непахісна, цвёрда* (Я.Колас). *Калі ён уехаў зноў на двор, убачыў сутулаватага, з жоўтай лысінай дзеда Дзяніса, які корпаўся* ***пры калёсах*** (І.Мележ). // *Якая папрадуха пры кудзелі, такое палатно ў белі* Рус. ***возле:*** *увидел... деда Дениса, который хлопотал* ***возле колес*** (пер. Н.Кислика); ***с*** *чем*.

**ПРЫ-9** *чым* Месн. Суб’ектн: пасэсар на дадзены момант: *Пашпарт* ***пры табе****? ━Добра яшчэ, што* ***пры мне*** *сякера была* (АЯкімовіч). *Валацуга і скандаліст, бадзяўся па гарадах, капейкі* ***пры душы*** *ніколі не меў* (Э.Самуйлёнак). ◊ ***Усё пры*** *кім-небудзь* – прыгожа, прывабна. ━ ***Усё пры ёй*** *– і твар, і хада, і талент.* Рус. ***при*** *ком.*

**ПРЫ-10** *чым* Месн. Характарызатар знешняга выгляду па прыналежнай дэталі: *Ігнат Фамін у сябе дома быў у камізэльцы пад пінжаком і* ***пры гальштуку*** (М.Лобан). *Увесь час невялікі атрад быў на нагах і* ***пры зброі*** (Э.Самуйлёнак). *Адзеты па-святочнаму:* ***пры касцюме****, у новых чаравіках* (з гутаркі). Параўн.: *Бач ты, як* ***прыкасцюміўся****!* (з гутаркі). ТСБПШ – разм. Рус. ***в*** *чем;* ***с*** *чем.*

**ПРЫ-11** *чым* Месн. Характарызатар: камітатыў: рэлят суправаджэння: *Вось прэцца ў вулку гурт авечак шматгаловы 3 бляяннем, а за ім тырольскія каровы У пыле крочаць* ***пры*** *званочкаў* ***переразвоне*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). ***Пры іхняй музыцы*** *сяляне лепш*

*паскачуць* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Ант. *без суправаджэння.* Сін. *пад; пад акампанемент; пад суправаджэнне.* Рус. ***под** что; **под аккомпанемент** кого/чего.*

**ПРЫ-12** *чым* Месн. Прастор.: лакатыў: *Усё жыццё правесці **пры печы**. Ларыса села **пры акне**, адсунула фіранку і стала глядзець у сад* (Р.Мурашка). *Невялікае селішча Скіп'ёўскае Пераброддзе ўзнікла на голым месцы **пры** вялікім **Скіп'ёўскім лесе** адразу пасля рэвалюцыі* (К.Чорны). Сін. *каля.* Рус. ***у** чего; **возле** чего.*

**ПРЫ-13** *чым* Месн. Час.: храналагічны тэмпаратыў: *Сам калі **пры нядзелі** або **свяце** якім уголас усім добрую кніжку чытае...* (ананімн. Гутарка «Дзядзька Антон...»: ТСБПШ). ТСПБШ – устар. Сін. *у.* Рус. ***во** что* (когда).

**ПРЫ-14** *чым* Месн. Час.: таксісны тэмпаратыў: ***Пры суправаджэнні** патрулём трох затрыманых ... вялікі натоўп адбіў арыштаваных* (з тэлеграмы губернатара ў дэпартамент паліцыі. Пер. «ЛіМа», 15.11.85). Сін. *у той час калі.* Рус. ***во время** чего.*

**ПРЫ-15** *чым* Месн. Прычына; як правіла, калі пры назоўніку ёсць указальны займеннік *той*: *У той суровы ваенны час, **пры той падазронасці**, якая мела месца, і такое агульнае абвінавачванне пераконвала* (І.Шамякін). Рус. ***при** чем.*

**ПРЫ-16** *чым* Месн. Тэмпаратыў-кандытыў: з назоўнікамі стану жывой істоты: *Прымаць гэтае лякарства **пры пнеўманіі**.* — *Адвар свежых лістоў вішні у малацэ рэкамендуюць **пры жаўтусе**, адвар пладаножак – **пры дызентэрыі*** («Родны край», 2009). Рус. ***при** чем.*

**ПРЫ-17** *чым* Месн. Кандытыў: выпадак: *Дык трэба доўга, пільна наглядаць, вучыцца, Каб потым **пры здарэнні** ў* чым не *памыліцца* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *пры выпадку.* Рус. ***в случае** чего.*

**ПРЫ-18** *чым* Месн. Уступальн.: звычайна са спалучэннем назоўніка з займеннікам *увесь*: *Паэзія ягоная* [Купалы] *як бы вырастае з філасофіі забыцця, і таму **пры ўсёй прамаўляльнасці** старапрамоўленага Купалава слова – навіна, першаадкрыццё, святашчырасць* (Л.Вашко). *Дзіўна было, як **пры ўсім тым** на фронце немцы ўсё ж ваявалі ўпарта* (В.Быкаў). ***Пры ўсёй мяккасці** свае натуры, панна Ядвіга была гордая дзяўчына* (Я.Колас).). *Якую б рэўнасць да сваёй веры ні праўляў бы Альбрэхт Гаштаўт, каталік Скарына тым не менш вычуваў, што Гаштаўт блізкі з ім якраз тым, што **пры сваім каталіцызме і дзяржаўным патрыятызме** застаецца верным у немалой ступені багаццю русчызны як багаццю Літвы, Вялікага княства Літоўскага, рускага і Жамойцкага* (А.Лойка). Сін. *нягледзячы на.* Рус. ***при** чем.*

*што* **ПРЫ-1** *чым* Наз. Характарызатар-інтэнсіў; з узаемназваротнымі займеннікамі, паўторамі: *У гэтай мясцовасці вёскі размяшчаліся даволі густа* ***адна пры адной*** (І.Навуменка). *Ад славы камянеюць вершаробы, Зірні наўкол –* ***валун пры валуне*** (Р.Барадулін). Сін. *каля*. Рус. ***при*** *чем*.

*што* **ПРЫ-2** *чым* Наз.-Месн. Інтэрпаз. Час.: дыменсіў-дыстрыбутыў: ◊ ***Дзень пры дні*** – кожны дзень.▬ *Ды ўсё ж лягчэй* ***дзень пры дні*** *Бачыць бацьку жывога ў снах, Хату нашу ў агні* (В.Гарановіч). ***Дзень пры дні*** *яна працавала з рыдлёўкай на работах* (К.Чорны). ***Дзень пры дні*** *заходзім у ваду.* ***Дзень пры дні*** *апускаецца туман.* ***Дзень пры дні*** *стаіць на выспе чалавек у белым* (У.Арлоў). *Двойчы за суткі ўзровень вады акіяна павышаецца, а затым спадае. Так паўтараецца* ***дзень пры дні*** *з незапамятных часоў* (падручн.). Сін. *кожны дзень*. Рус. ***каждый день.***

*што* **ПРЫ-3** *чым* Наз.-Месн. Інтэрпаз. Час.: дыменсіў-дыстрыбутыў: ◊ ***Дзень пры дні*** – з кожным днём.▬ ***Дзень пры дні*** *знікала паміж імі колішняя блізкасць, што надзейна звязвала іх на працягу адзінаццаці гадоў* (М.Шолахаў. Пер. М.Лужаніна). Сін. *з кожным днём.* Рус. ***с каждым днем; день ото дня.***

*няма* **ПРЫ-4** *кім* Тв. Інтэрпазіц. у адмоўных займенніках; карытыў: *Калі клопат, работа, сілкавацца няма чым, перадыхнуць* ***няма пры кім***... (К.Чорны). Рус. *не* ***перед*** *кем.*

**ПРЫ АБСТАВІНАХ** *чаго / якіх* / **ПРЫ** *якіх* **АБСТАВІНАХ** Род. Характарызатар: таксісны сітуатыў: *Вываз такой сумы грошай з краіны быў зроблены* ***пры абставінах*** *усеагульнай* ***неразбярыхі*** *і, разам з тым, у межах вялікай сакрэтнасці* (Інт.). ▲*Здарылася гэта* ***пры невядомых абставінах.*** ↔ **Пры такіх абставінах, калі**: *Як добра, што работа пачынаецца* ***пры такіх абставінах, калі*** *хваляванне, выкліканае незвычайным здарэннем, аб'яднае ўсіх рабят* (Ю.Сотнік). Сін. *у абставінах.* Рус. ***при обстоятельствах*** *чего.*

**ПРЫ АБЫХОДЖАННІ З** *кім/чым* Тв. Кандытыў: рэлят адносін: *Далікацтва* ***пры абыходжанні з людзьмі*** *– мастацтва* (А.Міцкевіч. Пер. Я.Семяжона). Сін. *у стасунках з.* Рус. ***в обхождении с*** *кем/чем.*

**ПРЫ АГУЛЬНАЙ КОЛЬКАСЦІ** *каго/чаго* **Ў** *колькі адзінак* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Дыменсіў: квантытатыў + рэлят супастаўлення: *Беларускаму народу яна* [вар'яцкая ідэя Напалеона] *каштавала мільён жыццяў (****пры агульнай колькасці жыхарства ў чатыры мільёны****)* (К.Тарасаў). Сін. *пры колькасці.* Рус. ***при общем количестве*** *кого/чего* ***в*** *сколько единиц.*

**ПРЫ АДСУТНАСЦІ-1** *каго/чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Адразу пасля вячэры (спажытай* ***пры адсутнасці Семяна,***

*якому ўжо некалькі дзен «нездаровілася» – ежа дастаўлялася яму наверх) я пайшоў на ўсякі выпадак да брамы, і там пад цэглай бялела папера* (В.Гамбровіч. Пер. В.Булгакава). ↔ **Тады калі.** Сін. *у адсутнасць.* Рус. ***в отсутствие*** *кого/чего.*

**ПРЫ АДСУТНАСЦІ-2** *чаго* Род. Карытыў: адсутны камітатыў: *У сучаснай беларускай мове* [літара А] *абазначае нелабіялізаваны галосны гук «а», сярэдняга раду ніжняга пад'ёму **пры адсутнасці ётацыі*** (Энцыкл. гісторыі Беларусі, т.1). Ант. *з суправаджэннем.* Сін. *без суправаджэння.* Рус. ***при отсутствии*** *чего.*

**ПРЫ АДСУТНАСЦІ-3** *чаго* Род. Кандытыў: ***Пры адсутнасці інсуфлятара*** *парашок можна ўводзіць у правую або левую ноздру па чарзе, уцягваючы яго невялікімі порцыямі ў час удыху* (Асновы мед. ведаў), *Страта масы цела за 1,5 – 2 месяцы да 8 – 10 кг, або болей 10 %, **пры адсутнасці іншых істотных прычын*** (Асновы мед. ведаў). *Хворым **пры адсутнасці** кашлевага і ларынгеальнага **рэфлексаў** прамыванне страўніка можна правесці толькі пасля папярэдняй інтубацыі трахеі трубкай з раздзімальнай манжэткай* (Асновы мед. ведаў). ***Пры адсутнасці бактэрыялагічнага кантролю*** *тэрмін ізаляцыі працягваецца да 3 тыдняў* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***при отсутствии*** *чего.*

**ПРЫ АДДАЛЕНАСЦІ** *чаго* **АД** *чаго* **БОЛЬШ ЧЫМ НА** *колькі адзінак* / **ПРЫ АДДАЛЕНАСЦІ** *чаго* **БОЛЬШ ЧЫМ НА** *колькі адзінак* **АД** *чаго* Род.-Він.-Род. Трохч. Складн. Кандытыў: дыменсіў + квантытатыў + локум: ***Пры аддаленасці калодзежа або ракі больш чым на 1/4 – 1/2 кілометры ад аўчарні*** *авечак трэба паіць з вадапойных карытаў* (Б.Нікалаеў). Рус. ***при расстоянии*** *чего* ***от*** *чего* ***более*** *скольких единиц.*

**ПРЫ АМПЛІТУДЗЕ** *колькі адзінак* / **ПРЫ пэўнай / мінімальнай / максімальнай.../** *якой* **АМПЛІТУДЗЕ** *колькі адзінак* Він. Кандытыў + квантытатыў: *Ф а з а паказвае імгненнае значэнне пераменнага току **пры пэўнай амплітудзе** ў дадзены момант часу* (падручн.). Рус. ***при амплитуде*** *сколько единиц.*

**ПРЫ АПОРЫ НА** *што* Він. Кандытыў: *Гэтыя значэнні ці адценні фіксуюцца ў нарматыўных даведніках не па волі складальнікаў-лінгвістаў, а на аснове маўленчай практыкі людзей, звычайна **пры апоры на практыку** аўтарытэтных аўтараў, на частотнасць ужывання пэўнага значэння, на іншыя крытэрыі, істотныя пры кадыфікацыі моўнай нормы* (І.Я.Лепешаў). Ант. *без апоры на.* Сін. *з улікам.* Рус. ***при опоре на*** *что.*

**ПРЫ АПРАМЯНЕННІ / АПРАМЕНЬВАННІ ДОЗАМІ ЗВЫШ** *колькіх адзінак* Род. Ускладн. Сітуатыў-кандытыў: приклад-

ны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *На асабліва адчувальных участках скуры* ***пры апрамяненні дозамі звыш 6 Гр*** *узнікае часовае пачырваненне, адчуванне пякоты, паколвання і свербу* (Асновы мед. ведаў). Сін. *пры атрыманні дозы звыш.* Рус. ***при облучении (дозами) свыше*** *скольких единиц.*

**ПРЫ АТРЫМАННІ АДЗНАКІ** *колькі балаў* Род. Ускладн. Сітуатыў-кандытыў: экзісцыянтыў + дыменсіў-квантытатыў: ***Пры атрыманні адзнакі 9 (дзевяць) або 10 (дзесяць)*** *абітурыенты, што скончылі школу з залатым ці сярэбраным медалём, залічваюцца* («Звязда», 15.04.05). Сін. *пры адзнацы.* Рус. ***при получении оценки*** *сколько баллов.*

**ПРЫ БЕРАЗЕ** *чаго* Род. Прастор.: несупрасторавы транзітыў: партытыў + камплетыў: *І крышку ўжо ахмялелая ад гэтае свае варажбы,* [Хрысця] *пайшла* ***пры беразе лесу****, топячыся босымі нагамі ў вільготнай мякаці адсырэлага моху...* (В.Адамчык). Сін. *па краі; па ўскрайку*. Рус. ***по краю*** *чего.*

**ПРЫБЛІЗНА А** *чым/калі* Месн. Час.: прыблізны храналагічны тэмпаратыў: ***Прыблізна а пятай гадзіне раніцы*** *бязлюдныя зледзянелыя вуліцы былі асветленыя фарамі...*(Інт.). *У райком Даніла прыйшоў* ***прыблізна а палове другой гадзіны дня*** (Кавалёў: ТСБМ). Сін. *каля*. Рус. ***приблизительно во*** *сколько часов/когда.*

**ПРЫБЛІЗНА ЗА** *колькі адзінак* **НА ўсход АД** *чаго* Він.-Він.-Род. Трохч. Ускладн. Прастор.: квантытатыў + прыблізны лакатыў адносна локума і напрамку: ***Прыблізна за 1 км на ўсход ад Святой Горкі*** *раней стаяў каменны стод у выглядзе слупа з чалавечым тварам* (навук.). Рус. ***приблизительно в*** *скольких единицах расстояния* ***восточнее*** *чего.*

ПРЫБЛІЗНА ЗА *колькі адзінак* НА захад АД *чаго*

ПРЫБЛІЗНА ЗА *колькі адзінак* НА поўнач АД *чаго*

ПРЫБЛІЗНА ЗА *колькі адзінак* НА поўдзень АД *чаго*

**ПРЫБЛІЗНА НА** *колькі адзінак* Він. Квантытатыў: *У замку выканалі аб'ём работ* ***прыблізна на 100 мільёнаў рублёў*** (В.Сманцар). Сін. *прыкладна на.* Рус. ***приблизительно на*** *сколько единиц.*

**ПРЫБЛІЗНА НА АДЛЕГЛАСЦІ** *колькіх адзінак* **НА паўднёвы захад АД** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: дыменсіў + прыблізны лакатыў адносна локума і напрамку: *Раскопы №№ 5 і 6 раскапаныя на паўднёвым баку Курапатаў* ***прыблізна на адлегласці 200 метраў на паўднёвы захад ад раскопаў*** *1 – 3* (Інт.). Рус. ***приблизительно на расстоянии*** *сколько единиц* ***юго-западнее*** *чего.*

**ПРЫБЛІЗНА Ў** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў: *Кожны візіт замежнай каманды абыходзіцца прыкладна ў 20 ты-*

*сяч доляраў, кажная аперацыя* – ***прыблізна ў 7 тысяч доляраў****, хоць выконваюцца яны для беларускіх дзяцей бясплатна* («Звязда», 17.05.05). Рус. ***приблизительнов*** *сколько единиц.*

**ПРЫ БОКУ** *каго* Род. Прастор.: лакатыў адносна асобы: *Тадэвуш, хоць юнак, але па праве госця Высока сеў ля дам* ***пры боку ягамосця*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *побач з.* Рус. ***рядом с*** *кем.*

**ПРЫ ВІЛЬГОТНАСЦІ (чаго) НЕ НІЖЭЙ ЗА** *колькі адзінак* Він. Каўзатыў + прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Нармальнае развіццё яек* [вужа] *магчыма толькі* ***пры вільготнасці*** *глебы* ***не ніжэй за*** *25 %* (Інт.). Рус. ***при влажности (чего) не ниже*** *скольких единиц.*

**ПРЫ ВУГЛЕ** (***чаго***) *колькі адзінак* (Род.) Наз. Дыменсіў: *Максімальная далёкасць палёту, без уліку супраціўлення руху, пры дадзенай пачатковай скорасці дасягаецца* ***пры вугле кідання а = 45º*** (падручн.). Рус. ***при угле (бросания)*** *сколько единиц.*

**ПРЫ ВЫЕЗДЗЕ З** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў: ***Пры выездзе з двара*** *стаяла невялікая карчма* («Гарадзенскія запісы», 1993 вып.1). Сін. *на выездзе з.* Рус. ***при выезде с*** *чего.*

**ПРЫ ВЫКАНАННІ** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Цудадзейнай лічылі і ваду, якую ўзялі* ***пры выкананні пэўнага рытуалу*** (Я.Крук). Сін. *падчас.* Рус. ***при выполнении*** *чего;* ***во время*** *чего.*

**ПРЫ ВЫГЛЯДЗЕ** *чаго* Род. Сітуатыў: таксісны тэмпаратыў + каўзатыў: *Сёння ж,* ***пры выглядзе яе і іншых*** *Васілёвых* ***падарункаў*** *прыходзяць на памяць уласныя радкі...* (А.Вярцінскі). *Зазыба колькі часу зацята глядзеў на яе, тады адпусціўся: штосьці ёкнула* ***пры выглядзе жончыных слёз*** *у ягонай сярэдзіне* (І.Чыгрынаў). Сін. *ад; ад выгляду.* Рус. ***при виде*** *чего.*

**ПРЫ ВЫХАДЗЕ З** *чаго* Род. Ускладн. Лакатыў + тэмпаратыў: ***Пры выхадзе з цеплаабменніка*** *газ тэмпературай 1500 °С падаецца ў паратурбіну звычайнай цеплавой электрастанцыі* (падручн.). Сін. *на выхадзе з.* Рус. ***при выходе из*** *чего.*

**ПРЫ ВЫШЫНІ (чаго)** *колькі адзінак* / **ПРЫ** *якой/у колькі адзінак* **ВЫШЫНІ** Наз./Він. Кандытыў + дыменсіў: ***Пры вышыні назірання 1 м 70 см*** *адлегласць да бачнага гарызонту роўна 5 км, а з вышыні 10 м гарызонт бачны на адлегласці 12 км* (падручн.). ▲ *Дойліды ўмудрыліся зрабіць іх* [храмы] *велічнымі нават* ***пры двухметровай вышыні*** (І.Катляроў). Сін. *з вышыні.* Рус. ***при высоте*** *сколько единиц.*

**ПРЫ ВЫШЫНІ Ў** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Вось яны* (курганныя магільнікі) *стаяць над Натапай, кіламетры за два ад вадзянога млына, пляскатыя, нібы разлізаныя часам (****пры вышыні***

***ў 1,3, 1,7 метра**, дыяметры іхнія да шаснаццаці-васемнаццаці метраў)* (У.Караткевіч). Рус. ***при высоте в*** *сколько единиц.*

**ПРЫ ДАПАМОЗЕ-1** *чаго* Род. Аб'ектн.: інтсрументыў: *Чаго толькі каштавала мне імкненне здабыць агонь* ***пры дапамозе крэменя****! Я старанна цёрла адзін камень аб другі... Але нічога не атрымалася (Гэта і зразумела: агонь* ***з дапамогай крэменя*** *здабыць цяжка)* («Звязда», 4.02.05). *Авіяапырскванне – апырскванне палёў хімічнымі рэчывамі* ***пры дапамозе авіяцыі*** (ТСБМ). Сін. *з дапамогай*. Рус. ***с помощью*** *чего*; ***посредством*** *чего.*

**ПРЫ ДАПАМОЗЕ-2** *каго* / **ПРЫ** *якой* **ДАПАМОЗЕ** *каго/чаго* / **ПРЫ** *чыёй* **ДАПАМОЗЕ** Род. Суб'ектн.: суагенс-камітатыў: *Выйсці з цяжкага становішча* ***пры дапамозе сяброў****.* ▬ ▲ *Ведаў добра Міхася Забэйду-Суніцкага, часта сустракаўся з ім.* ***Пры яго дапамозе*** *перад самай вайной мяне нават выклікалі ў Варшаву на літаратурны вечар* (М.Танк). Сін. *з дапамогай.* Рус. ***при помощи*** *кого.*

**ПРЫ ДАЎЖЫНІ (чаго) НЕ БОЛЬШ ЧЫМ** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: ***Пры даўжыні ланцуга не больш, чым 1 м*** ... (падручн.). Рус. ***при длине не более чем*** *сколько единиц.*

**ПРЫ ДОЗАХ (чаго) АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род. – Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі: *У Хірасіме захворвальнасць лейкозамі падвоілася* ***пры дозах ад 10 да 50 бэр апраменьвання****, у Нагасакі – пры дозах звыш 100 бэр* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***при дозах (чего) от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**ПРЫ ДОЗАХ (чаго) ДА** *колькіх адзінак* / **ПРЫ ДОЗАХ** *адзінак* **ДА** *колькіх* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: ***Пры дозах апраменьвання да 10 Гр*** *паражоныя звычайна захоўваюць здольнасць да самастойнага руху* (Асновы мед. ведаў). *Ахоўны эффект радыёпратэктараў асабліва адчувальны* ***пры дозах апраменьвання да 10 Гр*** (Асновы мед. ведаў). Рус. ***при дозах (чего) до*** *скольких единиц.*

**ПРЫ ДОЗАХ (чаго) ЗВЫШ** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *У цяжкіх выпадках паражэння паходка робіцца хісткая, паяўляецца рэзкая слабасць аж да развіцця адынаміі* ***пры дозах уздзеяння звыш 10 Гр*** (Асновы мед. ведаў). *У Хірасіме захворвальнасць лейкозамі падвоілася пры дозах* <u>апраменьвання</u> *ад 10 да 50 бэр, у Нагасакі –* ***пры дозах звыш 100 бэр*** (Асновы мед. ведаў). ***Пры дозах апраменьвання звыш 200 бэр*** *у абодвух гарадах захворвальнасць лейкозамі ахапіла 90 % апрамененых* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***при дозах (чего) свыше*** *скольких единиц.*

**ПРЫ ДОЗАХ КАЛЯ** *колькіх адзінак* / **ПРЫ ДОЗАХ (чаго) КАЛЯ** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў: ***Пры дозах апраменьвання каля 6 Гр*** *гэтыя сімптомы трымаюцца на працягу тыдня* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***при дозах (чего) около*** *скольких единиц.*

**ПРЫ ЗАХАВАННІ** *чаго* Род. Кандытыў: камітатыў-экзісцыянтыў: *Янка Купала заклаў сваю, купалаўскую, традыцыю беларускага санетапісання, якая вызначаецца –* ***пры захаванні*** *асноўных архітэктанічных* ***асаблівасцей*** *санета (чатырнаццаць радкоў, два катрэны і два тэрцэты, звязаныя адпаведна дзвюма і трыма рыфмамі) – адносна вольным стаўленнем да яго вершаванага памеру рыфмоўкі* (В.П.Рагойша). Сін. *пры наяўнасці.* Рус. ***наряду с*** *чем.*

**ПРЫ З'ЯЎЛЕННІ** *каго/чаго* Род. Кандытыў-тэмпаратыў: *Як лепш лячыць бранхіт і куды звяртацца* ***пры з'яўленні кашлю*** *незразумелага паходжання?На гэтыя і іншыя пытанні вы зможаце атрымаць адказ, калі патэлефануеце на нашу «прамую лінію»* («Звязда», 05.02.05). Рус. ***при появлении*** *кого/чего.*

**ПРЫ ЗМЯШЧАЛЬНАСЦІ Ў** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: – *Улетку комплекс будзе працаваць? – Плануем, што будзе загружаны на сто адсоткаў і нават больш. Таму што* ***пры змяшчальнасці ў 70 чалавек*** *калі што можам прыняць і дзевяноста* («Звязда»). Рус. ***при вместимости*** *сколько единиц.*

**ПРЫ КАНТАКЦЕ З/СА** *кім/чым* Тв. Кандытыў + камітатыў: *Аміяк і нашатырны* ***спірт пры кантакце са слізістымі абалонкамі і скурай*** *вызываюць хімічны апёк* (Асновы мед. ведаў). *Чалавек можа заразіцца* ***пры кантакце з хворымі*** (Асновы мед. ведаў). *Іншыя віды жывёл (кошкі, лісы, вярблюды) і чалавек заражаюцца чумой* ***пры кантакце з грызунамі*** *і ад укусу заражаных блох* (Асновы мед. ведаў). Сін. *пры стасунках з; ва ўзаемадзеянні з.* Рус. ***при контакте с*** *кем/чем.*

**ПРЫКАНЦЫ** *чаго* Час.: храналагічны тэмпаратыў: ***Прыканцы 1902 г.*** *студэнты-беларусы – Вацлаў Іваноўскі, Іван і Антон Луцкевічы ды іншыя – заклалі Круг Беларускае Народнае Прасветы і Культуры, які сярод іншага браўся даць свайму народу кніжкі* (А.Сідарэвіч). *Параўнальна-гістарычны метад склаўся ў літаратуразнаўстве* ***прыканцы XIX стагоддзя*** (Н.Б.Рашэтнікава). ▶*За аснову песні аб долі, – працягвае Наталля Арсеннева, – што выконваецца ў першым акце* <u>*оперы*</u> *квартэтам, а* ***прыканцы*** *вялікім хорам, кампазітар узяў народную песню «Палыночак», ператварыўшы яе сваім талентам у глыбака-трагічнае сцверджанне людское бяссільнасці перад Конам* (В.Мухін). Сін. *напрыканцы*. Рус. ***под конец*** *чего.*

**ПРЫ КАНЦЫ-1** *чаго/якой адзінкі часу* Род. Час.: храналагічны тэмпаратыў: *Гэта было яшчэ **пры канцы XIII стагоддзя*** («Звязда», 2000). ***Пры канцы студзеня** ў Празе прайшоў VII чэмпіянат Еўропы па кіндархакею сярод жаночых моладзевых каманд* («Наша Ніва», 5.02.05). *Выбітны канцэрт з удзелам Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі адбыўся **пры канцы снежня** ў Вялікай зале сталічнай філармоніі* («ЛіМ», 06.01.06). ***Пры канцы жніўня** над Чорным стэпам абуджаюцца сухавеі* (В.Мудроў). Сін. *у канцы*. Рус. ***в конце** чего.*

**ПРЫ КАНЦЫ-2** *чаго* Род. Аб'ектна-час.: таксісны тэмпаратыў: *Паводле «Догмы-95» імя рэжысера не фігуруе ў тытрах ні на пачатку, ні **пры канцы фільма*** (С.Фяненка). *У сваіх мемуарах, апублікаваных у 1900 годзе – **пры канцы свайго доўгага жыцця** – Надар распавядае, што Бальзак таксама «смутна баяўся» фатаграфавання* («Arche»). Сін. *на схіле; у канцы.* Рус. ***в конце** чего.*

**ПРЫ КАНЦЫ-3** *чаго* Род. Аб'ектна-прастор.: партытыў + кamплетыў: *Падняўся **пры канцы стала*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). Сін. *з краю.* Рус. ***на конце** чего.*

**ПРЫ КАНЦЭНТРАЦЫІ (Адз.л.)** *колькіх адзінак* **НА** *колькі адзінак* Наз./Він.-Він. Двухч. Ускладн. Дыменсіў-дыстрыбутыў; другая частка прыназоўніка можа быць закадзіравана касой рыскай пры ўказанні адзінак вымярэння: ***Пры канцэнтрацыі 100 мг/м$^3$** адчуваецца раздражненне, **пры 140 – 210 мг/м$^3$** ускладняецца работа, а пры канцэнтрацыі вышэй 350 мг/м$^3$ яна становіцца немагчымая* (Асновы мед. ведаў). ***Пры канцэнтрацыі** ў вадзе рэшткавага хлору **0,2 – 0,3 мг/л** выбрыёны гінуць праз некалькі хвілін* (Асновы мед. ведаў). *Паводле медыкаў, **пры канцэнтрацыі** жалеза ў вадзе **0,3 міліграма на адзін літр** жаўцеюць зубы* (Інт.). Рус. ***при концентрации** сколько единиц **на** какую единицу исчисления.*

**ПРЫ КАНЦЭНТРАЦЫІ ВЫШЭЙ** *колькіх адзінак* **НА** *колькі адзінак* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой + дыстрыбутыў; другая частка прыназоўніка можа быць закадзіравана касой рыскай пры ўказанні адзінак вымярэння: *Пры канцэнтрацыі 100 мг/м$^3$ адчуваецца раздражненне, пры 140 – 210 мг/м$^3$ ускладняецца работа, а **пры канцэнтрацыі вышэй 350 мг/м$^3$** яна становіцца немагчымая* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***при концентрации** сколько единиц **на** какую единицу исчисления.*

**ПРЫ КАНЦЭНТРАЦЫІ** *колькі адзінак* **НА** *колькі адзінак* **І БОЛЕЙ** Наз.-Він. Двухч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой + дыстрыбутыў; другая частка прыназоўніка можа быць закадзіравана касой рыскай пры ўказанні адзінак вымярэння:

*Удыханне серавадароду ў канцэнтрацыі вышэй як 700 мг/м³ прыводзіць да хуткай страты прытомнасці, прыгнечанага дыхання і смерці, **пры канцэнтрацыі 1000 мг/м³ і болей** адбываецца імгненнае атручванне (маланкавая форма)* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***при концентрации*** *сколько единиц* ***на*** *какую единиу исчисления* ***и более***.

**ПРЫ КАНЦЭНТРАЦЫЯХ (Мн.л.)** *колькі адзінак* **НА** *колькі адзінак* Наз./Він.-Він. Двухч. Ускладн. Дыменсіў-дыстрыбутыў; другая частка прыназоўніка можа быць закадзіравана касой рыскай пры ўказанні адзінак вымярэння: ***Пры канцэнтрацыях*** [угарнага газу] ***400 – 600 мг/м³*** *пры экспазіцыі 2 – 5 гадзін (у залежнасці ад індывідуальных асаблівасцей) развіваецца калапс* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***при концентрациях*** *сколько единиц* ***на*** *какую единиу исчисления*

**ПРЫ КАРЫСТАННІ З** *чаго* Род. Кандытыў: *Не даволі пашыраць загад любові, трэба яшчэ ўхіліць усе прычыны да ненавісці. А такімі прычынамі ёсць няроўнасць у падзеле зямлі і багацце і няроўнасць **пры карыстанні з грамадскіх правоў*** (Кс.В.Гадлеўскі). Рус. ***при использовании*** *чего.*

**ПРЫ КАЭФІЦЫЕНЦЕ** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: ▲ ***Пры якім каэфіцыенце*** *трэння шын аб дарогу аўтамабіль «укладзецца» у паварот?* (падручн.). Рус. ***при коффициенте*** *сколько единиц.*

**ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак* Наз./Він. Прыблізны квантытатыў: *Па аператыўнай інфармацыі, будаўнічая галіна летась здала ў эксплуатацыю **прыкладна 3,35 – 3,4 мільёна квадратных метраў** жылля* («Звязда», 1.01.05). *У Беларусі штогод выходзіць у свет **прыкладна 8 тысяч найменняў** кніг агульным тыражом больш як 30 мільёнаў экземпляраў* («ЛіМ», 6.01.06). Сін. *каля.* Рус. ***примерно*** *сколько единиц.*

**ПРЫКЛАДНА** *колькі працэнтаў* **АД** *усёй колькасці* Наз./Він.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + дыстрыбутыў: *Ганчарная кераміка складае **прыкладна 60 % ад усёй знойдзенай*** («Гарадзенскія запісы», 1993 вып.1). Рус. ***примерно*** *сколько единиц* ***от*** *скольких единиц.*

**ПРЫКЛАДНА АД** *колькіх адзінак* **ДА** *колькіх адзінак* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнымі ніжняй і верхняй межамі + дыстрыбутыў: *У магілах дзяўчынак, прыкладна **ад 7 да 10 гадоў** таксама знойдзены рэчы* («Гарадзенскія запісы», 1993 вып.1). Рус. ***примерно от*** *скольких единиц* ***до*** *скольких единиц.*

**ПРЫКЛАДНА ЗА** *колькі адзінак* **АД** *каго/чаго* Він.-Род. Двухч. Прастор.: прыблізны лакатыў + квантытатыў: *Рыгор спыніўся **прыкладна за кіламетр ад вёскі*** (М.Ткачоў). Сін. *каля ... ад.* Рус. ***в* *скольких единицах* *от*** *чего.*

**ПРЫКЛАДНА ЗА** *колькі адзінак* **НА паўднёвы захад АД** *чаго* Він.-Він.-Род. Трохч. Прастор.: прыблізны лакатыў + накірунак адносна локума: *Каменны могільнік знаходзіцца **прыкладна за 80 м на паўднёвы захад ад вёскі**, на ўскрайку выцягнутай марэннай грады вышынёй да 8 – 10 м. каля дарогі з в. Вензаўшчына ў в. Матылі* («Гарадзенскія запісы», 1993, вып.1). Рус. ***примерно за*** *сколько единиц **юго-западнее** чего.*

ПРЫКЛАДНА ЗА *колькі адзінак* НА ЗАХАД АД *чаго*
ПРЫКЛАДНА ЗА *колькі адзінак* НА УСХОД АД *чаго*
ПРЫКЛАДНА ЗА *колькі адзінак* НА ПОЎДЗЕНЬ АД *чаго*
ПРЫКЛАДНА ЗА *колькі адзінак* НА ПОЎНАЧ АД *чаго*
ПРЫКЛАДНА ЗА *колькі адзінак* НА паўднёвы ўсход АД *чаго*
ПРЫКЛАДНА ЗА *колькі адзінак* НА паўночны захад АД *чаго*
ПРЫКЛАДНА ЗА *колькі адзінак* НА паўночны ўсход АД *чаго*

**ПРЫКЛАДНА З** *колькі адзінак часу* **ПАСЛЯ** *чаго* Вин.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: тэмпаратыў таксісны + няпэўны квантытатыў: *Здарылася гэтая падзея **прыкладна з месяц пасля вяселля**.* ↔ **Прыкладна з ... пасля таго як:** *Неяк ранкам, **прыкладна з месяц пасля таго, як** звязлі дабро разам, запрог Міканор коней, з бацькам пакаціў у Юравічы* (І.Мележ). Рус. ***примерно с*** *сколько единиц времени **после** чего.*

**ПРЫКЛАДНА К** *якому часу* Дав. Прыблізны тэрмінатыў: *Думаю, **прыкладна к чэрвеню** зможам перадаць яшчэ каля 40 тысяч спраў* («Звязда», 25.02.05). Сін. *амаль да.* Рус. ***приблизительно к*** *какому времени.*

**ПРЫКЛАДНА НА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў: рэлят колькаснага змянення: *Летась у нашай краіне кантынгент асуджаных ... зменшыўся **прыкладна на 1 тысячу чалавек*** («Звязда», 13.01.05). *Сёлета сукупны гадавы даход павінны задэкларавáць **прыкладна на 20 – 25 працэнтаў** грамадзян больш, чым летась* («Звязда», 25.02.05). *Не выключана, што тэрміны могуць быць перанесены на больш позні час **прыкладна на 10 дзён*** («Звязда»). *Агульным здабыткам мясцовай улады і тутэйшай грамадскасці Анатоль Гурбан лічыць зніжэнне ўзроўню злачыннасці за пяць месяцаў года, **прыкладна на 30 працэнтаў** (у тым ліку на глебе п'янства) у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года* («Звязда», 22.06.05). *Славянскае паселішча, ад якога бярэ свой пачатак Мазыр, існавала ўжо з канца VI да сярэдзіны XI ст. ва ўрочышчы Кімбараўка, затым было перанесена **прыкладна на 4 км** уверх па цячэнні Прыпяці* («Родны край», 2009). Рус. ***примерно на*** *сколько единиц.*

**ПРЫКЛАДНА НА АДЛЕГЛАСЦІ** *колькіх адзінак* Род./Наз./Він. Прастор.: лакатыў-дыменсіў: *У поўдзень у горадзе Александрыі Сонца знаходзіцца ад зеніту* ***прыкладна на адлегласці 1/50 часткі акружнасці*** (падручн.). Рус. ***примерно на расстоянии*** *скольких единиц.*

**ПРЫКЛАДНА** *колькі часу* **НАЗАД** Наз. Постпаз. Двухч. Ускладн. Час.: тэмпаратыў адносна іншай адзінкі адлічэння: *Значыць, задума «Каласоў...» з'явілася* ***прыкладна дванаццаць гадоў назад****? Пад уплывам якіх абставін?* (А.Мальдзіс). Сін. *каля ... назад.* Рус. ***примерно*** *сколько единиц* ***назад****.*

**ПРЫКЛАДНА ПА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыстрыбутыў: *Калі гэтае пытанне ўдасца ўзгадніць з аўстрыйскім бокам, магчыма, двавядзецца выдаваць атрымальнікам* ***прыкладна па 250 еўра*** («Звязда», 25.02.05). Сін. *прыблізна па.* Рус. ***приблизительно по*** *сколько единиц.*

**ПРЫКЛАДНА ПРАЗ** *колькі адзінак часу* Він. Час.: прыблізны тэмпаратыў-дыстрыбутыў: *Змяненні сонечных плям на Сонцы паўтараюцца* ***прыкладна праз 11 гадоў*** (падручн.). Рус. ***примерно через*** *сколько единиц.*

**ПРЫКЛАДНА Ў** *колькі адзінак* Прыблізны квантытатыў: *Кожны візіт замежнай каманды абыходзіцца* ***прыкладна ў 20 тысяч долараў****, кажная аперацыя – прыблізна ў 7 тысяч долараў, хоць выконваюцца яны для беларускіх дзяцей бясплатна* («Звязда», 17.05.05). *Аднак назаўтра, калі вярнулася разведка з бліжэйшых всак, стала вядома, што следам за атрадам ужо рухаецца нейкая конная нямецкая каманда,* ***прыкладна ў трыццаць шабель*** (І.Чыгрынаў). Рус. ***примерно в*** *сколько единиц.*

**ПРЫКЛАДНА** *колькі адзінак* **ЦІ МОЖА КРЫХУ БОЛЕЙ** / **ПРЫКЛАДНА** *колькі* **ЦІ МОЖА КРЫХУ БОЛЕЙ** *адзінак* Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з няпэўнай верхняй мяжой: ***Прыкладна 35 ці можа крыху болей станцыяў*** *працуюць цяпер у Вашынгтонскай метраполіі* (Інт.). Рус. ***примерно*** *сколько единиц* ***или может быть немного более.***

**ПРЫ КОЛЬКАСЦІ** *колькі* **І БОЛЬШ** *адзінак* Він./Наз.-Род. Двухч. Прыблізны дыменсіў з дакладнай ніжняй мяжой: *Суполкі* ***пры колькасці 15 і больш чалавек*** *абіраюць Рады ў складзе старшыні, скарбніка і сяброў Рады* (Інт.). Рус. ***при количестве*** *сколько* ***и более*** *единиц.*

ПРЫ КОЛЬКАСЦІ Ў *колькі адзінак*

**ПРЫ КОЛЬКАСЦІ (чаго) ПАРАДКУ** *колькі адзінак* **Ў** *адзінку вымярэння* Род.-Наз.-Він. Трохч. Ускладн. Прыблізны дыменсіў-дыстрыбутыў: *Дзецям да 10 – 12 гадоў масаж сэрца робіцца асновай*

*далоні адной рукі з хуткасцю каля 90 разоў* ***пры колькасці ўдзіманняў парадку 30 разоў у хвіліну*** (Асновы мед. ведаў). Рус. ***при количестве (чего) порядка*** *сколько единиц* ***в*** *единицу исчисления.*

ПРЫ МАГУТНАСЦІ *колькі адзінак*

**ПРЫ МАГУТНАСЦІ МЕНШ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Супраціўленне зазямлення нейтралі генератара і трансфарматараў не павінна перавышаць 4 Ом, а* ***пры магутнасці менш за 100 кВ-А*** *– не больш за 10 Ом*. (падручн.). Рус. ***при мощности менее*** *скольких единиц.*

ПРЫМЯНЁНА ДА *чаго*

**ПРЫ НАМОВЕ** *каго* Род. Кандытыў-канфірматыў: *Страціўшы мужа – няхай крые Бог, яны пражылі разам усяго толькі месяц – і баючыся ўжо сама арышту, яна* ***пры намове*** *і помачы* ***добрых людзей*** *уцякла з гораду сюды, у прылясную вёску* («Arche»). Рус. ***по подсказке*** *кого.*

**ПРЫ НАПРУЖАННІ** *колькі адзінак* / **ПРЫ намінальным НАПРУЖАННІ** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *Якая работа выконваецца ў праваднiку, у якім* ***пры напружанні 12 В*** *праходзіць зарад у 20 Кл?* (падручн.). *Колькі трэба дыёдаў... і як скласці схему двухпаўперыяднага выпрамніка з сярэднім пунктам, каб сілкаваць прыёмнік магутнасцю P0 = 300 Вт* ***пры напружанні 100 В?*** (падручн.). Рус. ***при напряжении*** *сколько единиц.*

**ПРЫ НАПРУЖАННІ** *колькі адзінак* **І НІЖЭЙ / ПРЫ намінальным НАПРУЖАННІ** *колькі адзінак* **І НІЖЭЙ** Наз./Він. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: ... *электраўстаноўкі ў ацяпляльных памяшканнях без павышанай небяспекі з драўлянай падлогай* ***пры намінальным напружанні 380 В і ніжэй*** (падручн.). ***при номинальном напряжении*** *сколько единиц.*

**ПРЫ НАЯЎНАСЦІ-1** *каго/чаго* Род. Тэмапаратыў-экзісцыянтыў: *Развіваецца эклампсія ў хворых* ***пры наяўнасці ацёкаў і гіпертэнзіі*** (Асновы мед. ведаў). *Штучная вентыляцыя лёгкіх з рота ў рот* ***пры наяўнасці двух выратавальнікаў*** (Асновы мед. ведаў; падзагаловак). Сін. *пры*. Рус. ***при наличии*** *кого/чего*.

**ПРЫ НАЯЎНАСЦІ-2** *чаго* Род. Кандытыў-экзісцыянтыў: ***Пры наяўнасці*** *ў хворага* ***гноецячэння*** *з вуха перад закапваннем капель трэба ачысціць вонкавы слыхавы праход ад гною, каб лякарства дасягнула барабаннай перапонкі* (Асновы мед. ведаў). *Газаразрадная плазма можа існаваць толькі* ***пры наяўнасці электрычнага поля*** (падручн.). Сін. *пры*. Рус. ***при наличии*** *кого/чего*.

**ПРЫ НАЯЎНАСЦІ-3** *чаго* Род. Адверсатыўны кандытыў: уступальн.: *Нават у нашы дні,* ***пры наяўнасці такіх ласункаў****, як*

*шакалад, тарты, марожанае і ўсялякія цукеркі, натуральны пчаліны мёд лічыцца далікатэсам* («Родны край», 2007). Сін. *нягледзячы на.* Рус. ***при наличии*** *чего.*

**ПРЫ НАЯЎНАСЦІ НЕ МЕНШ** *колькіх адзінак* Род. Кандытыў-экзісцыянтыў + прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Кіруючым органам з'яўляецца савет, пасяджэнні якога праводзяцца па меры неабходнасці, але не радзей за адзін раз у год, і правамоцны* ***пры наяўнасці*** *на пасяджэнні* ***не менш паловы членаў*** *яго складу* (Статут СПБ). Рус. ***при наличии не меньше*** *скольких единиц.*

**ПРЫ НАЯЎНАСЦІ (навуковай ступені) НЕ НІЖЭЙ ЗА** *каго* Ускладн. Род. Кандытыў-экзісцыянтыў + градуатар: *...магчымасць падаць заяву* ***пры наяўнасці навуковай ступені не ніжэй за кандыдата навук*** (Інт.). Рус. ***при наличии (ученой степени) не ниже*** *кого.*

**ПРЫ НЯХВАТЦЫ** *чаго* Род. Кандытыў: карытыўны экзісцыянтыў: *Маладым спецыялістам, якія прыбылі на работу па персанальнаму размеркаванню, мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы, а таксама арганізацыі* ***пры няхватцы ўласнага жыллёвага фонду*** *могуць выдзяляць сродкі з мэтай кампенсацыі затрат на наём жылля ў прыватнікаў* («Звязда», 11.01.05). Сін. *пры недахопе.* Рус. ***при недостатке*** *чего.*

**ПРЫ ПАВЕЛІЧЭННІ** *колькі адзінак* **НА** *колькі адзінак* Наз.-Наз. Двухч. Ускладн. Кандытыў + квантытатыў; фармант квантытатыва можа быць перададзены іншымі графічнымі сродкамі: *Прэпараты праглядаюць з дапамогай мікраскопа* ***пры павелічэнні 8Ч15 альбо 40Ч15****, а таксама* ***пры павелічэнні 90Ч15*** *з імерсійнай сістэмай (для бактэрый)* (навук.). Рус. ***при увеличении*** *сколько единиц* ***на*** *сколько единиц.*

**ПРЫ ПАКАЗЧЫКАХ** *колькі адзінак* **НА** *колькі адзінак* Наз.-Він. Двухч. Ускладн. Кандытыў-дыменсіў + квантытатыў; фармант квантытатыва можа быць перададзены іншымі графічнымі сродкамі: *Камбінацыя лекаў прымяняецца* ***пры паказчыках 150 – 160 на 90 – 95*** («Звязда», 9.02.05). Рус. ***при показателях*** *сколько единиц* ***на*** *сколько единиц.*

**ПРЫ ПАДТРЫМЦЫ** *каго/чаго* / **ПРЫ** *якой* **ПАДТРЫМЦЫ** *каго/чаго* / **ПРЫ** *якой* **ПАДТРЫМЦЫ** Род. Кандытыў-канфірматыў: *Некалькі твораў ўвайшло ў зборнік «Лінія фронту», што выдадзены ў Мінску напрыканцы 2003-га* ***пры падтрымцы Інстытута Гётэ*** (М.Аніщчанка). *Цэнтр створаны* ***пры падтрымцы Міжнароднай арганізацыі*** *па міграцыі ў рамках дзяржаўнай праграмы па процідзеянню гандлю людзьмі* («Звязда», 23.02.05). ***Днямі пры падтрымцы Расійскага пасольства*** *беларуска-расійскі малад-*

*зёжны фестываль «Памяць». адбыўся прысвечаны 60-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.* («Звязда», 25.02.05). ■ ***Пры належнай падтрымцы мясцовых улад*** *і дапамозе ўрада такія акцыі дазваляюць, вобразна кажучы, «прыбраць у доме», добраўпарадкаваць побыт, больш патрабавальна паставіцца і да культуры духоўнай, і да культуры агульнай у несталічных рэгіёнах, прынамсі, у старадаўніх беларускіх мястэчках, знаных сваім колішнім еўрапейскім укладам жыцця* (С.Берасцень). *Выпуск выдання ажыццёўлены па заказу і* ***пры фінансавай падрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь*** («Родны край-2007»). Сін. *пры дапамозе*. Рус. ***при поддержке*** *кого/чего*.

**ПРЫ ПАДСВЕТЦЫ** *каго/чаго* / **ПРЫ** *якой* **ПАДСВЕТЦЫ** *каго/чаго* / **ПРЫ** *якой* **ПАДСВЕТЦЫ** Род. Характарызатар дзеяння: канфарматыў: *Глыбіню іх* [вершаў Ларысы Геніюш] *зместавага начыння асабліва яскрава адчуваеш сёння****, пры падсветцы наступных танкаўскіх*** *– з яго дзённікавых* ***нататак*** *(запіс ад 22 сакавіка 1990 года): «Чытаю «Споведзь «Ларысы Геніюш – адзін з самых трагічных чалавечых дакументаў...»* (М.Мікуліч). Аказіян. Сін. *у святле*. Рус. ***в свете*** *чего.*

**ПРЫ ПАДЫХОДЗЕ ДА** *чаго* Род. Ускладн. Сітуатыў: таксісны тэмпаратыў + лакатыў: *Некалькі танкаў* ***пры падыходзе да вышыні*** *загразлі ў балоце* (І.Мележ). Сін. *на падыходзе да; каля; перад.* Рус. ***шпри подходе к*** *чему.*

**ПРЫ ПАРАЎНАННІ З** *чым* Тв. Ускладн. Характарызатар: спосаб*: Любое вымярэнне робяць* ***пры параўнанні з вядомым эталонам*** (падручн.). *Непаладка* ***пры параўнанні з мадэллю*** *ў яго* (камп'ютара) *памяці робіцца прыметнай* (падручн.). Сін. *спосабам параўнання з.* Рус. ***путём сравнения с*** *чем.*

ПРЫ ПАСРЭДНІЦТВЕ *каго*

**ПРЫ ПАСЫЛЕ** *каго* / **ПРЫ** *якім* **ПАСЫЛЕ** *каго* Род. Канфірматыў: *Пасля трагічнай гібелі паэта Васіля Сахарчука, які на працягу дзесяці гадоў пасля драматычнай смерці Васіля Гадулькі так і не змог дастукацца да людскіх сэрцаў, каб выдаць паэтычную спадчыну свайго сябра, і была распачатая (****пры нечаканым пасыле Алеся Разанава****) дабрачынная акцыя па ўшанаванні памяці малавядомага, але таленавітага паэта з Берасцейшчыны* (Л.Галубовіч). Сін. *па ініцыятыве.* Рус. ***по инициативе*** *кого*.

**ПРЫ ПАТРЭБЕ** *колькі/колькіх адзінак* Наз./Род. Дыменсіў: *На 1 чэрвеня з прадпрыемстваў горада і раёна на муляраў прыйшло 78 заявак, а ў наяўнасці было толькі 3, маляроў патрэбна 15, а на ўліку ў РЦЗН на той час стаяла ўсяго 2. Столькі ж было*

*цесляроў (**пры патрэбе 36**)* («Звязда», 22.06.05). Рус. ***при потребности*** *сколько/их единиц.*

ПРЫ ПАТРЭБНАСЦІ *колькіх адзінак*

**ПРЫ ПАЧАТКУ** *чаго* / **ПРЫ самым ПАЧАТКУ** *чаго* Род. Фазавы тэмпаратыў: *Атрымалі вы магчымасць стаяць **пры самым пачатку пасляваеннага беларускага руху** і прыкласці руку да яго развіцця* («Наша слова», 1.03.06). Сін. *у пачатку.* Рус. ***в самом начале***.

**ПРЫ ПАЯЎЛЕННІ** *чаго* Род. Ускладн. Таксісны тэмпаратыў аднačасовасці з пачаткам экзістэнцыі другога дзеяння: *Ёсць два перыяды найбольшай небяспекі драцяніка для раслін: вясной **пры паяўленні ўсходаў** і ўвосень, калі лічынкі нападаюць на ўсходы азімых, клубні бульбы і караняплоды* («Родны край», 2009). Сін. *са з'яўленнем.* Рус. ***при появлении*** *чего.*

**ПРЫ ПЕРАХОДЗЕ АД** *чаго* **ДА** *чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Каб прывесці класічную механіку ў адпаведнасць з пераўтварэннямі Лорэнца, неабходна так змяніць фармулёўкі адпаведных фізічных велічынь, каб усе законы былі інварыянтнымі **пры пераходзе ад адной інерцыяльнай сістэмы адліку да другой*** (падручн.). Рус. ***при переходе от*** *чего* ***к*** *чему.*

**ПРЫ ПЕРАХОДЗЕ ДА** *чаго* Род. Час.: таксісны тэмпаратыў: *Вядома, апошняя* (ідэя) *хутка распадаецца **пры пераходзе да арганізаванай царкоўнай іерархіі**; пазней яна працягвае існаваць, у прыземленым і ўцятым выглядзе, у дзейнасці вялікіх ордэнаў* («Arche»). Рус. ***при переходе к*** *чему.*

**ПРЫ ПОМАЧЫ** *каго* Род. Характарызатар: канфірматыў: *Страціўшы мужа – няхай крые Бог, яны пражылі разам усяго толькі месяц – і баючыся ўжо сама арышту, яна **пры** намове і **помачы добрых людзей** уцякла з гораду сюды, у прылясную вёску* («Arche»). *Болей мяне цікавілі філасофія, тэалогія, **пры помачы якіх** я стараўся развязаць загадкі пачатку, канца і мэты людскога і сусветнага бытавання* (Кс. В.Гадлеўскі). *Скірмунт, Савіцкі і Аляксюк падалі праект пасылкі тэлеграмы на імя Вільгельма. Паказалі на Літву, на Украіну, якая атрымала дзяржаўнае жыццё і этнаграфічную граніцу **пры помачы немцаў*** (Кс.В.Гадлеўскі). *Бел. Рада **пры помачы** і ў саюзе з **немцамі** спадзяецца адбудаваць дзяржаўнае жыццё Беларусі* (Кс.В.Гадлеўскі). Разм. устар. сін. *пры дапамозе.* Рус. ***при помощи*** *кого.*

**ПРЫ ПРАВЯДЗЕННІ** *чаго* Род. Ускладн. Час.: таксісны тэмпаратыў + эксплікатар: *Неабходнасць поўнай санітарнай апрацоўкі вызначаецца тым, што прадукты абяскоджвання іпрыту, якія засталіся на скуры **пры правядзенні** частковай санітарнай **апрацоўкі**,*

*захоўваюць сваю раздражняльную дзейнасць яшчэ на працягу 1-3 сутак* (Асновы мед. ведаў). Сін. *падчас*. Рус. ***при проведении** чего.*

**ПРЫ САДЗЕЙНІЧАННІ** *каго* Род. Характарызатар: канфірматыў: ***Пры садзейнічанні Японскага фонду** ў Мінску і абласных цэнтрах неаднаразова праходзілі разнастайныя мерапрыемствы* («ЛіМ»). *Пасля працяглых мытарстваў і **пры садзейнічанні** тагачаснага расійскага **амбасадара** ў Брукселі **Блудава**, быў атрыманы дазвол на працу...* («Наша слова», 17.05.06). Сін. *пры падтрымцы.* Рус. ***при содействии** кого.*

**ПРЫ СІЛЕ** *колькі адзінак* / **ПРЫ СІЛЕ (чаго**) *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *Пры плаўным павелічэнні пераменнага напружання ад 0 да 30 В на выхадзе выпрамніка будзе выпрамленае напружанне ад 0 да 24 В **пры максімальнай сіле току 10 А*** (навук.). Рус. ***при силе** (чего) сколько единиц.*

**ПРЫ СКАРАСЦЯХ (Мн.л.) КАЛЯ** *колькіх адзінак* **У** *якую адзінку адлічэння* / **ПРЫ** *якіх* **СКАРАСЦЯХ КАЛЯ** *колькі адзінак* **У** *якую адзінку вымярэння* Наз./Він.-Він. Двухч. Ускладн. Дыменсіўдыстрыбутыў; другая частка звычайна падаецца іншымі графічнымі сродкамі: *Напрыклад, нават **пры касмічных скарасцях каля 30 км/с** класічны закон складання... дае адносную памылку..., што намнога менш за хібнасць болыпасці сучасных метадаў вымярэння скорасці* (падручн.). Рус. ***при скоростях около** скольких единиц **в** какую единицу исчисления.*

**ПРЫ СКАРАСЦЯХ (Мн.л.)** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Няцяжка паказаць, што **пры скарасцях, намнога меншых за скорасць святла**, пераўтварэнні Лорэнца пераходзяць у пераўтварэнні Галілея* (падручн.). Рус. ***при скоростях намного менее** скольких единиц.*

**ПРЫ СКОРАСЦІ (Адз.л.)** *колькі адзінак* **У** *якую адзінку адлічэння* Він.-Він. Двухч. Ускладн. Дыменсіў; другая частка звычайна падаецца іншымі графічнымі сродкамі: *Шафёр выключыў рухавік і затармазіў **пры скорасці 72 км/г*** (падручн.). Рус. ***при скорости** сколько единиц **в** какую единицу исчисления.*

**ПРЫ СПРОБЕ** *што зрабіць* Інф. Ускладн. Кандытыў + мадалізатар: *Ты, напэўна, не ведаеш, што цябе павінны былі заарыштаваць, а пасля забіць па дарозе «**пры спробе ўцячы**»* (У.Караткевіч). Сін. *пры намеры.* Рус. ***при попытке** что сделать; **при попытке к** чему (бегству).*

**ПРЫ СТАЎЦЫ (чаго) У** *колькі адзінак* / **ПРЫ агульнай / рэальнай / прыблізнай** /*якой* **СТАЎЦЫ (чаго) У** *колькі адзінак* (Род.)-Він. Двухч. Ускладн. Кандытыў-дыменсіў: *Па ацэнках экс-*

*пертаў, інвеставанне сродкаў у памеры 8 працэнтаў ад фонду аплаты працы на працягу 20 гадоў* ***пры рэальнай стаўцы*** *даходнасці* ***ўсяго ў 1 працэнт*** *забяспечвае накапленне ў памеры 50 працэнтаў ад сярэдняга памеру ранейшага заробку* («Звязда», 23.02.05). Рус. ***при ставке (чего) в*** *сколько единиц.*

**ПРЫ СУТЫКНЕННІ (Адз.л.)** *чаго* **З** *чым* Род.-Тв. Двухч. Ускладн. Рэлят узаемадзеяння + камітатыў: *Раса ўтвараецца* ***пры сутыкненні цёплага і вільготнага паветра з больш халоднымі прадметамі*** *на зямной паверхні* (падручн.). Сін. *пры ўзаемадзеянні ... з.* Рус. ***при смешении*** *чего* ***с*** *чем.*

**ПРЫ СУТЫКНЕННЯХ (Мн.л.)** *чаго* **З** *кім/чым* Род./Тв. Рэлят узаемадзеяння: *Скорасць малекулы* ***пры*** *яе хаатычным руху і* ***сутыкненнях з іншымі малекуламі*** *бесперапынна змяняецца* (падручн.). Рус. ***при столкновении*** *чего* ***с*** *чем.*

**ПРЫ ТАКІМ ПАВАРОЦЕ** *чаго* Род. Ускладн. Кандытыў: *Па гэтым часе і* ***пры такім павароце падзей*** *Зазыбу, няйначай, ужо і прызнавацца нельга было, што ён таксама меў не меншую падставу...* (І.Чыгрынаў). Сін. *пры.* ↔ **Пры тым што.** Рус. ***при таком повороте*** *чего.*

**ПРЫ ТАЎШЧЫНІ (чаго)** *колькі адзінак* Наз./Він. Дыменсіў: *Затое і якасць дарожнага пакрыцця выдае адпаведную, і прадукцыйнасць – 600 тон асфальтабетону ў гадзіну* ***пры таўшчыні слоя 10 сантыметраў*** («Звязда», 28.01.05). Рус. ***при толщине*** *сколько единиц.*

**ПРЫ ТЭМПЕРАТУРАХ (Мн.л.)** *колькі адзінак* Кандытыўдыменсіў: ***Пры тэмпературах да 1600°С*** *прымяняюць тэрмапары з плаціны і сплава плаціны з родыем* (падручн.). Рус. ***при температурах*** *сколько единиц.*

**ПРЫ ТЭМПЕРАТУРЫ (Адз.л.) (чаго)** *колькі адзінак* / **ПРЫ** *якой* **ТЭМПЕРАТУРЫ** Він./Наз. Дыменсіў: *У першыя 2 – 3 месяцы жыцця дзіця купаюць у кіпячонай вадзе* ***пры тэмпературы 37 – 37,5 °С*** (Асновы мед. ведаў). *Дыфасген* ***пры тэмпературы 20 °С*** *можа ўтвараць пару з канцэнтрацыяй у паветры да 120 мг/л* (Асновы мед. ведаў). *Абліванні могуць праводзіцца ў ванне, пад душам або на вуліцы* ***пры тэмпературы*** <u>*вады*</u> ***30 – 25 °С і ніжэй****, працяглацю да трох хвілін для любой часткі цела* («Звязда»,15.06.05). ***Пры тэмпературы*** <u>*паверхні*</u> ***13 000 °С*** *свяцімасць звышгіганта Рыгель у 60 000 разоў большая за свяцімасць Сонца* (падручн.). ▲ ***Пры якой тэмпературы*** *вада пераўтвараецца ў лёд?* (падручн.). Рус. ***при температуре*** *сколько единиц.*

**ПРЫ ТЭМПЕРАТУРЫ ДА** *колькіх адзінак* Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Гэта зусім іншыя, у некалькі*

# ДАДАТАК
# ДА РЭЕСТРА ПЕРШАЙ ЧАСТКІ[1]

**А²-3** *чым* Тв. Час.: тэмпаратыў: ***А шарай гадзінай*** *ён запрог каня, скінуў на воз мех жытняе мукі, торбу ячнае шатраванкі і паехаў з ёю у мястэчка – павёз на станцыю* (В.Адамчык). Сін. – Тв. без прыназоўніка: *шараю гадзінай.* Рус. ***в*** *сумерки.*

*шмат/многа/бог ведае...* **АБ²-2** *кім/чым* Месн. Інтэрпаз. У няпэўных займенніках: ***Многа аб чым*** *ёсць падумаць...* (М.Лынькоў). Рус. ***о*** *многом / ком/чем;* ***мало ли о*** *ком/чем; бог весть* ***о*** *ком/чем.*

**АД** *каго/чаго* **І ДА** *каго/чаго* Род.-Род. Двухч. Ускладн. Дыменсіў-інтэнсіў + злучэнне: *Зямля мая бой прымала* ***ад стара і да мала,*** *ад стогадовага Талаша да Казея – малыша* (А.Вярцінскі). Сін. *ад... да.* Рус. ***от*** *кого/чего* ***до*** *кого/чего.*

**АД ІМЕНІ** *каго* Род. Аўтарызатар: *Менавіта* ***ад імені Пратэя*** *вядзецца апавяданне ў творы* (С.Шчэрба). Сін. *ад імя.* Рус. ***от имени*** *кого.*

**АД** *чаго* **К-3** *чаму* Род. – Дав. Прастор.: дырэктыў-старт + дырэктыў-фініш: *І, знайшоўшы, зноў* ***ад гаю к гаю*** *Вёў пакутны шлях* (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). Сін. *ад... да.* Рус. ***от*** *чего* ***к*** *чему.*

**АДРАЗУ Ў** *што* Він. Прастор.: дырэктыў-фініш: *Спярша, калі непадалёк ад Крутагор'я, у Клімавіцкай Родні, яшчэ стаяў штаб 13-й арміі, было намеркавана накіраваць Марылю* ***адразу ў мястэчка*** (І.Чыгрынаў). Сін. *у.* Рус. ***сразу же в*** *что.*

**АД СІЛЫ-2** *адзінак колькі* Не кіруе склонам. Апраксіматар + прыблізны квантытатыў: *Мы сядзелі ў сваім клубе на ганку, які мог змясціць* ***ад сілы чалавек восем*** (Я.Маўр). Сін. *не больш.* Рус. ***от силы*** *единиц сколько.*

**АД ПАЧАТКУ** *чаго/якой храналагічнай адзінкі часу* Род. Час.: тэмпаратыў – пачатковая кропка адлічэння: *Знаходак на выбрукоўцы і паміж камянёў трапіла няшмат, у асноўным манеты* ***ад пачатку XX стагоддзя*** (навук.). Ант. *да канца.* Рус. ***начала*** *чего.*

АДЭКВАТНА *чаму*

АДЭКВАТНА З *чым*

---

[1] Індэксацыя адзінак другой часткі суадносіцца з індэксацыяй адзінак першай часткі і працягвае парадак іх нумарацыі. Калі ў першай частцы адзінка мела толькі адно значэнне і не была праіндэксавана, то аманімічная ці сінанімічная ёй адзінка другой часткі мае наступны парадкавы індэкс з лічбай 2. Напрыклад: у першай частцы прыназоўнік **АД СІЛЫ,** у другой частцы яго варыянт пададзены як **АД СІЛЫ–2**. Тое ж і ў індэксацыі: у першай частцы **АМАЛЬ У** з Месн., у другой – **АМАЛЬ У²** з Він.

**АКУРАТ ПРАЗ** *колькі адзінак часу* Він. Час.: дакладны тэрмінатыў: *Тая памерла **акурат праз два тыдні**, калі ехаць далей у эвакуацыю не было як* (І.Чыгрынаў). Сін. *якраз праз.* Рус. ***как раз через** какое время.*

**АМАЛЬ НА АДНОЛЬКАВЫМ УЗРОЎНІ З** *кім/чым* Тв. Ускладн. Рэлят прыблізнай роўнасці: *І калі Верамейкі са сваімі землямі размяшчаліся яшчэ **амаль на аднолькавым узроўні з хрыбтом**, то на правы бок узвышша мела круты схіл* (І.Чыгрынаў). Сін. *роўна з.* Рус. ***почти на одинаковом уровне с** кем/чем.*

**АМАЛЬ НАД САМАЙ/ЫМ/ЫМІ** *чым* Тв. Прастор.: прыблізны лакатыў адносна ніжняга локума: ***Амаль над самым плёсам**, над ціхаю ракой Шумяць, шумяць бярозы, Пасаджаныя мной* (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). Сін. *непасрэдна над.* Рус. ***над самой/ым/ыми** чем.*

**АМАЛЬ ШТО НЕ КАЛЯ** *чаго* Род. Прастор.: прыблізны лакатыў: ***Амаль што не каля** кожнай **хаты** ляжалі кучы бярвенняў і гнілі, але нікому не прыходзіла ў галаву палажыць кладачку хоць супраць свае хаты* (Я.Колас). Рус. ***почти у** чего.*

**АМАЛЬ У**[2] *колькі разоў* Він. Прыблізны квантытатыў: *Галаўны мозг чалавека к 7 гадам павялічваецца ў вазе **амаль у 4 разы*** (навук.). Сін. *каля.* Рус. ***почти в** сколько раз.*

АНТАГАНІСТЫЧНА *чаму*

АПАЗІЦЫЙНА/АПАЗІТЫЎНА *чаму*

АПАЗІЦЫЙНА/АПАЗІТЫЎНА ДА *чаго*

АПАЗІЦЫЙНА/АПАЗІТЫЎНА З *чым*

**АПРОЧ ЯК НА** *чым* Месн. Ускладн. Рэлят выключэння + інструмент: спосаб: ***Апроч як на сваёй роднай мове**, не мог ні слова сказаць на іншай* (В.Быкаў). Сін. *акрамя.* Рус. ***кроме как на** чем.*

**БЕЗ МАЛОГА** *колькі адзінак* Склонам не кіруе. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой: *Плошча Нарачы без малога 80 кв. км, а даўжыня берагавой лініі 41 км* (падручн.). Сін. *амаль; каля.* Рус. ***без малого** сколько единиц.*

**БЛІЗ** *каго/чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *На Кобрыншчыне два шматвяковыя волаты – **бліз Дзівіна** і каля Крупчыцкага поля бою (цяпер Жабінкаўскі раён) – называюцца «Сувораўскімі дубамі»* («Родны край», 2009). Рус. ***близ** кого/чего.*

**БОЛЕЙ ЧЫМ ЗА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Заканадаўства Венецыі ўтрымлівала палажэнні, якія забаранялі жыхарам мець **болей чым за адзін юрыдычны звязак** з дзяржавай* (Інт.). Сін. *больш за.* Рус. ***более** скольких единиц.*

**БОЛЕЙ ЧЫМ ПА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў-дыстрыбутыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Украіна і Расія паведамілі, што ў іх загінулі ад абмаражэння* ***болей чым па 50 чалавек*** (Інт.). Сін. *больш чым па.* Рус. ***более чем по*** *сколько единиц.*

**БОЛЕЙ ЧЫМ ПРАЗ** *колькі адзінак* Він. Час.: прыблізны тэрмінатыў-тэмпаратыў: *Тыдзень меў пачацца* ***болей чым праз месяц****, але ён вымагаў грандыёзных і складаных падрыхтоўчых мерапрыемстваў, у выніку чаго ўсіх перагружалі працай* (Інт.). Рус. ***более чем через*** *какое время.*

**БОЛЕЙ ЧЫМ ПРАЗ** *колькі адзінак* **ПАСЛЯ** *чаго* Він.-Род. Час.: прыблізны тэрмінатыў-тэмпаратыў адносна падзеі: ***Болей чым праз 100 гадоў пасля будаўніцтва*** *дому нашчадкі не здолелі яго захаваць* (Інт.). Сін. *болей чым на.* Рус. ***более чем через*** *какое время* ***после*** *чего.*

**БОЛЕЙ ЯК ЗА** *колькі адзінак / адзінак* **БОЛЕЙ ЯК ЗА** *колькі* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *У Беларусі няма афіцыйных дадзеных пра колькасць патэнцыйных прызыўнікоў, якія навучаюцца за мяжой. Між тым паводле неафіцыйных падлікаў* ***такіх маладзёнаў болей як за тысячу*** (Інт.). Сін. *болей як.* Рус. ***более*** *скольких единиц.*

**БОЛЕЙ ЯК ПА** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў-дыстрыбутыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Я задумалася, скуль узяліся калоны са стрункіх гордых соснаў і ялінаў, якім ужо* ***болей як па сотні лет****!* (Л.Геніюш). Сін. *больш чым па.* Рус. ***более чем по*** *сколько единиц.*

**БОЛЕЙ ЯК У** *колькі адзінак* Він. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Здорава фрыцы партызан баяліся – зямлі* ***болей як у два метры*** *навярнулі* [да сцяны хаты] (А.Савіцкі). Сін. *больш чым у*. Рус. ***более*** *скольких единиц.*

**БОЛЬШЫ ЧЫМ (Муж.р. адз.л.)** *колькі адзінак* Наз. Прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой: *Калі радыус абслугоўвання* ***большы чым 3 кіламетры****, пры школе павінен быць інтэрнат* (Інт.). Сін. *больш чым.* Рус. ***более*** *скольких единиц.*

**БУДУЧЫ** *кім* Тв. Сітуант: тэмпаратыў + рэлят тоеснасці: *А колькі разоў ён на капішчы быў* ***будучы падлеткам****?* (А.Лойка). *І тут Скарына мог бы ўспомніць, ці сапраўды Каперніка ці не Каперніка чуў ён аднойчы* ***будучы ўжо бакалаўрам****?..* (А.Лойка). Сін. *у бытнасць*. Рус. ***будучи*** *кем.*

**ВАЧЫМА / ВАЧМІ** *каго* Род. Рэлят прыраўнівання ці прыпадабнення: *Мудрэц –* ***вачыма мудраца****, Купец –* ***кішэняю купца****, Змагар –* ***магутнасцю вяршынь****, Падліза –* ***языком*** *з аршын, Араты –* ***хлебам*** *на стале, Лятун –* ***чырвонцам*** *на крыле, Бядак –* ***бядою бедака****, – Бяг-*

*ляк – **нагамі бегляка**, – так на зямлю глядзелі, З ёй і пілі, і елі, І клаліся ў магілы Пад шум бяроз пахілы ... **Вачыма Космасу** глядзім, багамі ў небе спім, ядзім, Па моры вечнасці плывём, Па волі вечнасці жывём, Глядзім **вачмі прыроды** На лёсы і народы* (В.Зуёнак). Рус. ***глазами*** *кого.*

**ВА ЎЗРОСЦЕ-2** *каго* Род. Рэлят прыраўнівання: *Архірэй быў **ва ўзросце Францішкавага бацькі*** (А.Лойка). Сін. *веку.* Рус. ***в возрасте*** *кого.*

**ВА ўсе СФЕРЫ** *чаго* Дырэктыў-старт: *Змены распаўсюджваюцца і няўхільна пранікаюць **ва ўсе сферы жыцця** грамадства* (навук.). Сін. *ва ўсе галіны.* Рус. ***во все сферы*** *чего.*

**ВА ўсходняй ЧАСТЦЫ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *У натуральных умовах ліпа амерыканская расце **ва ўсходняй частцы Паўночнай Амерыкі*** («Родны край»). Сін. *на ўсходзе.* Рус. ***в восточной части*** *чего.*

**ВА ЎЯЎЛЕННІ** *каго* Род. Ускладн. Аўтарызатар: ***Ва ўяўленні*** *нашых далёкіх **продкаў** гэтыя два моманты* [урадлівасць зямлі і плоднасць чалавека] *былі непадзельныя* (А.Лозка). Рус. ***в представлении*** *кого.*

**ВОДДАЛЕК ЗА** *кім/чым* / **ЗА** *кім/чым* **ВОДДАЛЕК** Тв. Характарызатар: дырэктыў адносна пярэдняга рухомага локума: *А Сымон адзін зусім, торбу звесіўшы праз плечкі, ідзе **воддалек за ім**...* (Я.Колас). Рус. ***поодаль за*** *кем/чем.*

**ВОНКАХ** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў: *Гэтак, можна быць у хаце, у месце, у краю, у гаспадарстве і можа быць **вонках (хаты, места, краю, гаспадарства)*** (Я.Станкевіч). Сін. *па-за.* Рус. ***вне*** *чего.*

**ВЫШЭЙ-5** *чаго* Род. Рэлят колькаснага прыраўнівання: *Чарот узнімаецца **вышэй чалавечага росту**, шуміць сваімі мяцёлкамі* (В.Вольскі). Ант. *ніжэй.* Рус. ***выше*** *чего.*

**ВЫШЭЙ ПА цячэнні/ю** Месн. Прастор.: лакатыў: ***Вышэй па цячэнні** Дзвіна амывала, нібы сваё зялёнае сэрца, востраў, на якім бачыўся астраўны пасад Полацка з манастыром Іаанна Прадцечы* (А.Лойка). Рус. ***выше по*** *(течению).*

**ГАЛАВОЙ У** *што* Він. Ускладн. Характарызатар: *На шостым возе ляжаў ніц, **галавой у перадок**, і ні на каго не глядзеў Сяргейшын хлапец Алёша* (І.Пташнікаў). Ант. *нагамі ў.* Сін. *галавой да.* Рус. ***головой к*** *чему.*

**ДА-26** *каго/чаго* Род. Рэлят параўнання: *Брат падобны **да сястры**.* — *І абернецца на Градчанах справа нават да таго, што казнадзеі з Багемскай каморы – каралеўскай канцылярыі Фердынанда – стануць дараўноўваць яго **да гультая** і ледзь не залічаць у зграю зладзеяў...* (А.Лойка). Сін. *на.* Рус. ***к*** *кому/чему.*

**ДА** *колькіх адзінак* **ДАЎЖЫНЁЙ** Род. Прыблізны дыменсіў з дакладнай верхняй мяжой: *Шышкі піхты каліфарнійскай пурпурова-карычневыя **да 10 сантыметраў даўжынёй** з характэрнымі шылападобнымі вяршалінамі лускавінак* («Родны край», 2009). Сін. *да... у даўжыню; да ... удоўжкі.* Рус. ***до** скольких единиц **в длину.***

**ДА** *колькіх адзінак* **І МЕНЕЙ** Род. Двухч. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой; з рэдукцыяй прыназоўніка *за* і назоўніка: *Частата пульсу ў дарослых больш за 90 у хвіліну называецца тахікардыяй, а запаволенне **да 60 удараў і меней*** (за 60 удараў – *М.К.*) – *брадзікардыяй* (Асновы мед. ведаў). Рус. ***до** скольких единиц **и менее.***

**ДА КУПЫ** *каго/чаго* Род. Дырэктыў-фініш + камплетыў: рэлят уключэння: *І ён* [*Пракоф'еў*] *павёў нас у змрок, **да купы «яго асінак»**, якія журботна і трывожна шалясцелі пад балтыйскім ветрам* (П.Панчанка). Сін. *да кучкі*. Рус. ***к группке** кого/чего.*

**ДАЛЕЙ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-інтэнсіў: *Практычна ні адзін алепінскі жыхар не заходзіў па рацэ **далей гэтага лесу*** (У.Салаухін). Ант. *бліжэй*. Сін. *за.* Рус. ***дальше** чего.*

**ДАЛЁКА НА** *чым* Месн. Прастор.: лакатыў: *Перастаўляючы лыжы «ёлачкаю», ён пайшоў уверх да хмызняку, які чарнеў **далёка на гары*** (Ю.Пячэрскі. Пер. М.Татура). Рус. ***далеко на** чем.*

**ДАЛЁКА ПА** *чым* Месн. Прастор.: дырэктыў-транзітыў: ***Далёка па лесе** пакацілася рэха* (Скрыпка: ТСБМ). Рус. ***далеко по** чему.*

**ДА** *колькіх адзінак* **НАД УЗРОЎНЕМ** *чаго* Род. – Тв. Ускладн. Прыблізны квантытатыў з дакладнай верхняй мяжой + крытэрый; пасля прэдыкатаў з семай ‘вышыня’: *У натуральных умовах сасна чорная расце ў Альпах, на Карпатах і на Балканах, падымаючыся ў горы **да 1100 – 1400 м над узроўнем мора*** («Родны край», 2009). Рус. ***до** скольких единиц **над уровнем (**моря, пола* и др.).

**ДА ПАКАЛЕННЯ** *каго* / **ДА** *якога* **ПАКАЛЕННЯ** *каго* / **ДА** *якога* **ПАКАЛЕННЯ** Род. Рэлят уключэння: ■ *Алесь Асіпенка **належаў да франтавога пакалення пісьменнікаў**, чые юнацкія гады няўмольна знявечыла вайна* («Родны край», 2009). Сін. *да плеяды; да ліку; да шэрагу.* Рус. ***к поколению** кого.*

**ДА ЎЗРОЎНЮ** *колькіх адзінак* Квантытатыў: *Калі летась сярэдні заробак у цэнтральным рэгіёне склаў 325 долараў, то налета плануецца наблізіцца **да ўзроўню 500 долараў*** («Звязда», 17.01.08). Сін. *да.* Рус. ***до уровня** сколько единиц.*

**ДЗЕСЬЦІ ЗА** *колькі адзінак* **НА** *што/які бок свету* **АД** *чаго* Він.-Він.-Род. Трохч. Ускладн. Прастор.: прыблізны лакатыў + на-

кірунак: *Магчыма, з помнікам звязана павер'е аб «Перуновым полі», якое знаходзіцца **дзесьці за 1 км на ўсход адтуль**, у даліне* (навук.).

ДЫСАНАНСНА *чаму*

ДЫСАНАНСНА ДА *чаго*

ДЫСАНАНСНА З *чым*

**З/СА¹-25** *чаго* Род. ◊ ***Схіліла з поўдня*** (Я.Брыль). Рус. ***Было по полудни.***

*колькі адзінак* **З/СА¹-4** *чаго* / **З** *чаго колькі адзінак* Род.-Він. Ускладн. Дыстрыбутыў: партытыў + камплексіў: – *За бульбу працэнтоўку даюць. **З дзесяці пудоў – пуд*** (І.Навуменка). Рус. ***с** каждых скольких единиц какую часть (сколько единиц).*

**ЗА²-1** *каго* Род. Кваліфікатыў: рэлят тоеснасці: *Любоў мая!.. Ты **за гаспадыню** Была ў грудзях маіх з юначых дзён...*(А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). ◊ *Мець / прыняць **за гонар.***

**ЗА³-11** *кім/чым* Тв. Тэмпаратыў па вызначальным для гэтага часу падзеям, асобе: *Маўляў, яшчэ **за далёкім прыгонам**, калі Расеяй правіла Кацярына-царыца, здаралася ехаць тут царскаму поезду з Пецярбурга ў Таўрыду* (І.Чыгрынаў). Рус. ***во времена** кого/чего.*

**З АБАЛОНКІ** *чаго* Род. Рэлят выключэння: *Творца, паэт імкнецца вызваліць слова **з абалонкі зацвярдзеласці** і ім засведчыць, што ёсць свабода і Хараство»* (А.Разанаў). Аказіян. Ант. *у абалонку.* Сін. *з путаў*. Рус. ***из оболочки** чего.*

**ЗА** *колькі адзінак* ***З ГАКАМ / ВЕРХАМ / ЛІШКАМ / ЛІШНІМ / НЕЧЫМ / ХВОСЦІКАМ*** Він.-Тв. Двухч. Ускладн. Час.: няпэўны тэрмінатыў: прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + апраксіматар: ***За паўстагоддзя з гакам** многа і пражыта, і перажыта, і сёе-тое зроблена* (Я.Брыль). Сін. *крыху больш за.* Рус. ***за** сколько единиц **с гаком / верхом / лишком / чем-то / хвостиком.***

**ЗА КОШТ-2** *чаго* Род. Характарызатар-спосаб: ↔ **За кошт чаго; за кошт якога/ой/іх...:** *Вызначыць, **за кошт якіх механізмаў** ці **хімічных рэчываў** адбываецца працэс тэлепатыі, пакуль не атрымалася* («Звязда», 17.01.08). Рус. ***за счет** чего/какого/ой/их...*

**ЗАМІЖ** ↔ **Заміж таго каб.** *Навошта я абзавеўся такім спадарожнікам, які, **заміж таго каб** даваць палёгку, абцяжарвае мяне?* (Інт.)

**ЗА МЯЖОЙ** *чаго* Род. Рэлят выключэння: *Быць за мяжой магчымага.* ▬ ◊ ***За мяжой*** – у замежных дзяржавах. Рус. ***за пределами** чего.* ◊ ***За границей; за рубежом.***

**ЗА ПАРОГАМ-2** *чаго* Род. Час.: лакатыў стану: *І абазначала гэта разам з тым і тое, што не трэба чакаць вечнай славы **за парогам жыцця**, а браць яе за крылы тут, на зямлі, тут – жывым,*

*смелым, адважным, мудрым* (А.Лойка). Сін. *па-за; за межамі.* Рус. ***вне*** *чего;* ***за пределами*** *чего.*

**З АСЯРОДДЗЯ** *каго/чаго* Род. Рэлят выключэння: «*Сваёй цэлі Апейка дабіваецца пасля таго, калі партыйная ячэйка, райком камсамола і райана разаблачылі гэтага ворага і вырвалі яго, як шкодную траву****, з асяроддзя нашых савецкіх дзяцей»*** (І.Мележ). Сін. *з атачэння.* Рус. ***из среды*** *кого/чего.*

*адзінак* **ЗА** *колькі* **ЦІ БОЛЬШ / ЗА** *колькі адзінак* **ЦІ БОЛЬШ / ЗА** *колькі* **ЦІ БОЛЬШ** *адзінак* Двухч. Ускладн. Прастор.: няпэўны лакатыў: прыблізны квантытатыў з дакладнай ніжняй мяжой + апраксіматар: ***Гоняў за дзве ці больш*** *узбоч шашы прыглушана і з надрывам узвываў грузавік* (М.Гроднеў). Рус. *чего* ***за*** *сколько* ***или более.***

**ЗА якіх** *колькі адзінак* Він. Час.: няпэўны тэрмінатыў: *Гэты трохі вышэйшы за чалавечы рост абеліск* ***за якіх дзесяць год*** *ужо некалькі разоў мяняў свой колер* (В.Быкаў). Сін. *за нейкіх...*Рус. ***за каких-то*** *сколько единиц времени.*

**З БОРТА** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-старт + эксплікатар; з назвай паветранага ці воднага транспарту: *З борта самалёта лёгка нанесці на карту не толькі занятыя лесам плошчы, але і вызначыць пануючыя пароды, узрост і якасць лясоў, горы, балоты, высечкі...* (Гавеман: ТСБМ). Сін. *з.* Рус. ***с борта*** *чего.*

**ЗВОНКУ-2** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў адносна несупрасторавага локума: *Гэтак, штось можа* ***быць звонку гаспадарства, краю, места, сяла, радзімы (сям'і)*** (Я.Станкевіч). Сін. *па-за; за межамі.* Рус. ***вне*** *чего;* ***за пределами*** *чего.*

**З ВЫНЯТКАМ** *чаго* Род. Рэлят выключэння: *У менаваных словах,* ***з выняткам*** *«крыўдаваць, крыўдую», усюды націск на «кры-»* (Я.Станкевіч). Сін. *за выключэннем; за выняткам.* Рус. ***за исключением*** *чего.*

**З ГЛЕДЗІШЧА-3** *чаго* Род. Крытэрый: *Апынуўшыся на адлегласці ад Беларусі, сп. Букчын нарэшце заняў пазіцыю, якая* ***з беларусацэнтрычнага гледзішча*** *найбольш адпавядае ягонай паставе* (Д.Жукоўскі). ↔ **З гледзішча таго як.** Сін. *паводле.* Рус. ***с точки зрения*** *чего.*

**З ГЛЫБІНЬ/ЯЎ-1** ||Назоўнік з прыназоўнікам: *Мне любы хвойнікі на ўзгорках ... І бляск зары на лапах мокрых* ***З глыбінь*** *падняТых якароў* (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). Рус. ***из глубин.***

**З ДРУГОГА АД** *каго/чаго* **БОКУ / З ДРУГОГА БОКУ АД** *каго/чаго* Род. Інтэрпаз. Прастор.: лакатыў адносна бакавога локума: *–Ціха, ціха. Ну што вы! – заклапочана схілілася да суседа маладая жанчына, што сядзела* ***з другога ад яго боку*** (В.Быкаў). Сін. *ля; побач з.* Рус. ***с другой от*** *кого/чего* ***стороны.***

**ЗЗАДУ Ў**[1] *што* Він. Дырэктыўны аб'ектыў: *Яўхім пачакаў, калі бацька загадае ехаць, – упёршыся* ***ззаду ў снапы****, памог каню кра-нуць воз, пасля таго як воз кракtануў, хітнуўся, рушыў, яшчэ не-калькі крокаў прайшоў услед, усё памагаючы плячом* (І.Мележ). Рус. ***сзади во*** *что.*

**З-ЗА МЯЖЫ** *чаго* Род. Прастор.: дырэктыў-старт: ***З-за мяжы лесу*** *вынырнулі некалькі стракатых дэльтапланаў* (Інт.). ◊ ***З-за мяжы*** **–** з замежных дзяржаў. Рус. ***из-за границы*** *чего*; ***из-за рубежа.***

**З-ЗА РОГА** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: дырэктыў-старт: ***З-за рога крамы*** *«Субпрадукты» выйшаў яму насустрач гарбаты дзед з кульбаю* (П.Васючэнка). Рус. ***из-за угла*** *чего.*

**З КАМПАНІЯЙ** *каго* Род. Камітатыў-суагенс: ***З кампаніяй пісьменнікаў*** *былі на магіле паэта* (газ.). Сін. *з шэрагам*. Рус. ***с груп-пой*** *кого.*

**З КАНЦА** *якога часу/***стагоддзя ДА СЯРЭДЗІНЫ** *якога часу/* **стагоддзя** Род.-Род. Двухч. Ускладн. Час.: тэмпаратыў з вызнача-нымі гранічнымі межамі: *Славянскае паселішча, ад якога бярэ свой пачатак Мазыр, існавала ўжо* ***з канца VI да сярэдзіны XI ст.*** *ва ўрочышчы Кімбараўка, затым было перанесена прыкладна на 4 км уверх па цячэнні Прыпяці* («Родны край», 2009). Гіст. клішэ. Рус. ***с конца*** *какого* **столетия** ***до середины*** *какого* **столетия.**

**З** *якой* **МЭТАЙ/Ю-2** *што зрабіць* Інф. ■ *Нядобра, напрыклад, уганяць чужую машыну нават* ***з нявіннай быццам бы мэтай пака-тацца*** (газ.). Рус. ***с*** *какой* ***целью*** *что сделать.*

**З НАДЫХОДАМ** *чаго* Род. Тэмпаратыў + экзісцыенс*:* ***З нады-ходам восені*** *ў настуркі выспявае насенне, падобнае на буйную гарошыну* («Родны край», 2009). Сін. *па.* Рус. ***с наступлением*** *чего.*

**З** *якой* **НАЗВАЙ «***што*» Наз. Анамасіятыў: ■ *Старэнькі пара-ходзік* ***з зухаватай назвай «Чаркес»*** *мясіў ваду пліцамі на самай сярэдзіне ракі* (М.Ракітны). Рус. ***с*** *каким* ***названием*** *«что»*

**З НАПОРАМ У** *колькі адзінак* Він. Дыменсіў: *Фантан нафты вырваўся на паверхню* ***з напорам у восемдзесят пяць атмасфер*** (В.Вольскі). Сін. *з ціскам у.* Рус. ***с давлением в*** *сколько единиц.*

**З-ПАД ПЯРА** *каго /* **З-ПАД** *якога* **ПЯРА** *каго /* **З-ПАД** *чыйго* **ПЯРА** Род. Суб'ектн.: агенс + інструментыў + пасесіў: *Таксама* ***з-пад пяра А.Луцкевіча*** *выйшлі рэцэнзіі і артыкулы пра творчасць В.Дуніна-Марцінкевіча* («Родны край», 2009). ▶ *Пад той час* ***з-пад пяра*** *выходзілі не толькі, як кажуць, сур'ёзныя апавяданні, але і гу-марэскі і фельетоны* (С.Кухараў). ◊ ***З-пад іголкі*** – новы, яшчэ не ўжываны. ▬ *Гарнітур* ***з-пад іголкі****, І кашуля з узорам надзіва* (П.Броў-ка). Сін. *аўтарства.* Рус. ***из-под пера*** *кого.*

**З ПОВАДУ-2** *каго/чаго* Род. Аб'ектн.: дэлібератыў – рэлят адносін: *Зло робячы мне, грэшачы **з поваду мяне**, вы грашыце і перад Богам, бо я быў, стаяў ужо прад Богавым аблічам, я – чалавек Божы і чалавек-сонца* (А.Лойка). Сін. *супраць; у адносінах да.* Рус. ***по отношению к*** *кому/чему.*

**З РУК** *каго* Род. Пратаганіст: данатар: *– Што, сніцца рыцарскі пояс **з рук самога караля** на пераможным рысталішчы?* (А.Лойка). Сін. *ад.* Рус. ***из рук*** *кого.*

**З** *чаго* **Ў²-1** *што* Род.-Він. Двухч. Ускладн. Аб'ектна-прастор.: дырэктыў-старт – дырэктыў-фініш: *Нямала я дарог адмераў, Прайшоў Расію **з краю ў край*** (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). Рус. ***из*** *чего* ***во*** *что.*

**З** *чым* **У/ВА³-2** *чым* Тв.-Месн. Двухч. Ускладн. Характарызатар стану: *Але ж мы ішлі Праз агонь і дым **з агнём у сэрцы** І цябе знайшлі* (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі). *У пакой увайшла вясёлая, **з бляскам у вачах** Параска, мачыха адразу падхапілася, дала «добры дзень»* (І.Мележ). Рус. ***с*** *чем* ***в*** *чем.*

**З ШЭРАГАЎ (Мн.л.)** *каго/чаго* Род. Аб'ектн.: камплексіў: рэлят выключэння: *Праз год С.Дарожны быў выключаны **з шэрагаў Саюза пісьменнікаў*** (Н.М.Чэрнік-Рымашэўская). Сін. *з ліку; са складу; з саставу.* Рус. ***из рядов*** *кого/чего.*

**З УСТАЛЯВАННЕМ** *чаго* Род. Сітуант: экзісцыянтыў + тэмператыў: *Але найбольш цяжкай, бадай, крытычнай стадыі «захворванне» беларусафобіяй дасягнула... **з усталяваннем таталітарнага рэжыму** і ажыццяўленнем на практыцы сталінскай нацыянальнай палітыкі* (С.Ф.Дубянецкі). Сін. *з прыходам.* Рус. ***с установлением*** *чего.*

**К-3 *чаму* Дав. Час.: тэрмінатыў: *Галаўны мозг чалавека к 7 гадам*** *павялічваецца ў вазе амаль у 4 разы* (навук.). Сін. *к моманту.* Рус. ***к*** *какому времени.*

**К-10** *чаму* ◊ ***К прыкладу.*** **—** *Ды словы ёсць такія, Што гарачэй агню!. У сэрцы іх расцілі З пачаткам звонкі «Р». Ну, **к прыкладу,** Расія, Расія! Чуў цяпер?* (А.Пракоф'еў. Пер. П.Панчанкі).

**КАЛЯ ПАДЭШВЫ** *чаго* Род. Ускладн. Прастор.: лакатыў адносна ніза высокага локума + эксплікатар; з назоўнікамі *гара, вышка, узгорак* і інш. *Волкаў застагнаў: ён першы ўбачыў і зразумеў, што запрэжка пройдзе міма далёка ад нас, каля падэшвы сопкі* (І.Шамякін). Аказіян. Сін. *унізе.* Рус. ***у подножия*** *чего.*

**КАЛЯ** *колькіх адзінак* **У ДЫЯМЕТРЫ** Род. Прыблізны дыменсіў: *Перад уваходам у нару вытаптана і выраўнена круглая пля-*

*цоўка* ***каля аднаго метра ў дыяметры*** (В.Вольскі). Сін. *дыяметрам каля.* Рус. ***около*** *скольких единиц* ***в диаметре.***

КАНТРАСНА *чаму*

**КАНТРАСНА ДА** *чаго* Род. Характарызатар: рэлят неадпаведнасці: *Падбярыце колер, які будзе глядзецца* ***кантрасна да асноўнага малюнку****, напрыклад, чырвоны* (Інт.). *Пад уплывам чырвонага і сіняга колеру адна і тая ж шэрая паласа правым і левым вокам успрымаецца па-рознаму –* ***кантрасна да колеру*** *шкла* (Інт.). Ант. *гарманічна да.* Сін. *у тон да.* Рус. ***контрастно к*** *чему*.

КАНФРАНТАЦЫЙНА *чаму*

КАНФРАНТАЦЫЙНА ДА *чаго*

КАНФРАНТАЦЫЙНА З *чым*

**КРЫХУ НА ЗАХАД АД** *чаго* Род. Прастор.: лакатыў + няпэўны накірунак ад локума: *Калі падняцца на вапельную гару, а яна тут жа,* ***крыху на захад ад мястэчка****, і зірнуць у бок Нёмана, то перад вамі разгорнецца найпрыгажэйшая панарама* (Я.Колас). Ант. *крыху на ўсход ад; нашмат на захад ад; крыху на захад да.* Сін. *трохі на захад*. Рус. ***немного западнее*** *чего.*

**КУДЫСЬЦІ ЗА** *што* Він. Прастор.: няпэўны дырэктыў адносна пярэдняга локума: *Раптам вусаты дзядзька наморшчыў лоб, глянуў* ***кудысьці за вазы*** (К.Чорны). Сін. *за.* Рус. ***куда-то за*** *что.*

**КУДЫСЬЦІ Ў** *што* Він. Прастор.: няпэўны дырэктыў адносна унутранага локума: [Жанчына] *вельмі шпарка вынесла малака, напаіла...* [раненых] *і павяла* ***кудысьці ў цемень поля*** (К.Чорны). Сін. *у.* Рус. ***куда-то во*** *что.*

**ЛЕДЗЬ НЕ Ў** *што* Він. Час.: няпэўны тэмпаратыў: *Здаецца, і першы вальны сейм у Польшчы быў не так даўно – у 1493 годзе,* ***ледзь не ў год нараджэння*** *Францыска, і канстытуцыю «Nihil novi» нешта крышачку больш чым дзесяць гадоў таму* ***назад*** *прынялі, а вось як ужыўся ўжо ў свае вольнасці, у сваю свавольнасць пан шляхціц Твардоўскі...* (А.Лойка). Рус. ***чуть ли не во*** *что.*

*Адно* **ЛЯ** *аднаго* Наз. – Род. Інтэрпаз. Ва ўзаемназваротных займенніках: *Ля Таніных калёс стаяць* ***адно ля аднаго*** *Наста і Янук – каб варухнуліся!* (І.Пташнікаў). Рус. *друг* ***возле*** *друга.*

1

## НЕАТРЫБУТАВАНЫ СПІС ПРЫНАЗОЎНІКАЎ І ІХ АНАЛАГАЎ У ДАДАТКУ

**1. А$^{2}$-3**
**2. ...АБ$^{2}$-2**
**3. АД... І ДА**
**4. АД ІМЕНІ**
**5. АД... К-3**
**6. АДРАЗУ Ў**
**7. АД СІЛЫ-2**
**8. АД ПАЧАТКУ**
9. АДЭКВАТНА
10. АДЭКВАТНА З
**11. АКУРАТ ПРАЗ**
**12. АМАЛЬ НА АДНОЛЬКАВЫМ УЗРОЎНІ З**
**13. АМАЛЬ НАД САМАЙ/ЫМ/ЫМІ**
**14. АМАЛЬ ШТО НЕ КАЛЯ**
**15. АМАЛЬ У$^{2}$**
16. АНТАГАНІСТЫЧНА
17. АПАЗІЦЫЙНА / АПАЗІТЫЎНА
18. АПАЗІЦЫЙНА / АПАЗІТЫЎНА ДА
19. АПАЗІЦЫЙНА / АПАЗІТЫЎНА З
**20. АПРОЧ ЯК НА**
**21. БЕЗ МАЛОГА**
**22. БЛІЗ**
**23. БОЛЕЙ ЧЫМ ЗА**
**24. БОЛЕЙ ЧЫМ ПА**
**25. БОЛЕЙ ЧЫМ ПРАЗ**
**26. БОЛЕЙ ЧЫМ ПРАЗ... ПАСЛЯ**
**27. БОЛЕЙ ЯК ЗА**
**28. БОЛЕЙ ЯК ПА**
**29. БОЛЕЙ ЯК У**
**30. БОЛЬШЫ ЧЫМ**
**31. БУДУЧЫ**
**32. ВАЧЫМА / ВАЧМІ**
**33. ВА ЎЗРОСЦЕ-2**
**34. ВА ўсе СФЕРЫ**
**35. ВА ўсходняй ЧАСТЦЫ**
**36. ВА ЎЯЎЛЕННІ**

**37. ВОДДАЛЕК ЗА**
**38. ВОНКАХ**
**39. ВЫШЭЙ-5**
**40. ВЫШЭЙ ПА цячэнні/ю**
**41. ГАЛАВОЙ У**
**42. ДА-26**
**43. ДА... І МЕНЕЙ**
**44. ДА КУПЫ**
**45. ДАЛЕЙ**
**46. ДАЛЁКА НА**
**47. ДА... ДАЎЖЫНЁЙ**
**48. ДАЛЁКА ПА**
**49. ДА... НАД УЗРОЎНЕМ**
**50. ДА ПАКАЛЕННЯ**
**51. ДА ЎЗРОЎНЮ**
**52. ДЗЕСЬЦІ ЗА... НА**
53. ДЫСАНАНСНА
54. ДЫСАНАНСНА ДА
55. ДЫСАНАНСНА З
**56. З/СА$^{1}$-25**
**57. ...З/СА$^{1}$-4**
**58. ЗА$^{2}$-1**
**59. ЗА$^{3}$-11**
**60. ЗА АБАЛОНКІ**
**61. ЗА... З ГАКАМ / ВЕРХАМ / ЛІШКАМ / ЛІШНІМ / НЕЧЫМ / ХВОСЦІКАМ**
**62. ЗА КОШТ-2**
**63. ЗАМІЖ**
**64. ЗА МЯЖОЙ**
**65. ЗА ПАРОГАМ-2**
**66. З АСЯРОДДЗЯ**
**67. ...ЗА... ЦІ БОЛЬШ**
**68. ЗА якіх**
**69. З БОРТА**
**70. ЗВОНКУ-2**
**71. З ВЫНЯТКАМ**
**72. З ГЛЕДЗІШЧА-3**
**73. З ГЛЫБІНЬ/ЯЎ-1**
**74. З ДРУГОГА АД... БОКУ / З ДРУГОГА БОКУ АД**
**75. ЗЗАДУ Ў$^{1}$**
**76. З-ЗА МЯЖЫ**

**77. З-ЗА РОГА**
**78. З КАМПАНІЯЙ**
**79. З КАНЦА... ДА СЯРЭДЗІНЫ**
**80. З МЭТАЙ/Ю**
**81. З НАДЫХОДАМ**
**82. З НАЗВАЙ[1]**
**83. З НАПОРАМ У**
**84. З-ПАД ПЯРА**
**85. З ПОВАДУ-2**
**86. З РУК**
**87. З... Ў[2]-1**
**88. З... У/ВА[3]-2**
**89. З ШЭРАГАЎ**
**90. З УСТАЛЯВАННЕМ**
**91. К-3**
**92. К-10**
**93. КАЛЯ ПАДЭШВЫ**
**94. КАЛЯ... У ДЫЯМЕТРЫ**
95. КАНТРАСНА
**96. КАНТРАСНА ДА**
97. КАНФРАНТАЦЫЙНА
98. КАНФРАНТАЦЫЙНА ДА
99. КАНФРАНТАЦЫЙНА З
**100. КРЫХУ НА ЗАХАД АД**
**101. КУДЫСЬЦІ ЗА**
**102. КУДЫСЬЦІ Ў**
**103. ЛЕДЗЬ НЕ Ў**
**104. ...ЛЯ**

# ТЭРМІНАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК

**Аб'ект** – тып дэнататыўнай ролі з прадметна-рэчыўным значэннем, асоба, прадмет, які падвяргаецца акцыянальнаму або каўзатыўнаму ўздзеянню.

**Аб'ектыў** – дэнататыўная роля аб'ектнага тыпу, пацыенс, прадмет, які існаваў да пачатку сітуацыі і на які ўздзейнічае агенс (фізічная сфера). *Нямецка-фашысцкія захопнікі ўзялі **Брэсцкую крэпасць** пасля працяглых і крывапралітных баёў.*

**Аблятыў –** дэнататыўная роля прэдыкатнага тыпу, па значэнню супрацьлеглая генератыву. Напрыклад: *Ён **не з тых**, хто пасуе перад цяжкасцямі.* ◊ ***Не з пужлівага дзесятка** – пра смелага чалавека.*

**Агенс** (агент, агентыў)[1] – дэнататыўная роля суб'ектнага тыпу, галоўны ўдзельнік сітуацыі, пратаганіст, які непасрэдна выконвае дзеянне і з'яўляецца крыніцай энергіі гэтага дзеяння. ***Музыкант** іграе на флейце*.

**Адверсатыў** – рэлят адносін супрацьпастаўлення.

**Адпраўшчык** – дэнататыўная роля суб'ектнага тыпу, галоўны ўдзельнік сітуацыі, пратаганіст, данатар у сітуацыі рэалізаванага адчужэння аб'екта, які перадаецца атрымальніку, рэцэпіенту. *Дарагому другу дзяцінства, мілай Алёнцы на ўспамін **ад Сцёпкі*** (Я.Колас)

**Адрасант** – дэнататыўная роля суб'ектнага тыпу, галоўны ўдзельнік сітуацыі, пратаганіст, агенс-моўца. *Першым разам давялося ўспрымаць яго* [верш] ***непасрэдна з вуснаў самога паэта*** (М.Мікуліч).

**Адрасат –** дэнататыўная роля адрасатнага тыпу, атрымальнік інфармацыі, суразмоўца. *Назаўтра **на імя Міхала** Крывы Пракоп прынёс тэлеграму* (А. Васілевіч).

**Актант –** удзельнік сітуацыі, які ўтварае класы дэнататыўных роляў 1) суб'ектнага, 2) аб'ектнага, 3) адрасатнага, 4) інструментнага, 5) сітуантнага тыпаў.

**Алетычная магчымасць / немагчымасць –** аб'ектыўная мадальнасць магчымасці ці не магчымасці, выкліканая абставінамі, якія не залежаць ад волі суб'екта. Напрыклад, спалучэнне *не ў сілах* выконвае функцыю мадалізатара алетычнай немагчымасці ў складзе прэдыката *не ў сілах што зрабіць: Сэрца задрыжэла Ў яе, як слёзы ўбачыла ў вачах хлапчыны, Ды **зразумець была не ў сілах** той прычыны, З якой ён пакахаў і зараз пакідае* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля).

---

[1] Паколькі адзінага каталога дэнататыўных роляў пакуль што не існуе, некаторыя з роляў маюць некалькі сінанімічных тэрмінаў, таму ў дужках падаюцца варыянты, якія сустракаюцца ў лінгвістычнай літаратуры.

**Аналаг прыназоўніка –** знамянальная або незнамянальная часціна мовы ці спалучэнне некалькіх слоў, якія здольныя выконваць функцыю прыназоўніка.

**Анамасіятыў** – дэнататыўная роля сітуантнага тыпу, уласнае імя асобы або неадушаўлёнага прадмета, з'явы, падзеі. *Ураган* ***«Катрына»*** *амаль знішчыў горад* ***Новы Арлеан***.

**Антэцэдэнт** – папярэдні ці наступны кантэкст (слова) для анафары; у нашым выпадку – кантэкст для указання на тое, з якім словам звязана разглядаемая адзінка. Выдзелена падкрэсліваннем. Напрыклад: *<u>Дарогаю</u> тою імчацца машыны, прысады стаяць* ***па абодва бакі*** (А.Звонак), дзе прыназоўнік *па абодва бакі* адносіцца да антэцэдэнта – назоўніка *дарогаю*; параўн.: *па абодва бакі дарогі.* Або: *Насця была <u>старэйшая</u> за брата* ***на чатыры гады*** (Т.Хадкевіч). Антэцэдэнтам з'яўляецца кампаратыў *старэйшая,* з якім суадносіцца квантытатыўная сінтаксема *на чатыры гады* са значэннем колькаснай розніцы пры параўнанні.

**Апраксіматар –** паказчык колькаснай прыблізнасці; напрыклад, *амаль, каля, больш за, прыблізна* і г.д. у спалучэнні з колькасна-іменным спалучэннем.

**Аўтарызатар –** дэнататыўная роля сітуантнага тыпу, асоба, з пункту гледжання якой аб'ект атрымлівае прэдыкатыўную ацэнку. ***Для кожнага*** *свая зямля мілейшая.*

**Аўтарызацыя –** сітуацыя, якая кваліфікуе аднесенасць перадаваемай інфармацыі да моўцы або да іншай асобы.

**Бенефіцыянтыў** (бенефіцыенс) – дэнататыўная роля адрасатнага ці сітуантнага тыпу, асоба, якая зацікаўленая ў ажыццяўленні сітуацыі і якая атрымлівае ў выніку гэтай сітуацыі маральную ці матэрыяльную карысць або шкоду. *У ліпені абстаноўка ў Курляндыі зменіцца* ***не ў карысць паўстанцаў*** (Інт.).

**Ганаратыўнасць –** катэгорыя ветлівасці.

**Генератыў –** дэнататыўная роля, рэляцыйны прэдыкат, які выражае адносіны цэлага і часткі, сукупнасць асоб, прадметаў, з'яў як цэлае ў адносінах да аднаго з членаў множнасці. *Сымон Будны выйшаў* ***з асяроддзя дробнай шляхты****, гэта значыць, з асяроддзя малаадукаванага, можна мовіць, непісьменнага, вольналюбівага, але не вольнадумнага* (К.Тарасаў).

**Градуатар –** паказчык колькаснай градацыі. Звычайна гэта адкампаратыўныя ўтварэнні накшталт *больш, менш, ніжэй, вышэй* і інш. у колькасна-іменных спалучэннях: *...магчымасць падаць заяву пры наяўнасці навуковай ступені* ***не ніжэй за*** *кандыдата навук* (Інт.).

*Нізкія гукі гучалі на два таны* ***ніжэй****, а высокія выклікалі з чорных нетраў скавытанне і свіст* (Н.Бабіна).

**Дамінуючы суб'ект / суб'ект дамінавання** – другі суб'ект – удзельнік сітуацыі, ад якога залежаць абставіны існавання пратагоніста; выражаецца сінтаксемамі з прыназоўнікамі *пад, пад апекай, пад панаваннем* і інш.: *Апошні раз, пайшоўшы на вайну з Агінскім У Вільню, дзе служылі разам* ***пад Ясінскім*** (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля). *Знаходжуся я тут* ***пад апекай*** *вельмі сымпатычнага* ***доктара Е.Г.Карскага*** (М.Танк). Інакш – канфірматыў.

**Данатар –** дэнататыўная роля суб'ектнага тыпу, агенс у сітуацыі перадачы матэрыяльнага аб'екта. ***Госць*** *даў малому цукерку*.

**Данатыў –** дэнататыўная роля аб'ектнага тыпу, матэрыяльны прадмет у сітуацыі перадачы. ***Гэтую запіску*** *перадала мне сястра*.

**Дыменсіў –** дэнататыўная роля сірканстантнага тыпу, колькасная характарыстыка дзеяння, месца, часу і інш. *Невыпадкова палова ўсіх буйных гарадоў свету,* ***з насельніцтвам больш за 3 млн чалавек****, размешчана на ўзбярэжжы ці паблізу мораў* (падручн.).

**Дыпласія –** значэнне раўнавагі паміж супрацьлеглымі з'явамі – паміж тоеснасцю і адрозненнем. *Быць* ***паміж жыццём і нежыццём****.*

**Дырэктыў –** дэнататыўная роля прасторавага сірканстанта, якая выражае напрамак руху.

**Дырэктыў-старт –** дэнататыўная роля прасторавага сірканстанта, якая выражае зыходную кропку, адпраўны пункт напрамку руху. *Непрыгожыя, барадатыя,* ***з нетраў пушчы*** *ідуць зубры* (Л.Геніюш).

**Дырэктыў-фініш –** дэнататыўная роля прасторавага сірканстанта, якая выражае канечны пункт напрамку руху. *Рака Ласасянка ўпадае* ***ў Нёман****.*

**Дыстрыбутыў –** дэнататыўная роля сірканстантнага тыпу, якая выражае множнасць, раздзяляльнасць лакатываў, тэмпаратываў, дырэктываў і інш. *Усім будзе* ***па сем****, але нікому восем* (нар.).

**Дэантычная магчымасць / немагчымасць –** аб'ектыўная мадальнасць магчымасці ці не магчымасці, выкліканая абставінамі, якія залежаць ад волі другога суб'екта – асобы ці соцыума. Напрыклад, спалучэнне *не ў праве* з'яўляецца мадалізатарам дэантычнай немагчымасці ў складзе прэдыката *не ў праве што рабіць: Я* ***абвіняць не ў праве****, я свой гнеў пакінуў, Я* ***абвіняць не ў праве*** *– праз мяне ён згінуў...* (А.Міцкевіч. Пер. П.Бітэля).

**Дэлібератыў** (дэліберат) – дэнататыўная роля аб'ектнага тыпу, асоба, прадмет, падзея, аб'ект інтэлектуальнай дзейнасці адрасанта. *Песня* ***пра зубра*** (М.Гусоўскі).

**Дэнататыўная роля** (глыбінны склон) – удзельнік тыпавой сітуацыі.

**Дэскрыптыў –** дэнататыўная роля суб’ектнага тыпу, пратаганіст, носьбіт квалітатыўнага, квантытатыўнага, кваліфікатыўнага прызнака пры характарызуючых прэдыкатах.

**Дэструктыў –** дэнататыўная роля сітуантнага тыпу, цэлы прадмет адносна сваёй часткі, функцыянальна з ім звязанай. *На падлозе валяліся аскалёпкі **ад былой вазы.***

**Дэстынатыў –** дэнататыўная роля адрасатнага тыпу, асоба або прадмет, якому прызначаецца які-небудзь прадмет або дзеянне. *Мы купілі **для ката** «Віскас».*

**Інструмент –** дэнататыўная роля агульна-аб’ектнага тыпу, кампанент дзейнасці, які садзейнічае ажыццяўленню сітуацыі, але на які дзейнасць пратаганіста непасрэдна не накіравана.

**Інструментыў** (інструментатыў) – дэнататыўная роля інструментнага тыпу, рухомая ці нерухомая прылада, якая дапамагае агенсу выконваць акцыянальнае, інтэлектуальнае ці творчае дзеянне.

**Інтэнсіў –** дэнататыўная роля сірканстантнага тыпу, характарызатар, гранічная мера паўната, вычарпанасці дзеяння або стану. ***Ад глыбіні душы** зычу вам усяго найлепшага!*

**Камітатыў** – дэнататыўная роля сітуантнага ці сірканстантнага тыпу, спадарожная акалічнасць ці прадмет, якая суправаджае рэалізацыю сітуацыі.

**Кампазітыў** – састаўная частка функтыва, аб’ектыва або дэскрыптыва. *Самалёт **з пяцію пасажырамі** на борце пацярпеў аварыю.*

**Кампарант** – дэнататыўная роля суб’ектнага тыпу, асоба, прадмет, з’ява, дзеянне, множнасць, якія з чым-небудзь супастаўляюцца, параўноўваюцца. ***Брат** старэйшы за сястру*

**Кампарат –** дэнататыўная роля аб’ектнага тыпу, з якім супастаўляецца ці параўноўваецца кампарант. *Больш за ўсіх нас уразіў Мурзілка, гэткі чалавечак **з пальчык велічынёй*** (Я.Маўр).

**Кампаратыў –** дэнататыўная роля прэдыкатнага тыпу, форма вышэйшай ступені параўнання прыметніка, прыслоўя ці прэдыкатыва. *Брат **старэйшы** за сястру.*

**Комплексіў –** дэнататыўная роля суб’ектнага тыпу пры рэляцыйным прэдыкаце, цэлае адносна ўсіх астатніх частак. ***З-паміж хлопцаў-кавалераў** Быў адзін тут такі жох, Што ў сябе занадта меры І ў хлапцоўскасць сваю веры І меў рызыкі на трох* (Я.Колас).

**Камплетыў –** дэнататыўная роля сітуантнага тыпу, цэлае адносна да часткі, якая колькасна характарызуецца. *На край **стала**.*

**Кандытыў –** дэнататыўная роля сірканстантнага тыпу, умова. *Паводле дзеючага заканадаўства жыхары краіны маюць права атрымаць зямельныя ўчасткі ў пажыццёвае валоданне **з правам перадачы** ў спадчыну, у арэнду і ў прыватную ўласнасць* («Звязда»).

**Кансеквентыў –** дэнататыўная роля сірканстантнага тыпу, вынік, наступства. *Такія гульні **да бяды** давядуць.*

**Кантроллер** (інструмент кантролю) – дэнататыўная роля інструментнага тыпу, прылада, з паказаннямі якога звяраюцца параметры дзеяння агенса. *Вызначаюць напрамак **па компасу**.*

**Канфарматыў** (лат. conformis – падобны) – дэнататыўная роля сірканстантнага тыпу, на фоне якой вылучаюцца, падкрэсліваюцца асаблівасці ўдзельніка сітуацыі ці ўсёй сітуацыі ў цэлым; выражаецца сінтаксемамі з прыназоўнікамі *у аспекце, у святле, у ракурсе, у разрэзе, пад кутом* і інш. Напрыклад: *Гістарычная проза Алеся Наварыча **ў святле караткевічаўскай традыцыі*** (Д.Бугаёў: загаловак). *Звычайныя жыццёвыя з'явы і працэсы **пад кутом рамантычна-ўзвышанага погляду** Л.Геніюш, **у святле** глыбока ўсвядомленых ёю нацыянальна-патрыятычных **каштоўнасцей** пераўзнаўляліся, атрымлівалі новае аблічча, набывалі іншую якасць* (М.Мікуліч).

**Канфірматыў –** (лат.confirmatio – зацвярджэнне з боку вышэйшай улады) дэнататыўная роля сірканстантнага тыпу, падстава, адпаведнасць сітуацыі згодзе, думкам дамінуючага суб’екта; выражаецца прыназоўнікамі тыпу *з дазволу, з ведама, па волі* і інш.: ***З ведама Букрэя** ладзіцца дзед Талаш у свой паход к Доўгаму Броду* (Я.Колас). *Пакуль Касцюшка адсутнічаў, Людвіка Сасноўская **па волі бацькі** сталася княгіняй Любамірскай* (К.Тарасаў).

**Карытыў** – дэнататыўная роля другараднага ўдзельніка сітуацыі, адсутны агенс (*прыйсці **без бацькоў***), адсутны аб'ект (*прыйсці **без капелюша***), адсутны сродак (*аперацыя **без наркозу***) ці інш.

**Карэлят –** кампанент выказвання, з якім карэлюе тая ці іншая моўная адзінка.

**Каўзатар –** дэнататыўная роля суб’ектнага тыпу, пратаганіст, які ўздзейнічае на эксперыенцэра. ***З ініцыятывы Тызенгаўза** Гродна стаў значным культурным цэнтрам Рэчы Паспалітай* (К.Тарасаў).

**Каўзатыў –** дэнататыўная роля сірканстантнага тыпу, сітуацыя прычыны. *Льгота прадастаўлялася сем'ям, якія атрымліваюць пенсіі **з выпадку страты карміцеля*** («Звязда»).

**Квазі- –** прыстаўка са значэннем «несапраўдны», «уяўны».

**Кваліτатыў** – дэнататыўная роля прэдыкатнага тыпу, характарызатар па якасным прызнаку.

**Кваліфікатыў** – дэнататыўная роля прэдыкатнага тыпу, характарызатар па класіфікацыі прадмета сярод іншых прадметаў.

**Квантытатыў** – дэнататыўная роля прэдыкатнага тыпу, характарызатар па колькасным прызнаку. *На ўсе Мікуцічы было* ***не болей трох лодак****, хоць у сяле налічвалася каля двухсот двароў* (Я.Колас).

**Контрагенс** – другі агенс, які сваімі дзеяннямі супрацьстаіць пратаганісту-агенсу; звычайна ў сказе з'яўляецца дапаўненнем, у адрозненне ад агенса-дзейніка. Напрыклад: *Брат спрачаецца* ***з сястрой***.

**Крытэрый** – дэнататыўная роля сітуантнага тыпу, асоба, прадмет, з'ява, у адносінах да якога ўстанаўліваюцца адпаведнасць/неадпаведнацсь пэўных параметраў, акалічнасцей, назначэння. *Яшчэ раз прыходзіў да вываду: які багаты наш край* ***на гісторыю, падзеі, цікавых людзей*** (Я.Пархута).

**Крэатыў** – дэнататыўная роля аб'ектнага тыпу, прадмет, які ўзнікае ў выніку дзеяння. *З дзьмухаўцоў дзеці рабілі* ***дудачкі.***

**Лакалізатар** – дэнататыўня роля складанага сірканстантнага тыпу, якая ўтрымлівае ў сабе некалькі значэнняў – 'прысутны суб'ект', 'месца', 'дамінуючы суб'ект','пасэсар' і інш. Напрыклад: *Звілістая Уша блішчэла пад сонцам, на лузе* ***пад даглядам пастуха,*** *які абапіраўся на кій, пэўна, каб не ўпасці ў дрымоце, пасвіліся каровы...* (К.Тарасаў). *Людзі сабралі зброю і, пакінуўшы яе* ***пад даглядам Кірдуна****, сталі над вартай* (У.Караткевіч).

**Лакатыў** – дэнататыўная роля сірканстантнага тыпу, месца дзеяння ў прасторы. *Цяпер пачвара ляцела ўжо* ***зусім блізка ад ладдзі*** (У.Караткевіч).

**Лексічны кампанент сінтаксемы** – кампанент сінтаксемы, які ўтрымлівае намінатыўнае значэнне сінтаксемы і займае яе сінтаксічную пазіцыю ў сказе. Напрыклад, у сінтаксеме *падчас розных падзей* у сказе *Адметным энергетычным патэнцыялам валодала вада, якая знаходзілася ў хаце* ***падчас розных падзей*** («Звязда», 4.01.05) лексічным яе кампанентам з'яўляецца словазлучэнне *розных падзей,* а фармантам, г.зн. прыназоўнікам, – *падчас.* Усё словазлучэнне *падчас розных падзей* разам у сказе займае адну сінтаксічную пазіцыю – акалічнасці часу, а ў дэнататыўнай структуры выконвае сірканстантную ролю тэмпаратыва.

**Лімітатыў** – дэнататыўная роля сірканстантанаг тыпу, прастора, сфера рэалізацыі прызнака ці дзеяння.Збліжзаецца з **рубрыкатывам**.

**Локум –** прастора ці прадмет, адносна якіх вызначаецца месцазнаходжанне аб’екта (прадмета, дзеяння, прызнака) і характар іх узаемаадносін. Інакш – арыенцір.

**Мадалізатар –** частка дэнататыўнай ролі прэдыкатнага ці сітуантнага тыпу, якая надае прэдыкату мадальныя характарыстыкі. *Працаваць **аж** да вечара.*

**Матыў –** дэнататыўная роля сірканстантнага тыпу, разнавіднасць каўзатыва. *Гэтыя людзі зусім шчыра, не **з жадання выслужыцца,** а імкнучыся дапамагчы будоўлі, далі некалькі сот тэхнічных прапаноў* (П.Галавач).

**Медыятыў –** дэнататыўная роля інструментнага тыпу, прылада, што злучае дыстантна размешчаных удзельнікаў сітуацыі і служыць для перадачы сродка ці руху паміж імі. *Перадаць **па электроннай пошце.***

**Намінант –** дэнататыўная роля сітуантнага тыпу, назва, якую атрымлівае прадмет ад намінатара. ***Брызгулём** называецца прадаўгаваты гузік на кажусе.*

**Намінат –** дэнататыўная роля аб’ектнага тыпу, пацыенс, прадмет ці з’ява, якія атрымліваюць назву ад намінатара. *Прадаўгаваты **гузік** на кажусе называюць брызгулём.*

**Намінатар –** дэнататыўная роля суб’ектнага тыпу, пратаганіст, агенс у сітуацыі, называння, дачы імені. ***Бацькі** назвалі дачку Данарай.*

**Несупрасторавасць** – несупадзенне лакалізуемага аб’екта і локума: *міма поля, за горадам, з боку мора.*

**Партытыў –** дэнататыўная роля сітуантнага тыпу, частка любога актанта ці сірканстанта. *Ці знаў **хто, братцы, з вас** Тараса?* (Тарас на Парнасе).

**Пасрэднік –** дэнататыўная роля сітуантнага тыпу, асоба, якая садзейнічае агенсу ў ажыццяўленні дзеяння, сітуацыі. ***Праз знаёмага** мы дасталі білеты на «Славянскі базар».*

**Пасэсар –** дэнататыўная роля суб’ектнага тыпу, пратаганіст у сітуацыі прыналежнасці. *Па дамах мясцовых саветаў, якія знаходзяцца **ў ЖРЭА на балансе**, такія налічэнні будуць праводзіцца праз «жыроўкі»* («Звязда»).

**Пасэсіў –** дэнататыўная роля аб’ектнага тыпу, аб’ект прыналежнасці. *Гродна ў старыя часы меў **Магдэбургскае права***

**Патэнсіў** – дэнататыўная роля сірканстантнага тыпу, мадальная ці колькасная характарыстыка патэнцыяльнага дзеяння. ***На два тыдні** мы едзем адпачываць на мора.*

**Пацыентыў –** дэнататыўная роля аб'ектнага тыпу, адушаўлёны пацыенс, які падвяргаецца ўздзеянню агенса. *На гэтай ферме гадуюць **страўсаў**.*

**Перцэптыў –** дэнататыўная роля аб'ектнага тыпу, пацыенс, прадмет, прызнак, падзея, з'ява, якія ўспрымаюцца органамі пачуццяў эксперыенцэра. *У летнія вечары апетытна пахла **сырадоем і варанай маладой бульбай з кропам**.*

**Прапазіцыя –** нейкае палажэнне спраў, сітуацыя, падзея, якая не абавязкова выражана сказам. Параўн.: ***Сын займаецца боксам**. – **Бокс сына** адцягвае яго ад вучобы.*

**Пратаганіст –** дэнататыўная роля агульна-суб'ектнага тыпу, галоўны стваральнік і арганізатар сітуацыі. ***У сястры** ангіна. **З сынам** праблемы.*

**Прыназоўнік –** не толькі паказчык залежнасці субстантыва ад кіруючага слова (традыцыйная трактоўка тэрміна), але і фармант субстантыўнай (і не толькі) сінтаксемы, які ўводзіць яе ў структуру выказвання або ў сітуацыю. Інакш: частка сінтаксемы без яе лексічнага кампанента.

**Прэпазіцыяналізацыя –** пераход знамянальнага слова ў прыназоўнік ці аналаг прыназоўніка.

**Рубрыкатыў –** дэнататыўная роля прэдыкатнага тыпу, характарыстыка асобы ці прадмета па прызнаку з аднароднага рада. *Узбуджальнікі дызентэрыі – бактэрыі **з роду шыгел,** якія адносіцца да сям'і кішэчных мікробаў, патагенных для чалавека* (Асновы мед. ведаў).

**Рэлянт –** дэнататыўная роля суб'ектнага тыпу, пратаганіст пры рэляцыйным прэдыкаце, асоба, істота, прадмет, з'ява, якія знаходзяцца ў пэўных адносінах да рэлята. ***Акадэмік В.І.Баркоўскі** быў зяцем Я.Ф.Карскага.*

**Рэлят –** дэнататыўная роля пры рэляцыйным прэдыкаце, асоба, істота, прадмет, з'ява, з якімі знаходзіцца ў пэўных адносінах рэлянт. *Акадэмік В.І.Баркоўскі быў зяцем **Я.Ф.Карскага**.*

**Рэлятар –** дэнататыўная роля прэдыкатнага тыпу, рэляцыйны прэдыкат, які выражае адносіны 1) аб'ектаў паміж сабой у пэўнай сістэме, 2) класа да множнасці, якая ўключае гэты клас, 3) цэлага і часткі, 4) лагічныя адносіны. У нашым выпадку **рэлятар** – паказчык адносін злучэння, які ўваходзіць у склад састаўнога фарманта сінтаксемы. Звычайна гэта злучнік *і* у састаўных прыназоўніках тыпу *ад... і да, пачынаючы... і канчаючы* і інш. Напрыклад: *Грунтоўнае даследаванне ідэйна-тэматычнагадыяпазону беларускай літаратуры пачатку XX ст., што праводзілася адным пакаленнем вучоных, **пачынаючы ад А.Луцкевіча, М.Гарэцкага і да І.Навуменкі, М.Му-***

***шынскага, А.Лойкі і іншых**, пераканаўча сцвердзіла слушнасць дадзенай думкі* (П.І.Навойчык). *Крыжовы шлях – пасійнае набажэнства, прысвечанае разважанню пра Муку Пана**, пачынаючы ад несправядлівага прысуду Пілата, праз цяжкі шлях** на Галгофу ў цярновым вянку і з крыжам на плячах, **і заканчваючы смерцю** на крыжы і пахаваннем* («Звязда», 9.02.05).

**Рэпрэзентатар –** дэнататыўная роля суб'ектнага або, пры кандэнсацыі выказвання, сітуантнага ці сірканстантнага тыпу, клас асоб, які вылучае свайго прадстаўніка (рэпрэзентанта). *Кандыдаты **ад грамадскіх рухаў** сабраліся на плошчы.*

**Рэпрэзентант –** дэнататыўная роля суб'ектнага ці сітуантнага тыпу, асоба, якая прадстаўляе пэўную групу ці клас. ***Кандыдаты** ад грамадскіх рухаў сабраліся на плошчы*

**Рэцэпіенс –** дэнататыўная роля адрасатнага тыпу, атрымальнік матэрыяльнага аб'екта. *Па даручэнню Прэзідэнта будзе правераны стан ваенных гарадкоў, перададзеных міністэрствам абароны **ў камунальную ўласнасць** і **на баланс рэспубліканскіх органаў улады і кіравання*** («Звязда», 06.01.05).

**Сінтаксема –** мінімальная сінтаксічная адзінка, якая ўяўляе сабой адзінства лексічна-катэгарыяльнага значэння, марфалагічнай формы і сінтаксічнай функцыі (у трактоўцы Г.А.Золатавай). У нашым выпадку асноўным для вызначэння сінтаксемы з'яўляюцца семантычны і сінтаксічны паказчыкі, марфалагічны ж паказчык з'яўляецца факультатыўным, паколькі ён не заўсёды супадае з першымі двума паказчыкамі. Параўн.: а) усе тры паказчыкі супадаюць: *па грыбы, перад заняткамі, на нябёсах;* б) марфалагічны бок сінтаксемы не супадае з семантычным і сінтаксічным: у сказе ***На другі дзень пасля размовы** з Аляксеем падпалкоўнік Сяміжон паехаў у раённы цэнтр, які быў кіламетраў за пятнаццаць* (І.Мележ) сінтаксема марфалагічна ўскладненая, бо яе фармант *на наступны дзень пасля* прадстаўлены сінтаксічна і семантычна звязаным словазлучэннем. Аналагічная асіметрыя трыадзінства «значэнне + форма + функцыя» назіраецца і ў наступным выпадку, толькі тут марфалагічны паказчык парушаецца з боку не фарманта *па прынцыпе*, а лексічнага кампананета сінтаксемы, прадстаўленага цэлай прэдыкатыўнай адзінкай: *Рэжысёр вырашае сітуацыю з трохкутнікам **па прынцыпе «Калі ў першым акце на сцяне вісіць стрэльба, то яна стрэліць у другім»*** (Інт.). Такім чынам, найбольш дыягнастычным паказчыкам сінтаксемы з'яўляецца яе сінтаксічная пазіцыя – пазіцыя аднаго члена сказа, рэалізаваць якую ў канкрэтным выказванні можа не толькі субстантыўная словаформа.

**Сірканстант** – клас дэнатальных роляў, акалічнасць і характарыстыка падзей ва ўсёй іх разнастайнасці.

**Сітуант** – дэнататыўная роля, удзельнік сітуацыі, які ўскладняе і канкрэтызуе або асноўную прапазіцыю, або актантную ці сірканстантную ролі.

**Сітуатыў** – дэнататыўная роля сірканстантнага тыпу, асаблівасці асяроддзя, ў якім адбываецца дзеянне. ***На бязрыб'і** і рак – рыба.*

**Спосаб** – дэнататыўная роля сірканстантнага тыпу, характарызатар, метад, характар ажыццяўлення дзеяння. *Апраменьванне насельніцтва Зямлі адбываецца ў асноўным **за кошт васьмі радыёнуклідаў** ...* (Асновы мед. ведаў).

**Сродак** – дэнататыўная роля інструментнага тыпу, рэчыва, якое расходуецца пры ажыццяўленні дзеяння ці сітуацыі. ***З мядком** і цвік праглынеш.*

**Стымул** – дэнататыўная роля суб'ектнага ці аб'ектнага тыпу, якая выклікае фактам свайго існавання, прысутнасці ці сваімі ўласцівасцямі адпаведныя экзістэнцыю, паводзіны, стаўленне ці характарыстыку іншых удзельнікаў сітуацыі. **«*Славянскі базар*»** *прыцягнуў увагу артыстаў і з неславянскіх дзяржаў. Толькі і жыў **аб надзеі*** (нар.).

**Стыхія** (сіла) – стыхія ці прадмет, бескантрольны і немэтанакіраваны творца дзеяння. ***Ураган** разбурыў ферму.*

**Суагенс** (каагенс) – дэнататыўная роля суб'ектнага тыпу, пратаганіст, агенс ці група агенсаў, якія сумесна ажыццяўляюць дзеянне. *Яша **з дапамогай людзей** адшукаў сякіх-такіх родзічаў, але жыў у іх толькі да канца зімы* (А.Кулакоўскі).

**Суб'ект** – тып дэнататыўнай ролі галоўнага, першага ўдзельніка сітуацыі.

**Суперлятыў –** дэнататыўная роля прэдыкатнага або сірканстантага тыпу, выражаная формай найвышэйшай ступені параўнання прыметніка, прыслоўя або прэдыкатыва. *Брат любіў старэйшую сястру **больш за ўсіх.***

**Супрасторавасць** – супадзенне лакалізуемага аб'екта і локума: *у полі, праз лес, па беразе, у горад.*

**Сурсіў** – дэнататыўная роля сітуантнага тыпу – крыніца сітуацыі, цэлае, адкуль бярэцца частка. *Чаго варты быў толькі эпіграф **з Ламаносава**, дзе на моцнай і абаяльнай мове даўно мінулага гаварылася аб ахове лясоў* (Я.Брыль).

**Суэкзісцыентыў –** дэнататыўная роля суб'ектнага тыпу, дадатковы удзельнік сітуацыі, пры дапамозе якога існуе пратаганіст – суб'ект існавання: *Хлопец жыў **пры дзеду*** (Я.Брыль). *Жыў **пры мат-***

***цы** перш хлапчынка, і была халупка ў іх, дзе курылася лучынка, дзе туліліся ўтраіх* (Я.Колас).

**Таксісны тэмпаратыў** – адносны час: сітуацыя, падзея, дзеянне, адносна часу якога (аданчасова, перад ім ці пасля яго) адбываецца асноўнае дзеянне: *прыйсці **пасля заняткаў**, сустрэцца **у час канферэнцыі**, пачысціць **перад выхадам**.*

**Транзітыў** – дэнататыўная роля сірканстантнага тыпу, прастора паміж стартам і фінішам, якая часткова або цалкам пераадольваецца пры руху. *Дарога ішла спачатку **лесам**, потым **поплавам**.*

**Трансгрэсіў** – дэнататыўная роля аб'ектнага тыпу, пацыенс, асоба, прадмет, рэчыва, якія атрымліваюцца ў выніку пераўтварэння, метамарфозы. *Пры кіпенні вада пераўтвараецца **ў пару**.*

**Тэматыў –** дэнататыўная роля сітуантнага тыпу, тэма характарызуемай сітуацыі. ***У гародным дзеле** свінні капусту з'елі* (нар.).

**Тэмпаратыў –** дэнататыўная роля сірканстантнага тыпу, час, у які адбываецца дзеянне. ***З сонцам** уздзірайся з пасцелі, а лажыся спаць **блізка не ў поўнач*** (Ц.Гартны).

**Тэрмінатыў –** час, тэрмін завяршэння, выканання дзеяння. *А сын **за перыяд сваёй вандроўкі** вылюдзеў, стаў прыгожы і статны (*М.Хведаровіч).

**Фабрыкатыў –** дэнататыўная роля прэдыкатнага або інструментнага тыпу, зыходны матэрыял, рэчыва, з якога робіцца іншы прадмет, г.зн. якое пераўтвараецца ў крэатыў. ***З нічога** мама прыдумляла нешта смачнейшае на святы* (Р.Барадулін).

**Фармант сінтаксемы –** прыназоўнік або яго аналаг, які ўтварае сінтаксему, служыць маркёрам яе сінтаксічнай пазіцыі і ўводзіць сінтаксему ў структуру выказвання ці ў сітуацыю. У склад фарманта сінтаксемы могуць уваходзіць не толькі ўласна прыназоўнікі, але і назоўнікі, часціцы, прыметнікі, займеннікі, прыслоўі і нават злучнікі, прычым кожны з элементаў ў саставе фарманта выконвае сваю, уласцівую толькі яго прыродзе, ролю. У прыведзеных ніжэй прыкладах фарманты выдзелены тлустым шрыфтам з падкрэсліваннем): *Зноў увайшлі ў густое калючае кустоўе, **<u>на выхадзе з</u> якога** па камандзе Волаха ўсе разам замёрлі* (В.Быкаў). ***<u>На вышыні больш чым</u> тысячы метраў** бліснулі ў ранішнім сонцы самалёты* (М.Лынькоў). *Скошваюць (стрыгуць) газон за год 12-20 разоў **<u>на вышыню не ніжэй чым</u> 4 – 5 см*** («Звязда», 30.04.05). ***<u>Не далей як</u> тыдзень <u>таму назад</u>**, ужо тады, як работала камісія, таварыш Апейка ўзяў пад сваю апеку ашуканца...* (І.Мележ). *Лятаю, але не вышэй за неба, **<u>недзе блізка каля</u> яго*** (У.Някляеў).

Больш таго, у якасці дадатковых элементаў у фармант сінтаксемы могуць уваходзіць і іншыя моўныя адзінкі, неабходныя для дакладнай перадачы значэння сінтаксемы (у Рэестры яны падаюцца разам з загаловачнымі словамі, але ў дужках), а ў кантэкстах выдзяляюцца ўсе тлустым шрыфтам як адзіная сінтаксемна-іменная група. Напрыклад: **НА ВЫШЫНІ** *колькіх адзінак* **НАД (УЗРОЎНЕМ)** / (**ПАВЕРХНЯЙ)** *чаго* Він. – Род. Двухч. Ускладн. Прастор.: лакатыў-дыменсіў + крытэрый: *Самы высокі пункт нашай Радзімы – гара Дзяржынская (Святая) – знаходзіцца* ***на вышыні 346 м над узроўнем мора*** (падручн.). *Невялікім слоем азон размяшчаецца* ***на вышыні 20 – 25 км над паверхняй Зямлі*** (падручн.).

**Фінітыў –** дэнататыўная роля сірканстантнага тыпу, мэта дзеяння. ***За алімпійскія медалі*** *змагаліся прэтэндэнты з больш чым ста дваццаці краін.*

**Храналагічны тэмпаратыў –** абсалютны час, які адлічваецца адносна моманту маўлення і вымяраецца тымі ці іншымі адзінкамі – мінутамі, гадзінамі, суткамі, гадамі і г.д.: *адкласці* ***на заўтра****, сустрэцца* ***ў шэсць гадзін****, сабрацца* ***праз год****.*

**Экзісцыянтыў (**экзісцыенс**) –** дэнататыўная роля сітуантнага тыпу, падзея, экзістэнцыя (з’яўленне, існаванне ці адсутнасць) якой спараджае новую сітуацыю. *Аб чым гэты артыкул? Калі па тэксце, нібыта аб сітуацыі, якая склалася ў прасторы беларускай літаратуры* ***з утварэннем новага пісьменніцкага саюза****...* (У.Гарачка).

**Эксперыенцэр** (эксперыенсіў) – дэнататыўная роля суб’ектнага тыпу, пратаганіст, носьбіт стану.

**Эксплікатар –** кампанент сінтаксемы, неабходны для ўтварэння дэскрыпцыі, г.зн. для выражэння адносін паміж прадметам і яго прызнакам. *Кожны чалавек планеты мае права на прыродныя рэсурсы. – Кожны чалавек планеты мае права на* ***карыстанне*** *прыроднымі рэсурсамі.*

**Элементыў –** дэнататыўная роля суб’ектнага тыпу пры рэляцыйным прэдыкаце, адзін з элементаў множнасці адносна да множнасці – генератыву. ***З дзён і начэй, з гадзін і мінут*** *паволі складалася тое чаканне, поўнае маладой, неспакойнай тугі і надзеі...* (Я.Брыль).

**Элімінатыў –** дэнататыўная роля аб’ектнага тыпу, пацыенс, прадмет ці сітуацыя, якія падвяргаюцца знішчэнню, удаленню. ***Пажар*** *затушылі.*

**Эўрыкатыў** – дэнататыўная роля аб’ектнага тыпу, пацыенс, прадмет ці з’ява, што ўводзяцца ў сістэму ведаў, адкрыццё як вынік інтэлектуальнай дзейнасці. *Ньютан адкрыў* ***закон зямнога прыцягнення***

# УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

Абл. – абласное
Аб'ектн. – аб'ектны актант
Адзін.л. – адзіночны лік
Аказ. – аказіянальны
Анафар. – анафарычны займеннік
Ант. – антонім
Астр. – астранамічны
Афіц. – афіцыйны
Бел. – беларуская мова
БРС – «Беларуска-рускі слоўнік»
Він. – вінавальны склон
Газ. – з газет
Гіст. – гісторыя, гістарычны
Дав. – давальны склон
Дыст. – дыстантны
Дыял. – дыялектны
Двухч. – двухчасткавы
Жан.р. – жаночы род
Жарт. – жартаўлівае
Зб. – значэнне зборнасці
Інт. – Інтэрнет
Інтэрпаз. – інтэрпазіцыйны
Канц. – канцылярскае
Кніжн. – кніжнае
Лінгв. лінгвістычны
М. – мова
Мат. – матэматычны тэрмін
Метаф. – метафара
Мед. – медыцынскі
Месн. – месны склон
Мн.л. – множны лік
Муж.р. – мужчынскі род
Наз. – назоўны склон; наз. – назоўнік
Нав. – навуковы
Нар. – народнае
Нік.р. – ніякі род
Падручн. – тэкст з падручніка
Памянш. – ласк. – памяншальна-ласкальнае значэнне

Патэнц. – патэнцыяльны
Перан. – пераноснае значэнне.
Постпаз. – постпазіцыйны
Прыназ. – прыназоўнік
Пер. – пераклад
Прастам. – прастамоўнае ўжыванне
Прастор. – пpасторавы сірканстант
Прафес. – прафесіянальнае ўжыванне
ППШ– Павел Паўлавіч Шуба
Прыназ. – прыназоўнік
Прысл. – прыслоўе
Прычын. – прычынны сірканстант
Разм. – размоўнае ўжыванне
Род. – родны склон
РБС – «Русско-белорусский словарь»
Рус. – рускі адпаведнік
С/г сельска-гаспадарчы
Сін. – сінонім
Спалуч. – спалучэнне
Суб'ектн. – суб'ектны актант
Тв. – творны склон
ТСБМ – «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» у 5-ці тамах.
ТСБПШ – «Тлумачальны слоўнік беларускіх прыназоўнікаў» П.П.Шубы
Трохч. – трохчасткавы
Тэрм. – тэрміналагічнае словазлучэнне
У знач. – у значэнні
Ускладн. – ускладненая сінтаксема
Устар. – устарэлае
Уступальн. – уступальныя адносіны
Фіз. – фізічны тэрмін
Фіз.-мат. – фізіка-матэматычны
ФСБМЛ – «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы» І.Я.Лепешава.. У 2 т. Мінск: Бел. энцыкл., 1993.
Чатырохч. – чатырохчасткавы
Час. – часавы сірканстант
Энцыкл. – энцыклапедыя
Юр. – юрыдычны

# ЗМЕСТ

Навуковае выданне

**КАНЮШКЕВІЧ** Марыя Іосіфаўна

# БЕЛАРУСКІЯ ПРЫНАЗОЎНІКІ І ІХ АНАЛАГІ. ГРАМАТЫКА РЭАЛЬНАГА ЎЖЫВАННЯ. МАТЭРЫЯЛЫ ДА СЛОЎНІКА

У 3 частках

Частка 2. Дыяпазон М – П

Рэдактар *Н.М. Красніцкая*
Камп'ютарная вёрстка: *М.І. Верстак*
Дызайн вокладкі: *В.В. Канчуга*

Падпісана да друку 04.03.2010. Фармат 60х84/16.
Папера афсетная. Рызаграфія. Гарнітура Таймс.
Ум. друк.арк. 36,04. Ул.-выд.арк. 43,63. Тыраж 100 экз. Заказ .

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
Установа адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны
універсітэт імя Янкі Купалы».
ЛВ № 02330/0549484 ад 14.05.2009.
ЛП № 02330/0494172 ад 03.04.2009.

Завулак Тэлеграфны, 15а, 230023, Гродна.

ISBN 978-985-515-255-3